# ПРАДМОВА

Беларуская інтэлігенцыя, яе ідэі, лёс, духоўная спадчына чакаюць неабыякавага да будучыні свайго народа гісторыка.

Самыя буйныя постаці нашай інтэлігенцыі эпохі Рэнесансу і Рэфармацыі Францыск Скарына, Сымон Будны, Мікола Гусоўскі навукова асэнсаваны сучаснай беларускай гуманітарыстыкай ды знайшлі вобразнае ўвасабленне ў красным пісьменстве, выяўленчым мастацтве. Тыя ж, хто на пачатку XX ст. усвядоміў сябе беларусам, практычна рэалізоўваў беларускую ідэю, адбудоўваў беларускую дзяржаўнасць, браты Іван і Антон Луцкевічы, Алесь Бурбіс, Казімір Кастравіцкі, Аляксандар Уласаў, Алаіза Пашкевічанка, Браніслаў Эпімах-Шыпіла, Мітрафан Доўнар-Запольскі, Вацлаў Ластоўскі, Аляксандар Цвікевіч, Язэп Лёсік, Аляксандар Прушынскі, Максім Гарэцкі, Зміцер Жылуновіч, Фабіян Шантыр, Язэп Дыла, Язэп Варонка, Палута Бадунова, Аркадзь Смоліч, Браніслаў Тарашкевіч, Канстанцін Езавітаў, Пётра Крачэўскі, Тамаш Грыб, Сымон Рак-Міхайлоўскі, Аляксандр Чарвякоў, Усевалад Ігнатоўскі, Ігнат Буйніцкі, Францішак Аляхновіч, Фларыян Ждановіч, Леапольд Родзевіч, Ігнат Канчэўскі яшчэ чакаюць сваіх удумлівых даследчыкаў, сваіх мастакоў слова, пэндзля і разца. Гэта іх высілкамі і ўспамогай дзесяткаў іншых руплііўцаў, тут не названых, заснаваны першая беларуская палітычная партыя БСГ, беларускі перыядычны друк, кніжныя выдвецтвы ў Пецярбургу, Вільні, Менску, паўстаў нацыянальны тэатр і першы навуковы цэнтар — Інбелкульт.

І перадусім, і гэта галоўнае: беларускі народ у навейшай гісторыі ўпершыню ласне голасам гэтага пакалення інтэлігенцыі патрапіў публічна заявіць аб сваім законным праве быць гаспадаром на ўласнай зямлі, гістарычным актам 25 сакавіка 1918 года правамоцна засведчыў аб суверэнітэце, незалежнасці Беларусі. Трагічная страта нацыянальна арыентаванай інтэлігенцыі 20-х — 30-х гадоў драматычна азываецца ў лёсе беларускага народа яшчэ і сягоння.

Толькі ўласная дзяржаўнасць здольна забяспечыць кожнаму народу як этнічнай супольнасці поўную рэалізацыю закладзеных у ім прыродай, космасам, Богам патэнцый, інтэлектуальных, мастацкіх, сацыяльна-вытворчых мажлівасцяў. Толькі дзяржаўнасць, уласная гаспадарственнасць у стараліцвінскім разуменні гэтага паняцця — надзейны шчыт абароны этнасу ад дэструктыўных сіл, гарант вечнага быцця яго.

Справа жыцця цэлай кагорты думных прадстаўнікоў нашага народу, іхнія запаветы, памяць пра іх — святая для беларусаў. Яны абавязваюць нас застацца еўрапейскай нацыяй. Творчая спадчына беларускай інтэлігенцыі мінуласці — актуальная сягоня і заўтра. Яна нясе ў сабе пазнаку высокага інтэлекту, грамадзянскай руплівасці, сыноўскай любові і самаахвярнасці.

У прапанаванай увазе чытача кнізе змешчаны нарысы-партрэты асобных палітыкаў, непасрэдных творцаў беларускай дзяржаўнасці. Асноўны ж корпус кнігі складаюць артыкулы, міні-манаграфіі, эцюды, прысвечаныя жыццю і дзейнасці вучоных, якія выпрацоўвалі канцэпцыі гістарычнага шляху беларускага народа, яго культуры, літаратуры.

Пасільная ўвага ўдзелена мастакам, заснавальнікам беларускай школы жывапісу і графікі, этнамузыколагам, творцам беларускай музычнай культуры, заснаванай на народных яе вытоках.

Кніга ўключае некалькі літаратурных партрэтаў і эцюдаў паэтаў, пераважна 20-х гадоў, а таксама сціслы агляд мастацкай літаратуры колішняй Заходняй Беларусі.

Думаю, не з'яўляецца выпадковым у кнізе пра беларускую адраджэнскую інтэлігенцыю і накід сілуэтаў таленавітых носьбітак багатай фальклорнай традыцыі народа. Звычайна гэта людзі тонкага дышэўнага складу

У заключэнне скажам, што аўтар прапанаванага чытачу выдання цалкам падзяляе правідэцыйны погляд вядомага беларускага палітычнага дзеяча, філосафа, гісторыка і эканаміста, аднаго з дойлідаў беларускай дзяржаўнасці Аляксандра Цвікевіча, выказаны ім у 1920 годзе: «…Беларускі народ у скорым часе дасць славянству і ўсяму свету яскравыя доказы свайго ўваскрасення і прынясе на раскошны алтар людской цывілізацыі плён свайго нацыянальнага генія, лепшыя кветкі свайго вызваленага духу».

Што да гісторыі беларускай інтэлігенцыі, то, веру, яна будзе напісана будучымі вучонымі, маладымі прадстаўнікамі сучаснага беларускага Адраджэння, шчаслівейшымі за іх папярэднікаў. Зарае ж над светам XXI стагоддзе.

# 1. ДОЙЛІДЫ БЕЛАРУСКАЙ ДЗЯРЖАЎНАСЦІ

## Беларуская ідэя: вытокі, этапы станаўлення

Беларуская ідэя, як і кожная нацыянальная ідэя, мае два аспекты цікавасці: акадэмічны, або гісторыка-культуралагічны, і практычны, асабліва актуальны ў сувязі з аб'яўленнем парламентам і ўрадам Рэспублікі Беларусь суверэнітэту. Якім жыццёваважным ні з'яўляецца сёння гэты другі, утылітарны аспект, перад усім неабходна грунтоўная рэтраспекцыя. Першнаперш трэба высветліць узнікненне і станаўленне самой беларускай ідэі. Натуральна, што наш росшук не можа прэтэндаваць на вычарпальнае асвятленне праблемы амаль нераспрацаванай. У нейкай меры будзе ён эскізным.

Кожная нацыянальная ідэя караніцца ў самім этнасе, яго сутнасці. Як лінія на свядомае развіццё таго ці іншага этнасу яна фарміруецца на пэўным гістарычным этапе, пры наяўнасці пэўных этнасацыяльных і геапалітычных перадумоў.

Вытокі беларускай ідэі можна аднесці да часоў Францыска Скарыны, эпохі высокага еўрапейскага Адраджэння. У перакладчыцкай, філасофска-літаратурнай дзейнасці гэтага асветніка-гуманіста, першадрукара выразна праглядвае этнасвядомасць. Пераклад Бібліі, шырокія каментарыі да яе Скарына здзяйсняе для таго, «абы братия моя русь, люди посполитые чтучи могли лепей разумети»[1]. Глыбокая этнічная самасвядомасць як стымул ляжыць і ў аснове працы асветніцкага дзеяча перыяду Рэфармацыі Васіля Цяпінскага-Амельяновіча. У прадмове да перакладзенага ім на старабеларускую мову Евангелля Цяпінскі выявіў высокі грамадзянскі клопат аб захаванні вышэйшымі слаямі тагачаснага беларускага грамадства, якія пачалі паланізавацца, найістотнейшай адзнакі свайго этнадухоўнага аблічча — мовы[2]. Уся грамадска-палітычная дзейнасць выдатнага дзяржаўнага дзеяча і філосафа беларускага сярэднявечча Льва Сапегі красамоўна сведчыць, што ў аснове яе побач з этычнымі пабуджэннямі ляжала высокая этнічная самасвядо-масць. У выступленнях на сойме Рэчы Паспалітай пры зацвярджэнні новых юрыдычных законаў ён як канцлер Вялікага княства Літоўскага, па-першае, заўсёды прамаўляў на старабеларускай мове, а па-

[1] Скарына Ф. Творы. Мн., 1990. С. 37.

[2] Довнар-Запольскнй М. В. Исследования и статьи. Киев, 1909. Т. 1. С. 232—256; Янчук Н. А. Нарысы па гісторыі беларускай літаратуры: Старажытны перыяд. Мн., 1922. С. 29—38; Гарэцкі М. Гісторыя белдрускае літзратуры. Мн., 1926. С. 72—74; Коршунаў А. Васіль Цяпінскі // Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры. Мн., 1968. Т. 1. С. 222—233.

другое, непасрэдна выказваў этнабеларускую годнасць, калі гаварыў: «А если которому народу встыд прав своих не умети, поготовю нам, которие не обчим яким языком, але своим власным права списаные маем и каждого часу, чого нам потреба ку отпору всякое кривды, ведати можем»[1].

У пэўнай меры ў аснове кожнай нацыянальнай ідэі ляжыць гістарычная памяць народа, якую больш поўна выяўляюць асобныя носьбіты яго духоўнасці, інтэлекту. Той факт, што такія буйныя прадстаўнікі беларускай шляхты, ужо ў пэўнай меры апалячанай, як Януш Радзівіл, Павел Сапега, Міхал Агінскі, працягвалі прадпрымаць дзейсныя крокі для аднаўлення самастойнасці Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага, сведчыць аб жывучасці ідэі старой беларуска-літоўскай дзяржаўнасці. Менавіта духоўная спадчына дзяржаўнага перыяду жыцця беларусаў, у тым ліку Статут Вялікага княства Літоўскага, вялізны архіў дзяржаўных дакументаў XIV—XVIII стагоддзяў, вядомы пад назвай «Літоўская метрыка», паслужылі апорай піянерам беларускай ідэі на пачатку XIX стагоддзя.

Гістарычная памяць, традыцыі, культурная спадчына былі не адзінай крыніцай вытоку беларускай ідэі. Важнае значэнне пры яе ўзнікненні і фармаванні адыгралі знешнія фактары. Перш-наперш павевы рамантызму, што прыйшлі з Заходняй Еўропы, і выкліканае імі адраджэнне паўднёвых і заходніх славян. Рамантызм, як ідэйна-літаратурная, навукова-філалагічная плынь, меў сваю сістэму каштоўнасцей. Узвышэнне асобы чалавека, якому ён спрыяў, не магло не парадзіць і парадзіла павышаную цікавасць да калектыўнай індывідуальнасці, якой з'яўляецца народ. Праз цікавасць да такой важнай духоўнай субстанцыі, як творчасць народа, яго мова ў першай палавіне XIX стагоддзя ў сярэдзіне Еўропы, здавалася даўно зведанай, ідзе адкрыццё цэлых народаў перад усім славянскіх, з іх самабытнымі культурамі ў кожнага паасобку пры нейкіх супольных гістарычных лёсах і паасобных рысах у самой іх этнічнай прыродзе.

Беларуская ідэя ўзнікла, пачала фарміравацца ў асяроддзі студэнтаў і прафесараў Віленскага універсітэта ў 10— 20-х гадах XIX стагоддзя. Да ўзнікнення і станаўлення яе непасрэдна прычынілася народазнаўства, фалькларыстыка і этнаграфія — менавіта тыя галіны ведаў, што складаліся на пачатку XIX стагоддзя пад уплывам рамантызму, непасрэд-на пад уздзеяннем славяназнаўства і пачынальніка славянскай фалькларыстыкі Зарыяна Даленгі-Хадакоўскага.

Надрукаваная з блаславення міністра асветы графа Ра-зумоўскага «Інструкцыя для складання ў гімназіях і павятовых школах запісаў па прадметах розных навук» была дапрацавана і апублікавана ў 1816 і 1817 гадах у «Dzienniku Wilenskim». У ёй быў разгорнуты шырокі спектр пытанняў, якія датычыліся матэрыяльнай і духоўнай культуры народа. Першым водгукам на «Інструкцыю…» стала публікацыя М. Чарноўскай «Здабыткі славянскай міфалогіі, захаваныя ў звычаях вясковага люду на Беларусі»[2]. Услед за ёй у тым

[1] Статут Вялікага княстм Літоўскага. Мн., 1989. С. 48.

[2] Dziennik Wilenski. Wilno, 1817. T.6. S.396-408.

жа выданні з‘явіўся артыкул Ляха Шырмы, прысвечаны шырэйшаму высвятленню значэння памятак народнай творчасці[1]. У лісце да рэдакцыі аўтар горача заклікаў ратаваць ад забыцця здабыткі народнага духу: «Могуць яны, — пісаў Лях Шырма, — абломкі некалі пышнага гмаху, што ператварыўся ў руіны, паслужыць краевугольным каменем для будаванай святыні народнасці. Спусцімся ж пад нізкія стрэхі, там захавалася старая народнасць»[2].

Уражлівы этнічны вобраз Беларусі, яе сямейных абрадаў і песень давала публікацыя З.Даленгі-Хадакоўскага (Адама Чарноцкага), здзейсненая з-за асобага на той час становішча яе аўтара ананімна[3]. Але асабліва многа новых ідэй пра народнасць, лёс культуры дахрысціянскіх часоў, канцэптуальны падыход да нацыі заключала ў сабе апублікаваная ў 1818 годзе праца Даленгі-Хадакоўскага «Пра славяншчыну перад хрысціянствам»[4]. Як слушна заўважае сучасны польскі даследчык С. Свірка, значэнне пачынальніка славянскай фалькларыстыкі вызначалася не столькі вартасцю зробленага ім, колькі «яго піянерскай, наватарскай на той час дзейнасцю, скіраванай на адраджэнне народнай куль-туры і падыманне яе да рангу нацыянальнай»[5].

Тайнае таварыства студэнтаў Віленскага універсітэта філаматаў (у перакладзе з латыні — аматары навукі), а таксама афіцыйна зарэгістраванае «Прамяністыя», якое ўключала шырэйшае кола моладзі, адной з праграмных задач сваёй дзейнасці ставілі вывучэнне мовы, звычаяў, вераванняў і матэрыяльнай культуры народаў былога Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага. На падставе існуючых інструкцый па вывучэнні быту і духоўнай культуры народа філаматы Ф. Малеўскі і М. Рукевіч стварылі сваю, дзе адзін пункт канкрэтна пералічваў этнаграфічныя і фальклорныя матэрыялы, неабходныя для збірання[6].

Філаматы ставілі задачу сабраць этнаграфічна-фальклорныя звесткі па канкрэтным, вузкім рэгіёне. Як сведчаць тэмы дакладаў, прачытаных у розных гуртках таварыства, студэнцкая моладзь збірала матэрыялы, як правіла, будучы на канікулах, у родных мясцінах. Украінцы дакладвалі аб звычаях і абрадах, якія бытавалі ў ваколіцах Жытоміра або на Валыні. У аснове ж паведамленняў выхадцаў з Беларусі, натуральна, ляжалі розныя звесткі, сабраныя імі ў сваіх ваколіцах. Так, С. Казакевіч на пасяджэнні «Саюза сяброў» даў апісанне Завілейскага павета, М.Рукевіч прачытаў даклад «Звесткі пра народ у беларускай акрузе»[7].

1 Szyrma Lach. Dumki ze spiewów ludu wiejskiego czerwonej Rusi // Dziennik Wilenski. 1818. T.1. S.486-496.

2 Тамсама. S.488-489.

3 Obrzędy wieseÅne ludu wiejskiego w gubernii Mińskej w powiecie Borysowskim w parafii Hakeńskiej… // Tygodnik Wileński. 1819. T.7.

4 Dolęnga Chodakowki Z. O sławiańszczyźnie przed chrześcijaństwem // Ćwiczenia Naukowe. 1818. T.2. Nr.5. S.3-27.

5 Swirko S. Litwa i Białoruś // Dzieje folklorystyki polskiej. 1800-1863. Wrocław — Warszawa — Kraków. 1970. S.209.

6 Тамсама. S.210.

7 Тамсама. (Беласточчына.)

У выніку свядомага звароту да крыніц народнай духоўнасці творчасць літаратараў, якія ўзгадаваліся ў коле філаматаў, аказалася насквозь прасякнутай беларускай фальклорнай стыхіяй. У тым ліку такіх выдатных з іх, як Адам Міцкевіч, Тамаш Зан і Ян Чачот[1]. Чачот з асаблівай увагай сачыў і за народазнаўчай літаратурай, сам збіраў фальклор, паспеў апублікаваць некалькі зборнікаў беларускіх песень розных жанраў, заахвочваў да гэтай высакароднай працы іншых. З выпадку публікацыі апісання вясельных звычаяу і спемў Міншчыны ён заўважаў: «І само апісанне і напевы вельмі цікавыя. Калі б усе такія ўрачыстасці не ўніклі вока іцкаўнага, неабыякавага да свайго краю і сваіх сялян на-глядальніка быў бы гэта прыгожы помнік уласнай фантазіі і ўяўлення краёўцаў… Падобных урачыстасцей шмат, напрыклад: Купала, Дзяды, Каляды, Вялікдзень, Шчодры вечар, зажынкі, дажынкі, раса на св. Юрыя. Усё гэта з рытуаламі і песнямі… Словам, пільна трэба заняцца збіраннем такіх памятак сапраўднай літаратуры гэтага краю»[2].

Ян Чачот не толькі шчодра чэрпаў сюжэты і вобразы з беларускага фальклору шырокага навагрудскага рэгіёну, але і сам часта карыстаўся беларускім словам у сваёй літаратурнай творчасці. Дасканала ведаючы беларускую мову, ён даў першы гісторыка-лінгвістычны нарыс яе і стварыў своеасаблівы правобраз слоўніка, пазней паспяхова рэалізаваны І. Насовічам[3]. У сваіх развагах над лёсам беларускай мовы, якую ён называў славяна-крывіцкай (паводле самага большага племя, з якога складалася беларуская народнасць), Чачот адштурхоўваўся ад долі іншых славянскіх народаў. У прадмове да 6-га выпуску «Сялянскіх песень з-пад Нёмана і Дзвіны» ён пісаў: «Іншыя дыялекты славянскага паходжання шчаслівейшыя, бо нават такія, як, напрыклад, краінскі, краацкі і далмацкі… маюць свае граматыкі і слоўнікі. Тут наадварот — крывіцкае племя, якое налічвае некалькі мільёнаў насельніцтва, не мае нічога болей акрамя катэхізіса, выдадзенага нядаўна ў Віленскай епархіяльнай друкарні»[4].

Такім чынам, ужо ў асяроддзі сяброў-філаматау праз цікавасць да фальклору будзілася думка аб патрэбе захавання і вывучэння народнай спадчыны, а з ёй і мовы беларусаў. Павольна сярод напалову паланізаванай беларускай дробнай шляхты, што стаяла блізка да сялянства, пачала будзіцца краёвая свядомасць. Па меры адкрыцця праз твор-часць народа яго этнічнага аблічча набірала моцы перакананне аб тым, што славянская сям'я не павінна забыцца на яшчэ адну сваю сваяцкую галіну, яшчэ адно племя. Аднак, разгледзеўшы адзін з вытокаў узнікнення беларускай ідэі ў асяроддзі моладзі Віленскага .універсітэта, мы не мелі б нрава ставіць пытанне аб яе хоць бы сабе першапачатковым афармленні. Справа ў тым, што выкрышталізоўванню беларускай ідэі ў яе першапачатковай форме і першым практычным кро-

1 Stankiewicz S. Pierwiastki białoruskie w polskiej poezii romantycznej. Wilno, 1936; Swirko S. Z koła filamackiego przedromantyzmu. Warszawa, 1972.

2 Swirko S. Litwa i Białoruś. S.214.

3 Czeczot J. Piosnki wieśniacze z nad Niemna i Dzwiny, niektóre przysłowia i idiotyzmy w mowie Sławiano-Krewickej, z postrzeżeniami nad nią uczynionemi. Wilno, 1846. S.64-105.

4 Czeczot J. Piosnki wieśniacze… S.XXXIII.

кам па яе ўвасабленню ў жыццё мы абавязаны навуковай думцы, працы гісторыкаў і філолагаў, выкладчыкаў універсітэта.

Ігнат Даніловіч, захоплены даследчык юрыдычнай думкі Вялікага княства Літоўскага, Восіп Ярашэвіч, аўтар многІх прац пра старажытную Літву, пазней Тодар Нарбут літаральна адкрылі для сучаснікаў цэлы нязнаны духоўны кантынент — гістарычную, культурную спадчыну Беларуска-літоўскай дзяржавы, якая некалі была буйным палітычным і культурным цэнтрам усходняй славяншчыны. На грунце агульных навуковых інтарэсаў складваўся гурток вучоных, душой якога быў Міхал Баброўскі. Выхадзец, як І. Даніловіч і В. Ярашэвіч, з Падляшша, з сям'і уніяцкага святара, М. Баброўскі з маленства быў знаёмы з беларускай моўнай і звычаёвай стыхіяй. Будучы палііографам, ён дапамагаў Даніловічу і Ярашэвічу ў працы над рукапісамі і дакументамі, пісанымі старажытнабеларускай мовай. Знаёмства ж яго ў час навуковага падарожжа па славянскіх краінах і навуковых цэнтрах Заходняй Еўропы з выдатнымі славянскімі філолагамі І.Добраўскім, І.Юнгманам, В.Ганкай упэўнівала Баброўскага ў этнічнай самастойнасці народа, да якога ён сам належаў і што быў цяпер у занядбанні.

Пры адкрыцці курсаў славяназнаўства ў Галоўнай Духоўнай семінарыі ў Вільні вясною 1826 года М. Баброўскі гаварыў пра вялікія змены ў царкоўнаславянскай мове Вялікага княства Літоўскага, «калі ў дыпламатычнае і судовае справаводства быў уведзены беларускі дыялект, калі Скарына на гэты дыялект пераклаў Святое пісанне»[1]. У прамове перад маладымі клірыкамі, будучымі уніяцкімі святарамі, М. Баброўскі развіваў думку аб тым, што трэба, каб «у кожнай краіне, дзе пануе асобны славянскі дыялект [пад дыялектам тады разумелася асобная славянская мова.— А.Л.] многія асобы прысвяцілі сябе працы над складаннем слоўніка і граматыкі сваёй мовы»[2]. Вядома, што М. Баброўскі збіраў розныя матэрыялы па падрыхтаваных ім праграмах: мова дадзенай мясцовасці, паданні і г. д.[3]. Нарэшце няма ніякага сумнення, што менавіта Баброўскаму належыць аўтарства кароткага катэхізіса для сялян, першай вядомай беларускамоўнай кніжкі, выдадзенай у XIX стагоддзі У лісце да І. Даніловіча ад 16 лютага 1833 года М. Баброўскі пісаў: «Застаюся на сённяшнім сваім месцы, хоць маё жалаванне зменшана; хоць пра мяне дадзены злосны водзыў перад урадам з выпадку складзенага мною катэхізіса, які я думаў выдаць»[4].

Злосны водзыў, пасланы ў Міністэрства асветы, належаў не каму-небудзь іншаму, як тагачаснаму рэктару Віленскага універсітэта Пелікану, і гучаў так: «Сей зловредный священник был уже в 1824 г. вместе с Лелевелем исключен из университета за дурной образ мыслей и преступныя свои действия… Все его деяния, поступки и связи показывают человека злого, неблагодарного…»[5] Як бачым па змесце і тоне дакладной рэктара, а была

[1] Dziennik Wilenski. Wilno, 1826. T.1. S.404.

[2] Цыт. па кн.: Бобровский П. К биографии М. К. Бобровского. СПб, 1890. С.78.

[3] Карский Е. Ф. Белорусы. Пг., 1922. Т. 3. Вып. 3. С. 78.

[4] Бобровский П. К биографии М. К. Бобровского. С.45.

[5] Карский Е. Ф. Белорусы. С.78.

яна сапраўдным палітычным даносам, М. Баброўскі выклікаў вялікі гнеў універсітэцкай адміністрацыі і, пэўна ж, не сваім характарам, які, паводле ўспамінаў сучаснікаў, асабліва-блізка знаўшага яго П. Янкоўскага, вызначаўся рахманасцю і дабрынёй. Значыць, як пра гэта небеспадстаўна мяркуюць некаторыя даследчыкі жыцця і працы Міхала Баброўскага (П. Баброўскі, У. Талочка, А. Станкевіч), не прымалася нешта ў яго дзейнасці. І сапраўды, хіба маглі быць ухвалены ў паланізатарскім асяродку, якім быў тады Віленскі універсітэт, абарона М. Баброўскім уніяцкай царквы ад лацінізацыі, яго росшукі ў галіне стараславянскіх рукапісаў і, нарэшце, практычныя крокі, скіраваныя на адраджэнне беларушчыны?

Адкрыццё гістарычнага мінулага на пачатак XIX ста-годдзя заняпалых літоўскага і беларускага народаў, а з другога боку, культурнае адраджэнне чэхаў, сербаў, харватау, балгар, славенцаў пераконвалі М. Баброўскага і сяброу яго беларускага гуртка пры Віленскім універсітэце, што формула «gente rutheni nacione poloni» (паляк рускага паходжання) не адэкватна іх этнічнай прыналежнасці. Пры вялікай іх заангажаванасці ў польскай культуры яны ўсведамлялі, што з’яўляюцца нашчадкамі вялікай гістарычнай спадчыны, выпрацаванай іх продкамі ў іншай традыцыі, чым польская.

Складаны, цяжкі лёс пачынальнікаў беларускай ідэі. У 1824 годзе І. Даніловіч і М. Баброўскі былі звольнены з Віленскага універсітэта. Пры гэтым М. Баброўскі быў сасланы ў Жыровіцкі манастыр, а І. Даніловіч асуджаны блукаць з аднаго навуковага цэнтра Расіі ў другі: з Харкава ў Пецярбург, з Пецярбургу ў Кіеў, з Кіева ў Маскву[1]. М. Баброўскі ж, вернуты міністрам асветы з жыровіцкай высылкі, у 1832 годзе канчаткова быў пазбаўлены выкладчыцкай працы і скончыў свой век на сціплай пасадзе уніяцкага святара ў Шарашове, на Берасцейшчыне[2]. Лёс гэтых людзей аказаўся ў нечым тыповым для ўсіх прыхільнікаў беларускай ідэі ў XIX стагоддзі. Не лягчэйшы ён быў і пазней для беларускіх адраджэнцаў.

Як жа далей рэалізавалася беларуская ідэя яе пачынальнікамі? Янам Чачотам — у плённай фальклорна-збіральніцкай і эдытарскай дзейнасці[3]. В. Ярашэвічам— у публікацыі даследаванняў аб беларускіх звычаях і песнях Надбужжа[4]. М. Баброўскі напісаў некалькі навуковых прац, у тым ліку «Гісторыю славянскіх друкарняў у Літве», «Аб характэрных моўных зваротах беларускага люду». Няма сумнення, што менавіта яму, высокаадукаванаму філолагу і прыхільніку беларускай ідэі, належаць складанне і падрых-тоўка да выдання беларускага катэхізіса 1835 года[5]. У гісторыі бе-

1 Bieliński J. Uniwersytet Wileński. Kraków, 1899. T. 2. S. 386—387; Tur L. Uniwersytet Wileński i jego znaczenie. Lwów, 1903. S. 81—84.

2 Stankiewič A. Manhušeŭski — Paŭluk Bachrym — Babroŭski. Wilnia, 1937. S. 33—42.

3 З 1837 па 1846 гг. Я. Чачот выдаў 6 выпускаў беларускіх песень, звыш 1000 тэкстаў, перакладзеных на польскую мову і ў арыгінале.

4 Jaroszewicz J. Wiadomości o kupalnicach // Ondyna Druzgenickich sródl. Druskieniki, 1846.

5 Да нашага часу аўтарства М. Баброўскага як укладальніка катэхізіса аспрэчваецца на падставе таго, што ў мове яго ёсць рысы паўночна-ўсходніх гаворак. Гл.: Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. Мн., 1968. Т. 2. С. 28.

ларускай грамадскай думкі піянеры беларускай ідэі названы папярэднікамі адраджэння, прадстаўнікамі яго падсвядомага этапу[1]. Характэрны такі штрых. У 90-я гады мінулага стагоддзя, калі беларуская ідэя была канчаткова сфарміравана, набыла акрэсленыя палітычныя мэты ў вачах многіх прыхільнікаў, прадцечы яе былі ўспомнены ў кнізе рускага вучонага беларускага паходжання Паўла Бабро ўскага. З прычыны залежнага становішча рускай навукі, абмежаванай царскім самаўладдзем, П. Бабро ўскі шырэй не раскрывае далікатную па тым часе тэму, абмежаваўшыся канстатацыяй факта, што ў 10—20-х гадах XIX стагоддзя «У Заходніх губернях утварылася малавядомая партыя, на чале якой былі некаторыя прафесары Віленскага універсітэта, што марылі аб адраджэнні беларускай мовы, на якой быў выдадзены Літоўскі статут»[2].

Трэба падкрэсліць, што сацыяльныя, палітычныя ўмовы ад пачатку ўзнікнення, у ходзе станаўлення беларускай ад-раджэнскай ідэі былі неспагадныя. Яна па-сапраўднаму ажывала, парывала да дзей толькі ў асобныя болыы-менш спрыяльныя перыяды, на нейкім гістарычным зломе.

Лістападаўскае паўстанне 1831 года, якое дасягнула і Беларусі, не набрала шырэйшага грамадскага рэзанансу ў краі, не прынесла новых ідэй яго адраджэння. Праўда, выхадцы з Беларусі, апынуўшыся пасля ўдушэння паўстання ў эміграцыі, успомнілі сваю бацькаўшчыну не без сентыменту. Адзін з іх, Аляксандр Рыпінскі, выдаў у Парыжы ў 1840 годзе кнігу «Беларусь! Некалькі слоў аб паэзіі простага люду гэтай нашай польскай правінцыі; аб яго музыцы, спеве, танцах і г. д.»[3]. У кнізе Рыпінскага даецца даволі шырокі агляд народнага духоўнага быту роднага яе аўтару Падзвіння, прыводзяцца песні, апісанні абрадаў, разглядаецца музычная культура. Праца выканана з замілаваннем да носьбітаў народнай творчасці, да самога народа беларускага, але ў ёй рэзка абазначылася адна палітычная тэндэнцыя. Практычна не ў самой працы, а ў загалоўку і прысвячэнні кнігі. Аўтар ахвяруе яе тым з беларускіх сялян, хто спачатку «навучыцца чытаць па-польску, а потым і ўсёй душой прымкне да маці Польшчы»[4].

Кніга Рыпінскага пазначыла сабой у этнаграфічнай навуцы пачатак той барацьбы, якую на працягу амаль усяго XIX стагоддзя павядуць за Беларусь прадстаўнікі навуковай грамадскасці Расіі і Польшчы. Праўда, у 40-я гады з‘явілася яшчэ некалькі этнаграфічных выданняў, якія аб‘ектыўна сведчылі пра беларускую духоўнасць як з‘яву самабытную, а пра яе творцу як пра самастойны этнас, са сваёй мовай і багатай народнай літаратурай на ёй.

1 Stankiewič A. Manhušeŭski — Paŭluk Bachrym — Babroŭski. S. 33.

2 Бобровский П. Русская греко-униатская церковь в царствование Александра I. СПб., 1890. С. 10.

3 Rypiński A. Białoruś! Kilka słów o poezii prostego ludu tej naszej polskiej prowincii; o jego muzyce, spiewie, tancach, etc. Paryż, 1840.

4 Rypiński A. Białoruś!.. S.1. Вярнуўшыся з эміграцыі, ужо ў 1883 г., А. Рыпінскі ў лісце да А. Плуга не без одуму і горычы разважаў: «Можа, дарэмна мы горнемся да гэтай няшчаснай Польшчы як народжаныя на Русі. Гл.: Пачынальнікі: З гісторыка-літаратурных матэрыялаў XIX ст. / Уклад Г. В. Кісялёў. Мн., 1977.

Акрамя ўжо ўспамінаных «Сялянскіх песень» Я. Чачота навуковай грунтоўнасцю вылучалася кніга Я. Тышкевіча «Апісанне Барысаўскага павета»[1]. Яна ахоплівала самыя розныя праявы народнага быту, творчасці беларусаў, давала неацэнны матэрыял для навуковых абагульненняў.

Спрыяла выкрышталізоўванню думкі на Беларусь як на асобны славянскі край і праца выдаўца «Rocznika literackiego» (выходзіў у Пецярбургу) Рамуальда Падбярэскага. Аўтар «Лістоў з Беларусі», прадмовы да кнігі Я. Баршчэўскага «Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях» Р. Падбярэскі быў яскравым прадстаўніком грамадскай думкі Беларусі сярэдзіны XIX стагоддзя. Ён звярнуў увагу на той інтэлектуальны рух, які ў 40-я гады мінулага стагоддзя ахапіў Падзвінне, гэту калыску старажытнай цывілізацыі на Беларусі, на працу людзей, што згуртаваліся вакол часопіса «Rubon» (старажытная назва Дзвіны). Пішучы аб творчасці прадстаўнікоў так званай «беларускай школы», Р. Падбярэскі сярод іх вылучаў перад усім Тадэвуша Ладу-Заблоцкага, Ігната Храпавіцкага і Яна Баршчэўскага, у творчасці якіх з асаблівай сілай праявіліся беларуская народная стыхія, беларускі менталітэт. «У апавяданнях Баршчэўскага заўважаем першае праяўленне духу беларускага народа, як у даследаванні Храпавіцкага [маецца на ўвазе яго філасофска-эстэтычны эцюд пра беларускую песню.— А. Л.] першая праява філасофскіх паняццяў аб паэзіі гэтага люду, а ў творчасці Т. Лады-Заблоцкага пачуццёвы аспект беларускай паэзіі ў сучасную хвіліну»[2], — пісаў гэты дачасна зведзены царызмам у магілу крытык, публіцыст і выдавец.

Нешта дадавала да ўсведамлення краёвай беларускай інтэлігенцыяй сваёй этнічнай тоеснасці з народам фальклорна-этнаграфічная і літаратурная праца П. Шпілеў-скага. У адрозненне ад сваіх папярэднікаў, этнографаў і фалькларыстаў, якія збіралі, даследавалі і публікавалі беларускі фальклор у польскіх выданнях, П. Шпілеўскі выступіў у вядомых на той час рускіх перыядычных выданнях. Беларускіх яшчэ не было, і гэта адно са сведчанняў слабасці на той час самой ідэі, якая стыхійна, з вялікімі цяжкасцямі прабівалася на паверхню грамадскага жыцця. Сваімі публікацыямі, прысвечанымі такім высокім праявам беларускай народна-паэтычнай культуры, як валачобныя жніўныя і вясельныя песні, абрады, казкі, апісаннямі беларускіх мястэчак і гарадоў, Шпілеўскі вёў унутраную палемі-ку з тымі, хто не прызнаваў яго народ, скептычна ці нават з пагардай адносіўся да ягонай мовы, да яго духоўных патэнцый.

І разам з тым, аддаючы належнае старажытнаму паходжанню беларускай мовы, цудоўнаму гучанню ў вуснах народа (Шпілеўскі выказаў не раз замілаванне яе гармоніяй), нарэшце, высокай грамадскай роллю ў дзяржаўным жыцці Вялікага княства Літоўскага, ён сумняваўся ў перспектывах яе літаратурнай функцыі. Зрэшты, гэта, магчыма, было данінай установцы афіцыйнай рускай навукі, якая, будучы падуладнай царызму, не

---

1 Tyszkiewicz E. Opisanie powiatu Borysowskiego. Wilno, 1847.

2 Szlachcic Zawalnia czyli Białoruś w fantastycznych opawiadaniach przez Jana Barszewskiego z krytycznym żutem oka na Litarature Białoruską przez Romualda Podbiereskiego. Peterburg, 1844. S. 39—40.

хацела прызнаваць самастойнасці беларускага і ўкраінскага этнасаў. Падобнае меркаванне наконт будучыні беларускай мовы выказваў і такі буйны беларусазнавец сярэдзіны XIX стагоддзя, як А. Кіркор, якога «вязалі» і польская палітычная і навуковая традыцыі ў поглядах на Беларусь. У свядомасці гэтых двух выдатных прадстаўнікоў ранняга беларусазнаўства, што аб'ектыўна сваімі працамі нямала паслужылі станаўленню беларускай ідэі, спрачаліся любоў да народа і нявер'е ў яго творчыя сілы.

Справа, відаць, не толькі ў сіле абставін, што прымушалі людзей, глыбока дасведчаных ва ўсіх праявах беларускай духоўнасці, адмаўляць яе народу ў будучыні. Не малую ролю ў гэтым, трэба думаць, адыгрывалі і суб'ектыўныя фактары. Напрыклад, у тыя ж 50-я гады, даволі глухія для інтэлектуальнага жыцця на Беларусі, калі не лічыць «прарыву» В. Дуніна-Марцінкевіча з яго «Сялянкай», тэатрам і, нарэшце, паэмай «Гапон», небагатаму шляхцічу з Віцебшчыны Арцёму Вярыгу-Дарэўскаму хапіла цвердасці, пераканання што трэба будзіць беларусаў, асвечваць народ, вызваляць тыя патэнцыяльныя сілы, што дрэмлюць у ім як у нацыі. Пазней Арцём Вярыга-Дарэўскі пайшоў у паўстанне, быў рэпрэсіраваны, і ў Сібіры ці на бацькаўшчыне разам з архівам загінулі яго беларускія творы. Даследчыкі грамадскай думкі не перастаюць цікавіцца, аднак, яго яшчэ з дапаўстанцкіх часоў альбомам, куды гэты рашучы беларус, захоплены нацыянальнай ідэяй, збіраў думкі, натаваў творы тагачаснай інтэлігенцыі Усходняй Беларусі і Вільні[1]. Альбом Вярыгі-Дарэўскага сведчыць, як гэты неардынарны чалавек імкнуўся аб'яднаць інтэлігенцыю на аснове высокай грамадскай справы, практычна рэалізоўваў беларускую ідэю. Вакол яго ўжо гуртавалася некалькі маладых таленавітых паэтаў. Характэрна, як адзін з іх, Я. Вуль (Ф. Карафа-Корбут), называючы Вярыгу-Дарэўскага як песняра паводле народнай традыцыі дударом, выказвае свой погляд на атмасферу, у якой даводзіцца прабівацца на свет беларускай думцы, беларускай ідэі, а таксама на яе сацыяль-ную глебу. Цікава і псіхалагічная падаплёка выказвання таго, каму ідэі, пашыраныя Вярыгам-Дарэўскім, былі блізкія.

Што табе, дудар, прыспела
Смела песні завадзіць?
Ці то лёгкае, брат, дзела,
Нашу брацццю прасвяціць?
Крыкнуць на цябе паноўя,
Што ты шкоднік і місцюк, —
Страціш голас і здароўе
І дуду упусціш з рук.
Ты мяне, аднак, не слухай,
Мала што я завяду! —
Цэлай грудзяй дуй і дмухай
У жалейку і дуду…

---

[1] Пачынальнікі. С. 243—280.

Паэт заклікае дудара-пабраціма гудзець «смела на ўвесь мужыцкі свет»[1].

Гісторык беларускай літаратуры Максім Гарэцкі, ацэньваючы значэнне Арцёма Вярыгі-Дарэўскага ў беларускім жыцці, пісаў: «...ў нашым адраджэнні, якое цесна звязана з развіццём нашага пісьменства, Дарэўскі прыслужыўся не столькі пісаным, колькі жывым словам і жывым прыкладам»[2].

Прыклад славуты віцебчанін даваў не толькі тады, калі ідэйна гуртаваў інтэлігенцыю вакол задачы адраджэння беларускага народа, але і практычным непасрэдным увасаб-леннем сваіх поглядаў — непасрэдным удзелам у паўстанні 1863 года, якое значыла сабой новы этап у станаўленні беларускага руху, беларускай ідэі. Звязаны ён у першую чаргу з жыццём і справай першага беларускага рэвалюцыйнага дэмакрата Кастуся Каліноўскага (1838—1864). У час антыцарскага паўстання 1863 года беларуская ідэя становіцца на новыя, практычныя рэйкі, выходзіць на палітычную арэну. Асобныя аспекты яе выяўляюцца ўжо на старонках «Мужыцкай праўды», газеты-пракламацыі, выдаванай К. Каліноўскім і яго спадзвіжнікамі. Кіраўнік паўстання, яго ідэолаг і стратэг у жывой размоўнай форме звяртаецца да большасці беларускага народа — сялянства. У зваротах-развагах пераканаўча паказвае, што палітыка царызму — дэструктыўная ў дачыненні да беларускага этнасу[3]. Яна накіравана наўзмоцнены сацыяльны ўціск селяніна-земляроба, дэнацыяналізацыю беларускага грамадства. Адсюль вынікаў і катэгарычны палітычны вывад К. Каліноўскага, выказаны ім у «Лістах з-пад шыбеніцы», якія былі запаветам рэвалюцыйнага дэмакрата свайму народу, аб несумяшчэнні царызму і свабоды народа[4].

Палітычным ідэалам К. Каліноўскага, у якім ён бачыў заруку годнай будучыні народа, была дэмакратычная рэспубліка[5]. Умовамі, што адзіна маглі забяспечыць належнае развіццё беларускаму этнасу — незалежнасць. Светапогляд, беларускага рэвалюцыянера фарміраваўся пад уплывам ідэй А. Герцэна і М. Бакуніна. Вытокі светапогляду К. Каліноўскага, яго палітычную праграму і саму гістарычную постаць дакладна акрэсліваў польскі гісторык В. Пшыбароўскі. «Літоўскі камітэт [яму належала кіраўніцтва паўстаннем на Літве і Беларусі.— А. Л.], — пісаў вучоны, — складзены з гарачых маладых галоў, вёў заўзятыя спрэчкі за незалежнасць Літвы... Найвыдатнейшым у камітэце быў Каліноўскі, постаць якога характарызуецца найдасканалейшымі і самымі рашучымі рысамі. Перакананы прыхільнік сацыяльнага перавароту... чалавек аднак бясспрэчна чысты, вялікай энергіі і нязломнага характару. Быў ён без сумніву паслядоўнікам федэрацыйных праграм герцэнаўскага «Колокола»... Жадаў, каб славянскія народы, пазбавіўшыся дэспатычных паноў і чужога ярма, стварылі федэрацыю незалежных дзяржаў, якія маглі

1 Тамсама, С. 262.

2 Гарэцкі М. Гісторыя беларускае літаратуры, С. 133.

3 Калиновский К. Из печатного и рукописного наследия. Мн., 1988. С.48-59.

4 Тамсама. С.93.

5 Тамсама. С.34.

свабодна жыць бок а бок і развіваць усе свае нацыянальныя асаблівасці. Вось Каліноўскі і стасаваў гэту тэорыю ва ўсёй яе шырыні да Літвы [Літва разумеецца не ў этнаграфічным, а ў гістарычным значэнні.— А. Л.]. Паводле яго думкі, Літва разам з Польшчай павінна дамагчыся незалежнасці, пазбыцца чужой акупацыі, але павінна станавіць сабой адзінку асобную, цалкам незалежную ад Польшчы і звязаную з ёй толькі федэрацыйнай повяззю»[1].

Паўстанне пад кіраўніцтвам К. Каліноўскага для развіцця беларускай ідэі адыграла вялікую ролю. Але ва ўмовах, наступіўшых па разгроме паўстання, вынікі яго ідэйнага ўплыву на само станаўленне грамадскай думкі Беларусі, нацыянальнай свядомасці не здолелі праявіцца адразу. Наадварот, царызму жорсткімі рэпрэсіямі супраць удзельнікаў паўстанцкага руху ўдалося на нейкі час запыніць развіццё беларускай ідэі. Справа ў тым, што найбольш актыўная частка інтэлігенцыі, якая ўдзельнічала ў паўстанні, калі не загінула ў баях з царскімі войскамі, не трапіла на эшафот, як Каліноўскі, то апынулася ў ссылцы ў Сібіры. У ліку ссыльных, выгнанцаў былі і такія дзейсныя прапагандысты на-цыянальнай ідэі, як А. Вярыга-Дарэўскі і літаратары яго акружэння. У строгай ізаляцыі, пад пільным наглядам сыскной службы аказаўся Дунін-Марцінкевіч[2].

З сярэдзіны 60-х гадоў Беларусь становіцца аб‘ектам жорсткай планавай русіфікацыі. На падставе запісак «усмірыцеля края» генерал-губернатара М. Мураўёва на ўрадавым узроўні распрацоўваецца цэлы шэраг мер па барацьбе з польскім элементам, а практычна супраць усяго карэннага, у тым ліку мясцовай інтэлігенцыі. У адрозненне ад першага этапу русіфікацыі, адразу пасля паўстання 1831 года, калі быў закрыты Віленскі універсітэт, спынена справаводства па Статуце ВКЛ, назва «Беларусь» заменена на «Северо-Западный край», зліквідавана уніяцтва, у якім стыхійна цеплілася беларускасць, русіфікацыя 60—70-х гадоў насіла планава-метадычны характар[3]. У Беларусі і Літве на гады было захавана ваеннае становішча. На просьбу папячыцеля Віленскай вучэбнай акругі І.П.Карнілава распараджэннем сената ў край прывілеямі і льготамі прываблена з цэнтральных губерняў Расіі цэлая армія чыноўнікаў, настаўнікаў і сяшчэннаслужыцеляў. Землі тутэйшых землеўласнікаў, што прымкнулі да паўстання, пера-ддваліся рускім каланістам. Забарона беларускага і польскага друку ставіла сур‘ёзную перашкоду на шляху развіцця духоўнага жыцця ў краі.

Палітыка русіфікацыі Беларусі ўрадамі Мікалая I і Аляксандра II, што вялася пад лозунгам барацьбы з лацінствам і паланізацыяй, узнаўленнем «русских начал» у краі грунтавалася на старой канцэпцыі аб «единой Руси» падноўленай і ўзнятай за аснову знешняй палітыкі Кацярыны II. Адэпты гэтай «тэорыі» выходзілі з пастулата, што народы беларускі і ўкраінскі не складаюць асобных этнасаў. Нягледзячы на пераканаўчыя довады этнаграфічнай

1 Цыт. па кн.: Stankiewič A. Kastuś Kalinoŭski. „Mužyckaja praŭda» i ideja niezaležnaści Biełarusi. Wilnia, 1933. S.48.

2 Янушкевіч Я. Ён першы сеяў зярняты // Дунін-Марцінкевіч В. Творы. Мн., 1984.С.13.

3 Ігнатоўскі У. Гісторыя Беларусі ў XIX і ў пачатку XX сталецьця. Мн., 1928. С.71-77, С.144— 152.

і філалагічнай навук, крыху мадыфікуючыся, выкарыстоўваю-чы зручную палітычную кан'юнктуру, канцэпцыя гэта патрапіла дажыць да нашага часу. У 60—80-я гады XIX ста-годдзя яна адыграла ў лёсе Беларусі немалую ролю. Яе ўзялі на ўзбраенне «западно-руссы», адной з асноўных задач якіх пры канцы XIX — пачатку XX стагоддзяў стала змаганне з беларускай ідэяй[1].

Антыбеларуская скіраванасць палітыкі царызму даволі наглядна выявілася ў хвалі публікацый, што заліла рускую прэсу. Закліканымі вырашыць гістарычны лёс «Западной Руси» (чытай Расіі) адчула сябе самая розная публіка, здольная да пяра. Часта публіцысты вылучаліся не толькі тэндэнцыйнасцю, але і невуцтвам, і гнюснымі інсінуацыямі. Невыпадкова не вытрымаў гэтага казённага патрыятычнага гвалту М. Дабралюбаў. Прадстаўнік тагачаснай рускай дэмакратычнай думкі пісаў: «Адносна беларускага селяніна справа даўно вырашана: забіты канчаткова, так што нават пазбавіўся ужывання чалавечых здольнасцей. Не ведаем, у якой ступені лжьшы такі погляд, бо не вывучалі спецыяльна беларускага краю, але паверыць яму, разумеец-ца, не можам. (Цэлы край так вось узялі ды і забілі — штосьці не так! Гэта тое ж, што італьянцаў забілі, расслабі-лі, пазбавілі любові да бацькаўшчыны і Свабоды!.. Паглядзіце цяпер на іх. Ва ўсякім выпадку пытанне аб характарыстыцы беларусаў павінна быць хутка высветлена працай мясцовых пісьменнікаў.) Паглядзім, што яшчэ скажуць імі беларусы»[2].

У цэлым жа палітычная, духоўная атмасфера канца 60— 80-х гадоў была асабліва цяжкая, неспрыяльная для далей-шага станаўлення беларускай грамадскай думкі, адраджэння народа. Самая малая спроба здабыць права публічнасці для беларускага слова, стварыць літаратуру на беларускай мове спынялася. Так, быў Катковым, дарэчы, вядомым славянафілам, «зарэзаны» праект выдання беларускага часопіса. Усе праўрадавыя чыннікі баяліся сепаратызму і гатовы былі бачыць яго нават у царкоўных брацтвах, не кажучы ўжо пра мясцовых інтэлектуалаў. І тым не менш, нягледзячы на параліч грамадскага жыцця, якраз у 80-я гады беларус-кая ідэя здолела нарэшце аформіцца як канкрэтная палі-тычная праграма. На 80—90-я гады прыпадае дзейнасць нарадавольніцкай беларускай групы «Гоман», прарыў у адраджэнні беларушчыны гуртка інтэлігенцыі, аб'яднанай вакол рэдакцыі газеты «Минский листок». Нарэшце адбываецца, можа, самая большая на той час заваёва беларускай ідэі — уступленне на літаратурную ніву Францішка Багушэвіча, першага буйнога песняра, паэта-дэмакрата,

---

1 Цвікевіч А. «Западно-руссизм»; Нарысы з гісторыі грамадскай мыслі на Беларусі ў XIX і пачатку XX в. Мн., 1929. С. 193—337.
Галоўным ідэолагам-тэарэтыкам «западно-руссов» быў М.Каяловіч, амаль зямляк М.Бабpоўскага і таксама, як ён, сын уніяцкага святара. Але ў 60-я гг. палітычныя вятры дзьмулі толькі ў адным напрамку, і абаронца «Западной Руси» аб'ектыўна станавіўся заядлым праціўнікам беларускага адраджэння. У сваім захапленні рускай ідэяй, усім «истинно русским», гэты таленавіты беларус, выкладчык Санкт-Пецярбургскай духоўнай акадэміі, зацята ваяваў са сваёй бацькаўшчынай.

2 Добролюбов Н. А. Избр. соч. М.--Л., 1947. С. 245-246.

вешчуна нацыянальнага адраджэння. Такім чынам, у гэты змрочны час адбыўся своеасаблівы сінтэз састаўных самой беларускай ідэі, важнейшы этап на шляху яе развіцця. Дарэчы, гэты паваротны пункт у гісторыі свайго народа даволі дакладна прадказаў польскамоўны беларускі навуковец і літаратар Аляксандр Ельскі. Сваё правідства ён зрабіў, абапіраючыся на досвед адраджэння іншых славянскіх народаў, у прыватнасці чэхаў і ўкраінцаў, а таксама на падставе асабістых кантактаў з народнай гушчай.

«Свет знаходзіцца напярэдадні катаклізмаў, пасля якіх павінны прыйсці новыя грамадскія групоўкі, — 16 лютага 1890 года пісаў А. Ельскі са сваёй падменскай глушы вядо-маму вучонаму-славісту Яну Карловічу, у нейкай меры пад уражаннем яго прадмовы да «Беларускіх паданняў» У.Вярыгі.— Ад гэтага паваротнага пункту пачнецца свабодны нацыянальны рух, дык і некалькімільённы беларускі народ разаўе свой дух у натуральным кірунку. Прыгадаем, у якіх фатальных акалічнасцях знаходзілася да нядаўняга часу чэшская мова: без літаратуры, амаль без мінулага і будучыні, а сёння — зіхаціць сярод першарадных моў усяго свету і мае цудоўную параўнальна літаратуру і прэсу. Tempora mutantur нічога на месцы не стаіць вечна, а звычайна нават рэакцыя з‘яўляецца вестуном энергічных імкненняў пры змене акалічнасцей». І далей пісьменнік-вучоны робіць лагічную выснову-прадбачанне: «Як мне ясна бачыцца, і беларус, магчыма, прыйдзе да самасвядомасці. Маючы сталыя зносіны з гэтым народам, ведаючы наскрозь яго дух, я бачу і радасцю, як пры кожным свабодным выпадку наш селянін імаль інстынктыўна выказвае любоў да сваёй гаворкі. Там ужо мне ўдалося сустрэць некалькі чалавек з вясковых школ, што пішуць зусім удалыя беларускія вершы, якія я рупліва збіраю ў надзеі, што Беларусь дачакаецца яшчэ свайго Шаўчэнкі»[1]. Тым часам беларускі Шаўчэнка ўжо з’явіўся: у Кракаве ў друкарні Анчыца якраз набіралася «Дудка беларуская» Ф. Багушэвіча. Але пачнем аглядаць 80-я гады ў беларускім жыцці, як яны ішлі, па парадку.

Народніцкі рух ва ўмовах Беларусі, як і кожнага іншага нацыянальнага рэгіёна Расійскай імперыі, на сваім шляху аб’ектыўна не мог абмінуць нацыянальнай ідэі. І калі ўдзельнікі яго 70-х гадоў, выхадцы з Беларусі, не здолелі прыйсці да думкі аб неабходнасці ў сваёй дзейнасці ўлічваць нацыянальны фактар, то народнікі-беларусы на пачатку 80-х вельмі канкрэтна вызначаліся ў нацыянальным пытанні. Ужо ўвосень 1881 года ў Пецярбургу існавала беларуская фракцыя народнікаў, створаная студэнтамі універсітэта; як сведчыць часопіс «Гоман», «Грынявіцкі, бомбай якога пакараны Аляксандр II, быў адным з гарачых заснавальнікаў мясцовай беларускай фракцыі»[2].

Новапаўсталая народніцкая група звярнулася з адозвай «Да беларускай моладзі». З яе вынікае, што беларускія нарадавольцы ставілі сваёй задачай «падняцце маральна-разумовага і эканамічнага быту народа». Адносна таго, яко-га народа, яны выказваліся недвухсэнсоўна, на гэтым нават спецыяль-

1 Цыт. па кн.: Пачынальнікі. С. 355.

2 Публицистика белорусских народников: Нелегальные издания белорусских народников (1881—1884) / Уклад. С.Х Александровіч. Мн., 1983. С.4.

на зроблены акцэнт: «Не будзем… ісці за прыкладам тых, што забываюць патрэбы свайго народа, які іх узгадаваў і так многа дзеля іх перанёс страт… »[1] Беларускія народнікі, пазней аб'яднаныя вакол часопіса «Гоман», ужо добра ўсведамляюць і некаторыя гістарычныя крыўды свай-го народа. І першнаперш страту ім інтэлектуальных сіл,ціто «ішлі на карысць Польшчы або Расіі». Гістарычная памяць стымулявала ў гоманаўцаў пачуццё абавязку, грамадзянскую руплівасць. «Пасланне да беларускага народа» клікала аб'яднацца спачатку «ў самастойнае беларускае зямляцтва, а затым і ў супольніцтва чыста дэмакратычнага характару… пад назвай «Беларуская грамада». Заключныя словы яго выказвалі цвёрдую надзею, што не трэба будзе доўга чакаць, «каб пераканацца, што і наш народ, як усякі іншЫ, мае задаткі, а значыць, і законныя правы на выбранне з сябе самастойнага і раўнапраўнага члена супольнай федэратыўнай славянскай сям'і»[2]. Як бачым, тыя ж мары аб славянскай федэрацыі, якія снаваліся кірыла-мяфодзіеўскш брацтвам Кастамарава ў 40-х гадах, Герцэнам і Бакуніным у 60-х, пазней дзейсна падтрымліваліся Драгаманавым, не былі забыты і беларускімі народнікамі-адраджэнцамі.

Надрукаваныя на гектографе ў снежні 1882 года «Пісьмы пра Беларусь» былі задуманы як цэлая серыя артыкулаў, прысвечаных беларускаму пытанню. Вядомы толькі зварот ад выдаўцоў і адзін «Першы ліст», падпісаны псеўданімам Даніла Баравік. У ім зроблены кароткі агляд мінулага Беларусі і дадзены аб'ектыўны крытычны аналіз сучас-нага аўтару грамадскапалітычнага стану і духоўнага клімату яе. Што да высноў, то яны паўтараюць ужо выказаныя ў адозве «Да беларускай моладзі». Аднак да патрабавання глыбейшага пазнання народа дзеля падняцця эканамічнага і маральнага быту дадаецца тэзіс аб неабходнасці «абуджэння яго самасвядомасці» — адзін з важнейшых пунктаў праграмы нацыянальна-вызваленчага руху.

Д. Баравік доказна адстойвае права Беларусі на сама-стойнае грамадскае, духоўнае жыццё. «Для нашай радзімы, — піша ён, — патрэбна самастойнае абласное [аўтаномнае. — А. Л.] жыццё, якое толькі і можа падняць наш народ, патрэбны… свабодныя прадстаўнікі жыцця народа, якія памаглі б яму развіцца адпаведна з яго роднымі пачаткамі»[3].

Своеасаблівым працягам гаворкі пра задачы новаўтво-ранай беларускай народніцкай групы з'явілася брашура «Пасланне да землякоў-беларусаў» Шчырага Беларуса. Аўтар яе, прадстаўнік рэвалюцыйнага народніцтва, выступае ў нейкай меры апанентам свайго папярэдніка. 3 радасцю аднёсшыся да пазіцыі суайчыннікаў, іхняга жадання будзшь свой народ, ён крытыкуе іх праграму як недастатковую ва ўмовах царскага абсалютызму. Пазнанне народа можа мець толькі падрыхтоўчае значэнне для барацьбы. «Новы мясцовы рух, — паводле думкі Шчырага Беларуса, — павінен мець характар вызваленчы, павінен быць рухам сацыяльна-палітычным»[4].

---

1 Тамсама. С.20.

2 Тамсама. С.21.

3 Публицистика белорусских народников. С.31.

4 Тамсама. С.55.

У прынцыпе, глыбокі аналіз палітычнага становішча ў краіне, яркі сацыяльны зрэз яго, пастаноўка пытанняў стратэгіі вызваленчага руху ў Расіі ў Шчырага Беларуса неаддзялімая ад засцярогі пачынальнікам беларускай плыні народніцтва не адасабляцца нацыянальна, ісці ў агульным рэчышчы вызваленчай барацьбы. А між тым новапаўсталай беларускай фракцыі нарадавольцаў вузкая замкнутасць не пагражала. Усцерагліся яны і ад нацыянальнага нігілізму сваіх папярэднікаў. Аб усведамленні беларускімі народнікамі супольнасці задач усіх вызваленчых сіл Расіі, уменні іх спалучыць нацыянальную ідэю з агульначалавечымі ідэаламі неўзабаве засведчыў тэарэтычны орган фракцыі «Гоман». Першы нумар яго быў выдадзены тэктаграфічным спосабам на пачатку 1884 года і меў падзагаловак «Беларускі сацыяльна-рэвалюцыйны агляд». У раздзеле «Ад рэдакцыі» гоманаўцы заявілі аб сабе як аб прыхільніках «абласной самастойнасці», угледзеўшы ў ёй «асновы для будучага свабоднага федэральна-палітычнага ладу». Гэты апошні, паводле думкі беларускіх народнікаў, павінен заняць месца сучаснага абсалютызму[1]. Пры абгрунтаванні прынцыпу федэралізму гоманаўцы падкрэслівалі, што менавіта «асаблівасці і могуць служыць зарукай будучага шырокага развіцця часова падаўленай народнасці, у якой рана ці позна павінна… прабудзіцца народная самасвядомасць»[2]. «Прабуджаная народнасць, — лагічна заключаюць яны, — не дасць сябе ў крыўду… прыклады чаго ў наш час можна сустрэць усюды, напрыклад, сярод славянскіх народнасцей Аўстрыі і да т. п.»[3]. Такім чынам, у пошуку сябе, свайго народа, грамадска-палітычных ідэалаў сваёй дзейнасці гоманаўцы абапіраліся і досыць паслядоўна на досвед адраджэння іншых славянскіх народаў.

Беларускія народнікі горача і пераканаўча адстойвалі неабходнасць нацыянальнага абуджэння як перадумовы таго, што «знішчыць недавер народа да сваіх уласных сіл» і ў канчатковым выніку — змагчы абсалютызм.

У «Гомане» прыведзены поўны тэкст пашыранай, як адзначанай аўтарамі агляду, год таму назад у некаторых гарадах пракламацыі «Да беларускай інтэлігенцыі». У ёй асобныя погляды на нацыянальную справу, што былі толькі ў зародку выяўлены ў папярэдніх адозвах і брашурах беларускіх народнікаў, атрымалі далейшае развіццё і ў пэўным сэнсе завершанасць. Аўтары пракламацыі паказваюць згубнасць дзяржаўнай цэнтралізацыі для развіцця недзяржаўных народнасцей. «Пануючая ў дзяржаве нацыянальнасць падаўляе свабоднае развіццё так званых плебейскіх нацыянальнасцей у формах, выпрацаваных іх папярэднім гістарычным жыццём, навязвае ім сваю культуру сілаю, якая… тамуе іх самастойнае развіццё і перашкаджае свабоднай выпрацоўцы імі вышэйшых форм культуры»[4].

Беларускія народнікі былі пэўныя ў перамозе федэралістычных ідэй. І ў гэтай упэўненасці іх падтрымлівалі як палітычная практыка адраджэн-

[1] Тамсама. С.60.

[2] Тамсама. С.61.

[3] Тамсама.

[4] Публицистика белорусских народников. С.69.

ня славян і фінаў, так і ўстойлівасць супраць дэнацыяналізацыі самога беларускага народа, які, нягледзячы на ўсе ўдары лёсу, захаваў асновы свайго ўнутранага жыцця, сваё нацыянальнае аблічча.

Аўтары пракламацыі бачаць, як яны кажуць, «вялікую і святую» задачу беларускай інтэлігенцыі ў тым, каб «разварушыць», чытай, разбудзіць «магутныя сілы свайго народа», «даць яму магчымасць праявіць свой нацыянальны геній, глыбока схаваны ад драпежных намераў палякаў і велікарускага двухгаловага арла»[1].

Разумеючы, што нацыянальная свабода неаддзяліма ад барацьбы за свабоду працы, асобы чалавека — ад барацьбы з абсалютызмам, гоманаўцы не перастаюць удакладняць задачы перш-наперш нацыянальнага адраджэння, сфарму-ляваныя імі ў цэлым як стратэгія. «Беларуская інтэлігенцыя павінна пастаянна і няўхільна накіроўваць сваю дзейнасць да таго, каб схаваныя ў беларускім народзе памкненні да вызвалення нашлі сабе правільны выхад, каб абмежаванне манархізму было накіравана да пашырэння самастойнасці беларускага народа і давала яму магчымасць свабоднага развіцця яго духоўных і матэрыяльных сіл»[2].

У другім нумары «Гомана» (лістапад 1884 г.) беларускія народнікі, або сацыялісты-беларусы, як яны рэпрэзентуюць сябе, першай і бліжэйшай задачай ставяць перад сабой мэту заняць у арганізацыі «Народнай волі» сваё месца ў барацьбе, «так важнай для Беларусі». Пры гэтым выяўляюць адзін цікавы тактычны матыў свайго далучэння да агульнарасійскага вызваленчага цэнтра: «Знаходзячыся ў арганізацыі, адзіна актыўнай партыі, якая мае бясспрэчную, на наш погляд, будучыню, мы ў той жа час унясём у свядомасць членаў гэтай партыі практычную магчымасць федэратыўнай самастойнасці Беларусі ў будучым і неабходнасць падрыхтоўкі гэтай самастойнасці цяпер»[3].

Імкнучыся пакласці «першы камень для фундаменту федэратыўнай самастойнасці Беларусі», гоманаўцы настойліва і шырока асэнсоўвалі нацыянальнае пытанне, удзялялі яму многа ўвагі тэарэтычна. Асноўная частка другога нумару «Гомана», раздзел «Ад рэдакцыі», цалкам прысвечаны нацыянальнаму пытанню. Аўтары матэрыялу зыходзяць з пастулата: «…гістарычны працэс заключаецца ў тым, што чалавецтва, уступаючы ва ўсё больш блізкую сувязь, у той жа час дыферэнцыруецца для свабоднага развіцця і праяўлення кожнай нацыі ў цэлым чалавецтве, усякай грамадскай самастойнай групы ў кожнай нацыі і ўсякай чалавечай асобы ў гэтай грамадскай групе»[4]. Адсюль робіцца выснова, што «ўсякая нацыя, як і ўсякая асоба, не толькі мае права, але і павінна абараняць сваю самастойнасць ва ўсім, што не супярэчыць развіццю чалавецтва наогул і кожнай нацыі ў прыватнасці»[5].

---

1 Тамсама. С.70.
2 Тамсама. С.71.
3 Тамсама. С.83-84.
4 Тамсама. С.109.
5 Тамсама.

Гоманаўцы стаяць на тым пункце гледжання, што развіццё кожнай нацыі, няхай сабе і слабой, заслугоўвае падтрымкі. Кінуўшы беглы погляд на гісторыю Беларусі, яе этнічную адметнасць, яны канстатуюць, што яна «мае ўсе арыгінальныя асаблівасці, якія надаюць ёй адметную фізіяномію і самым натуральным чынам вылучаюць яе на асобную галіну славянскага племя»[1]. Гоманаўцы лічаць абавязкам энергічна абараняць Беларусь як ад польскіх, так і ад велікарускіх прэтэнзій. Пры некаторых памылках у ацэнцы гістарычных традыцый, няпэўнага стаўлення да мовы ў суверэннай Беларусі (пытанне з ёй яны пакідалі аматарам-беларусам) гоманаўцы ў цэлым нацыянальнае пытанне разглядалі аб'ектыўна, адэкватна яго значэнню. Менавіта гоманаўцы ўпершыню сталі асэнсоўваць яго тэарэтычна, а самой беларускай ідэі надалі палітычна-прававое афармленне ў духу канцэпцыі Драгаманава. Яны канкрэтна паставілі пытанне аб суверэннасці беларускай нацыі. Гоманаўцы, бясспрэчна, рабілі практычныя крокі для публічнай прапаганды беларускай ідэі. Пра гэта, дарэчы, можна меркаваць і па іх кантактах у сябе на бацькаўшчыне, што знайшлі адлюстра-ванне ў карэспандэнцыях, звестках, друкаваных у іх тэарэтычным органе[2].

Разгром царызмам народніцкіх арганізацый у сярэдзіне 80-х гадоў пакрыў на доўгія гады дзейнасць гоманаўцаў покрывам таямнічасці. Гэта, аднак, не значыць, што праца іх на карысць беларускай ідэі прапала. Снаваныя імі думкі мелі непасрэдны працяг у дзейнасці менскай інтэлігенцыі другой паловы 80 — пачатку 90-х гадоў. Не выключана, што адзін з заснавальнікаў менскага гуртка А. Слупскі, які ў пачатку 80-х гадоў вучыўся ў Пецярбургу, пачуў у сабе «дух беларушчыны» пад уплывам падпольнага друку гоманаўцаў. Зерне, пасеянае імі, не мінула беларускіх гурткоў, якія ўзніклі пры канцы мінулага стагоддзя ў Маскве, з якіх выйшлі Карусь Каганец (К. Кастравіцкі) і Ядвігін Ш. (А.Лявіцкі), што сталі духоўным звяном, повяззю паміж беларускімі народнікамі і адраджэнцамі пачатку XX стагоддзя[3].

Менская група гуманітарнай інтэлігенцыі 80—90-х гадоў (па часе яна непасрэдна прымыкала да гоманаўцаў) аб'ядноўвалася на грунце беларускай ідэі пры газеце «Минский листок» (1886—1902). У ім за кароткі час з'явіліся публікацыі па гісторыі і этнаграфіі Беларусі М. Доўнар-Запольскага, «Агляд гукаў і формаў беларускай мовы» Я.Карскага, «З навуковай паездкі ў Беларусь» М. Янчука, «Старажытныя помнікі Навагрудка» А. Слупскага, артыкулы У. Завітневіча, А. Багдановіча, Я. Ляцкага і інш. Гэта была арганічная навуковая беларушчына: творы, прасякнутыя ўвагай і любасцю да беларускай зямлі, яе народа. Пры гэтым яны вызначаліся грунтоўнасцю. Выдаўцам «Минского листка» ўдалося раз усыпіць пільнасць цэнзуры, якая строга трымалася закона аб забароне беларускага слова, і надрукаваць па-беларуску верш Янкі Лучыны (Неслухоўскага).

1 Публицистика белорусских народников. С.110.

2 Тамсама. С.75-81, 96-99.

3 Jadwihin Š. Uspaminy. Wilnia, 1921; Уласаў А., К.Кастравіцкі, Г.Татур // Беларускі шлях. 1918. № 51.

А ў 1887 годзе А. Слупскі падрыхтаваў і выдаў «Северо-Западный календарь на 1888 год». У ім было змешчана апісанне беларускіх каляндарных святочных абрадаў з прыказкамі, фрагментамі арыгінальных песень, нарыс «Ізяслаў і Тураў» А.Слупскага, апавяданне з дыялогамі па-беларуску. У «Календаре Северо-Западного края на 1889 год», падрыхтаваным М.Доўнар-Запольскім, было яшчэ больш матэрыялаў пра Беларусь, яе мову, гісторыю, літаратуру, этнаграфію. У ім былі змешчаны беларускія вершы, падпісаныя крыптанімамі. Усё гэта ў вачах нядрэмнага вока ўлады ды і «западно-руссов» было крамолай, патыхала сепаратызмам. І хоць Доўнар-Запольскі, унікаючы мясцовай цэнзуры, з выданнем свайго календара падаўся ў Маскву, тамтэйшая цэнзура была папярэджана і нічога беларускага не прапусціла, што можна зразумець з заўвагі-намёку ў самой кніжцы! У 1891 годзе менскаму гуртку беларусаў кнігі-календара выдаць не ўдалося. З календаром на 1892 год А. Слупскі падаўся ў цэнзурны камітэт у Санкт-Пецярбургу. З дазволу сталічнай цэнзуры Слупскаму ўдалося выдаць яшчэ і кнігу-каляндар на 1893 год. Абодва вызначаліся багатым беларускім зместам. Да таго ж у апошнім рэдакцыя патрапіла надрукаваць тры вершы Янкі Лучыны, якія сведчылі аб поступе беларускага мастацкага слова.

Аднак не датрымаў пазіцыі адзін з самых энергічных членаў менскага гуртка А.Слупскі. Зможаны няроўнай вайной са шматлікімі непрыяцелямі беларушчыны, з’ехаў аж у Башкірыю. Памёр вядучы паэт гуртка Янка Лучына. Не мог знайсці работы ў правінцыяльным Менску вучоны з вялікімі творчымі задаткамі М. Доўнар-Запольскі, і менскае кола адраджэнцаў, якія намагаліся даць беларускай ідэі практычны выхад, распалася. Але к гэтаму часу Беларусь дачакалася свайго найбольшага ў XIX стагоддзі песняра, першага, паводле вызначэння гісторыка літаратуры М. Гарэцкага, нацыянальнага паэта Францішка Багушэвіча.

Удзельнік паўстання 1863 года Ф. Багушэвіч сталыя гады пражыў на Украіне і не мог не ўспрыняць яе ўрокаў нацыянальнага адраджэння. Пэўна, жывіла ў ім беларускія думкі і яго паўстанцкая маладосць. Вярнуўшыся праз дваццаць гадоў на бацькаўшчыну, працуючы адвакатам у Вільні, Багушэвіч сваё дачыненне да свету ўпотай выказваў у вершах. А выпускаючы да людзей сваю першую паэтычную кніжку, вымушаны схаваць яе аўтарства пад прыдуманым імем-мянушкай Мацей Бурачок, палічыў патрэбным пагаварыць з чытачамі, народам сваім аб набалелым і важным. «Прадмова» да зборніка вершаў «Дудка беларуская» — важкі дакумент у гісторыі беларускай думкі, як і ўся праца Францішка Багушэвіча ў ў беларускім адраджэнні, бацькам якога назавуць яго наступныя пакаленні. У «Прадмове» Багушэвіч першнаперш загаварыў пра мову беларускую, як найважнейшую субстанцыю ў жыцці народа, яго душу: «Ото ж гаворка, язык і ёсць адзежа душы»[1]. У сцвярджэнні мовы беларускай, як духоўна-сутнаснага, таго, што вызна-чае нацыянальнае аблічча беларусаў, Багушэвіч паклікаецца на ролю беларускага слова ў грамадскім жыцці Вялікага княства Літоўскага. У рэтраспектыўным

[1] Багушэвіч Ф. Творы. С. 16—17.

позірку, кінутым паэтам на гэту супольную дзяржаву беларусаў і літоўцаў, — стрыманы піетэт («А ў сярэдзіне Літвы, як тое зярно ў гарэху, была наша зямліца — Беларусь!»), а заадно і паэтычнае акрэсленне гістарычнага значэння беларушчыны ў той старажытнай дзяржаве пад знакам Пагоні.

І яшчэ ў сваёй абароне беларускага слова Багушэвіч звяртаецца да прыкладу братніх славянскіх народаў. У скрушнай развазе над мовай беларуса, а яна ў свядомасці

Багушэвіча неаддзельная ад яго долі, паэт шукае апоры ў харватаў, чэхаў, украінцаў, «пабратымаў нашых», якія «маюць па-свойму пісаныя і друкаваныя ксёнжачкі і газеты»[1]. Стала запаветам для многіх пакаленняў беларусаў, паўтараецца і сягоння Багушэвічава просьба-заклінанне: «Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!»[2]

Грамадзянскі покліч Ф. Багушэвіча, яго творчасць, скіраваная на абарону дэмакратычнай болыыасці ў тагачасным грамадстве — сялянства, знайшлі разуменне ў сучаснікаў. Пад яго непасрэдным уплывам прыйшоў у беларускую літаратуру паэт-рэвалюцыянер Адам Гурыновіч[3]. Сацыяльна-грамадзянскі тон, зададзены Багушэвічам, перанялі паэты нашаніўскай пары, калі беларуская ідэя станавілася вызначальнай для развіцця беларускага грамадства, народа, яго будучыні як асобнай сям'і ў агульначалавечым супольніцтве.

Аглядаючы няпросты шлях беларускага адраджэння, ад узнікнення беларускай ідэі да яе поўнага станаўлення — і пачатку ўвасаблення ў жыццё, можна адзначыць некалькі момантаў. Зарадзіўшыся ў пачатку XIX стагоддзя, беларус-кая ідэя развівалася марудна, з вымушанымі перапынкамі, абумоўленымі тым, што беларускі этнас жыў у абставінах даспатызму, у дэструктыўных умовах. На станаўленне грамадскай думкі Беларусі як стымулятар дабратворна ўплываў культурна-нацыянальны рух іншых славянскіх народаў асабліва чэхаў, украінцаў.

Адным з найважнейшых этапаў у станаўленні беларускай ідэі было паўстанне 1863 года і практычная і публіцыстычная дзейнасць рэвалюцыйнага дэмакрата К.Каліноўскага. Канчатковае фарміраванне беларускай ідэі, адраджэнскага руху беларусаў адбылося ў 80—90-я гады XIX ст. і звязана з падпольнай працай і перыядычнымі выданнямі беларускіх народнікаў ды прыходам у літаратуру Францішка Багушэвіча. З'яўленне ў другой палове XIX стагоддзя на духоўным гарызонце Беларусі такіх буйных постацей, як К.Каліноўскі, І.Грынявіцкі з гоманаўцамі, Ф. Багушэвіча, свядомых нацыянальных задач сваёй этнасупольнасці, засведчыла, што беларускі народ ужо склаўся ў нацыю. Не хапала толькі невялікага глытка свабоды, хоць бы адмены забароны беларускага друкаванага слова, каб нацыянальна-вызваленчы рух беларусаў выйшаў з падполля і стаў пракладаць шлях усяму беларускаму народу для годнай будучыні.

*1992*

1 Тамсама.

2 Тамсама.

3 Гурыновіч А. Дзякуй табе, браце, Бурачок Мацею // Беларуская літаратура XIX ст. Мн., 1971. С. 270.

# Аляксандр Уласаў — рэдактар, публіцыст, асветнік

Новы дзень прыдзе і новыя людзі
Будуць пачатую думку снаваць.
*Янка Купала*

У ХХ-ым стагоддзі Гісторыя двойчы давала беларусам шанец здабыць незалежнасць, стацца народам дзяржаўным. Рэалізаваць высокі ідэал не былі дастаткова падрыхтаваныя абодва разы.

На пачатку стагоддзя, калі зара Свабоды разгаралася, здавалася, шырэй, народ у масе сваёй яшчэ драмаў, а піянеры адраджэнскай ідэі складалі невялікі атрад. Ды менавіта ім, вестунам Вясны, самім лёсам прызначана было закласці падмурак Беларускага Дому.

Сярод тых думных і рупных, хто паклаў краевугольныя камяні ў муроўку агульнабеларускай Гасподы, быў і Аляксандр Уласаў. «Наша Ніва», першая беларуская газета. Выходзіць раз у тыдзень рускімі і польскімі літарамі. Рэдактар-выдаўца А.Уласаў». Падпісаная гэтым імем без мала дзевяць гадоў запар выходзіла ў свет газета, якой было наканавана адзначыць сабою цэлую эпоху ў гісторыі новай беларускай літаратуры. І не толькі літаратуры.

Ініцыятараў ды пачынальнікаў беларускага выдання, знакавага ў лёсе народа і праз стагоддзе, рэдакцыйным штабам называць як бы і не выпадала. Старэйшаму, няўрымсліваму, генератару ідэй і арганізатару Івану Луцкевічу на час заснавання «Нашай нівы» было 25. Яго малодшаму брату Антону, што з цягам часу стане ці не галоўным пяром рэдакцыі, толькі 22. Аляксандру Уласаву, што праўда найстарэйшаму між іх, было крыху болей. Яму, самавітаму постаццю, голасам, да таго ж сыну калежскага саветніка, і даручалася падпісваць газету, быць адказным перад уладай, дбаць пра друк, распаўсюджанне яе.

Гэта ўжо пазней на Віленскую, 12, дзе на стала асталявалася рэдакцыя, прыйдуць, так бы мовіць, чыстыя літаратары, залучаны А.Уласавым да працы ў ёй апальны настаўнік з Мікалаеўшчыны Кастусь Міцкевіч — Якуб Колас, спакушаны беларускім словам і думкай сын габрэйскага народа з мястэчка Пасадзец Самуіл Плаўнік — Змітрок Бядуля, першы беларускі празаік і гумарыст Антон Лявіцкі — Ядвігін Ш., патэнцыйны навуковец і пісьменнік з Дзісеншчыны Вацлаў Ластоўскі…

З ідэйным накірункам газеты было ўсё ясна адразу: ён стаўся апрабаваным на «Нашай долі» і «Свабодзе», задушаных царскай цэнзурай пры іх нарадзінах. Што да праграмы, то ў ёй нешта акрэслілася наперад, а штосьці прыйшло высветленае ў ходзе выдання. «Будзіць у беларусе чалавека і грамадзяніна, голасна гаварыць аб яго патрэбах і правах», -— гэтыя кароткія

тэзісы-палажэнні арганічна вынікалі з самога жыцця беларусаў як народа, былі актуальныя на часе, мелі стратэгічную скіраванасць.

Рэалізаваліся яны насамаперад у рэдакцыйнай практыцы нашаніўцаў.

Было гэта няпроста.

К часу выхаду «Нашай нівы» пік рэвалюцыйнага ўздыму ў народзе мінуў. Стыхійны парыў да свабоды ў грамадстве яшчэ не згас, але ўлада ўжо цвёрда забірала палітычную ініцыятыву ў краіне ў свае рукі. Рабіла гэта звыклым для дэспатычных рэжымаў адміністрацыйным метадам. На даляглядзе жыцця вялізнай імперыі пагрозліва замаячыў прывід віселеньяў, у гісторыі метафарычна названых «гальштукамі Сталыпіна». Першая Дума была распушчана. «Яна, паводле слоў пісьменніка паслядоўна дэмакратычнай пазіцыі В.Г.Караленкі, сур'ёзна хацела абмежавання самаўладства, па-першае, і па-другое, імкнулася да сапраўднага вырашэння зямельнага пытання»[1].

Вырваўшы ў царызма першыя канстытуцыйныя ўступкі, перш за ўсё парламенцкае прадстаўніцтва, шырокая грамадскасць Расіі спадзявалася праз Думу дамагчыся рэформаў у сацыяльнай і грамадзянскай сферы. І хоць выбарчы закон у новую Дзярждуму з мэтай не дапусціць туды рэальнага і адэкватнага народнага прадстаўніцтва быў моцна скарэгаваны на карысць улады, паноўных класаў, у яе здолела трапіць нямала прадстаўнікоў у тым ліку левых партый.

Надзеі на новую Дзярждуму ўскладалі і працаўнікі, згуртаваныя вакол «Нашай нівы», у яе рэдакцыі. У передавіцы газеты ад 27 снежня 1906 г. пісалася: «Вялікая і цяжкая работа выпадае на долю яе: край саўсім зруйнаваны, народ згалеў чыста, вайна правіцельства з народам усё яшчэ ідзе…»[2]

Адразу пасля адкрыцця работы 2-ой Дзяржаўнай Думы 24 лютага 1907 г. «Наша ніва» вітала гэты акт словамі: «Гэта Дума — адзін крок далей па дарозі да народнай свабоды. Няхай жа гэта Дума будзе наша; будзем падтрымліваць нашых дэпутатаў у іх цяжкай вайне за справу працуючага народа. Будзем пасылаць наказы са сваімі патрабаваннямі ды хадакоў, каб Дума знала, якія ў нас патрэбы і ведала, якія для нас патрэбны законы і парадкі». Вітанне народных дэпутатаў заканчвалася пажаданнем «ім смеласці і мудрасці ў іх святой працы» [3].

Склад Дзярждумы новай кадэнцыі, апублікаваны ўсімі газетамі, у тым ліку і «Нашай нівай», даваў спадзяванні: з 475 дэпутатаў толькі 94 належалі да правых, «што стаяць за стары парадак» і 357, «што стаяць за народную свабоду», між апошнімі называлі 201 сацыяліста.

Але не ўсім нават у самой рэдакцыі «Нашай нівы» такой аптымістычнай здавалася перспектыва, звязаная з новай Думай. У гэтым жа 8-ым нумары газеты за 1907 г. была змешчана публікацыя «Дума і народ», падпісаная псеўданімам «Марцін». У ёй горача, пераканаўча сцвярджалася, чаму самаўладства вымушана было пайсці на некаторыя саступкі народу, дазволіць

---

[1] Короленко В.Г. Земли, земли // Новый мир. 1990. № 1.

[2] Наша ніва ад 27 снежня 1906 г.

[3] Наша ніва ад 24 лютага 1907 г.

выбары, паабяцаць рэформы. У аўтары адчуваўся непасрэдны ўдзельнік нядаўна адгрымелай рэвалюцыі, добры прапагандыст. «Скрозь па ўсім царстві чуваць голас: «Зямлі!» За ім ляціць жаданне: «Волі!» І розна раздаецца гэты голас. У адных краёх народ вясковы ішоў разам нага ў нагу з працоўным людам гарадоў ды ўвесь, як адзін, станавіўся бараніць не на жарты тыя шырокія дамаганні, каторыя яны супольнымі сіламі ўзяліся заваяваць. У другіх мужык, не могучы адвесці вачэй ад бліснуўшага першы раз знянацку яснага сонца свабоды ды зажмурыўшыся ад яго, насунуў казырок на вочы ды задрамаў усё ж з салодкім сном аб народнай долі і народным праве. Прачнуўся, як выбарных яго папрасілі далікатна, за каўнер узяўшы, вярнуцца аж да хаты. Не раздабыў ён гэтага: мусіць у дэпутатаў кароткія былі рукі да зямлі, ці што там такое! А тут на чародзі другая Дума, яму ізноў выбіраць туды трэба — ён наддаў ды паслаў з памеж сябе яшчэ лепшых, яшчэ здальнейшых бараніцеляў сваіх — а ну ж што выдзе! Як то ўсё добра, толькі адзін абмыл ёсць ды вельмі вялікі — гэта на шчот пагляду на самую тую Думу. Трэба ведаць, у які час яна радзілася, на што яна народу дадзена і чы падобна яна да тае Думы, якую жадаў народ. Тады і відаць будзе, чаго народу ад Думы гэтай чакаць трэба».

«Марцін» гаворыць аб неабходнасці прамых выбараў, патрэбе «злажыць паўнаўласную Народную Раду», якая «як гаспадар… завесці павінна ў Расеі новыя парадкі, новыя законы». Якія парадкі і законы, тлумачыцца проста: «Над усім народ мецьме вока, усюды будзе панаваць народная воля».

Вобразна акрэсліваецца бягучы момант у яго сутнасці: «Уляглiся на час народныя грамады, а яны (улады) давай заводзіць свой суд, тварыць расправу з нямілымі яму ваякамі за свабоду, напаўняць турмы. Ды яшчэ ўвялі ваенныя суды, каб без дай прычыны ў 24 гадзіны разстраляць альбо павесіць». Наглядна паказвае механізм дараванага царызмам парламентарызму, бяссілле дэпутатаў нешта рэальнае зрабіць для народа: «Далі народу дэпутатства, а ўласці ані крыху. Аніводзін думскі закон правіцельства не прыме, пакуль яго не пацвердзіць Гасударственный Савет, зложаны з адстаўных генералаў ды вялікіх паноў».

Рэальна ацаніўшы магчымасці парламента ў Расіі 900-х гадоў, аўтар публіцыстычнага нарыса не схільны, аднак, мінімізаваць значэнне свабоднага слова, у тым ліку з трыбуны Думы ў тых умовах: «Свабоднае слова праз газеты і мовы (маюцца на ўвазе прамовы, выступы) адным асвятляе галовы цярплівых зашторабленых грамад, будзіць іх да супольнага злучэння, каб узяцца за добрае і праўдзівае ўстраення свайго жыцця. …Дума, хоць і без уласці, можа быць вялікім будзіцелем народным. …Убачыць народ, што вельмі ўжо чакаць ад Думы свабод ды зямлі нельга, бо яна небарака, адна гэтага не зробіць. Хіба народ пад указам Думы на роўным праведы простымі (непасрэднымі. — А.Л.) выбарамі збярэць дэпутатаў для ўстанаўлення ў зямлі ўсіх свабодаў… Тады, мусіць, замоўкне ўсё самаўпраўства, калі такая Дума — Народная Рада будзе адным гаспадаром у краіне. Трэба народу не спаць»[1].

[1] Наша ніва ад 24 лютага 1907 г., № 8.

Літаральна на першых жа пасяджэннях Другой Думы на парадак дня было пастаўлена дэпутатамі пытанне аб скасаванні палявых судоў і кары смерцю, выношанай імі на працягу сутак. Нават пры пэўнай падтрымцы думскага цэнтра правым з дапамогай прадстаўнікоў ураду, самога прэм'ер-міністра з яго праграмай «спачатку ўціхаміранне, а потым рэформы» ўдалося заваліць пазітыўнае рашэнне па гэтым балючым пытанні.

Не мела поспеху спроба левых дэпутатаў вырашыць і надзвычай важнае для такой сялянскай, якой была Расія, краіны зямельнае пытанне.

Не прайшло і трох месяцаў з часу абрання новай Думы, як зноў «высачайшым указам» у чэрвені 1907 г. яна была распушчана і неўзабаве назначаны новыя выбары. Змены ў выбарчай ардынацыі, цэнзавыя абмежаванні на гэты раз былі такія значныя, што ўрад спадзяваўся, і, трэба сказаць, не без падстаў, атрымаць зусім паслухмяны склад Думы.

Трэцяя Дзярждума прыкметна паправела: нават амаль усе прадстаўнікі сялянства, і гэта было добра прадэманстравана дэпутатамі ад Беларусі, прымкнулі да правых. Значнаму паправенню новай Думы паспрыяла асабліва дзейснае выкарыстанне ўрадам, кажучы сённяшняй тэрміналогіяй, адміністратыўнага рэсурсу. На ўскраінах рэдкаснае агітацыйнае шчыраванне праявіла праўрадавая партыя «Саюз рускага народа» (чарнасоценцы). У ходзе прадвыбарчай барацьбы актыўна задзейнічана была царкоўная іерархія. Былі прыняты жорсткія паліцэйскія меры, скіраваныя на недапушчэнне да сходаў выбаршчыкаў агітатараў-сацыялістаў.

Ідэя грамадска-палітычнага ўладкавання дзяржавы, парламентарызму была для нашаніўцаў архіактуальнай. Вялізная краіна была на шляху да адыходу ад форм старога, дэспатычнага манархічнага кіравання, і маладабеларусы спадзяваліся іншых палітычных перспектыў і для свайго краю. У «Нашай ніве» была заведзена спецыяльная рубрыка. Менаваная па-рознаму, яна з цягам часу набыла сталую назву «У Думе і каля Думы». У адных матэрыялах яе высвятлялася лапідарна, але па-публіцыстыцку дасціпна сацыяльная прырода і мэта прадстаўнікоў партый у Думе. У іншых гаворка ішла аб характары выбараў у парламент развітых краін, дзе ён злучаў у сваім функцыянаванні, выражаў інтарэсы ўсіх слаёў грамадства, у трэціх асвятляліся тыя спецыфічныя ўмовы і рэаліі, у якіх адбываліся выбары ў Расіі, і ў прыватнасці ў Беларусі і Літве.

Значная ўвага ўдзялялася інфармацыі аб ходзе канкрэтнай работы Дзяржаўнай Думы. Пры гэтым, як правіла, асвятлялася дыскусія думцаў па розных законапраектах, паднятых пытаннях, што давала магчымасць убачыць, ацаніць не толькі пазіцыю асобных дэпутатаў, але і палітыку ўрада, стварала рэальную карціну ідэйна-палітычнай мазаікі ў грамадстве, мела палітычна-выхаваўчы сэнс. Інфармацыя ж гэта чэрпалася не з дзесятых рук, а бралася непасрэдна з Таўрычаскага палаца, дзе карэспандэнтам ад «Нашай нівы» на галёрцы журналістаў бывалі часцей малады Антон Луцкевіч, які падпісваў допісы ініцыялам першага свайго псеўданіма Генрых Букавецкі, або зрэдзь часу і сам рэдактар Аляксандр Уласаў, даючы паведамленне без подпісу.

Падчас знаходжання ў Пецярбургу рэдактар «Нашай нівы» не быў проста фіксатарам думскай дзеі. Як відаць з інфармацыі, прагаварваў пытанне зямлі з дэпутатамі-трудавікамі. Выйшаў на прадстаўнікоў сялянства ад Беларусі, якія, знаходзячыся ў парламенце пад апекай свяшчэннікаў, седзячы разам з правымі, ужо часткова расчараваныя ў сваіх апекунах, пачалі разумець, што імі маніпулююць, вядуць на павадку ў чужых інтарэсах. Уласаў бачыць і тлумачыць прычыну пасіўнасці сялянскіх прадстаўнікоў у Думе. «Правых не хваляць, — піша ў сваёй карэспандэнцыі, — але сваю мужыцкую партыю не могуць зрабіць, бо між мужыкамі няма інтэлігентнага, з навукаю чалавека, каторы бы патрафіў пакіраваць мужыкамі»[1].

Натуральна, падзел працы ў рэдакцыі намеціўся ад пачатку. Гэта было абумоўлена як агульнымі задачамі выдання, так і схільнасцямі, колам інтарэсаў кожнага з яго членаў. Прыярытэтнымі для рэдактара «Нашай нівы» сталі перш за ўсё дзве праблемы: землеўпарадкаванне, землекарыстанне, скажам так аграрная, гаспадарчая, эканамічная, і не менш важная — стварэнне грамадзянскай супольнасці самаўпраўлення ў Беларуска-Літоўскім краі. Царызм нагвалт не хацеў уводзіць у цэнтральнай і заходняй Беларусі нават таго абмежаванага, якое існавала ў Расіі, земства, высцерагаўся даць мясцоваму насельніцтву самыя малыя рычагі рэгулявання сацыяльнага, грамадскага жыцця.

У артыкуле «Аб зямельнай справе ў Беларусі» А.Уласаў выявіў грунтоўнае веданне аграрнай сітуацыі ў краі. Аўтар публікацыі пачынае яе ў стылі жывой, непасрэднай размовы з чытачом: «Усім вядома, што наша вёска жыве не цікава. Хаця ў нас моцнага голаду, як у Расіі, не бывае, а ўсё ж такі ў гэту, напрыклад, зіму і вясной у некаторых месцах нашага краю бадай што і быў голад: урадзіла слаба, дык мужыку няма як пражывіцца. А заўсёды палова мужыкоў сядзіць, як кажуць, на «арыштанцкай порцыі» — на самым краю голаду».

Жывы ўступ змяняў аналіз прычын, аналітыка фактаў: «Прычын гэткага палажэння нашага вясковага хлебароба шмат: нязхват зямлі, шнуры, шахаўніца, старасвецкі спосаб гаспадаркі, малая навука мужыкоў, а таксама дрэннае ўстройства ўсяго жыцця, недастатак такой арганізацыі, якая клапацілася б аб мужыках, як земскае ўпраўленне… і многа чаго другога».

Уласаў канкрэтна гаворыць аб базавых надзелах сялянства ў Беларусі пасля рэформы 1861 г., пра развіты праз буйнейшыя рэкі гандаль, наладжаны спрактыкаванымі ў ім габрэямі, зазначае, што нельга сказаць «каб беларус быў кепскі земляроб». Адзначае, што нягледзячы на недастатковасць кніжнай навукі беларус стараецца саматугам палепшыць сельскую гаспадарку і паказвае на цэлы рад зменаў агракультурнага характару. Сказанае ілюструе, бярэ з апісанняў вясковай гаспадаркі асобных паветаў, якія меліся ў рэдакцыі «Нашай нівы».

Суадносячы наяўнасць грунтоў, угоддзяў і звязаных з гэтым праблем сялянства, падводзіць да абагульнення наконт таго, што «мужыцкая га-

[1] Наша ніва ад 20 лістапада 1908 г., № 24.

спадарка ўперлася, як у кут; яе трэба падняць, пасунуць упярод. А ўсё гэта зрабіць можна толькі дружнай працай самых мужыкоў з падмогай грамадскіх арганізацый (як шырокае самаўпраўленне) і казны, дый калі народу дадзена будзе больш прасветы, настроіцца свабоднае жыццё». Уласаў гаворыць аб канечнай патрэбе глыбей пазнаць сялянскую гаспадарку як эканамічную аснову развіцця краю, дапамагчы дабыць селяніну-хлебаробу зямлі «таннага крэдыту, завесці склады добрага гаспадарскага інвентару, прылад працы, насення, даць вучоных аграномаў». Праз стварэнне кааператываў, суполак аўтару, самому знаёмаму з земляробчай практыкай, хоць і не заўзятаму гаспадару (Уласаву пад Радашковічамі належаў ладны кавалак зямлі, куплены яго бацькам, паштовым работнікам), карцела аб абуджэнні ў селяніна ініцыятывы, бачылася адным са спосабаў далучыць яго да грамадскай справы. Тое ж буджэнне ў беларуса чалавека і грамадзяніна, што значылася ў праграме «Нашай нівы»: «…народ будзе працаваць з большай карысцю, калі скрозь завядуцца таварыствы і суполкі гаспадарскія, каторымі будуць кіраваць мужыкі і ў іх прывучацца да працы хаўруснай, грамадскай»[1].

Аляксандр Уласаў яшчэ неаднойчы публічна, на старонках «Нашай нівы» уздымаў, абмяркоўваў розныя аспекты землеўпарадкавання. Быў ён прыхільнікам хутарскай сістэмы гаспадарання. Практычна стаяў за фермерскі яе тып. Людзі, знаёмыя з Уласавым асабіста, расказвалі, як у 20-я гады, ужо ў Заходняй Беларусі, будучы на становішчы сенатара парламента Рэчы Паспалітай ды з надта малым поспехам змагаючыся за радыкальную зямельную рэформу, ён радаваўся поспехам аграрнай палітыкі — рассяленню на пасёлкі, арыентацыю на культурнага гаспадара, якую праводзіў нарком земляробства БССР Прышчэпаў. Вось, маўляў, за некалькі гадоў разумны нарком здолеў зрабіць для беларускага селяніна больш, чым Сталыпін за час усяго свайго прэм'ерства ў Расіі.

Для беларускіх адраджэнцаў пачатку XX ст. праблема сялянства, зямлі была адной з карэнных праблем руху. На гэты час сялянскае мора ў Беларусі заставалася амаль адзіным захавальнікам такіх асноватворчых складнікаў этнасу, як звычаі, мова, традыцыйная культура. Народ, што цягам двух з паловай стагоддзяў у выніку дэнацыяналізацыі з польскага і рускага бакоў аддаваў сваю інтэлігенцыю для духоўнага ўзбагачэння суседзяў, цяпер адраджаўся з кораня. Асноўныя кадры інтэлігенцыі: вясковыя настаўнікі, службоўцы, асобныя светары дзвюх канфесій, яны ж пераважна чытачы і дапішчыкі беларускай газеты, былі выхадцамі з сялянскага мацерыка, узняліся з гушчы народнай.

Пытанне з захаваннем ідэнтычнасці этнасу, яго шырокага адраджэння на нацыянальнай аснове ў беларускіх гістарычных і палітычных абставінах напрамую звязвалася з зямлёй для асноўнага насельніка краю. Зямельнае пытанне для ідэолагаў беларускага Адраджэння аб'ектыўна набывала нацыянальны кантэкст. А само адраджэнне з устаноўкай на ўздым шырокіх мас этнасу да свядомага жыцця — глыбока дэмакратычную, гуманістычную

[1] Наша ніва ад 8 жніўня 1908 г., № 18.

скіраванасць. Зямельнае пытанне на Беларусі ўскладнялася ў этнічным плане: акрамя таго, што бальшыня зямель належала памешчыкам, уладальнікі яе былі асобамі польскага або з мясцовых, але паланізаванага паходжання.

Сталыпін з яго зямельнымі праектамі па сацыяльных матывах не мог даць сялянству імперыі зямлі, якая б адпавядала рэальным патрэбам, адэкватным культурнаму гаспадаранню. Сам буйны аграрый, ён не мог пакрыўдзіць памешчыкаў, пайшоўшы хоць бы на частковае адчужэнне іх буйных зямельных надзелаў. Як выхад сялянам было прапанавана перасяленне на шырокія не асвоеныя прасторы Сібіры. Што да становішча беларускага мужыка, то беззямелле і малазямелле штурхалі яго ў пошуках хлеба на Захад і Усход. На Захад — пераважна ў Амерыку, роўна як Паўночную, так і Паўднёвую. На Усход — перасяленне ў Сібір. Паводле звестак «Нашай нівы», ад пачатку стагоддзя да пярэдадня 1-ай сусветнай вайны эканамічная эміграцыя з Беларусі і Заходняй Украіны склала дзесь 1,5 мільёна чалавек. Перасяленне, эканамічная эміграцыя для нашаніўцаў былі тэмамі адной комплекснай праблемы захавання этнасу ад дэструктыўных працэсаў, яго экалогіі, калі абазначаць з'яву паводле сучаснай тэрміналогіі.

Акрамя Уласава, гэтыя тэмы падымалі на старонках «Нашай нівы» Альгерд Бульба і іншыя аўтары. У невялікім артыкуле «Аб перасяленні», стыль якога выдае руку рэдактара А.Уласава, абагульнена і разам з тым канкрэтна акрэслены сацыяльныя прычыны, эканамічная сітуацыя, што прымушаюць беларускага чалавека шукаць працы па-за межамі бацькаўшчыны: «Пайшоў бы наш беларус куды-небудзь на заработкі — дык жа ж няма дзе. Фабрык у нас няма; сваіх багачоў, каб адкрывалі іх, у Расеі таксама няшмат. А заграннічныя багачы-капіталісты, напрыклад амерыканскія, пры цяперашніх парадках у Расею ехаць з грашмі ды заводзіць свае фабрыкі і заводы — баяцца». З сумам канстатуецца: «Нядзіва, што ўцякае ён з роднага краю: там недзе ў далёкай і чужой, але свабоднай старане думае, небарака, знайсці лепшую долю…» Гаворыцца аб неадпаведных абставінах выезду ў эміграцыю, калі «цёмнага мужыка абдзяруць усялякія шэльмы і прыедзе ён у тую Амерыку саўсім голы».

У канцы эцюда выказаны аўтарскі погляд на выезд беларусаў за мяжу ў пошуках працы, альтэрнатыва цяперашняму становішчу: «І гэтак будуць выязджаць у чужыну, пакуль не пераменяцца нашы парадкі, пакуль кожны чалавек не будзе мець можнасці жыць па-людску ў сваёй старонцы і знайсці ў ёй працу і кавалак хлеба»[1].

У маі 1908 г. А.Уласаў на старонках рэдагаванай ім газеты двойчы выступіў з публікацыяй на тэму «Аб земскім самаўпраўленні ў Беларусі». Першы артыкул так і называўся.

Аналізуючы скрупулёзна ўсе віды падаткаў, збіраных у канкрэтнай вёсцы М. і мястэчку Р. ды ува ўсёй Віленскай губерні, Уласаў паказвае, як важна, каб расходныя стацці мясцовага бюджэту размяркоўваліся не «Распарадзіцельным камітэтам, складзеным з чыноўнікаў, прызначаных урадам,

[1] Наша ніва ад 25 кастрычніка 1907 г., № 31.

а мясцовымі выбранымі людзьмі (гласнымі) праз губернскае ды павятовае земскае самакіраўніцтва». На канкрэтных прыкладах сведчыць, што ў губернях з земскім самакіраваннем непараўнальна больш выдзяляецца грошай на асвету, на дапамогу сельскай гаспадарцы. У губернях жа, дзе земства не ўведзена, на школы, павятовыя гарадскія вучылішчы выдзяляюцца непараўнальна меншыя сумы, а на сельскую гаспадарку і нічога не даецца.

«…У нас грашмі распараджаюцца не выбраныя людзі, а чыноўнікі. І наш край так змарнеў, бо не мае земскага самаўпраўлення», -— папулярна тлумачыць, абагульняе публіцыст. У артыкуле ад 19 чэрвеня 1908 г. А.Уласаў прыводзіць звесткі аб агульным стане земства ў Расіі. Між іншым зазначае, што з 77 губерняў яно ўведзена толькі ў 34-ох. На ўскраінах, у дамашніх калоніях царызм не спяшаўся ўводзіць самаўпраўленне. Сталыпін казаў, што інародцы павінны спачатку палюбіць Расію, а затым можна будзе іх ураўняць у правах з рускімі.

Уласаў коратка спыняецца на гісторыі земства ў Расіі, уведзенага пасля адмены прыгону і моцна скарэгаванага, абмежаванага ў 90-я гады, апісвае яго структуру — земскія Сабранні і Земскую управу. Аўтар наракае, што Трэцяя Дума так і не падступілася да прыняцця закона аб земстве, падрыхтаванага Другой Думай, але не прынятага з прычыны яе гвалтоўнага роспуску. «Наш край 45 лет чакае самаўпраўлення і марнее без яго, — піша Уласаў, — цяпер яно патрэбна яшчэ больш, як вады на пажары, бо стала мужыку жыць саўсім цяжка». Развагі завяршае на аптымістычнай ноце: «Калі ж у нас будзе земства, тагды работа закіпіць… толькі ў земстве павінны мець найбольш правоў мужыкі: тады працоўны народ вясковы і местачковы выбярэ ў земства найлепшых людзей (нягледзячы на іх нацыю і веру), абы толькі яны браліся шчыра працаваць для карысці і помачы народу. А такія людзі ў нас знойдуцца!»[1] Менавіта ў абуджэнні грамадскай ініцыятывы, стварэнні грамадзянскай супольнасці бачыў А.Уласаў і яго аднадумцы з «Нашай нівы» заруку прагрэсу, перспектыву развіцця краю, выхаду на правы аўтаноміі.

І яшчэ быў адзін клопат у рэдакцыі «Нашай нівы», Аляксандр Уласаў звычайна браў яго на сябе, — даводзілася адбівацца ад рознага роду «зычліўцаў-дабрахвотаў беларускага народа». Буджэнне ў беларусах пачуцця чалавека і грамадзяніна, публічная, адкрытая гаворка аб іх патрэбах і правах, да чаго непасрэдна і, як паказаў час, дзейсна прычынілася «Наша ніва», выклікала сапраўдны непакой у двух лагерах адразу. З аднаго боку, у носьбітаў і прапагандыстаў афіцыйнай расійскай ідэалогіі.

Ці не першымі трывожны сігнал аб беларускім сепаратызме, яго носьбіце «Нашай ніве» падалі санкт-пецярбургскія «Окраины России». Панура пра беларускую газету і яе працу над сацыяльным і нацыянальным усведамленнем свайго народа азваліся «Варшавский дневник», «Виленский вестник». З асобым азартам абрынуліся на голас, паданы маладымі беларускімі адраджэнцамі, кожнае паасобку перыядычныя выданні адкрыта чарнасоценнага толку «Крестьянин» Кавалюка, «Минское слово» Шмідта, «Запад-

---

1 Наша ніва ад 19 чэрвеня 1908 г., № 12.

норусская жизнь» Саланевіча. Убачылі ў «Нашай ніве» рэальную пагрозу сваёй місіі быць тут ахоўнікамі царскага самаўладства, дзяржаўнай рускай ідэі, чыннікам дэнацыяналізацыі беларусаў, перарабляць іх згодна тэорыі трыадзінства рускага народа, заходнерусізма на «истинно русских людей». Практычна ж, беспардонна паклёпнічалі на цэлы народ, страчылі звычайны данос на нашаніўцаў, беларускае адраджэнне, якое паволі набірала форму досыць шырокага, арганічнага культурна-грамадскага руху.

Ва унісон і ў адначассі з абрусіцелямі з казённых газет загаманіла пра беларусаў, іх духоўнае адраджэнне і мясцовая польская прэса. «Kurjer litewski» злосна абазваў «Нашу ніву» «swistkiem agitacyjnym». «Dziennik wilenski» пісаў, што беларушчыну гвалтам прыдумалі, як была рэвалюцыя, каб «цкаваць беларуса проці паноў і палякаў».

У разгорнутай передавіцы ад 25 красавіка 1908 г., падпісанай А.Уласавым, спакойна і годна сцвярджалася: «І абрусіцельныя і ісцінна-польскія газеты ніяк не хочуць прызнаць, што беларусы маюць права жыць як асобная нацыя, стараюцца запыніць беларускі народны рух адраджэння». Рэдактар «Нашай нівы» з уласцівым яму досціпам і гумарам развенчвае намаганні ўрадавых газет і аўтараў польскіх перыёдыкаў несумненнымі падтасоўкамі скампраментаваць папулярнае беларускае выданне. У сваім адказе цэламу хору праціўнікаў самаідэнтыфікацыі беларусаў ён спакойна, з годнасцю сведчыць: «Беларусь, як ведама, ляжыць між Польшчай і Вялікарасіяй. І з палякамі і з рускімі беларускаму народу прыходзілася стыкацца з даўніх часоў, ды гэта ёсць і цяпер. Са стараны Расеі да нас прыходзіць нямала добрага: вялікарусы маюць сваю вялікую культуру; думкі лепшых рускіх людзей аб свабодзе, аб правах чалавека, як свет сонца, шмат памаглі прабудзіцца нашаму краю і мужыку-беларусу ад векавечнага сну… Ад рускай культуры мы бяром навуку, знанне абема рукамі… Ізноў жа Польшча таксама мае вялікую культуру, і беларусам вельмі добра скарыстаць з гэтага колькі можна. …У Беларусі ёсць многа вучоных культурных палякаў дый такі жа рускіх, што ўжо зжыліся з нашым краем, працуюць для дабра яго. А яшчэ жыве тут не мала жыдоў, каторыя зрабілі тое, што ў нас добра настроены ўсякі гандаль, ды можа ад гэтага не змарнеў дагэтуль саўсім край беларускі».

Аўтар не прамінае мажлівасці адзначыць памяркоўнасць ў характары беларуса: «Можам пахваліцца, што нашы беларусы не грызуцца ні з кім, не цісnуць нікога, не паддаюцца намовам ворагаў згоды меж народамі». Пасля разваг на ўзроўні нязмушанай, простай бяседы Уласаў заключае цвёрда і пэўна: «Няма на што беларусу рабіцца рускім ці палякам: ён можа застацца беларусам і астанецца»[1].

Публіцыстычны адказ рэдактара палітычным апанентам беларускага адраджэння праз пару тыдняў, у 12-ым нумары «Нашай нівы» быў падмацаваны паэтычным словам. У якасці передавіцы ад 19 чэрвеня 1908 г. рэдакцыя змясціла верш Янкі Купалы «Ворагам беларушчыны», адзін з узораў

[1] «Наша ніва» ад 25 красавіка 1908 г., № 9.

грамадзянскай лірыкі паэта. Купала быў менш далікатны з апанентамі права свайго народа на будучыню:

…Напасцяй, лаянкай напраснай
Грудзей не варта мазаліць!
Не пагасіць вам праўды яснай:
Жыў беларус — і будзе жыць!
Не столькі «хамскія» натуры
На карках вынеслі сваіх!
І свіст даношчыкаў пануры,
Паверце, не запудзіць іх!

Для абароны ад наскокаў чарнасоценцаў, іхай правакацыйнай хлусні рэдактару «Нашай нівы» ды іншым супрацоўнікам беларускай дэмакратычнай газеты адводзілася вяртацца яшчэ не раз. У перадавіцы ад 28.8.1908 г., аналізуючы ход з'езду казённых патрыётаў у Вільні, А.Уласаў даваў волю сваёй неардынарнай прыроднай іроніі. У артыкуле «Апошні адказ…» высвечана авантурная палітычная кар'ера Лукі Саланевіча, трапна высмеяны аргументы нападак пісак з яго выдання, перайменавага з «Западнорусской жизни» у «Белорусскую жизнь», а галоўны акцэнт зроблены на пазіцыі «Нашай нівы», характары яе працы і сувязі з народам». Заяўлена аб'ектыўна і з годнасцю: «Нашу ніву» і рэдакцыю яе знаюць тысячы людзей у Беларусі і ў Расеі. У 1910 г. у ёй было надрукавана ўжо 666 карэспандэнцый і гэта быццам 666 каранёў, каторымі «Н.Н.» урасла ў родную зямлю, звязала нас з Краем Беларускім у адно цэлае. Газета ўзрасла, беручы сілу з глухіх беларускіх вёсак і мястэчак, а каб збудаваць такі аграмадны будынак як адраджэнне вялікага беларускага народу, трэба было нялічаных ахвяр і доўгай цяжкай працы грамады людзей. І гэтыя людзі смела могуць глядзець у вочы ўсім і не баяцца суду гісторыі»[1].

Для такога сцвярджэння былі ўсе падставы. Газета мела адкрытае людзям, праўдзіва-дэмакратычнае аблічча, паспяхова ішла да шырокага чытача, выклікала натуральны рэзананс у народзе, мела паўнавартасную зваротную сувязь. Аб усім гэтым навочна сведчылі змешчаныя матэрыялы, склад карэспандэнтаў з месц, водгукі, надсыланыя ў рэдакцыю.

Што да вядомасці, можна сказаць, актыўнай прысутнасці «Нашай нівы» ў розных кутках Беларусі, то пацвярджае сказанае адмысловая сталая рубрыка ў газеце «З Беларусі і Літвы». Яна звычайна займае значную газетную плошчу, прынамсі большую, чым рубрыка «З усіх старон», у якой асвятляліся падзеі ва ўсёй Расіі і свеце. Стараннем шматлікіх дапішчыкаў не толькі з большых беларускіх гарадоў, але і з мястэчак, вёсак і нават асобных ваколіц змяшчалася інфармацыя аб розных праблемах ды праявах мясцовага жыцця, сацыяльных, бытавых, мастацкіх.

Уражвала геаграфія кантактаў рэдакцыі «Нашай нівы». У яе пісалі, прасілі прысылкі выдання палітзняволеныя з Сібіры і Архангельскай

[1] Наша ніва ад 5 лютага 1911 г., № 5.

губерні, чыгуначнікі з Краснадарскага краю, студэнты з Глухаўскага настаўніцкага інстытута, Юр'еўскага універсітэта, сельскагаспадарчых інстытутаў у Маскве і Пулавах (Польшча), сяляне з Ашмяншчыны, Дзісеншчыны, Міншчыны, Слонімшчыны... У віншаваннях, надсыланых у рэдакцыю з нагоды трох-сёмых угодкаў выхаду газеты, — не толькі удзячнасць за ахвярную працу яе чальцам, але і разуменне ролі выдання для асветы народа, яго будучыні.

«Трохлетняя гадаўшчына жыцця «Нашай нівы» — ціхае, але дарагое святло для ўсіх тых, хто шчыра горача спачуваюць адраджэнню нашага краю. ...Мэта ясная, пачатак сапраўднага жыцця беларускага народа ўжо пакладзен», -— пісалі з Мінска[1].

«Што б не казалі проці вас ворагі беларускага слова, верце і ведайце, што ўсе тыя, што любяць народ, лічаць вашу працу святой...» — тэлеграфавалі студэнты Феадасійскага настаўніцкага інстытута, сярод іх Сымон Рак-Міхайлоўскі, Андрэй Якубоўскі, будучыя дзеячы Адраджэння, змагары за беларускую дзяржаўнасць[2].

Асаблівай пранікнёнасцю ды палётам думкі ў будучыню вылучалася ўгодкавае вітанне «Нашай нівы», прысланае паліткатаржанамі з Сібіры: «У дзень шостых ракавін існення «Нашае Нівы» віншуем Рэдакцыю і супрацоўнікаў з вялікім святам нараджэння першае нашае газеты. Ад шчырага сэрца зычым Вам здольнасці і моцы ў вашай вялікай сумленнай працы. Ужо пакрытая буйной збажыною шуміць і рунее некалі мёртвая і нязычлівая наша Маці-Ніва. Хай жа расце і мацнее, няхай красуе і спяе на шчасце, на долю, на карысць, на спажытак сэрцу і розуму нашага народа! Будуйце, браты, будуйце! ...Час недалёчка, прачнецца народ наш ды сам ён, вялікі пакутнік, вялікае скажа Вам дзякуй!»[3]

Разгорнутае пасланне палітычна ссыльных А.Прушынскага, Я.Лёсіка, А.Капусціна, Я.Усціновіча, як і іншых чытачоў «Нашай нівы», уключала разуменне цярністасці шляху першай беларускай газеты.

Цкаванне «Нашай нівы» правай праўрадавай прэсай было толькі адной, далёка не самай страшнай з праяў адносін царызму да беларускага перыядычнага выдання. Цяжэй было нашаніўцам, як і ўсім праціўнікам састарэлага царскага рэжыму, бараніцца ад рэпрэсій яго ахоўных ведамстваў.

Як газета дэмакратычная па сваёй сутнасці, аб'ектыўна апазіцыйная царскаму самаўладству, «Наша ніва» падлягала пільнай увазе цэнзурнага камітэта і вышуковых органаў дзяржавы. Сачылі перш за ўсё з Санкт-Пецярбурга: «Петербургский комитет по делам печати, -— дакладвалася ў адпаведныя органы па месцу выдання газеты, -— имеет честь препроводить по принадлежности в Виленский временный комитет по делам печати отношение начальника С-Петербургского жандармского Полицейского

[1] Наша ніва ад 19 лістапада 1909 г., № 47.

[2] Тамсама.

[3] Тамсама ад 16 лістапада 1912 г., № 46.

управления железных дорог от 29 мая с.г. за № 3880 с приложением 6 экзм. №№ 15—18 газеты на белорусском языке «Наша ніва»[1].

Наступны дакумент афіцыйных улад у дачыненні «Нашай нівы» мае на ўвазе ўжо канкрэтныя карныя вынікі. Гучыць ён як усялякая казённая папера ў адпаведнасці з бюракратычнымі нормамі, а галоўнае выяўляе стаўленне ўлады да цэлага народа:

«Господину прокурору Виленской судебной палаты.

В № 12-м выходящей в г. Вильно на белорусском языке еженедельной газеты «Наша Нива» от 23 марта текущего года (1907. — А.Л.) между прочим напечатана передовая статья «Государственная дума». В этой статье автор производит извращение содержания прений во время заседаний с 12 по 19 марта крайне тенденциозно, в искаженном виде с очевидной целью воздействовать на малокультурный белорусский народ»[2].

Натуральна, Віленскі часовы камітэт па друку неадкладна рапартуе наверх, што ім угледжана ў змесце адзначанай публікацыі «преступление, предусмотренное пп. 1-й 3 ст. 129 Уголовного Уложения, а также п. 1 ст. 28 «Уложения о наказании», адпаведна накладзены арышт на № 12 «НН» і ўзбуджана справа «на предмет уголовного преследования против редактора-издателя А.Власова»[3].

На канфіскаты 1907 г. быў для «Нашай нівы» нябедны. Акрамя ўжо ўпамінаных вышэй нумароў яе канфіскаваліся яшчэ 8-ы, 9-ы. Пры гэтым канфіскацыя газеты ад 13-га лютага 1907 г. насіла асабліва мітуслівы характар у канторах улады і пагражала рэдактару-выдаўцу годам сібірскай ссылкі-катаргі. У дзень выхаду газеты з канцэлярыі Віленскага губернатара паступіла распараджэнне паліцмейсцеру горада «сделать немедленное распоряжение о конфискации в редакции, типографии, киосках и газетчиков, продающих на улицах вышедшего сегодня 23 февраля № 8 газеты на белорусском наречии «Нашай Нивы», так как на означенный номер этой газеты мною наложен арест»[4].

У архіве знакамітага адваката Тадэвуша Урублеўскага, вядомага з абароны лейтэнанта Шмідта і рэвалюцыйных матросаў, захоўваецца абвінаваўчы акт на рэдактара-выдаўца «Нашай нівы» Аляксандра Уласава, складзены 13 ліпеня 1907 г.[5] Судзебнае разбірацельства адбылося, аднак, толькі ў студзені 1910 г. Ці гэта вынік перагружанасці палітычнымі судамі ў перыяд сталыпінскай рэакцыі, ці выдаткі судовай бюракратыі, -— з пэўнасцю сказаць цяжка.

Судовая расправа над рэдактарам чынілася не ў акруговым судзе, а ў Віленскай судовай палаце. Публікацыя «Дума і народ» кваліфікавалася як злачынства, якое падлягае пакаранню згодна артыкула 129 п. 1 і 2 1-ай часткі

[1] ЦДГА Літвы, ф. 601, воп. 1, спр. 4, л. 11.
[2] Тамсама, ф. 601, воп. 2, спр. 4, л. 24.
[3] ЦДГА Літвы, ф. 601, воп. 2, спр. 4, л. 24—24 адв.
[4] Тамсама, л. 32.
[5] НБ АН Літвы, ф. 155, т. 5, спр. 250.

Угалоўнага Улажэння. Знанаму адвакату Тадэвушу Урублеўскаму, вядомаму з іншых палітычных працэсаў, удалося змяніць юрыдычную кваліфікацыю судовай справы з артыкула 129 на 132 і тым самым зменшыць падсуднаму да двух месяцаў крэпасці[1].

Абвінавачанне ж аб распаўсюджанні з падачы А.Уласава ў мястэчку Шэрвінты забароненай цэнзурай літаратуры ў судзе «рассыпалася»: на складзе рэдакцыі «Нашай нівы» гэтых выданняў не знайшлі і па гэтай лініі рэдактар быў апраўданы. У тэрмін, прызначаны для адсідкі, Аляксандр Уласаў з сумкай, дзе ляжалі пісьмовыя прылады ды пішчая папера, загрукаў у турэмную браму не без надзеі папрацаваць у цішыні камеры над найактуальнымі для яго ў тым часе тэмамі зямельнага ўпарадкавання і земскага самакіраўніцтва ў Беларусі. Быў глыбока перакананы, што нават урэзанае ў сваіх правах земства ёсць першай прыступкай да грамадскай супольнасці, развязання ініцыятывы, без якой, кіруемае чыноўніцтвам, грамадства асуджана каснець у мёртвай казёншчыне, духоўнай немачы і рэгрэсу.

Чалавек грамадска заангажаваны, дасведчаны ў многіх праблемах жыцця, Аляксандр Уласаў дасканала разбіраўся ў грамадска-палітычнай сітуацыі імперыі, добра бачыў яе лад-нелад. У яго артыкуле «Аб мужыцкай зямельнай справе ў Віленскай губерні» пасля канкрэтнага разгляду ў цыфрах, працэнтах зямлі ў сялян па паветах ідзе развага з улікам рэальнасці: «…Каб памагчы выбіцца з бяды ўсёй вялізнай грамадзе малазямельных сялян, трэба так ці гэтак даць ім зямлі. Але гэтага скора спадзявацца нельга; вось значыць, цяпер мы павінны ўсе сілы звярнуць на тое, каб палепшыць мужыцкую гаспадарку, каб на ёй мужык не сядзеў голадам. …Але ўсё гэта можа ўдацца толькі тады, калі будзе ў нас самаўпраўленне — губернскае, уезнае і валаснное, калі будзе мудрае і свабоднае ўстройства ўсяго жыцця, калі ўсе лепшыя і з навукаю людзі нашага краю будуць дапушчаны да грамадскай работы, выбраныя на гэта грамадзянствам»[2].

Аўтарам глыбока ўсведамлялася адсталасць палітычна-грамадскай сістэмы царскай Расіі. Перспектыва развіцця краіны, у тым ліку і Беларускага краю, бачылася ім у дэмакратызацыі жыцця грамадства, вызваленні яго жывой энергіі ад гамуючых рычагоў закаснелага рэжыму.

Уласаў паслядоўна бачыць узаемасувязь актуальнай аграрнай праблемы з агульным грамадскім уладкаваннем у дзяржаве, прыярытэтамі яе кіраўніцтва. У перадавіцы «Зямля і самаўпраўленне» ад 7 чэрвеня 1909 г. ён робіць цікавы гістарычны экскурс, звяртаецца да вопыту больш развітых краін у вырашэнні зямельнага пытання. Нарэшце, на падставе навуковых росшукаў праф. Доўнар-Запольскага гаворыць пра пэўны досьвед у гэтым, здабыты ў самой Беларусі. Але перш-наперш напамінае, што падчас рэвалюцыі 1905 г. усе палітычныя партыі мелі канкрэтныя праграмы ў дачыненні зямельнага пытання. Цяпер, маўляў, вось і ўрад аб'явіў аб зя-

[1] Суд над рэдактарам «Нашай нівы» // Наша ніва ад 28 студзеня 1910 г., № 5.

[2] Наша ніва ад 29 красавіка 1909 г.

мельнай рэформе, куплі зямлі для сялян праз сялянскі банк, а справа не йдзе, і гэта Уласаў паказвае на прыкладзе Віцебскай губерні. Згадвае, як пасля напалеонаўскіх войнаў нямецкі рэфарматар Штэйн здолеў падняць, паставіць на ногі селяніна ў Германіі.

Упершыню сярод сучасных аўтараў аграрнай літаратуры, публіцыстаў Уласаў згадвае «вялікую зямельную рэформу», зробленую ў нас 350 год таму, калі сялян, што сядзелі на княскай зямлі дварышчамі, перасялілі ў вёскі на валокі, няскупа прырэзаўшы да тых выдзеленых валок казённых грунтоў. Тады былі складзены інвентары, дзе ўлічваліся зямельныя надзелы і ўсё майно кожнага сялянскага двара. І сапраўды нельга не падзяліць з аўтарам подзіву, як у час, калі зямельныя дзялянкі мералі лыкавымі «шнурамі», удалося правесці нарэзку мільёнаў дзесяцін зямлі, ажыццявіць перасяленне ўсёй сельскай масы народа, рэалізаваць вялізны, проста грандыёзны план добра, мудра. Праўда, і Уласаў гэта агаворвае, што здзейснена «Устава на валокі» была яшчэ да ўвядзення прыгоннага права з яго дэмаралізуючым для паноў і прыгонных цяжарам[1].

Рэдактара «Нашай нівы» стала цікавілі праблемы жыцця воласці як, так сказаць, нізовага звяна адміністрацыйнай структуры. Па-першае, воласць была першасным асяродзішчам пражывання асноўнай масы народа і перадусім блізкага Уласаваму сэрцу мужыка-земляроба. Па-другое, у яе грамадскай структуры адлюстроўваліся ўсе працэсы і заканамернасці, уласцівыя дзяржаўнаму арганізму як цэламу. Разглядаючы праблемы жыцця воласці, Уласаў сачыў іх у кантэксце калі не ўсёй краіны, то, прынамсі, Беларускага краю. У аснову браў найчасцей больш даступны і даставерны матэрыял Радашковіцкай, сваёй, так бы мовіць, хатняй воласці.

Адна з першых такіх публікацый А.Уласава пад назваю «Палажэнне мястэчак на Белай Русі», падпісаная псеўданімам «Радашкоўскі», з'явілася яшчэ ў 1-ым нумары «НН» за 1908 г. Партрэт заштатнага горада Радашковіч (мястэчку быў нададзены без карысці для яго, бралі лішні падатак, такі статут) атрымаўся, што называецца, з натуры і к таму ж аналітычны, сацыяльны. У агульным каларыце яго і элегія і іронія: «калі б наш увесь край не спаў мёртвым сном, то і мястэчкі зрабіліся бы цэнтрамі, адкуль мог бы йсці ў вёску і свет і навука. А цяпер у мястэчках мужык можа знайсці толькі манапольку…» І далей эканамічныя рэаліі ў такіх дэталях: «У Радашковічах 350 дамоў: з іх сто «багатых» і 250 — бедных. Я сказаў «багатых», але гэта не значыць, быццам яны мелі тысячы: у беларусаў кожнага, хто заўсягды мае яду, сыты, называюць «багатыром», а бедным лічыцца такі, што сягоння з'еў ды не ведае, ці будзе што есці заўтра».

А вось што да сацыяльнай характарыстыкі мястэчка, адносін улады да яго, то Уласаў абапіраецца на лічбавую канкрэтыку, статыстычныя даныя. Бярэ агульную суму падаткаў 3942 руб. і паказвае, колькі і на што ідзе капеек з кожнага рубля: на ўтрыманне адміністрацыі, на паліцыю, на казённыя патрэбы, дарэчы, найбольшы расход, і, нарэшце, на выкуп гарадской

[1] Наша ніва ад 7 верасня 1909 г., № 39.

зямлі («крулеўшчыны»). На карысць саміх жыхароў з кожнага рубля ідзе 17 кап. «З кожнага рубля даходу, -— падкрэслівае аўтар, -— 83 кап. выходзяць з мястэчка»[1].

Калі ў эцюдзе, прысвечаным мястэчку, на прыкладзе Радашковіч дадзены агульны яго партрэт, паказана функцыянальная прырода, абазначаны некаторыя актуаліі, то ў публікацыі «Да будучай усестанавай воласці» ў двух нумарах «НН» Уласавым пастаўлена вострая сацыяльная праблема, разгорнута грунтоўная аналітыка. Але Аляксандр Мікіціч Уласаў не быў бы самім сабой, каб нават паважную, акадэмічную дылему вырашаў бы без гумару, досціпу. Гумар, скажам наперад, не пакідаў яго ні ў польскім лагеры для інтэрнаваных Стшалкова, куды трапіў у 1922 годзе, ні ў савецкай турме ў Вілейцы пасля праблематычнага вызвалення ад палякаў Заходняй Беларусі ў 1939-м. Але ўсё гэта было далёка наперадзе ў параўнанні з часамі «Нашай нівы».

Уздымаючы паважную праблему аб тым жа сацыяльна-эканамічным становішчы воласці ў Расіі, Уласаў не мог не паіранізаваць з усёй дзяржсістэмы імперыі, у тым ліку працы парламенцкага прадстаўніцтва, Думы. «Усе бакі жыцця расейскага гасударства, — пісаў ён, — патрабуюць вялікіх перамен. Вось ужо пяты год збіраюцца рабіць рэформы. У пецярбурскіх канцылярыях пякуць праекты, але выходзяць яны нейкія нежывыя, далёкія ад жыцця. У думскіх камісіях, каторыя трохі менш аддзелены ад жыцця, таксама апрацоўваюць праекты. Але, відаць, і тут для іх клімат нядобры: няскора яны даспяваюць».

Карціна жыцця Радашковіч і Радашковіцкай воласці, перададзеная аўтарам мовай лічбаў, мае сягоння, зразумела, значэнне адно хіба што культурна-гістарычнае. Але, пэўна, цікава прамовіць да сэрца сённяшніх радашкавічан, неабыякавых да гісторыі свайго гарадскога пасёлка і яго ваколіц. На 1909 г. у Радашковічах пражывала 2400 жыхароў. На 367 сяліб мяшчан прыпадала 1400 дзесяцін зямлі. У воласці без уліку местачкоўцаў жыло 7 тысяч 300 жыхароў-сялян, 1042 душы памешчыкаў, дробнай шляхты і прадстаўнікоў іншых станаў.

Мужыцкай зямлі, карыстаючыся тэрміналогіяй аўтара, налічвалася 10 тысяч 133 дзесяціны, памешчыцкай, дробнай шляхты і іншых станаў — 13 тыс. 668 дзесяцін. Яшчэ названы памеры казённай і царкоўнай. І пры ўсім дадзена ў лічбах дзяржацэнка зямель. Што характэрна, што сялянскія надзелы разам складалі без мала траціну абшараў маёмасных ды багацейшых станаў, а цанілася яна амаль такой жа цаной, як і памешчыцкія. Далей Уласавым высвятляецца, што селянін за 1 дзесяціну зямлі плаціў падаткаў 69 з лішкам капеек, а абшарнікі і дробныя шляхціцы (187 сяліб) — каля 20 кап. За няўдобіцу памешчыкі і шляхта нічога не плацілі. Мужык жа ападаткоўваўся і за балота і імшарыну.

Пасля высвятлення агульнага расходу воласці ў 4567 рублёў дае Уласаў вельмі наглядную, на 9 артыкулаў (пазіцый) расходную частку бюджэту

[1] Наша ніва ад 7 студзеня 1908 г.

яе. Лічбы, як казаў той, красамоўныя. Асабліва па некаторых расходных пазіцыях. Так, напрыклад, на валасную адміністрацыю, памяшканне пад яе, канцылярыю расходавалася каля 1649 рублёў, на паліцыю — 526, крыху менш на медыцыну і столькі ж на асвету, як і на паліцыю. Дарэчы, існавала прымусовая падпіска на «Виленский Вестник», «Виленские губернские ведомости», «Сельский Вестник». Здаецца, відаць вельмі добра, што бюракратыя ў Расіі была заўсёды на вышыні, пачынаючы ад самага ніжняга звяна адміністрацыйнай лесвіцы. Спадчына нялёгкая для пераадольвання.

Калі б зрабіць воласць усестанавай ды завесці земства, аблажыць усе землі роўна падаткам 30 кап. з дзесяціны, то валасны бюджэт узрасце ў цэлым да 11 тысяч, -— разважае Уласаў. Па асобных справах клопат павінны будуць узяць на сябе адпаведна павятовае і губернскае земствы (аўтар гэтыя пункты ўсе канкрэтызуе). З 11 тысяч тры тысячы пойдзе на «старыя цяжары», а восем, паводле разрахункаў аўтара, застаюцца на новыя рэчы, якіх «наша воласць ніколі не бачыла ў вочы, хоць яны на гвалт патрэбны: гэта дарогі, вышэйшыя школы, бібліятэкі, прытулкі для сірот і старых, помач і розныя ўстройствы для сельскай гаспадаркі і шмат чаго карыснага»[1].

Разгледжаная публікацыя А.Уласава ў першай сваёй частцы падпісана двума аўтарамі, пазначанымі ініцыяламі А.У. і А.С. Уласаў сааўтар лёгка дэшыфруецца. А.С. — гэта ініцыялы Андрэя Сніткі, гісторыка і краязнаўца, у дадатак швагра Аляксандра Мікіціча. За Сніткам замужам была яго сястра. Снітка быў не толькі спагаднікам беларускага адраджэння, але і ўспамагаў яго практычна. Калі было цяжка з паперай, друкам «Нашай нівы» і не меў змогі нешта зрабіць асноўны эканамічны, кажучы сённяшняй мовай, дырэктар выдання няўрымслівы Іван Луцкевіч, то выручаў Снітка: у яго было ладна зямлі і ён мог дазволіць сабе вылучыць памяшканне на мясцовую вучэльню, даць нейкі грош на беларускую газету. У Сніткі Уласаў прыймаў сваіх найбольш імянітых гасцей — акадэміка Шахматава, рускага кітаязнаўца Аляксеева, кампазітара Людаміра Рагоўскага. Сядзіба ж Уласава была сціплейшая, менш камфортная.

Мяркуючы па публікацыях, нягледзячы на суд, крэпасць, 1910 г. быў, бадай, самым плённым для Аляксандра Уласава з усяго нашаніўскага часу. Пісаў ён з нагоды праходжання ў Дзяржддуме закона аб земскім самаўпраўленні для заходніх губерняў, пра бюджэт народнага настаўніка, пра становішча сельскага парабка ў Нямеччыне, яго правы. Удзяляў увагу такім практычным рэчам, як дробны крэдыт і хаўрусныя банчкі, абаротны капітал у Беларусі. Асобная ўвага аддавалася ім якраз эканамічнаму становішчу Беларускага краю. З загалоўкамі рэдактар не мудрагеліў. Большая публікацыя яго за 1910 год так і называлася «Аб эканамічным палажэнні нашага краю».

Уласаў узяў даходныя артыкулы па Віленскай губерні на 1908 год з зямлі, фабрык і промыслу, з акцызу на спірт, табаку, газ, зборы з мыту, гербавыя, судовыя, страхоўкі, розных пошлінаў, пошты, тэлеграфа і тэлефона, з казённых лясоў і чыгункі, агульным лікам 12 мільн. 295 тыс. З іх ад манапалькі —

[1] Наша ніва ад 2 жніўня 1909 г., № 34 і №№ 35 і 36 ад 16 верасня.

5 мільн. 180 тыс. Расходы размяркоўваліся такім чынам: на свяшчэнны сінод ішло першым радком, на суды, на асвету, на міністэрства ўнутраных спраў. Самыя большыя расходныя артыкулы складалі ваеннае міністэрства, чыгунка. Агульная сума расходаў складала 29 мільн. 714 тыс. Уласаў паказвае, што дэфіцыт бюджэту ствараўся ў асноўным з выдаткаў на ваеннае міністэрства (8 мільн. 711 тыс.) і чыгунку (11 мільн. 396 тыс.). Даная выкладка нешта можа сказаць эканамісту і гісторыку. Аўтар публікацыі адначасна гаворыць і пра капіталы, што за 1908 г. прыйшлі поштай на Беларусь і Ковенскую губерню. Гэта ў асноўным заробкі адыходнікаў з краю, зробленыя імі ў Амерыцы, Пецярбурзе, паўднёвых губернях Расіі. Гэты капітал на 52 мільёны рублёў большы, чым высланы з краю. Уласаў з жалем канстатуе, што «народ у нас ня ўмее яшчэ пусціць сваіх грошай у зварот — у гандаль ці на якую фабрыку». Вясковыя і местачковыя грошы ідуць у казённыя ашчадныя касы пад 4%, а з імі робіць зварот казна. «Тыя грошы, — адзначаў Уласаў, — у нашым краю не робяць звароту і не багацяць яго». На падставе аналізу аўтар робіць выснову, што «для здаровага звароту грошай на мейсцы трэба заводзіць сельскія хаўрусныя (кааператыўныя. — А.Л.) банчкі. Пачатковы капітал ім павінна даваць дзяржава пад малы працэнт»[1].

У характары абароту грашовых сродкаў у краі Уласаў паслядоўна сачыў інтарэсы яго эканамічнага развіцця, думаў аб падняцці ўзроўню сельскай гаспадаркі як асноватворнай для яго эканомікі, асноўнай масы ягоных насельнікаў. У адным з артыкулаў ён з характэрнай аўтарскай цягай да афарызму, вобразнасці гаворыць: «Крэдыт патрэбны не толькі для гандлю, фабрыкі: ён патрэбен і земляробу. Сельская гаспадарка патрабуе не толькі вадзянога дажджу, але і залатога»[2].

У публікацыі «Абарот капіталаў у Беларусі» Уласаў падлічыў, што ў казённых ашчадных касах і прыватных банках ляжыць каля 90 мільёнаў рублёў, г.зн. на аднаго жыхара прыпадае 7 руб. 50 кап., а на адну квадратную вярсту 334 руб. 70 кап. Пры гэтым аўтар са шкадаваннем канстатуе, што «ад ляжачых на адным месцы капіталаў меншая карысць для краю, яго эканамічнае жыццё спіць». Адначасова як добры знак на эканамічнае ажыўленне адзначае факт адкрыцця ў апошнія гады нават у малых мястэчках Беларусі сталых кірмашоў.

У інтарэсах гаспадарчага развіцця краю Уласаў настойліва прапагандуе ідэю хаўрусных банкаў, крэдытных і пазычкова-ашчадных. На фактах паказвае дзейснасць пазычковых крэдытаў у Германіі, Латвіі і Польшчы. Раіць заводзіць іх у кожнай воласці, каб было не як зараз 305 на ўсю Беларусь, а 1008 — адпаведна колькасці яе валасцей. Дае канкрэтныя парады, як гэта зрабіць. А ў канцы адкрыта журыць суайчыннікаў за безыніцыятаўнасць, грамадскую індыферэнтнасць: «Але ў нас такі спячы народ, што нават і гэтага не здумае зрабіць (падаць бланк гатовага, надрукаванага прашэння на адкрыццё хаўруснага банчка. — А.Л.). А наша местачковая і вясковая на-

---

[1] Наша ніва ад 14 красавіка, № 14 і ад 21 красавіка 1910 г., № 14 і 15.

[2] А.У. Дробны крэдыт і хаўрусныя банчкі // Наша ніва, № 41 ад 1910 г.

родная інтэлігенцыя толькі енчыць на сваё жыццё і чакае, пакуль пячоныя галубы самі заляцяць да губы»[1].

Прычыны грамадскай інертнасці народа рэдактару «Нашай нівы», як і кожнаму нармальнаму, думаючаму інтэлігенту, былі, зразумела, вядомыя. Ён не раз называў іх у сваёй публіцыстыцы: цемнату, шматгадовы прыгнёт. Не складаў сакрэту для свядомай інтэлігенцыі накірунак дзяржаўнай палітыкі, ейныя мэты. Сэнс яе недвухсэнсоўна зводзіўся да простай, як слуп, тактыкі — «тащить и не пущать!» Элементарна цягнулі з увядзеннем у заходніх губернях земства, не давалі дазволу адчыніць універсітэт у Вільні, рэпрэсіўна закрытага паўвеку таму назад. Пры выбары ў Дзярждуму дзялілі выбарцаў паводле сацыяльнага стану (саслоўнасці) і паводле веравызнання, свядома, знарок блытаючы апошняе з этнічнай прыналежнасцю.

Улада была пастаянна заклапочана тут палітычнай апекай над даўнімі, з часоў Вітаўта, жыхарамі краю, яўрэямі, стала асцерагалася так званай «польскай інтрыгі». З нацыянальным адраджэннем літвіноў і беларусаў у дадатак сыскны клопат яе павялічваўся. Нашаніўцы ў сваёй газеце не абміналі гэтых праблем, якія ўставалі перашкодамі на шляху развіцця краю.

Усе гэтыя праблемы-турботы не міналі галавы і сэрца Аляксандра Уласава, якому лёсам, самім часам было наканавана клапаціць-працаваць у цесным коле стратэгаў і тактыкаў беларускага адраджэння. Разглядаў актуальныя для жыцця краю пытанні, выказваючыся непасрэдна, канкрэтна, пераканаўча. «У трэцяй Гос. Думе, як толькі заходзіць мова аб нашым краю, то ён неяк лічыцца асобным, напрыклад, земскае самаўпраўленне для нашага краю ўводзіцца з абмежаваннямі, універсітэту ў Вільні не можна адкрыць; па новаму закону даюць правы гарадам і земствам адкрываць курсы розных навук, але па просьбе дэп. Паўловіча ад Мінска ў 9 заходніх губерніях гэтага права не будзе. Адным словам выглядае, як бы 9 заходніх губерняў нейкі пасынак…»

Сэнс такой урадавай палітыкі ды правых дэпутатаў, скіраваны на недапушчэнне ўдзелу ў грамадскім працэсе перадусім яўрэяў і палякаў, лічыць пагубным для краю і марным па сваёй сутнасці: «Так званыя рускія «нацыяналісты»… крэпка памыляюцца, думаючы, што сілай можна павярнуць жыццё краю на свой капыл. Выглядае, што наш край і Літва ніколі не выберуцца з балота нейкіх нацыянальных сварак, «мудрых» рахункаў нанятых і не нанятых «патрыётаў», — пісаў Уласаў у публікацыі «Якая палітыка патрэбна для Беларусі»[2].

Прапаноўваў простую і адзіна прадуктыўную мадэль для перспектыўнага развіцця краю, заснаваную на нацыянальнай талерантнасці, дэмакратычных прынцыпах: «На практыцы думка роўных правоў усім нацыям адразу дае добры ўраджай, — пісаў Уласаў. — Напрыклад, у Вільні, калі робіцца якое бы то ні было таварыства, каторае мае на мэце карысць краю, то бяруць па роўну прадстаўнікоў ад усіх нацый: беларусоў, расейцаў, літвіноў, палякаў

[1] Наша ніва ад 7 кастрычніка 1910 г., № 41.

[2] Наша ніва ад 30 лістапада 1911 г., № 46.

і жыдоў. І выходзіць проста дзіва! Адразу справа шыбка развіваецца, усе дружна працуюць для краю і нікому няма крыўды і кожны працуе шчыра, бо ведае, што яго нацыянальную душу ніхто не калечыць».

Ідэя краёвасці, усведамленне супольнага гістарычнага лёсу ў мінулым, блізкая карэнным прадстаўнікам інтэлігенцыі краю, практычнае духоўнае сужыццё насяляючых яго народаў на гэты час дзейсна валодала свядомасцю рэдактара «Нашай нівы» і іншых інтэлігентаў, беларускіх, польскіх, яўрэйскіх, літоўскіх. Яна ажыццяўлялася на практыцы і нягучна прапагандавалася ў друку, у тым ліку і А.Уласавым: «Няхай жа ўсе людзі, што любяць сваю старую бацькаўшчыну і чуюць на сабе грамадзянскую павіннасць, стараюцца вывесці яе жыццё на роўную дарогу, цвёрда стоючы за ўсё сваё нацыянальнае багацце і разам з тым шануюць чужую нацыянальнасць і прызнаюць іх правы. Толькі адна такая палітыка годна для Беларусі»[1].

У братоў Луцкевічаў і рэдактара Уласава былі надзейныя кантакты не толькі з карэспандэнтамі газеты ў Беларусі ды ўсёй Расіі, лучылі іх прыязныя адносіны з прадстаўнікамі ўсіх нацыянальных супольнасцей Вільні. Было інтэлігентнае ўзаемаразуменне і падтрымка. Польскі вучоны, публіцыст ліберальнай краёвай арыентацыі, а пасля здабыцця літоўцамі незалежнасці доўгагадовы рэктар Каўнаскага універсітэта Міхал Ромер у дзённіку ад 19.11.1911 г. натаваў: «Вечарам у рэдакцыі «Нашай нівы» сабралася грона асоб, скліканых рэдактарам Уласавым для абмеркавання каардынацыі імкненняў і праграмаў паасобных нацыянальных груп у краі. На сходзе тым былі прысутныя прадстаўнікі ўсіх краёвых народнасцяў. Ад палякаў — Вітольд Абрамовіч і я, ад беларусаў — браты Луцкевічы і Уласаў, ад літоўцаў — Слажэвіч, Кішка і Кайрыс, ад габраяў — Эліяш Ром і ад расіян — Краскоўскі. Пасля абмену думкамі, якія засведчылі, што ўсе прызнаём патрэбу пэўнай каардынацыі…, вырашылі імкнуцца да стварэння якойсьці супольнай інстытуцыі».

Яднала старая Літва, агульная гісторыя краю, яднала думкаю-мараю аб дэмакратычнай будучыні яго. Збіраліся дзеля актуальнага грамадскага клопату. Дзённікавы запіс М.Ромера ад 21.1.1912 г. згадвае аб сумесным старанні інтэлігенцыі пра заснаванне ў Вільні Таварыства дробнага промыслу і народнага мастацтва, ініцыянаванага А. Уласавым: «…пераклаў для «Przeglądu» артыкул Уласава аб эміграцыі ў Амерыку, потым перакладаў з польскай на рускую статут Таварыства дробнага промыслу, дапаўняючы яго ўстаўкамі адпаведна нашых патрэбаў. Статут гэты павінен служыць узнікненню тут, у Вільні, Таварыства падтрымкі дробнага промыслу і народнага мастацтва; над заснаваннем такога Т-ва рупіцца Уласаў, рэдактар «Нашай нівы», і, здаецца, вынік будзе. Хоча ён яшчэ сёлета пад фірмай гэтага Та-ва адкрыць выстаўку промыслу і мастацтва, больш-менш такую, якая была летась праектавана нашай групай на чале з Рушчыцам».

У адным з запісаў ад 20 лютага 1911 г. М. Ромер засведчыў сваё бачанне супрацоўнікаў беларускай газеты, іх самаадданасць справе беларуска-

[1] Тамсама.

га Адраджэння. Выказванне гэта цікава як погляд з боку, погляд сучасніка нашаніўцаў: «Пару гадзін вечарам правёў сёння ў Беларусаў у «Нашай ніве». Гурток рэдакцыі «Нашай нівы» для мяне — адзін з найсімпатытнейшых асяродкаў у Вільні. Ёсць у іх вялікая шчырасць волі, вялікая адданасць справе, якую не лічаць адно механічнай працай, фахам, а жывой творчасцю, эманацыяй іх жыцця, энергіі, волі. Яны цалкам уключаны ў сваю справу, ёю адной жывуць. Усе адначасова з'яўляюцца людзьмі выразна вызначанымі, характэрнымі індывідуальнасцямі. Няма ў іх шаблону зборнасці. Гэтая іхная самаістая індывідуальнасць тлумачыцца ўласна тым шчырым, добрасумленным стаўленнем да справы. У жывой дзейнасці індывідуальнасць не нівелюецца, а якраз, развіваючыся і становячыся нагляднай, дасягае паўнаты» (ЦБАН Літвы. АР, ф. 138).

У 1912-ым, як і ў мінулыя гады, Уласаў на розны спосаб будзіруе пытанні аб зямлі і асвеце народа. «…Праграма народнай школы (філалагічна-схаластычная) вымагае вялікай рэформы. Трэба школу прыблізіць бліжэй да жыцця і яго патрэб, а найбольш да жыцця хлебароба», — піша ў публікацыі «Што думаець народ аб школах». Пасля разваг і аргументаў заключае простым глыбокасэнсавым імператывам: «Школа павінна быць блізкая да жыцця, родная, у роднай беларускай мове і вырабляць з хлопцаў не панічоў, каторыя сваіх родных бацькоў «хамамі» і «мужыкамі» называюць, а практычных і карысных свайму краю грамадзян і праўдзівых людзей, не адразаючы іх ад роднай хаты і народа»[1].

На пачатку 1912 г. Аляксандр Уласаў спярша агучвае публічна, а затым і рэалізуе практычна выданне месячніка, прысвечанага адмыслова сельскай гаспадарцы, часопіса «Саха».

Яшчэ гады за чатыры перад гэтым рэдакцыя «Нашай нівы» разаслала падрыхтаваную Уласавым анкету, каб высветліць становішча сялянскіх гаспадарак на Беларусі і Літве[2]. 29.02.1912 г. будучы рэдактар «Сахі» даў анонс, які пачынаўся са слоў: «Сельская гаспадарка — гэта фундамент жыцця ўсяго нашага Беларускага краю. За апошнія гады ў нас сельская гаспадарка, вясковая і дворная, моцна пайшла ў гару». Як на сведчанне пэўнага зруху спасылаецца на з'ездзе селекцыянераў у Пецярбургу, дзе «Беларусь залічана да раёнаў з даволі высокай гаспадаркай». Гаворыць аб новых рынках збыту і адначасна пра тое, што даводзіцца кожны год закупляць 17 мільёнаў пудоў хлеба са стараны. Тым самым падводзіць, так бы мовіць, базу пра неабходнасць перыядычнага выдання, у якім будзе мажлівасць абменьвацца здабыткамі практыкаў і вучоных людзей у галіне сельскай гаспадаркі. «Каб дабіцца сваёй мэты, рэдакцыя «Сахі», — пісаў Уласаў, — зварочваецца да ўсіх нашых гаспадароў, каб яны памаглі нам сваёй практыкай і гаспадарскай мудрасцю»[3].

---

[1] Наша ніва ад 26 студзеня 1912 г., № 2.

[2] Дарэчы, пра гэты факт сведчыў у М.Ромер у лісце ад 30 верасня 1908 г. да краязнаўца і археолага В.Шукевіча ў Начы на Лідчыне // Biblioteka narodowa. 1929. С. 46.

[3] Наша ніва ад 29 лютага 1912 г., № 7.

Аб тым, што праект набыў рысы рэальнага выдавецкага плана, сведчыў зварот рэдактара-выдаўца да патэнцыйных чытачоў прысылаць на адрас рэдакцыі паштоўкі-заяўкі на месячнік сельскай гаспадаркі, абазначаная цана нумару — 8 кап.

Першы нумар першага беларускага сельскагаспадарчага часопіса пабачыў свет у красавіку 1912 г. у Вільні. З восені 1913 г. выданне перамясцілася ў Мінск. Вясною 1913 г. на заваяванне Мінска, перадаўшы рэдагаванне «Нашай нівы» Янку Купалу, выправіўся сам рэдактар-выдавец новага беларускага выдання. Пра матывы сваіх пярэбараў жыва, па-пісьменніцку ўзнаўляючы эмацыянальны стан і грамадскі фон іх, Аляксандр Уласаў расказаў у сваіх, на жаль, нясконченых успамінах. У трэцім раздзеле іх «Менск-беларускі 1912—1913 гг.» ён у гумарной сваёй манеры пісаў: «Гарачыя, цяжкія і ахвярныя даты ад 1906 г. у Вільні, калі беларускі рух трэба было цягнуць за валасы, прайшлі. З крыніцы, ручайка, ён зрабіўся ракой, каторая рабілася ўсё магутней і піталася ўлівамі шырэйшых мас. Я любіў Менск больш Вільні. З Крашчэнскай альбо Захараўскай быў відаць агромны кругазор, з сінеючымі ў далі барамі-лясамі — гэта таямнічая і спячая Беларусь.

Кампанія нашаніўцаў ўсё думала аб беларускай акупацыі Менска. Афіцыяльна рэдактарства «Нашай нівы» я перадаў Купале.

Купала, скончыўшы вячэрнія курсы сярэдняй школы ў Пецярбургу пад апекай дабрэйшай душы — беларуса Эпімаха-Шыпілы, настолькі ўжо адшліфаваўся, што мы з «дзядзькоў» павісілі яго ў рэдакцыйныя «палкоўнікі». Ужо была выраблена і мова газетная, машына рэдакцыйная, як кажуць цяпер, «стабілізіравана».

Заданне наша было: «Даеш Менск!» Я перакаціўся ў адну пекную веснавую раніцу 1913 г. у Менск. Меў я «стол» і «дом» у майго швагра А.К.Снітко, аснаваценля царкоўна-гістарычнага музея — любіцеля археалогіі і беларускай гісторыі. Адным словам, я «уцэнтраваўся» у Менску, куды рашыў перанесці «Саху»[1].

Да пераезду ў Мінск у Аляксандра Уласава ў 1912 г. была яшчэ адна палітычная акцыя, пра якую ён у сваіх мемуарах не згадвае, але якую, аднак, захавалі гістарычныя аналы. Дакументальнае сведчанне пра гэта апублікаваў у свой час наш руплівы краязнавец, чалавек няўрымслівай душы Генадзь Каханоўскі.

Увосень 1912 г. ішлі выбары ў 4-ую Дзярждуму. Першая, выбраная адразу пасля рэвалюцыі 1905 года, па ўсеагульнаму азначэнню, была Думай гневу народнага, другая — сялянскай. Абедзве спрабавалі прыняць прагрэсіўна-радыкальныя законы для развіцця грамадства і былі разагнаны уладай. Трэцяя Дума мела ў шырокіх грамадзянскіх колах найменне дваранскай, што па сутнасці адпавядала яе складу і духу.

У невялікай заметцы «Думкі падчас выбараў» А.Уласаў пісаў, што «за пяць гадоў жыцця Трэцяй Думы жыццё не змянілася ні на волас». Тым не менш многія прадстаўнікі інтэлігенцыі не гублялі надзеі на тое, што праз парла-

---

1 Уласаў Аляксандр. Дні жыцця // Шляхам гадоў. Мн., 1990. С. 166–167.

мент, народнае прадстаўніцтва можна дабіцца поступу ў развіцці Расіі, палепшыць народнае бытаванне. У той жа публікацыі, дзе была дадзена абсалютна рэалістычная ацэнка Трэцяй Думы, Уласаў пісаў: «...Вялікая ўласць дадзена прадстаўнікам народа: яны могуць пісаць новыя законы, яны могуць такім спосабам перайначыць усё жыццё наша»[1].

Не толькі на галёрцы ў Таўрычаскім палацы, дзе было адведзена месца прэсе, публіцы, бываў Аляксандр Уласаў. Калі на парадку дня Думы стаялі актуальныя пытанні, як, напрыклад, увядзенне земства і самаўпраўлення для заходніх губерняў, ён імкнуўся перагаварыць з дэпутатамі у кулуарах. Як пісаў аб гэтым, вынес перакананне, што сялянскіх думцаў можна адарваць ад іх фальшывых апекуноў з правага лагеру. Толькі б знайшоўся сярод групы гэтых дэпутатаў адпаведны чалавек, здольны павесці іх за сабой. Адным словам, не губляў надзеі на тое, што праз Думу можна яшчэ вырваць у царызма аб'яўленыя маніфестам 17 акцябра грамадскія правы, прыняць законы, якія б здымалі перашкоды для нармальнага, цывілізаванага развіцця вялізнай краіны.

Думка аб тым, што сялянскаму прадстаўніцтву ў Думе не хапае лідэра, магчыма, і падштурхнула рэдактара «Нашай нівы» прыняць удзел у барацьбе за дэпутацкае месца ў чацьвёртай Дзяржддуме. А што? Зусім здаровая амбіцыя. Сялянскую гаспадарку ведаў, знаў праблемы земляроба, няблага разбіраўся ў псіхалогіі селяніна і ўрадавай палітыцы. Трапіў у спіс прадстаўнікоў ад дробных землеўласнікаў. Выбарчая ардынацыя была д'ябальска складанай: і шматступенчатай, і саслоўнай. Уласаву ўдалося адолець першую прыступку выбарцаў. У Вілейцы ён быў разам з селянінам Хрушчовым выбраны за выбарца на павятовы з'езд, які выбіраў дэпутатаў (2 чалавекі) ад губерні. Пра гэта, між іншым, паведамлена ў карэспандэнцыі пад подпісам «Вілейскі»[2].

Далей аб сітуацыі даведваемся адно з дакумента, з якога, дарэчы, відаць і палітычная атэстацыя Уласава, яго імідж у вачах улады. Прынамсі мясцовай, якая заўсёды ведала, што трэба «вышестоящей». Падамо дакументальнае сведчанне на мове арыгінала: «Иметь ввиду, что от мелких земледельцев прошел крайне левый издатель «Нашей нівы» Александр Власов, который на выборах 20 октября будет агитировать в революционном направлении, имея соучастником единомышленника крестьянина Андрея Рака-Михайловского, ввиду чего на Вас возлагается обязанность всячески воздействовать на уполномоченных из крестьян, дабы не подавали в Вилейке за Власова и Рака, а выбрали бы инспектора народных училищ Евстафия Семеновича Кленницкого. Запоздалое доставление сведений под номером один ляжет на вашей ответственности». Распараджэнне ад імя старшыні Вілейскага павятовага асведаміцельнага камітэта падпісаў благачынны А.Мірановіч[3]. Ці не красамоўны факт задзейнічання царквы, святарства ў палітычнай, па сутнасці, акцыі ды яшчэ з далікатнымі паўнамоцтвамі?

1 Наша ніва ад 20 верасня 1912 г., № 38.

2 Наша ніва ад 12 верасня 1912 г.

3 Літаратура і мастацтва ад 4 ліпеня 1967 г.

Цяжка сказаць, ці верыў у пазітыўны канчатковы вынік свайго хаджэння ў выбарцы, дэпутаты Аляксандр Уласаў. Уявіць жа, як гэты прыродны гумарыст пасля мог распавесці пра сваю спробу кар'еры думца, мабыць, можна. Ды, відаць, гэты эпізод у біяграфіі Аляксандра Уласава не быў такі буйны, каб пра яго ён палічыў патрэбным згадаць у аўтабіяграфічным, мемуарным накідзе.

Істотным, важным на гэты час для Аляксандра Уласава і яго аднадумцаў, сяброў па працы было іншае. Коратка, але досыць выразна было абазначана яно ў ягоных няскончаных з-за арышту і дачаснай смерці мемуарах, якія, дарэчы, даўжэйшы час не маглі пабачыць свету, аж пакуль ужо ў перабудовачныя часы не апублікаваў іх Уладзімір Конан, філосаф і нястомны даследчык-руплівец нашай духоўнай спадчыны. Прычыны і задачы пярэбараў журналіста і рэдактара ў Мінск названы ім лапідарна-вобразна: узрастанне беларускага адраджэнскага руху і патрэба пашырэння яго на ўсход, дзе былі асобныя творчыя адзінкі і наспела неабходнасць арганізацыі перадусім сталага перыядычнага друку, эканамічных падстаў культурна-асветнага жыцця.

Тым часам сапраўды рэдактар дэмакратычнай беларускай газеты, яе супрацоўнікі і дапісчыкі мелі ўсе падставы для таго, каб цешыцца, можа, нават ганарыцца ў душы, азіраючы плён засяваных імі духоўных гоняў народа. Сталы, цягам васьмі год, доўжаны зварот да народа на яго мове. Публічная, дзякуючы газеце, у голас гаворка пра яго права, грамадскія ідэалы, традыцыі не прапалі марна.

Здабыткі былі рэальныя. Паволі будзілася да свядомага грамадскага жыцця, творчай працы дзеля лепшай, годнай будучыні зямля беларуская.

Хоць Беларуская сацыялістычная грамада на сваім з'ездзе ў 1906 г. у Докшыцах фармальна была распушчана, а некаторыя актыўныя члены яе кіраўнічага ядра, як Алесь Бурбіс, Фелікс Стацкевіч апынуліся ў астрозе, а Алаіза Пашкевіч — на выгнанні, пазасталыя на волі выконвалі прынятую стратэгічную ўстаноўку на легальную асветна-ўсведамляльную працу ў народзе.

Да пачатку 1-ай сусветнай вайны беларускім адраджэнцам удалося закласці асновы для нацыянальна-культурнай дзейнасці. Па-першае, стварыць два сталыя беларускія кніжныя выдавецтвы — адно ў Санкт-Пецярбургу, другое — у Вільні. Здзейснілі першыя заяўкі на выданне кніг «Мінчук» і «Палачанін». Стабілізаваўся і рос беларускі перыядычны друк — дзейсны рычаг уздыму грамадскай асветы, свядомасці. Акрамя «Нашай нівы», «Bielarusa» выходзілі навукова-літаратурны квартальнік «Маладая Беларусь», часопісы «Саха», «Лучынка», «Раніца». Праектаваліся яшчэ адмысловыя жаночы і маладзёвы часопісы, а таксама месячнік грамадскай думкі «Сябра».

Уражвала, чаравала жывым беларускім словам са сцэны, каларытным рытмам, музыкай, народнымі строямі, танцам артыстычная трупа каморніка па прафесіі і артыста па прызванню Ігната Буйніцкага. І гэта ў незалежнасці ад таго праяўлялі паказ мастацтва артысты Буйніцкага са сталічнай сцэны

ў Пецярбурзе або Варшаве, ці ў беларускіх гарадах і мястэчках. У апошніх пасля іх гастроляў зацеплаваліся вогнішчы самадзейнага сцэнічнага мастацтва. Мастацкая ідэя артыстаў трупы Буйніцкага будзіла творчы дух у народзе. Невыпадкова першы нацыянальны гісторык, прысутны ў Полацку на прадстаўленні Буйніцкага, зазначаў: «…Калі прабудзіцца свядомасць ва ўсім беларускім народзе, памяць Ігната Буйніцкага будзе святой…»[1]

Мастацкую вышыню ў Вільні і адпаведны грамадскі рэзананс набіраў Беларускі музычна-драматычны гурток і пры ім першы беларускі хор пад кіраўніцтвам кампазітара Людаміра Рагоўскага, аўтара музыкі да слоў «А хто там ідзе?» Купалы, чатырохчасткавай «Сюіты беларускай».

Добрым падмуркам для росту народнага ўсведамлення, нацыянальнай самаідэнтыфікацыі мела паслужыць выдадзеная ў 1910 г. Вацлавам Ластоўскім «Кароткая гісторыя Беларусі», першая кніга аб гістарычных шляхах беларускага этнасу, напісаная не з пазіцый гістарыёграфаў суседніх народаў[2].

Аднак найбольшы плён у нашаніўскую пару дэманстравала, мабыць, літаратура, беларускае мастацкае слова. Уздымалася літаратура, кроўна заклапочаная годным жыццём народа, яго лёсам, глыбока дэмакратычная сваёй ідэйнай скіраванасцю. На духоўным гарызонце Беларусі ў адначассі ўзыйшло цэлае сузор’е імён, сярод якіх зоркамі першай велічыні — Янка Купала, Якуб Колас, Максім Багдановіч.

Ідэяй беларускага Адраджэння, абуджэння народа як суб’екта гісторыі да свядомага грамадскага жыцця з асаблівай сілай прасякнулася творчасць Янкі Купалы. Ужо напачатку творчага шляху паэт ёміста абагульніў поступ беларускага Адраджэння, стварыў яго манументальны вобраз.

А хто там ідзе, а хто там ідзе
У агромністай такой грамадзе?
— Беларусы.
А што яны нясуць на худых плячах,
На руках у крыві, на нагах у лапцях?
— Сваю крыўду.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
А хто гэта іх, не адзін мільён,
Крыўду несць навучыў, разбудзіў іх сон?
— Бяда, гора.
А чаго ж, чаго захацелася ім,
Пагарджаным век, ім, сляпым, глухім?

— Людзьмі звацца.[3]

---

1 Власт. Беларускі вечар у Полацку // Наша ніва ад 30 верасня 1910 г.

2 У 80-я гады XIX ст. М.В.Доўнар-Запольскім быў створаны адно эскіз нацыянальнай канцэпцыі гісторыі Беларусі.

3 Янка Купала. Поўны збор твораў. Мн., 1995. Т. 1. С. 196.

Ідэя нацыянальнага адраджэння апладняла творчасць Купалы, давала паэту ясную перспектыву, спрыяла развіццю яго мастакоўскай індывідуальнасці.

Талент Купалы, рамантычны паводле самой прыроды, раскрываўся імкліва, выяўляючы сілу і красу беларускага мастацкага слова, рысы геніяльнасці творцы. Купалава думка сягала касмічных вышыняў:

Мой дом — прыволле звёзднай далі,
Арламі мераны абшар,
Дзе бітвы точаць ветраў хвалі
З сям'ёй глухіх калматых хмар.[1]

Паэт годна вядзе гутарку з самім Богам. Гаворыць ад імя свайго скрыўджанага, пазбаўленага Бацькаўшчыны народа:

…Ты ў цвет сваіх нялічаных народаў
Мінуўшчыну і будучыну ўбраў,
Ад нас — караючы чужой свабодай —
Мінулае і тое адабраў.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Паймі! Пачуй! Сон наш і свой стрывожны, —
Закон і суд свой праведны пашлі!..
Вярні нам Бацькаўшчыну нашу, Божа,
Калі Ты цар і неба і зямлі![2]

Як і Купала, часта-густа на старонках «Нашай нівы» друкаваўся Якуб Колас, і ў ім паволі ўжо ўгадваўся будучы эпік, пясняр мар і працы земляроба, майстар паэтычнай выявы беларускай прыроды.

Максім Багдановіч чуў згукі Бацькаўшчыны аж на далёкай Волзе, у Яраслаўлі, адкуль дасылаў свае вершы, апавяданні, артыкулы. Як паэт вылучаўся мастацкай распрацоўкай беларускай народнай міфалогіі, аналітычнай крытыкай як першы гісторык беларускага Адраджэння. Яму належаць імператыўныя словы, звернутыя да сучаснікаў і наступных пакаленняў: «Гмах беларускай культуры, калісьці распачаты, мусіць быць збудаваны да канца» .

Дарога ў Мінск была Аляксандру Уласаву добра знаёма. У спадзеўным, зорным 1905-ым з Іванам Луцкевічам яны арганізоўвалі забастоўкі мінскіх рамеснікаў, шаўцоў. А яшчэ раней менавіта ў Мінску гімназістам на кватэры гісторыка-археолага, архівіста Генрыха Татура ён з іншымі маладымі хлопцамі атрымліваў першыя ўрокі пазнання беларускай мінуўшчыны.

З Вільні ў Мінск у 1913 годзе пераехаў спрактыкаваным рэдактарам двух перыядычных выданняў і выпрабаваным публіцыстам. Акрамя «Сахі»,

---

1 Тамсама. Мн., 1996. Т. 2. С. 112.

2 Янка Купала. Поўны збор твораў. Мн., 1997. С. 85–87.

выданне якой перавёў у Мінск, арганізаваў літаратурна-навуковы часопіс, сціпла названы «Лучынка». Не «Светач», а менавіта ў той жа функцыянальнай ролі — «Лучынка».

Аркадзь Смоліч у канцы 1913 г., перад самым навагоднім святам наведаўшыся на некалькі дзён у Мінск, быў літаральна збянтэжаны шырынёй выдавецкіх планаў Уласава. Будучы выдатны беларускі вучоны і палітык з засцярогай пісаў у рэдакцыю «Нашай нівы», здаецца, сакратару яе: «...Баюся я, шырока ён пачне, адразу праваліцца. Хоць сабе на тым, што грошай не хваце, а тады ён сабе уцячэ і хвосцікам накрыецца. Дык Вы, мой даражэнькі, вельмі б мяне абавязалі, каб паведамілі, як і на якіх умовах выправілі вы яго ў Мінск і ці Вільня падтрымае яго матэрыяльна ў часіну бяды — іначай я не магу назваць правал у Мінску. Памятаць трэба, што гэта сэрца беларускае, а з сэрцам усе аперацыі асцярожна. Ён ускладае надзею на падмогу гэтай нашай мінскай Цёткі...» Заканчвае Смоліч канкрэтным пажаданнем, «каб як можна больш глядзелі з Вільні на нашыя мінскія справы» і зычэннем з нагоды Новага года. «Вітаем Вас і ўсіх беларусоў з Новым годам. Шпарка расцём мы ва ўсе бакі. Вялікія надзеі, ружовая будучыня, шчасныя зоркі!»[1] Добры зарад аптымізму ў маладога адраджэнца і сталы клопат пра агульную справу.

А Цётку (Алаіза Пашкевіч, гэта імя называць было яшчэ, мабыць, неасцярожна: над ёй прадаўжала вісець пагроза арышту за дзейсны ўдзел у рэвалюцыі 1905 г.) залучыў Уласаў у рэдакцыю свайго новага выдання, часопіс «Лучынка» вельмі мудра. З яе энергіяй, гарэннем, талентам толькі і можна было падняць перыёдык для моладзі. З 4-га нумару «Лучынкі» побач з імем рэдактара-выдаўца А.Уласава фігуравала ўжо імя літаратурнага рэдактара Цёткі, а з 5-га за літрэдактара падпісаны другі літаратурны псеўданім А.Пашкевічанкі — «Мацей Крапіўка». І ў гэтым адлюстраваліся рэаліі рэдакцыйнай сітуацыі-працы. Уласаў узначальваў, рэпрэзентаваў літаратурна-навуковы часопіс, а маторам яго была гэта няўрымслівая, «акравак маланкі» (Купала) дзейная беларуская жанчына.

Актыўная ў жыцці і творчасці, А.Пашкевічанка ніколі і нідзе так шмат не друкавалася, як цяпер у «Лучынцы». Выступала адразу ў некалькіх жанрах. У дарожных нататках з падарожжа па Аўстрыі, Італіі, Францыі, імпрэсіяністычных стылем, і ў аналітычных нарысах з паездкі ў Фінляндыю, заснаваных скрозь на супастаўленнях, роздуме -— ўсюды з думкаю пра свой народ, яго будучыню. З апавяданнямі, тонкімі паводле псіхалагічнага рысунка, з паэтычным эсэ пра папараць-кветку, навукова-папулярнымі артыкуламі пра газу (нафту), пералётных птушак, беларускую народную песню. А найболей з публіцыстычнымі эцюдамі пра моладзь, са зваротамі да вясковай, школьнай моладзі з думкай далучыць яе да грамадскай, натурна-пашуковай працы.

З шасці кніжак «Лучынкі» А.Уласаў азваўся толькі раз, папулярна расказаўшы пра чалавечы і творчы лёс вялікага ўкраінца Тараса Шаўчэнкі.

[1] Б-ка АН Літвы, ф. 21, спр. 556.

Займаўся «Сахой», у цэлым арганізацыйна-выдавецкай базай, расшырэннем кола рупліўцаў на ніве беларушчыны.

Рэдакцыйная сядзіба на Аляксандраўскай, 25, што была непадалёк ад Траецкай гары, паволі ператваралася ў беларускі клуб са зборкамі два разы на тыдзень моладзі. Пры незамыславатым умэбляванні, наогул сціплых жыццёвых умовах, было там гаманліва, весела, прасторна для душы і сэрца.

Мяркуючы па «Лучынцы», дзе побач з літаратарамі, пачалі выступаць і маладыя навуковыя адзінкі, інтэлектуальных сіл ужо набіралася. Мары, планы маладых адраджэнцаў пра шырокі засяг працы па ўздыме сацыяльнай і нацыянальнай свядомасці ў народзе набывалі рэальныя абрысы. Ды грымнула сусветная вайна, а праз год Беларусь драматычна аказалася разрэзаная лініяй франтоў, лініяй акопаў дзвюх вялікіх еўрапейскіх дзяржаў.

У раздзеленых руска-германскім фронтам частках Беларусі ўзніклі два асобныя культурна-грамадскія беларускія інтэлігенцкія асяродкі, адзін -— у акупаванай кайзераўскімі войскамі Вільні, другі — у Мінску. У сваіх планах, стратэгіі яны, натуральна, уключалі і палітычныя інтэнцыі. У абодвух інтэлігенцкія сілы гуртаваліся каля камітэтаў помачы пацярпелым ад вайны. Вайна прынесла народу неагляднае мора пакут і цярпенняў: руйнаванне гаспадаркі, асноў звычнага жыццёвага быту, бежанства… Арганізаваныя на дзяржаўным і грамадскім узроўнях камітэты вырашалі нямала гвалтоўна узнікшых праблем: арганізоўвалі часовы прытулак уцекачам ад фронту, адкрывалі сталоўкі, майстэрні, дбалі аб медыцынскай дапамозе.

У Мінскім камітэце дапамогі пацярпелым ад вайны, узначаленым адвакатам Чавусавым, працавалі А.Уласаў, Антон Лявіцкі, Ул. Галубок, Зм. Бядуля, Ус. Фальскі, Людвіка Сівіцкая, Аркадзь Смоліч, Альбэрт Паўловіч і інш. Пазней да грамадкі беларускай інтэлігенцыі, сканцэнтраванай у Камітэце, далучыўся Максім Багдановіч .

Менавіта ў Камітэце і зарадзілася ды была паспяхова ажыццёўлена ідэя стварэння «Беларускай хаткі» як культурнай базы нацыянальнага грамадскага асяродка. Гэта быў той мінімум і максімум, што дазволілі ўлады. Публічнага прачытання Максімам Багдановічам лекцыі аб беларускім адраджэнні Камітэту не было дазволена: забарона матывавалася ваенным часам.

Тым часам яшчэ да набліжэння да Вільні немцаў летам 1915 г. распараджэннем улад было спынена выданне «Нашай нівы». З эвакуацыяй на Усход у Вільні заставалася адна жменька беларускай інтэлігенцыі, колькі колішніх нашаніўцаў: браты Луцкевічы, В.Ластоўскі, А.Пашкевіч, якая выйшла замуж за літоўскага сацыял-дэмакрата Кейрыса. Да іх неўзабаве далучыліся Францішак Аляхновіч, Янка Станкевіч.

У сувязі з легалізацыяй у грамадскім ужытку сярод чатырох краёвых моў і беларускай віленскія беларусы паволі разгарнулі асветную і культурна-грамадскую працу. Восенню 1915 г. было адкрыта некалькі першых беларускіх школ, а колішняя Свіслацкая гімназія была ператворана ў семінарыю з думкай рыхтаваць педагогаў для беларускага школьніцтва. З лютага 1916 г. пачала выходзіць двойчы на тыдзень газета «Гоман», рэдагаваная былым сакра-

тарам «Нашай нівы» В.Ластоўскім. Быў створаны «Беларускі клуб», у якім праца вялася ў асноўным Францішкам Аляхновічам. Калі вайсковыя акупацыйныя ўлады гамавалі нейкую ініцыятыву, Іван Луцкевіч патрапіў выходзіць на сацыял-дэмакратычных дэпутатаў нямецкага рэйхстагу. Мабыць, не без іх успамогі віленчукам удалося атрымаць дазвол на стварэнне Беларускай сацыял-дэмакратычнай групы, у якую ўвайшло некалькі вядомых тутэйшых актывістаў рабочага руху, як Ліцкевіч, Фалькевіч, Туркевіч.

У Беларускім камітэце ў Вільні, пазней пераўтвораным у Беларускую Раду Заходняй Беларусі, супрацоўнічалі рабочыя, інтэлігенцыя, у тым ліку прадстаўнікі духавенства, у прыватнасці пратаіерэй Міхаіл Галянкевіч, рэлігійны і культурна-асветны дзеяч, філосаф Уладыслаў Талочка і інш. В.Ластоўскі і Янка Станкевіч патрапілі хутка скласці, напісаць некалькі чытанак, падручнікаў беларускіх. А.Луцкевіч, Я.Станкевіч, Ф.Аляхновіч выступалі ў «Гомане» з публіцыстычнымі публікацыямі.

Аляксандр Уласаў да публіцыстыкі па-сапраўднаму здолеў вярнуцца толькі пасля рэвалюцыі, найбольш актыўна — з вясны 1918 г., калі была абвешчана Беларуская Народная Рэспубліка. Увесь 1917 г. і наступныя, уключаючы 1920 годы, ім, як і многімі удзельнікамі беларускага Адраджэння, былі аддадзены практычнай палітыцы. Беларуская грамадская думка ў гэты перыяд эвалюцыяніравала ад ідэі аўтаноміі ў складзе Расіі да суверэннасці. Як і самі гістарычныя падзеі гэтага часу, яна развівалася інтэнсіўна, імкліва.

Аляксандр Уласаў да публіцыстыкі па-сапраўднаму здолеў вярнуцца толькі пасля рэвалюцыі, найбольш актыўна — з вясны 1918 г., калі была абвешчана Беларуская Народная Рэспубліка. Увесь 1917 г. і наступныя, уключаючы 1920 годы, ім, як і многім удзельнікам беларускага Адраджэння, былі аддадзены практычнай палітыцы. Беларуская грамадская думка ў гэты перыяд эвалюцыяніравала ад ідэі аўтаноміі ў складзе Расіі да суверэннасці. Як і самі гістарычныя падзеі гэтага часу, яна развівалася інтэнсіўна, імкліва.

***

Падумаўшы, дык Аляксандру Уласаву ад самага пачатку асэнсавання свету і сябе ў ім наканавана было быць, рупіцца пры непасрэднай рэалізацыі беларускай ідэі, сфарміраванай народнікамі-гоманаўцамі яшчэў 80-я гады XIX ст. На пачатку новага, поўнага надзей XX ст. разам з братамі Луцкевічамі, Казімірам Кастравіцкім, Алесем Бурбісам ды Алаізай Пашкевічанкай заснoўваць першую беларускую палітычную партыю БСГ, рэальна даць публічную трыбуну толькі што паўсталаму з забарон царызмам беларускаму слову ў газеце «Наша ніва», часопісах «Саха», «Лучынка», дзеіць пры арганізацыі беларускага грамадска-палітычнага жыцця ў лёсавызначальныя 1917—1918 гг.

Таймаваная манархічна-абсалютысцкім рэжымам энергія народаў вялізнай імперыі, разняволеная рэвалюцыяй, з вясны 1917 г. шукала выхаду ў сацыяльнай, палітычнай і культурна-грамадскай сферах. Фіны, палякі, латышы, літоўцы, эстонцы, украінцы, грузіны, армяне, азер-

байджанцы бралі ўласны лёс у свае рукі, завінуліся будаваць кожны свой нацыянальна-дзяржаўны дом. Пераломны 1917-ы не праспалі і беларусы. Адбыты 25 сакавіка 1917 г. у Менску з'езд, на які ўпершыню сабраліся прадстаўнікі ад беларускіх арганізацый і партыі з усёй Расіі, выбраў Беларускі нацыянальны камітэт як арганізацыйны, рэпрэзентатыўны і каардынацыйны орган беларускага руху, надаў яму творчы імпульс. Актывісты руху глыбока ўсведамлялі унікальнасць гістарычнага моманту, палючую актуальнасць арганізацыйна-аб'яднальнай, нацыянальна-ўсведамляльнай працы. І яна актыўна разгортвалася перадусім у Менску, Петраградзе, Маскве, Кіеве, у армейскіх частках, на франтах, куды ваенны лёс шчодра закінуў беларусаў. У красавіку пачаў выходзіць орган БСГ – газета «Грамада». Эстафету свабоднага беларускага слова ў канцы мая пераняла «Вольная Беларусь», рэдагаваная вызваленым рэвалюцыяй паліткатаржанінамм Язэпам Лёсікам. Выданне стала сапраўднай трыбунай беларускай грамадскай думкі.

У ліпені на другім з'ездзе беларускіх арганізацый была выдана, сфарміравана Рада. Восенню 1917 г. адзін за другім прайшлі з'езды беларусаў-вайскоўцаў Паўночнага, Заходняга, Паўднёва-Заходняга і Паўднёвага франтоў, якія разам вылучылі агульную рэпрэзентатыўную структуру, названую Цэнтральнай беларускай вайсковай радай. З'езды наглядна засведчылі палітычную актыўнасць беларускіх вайскоўцаў, іх грамадзянскую заклапочанасць лёсам Айчыны. ЦБВР запачаткавала выданне газеты «Белорусская Рада». Былі спробы сфарміраваць асобныя беларускія вайсковыя адзінкі. Рабіліся канкрэтныя захады беларусаў-афіцэраў, у прыватнасці С.Рака-Міхайлоўскага, К.Езавітава, выхаду на глаўкаверха з мэтай арганізацыі беларускіх частак, але, на жаль, яны не далі пазітыўных вывнікаў з-за палітыкі урада Керанскага, а затым глаўкаверха Крыленкі. Разам з раней, летам абранай Радай беларускіх арганізацый яны злучыліся ў адзіны арганізацыйна-аб'яднаўчы цэнтар — Вялікую беларускую раду. А ў снежні 1917 г., ужо змененых палітычна ўмовах яна і ініцыявала скліканне Усебеларускага з'езду з мэтай абрання краявога органа кіравання ды самавызначэння Беларусі. Што да ідэі самавызначэння, то беларуская дэлегацыя заявіла аб ім у верасні на з'ездзе народаў Расіі ў Кіеве і атрымала падтрымку сваім інтэнцыям: чарнасоценцы на той час прымоўклі з ідэйкай «единого, из трех частей состоящего русского народа».

Гвалтоўны разгон камісарамі Аблвыканкомзапа Усебеларускага з'езда, які быў першым найбольш правамоцным і прадстаўнічым форумам прадстаўнікоў усіх этнічных беларускіх земляў, з'явіўся адчувальным ударам па беларускім нацыянальным руху, але не мог перапыніць яго. Выбраны з'ездам Савет (Рада з'езда) і Выканаўчы камітэт яго сталі працаваць у падполлі. Збіраліся ў майстэрнях чыгуначнікаў, вузейшым колам — у Аляксандра Уласава, у доме яго швагра беларускага археографа, гісторыка Андрэя Сніткі. Калі перад заняццем Менска новымі прэтэндэнтамі на беларускія землі, кайзераўскай 10-й арміяй аблвыканкомзапаўцы, даўшы залп з бронецягніка на пострах чыгуначнікам, што хацелі іх прытрымаць, уцяклі ў Смаленск, беларусы-афіцэры з выканкаму Усебеларускага з'езда

арганізавалі камендатуру ў горадзе дзеля прафілактыкі марадзёрства, бясчынства злачынных элементаў.

Упаўнаважаны Усебеларускім з'ездам Выканком яго ў новых палітычных абставінах дзейнічаў як зародыш, орган легітымнай беларускай улады, хоць новыя акупанты не хацелі прызнаваць тут ніякай іншай юрысдыкцыі, акром сваёй уласнай, мілітарнай. Тым не менш, абмежаваныя фактычна ваенным становішчам у краі, дзеячы беларускага руху і яго актыўныя ўдзельнікі, ідучы дэмакратычным шляхам, патрапілі стварыць Раду рэспублікі, уключыўшы ў яе прадстаўнікоў земства і гарадоў. У ходзе работы Рады яны здолелі аб'явіць суверэннасць Беларусі, дэклараваць незалежнасць Беларускай народнай рэспублікі і стварыць сакратарыят БНР, першы беларускі ўрад на чале з юрыстам і журналістам Язэпам Варонкам.

Увесь 1918 г. прайшоў пад знакам барацьбы за беларускую дзяржаўнасць, ідэю якой мацавала пагроза падзелу этнічных беларускіх земляў суседзямі. Напаўняць аб'яўленую суверэннасць і незалежнасць рэальным зместам маладым будаўнічым беларускай дзяржаўнасці было нялёгка. Непрыяцеляў яе было многа, народ жа ў масе сваёй быў грамадска не асвечаны, не ўсведамляў неабходнасці ўласнага дзяржаўнага Дому, каб зажыць годным жыццём, «у роўнай долі, у роўным стане між усіх народаў», як наказваў яму яго паэт-прарок Янка Купала.

Адной з першых задач беларускіх незалежнікаў было здабыць дэ-юрэ міжнароднае прызнанне Беларускай народнай рэспублікі. Сярод радцаў і членаў урада мелася некалькі высокакваліфікаваных юрыстаў, аб чым красамоўна засведчылі тры ўстаўныя граматы, якімі юрыдычна рыхтавалася, афармлялася суверэннасць рэспублікі, беларуская дзаржаўнасць. Але ў справе выхаду на іншыя дзяржавы дзеля прызнання БНР ці не найболей зрабіў прафесар М.В. Доўнар-Запольскі. Глыбокі знаўца беларускай гісторыі, этнаграфіі, дасведчаны ў эканоміцы, ён аператыўна напісаў працу «Асновы дзяржаўнасці Беларусі». У ёй на падставе моўнага, гістарычнага і эканамічнага фактараў доказна сцвердзіў права беларусаў на дзяржаўны быт, незалежную гаспадарственнасць. Выдадзеная асобна ў перакладзе на асноўныя еўрапейскія мовы брашура аўтарытэтнага вучонага з'явілася сведчаннем прысутнасці беларусаў у еўрапейскім кантэксце, своеасаблівым гістарычным пашпартам Беларусі на права заняць свой пачэсны пасад між народамі. З дыпламатычнымі пашпартамі Рэспублікі і трактатам Доўнар-Запольскага ў руках стукаліся руплівцы беларускай дзяржаўнасці ў высокія кабінеты замежных краін. Кастусь Езавітаў у Прыбалтыцы, А. Цвікевіч — у Берліне і Празе. М. Доўнар-Запольскі з Цвікевічам у Кіеве ўручылі савецкаму паслу Ракоўскаму зварот урада БНР на прадмет прызнання суверэннасці Беларускай рэспублікі і ўсталявання граніцы.

Можа крыху больш удавалася зрабіць ў асветна-культурнай сферы. Беларуская мова была аб'яўлена дзяржаўнай, пераведзены з Яраслаўля, між іншым, не без удзелу ў справе пераводу ад імя Беларускага народнага прадстаўніцтва А. Уласава і А Лявіцкага, Мінскі настаніцкі інстытут. Выдадзена першая «Беларуская граматыка для школ» Бр. Тарашкевіча,

арганізаваны беларускія настаўніцкія курсы… Ажыла перыёдыка. Аднавілася выданне «Вольнай Беларусі». А 8 (22) сакавіка пачала выходзіць штодзённая газета «Беларускі шлях». За некалькі дзён да абвяшчэння Радай рэспублікі незалежнасці выдаўцы газеты пісалі: «Беларускі шлях» ставіць сабе задачай: незалежнасць Беларусі, нацыянальная еднасць і арганізацыя, развіццё беларускай духоўнай і матэрыяльнай культуры». У перадавіцы першага нумару гэтыя задачы, выказаныя лапідарна, канкрэтызаваліся, адрасаваліся перш-наперш інтэлігенцыі: «Цяжка і доўга пакутваў народ наш пад уладаю маскоўскага самадзяржаўнага ўраду. Уся праца дзяржаўнай машыны кіравалася так, каб трымаць яго ў цемнаце, марнасці, на самым доле супольнага будынку. Розум народа, мозг народа, яго ўласнае дзіця інтэлігенцыя, тая, што хацела і магла служыць яму на карысць, бязлітасна разлучаліся з ім хітрымі, хцівымі апекунамі…»

І далей, пасля, сказаў бы, дыпламатычнай ацэнкі сацыяльнага перавароту ў Расіі, ужо непасрэдна зварот не адно да інтэлігенцыі, а да ўсіх «ратаваць народ наш» ні для падзякі… для спаўнення свайго сыноўскага абавязку, дзеля патрэб агульналюдскага поступу і чалавечай культуры павінны дапамагчы яму цяпер усе, хто можа, хто мае нейкі запас навукі, дасвядчэння, умеласці і проста сыноўняй ахвоты». Аўтар улічваў рознасць поглядаў у асяроддзі грамадства, у тым ліку інтэлігенцыі, але акцэнтаваў думку на агульным, актуальным: «…Усіх нас яднае адно — гэта доля нашай Бацькаўшчыны Беларусі, каторая палепшыцца можа толькі праз заклад моцнага фундаменту яе незалежнасці на грунце нераздзельнасці беларускага народу ў яго этнаграфічных рубяжах». Заканчвалася перадавіца новазаснаванага перыёдыка надзеяй на згоднае сужыццё ўсіх адвечных насельнікаў краю, іх супрацу дзеля будучыні: «Толькі згода ўсіх нацыяў на Беларусі, свабоднае развіццё іх нацыянальных культур і злучэнне агульнай працы ўсіх творчых, жывых сіл краю можа давесці нас да бажаных вынікаў».

Былы нашанівец Аляксандр Уласаў ад першых нумароў «Беларускага шляху» — сталы аўтар выдання. Некаторыя артыкулы яго, падпісаныя крыптанімам А. У., ішлі як перадавіцы. І гэта не выпадкова. Вопытны рэдактар і выдавец Уласаў цяпер у няпросты, а ўсё ж спадзеўны час прыкладаў свае сілы для арганізацыі выдавецтва «Заранка», асноўным праектам якога і стаў «Беларускі шлях». У новым перыядычным выданні колішні нашанівец заняў сваю традыцыйную дзялянку — эканамічнае і грамадзянскае жыццё супольства Беларускага краю. У кантэксце здабыванай нацыянальнай дзяржаўнасці актуаліі эканамічнай адбудовы Беларусі выходзілі ледзь не на першы план. Па-першае, Заходняя Беларусь, на землях якой тры гады стаяў руска-германскі фронт, была ўшчэнт зруйнаваная. У артыкуле «Збураная Беларусь» у першым нумары «Беларускага шляху» называлася ўражлівая лічба уцекачоў, бежанцаў-беларусаў — 1726068 чалавек. У першым і трэцім нумарах «Беларускага шляху», рэдагаванага таксама ўчарашнім паліткатаржанінам Аляксандрам Прушынскім, Уласаў самавіта забіраў голас, каб выказацца на тэму гаспадарчай адбудовы краю. Гаварыў пры гэтым што называецца прадметна, канкрэтна. Кампетэнцыі спрыяла базавая адукацыя: у свой час скончаная

Рыжская політэхніка, а галоўнае сталая, з нашаніўскай пары, цікавасць да эканамічных падстаў жыцця грамадства, вывучэнне спецыяльнай літаратуры, досведу замежных краін у гэтай галіне. Стыль публікацыі просты, размоўны і тым дзелавы: «…Для адбудовы краю трэба, каб у кожнай воласці былі цагельні з гофманаўскімі печамі. Па Беларусі ёсць чортава гібель торфу. Трэба забараніць ставіць сцены будынкаў з дрэва. …Трэба асушыцеляў балот і сенажацяў — меліяратараў. …Трэба рабіць апроч цэглы дахоўкі, дрэнажы. Трэба інструктары па сельскай гаспадарцы і птушкагадоўлі, агародніцтву, пчалярству, ганчарству, гарбарству, ткацтву, дарожнай тэхніцы…»

У артыкуле «Пасля вайны» праз нумар экспромтны накід думак, ідэй красамоўна канкрэтызуецца пры развагах аб будаўніцтве з улікам таго, што важнейшае багацце краю лясы за вайну моцна пацярпелі: дрэва похапкам секлася на бункеры, акопы, грэблі для войска: «Ці можна пабудаваць 200 тысяч хат з дрэва? На хату — зруб, падлога, столь, кроквы, гонты і г. д. Трэба 180 пнёў. На 200 тысяч хат трэба 36 мільёнаў пнёў, дык трэба на гэта лесу сярэдне 72 тысячы дзесяцін высеч упень. …Каб пабудаваць старым фасонам толькі вёскам, трэба выкаціць 150 тысяч дзесяцін лесу; калі яшчэ прыбавіць мястэчкі, то будзе 200 тысяч дзесяцін лесу…» Пасля лічбавай выкладкі робіцца слушная выснова: «Значыцца, абярнуць Беларусь у аравійскую пустыню. Ад гэтага можа і клімат змяніцца к горшаму. …Вайна змяла лясы, а адбудова драўляная змяце іх да канца. Сто год прыдзецца чакаць, пакуль край дойдзе да такога ляснога запасу, які быў прад вайной. А сто гадоў чакаць, значыцца, чатыры пакаленні будуць без дрэва і заработку. Трэба ў Беларусі зусім забараніць рабіць сцены з дрэва, каб ўратаваць край ад эканамічнага банкруцтва». Нельга сказаць, што погляд не абачлівы. А далей Уласаў гаворыць пра новыя спосабы будовы, яе тып і характар: «Ірэба будаваць з цэглы, вапны і жалеза; трэба выраблаць тып гаспадарскай сялібы, каб было не 6 будынкаў, а 1—2 унітарныя. Такі тып выроблены ў Прусіі і Польшчы. Архітэктар Лявон Дубайкоўскі цяпер працуець над гэтым; просім другіх нашых архітэктараў гэтым заняцца; беларускія арганізацыі павінны аб'явіць конкурс на тып будовы. Трэба, каб архітэктары, спецыялісты камандавалі адбудовай».

Праз пару нумароў у артыкуле «Чорнае золата» Уласаў як пра прыроднае багацце на дне рэчышча Прыпяці з уласных агледзін у 1916 г. пісаў пра «залежы тоўшчы сланцавага цвёрдага торфу найлепшага ў свеце гатунку», які «слаісты і лёгка кроіцца на цэглы-брыкеты», а потым пазначыў перспектыву Палесся ў плане гадоўлі малочнай жывёлы з мажнасцю «заваліць маслам усю Еўропу…» І гэта не былі фантазіі журналіста. Сталы публіцыст абапіраўся на сведчанне вучонага спецыяліста па культуры балот І. Авіка, паводле якога на Палессі балотныя абшары складаюць 35711 кв. вёрст і пры мяккім клімаце, калі іх трохі, а не з-за пляча, як гэта будзе зроблена пазней, падсушыць сістэмай каналаў, то можна павялічыць насельніцтва ў 10 разоў і адпаведна даць прадукты жывёлагадоўлі на экспарт.

Праблема адбудовы-пабудовы дзяржаўнасці была кардынальнай асноўнай тэмай штодзённай беларускай грамадска-палітычнай газеты.

Яна штодзённа будзіравалася, абмяркоўвалася ў рэдакцыйных і аўтарскіх публікацыях. Пры гэтым актуалізацыя найважнейшых, фундаментальных аспектаў спалучалася з пастаноўкай нейкіх далейшых задач, не пазбаўленых стратэгічных сэнсаў. Напрыклад, у «Беларускім шляху ад 17 красавіка 18-га года гаварылася аб тым, што трэба «падвесці грунт пад абвешчаную незалежнасць», адпаведна з гэтым «павінна змяніцца праца Рады і пакіравацца яе усілкі». Гутарка вялася аб тым, што «трэба пачаць з адбудовы гаспадаркі і адміністрацыі, каторая павінна мець нацыянальна-краёвы характар. Трэба адрадзіць разбураную ў часе вайны прасвету, каторая таксама павінна быць нацыянальнай. А поруч з гэтай удзячнай, хоць, можа быць, і не надта яскравай працай трэба цярпліва, не нервуючыся, старацца, каб свет успомніў нашыя слаўныя гістарычныя традыцыі і прызнаў іх».

Часам газета ўдавалася да элементарнага палітычнага асветніцтва: наглядна тлумачыла, напрыклад, у артыкуле «Народная дзяржава», што значыць для народа мець сваю ўладу, дзяржаву: «...Пару сот гадоў у Беларусі не хапала сваёй тутэйшай улады, каторая была бы косць ад косці, кроў ад крові нашых гарадоў і вёсак, каторая бы ўсю волю, усю думку накіравала на падняцце і развіццё Бацькаўшчыны». Пасля характарыстыкі палітыкі ўрада Расійскай імперыі: «...Наша ўлада будзе сядзець не ў далёкім Пецярбургу, а тут, у нашым Менску. Яна на 700 вёрст будзе бліжэй да народу і будзе выбрана гаспадаром краю, самім арганізаваным народам. Выгада невялікай дзяржавы, як Беларусь, тая, што тут адзін аднаго добра знаюць... Усе ўстановы і канцэлярыі могуць лёгка кантраляваццa і цэнтральнай уладай і народам».

Выдаўцы «Беларускага шляху» добра ўсведамлялі ролю інтэлігенцыі ў здабыцці і рэалізацыі дзяржаўнасці народу. У публікацыях пра інтэлігенцыю ў кантэксце адраджэння беларускай дзяржаўнасці — вера ў яе як выхадца з народу і пастаянны напамінак пра святы абавязак перад ім. У тэме інтэлігенцыя і дзяржаўнасць аўтары «Беларускага шляху» не губляюць з поля зроку і гістарычны аспект: «Страта інтэлігенцыі, звязанай паходжаннем з вышэйшымі станамі змянілася цяпер набыткам сваёй уласнай народнай інтэлігенцыі», — канстатавалася ў газеце ад 11 чэрвеня 1918 г. і дадавалася, выражалася ўпэўненасць, што яна «ніколі не прадасць народных інтарэсаў за прывілеі для сябе». «Народ зноў мае заступніка, каторага выгадаваў у цяжкіх муках і цяпер яму нічога не боязна — гісторыя яго не затопча».

І далей, хоць і з усведамленнем малалікасці, недастатковасці інтэлігенцыі, што выйшла сейбітам на родныя гоні, будаваць беларускі Дом, але з верай і надзеяй на будучыню: «Праўда, лёс народнай інтэлігенцыі ў сціслым значэнні гэтага слова яшчэ надта вялікі і не адказуе ўсім патрэбам уваскрасаючай нацыі, затое праца, якую яна пакладае, шчырая і энергічная, сцягвае ўсё болей памоцнікаў. І ўсякі, хто працуе на беларускай ніве, з надзеяй глядзіць наперад: ішчэ можа год, ішчэ можа два і жыццё на Беларусі зробіцца беларускім, акрыецца нацыянальнымі фарбамі».

Адбудова дзяржаўнасці патрабавала нацыянальнай еднасці, і выдаўцы «Беларускага шляху» стала прапагандавалі яе. Аляксандар Уласаў удзельнічаў

у гэтай актуальнай акцыі як палітык і публіцыст. Як дзейны палітык прычыніўся да падтрымкі Рады рэспублікі ў крызісны для яе час, калі прывёў, мацуючы ейны склад, групу цэнтрысцка-правых, аб'яднаных у Беларускім прадстаўніцтве, В. Гадлеўскага, Цвірку-Гадыцкага, П. Алексюка.

У артыкуле «Уласць і партыі» ад 13 красавіка Уласаў пісаў: «Беларусь павінна сабраць і арганізаваць перш у стройную сістэму нацыянальна-дзяяржаўнай еднасці ўсе свядомыя і творчыя сілы. Мы знаходзімся ішчэ ў працэсе збірання». І далей, удакладняючы стан, форму наяўнай ейнай улады: «Наш край цяпер не мае дзяржаўнага механізму. Уся задача сягоння зрабіць гэты механізм. Цяперашні механізм круціцца такcяк самакотам, — ён прыстасаваны быў да Расійскай імперыі і яе палітыкі. Трэба яго сабраць, нарыхтаваць толькі для Беларусі, для яе нацыянальных інтарэсаў і пусціць у нармальны ход. Для гэтага прыдзецца сабраць усе лепшыя творчыя сілы: розных беларускіх станаў і нацыянальных, аселых тут меншасцяў».

Засяг пытанняў, якія хвалявалі А. Уласава як палітыка, адпаведна тэматычнае поле публіцыстычных выступаў яго былі шырокія. Зямля, асвета, праца Рады рэспублікі, палітычныя прагнозы… У артыкуле «Палітычныя перспектывы» ад 27 чэрвеня абвяшчэнні незалежнасці каўказцамі, балтыйскімі краінамі, Беларуссю Уласаў трактаваў як «інстынкт самазахавання ад імперыялізму старога і навейшага — бальшавіцкага». «Рэакцыянеры ўсіх гатункаў, — пісаў беларускі публіцыст, — прарочаць, што вернецца ізноў імперыя і імперыялізм… Уваскрэшанне старой Расіі цяпер ужо нонсэнс».

Што да актуальнейшага пытання сучаснасці — зямельнай рэформы, то беларускі палітык і журналіст праяўляў у ім асцярожнасць. Ён быў супраць сфармуляванага расійскімі эсэрамі прынцыпу сацыялізацыі зямлі. Лічыў, што трэба правесці аграрную рэформу, увязваючы яе з іншымі кардынальнымі праблемамі дзяржаўнага будаўніцтва. Прапанаваў рээвакуіраваць з Расіі Сялянскі банк і праз яго рэгуляваць адчужэнне лішкаў і продажу зямлі, забараніўшы ўсякую спекуляцыю ёю. Ён падтрымліваў праграму, прынятую Беларускай сацыялістычнай грамадой. У артыкуле «Зямля блізка» Уласаў у характэрнай для яго манеры, часта тэзісна пазначыў некаторую спецыфіку аграрнага пытання ў Беларусі: «Маленькая местачкова-вясковая Беларуская дзяржава маець здаровую порцыю мужыцкага беларускага скептыцызму і гонару. Нашы самыя левыя беларусы больш беларусы і перш беларусы, а потым ужо партыйцы. …Мы яшчэ раз гаворым, што беларусы скарэй усіх народаў дастануць зямлю. У нас ніколі не было ні яўрэйскіх пагромаў, ні аграрных эксцэсаў. …Беларус заслужыў, каб яму прыбавіць роднай зямлі. Трэба нашага земляроба вывесці з нэндзы, бо ён — фундамент багацця Дзяржавы».

Як палітык і публіцыст А. Уласаў удзяляў асабліва пільную ўвагу Радзе, яе працы. У матэрыяле, які ішоў як перадавіца ў «Беларускім шляху» ад 29 чэрвеня 1918 г., ён пісаў: «У нас, у Беларускай Рэчыпаспалітай, тэрыторыя каторай ішчэ ёсць арэнай палітычных ваенных недарэчнасцяў, уменне фармавання дзяржаўнасці вымагаець вялікіх высілкаў. Дарога, каторай

ідзець Рада, нязнаная і цяжкая, але прахадзімая. За намі стаіць наш спакойны, працавіты і цярплівы беларускі народ. Гістарычная доля выўчыла найбольш спадзявацца на самога сябе…» У канцы артыкула Уласаў акрэслівае кола праблем, што стаяць перад Радай, а менавіта: фінансы, камунальныя інстытуцыі, зямельная справа, індустрыя, гандаль, школы, універсітэт, Канстытуцыя Беларусі, міжнародныя праблемы і нацыянальныя. «Усё гэта будзе той творчай працай, каторай увесь край чакаець ад цэнтральнага нацыянальнага органу», — падагульняе аўтар.

Пералічыўшы актуальныя праблемы, што стаялі перад Радай, Уласаў казаў аб неадкладнай патрэбе менавіта законатворчай дзейнасці галоўнага ўладнага органа краю: «Беларусі трэба законатворчая праца, каб зрабіць дзяржаўны краёвы механізм». Адначасна бачыў неадэкватнасць сучаснага складу Рады перш-наперш у плане належнага прадстаўніцтва ў ёй ад усіх слаёў, адказных палітычных сіл, груп Беларусі. «Беларуская Рада, састаўленая Усебеларускім кангрэсам, — пісаў ён у перадавіцы ад 21 жніўня, — з'яўляецца як бы Устаноўчым сходам у справе зацвярджэння дзяржаўнасці беларускай. Сваю задачу Рада зрабіла», — і ставіў пытанне аб выбарах і выбарным праве.

Перад гэтым у перадавіцы ад 6 ліпеня, гаворачы пра неабходнасць у Радзе «зрабіць прадстаўніцтва ад усіх арганізаваных сіл краю», Уласаў пазначаў схему, паводле якой можа, павінна быць адпаведнае прадстаўніцтва ва ўладзе. Назваў сем сацыяльных слаёў і праслоек, з якіх, на яго погляд, трэба сказаць, узважаны, аб'ектыўны, і павінны быць вылучаны адказныя прадстаўнікі ў найвышэйшы кіраўнічы орган Беларускай Народнай Рэспублікі. На думку палітыка, у Радзе рэспублікі павінна быць наступная рэпрэзентацыя ад грамадскай супольнасці краіны — 1. ад уласнасці і капіталу: сялян, памешчыкаў, прамыслоўцаў; 2. камун: воласці, земстваў, гарадоў, мястэчак; 3. ад усіх існых у краі веравызнанняў; 4. рабочых фабрык, заводаў, сельскагаспадарчых работнікаў (парабкаў), службоўцаў; 5. ад усіх нацыянальнасцяў, пражываючых у Беларусі; 6. ад інтэлігенцыі: юрыстаў, лекараў, інжынераў, аграномаў, магістраў прыгожага мастацтва, літаратараў, журналістаў, настаўнікаў, выкладчыкаў універсітэта; 7. ад эканамічных саюзаў: каапературываў, сельскагаспадарчых таварыстваў, гандлёвых саюзаў. Падкрэсліваў: «Дзяржаўная сістэма павінна адпавядаць бытавым, нацыянальна-беларускім краёвым інтарэсам і гістарычным традыцыям». А што да выбараў, то, на думку А. Уласава, «патрэбна такое выбарнае права, каб большасць Рады складаў дэмакратычны творчы элемент і к а б б ы л і п р а д с т а ў л е н ы ў с е г р у п ы і с л а і Б е л а р у с і, д з я р ж а ў н а а д к а з н ы я».

Між клопатам аб дзяржаўным уладкаванні краіны Аляксандар Уласаў падзяліўся з чытачамі «Беларускага шляху» ўспамінамі юначых гадоў, згадкамі пра носьбітаў перахоўнікаў беларускай ідэі ды яе пераемнасць. У мемуарным жанры яскравей, чым у публіцыстыцы з яе строгім канонам думкі і стылю, праяўляўся журналісцкі, літаратурны талент А. Уласава. Слова пад пяром лягчэй метафарызавалася, стыль выказу набываў мастацка-вобразны каларыт. Апраўдана, думаецца, згадаць сягоння, даць

фрагменты з успамінаў колішняга ўдзельніка беларускага руху шырэй, паўней: «О, Божа, Спасе наш, // З няволі вызваль нас. // Ты праўду нам пакаж…» Я помню, якое моцнае, свяшчэннае ўражанне зрабіў на нас, маладых хлопцаў, 15—17 гадоў таму назад першы беларускі верш, прачытаны нам К. Кастравіцкім. …Ад барадатага прысадзістай фігуры аўтара, насіўшага дэманстратыўна кажух, боты і падперазанага «чорна-рускім» поясам, веяла такой моцнай, несакрушальнай, як скала, верай, што «Беларусь трэба падымаць». Рамантызм старога «народніцтва», але беларускага, меў сваім можа адным прадстаўніком Кастравіцкага». І Уласаў пераносіўся думкаю ў гады апошняга народніцтва: «Самая дубовая Аляксандраўская рэакцыя, сістэма абрусіцельства была ў поўным росквіце. Адазвацца гімназісту, што ён беларус, было тое самае, што зрабіць вялікі чын Муцыя , альбо голым прайсці па вуліцы; і выгналі б з гімназіі за такую крамолу, бо гэтта «истинно рускі край», як сказаў адзін інспектар: «Не в видах русского провительства распростронять малороссиянство».

Уласаў вяртаецца ўспамінамі да самага пачатку XX ст.: «У старым Менску былі тады характэрныя фігуры першых беларускіх прарокаў. Гэта Кастравіцкі і стары археолаг Татур, першы збіральнік старыны беларускай, знаўца гісторыі. …Генрых Хрыстафоравіч Татур па дакументах ведаў усіх людзей мінуўшчыны нашай, усе эпохі. Ён шанаваў і любіў усе старыя звычаі народныя. Паказваў, што яны ідуць ад сівой слаўнай мінуўшчыны беларускай, а ні «вредное суеверие».

І вось абразок з успамінаў, сцэнка непасрэднага кантакту моладзі з двума патрыярхамі беларушчыны. «Мы хлопцамі, разам з Кастравіцкім, сядзелі ў музеі Татура, сотні разоў расказвалі яму свае «беларускія» планы. Строгі стары, лысы, з рудой барадой, падобны да прарока Елісея, жыў з намі аднóй душой. Седзячы кружком у сумеркі ў яго музеі, заваленым кальчугамі, мячамі, старымі кнігамі, дакументамі, мэбляю, абразамі, ён выслухоўваў «даклады» аб нашых нясмелых яшчэ спрэчках з палякамі і абрусіцелямі, даваў рэзалюцыі: «Разумна адказалі!.. — Гэта пусты чалавек!…» Прыводзіў нам аргументы з гісторыі Беларусі».

У канцы меморыі Аляксандра Уласава пра Кастравіцкага і Татура хараша сэнсава абагульнены партрэтныя выявы двух магікан беларускай ідэі на мяжы XIX—XX стагоддзяў: «Кастравіцкі быў духам з «Белавежскай пушчы», з народу; ад Татура веяла на нас духам Гедыміна, Ягайлы, Канстанціна Астрожскага, князёў Менскіх і Слуцкіх і ўсіх фундатараў і страіцяляў Беларускай мінуўшчыны. Гэта былі два магіканы, дзве крыніцы, каторыя перахавалі зародыш беларускай ідэі і не далі ёй згаснуць. Ад іх яна патроху разгаралася і асвяціла цяпер усю Беларушчыну. Не забудзе вас зямля Беларуская! Дух ваш будзе жыць з намі вякі».

Тым часам к 1918-му году «падымаць Беларусь», рэальна стварaць дзяржаўны быт збіралася ўсё больш ўсвядоміўшых яе ідэю людзей. Першнаперш з моладзі. Стары, з пецярбуржскіх часоў грамадавец Язэп Сушынскі ўспамінаў, як радавала яго пры рэгістрацыі дэлегатаў Усебеларускага з'езду прад'яўленне маладымі афіцэрамі і салдатамі білетаў чальцоў Беларускай

сацыялістычнай грамады. Сярод старэйшых будаўнічых Беларускага Дому руплівасцю ды важнасцю ўкладу ў агульную грамадскую справу вылучаўся прафесар Доўнар-Запольскі, які ледзь не 30 год таму першы ў эсэ «Беларускае мінулае» накрэсліў канцэпцыю нацыянальна-гістарычнага развіцця Беларусі. Вучоны, жывучы ў Кіеве, ужо ў маі 1918 г. дзейсна прычыніўся да заснавання на Украіне і выдання беспартыйнай грамадска-палітычнай, літаратурнай і эканамічнай газеты «Белорусское эхо», а пазней «Белорусское слово», арганізаваў Беларускую гандлёвую палату для эканамічнай падтрымкі дзяржаўнасці незалежнай Беларусі. Актыўна публікуючыся ў названых газетах, настойліва заклікаў беларусаў на бацькаўшчыне і ў дыяспары да еднасці ды аб'яднання вакол створанага Радай рэспублікі ўрада, падтрымцы яго, уздымаў актуальныя пытанні дзяржаўнага будаўніцтва, асветы народа, канкрэтна пісаў пра універсітэт.

Аляксандар Уласаў таксама думаў, дбаў пра універсітэт у кантэксце развіцця інтэлектуальных і эканамічных сіл Беларусі, яе перспектыў. У «Минском курьере» ад 30 мая 1908 г. быў змешчаны рэферат, прачытаны рэдактарам «Нашай нівы» ў Віленскай падкамісіі па арганізацыі універсітэта ў Вільні. Даклад А. Уласава меў загаловак «Аб неабходнасці адкрыцця гістарычнага факультэта пры мяркуемым Віленскім універсітэце» і ў ім аргументавана паказана неабходнасць вывучэння на базе архіваў гісторыі, мовы, фальклору беларусаў. Цяпер жа акадэмік Карскі і Доўнар-Запольскі асобна рыхтавалі праекты беларускага універсітэта і хуткае заснаванне яго выглядала зусім рэальным.

Хоць Беларуская гаспода заставалася стаяць недабудаванай, Аляксандар Уласаў, як і іншыя рупліўцы яе, незалежнікі, адраджэнцы, не губляў веры ў яе збудаванне. Верыў у кансалідацыю свайго народа перад выклікам часу. У адной з апошніх сваіх публікацый у «Беларускім шляху» ён казаў: «Палітычныя катаклізмы яшчэ не закончаны, кругом рушацца горы ды мацней кожная нацыя, як, напрыклад, беларуская зліваецца ў адно нацыянальнае цела, у адну нацыянальную душу. Можа быць, яшчэ многа меляў і падводных скал чакаець беларускі дзяржаўны карабель, а мы яшчэ больш загартуемся і выкрышталізуемся і зліемся ў адну родную беларускую сям'ю».

На самым пачатку 1918 гг. Выканкомам Цэнтральнай Вайсковай Беларускай Рады асобнай брашурай быў выдадзены эканамічны нарыс А.М. Уласава «Белоруссия и Литва», дзе падрабязна і, сказаў бы, з любасцю высветлены асновы і фактары эканамічнага развіцця краю, пазначаны прыярытэты на будучыню. Пасля агульнай характарыстыкі тэрыторыі, што, паводле аўтара, крышачку большая за плошчу Англіі, складу насельніцтва (63,8 % беларусаў, 16 % літоўцаў, 14,9 % габрэяў, 5,6 % палякаў і інш.), тыпу гаспадаркі ды шчыльнасці насельніцтва ў канкрэтных рэгіёнах яго, пераходзіць да разгляду багацця краю. Называе каля 8 мільёнаў дзесяцін лесу, пералічвае прычыны страт пры яго вывазе за мяжу, эксплуатацыі. Належна ацаніў геаграфічнае палажэнне і клімат Беларусі, наяўнасць адносна добрых сухапутных і рачных шляхоў зносін у кантэксце перспектывы эканамічнага развіцця. Адзначыў яе гаспадарча-эканамічны тып як пера-

важна земляробскі і падкрэсліў, што «пры лепшай грамадскай і дзяржаўнай арганізацыі край можа стаць цвітучым». Канкрэтна агледзеў такія галіны прамысловасці, як лесаапрацоўчая, вінакуранная, паперамасная і месца іх размяшчэння. Дарэчы, Мінскую губерню з яе 636 вінакураннымі і 36 спіртаачышчальнымі заводамі і 27 мільёнамі за спірт называе самай прасунутай у імперыі. Называе гарады і мястэчкі, дзе развіта гарбарства, вытворчасць шкла. Прычыну слабаразвітага рыбалоўства пры багацці азёр, у адной Лепельшчыне іх да 9 тысяч, бачыць у адсутнасці спецыялістаў. Ёсць перспектывы ў развіцці мяса-малочнай галіны гаспадаркі. Галоўную перашкоду ў развіцці прамысловасці бачыць у адсутнасці прытоку буйнага свабоднага капіталу. Як фактар паспяховага развіцця гандлю і промыслу ў краі разглядае наяўнасць рухава-дзелавога габрэйскага жыхарства, 38,65 % якога працавала ў гандлёвай сетцы. У цэлым жа нарыс А. Уласава, скіраваны на аналіз і паказ эканамічнага патэнцыялу краю, дасягаў сваёй мэты і быў актуальны для часу пошуку Беларуссю шляху ў Будучыню.

Характэрна, публікацыя А. Уласава з невялікімі зменамі была паўторана ў 1920 г. у часопісе ці альманаху «Экономическая жизнь». У 20-м жа годзе ўжо ў Вільні ў зборніку «Нашай нівы» убачыў свет ужо па-беларуску артыкул колішняга рэдактара газеты «Хатнія промыслы Беларусі» з параграфамі «ткацтва», «ганчарства», «дрэўныя промыслы», «такарныя вырабы», «выраб кошыкаў», «выраб вобуві і адзення», «выраб музычных інструментаў», «рымарства», «машыны і струмант гаспадарскі», «хімічныя промыслы», «спосабы падняцця хатніх промыслаў».

К канцу 19018 г. нямецка-кайзераўская навала сплывала, сплыла. Але адбудоўваць Беларусу уласны Дом не станавілася лягчэй. Вяртаўся запоблисполком, каб усталяваць у Беларусі свой парадак, сваю ўладу, без увагі на права тут адвечнага яе жыхара-гаспадара, без уліку нават яго імя.

Праз 4 месяцы, з вясны 1919-га, на гэты раз з Захаду на Беларусь рушылі новыя прэтэндэнты распараджацца яе зямлёй і лёсам яе спрадвечных насельнікаў, прыйшлі польскія легіёны, арганізаваныя маршалкам Пілсудскім. У адозве да жыхароў былога Вялікага княства Літоўскага, дарэчы, састаўлянай пры ўдзеле знаўца традыцыйнай культуры беларусаў Міхала Федароўскага, Пілсудскі абяцаў насельнікам края прадаставіць права самім вырашаць свой лёс. У Мінску маршалак выступіў па-беларуску, чым выклікаў абурэнне тутэйшых існых і ўяўных палякаў. Назначаная адміністрацыя Кіраўніцтва зем всходніх, якая ўжо самой назвай сваёй выдавала рэальную палітычную тэндэнцыю прыхадняў, узяліся гаспадарыць у Беларусі амаль з тым жа антыбеларускім імпэтам, як і камісары Запоблиспалкома. Неўзабаве эндэкі паднялі ў сойме ў Варшаве пытанне аб правядзенні на забраных легіёнам землях плебісцыт з мэтай далучэння іх да адроджанай Польшчы.

Спробы беларускіх палітыкаў незалежніцкай арыентацыі знайсці нейкае разуменне беларускай праблемы ў польскіх дзяржаўных колах, выхад на самога начальніка Польскай дзяржавы, так на той час менавалася пасада Пілсудскага, не мелі поспехаў.

Характэрна, за гэты час, 1919—1920 гг., Аляксандр Уласаў ні ў воднай беларускай газеце, выдаванай спачатку ў Вільні «Беларускае жыццё», у Менску «Звон», «Беларусь», як публіцыст не азваўся. Палітыкі, праўда, не сцураўся. Калі нарэшце ў снежні 1919 г. гаспадары становішча і дазволілі Беларускай Радзе сабрацца на сесію, дзе беларускія эсэры і сацыялісты федэралісты катэгарычна асудзілі палітыку кабінета Антона Луцкевіча ды, зрынуўшы яго, выбралі новае кіраўніцтва БНР, Аляксандар Уласаў увайшоў у склад т. зв. Найвышэйшай рады. Яна спрабавала адстаяць палітычную лінію сацыялдэмакратаў на чале з А.Луцкевічам…

З канца 1920 г. Аляксандар Уласаў у сваёй Мігаўцы пад Радашковічамі і адразу па ўсталяванні савецка-польскай дзяржаўнай мяжы бярэцца за канкрэтную працу — арганізуе ў Радашковічах Таварыства беларускай школы і пачынае з тутэйшымі педагогамі арганізоўваць Радашковіцкую беларускую гімназію.

Актыўнасць грамадзянская тутэйшых, расцэненая польскай адміністрацыяй як палітычная, прыйшлася ёй, адміністрацыі, не да спадобы, і Аляксандар Уласаў з некалькімі радашкоўцамі-землякамі апынуўся ў канцэнтрацыйным лагеры Стшалкове, аж на самай польска-нямецкай мяжы. Акцыя гэта палітычнай паліцыі дэфензівы, аказваецца, не мела толькі лакальнага характару ў памежжы, а закранула ўсю Беларусь. Найбольш арыштавана было беларусаў на Навагрудчыне і рабілася тое пад прыкрыццём барацьбы з бальшавізмам. Адметна, арышты вясной 1921 г. у Заходняй Беларусі сінхронна супалі з першымі маштабнымі арыштамі ў Савецкай Беларусі. У Менску беларускія эсэры вялі сябе вельмі палітычна актыўна падчас другога абвяшчэння БССР. Можа якраз дзякуючы іх актыўнай пазіцыі, на гэты раз абвяшчанай рэспубліцы не магло баць дадзена нейкае іншае кан'юнктурнае найменне накшталт ЛітБелу або Западнай камуны. Але арышты іх у 1921-ым былі перадвызначаны Белакаменнай, дзе бальшавікі рашылі расправіцца з найбольшымі сваімі палітычнымі канкурэнтамі. Акрамя таго, што эсэры ў Расіі перад Кастрычніцкім пераваротам былі колькасна самай вялікай партыяй, яны з'яўляліся рэпрэзентантамі найбольшага сацыяльнага пласта грамадства — шматмільённага сялянства краіны. У Беларусі эсэры сярод іншых палітычных згрупаванняў набіралі вагу. Асноўная маса чальцоў партыі — аграномы, настаўнікі, валасныя пісарчукі — сваім паходжаннем былі звязаны з вёскай. Інтарэсы мільённай сялянскай гушчы былі ім не чужыя.

Але вернемся да Аляксандра Уласава, што воляю лёсу, на гэты раз споўненай польскай дэфензівай, апынуўся ў Стшалкове. Склад інтэрнаваных у лагер быў стракаты. Значную частку ў ім складала інтэлігенцыя. Следства ніякага не вялося. Становішча зняволеных было няпэўнае. Колькі будуць трымаць у ізаляцыі, ніхто не ведаў. Нечакана прышла думка звярнуцца з лістом на імя першай асобы ў Міністэрства справядлівасці — так называлася Міністэрства юрыспрудэнцыі ў адроджанай Польшчы. «Мы, ніжэй падпісаныя, грамадзяне Польскай рэспублікі, беларусы інтэрнаваны ў парушэнне Канстытуцыі Польшчы… Нікому з нас не прад'яўлена ніякіх абвінавачанняў і прычыны пазбаўлення нас волі…» — пісалася ў прашэнні.

Далей ішоў спіс жыхароў аднаго лагернага барака ў Стшалкове: прозвішча, год нарадзінаў, месца пражывання да арышту, сацыяльны стан, фах. Усяго 49 чалавек. Сярод іх адна з пазіцый: Аляксандар Уласаў, 1874, фальварак Мігаўка Радашковіцкай гміны, Маладзечанскага пав., беларускі літаратар. У спісе яшчэ адзін беларускі журналіст, знаёмец Уласава — Вячаслаў Адамовіч. Рэшта сяляне, рабочыя, настаўнікі. Быў няпросты клопат, каб пасланне трапіла на адрас да самой высокай асобы ва ўладзе.

На станцыі Стшалкове не спыняліся пасажырскія цягнікі, у якіх быў паштовы вагон. І з гэтым, як успамінала пляменніца дзядзькі Уласава Вера Тарашкевіч-Ніжанкоўская, далі раду, справіліся. Ліст вязняў у паштовую скрынку вагона цягніка, які прыпыняў на станцыі хуткую язду, закінуў удалы вершнік, прытарнаваўшы галёп каня запавольненаму ходу вагонаў. Міністар юстыцыі, які прачытаў нечаканае пасланне з канцэнтрацыйнага лагера, напэўна, ніяк не мог здагадацца, што аўтар атрыманага ім ліста праз год стане сенатарам, увойдзе ў вышэйшы орган Рэчыпаспалітай Польшчы — сойм.

Выбавіўшыся з лагера, Аляксандар Уласаў адразу вярнуўся да рэалізацыі сваіх асветных планаў, перапыненых інтэрніраваннем. Заснаваў-такі ў Радашковічах Таварыства беларускай школы і дамогся канцэсіі на адкрыццё беларускай гімпазіі. У раду ТБШ акрамя яе ініцыятара былі абраны А. Бельдзюкевіч, Яз. Гаўрылік, Рудзь і К. Тышкевіч. Праз год-другі Тышкевіч узначаліў беларускую гімназію ў мястэчку Гарадок, што нейкіх кіламетраў 20 на паўднёвы захад ад Радашковічаў.

Заснаванне Радашкоўскай беларускай гімназіі захапіла Уласава: збіранне педкалектыву, наймы памяшкання, арганізацыя інтэрната для навучэнцаў… Падбіраў настаўнікаў. За дырэктара згадзіўся стары грамадавец, арганізатар падпольнай за часы царызму тыпаграфіі БСГ, юрыст па адукацыі Фелікс Стацкевіч. Беларускую мову і спевы павёў Язэп Гаўрылік, прыродазнаўства — Крачкоўскі… Утрымліваць інтэрнат для гімназістаў дапамаглі амерыканскія метадысты. Сярод іх асабліва прыхільны да асветнага клопату беларусаў аказаўся швед па нацыянальнасці Р.Д. Віт.

Камунікабельны, ветлівы і прыязны да людзей, Уласаў праз нейкі час заангажуе да працы ў Радашковіцкім асветным асяродку і мастака Язэпа Драздовіча, і той намалюе жывапісны партрэт духоўнага патрона гімназіі Францішка Скарыны. Але гэта крыху пазней: у 26—27 гг. Ды тое хоць і грамадскі клопат, але, лічы, пры доме. Ад Мігаўкі да Радашковіч — рукой падаць. Сеў на ровар і праз пару хвілінаў там і зноў тут.

Але была ў Аляксандра Уласава, пачынаючы з 1923 г., праца ў дзяржаўнай структуры даваеннай Польшчы. Абраны ад Заходняй Беларусі ў сойм Рэчыпаспалітай Польшчы 2-ой па спіску нацыянальных меншасцяў, ён як сенатар, пэўна, не без намераў з боку Беларускага пасольскага клуба кантраляваць ды нешта карэгаваць у бюджэце краіны быў вылучаны ў бюджэтную камісію сойму. Меў эканамічныя веды, але ці мог там нешта рэальнае зрабіць, уплываць на рашэнні большыні дэпутатаў правых партый польскага парламенту. Становішча пасла-дэпутата, сенатара мог выкарыстаць і

выкарыстоўваў для падтрымкі развіцця беларускай асветы, якой на гвалт не жадала ходу польская адміністрацыя.

Асветны фронт за беларускую школу, супраць паланізацыі ў Заходняй Беларусі годна трымала грамадска-асветная арганізацыя Таварыства беларускай школы, маючы ў кіраўніцтве сваім такіх асветных дзеячоў, як Сяргей Паўловіч, Рыгор Шырма, той жа Фелікс Статкевіч. Але змагацца супраць дзяржаўнай палітыкі, мэтава скіраванай на асіміляцыю беларусаў, было цяжка. Нярэдка каб «прабіць» нейкую асветную акцыю, напрыклад, зацвердзіць заяўкі грамадзян на адкрыццё беларускай школы ў мясцовага князька, павятовага старасты, патрэбна была цяжкая артылерыя. Супрацоўніца Галоўнай управы ТБШ Надзея Шнаркевіч успамінала, што ў патрэбе Уласаў прыязджаў з Варшавы ў Вільню, начаваў у сядзібе ТБШ, наказваючы нагрэць яму вялікі чайнік, а назаўтра зранку выбіраўся да названага яму чыноўніка, каб аўтарытэтам сенатара прымусіць таго выканаць запісанае ў Канстытуцыі права на школу для беларускіх дзяцей у іх роднай мове.

Пасля разгрому ўрадам Пілсудскага-Мештовіча Беларускай сялянска-работніцкай грамады Уласаў паволі адыходзіць ад вялікай палітыкі. У 1928 г., у другой кадэнцыі сойму ён ужо не вылучаўся ў паслы-дэпутаты. Заставаўся адно ці не найвышэйшым аўтарытэтным апекуном беларускай асветы. На ўсіх павятовых з'ездах Таварыства беларускай школы, аб чым навочна сведчаць здымкі ўдзельнікаў іх, змешчаныя ў віленскай беларускай перыёдыцы 30-х гадоў, у шматлюдным акружэнні энтузіястаў асветы побач з Рыгорам Шырмам узвышаецца звычайна самавітая постаць Аляксандра Уласава. Часта з кіем, сваім улюбёным спадарожнікам, якім, па ўспамінах, яшчэ чвэрць веку таму назад, у Менску грукнуўшы ў зямлю, казаў: «Распрабеларуская зямля! Спіць. Будзіць трэба!..» І будзіў…

Будзіў у беларуса чалавека і грамадзяніна. Талкаваў, доказна тлумачыў на старонках «Нашай нівы», як пабудаваць цывілізаванае, адпаведнае часу грамадства. Клікаў, паказваў перавагу грамадскай супольнасці, неабходнасць арганізаваць яе, каб не адно з казённай рукі карміліся ўсе. Вучыў будаваць справу жыцця ў хаўрусе, высілкамі супольна выбраных адукаваных, сумленных, грамадска адказных людзей. Разам дбаць пра грамадскае Дабро. Падказваў, як рацыянальней распарадзіцца багаццямі краю і перадусім зямлёй, разумна гаспадарыць на ёй. Вучыў і сам даваў прыклад, як распаліць светач асветы дзеля лепшай будучыні народа.

Настойліва заклікаў, наказваў у друку і вусна ў слове будаваць дзяржаўны беларускі Дом. Глыбока ўсведамляў, што толькі ў суверэнным, незалежным сваім гаспадарстве кожны народ можа да канца раскрыць свой прыроджаны, ад Бога патэнцыял, унесці нешта вартае ў агульначалавечую культуру, цывілізацыю.

***

Трыццатыя гады ў жыцці Заходняй Беларусі былі цяжкія. А для Аляксандра Уласава як працаўніка беларускай нівы, грамадска-палітычнага дзе-

яча і самотныя. Яшчэ ў 1929 г. улады закрылі яго дзяцінку Радашковіцкую беларускую гімназію, матывуючы свой антыасветны, антыбеларускі акт яе камунізуючым уплывам на моладзь.

Былы сенатар цяпер на стала асеў жыць у Мігаўцы, невялікім, на 60 га фальварку, купленым яго бацькам Мікітам, паштовым служачым, яшчэ за царскія часы. К 30-ым гадам Аляксандар сплаціў часткі, долю братам: бацькава спадчына была запавешчана чатыром сынам-братам. Акрамя таго, апекаваўся сям'ёй брата Жоржа, здольнага драматурга-пачаткоўца, які загінуў у першую сусветную вайну на фронце. Яшчэ будучы сенатарам, уладкаваў дзяцей яго ў добры пансіянат.

Так склалася: газета, кніжнае выдавецтва пры «Нашай ніве», потым палітыка, розны грамадскі клопат — ажаніўся пасля пяцідзесяці. У Мігаўцы патрэбна была гаспадыня, а не адна ахмістрыня Антоня, якая частавала нярэдкіх гасцей гаспадара ў залежнасці ад таго, як ласне ёй падабаліся ці не падабаліся тыя госці. Жонка Аляксандра Паўлаўна, паводле прафесіі настаўніца, патрапіла паставіць жыццё ў Мігаўцы на свой лад. Была ўважлівая да вясковых дзяцей, моладзі. Ладзіла ім ялінку на Каляды, на Купалле гульні вакол вогнішча на ўзгорку. З местачковай радашкоўскай моладдзю ставіла спектаклі — купалаву «Паўлінку», «Збянтэжанага Саўку» Леапольда Родзевіча. Зямля была аддадзена ў арэнду. Былы рэдактар «Нашай нівы» і «Сахі» не пераацэньваў сваіх здольнасцяў гаспадара. Жылі не багата. Арандатар Мігаўкі нехта Канстанцін Лагіновіч забіраў сабе палову ўраджаю з уласаўскіх палеткаў і праз пяць год арандатарства купіў сабе 20 га зямлі. Як высветлілася, арандаванне спалучаў з наглядам за гаспадаром Мігаўкі, быў канфідэнтам польскай дэфензівы, сексотам, або стукачом, паводле практыкі пазнейшых нашых апекуноў. Па яго даносах адміністрацыя штрафавала Уласава: то за тое, што на ніве расло зашмат аўса, то за неўзнос грошай ў фонд абароны «Айчызны». Але самае гнятлівае было не ў паліцэйскім наглядзе: да яго беларускі інтэлігент прывык, павінен быў прывыкнуць. Аптыміста з натуры, нават весялуна Аляксандра Уласава азмрочвала, не магла не непакоіць справа яго жыцця, справа адраджэння, палітычнага вызвалення беларускага народа. На золку стагоддзя адзін з пачынальнікаў беларускага нацыянальнага руху, у другой палове 30-х гадоў Аляксандар Уласаў апынуўся на яго перыферыі.

Пасля пагрому польскімі ўладамі легальных форм беларускага руху, арыштаў, забароны стотысячнай Беларускай сялянска-работніцкай грамады, пачатку масавых рэпрэсій супраць беларускай інтэлігенцыі ў СССР у Заходняй Беларусі склалася спецыфічная грамадска-палітычная атмасфера. У 20-я гады адраджэнска-вызваленчы рух Заходняй Беларусі меў маральную і матэрыяльную падтрымку з усходу. Менск за кароткі перыяд беларусізацыі і карнізацыі дэманстраваў рэальныя здабыткі ў галіне беларускай літаратуры, навукі, мастацтва, у цэлым культуры, і раптам пагром усяго беларускага пад жупелам барацьбы з нацдэмаўшчынай. Такое напачатку цяжка паддавалася асэнсаванню. Гэта быў жалезны наступ савецкага таталітарызму. Адной з яго жорсткіх праяў.

Не даводзілася заходнім беларусам тым часам чакаць нейкай аддушыны, надзей на перспектыву і ад рэжыму пілсудчыкаў, аўтарытарнаму па сваёй прыродзе. Устаноўка на каланізацыю, паланізацыю ажыццяўлялася паслядоўна. У тым ліку і не менш наглядна, чым на грамадска-палітычным полі, у сферы асветы. У Таварыстве беларускай школы, найбольшым, масавым асветным аб'яднанні ў 30-я гады, польскія ўлады бачылі апору беларускага супроціву. Асобныя гурткі ТБШ і павятовыя структуры яго старостамі закрываліся паступова, але паслядоўна, аж пакуль у снежні 1936 г. гэта беларуская грамадска-асветная арганізацыя разам з Беларускім інстытутам гаспадаркі і культуры не былі забаронены зусім. Ішлі канфіскаты кніг заходнебеларускіх пісьменнікаў, паэтаў М. Танка, які, дарэчы, нейкі час паспеў павучыцца ў Радашкоўскай гімназіі, зборнікаў паэзіі М. Васілька, М. Машары. Дайшло да забароны нават буквара выдатнага беларускага педагога, асветнага дзеяча Сяргея Паўловіча. Двойчы арыштоўваўся збіральнік беларускага фальклору, арганізатар і дырыжор славутага ў Вільні хору Рыгор Шырма.

Беларускі рух стратэгічна цэласны і мэтаімклівы ў 20-х гадах, у 30-х перажываў абумоўлены аб'ектыўнымі гістарычнымі ўмовамі крызіс. Ішла дыферэнцыяцыя: дзяліўся на плыні і палітычныя групоўкі. Была патрэба ў новай стратэгіі і тактыцы, і ўсе шукалі іх не разам, а паасобку. Некаторыя грамадска-палітычныя дзеячы сядзелі ў турмах, другія адышлі ад руху з-за маральна-этычных прычын, задушлівай атмасферы, трэція шукалі сваю нішу ў агульным змаганні, што называецца, вобмацкам. Падпольная Кампартыя Заходняй Беларусі, інструкцыраваная з цэнтра, вяла ў Вільні псеўдаактуальную акцыю супроць так званай нацдэмаўшчыны, колькі змогі ваявала супраць нацыянальнай кансалідацыі беларусаў перад абліччам наступальнага польскага аўтарытарызму.

***

На трэці дзень прыходу ў Радашковічы, Заходнюю Беларусь Чырвонай Арміі, 19 верасня 1939 г. Аляксандар Уласаў пісаў свайму сябру, паплечніку па «Нашай ніве», з якім разам будзілі Беларусь, марылі ўбачыць яе вольнай і шчаслівай, Антону Луцкевічу: «Дарагі Антон Іванавіч! Калі астатні раз мы абгаварвалі сітуацыю Заходняй Беларусі (ішла мабілізацыя ў Польшчы), гараскопы былі «мрачныя». Не прадбачылі мы такой вялікай радасці, як заняцце Саветамі Заходняй Беларусі, каторую палякі прама «даядалі» і задушвалі. А галоўнае зрабілі цёмнай маладзеж.

Тут быў сход, каторы адобрыў далучэнне. …Вы знаеце маю ўсю працу, як і я Вашу. Мы — інтэлігенты работаючыя для народа. Батрацкі камітэт выразаў мне дом і 5 гектараў за маю працу ўсяго жыцця. Часовае праўленне ў Радашковічах гэта зацвердзіла, але таварыш камісар з Усходняй Беларусі мне кажа, што я «помещик» і каб я выносіўся з Мігаўкі, узяўшы, як тут практыка, пальто і шапку. Сяляне, даведаўшыся аб гэтым, былі як перуном аглушаны. Пакуль што на колькі днёў устрымалі, але прыдзе момант, што я буду як кароль Лір Шэкспіра».

Вось у такой сітуацыі апынуўся раптам стары рабачай на беларускай ніве, рэдактар, выдавец, грамадска-палітычны, асветны дзеяч. З шасцідзесяці пяці пражытых гадоў большую палавіну свайго жыцця, ад памятнага ўсім 1905—06-га, ён шчыра працаваў для агульнага дабра, грамадзянскай асветы народа, святлейшай будучыні беларусаў. Цяпер перад абліччам старога сябра па справе жыцця, з кім разам пройдзена ледзь не да канца жыццёвая дарога, аглядаўся на пражытае, скрушна адчуваў усю няпэўнасць свайго цяперашняга становішча. «У мяне ёсць вялікі архіў па школьных беларускіх справах і ўсякіх іншых. Многа фатаграфій…, нейкія кнігі. Я ўзяўся ўжо пісаць свае ўспаміны. Заўтра еду ў Краснае, а адтуль у Маладэчна і Вільню». І, відаць, на той выпадак (ці прадчуваў?), што не ўдасца дастацца да Вільні: «Паслаў часоваму кіраўніку Маладэчанскага павету просьбу зацвердзіць за мной 5 гект. свой curriculut witae і што я не «помещик», а інтэлігент для народу».

І далей працягваў з непрыняццем, крыўдай на менаванне ўладай сябе памешчыкам і планы-непланы, меркаванні пра ўласнае і жонкі Аляксандры будучае: «Мы з жонкай і сынамі працуем ужо даўно, як мужыкі, цяжка і напружана. А за гэта маем, што ёсць. Жонка хоча быць вучыцельніцай у Мігаўцы. Яна была ў 1913 г. у Расіі і потым у Саветах вучыцельніцай. Мае шалёную энергію і жалезную сілу волі. Я хацеў у Радашкавічах адчыніць беларускую гімназію, але маё палажэнне хіснулася». Асацыяцыя з трагедыяй Шэкспіра прамільгнула ў свядомасці самавітага беларускага інтэлігента не выпадкова.

Першы акт драмы-трагедыі Аляксандра Уласава пачаўся проста. Мінуўшы Краснае, дзе невядома чым меўся адзначыцца, 16 кастрычніка 1939 г. падаўся ў Маладзечна. Перш-наперш зайшоў у рэдакцыю газеты, што знаходзілася непадалёк ад станцыі. Прадставіўся як даўнейшы беларускі журналіст у надзеі, ці не ўзялі б і яго на работу. Там, відаць, былі людзі адпаведна адказныя і ўва ўсім кампетэнтныя. Параілі спачатку зайсці ў раённы аддзел унутраных спраў (НКВД), каб атрымаць дазвол-рэкамендацыю. Там сказалі напісаць аўтабіяграфію. Напісаў разгорнутую, досыць падрабязную, як і наказвалі. Напісаў праўдзіва, калі і дзе чым займаўся, у якіх арганізацыях удзельнічаў, што арганізоўваў сам. Напрыклад, курсы прадстаўнікоў беларускіх гімназій у 1928 г. пры Радашковіцкай, ім адкрытай, праз якую прайшло 860 вучняў. Колькі слоў пра гаспадарку ў Мігаўцы, даход ад яе і колькі плаціў парабку да здачы зямлі ў арэнду…

Оперупаўнаважаны Маладзечанскага аддзела НКВД нехта т. Желтов прачытаў аўтабіяграфію Уласава ўважліва і на падставе яе фактаў разам з сваім намеснікам Чурсіным напісалі абвінаваўчае заключэнне. У заключэнні тым усё было пастаўлена, што называецца, з ног на галаву: «Следствием по делу установлено, что Власов А.Н. в период 1905—06 гг. работал членом ЦК Белорусской громоды, которая была националистическо-буржуазной организацией и выполняла задачу белорусской буржуазии и помещиков. В период немецко-польской оккупации являлся членом контрреволюционной Рады Белорусской республики. Принимал активное участие в действиях организации Бел. громоды» (скрозь назва арганізацыі операмі

падаецца скажона: у БСГ апушчана слова «сацыялістычная», а ў БСР грамадзе «сялянска-рабочая». — *А.Л.*). Далей як аб крымінале, вядома ж, гаворыцца пра тое, што «с 1923 по 1928 г. являлся членом польского сената, в 1929 на суде защищал врага белорусского народа Тарашкевича, бывшего организатора Белорусской громоды, с которым имел политическую и деловую связь. Кроме того как помещик жестоко эксплоатировал работающих у него крестьян».

Былі яшчэ абвінавачанні супраць Уласава, у тым ліку, што «занимался нелегальным перебрасыванием через границу ряда подозрительных лиц из активистов Бел. громады». Уласаў напісаў у аўтабіяграфіі, што памог перайсці ў Савецкі Саюз кампазітару Грыневічу, педагогу Віленскай беларускай гімназіі Красінскаму, сакратару павятовага камітэта БСР грамады ў Ваўкавыску Васіленю і яго жонцы. Мігаўка была пры самой савецка-польскай граніцы: чаму не памагчы добрым людзям у іх скруктнай сітуацыі, пагрозе быць арыштаванымі дэфензівай? Далей ўсё рабілася ў стылі часу, дзяржсістэмы, якую органы прадстаўлялі і ад імя якой тварылі суд.

На падставе пастановы ад 16.10.1939 г. супрацоўніка опергрупы г. Маладзечна т. Блінава, які знайшоў, што «Власов, житель фольварка Миговка… подозревается в шпионско-провокаторской деятельности, также является переправщиком и активным организатором «громоды» на территории Западной Белоруссии», ды абвінаваўчага заключэння оперупаўнаважанага 2-га аддзялення Желтова особое совещание ад 29.11.1940 г. прыняло рашэнне: «Власова А.Н. как социально опасный элемент заключить в исправительно-трудовой лагерь сроком на пять лет, считая срок с 16.10.39 г.» Намеснік пракурора Маладзечанскай вобласці Дунаеў зацвердзіў рашэнне асобай нарады і палітзэк Аляксандар Уласаў быў этапіраваны на станцыю Марыіск Новасібірскай воласці, дзе і памёр, па адных звестках, 8-га, а па іншых, 11 сакавіка 1941 г. А драма яго сям'і працягвалася. Пасля арышту мужа Аляксандра Паўлаўна выбралася з сынамі Алегам і Дзімам, былі яны яшчэ падлеткамі, да вясковых суседзяў Юркі і Маланкі Шнэйдараў. Затым перабралася да Надзеі Шнэйдар, чыя хата была пад лесам. Мігаўцы ведалі Уласава як людскага, спагаднага чалавека. Успаміналі, што памагаў у бядзе. У каго прападзе карміцелька сям'і карова — дапаможа купіць. У некага здараўся пажар — дасць дрэва з уласнага ляску на будову. Дабрадушнага, жартаўлівага, яго звалі па-свойму Улас, Аўлас. Шанавалі і яго Аляксандру, якую праз нейкі час з сынамі таксама вывезлі ў Паўладарскую воласць, дзе яна працавала спачатку на лесапавале, а потым мусіла жыць на высылцы. Вярнуўшыся пасля смерці «бацькі народаў» на радзіму, яна з дапамогай былога члена ЦК КПЗБ, а ў 50-я гады навуковага работніка Гістпарта М.С. Арэхвы, які пісьмова засведчыў Камітэту дзяржбяспекі БССР, што «Аляксандар Уласаў не нацыяналіст, знаходзіўся ў апазіцыі да польскай буржуазнай дзяржаўнасці і акупацыйных уладаў», дабілася рэабілітацыі мужа.

Яшчэ на яе вачах, да вывазу ў ссылку, па распараджэнні валасной улады Вітушкам і Яблонскім былі вывезены ў Радашковічы двума падводамі кнігі і архіў Уласава. Там згружана ў памяшканні валаснога ўпраўлення, і лёс іх,

як бібліятэкі Храбтовічаў у Шчорсах ды шмат дзе ў вызваленай у 1939 г. Заходняй Беларусі, быў сумна-марны.

У 1992 г. аўтар гэтага нарыса з рэжысёрам Юрыем Лысятавым працавалі над дакументальным фільмам, прысвечаным Аляксандру Уласаву. Тады былі запатрабаваны з небыцця высокія імёны Бацькаўшчыны для мацавання толькі што аб'яўленай незалежнасці Рэспублікі Беларусь. У той час па калідорах, пэўна, самага закрытага да таго ведамства, як і ў цэлым па краіне, гулялі ветрыкі Свабоды. Патурбаваўшы заявай шэфа КДБ генерала Шыркоўскага, мы без праблемы атрымалі дазвол непасрэдна ў сядзібе высокай установы папрацаваць над вывучэннем справы Уласава. Яна знаычыцца ў архіве КДБ пад № 56204.

Так што расказанае намі абаперта на дакументы архіваў у Менску і Вільні, справы падсудных за царскія і савецкія часы. Штось пачулі, даведаліся ад землякоў ды родных незабыўнага дзядзька Уласава, Аўласа. Кажуць, ён часам услых узгадваў словы Янкі Купалы, якога ведаў зблізку з віленскіх і мінскіх 1919—20 гадоў:

Нам трэба жыць і долю папраўляць,
Каб потым нас патомкі не клялі.

Будзем жа ўдзячна помнымі. Не забывацца тых, хто наказваў рупіцца аб супольнай, грамадскай долі і сам даваў прыклад годнага жыцця насуперак няволі, нават смерці.

Glorija victis! Слава пераможаным!

*2005, 2008 гг.*

# Браніслаў Тарашкевіч: трагічны пошук свабоды

Сярод грона інтэлігентаў, што на зары XX стагоддзя ўсвядомілі сябе беларусамі ды паклалі працу і жыццё на тое, каб неяк вывесці свой народ з беспрасвецця нацыянальнага гібення на шлях свабоднага развіцця, постаць Браніслава Тарашкевіча — адна з самых адметных. Рана заангажаваўся ў публічнае грамадскае жыццё. Студэнтам першага курсу гісторыка-філалагічнага факультэта Пецярбургскага універсітэта ў 1911 годзе ўступіў у Беларускую сацыялістычную грамаду, на той час падпольную. Быў дзейсны ў студэнцкім асяроддзі: у Беларускім навукова-літаратурным гуртку пры універсітэце, у паточнай працы выдавецкай суполкі «Загляне сонца і ў наша ваконца», студэнцкім хоры на сцэне тэатра «Пальма» падчас этнаграфічных канцэртаў моладзі. З 1913 года пачаў друкавацца ў газеце «Наша ніва», часопісе пецярбургскіх студэнтаў «Раніца», заснаваў беларускі часопіс грамадскай думкі «Сябра», выхад якому ў свет перакрыла царская цэнзура.

Пакінуты пасля заканчэння універсітэцкага курсу пры кафедры рускай мовы для падрыхтоўкі да прафесарскага звання, пад кіраўніцтвам акадэміка А.А. Шахматава к восені 1917 года закончыў напісанне граматыкі сучаснай беларускай мовы. Малады філолаг тэарэтычна абагульніў практыку беларускай пісьмовай традыцыі і, выпрацаваўшы на беларускай моўнай аснове неабходную лінгвістычную тэрміналогію, даў апісанне фанетычнай і марфалагічнай сістэм беларускай мовы, распрацаваў арганічны прыродзе яе правапіс. Аналітычныя характарыстыкі граматычных катэгорый, правілаў абапёр на наглядных прыкладах, узятых з навейшай беларускай мастацкай літаратуры і фальклору.

Веданне беларускай народнай гаворкі, маўлення служыла маладому вучонаму надзейным камертонам у яго першапраходніцкай працы. Аб тым, што ў «Беларускай граматыцы для школ» Бр. Тарашкевіча глыбінная сутнасць мовы беларусаў, яе характар, асноўныя лініі развіцця былі ўмела выяўлены і трапна перададзены ў граматычных катэгорыях, правілах, правапісе, можа пацвердзіць той факт, што і сёння, без мала праз стагоддзе, канцэптуальна сфармуляванае аўтарам першай граматыкі, яго тэрміналогія ляжаць у аснове сучасных граматык нашай мовы. Выдадзеная ў 1918 годзе «Беларуская граматыка для школ» падаспела к часу: рэвалюцыя разбудзіла ў народзе натуральную цягу да асветы, на парадку дня востра ўстала праблема будавання беларускага школьніцтва.

Аднак пераканаўчая заяўка на кар'еру вучонага ў Тарашкевіча спачатку не атрымала працягу. Вір палітычных падзей няўхільна ўцягваў маладога асветніка-мовазнаўца ў вадаварот грамадскага жыцця. Праўда, урыўкамі, час ад часу Тарашкевічу яшчэ ўдавалася паслужыць у прамым сэнсе слова асветным мэтам. З восені 1919 года ён чытае лекцыі па беларускай мове ў Мінскім педагагічным інстытуце, першы такі курс у гісторыі вышэйшай школы. У 1920 годзе ўзначальвае Беларускі аддзел у дэпартаменце асветы Сярэдняй Літвы, часовага дзяржаўнага ўтварэння на тэрыторыі Віленшчыны, Заходняй Беларусі, дзе яму з Я. Станкевічам за кароткі час удалося арганізаваць беларускія настаўніцкія курсы і адкрыць 200 школ з выкладаннем па-беларуску. У 1921—22 гг. Тарашкевіч выкладчык і дырэктар Віленскай беларускай гімназіі, адзін з ініцыятараў-заснавальнікаў Таварыства беларускай школы, культурна-асветнай арганізацыі, што адыграла выдатную ролю ў пашырэнні асветы і грамадскай свядомасці ў Заходняй Беларусі. У адначассі Тарашкевіч яшчэ актыўны ў працы Беларускага навуковага таварыства, Выдавецкага таварыства, дзе кадыфікуе тэрміналогію для беларускіх падручнікаў. Гэтым жа часам з'яўляюцца ў перыядычным друку і яго першыя пераклады эпасу Гамера.

З канца 1922 года ён не сказаць раптам, але беспаваротна сыходзіць у палітыку. Патэнцыйнага навукоўца, асветніка зрабіць такі крок аб'ектыўна змушалі суровыя беларускія грамадска-палітычныя рэаліі. У лістападзе 1922 года віленскі беларускі актыў (у 20-я гады XX ст. беларусы мелі два палітычныя і культурныя цэнтры — Мінск і Вільню), выступаючы ў адзіным выбарчым блоку нацыянальных меншасцяў здолеў правесці ў сойм і сенат Польскай дзяржавы 14 сваіх прадстаўнікоў, выбраных на альтэрнатыўнай аснове. Узначаліць Беларускі пасольскі клуб, беларускае парламенцкае прадстаўніцтва ў найвышэйшым органе дзяржавы абранцы народа Заходняй Беларусі даверылі самаму маладому між сабой — Браніславу Тарашкевічу.

Беларускія дэпутаты прыйшлі ў сойм з выпрацаванай праграмай дзеяння. Яна ўключала канкрэтныя палітычныя, сацыяльныя і культурніцкія задачы, што паўсталі перад заходнімі беларусамі, чые землі згодна польска-савецкай мірнай дамовы адыйшлі да Польшчы. Для Тарашкевіча ўжо не складалі сакрэту настроі, погляды правацэнтрысцкай бальшыні сойма, калі ён першы раз падняўся на трыбуну. Асобных польскіх дэпутатаў раздражняла ўжо сама думка аб тым, што беларусы як самастойная этнічная супольнасць, палітычная група патрапілі перамагчы падчас выбараў на «крэсах». Сваё першае выступленне кіраўнік беларускіх дэпутатаў пачынаў з годнасцю, не без выкліку: «Высокая, але… пустая палата! (Частка дэпутатаў пасля перапынку яшчэ не вярнулася з буфета). Насуперак зводных разлікаў нашых ворагаў… і нават над усякае спадзяванне нашых нямногіх прыяцеляў, — мы пераступілі парог сойма Польскай Рэчы Паспалітай. Пераступілі мы гэты парог у колькасці папраўдзе неадпаведнай да масы беларускага народа, які маем права прадстаўляць, але дастатковай на тое, каб не толькі перад Польшчай, але перад усім светам засведчыць, што жыве беларускі народ».

Дэпутата-клерыкала, які перасцігаў прамоўцу пытаннем-рэплікай: ці маюць беларусы гістарычны пашпарт, аргументамі этычнага сэнсу паказаў вартым жалю, а сам яго запыт бліскуча выкарыстаў, каб важкімі гістарычнымі фактамі-дзеямі сцвердзіць ідэнтычнасць (самасць) беларускага народа, сцісла акрэсліць поступ беларускага адраджэнскага руху сучаснасці і яго мэты. Аўдыторыя ўсё ж была дастаткова самавітая — увесь дэпутацкі корпус парламента дзяржаўна адноўленай Польшчы. «Беларускі народ не цяпер толькі творыцца, — казаў прамоўца. — Беларускі народ старажытны, але разам з тым і малады, малады таму, што адраджаецца і ўступае ў сям'ю жывых народаў, якія змагаюцца за сваё жыццё. Гэта народ, які меў вялікую культуру, народ, мова якога была дзяржаўнай, які меў сваю дзяржаўнасць…»

Прыгадаў помнік праўнай думкі Літоўскі статут, укладзены Львом Сапегам і выдрукаваны па-беларуску, сказаў пра гістарычныя перыпетыі: здрадзе вышэйшых беларускіх станаў свайму народу, акцэнтаваў факт, што «на Усебеларускім з'ездзе 1917 года прадстаўнікі беларускага народа абвясцілі перад усёй Расіяй і перад усім светам, што хочуць жыць жыццём вольным, жыццём уласным нацыянальным…»

Разгорнутага гістарычнага экскурсу ў мінуўшчыну, выкліканага паняверкай беларусаў як народа, прамоўца адмыслова не рыхтаваў. Меўся сказаць і сказаў перш-наперш пра каланіялісцкую сутнасць палітыкі польскай улады, яе адміністрацыі на землях Заходняй Беларусі. Казаў доказна, з уразлівымі фактамі ў руках: аб гвалтоўным насаджэнні вайсковага асадніцтва, палітычным пераследзе пад хлуслівым абвінавачаннем усіх у «бальшавізме», варварскай высечцы беларускіх лясоў, аддадзеных на водкуп бельгійскім і англійскім фірмам, беспадстаўным пазбаўленні польскага грамадства мясцовых людзей, арышце і высылцы іерархаў праваслаўнай царквы, нарэшце, закрыцці 100 беларускіх школ, настаўніцкіх семінарый у Свіслачы і Барунах, беларускай гімназіі ў Будславе…

У кантэксце выкладзеных фактаў гаварыў аб патаптанні міжнародных дамоў, падпісаных Польшчаю ў Версалі і на перамовах у Рызе, пераканаўча разгарнуў тэзіс аб сучаснай прававой дзяржаве ў дачыненні да практыкі польскіх улад… Асобна спыніўся над заданнем, пастулатамі беларускіх пасланцоў у сойм, выпрацаванымі ў Вільні на пасяджэнні выбарчых камітэтаў сумесна з абранымі дэпутатамі ад усёй Заходняй Беларусі. Яны былі сфармуляваны тэзісна: «…Стоячы на грунце тэрытарыяльнай аўтаноміі з краёвым соймам у Вільні, дамагаемся: як найхутчэйшага спынення штучнай каланізацыі і ліквідацыі вайсковага асадніцтва; нацыяналізацыі усіх лясоў…; увядзення ў жыццё зямельнай рэформы, якая б на самаперш забяспечыла мясцовае беззямельнае і малазямельнае насельніцтва, надзяляючы зямлёю без выкупу; звароту рэпатрыянтам (гутарка пра 0,5 мільёна бежанцаў, выгнаных у свет падчас 1-ай сусветнай вайны. — *А. Л.*) канфіскаваных дзяржаваю зямель; свабоды арганізацый у эканамічным жыцці». Далей праграма Беларускага пасольскага клуба ўключала: «Безадкладнае выданне законаў, якія б забяспечылі беларускаму насельніцтву культурнае і асветнае развіццё, дапушчэнне беларускай мовы ў адміністрацыю і суд, неўмяшанне

адміністрацыйных улад у рэлігійнае жыццё, …адміністрацыя з мясцовых элементаў, увядзенне дэмакратычных прынцыпаў у судах, суда прысяжных і выбарнасці міравых суддзяў, урэшце, тэрытарыяльнай арганізацыі войска».

За 1923 год дзевяць разоў Тарашкевіч падымаўся на трыбуну сойма: пры абмеркаванні выступу прэм'ера Сікорскага па пытаннях бягучай палітыкі, падчас справаздачы аграрнай і бюджэтнай камісій, пры абмеркаванні праекта бюджэту, закона аб амністыі, справаздачы асветнай камісіі, аб праследаванні беларускіх школ, пры дыскусіі над законам аб парцэляцыі і асадніцтве і інш. Усяго за чатыры гады дэпутацкай дзейнасці, да арышту і шасцігадовых этапаў у польскіх астрогах Тарашкевіч 34 разы прамаўляў з парламенцкай трыбуны 2-ой Рэчы Паспалітай, адпачатку ўсвядоміўшы яе як арэну змагання за кроўныя жыццёвыя інтарэсы свайго паняволенага сацыяльна і палітычна народа.

Беларускія прадстаўнікі ў вышэйшым органе Польскай дзяржавы свае дэпутацкія высілкі скіравалі перш-наперш на стварэнне заканадаўчай базы для аграрнай рэформы: заходнебеларускае сялянства пакутвала ад малазямелля ў той час, як 50 % сельскагаспадарчых угоддзяў належала памешчыкам. У змаганні за зямлю беларускія лідэры бачылі і стратэгічную мэту. У сацыяльна абуджаным сялянскім мацерыку, носьбіту этнічных традыцый, мовы бачылі, і гэта пацвердзілася ў часы Грамады, рэзерв нацыянальнавызваленчага руху.

Праблема зямельнай рэформы ў даваеннай Польшчы была вельмі актуальная і ўздымалася, абмяркоўвалася цягам гадоў. Абсалютная большыня сойма, уключаючы левыя партыі, за выняткам камуністычнай фракцыі, стаялі за захаванне ў краіне буйнога памешчыцкага землекарыстання (да 1120 га на этнічных польскіх землях, а на «ўсходніх крэсах» да 100 га). Цягу ж уласна польскага сялянства да зямлі імкнуліся здаволіць перасяленнем часткі яго як асаднікаў на землі Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны.

Ужо ў снежні 1923 года законапраект аб аграрнай рэформе, абяцанай у 1919 і ў 1920 гг., калі, паводле Тарашкевіча, «Чырвоны Ганібал стаяў ля муроў Варшавы», набыў нарэшце форму закона аб парцэляцыі і асадніцтве. Прапаноўвалася крыху зямлі абрэзаць (парцэляваць) і прадаць яе сялянам. Галоўнае ж ішло аб каланізацыі няпольскіх зямель, каб паланізаваць іх, на ўзор таго, як немцы асімілявалі ці, дакладней, спрабавалі асіміляваць палякаў на Пазнаншчыне падчас трох разбораў Польшчы ў канцы XVIII ст.

У сваіх выступленнях у сойме ў снежні 1923 і ў чэрвені 1925 года Тарашкевіч з глыбокім веданнем стану зямельнага пытання ў краіне, яскравых фактах дасканала, палемічна прааналізаваў сацыяльны і палітычны аспекты зямельнай праблемы, вынікі ж яе вырашэння соймам акрэсліў як эрзац-рэформу. А 17-га ліпеня 1925 года выступіў ад імя рабоча-сялянскага блоку, складзенага з Беларускай сялянска-работніцкай грамады, Незалежнай сялянскай партыі і Камуністычнай пасольскай фракцыі, з заявай аб рашучым пратэсце супраць закона аб парцэляцыі і асадніцтве, «крывадушна названага законам аб выкананні зямельнай рэформы».

Не ўдалося дэпутацкаму корпусу нацыянальных меншасцяў, хоць пры гэтым Тарашкевіч зноў дэманстраваў майстэрства аналітыкі, правесці праз сойм закон аб мовах, які б рэальна забяспечыў нармальнае культурнае развіццё беларускаму, украінскаму і літоўскаму народам у Польскай дзяржауве. Так было і з пытаннямі аб мясцовым самакіраўніцтве, амністыі для палітзняволеных…

Спадзеў на дапамогу дэмакратычнай польскай інтэлігенцыі ў вырашэнні беларускіх праблем у Тарашкевіча развеяўся яшчэ ў 1920-м. І не толькі таму, што не яна кіравала ў новаадроджанай Польшчы. Цяпер не заставалася ілюзій наконт таго, што парламенцкім шляхам можна заваяваць гарантаваныя Канстытуцыяй ды міжнароднымі трактатамі правы на развіццё інтэлігенцыяй нацыянальнай культуры свайго народа, яго адраджэнне, здабыць рэальныя сацыяльныя падставы для годнага жыцця працоўных мас краіны ў цэлым. Рэалізаваць справядлівыя сацыяльныя і палітычныя патрабаванні ў краіне, дзе, паводле слоў з выступлення Тарашкевіча, 57 % ішло на мілітарныя мэты, узбраенне войска, а 90 % падаткаў з жыхароў на бюрактарычны апарат, было немагчымa. А тым часам на ўсходзе, дзе беларусы атрымалі спачатку некалькі паветаў Міншчыны на сваю дзяржаўнасць і якую адразу можна было прыняць за фікцыю, набывала беларускі сацыяльны і нацыянальны змест. БССР пашырала свае межы. Сялянству была аддадзена зямля, хоць, як аказалася, не на доўга… Акрамя зямлі ды масавай беларускай школы на карысць Савецкай Беларусі сведчылі яшчэ такія аргументы, як заснаваныя Беларускі дзяржаўны універсітэт, Інстытут беларускай культуры, нацыянальны тэатр…

Ужо летам 1924 года, выступаючы ў сойме пры абмеркаванні моўных законаў, Тарашкевіч заявіў: «Заходняя Беларусь і Заходняя Украіна сілай зброі адарваны ад сваіх мацярынскіх рэспрублік. Насельніцтва гэтых зямель, інкарпараваных у Рэч Паспалітую Польшчу, знаходзіцца ў становішчы, вартым жалю. Яго нішчаць матэрыяльна і ў культурных адносінах… І ў гэты час па той бок граніцы бальшавіцкі ўрад, хоць і не без вялікіх цяжкасцяў, але адначасова з незвычайнай настойлівасцю будуе новы Дом беларускай дзяржаўнасці… У такіх умовах Заходняя Беларусь і Заходняя Украіна не могуць больш маўчаць і цярпліва зносіць невыноснае становішча».

У БПК, які аб'ядноўваў людзей розных палітычных поглядаў, дыскутавалі аб тым, што рабіць далей, а фактычна аб тактыцы і стратэгіі беларускага руху ў Заходняй Беларусі. У выніку Тарашкевіч з групай дэпутатаў С. Ракам-Міхайлоўскім, П. Мятлой, П. Валошыным выходзяць са складу БПК і засноўваюць асобны пасольскі клуб, які паклаў пачатак масавай арганізацыі заходнебеларускіх працоўных — Беларускай сялянска-работніцкай грамадзе.

Угледзеўшы ў Тарашкевічы высокага інтэлектуала і сапраўднага палітбайца (ён з двума дэпутатамі, па прызнанню маршалка сойма другой кадэнцыі, стваралі ўсю атмасферу ў сойме), кіраўніцтва Кампартыі Заходняй Беларусі выходзіць на лідэра беларускіх паслоў са сваімі мэтамі. Практычна не маючы ў сваім складзе беларускіх інтэлігентаў, яно з 1923 года заан-

гажавала ў КПЗБ, увяло ў склад ЦК трох левых эсэраў з БРА — пісьменніка Л. Родзевіча, Яз. Лагіновіча і А. Канчэўскага. Выхад на Тарашкевіча і паразуменне з ім суліў большае — стратэгічны выйгрыш: мажлівасць уплываць на нацыянальна-вызваленчы рух. Знакам таго, што агульная мова была знойдзена, з’явілася нарада ў горадзе міжнароднага статуса Гданьску ў жніўні 1925 года, дзе над задачамі беларускага руху дыскутавалі, раіліся прадстаўнікі КПЗБ, КП(б)Б і беларускія незалежнікі з Вільні. Сярод іншых там былі Б. Тарашкевіч, Я. Шнаркевіч, Я. Лагіновіч, У. Ігнатоўскі, А. Славінскі, А. Ульянаў, Аронштам, М. Арэхва. У снежні 1925 года Тарашкевіч у Маскве канспіратыўна быў прыняты ў шэрагі камуністаў. Зрабіў гэта з перакanання ці з тактычных мэтаў — пытанне не стаяла. Было тое і другое. У той час Кампартыя вялікай дзяржавы хоць і была ўжо ў руках архітэктара таталітарнага рэжыму, але яшчэ не да канца. Зрэшты, Тарашкевіч з 1918 года сам быў членам Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі і, пэўна, не мог прадбачыць, што вялікі стратэг з Крамля глядзіць на партыю як на ордэн мечаносцаў ды патрапіць так злачынна прафаніраваць ідэю сацыялізму.

Кіраўніцтва БСР Грамады, бясспрэчна, выйшла на палітычнае партнёрства з камуністамі, але ў практычнай дзейнасці новапаўсталая легальная арганізацыя кіравалася перш-наперш беларускай ідэяй. З яе асветнага складніка і пачаліся летам 1925 года практычныя крокі БСРГ, скіраваныя на вырашэнне актуальных задач вызваленчага руху, у тым ліку барацьбу за асвету народа, сацыяльнае і нацыянальнае яго ўсведамленне. Масава і вынікова была праведзена па ўсёй Заходняй Беларусі акцыя збору подпісаў на адкрыццё беларускіх школ, злосна ігнараваная павятовымі інспектарамі, выхадцамі з карэннай Польшчы і Галіцыі. Асаблівая ўвага была ўдзелена перыядычнаму друку. Пасля закрыцця польскай адміністрацыяй грамадаўскай газеты «Жыццё беларуса» яе замяніла «Беларуская ніва», якую ў сваю чаргу змянілі «Беларуская справа», «Народная справа». Акрамя таго, зерне сацыяльнай і нацыянальнай свядомасці сеялі «Народны звон», выдаваны лацінкай, часоп. «Праваслаўны беларус», «Бюлетэнь БСР Грамады». На старонках гэтых выданняў побач з аналізам палітычнага становішча ў Польшчы, свеце, выступленнямі беларускіх дэпутатаў у сойме А. Станкевіча, С. Рака-Міхайлоўскага, Ф. Ярэміча, В. Рагулі, П. Мятлы ды Тарашкевіча значнае месца занялі допісы з месц. Заходнебеларускія рэаліі, агучаныя ў іх, часам былі ўражлівыя і сведчылі аб тым, што народ сам набываў уласны голас, у тым ліку і ў справах грамадскіх.

Стварэнне нізавых арганізацый БСР Грамады гурткоў пайшло асабліва шпарка пасля публікацыі ў маі 1926 года Праграмы і Інструкцыі БСРГ, складзеных, напісаных Бр. Тарашкевічам. Шмат у чым сугучныя інтэнцыям заходнебеларускага сялянства ды інтэлігенцыі заданні БСР Грамады, якія можна абагульніць у паняцці «зямля і воля», спараджалі надзею, выклікалі зваротны рух.

У 1926 годзе Тарашкевіч менш актыўны ў сойме, выступаў толькі 4 разы, але больш прысутны, дзейсны на пасольскіх мітынгах у Брэсце, Горадні, Беластоку, Вільні, на павятовых з’ездах БСР Грамады ў Глыбокім, Дунілавічах,

Вілейцы. У лістападзе 1926 года Грамада арганізацыйна налічвала ў сваіх радах 62 тысячы чалавек, аб'яднаных у 1658 гуртках. У Цэнтральным сакратарыяце БСР Грамады ў Вільні, які ўзначальваў Максім Бурсевіч, штат з дваццаці чалавек, як пра гэта ўспамінаў Р.Р. Шырма, не спраўляўся выпісваць партыйныя білеты, адказваць шматлікім наведвальнікам з розных куткоў Заходняй Беларусі. Найбольшы наплыў у БСР Грамаду быў на Дзісеншчыне, Навагрудчыне, Слонімшчыне і Горадзеншчыне: за 10 тысяч гурткоўцаў-сяброў у кожным з гэтых рэгіёнаў. Масавая грамадская актыўнасць беларусаў (к канцу 1926 года ў БСР Грамадзе ўжо было сто тысяч чальцоў) напалохала памешчыкаў, новых фальваркоўцаў — вайсковых асаднікаў ды адміністрацыю. Пачасціліся напады асадніцкіх «боювэк» на грамадаўцаў, у тым ліку на паслоў, як гэта здарылася падчас з'езду БСРГ у Старабярозаве. Віленская польская прэса, а ўслед за ёй і варшаўская паднялі лямант аб пагрозе бяспецы дзяржаве з боку беларускай арганізацыі. Пускаліся ў ход плёткі, інсінуацыі аб падрыхтоўцы беларускага паўстання. «…Нават орган віленскіх «дэмакратаў», субсідыяваны ўрадам з народных падаткаў, «Kurier Wileński», — гаварыў Тарашкевіч, выступаючы 26 лістапада 1926 года ў сойме, — закрычаў расійскі «караул» разам з старашляхецкім «не позволям».

Народна-нацыянальны саюз (эндэкі) запатрабваў ад сойма забараніць беларускую Грамаду. У бэльведэр да Пілсудскага ўдаліся дэлегацыі з патрабаваннем забароны ненавіснай ім беларускай арганізацыі. Экс-сацыяліст Пілсудскі, якога Тарашкевіч у соймавых прамовах называў спадкаемцам Мусаліні, як кажуць, не прымусіў сябе доўга чакаць. Пасля нарады з вяльможнымі ў Нясвіжы ды з «крэсавымі» ваяводамі ў Вільні прызначыў міністрам бяспекі памешчыка Мейштовіча, даўшы згоду на ліквідацыю легальнай арганізацыі беларусаў.

Арышт дэфензівай у студзені 1927 года больш за васемсот актывістаў БСРГ на чале з яе лідэрам быў самай маштабнай рэпрэсіўнай акцыяй у даваеннай Польшчы. Палітычная, у сутнасці антыбеларуская акцыя на захадзе Беларусі папярэднічала масавым арыштам беларускай інтэлігенцыі на ўсходзе, у СССР, здзейсненай органамі НКВД паводле міфічных сцэнарыяў «Саюз вызвалення Беларусі», «Беларускі нацыянальны цэнтр» і інш. Абедзве разам яны практычна прычыніліся да прыпынення нацыятворных, кансалідацыйных працэсаў у Беларусі, што інтэнсіўна ішлі ў 20-я гады XX ст. па абодва бакі польска-савецкай мяжы.

Этапныя шляхі Тарашкевіча ў Польшчы пачаліся з 15-га студзеня 1927 года і працягваліся з невялікім перапынкам ў 1930 годзе, амаль 6 год, да верасня 1933 года, калі ён быў абмяняны з палякамі на савецкага палітвязьня драматурга Францішка Аляхновіча. У сакавіку-маі 1928 года ў Вільні адбываўся суд над лідэрамі і найбольш актыўнымі дзеячамі БСР Грамады на чале з Тарашкевічам. Нягледзячы на тое, што адвакаты еўрапейскай вядомасці, як Бабянскі, Петрусевіч, Смяроўскі пераканаўча разбілі ўсе абвінаваўчыя аргументы пракуратуры супраць грамадаўцаў, паказалі беспадстаўнасць, фальш самой канцэпцыі

абвінавачання, кіраўніцтва БСР Грамады было асуджана на 12 год цяжкага турэмнага зняволення. Тарашкевіч яшчэ раз пераканаўся ў тым, аб чым публічна сведчыў у сойме: «Дэфензіва правіць, дэфензіва і судзіць. Суд з'яўляецца мёртвай прыладай у руках дэфензівы». Суд над БСР Грамадой быў палітычнай расправай з беларускім адраджэнскім рухам, вобраз якога афіцыёзам неадэкватна падаваўся як рэальная пагроза польскай дзяржаўнасці.

Масавасць БСР Грамады не сведчыла, аднак, пра яе структурную, уласна арганізацыйную моц. Асноўную масу яе складалі земляробы, людзі шчырыя, але не лішне адукаваныя, інтэлігенцыя, нярэдка беспрацоўная з-за нацыянальнай ды веравызнаўчай дыскрымінацыі на дзяржаўным узроўні. Вядома, меўся ў народзе пратэстны настрой, моманты супраціву, але пераважала проста непрыманне рэалій, парадку, навязанага сацыяльна і нацыянальна чужой дзяржаўнасцю. Было смутнае імкненне да свайго, перамен. Было, прынамсі, тое ў настроі Грамады, пра што гаварылася ў «Беларускай марсельезе» «Адвеку мы спалі і нас разбудзілі...», якая, дарэчы, і сталася афіцыйным гімнам БСР Грамады. У Лукішках, адкуль Тарашкевіча неўзабаве вывезлі ў глыб Польшчы, у збудаваную Бісмаркам турму Вронкі, затым Грудзёнц, у памяці палітвязьняў засталіся радкі, спроба грамадаўскага лідэра стварыць новы гімн яе «Сто тысяч нас было, сяброў...» У тэксце меліся такія заклічныя, правідэнтныя словы:

«Смялей, сябры, ужо світае,
Гарыць зарой усход
І Беларусь ярмы скідае,
Змагаіцца народ.
Ужо волі час, ужо волі час,
Ужо волі час
Бліжэй да нас...»

А наогул доўгія турэмныя гады Тарашкевіч не змарнаваў: балазе астрожны рэжым даваеннай Польшчы не апусціўся да ператварэння зняволенага ў лагерны пыл або ў крэматорны дым. Другую Рэч Паспалітую ад такіх злачынстваў, ганьбы XX ст. Бог сцярог. У Вронках, у абставінах ізаляцыі ад грамадаўцаў П. Валошына, С. Рака-Міхайлоўскага, П. Мятлы, А. Каўша, М. Бурсевіча, Ф. Акінчыца, Р. Астроўскага Тарашкевіч вярнуўся да літаратурнай працы: закончыў пераклад «Іліяды» Гамера і пачаў пераўствараць на мову свайго народа твор, духоўна ўзрошчаны на ўлонні Навагрудчыны, з яе ландшафтам, людзьмі, гістарычным каларытам, — паэму «Пан Тадэвуш» Адама Міцкевіча. Пасля прысуду, вясной 1928 года, Тарашкевіч быў этапаваны ў турму Грудзёнц, невялікага гарадка з руінамі замка, слядамі крыжацкіх паходаў. Разам з ім на гэты раз у Грудзёнц трапіў адзін Пётра Мятла. Іншых грамадаўцаў разаслалі ў самыя розныя турмы.

Грудзёнец, Вронкі, Каранова —
Грамада кругом.
Стогнуць, стогнуць беларусы
Пад панскім ярмом, —

азваўся вершам тады Сяргей Хмара, паэт-вязень, адзін з невялікай грамады заходнебеларускіх паэтаў, духоўна мабілізаваных БСР Грамадой і зняволеных за яе. Акрамя С. Хмары Лукішскі астрог у 1927 годзе прайшлі яшчэ тры паэты — Алесь Салагуб, Хведар Ілляшэвіч і Міхась Машара. У камерах турмы Грудзёнца, падобнай на сярэдневяковы замак, Тарашкевіч вярнуўся да сваёй зыходнай народна-асветніцкай працы. Ведаў значэнне нацыянальнай асветы, школы для адраджэння, духоўнага станаўлення народа-нацыі. Грунтоўна перапрацаваў «Беларускую граматыку для школ», якая да таго чатыры разы выдавалася без дапрацоўкі. Перапрацаваў перадусім у плане метадычным, з арыентацыяй на мажлівасць авалодаць беларускай граматай без школы, у хатніх умовах. Зрабіць тое прымушаў стан беларускага школьніцтва ў Заходняй Беларусі. К канцу 20-х гадоў польская адміністрацыя павяла планавы наступ на беларускія культурна-асветныя асяродкі, перш-наперш школу, не без падстаў бачачы ў ёй сродак грамадзянскага, палітычнага ўсведамлення заходніх беларусаў. У 1928 годзе былі закрыты Клецкая і Радашковіцкая беларускія гімназіі, у Віленскай арыштоўваліся вучні, а педагогі звальняліся паводле матываў палітычнай нядобранадзейнасці. У сваім апошнім слове на судзе над БСР Грамадой Тарашкевіч казаў: «Уся польская і беларуская прэса прызнае, што Грамада адыграла каласальную ролю ў жыцці беларускага народа. Беларускі народ без школы пачаў пісаць па-беларуску, а навучыла яго гэтаму БСРГ. Беларускі народ абудзіўся і рабом не застанецца…»

Працу над апошнім прыжыццёвым, пятым выданнем «Беларускай граматыкі» закончыў у жніўні 1928 года, праз жонку Веру Андрэеўну са Сніткаў рукапіс перадаў на волю. У параўнанні з папярэднімі выданнямі былі значна пашыраны азначэнні граматычных паняццяў, удакладнена лінгвістычная тэрміналогія, дапоўнены раздзел сінтаксісу. Галоўнае ж — было зроблена ўсё для практычна-граматычнага лягчэйшага засваення навучэнцамі беларускай літаратурнай мовы, якая, паводле слова аўтара да выдання, за апошні час «сталася не толькі мовай прыгожага пісьменства ды разнароднай публіцыстыкі, але і моваю дзяржаўнага або прызнанаю дзяржавай у публічным жыцці». У канцы 1928 года да Тарашкевіча ў турму прыйшла вестка аб утварэнні ў Мінску Беларускай Акадэміі навук і абранні яго як мовазнаўца акадэмікам яе. Стымул быў не лішні, хоць моцы духу, стойкасці, як успаміналі ўсе, хто падзяляў з ім лёс заняволенага ў турмах даваеннай Польшчы, ён ніколі не губляў. У астрогах, на этапах, дзе даводзілася быць Тарашкевічу, сярод зняволеных заставаліся ў памяці яго досціпы, гумар, выслоўі. Не сказаць, што турэмная самота адно і спрыяла літаратурнай ды навуковай працы Тарашкевіча, цяпер пазбаўленага магчымасці дзеяць як палітык. Розныя рэаліі жыцця не пакідалі яго сам-насам з кнігай ды пяром.

За два гады зняволення ў Грудзёнцы яго з П. Мятлой вывозілі на акруговы суд у Беласток, дзе ім былі прад'яўлены запозненыя абвінавачанні ў «абразе ўлады» падчас павятовага з'езду БСР Грамады ў Саколцы. Прывозілі Тарашкевіча і ў Лукішкі на разгляд справы па абвінавачанню яго за выступленне на мітынгу ў кінатэатры «Геліос» у 1926 годзе. Так што ў працы над «Граматыкай» і над «Іліядай» былі антракты, але якраз у Грудзёнцы яму ўдалося завяршыць першы варыянт перакладу Гамеравай паэмы.

Тым часам грамадскія настроі ў Польшчы канца 20-х гадоў не застылі на адным пункце. Той самы «Kurier Wileński», голас якога перад акцыяй супраць БСР Грамады не вылучаўся з агульнага хору прыхільнікаў яе неадкладнай забароны, ужо праз год змяніў тон выказванняў у пытанні ейнай дэлегалізацыі. А яшчэ праз год рэдактарам перыёдыка, паслом К. Акулевічам і сенатарам В. Абрамовічам робяцца захады для вызвалення грамадаўцаў, яго кіраўніцтва. Аб тым, што хадайніцтва аб вызваленні лідэраў БСРГ «на добрай дарозе», яны паведамляюць А. Луцкевічу, які быў выпушчаны з турмы раней, фармальна адгарадзіўшыся ад членства ў Грамадзе.

У лёсе Тарашкевіча прымаў удзел і польскі гандлёвы пасланнік у СССР, знаёмец кіраўніка Грамады яшчэ з петраградскіх гадоў Ю. Зябіцкі. Ён пабываў у справе Тарашкевіча на прыёме ў міністра грамадзянскай апекі А. Прыстара. Заступніцтва за Тарашкевіча праявіў і будучы рэктар Віленскага універсітэта В. Станевіч у размове з Пілсудскім. Вызвалены ў красавіку 1930 года з турмы разам з іншымі кіраўнікамі БСР Грамады, Тарашкевіч патлумачыў крокі хадайнікаў і прычыну «літасці» да грамадаўцаў санацыйнага рэжыму проста: маўляў, «група інтэлігентаў» большую частку ўсёй віны за рост антыпольскіх настрояў сярод беларусаў звaліла на Мяйштовіча. На іх думку, тыя вялікія працэсы, якія ён арганізоўваў, «толькі кампраментавалі Польшчу за мяжой».

Была ў гэтым вялікая доля праўды, хоць і не ўся. Спадзяванне, што выпушчаныя пасля чатырохгадовага зняволення грамадаўцы будуць сядзець ціха, тым больш што ў СССР ужо пачаліся арышты беларускай інтэлектуальнай, мастацкай і навуковай эліты, не апраўдалася. 1930 год у жыцці беларускай інтэлігенцыі, заклапочанай лёсам свайго народа, быў драматычны, з прывідам трагічнага не толькі ў асабістым лёсе. У Польшчы ўзмацняўся аўтарытарны рэжым, ціск на нацыянальныя меншасці, асабліва на беларусаў і ўкраінцаў, якія жылі суцэльнай масай на сваіх этнічных тэрыторыях.

Летам 1930 года Пілсудкі асобным распараджэннем разагнаў сойм за неадпаведнасць напрамку яго «санацыйнай» палітыкі. Частка дэпутатаў левай, радыкальнай арыентацыі была пасаджана ў турмы. У тым ліку ўвесь пасольскі склад Беларускага сялянска-работніцкага клуба «Змаганне», узначаленага культурна-асветнымі працаўнікамі Язэпам Гаўрылікам і Ігнатам Дварчаніным. «Змаганцы» былі спадкаберцамі БСР Грамады, але разгарнуцца ў шырокую легальную арганізацыю, як іх папярэднiцы, рэжым ім не даў магчымасці. Уняважнены былі пасольскія мандаты і беларускіх дэпутатаў ад Хрысціянскай дэмакратыі Альбіна Стаповіча, Паўла Кару-

зы, Канстанціна Юхневіча, а таксама сенатараў, выбраных ад Беларускага сялянскага саюза Вячэслава Багдановіча і Фабіяна Ярэміча. Абраныя вясною 1928 года ад усіх 22-х паветаў Заходняй Беларусі, яны былі апошнім беларускім дэпутацкім прадстаўніцтвам у найвышэйшым дзяржаўным органе 2-ой Рэчы Паспалітай Польшчы.

У 30-я гады палітычная прастора краіны досыць сцісла кантралявалася аўтарытарным рэжымам. З палітычных беларускіх партый на легальным становішчы заставалася адна БХД з увагі на яе немаштабны ўплыў на масы ды падпольная КПЗБ, здыарыентаваная дырэктывамі з цэнтра, дзе пад выглядам сацыялізму ўсталяваўся звычайны таталітарызм. Спецыяльным рэскрыптам прэзідэнта Польшчы вясной-летам 1930 года было выпушчана з турмаў усё кіраўніцтва БСР Грамады. Перспектывы беларускага адраджэнскага, нацыянальна-вызваленчага руху былі на пачатку 30-х гадоў больш чым праблематычнымі. Тарашкевіч на волі, аб гэтым дзяліўся падчас турэмнага спацыру з Ф. Акінчыцам, збіраўся працаваць у Таварыстве беларускай школы, адзінай пазасталай легальнай грамадскай пляцоўкай у Заходняй Беларусі першай паловы 30-х гадоў. І такі адразу па вызваленні наведаўся ў сядзібу Галоўнай управы ТБШ на св. Ганны ў Вільні. Менавіта пра ТБШ думаў як пра другую лінію акопаў і так цяпер акрэсліў яго мэту і ролю. Таварыства ўзначальвалася грамадска аўтарытэтнымі людзьмі, старым з пецярбургскіх часоў беларускім дзеячам, юрыстам Ф. Стацкевічам, знаным педагогам, аўтарам падручнікаў, змаганцам за беларускую працоўную школу С. Паўловічам і заслужана шанаваным культурнікам Р. Шырмам. Тым часам сваю будучыню былы лідэр БСР Грамады выбіраў не сам. Краёвы цэнтр КПЗБ быў зацікаўлены пакінуць Тарашкевіча як інтэлектуальную адзінку і папулярнага змагара ў Вільні. Замежнае бюро ЦК КПЗБ (да фашызацыі Германіі яно прабывала ў Берліне) імкнулася выкарыстаць патэнцыял грамадаўскага лідэра для мэты больш маштабнай. Была задумка даручыць Тарашкевічу стварэнне і рэдагаванне газеты, органа рэвалюцыйных сіл у тым жа Берліне. Сам жа Тарашкевіч, крыху адпачыўшы з сям'ёю ў Радашковічах ды трохі падрукаваўшы тое-сёе са сваіх перакладаў з Гамера і Міцкевіча, з восені 1930 года абраны старшынёй Цэнтральнага сялянска-работніцкага выбарчага камітэта «Змаганне», уключыўся ў яго працу, даў згоду балатавацца ў дэпутаты. Аднак магчымасць дзейнасці была мізэрнай, улады «апякалі» ўзніклую структуру жорстка: спіс, пададзены выбарчай камісіяй, быў адразу ануляваны. Тарашкевічу, як і іншым вызваленым паслам, якія прынялі ўдзел у новай выбарчай кампаніі, давялося перабрацца ў Гданьск і адтуль праз сувязных кіраваць ёю. Працавалі ўва ўмовах поўнай канспірацыі.

На пачатку лютага 1931 года Тарашкевіч быў гвалтоўна арыштаваны камісарам польскай паліцыі на станцыі Тшэва ў транзітным вагоне цягніка Гданьск—Берлін. Мяркуючы па абставінах выезду, арышт здзейснены быў не без дапамогі паліцыі вольнага горада Гданьска. Меў пашпарт на імя чэшскага грамадзяніна, у партфелі — справаздачу аб ходзе выбарчай кампаніі ў Заходняй Беларусі, уласныя аналітычныя запісы аб беларускім нацыянальна-вызваленчым руху і пэўную суму грошай. У ходзе следства

зразумеў, што падазраюць у ім нешаранговага дзеяча Камінтэрну. Повадам жа для такой трактоўкі былі шматлікія публікацыі ў замежнай прэсе, асабліва камуністычнай, з патрабаваннем свабоды Тарашкевічу дый і яго ўласныя інтэрв'ю («Українська газета» ад 7.9.1930 года, «Савецкая Беларусь» ад 16.1.1931 года). Погляд на рэжым Пілсудскага і сваё бачанне палітычнай будучыні Еўропы выказваў канкрэтна: бачыў яе аб'яднананай на падставе сацыяльнага і нацыянальнага раўнапраўя, справядлівасці. Гэтым разам у лістападзе 1932-га Віленскі акруговы суд судзіў яго не як лідэра беларускага нацыянальна-вызваленчага руху, а як камуністычнага дзеяча. Прысуд — 8 год цяжкага астрогу. Кару адбываў у Гродне, «горадзе пекным і старажытным», як зазначыў у пісьмовым звароце да адваката Тэадора Дурача. Абвінавачваўся ў тым, што ў другой палавіне 1930 і ў пачатку 1931 года на тэрыторыі паўночна-ўсходніх ваяводстваў, дзейнічаючы згодна з папярэдняй змовай «з камуністамі, вёў падрыхтоўку да звяржэння сілай, усталяванага на аснове канстытуцыйнага закона, дзяржаўнага ладу Рэчы Паспалітай Польшчы і адарвання ад яе часткі тэрыторыі з мэтай далучэння да СССР». Такое ж абвінавачанне было прад'яўлена перад гэтым і паслам соймавага клуба «Змаганне» Я. Гаўрыліку, І. Дварчаніну, П. Крынчыку…

Польскі гісторык Аляксандра Бергман, аўтарка манаграфіі «Слова пра Браніслава Тарашкевіча» дакументальна сведчыць, што якраз у адзіночцы № 45 Горадзенскай турмы, куды Тарашкевіч быў перавезены з Варшаўскай цытадэлі ў красавіку 1931 года, ён закончыў да студзеня 1932 года пераклад шэдэўра Адама Міцкевіча і прыступіў да напісання гістарычнай граматыкі беларускай мовы. Як вучоны і палітык глыбока ўсведамляў значэнне навукова і практычна распрацаванай мовы ў гістарычным лёсе самога яе творцы — народа. Але здзейсніць такую няпростую ў турэмных умовах задачу, хоць жонка і забяспечвала яго мінімумам неабходнай літаратуры і слоўнікамі, было немагчыма. Пісаў да пракурора з просьбай перавесці ў віленскую турму Лукішкі. Матываваў зварот двума прычынамі. Па-першае, у Вільні было б лягчэй старой маці адведаць яго ў зняволенні. Па-другое, для завяршэння працы над беларускай граматыкай (гістарычнай) меў патрэбу ў матэрыялах старадрукаваных і рукапісных, якія не перасылаюцца поштаю. Па-за Вільняй паважная лінгвістычная праца немагчымая. Тым часам і надалей трымалі ў Горадні аж да верасня 1933 года, калі паміж Саветамі і Польшчай адбыўся, па сутнасці, знакавы абмен палітзняволенымі. Бакі разменьваліся двума знанымі беларусамі — палітыкам і вучоным, вязьнем польскіх астрогаў Браніславам Тарашкевічам і вядомым драматургам, акцёрам, рэжысёрам Францішкам Аляхновічам, нявольнікам Салавецкага канцлагеру.

Мінск вітаў Тарашкевіча як трыумфатара, героя, рэвалюцыянера. Дамінаваў у тым вітанні, аднак, афіцыйны пачатак. Атачалі спрэс незнаёмыя людзі. З блізкіх, старых знаёмцаў нікога не было. Ні Сымона Рака-Міхайлоўскага, ні Пётры Мятлы, ні Паўла Валошына, з якімі тварыў, уздымаў Грамаду. А яны ж былі абмяняныя раней за яго, працавалі тут, у Мінску. Не было і даўніх блізкіх знаёмцаў яшчэ з пецярбургскіх часоў прафесара Эпімах-Шыпілы, Аркадзя Смоліча. Чамусьці не было Янкі Купалы? Здагадваўся

чаму? Успомнілася, што пісалі газеты ў Польшчы, чаму можна было верыць і не верыць? Згадалася колішняе ўласнае меркаванне (ім дзяліўся з сябрам па няволі ў Вронках): «Усё тое, што творыцца ў Саветах, шмат лепей сачыць здалёку, чым бачыць там на мейсцы»? Магчыма, пэўна. Але цяпер умовы гульні яму прапаноўваліся тымі, каму быў абавязаны выбаўленнем з польскіх астрогаў. І іхі правілы мусіў прымаць. Пэўна, толькі не мог здагадвацца пра адно, пра што праз паўвека даведаюцца гісторыкі. У спісках «змоўшчыкаў», састаўленых савецкімі гэбістамі, у якім былыя грамадаўцы і змаганцы, нядаўнія вязьні польскіх астрогаў, былі абвінавачаны тут, у Мінску, у дзяржаўнай змове на карысць Польшчы, было і яго імя.

Выхадцам з Заходняй Беларусі, палітэмігрантам, сярод якіх было нямала і капэзэбэўцаў, камсамольцаў, разам з кіраўніцтвам Грамады і «Змагання» паводле сцэнарыя «Беларускі нацыянальны цэнтр» інкрымінавалі намер адарваць Савецкую Беларусь ад СССР, стварыць пад эгідай Польшчы Беларускую буржуазную рэспубліку. У тым віртуальным беларускім урадзе ГПУ адводзіла Тарашкевічу ролю міністра замежных спраў. Фактычна сцэнар «БНЦ» быў копіяй аналагічнага, стасаванага дзеля расправы над беларускай інтэлігенцыяй дэфензівай у Польшчы. Толькі матывы былі акрэслены па-рознаму — наадварот.

Аднак лёс Тарашкевіча ў 1933 годзе вырашаўся не аўтарамі сцэнарыя «БНЦ» у Мінску. Яго вырашала Масква. І са снежня 1933 года Тарашкевіч быў у распараджэнні Камінтэрна. Там БСР Грамаду трактавалі як сялянскі рух, а яе лідэра як кіраўніка і тэарэтыка сялянскага, сацыяльнай скіраванасці руху. На сялянскі мацярык ідэолагі сусветнай пралетарскай рэвалюцыі ў 20—30-я гады глядзелі як на рэзерв рэвалюцыйных сіл. Адмысловая структура Камінтэрна Міжнародны аграрны інстытут была з’арыентавана на вывучэнне аграрнага пытання ў капіталістычных краінах, пратэстнага патэнцылу сялянства як саюзніка рабочага класа. Узначальваў МАІ знаны дзеяч Кампартыі Балгарыі Васіл Калараў.

Апошнія тры з паловай гады жыцця Тарашкевіча праходзілі ў вузкім коле супрацоўнікаў Інстытута і ў сціплай кватэры ў доме 26 на Краснай Прэсні, дзе працаваў і позна вечарамі. У МАІ быў намеснікам загадчыка польскага аддзела, затым стаў кіраўніком Прыбалтыйскага сектара. Друкаваўся ў часопісе «Аграрные проблемы». У 1935 годзе выйшла ў Ленінградзе яго брашура «Як жывуць сяляне за мяжой». Пазней у кнізе «Польская вёска ў час крызісу» грунтоўны раздзел «Дыферэнцыяцыя сялянства ў Польшчы падчас крызісу». Ад клопатаў, працы ў МАІ адрываў нейкі час на здзяйсненне літаратурных планаў. У сакавіцкай кнізе часопіса «Полымя рэвалюцыі» за 1935 год апублікаваў свой беларускі пераклад апошняй 22-й песні «Іліяды», забяспечыўшы тэкст грунтоўнай літаратуразнаўчай прадмовай. У газеце «Trybuna Radziecka» (выходзіла ў Маскве ў 30-я гады) паўдзельнічаў у дыскусіі з нагоды сотай гадавіны выхаду ў свет «Пана Тадэвуша» А. Міцкевіча. Зноў жа пераканаўча засведчыў сябе як знаўцу польскай класікі.

Тым часам Белдзяржвыдавецтва прыспешвала хутчэй здаваць рукапіс перакладу «Іліяды», і к 1-му лютага 1936 года, як пра тое засведчана ў

аўтабіяграфіі Тарашкевіча, пазначанай гэтай датай, машынапіс быў здадзены. Вясной 1937 года запрасілі ў Мінск вычытаць карэктуру будучай кнігі, прыслалі аванс ганарару. З'яўленне ў друку поўнага тэксту беларускай версіі старажытнагрэчаскага эпасу 6 мая 1937 года перакрэсліў арышт Перакладчыка. Прысуджаны «двойкай» НКВД да ВМЛ Браніслаў Адамавіч Тарашкевіч 29 лістапада 1938 года ў веку сарака шасці гадоў быў расстраляны ў Мінску.

Творчы патэнцыял Тарашкевіча-філолага, літаратара застаўся рэалізаваны толькі часткова. Дарога да беларускай Свабоды — нязмерна цяжкая. Для Тарашкевіча яна ляжала праз Маскву і аказалася трагічна неадольнай.

*2007*

# Аркадзь Смоліч: цяжкая дарога свабоды

Было гэта, як на адно жыццё, дык досыць даўно — дзесь у сярэдзіне 60-х. Помніцца — у старым доме з высокай століў, у вузкім пакоі на масіўнай канапе сядзела пажылага веку жанчына з простымі, выразнымі рысамі твару. Яна прыехала з Сібіры, з Омска, на сваю бацькаўшчыну, дзе не была, пэўна, гадоў трыццаць. Спынілася ў сясцёр трэцяй стрэчы, розных доляю, характарам, лучаных, аднак, супольнымі ўспамінамі пражытых гадоў. З жанчынай, а была гэта Аляксандра Ігнатаўна Смоліч, завочна, праз лісты быў я ўжо знаёмы. Імя яе мільганула раз пад невялікай газетнай публікацыяй пра Якуба Коласа. Я папрасіў у музеі паэта адрас нашай далёкай зямлячкі: муж Алесі Ігнатаўны Аркадзь Смоліч быў аўтарам кнігі, запалай мне ў душу з дзяцінства. Цяпер, у часы фальклорных вандровак па Беларусі, кніга Смоліча з простай падручнікавай назвай «Геаграфія Беларусі» дапамагала мне даверліва і надзейна пазнаваць нашу зямлю. Яна адсланяла адну за адной розныя яе мясціны, іх краявід, гаспадарку, згадвала пра культурныя, гістарычныя традыцыі кожнай асобнай мясцовасці. У цэлым кніга давала канкрэтна-адчувальны вобраз беларускай зямлі. З гадамі прыйшло ўсведамленне, што гэта не проста кніга таленавітага вучонага, асветніка, а своеасаблівае адкрыццё Беларусі, здзейсненае з нейкіх агульначалавечых, еўрапейскіх падходаў. Не проста праца, а нейкае радаснае ўведанне яе (Беларусі) роднасці, непаўторнасш, адзінасці. Старонкі кніжкі, аналітычна-інфармацыйнай паводле жанру, выдавалі ў яе аўтару душу рамантычную, чалавека сталага, высакароднага, мудрага. Чалавечая станоўкасць, паважнасць неяк чуліся ўжо з першых старонак У змесце і стылі яго кнігі. «Беларускі народ, — чытаем у ёй — шчыльнай масай засяляе вялікі прастор зямлі у геаметрычнай сярэдзіне Эўропы, на вялікай Эўрапейскай раўніне, паміж Балтыцкім і Чорным марамі, там, дзе цякуць верхнія Дняпро, Нёман, Дзвіна ды іх важнейшыя прытокі…»[1]

Было нешта такое ў тым кароткім, на гадоў дзесяць, прарыве беларускіх вучоных, паэтаў, музыкаў, мастакоў, настаўнікаў да ўласнага неба, зямлі, што складае таямніцу часу. Пазней, праз многа гадоў, калі туман тэрору, войнаў пачне рассявацца, нашчадкі назавуць самых дзейных, таленавітых з іх апосталамі 20-х. Час быў да гэтага пакалення няшчадна бязлітасны. Мала засталося нават сведкаў іхняга жыцця. Алеся Смоліч адна з іх, чалавек

[1] Смоліч А. Геаграфія Беларусі. Вільня, 1923. Выд. 3-е. С. 2.

найбліжэйшы аднаму з духоўных волатаў той пары. Натуральна, хацелася даведацца ад яе як мага болей. З перапіскі я ўжо крыху ведаў пра лёс сям'і Смолічаў. Але цяпер, пры сустрэчы, можна было пачуць пра нешта большае, чым расказвалася ў лістах, няхай сабе і праясненых у нашым жыцці 60-х. Шмат вады збегла ў мора з таго часу, як Шурачка Катковічышка, на тую пару студэнтка Маскоўскага народнага універсітэта імя Шаняўскага, у красавіку 1917 года пазнаёмілася ў Мінску на нейкім беларускім сходзе ці то мітынгу з рослым, паважным у гутарцы прамоўцам на той людской зборцы Аркадзем Смолічам.

Перада мной сядзела прытомленая жыццём жанчына пажылага веку, удава апальнага прафесара, так і не рэабілітаванага, хоць мінала ўжо хрушчоўская адліга і многа імён выйшла з-пад забароны вымушанага забыцця. У пакоі, акрамя нас з сібірскай госцяй, нікога не было. Гутарка цякла нязмушана, павольна. Разы два зазваніў тэлефон і суразмоўніца мая на гук яго неяк моцна, усім целам уздрыгвала, з прыкрасцю аглядалася на чорную скрыначку на століку.

— Не, магу спакойна пераносіць яго траскатні з лета 1930 года, калі арыштавалі Аркадзя, — мімаходам патлумачыла мне сваю міжвольную рэакцыю, вяртаючыся да пры-пыненай размовы.

Тады, вясною, летам 1917-га, сустракаючыся з тым, каго яна, Шура Каткоўская, пакахала, якую выбраў Смоліч у спадарожніцы ўсяго жыцця, і ўявіць не магла, як напружана сябра яе, будучы муж, жыў тою парою. Запомнілася нешта асобнае: заказаная Аркадзем паніхіда ў саборы па Максіму Багдановічу, заснаванне круга моладзі імя Максіма… У памерлым у Крыме паэце шмат хто пачуваў вялікую страту для Беларусі. Для Аркадзя Смоліча, гэта ведалі нямногія, была ў тым і асабістая страта…

За зіму 1916—1917 гадоў яны тут, у Мінску, блізка, па-сяброўску сышліся. Аркадзь Смоліч пачуваўся ўжо тут калі не за гаспадара, то, прынамсі, не госцем. Ён досыць трывала ўрос у мінскі грунт з таго часу, як стаў працаваць у губернскім статыстычным камітэце. Сусветная вайна, што каторы год грымела на вялізных абшарах, уключаючы і беларускія землі, сабрала ў Мінску без мала ўсю грамадска актыўную беларускую інтэлігенцыю. Працавалі хто дзе, а яшчэ ў Камітэце помачы ахвярам вайны, стараліся хоць крыху аблегчыць народу пакуты, прынесеныя фронтам, вымушаным бежанствам. Выгнаныя ваенным ліхалеццем з родных сядзіб, дзесяткі і сотні тысяч сялян з Гродзеншчыны і Віленшчыны з дзецьмі, старымі ды небагатым скарбам на вазах-буданах ехалі на Усход. Здавалася, паў-Беларусі вырушыла ў свет, пакідаючы ўздоўж выгнанніцкіх дарог свежыя насыпы-капцы дачасных магіл. Камітэты, яшчэ быў і афіцыйны, дзяржаўны Таццянінскі, стваралі сталоўкі, арганізоўвалі начлежныя дамы, пункты медыцынскай дапамогі. Трэба было даць людзям нейкае хоць да часу прыстанішча, накарміць уладкаваць на працу. Смоліч, Усевалад Фальскі, Віктар Чавусаў, Аляксандр Уласаў, Антон Лявіцкі, Змітрок Бядуля, Уладзіслаў Галубок, Альберт Паўловіч, Людвіка Сівіцкая (Зоська Верас) уваходзілі ў гэты грамадскі клопат з галавой. Увосень 1916 года далучыўся да гурту гэтых руплівцаў і Максім Багдановіч.

Супрацоўнікам Камітэта карцела і духоуная справа. Школа для бежанскіх дзяцей, беларускі хор, за які ўзяўся Уладзім Тэраўскі. Ды было не так проста: лекцыю «Бела рускае адраджэнне», аб якой хадайнічаў В.Чавусаў перад уладамі, не дазволілі прачытаць публічна М.Багдановічу. Не ўдалося распачаць газеты, каб пусціць беларускае слова ў народ. Пасля закрыцця «Нашай нівы» ўвосень 1915-га ўжо другі год тут, на ўсходае, не мела яно шырэйшага ходу. Расійская адміністрацыя ў лепшым выпадку спасылалася на ваенны час. Выходзіў адно за лініяй фронту «Гоман». Духоўнай аддушынай былі суботнія зборкі ў «Беларускай хатцы». Свой клуб яны такі агоралі і зрабілі цэнтрам беларускага культурна-грамадскага жыцця ў Мінску. Праз гады ўспомніць зборы-вечары ў «Беларускай хатцы» 1916 — пачатку 1917 гадоў дзевяностагадовая Зоська Верас і пісьменніца беларускага замежжа Аляксандра Саковіч, што пятнаццацігадовай дзяўчынкай заглядвала на тыя беларускія вечарынкі. І прыгадаецца ім сярод іншых Смоліч. Старэйшая ўспомніць яго ў клопаце пра Максіма Багдановіча, малодшая — пра тое, як «на сярэдзіну залы выходзіў Аркадзь Смоліч, малады, шыракаплечы, з буйнымі энергічнымі рысамі твару. Калі разбіраліся ў пары, той жа Смоліч, патрасаючы львінай чупрынай, вучыў моладзь танцаваць «Юрачку», «крыжачка», «Лявоніху».

Тым часам надышло прадвесне 1917 года, а з ім і крах царызму. Расія раптам з рэлікта абсалютызму ў Еўропе, турмы народаў зрабілася адной з самых свабодных краін. У ёй нарэшце натуральна запульсавала грамадска-палітычнае жыццё. Народжаныя пераважна рэвалюцыяй 1905— 1907 гадоў і загнаныя ў падполле сталыпінскай рэакцыяй, адрадзіліся, сталі інтэнсіўна развівацца палітычныя партыі. Аднавіла сваю дзейнасць і Беларуская сацыялістычная грамада. Не без ініцыятывы БСГ ужо ў сакавіку 1917-га беларусы робяць рэальныя крокі да самаарганізавання на агульнанацыянальным грунце. З’езд прадстаўнікоў беларускіх партый і арганізацый, што адбыўся 25—27 сакавіка ў Мінску, выбраў прадстаўнічы орган — Беларускі нацыянальны камітэт у складзе 18 чалавек. А. Смоліч увайшоў у яго ў ліку дзесяці іншых сацыялістаў-грамадаўцаў. Акрамя таго, ён быў абраны ў школьную камісію і кіраўніцтва культурна-асветнага таварыства «Прасвета», выступіў ад імя Грамады з дэкларацыяй. Гаварыў пра практычныя рэчы — школу, арганізацыю беларускага друку. У гэты час Смоліч бярэ на сябе немалую работу: узначальвае Мінскае бюро БСГ, дзе да звароту з ссылкі А. Прушынскага фактычна цягне воз адзін.

У красавіку засноўвае орган БСГ газету «Грамада». У перадавіцы 1-га нумара яе, падпісанай як зварот Бюро Грамады да беларускіх сацыялістаў, гаварылася: «Таварышы беларускія сацыялісты. Яшчэ перад першай рэвалюцыяй паўстала наша партыя і сабрала каля сябе людзей, каторыя горача рваліся змагацца ў нашым родным краі з царскімі парадкамі і вызыскам паноў, маючы перад вачыма светлы ідэал сацыялістычнага парадку і шчыра кахаючы свой народ, усімі забыты і пакінуты». Далей згадваліся часы рэвалюцыі 1905-га і не без падстаў гаварылася пра ўклад Грамады ў агульную справу вызвалення народа, пра «святло сацыяльнай праўды», якое яна

несла «ў самыя глухія вясковыя закуткі, не забываючы таксама на працу па гарадах і мястэчках». «Цяжкі кулак усмірыцеляў, — гаварылася ў звароце, — душыў нашы арганізацыі, параскідаў нас па ўсім свеце, а нашых лепшых таварышаў загнаў у сібірскія капальні, дзе яны дагэтуль сядзяць…

Таварышы! Цяпер мы як ніколі дагэтуль патрэбны свайму беларускаму народу, хто ж лепей, як свой, патрапіць арганізаваць яго вялікую працу над утварэннем найлепшага, які толькі можна, парадку ў нашым краі. Хто лепей па трапіць паказаць яму яго дарогі, там, дзе трэба разварушыць, дзе трэба — стрымаць? Хто яму дасць такую якраз праўду, якая яму патрэбна, а не каму другому?»

Зварот заканчваўся заклікам: «У кім не згаснуў агонь у грудзёх, хто не забыўся пра свой народ, не выракся бацькоў, для каго застаюцца святымі прынцыпы сацыяльнай справядлівасці, збірайцеся да Грамады».

У газеце, рэдагаванай Смолічам, у рубрыцы «Пільныя справы» з нумара ў нумар друкаваліся матэрыялы пад подпісам А. Жывіца. Як правіла, прысвячаліся яны актуальным на той час, вясну — лета 1917 года пытанням. Аўтар іх папулярна тлумачыў сацыяльна-палітычную прыроду існуючага дзяржаўнага ладу, даваў практычнае акрэсленне сацыялізму. Вялікую ўвагу ўдзяляў земельнаму пытанню. Лічыў, што канфіскаваныя ў памешчыкаў землі трэба ўзяць у распараджэнне дзяржавы, якая, у сваю чаргу, павінна аддаць яе ў арэнду беззямельнаму і малазямельнаму сялянству за чынш. Іншымі словамі, выказваў погляд, выражаны на будучыню зямлі ў праграмах усіх сацыялістычных партый, у тым ліку БСГ — на яе сацыялізацыю.

Серыя нататак А. Жывіцы, аб'яднаная адным загалоўкам «Зямля», мела зноску, якая запрашала да дыскусіі, выказвання розных поглядаў на зямельную рэформу. У артыкуле «Свае справы ў свае рукі» А. Жывіца разважаў аб унутраным упарадкаванні жыцця на Беларусі, аб патрэбе аўтаноміі, самакіраўніцтва. «Апрача зямельнае справы краёвае земства будзе клапаціцца, каб у нас усюды школа была якраз такая, якая нам патрэбна, каб край наш багацеў і развіваўся, каб справядліва судзілі суды, каб роўна раскладаліся падаткі… Калі нашыя справы будуць у нашых руках, тада не будзе край наш самым бедным сярод сваіх суседзяў, а мы не будзем цямнейшым народам у славяншчыне», — падагульняў публіцыст свае развагі

У другім нумары «Грамады» А.Жывіца вёў гутарку на тэму «Якім будзе новы парадак». Перш-наперш напомніў пра стары, царскі лад-нялад: «Усе ад цара да найменшага начальства, вурадніка якога, усе кралі. Хто патроху, хто памногу». Згадаўшы выбары ў Думу і выбраных туды, з горыччу пытаўся: «Хто не помніць нашых выбранцаў, што ў думу іх паслалі? За салодкую гарбату прадаліся яны ў панскія рукі адзін раз, а другі ў архірэевы. Хто не ведае, якая справядлівасць сядзела на валасных судах? Эх, і спамінаць брыдка».

А. Жывіца верыць у добрую будучыню, у новае жыццё, якое сам народ збудуе: «Стары парадак памёр. На яго месцы народ пабудуе такое яснае, пекнае жыццё, якое толькі ў думках уперад было. Сам народ завядзе новы парадак. Сам народ будзе ўсім распараджацца». Палітычным ідэалам грамадаўскага публіцыста на той час была парламенцкая рэспубліка. У сваім

аналізе грамадска-палітычных сістэм ён абапіраецца на палітычгіы, духоўны досвед еўрапейскіх дэмакратый і Амерыкі. Верыць у рэальную магчымасць збудаваць справядлівы сацыяльны лад на роднай зямлі. Праўда, робіць маленькую агаворку: «Калі толькі цяперашняй волі не адбяруць ад нас, дык і ў нас гэткі парадак будзе», — падагульняе ўсё ж з надзеяй. Толькі раз у рубрыцы «Пільныя справы» мільгануў артыкул, падпісаны прозвішчам рэдактара газеты, ды адзін, прысвечаны «Федэратыўнай дэмакратычнай рэспубліцы», напісаны А. Бурбісам пад псеўданімам Стары Пілїп. Аўтарства ўсіх астатніх належыць А. Жывіцы. Частка матэрыялаў ішла зусім без подпісаў: «Шэсць тыдняў волі» (пра Лютаўскую рэвалюцыю), «Да згоды!», «Аб вай-не», у якіх выказваліся радыкальныя па тым часе погляды на вайну і мір.

Учытваючыся ў перадавіцы «Грамады», у такія светлыя ўзлёты думак, як, напрыклад: «Браты! Сягоння мы ўжо маем усю пэўнасць, што стары парадак не вернецца, што народ будзе мець зямлю і волю і ніхто, ніякая сіла не адбярэ іх ад яго, ужо не нашыя ўнукі, а мы самі пабачым лепшае жыццё… усе мы будзем роўнымі і ў правах і ў долі», — я ўспомніў, што гадоў 25—27 таму назад Алеся Ігнатаўна Смоліч сярод літаратурных псеўданімаў мужа, пад якімі ён пісаў у газеты, раз назвала памятнае «Арцём Жывіца». Поўнае перакананне, што гэта літаратурны псеўданім Аркадзя Смоліча прыйшло, аднак, пасля таго, як прачытаў у аўтабіятрафіі Б. Тарашкевіча: «У 1918 у Мінску далучыўся да групы белар. С-Д: галоўны ідэолаг Смоліч (аўтар праграмы…)». А на брашуры «Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя, яе мэты і заданні» ініцыялы А. Ж. ідэнтыфікаваць няцяжка. Выходзіць, у 1917 годзе ўвесь цяжар рэдакцыйнай работы ў газеце Смоліч нёс фактычна адзін. Праўда, пару разоў далі вершы для друку Ясакар і Родзевіч. Невялікай заметкай азваўся з фронту Макар Краўцоў ды інфармацыяй з Багародзіцку У.Жылка. Паэт паведамляў пра тое, што ў гэтым рускім горадзе склаўся «Беларускі нацыянальны гурт», хоць невялікі членствам, але «поўны веры і сілы», і што ён шле на карысць выдання газеты «Грамада» ўсе, якія пакуль мае грошы». А ў чацвёртым, чэрвеньскім нумары газеты Смоліч дзяліўся з чытачамі агульным горам, друкаваў некралог на смерць Максіма Багдановіча, называючы паэта «пасланцом высокага неба». Пяты нумар, скажам з поўным правам на тое, Смолічавай газеты застаўся толькі ў карэктарскім адбітку. Нялёгкія былі часы пры вялікай грамадскай свабодзе.

Атмасфера ў Беларускім нацыянальным камітэце была складаная, часам зусім накалялася. Выходзіць, неабачліва паступіў камітэт, даверыўшы старшынства ў ім Раману Скірмунту. Як на прадстаўнічую дэлегацыю ў Петраград да Часовага ўрада з беларускімі пастулатамі, то былы член Думы, імпазантны Скірмунт, пэўна, падыходзіў. Але штось іншае было дзейсна весці беларускую работу ў свеце, які імкліва радыкалізаваўся, ды ўнутры БНК, у асяроддзі маладых сацыялістаў. Да таго ж постаць Скірмунта стала аб’ектам палітычных спекуляцый праціўнікаў беларускага руху. З аднаго боку, ваюючы супраць беларускага адраджэння, не выбіралі сродкаў заселыя ў земстве рускія чыноўнікі з эсэраў,кадэтаў ды і адкрытых чарнасоценцаў,

з другога — развіццё нацыянальна-палітычнай свядомасці беларусаў не ўваходзіла ў разлік левырадыкальных прэтэндэнтаў на гаспадара ў Беларусі, сабраных за чатыры гады вайны, фронту тут часта-густа з абшараў усёй імперыі. На Сялянскім з’ездзе Мінскай губерні Міхайлаву-Фрунзе ўдалося яшчэ на этапе пастаноўкі беларускага пытання ў прэзідыуме «зарубіць» яго, абвясціўшы беларускі рух памешчыцкім. Была і свая рацдя для такой немудрагелістай карты: БНК узначальваў-такі землеўласнік. Аб поглядах яго не пыталіся: якая каму была патрэба ведаць, што гэты памешчык даў слова безаглядна падпарадкавацца ў будучым рашэнню Устаноўчага сходу — перадаць сваю зямлю сялянам.

Смоліч з бліжэйшым акружэннем павёў змаганне за тое, каб перавыбраць БНК. Па настаянні Грамады 8—12 ліпеня 1917 года склікаецца Другі з’езд прадстаўнікоў беларускіх партый і арганізацый, на якім пасля гарачых спрэчак замест БНК ствараецца Цэнтральная рада беларускіх арганізацый і партый. На першай сваёй сесіі ў пачатку жніўня яна прымае Статут Рады, акрамя таго, «Статут беларускіх нацыянальных культурна-асветных гурткоў у войску», які няблага прычыніўся да пашырэння беларускай ідэі ў арміі і на флоце.

Цэнтральная рада беларускіх партый і арганізацый цясней звязваецца з бежанскімі камітэтамі, раскіданымі па ўсёй Расіі, дзе ў адарваных ад бацькаўшчыны людзей хутка ідзе палітычная, нацыянальна-ўсведамляльная ферментацыя. Мацуюцца сувязі Рады з беларускімі згуртаваннямі ў арміі і на флоце, у якіх відавочна расце колькасць членаў Беларускай сацыялістычнай грамады. Восенню 1917 года адзін за адным праходзяць з’езды беларусаў-вайскоўцаў. На першым з іх, з’ездзе беларусаў-воінаў трох армій Заходняга фронту, была выбрана Беларуская вайсковая рада. З яе пасля з’ездаў беларускіх вайскоўцаў Паўночнага фронту ў Віцебску, Румынскага ў Адэсе, Паўднёва-Заходняга ў Кіеве ўтварылася Цэнтральная беларуская вайсковая рада. На з’ездах салдаты і афіцэры-беларусы выказалі рашучасць бараніць сацыяльныя і нацыянальныя інтарэсы свайго народа, адстаяць цэласнасць і непадзельнасць беларускай зямлі. Усе франтавыя з’езды выказаліся за неадкладнае стварэнне беларускага войска.

У звароце «Да ўсяго беларускага народу», падпісаным выканаўчымі камітэтамі Вялікай беларускай рады, Цэнтральнай вайсковай беларускай рады, Беларускага выканаўчага камітэта Заходняга фронту, гаварылася: «Усведамляючы крытычнае становішча роднага краю, прайшоўшыя ў Мінску з 15 па 24 кастрычніка 1917 г. з’езды беларускіх арганізацыяў і беларусаў-воінаў Заходняга фронту з удзелам прадстаўнікоў Паўночнага фронту і Балтыйскага флоту, аб’яднаных у Вялікай беларускай радзе, пастанавілі прыняць меры да арганізацыі ўсяго беларускага народа дзеля абароны здабытых правоў і свабод. Выбраныя імі выканаўчыя камітэты звяртаюцца да ўсяго беларускага народа з гарачым заклікам — узяць у свае рукі кіраўніцтва сваім краем, каб здзейсніць свае неадкладныя задачы». Як жа бачыліся гэтыя неадкладныя гістарычныя задачы актывістам, лідэрам вызваленчага руху? Спачатку асноўныя пастулаты, выкладзеныя гранічна сцісла: «…

адзіны і непадзельны народ беларускі, Беларусь павінна быць дэмакратычнай рэспублікай, злучанай з Расіяй… на аснове федэрацыі; уся ўлада ў Беларусі павінна належаць Краёвай Радзе».,

Далей праграма дэталізуецца, канкрэтызуецца, не пакідаюцца па-за ўвагай духоўныя аспекты жыцця народа.

Асобны пакет складаюць пастулаты абавязковага навучання, падняцця і развіцця вывучэння гісторыі, роднай мовы, як фактараў, што, паводле дэкларацыі з’езда, «адпавядаюць жыццёвым інтарэсам беларускага народа». У кантэксце клопату пра «ўзняцце культурных сілаў краіны» гаворыцца аб патрэбе неадкладнага адкрыцця ў Беларусі універсітэта, сельскагаспадарчага і політэхнічнага інстытутаў. Гаворыцца аб неабходнасці вярнуць эвакуіраваныя у Расію помнікі культуры, мастацтва а таксама навучальныя ўстановы, фабрыкі, заводы і сабраць раскіданых па свеце бежанцаў-беларусаў, учыніць дзяржаўную апеку над ахвярамі вайны. Аднаўленне ж разбуранай часткі Беларусі павшна быць вырашана на міжнароднай мірнай канферэнцыі і праведзена за кошт ваюючых дзяржаў.

Асобна былі вылучаны ў дакуменце задачы бягучага моманту, разгляданыя як неадкладныя. Яны былі сфармуляваны ў шасці пунктах. У першым гаварылася аб бясплатнай перадачы памешчыцкай, царкоўнай, касцельнай, манастырскай, удзельнай і іншых зямель працоўнаму народу. Зрабіць гэта меркавалася грамадскім шляхам — праз выбраныя ўсенародна Зямельныя камітэты.

Чацвёртым цунктам значылася: «Беларускі народ не можа дапусціць, каб край яго быў разарваны на часткі і падзелены між дзяржаўнымі суседзямі пры падпісанні мірнага дагавора». А таму беларусы павінны мець на мірным кангрэсе сваіх правамоцных прадстаўнікоў. У пятым сцвярджалася, што «для забеспячэння непадзельнасці Беларусі… і абароны кроўных інтарэсаў беларускага народа ўжо прыступлена па пастанове з’езда воінаў-беларусаў Заходняга фронту, прадстаўнікоў Паўночнага і Румынскага франтоў і Балтыйскага флоту да фарміравання нацыянальных беларускіх войскаў». Шосты пункт складаў выснову, квінтэсенцыю сказанага. У ім адзначалася, што выканаць пастаўленыя гісторыяй задачы «можа толькі ўлада, выбраная самім народам беларускім. Толькі яна арганізуе народ беларускі ў вялікую сілу, здольную адстаяць яго нацыянальныя правы.»

Пасля гэтай аксіёмы, інакш сказанае не назавеш, рабіўся практычны вывад: «Каб стварыць такую уладу ў цэнтры і на мясцах, каб заваяваць народу беларускаму належнае яму месца ў сям’і народаў, — склікаецца на 5 снежня 1917 г. з’езд прадстаўнікоў беларускага народа ў Мінску». І ўжо зусім на заканчэнне пранізлівае, заклічнае і разам з тым з прарывам у рускую моўную стыхію дакумента родных беларускіх слоў «браты», «вольная Беларусь»: «Браты-беларусы! Лепшых людзей краю павінны вы прыслаць на гэты з’езд, калі хочаце, каб доўгацярплівы народ беларускі выйшаў з-пад нацыянальнага і эканамічнага гнёту і няволі, каб паўсюды зніклі цені нашага змрочнага гістарычнага мінулага, каб жыла вольная Беларусь!»

Уласна пра ўсебеларускі сход, збор, з’езд думалі ўсе беларускія згуртаванні, у Беларусі і па-за Беларуссю. Рэзалюцыю аб яго скліканні прыняў Другі

Усерасійскі з'езд бежанцаў-беларусаў у Маскве. А Беларускі абласны камітэт пры Ўсерасійскім савеце сялянскіх дэпутатаў у Петраградзе нават заручыўся грашовай падтрымкай на яго правядзенне ад наркома нацыянальнасцей толькі што створанага Савецкага ўрада. Абласнікі прызначылі Усебеларускі з'езд на 15 снежня.

Гэта няўзгодненасць спачатку адбілася на рабоце з'езда, які сабраўся ўсё ж 5-га. Праўда, узніклая замінка, трэба сказаць, не паўплывала на важную перадумову поспеху з'езда: шырокі ахват прадстаўніцтвам усёй этнічнай Беларусі, яго прэзентатыўнасць. Склад з'езда атрымаўся прадстаўнічы ў поўным сэнсе гэтага слова. Паводле інфармацыі аднаго з найактыўнейшых удзельнікаў Усебеларускага з'езда А. Цвікевіча на ім было 1872 дэлегаты і з іх 1167 з правам рашаючага голаса[1]. Паўнамоцныя прадстаўнікі былі пасланы губернскімі, павятовымі і валаснымі земствамі, губернскімі і павятовымі самакіраўніцтвамі, губернскімі і павятовымі зямельнымі камітэтамі, арганізацыямі паштова-тэлеграфных служачых, дарожных камітэтаў, саюза земскіх служачых, настаўніцкіх, бежанскіх арганізацый, беларускіх нацыянальных арганізацый, ад вайскоўцаў арміі, флота і тылу, ад саветаў рабочых і салдацкіх дэпутатаў, а таксама члены выканаўчых органаў Вялікай беларускай рады, Цэнтральнай беларускай вайсковай рады, Выканаўчага бюро з'езда беларусаў у Маскве і Беларускага абласнога камітэта ў Петраградзе. З дарадчымі галасамі былі дэлегаты ад партый, у тым ліку нацыянальных меншасцей. Пераважалі на з'ездзе прадстаўнікі дэмакратычных, дзелавых дзяржаўных устаноў, здольных прыняць рэальны ўдзел у дзяржаўным будаўніцтве Беларусі.

З'езд пачаўся з дыскусіі, пачынаць ці не пачынаць работу, паколькі высветлілася, што для яго правядзення вызначаны дзве даты. Да таго ж мноству сабраных упершыню разам людзей трэба было неяк прыгледзецца адзін да аднаго, адаптавацца у нязвычнай атмасферы, дамовіцца аб парадку дня. Ёсць некалькі мемуарных вобразаў Першага усебеларускага з'езда, або кангрэса, як яго часам называюць. Належаць яны людзям вядомым у навейшай беларускай гісторыі Макару Краўцову, Пятру Крачэўскаму, Канстанціну Езавітаву. Інфармацыйна засведчана пра яго ў газетах «Вольная Беларусь» і «Белорусская Рада» (у апошняй паўней, больш разгорнута). Усе тры прыгаданыя аўтары ўспамінаў — моладзь, у якой кіпела кроў, узрушана білася сэрца. А мне карціць прывесці некалькі вытрымак з успамінаў пажылага чалавека, радавога ўдзельніка з'езда, з вайскоўцаў. Сваімі ўражаннямі ад з'езда К. Алексіеўскі дзяліўся недзе праз год, у выдаваным у Петраградзе ў 1918 годзе А. Вазілам часопісе «Чырвоны шлях» (№ 1—2). «Пачынаўся з'езд вяла, — успамінае Алексіеўскі.— Беларус заставаўся беларусам: бедны, забыты і загнаны беларус, гістарычна заўсёды ўсімі крыўджаны, ды і на З'езд Усебеларускі з'явіўся з уласцівым яму страхам і асцярогай. Лідэры не адразу

[1] Другі дзейны ўдзельнік Усебеларускага з'езда Я. Канчар у кнізе «Белорусский вопрос» падае крыху іншыя звесткі: 1915 і 1175 чалавек, якія, у прынцыпе, мала разыходзяцца з апублікаванымі ў «Кратком очерке возникновения Белорусской Народной Республики» А. Цвікевіча.

дамовіліся, крыху адны другіх асцерагаліся, нашчупвалі грунт. Шмат было спачатку спрэчак, размоў і таптання на месцы».

Ласне такое ўражанне пакідае стэнаграма з'езда, надрукаваная ў «Белорусской Раде».

К. Алексіеўскі сведчыць, што патроху работа з'езда пачала наладжвацца. Беларусы-вайскоўцы і маракі раней за іншых сталі аб'ядноўвацца. За імі сяляне, чыгуначнікі, настаўнікі. Дух народнай, нацыянальнай свядомасці стаў мацнець, калі ўдзельнікі з'езда пачулі родную мову, беларускую песню, сваіх паэтаў, убачылі на сцэне беларускі тэатр. Дарэчы, тэатр і хор запрасілі па просьбе дэлегатаў-вайскоўцаў.

«Патроху мы пачалі адчуваць сябе адзіным беларускім племем, гістарычна, можа быць, забітым, загнаным і раз'яднаным, але ў пачуццях сваіх і самасвядомасці — адзіным, вольным беларускім людам, які не можа згінуць, а павінен мець сваё месца ў будучым на белым свеце», — згадвае аўтар «Успамінаў аб Усебеларускім з'ездзе ў горадзе Мінску». Тым часам з'ездам беларусау пільна цікавіліся. Перш-наперш Савет камісараў Заходняй вобласці. Ён быў утвораны ў Мінску ў лістападзе 1917 года на франтавым з'ездзе, без удзелу прадстаўнікоў беларускіх саветаў сялянскіх і рабочых дэпутатаў, беларускіх вайсковых частак. Ён не выказваў ніякіх інтарэсаў народа Беларусі, не меў у сваім складзе яго прадстаўнікоў, цалкам ігнараваў этнічную прыналежнасць зямлі, на якой пачынаў распараджацца. Але ўзыходзіла яго зара. Член Абліспалкомзапа (так у скароце называўся гэты орган, якому суджана было адыграць сумна вядомую ролю ў лёсе Беларусі) Л.Рзаўскі наведаўся на з'езд уласнай персонай. Слухаў усё не краем вуха, спрабаваў абразіць беларускі сцяг, што вісеў на сцэне, сустрэўшы адпор, абурэнне залы, рэціраваўся. З'езд тым часам падступіўся да вырашэння карэнных пытанняў жыцця і будучыні беларускага народа. Прыняў пастанову аб правах грамадзян і народаў. Сцвердзіў, што вышэйшая ўлада ў Беларусі належыць народу ў асобе яго выканаўчага органа, у прыватнасці, у асобе Часовага беларускага савета сялянскіх, рабочых і салдацкіх дэпутатаў. Пастанавіў, што на тэрыторыі Беларусі замацоўваецца «дэмакратычны рэспубліканскі лад». Ад блока сацыялістаў Т. Грыб выступіў з дэкларацыяй аб неабходнасці аб'явіць Беларускую Народную Рэспубліку.

Сапраўды шмат што яднала людзей на гэтым вялікім, небывалым сходзе. Тое, што ўпершыню разам сышліся яны з усёй беларускай зямлі, каб вырашаць яе, сваю будучыню. І адчуванне унікальнасці моманту і свайго права вызначаць нешта існае ў лёсе Беларусі, яе народа. І, нарэшце, трывога за заўтрашні дзень іхняй спрадвечнай бацькаўшчыны, над якой навісла рэальная пагроза быць падзеленай між дзяржаўнымі суседзямі, гістарычнымі і негістарычнымі прэтэндэнтамі на яе.

Натуральна, пачуццё Айчыны, што ўзышло над гэтым вечам беларусаў, усведамленне адказнасці за лёс сваёй зямлі яшчэ не рабілі ўсіх удзельнікаў яго аднадумцамі. На ім вылучаліся групы, асабліва аўтарытэтныя адзінкі са сваімі пазіцыямі, поглядамі на шлях Беларусі ў дзень заўтрашні. Выклікалі ўсеагульную павагу высокі, стройны паглядны акадэмік Карскі ў прэзідыуме,

стары нарадаволец, змагар супраць тыраніі Бонч-Асмалоўскі і былы паліткатаржанін Алесь Гарун, сканцэнтраваны, удумлівы Язэп Дыла і энергічныя Рак-Міхайлоўскі ды Савіч.

Стары грамадавец, з пецярбургскіх беларускіх актывістаў пачатку стагоддзя, Язэп Сушынскі, якому на з'ездзе не цярпелася хутчэй аб'явіць Беларусь Народнай Рэспублікай, ужо ў 60-я ўспамінаў, як энергічна, нервова паводзіў сябе на Усебеларускім з'ездзе бальшавік Фабіян Шантыр. Імклівы, амбітны, з кольтам праз плячо паверх шыняля, у неадступным суправаджэнні некалькіх чалавек (казалі — «група Шантыра») снаваў між дэлегатамі. У адказ на нейчую рэпліку-нязгоду запальчыва кідаў: «Патрабую сатысфакцыі за абразу!» Сваю думу думаў прыбылы з Петраградя Алесь Чарвякоў. Там, у сталіцы, уладу ўзялі бальшавікі, Радыкальная праграма, гнуткая тактыка… Мо і сапраўды іх планетарная праграма акажацца ключом да будучыні ўсіх? Мо гэта і беларускі шлях? Большасць, аднак, так не думала. Рэпліка прадстаўшка беларусаў-бежанцаў з Масквы Аляксандра Цвікевіча: «Бальшавікі разумеюць самаазначэнне вельмі арыгінальна: без майго павялення нічога не можа быць. Мы вас самавызначым», — знайшла разуменне ў зале. Словы дэлегата з Масквы аказаліся досыць праўдзівымі і ў нечым прарочымі.

А ўвогуле на беларускім з'ездзе хоць і не прамая, а ўскосная палеміка з балынавікамі ўжо ідзе. Чуецца апаніраванне ім, абвінавачанне ва ўзурпацыі ўлады ў рэвалюцыйнай Расіі. «Ад імя XII арміі гавару, — казаў у сваім выступленні дэпутат-вайсковец Я. Мамонька, — мы можам аб'явіць у краі ўладу. Калі ў Петраградзе бальшавікі без з'езда аб'явілі ўладу, то чаму мы не можам аб'явіць уладу на з'ездзе?» — задаваў рытарычнае пытанне ён пад воплескі залы.

З шырока запланаванай праграмы — дакладаў пра сучаснае палітычнае становішча і лёс Беларусі (Варонка, Гольман), пра нацыянальнае адзінства беларускага народа і яго самавызначэнне (Карскі, Лёсік, Канчар), аб арганізацыі Беларускай нацыянальнай арміі (Кандратовіч, Рак-Міхай-лоўскі), пра вырашэнне зямельнага пытання (Канчар, Бонч-Асмалоўскі, Смоліч) і іншае — мала што паспелі здзейсніць. У ноч з 17-га на 18 снежня ў залу пасяджэнняў уварвалася група ўзброеных людзей на чале з камендантам мінскага гарнізона Крывашэіным і імем Савета камісараў Заходняй воласці запатрабавалі роспуску з'езда.

«Як толькі здарылася гэта беларуская бяда, гэты гвалтоўны разгон з'езда чужымі беларусам людзьмі, узрушыліся сэрцы ўсіх. Адзін момант і стары й малады, — усе да адзінага ўсвядомілі, усе пачулі сябе адзінымі, сапраўднымі сынамі беларускай зямлі, усе сталі блізкімі адзін другому, як родныя браты. І гэта быў найвышэйшы, нейкі дзіўны момант усяго з'езда.

Можа быць, за ўсю доўгую, шматвяковую гісторыю беларускага народа ніколі не было такога ўсёаб'ядноўваючага моманту — пісаў К. Алексіеўскі.— Хто перажыў яго, век не забудзе. Не таму, вядома, што нам пагражалі кулямі, штыхамі, смерцю. Мы, воіны, ведалі на сваім вяку яшчэ не такое. Памятны ён ласне тым вялікім адухаўляючым уздымам адзінства, усведамлен-

нем свайго брацтва, якое мы адчулі і перажылі ў тыя дні і гадзіны». Свой успамін, пазначаны не толькі патэтыкай, але і момантамі трагізму, стары ўдзельнік Усебеларускага з'езда закончваў аптымістычна, заклічна: «Моладзь беларуская, да цябе звяртаюся я, стары беларус — памятай гэта, хавай запавет яго і перадай іншым. Няхай будзе адзіная, светлая, вольная Беларусь і няхай жыве навекі!»

На з'ездзе Аркадзь Смоліч, так, прынамсі, магло здацца, не выяўляў сябе сярод самых дзейных, актыўных. Праўда, дбаў, і гэта відно з яго кароткіх заяў, рэплік, пра захаванне адзінства тады яшчэ адзінай БСГ, даваў адпор Шантыру, які рэпрэзэнтаваўся ўжо прадстаўніком яе левага крыла. З дакладам не паспеў выступіць: чужая, таталітарная воля на той час злосна зашморгнула заслону над гістарычным беларускім дзействам. Высокая часіна Смоліча-палітыка была яшчэ наперадзе. Роля яго ў адбудове беларускай дзяржаўнасці з усёй паўнатой і значэннем выявіцца ў наступныя тры гады, пры падрыхтоўцы такіх буйных палітычных актаў, як апавяшчэнне БНР, стварэнне першага беларускага ўрада, дамаганне прызнання незалежнасці Беларусі.

Ўзброеным разгонам Усебеларускага з'езда праціўнікі беларускага самавызначэння не зламалі волі яго ўдзельнікаў да свабоды, да суверэннасці свайго народа.

Прыкрыўшы прэзідыум барыкадай, літаральна пад навіссю штыкоў дэлегаты з'езда перадалі Савету старэйшын, або Савету з'езда, паўнамоцтвы і права выканаць яго волю, рашэнні. Назаўтра, з 30-га на 31-е (н. ст.), Савет нелегальна сабраўся ў чыгуначным дэпо на закрытае пасяджэнне. Было прынята рашэнне аб прызнанні Савета з'езда яго выканаўчым органам. Вырашана папоўніць ягоны склад дэлегатамі ад усіх іншых груп, што дэлегіравалі сваіх прадстаўнікоў у Савет на з'ездзе. Усе беларускія арганізацыі, акрамя Цэнтральнай вайсковай рады, аб'яўляліся распушчанымі. ЦВР пакідалася як падначаленая Савету Усебеларускага з'езда, трэба думаць, яго апора.

Каля двух месяцаў Савет Усебеларускага з'езда знаходзіўся фактычна ў падполлі, знешне сваёй дзейнасці не выяўляў. І толькі 18 лютага, калі Савет камісараў Заходняй вобласці (Аблкамзап), прыгразіўшы гораду жэрламі пушак бронецягніка, пакінуў Мінск, энергічна ўзяўся за палітычную і дзяржаўна-адміністрацыйную працу. Вылучанае з яго складу ядро — Выканаўчы камітэт Савета з'езда 21 лютага 1918 года выдаў Устаўную грамату да народаў Беларусі. У ёй канстатавалася пагроза заняцця краю немцамі і неабходнасць узяць свой лёс ва ўласныя рукі. Беларускі народ павінен ажыццявіць сваё неад'емнае права на поўнае самавызначэнне! У грамаце было аб'яўлена, што «Выканаўчы Камітэт Савета 1-га Усебеларускага з'езда, напоўнены прадстаўнікамі рэвалюцыйнай дэмакратыі нацыянальных меншасцей, ажыццяўляючы задачу, ускладзеную на яго з'ездам, аб'яўляе сябе часовай уладай Беларусі», да склікання Усебеларускага ўстаноўчага сходу.

У заключэнне паведамлялася, што часовую народную ўладу ў краі, якая «ставіць задачу абароны і ўмацавання заваёў рэвалюцыі, будзе ажыццяўляць Народны Сакратарыят Беларусі». Народны сакратарыят — першы беларускі

ўрад на чале з юрыстам Язэпам Варонкам. Аркадзь Смоліч у ліку пятнаццаці яго сакратароў заняў пасаду сакратара асветы. Ён з'яўляўся цяпер членам Выканаўчага камітэта савета з'езда ў складзе каманды беларускіх грамадска-палітычных дзеячаў, што ўзялі на сябе ініцыятыву тварэння беларускай дзяржаўнасці, рэальнай працы па ўзвядзенні Беларускага дома.

Было неагляднае поле напружанай працы. Час сціскаўся. як туга накручаная пружына. Беларускі ўрад мог свабодна ўрадаваць у Мінску толькі няцэлы тыдзень. Сюды спяшаліся ўжо дыслацыраваны на Магілёўшчыне і стала загаспадарыўшы там польскі корпус генерала Доўбар-Мусніцкага, а таксама нямецкая армада. Беларускі Народны сакратарыят паспеў, аднак, стварыць беларускую камендатуру горада і тым самым уратаваў яго насельніцтва ад стыхіі анархіі, грабяжоў. Выканаўчы камітэт Савета Усебеларускага з'езда ўвайшоў у кантакт з гарадскім самакіраўніцтвам, земствамі, прадстаўнікамі грамадскіх і палітычных арганізацый і, нягледзячы на скрутнае становішча, настойліва ішоў па шляху адстойвання інтарэсаў беларускага народа. Насуперак жорсткім абставінам (25 лютага нямецкі камендант горада з узброеным атрадам акружыў памяшканне Народнага сакратарыяту, зрабіў у ім вобыск, разагнаў супрацоўнікаў і зняў з будынка беларускі сцяг) Выканаўчы камітэт савета І Усебеларускага з'езда робіць наступны крок у адбудове беларускай дзяржаўнасці — у выдадзенай ім «Другой устаўной грамаце да народаў Беларусі». «Пасля трох з паловаю вякоў няволі, — гаварылася ў яе прэамбуле, — ізноў на ўвесь свет кажа беларускі народ аб тым, што ён жыве і будзе жыць. Вялікі Народны Збор — Усебеларускі з'езд 5—17 снежня 1917 году, дбаючы аб долі Беларусі, зацвердзіў на яе землях рэспубліканскі лад». Далей у грамаце гаварылася пра тое, што: «1. Беларусь у рубяжох рассялення і лічэбнай перавагі беларускага народа абвяшчаецца Народнай Рэспублікай.

Асноўныя законы БНР зацвердзіць Устаноўчы сойм Беларусі, скліканы на асновах агульнага, роўнага, простага, патаёмнага і прапарцыянальнага выбарчага права, не зважаючы на пол, народнасць і рэлігію.

Да часу, пакуль збярэцца Устаноўчы сойм Беларусі, заканадаўчая ўлада ў Беларускай Народнай Рэспубліцы належыць Радзе Усебеларускага з'езда, папоўненай прадстаўнікамі нацыянальных меншасцяў Беларусі». Пятым пунктам у 2-й грамаце абвяшчалася «свабода слова, друку, сходаў, забастовак, хаўрусаў; безумоўная вольнасць сумлення, незачэпнасць асобы і памяшкання».

Зямля перадавалася тым, хто на ёй працуе, лясы, азёры, нетры абвяшчаліся ўласнасцю Беларускай.Народнай Рэс-публікі, мовы ўсіх народаў Беларусі — раўнапраўнымі. Такім чынам, нягледзячы на акупацыйны рэжым, мілітарна-таталітарыстычнае акружэнне, беларускія маладыя сацыялісты-адраджэнцы тарылі свайму народу дарогу да прававога, дэмакратычнага ўкладу жыцця. Аб'яўленне Беларускай Народнай Рэспублікі, дэмакратычнае прадстаўнічае фарміраванне Рады яе было далейшым прасоўваннем па шляху да дзяржаўнасці, рэалізацыяй яе асобных падвалін.

19 сакавіка адбылося ўрачыстае пасяджэнне Рады рэспублікі, дапоўненай пятнаццаццю прадстаўнікамі нацыянальных меншасцяў і дваццаццю ад

гарадоў і земстваў. Такім чынам, да ядра Рады, выбранай Усебеларускім з'ездам, дадалося яшчэ трыццаць пяць дэпутатаў, што складала 30 % ад агульнага ліку месцаў у заканадаўчым органе рэспублікі. Выбраны прэзідыум Рады ўзначаліў Іван Серада. Менш тыдня заставалася да самага рашучага акта, здзейсненага Радай Беларускай Народнай Рэспублікі, — аб'яўлення суверэннасці Беларускай дзяржавы.

На рабочай сесіі Рады рэспублікі 24 сакавіка 1918 года абмяркоўвалася палітычнае становішча Беларусі. Савецка-германскія перагаворы, якія цягнуліся ўжо два месяцы, перапыніліся, беларуская зямля заставалася разменнай картай у руках палітыкаў чужых дзяржаў, а яе народ заложнікам чужой волі. Помачы чакаць не было адкуль. Толькі змяніўшы свой залежны дзяржаўна-прававы статус, Беларуская Народная Рэспубліка магла спадзявацца на падтрымку звонку. Нарэшце, прымусіць дзяржаўных суседзяў лічыцца з правам, лёсам яе народаў. Шукаючы выйсця з крытычнага становішча, члены Рады, у большасці сацыялісты, ідуць на рашучы крок. Фракцыя БСГ на сваім пасяджэнні, якое вёў А. Смоліч, прымае рашэнне аб'явіць Беларусь незалежнай рэспублікай. Ідэю суверэннасці горача адстойваюць на пасяджэнні фракцыі грамадаўцаў, дэлегаты Віленскай беларускай рады на чале з Іванам і Антонам Луцкевічамі, якія прыехалі на сесію Рады БНР.

Пастаўленае Смолічам на парадак дня сесіі Рады пытанне аб неабходнасці аб'явіць Беларускую Народную Рэспубліку самастойнай дзяржавай выклікала вострыя спрэчкі, сапраўдную атаку з боку земцаў. Пасля напружанай дыскусіі, якая зацягнулася далёка за поўнач, большасцю галасоў ідэя прыхільнікаў суверэннасці Беларусі перамагла. На світанні 25 сакавіка пасівелы за ноч Язэп Варонка аб'явіў, што воляю прадстаўнікоў беларускага народа БНР становіцца незалежнай дзяржавай, вольнай самой вырашаць свой лёс.

З гэтага выпадку Радай Беларускай Народнай Рэспублікі была выдадзена 3-я Устаўная грамата.[1] Гэта быў гістарычны акт. І хоць беларусам у бліжэйшы час не ўдалося рэалізаваць усіх пастулатаў, закладзеных у ёй, давялося перажыць трагічны падзел сваёй зямлі, але ідэі, пракламаваныя 25 сакавіка, аказаліся жывучымі і назаўсёды сталі для многіх яе сыноў путяводнаю зоркай.

Пад уражаннем толькі што перажытага, голас Смоліча, калі ён пісаў у газету «Беларускі шлях» ад 28 сакавіка 1918 года, крыху набіраў пафасу: «25 сакавіка Рада Беларускай Рэспублікі абвясціла незалежнасць Беларусі. Нягледзячы на страшэнную апазіцыю небеларускіх элементаў Рады, беларуская частка яе на гэты раз аказалася нязломнаю. Тое безвыходнае палажэнне, у якім знаходзіцца цяпер наша Бацькаўшчына, скасавала ўсе розніцы поглядаў між беларусамі. Хто беларус — той за незалежнасць».

І пасля тырады, што забірала на патэтызм, зусім спакойны і да жорсткасці цвярозы роздум, рэальны погляд на сітуацыю: «Незалежнай дзяржаве Беларусі не ўсміхаецца будучыня. Прывыкшы да няволі і пакоры, народ

---

[1] Канчар Е. С. Белорусскнй вопрос. Пг., 1919. С. 31—32.

беларускі не стварыў моцных арганізацый, і цяперака, як і ўперад, можа толькі больш ці менш голасна пратэставаць, патрабаваць, але не можа сам браць, сам тварыць сваё жыццё. Бяссільны і безабаронны, ён як і заўсёды, залежыць ад чужой волі і міласці».

Ілюзій наконт рэальнай незалежнасці на бліжэйшы час у Смоліча амаль няма. Але ён, рэаліст ад прыроды, чалавек ужо спакушаны ў палітыцы, умее зірнуць і далей, ацаніць найменшую перспектыву па-дзяржаўнаму, мудра: «Зямля беларуская апустошаная вайной і падзеленая на часткі. Вырастаючыя дзяржаўныя суседзі — Польшча, Літва, Украіна, таксама хочуць адарваць і, пэўна, ім гэта ўдасца — значныя кавалкі беларускай тэрыторыі. Але калі і пры найгоршым раздзеле хаця кавалак зямлі беларускай атрымае рэальную волю і незалежнасць, дык усё роўна гэтым будзе забяспечана нашая нацыянальная будучыня».

Артыкулы «Незалежнасць Беларусі» і «Дзве дарогі» А. Смоліч падпісаў крыптанімам Л. Б., утвораным ад псеўданіма Лаўрэн Будзіловіч, пад якім у 1914 годзе ён дэбютаваў у часопісе пецярбургскіх студэнтаў-беларусаў «Раніца».

На пачатку 1918 года, які для Смоліча да краю напоўнены клопатам — арганізацыйнай дзейнасцю, заканатворчай працай у Радзе рэспублікі па адбудове беларускай дзяржаўнасці, у вёсцы Саломеравічы памірае яго бацька, а ў Мінску, у доме Кантаровіча, што па вуліцы Аляксандраўскай, нараджаецца іх з Алесяй першынец, і ў памяць пра сябра-паэта Смолічы даюць яму імя Максім.

Акупацыйны рэжым кайзераўскіх войск моцна абмяжоўваў дзейнасць Народнага сакратарыята Беларусі, але не ва ўсіх сферах і не настолькі, каб той сядзеў зусім са звязанымі рукамі. Немцам рупіла адно — як мага больш усяго нарабаваць у часова захопленым краі. Яны паставілі дзе можна, недалёка ад чыгункі, тартакі і эшалонамі адпраўлялі ў Faterland беларускую драўніну ды рознае нарабаванае дабро. На праявы палітычнага жыцця ў акупаваным краі глядзелі праз пальцы. Асабліва ў другой палове 1918 года, калі да іх пачаў далятаць гул падземных штуршкоў рэвалюцыйнага вулкана з самой Германіі.

Народны сакратарыят, прынамсі, асветны яго аддзел, дэпартамент (міністэрствам не назавеш, калі ў штаце практычна адзін сам міністр), не марнаваў часу. Ужо з красавіка 1918 года былі адкрыты курсы беларусазнаўства. Смоліч чытаў на іх геаграфію Беларусі. Народны сакратарыят асветы зрабіў захады, каб вярнуць у Мінск з Яраслаўля праз дэмаркацыйную лінію (праходзіла ля Оршы) эвакуіраваны на пачатку вайны настаўніцкі інстытут. У той жа Яраслаўль быў камандзіраваны спецыяльна чалавек, якому было даручана забраць архіў Багдановіча. Асветны сакратар падтрымліваў хор Тэраўскага, клалаціўся пра беларускі тэатр, к восені сабраў педагогаў, каб нармальна ішла праца ў настаўніцкім інстытуце. Смоліч звязаўся з прафесарам М. В. Доўнар-Запольскім, які жыў тады ў Кіеве, а таксама з акадэмікам Карскім. Імі была створана камісія па падрыхтоўцы да адкрыцця ў Мінску універсітэта, Карскім распрацаваны яго статут. Смоліч мусіў парупіцца і пра напісанне падручнікаў для беларускай школы. У тым

ліку па геаграфіі Беларусі. А паколькі патэнцыяльных аўтараў было нялішне, то за справу ўзяўся сам.

Думка напісаць «Геаграфію Беларусі» прыйшла Аркадзю Смолічу ў студэнцкія гады, у час навучання яго ў Нова-Аляксандраўскім інстытуце сельскай гаспадаркі і лесаводства, што ў Пулавах на Любліншчыне. Авалодваць вышэйшай адукацыяй будучы беларускі вучоны пачынаў у Кіеўскім політэхнічным інстытуце, куды паступіў у 1909 годзе адразу пасля заканчэння агульнаадукацыйных класаў у Мінскай духоўнай семінарыі. Можа б, зусім іначай склаўся лёс сына дзячка з Бацэвічаў на Бабруйшчыне, каб жыў ён у іншую эпоху, каб не трапіла на яго юныя вочы газета «Наша ніва» ды рэвалюцыйная літаратура, якой моладзь тайна, з-пад палы, дзялілася між сабой. Палітэхніка хутка расчаравала пёршакурсніка, і ён, з думкай памагчы сялянству ведамі, пераводзіцца ў Пулавы, дзе на той час быў ці не пер-шы ў Расіі глебазнаўчы факультэт ды заснаваная яшчэ першым дырэктарам Нова-Аляксандраўскага інстытута В. В. Дакучаевым глебазнаўчая кафедра.

Не вельмі шанцавала Смолічу-студэнту ў Пулавах. Увосень 1910 года ў час студэнцкіх забастовак ён, як член забастовачнага камітэта, быў выключаны з інстытута і спецыяльным загадам генерал-губернатара Скалона высланы за межы Прывісленскага краю. Выбіраўся з Пулаваў дзевятнаццацігадовы Аркадзь Смоліч ужо членам Беларускай сацыялістычнай грамады. Нейкі час заставаўся як палітычна недабранадзейны без працы. У пачатку 1911 года ляснае бюро Мінскага таварыства сельскай гаспадаркі дало апальнаму студэнту месца тапографа-таксатара. Работа тапографа давала магчымасць бліжэй пазнаць Беларусь. За няцэлыя два гады Смолічу давялося з немудрагелістымі прыладамі на плячах пабываць у многіх кутках Віленшчыны і Гродзеншчыны. Паштоўкі, прысланыя А. Смолічам у адрас рэдакцыі «Нашай нівы», сведчаць аб ужо досыць сталай сувязі яго як з тварцамі беларускага руху, так і з маладымі ягонымі ўдзельнікамі. Першая, напісаная яшчэ па-руску Смолічам-семінарыстам. У ёй Аркадзь просіць прыслаць для семінарыстаў «Нашу ніву» на адрас: Мінск, Старавіленекая, дом Якаўлева, на імя Васіля Мачульскага (заўважым, пазней беларускага літаратуразнаўцы). Акрамя таго, просіць бясплатна выслаць «Адвечную песню» Я. Купалы і гісторыю Беларусі. «Здаецца, асяроддзе, спрыяльнае для пашырэння нашых ідэй, я знайшоў», — паведамляе кіраўнікам вызваленчага руху. У канцы дадае пра семінарыстаў, што пасля 4-х курсаў бягуць ва універсітэт, пра «Нашу ніву» не чулі». У другой паштоўцы, ужо з Пулаваў, паведамляе: «…маюся сёлета прыехаць на Купалле, галоўным чынам затым, каб пабачыцца і пагаманіць». І далей просьба паведаміць «Тарасу [Тарашкевічу.— *А. Л.]*, які, здаецца, цяпер каля Вільні круціцца, што прыедзем», і пытанне: «Можа, Душэўскі з Піцеру прыехаў?»

У паштоўцы, прысланай са станцыі Шырвінты Віленскай губерні ад «каморніка А. А. Смоліча», гутарка ідзе пра падпіску на «Нашу ніву» і пра прыезд у Вільню «святам».

Увосень 1912 года Смоліч трапляе ў Пецярбург, дзе яму ўдаецца паступіць на вышэйшыя прыватныя сельскагаспадарчыя курсы. Тут завязваюцца кан-

такты з беларускім студэнцкім асяродкам сталіцы, малады аграном умацоўваецца ў думцы аб патрэбе практычнай працы дзеля адраджэння свайго народа.

Агульная амністыя ў сувязі з 300-годдзем дому Раманавых на першы погляд вызваляе Смоліча ад апекі палітычнай паліцыі. Але гэта толькі на першы погляд. Толькі ўладкаваўся апальны студэнт у лабараторыю Лібава-Роменскай чыгункі, як па патрабаванні жандарма быў зволены. Ды дарогу да інстытута амністыя ўсё ж адкрыла. Восенню 1913 года Смоліч змог вярнуцца на вучобу ў сваю альма матэр. Стаў спецыялізавацца па глебазнаўстве і сельскагаспадарчай геаграфіі. У гэты час ужо трывала складваецца думка аб тым, што ён будзе працаваць над эканомікай і фізічнай геаграфіяй Беларусі, як засведчыць аб тым у аўтабіяграфіі, напісанай 18 красавіка 1937 года ў Сібіры.

Надрукаваныя ў 1914 годзе ў мінскім маладзёжным часопісе «Лучынка» артыкулы Смоліча «Даўнейшая натуральная гаспадарка і цяперашняе царства рубля», «Як цана робіцца і што яна знача» (абодва падпісаны псеўданімам Арцём Жывіца) сведчаць не толькі пра цягу будучага географа да эканамічных праблем, але і аб досыць кампетэнтнай арыентацыі яго ў законах рынку і ўменні даходліва, жывым словам гэта растлумачыць. Навукова-папулярныя эцюды Смоліча, заказаныя яму рэдактарам «Лучынкі» Аляксандрам Уласавым дзеля эканамічнай асветы маладога беларускага пакалення, раскрывалі несумненны аналітычны талент іх аўтара. Апублікаваная ж адначасова ў часопісе «Раніца» пад псеўданімам Л. Будзіловіч публіцыстыка сведчыла, што здатны ён на запальнае слова аратара, няхай сабе са скідкай на маладосць, неспрактыкаванасць: «На вежах стаімо старажоўскіх і чуем дух наш вольным. Мы першыя ўбачым узыходзячае сонейка, тады яшчэ як зямля нашая спаць яшчэ будзе сном моцным і толысі ў снох бачыць ясны золак. І калі пазалоціцца Усход і ва ўсім хараستве сваім з'явіцца царства святла, мы першыя падымемся на званіцы і разгойдаем іржавыя білы. І будуць пець, гудзець званы, як на Вялікдзень, абвяшчаючы свету ўсяму, што Уваскрэс Дзень».

Хіба не відаць за гэтай бясхітраснай, біблейскага складу алегорыяй, як ірвалася маладая душа яго да Волі, якім пэўным быў ён, што Воля блізка, і горды, што ласне ім, маладому пакаленню, усміхнулася Доля здабыць яе?

І паўторыцца яшчэ як спрактыкаваны прамоўца, які адчувае сваю аўдыторыю: «Шчаслівa ўсміхнулася Доля нашаму пакаленню. Вывела нас яна на шырокі, прывольны свет, паклала ў нашы істоты карані веды і праўды». І ў трэці раз вернецца да лейтматыву свайго звароту прамаўлення: «Яшчэ раз кажу: шчыра ўсміхнулася Доля нашаму пакаленню. Яна вывела тады нас на вежы народныя, калі яшчэ не занялася… зара. Яна дала нам у рукі вугаль прароцтва і зелле апостальства і сказала: толькі навучыцеся сцаляць імі людскія сэрцы». І ў канцы з добрай верай у сваё пакаленне, яго прадвызначэнне: «Мы можам, мы павінны быць прарокамі, апосталамі новага жыцця…» Такі прадчувала маладое пакаленне беларускай інтэлігенцыі пачатку XX стагоддзя наканаванасць свайго шляху, ведала пачуццё абавяз-

ку, толькі не ведала і ведаць не магло, якой ахвярнай, цяжкой будзе дарога да свабоды.

Аркадзь Смоліч першы раз востра адчуў цярністасць шляху беларускага адраджэння ў канцы 1918 года, калі Народнаму сакратарыяту ў поўным складзе давялося пакідаць Мінск. Праўда, першы зыход яшчэ не кідаў у роспач. Няхай не Мінск, але пад нагамі была яшчэ своя зямля. А наперадзе — цэлае жыццё.

Смоліч загадзя, як стала ясна, што немцы ачысцяць беларускую тэрыторыю, быў пасланы сакратарыятам у Гродна для разгортвання там беларускай палітычнай работы. Было вырашана наогул цэнтр беларускага руху перанесці ў Заходнюю Беларусь і адтуль пачаць дзейнасць на заграніцу па адстойванні беларускай дзяржаўнасці. Праз гады Смоліч успомніць, што ў Гродна «арганізоўваў публічныя мітынгі, агітаваў за прызнанне БНР масамі. Лозунгі Беларускай Народнай Рэспублікі карысталіся тады ў Гродне поспехам...». Досыць памысна праходзіла работа і па лініі БСГ. Правінцыя жыва адгукалася на зварот да яе. У пачатку снежня ўдалося склікаць Беларускі сялянскі з’езд, які выбраў Беларускую сялянскую раду на чале з Якубецкім і іншымі беларускімі эсэрамі і членамі БСГ. Сялянская Рада разгарнула дзейсную арганізацыйную і палітычную працу ў краі.

У ходзе змагання за рэалізацыю ідэй БНР Смолічу разам з гродзенскім беларускім актывам давялося сутыкнуцца з так званай Беларускай управай. Як у большасці гарадоў Беларусі, складалася яна ў асноўным са старарэжымных рускіх чыноўнікаў. Але паволі з лініяй беларускіх дзяржаўнікаў-адраджэнцаў яны прымірыліся і мусілі неяк прыняць саму ідэю беларускай дэмакратычнай рэспублікі. Не чужая яна аказалася і тутэйшаму протаіерэю Карчынскаму. Што ж да сялянскіх валасных ды і павятовых камітэтаў, то яны досыць актыўна адгукнуліся на заклік ствараць сваю, беларускую ўладу. Знайшлася жменька нацыянальна свядомай інтэлігенцыі, у асноўным настаўнікаў. Разам з імі стварылі пару беларускіх школак, дзіцячы прытулак (столькі малечы тут абяздоліла вайна) і нават адкрылі беларускую гімназію. Маладзёжная беларуская грамада (і такая ўзнікла) парупілася аб сваім тэатры. З пачатку 1919 года займелі газету на дзвюх мовах «Беларускі народ», а з сакавіка — беларускі сацыялістычны тыднёвік «Бацькаўшчына» і орган Цэнтральнай беларуская рады Гродзеншчыны газету «Беларусь». Адным словам, паціху ў старажытным горадзе над Нёманам, з яго шматвяковай гісторыяй, адраджалася беларуская думка, яднала людзей, падымала да працы беларуская ідэя.

Беларускі ўрад, рэарганізаваны яшчэ ў Мінску, не сядзеў склаўшы рукі. Сфарміравалі першы беларускі полк з камандзірамі, якія прысягнулі на вернасць Беларускай Рэспубліцы. Трэба было даць знак аб адраджэнні беларускай дзяржаўнасці ў шырэйшым свеце. Трэба было, каб даведаліся ў еўрапейскіх сталіцах, што беларускі народ вуснамі сваіх давераных прадстаўнікоў на Усебеларускім зборы выказаў волю да суверэнітэту, заявіў аб сваім праве быць гаспадаром на ўласнай зямлі. З адпаведнымі паўнамоцтвамі, мандатамі ды з надрукаванай у Гродна брашурай прафеса-

ра Доўнар-Запольскага «Асновы дзяржаўнасці Беларусі» члены ўрада БНР накіраваліся ў розныя дзяржавы. Смоліч разам з А. Цвікевічам і В. Захаркам адправіўся ў Берлін. Думалі аб Парыжы, дзе мелася пачацца мірная канферэнцыя, на якой павінен быў вырашацца лёс народаў і дзяржаў пасляваеннай Еўропы.

Перад гэтым Смоліч па даручэнні старшыні Рады міністраў рэспублікі Антона Луцкевіча, намеснікам якога быў прызначаны, пабываў у Кіеве. Заданне меў нялёгкае. Урад сядзеў зусім без грошай. Беларускую казну, якой яна заставалася ад часоў рэвалюцыі, расхапалі, перад усім Аблкамзап, уцякаючы ў Смаленск, і камандуючы польскім корпусам Доўбар-Мусніцкі. Запрацаваныя крывавым мазалём беларускага земляроба і работніка грошы не ішлі на адбудову беларускай дзяржаўнасці. Беларускія лідэры спадзяваліся на ўкраінскіх братоў, на Дырэкторыю. У Дырэкторыі ўрадаваў якраз ігісьменнік і палітык дэмакратычных перакананняў Вінічэнка. Было ў Кіеве некалькі вядомых беларусаў, у тым ліку Іван Краскоўскі. І гэта апошняя акалічнасць далікатную справу дзяржаўнай пазычкі аблягчала і ўскладняла. Больш ускладняла, чым аблягчала, як пераканаўся Смоліч. Быў Іван Краскоўскі, якога нельга было ў такой справе абысці, чалавекам надта няпростым. Заўсёды меў свой погляд і інтарэс.

У разгорнутым рапарце ў форме ліста ад 13 студзеня 1919 года Смоліч паведамляў Антону Луцкевічу: «Я лічыў патрэбным з Краскоўскім раіцца. Ён часта становіцца ў адпаведныя позы і наогул, відаць, з майго прыезду не здаволены. Заўсёды дэманстратыўна лае «мінскую палітыку», у якой акрамя памылак нічога не было. На нашым сходзе [беларускай калоніі ў Кіеве.— *А. Л*] ён заявіў, што ўкраінцам цяпер не да нас. Смоліч можа пачакаць. Ніякія мае довады аб крытычным становішчы нашага ўрада не памаглі — ён іх проста не хацеў слухаць. (А ён цяпер, к слову, вялікая персона — сакратар Дырэкторыі.) Дайшло да таго, што ён мне прыгразіў, калі я ўсё ж афіцыйна выступлю, дык ён пастараецца мяне скампраметаваць у вачах Дырэкторыі і Украінскага ўрада».

Смоліч досыць падрабязна інфармуе шэфа свайго ўрада аб беларускім палітычным жыцці ў Кіеве, робіць практычныя вывады: аб неабходнасці замяніць консула Базарэвіча на Леўшчанку, які «досыць заняты, але чалавек шчыры і працуе». Карыстаючыся досыць шырокімі паўнамоцтвамі ўрада БНР, Смоліч робіць і свае распараджэнні, праўда, узгадніўшы іх з мясцовым прадстаўнічым беларускім органам.

Самае, аднак, цікавае ў рапарце А. Смоліча ў Гродна, гэта яго развагі з атрыманай інфармацыі з Мінску. Справа ў тым, што з аказіяй у Кіеве былі атрыманы ліст ад В. Іваноўскага і запіска ад Б. Тарашкевіча. Яны, як і ў час нямецкай акупацыі, цяпер, пры вяртанні бальшавікоў, працавалі ў настаўніцкім інстытуце, прасілі грошай на выданне беларускіх лекцый і матэрыяльнай падтрымкі выкладчыкаў. У кароткім лісце Іваноўскага была прыпіска: «Усе нашы здаровы», якая чыталася ў кантэксце магчымых, чаканых рэпрэсій у дачыненні да «незалежнікаў». Скупую інфармацыю, атрыманую пісьмова, Смоліч папоўніў роспытам студэнта Лянкевіча, з якім яна

была перададзена. Хоць кур'ер аказаўся не вельмі кампетэнтны на погляд Смоліча, але ўсё ж яму ўдалося нямала даведацца пра Мінск і што там дзеецца. А гэта, зразумела, моцна непакоіла. Спачатку асобныя штрыхі, што ўведаў і перадаваў Смоліч, а потым галоўнае — яго разважанні аб будучыні ўрада, аб палітычных шляхах Беларусі.

Перш-наперш Смоліч перадае ўражлівую навіну — аб стварэнні «Маскоўскім Саўнаркомам на моцы надта доўгаг маніфесту» савецкіх рэспублік Беларусі, Літвы, Латвіі і г. д. і аб тым, што Савецкая Беларусь далучаецца да РСФСР «як самастойная рэспубліка».

«Хто цяпер нашым прэзідэнтам, ён [пасланец.— *А. Л.*] не ведае, — піша Смоліч.— Здаецца, ці не Раінгольд». І далей інфармуе, што «Смаленская камуна ўся пераехала ў Менск і робіцца «беларускаю». «Нашых не чапаюць пакуль што», і, як пацвярджэнне сказанага, прыводзіцца факт размовы Ігнатоўскага з тым, хто даў загад аб арышце ўсіх радных, і тое, што «ён [Ігнатоўскі.— *А. Л.]* застаўся цэлы». «Годна ўвагі тое, — падкрэслівае Смоліч, — што найболыц на рэпрэсіях проціў беларусаў настойвае «беларуская секцыя» (беларуская секцыя партыі камуністаў).

«Хто там у ёй ёсць, ён не ведае», — зазначае аўтар ліста. «Яна ўсё палохае, што прыдуць з Петраграду матросы і з усімі расправяцца».

І далей крыху абагульнення: «Пануе, вядома, самая свірэпая дыктатура, як гэта і трэба было спадзявацца. Аб тэроры пакуль што не чуваць».

І яшчэ, ужо не са слоў студэнта з Мінска, а пачутае па радыё адтуль 1 студзеня 1919 года: «Манифестом Сов. правительства провозглашена Белорусская Советская Социалистическая Республика. Белорус. Рада… обьявляется врагом трудящихся…»

«З усяго гэтага мусім зрабіць вывады», — заключае Смоліч і пераходзіць да ўласнага бачання сітуацыі і праблемы: «Мы маем магчымасць «закрыць краму», перахоўваючы самы ўрачыста задаволены від. Ласне ж мы не дабіліся свайго? І вось толькі ўсё пытанне — ці маем мы права гэта зрабіць і галоўнае, ці ёсць у тым патрэба».

Далей развага Смоліча патрабуе перадачы яе даслоўна. Яна вельмі вымоўная для пазіцыі беларускіх дэмакратаў-незалежнікаў. «Хоць я лічу, што ад бальшавізму для краю больш шкоды, чым карысці, хоць ён нас мацней прывязвае да Масквы, чым гэта хацелася б, але калі ён дае магчымасць шырокай культурнай працы, узнае і бароніць нашу дзяржаўнасць і, галоўнае, калі ён давядзе яе да натуральных рубяжоў — створыць Беларусь аб'яднаную, якая хоць некалькі месяцаў пражыве цяпер супольным жыццём, Беларусь з Вільняю, Беластокам, і Бранскам, і Гомелем, дык мы мусім ухваціцца за гэтую ідэю, прызнаць яе нацыянальным заданнем часу і проста стаць у рады абаронцаў гэтага парадку і ваяваць у гэтых радах хоць бы з усім светам».

Смоліч не абсалютызуе і тым больш не ідэалізуе адну форму беларускай дзяржаўнасці, да тварэння якой прычыніўся сам. Ён адкрыты і для іншых яе праяў і шляхоў. Толькі б гэтыя шляхі вялі да нацыянальнага і сацыяльнага разняволення беларускага народа. «Наўрад ці хутка нам з'явіцца другі

раз такая перспектыва, — працягвае ён разважаць над фактам утварэння Савецкай Беларусі.— Праўда, гэта крыху рызыкоўна. Але калі згіне Савецкая Беларусь, дык не згіне ў нашым народзе гэтая ідэя максімалізму, разам сацыяльнага і нацыянальнага. Народ пра яе не забудзецца цераз некалькі пакаленняў». Смоліч цвярозы палітык і досыць рэальна глядзіць у будучыню. «Палажэнне бальшавікоў, здаецца, мацнее (пазіцыя Вільсана), і хто знае, можа, ім суджана перамагчы свет ці хоць, прынамсі, ператрываць яшчэ доўгі час, патроху спакайнеючы…»

Смоліч дзеліцца з прэм'ерам і практычнымі вывадамі пра дзейнасць, пазіцыю ўрада БНР у гэтых умовах. Ён дыялектычны ў сваіх разважаннях, бачыць два выхады. Калі распускаць урад Народнай Рэспублікі, то папярэдне выпусціць «дэкларацыю аб тым, што нашы нацыянальна-культурныя мэты дасягнуты, а ў справах сацыяльных мы змагацца з бальшавікамі не будзем, дзеля чаго мы складаем паўнамоцтвы. Што мы нават будзем дапамагаць таму беларускаму Савецкаму ўраду, які аб'яднае Беларусь і разаўець культурную працу і г. д. Гэты выхад дасць магчымасць смялей выступаць і працаваць нашым людзям у мэтах Большэвізіі ў Менску, Вільні і г. д.».

Прыйшоўшы да такіх сур'ёзных высноў, Смоліч агаворваецца пра тое, што папярэдне не шкодзіла б пагаварыць з прадстаўнікамі беларускіх бальшавікоў, «а галоўнае, — даведацца, як там папраўдзе абстаяць справы ў Менску». Засцярога, скажам, не дарэмная. Не быў бы Смоліч абачлівы палітык, увогуле палітык, каб адназначна ацэньваў дылему беларускай дзяржаўнасці, не бачыў альтэрнатывы становішчу ўрада Беларускай Народнай Рэспублікі.

«Але я бачу і негатыўны бок справы [магчымай ліквідацыі ўрада БНР.— *А. Л.*], — пісаў ён у канцы сваёй вялікай рэляцыі з Кіева.— Пакуль мы ёсць, бальшавікі мусяць у справах нацыянальных за намі ўслед ісці — проста для канкурэнцыі. А як будзе, калі Беларускі ўрад згіне, то гэта невядома».

Магчымасць горшай перспектывы аказалася зусім рэальнай. Але Смоліч і ўсе зразумелі, адчулі яе гадоў праз дзесяць, з пачатку 30-х, калі ўрад БССР аказаўся бяссільны супрацьстаяць дэструктыўным сілам таталітарысцкага Цэнтра, ператварыўся ў чыстую фікцыю, стаў прыкрыццём антынацыянальнай палітыкі Масквы. Пры ўсёй крытычнасці становішча ўрада БНР — адсутнасці знешняй падтрымкі і апоры на ўзброеную сілу, з'яўленне канкурэнта ў асобе Савецкага беларускага ўрада, пустую казну — Смоліч лічыць, што «трэба зрабіць апошні высілак». Ён абяцае, заручыўшыся падтрымкай А. Цвікевіча, які яшчэ вясной 1918 года прыехаў у Кіеў на чале беларускай урадавай дэлегацыі і добра ўжыўся ў тутэйшую глебу, «справу з пазычкай у Дырэкторыі (просім 2 мільёны) так ці іначай развязаць». «Як толькі будзе ўдача, я прыеду ў Горадню»,-дадае на заканчэнне не надта пэўны ў поспеху. Украінцы, падтрымалі, грошы далі, і гэта была адзіная сапраўдная бескарысная падтрымка беларускаму незалежніцкаму ўраду.

Калі Смоліч з калегамі пасля ўдачы ў Кіеве і адбытага адразу па ёй кароткага дыпламатычнага ваяжу ў Берлін вяртаўся дамоў, на палітычным гары-

зонце Беларусі замаячыла яшчэ адна, новая пагроза. На гэты раз з Захаду. Другі «гістарычны» прэтэндэнт на беларускія землі, толькі што адроджаная Польшча, ужо слала свае войскі на Гродзеншчыну. Легіёны пад выглядам барацьбы з бальшавізмам разганялі беларускія валасныя і павятовыя сялянскія рады, камітэты, утвораныя за час БНР, арыштоўвалі найбольш дзейсных іх членаў, асабліва прадстаўнікоў інтэлігенцыі. У Гродна быў разброены беларускі полк. Афіцэры яго ўцяклі ў Літву. У Коўне прыпыніліся і некаторыя члены беларускага ўрада.

Трэба адзначыць, што ўжо ў лістападзе 1918 года кантакты паміж беларускімі і літоўскімі дзеячамі на дзяржаўным узроўні набылі канкрэтны дагаварны характар. Шэсць прадстаўнікоў Віленскай беларускай рады В. Ластоўскі, І. Луцкевіч, Я. Станкевіч, У. Талочка, К. Фалькевіч і Д. Сямашка ўваходзілі ў склад Літоўскай дзяржаўнай рады, пры Літоўскім урадзе стваралася Міністэрства беларускіх спраў, этнічна беларуская тэрыторыя ў Літве атрымлівала статус аўтаноміі з адпаведным дзяржаўным забеспячэннем. Пры польскай акупацыі Беларусі ў канцы 10-х — пачатку 20-х гадоў літоўска-беларускае палітычнае супрацоўніцтва адыграла пэўную ролю. На першым часе беларусы ў сваіх дзяржаўных імкненнях знайшлі ў суседзях падтрымку, праўда, як аказалася пазней, карыслівую. Адзінства поглядаў на змененую сітуацыю ў кіраўнікоў беларускай палітыкі не было. Тыя, што адносіліся да эсэраў, у пераважнай большасці сваёй не спадзяваліся атрымаць ад палякаў дапамогі ў рэалізацыі беларускай дзяржаўнасці і паставіліся да заявы Пілсудскага аб тым, што Польшча дасць магчымасць народам былога Вялікага княства Літоўскага самім вырашаць свой лёс, з недаверам. Той-сёй з беларускіх сацыял-дэмакратаў, хто меў сярод польскіх дзеячаў асабіста знаёмых а повад для знаёмства мелі не толькі ў інстытуцкіх аўдыторыях Пецярбурга, але і ў сібірскіх ссылках, пранікся ілюзіямі ў дачыненні старога сацыяліста Пілсудскага і яго федэратыўных планаў. Ім і належаць рэальныя. крокі ў напрамку будавання беларускай дзяржаўнасці ва ўмовах польскай акупацыі Беларусі ад лета 1919-га па лета 1920 года. А. Смоліч заставаўся ў экіпе А. Луцкевіча, разам з А. Цвікевічам, К. Цярэшчанкам, В. Іваноўскім і іншымі, і гэта быў яго апошні раунд як палітыка.

На пачатку 20-х ён напіша бліжэйшаму у той час сабрату па беларускай справе Б. Тарашкевічу сакраментальныя словы: «З палітыкі выходжу і то ў днях найбліжэйшых…»

Але, прынамсі, год да гэтага Смоліч застаецца адным з самых дзейсных змагароў за рэалізацыю акта 25 сакавіка, за пабудову незалежнай і суверэннай Беларусі. Як дзеяч Рады і ўрада Беларускай Народнай Рэспублікі, ён удзельнічае ў самых розных палітычных захадах. У аўтабіяграфіі, напісанай у канцы 1933 года ўжо ў Маскве, Тарашкевіч успамінае, што вясной 1919 года Смоліч перадаў яму наказ ураду БНР арганізаваць у Вільні беларускі з’езд. Па задуме ініцыятара ён павінен быў гуртаваць беларускія сілы, а з другога боку, засведчыць прыхадням, што беларусы ад суверэннасці не адступяцца і ўсімі спосабамі будуць бараніць свае права на незалежнае жыццё. На арганізаваным сацыял-дэмакратамі чэрвеньскім з’ездзе Віленшчыны

і Гродзеншчыны рэй вялі эсэры, як самая болыпая і, пэўна, найбольш прадстаўнічая на той час партыя ў Беларусі. Яны атрымалі зверхнасць у выбранай з’ездам Радзе Віленшчыны і Гродзеншчыны і ў яе кіраўніцтве. Прадстаўнік БНСР Т.Грыб зачытаў дэкларацыю партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў, у якой адназначна асуджалася акупацыя Беларусі, а яе народ заклікаўся да дзейснага, арганізаванага супраціўлення захопнікам.

Аднак аб шырэйшай дзяржаўнай акцыі ў абставінах польскай акупацыі Беларусі лідэрам яе, як хутка яны ў гэтым пераканаліся, думаць не прыходзілася. Другі аддзел генштаба польскага войска паведамляў аб росце ў народзе антыпольскіх настрояў, аб непрыняцці польскай дзяржаўнасці на беларускіх землях. Беларускае сялянства, што называецца, духам адчула ў польскіх легіёна абаронцаў інтарэсаў польскіх памешчыкаў на сваёй зямлі. Ды наогул мала ў якіх груп насельнікаў Беларусі ўсталяванне на яе тэрыторыі польскай улады, адміністрацыі магло знайсці спагаднае стаўленне. Ні сацыяльных, ні нацыянальных праблем яны не вырашалі, а, наадварот, закрывалі перспектыву іх здзяйснення.

Раду БНР польская адмДністрацыя збіраць не дазваляла — ведала, што яе асноўны склад прынцыповымі пастулатамі дзяржаўнага беларускага характару, суверэннасцю і цэльнасцю Беларусі, не схільны пастурацца. Фарміраванне беларускіх вайсковых аддзелаў, дазвол на якое даў сам начальнік дзяржавы (так афіцыйна звалася яго пасада) Ю. Пілсудскі, з увагі на антыпольскія настроі ў народзе, усяляк тармазілася. Да слова сказаць, у гэты час з разведдадзенымі ў руках аб дыслакацыі польскіх войск на Бярэзіне лідэрка беларускіх эсэраў П. Бадунова дабівалася ў Маскве, у Леніна, стварэння беларускіх вайсковых частак у сістэме Чырвонай Арміі.

Езуіцкімі метадамі стрымлівалася беларуская асвета. Праўда, існаваў у Мінску педінстытут, у якім рыхтаваліся сейбіты беларускага слова і спела антыпольскае падполле на чале з выкладчыкам гісторыі У. Ігнатоўскім.

Акрамя намесніцтва прэм’ера, Смоліч заставаўся ва ўрадзе Антона Луцкевіча і міністрам земляробства. Але гэта пасада яго ва ўмовах акупацыі была чыста намінальнай. Як і ў часы заняцця Беларусі кайзераўскімі войскамі Народны сакратарыят БНР не мог здзейсніць сваёй зямельнай праграмы — надзяліць сялянства зямлёй, так і цяпер пры польскім гаспадаранні ў краі ўрад беларускіх сацыял-дэмакратаў зрабіць гэта быў бяссільны: штык польскіх легіёнаў недвухсэнсоўна стаяў на варце памешчыцкіх маёнткаў, належачых пераважна польскаму і апалячанаму элементу.

Пазней, перабіраючы ў памяці гады, звязаныя з барацьбой за сцвярджэнне беларускай суверэннасці, Смоліч, пэўна, мусіў сабе прызнацца аб малаплённасці 1919—1920 гадоў, аб шматлікіх расчараваннях і таянні надзей. Калі папраўдзе, то не намнога болей, чым на пасадзе міністра земляробства, здолеў зрабіць ён і як заступнік старшыні Рады міністраў рэспублікі. З групай беларускіх палітыкаў у сакавіку 1920 года ўдзельнічаў у Мінску ў перагаворах з польскай урадавай дэлегацыяй на чале з Леонам Васілеўскім. Беларускія пастулаты бязлітасна адвяргаліся, ад іх заставаўся самы мінімум, і нельга было не заўважыць, што ў дачыненні да Беларусі ў польскага ўрада

няма пэўнай праграмы, хутчэй замаскаваныя пад дэмакратычныя прынцыпы імперыялістычныя апетыты. Ад імя ўрада БНР Аркадзю Смолічу разам з Вацлавам Іваноўскім давялося на той канферэнцыі падпісаць прапановы, нешта накшталт дэкларацыі, патрэбнай палякам як падтрымка з боку беларусаў у пастаноўцы польскім урадам усходняга пытання. Беларускія прадстаўнікі не здавалі пазіцыі, але за ўступкі ў адміністратыўнай, школьнай і эканамічнай галінах мусілі даваць карт-бланш гаспадарам становішча. Вось як гучаў той дэкларацыйны тэкст, патрэбны пану Леону Васілеўскаму:

«Прадстаўнікі Беларусі, стоячы на пазіцыі непадзельнасці і незалежнасці свайго краю, звязваюць будучыню сваёй бацькаўшчыны з падтрымкай яе Польшчай, якая гарантуе беларускаму народу паўнату развіцця. Прадстаўнікі Беларусі, згодна волі свайго народа, выражанай у акце 25 сакавіка 1918 г. падтрымліваюць Польшчу ў яе патрабаванні ад Расіі неўмяшання ў справы зямель, размешчаных на захад ад граніц 1772 г. Мінск, 24 сакавіка 1920 г.

Даводзілася рабіць тое, што дазвалялі складаныя ўмовы навіслай над Беларуссю мілітарнай сілы, чужой волі. І беларускія незалежнікі канцэнтраваліся на асветнай рабоце. Смоліч удзельнічае ў розных захадах Цэнтральнай беларускай школьнай рады, дзе сабраліся энтузіясты-настаўнікі. У прыватнасці, разам з С. Рак-Міхайлоўскім, А. Данілевічам, Я. Лёсікам, Чайкам і іншымі складае «Праграмы беларускай пачатковай школы», досыць грунтоўныя.

У прадмове да праграм Смоліч выказаў вынашаныя думкі пра ролю нацыянальнай адукацыі, школы ў жыцці народа: «Абудзіць масы народа ад застою, заклікаць іх да разумнага грамадзянскага жыцця, да культурнай творчасці можа толькі нацыянальная школа, — пісаў ён.— Нацыянальнае выхаванне аздараўляе і асвяжае народныя сілы, выкрывае схаваныя здольнасці народа, нясе яму духоўную моц, багаціць думку, правільна развівае яго розум».

Погляды Смоліча на школу, значэнне роднай мовы ва ўзгадаванні дзіцяці грунтаваліся на досведзе, здабытым яго народам і ім самім. Некаторыя сілагізмы яго адносяцца да вечных ісцін. Як, напрыклад, гэта выснова: «Асноваю нацыянальнае школы служыць родная мова — адзнака нацыі, яе духоўны твар. Мова збірае ў сабе ўсё, што мае дух нацыі. Няма ў нацыі нічога ні малога, ні вялікага, чаго б мова не ведала. Без мовы не адбываецца творчасць народа. Пакуль жыве мова, датуль жыве і народ, датуль і нацыянальнае выхаванне будзе мець вялікую вагу і значэнне. Адабраць у народа мову — значыць спыніць яго развіццё, паставіць на дарозе яго культурнай творчасці глухую перагародку.» Эпоха заняпаду мовы ў жыцці нацыі — гэта эпоха заняпаду ўсяго жыцця народа, спыненне працы яго розуму; гэта нацыянальная хвароба, самае горшае няшчасце, якое можа здарыцца ў цэлага народа». У Вільні ў 1919 годзе асобным выданнем выходзіць яго «Геаграфія Беларусі», адзін з лепшых беларускіх падручнікаў на ўсе часы. Кніга Смоліча асабліва калі глядзець на яе з аддалі часу, нешта значна большае, чым падручнік. Гэта натхнёны, арыгінальны твор — навуковая праца і літаратурна-вартасны яе эквівалент адначасна. Заадно і грунтоўны курс радзімазнаўства

«Беларуская школа і курс беларусазнаўства, — пісаў аўтар «Геаграфіі Беларусі» ў прадмове да першага яе выдання, —не маюць ніякіх падручнікаў па геаграфіі бацькаўшчыны. Нацыянальны рух, шырокай ракою разліўшыся па Беларусі за апошнія два гады, ужо шмат церпіць ад таго, што не толькі шырокая публіка, а нават шмат хто з маладых беларускіх працаўнікоў не маюць аб родным краі найпатрэбнейшых ведамасцяў…» Гэта сказана пра матывы-пабуджэнні аўтара ўзяцца, зрабіць такую працу для суайчыннікаў, што не па сваёй волі «прывыклі глядзець на Беларусь вачыма казённых падручнікаў».

Смоліч, здаецца, ведае цану сваёй творчай удачы і выдае пры канцы прадмовы запаветнае: «Вось жа, калі б тыя беларусы, што прачытаюць гэту Кнігу, зацікавіліся сваёй Бацькаўшчынаю, каб узяліся самі за глыбейшае навуковае пазнанне яе ці асобных праяў яе жыцця, каб заахвоціліся шукаць і бачыць яе арыгінальнае хараство, дык бы аўтар лічыў сваю працу дайшоўшай мэты. А калі б у іх хоць крыху пабольшала замілавання да свае роднае многапакутнае старaны, такой простай і разам цудоўнай, нават у часы заняпаду свайго поўнай веліччу і схаваных сілаў, каб яны паверылі ў яе вялікую будучыню і дзеля будучыні гэтай шчыра працаваць і змагацца пачалі, тады б аўтар быў папраўдзе шчаслівы».

Кніга А. Смоліча (будзем гаварыць пра трэцяе, найпаўнейшае яе выданне) складаецца з трох вялікіх раздзелаў: прырода Беларусі (фізічная геаграфія), насельніцтва і яго гаспадарчая дзейнасць, паасобныя краіны (рэгіёны). Унутры гэтых ёмістых раздзелаў ідуць падраздзелы, якія даюць уяўленне не толькі аб структуры кніп, але і ао яе кан-крэтным змесце. Напрыклад, у першым раздзеле вылучаны падраздзел «Выгляд паверхні зямлі», «Клімат», «Рэкі і вадаёмы», «Грунты», «Раслiннасць», «Жывёльны свет». У другім раздзеле вылучаны тры падраздзелы: этнаграфічны агляд, сельская гаспадарка, прамысловасць, і гандаль. А ўнутры гэтых падраздзелаў аўтар высвятляе такія пытанні, як «Лік, размяшчэнне, рух і падзел насельніцтва Беларусі», «Беларусы», «Нацыянальныя меншасці «Этнаграфічныя і гістарычныя межы». У падраздзеле «Прамысловасць і гандаль» вылучае «Лясныя промыслы», «Мінеральныя багацці і іх здабыванне», «Рамясло», «Фабрычна-завадская прамысловасць», «Адходныя промыслы і эміграцыя», «Гандаль», «Дарогі». У апошнім раздзеле раэглядае дзевяць асобных рэгіёнаў Беларусі, вызначаных паводле фізіяграфічных і эканамічных прыкмет. Назавём некаторыя з іх, як яны названы Смолічам: «Полацкае Наддзвінне», «Віленская краіна», «Менская краіна (Верхнебярэзінская)», «Наднёманская краіна», «Вялікая Палеская нізіна», «Дняпроўскае ўзгор'е», «Віцебская краіна…».

З ім заўсёды побач была Алеся: ахоўвала сямейнае агнішча, падтрымлівала ў мінуты скрухі, была ўважлівай да яго задум. Спрабавала і сябе на грамадскай ніве, асветнай яе дзялянцы.

У тым жа 1919-м разам з «Геаграфіяй Беларусі» ў Вільні выходзяць дзве часткі «Зоркі», буквара-чытанкі, або беларускай граматкі, як акрэсліла сваю працу Алеся Смоліч. Пяцігадовая школьная практыка, ды любоў да дзяцей, ды добры дарадца побач памаглі маладому педагогу справіцца з такой ня-

простай задачай, як стварэнне падручніка. «Зоркі» Алесі Смоліч занялі сваё месца сярод кніжак, што дапамагалі беларускім дзецям у Заходняй Беларусі, Латвіі ды і ў савецкай школе авалодваць родным словам. Аб тым, што праца маладой настаўніцы ўдалася, можа, пэўна, пасведчыць і такі факт: «Зоркі» вытрымалі сем выданняў.

На сходзе зімы 1920 года ў самавітай, штодзённай газеце, «Беларусь», рэдагаванай Я. Лёсікам, адна за адной на працягу нейкага тыдня з'явіліся публікацыі, падпісаныя ініцыяламі Л. Б. Ужо самі загалоўкі артыкулаў «Зямельная справа і беларуская сацыял-дэмакратыя», «Сучасны грамадскі лад», «Нацыянальная справа», «Прамысловасць, кірунак яе развіцця і дзяржаўны лад» сведчылі аб сур'ёзнасці ўздыманых аўтарам пытанняў. Супастаўленне тэксту выдадзенай у гэты час Смолічам брашуры «Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя, яе мэты і заданні. Папулярны выклад праграмы» не пакідае сумнення, што публікацыя ў газеце — гэта ўрыўкі з «Папулярнага выкладу праграмы БСДП».

Ужо ў публіцыстыцы Смоліча 1917 года ў газеце «Грамада» можна было заўважыць арганічную чуйнасць яе аўтара да павеваў часу. Сацыяльныя інтарэсы селяніна, працаўніка наогул, абарона іх стала стаялі ў цэнтры ўвагі Смоліча-палітыка, Смоліча-публіцыста.

Беларуская сацыялістычная грамада, як ні дарага Смолічу было адзінства першай беларускай палітычнай партыі, на пачатку 1918 года канчаткова распалася на тры плыні. Побач з Я. Лесікам, А. Луцкевічам, В. Іваноўскім, А. Уласавым, Б. Тарашкевічам, С. Рак-Міхайлоўскім і іншымі Смоліч убачыў перспектыўнасць ласне сацыял-дэмакратычнага напрамку для вызвалення працоўнага чалавека свайго заняволенага народа. Сацыялізм як грамадства дзе будзе знішчана эксплуатацыя, прыгнёт, а людскія адносіны зведаюць справядлівасць, гуманнасць — будуць згарманізаваны, — вось мэта. Толькі такое грамадства зможа даць прастор для развіцця чалавечай асобы і нацыянальнай, народнай індывідуальнасці. Разняволеная праца злучыць чалавецтва ў агульналюдскую сям'ю, зробіць яго шчаслівым.

У праграме Беларускай сацыял-дэмакратыі Смоліч выступаў добрым вучнем еўрапейскай грамадскай думкі сацыял-дэмакратычнага кірунку. Але прапускаючы ўсё праз уласную, беларускую душу, рабіў свае акцэнты і заключэнні. Смоліч быў не толькі добры географ, знаўца фізічнай геаграфіі зямлі, але і добры эканаміст, і гэта апошняе давала яму мажлівасць і права на тэарэтычныя абагульненні. Некаторыя яго высновы, зробленыя ў ходзе аналізу існуючай грамадскай сістэмы і разваг пра будучае, сацыялістычнае грамадства, могуць здацца пасля нашага сямі-дзесяцігадовага эксперымента далёка не такімі наіўнымі. Напрыклад, «Чым раней адбудзецца сацыяльная рэвалюцыя, тым цяжэй яна адаб'ецца на гаспадарчым жыцці, тым цяжэй будзе яе перажыць усяму грамадзянству і ў першы чарод самім працаўнікам», — пісаў Смоліч. Або такая, на першы погляд, простая інтэнцыя: «…сацыял-дэмакратычная партыя хоча бачыць у будучым сацыялістычным парадку роўнае багацце, а не роўную беднасць і тым адрозніваецца ад іншых сацыялістычных партыяў». Або такое нагляднае для

нас заключэнне-прадбачанне: «Калі б цяпер быу сацыялізаваны ўвесь вытвор [вытворчасць.— *А. Л*], дык ён трапіў бы ў рукі ўрадаўцаў-прафесіяналаў, зложаных большай часці з людзей, служыўшых старой бюракратыі. Не толькі сацыялістычны парадак быў бы абернуты ў нейкую пародыю, у «бюракратычны сацыялізм», але сам вытвор моцна абнізіўся бы…»

Вельмі цікавыя раздзелы ў сацыял-дэмакратычнай праграме Смоліча (Жывіцы) прысвечаны абароне працы, дэмакратычнай рэспубліцы, нацыянальнай справе. «Усе сацыяльныя рэформы, якія значна набліжаюць нас да сацыялістычнага парадку, мажлівы толькі ў больш-менш вольнай і дэмакратычнай дзяржаве». А таму як перадумову развіцця сацыялізму Смоліч лічыў «рэформы, якія забяспечаць свабоду слова, друку, сходаў, грамадаў, хаўрусаў, свабоду сумлення, незачэпнасць асобы, дому, перапіскі, агульную роўнасць усіх грамадзян перад законам, аддзяленне царквы ад дзяржавы».

Смоліч лічыць, што дэмакратычная рэспубліка, дэмакратычны лад будуць аб’ектыўна зацікаўлены ў шырэйшым развіцці асветы, прамысловасці, культуры, і гэтым самым будзе падрыхтаваны грунт для сацыялізму.

Заканчваючы аналіз неабходных рэформаў, Смоліч акцэнтаваў увагу, што імі «вызваляецца з паднявольнае адміністрацыйнае апекі асоба чалавека, што дасць ёй мажлівасць вольна і шырока развіваць свае прыродныя здольнасці, ухіляць нездаровыя, дэмаралізуючыя ўплывы няволі і прыгнёту».

Не ўстарэла разуменне Смолічам нацыянальнага элемента як складніка, крыніцы творчасці. «Тварыць па-за межамі нацыянальнасці, — пісаў тэарэтык беларускай сацыял-дэмакратыі, — немажліва, і народ, звольнены ад капіталістычнага вызыску, таксама, як і ў цяперашнія часы, будзе выяўляць сваю найвышэйшую творчасць у нацыя-нальных формах. А значыць, і уселюдскі прагрэс, які ёсць творчасцю перад усім, будзе йсці нацыянальнымі шляхамі і прывядзець ніякім чынам не да асіміляцыі народаў, а толькі да вышэйшай формы іх згоднага жыцця, працоўнага Інтэрнацыяналу». І яго пераканальнае, сакраментальнае: «Сацыялісты разумеюць нацыянальную справу не як прычыну нянавісці да іншых народаў, а як моцную пабудку да працы на карысць усіх людзей свету». І як роздум над шляхамі і мэтамі беларускага адраджэнскага руху і наканаванне яму: «У ва ўсіх прыгнечаных народаў, у тым ліку беларускага, нацыянальная справа ёсць справаю класа працаўнікоў; яе мэта зрабіць свой родны прыгнечаны народ — раўнапраўным членам інтэрнацыянальнай сям’і».

Польска-беларускія адносіны, як яны складаліся ў 1919 годзе ды і пазней на дзяржаўным узроўні, развіваліся вяла, выглядалі няпэўна. Паланафільская палітыка кабінета Антона Луцкевіча, складзенага пераважна з прадстаўнікоў сацыял-дэмакратыі, яўна банкрутавала. Тады ў канцы першага года акупацыі ініцыятыву ў адстойванні беларускага суверэнітэту ўзялі ў свае рукі эсэры. Абапіраючыся на рост незадаволення ў народзе польскім панаваннем, яны сталі гуртаваць апазіцыйныя сілы ў Беларускім паўстанцкім камітэце і рыхтаваць у Мінску і на правінцыі ўзброенае выступленне супроць акупантаў.

Эсэрам удалося 12—13 снежня 1919 года склікаць сесію Рады БНР. Улічваючы горкі досвед I Усебеларускага з’езда, радаўцы-эсэры выставілі ва-

кол юбілейнага дома ўзброеную варту з членаў Вайсковай камісіі і слухачоў беларускіх курсаў, выбралі новы прэзідыум Рады і новы Новы беларускі ўрад, які ўзначаліў Вацлаў Ластоўскі, складаўся пераважна з эсэраў і сацыялфедэралістаў Старшыня прэзідыума Рады Пётра Крачэўскі і яго намеснікі Палута Бадунова і Васіль Захарка таксама належалі да БНСР і БНСФ. Рада і новаабраны ўрад пацвердзілі актуальнасць акту 25 сакавіка 1918 года і вынеслі пратэст супраць незаконнага гаспадарання палякаў на Беларусі, іх анексійных намераў і акцый накшталт «плебісцытаў» аб «дабравольным» далучэнні краю да Полынчы. Гаспадары сТановішча, так званы цывільны ўрад Усходшх зямель, крута абышліся з самастойнымі раднымі. Палякі аб’явш, што не прызнаюць Рады БНР, арыштавалі сяброў прэзідыума і старшыню ўрада Ластоўскага. Тыя ж з незалежных радных, хто не трапіў адразу пад гарачую руку разгневанай уладзе, дэфензіве, пахаваліся на правінцыі.

Праз нейкі час, выбавіўшыся з турмы, члены ўрада Ластоўскага ды той-сёй з радных перабраліся нелегальна ў Коўна. Там патроху збіраліся апазіцыйныя акупантам беларускія сілы.

Што ж да Смоліча, то яго выхад з вялікай беларускай палітыкі адбыўся не адразу са зневажэннем на снежаньскай сесіі Рады ўрада А. Луцкевіча.

Яшчэ ўдзельнічаў у адным-двух дзяржаўным, урадавым захадзе як прадстаўнічы дзеяч, але вынікі тых хадоў, крокаў былі абумоўлены загадзя — легіёны Пілсудскага прыйшлі на, каб усталёўваць тут не беларускую дэмакратыю, а польскасць абараняць эгаістычныя інтарэсы польскіх маёмасных класаў.

У другі раз выбіраўся Смоліч з Мінска ў ліпені 1920 года яшчэ не як прыватная асоба, але і не як член урада. Выбіраўся ў Гродна, стары Горадзень. Шырэйшай палітычна-грамадскай работы на гэты раз яны не разгарнулі. Мацавалі беларускую школу, арганізоўвалі спажывецкую кааперацыю. Тут летам 1920 года перажылі польска-савецкі вогненны перакат. Коратка давялося Смолічу нават папрацаваць у губваенрэўкоме, праўда, толькі аграномам. Яго адраджэнскай працай, высокім беларускім урадаваннем не паспелі зацікавіцца. А яны з Рак-Міхайлоўскім ды інтэлігентамі-гродзенчукамі У.Курбскім, Я. Натусевічам і іншымі сачылі, як развіваюцца падзеі ў блізкім і далейшым свеце, час ад часу падаючы голас у выдаванай тут газеце «Беларускае слова». Смоліч падпісваўся ініцыяламі свайго першага псеўданіма Лаўрэна Будзіловіча. Беларускім гучаннем, а галоўнае, першасным сэнсам, закладзеным у гэта прозвішча-мянушку — будзіць, яно паранейшаму імпанавала яму. Здаецца, былі гэта апошнія публіцыстычныя яго выступленні. З адыходам ад палітычнай актыўнасці адпадала патрэба ў яго вострапалітычным слове. Прапагандыст, арганізатар у Смолічу саступаў месца некаму іншаму.

Пасля таго як «рэвалюцыйным шляхам» быў скінуты эсэрамі ўрад А. Луцкевіча, арыштаваны палякамі прэм’ер. нававыбранага ўрада і члены прэзідыума Рады рэспублікі, утварыўся выкуум беларускай прадстаўнічай улады. Адна група радных, нязгодных з большасцю Рады, рашыла не здавацца ў такой сітуацыі. Сабраўшыся на пасяджэнне асобна, яны выбралі

паміж сябе пяць прадстаўнікоў (І. Сераду, К. Цярэшчанку, Я. Лёсіка, С. Рак-Міхайлоўскага і А. Уласава) і перадалі ім усе паўнамоцтвы як Найвышэйшай радзе. Беларускі нацыянальны камітэт прызнаў Найвышэйшую раду правамоцным прадстаўніком БНР: трэба ж было мець прадстаўнічы орган, ратаваць саму ідэю суверэннасці рэспублікі. Палітычнае кіраўніцтва Найвышэйшай рады і яе органаў, як пазней сведчыў Смоліч, заставалася ў руках К. Цярэшчанкі і В. Іваноўскага. Хоць Смоліч і не ўвайшоў у склад Найвышэйшай рады, але, сам цягавіты ў грамадскай працы, чалавек з вялікім палітычным досведам Кузьма Цярэшчанка (удзельнік рэвалюцыі 1905—1907 гадоў, паліткатаржанін, родам з Гомеля) ведаў Смолічавы магчымасці і часта залучаў яго да адказных палітычных акцый. Так быў далучаны Смоліч да перагавораў з дэлегацыяй Л.Васілеўскага ў Мінску і пазней у Варшаве. «Паколькі весці перагаворы з польскім урадам станавілася ўсе цяжэй, — успамінаў у сваіх паказаннях 1930 года ў Мінску Смоліч, — даводзілася асноўную ўвагу засяродзіць на грамадскіх, галоўным чынам, соймавых колах а таксама дамаўляцца з асобныміі міністэрствамі. У дапамогу сабе дэлегацыя выклікала з Гродна мяне».

Як здалёк, дык адразу было і не разабрацца, што там учынілася у Вільні, на Віленшчыне. «Беларускае слова» гадала, разважала: бунт генерала Жалігоўскага супроці камандавання Войска Польскага проста палітычны манёўр, містыфікацыя ці нешта паважнае? Для такіх меркаванняў былі падставы. У Часовую ўрадавую камісію Віленшчыны як асобнай адміністратыўна-дзяржаўнай адзінкі, былі ўключаны тутэйшыя людзі, у тым ліку беларусы. «Літва Срудкова» (першапачаткова праектаваную назву «Заходняя Беларусь» Пілсудскі ўласнаручна выкрасліў) абымала нямала беларускіх зямель, і беларусы вырашылі выкарыстаць яе як апорны пункт для развіцця адраджэнска-вызваленчага руху. Тарашкевічу, як рэферэнту беларускага аддзела Дэпартамента асветы Сярэдняй Літвы, удалося адразу ж адкрыць некалькі соцень беларускіх школ. В. Іваноўскаму, загадчыку харчовага Дэпартамента — арганізаваць некалькі дзесяткаў спажывецкіх кааператываў. М. Гарэцкі заснаваў трыбуну беларускай грамадскай думкі ў дазволенай яму да выдання газеце «Беларускія ведамасці». З рознымі творчымі пачынаннямі зарухаліся людзі ў навуковым і выдавецкім беларускіх таварыствах ды на іншых культурна-грамадскіх дзялянках. Праўда, таларанцыя генерала-ашмянчука была абмежавана моцнымі на Віленшчыне клерыкальна-эндэц кімі польскімі элементамі. Зрэшты,іх мэта далучыць край да «мацежы», Польшчы, не разыходзілася з планамі Жалігоўскага і таго, хто стаяў вышэй, Пілсудскага, інспіратара ўсёй палітычнай гульні з Віленшчынай.

Але пакуль былі нейкія мажлівасці працы, беларускія інтэлектуальныя сілы памкнулі ў Вільню.

Пакінулі Гродна і Смоліч з Рак-Міхайлоўскім. Уладкаваліся ў Базыльянскіх мурах, пры беларускай гімназіі. У паказаннях следчаму як адну з прычын сваіх пярэбараў у Вільню Смоліч назаве намер «паспрабаваць там легалізаваць Цэнтральную беларускую школьную раду і стварыць з яе гра-

мадскую апору ддя беларускай школьнай справы як у Сярэдняй Літве, так і наогул ва ўсёй Беларусі». Гэта зусім верагодна, бо пры стварэнні Таварыства беларускай школы восенню 1921 года ў Вільні Смоліч, пэўна, невыпадкова быў абраны яго кіраўніком. У цэлым жа працы на кожнага дзейнага чалавека з віленскай беларускай грамады прыпадала незамала. Смоліч выкладаў у гімназіі, на настаўніцкіх курсах. Адначасна ён кіраваў тэхнічнай працай Беларускага выдавецкага таварыства, якое для пашырэння беларускай асветы, у цэлым для нацыянальнай ідэі, рабіла нямала. Акрамя таго, даводзілася ўдзяліць увагу і Віленскаму саюзу каапературываў, дзе Смоліч рабіў спачатку сакратаром, а пазней быў і членам праўлення, і загадчыкам інструктарскага аддзела. У паказаннях Смоліч сведчыць аб гэтай малавядомай старонцы беларускага каапературынага руху наступнае. Дзякуючы спрыянню Іваноўскага, Саюз віленскіх каапературываў развіў вялікую нізавую сетку. Яго інструктары, браты Канчэўскія, АрэхваЦдарэчы, брат вядомага дзеяча КПЗБ, і іншыя, аб'язджаючы каапературывы, вялі энергічную нацыянальна-ўсведамляльную работу. Палякі бачылі гэта і прыкладалі ўсе намаганні, каб падначаліць Саюз віленскіх каапературараў сабе. Дзеля гэтага ў канцы 1921 года прымусілі праўленне выйсці ў адстаўку. Але і нававыбранае на чале з І. Краскоўскім не ішло на кампраміс. З арыштам Краскоўскага ім усё ж удалося падначаліць беларускія каапературывы агульнапольскаму кіраўніцтву і тым самым прытармазіць у іх беларускія памкненні. Адным словам, ходу не давалі і тут, у Вільні. Асабліва гэта востра праявілася ў студзені 1922 года перад выбарамі ў Віленскі сейм, які павінен быў вырашыць палітычны лёс краю. Аднае ночы было арыштавана 33 беларускія і літоўскія дзеячы, у тым ліку М.Гарэцкі, І. Краскоўскі, А. Карабач…

У гэты час па дамоўленасці з Віленскім выдавецтвам Клецкіна Смоліч перапрацоўваў свой падручнік геаграфіі, паводле яго слоў, у адпаведнасці з наказам Наркамата асветы БССР. Большая частка тыражу кнігі, выдадзенай у 1922 годзе, пайшла праз граніцу, а таксама ў беларускія школы Латвіі. Граніца на той час не была такая жалезная, глухая, як стала пазней.

Пачатак 1922 года — час нялёгкіх роздумаў Аркадзя Смоліча, час выбару. І на першым часе нельга было сказаць — ракавога. Паказанні ў следчым ізалятары восенню 1930 года, калі нават браць іх з улікам псіхалагічнай спецыфікі абставін, у якіх яны даваліся, могуць у пэўнай меры пасведчыць аб ходзе роздумаў Смоліча ў вырашальным 1922-м, пра матывы, што прадвырашылі яго пераезд у Савецкую Беларусь. Ён аналізаваў сітуацыю строга, як палітык і як вучоны-аналітык. «З яе [польскай буржуазіі.— А.Л.] прэтэнзіямі на беларускія землі, якія падтрымлівае і ППС, — вельмі цяжка змагацца, тады як Расія эканамічна ў беларускай тэрыторыі мала зацікаўлена: для яе экспансіі адкрыты вялізныя тэрыторыі на ўсходзе. Наадварот, сама Беларусь зацікаўлена у эканамічнай сувязі з Расіяй што дае ёй невычэрпныя магчымасці інтэнсіфікацыі гаспадаркі і развіцця прамысловасці, тады як у эканамічнай сувязі з Польшчай яна можа быць толькі землеробчай калоніяй». Становішча Заходняй Беларусі пад Польшчай наглядна пераконвала, упэўнівала ў такіх вывадах. А вырашальнымі пры выба-

ры Смоліча, як і іншых інтэлігентаў, былі досыць пераканаўчыя поспехі ў культурна-дзяржаўным будаўніцтве Савецкай Беларусі, адданая Саветамі сялянам зямля. Адыграў, відаць, сваю ролю і прамы кантакт з Мінскам. Не абышлося, пэўна, і без запэўніванняў, нейкіх гарантый — Смоліч выбіраўся на Усход у жніўні 1922 года, яшчэ задоўга да амністыі дзеячаў БНР. Апошняе прымушае думаць, што да вяртання Смоліча ў Савецкую Беларусь прычыніўся непасрэдна нейкі канкрэтны чалавек.

«Добра, што Вы вярнуліся. Цяпер нам ніхто не перашкодзіць працаваць для нашай бацькаўшчыны», — гэта былі першыя словы Усевалада Ігнатоўскага, з якімі ён сустрэў Смоліча ў сваім кабінеце наркома асветы БССР. Інструктар наркампроса Язэп Сушынскі, які быў выпадковым сведкам гэтай сустрэчы, расказваў ужо ў 60-я гады, што толькі рослы, дужы мужчына пераступіў парог кабінета, як з-за стала імкліва падняўся нарком і пайшоў яму насустрач. Пасярод пакоя яны моцна абняліся, і Ігнатоўскі выказаў шчырую радасць госцю і запэўненне ў добрай будучыні. Запэўненне, у якім добры гісторык і палітык, на жаль, не аказаўся пракрокам. Тым не менш… Наступаў перыяд самы выніковы ў жыцці і працы Аркадзя Смоліча. За нейкіх сем з лішкам год ён здолеў зрабіць ддя Беларусі, свайго народа столькі, колькі мог паспець зрабіць чалавек рэдкаснага інтэлекту, працалюбівы і высакародны.

Зірнуць бы вачыма Аркадзя Антонавіча Смоліча на Мінск канца 1922 года, на ўсё, што там дзеялася, на грамадска-палітычныя абставіны, як яны яму ўбачыліся. Ды на жаль… З пэўнасцю большае ўявіць цяжка. Мажа, хіба што толькі адно — тую вялікую радасць, якую зведалі Смолічы ад уз'яднання сям'і. Выбіраючыся летам 1920 года пахапкам з Мінска, яны пакінулі ў Алесіных бацькоў — Каткоўскіх на Старажоўскай двухгадовага Максіма. Цяпер жа пры вяртанні з-пад Польшчы прывезлі з сабой і маленькую дачушку — Ганку. Гэта яна, дзяўчо, гадоў праз пятнаццаць, у 1937-м, у пошуках арыштаванага бацькі дойдзе аж да дзвярэй кабінета самога Вышынскага, каб пачуць на сваё хадайніцтва ад сакратара-ад'ютанта кароткае, як шчоўканне абцасаў, «Ответа не будет!» Але адразу такога экстрэмальнага клопату на будучыню Смолічы, пэўна, не прадбачылі. Ды першыя гады іх жыцця і працы ў савецкім Мінску нічога падобнага не абяцалі. Наадварот.

Аркадзь Антонавіч быў пачціва запрошаны спачатку на працу ў Наркамзем. На той час гэты наркамат быў паважнай установай і яго роля ў жыцці сялянства, гэтага цэлага мацерыка насельніцтва Савецкай Беларусі, асабліва важная. Зямельнае будаўніцтва складала адзін з прыярытэтных напрамкаў у палітыцы маладой савецкай рэспублікі. Здзейсніць Дэкрэт аб зямлі, які і паклікаў народ у рэвалюцыю, у Беларусі з-за грамадзянскай вайны, двух іншаземных акупацый здолелі толькі ў 1921 годзе. Больш за палову запаснога зямельнага фонду было аддадзена спачатку ў часовае карыстанне беззямельнаму і малазямельнаму сялянству, прырэзана асноўнай масе гаспадарак.

Усяго ў БССР у пачатковых яе межах у разліку на адзін сялянскі двор было прырэзана да двух дзесяцін зямлі з былых памешчыцкіх, скарбовых і царкоўна-манастырскіх абшараў. Частка зямлі пакідалася для саўгасаў і калгасаў. Зрэшты, не вельмі вялікая. Распараджаліся падзелам зямлі валасныя зямельныя аддзелы і сельсаветы. Часовае размеркаванне не магло быць дасканала праведзеным. Патрабавалася рэгуляванне наспех зробленага прадвеснем 1921 года. Патрэбна была сур'ёзная землебудаўнічая палітыка, каб паставіць асноўную, базавую галіну гаспадаркі рэспублікі на адпаведны ўзровень. Наркамзем, паводле звестак, пададзеных тагачасным наркомам А. Славінскім, меў у сваім распараджэнні 125 землямераў-каморнікаў, з іх 27 — участковых.

У Наркамаце земляробства Смоліч пачаў працаваць як аграном-эканаміст, затым узначаліў аддзел сельскагаспадарчай эканомікі і статыстыкі. Праца гэта не была для яго ў навіну. Яшчэ будучы студэнтам сельгасінстытута, зімой 1914—1915 гадоў ён, як перспектыўны студэнт, трапіў у навуковую экспедыцыю пад кіраўніцтвам вядомага прафесара А. Чалінцава. Экспедыцыя Чалінцава даследавала бюджэт сялянскіх гаспадарак у розных раёнах Расіі і Украіны. З восені 1916 года Смоліч працаваў участковым аграномам у Ігуменскім земстве, а пазней статыстыкам у Мінскай земскай губернскай управе, намеснікам загадчыка статыстычнага бюро — аж да кастрычніка 1918 года. Так што практыка была. Цяпер жа, зыходзячы з патрэб часу, задач Наркамзема, клапаціўся, каб арганізаваць навуковае забеспячэнне некаторых планаў наркамата, пісаў артыкулы па зямельных пытаннях. У час паездак па рэспубліцы абследаваў аднаасобныя сялянскія гаспадаркі, а таксама і першыя калгасы. На падставе сабраных матэрыялаў напісаў салідную працу «Арганізацыя сельскай гаспадаркі ў раёнах цэнтральнай Беларусі», пазней выдадзеную асобнай кніжкай.

Атмасфера ў Наркамземе была нечыноўная. Ужо праз некалькі месяцаў працы яго папрасілі падагульніць вынікі зробленага наркаматам за год. Прыемна было, што асабліва маладзейшыя аграномы, выпускнікі Горы-Горацкага агранамічна-каморніцкага вучылішча, не цураліся беларускага слова. Ідэя несці агранамічную асвету беларускаму земляробу на яго роднай мове была для іх блізкая, як і жаданне дапамагчы яму падняцца з нізін.

Кола знаёмстваў Смоліча ў асяроддзі мінскай інтэлігенцыі хутка расшыралася. У Акадэмічным цэнтры і ў Наркамаце асветы, або Наркампросе, як прызвычаіліся яго называць, сустрэў нямала старых знаёмых, з радасцю пазнаваў маладых, энергічных, спадзеўных. У гэтых установах, здаецца, болып чым дзе на пачатку 20-х сабралася людзей, здольных і гатовых надаць савецкай дзяржаўнасці на Беларусі беларускі змест. Адсюль зыходзіла ідэя беларусізацыі, яе практычныя крокі. Жыццё было ў руху, у станаўленні. З восені 1923 года рэктар універсітэта прафесар Пічэта асабіста запрасіў Смоліча чытаць лекцыі студэнтам. Запрошаны пачаў з арганізацыі кафедры краязнаўства, з чытання курса геаграфіі Беларусі і ўсёй краіны. Выступаць у савецкай перыёдыцы Смоліч пачаў з канца 1922 года публікацыямі «Вакол зямельнага пытання» ў газеце «Савецкая Беларусь», «Напярэдадні

сельгаскампаніі» ў «Звяздзе», артыкулам «Краязнаўства і універсітэт у Савецкай Беларусі» ў часопісе «Полымя» (1923, № 2). Краязнаўчая праца зойме асобную старонку ў навуковай біяграфіі Смоліча…

Але спачатку пра актуальнае дзяржаўнае заданне, даручанае яму ўрадам рэспублікі. Заданне неардынарнае, з тых, што патрабавалі кампетэнцыі, спецыяльных ведаў, пазіцыі. Смоліч быў выкліканы на працу ў Дзяржплан і ўключаны сакратаром у Дзяржаўную камісію па раяніраванні рэспублікі. Цэнтральную камісію Дзяржплана ўзначальваў старшыня СНК Я. А. Адамовіч, намеснікам яго быў Я. Дыла. Склад камісіі абсалютна кампактны, як на задачы, што былі перад ёю пастаўлены. У той, яшчэ не забюракратаваны час мёртвых душ у дзелавыя структуры не ўключалі. А камісія старшыні народных камісараў рэспублікі была ўтворана з нагоды ўзбуйнення БССР. Пазней яго назавуць першым. Ініцыятыва гэтай дзяржаўнай акцыі належала нацыянальна свядомай інтэлігенцыі. Яна, натуральна, не магла мірыцца з тым, што ідэя беларускай дзяржаўнасці стала разменнай картай у руках чужых дзядзькоў ад палітыкі. Не магла змірыцца з тым, як нас «самавызначылі». Бачным абсурдам было, што Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка, якую недзе прымалі, што называецца, сцяўшы зубы, аб'ядноўвала пад сваім суверэнітэтам фактычна толькі землі Міншчыны. А яны, як вядома, складалі, можа, шостую частку этнаграфічнай Беларусі. Ад БССР адразу па яе ўтварэнні нейкай міфічнай воляю зверху былі адабраны Віцебшчына, гэта калыска беларускай старажытнай дзяржаўнасці, Магілёўшчына, Гомельшчына, заходняя Смаленшчына. Ненармальнае гэтае становішча нельга было цярпець маладой рэспубліцы. Гэта добра разумела не толькі палітычна мыслячая інтэлігенцыя, а яна патроху нарастала, але і кіраўнікі рэспублікі А.Р.Чарвякоў і Я. А. Адамовіч. Выхад іх на ўрад РСФСР, які ў той час узначаліў М. Рыкаў, даў пазітыўныя вынікі.

Перад Смолічам і Дылам як сацыялістамі стаяла задача не толькі ў плане тэрытарыяльна-адміністратыўнай разбіўкі асвоіць новадалучаныя землі, але раяніраваць нанава ўсю тэрыторыю рэспублікі, зрабіць гэта аптымальна ў адпаведнасці з фізіягеаграфічнымі і эканамічнымі раёнамі Беларусі. Пад геаграфічным і эканамічным вуглом гледжання Смоліч знаў Беларусь як ніхто. Асабліва цэнтральную яе частку, Міншчыну, у рубяжах дарэвалюцыйнага адміністрацыйнага яе дзялення. Абыходзіць яе абшары пачаў яшчэ з 1911 года, калі, апынуўшыся з воўчым білетам у кішэні па-за сценамі інстытута, уладкаваўся таксатарам у лясным бюро Мінскага сельскагаспадарчага таварыства. І асабліва з восені 1916-га, калі з думкай працягваць збіраць матэрыялы па геаграфіі Беларусі паступіў на сталую працу ў Мінскае Губернскае земства. Давялося нямала аб’ехаць, абысці Беларусь цэнтральную і ў апошнія паўтара гады, за час працы ў наркамземе. Так што ўся Беларусь ва ўсей разнастайнасці яе рэльефу, ландшафтаў, гаспадарчых зон была ў Смоліча перад вачыма. Цвёрда абапёрты на геаграфічна-эканамічныя, тапаграфічныя фактары, рацыянальна прадуманы план раяніравання, прадстаўлены Смолічам і Дылам, адобраны старшынёй СНК і Камісіі, быў прыняты Цэнтральным выканаўчым камітэтам рэспублікі з

вынясеннем аўтарам праекта «рэвалюцыйнай падзякі». Смоліч прапанаваў падзяліць тэрыторыю БССР на 10 акруг, у кожнай з якіх унутры вылучыць ад 9 да 11 раёнаў, з наданнем у рамках акрут асобнага адміністрацыйнага статусу буйным гарадам.

Новы адміністрацыйна-тэрытарыяльны падзел рэспублікі адыходзіў ад старых, запазычаных з царскіх часоў стэрэатыпаў, арганічна адпавядаў геафізічнай і эканамічнай структуры яе зямель, традыцыйна складзеным гаспадарчым адносінам. Ён быў зручны ў кіраванні і ўтрымліваў элемент нацыянальных форм дзяржаўнага будаўніцтва. У выдадзенай у 1926 годзе на рускай мове сумесна з У. Ігнатоўскім манаграфіі «Белоруссия» Смоліч даў эканамічны нарыс Савецкай Беларусі і яе акруг. Акрамя таго, ахарактарызаваў тэрыторыю, насельніцтва. Разам з асвятленнем важнейшых момантаў гісторыі, зробленых У. Ігнатоўскім, усё гэта павінна было рэпрэзентаваць Савецкую Беларусь, расказваць пра яе за межамі рэспублікі.

Пасля выканання высокага задання Дзяржплана, практычна ўрада рэспублікі, Смоліч у Наркамзем ужо не вернецца. Толькі пазней, у яго бытнасць ужо намеснікам старшыні Інстытута беларускай культуры, а па сутнасці рэальнага кіраўніка гэтай вызначальнай для духоўнага развіцця Савецкай Беларусі ўстановы, яго паралельна выберуць членам калегіі Наркамзема. А тагачасны нарком земляробства З.Прышчэпаў ужо ў абсурдных умовах нечаканых рэпрэсій, у паказаннях следчаму Аргаву ад 28 лістапада 1930 года скажа: «Для мяне з самага пачатку маёй работы ў Наркамземе Беларусі было ясна, што фактычным аўтарытэтам і ідыёлагам беларускай інтэлігенцыі па лініі сельскай гаспадаркі быў А.Смоліч, з думкай якога лічыліся ўсе беларускія спецыялісты. Я, будучы кіраўніком Наркамзема, часта папярэдне ўзгадняў з ім многія прынцыповыя пытанні пры пастаноўцы іх у ЦК КП(б)Б і перад Саўнаркомам». Кіраўнік сельскагаспадарчага ведамства рэспублікі пры гэтым прызнанні аддаваў належнае і маладому акадэміку Г. І. Гарэцкаму: «Такія ж прынцыповыя пытанні перад пастаноўкай іх у ЦК я абмяркоўваў… і з дырэктарам Навукова-даследчага інстытута сельскай і лясной гаспадаркі Г. І. Гарэцкім». Трэба сказаць, што нарком у сваёй працы ў асобе названых вучоных разумна абапіраўся не толькі на спецыялістаў высокага класа, але на людзей, у вышэйшай меры адказных перад сваім народам і ўласным сумленнем.

З пачатку 1925 года Аркадзь Смоліч выходзіць на шырэйшы абсяг навуковай і грамадскай працы, адпаведны маштабу яго асобы, інтэлекту.

Па заканчэнні раяніравання рэспублікі яны з Дылам атрымліваюць запросіны перайсці на працу ў Інбелкульт. Гэта навуковая ўстанова, якая імкліва вырасла з тэрміналагічнай камісіі акадэмцэнтра пры Наркамаце асветы, набірала ўсё болынай удзельнай вагі ў культурна-дзяржаўным будаўніцтве і патрабавала належнай увагі грамадскасці. У ёй неяк адразу, відавочна, імкліва сталі развівацца гуманітарныя навукі, асабліва гісторыя і філалогія. Старшыня Інбелкульту прафесар Ігнатоўскі на пачатку 1925 года яшчэ сумяшчаў кіраўніцтва інстытутам з пасадай наркома асветы. На

Смоліча, як яго намесніка, і Дылу, назначанага вучоным сакратаром, лёг важкі клопат пра навукова-арганізацыйную, выдавецкую і ўсякую іншую справу гэтага інтэлектуальнага цэнтра беларусаў.

Застаецца яшчэ Смолічава дзялянка і ва універсітэце. Але ў 1925—1928 гадах ён засяроджвае сваю ўвагу перад усім у Інстытуце беларускай культуры. Якраз к гэтаму часу Інбелкульт атрымаў новы статус, а з ім большыя правы і абавязкі. Галоўнае ж — магчымасць рэканструкцыі, расшырэння і папаўнення новымі навуковымі кадрамі. Урад, ЦВК і наркамат асветы актыўна падтрымлівалі Інбелькульт, спадзеўна глядзела на яго інтэлігенцыя, зацікаўленая ў развіцці прадукцыйных і духоўных сіл рэспублікі. Навукова-даследчая дзейнасць гэтага інтэлектуальнага цэнтра Савецкай Беларусі канцэнтравалася ў галіновых секцыях. Гуманітарныя навукі мелі ўнутры іх прадметныя камісіі. Смоліч удзяляе ўвагу прыродазнаўчым секцыям і, натуральна, асабліва ўважлівы да належнай пастаноўкі даследчай працы ў сельскагаспадарчай секцыі, наміналышм старшынёй якой быў нарком З.Прышчэпаў. Смоліч лічыўся яго наменікам. Дзейсным сакратаром секцыі, невялікай раводле складу, але моцнай і дасведчанымі ў праблемах сельскай гаспадаркі Беларусі людзьмі, быў малады выпускнік Пятроўскай сельгасакадэміі Я.Грабоўскі. На плечы супрацоўнікаў сельскагаспадарчай секцыі ў 1925 годзе лёг асноўны клопат пра адкрыццё Беларускай сельгасакадэміі ў Горы-Горках. Трэба было не толькі забяспечыць гэту навукова-базавую для вытворчых сіл Усходняй Беларусі ўстанову добрымі прафесарскімі кадрамі, але і людзьмі калі не прыхільнымі ідэі беларускага адраджэння, то, прынамсі, не варожымі ёй: ішла ж беларусізацыя, і ад яе спадзяваліся не знешняй беларускасці, а ўздыму ўсіх духоўных і вытворчых сіл цэлага народа.

А наогул, каб узняць усе аблогі гэтай богам дадзенай і забытай сваімі правідцамі і рупліўцамі зямлі, даводзілася рупіцца, спяшацца. Пара была адказная, сейбіцкая. Хоць з прымаразкамі, а вясна.

Яшчэ два гады таму назад, прыйшоўшы ва універсітэт, пачынаў ён закладваць краевугольны камень пад края-, радзімазнаўства. Ведаў, што вызваліць патэнцыяльныя сілы, дрэмлючыя ў народзе, аб'яднаць яго на грунце беларускай ідэі можна толькі праз глыбейшае самапазнанне. Сведчыла гісторыя, як, спасцігаючы свае вытокі, асэнсоўваючы духоўную спадчыну, здабытую незлічонымі пакаленнямі, народ уздымаўся над абыякавасцю, занядбаннем, няволяй, каб свядома выбіраць уласны шлях. У пэўнай меры да самапазнання, самавыяўлення мас далі штуршок рэвалюцыя, пашырэнне асветы на роднай мове. Знакам абуджэння, цягі да культуры сталі асветныя і мастацкія гурткі, што ўзніклі перш-наперш там, дзе крыху сабралася інтэлігенцыі. У Віцебску ж, гэтым старым інтэлектуальным цэнтры, культурнае жыццё, а таксама вывучэнне свайго краю набрала досыць дзейсны характар і разнастайныя формы. Інтэлектуальна-мастацкі асяродак склаўся ў Краснаполлі на Магілёўшчыне, асветна-мастацкае згуртаванне «Папараць-кветка» на Случчыне. Яшчэ ў 1924 годзе Смоліч, пабываўшы на Усесаюзнай краязнаўчай канферэнцыі, арганізаваў Цэнтральнае краязнаўчае

бюро Беларусі і быў абраны першым яго старшынёю. Пад яго кіраўніцтвам Цэнтральнае бюро правяло дзве канферэнцыі краязнаўцаў, мінскую і ўсебеларускую.

Пасля гэтых першых арганізацыйных захадаў у многіх кутках рэспублікі стала ўзнікаць сетка краязнаўчых гурткоў і таварыстваў. У адным з дакументаў Смоліч лапідарна і дакладна акрэсліў галоўную мэту краязнаўчага руху. Бачыў у ім гарантыю таго, што «Беларусь перастане быць краем, невядомым для саміх беларусаў».

Хутка кіраўніцтва краязнаўчай працай, а яно цяпер канцэнтравалася ў Інбелкульце, ён мог перадаць у іншыя рукі. Няўзнак нарасла маладая генерацыя спадзеўных этнографаў, гісторыкаў, мовазнаўцаў, географаў, прыродазнаўцаў. І працавалі яны не толькі ў Мінску. У 1925 годзе беларускія краязнаўцы не без клопату Смоліча (ён прычыніўся да праектавання выдання) атрымалі свой перыядычны орган, часопіс «Наш край». З ім было лягчэй: на яго старонках дзяліліся методыкай збору і апрацоўкі матэрыялаў, друкавалі асобныя працы, даючы ўзор краязнаўчай практыкі, ішоў абмен думкамі, інфармацыяй. За нейкіх пяць гадоў, дзякуючы атрыманай трыбуне, краязнаўчы рух здолеў шырока ахапіць Беларусь, выліцца ў жывую навукова-грамадскую плынь. У лютым 1926 года краязнаўцы рэспублікі ўжо сабраліся на свой Першы Усебеларускі з'езд. На ім А. Р. Чарвякоў выступаў з дакладам аб міжнародным становішчы, Смоліч прачытаў даклад аб навукова-даследчай праблематыцы Інбелкульту, М. Гарэцкі гаварыў аб методыцы збірання народна-паэтычнай творчасці…

Зразумела, краязнаўчыя веды не назапашвалі пазнанне этнасу ў важкіх навуковых тамах. Але яны ахоплівалі ўсе бакі, праявы яго жыцця. Неслі змястоўную інфармацыю пра народ, зямлю, якую ён абжыў ад дзядоў, прадзедаў, пра ціхую бесперапынную працу яго душы і рук.

Паважнымі здабыткамі пакуль што маглі пахваліцца адно гісторыкі і філолагі, сабраныя ў Інбелкульце. Сярод іх былі і добра вядомыя ў дарэвалюцыйнай расійскай навуцы людзі, як М. Любаўскі, М. Доўнар-Запольскі, якога Смоліч у 1925 годзе перавабіў у Мінск аж з Баку, У. Пічэта, А. Ясінскі. З добрай аддачай працавалі немалады ўжо археограф Д. Даўгяла і маладзейшы, медзіявіст В. Друшчыц. На вачах вырастала школа даследчыкаў дагістарычнага мінулага Беларусі — археолагаў на чале з А. Ляўданскім. Мовазнаўства развівалася ў двух напрамках — навукова-акадэмічным (у ім перад вялі С. Некрашэвіч, П. Бузук, І. Воўк-Левановіч) і практычным. Я. Лёсік напісаў грунтоўныя падручнікі па фанетыцы, марфалогіі, сінтаксісу. Глыбокі знаўца народнай гаворкі, ён даваў беларускай мове трывалы навуковы грунт, арганічную форму» зручную для распаўсюджання. С. Некрашэвіч, М. Байкоў і М. Гарэцкі падрыхтавалі слоўнікі, руска-беларускія і беларуска-рускія, у якіх была вострая, надзённая патрэба — беларуская мова вяртала сабе правы, уваходзіла гаспадыняй ва ўсе сферы дзяржаўна-адміністратыўнага, культурна-асветнага жыцця рэспублікі.

Філолагі Інбелкульту ўпершыню звярнуліся да падрыхтоўкі навуковага выдання беларускай літаратурнай спадчыны. Мастацтвазнаўцы даследавалі

дойлідства старажытнай Полаччыны, царкоўна-абарончыя помнікі XVI стагоддзя, замкавую архітэктуру ранняга сярэднявечча. Вывучаўся манументальны сакральны жывапіс. Неабходна было ўвесь гэты вялізны, падняты і навукова асэнсаваны матэрыял хутчэй данесці да грамадскасці, зрабіць здабыткам інтэлектуальнага і культурнага жыцця рэспублікі. Смолічу давя-лося непасрэдна заняцца выдавецкай базай Інбелкульту. Ён арганізуе выдавецкую калегію са сталым штатам, у якім стыльрэдактарамі сталі працаваць мастацтвазнаўцы Шчакаціхін і М. Красінскі, наладжвае работу ўласнай інстытуцкай друкарні. У выніку навуковая прадукцыя Інбелкульту стала рэалізавацца, выходзіць у строгага сістэмнага выгляду тамах, што насілі агульную назву «Запіскі аддзелу гуманітарных навук», з падзагалоўкам, гледзячы да якой галіны ведаў належалі матэрыялы, «Працы клясы гісторыі», напрыклад, філалогіі, Камісіі гісторыі мастацтва і да т. п. Тамы гэтыя ўражваюць і праз гады прарывам беларускай наву-ковай думкі, грунтоўнасцю зробленага вучонымі ў 20-я гады. Невыпадкова гэтыя самавітыя выданні, што складаюць цэлую бібліятэку, трапіўшы за мяжу, так ураждвалі заходнебеларускую інтэлігенцыю. Для яе яны былі знакам росквіту беларускай навукі пад Саветамі, сведчаннем таго, што беларусы на Усходзе займелі свой Дом.

Адносна падвалін гэтага Дома былі розныя думкі. Меліся і засцярогі. Але выглядаў ён досыць пераканаўча. Свая школа і вышэйшая навука. Нябедная на таленты і самавітыя галасы мастацкая паэзія, проза. Нацыянальны тэатр, дзяржаўнасць беларускай мовы, угрунтаваная законам, пастановай ЦВК рэспублікі, дзяржаўны апарат з перавагай прадстаўнікоў карэннага насельніцтва ў ім. Нарэшце, земляроб, аснова нацыі, надзелены зямлёй з перспектывай культурнага гаспадарання, забяспечанага навукай, грамадствам… Рэальны ўздым асветы. Усё выглядала гарантам добрай будучыні.

Папраўдзе, не было падстаў думаць іначай пра Савецкую Беларусь, як пра родны Дом усіх беларусаў. У канса-лідуючым працэсе нацыі 20-х гадоў яна сапраўды займала вызначальнае становішча. Смоліч як ніхто мог адчуць рэальны плён здабытай дзяржаўнасці. Менавіта на ёй, як на падмурку, падымаўся гмах беларускай навукі і культуры. Смоліч, як і шмат хто з беларускіх інтэлектуалаў таго рэнесанскага часу, не мог сябе папракнуць у тым, што стаяў убаку ад будаўніцтва, вакол якога завінулася тады, здаецца, уся свядомая беларуская інтэлігенцыя. Ен рабіў усё, што мог. Можа, крыху і болей. Вярнуўшыся з работы ў Інбелкульце, з універсітэцкіх лекцый, да поўначы заседжваўся за рабочым сталом. Па заказе Наркамата асветы рыхтаваў падручнік «Кароткі курс геаграфіі Беларусі» і зноў мысленна абыходзіў, аглядаў сваю зямлю, перапрацоўваў, дапаўняў новымі звесткамі — абагульненнямі раней пазнанага, выснаванага. І далей разглядаў Беларусь не ў сучасных для БССР адміністрацыйна-палітычных межах, а ў этнічных яе рубяжах. Кніга шмат у чым рознілася ад трох папярэдніх выданняў, не ўступала ім у глыбіні, ёмістасці выкладзенага матэрыялу. Была яна грунтоўна ўзбагачана, падноўлена іканаграфічным матэрыялам, што ў выданнях такога тыпу мела немалое значэнне. Адначасна з «Кароткім курсам

геаграфіі Беларусі» ў сааўтарстве з М. Азбукіным падрыхтавалі і выдалі яны па-беларуску «Геаграфію па-за еўрапейскіх краёў»[1]. У апісаннях Азіі, Амерыкі, Афрыкі, Аўстраліі, у сціслай і насычанай інфармацыі аб фізічнай і эканамічнай геаграфіі краін агляданых вучонымі старон свету адчуваецца Смолічава пластыка слова, абаянне яго таленту.

Пры ўсёй масе і разнастайнасці навукова-арганізацыйнай працы як намесніка старшыні Інбелкульту, члена яго прэзідыума, загадчыка кафедры геаграфіі ва універсітэце ды і грамадскіх функцый знаходзіў час на галоўную сваю працу — навукова-даследчую. А аб тым, што меў права лічыць яе галоўнай, могуць добра пасведчыць яго працы 20-х гадоў у галіне эканомікі сельскай гаспадаркі і дэмаграфіі, асобныя выпускі прыродазнаўчай і сельскагаспадарчай беларускай тэрміналогіі.

Смоліч лічыў, што сельскую гаспадарку Беларусі, яе асаблівасці трэба дасканала вывучыць. А ўжо на падставе рэальнага навуковага ведання распрацаваць праграму агра-культурнага ўздзеяння на яе. На ўласнай даследчыцкай практыцы вучоны пераканаўся, што беларуская сялянска гаспадарка па сваёй інтэнсіўнасці і культурнасці стаіць вышэй гаспадарак іншых рэгіёнаў краіны. На гэта былі гістарычныя прычыны: Беларусь даўно, з XVI стагоддзя, не ведала абшчыннага землекарыстання. У аб'ектыўнасці зробленых высадаў Смоліча ўпэўнівалі і працы даследчыкаў сялянскай гаспадаркі Расіі і Украіны А. Котава, Л. Літашэнкі і інш. Смоліч, як і іншыя беларускія вучоныя-аграрнікі І. Кісялкоў, А. Трахімаў, С. Скандракоў, лічыў, што трэба захаваць гэты пазітыўны досвед, дасягненні беларускага сялянства, выкарыстаць іх у сучасным землебудаўніцтве. Скора гэтыя думкі з усталяваннем у краіне таталітарызму будуць класіфікавацца як крамола, а аўтар кнігі «Пасёлкі» прафесар Кіслякоў разам з іншымі вучонымі і Смолічам за свае навуковыя ініцыятывы пойдуць на Галгофу. Але была яшчэ сярэдзіна 20-х, і вучоным уладныя невукі ад палітыкі яшчэ не загадвалі, якімі метадамі ім карыстацца, сялянам — калі сеяць, пісьменнікам — пра што і як пісаць. Ідэалагічная апека, вядома, існавала. Але яна не была такой усёпранікальнай, татальнай, злачынна-дурной, якой стане пазней.

З 1924-га па 1929 год Смоліч апублікаваў чатыры манаграфічнага характару даследаванні, прысвечаныя эканоміцы Беларусі, у асноўным прыярытэтнай яе галіне — сельскай гаспадарцы.

Першае — «Эканамічнае становішча Беларусі перад вайной і рэвалюцыяй» — даследаванне шырокага эканамічнага профілю[2]. Яно падводзіла рысу эканамічнага развіцця Беларусі пэўнага гістарычнага этапу, было абумоўлена станам статыстычных даных і літаратуры, наяўных на той час, аб'ектыўна абернутых у мінулае. Што да эканомікі сельскай гаспадаркі краю, то Смоліч

[1] Падручнік «Геаграфія Еўропы» на той час напісаў М. Азбукін. Беларусь, пададзеная аўтарам кнігі ў кантэксце еўрапейскіх краін, глядзелася паважна, самавіта — як дзяржава.

[2] Беларусь: Нарысы гісторыі, эканомікі, культурнага і рэвалюцыйнага рух / Пад рэдакцыяй А. Сташэўскага, З. Жылуновіча, У. Ігнатоўскага. (З дапамогай А. Смоліча, С. Некрашэвіча і Я. Пятровіча.) Мн., 1924.

высвятляў перад усім такія яе аспекты, як прыродныя ўмовы, наяўнасць ворнай зямлі, лесу і няўжыткаў, земляробства і яго напрамкі, забяспечанасць насельніцтва збожжавымі прадуктамі, характар жывёлагадоўлі і інш.

У кнізе «Арганізацыя сялянскай гаспадаркі у раенах цэнтральнай Беларусі» ўжо дэталёва характарызуюцца геаграфічныя ўмовы рэгіёна, спецыфіка земляробства і жывёлагадоўлі. Вялікую ўвагу ўдзяляе Смоліч асноўным фактарам і ўмовам сельскагаспадарчай вытворчасці. Асобныя параграфы прысвячае рыначнаму звароту, пазахатнім промыслам і хатнім рамёствам, бюджэту сялянскай сям'і, асноўным капіталам, працы і яе арганіэацыі ў гаспадарцы земляроба. У самым большым раздзеле манаграфіі, названым «Арганізацыя і тэхніка прадукцыйных галін», вучоны высвятляе адносную вагу паасобных галін у агульнай сістэме гаспадаркі ў аспекце прыбытковасці. Агульныя вывады: ва ўсіхраёнах земляробства перавышае ўсе іншыя галіны з боку агульнага прыоытку і адносна ўмоўна чыстага. Роля яго асабліва вялікая ў некаторых інтэнсіўна земляробчых раёнах. Толькі ў Паўночным і Паўднёвым Палессі па прыбытковасці яно ўступае жывёлагадоўлі. У апошнім раздзеле кнігі разглядаюцца ўмовы і перспектывы падняцця прыбытковасці гаспадаркі ва ўсіх чатырох яе тыпах.

Праца Смоліча «Сельскагаспадарчыя раёны Беларускае Савецкае Сацыялістычнае Рэспублікі ў 1927—1928 гадах» мае падзагаловак «Папярэдняя схема і метадычныя ўвагі». Яна ўяўляе сабой працяг вывучэння ім адной з кардынальных праблем беларускай навукі, складае наступны этап у вывучэнні сельскай гаспадаркі Беларусі. Смоліч аналізуе ў ёй глебавыя і кліматычныя ўмовы развіцця беларускай сельскай гаспадаркі, вылучае, вывучае геаграфічныя тыпы яе, даследуе рынкавыя ўплывы.

Геаграфічныя тыпы сельскай гаспадаркі Смоліч вызначае паводле крытэрыяў інтэнсіўнасці, суадносін яе галін, рыначнасці і рынкавай спецыяліэацыі. На падставе гэтых фактараў акрэслівае пяць асноўных тыпаў сельскай гаспадаркі: інтэнсіўна жывёлаводчы, пладазменны, льнянамалочны, папарна-трохпалёвы тып, бульбяны, малочна-мясны кірунак, натуральны папарна-трохпалёвы тып з гнаёвым быдлам і абложна-пярэстапалёвы мясна-рабочы тып. Апошні лакалізуецца на поўдні Беларусі. Такая геаграфічна-эканамічная класіфікацыя дазволіла даследчыку вылучыць у сельскай гаспадарцы Савецкай Беларусі 13 раёнаў з сінтэзаванай іх характарыстыкай. У цэлым сельскую гаспадарку Смоліч разглядаў па такіх складных яе сістэмы, як рольніцтва з кірункамі яго спецыялізацыі, асноўныя і другарадныя галіны жывёлагадоўлі з варыянтамі яе спецыялізацыі, вытворчыя асаблівасці калектыўных і савецкіх гаспадарак і інш.

Бюджэтны аналіз даў магчымасць вучонаму ўстанавіць, што ў агульнай прадукцыі сельскай гаспадаркі Беларусі рольніцтву (земляробству) належыць 48 %, а жывёлагадоўлі — 41 %.

У сваім вывучэнні сельскагаспадарчай эканомікі рэспублікі Смоліч імкнуўся да ўсё большай геаграфічнай дыферэнцыяцыі. Ідэальным ён лічыў весці даследаванне прыроды Беларусі і яе вытворчых сіл на ўзроўні

самых дробных адміністрацыйных адзінак — сельсаветаў. «Вылучэнне дробных геаграфічных раёнаў і далейшая характарыстыка іх прыроднага і эканамічнага ландшафту ёсць адно з найпільнейшых заданняў геаграфіі Беларусі, — пісаў вучоны.— Кожны… з дробных раёнаў мае свой асаблівы геаграфічны характар, якім больш ці менш рэзка выдзяляецца ад сумежных раёнаў, сваё культурнае аблічча, а нярэдка і свае асаблівыя сацыяльна-палітычныя ўмовы і гістарычнае мінулае».

Адначасна з манаграфіяй «Сельскагаспадарчыя раёны…» Смоліч апублікаваў працу «Размяшчэнне насельніцтва на тэрыторыі Беларускае ССР». Даследаванне гэта знаходзілася цалкам у вектары навуковых пошукаў вучонага апошніх год. На падставе метаду ізарытмаў Смоліч стварыў карту ізадоз Беларускай ССР, вылучыў звыш пяцідзесяці дробных кампактных антрапагеаграфічных раёнаў, прасачыў сувязь гушчыні насельніцтва з прыроднымі, перад усім глебавымі і сацыяльна-эканамічнымі фактарамі. У напрамку працы Смоліча-географа вельмі паслядоўна праглядвае ланцужок трохадзінства «прырода — чалавек — гаспадарка».

Плённасць навуковых пошукаў беларускага географа была не толькі заўважана, але і высока ацэнена айчыннай навукай. За працы «Размяшчэнне насельніцтва на тэрыторыі Беларускае ССР» і «Сельскагаспадарчыя раёны, папярэдняя схема і метадалагічныя ўвагі» А. А. Смоліч быў узнагароджаны Рускім геаграфічным таварыствам малым залатым медалём. Патрыярх рускай геаграфічнай навукі П. П. Сямёнаў-Цяншанскі пісаў: «Абедзве кнігі прафесара Смоліча павінны парадаваць кожнага сапраўднага географа, таму што ў абедзвюх кнігах у аснову эканамічнага вывучэння беларускага краю пакладзены геаграфічныя прыкметы… Прысуджэнне малога залатога медаля абедзвюм кнігам з'яўляецца не толькі заслужанай узнагародай пачціваму аўтару гэтых кніг, але і заахвочваннем — будучым даследчыкам, якія жадаюць стаць на прапанаваны прафесарам Смолічам шлях, што ўводзіць эканамічную геаграфію у круг геаграфічных навук». Дастойная ацэнка. Нельга сказаць, што беларускі вучоны недаацэньваўся дома, на бацькаўшчыне Яшчэ ў 1926 годзе вучоны савет Белдзяржуніверсітэта па ініцыятыве У. І. Пічэты рэкамендаваў дацэнта Смоліча, на той час ужо загадчыка створанай ім кафедры геаграфіі на пасаду прафесара. У лютым 1927 года пастановай Народнага камісарыята асветы ён быў зацверджаны ў прафесарскім званні. Пры рэарганізацыі Інбелкульту ў Беларускую акадэмію навук з 1 студзеня 1929 года А. Смоліч стаў загадчыкам кафедры геаграфіі гэтай высокай навуковай установы.

Навуковай працай, клопатам у Інбелкульце, хоць былі яны цяпер для Смоліча на першым месцы, жыццё, натуральна, не вычэрпвалася. Было і прыватнае, меліся нейкія грамадскія турботы. Што да апошніх, то яны досыць часта былі звязаны з заходнебеларускімі праблемамі. Быў неабыякавы да таго, што дзеялася на захад ад польска-савецкіх пагранічных слупоў. 1926 год прынёс радасныя весткі з-за кардону. Адбывалася там, у Вільні, на ўсёй заходнебеларускай зямлі, нешта небывалае. Цэлымі вёскамі ішлі ў Беларускую сялянска-работніцкую грамаду, звязвалі з ёй сялянскую надзею

на зямлю, на волю. У лістападзе, мяркуючы па заходнебеларускай перыёдыцы, там шырока адзначалі 20-я ўгодкі выхаду «Нашай долі», пачатку беларускага друку ў новым часе. На юбілей у Вільню выбраліся Г. Гарэцкі і С. Некрашэвіч. Ён, Смоліч, нягледзячы на занятасць, таксама не ўтрымаўся, каб не адгукнуцца на радасную падзею — надрукаваў 14 верасня 1926 года ў «Савецкай Беларусі» нататку пра пачынальніцу сучаснага беларускага перыядычнага друку. Пазней, калі ўрад Пілсудскага — Мейштовіча абрушыць на беларускі нацыянальна-вызваленчы рух удары, кіне ў турмы яе лідэраў і актывістаў, Смоліч увойдзе ў аўтарытэтны, складзены з вядучых беларускіх савецкіх культурнікаў, навукоўцаў, «Камітэт абароны БСР Грамады».

А наогул па меры таго як дзяржаўнасць Савецкай Беларусі, што напачатку таму-сяму здавалася фікцыяй, вылівалася ў рэальны плён нацыянальна-адміністрацыйнага і культурнага будаўніцтва, больш рэльефна выступіла гістарычная нядоля Заходняй Беларусі. Асноўная маса яе жыхарства цярпела сацыяльны і нацыянальны прыгнёт, стала аб’ектам непрыкрытага каланіялізму і паланізацыі. Дэмакратычныя элементы адроджанай пасля доўгага палітычнага нябыту Польшчы былі лёгка падмяты амбіцыйна шляхецкай большасцю, прыярытэты якой прадвызначалі эгаістычныя класавыя інтарэсы. Спрыяла гэтаму і міжнароднае становішча Польшчы, на якую старыя заходнія дэмакратыі глядзелі як на санітарны кардон у дачыненні да бальшавіцкай Расіі.

У сэрцы Смоліча, як і кожнага свядомага беларуса, быў асобны куток для Заходняй Беларусі. Тым больш што пра нялёгкае жыццё трох мільёнаў суродзічаў пад Польшчай Смоліч ведаў не толькі з заходнебеларускай прэсы, за якой, да слова сказаць, ён таксама вельмі пільна сачыў. У зборніках «Заходняя Беларусь» 1925 і 1927 гадоў выдання ён выступіў з трыма ёмістымі публікацыямі — «Сялянства Заходняй Беларусі», «Геаграфія і тапаграфія Заходняй Беларусі», «Насельніцтва Заходняй Беларусі, яго нацыянальны і прафесійны склад». Вырашаныя Смолічам пытанні ў рамках заходнебеларускага рэгіёна і ўсёй Беларусі мелі актуальнае навуковае і грамадска-палітычнае значэнне. Заходняя Беларусь, натуральна, успрымалася вучоным як інтэгральная частка ўсяго прыродна-дзяржаўна-культурнага беларускага арганізма. Да матываў грамадскага, навуковага дадавалася, канечне ж, спачуццё і, не будзе перабольшаннем сказаць — абавязак.

Сярэдзіна 20-х гадоў і пачатак іх другой палавіны — беларускія грамадскія далягляды яшчэ ясныя. І калі ўставала дзе асобна хмурына, то ёй не прыдавалі асаблівага значэння. Наперадзе было нешта, што мацавала надзею на добрую будучыню. Развівалася асвета, ішла кансалідацыя народа на досыць трывалай нацыянальнай аснове. Пра гэта не гаварылася моцна, услых. Але гэты настрой дамінаваў нават у прыватных размовах.

А ўвогуле інтэлігенцыя 20-х гадоў жыла яшчэ адкрыта. Матэрыяльнае становішча яе ў часы нэпа, як і ўсяго народа, было неблагое. Можна было дазволіць сабе традыцыйную народную гасціну. Святамі збіраліся пачаргова то ў Янкі Купалы (Луцэвічаў), то ў Лёсікаў, то ў Некрашэвічаў… Алеся Ігнатаўна ўспамінала некалькі такіх гасцінных вечароў у Якуба Коласа, з удзелам у іх, акрамя творчай інтэлігенцыі, і дзяржаўных дзеячаў. Асобныя з

іх не дыстанцыяваліся, як бы мы цяпер сказалі, ад народа чулі роднасць духу з інтэлектуальнымі людзьмі, навукоўцамі, пісьменнікамі. Цяснейшаму яднанню навукоўцаў і пісьменнікаў спрыяла не толькі ўсведамленне таго, што служаць адной ідэі, але і такі, у пэўнай меры прыватны факт, што літаратары, а перад усім Я. Купала і Я. Колас, працавалі і як навукоўцы ў Інбелкульце, у тэрміналагічнай камісіі, дзе разам шукалі адпаведнага беларускага слова, тэрміна па літаратура— і мовазнаўстве, па музыцы і мастацтвазнаўстве.

Кола блізкіх знаёмых А. Смоліча можна пазнаць і па фотаздымках 20-х гадоў, зробленых не на афіцыйных канферэнцыях, пасяджэннях, а ў нязмушанай абстаноўцы на адпачынку. Здымкі гэтыя не сталі здабыткам грамадскасці — у пазнейшы час супраць Купалы і Коласа маглі яны быць скарыстаны як кампрамат.

Смоліча на тых фотаздымках не відно па прычыне чыста тэхнічнай — шчыраваў з фотаапаратам. А каму ж, як не географу, было з ім і важдацца. А з фатаграфій, зробленых на ўзлеску ці пры дачнай вясковай хаце, глядзяць сталыя абліччы Я. Коласа, Я. Купалы, А. Цвікевіча, У. Пракулевіча — адваката, старшыні Рады Случчыны, затым, як і А. Цвікевіча, — члена беларускага эміграцыйнага ўрада, Леанарда Зайца — члена Народнага сакратарыята, доктара П. Трамповіча[1] — пасла Беларускай Рэспублікі на Украіне; стаяць, сядзяць жанкі — Купаліха, Трамповічыха, Алеся Смолічыха, Цвікевічыха, а на пярэднім плане дзеці, падлеткі і меншыя.

Алеся Ігнатаўна ўспамінала, што блукалі па лесе вялікай грамадой, з дзецьмі, а наперадзе ішоў дзядзька Пуд, магутны, як волат беларускіх лясоў, Пракулевіч, і казаў: каб не згубіліся, буду падаваць голас. Лясное рэха адзывалася на яго зубрыны голас. Натуральна, закраналіся многія тэмы. Некаму здавалася, што марудна ідзе беларусізацыя і наогул носіць яна казённы характар. Некаму нешта было незразумела з гібеллю Гурына-Маразоўскага якраз перад працэсам Грамады ў Вільні… Смоліч уносіў у спрэчкі памяркоўнасць, развагу. Ён паверыў у шчырасць дойлідаў новага грамадства. Прынамсі, не меў, як іншыя, столькі скепсісу да іх і засцярогі. А маштаб здзейсненага ў рэспубліцы яму крыху зверху быў няблага відзён. Зрэшты, як і тое, што ўнутрана не прыняў, не мог прыняць. Але пра гэта мог бы сказаць толькі ён сам.

Аб неўнікнёных арыштах сярод беларускай інтэлігенцыі сказаў Смолічу доктар Урванцаў. Ён лекаваў жонак работнікаў АДПУ, рабіў дробныя аперацыі і пачуў навіну ад сваіх пацыентак. Смолічу сказаў з-за павагі, з інтэлігенцкай салідарнасці? Невядома. Проста Алеся Ігнатаўна помніла гэты факт, гэта прозвішча. Можа, таму, што ў часы яе наезду ў Мінск 60—70-х доктар Урванцаў займаў пасаду намесніка міністра аховы здароўя. Той самы, яго сын, аднафамілец? Хто ведае.

Але мы міжволі заспяшаліся, ідучы ўслед за ўзвышэннем Аркадзя Антонавіча Смоліча ў беларускім інтэлектуальным жыцці 20-х гадоў. Не

[1] Павел Трамповіч памёр у 1959 г. у Кіеве.

толькі ў поступе беларускай навукі, але ў самой арганізацыі і стратэгіі яе ён адыграў немалую ролю. Спачатку ў Інбелкульце, дзе, як член прэзідыума, намеснік старшыні яго, браў на сябе важкі аб'ём працы, рыхтаваў глебу пад будучую акадэмію. Разам з У. Ігнатоўскім, С. Некрашэвічам і В. Ластоўскім распрацаваў статут Беларускай акадэміі навук, структуру яе, першыя навуковыя напрамкі. Пачыналі з фундамента ў прамым сэнсе. Алеся Ігнатаўна Смоліч, углядаючыся ў мінулае праз смугу часу, успамінала, як муж разам са Сця-панам Некрашэвічам, будучым віцэ-прэзідэнтам будучай БАН бралі фурманку, ездзілі за Камароўку, пад Ваньковічаўскі лес, выбіраць месца пад будаўніцтва Беларускай акадэміі. Уяўлялі тады яны, ахвярнікі беларускай навукі, як анфіладай калон будынак Акадэміі гляне на горад? Што думалі, гаварылі — сказаць цяжка. Але пра фундамент пад гмах беларускай навукі ў прамым і шырэйшым сэнсе думалі рупліва, мудра. Наўрад цешылі сябе тым, што імёны заснавальнікаў нашчадкі абавязкова высекуць на граніце. Але, пэўна, і не чакалі таго, што закладальнікаў краевугольнага каменя ў будынак беларускай навукі хутка вырвуць з жыцця, а іх працу аблыжна зганьбяць у вачах народа.

Тым часам краіна вялікага сацыяльнага эксперыменту, якая ў адных спараджала надзею, у другіх — страх, у трэціх — засцярогу, к канцу 20-х адгарнула адну з трагічных старонак сваёй гісторыі. Сляпая гульня палітычных сіл пры маўклівай прысутнасці народа ўзнесла на вяршыню дзяржаўнай піраміды монстра ў аблічча чалавека. Сістэма на гэта дазваляла. За некалькі год ён сканцэнтраваў уладу ў вялізнай краіне ў сваім жалезным кулаку. І імем народа пачаў вайну з народам. Перш-наперш з інтэлігенцыяй — яна стаяла на яго шляху да палітычнага абсалютызму, да уніфікацыі мыслення. У 1928 годзе пачаліся груба сфабрыкаваныя працэсы. Ледзь не першай ахвярай аўтарытарнага рэжыму на новай хвалі стаў рускі філосаф П.Фларэнскі з групай старой інтэлегенцыі (чалавек восемдзесят).

У 1929 годзе АДПУ распачало «справу Платонава», заснавальніка ленінградскай гістарычнай школы. Так званая шахцінская справа была скіравана супраць тэхнічных спецыялістаў. У 1930 годзе АДПУ аб явіла аб існаванні «Крестьянской трудовой партии», што дазволіла ёй арыштаваць буйных спецыялістаў у галіне рускай навукі пра сялянскую гаспадарку: Чаянава, Кандрацьева, Рыбнікава. Затым была здзейснена дзяржаўная правакацыя пад назвай «Промпартия». Ужо ў 1928 годзе раздаліся грымоты, кінутыя ўладнай рукой «правадыра» супраць інтэлігенцыі ўскраін, нібыта суверэнных рэспублік. Пачалі з Башкірыі, дзе нядрэмныя карныя органы высачылі «антысавецкую» групу Асман-Гафурава. Чума рэпрэсій набліжалася і да заходніх граніц. У 1930 годзе па ўжо абкатаным сцэнарыі, складзеным у нетрах АДПУ, пачаўся судовы працэс супраць украінскіх вучоных на чале з акадэмікам Яфрэмавым. Сутарга дэспатыі крывіла аптымістычнае аблічча краіны, якая нібыта выпраўлялася на будаўніцтва самага справядлівага ладу на зямлі. 3 лета 1930 года па ўзоры «Саюза вызвалення Украіны» рэспубліканскае АДПУ Беларусі пачало рыхтаваць акцыю супраць беларускай навуковай інтэлігенцыі.

Страпчымі ўсіх гэтых няправых працэсаў загадзя рабіліся арганізацыйныя і ідэалагічныя захады. У выпадку з першымі масавымі арыштамі беларускай інтэлігенцыі — паадзінкавыя былі і раней — была прароблена маніпуляцыя з адказнымі кадрамі. Пасля таго як у Мінск наведалася ідэалагічна-кантрольная група ЦК ВКП(б) на чале з Затонскім, якая знайшла, што нацпалітыка ў Беларусі «хромает», сакратар беларускай партыйнай арганізацыі Ян Гамарнік і кіраўнік АДПУ рэспублікі Р. Піляр былі заменены адпаведна на выхаваных у нетрах спецведамства К. Гея і Рапапорта.

Вестунамі надыходзячых рэпрэсій у перыядычным друку выступілі В. Кнорын, А. Канакоцін і інш. Яны ўсчалі кампанію аб засіллі ў Беларусі «нацдэмаў», аб пагрозе савецкаму ладу з боку «нацдэмаўшчыны». Смоліч быў арыштаваны адным з першых сярод беларускіх вучоных, 26 чэрвеня 1930 года. Усяго было зняволена 104 прадстаўнікі інтэлігенцыі. Арышты закранулі перш-наперш Беларускую акадэмію навук, наркаматы асветы і земляробства, Беларускую сельскагаспадарчую акадэмію ў Горках, Навукова-даследчы інстытут сельскай і лясной гаспадаркі, Беларускае дзяржаўнае выдавецтва, Белдзяржуніверсітэт, Сярод арыштаваных былі два наркомы, пяць акадэмікаў. У следчых Сікорскага, Юдашкіна, Муляўкі, Карпіка, Аргава ды прысланых з Масквы на дапамогу Радзівілоўскага і Славацінскага была нялёгкая, у прынцыпе, задача: трэба было выбіць, падагнаць пад нарыхтаваны сцэнарый абвінавачання адпаведныя паказанні-прызнанні. Праўда, у іх меўся для гэтага выпрабаваны спосаб — канвеерная метода допытаў. Дапытвалі ноччу, следчыя мяняліся, а ахвяра следства, застаючыся сам-насам з чарговым інквізітарам, выматвалася фізічна і маральна да поўнага вычарпання. «Галава пухла, дзерванела, — успамінала са слоў мужа Алеся Ігнатаўна Смоліч, — і ты нарэшце гатоў быў падпісаць любое, — толькі б скончыліся гэтыя бясконцыя пакуты». Пры гэтым спадцішка, па-езуіцку ахвяры ўнушалася думка, што вам нічога не будзе, толькі трэба дапамагчы партыі паказаць народу, якая гэта шкодная з'ява — нацдэмаўшчына…

Людзі не вытрымлівалі, ішлі на самаабгавор. Але ў адным стаялі цвёрда: не было такой падпольнай арганізацыі «Саюз вызвалення Беларусі», прыналежнасць да якой ім прыпісвалі. А хто, як, напрыклад, Лёсік, быў зламаны на нейкі час, у далейшым ад ілжывых паказанняў, саманагавораў адмовіліся. Не было з чым выходзіць на адкрыты судовы працэс. Тады прасілі ЦВК дазволіць працягнуць тэрмін трымання пад арыштам, і старшыня яго А. Хацкевіч даваў такую згоду. У следчых жыло разуменне: заказ цэнтра павінен быць выкананы любой цаной. І яны пачыналі новы заход. К гэтаму часу было ў іх распараджзнні сведчанне супраць «шчырых беларусаў» арыштаванага асістэнта БДУ М. Гуткоўскага[1]. Той рашыў «раззброіцца» абгрунтаваннем існавання «антысавецкай контррэвалюцыйнай арганізацыі беларускіх нацдэмаў». Паказанні М. Гуткоўскага давалі мазаіку настрояў у асяроддзі беларускай інтэлігенцыі. А ў прынцыпе, акрамя інфармацыі, хто што сказаў на веча-

[1] У 1921 г. пасля найстражайшай фільтрацыі ўдзельнікаў урангелеўскай акцыі ЧК дазволіла М. Гуткоўскаму вярнуцца з Крыма на Беларусь

рыне ў яго, Гуткоўскага, на кватэры ў Сушынскага,або на банкеце ў Галубка, ці на велікодным застоллі ў Купалы, давала следству няшмат. Падходзілі хіба толькі абагульненні Гуткоўскага, выказаныя ім у асобнай дакладной. З яе дапамогай можна было страйней аформіць абвінавачанне.

Гуткоўскі цвярдзіў, што «на тэрыторыі БССР з 1921 г. існавала антысавецкая контррэвалюцыйная арганізацыя беларускіх нацдэмаў, якая, аб'ядноўваючы сваіх прыхільнікаў у Навукова-тэрміналагічнай камісіі, Інбелкульце… БДУ… вяла сістэматычную работу над падрыхтоўкай адрыву БССР для ўтварэння БНР у складзе сярэднееўрапейскай федэрацыі буржуазных дзяржаў пад пратэктаратам Польшчы».

Гэта гучала паважна ў юрыдычным плане. Але ўсё ж, каб быць пераканаўчым, патрабавала доказаў. Тады на пачатку 1931 года паклікалі сведак збоку. У некаторых не ашукаліся. Малады этнограф з акадэміі даваў кароткія паказанні, але добра разумеў, што ад яго патрабуецца. Выкладаў кампрамат. Напрыклад, М. Красінскі ў тэлеграме на імя М. Гурскага абяцаў у Гомелі «зрабіць беларускую дэманстрацыю»: ішло аб прыездзе ў горад беларускага тэатра, а паслужлівы сведка прапаноўваў копію крамольнай тэлеграмы. Або сведчыў, што Фларыян Ждановіч не толькі палоннік сцэнічнага мастацтва, а і палітык: сведка бачыў яго ў 1919 годзе ў Мінску ў форме афіцэра Беларускай вайсковай камісіі. Што ж да Шчакаціхіна, то гэта, паводле пераканання сведкі, — беларускі нацыяналіст, прытым заходняй арыентацыі. Доказ: сведка слухаў яго лекцыі ва універсітэце «аб самабытнасці беларускай культуры» ды варта паглядзець выстаўку беларускага мастацтва, кансультаваную Шчакаціхіным, каб у тым пераканацца. Але гэта таксама было незашмат для такой шырока задуманай акцыі. Тады «Саюз вызвалення Беларусі» следства і тыя, хто ім кіраваў, вырашылі далучыць да іншых такіх жа міфічных арганізацый, да нібыта існуючых беларускіх аддзелаў «Крестьянской трудовой партии», «Промпартии» і Громана-Суханаўскай групоўкі. Аб'яднаць іх усе разам у «Тактычны цэнтр», або «Цэнтр вызвалення Беларусі». Былы член ЦВК і член прэзідыума Дзяржплана А. Каплан, цяпер па волі следства галава беларускага аддзела «Пром-партии», і кіраўнік меншавіцкай Громана-Суханаўскай групоўкі А. Шэйнін далі надзіва падобныя, амаль даслоўныя паказанні аб стварэнні з іх удзелам шкодніцкай арганізацыі «Цэнтр вызвалення». «Нацдэмы, — паводле сведчання А. Шэйніна, — складалі адзін з найважнейшых сектараў цэнтральнай арганізацыі, паколькі «Працоўная сялянская партыя» ў БССР знаходзілася пад іх непасрэдным уплывам».

А ўвогуле сведчанні А. Шэйніна цікавыя сваёй накіраванасцю, укладзенай у свядомасць паддопытнага. «Нацдэмы прэтэндавалі на становішча прэвуаліруючага ўплыву ў цэнтральнай арганізацыі, матывуючы тым, што іх арганізацыя з'яўляецца больш шматлікай, мае замацаваныя сувязі з Захадам, а галоўнае, мае вялікі стаж у рабоце па падрыхтоўцы ўпадку соўулады». А. Шэйнін паказвае на допыце, што быў арганізаваны ЦК шкодніцкай партыі, г.зн. «Цэнтра вызвалення Беларусі». У яго складзе былі Г. Гарэцкі, А. Смоліч, Г. Бонч-Асмалоўскі, І. Краскоўскі, А. Каплан і А. Шэйнін. А старшынёй ЦК быў Смоліч.

Ні Купала, ні Ігнатоўскі, як спачатку было задумана рэжысёрамі расправы з беларускай інтэлігенцыяй, не былі пастаўлены на чале міфічнага СВБ. Сышліся на Смолічы. Трэба аддаць належнае арганізатарам гэтай гістарычнай правакацыі супраць беларускага народа — паліцэйскім чуццём яны адчулі маштаб постаці Аркадзя Смоліча.

Вось так у канчатковым выглядзе выстройвалася карціна грандыёзнага змоўніцтва контррэвалюцыйных сіл на Беларусі. Так пачалося татальнае знішчэнне яе інтэлектуальнага патэнцыялу…

І ўсё ж з адкрытым публічным судом у наваяўленых інквізітараў на гэты раз не атрымалася. Не было з чым на яго выходзіць. Версія аб разгалінаванай контррэвалюцыйнай арганізацыі на першы погляд магла здацца ніштаватай, але юрыдычна не мела пад сабой грунту, самых малых рэчывых доказаў існавання «Цэнтра вызвалення», як і «Саюза вызвалення Беларусі», не было.

Ідэалагічны эксперт Гістпарта, пра гэта ўспамінаў В. А. Сербента ў 60-я гады, на падставе следчых матэрыялаў мусіў канстатаваць адсутнасць арганізацыйных форм нацдэмаўшчыны. Давялося здаволіцца асуджэннем яе як ідэалогіі, наяўнасці «пэўных настрояў» сярод інтэлігенцыі. Закрыты суд засядаў без падсудных. Калегія АДПУ БССР з удзе-лам аднаго са жрацоў будучага вялікага тэрору В. Ульрыха на сваім закрытым пасяджэнні 10 красавіка 1931 года прызнала ўсё ж большасць абвінавачаных, у тым ліку А. Смоліча, вінаватымі. Абвінавачаны паводле арт. 58 п. 4, 7, 10, 11 КК РСФСР А. А. Смоліч быў прысуджаны да высылкі ў г. п. Аса Пермскай вобласці тэрмінам на 5 год.

Першы этап рэпрэсій пачатку 30-х рассыпаў беларусаў пераважна па Прадураллі і Пазаўраллі, не далей Заходняй Сібіоы. Праз Бутыркі ў чэрвені 1931 года Смоліч накь роўваецца ў пасёлак Аса. Пачалося знешне ніштаватае, а ўвогуле сцісла паднагляднае жыццё адміністрацыйнассыльнага. Працу, праўда, далі не марудзячы. Сціплую, планавіком-інструктарам у леспрамгасе і райспажыўсаюзе, але не лішне тлумную і цяжкую. Неўзабаве прыехала сям'я. Стала маральна лягчэй. Быў нармальным селянінам. Без Шурачкі і сваіх смалянят душэўна стаміўся за паўтара года. Але з прыездам сям'і адразу ўзніклі і праблемы людскага жылля, адпаведнай школы. Патурбаваў непасрэднае начальства, цяпер, здаецца, не было ў яго больш высокага, чым абласное ДПУ. Прасіў перавесці ў раённы гарадок, дзе ёсць дзесяцігодка. На першы раз былі пачцівыя, дазволілі пераехаць у горад Ішым. У другі раз, калі пасля сканчэння тэрміну адміністрацыйнай высылкі прасіў перавесці ў горад, дзе б быў інстытут, нейкая навуковая ўстанова, адмовілі. Блізіліся самыя ліхія гады, і органам было не да патачкі будучым «ворагам народа».

У Ішыме А. Смоліч пражыў пяць гадоў. Работы лішне выбіраць не даводзілася. Працаваў спачатку ў райкалгассаюзе, саюзхарчгандлі, выкладаў у жывёлагадоўчым тэхнікуме. Апошнія гады асноўную працу меў у педагагічным тэхнікуме. Летам чытаў лекцыі на курсах удасканалення настаўнікаў. Студэнты і курсанты любілі свайго географа. З цікавасцю хадзілі з ім на экскурсіі. Думка аб працягу навуковай працы не пакідала. Назбіраў

матэрыялу на цэлае манаграфічнае даследаванне «Зона лісцвенных лясоў і займішч Заходняй Сібіры». У 1935 годзе атрымаў даведку аб вызваленні з ссылкі, але «без права пражывання ў Маскве, Ленінградзе, сталіцах саюзных рэспублік і пагранпаласе». Паспрабаваў прапанаваць свае паслугі як навукоўца, быў жа прафесарам, Варонежскаму універсітэту, але адмовілі.

Старэйшая Ганка і малодшая Муся Смалічанкі, дарэчы, абедзве і ў замустве захавалі прозвішча апальнага бацькі, успамінаюць, як бытавалася сям'я Смолічаў у Ішыме да 1937 года. Бацька, вярнуўшыся з работы, пытаўся ў цешчы — бацькі Алесі Ігнатаўны жылі са Смолічамі, — як Шура, дзеці. Працаваць за сталом дома садзіўся позна, калі ўсе ўкладваліся спаць. Але перад гэтым заўсёды знаходзіў час, каб пабыць з усёй сям'ёй разам. І не толькі за сталом у час вячэры. Найболей запомнілася перадвячэрняя пара, сутонне, калі за вокнамі дагараў дзень. Садзіліся як зручней. Бацька або Ганка пачыналі песню. Спявалі найчасцей ціхія, роздумныя песні: «Тихие долины спят во тьме ночной», «Пела, пела пташечка да замолкла», «Ад родных ніў, ад роднай хаты» — «Слуцкія ткачыхі»... Лёгкім смуткам калыхалі яны душу, неслі думкі далёка-далёка. Хто скажа, дзе мелі яны, думы яго, у той час прычым. Пэуна, не раз ляцелі да родных берагоў. Спрабавалі зазірнуць у будучыню. Можа, на гётэўскай ноце — «Обождя немного, отдохнешь ли ты»?..

Зрэдзьчасу прыходзіў нехта з сасланых. Алесі Ігнатаўне запомнілася: на тапчане ў Ішыме сядзелі побач Аркадзь з Аляксандрам Цвікевічам і спявалі надвячэрняй парой:

Динь-бом, динь бом, —  
Слышишь звон кандальный...  
Толькі далей устаўлялі свае прозвішчы:  
Смолича с Цвикевичем  
Закованных ведут...

У ноч з 17 на 18 чэрвеня 1937 года Смоліча ў другі раз арыштавалі. У краіне ішоў дзевяты вал рэпрэсій, і спадзявацца літасці, аднойчы стаўшаму няўгодным Сістэме, не даводзілася. Чалавек знікаў за парогам свайго дома ў цемры ночы назаўсёды. Спачатку родным паведамілі, што іх муж і бацька асуджаны на 10 год без права перапіскі. Алеся Ігнатаўна пісала Н. К. Крупскай, расказвала пра лёс мужа, бараніла яго годнасць. Вынік быў такі, што яе выклікалі ў райком і, не паказваючы ніякага адказу Крупскай, сталі выгаворваць, навошта пісала, маўляў, Надзея Канстанцінаўна журыць падаўцу скаргі, што яна заступаецца за мужа — ворага народа. Алеся Ігнатаўна пры кожнай мажлівасці, нейкай верагоднай нагодзе імкнулася даведацца пра мужа. Доўга жыла надзея: а можа, і жывы? Сістэма, не скажаш сарамліва, маўчала аб сваім неверагодным па сэнсе маштабе злачынства перад народам. Асобныя прадстаўнікі яе лгалі. Апошні раз паспрабавала ўдава вучонага дабіцца праўды пра мужа ўжо ў 60-я гады. Час нібыта спрыяў. Падаваў надзею. Яшчэ ў 1957 годзе атрымала паведамленне з аблас-

нога ўпраўлення омскага КДБ, што А. А. Смоліч па той сібірскай справе 1937 года рэабілітаваны «За отсутствнем состава преступления», але Мінск начапіў маску сфінкса, маўчаў пра ўзнаўленне справядлівасці ў дачыненні да невінаватага. Адказ з пракуратуры рэспублікі, дадзены 8 лютага 1966 года за подпісам начальніка аддзела, ст. саветніка юстыцыі А. Бялінскага, быў катэгарычны і няўцешны: «Сообщаю, что прокуратура БССР не находит оснований к постановке вопроса о реабилитации Вашего мужа Смолича А. А., по которому он был в 1931 г. выслан из Белорусской ССР. Ваша жалоба остается без удовлетворения».

Гістарычная трагедыя народа ўжо часткова паказалася на белы свет. І для ўсіх стала відавочна, што гучныя працэсы 30-х і ціхія формы рэпрэсій былі не што іншае, як найвялікшая містыфікацыя стагодздзя. Што ўсе гэтыя міфічныя «саюзы», «цэнтры» контррэвалюцыйнан дзейнасці — несусветная мана, найпадлейшае патаптанне Праўды. Але бастыёны таталітарнай улады, паступіўшыся толькі малой доляй ісціны, маўчалі, стаялі на ахове найвялікшай хлусні, якой, праўда, ужо ці не хацеў, ці ніхто не меў змогі надаць выгляд праўдападобнасці. У 1968 годзе Алеся Ігнатаўна зрабіла апошняе намаганне, каб вярнуць добрае імя мужу-пакутніку, а яго працы — людзям. Тады ўзышла якраз палітычная зорка П. М. Машэрава. Падумалася, а ці не дапаможа зрушыць з мёртвага пункту ў ведамствах КДБ — пракуратура гэты новы на фоне зашпіленых на ўсе гузікі дзяржаўных чыноўнікаў чалавек?

Алеся Ігнатаўна апісала Першаму рэспублікі свой і мужаў лёс. Коратка расказала пра сям'ю — дачок. Сын Максім сказаў, праўда: «Мяне не ўмешвай…» Інжынер на заводзе ў Чарапаўцы, з партыйным білетам у кішэні, не хацеў лішніх праблем. Можна яго зразумець. Бачу на graвіявай дарожцы каля Беларускага політэхнічнага інстытута яго, рослага, як бацька, маўклівага. Маці, жанчына нядробная, прытуліўшыся да сына, выглядала змалелай.

На гэты раз адказу на заяву-пісьмо доўга чакаць не давялося. Ды толькі круг замкнуўся зноў на пракуратуры БССР. Для атрымання адказу Алесю Ігнатаўну паклікалі якраз туды. Я чакаў яе з візіту на вуліцы. Крыху спадзяваўся. Але калі ўбачыў стомлены яе твар без характэрнай добразычлівай усмешкі, патухлыя вочы і цяжкую ступу, зразумеў — адмовілі.

Заўсёды жыццярадасную, такой прыгнечанай бачыў яе перад гэтым толькі раз. Тады прызналася, што неяк па-дурному злосна напалі былі на яе стрыечныя. Маўляў, такія сацыялісты, як твой Смоліч, і давялі Расію… А між тым не былі сёстры ні жабрачкамі, ні пакрыўджанымі савецкай уладай. Старэйшая жыла пры браце-халасцяку, дацэнту хіміі, а другая была замужам за вядомым мастаком. Заявіцельніцу прыняў у пракуратуры сухапары аднарукі супрацоўнік. Назваўся. Дастаў папку з паліцы, з яе паперку, прачытаў, дадаўшы: «Справа не падлягае перагляду. Смоліч належаў да групы Ластоўскага…» Чаму група, у чым віна — не тлумачыў, ды і прасіцельніцы было не да пытанняў. Яна адчула фізічна, што ёй нібы зноў, як у 1930 годзе, далі па галаве. Надзеі на Машэрава, яго людскасць, аўтарытэт не апраўдаліся. Не ён вырашаў. Вырашала сістэма. А яна была не за чалавека…

Як жа жылося ёй, Алесі Смоліч, спадарожніцы на працягу 19 год жыцця яго, ступіўшага ў невядомасць? Час калі ёй, як жонцы «ворага народа», адмаўлялі ў службе мінуў. Апошнія дваццаць гадоў яна змагла вярнуцца да ўлюбенай педагагічнай працы, якую пачынала семнаццацігадовай дзяучынай на Серабранцы ў Мінску. Дакончыла-такі у Омску, перапыненую яшчэ на бацькаўшчыне вучобу (калі Аркадзя арыштавалі, давялося кінуць) і працавала спачатку ў школе, а затым асістэнтам на кафедры Омскага педінстытута. 22 верасня 1964 года яна пісала Язэпу Дылу ў Саратаў: «Усё тое гора, непапраўную бяду, што забыць нельга да канца дзён сваіх, памаглі перажыць мне людзі і праца сярод іх. Бывала, так сумна, маркотна здаецца ўсё навокал. У кватэры холадна, сыра, не кажучы ўжо аб іншым (на Рабіновіча, 29, пражылі мы там 25 гадоў), а выйдзеш марознай ранічкай на Красный Путь (дарога ад дому да інстытута і школы), снег блішчыць ад яркага сонейка, свеціць на спатканне,і хоць 25°, хоць сорак марозу, бяжыш хутчэй, каб не спазніцца, толькі ў думках урок, лекцыя, з якім ступіш у клас, аўдыторыю. …Я не бачыла свайго веку за плячыма і ў сорак, пяцьдзесят, шэсцьдзесят гадоў: лёгка і жвава з студэнтамі ці вучнямі ішла на экскурсію, як калісь у маладосці вандравалі з Аркадзікам дзе-небудзь у ваколіцах Менску ці на беразе Ішыма…

Развітанне апошняе, сумнае, цяжкое было 18 чэрвеня 1937 г. А ў 1957 г. я атрымала такую даведку: «Дело по обвинению гр. Смолича А. А., рождения 1891 г. рассмотрено Президиумом Тюменского областного суда 9.11.1957 г. Решение тройки УНКВД по Омской области от 10 июня 1938 г. отменено и дело производством прекращено». Потым выплацілі з Ішымскага педінстытуту за 2 месяцы зарплату Аркадзіка, а пачакаўшы на мой запрос, ці жыў і дзе ён, прыслалі з Ішымскага заксу спраўку, што памёр ад міякардыта 17/ПІ 1943 г. в местах заключения»: лгала сістэма і намагалася рабіць гэта праўдападобна.

У лепшыя часы, часы грамадскага ацверазення на запыт кафедры геаграфіі Беларускага дзяржаўнага Універсітэта пра лёс заснавальніка гэтай кафедры, першага беларускага прафесара геаграфіі з Томска прыйшоупраўдзівы адказ: «На Ваш запрос сообщаем, что Смолич Аркадий Антонович, 1891 года рождения, уроженец с. Бацевичи, белорус, преподаватель географии ишимском училище, по постановлению тройки УНКВД Омской области от 10.6.38 г. расстрелян 17.06.38 г. в Омской тюрьме. Место его захоронения неизвестно».

Толькі праз пятнаццаць гадоў пасля смерці старога беларускага педагога Алесі Ігнатаўны Смоліч, у 1989 годзе, калі ў справе рэабілітацыі беларускіх штэлектуалаў у вышэйшыя інстанцыі звярнуўся народны пісьменнік Васіль Быкаў, гэты абсурд у дачыненні да беларускіх вучоных, акадэмікаў У. Ігнатоўскага, В. Ластоўскага, Я. Лёсіка, прафесараў А. Смоліча і А. Цвікевіча быў да канца пераадолены. Перагледжаныя юрыстамі справы іх паказалі, што былі сфабрыкаваны па загадзе зверху. Застаўся яшчэ доўг перад злачынна загубленымі таталітарызмам заступнікамі і абаронцамі народа, якімі былі гэтыя вядучыя дзеячы гуманітарнай навукі, — як найхутчэй выдаць іх творчую спадчыну. Нешта для гэтага ўжо робіцца. Праз паўвека пасля

забароны самога імя Аркадзя Смоліча выходзіць галоўная кніга яго жыццця «Геаграфія Беларусі». Праўда перамагае, праўда, без якой нельга духоўна адрадзіць беларускі народ і яго зямлю, не дарам паложаную, па справядлівым сцверджанні Смоліча, пасярод Еўропы. У сваёй кнізе акрамя фізічнай і эканамічнай геаграфіі Беларусі Смоліч разглядаў матэрыяльны і духоўны быт насяляўшых яе народаў… Абагульняючы такія рысы характару беларуса, як лагоднасць, зычлівасць, незлапамятнасць, вучоны пісаў, што яны, відавочна, прычыніліся і да адпаведнага ўкладання беларускай гісторыі. Яна склалася не лепшым чынам. «Беларус, — пісаў Смоліч, — быў увесь час вельмі прыдатным да ролі грамадзяніна будучыні, калі справядлівасць запануе між народамі, але быў мала падгатаваны да змагання за быт, за жыццё, якое ішло вакол яго і яго коштам…»

У гэтым разважанні, напэўна, ёсць немалая доля ісціны. І сягоння мы стаім перад загадкавым будучым. Хочацца спадзявацца, аднак, што дарога да свабоды далей не будзе такой цяжкай і ахвярнай, як раней. А золак дэмакратыі, які заняўся над Усходняй Еўропай — ці не знак той будучыні, нарэшце, пра якую марылі і якую набліжалі сваёй самаахвярнай працай Аркадзь Смоліч і сотні, тысячы прадстаўнікоў яго трагічнага пакалення — людзей заўтрашняга дня.

*1993*

# Паміж літаратурай і палітыкай
## Драма аднаго рамантыка
### Эцюд

Цяжка вяртаецца наша духоўная спадчына, літаратурная, гістарычная, культурная. Мы яшчэ не асэнсавалі да канца неймаверна вялікага маштабу яе страт за гады таталітарызму.

Сёння, дзякуючы руплівасці перш-найперш гісторыкаў і літаратуразнаўцаў, з большага сабраны звесткі пра творцаў яе, што трагічна пайшлі з жыцця ў 30-я -50-я гады. Аднак далёка не пра ўсіх, нават постацяў буйных. Напрыклад, нават пра такую самабытную асобіну, як драматург, публіцыст, паэт, неардынарны палітык, якім быў Леапольд Родзевіч, ведама мала. Прынамсі, пра тое, за што канкрэтна, пры якіх абставінах і дзе загінуў, што панёс з сабою навекі з напісанага ў апошнія гады гэты заўсёды творча актыўны мастак слова. Праўда, апошнім часам стала здабыткам культурнай грамадскасці дзе-што з сцэнічных твораў пісьменніка і прытым амаль крамольная да нядаўняга п’еса «ПСХ»[1]. Але дасюль творчасць Родзевіча не сабрана ў асобную кніжку, каб стаць дзейсным элементам культуры сучаснасці, як тое заслугоўвае. А тым часам спадчына Л. Родзевіча, хоць пісьменнік у сваім жыцці і не пераступіў парогу 40-годдзя (з сярэдзіны 30-х імя яго начыста знікла з друку ў Савецкай Беларусі), — немалая, мастацка адметная, разнастайна жанрава. Быў Леапольд Родзевіч перадусім прыроджаным драматургам. За кароткае, падзейна насычанае, драматычнае жыццё сваё напісаў 12 п'ес. Першая, забароненая царскай цэнзурай для пастаноўкі на сцэне з-за сацыяльнай завостранасці драма «Блуднікі» будучым пісьменнікам была напісана ў семнаццацігадовым узросце. Ранняй рэалізацыі драматургічнага таленту Родзевіча спрыяла яго заангажаванасць у працы Беларускага музычна-драматычнага гуртка ў Вільні, у якім рэй вялі Аляксандр Бурбаліс і Францішак Аляховіч, а таксама ягоны ўдзел у выступленні трупы Ігната Буйніцкага. Маючы дваццаць адзін год, у 1916-ым, патрапіў Л. Родзевіч стварыць сімвалічна-рамантычную драму «Пакрыўджаныя», твор, які тэатразнаўцы сёння бачаць на ўзроўні Купалаўскага «Раскіданага гнязда». Дзеянне «Пакрыўджаных» адбываецца ў часы паншчыны. У аснове твора ляжыць ідэя асабістай свабоды чалавека. Яна ўвасабляецца перш за ўсё ў вобразе старога Тодара, народнага самародка-разбяра…

Быў Леапольд Родзевіч майстрам камедыйнага джанру. Ягоныя жартоўныя

[1] Расшыфроўваецца «Пільнуй свае хаты». Час дзеяння п’есы — грамадзянская вайна, пермаментныя акупацыі Беларусі.

п'ескі «Пасланец», «Конскі партрэт», «Збянтэжаны Саўка» абыйшлі ў колішняй Заходняй Беларусі ўсе местачковыя і вясковыя тэатральна-мастацкія падмосткі. Асаблівую папулярнасць набыў у народзе вадэвіль «Збянтэжаны Саўка». Ужо пасля вайны ў Савецкай Беларусі «смяхотная» п'еска Родзевіча была падхоплена самадзейнымі мастацкімі калектывамі і, адасобіўшыся ад імя аўтара, апальнага, забароненага, набыла новае тэатральнае жыццё У сваіх творах пісьменнік добра выяўляў народнае жыццё, народны характар у нейкай меры нацыянальную ментальнасць беларуса. Л. Родзевіч паходзіў з паўночна-заходняй Меншчыны, ваколіцы мястэчак Крайск, Даўгінава, краю дзе беларуская этнічная стыхія, перадусім моўная, была трывалая, глыбока захаваная. Пісьменнік зачарпнуў яе, нечапаную, усёй душой, як толькі можа зачарпнуць яе мастак слова. Мова Родзевічавых твораў, у тым ліку сцэнічных — арганічная, сакавітая, адметная метафарычнай сімволікай. Краснае пісьменніцтва не было адной-адзінай жарсцю Родзевіча-літаратара, чалавека.

Натуру рамантычную, узвышаную, парывістую (дастаткова праглядзець два-тры яго творы) Л. Родзевіча, зірнуць на яго фотапартрэт, каб прачытаць гэтыя рысы) рана падхапіў віхор сусветных падзей. Да таго ж жыў у эпоху пераломную, бурную. Рана стаў шукаць шлях да волі Айчыны, свабоды чалавека-рабачая. Шукаў мэтанакіравана, дзейсна. Спачатку праз заснаванне братамі Канчэўскімі, Я. Лагіновічам, А. Капуцкім Беларускай рэвалюцыйнай арганізацыі, яе органа — газеты «Наша будучына». Ператварылі яе ў паважную грамадскую трыбуну Заходняй Беларусі, якая воляю дужых суседзяў набыла статус каланіяльнай ўскраіны адроджанай Польшчы. Выдаўцы «Нашай будучыні» ставілі задачу будзіць у беларускім народзе веру ў свае сілы і насуперак трагічнаму падзелу беларускай зямлі паміж дужымі дзяржавамі-суседзямі не губляць надзеі на вызваленне. «Па-за пагранічнымі капцамі», «Будзьма сільнымі», «Веру ў будучыню» — загалоўкі перадавіц, што належалі пераважна пяру фактычнага рэдактара газеты Л. Родзевіча. Натура жывая, дзейсная, Л. Родзевіч неаглядна ўцягнуўся ў практычную палітыку. БРА мела сувязі не толькі ў Вільні, але і на правінцыі, паціху лучыла людзей ў канспіратыўныя арганізацыі. Кіраўніцтва БРА думала аб пашырэнні руху супраць паняволіўшых Беларусь чужых рэжымаў. Перадусім польскага. Спачатку Л. Родзевічу ўдаецца паспяхова спалучыць адначасовае служэнне грамадзянскаму ідэалу Беларусі пяром пісьменніка, журналіста і практычнай працай палітыка. Але гэта да пэўнага часу, да пэўнай мяжы. Далей Л. Родзевічу давялося рабіць выбар, свядома, не спантанна, і ён аказаўся фатальным, хоць, здавалася, вядзе якраз да здзяйснення найвышэйшага ідэалу — свабоды Айчыны-Беларусі, беларускага рабачая і ўсяго чалавецтва. А выбар на карысць камуністычнай ідэі Л. Родзевіча зрабіў восеняй 1923 г., калі дзеля сілаў супраціўлення польскаму рэжыму БРА злілася з толькі што утворанай у рамках Кампартыі Польшчы КПЗБ. Кіраўнікі БРА на парытэтных пачатках увайшлі ў кіраўніцтва Кампартыі Заходняй Беларусі. Л. Родзевіч пасля непрацяглага ўзначальвання Гродзенскага акружкама КПЗБ стаў рэдактарам асноўнага органа Кампартыі Заходняй Беларусі — газеты «Чырвоны сцяг», а потым і тэарэтычнага яе выдання часопіса «Бальшавік» . Жыццёвы шлях

Л. Родзевіча абарваўся дзесь у 1934-ым, абарваўся трагічна і не на сцежках падпольшчыка, на якіх пісьменнік чуўся дасканала. Рэдактар часопісу «Калоссе» Янка Шутовіч успамінаў, як Родзевіч з'яўляўся з Менску ў Вільню праз зялёную граніцу знешне непазнавальна змененым; апрануты багата, франтавата, рыхцік фартунны дзялок, коміваяжор або нават асоба дыпламатычнага статусу. Сцэнічны вопыт, прыроджаны артыстызм дазвалялі дасканала пераўвасабляцца, у абставінах падпольнай дзейнасці ў Польшчы.

Мастацкая літаратура, плённая публіцыстыка, такая актуальная на пачатку 20-х., адыходзіць на другі план. З сярэдзіны 1923 г. адметныя публіцыстычныя эцюды, вершы, п'есы-феерыі Л. Родзевіча начыста знікаюць са старонак заходнебеларускай перыёдыкі. Занепадае праца ў заснаванай яго руплівасцю Беларускай драматычнай майстэрні ў Вільні, хоць статус яе пасля доўгай чыноўніцкай важданіны нарэшце зацвярджаецца і, здаецца, адкрываецца прастора для сталай дзейнасці.

Храналагічны агляд творчасці Л. Родзевіча выразна сведчыць аб тым, што асноўныя здабыткі пісьменніка прыпадаюць на ў прынцыпе невялікі адрэзак часу — канец 10-х — пачатак 20-х гадоў. Найбольш прадуктыўныя гады, мяркуючы па частаце публікацый,-1920 — 1923-ці.

Вясну-лета напачатку да пачатку ліпеня 1920 г. Радзевічавы творы найчасцей з'яўляюцца на старонках адзінай на той час штодзённай беларускай газеты, выдаванай Язэпам Лёсіка м «Беларусь». Услед за «жартам ў адной дзеі» «Пасланцом» у газэце друкуецца каля дзесятка драматызаваных апавяданняў Л Родзевіча. Сярод іх «Калыханка» і «Сказ аб гуслях», дарэчы, апошні прысвечаны Купале, — творы, у якіх па-філасофску, праз сімволіку і алегорыю асэнсоўваецца драматычны час, трагічныя, паводле вынікаў, падзеі на Беларусі, дратаванай сусветнай вайной, бясконцымі акупацыямі. У «Калыханцы» алегорыя набывае налёт містычнага. Са «Сказу аб гуслях» паўстае вобраз краіны, зведаўшай жудасны катаклізм, блізкі да касмічнай катастрофы. Размова апосталаў Пятра і Паўла, якія наведалі абяздоленую вайною зямлю з адзіным пазасталым у жыцці жывых яе жыхаром, крывічом-гусляром, па-філасофску змястоўная, мае жыццесцвярджальны падтэкст.

Думаў, не мог не думаць у тыя пераменныя часы драматург Родзевіч пра беларускі тэатр. Ведаў пра ролю тэатра ў грамадзянскім жыцці іншых народаў. У кароткім, эцюднага характару роздуме пра стан беларускай мастацкай сцэны ў перапынках ад адной акупацыі да другой, згадаў пра выдатную ролю ўкраінскага тэатра ў абуджэнні ў народзе пачуцця Бацькаўшчыны, нэнькі Украіны, пра італьянскі тэатр у час аб'яднання Італіі. Бачыў шчырыя памкненні заснавальнікаў «Таварыства беларускай драмы і камеды», але адчуваў у час спектакляў, як не хапае беларускай тэатральнай дружыне яшчэ нечага вельмі важнага. Ведаў, у якіх экстрэмальных па сітуацыі абставінах міжбур'я развіваецца беларускі тэатр. Таму ў роздуме пра яго ў «Беларусі» ад сакавіка 1920 г. не столькі дакор дасведчанага, колькі покліч да ідэалу: «Не чуецца ў цэлым тэатральным калектыве шчырай жыццёдаўчай працы, няма студыявання, я б сказаў над літургічнай асновай нашага народнага тэатра. Няма той глыбіннай свядомасці, што іх святая творчасць ёсць даўно

чаканая справадлівасць для галоднага пакрыўджанага шматмільённага народу…» Па праву сатворцы беларускага тэатру звяртаўся да носьбітаў беларускай тэатральнай культуры: «Ідзіце з тэатрам, гэтай адноўленай батлейкай… ад вёскі да вёскі, ад места да места і апавядайце простым, але агністым словам аб нараджэнні святла, аб трыумфу нашай праўды, аб радасці вызвалення. Працуйце, як на полі перад непагодай, як ратуючы здабытак пры пажары. Працуйце!" І далей цягам развагі: «…Не прасіць і чакаць, а браць і тварыць, — тварыць вечнае, сусветнае, роднае, здаровае».

З лета 1920 г. Л. Радзевіч знікае з беларускага грамадска-культурнага гарызонту. На палітычнай арэне на той час ён яшчэ не ўзнікаў. Як і многія беларускія інтэлегенты, той жа Тарашкевіч, Смоліч, сябра Родзевіча, Уладзімір Жылка, меў малады драматург засцярогу да чарговага вяртання ў Менск бальшавікоў.

Вярнуўшыся пасля таго, як.адхлынула кайзераўская навала, у канцы 1918 і 1919-га. яны паводзілі сябе спецыфічна, гаспадарылі жорстка. У дачыненні да ідэі беларускага Адраджэння, яе прадстаўнікоў паставіліся асабліва непрыязна. На момант магло здасца, што беларускім левым, удзельнікам і прыхільнікам Кастрычніцкага перавароту нарэшце ўдалося атрымаць дазвол ад Масквы на рэалізацыю на ўвесь свет аб'яўленага бальшавікамі права народаў на самавызначэнне. Не паспеў Зміцер Жылуновіч сфармаваць беларускі савецкі ўрад і аб'явіць маніфест аб утварэнні БССР, як пачалося нешта дзіўнае — арышт чальцоў гэтага ўраду. Наркамы працы, асветы, замежных спраў Дыла, Чарнышэвіч, Шантыр апынуліся ў сваёй, «савецкай турме», старшыня ўраду ратаваўся ўцёкамі ў Харкаў у надзеі на нейкую абарону ўкраінскіх камуністаў. Зараз жа быў кінуты новы расклад карт у яўна палітычнай гульні. На месцы БССР утворана Літоўска-Беларуская рэспубліка. Затым быў згорнут і Літ-Бел., дзеля якога быццам бы трэба было аддаць усю ўсходнюю Беларусь пад юрысдыкцыю РСФСР. Пры перадапошнім адыходзе бальшавікоў з Менску як заложнікі былі прыхоплены імі, вывезены ў Смаленск некалькі беларускіх праціўнікаў, між іх Вацлаў Іваноўскі і Ан. Неканда-Трэпка. Намеснік наркама замежных спраў БССР, публіцыст Ф. Шантыр цішком растраляны. З-за аднаго самавітага «буржуазнага» выгляду зняты з цягніка і растраляны адвакат А. Жаба. Дзе быў Л. Радзевіч, да таго, як аб'явіцца ў Вільні, цяжка сказаць. Пэўна нейкі час на правінцыі, у роднай Кур'янаўшчыне, крыху абароненай у сваей безабароннасці лясамі, глухаманню. Дзесь пад канец 1920-га мільгануў у віленскім друку кароткі ўспамін Л. Родзевіча пра памерлага год таму назад Івана Луцкевіча. Памятаваў няўрымслівага адраджэнца з сустрэчы ў Дзісне на прадстауленні трупы Ігната Буйніцкага. Аўгар успамінаў меў 16 год. Цяпер аддаваў пашану адышоўшаму, называў яго археолагам, які «сваёй шчырай, сумленнай працай адкапаў праўду Беларусі, абараніў ад руйнуючага часу, ад шкоднай паняверы, здзеку». На малой радзіме, у вёсцы Задроздзе, заснаваў беларускую школку, хутка закрытую польскай асветнай адміністрацыяй. Дзесь у сярэдзіне 1921 г. Радзевіч азваўся ў неўзабаве забароненай польскімі ўладамі, выдаванай Максімам Гарэцкім «Нашай думцы».

Малая творчая актыўнасць была часовай. Уражанне такое, што Л.Радзевіч пэўны час шукаў грамадскага апірышча, канкрэтнай справы. І знайшоў іх у заснаванні БРА, уласнай газеты сваёй арганізацыі «Наша будучына». Праўда, да таго, як спабіцца на сваю газэту з зімы 1922 г. пад псеўданімам «Сучасны» Л.Родзевіч паказаўся быў у рэдагаванай Францішкам Аляхновічам газэце «Беларускі звон» . Спачатку вершам «Беларускія жанчыны», якія пачыналіся рытарычнымі пытаннямі: «Усёй душой і шчырым сэрцам, хто так родны край кахае? Пекным чынам, цёплым словам хто ў бядзе нас пацяшае?» Пад вершам прысвячэннем Віленскаму беларускаму жаночаму гуртку пазначана месца яго напісання: астрог Лукішкі. Выходзіць, канфлікт пісьменніка з запанавалай у Заходняй Беларусі польскай уладай ужо атрымаў канкрэтныя формы праулення. За што быў менавіта зняволены Л. Родзевіч у Лукішскі астрог, невядома. Патрэбны архіўныя пошукі. У адным з красавіцкіх нумароў «Беларускага звону» за 1922 г. пад крыптанімам Л. Р. надрукавана вершаваная лірычна-пейзажная акварэль Родзевіча «Лявоніха». Праз вобразы народнай міфалогіі паэтычна ўбачыў пісьменнік веснавое абуджэнне зямлі:

Рунь, пралескі доўга мучыў стары свет.
А як сонца напужала, дык збег
У лес схаваўся да свята саракоў,
Потым травень маем вымеце ў роў.
Шум і гам пад рукі Аха узялі,
З печы весела на прызбу павялі.
А на выгане бушуюць бугаі.
Лесавік русалку соча у гаі.
Не сцярпеў нябесны Юр'я ды ўраз
Падцягнуў падол свой ёмка пад пояс,
Весялушкў Лялю крута падхапіў
І на лузе з ёй Лявоніхай паплыў.

Аднак лірычныя замалёўка, пейзажны матыў не былі характэрнай для Родзевіча формай мастакоўскага выказу дачынення да свету. Ужо ў майскіх нумарах «Беларускага звону» 1922 году з'яўляюцца яго вершы моцнага грамадзянскага напалу. У гэтым плане даволі характарны для настрою Родзевіча, яго тагачаснай пазіцыі верш «Да маладых»:

Беларус малады, што гальчаеш бядак,
Паўстань, выдзі з хваль залацістых,
Зварухні, склiч, з'яднай, як ты, гэткіх ваяк,
Чые рукі ў знаках мазалістых,
І нясіце моц пушч, разгул бур веснавых,
Праўд і песень нягаданых, новых.
Узгарэце мяжу між сваіх і чужых, -
Знаймо вольных, працоўных, здаровых…

У вершаваных радках Л.Родзевіча вельмі выразна чытаюцца не толькі погляды аўтара, але і сама праграма Беларускай рэвалюцыйнай арганізацыі, яе тактыка, звернутая перадусім да сялянства. Пры ўсім напружанні становішча і адэкватнага яму самаадчування заангажаваны ў вызваленчы рух паэт яшчэ не ўпадае ў сваіх літаратурных выказваннях у голы сацыялагізм Ён шукае выхаду сваіх адчуванняў, перажыванняў у формах, асвечаных традыцыяй. «Брат мой мілы! — звяртаецца Родзевіч да свайго заходнебеларускага сучасніка. — Ты хмарней хмары, чарней зямлі. Вочы поўныя слёз, трывожна перабягаюць даль. Бы блудзіш! Брат мой мілы! Падарожны нашых непраходных пушч. Грозныя буры цябе аглушылі. Халодная цемра асляпіла. Знемагла цябе галодная бяда. Які ліхадзей адважыўся кідаць камяні і так параніў тваё цела!

...Спыніся, брат мой, прысядзь на прызьбе майй хаты вясковай, пахілай і дай пачуць сваё слова аб мудрай задуме засеянага поля, аб прарочым гомане векавечнага бору, аб нашым блізкім, родным...»

Творам, фрагмент якога тут прыведзены, заканчвалася першая кніжка Л. Родзевіча, выдадзеная ў Вільні ў 1922 годзе пад назовам «Беларусь».

Але спачатку колькі слоў пра дзве п’есы, апублікаваныя Л. Родзевічам у тым жа 1922-ім. Як з воддалі часу, дык «драматычныя сцэны» (так акрэслены жанр) «Досвіткаў», падпісаных псеўданімам «Лявон Жыцень» — ці не адзін з самых лепшых, наймацнейшых твораў пісьменніка. Вельмі шырокіх мастацкіх абагульненняў дамогся ў «Досвітках» аўтар. Вельмі змястоўная, ёмістая сімволіка яго вобразаў. Дзеянне п’есы адбываецца ў адзінай ацалелай на руінах вёскі хаце. Характэрныя для сімволіка-рамантычнай драмы абставіны дзеяння: спачатку хату асвятляе зарава пажару; пажар тухне і з другога боку ўсходзіць сонца; час ад часу чуваць далёкі грукат гармат. Вобразы пададзены абагулена, як то: Гаспадар, Селянін, Ярміла, Кволы чалавек, Вар’ятка, Кабеціна, Прабуджаны, Вучыцель, Голас з Грамады... Маналогі, рэплікі,што сыходзяць ад дзейных асоб, перадаюць драму цэлага народа, кінутага на шляхах вайны, у яе пажар, бездань пакут. Рэч вельмі драматычная па сваёй структуры і вельмі беларуская па жыццёва-мастацкай сутнасці. Развіваючы жорсткую па безыходнасці жыццёвую калізію, мастак пакідае ў ёй надзею на паўстанне з руінаў народнага духу, на адраджэнне жыцця. Аптымізм вылучае і своеасаблівая п’еса п’еса-феерыя Л.Родзевіча «На Каляды» змешчаная ў «Нашай будучыне». Акрамя рэалістычных вобразаў Максіма і Аксаны ў творы дзейнічаюць міфалагічныя вобразы Марозу, Гаўры, а таксама вобразы ўзятыя з каляндарнай абраднасці — Важак калядоўшчыкаў, Варажбітка, Важаты мядзьведзя. Феерыя поўніцца дасціпным гумарам, характарызуецца майстэрскім развіццём дзеяння, арганічным народным каларытам, уласцівым лепшым рэчам пісьменніка.

Новы 1923 год Л. Родзевіч сустракаў верай у лепшую долю для Беларускай стараны. Спадзяванні, веру сваю выказаў непасрэдна у непрэтэнцыёзным вершыку з нагоды надыходу Новага году:

Год стары занямог. Пойдзем праз парог
К новаму году.
Хай жа гэты год добры умалот
І між людзьмі згоду
Прынясець ён нам ды хай будзе сам
Крывічам світаннем.
Хай у гэты год мы, вялікі народ,
Злучымся і станем
Шчыльнаю сцяною за край родны свой!

Дамінантай, як бачым, застаецца для Родзевіча нацыянальная ідэя. З глыбокага ўсведамлення трагізму народа, чыя бацькаўшчына аказалася падзеленая дзяржаўнымі межамі суседзяў, народу, што стаўся нявольнікам на сваёй зямлі, пачынаўся цыкл вершаў Л. Родзевіча, аб’яднаных у кнізе «Беларусь»:

У гразь утоптана ляжыш,
Сыходзіш кроўю свежых ран,
Няволі неўразумелай крыж
І непрагляднасці туман —
Крыніца страшных мук тваіх,
Мук затаёных і нямых.

У зачыне-звароце да маці-Радзімы — і мальба і максімалісцкі заклік-клятва «Хай загінем мы і ўсё на свеце, толькі дай голас, мая Белая Русь!» Паэт амаль не прыбягае да медытацыі. Паводка пачуццяў дыктуе яму імклівы рытм, ламаны вершаваны радок. Пераважвае імпрэсія. Сучаснасць Беларусі, намаляваная — паэтам, намаляваная паэтам ў драматычна-трагічных танах, зрэдку перадаецца і ў эпічнай інтанацыі:

«Заміж неба — клетка каваная з сталі,
А замест світання — зарыва пажараў».

У паэтычнай выяве дамінуе сімволіка вобразаў, тропаў. З дзевятага раздзельчыка, так структуралізавана кніга, які пачынаецца словамі: «Ідзе ў цьме, ў пакрыўджанай грамадзе, яднаючы ў паток веснавы дзяцей катаваных рабоў» набірае выяўленую яскравасць выява вызваленчага руху. Родзевіч вяшчае яму перамогу, прарочыць Свята на беларускай зямлі. Звязвае іх з барацьбой народа пад сцягам Пагоні — ездака з чырвоным шчытом. Пры . паэтычнай выяве вызваленчага руху прыбягае да цытацыі «Беларускай марсельезы», песні «Ад веку мы спалі» і іншых песняў:

«Беларусь, не плач!
Беларусь, не журбуй!
Чуеш, Твой баян вяшчуе,
Чуеш, твой яздок бунтуе
вёскі, вёскі, гарады.
Дзе шчыт яго чырванее,
дык стары там маладзее,
а сталее малады:
Мы дружна паўстанем з касамі, з сярпамі
Прагонім з зямлі палачоў».

Зварот да радзімы-Беларусі набывае адкрытую публіцыстычную форму метафарыка-паэтычнага выказвання — выразнасць,сэнсавую ёмістасць:

Працуй, Беларусь,
На хвалу для людзей
Кажы, Беларусь,
Сваю праўду смялей.
Удар, Беларусь,
У вечавы гулкі звон.
Узгары, Беларусь,
Свой забыты загон.

Паэт ад раздзела да раздзела набліжаецца да мастацкай выявы апафеозу перамогі, своеасаблівасці беларускага руху, убачанага як рэальнасць, вобразна ўсведамляе яго ў раздзеле «Адраджэнне».

Сучаснікі Л. Родзевіча выхад яго паэтычнай кніжкі сустрэлі вельмі прыязна. Некалькі літаратараў адразу азваліся на яе рэцэнзіямі. Ігнат Канчэўскі стрымана, а ІгнатДварчанін, УладзімірЖылка і ТамашГрыб гаварылі пра паэзію Л. Родзевіча не толькі як пра адметную літаратурную з’яву, а і як творчасць, што «што дае новы напрамак у беларускай паэзіі. (Т. Грыб). У разгорнутай рэцэнзіі У. Жылкі, змешчанай у часопісе беларускага студэнцтва ў Празе «Перавясла», добра перададзена ідаалагічна-псіхалагічны кантэкст успрыняцця кнігі Родзевіча адраджэнскай моладдзю пачатку 20-х гадоў. «Невялікая кніжыца ў 32 старонкі, — пісаў У. Жылка, — месціць у сабе цыкл вершаў на блізкую і такую важную для адраджоных братоў тэмы — выяўленне істоты Беларусі, тых вартасцей, якія нясе з сабою беларускі рух. Увесь захоплены паводкай Адраджэння паэт, глыбокі думаннік, мучыцца жаданнем выявіць любы бясконца дарагі аблік, дазнацца «тайну тайн яе», той новай праўды якая можа шмат дзеля каго якіх не відна, але якую адчувае песняр сваёй творчай інтуіцыяй». І ў заключэнне паэт літасцю Божай, у сённяшнім нашым разуменні класік, адзначыў»: «Беларусь» Родзевіча варта сур’ёзнай увагі і дае нам права аднесці аўтара да ліку найбольш выдатных нашых песняроў і ідыёлагаў». Апошняе слова сказанае У. Жылкам было невыпадкова. Ён ведаў аб выдатнай ролі свайго сябра ў арганізацыі і кіраўніцтве БРА.

З лета 1923 г. публікацыі Л. Родзевіча нечакана зусім знікаюць са старонак перыядычнага друку Заходняй Беларусі. На вялікі жаль, надрукаваныя пісьменнікам п’есы «На досьвітку» і «На Каляды’; былі апошнімі творамі, што выйшлі з-пад пяра глыбока самабытнага і менавіта драмаіурпчнага па прыродзе сваёй таленту. Нараджаўся новы Леапольд Родзевіч, палітык-практык. З восені 1923 г. пісьменнік — слухач Камуністычнага універсітэту народных меншасцяў Захаду ў Маскве. Замест старых літаратурных псеўданімаў «Лявон Жыцень «, «Р.Юргілевіч», «Сучасны» ён абірае сабе новы — «Сталевіч». Як і А.Сталевіч падпісвае актуальныя для камуністычнага руху артыкулы і брашуры, а адназначна лёс, кон дапісваюць апошнія старонкі драмы жыцця Рамантыка і Змагара.

*1997*

# Тамаш Грыб — рыцар беларускай свабоды

> Арганізаваны і сябе сьвядомы народ ёсць нацыя. Найбольш пашыранаю формаю самаарганізацыі народа з'яўляецца дзяржава. …Узнікла прыродным шляхам з інстынкту сябезахавання, як спосаб забеспячэння найбольшае мажлівасці салідарыстычных узаемаадносін паміж людзьмі і народамі. У сучаснасці дзяржава ёсць няўхільная форма арганізацыі людскога супольства. Народ як этнічная супольнасць толькі праз сваю самастойную дзяржаву дасягае ўзвышша поўнага і ўсебаковага развіцця і наяўнага выяўлення свае самаістае індывідуальнасці і забяспечвае сабе права міжнароднага прызнання і належнае праўнае становішча ў міжнародных узаемаадносінах.
>
> *Тамаш Грыб*
> *(З рукапісу «На два франты»)*

Беларускую свабоду Тамаш Грыб бачыў не здалёк як прыгожы і звабны лятунак. Ён шчасліва адчуў на сабе яе жыватворны подых. Сам удзельнічаў у закладзінах шляху, па якім яна павінна была прыйсці да яго народу. Да беларускага вызваленчага руху далучыўся маладым хлопцам, праўда, хутка ўзмужнелым за тры гады вайны, фронту[1]. Да беларускае грамадскае працы прыйшоў проста з акопаў у салдацкім шынялі. Адразу стаў дзейсны, браў чынны ўдзел у з'ездах беларусаў-вайскоўцаў увосень 1917 г. З фронту, з-пад Рыгі, у снежні 1917 г. прыбыў Т. Грыб у Менск і на Першы Усебеларускі з'езд, на які сабраліся прадстаўнікі з усіх этнічных беларускіх земляў. Пасля гвалтоўнага разгону Усебеларускага сходу аблвыканкамзапам, выбраны яго ўдзельнікамі ў Выканаўчы савет з'езду, Т. Грыб разам з кагортай маладых адраджэнцаў рупіцца аб пабудове беларускай дэмакратычнай дзяржаўнасці. Ён бярэ дзейсны ўдзел ва ўсіх арганізацыйных і законатворчых актах Беларускай Народнай Рэспублікі, праклямаванай 25 сакавіка 1918 г., як народны сакратар земляробства ўваходзіць у склад Сакратарыяту БНР, фактычна першага беларускага ўраду.

У студзені 1918 г. на Трэцім Усерасейскім з'ездзе Саветаў у Маскве пратэстуе супраць незаконнага разгону менскімі бальшавікамі Усебеларускага з'езду і праектаванага ў сувязі з Брэцкім мірам падзелу Беларусі. З пачатку новага, 1919 г. выдае ў Вільні газету «Грамадзянін», пазначаную як орган левае фракцыі Беларускае сацыялістычнае грамады. На яе старонках актуалізуе праблему палітычнай свабоды як перадумовы станаўлення прагрэсіўнага грамадска-палітычнага ладу, выступае супроць манапалізацыі адной партыяй сацыялістычнай ідэі. Крытычна асвятляе палітычныя падзеі ў Менску,

[1] У армію, на фронт трапіў студэнтам Пецярбургскага нейра-псіхалагічнага інстытута акадэміка Паўлава.

заклікае масы да самаарганізавання, патрабуе склікаць Другі Усебеларускі з'езд свабодна выбраных дэпутатаў.

Пасля таго як Вільню ў красавіку 1919 г. займаюць легіёны Пілсудскага, перабіраецца ў Горадню, дзе, праўда, ужо на нацыянальна-культурным узроўні, трывала яшчэ беларуская дзяржаўна-незалежніцкая акцыя. Хутка, аднак, трапляе пад арышт, знешнім повадам якога было яго дачыненне да рэдакцыі газеты «Родны край». Газету закрылі, а Т. Грыбу інкрымінавалі аўтарства перадавіцы, у якой згледзелі ўкрыты заклік да ўзброенага супраціўлення польскай уладзе. Толькі на зыходзе восені ўдалося выбрацца з Горадзенскага астрога. З канца 1919 г. Т. Грыб зноў дзейсны, на гэты раз у Менску. З П. Бадуновай, Яз. Мамонькам, А. Трахімавым і інш. сябрамі па Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў, якая была на той час найбольш палітычна арганізаванай сілай на Беларусі, засноўвае Беларускі паўстанцкі камітэт, куды ўваходзяць прадстаўнікі розных партый левай арыентацыі. Польскай контрразведцы ўдаецца апярэдзіць выступленне падполля і звязаных з ім партызанскіх дружынаў на правінцыі. Тамаш Грыб разам з іншымі членамі БПК трапляе ў рукі дэфензівы і апынаецца ў канцлагеры Домбэ, што пад Кракавам. Толькі праз адзінаццаць месяцаў старшыні Беларускага нацыянальнага камітэту ў Варшаве Лявону Дубейкаўскаму ўдаецца выбавіць яго з нявол ды пераправіць у Коўна, дзе знайшоў часовы прытулак урад БНР. У малафарматным часопісе «Сялянская доля» — выходзіў у Коўне з чэрвеня 1921 г. — найчасцей пад псеўданімам Т. Глеба з'яўляюцца артыкулы Т. Грыба, прысвечаныя палітычнай сітуацыі на Беларусі і вакол яе, актуальным пытанням жыцця беларускага сялянства, нацыянальна-адраджэнскай ідэі. Меў дачыненне Т. Грыб і да выдання цэлай серыі брашураў, у асноўным скіраваных супроць польскай экспансіі на Беларусі. Яны, як і часопіс «Сялянская доля», патаемна перапраўляліся ў Заходнюю Беларусь, вядома, не без думкі з часам падняць яе на ўзброенае змаганне з заваёўнікамі.

Першы раз Т. Грыб трапіў у Прагу ўвосень 1921 г. як удзельнік Беларускай нацыянальна-палітычнай нарады. Прадстаўляў на яе паседжаннях БПСР, прыняў удзел у дыскусіі па кардынальных пытаннях беларускага руху, яго стратэгіі і тактыкі, выпрацоўцы разгорнутых рэвалюцый. У 1922 г. прыехаў у сталіцу братніх чэхаў і славакаў на вучобу ў Карлавым універсітэце, не ведаючы, што яму наканавана будзе застацца тут да канца сваіх дзён.

Паўсталая на руінах Аўстра-Венгерскай імперыі незалежная Чэхаславаччына будавалася на трывалых дэмакратычных падвалінах. У яе грамадска-палітычным жыцці атрымалі сталую прапіску розныя ідэалагічныя кірункі, прадстаўленыя палітычнымі партыямі, сярод якіх найбольш уплывовыя былі нацыянальныя дэмакраты і сацыял-дэмакраты. Даволі паслядоўна набірала рост, як па сённяшнім азначэнні яе, рынкавая эканоміка. Свабода думкі, непарушна замацаваныя ў Канстытуцыі, спрыяла духоўнаму развіццю абедзвюх нацыяў. Сваім першым прэзідэнтам чэхі і славакі выбралі вядомага і за межамі іх краіны вучонага-славіста, гісторыка Тамаша Масарыка. Краіна вяла міралюбную, добрасуседскую знешнюю палітыку.

Урад Чэхаславакіі адным з першых прызнаў дэ-юрэ Беларускую Народную Рэспубліку, а ў скрутны для яе час, пасля разрыву дагавору з Літвой, даў прытулак беларускаму эміграцыйнаму ўраду. З разуменнем і спагадай да беларускага адраджэнска-вызвольнага руху ставіўся прэм'ер-міністр Эдвар Бенеш, выпускнік гістарычнага факультэта Санкт-Пецярбургскага універсітэта, сябар Ул. Пічэты, якому ў час афіцыйнага візіту ў Маскву выпадкова ўдалося вырваць з канцлагера беларускага гісторыка. Чэхаславацкі ўрад вылучаў для студэнтаў-беларусаў, якія наплывалі ў Прагу з падпольскай Заходняй Беларусі і Латвіі, пяцьдзесят дзяржаўных стыпендый. Мела сціплую матэрыяльную падтрымку і Беларуская рада. І ўсё ж пры ўсёй спагадзе і мажлівай падтрымцы не была Злата Прага адно светлым берагам для выгнанцаў з Беларусі, палюбоўна падзеленай між сабой адроджанай Польшчай і Савецкай Расіяй. Эмігранцкае жыццё было нялёгкім. Над невялікай беларускай калоніяй у Чэхаславаччыне веялі розныя вятры. Непрыязна глядзелі на беларускі вызвольны рух, па магчымасці шкодзілі яму паасобныя рускія эмігранты, адэпты «единой и неделимой». Актыўна вялі агітацыю сярод моладзі бачныя і нябачныя людзі СССР. У іх былі свае аргументы, козыры: беларусізацыя на ўсходзе, узбуйненне БССР, Беларускі дзяржаўны універсітэт у Менску, Інбелкульт, вялікая сетка беларускіх школ, аддадзеная сялянам зямля. Паміж студэнтамі-беларусамі хутка ўзнікла нябачная ідэалагічная мяжа. Знешне яна выявілася ў падзеле іх на будучых грамадзянаў Заходняй Беларусі (БНР) і грамадзянаў БССР, а ў практычным жыцці скончылася трагедыямі, паламанымі лёсамі.

Т. Грыб на працягу і да канца сваіх няпоўных шаснаццаці гадоў, пражытых у Празе, адназначна заставаўся незалежнікам, сацыялістам-рэвалюцыянерам. Беларускі грамадска-палітычны дзяяч, што называецца, з парога не прыняў манапалізацыі бальшавікамі палітычнай улады, абсалютызацыі імі тэзы аб пралетарскай дыктатуры і поўнага ігнаравання грамадзянскіх свабодаў. Бачыў у гэтым просты шлях да паразы рэвалюцыі, прафанацыі самой сацыялістычнай ідэі.

Пасля арыштаў на пачатку 20-х гг. у Савецкай Беларусі беларускіх эсэраў і афіцыйнай самаліквідацыі БПСР у 1924г. Т. Грыб засноўвае замежнае бюро Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў, выдае яе Бюлетэнь. Усяго выйшла восем даволі ёмістых фаліянтаў, надрукаваных на шапірографе.

Т. Грыб імкнецца аб'яднаць беларускае пражскае студэнцтва на грунце нацыянальна-адраджэнскай ідэі, культурнай працы. У 1925 г. выступае на сходзе моладзі з тэзай пра заснаванне ў Празе культурна-грамадскага таварыства імя Ф. Скарыны, і такое таварыства набывае неўзабаве статутныя правы. У гэты час Т. Грыб дзейсны і ў аб'яднанні беларускіх студэнцкіх арганізацый як яго віцэ-старшыня. Разам з Вячаславам Лаўскім, Адольфам Клімовічам, Васілём Русаком і інш. насуперак перашкодам, чыненым з боку расейскіх і польскіх студэнцкіх суполак, дамагаецца прыняцця АБСА ў Міжнародную студэнцкую канфедэрацыю (СІЕ). Нявдзейсненымі з-за ідэалагічнай канфрантацыі ў асяроддзі беларускай інтэлігенцыі ў эміграцыі засталіся ягоныя ініцыятыва і захады адкрыць у Празе Беларускі педагагічны

інстытут на ўзор тых, якія мелі ў замежжы расейцы і ўкраінцы. На дапамогу ж айчынных чыннікаў у такой справе разлічваць не даводзілася. Праз дзяржаўна-закулісных людзей у Менску ды саветніка савецкага пасольства ў Польшчы А. Ульянава ўвосень 1925 г. урад БНР самаліквідаваўся, а члены яго падаліся ў Савецкую Беларусь з надзеяй прыняць удзел у будаванні Беларускага Дому. Ехалі на Усход, скончыўшы пражскія вучэльні, і маладыя беларускія аграномы, інжынеры, лекары, адны з пераканання і веры, што там будуецца новы свет, іншыя з-за скрутнага становішча — забароны польскімі ўладамі звароту на бацькаўшчыну, у Заходнюю Беларусь. Атрымаў запросіны прыехаць у Менск з абяцаннем «служба будзе» і Тамаш Грыб. Запрашэнне, праўда, было прыватным, зыходзіла ад былой жонкі, сяброўкі па БПСР і сардэчна неабыякавай да яго, Тамаша, Палуты Бадуновай. Прычынай наведаць Менск сталася акадэмічная канферэнцыя, прызначаная Інбелкультам на лістапад 1926 г. За лістом, на які Тамаш не спяшаўся адказваць, прыйшла тэлеграма. На яе адказаў проста і не надта ветліва: «Пакіньце займацца дурніцай». Ці стаяла за прыватнымі запросінамі прызнанага-непрызнанага беларускага дзеяча нейкая зацікаўленая дзяржаўная структура, сёння гадаць не даводзіцца. Важна іншае: ліст-адказ Тамаша Грыба, перлюстраваны ў Менску ОГПУ, выяўляе палітычныя погляды, пазіцыю аўтара, і на сённяшні дзень, мабыць, самае галоўнае — канкрэтна сведчыць пра ўмовы яго творчай працы, яе праблематыку, абяцае спадчыну. Што казаць, не была Злата Прага для Тамаша Грыба райскім кутком. Пра гэта піша ён нязмушана, без наўмыснага фальшу, якога не трываў ні ў чым: «…Праўда, я гэтага не хаваю, тут цяжка жыць, скрутнае ёсць маё матэрыяльнае становішча. Цярплю сухоўрыцу. Але ці вынікае з гэтага, што я павінен зрачыся свайго рэвалюцыйнага сацыялістычнага светапогляду! Безумоўна, не. Я знаходжу для сябе лепшым памерці тут галоднай смерцю, але ратаваць сваю чалавечую годнасць…» Ягоная грамадская маральна-этычная пазіцыя выяўляецца ў словах «стаю пры старым штандары». Далей Т. Грыб піша: «Я толькі тады зраблю так, як ты радзіш, -— звярнуся за візай ў радавае консульства ў Празе, калі ўлада дасць магчымасць легальна працаваць мне ў БССР, інакш кажучы, калі Урад БССР легалізуе Б.П.С.Р… А звяртацца цяпер, калі Урад праследуе рэвалюцыйна-сацыялістычную думку, калі ён здзяйсняе ліквідацыю беларускіх сацыялістаў-рэвалюцыянераў, стварае атмасферу ганебнага рэнегацтва, рознымі ашуканствамі дэмаралізуе інтэлігенцыю, робіць злачынствы над працоўным народам, цяпер звярнуцца ў радавы кансулат за візай, каб ехаць у Менск на «службу», я не магу». І вось, нарэшце, тое, што асабліва цікава сёння: «…Я буду працаваць тут хоць чорнарабочым, ні на адну хвілю не пакідаючы сваей навуковай і літаратурна-філасофскай працы. Я пішу сур’ёзную працу. Мушу яе закончыць. Колькі на гэта спатрэбіцца часу, не ведаю. Мушу зарабляць на пражыццё. Гэта шмат часу адбірае. Але пакуль яшчэ сілы, працую». І далей, гэтак і не перайшоўшы на нейкі інтымнейшы тон, бо пісаў жанчыне, з якой даўно пачціва і пэўна разышліся, паўтараў, удакладняў: «Каб правідлова ты мяне зразумела ды пакінула займацца рознымі дурніцамі, скажу табе

яшчэ раз: для маёй навуковай і літаратурна-філасофскай працы, якую я цяпер пішу, зарабляючы сабе на жыццё фізічнай працай, я мушу заставацца тут, у Эўропе. Магчыма, паеду ў Францыю, а можа і ў Амэрыку, каб там знайсці падхадзячую працу, бо тут яе цяжка знайсці, шмат безработных. Але ні ў Менск, ні ў Вільню пры існуючых абставінах не паеду. Крывіць душой, падлыжнікам быць я не магу».

Пісаў усё гэта Т. Грыб будучы дактарантам, завяршаючы філасофскі факультэт Пражскага універсітэта. Атрымаўшы дыплом доктара філасофіі, пасады, якая б забяспечвала надзейна і матэрыяльна, не атрымаў. Тэмай яго доктарскай была праблема нацыі: гістарычная традыцыя, сацыяльна-эканамічная структура, культура, менталітэт. Кіраваўся думкай навукова абгрунтаваць аб’ектаўна пазітыўнае значэнне дзяржаўнасці, незалежнасці для вытворчых і духоўных сілаў беларускага народа.

Удалося стварыць навукова-даследчы кабінет, бібліятэку пры ім і распачаць складанне універсальнай бібліяграфіі па беларусазнаўству.

У 1934 г. у Празе памірае найстарэйшы беларускі працаўнік, эсэр, які з часоў рэвалюцыі 1905—1907 гг. знаходзіўся тут як палітэмігрант М.Вяршынін. Ён першы спрычыніўся да закладкі ў Чэхаславаччыне беларускай грамадска-палітычнай і культурнай пляцоўкі, у тым ліку Беларускага замежнага архіва пры падтрымцы чэхаславацкага ўраду, а, значыць, на дзяржаўнай аснове. Замяніўшы старэйшага таварыша, Т. Грыб працягваў камплектацыю матэрыялаў і дакументаў беларускага руху, займаўся ціхай справай для будучыні. Адначасна плённа супрацоўнічаў у часопісе «Iskry Skaryny»[1] і органе маладой беларускай сацыялістычнай думкі, як ён самарэпрэзентаваўся, віленскім часопісе «Золак», дзе публікаваў матэрыялы па гісторыі Беларусі і гісторыі яе грамадскай думкі. Гэтак, як у 20-я гг., крытычна аналізаваў станаўленне палітычнай сістэмы ў СССР, нацыянальную палітыку бальшавікоў, так з неаслабнай увагаю і трывогаю сочыць за працэсам, які нарастае на адной шостай планеты ды ва ўсім свеце ў 30-я гг. Калектывізацыя, пачатак масавых рэпрэсій, прыход у Германіі да ўлады нацыстаў — усё станавілася прадметам роздуму і аналітычных літаратурна-філасофскіх высноў сумленных, прынцыповых аўтараў. Т. Грыб гэтым часам зближаецца з лідарам расейскіх сацыялістаў-рэвалюцыянераў Віктарам Чарновым, перакладае ягоную кнігу «Сацыялізм і дэмакратыя». Паводле прызнання Чарнова, лідар беларускіх эсэраў робіць на яго моцнае ўражанне як чалавек высокай этыкі і палітык філасофскага складу мыслення. Стары расейскі рэвалюцыянер прызнаецца, што менавіта Т. Грыб дапамог яму асэнсаваць адну з найістотнейшых памылак расейскага сацыялістычна-рэвалюцыйнага руху ў мінулым — няздольнасць рускіх эсэраў убачыць, акрамя расейскага, іншыя народы імперыі.

Беларускі культурна-асветны дзяяч з даваеннай Латвіі С.П. Сахараў на падставе асабістага знаёмства з Тамашом Грыбам успамінаў яго як чалавека ветлівага, мяккага і адначасна цвёрдага ў сваіх перакананнях. Не быў

[1] Дарэчы, выказаў цікавую версію што да генезісу «Пагоні».

ён, Тамаш Грыб, палітык, змагар-рэвалюцыянер, навуковец літасцю Божай, чалавекам з сэрцам, закутым у панцыр, а быў верны найвялікшай ідэі — свабодзе свайго народа і ўсяго чалавецтва. Заяўляючы аб прынцыповым непрыняцці несвабоды, дэспатычных рэжымаў, намеры заставацца ў адкрытым, дэмакратычным свеце, часам паддаваўся настальгіі, суму па роднай вёсцы Паляны, старэнькіх бацьках, гатовы быў перабрацца ў Дзвінск, — усё ж бліжэй да мілых сэрцу берагоў. Часам адчайваўся: будзь што будзе і збіраўся вярнуцца на родную Віленшчыну. Заўчасная смерць на сорак трэцім годзе 25 студзеня 1938 г. абарвала творчыя планы і летуценні. Цытаваны ўжо ліст, напісаны больш чым за дзесяць гадоў да смерці, Т. Грыб скончаў словамі: «Я або прыеду ў Менск як вольны грамадзянін, або застануся на ўсё жыццё сваё эмігрантам. Можа быць, хто-небудзь калі-небудзь найдзе мае каштоўныя рукапісы, прачытае, знойдзе магчымасць іх выдаць. Працую для будучых пакаленняў, больш свядомых і чэсных, шчаслівейшых за мяне». Не быў прарокам, але шмат у чым, дзякуючы высакароднасці сэрца і высокаму інтэлекту, не памыляўся. Не памыліўся, у прыватнасці, у меркаваннях пра пабудову сацыялізму на руінах царскага абсалютызму ў адной, асобна ўзятай краіне. Як паказала практыка, гэткі сацыялізм вырадзіўся, ды і не мог не вырадзіцца, у звычайны таталітарызм. Рыцарскае служэнне Тамаша Грыба свабодзе чалавечага духу хай не сягоння, а заўтра, але будзе ацэнена, а творчая спадчына, яна ў асноўным заставалася ў рукапісах, вернутая народу.

*1995*

# 2. ПАЭЗІЯ МАРЫ І ДЗЕЯННЯ

## Скрыўджаная зямля паэта Станіслава Шыманоўскага

Мы цярпліва дзён лепшых
чакалі,
Волі нашай зbліжаецца час.
*С.Шыманоўскі*

Калі спазнаеш жыццёвы і творчы лёс паэта Станіслава Шыманоўскага, родам з-пад вілійскай вёскі Данюшава, што на Смаргоншчыне, міжволі прыходзіць сумны роздум. Колькім жа беларусам не дала расправіць крылаў, праявіць сваёй чалавечай, нацыянальнай існасці наша мачыха-гісторыя. Колькі іх з узвышанай душой, парывамі да святла, грамадскай справы дачасна сышло ў магілу. Маладых, у росквіце сіл, задушаных сацыяльнымі, палітычнымі, грамадскімі нягодамі. Да слова сказаць, Станіслаў Шыманоўскі, пра якога пойдзе гутарка, добра бачыў гістарычныя прычыны беларускай нядолі. У сваіх вершах ён іх называў не раз і даволі дакладна, пэўна. Яму гэта балела.

Няхай даруецца аўтару эцюда пра паэта-земляка, можа, занадта вялікае, як для накіду, адступленне, прызнанне. На імя Станіслава Шыманоўскага ўпершыню натрапіў у старой перыёдыцы, калі працаваў у віленскіх архівах і спецфондах. У газетах «Беларускае жыццё», «Беларусь», часопісе «Рунь» вершы, пазначаныя гэтым новым, невядомым імем, паказаліся адно ў 1920 годзе і неяк хутка зніклі. Разам, дарэчы, з гэтымі выданнямі, што выходзілі ў 1919—1920 гады ў Мінску. Вершы неслі ў сабе вобразы разбуранай і знішчанай толькі што адгрымеўшай вялікай вайной зямлі, вобраз старой, але ўжо паўставалай да новага жыцця Беларусі. Жылі ў іх роздум і боль чалавека з адкрытай на людскія пакуты, чулай душой. Пазней ні ў перыядычным друку Савецкай Беларусі, ні ў заходнебеларускім у Вільні ніводнага твора паэта нельга было знайсці. Зрабіў заяўку на сваё небанальнае слова і знік бясследна.

Праўда, часопісам «Вольная думка», пару нумароў якога выпусціла ў 1929 годзе група студэнтаў Віленскага універсітэта былі надрукаваны вершы Станіслава Шыманоўскага «Голад», «Усход сонца», «Браты, нам зорка засвяці». Але на паверку аказаўся гэта звычайны передрук ранейшага: проста радыкальна настроенай моладзі з гуманітарных факультэтаў заімпанавалі грамадзянскія матывы Шыманоўскага. Слова пры гэтым, хоць бы ў форме маленькай урэзкі, пра самога Шыманоўскага не было сказана. Ніхто не ведаў пра яго лёс. Па-ранейшаму паэт аставаўся крыху таямнічым незнаёмцам і для мяне. Маленькі біяграфічны штрышок (пад двума вершамі Шыманоўскага, апублікаванымі ў свой час у «Беларусі», было азначана месца іх напісання: Беніца, Трабы) даваў няшмат. Адно толькі што лакалізаваў мясціны, звяза-

ныя, потым высветлілася, не столькі з месцам нарадзін паэта, колькі з часовым яго прабываннем там, парабкаваннем. Прызнаюся, гэтыя геаграфічныя каардынаты інтрыгавалі: Беніца і Трабы — заняпалыя мястэчкі маіх родных ваколіц, тут, відаць, блукаў паэт невыпадкова. Мабыць, дзесь тут трэба было шукаць і яго малой радзімы. Але пакуль што больш ніякіх звестак пра Шыманоўскага нідзе не траплялася. Былі толькі перапісаныя ў блакнот яго вершы. Вядома, у іх пачуваліся і асабістыя перажыванні паэта і можна было вычытаць нешта біяграфічнае.

Вельмі выразна, дамінантна выступаў вобраз зруйнаванай зямлі, акрэсленай паэтам як «зніштожанай, скрыуджанай». Адзін з вершаў так і названы ім «Скрыўджаная зямля». Першыя радкі яго гучаць груваստка, як у народным эпасе, запісаным урывачна, з пропускам слоў:

На ўсход і на захад, як можа абняць вока,
Заросшы травой поле, дзікая сенажаць,
Плача вецер і травы высокія шумяць,
Зямля-пустыня цягнецца ў свет далека.
Равамі зрыта тут ўсё глыбока,
Не йдзе аратай сюды дзірван араць,
Нат птушка не садзіцца жыраваць,
І толькі дуб шуміць задумна, адзінока.
А хто ж гэту зямлю так знішчыў, зрабаваў,
Ці тут шумеў патоп, ці бог яе пракляў,
Ці на шырокіх нівах хлеба не радзіла?
Не! Тут праз доўгі чае людская цякла кроў,
З жалезам і агнем тут брат на брата йшоў,
І сіла цёмная крыўду зямлі зрабіла.

Прызнацца, адразу перапісаўшы гэтыя цяжкаватыя на слых строфы, задумаўся: ці варта з іх пачынаць знаёмства чытача з паэтам. Перабіўчаты рытм, глухаватыя асобныя радкі, праўда, нагадвалі-такі агульны малюнак узноўленай у вершы рэчаіснасці — пераараанай снарадамі, траншэямі, пакінутай чалавекам зямлі. І гэта стрымлівала ад таго, каб адразу апусціць верш. Адначасова міжволі прымушала хутчэй прывесці такі твор Станіслава Шыманоўскага, што засведчыў бы яго паэтычныя мажлівасці. Такім творам здаваўся мне напачатку верш, названы «Усход сонца»:

На сіні нябесны прастор
Усходзе бляск сонца крывавы:
Чырвона асвечаны бор,
І поле, і дзікія травы.
І беднае наша сяло
Ў чырвонае памалявана, —
Сонца на небе ўзышло
З-за сініх аблок і тумана.

Таксама над нашай зямлёй,
Зніштожанай, скрыўджанай многа,
Абмытай слязьмі і крывёй,
Узыйдзе дзень міру святога.
На полі хлеб будзе радзіць.
Асвеціць людзей свет навукі,
І будуць свабоднымі жыць
Нашы унукі, праўнукі.

Вядома, быў гэта ў пэўным сэнсе пачаткоўскі верш, са слядамі вучобы ў айчыннай паэзіі. Але нельга адмовіць яму і ў сваёй паэтычнай палітры, энергічным рытме, які парадкаваў стройныя, амаль чаканыя радкі. І, вядома, аўтарскаму адчуванню, бачанню ранішняга сонца — сімвалу спакою, адраджэння жыцця на «зніштожанай, скрыўджанай» зямлі. Псіхалагічна апраўданы ў паэта эпітэт «крывавы» ў дачыненні да бляску сонца: ён арганічна асацыіруецца з агульным малюнкам «абмытай слязьмі і крывёю» зямлі. Ён натуральна ўзнікаў у свядомасці паэта. Асабістыя перажыванні С. Шыманоўскага непасрэдна лучыліся з перажываннямі тысяч людзей, тых жа жыхароў Смаргоншчыны, якія вярталіся на зруйнаваныя вайною сялібы, да родных папялішчаў, зарослых хмызняком гоняў. Невыпадкова прывід голаду, што ўставаў над краем і які, як пазней даведаемся, і выправіў паэта вандраваць у пошуках хлеба, працы па навакольных мястэчках і вёсках, ён імкнецца асэнсаваць, абагуліць у страхатлівым алегарычным вобразе, надаўшы яму антрапалагічныя рысы. Верш так і названы — «Голад».

Худы, страшны ён і высокі,
Быццам з магілы ўсталы здань-шкілет,
У лахманы жабрацкія адзет,
Развеяў вецер плашч яго шырокі.
Песню віхры яму пяюць хаўтурна,
Спавіў туман яго густы, як дым,
Ваўкі галодныя услед ідуць за ім…
Дзе пройдзе ён — там мёртва і пахмурна.
Праз беларускі ён ідзе абшар,
Дзе з даўніх лет пануе здзек, няволя,
Дзе ля чужых прыблуд хлеб родзіць поле,
Яго сядзіба тут, бо ён наш цар.

Побач з тэмай вайны як страшнага няшчасця, што абрушвае на чалавека, народ безліч пакут, у творчасці С. Шыманоўскага ад верша да верша ўсё настойлівей, выразней гучыць матыў лёсу яго радзімы Беларусі. І калі ў вершы «Дудар», перапыняючы маналог народнага музыкі, паэт ўпэўнена кажа:

І з цемнаты, з няволі ўскрэсне
Мая зямля і мой народ, —

то разумееш — гэта знак веры яго, духоўнай апоры ў суровых, часам скрушных умовах жыцця.

Праз гады мне нарэшце ўдалося крыху даведацца пра чалавечы лёс С. Шыманоўскага. Жменьку фактаў з жыцця паэта нечакана знайшоў у Адама Станкевіча, вядомага ў даваеннай Заходняй Беларусі палітычнага і рэлігійнага дзеяча, асветніка. Нарадзіўся С. Шыманоўскі ў Данюшаве ў 1893 годзе. У час першай сусветнай вайны трапіў у Петраград, дзе палітычна ўсвядоміўся ў асяроддзі пецярбургскіх беяарусаў.

Дамоў вярнуўся хворы: даліся ў знакі ваенныя ўмовы, жыццёвая неўладкаванасць. Смаргоншчына была зруйнавана фронтам, супрацьстаяннем тут на працягу трох гадоў двух імперыялістычных дзяржаў. На гэтым беды краю не спыняліся. Савецка-польская вайна ізноў агністай хваляй прайшла па Смаргоншчыне. У той час як сусветная грамадскасць дапамагала моцна пацярпелай ад вайны Бельгіі, ніхто не звяртаў увагі на не менш зруйнаваную Заходнюю Беларусь. Было безвыходна цяжка. Станіслаў Шыманоўскі поўнай мерай дзяліў пакуты сваіх землякоў. Хворы на сухоты, каб не памерці з голаду, ён мусіў падацца з роднага Данюшава ў пошуках кавалка хлеба. Пехатой схадзіў у Мінск, занёс у рэдакцыі беларускіх газет свае вершы, але працы там не было. Газеты выпускалі два-тры энтузіясты, жылі ў беднасці, аб ганарары не было і мовы. Вось і вялі сцежкі паэта ў Беніцу, Трабы, дзе можна было, працуючы за адну яду, трохі трываць. Але гэта былі ўмовы не для хворага паэта, і летам 1920 года, калі яшчэ каціўся па Беларусі вал савецка-польскай вайны, яго не стала. У газеце «Беларусь» ад 7 мая 1920 года быў надрукаваны верш С. Шыманоўскага, у якім паэт выкарыстоўвае стылістыку пацераў. Думаю, твор гэты варты анталагічных выданняў беларускай паэзіі.

Ад вайны братняй, што громам нас трывожа,
Збаў нас, Божа!
І ад прарока, што згубу нам варожа,
Збаў нас, Божа!
Ад бур, што градам б’юць у полі збожжа,
Збаў нас, Божа!
І ад жыцця, каторым жыць народ не можа,
Збаў нас, Божа!
Ад цёмнай сілы, што наш бедны край ніштожа,
Збаў нас, Божа!
І ад суседа, што на рукі путы ўзложа,
Збаў нас, Божа!

Лішне казаць, што верш Шыманоўскага ў віхурныя гады XX стагоддзя гучаў вельмі актуальна. Пагроза ўскладання пут на рукі яго народа была

вельмі рэальнай, з якога боку ні паглядзі. Экскурсы С. Шыманоўскага ў гісторыю Беларусі былі пазначаны досведам апошняга часу, сацыяльным акцэнтам. Ролю рэлігіі на Беларусі, прытым абодвух асноўных канфесій — праваслаўя і каталіцтва, паэт бачыў праз палітычную і сацыяльную прызму. Загану іх практыкі на Беларусі ўгледжваў у слугаванні пануючым станам прыхадняў-валадароў яе. Пры гэтым верш Шыманоўскага набываў публіцыстычную аголенасць і прамату. Не бракавала яму запалу. Прыкладам сказанаму можа быць верш «З нашага жыцця», апублікаваны Я. Лёсікам у «Беларусі» ў студзені 1920 года.

Вось як даўней цярпеў брат мой
Ад чужака, ад пана, —
Слязьмі ўсё гэта і крывёй
Ў гісторыі спісана.
Жыло-было у нас іх шмат,
Як трутняў развялося,
І працаваў на іх мой брат,
І добра ім жылося.
Нязгоду сеялі між нас
У цэркве і касцеле
І ацямніць нас вечны час,
Згубіць народ хацелі.
Да цяжкай працы запраглі
І свет ад нас закрылі,
Каб мы змагацца не маглі,
Рабамі ім служылі.
І ксёндз і поп нам гаварыў,
Што гэта ўсё ад Бога:
Адных панамі ён стварыў,
Другім даў гора многа.
Бог вельмі любіць бедакоў,
Дык вось ім так і трэба:
Цярпець, ачысціцца з грахоў,
Каб увайсці у неба.
Свабоднай Беларусь была
У мінуўшчыне адвеку,
Ў ярмо няволі прывяла
Яе прыблуд апека.
І што ўцярпеў брат родны мой
Ад чужака, ад пана,
Слязьмі ўсё гэта і крывёй
Ў гісторыі спісана.

Тэма нацыянальна-вызваленчая, блізкая і арганічная С. Шыманоўскаму, часта гучыць у яго шырокаабагулена, не набраўшы

адметных вобразных барваў. Часам вырашаецца нейк хапатліва. Ідэя, сілагічная думка яўна дамінуе над паэтычна-мастацкім яе ўвасабленнем. Тым не менш гэта сведчанне часу, сведчанне раскрыцця асобы чалавека, які пачуў сябе часцінкай вялікай супольнасці — народа. Прытым народа, які ўсведамляе сваю слабасць і моц, устае з калень: яму абрыдла быць парабкам у моцных гэтага свету. У вершы «Зорка» С. Шыманоўскі пісаў:

Ускалыхнемся мы, як мора,
А нашу славу, наша гора
На сухі лес памчыць віхор.
Свеціць нам зорка над усходам,
Што будзем вольным мы народам, —
Такі гістор’і прыгавор.
Дамо руку адзін другому,
Не будзем мы служыць нікому,
Не будуць нас кляваць крукі…
Збудуем бацькаўшчыну самі,
І свет лічыцца будзе з намі,
Мы ўжо… не парабкі.

Бываў Станіслаў Шыманоўскі ў сваіх вершах і палемічным, запальчывым думкай і словам. Яму было каго і што бараніць. Перад усім свайго брата-селяніна. І свой народ, у свабоды якога, ведаў, было нямала непрыяцеляў. У вершы «Жыў у няволі доўгі час мой бедны брат…» паэт гаварыў пра свайго сучасніка, беларускага селяніна:

А працы, крыўды, гора знаў ён шмат,
Нявольнік быў, у школе не вучыўся,
Скрыўдзіць і ашукаць яго быў кожны рад,
А ён не раз крывавымі слязьмі заліўся.
Жыцця не ведаў добрага. Чаму ж цяпер
Мой беларус не злодзей і не звер?
Яго ж так доўгі час да гэтага вучылі…
Бо ён людзей па свайму ўмеў цаніць,
Знаў, хто гаворыць праўду, хто маніць,
І ворагі душы яго не ачарнілі.

Шыманоўскі, католік паводле веры бацькоў, пераасэнсоўвае не толькі матыў пацераў і шырэй польскай духоўнай традыцыі, але і рэвалюцыйныя агульначалавечыя матывы і стылістыку. У яго беларускіх вершах часам жыўцом чуваць інтанацыі рэвалюцыйных песень, што былі на слыху ў паэта пад час яго побыту ў Петраградзе. Вось хоць бы ў гэтым фрагменце:

Дарма нас ў няволі трымалі,
Справядлівасці свет не пагас,
Мы цярпліва дзён лепшых чакалі,
Волі нашай збліжаецца час.

Усё свядомае кароткае жыццё Станіслава Шымаоўскага прайшло пад знакам двух падзей — сусветнай вайны з яе суровай, разбуральнай сілай, асабліва бязлітаснай на яго бацькаўшчыне, і абуджэннем беларусаў да актыўнага грамадска-палітычнага жыцця. І калі тэма нацыянальна-патрыятычная, адраджэнская гучала ў вершах паэта ўзнёсла, нават патэтычна, часам за кошт глыбіні, эстэтычнага ўзроўню, то тэма мінулай вайны раскрывалася як ціхае пракляцце яе антычалавечай сутнасці. Элегічнай нотай яна вярталася зноў і зноў у свядомасць Шыманоўскага — чалавека і паэта. Незадоўга да смерці ў тыднёвіку літаратуры, мастацтва і грамадскай думкі «Рунь», рэдагаваным Янкам Купалам, С. Шыманоўскі мог пабачыць, хіба што пабачыў свой адзін з апошніх вершаў.

Скрозь па дарогах, па палёх
На ўсход і на заход,
Як вокам скінуць, на слупох
Заведзен доўгі дрот.
Ці дзень, ці вечар настаець,
Як арфа, як фагот,
Усё іграець і пяець
Бесперастанку дрот.
Ці свет засцелецца імглой
У час асенніх слот,
Вядзе размову сам з сабой
Гудзець-іграець дрот.
Пад неба плыў пажараў дым
І людзі йшлі ў паход,
Вайна грымела, і аб тым
Гаворыць былі дрот.
Паціхлі стрэлы ўжо гармат,
Даўно змоўк кулямёт,
І над магілкамі салдат
Ціхенька плача дрот;
Шмат засталося у бядзе
Калекаў і сірот, —
Аб гэтым гутарку вядзе
Па белым свеце дрот.

Паэтычны малюнак С. Шыманоўскага немудрагелісты, просты, але ўсё ж трэба быць паэтам, каб заўважыць, як плачуць тэлеграфныя правады над магіламі салдат. Праўда, Шыманоўскі змалёўваў, што называецца, з натуры.

Помню яшчэ з свайго маленства тыя ўжо занядбаныя магілы рускіх салдатаў той вайны, як у нас казалі пра першую сусветную. Яны былі параскіданы дзе папала. У канцы вёскі, пры ўзмежку нашага поля, у садзе ў суседзяў, пад старымі ліпамі. Сягоння ад іх ужо не засталося і знаку. А ў паэта гэтыя самотныя безымянныя курганкі былі перад вачыма, і ён душою пачуў, як плача тэлеграфны дрот над магіламі незлічоных ахвяр таго страшнага ў сваёй бязлітаснасці і бессэнсоўнасці дзейства, якім ёсць вайна.

Гаспадары-земляробы са спаленымі сонцам тварамі, што «хлебам кормяць свет цэлы», дудар, жабрак — вобразы Станіслава Шыманоўскага, вобразы старой Беларусі, пра якую расказваў паэт, адышлі беззваротна. Не прыйшла і высненая ў марах паэта, вітаная і кліканая ім і тымі, хто ішоў наперадзе Шыманоўскага — Купалам, Коласам, Багдановічам, — незалежная і нёпадзельная Беларусь. Прыйшло нешта іншае. А Шыманоўскі, чый голас згубіўся ў хоры паэтычных галасоў Беларусі, усё ж застанецца ў гісторыі духоўнасці народа, як сведка часу яго трагедыі і надзеі, чалавек, які здолеў засведчыць у слове боль пакут сваёй зямлі і спадзяванняў яе адданых сыноў.

Дазволю сабе невялікі дадатак да сказанага. Пару гадоў таму назад наведаўся ў Данюшава. А перад гэтым сустрэў стрыечнага брата Станіслава Шыманоўскага. Зусім выпадкова, нечакана, проста на вуліцы. Прыгнечаны, брыў Смаргонню пасля наведання загарадных могілак, дзе нядаўна пахавалі тутэйшага педагога Генадзя Сідаровіча. Не даходзячы дамка Дзяругі, незабыўнага смаргонскага музыканта, дырыжора, фатографа, убачыў старога чалавека, які па вясковай звычцы стаяў, абапершыся на брамку, і паглядаўна вуліцу. Не зачапіць яго было нельга. Павітаўшыся, я спытаў яго пра тое, аб чым думаў, ці даўно пакінуў свет яго сусед, стары дырыжор. Пачцівы вусаты стары сказаў, што ён не смаргомец. Сам родам з Данюшава, жыве цяпер у дачкі ля Вілейкі, а тут госцем.

Ад свайго шчаслівым выпадкам падараванага новага знаёмца я даведаўся, што завуць яго Браніслаў Гіль і яму дзевяноста тры гады. А значыць, ён без мала равеснік паэту.

— То вы, напэўна, ведалі Станіслава Шыманоўскага? — радасна вырвалася ў мяне.

— Чаму ж не, — адказаў пачцівы стары.— Ён мне прыходзіўся стрыечным братам. Мая маці і бацька Стасюка былі родныя.

— А як звалі бацьку Стасюка, Станіслава?

— Вікенцій. Было іх шасцёра. Хата Шыманоўскіх стаяла сярод вёскі.

— А як выглядаў Станіслаў Шыманоўскі? — спытаўся я.— Якога быў росту? Меў нейкую адметную манеру гаварыць? — удакладняў я.

— Моц часу прайшло, — задуменна сказаў Браніслаў Гіль.— Росту быў вышэй сярэдняга, высакаваты. Цёмна-русы. Гаварыў як усе мы, па-тутэйшаму, папросту, — па-беларуску, — не разумеючы, пра якую адметнасць я пытаюся, гаварыў яго стрыечны брат.

— Ведаеце, ён усё маляваў. То аратая за плугам намалюе, то праллю або проста так чалавека алоўкам. Пра вершы не скажу. Пісаў жа, пісаў. Але я іх не помню.

Чаму якраз здольнасці мастака ў Шыманоўскім падкрэсліваў яго сваяк, стала зразумела: маляваў ён на вачах у людзей, пішучы іх партрэты ці

замалёўваючы нейкую жанравую сцэнку або пейзаж. Складанне ж вершаў, як акт інтымны, натуральна не кідалася ў вочы.

Першае, што я пачуў ад зямлячкі паэта Станіславы Кучук, —трапіўшы ў Данюшава дзякуючы спрыянню рэдактара смаргонскай раёнкі І. І. Лазуткі, была яе згадка пра Станіслава Шыманоўскага як творцу наогул і мастака.

— Усё ён тут тварыў, — абвяла яна рукой наваколле.—

Калі намалюе каго, дык як жывы… І бераг гэты, — паказала яна на Вяллю і статак па той бок рэчкі.

З высокага правага берага Вяллі, ад хаты Кучук, дзе мы зараз сядзелі, супрацьлеглы нізкі бераг ракі здаваўся зялёнай далінай. За ёй угадвалася другая вёска.

Было мне гадоў дзевяць-дзесяць, як Шыманоўскі памёр. Памятаю, як яго хавалі, але на могілкі не хадзіла, малая была. Не ведаю, ці які знак застаўся па ім на цвінтары.

Помню, людзі казалі, — каб не вайна, забралі б яго ў навуку. Дужа здольны чалавек быў. Вершы Шыманоўскага добра расказваў на памяць адзін чалавек тут, але ўжо няма яго ў жывых. Гадоў пяць, можа, сем, як памёр. Хто ёсць з старэйшых людзей? Хіба Зыгмунт Кучынскі вам што-небудзь прыпомніць пра Шыманоўскага.

Заглянулі да адной бабулі яшчэ ў надзеі, што нешта памятае, бо песні ведала, хораша спявала. Ды дарма патурбавалі старэнькую. Стася Шыманоўскага не помніць, песні забылася. Па дарозе Станіслава Кучук паказала на каменныя слупы ўязной брамы, сказала, што тут некалі стаяў панскі двор. Болей ніякага знаку ад маёнтка не засталося. Пра двор тутэйшага пана міжволі падумалася, калі Зыгмунт Кучынскі адшукаў сярод кніг лісток, спісаны чорным чарнілам, — верш Станіслава Шыманоўскага. Але быў гэта не рукапіс паэта, а некім перапісаны яго вершаваны досціп, напісаны па-польску, на арандатара маёнтка. Як потым высветліў, у Шыманоўскага была прычына не любіць арандатара, пісаць піліпіку супраць яго. Той (прозвішча яго Кучынскі не ўспомніў) заляцаўся да тутэйшай дзяўчыны, мабыць, шляхцянкі, па прозвішчы Гетман. Тая Гетманішка была прыгожая, паглядная дзяўчына і падабалася Станіславу. Але паэт і мастак быў галяком у параўнанні з арандатарам. Шанц на руку прыгажуні быў на баку панка. Ды, урэшце, дылему асабістага шчасця беларускага паэта і мастака вырашыла смерць, якая ўжо стаяла за яго плячыма.

Няшмат да таго, што мне ўжо давялося сабраць пра Шыманоўскага, дадаў яго зямляк Зыгмунт Кучынскі, высокі васьмідзесяцігадовы стары. Пацвердзіў ужо чутае ад Браніслава Гіля: абмаляваў знешні выгляд Станіслава Шыманоўскага — высакаваты, хударлявы, цёмна-русы. Алевось нечаканасць вынікае з размовы. Пытаюся ў Зыгмунта Кучынскага, ці не радня ён часам таму Кучынскаму, што жыў у Вільні і пісаў кніжкі пра Літву-Беларусь, пра мінулае нашага краю.

І нечакана чую:

— Гэта мой дзядзька, бацькаў брат. Быў ён у Вільні прэлатам. Памёр на амбоне, казань гаворачы. Ад сэрца…

Цяпер стала зразумела, адкуль у гісторыка Кучынскага такая няўтоеная любоў да свайго краю, такое адстойванне гістарычнай праўды аб ім перад некаторымі тэндэнцыйнымі польскімі даследчыкамі мінулага Літвы-Беларусі.

Сумна адно — ніхто з данюшаўскай радні Кучынскага не ведае, што іх сваяк не толькі рэлігійны дастойнік, але і неардынарны гісторык, асветнік.. У хаце Кучынскіх акрамя старога гаспадара было некалькі чалавек маладзейшых. У нашай размове са старым удзельнічаў сын ці зяць, спяшаючыся, не ўдакладніў, рабочы з віленскага завода. Часам слова-другое ўстаўлялі жанкі, старэйшыя і маладзейшыя. Гутарка зайшла і пра тое, што на днях у Данюшаве адчынілі касцёл. Свежапамаляваны зграбны будынак яго ў цеснай абсадзе старых дрэў кінуўся ў вочы, як толькі з рэдакцыйным шафёрам Антонам мы сышлі сярод Данюшава. Асвячалі касцёл ксяндзы з Жойдзішак, дзе ў сярэднія вякі быў моцны кальвініасцкі, а ў даваенны час беларускі святарскі асяродак. Цяпер моляцца па-польску. Віленскі госць Кучынскага пад тое слова паказаў мне «Czerwony sztandar» (у 1989 годзе ён яшчэ насіў старую назву), дзе была інфармацыя пра адкрыццё касцёла ў Данюшаве. Падаўшы абразок касцельнай урачыстасці, аўтар заметкі са скрухай і нараканнем піша, што тутэйшае жыхарства, на жаль, гаворыць па-беларуску і па-руску. Маўляў, забыліся, што некалі іх дзяды прамаўлялі па-польску. Недасведчанасць? Хутчэй свядомы самападман. Не толькі землякі Станіслава Шыманоўскага на Смаргоншчыне, але насельнікі падвіленскіх вёсак, прынамсі, старэйшае і сярэдняе пакаленні, гавораць па-беларуску, па-простаму, як яны самі кажуць. Не горай, чым дзе ў Беларусі. Гавораць так, як гаварылі іх папярэднікі з дзядоў-прадзедаў. Летам я яшчэ раз у гэтым пераканаўся, будучы з групай кінадакументалістаў на радзіме аўтара першай беларускай школьнай граматыксі акадэміка Беларускай Акадэміі навук Браніслава Тарашкевіча. Некаму ўсё карціць права не толькі на душы беларусаў-католікаў, але і на іх землі. Сумна, калі не робіцца ніякіх высноў з урокаў гісторыі, даўнейшай і бліжэйшай. Тым больш у час вялікага палітычнага ацверазення. Пазненне беларусаў не вечнае. Больш дальнабачныя пачынаюць гэта ўсведамляць.

Дазнаўся я ў Данюшаве, што ў Смаргоні жыве яшчэ адзін далейшы сваяк Станіслава Шыманоўскага Іван Локцік. Дабрацца да яго, аднак, не паспеў. Разважыў сябе тым, што рукапісаў Шыманоўскага праз шэсцьдзесят год на руках у людзей ужо не знайсці. Не на вясковыя абставіны такая раскоша, такое шчасце[1].

[1] Што да рукапісаў С. Шыманоўскага, то яны, як я пазней даведаўся, не згінулі. Прынамсі, у асноўнай сваёй частцы. Пра гэта паклапаціўся аднавяскавец паэта Юстын Мурашка. Гэты чалавек спарадкаваў рукапісы земляка і яшчэ да вайны прыслаў іх у Вільню. У якую ўстанову, сказаць цяжка. Сягоння яны — сярод папер былога Беларускага музея імя Івана Луцкевіча, у архіве Акадэміі навук Літоўскай рэспублікі. Невялікі рукапісны зборнічак, у якім сабраны вершы, апублікаваныя на пачатку 20-х гг і некалькі ненадрукаваных. Пры іх невялікая запіска Ю. Мурашкі з просьбай да віленскіх беларусаў надрукаваць «дэалістычныя вершы Ст. Шыманоўскага». Пра аўтара запіскі ўдалося дазнацца толькі тое, што ён яшчэ да вайны з'ехаў кудысьці далёка. Не давалі чалавеку дома жыць, як хацеў па-людску. Сабраўся і з'ехаў у свет, пашукаць лепшай долі. Пакідаў бацькаўшчыну з крыўдай на землякоў (гэта чуваць у тоне запіскі) што не патрапілі ўшанаваць паэтычнай спадчыны Шыманоўскага, выдаць яе асобнай кніжкай. І яшчэ згадалі старыя людзі, што быў Ю.Мурашка чалавек людскі, шанаваны ў Данюшаве.

Даведваюся яшчэ дзве-тры дробязі, нешта паўней пра сям’ю Шыманоўскіх, умовы, у якіх паэт дажываў свой кароткі век… Зрэшты, нешта з пытанняў, што да жыцця і паэтычнай творчасці Станіслава Шыманоўскага, варта пакінуць і адкрытымі. Ёсць маладыя літаратары на Смаргоншчыне, журналісты, краязнаўцы, наогул людзі неабыякавыя. Ім дапісваць паўнейшую біяграфію паэта. Дасць бог, не абмінуць С. Шыманоўскага сваёй увагай гісторыкі нашай літаратуры. Спадчына паэта зойме сваё сціплае месца ў зборы-рэестры духоўных здабыткаў беларускага народа. Зойме заслужана, па праве.

*1991*

# Дзе вы, хлопцы, браты, песняры?.: Лукішскі дзённік і вершы Алеся Салагуба

О воля, воля, я — твой сын.
Я песні барацьбы нясу з сабою,
Я жыць хачу, цярпець, кахаць,
Тварыць!
Краю родны, крывёй спаласканы,
Дзе твае абаронцы-сыны?
*А. Салагуб*

Пра Алеся Салагуба пачуў рана, як толькі стаў падрастаць. Пачуў дома. У той час даведацца дзе-небудзь так пра паэта, падпольшчыка ў колішняй Полыпчы, які ўцёк у СССР і прапаў там без вестак, было нельга. Тагачасныя ўладары нашы моцна клапаціліся пра тое, каб пад жалезнай плітой забароны, замоўчвання схаваць памяць аб мінулым, а заадно і свае злачынствы перад народам.

Успамінаецца: маці часта вярталася ў думках у гады сваёй маладосці. Пасталеўшы, зразумеў, што ўспаміналася ёй вясна яе не толькі як непаўторная пара ў жыцці кожнага чалавека, але яшчэ і таму, што быў гэта час духоўнасці. Маладосць бацькоў, 20-я гады, у Заходняй Беларусі прыпалі на пару ўздыму народнага жыцця, надзеі і прасвятлення ў ім.

Маці згадвала прадстаўленні, якія ладзіла моладзь то у адной, то ў другой вёсцы, а найчасцей у Шутавічах. Узнаўляліся ў памяці яе камічныя сцэнкі са «Збянтэжанага Саўкі», прыходзілі на памяць вершы, песні, спяваныя на тых беларускіх вечарынках.

Найчасцей спявала песні на словы Буйлянкі, Янкі Купалы ды Якуба Коласа, не ведаючы часам, хто іх склаў, каму належыць аўтарства. Успамінала, як чытаў Аляксей (так звалі яго дома, а імя Алесь як паэтычнае і беларускаадметнае ён узяў пазней, каб падпісваць ім свае вершы). Запомнілася, што, чытаючы багдановічаўскую «Пагоню», замест слова «святую» («Успомню вострую браму святую») ужываў «старую». Зрэшты, так чытаў гэты верш і Валодзя Цароўскі: ім, падпольшчыкам-камсамольцам, не імпанавала на іх погляд, састарэлае, ідэалістычнае паводле паходжання паняцце «святая», «святасць», Да старых ідэалаў, паняццяў рэвалюцыйна настроеная моладзь магла адносіцца ў лепшым выпадку паблажліва, прабачальна.

Алесь Салагуб часта прыходзіў у Яневічы, да Юстына Дудкі. Але не дзеля таго, каб пагаварыць з начытаным старым гаспадаром, тры сыны якога, заангажаваныя рэвалюцыяй, засталіся ў Расіі. Цікавіў Юстынаў дом Алеся дачкой старога Марысяй — старэйшай мамінай сястрой. Прыязджаючы з Вільні святочнымі днямі, у нядзелю, Алесь вясною і летам нацянькі праз сенажаці праставаў са сваіх Зарудзіч у Яневічы. Часам прыводзіў з сабою хлопцаў, сяброў, з якімі вучыўся ў Віленскай беларускай гімназіі. Найчасцей Валодзю Шчаснага, або Цароўскага (паходзіў з вёскі Цары, пазней

быў забіты нацкаваным на яго польскай дэфензівай вясковым цемняком), і Васіля Сідаровіча з Сівіцы. Тады ў хаце, а калі было пагодлівае надвор'е, у садзе, рассцяліўшы посцілку пад яблынямі, воддаль ад вулляў, чыталі вершы, ціха напявалі песні пад гітару або чыталі.

З тых часоў, падараваная Васілём Сідаровічам, была ў маці «Курганная кветка» Канстанцыі Буйлы. Кніжка тая, пайшоўшы па руках, неяк згубілася. Але затое якая была радасць, як праз чвэрць веку, калі ўжо даўно не было між жывых ні Алеся Салагуба, ні Валодзі Шчаснага, ні аўтара малюнкаў у папулярнай на ўсю Заходнюю Беларусь «Маланцы» Васіля Сідаровіча, падпісаная ім кніга-падарунак знайшлася, вярнулася ў нашу хату. Зноў абудзіліся згадкі. Маці спявала каля дзесяці песень з «Курганнай кветкі». Ну, ведама ж, прыпалую да сэрца ўсім «Люблю наш край» і рамансы «Адна ізноў, адна», «З лет даўнейшых маіх». Мелодыі да адных з іх былі падабраны калі не прафесіяналамі-музыкантамі, то, прынамсі, людзьмі добра абазнанымі з музыкай. Да некаторых жа вершаў, як я потым пераканаўся, маці падбірала ноту сама. Праз гады, сабраўшы і падвучыўшы нямала песень літаратурнага паходжання, што былі разышліся ў 20—30-я гады па ўсёй Заходняй Беларусі, упэўніўся: некаторыя з іх мелі вузкалакальнае бытаванне. Не перасягнулі мяжы залескай ваколіцы і некаторыя песні на словы Алеся Салагуба, як не паспеў і сам паэт, бунтар супраць рэжыму польскай «санацыі», увабрацца ў сталы век. Загінуў рана. Такі жорсткі, трагічны лёе наканаваны быў яму… Найчасцей маці спявала на Алесевы словы рамансуспамін:

Помніш нару красавання,
Шэлест буйных каласоў,
Ты падарыла каханне —
Першы дзявочасці сон…

Праз гады я знайшоў яго ў адзіным зборніку паэта выдадзеным у 1929 годзе ў Мінску з паметкай-прысвячэннем М. Д. (Марыі Дудко).

Са слоў маці з дзяцінства помніцца верш Алеся Салагуба, напісаны ў Лукішскай турме ў Вільні:

У астрозе седзячы гады,
Чаго тут, братка, не скаштуеш,
Чаго, чаго, а ўжо вады,
Хоць утапіся, не шкадуюць.
На ранку ўстанеш, чорнай кавы
З цабэрка ў міску налююць,
Хоць крыху смак яе гаркавы,
Але у горы й слёзы п'юць…

Апошнія словы з фрагмента турэмнага верша маці выгаворвала без націску, але вымоўна. Відаць, яны прыйшліся ёй да душы — «Але у горы й слёзы п'юць». З лукішскіх вершаў Алеся Салагуба, бунтарных, пазначаных кіпеннем мала-

дога, няўрымслівага тэмпераменту паэта, маці выбірала, запомніла больш смутныя, у якіх былі выказаны перажыванні чалавека заняволенага, адгароджанага кратамі, турэмным мурам ад свету, родных, блізкіх людзей.

Да акна вераб'і падлятаюць
І садзяцца на краце маей,
Чык-чылік, чык-чылік напяваюць
І сэрцу крыху цяплей і святлей.
— Не пяі, не пяі, верабейка,
Я не ў сілах з табой паляцець,
Дзе над рэчкай галосіць жалейка,
Кавалькі стракацяць у траве.
Заржавела каса пад страхою,
Сіратліва глядзіць барана,
Не змагацца мне ў лузе з травою,
Не скародзіць мне родны дзірван…

Да гэтых простых слоў лёгка падбіралася «нота». Гучалі яны зажурана і мройна. Зрэшты, не набіралі належнай суровасці, палымянасці крэшчэнда ў гучанні, у залескай іх версіі і Салагубавы песні самага драматычнага зместу. Як, напрыклад, урывак верша «У дэфензіве», прысвечаны «мучаніку капітала Я. Кастанчуку».

Чуеце стогн катаваных?
Чуеце звон ланцугоў?
Пырскае свежая з ранаў
Бедных нявінная кроў.

І далей, можа, крыху натуралістычна, але нявыдумана, непасрэдна з натуры. Такое крайшлі заходнебеларускія падпольшчыкі:

Чуеце? Жэбры ламаюць!
Костак разносіцца хруст.
Душаць, каб мы не спазналі
Вольнай сваю Беларусь.

Помню гэтыя словы з напевам мінорным, але амаль лірычным. І чуў іх не ад адной маці. Цень смутку ляжаў на лукішскіх вершах паэта, але ніяк не вызначаў іх агульную танальнасць. У цэлым творчасць яго, замешаная на суровай рэалістычнай аснове, мела нахіл рэвалюцыйнай рамантыкі, была бунтарнай у сваей істоце. Для такога акрэслення паэзіі Алеся Салагуба, яго асобы ёсць дзве аб'ектыўныя і надзейныя крыніцы: турэмны дзённік паэта і зборнік «Лукішкі», які выйшаў з падзагалоўкам-удакладненнем «Заходняя Беларусь».

Алесь Салагуб двойчы сядзеў у Лукішскай турме, празванай у свой час заходнебеларускай Бастыліяй, столькі люду нашага прайшло ў 20—30-я гады праз яе камеры, лёхі, сутарэнні, і такое найменне, у якім спалучалася

пракляцце і адданне належнага суровасці, заслужыла яна ў народзе. Першы раз малады паэт трапіў за краты Лукішак у семнаццаць год. З чацвёртага класа гімназіі. Напачатку няволю пераносіў цяжка. Дзённікавы запіс ад 10 жніўня 1924 года дае крыху ўяўлення аб гэтым. «Цэлы дзень балела галава і цяпер яшчэ трашчыць. Баляць таксама віскі. Думаю, што з часам, калі прыйдзецца сядзець доўга ў «магіле жывых», то стануся ахвярай эпілепсіі, бо мне так цяжка каратаць доўгія, як вечнасць, дні і бяссонныя ночы». І тут жа побач з запісам алоўкавы малюнак цэлі-адзіночкі, выяўны, чоткі. Пад ім памеры «ў маштабе пядзяў»: шырыня 9 пядзяў, даўжыня — 22 і вышыня — 14 пядзяў. І роздум юнага палітзняволенага, які выдае кірунак яго думак у цэлым: «Людзі не роўныя, ды ўсе яны людзі. Індывід роўна як і грамадзянства, пазбаўлены ідэала — або памерлы ці блізкі да смерці».

І накіды літаратурных планаў. Можа, пад уплывам таго ж Родзевіча, яго «Збянтэжанага Саўкі», запісвае сабе на бліжэйшы час напісаць «фацэцію ў двух дзеях». І скрозь у сшытку вершаваныя радкі, строфы — чарнавыя накіды вершаў. У другі раз дзверы Лукішскай турмы зачыняюцца за паэтам-гімназістам праз тры гады. Ізноў вясной. У астрожным дзённіку Алеся Салагуба адбіааюцца ўжо перажыванні ўзмужнелага маладога чалавека. У лісце да Арсеня Канчэўскага, які, відаць, і прычыніўся да заангажавання Алеся да камуністычнага падполля, апісвае свой арышт і звязаныя з ім «тартуры» спакойна, з лёгкай іроніяй. Піша, што рыхтаваўся да экзаменаў і палавіну здаў, а вусных не паспеў, бо «мяне ўзялі за фрак ды гайда на Лукішкі». Паміж лёгка насмешлівых слоў паведамляе і сур’ёзную інфармацыю: «Прызнацца, то гэта [арышт.— А. Л.] не быў для мяне сюрпрыз, бо пасля расстання з табой мне не давалі спакою і за Грамаду, і за гурткі, і за «gadki». І зноў прыкрываецца жартам-прымаўкай: «Ведама, хто ўкачаўся ў мёд, на таго і авадні ляцяць». Раману Семашкевічу, мастаку, вучню Віленскай беларускай гімназіі, які ўжо пару гадоў таму як перабраўся ў СССР і вучыўся ў Маскве ў ВХУТЕМАСе, 18 верасня 1927 года Алесь пісаў з Лукішак: «Не магу пажаліцца на жыццё. Жыццястойкасць, бадзёрасць, пагоднасць духу не пакідаюць мяне ў найцяжэйшыя часіны. Перажываю «салодкасць барацьбы і радасць існавання». Не ведаю, што такое песімізм, што такое сум, слёзы».

І ў штодзённіку запіс філасофскіх рэфлексій ад прачытанага, перадуманага: «Чалавек, не пазнаўшы гора, — не чалавек, а лялька, што ад першых udараў жыцця размякае на гліну, з якой выраблююць усемагчымай формы гаршкі-ляплянкі. Ён, такі чалавек, безварункова становіцца нявольнікам мацнейшага воляй індывідуума… Дык што шкадаваць дзён, праведзеных за кратамі. Хай мацнее дух, каб выйшаўшы [на волю.— А. Л.], мог другіх ратаваць».

З дзённікаў добра відаць крыніцы духоўнага ўзмужнення, інтэлектуальнага росту Алеся як чалавека і паэта. У іх не толькі спіс кніг (ён уражвае колькасцю і самавітасцю аўтараў), прачытаных Алесем у адзіночцы № 6, але і выпіскі з іх, развагі, выкліканыя ўведаным з прачытанага.

Трэба зазначыць, што да 30-х гадоў у турмах даваеннай, ці, як мы прывыклі казаць, буржуазнай Польшчы адносна палітычных зняволеных стасаваўся яшчэ даволі людскі рэжым. Палітвязні карысталіся шэрагам праў. Яны не абмяжоўваліся ў перапісцы, у праве на матэрыяльную пад-

трымку з волі, на пабачанні. Турэмныя камітэты, складзеныя, як правіла, з аўтарытэтных і адказных палітвязняў, арганізавана адстойвалі правы зняволеных перад астрожнай адміністрацыяй. У турэмнай бібліятэцы, аб якой абачліва клапаціліся камітэты, можна было дастаць усё. Гэта ўжо з 1931 года, калі ўлады пачалі ўводзіць новы астрожны «рэгулямін», сталі забараняць марксісцкую літаратуру, прагрэсіўную перыёдыку.

У Лукішскай турме Салагуб дарваўся да літаратуры, якой ён ня мог дастаць на волі. З прагнасцю неафіта накідваецца паэт на літаратуру, што несла ідэі сацыяльнага разняволення. Пачынаючы з народнікаў, з «Запісак прафана» М. К. Міхайлоўскага. Асабліва цікавілі сацыял-дэмакратычныя, марксісцкія ідэі. Чытае, робіць выпіскі з ленінскай працы, прысвечанай светапогляду К. Маркса (дарэчы, у турме быў яе ўкраінскі пераклад). Штудзіруе Энгельса «Паходжанне сям'і, прыватнай уласнасці і дзяржавы», кнігі «Сучасныя рабочыя і буржуазія» А. Юста, «Пралетарыят і яго імкненні» Бруно Шынланка, аўтабіяграфію К. Кауцкага і яго даследаванне «Ф. Энгельс, яго жыццё і дзейнасць». Захапляецца выдадзенымі па-польску лістамі Розы Люксембург. У сваім неспатольным імкненні да пазнання сацыялістычных ідэй не абмінае кніг К. Лібкнехта, дзве з якіх значацца ў яго турэмным спіску, а таксама твораў папярэднікаў класікаў, шукальнікаў шляхоў да справядлівага грамадства П. Крапоткіна, Ф. Ласаля, Ж. Геда. І яшчэ ранейшых, як Ж.-Ж. Русо з яго «Грамадскім дагаворам». Асобна налягае на працы, прысвечаныя матэрыялістычнаму разуменню гісторыі. Сярод кніг на гэту тэму ў спісе прачытаных значыцца ажно чатыры аўтары. Гэта перш-наперш Ф. Мерынг з яго даследаваннем «Аб гістарычным матэрыялізме», Ж. Жарэс і П. Лафарг з іх працай «Ідэалізм і матэрыялізм у разуменні гісторыі», Г. Грэйліх і асабліва М. Бухарын. Зразумелай становіцца аброненая ў лісце да Рамана Семашкевіча яго фраза: «Ведаеш сам, які я быў калісьць гарачы талстовец. Праблема «непраціўлення злу» зрабілася смешнай і дзяцінай. Наогул кажучы, я кардынальна змяніўся». І далей такое прызнанне: «Тэорыю гістарычнага матэрыялізму я стасую цяпер да усіх праяў жыцця».

Бунтарства супраць старога ладу, капіталу, рэвалюцыйная зарыентаванасць паэта асяроддзем, адпаведнай літаратурай моцна чуюцца ў яго вершах, напісаных восенню 1927 і зімой 1928 гадоў у Лукішскай турме.

Душою, сэрцам я — і моцны і цвярозы,
Мне аднастайнасцяў не страх жыцця:
Я пралетар, я — новых дней дзіця;
Я не баюся буднічнае прозы.
Ў грудзёх маіх паэзія бурліць, —
Я — валадар над дзіўнаю красою,
Я песні барацьбы нясу з сабою.
Я жыць хачу, цярпець, кахаць, тварыць!

Брату вядомага беларускага паэта і філосафа Ігната Канчэўскага, Арсеню, аднадумцу, сабрату па барацьбе, у адным з лукішскіх вершаў-прысвячэнняў Салагуб пісаў:

Глянь у сінюю даль, як мігцяцца
На Усходзе вясёлкі-агні.
Чуеш, гул над зямлёй разлягаецца.
Ў муках родзяцца новыя дні.

Трохі агульныя, характэрныя для паэзіі 20-х гадоў алегарычна-сімвалічныя звеставанні заканчваў юначым, узнёслым аптымізмам:

Смейся, брат, рагачы над нядоляй,
Хай абсыпе нас палачны град,
Наша моц — у палёце да Волі,
Мы — арлы, і няма для нас крат.

Заслужаны дзеяч мастацтва рэспублікі, кампазітар Аляксандр Шыдлоўскі, у мінулым таксама вязень Лукішскай турмы, успамінае, як паліцыя пад час вобыску ў яго знайшла фотаздымак заходнебеларускага камсамольца-падпольшчыка, падпісаны на памятку з дадаткам слоў Алеся Салагуба «Мы — арлы, і няма для нас крат». Камендант пакруціў у руках фотакартку, спытаўся: «Puty, co to jest? Kajdany? (Путы, гэта што? Кайданы?) Znalaziemy!.. (Знойдзем!..)»

У роздуме пра Беларусь, а для паэта-змагара, вязня польскіх астрогаў гэта перад усім Заходняя Беларусь, у Салагуба яшчэ нямала рыторыкі, публіцыстычных тырад і інтанацый. Але ёсць і сваё асабістае, уласнае адчуванне зняволенай Бацькаўшчыны.

Беларусь! Беларусь!
Там, дзе Нёман бурліць,
Дзе Лукішак сцяна мураваная,
Пад шляхецкай пятой
Ты прымушана жыць,
Беларусь, у крыві спаласканая.

Але часцей і часцей у рытарычных пытаннях, звернутых паэтам да Радзімы, праз звычную вобразнасць прабіваецца непадробнае, шчырае пачуццё, сваё.

За іржавую крату бяруся
І пaціху ў душы паўтараю:
Беларусь, Беларусь, Беларусь!
Колькі слёз і крыві на загонах
Нашы ворагі тут разлілі,
Па імшарах крукі і вароны
Колькі нашых касцей разняслі!
Краю родны, крывёй спаласканы,
Дзе твае абаронцы-сыны?

Маладому паэту цяжкавата вырвацца з-пад улады вобразна-інтанацыйнага прыцягнення маладнякоўскай паэзіі Але ён глядзіць у будучыню з заходнебеларускіх ніў, з лукішскай адзіночкі. І гэта не дае яго радкам цалкам патануць у агульным патоку беларускай паэзіі, у яе маладнякоўскай струзе.

У вершы «Я не буду грудзьмі надрывацца» роздум над доляй краю паэт выказвае проста, лапідарна:

Цяжкі сон беларускай старонкі
Улятніцца імглой на бары,
Заліецца край песняю звонкай,
Светлы ўстане насустрач зары.
На дзірван, неараныя гоні
Ўвойдзе трактар — жалезны ратай,
У раскошных жытах край патоне…

У сваіх астрожных думах паэт часта звяртаецца да сяброў на волі, да роднай вёскі — крыніцы яго ўспамінаў і перажыванняў. Ён цешыць сябе думкай, што пакіне «сярод стрэхаў бунтарства агні».

Сувязь Алеся Салагуба з вёскай арганічная, трывалая. Яна (вёска) у яго думках наяве і ў сне. Ёй снуюцца, прысвячаюцца ці не лепшыя радкі паэта. У вершы «Начныя думы», у якім даволі добра перададзены перажыванні палітзняволенага і створаны вобраз турмы, паэт звяртаецца да вёскі з такім роздумам-споведдзю:

Лаўлю размерны тон кляпання
Касы і працы творчы рытм.
О, вёска, вёска, з заміраннем
Люблю цябе ў святле зары.
О, вёска родная, ты люба
Вачам за ціш, за шыр палёў,
Але ў цішы — твая загуба, —
Смерць парыванняў, светлых сноў.

Паэт-рэвалюцыянер не прымае вёскі пакорнай, ціхай.

Твая пакора плодзіць мукі,
Твой плач адвечны, плач стары
Скаваў размах працоўнай рукі.
Я не злажу за слёзы гімн.
Люблю цябе, калі ты ў гневе
Замест сярпоў — мячы куеш,
Замест зразаць калосся нівы —
Начамі будзіш Белавеж.

Вясковая праца, успамінаная ў астрозе, была паэту крыніцай натхнення. У асобных вершах яму ўдаваласі схапіць існае ў сялянскай працы, апаэтызаваць яе. Ях думаецца, гэта ўдалося яму ў вершы «Малацьба», напісаным 5 кастрычніка 1927 года ў Лукішках.

Трасецца ток, і стогне падмуроўка,
Вахкаюць аўсення снапы,
Жарчыста пеніцца дубовая бічоўка
Ля крокваў і цяжарнае тарпы.
Пырскае салома залатая,
Пыхкае угору сіні пыл.
Наторшчылася хмара снегавая,
Глыбокі, сіні-сіні небасхіл.
Кусліві зуб выторкнула зіма.
Малацьбіты здароўем палыхаюць
І кволы дух з саломы выбіваюць…

У маладога паэта ёсць неблагое адчуванне беларускага слова ў яго сінанімічнай і дыялектнай варыянтнасці, у цэлым адчуванне ягоных мастацкіх магчымасцяў. Закранаў дваццацігадовы паэт — гутарка ідзе пра верш «На Вяллі», напісаны летам 1926 года ў роднай вёсцы Зарудзічы, — і тэмы кардынальныя для жыцця Заходняй Беларусі, Беларусі ў цэлым. Бачыў у вершы сваю хатнюю рэчку Вяллю ў сацыяльным аспекце. Элегія яго з нотамі бунту, пратэсту.

Вірыць, бурліць Вялля-рака,
Нясуцца воды ўдаль,
Мне ж моцна сэрца шчыміць жаль
За цемру мужыка.
З калом, сагнуўшыся у крук,
За Буг кіруе плыт,
І ўдзень і ўноч не чуе рук,
Слязьмі пясок абмыт.
…
Вірыць-бурліць Вялля-рака,
Нясецца хваляў плеск,
А над вадой мігціць рука
І сонца яркі блеск.
Плыве, плыве багацце ўдаль —
Наш родны лес і гай.
Нам, беларусам, толькі жаль, —
Дабро ж ў чужацкі край…
Вірыць-бурліць Вялля-рака,
Аб хвалі б'ецца плыт,
Шуміць аер і асака
Пад ценямі ракіт.

Наступнік Алеся Салагуба ў заходнебеларускай літаратуры Максім Танк у вершы «Гудкі і калёс перазвон» узнятую сваім папярэднікам тэму падыме да класічнага гучання. Але гэта будзе пазней год на дзесяць, калі ўся літаратура Заходняй Беларусі ўбярэцца ў сілу, дасягне агульнаеурапенскага узроўню.

Час, калі Алесь Салагуб у другі раз сядзеў «на Лукішках», быў даволі складаны для Заходняй Беларусі. Польскія ўлады на пачатку 1927 года разграмілі Беларускую сялянска-работніцкую грамаду, самую вялікую нацыянальна-вызваленчую аргашзацыю, партыю ў гісторыі беларускага народа. Па ўсім заходнебеларускім абшары прайшлі арышты, і турма была перапоўнена грамадаўцамі. У Алесевым дзённіку адзначаны гэты факт. Давялося аднойчы быць яму каліфактарам, раздатчыкам сняданку і вячэры. Занятак не лішне прыемны, але Алесь цешыў сябе тым, «што нагледзеўся на палітычных». «Усе тры паверхі, — запісаў у дзённіку паэт-вязень, — апанаваны беларускімі лапатнікамі-сялянамі. Наіўна-даверлівыя твары высоўваліся праз ваўчкі, міжволі думалася: бедныя і што яны маглі зрабіць «антыпанствовае» [антыдзяржаўнае.— А. Л.]. Лукішкі перапоўнены грамадаўцамі. Як вясёла яны ўсміхаліся, калі я голасна гаманіў не «kolacyja», як гаманілі штодзённа каліфактары, а «вячэра, таварышы!..».

Але Лукішкі ў гэты час былі перанаселены не толькі сялянамі. Алесь часта павярае свайму дзённіку радасныя перажыванні ад таго, што бачыў то рэдактара радыкальнай, а фактычна, нармальнай беларускай газеты Антона Войціка, то Міхася Машару, які «весела і ветліва перакідваўся навінамі». Восенню аднаго дня ўбачыў на прагулцы здалёк настаўніка з гімназіі Антона Луцкевіча, якога памясцілі непадалёк ад цэлі, дзе сядзеў Алесь. «Вось дзе спатыкаюцца беларускія вучні з сваімі сапраўднымі вучыцелямі, — запісаў у дзённіку, — за кратай, пад запорамі, у турме». А праз нейкі час ад другога выкладчыка Я. Шнаркевіча, які пад каўцыю (у тысячу злотых) выходзіў да суда з турмы, даведаўся, што настаўнік літаратуры Луцкевіч ляжыць у астрожнай бальніцы, моцна збіты ў дэфензіве. Паэту-вязню захацелася прысвяціць яму нешта з сваіх твораў. Восенню давялося ўбачыць праз ваўчок у цэлі-адзіночцы і былога дырэктара гімназіі, якога цяпер там і замяніў Сяргей Пауловіч. Дарэчы, Паўловіч аднойчы адведаў свайго знявoленага вучня, сказаў, што чакае яго, Алесевай, п’есы «Беларускае вяселле». Паэт успомніў сваю даўнейшую спрэчку з паважным педагогам і яго папрок вучню ў крайнім палітычным радыкалізме.

Не ведаў паэт-гімназіст, што яго цяперашні дырэктар у 1918 годзе, у час чырвонага тэрору, сядзеў у Туле заложнікам і цудам ацалеў.

У астрог з волі навіны даходзілі рознымі шляхамі. Нешта прыносіў нова-прыбылы асуджаны ці толькі што арыштаваны. Адміністрацыі не ўдавалася цалкам ізаляваць астрожны люд: была марзянка, грыпсы і іншыя спосабы унутрытурэмнай сувязі. Нейкія весткі паведамлялі — хоць пабачанні былі пад наглядам стражніка — хлопцы і дзяўчаты, гімназісты, сястра Воля з родных Зарудзіч. Сярод адведаўшых паэта ў Лукішках (гэта відаць з яго дзённіка) значацца імёны Мані Скурчанкі, Жэні Казлоўскай, Зіяы Рыжкевіч, Чэся

Ханяўкі, братоў Чартовічаў, Браніслава і Казіміра, Валодзі Шчаснага, Валодзі Шышко і Янкі Хвораста. А дзесь на пачатку кастрычніка, пераадолеўшы дзявочую сарамлівасць, прыехала на пабачанне да Алеся і Марыся Дудко, якая праз пару год пойдзе за ім праз «зялёную граніцу» ў Мінск, у Саветы, куды так рвалася яго агністая душа. Сярод наведвальнікаў Салагуба быў і важак камсамольскага падполля Віленскай беларускай гімназіі Язэп Урбановіч. Пазней, значна пазней, чым Алесь, ён, ужо будучы партызанскім камісарам, у канцы вайны, пасля вызвалення Брэстчыны, загіне пры досыць загадкавых абставінах. А ў 1927-м, пасля пабачання з Урбановічам, Алесь запіша сумнае — пра змену ў гімназіі духу «на гнілы».

Тым часам турэмнае жыццё, а цягнулася яно на гэты раз дзесяць з лішнім месяцаў, ішло для Алеся напружана: у працы над сабой, складанні вершаў і змаганні з аднастайнасцю турэмнага бытавання.

Не здаволіўшыся выпадковымі спатканнямі, калі ўдавалася толькі абмяняцца позіркамі, прывітаннем з гімназічным сябрам Федзем Ілляшэвічам, паэтам М. Машарам, ён піша «паданне» (заяву) начальніку турмы з просьбай дазволу пабачыцца з імі. Ад сяброў, што прыходзяць на пабачанне, даведваецца пра публікацыю сваіх вершаў у пастграмадаўскіх газетах. У гэты час улады рыхтавалі судовы працэс над Грамадой, і рэха гэтых падзей глуха далятала да Лукішак.

«Ходзяць чуткі, — піша А. Салагуб у дзённіку 24 кастрычніка 1927 года, — што хутка прывязуць у Вільню» на Лукішкі, паслоў БСР Грамады. Цэлі рамантуюць, чысцяць для паслоў». Штрыхі скупыя, але красамоўныя.

А аднойчы адведаць сына ў зняволенні прыехала ў Вільню — не перадаць, якая гэта была для яго радасць — маці. Турэмную будзёншчыну парушалі і святы. Палітзняволеныя ў дзень 1 Мая, 7 Лістапада хацелі чуць сябе неадлучнымі ад усіх рэвалюцыянераў, працоўных і стараліся адзначаць гэтыя дні, памятныя і дарагія ім на волі. Па-свойму рыхтавалася да дзён працоўнай салідарнасці, рэвалюцыйных свят і турэмная адміністрацыя. «На днях чакаем рэвізіі — піша Алесь 5 лістапада. — Дзень Кастрычнікавай рэвалюцыі думаем адсвяткаваць з чырвонымі банцікамі на грудзях. Аб прагулцы трэба забыцца ў гэты дзень Начальства злуецца. Не любяць бальшавікоў.

Перад рэвізіяй мушу прыхаваць чарніла і пяро Заўтра, пэўна, будуцьператрусы».

7 Лістапада запіша ў дзённіку коратка: «Пасля палудня дзяжурны «Гэц» адчыніў дзверы і пытаецца: «Nu jak? Pojdziecie na spacer?» Я ў адказ яму паказаў на кляпе пальто чырвоны значок, і дзверы зачыніліся».

Гэтыя святы, як і палітычная літаратура, на якую сквапна накідваўся Алесь у турме, прыносілі яму адчуванне далучанасці да вялікай справы, да грамады, людзей, што ўзняліся на абнаўленне свету. Але не толькі палітычная, або, дакладней кажучы, сацыялістычная, літаратура ды падполле, барацьба, з якой яго на час вырваў арышт, прыносілі Алесю Салагубу радаснае адчуванне ўдзелу ў гістарычным працэсе. Усведамленне, выказанае ім у вершах словамі «Нам радасць, радасць, што змяняем гісторый ход!», ішло і ад паўнаты духоўных сіл, і ад адчування сябе носьбітамі паэзіі, красы. «Мне

здаецца, што і ў грудзёх сваіх, — піша Алесь, — нашу невычэрпную крыніцу паэзіі, але якая патрабуе, каб яе як найхутчэй раскапаць».

Творчым імпульсам да пісання служылі не толькі перажыванні, абвостраныя зняволеннем, астрогам, але і прачытаная мастацкая літаратура. Яе літаральна глытаў паэт. На старонках яго дзённіка фрагменты і цэлыя творы У. Тана, М. Горкага, А. Блока. Выпіскі з К. Бальманта, А. Белага, А. Ахматавай, В. Брусава, М. Валошына, Ю. Балтрушайціса, М. Агарова, С. Ясеніна, І. Эрэнбурга. Аддаваў належнае рускай класіцы. Перачытаў А. Пушкіна, М. Лермантава, раманы І. Тургенева, «Вялікі грэх» Л. Талстога, «Паядынак» А. Купрына, аповесць Г. Успенскага, вершы І. Буніна. Руская літаратура ўвайшла ў яго жыццё даўно. Яшчэ трынаццаці-чатырнаццацігадовым хлопцам, у 1917-1918 гадах, калі уцёк уладальнік залескага маёнтаа і людзі пачалі расцягваць панскае дабро, Алесь папрасіў у бацькі каня і прывёз тры вазы кніг, што сталі нічыйнымі. З іх і заклалі зарудзіцскую бібліятэку, якой заапекаваўся настаунік Васіль Южык. У 20-я гады Салагуб папоўніў яе, складзеную ў асноўным з рускай ды польскай літаратуры, віленскімі беларускімі выданнямі. І праіснавала яна у Зарудзічах аж да 50-х гадоў.

Седзячы ў Лукішках, Алесь, як гэта відаць з яго турэмных запісаў, моцна захапіўся літаратуразнаўствам і крытыкай. Праштудзіраваў зборы твораў Бялінскага і Пісарава. Прачытаў даследаванні Шахава «Гётэ і яго час», Пакроўскага «Апалон Майкаў, яго жыццё і творы», Луначарскага «Эцюды крытычныя і палемічныя», Эрэнбурга «Партрэты трускіх пісьменнікаў», П. Кагана «Нарысы па гісторыі новай рускай літаратуры». Асобна цікавіўся «Гісторыяй рускай інтэлігенцыі» прафесара Аўсяніка-Кулікоўскага. Можа, таму, што сам марыў напісаць аповесць з жыцця навучэнцаў, дзе хацеў, кажучы яго словамі, «адбіць атмасферу, у якой жыла і гадавалася народная беларуская інтэлігенцыя 1918—1927 гг.».

Прачытаныя ў турме кнігі Волжскага «Са свету літаратуры і мастацтва», Ю. Ліперта «Гісторыя культуры» і іншыя маглі пасведчыць і аб цікавасці маладога паэта да краснага пісьменства, і аб сталым пашырэнні яго мастацкіх, культурных інтарэсаў. Было б упушчэннем абмінуць жывую цікавасць беларускага паэта-рэвалюцыянера, дазволім сабе так яго тытулаваць, да польскай літаратуры. У спіску прачытаных А. Салагубам толькі на працягу 1927 года кніг значацца збор твораў Адама Міцкевіча, «Карольдух» Ю. Славацкага, аповесці І. Крашэўскага, «Утопія» Савітры, «Парады» А. Слонімскага.

У спіску Алеся Салагуба прачытаная літаратура падаецца храналагічна. Адпаведна ідуць і выпіскі. Так палітычныя выданні чаргуюцца з мастацкімі, крытычнымі, літаратура-знаўчымі. Натуральна, кнігі не падзелены паводле мовы, нацыянальнай прыналежнасці аўтараў. Цікава было прасачыць, што ж з твораў роднай літаратуры прыцягнула ўвагу паэта. Ужо сярод першых аўтараў трапляецца Купала. Яго зборнікі «Шляхам жыцця», «Жалейка», драма «Раскіданае гняздо». Адным з першых стаіць у рэестры прачытанага «Вянок» М. Багдановіча. Затым дзесь згубіліся сярод твораў руска— і польскамоўных літаратараў, вучоных крытыкаў «Успаміны» і «Васількі» Ядвігіна Ш., паэма У. Жылкі «Уяўленне», аповесць Ф. Умястоўскага «Стася».

Восьмым выпускам «Беларускага зборніка» Я. Раманава, гэтым фундаментальным зборам беларусазнаўства, а таксама «Беларускімі вясельнымі абрадамі і песнямі» А. Занкевіча Алесь карыстауся, відаць, пры напісанні п'есы «Беларускае вяселле». Слоўнікам Ластоўскага — пры навучанні сакамерніка Карповіча, з якім быў блізка сышоўся ў турме беларускай мове, грамаце. Чытаў Салагуб у турме нямала і паточнага палітычнага, перыёдыкі. Нечага не прымаў у «Беларускай крыніцы». Аддаваў належнае часопісу «Polska Wolność». Абураўся рускімі эміграцыйнымі выданнямі. І ўсё ж нешта дыферэнцыраваў, вылучаў з іх. У яго дзённіку патрапляеш на такое: «Прачытаў тры №№ рыжскай газеты «Сегодня». Паскудны дух, але не такі смярдзючы як у газеце «За свабоду». Прынамсі, хоць стыль і мова культурная, Тургенеўская». Што ж да еўрапейскай мастацкай спадчыны, то ў 1927-м прачытаў Салагуб лічаных аўтараў — Гётэ, Ніцшэ, Жуль Верна. Праўда, самае болыыае захапленне выклікаў менавіта зарубежны мастак слова Эптан Сінклер. Аповесць славутага амерыканскага пісьменніка «Джэмі Хігенс», яго раманы сталі для Алеся Салагуба сапраўдным адкрыццём. Паэта захапіла сацыяльная пазіцыя Эптана Сінклера, яркія вобразы-тыпы, створаныя ім. Алесь знаходзіў у сучасным беларускім жыцці шмат адпаведнага матэрыялу, якія пад уражаннем мастацкага досведу Сінклера бачыўся яму ўвасобленым у мастацкім слове. У дзённіку паэт шчыра прызнаецца, што хацелася б яму стаць беларускім Сінклерам. Трэба думаць, што пад уражаннем аўтарытэта класіка, свайго сучасніка, занатоўвае ў штодзённіку ён адпаведны настрой: «Вершы мяне не здавальняюць, і трэба ўзяцца за выпрацоўку стылю ў прозе. У беларускай літаратуры так мала яшчэ раманаў і аповесцяў», — крыху прастадушна дадае малады літаратар.

А тым часам, пакуль той стыль у прозе выпрацоўваўся, голас Салагубапаэта набіраў усё большай натуральнасці і ўпэўненасці. У ім чулася паэтычная раскаванасць і напоўненасць. Напрыклад, як у вершы «Восень у астрозе»:

Не свіргочуць ластаўкі пад вакном астрожным,
Пошчак салаўіны змоўк, прыціх, замёр…
Толькі ліст пажоўклы зашуміць трывожна,
Дротў тэлефоннага чуцен перабор…
Лета адкацілася дзесь удаль, упрочкі,
Да вясны замкнулася вузкае акно.
Я адзін самотны буду цёмнай ночкай
Аб краіне роднай сніць чароўны сон.
Не забыць мне волю, сенажаць, пакосы,
Каласоў нашэпты, песні верацён…
Як забыць мне цяжка маці роднан слезы,
Першае каханне маладзецкіх дзён.
Не свіргочуць ластаўкі пад вакном астрожным…
Лета ўлетцілася, адплыло ў нябыт.
Толькі сэрца б'ецца радасцю трывожнай,
Веру! Засмяецца мне вясной блакіт.

Ёсць яшчэ ў гэтай аптымістычнай элегіі дзве канцавыя страфы, дзе аўтар неўпрыкмет для сябе ўпаў у рыторыку накшталт: «Нас не зломіць цемра, сіла капітала» і г. д. У самым жа канцы ён выказвае веру, што краты і каменне, мур не змарозяць, не адолеюць «сэрца, што так верыць у праўду і дабро». Уласна, выказаны крыху празаічна думкі, настрой, што валодалі свядомасцю цэлага пакалення маладых змагароў. Працытаваны верш напісаны Алесем Салагубам на сходзе лета. Паэт паціху падлічваў дні, што аддзялялі яго ад волі. Час адсідкі блізіўся к канцу. І ў дзённіку яго натуецца радаснае адчуванне, што вось, маўляў, хутка буду на волі і разам з каханай дзяўчынай будзем любавацца зімовым краявідам. Аднак радасць прадчування блізкай свабоды змяняецца ў паэта трывогай. У дзённіку з'яўляецца запіс: «Усё добра са мной. Вось толькі не магу забыцца на мучаніка за ідэю Арсеня К.». І крыху далей: «Не магу аднаго забыць — хваробы А. К.-га, які сядзіць у Вронках». Паэт пакутвае ад нядобрага прадчування: «Які я буду няшчасны, калі ён памрэць у турме».— І дадае паясняльна (усё ж спадзяваўся, што дзённік некалі пападзе некаму на вока): — Мы па адной справе адседжваем». У Алеся былі падставы перажываць за сябра. Арсень Канчэўскі, адзін з лідэраў Беларускай рэвалюцыйнай арганізацыі, а потым КПЗБ, па прыродзе быў нямоцны здароўем. Некалькі год, як памёр ад сухотаў яго старэйшы брат Ігнат. Алесь у адным з апошніх лістоў да Арсеня згадвае словы яго старэйшага брата-пісьменніка «Нас лучыць супольнасць ахвяры».

Як ні закоўваў грудзі свайго лірычнага героя Алесь Салагуб у бронь, якіх бадзёрых ні кідаў вобразаў, слоў, сам няволю, астрог перажываў балюча. І не дзіўна. Паэту, кінутаму за краты, было толькі дваццаць адзін год. У цяжкія хвіліны яго падтрымлівалі думкі пра будучыню. «Толькі начамі я шчаслівы, — зазначае ён, — калі ўсяцэла аддаюся мроям аб будучым жыцці. Колькі светазарных перспектыў малюецца перад вачыма… Хочацца безгранічнай свабоды руху, хочацца ўпіцца жыццём. Хочацца адведаць Маскву, Ленінград, Каўказ, Крым і г. д.». І ўжо з нецярплівасцю, якую, калі не ведаць гарачай выбуховай натуры паэта, можна прыняць за тэатральнасць, усклікае: «О, як жа мне хочацца пабываць у віры жыцця СССР!» У Саветы, куды ляцела яго няўрымслівая душа, Салагуб хутка трапіў. Незадоўга пасля выхаду з Лукішак. Можа, не ў самы вір, але…

Перайсці польска-савецкую граніцу ў 20-я ды пачатку 30-х гадоў было не так цяжка. Варта было заручыцца адпаведнай сувяззю з заходнебеларускім камуністычным падполлем. Бывалі, канешне, збоі, калі польская пагранічная ахова лавіла перабежчыкаў і адпраўляла праз службу дэфензівы ў турму. Але асноўная маса ўцекачоў шчасліва дасягала мэты. У самым пачатку 30-х уцёкі заходнебеларускай моладзі з Польшчы у СССР набылі масавы характар Для гэтага былі аб'ектыўныя прычыны. У міжваеннай Польшчы было шмат сацыяльных і нацыянальных супярэчнасцяў.

Паводле заснавальнікаў 2-й Рэчы Паспалітай, Польшча пасля больш чым векавога дзяржаўнага небыцця павінна была адрадзіцца ў межах 1772 года як колішняя федэрацыя. Уключэнне беларускіх, літоўскіх і ўкраінскіх зямель у яе склад для Пілсудскага, як найбольш уплывовага лідэра нановапаўсталага

дзяржаўнага ўтварэння, было актам гістарычнай справядлівасці і асабістай амбіцыі. Вайна з Савецкай Расіяй за беларуска-украінскія землі ішла з пераменным поспехам, не прынесла жаданых вынікаў тым польскім колам, якія мелі эканамічныя і палітычныя інтарэсы на Усходзе. Пілсудскаму, яго акружэнню і эндэкам[1] давялося задаволіцца меншым — інкарпарацыяй у Польскую дзяржаву толькі заходніх зямель Беларусі і Украіны.

Зрэшты, гэтага было нямала. У выніку пасляверсальская Польшча мела ў сваім складзе да сарака працэнтаў этнічна няпольскіх зямель і, адпаведна, праблему нацыянальнага сужыцця. Вырашыць яе даўнейшыя федэралісты думалі па-ранейшаму — шляхам паланізацыі. Аднак свет з канца XVIII стагоддзя, калі Рэч Паспалітая была падзелена хцівымі дзяржаўнымі суседзямі, моцна змяніўся. Раней усе вырашалі адны феадальныя вярхі. Цяпер жа стаў нешта значыць і заўсёдны аб'ект гісторыі — сам народ. Хоць нацыянальная кансалідацыя ў беларусаў і ўкраінцаў з-за па-важных гістарычных прычын заставалася незавершанай, імкненне быць гаспадарамі на сваёй зямлі, самім распараджацца сваім лёсам у іх акрэслілася. У выніку польская дзяржаўнасць на беларускіх і ўкраінскіх землях атрымала непрыняцце і арганізаванае супраціўленне.

Ігнараванне сацыяльных і нацыянальных штарэсаў трэш насельніцтва краіны, празмерны клопат пра захаванне буй-нога памешчыцкага землеўладання — здаецца, у адной Польшчы ў Еўропе да вайны не было праведзена стала абяцанай, адпаведнай часу зямельнай рэформы — не спрыялі палітычнай стабільнасці ў краіне. Што ж да беларускай і ўкраінскай інтэлігенцыі, то яна не магла сябе элементарна рэалізаваць у рамках польскай дзяржаўнасці. Адсюль і яе позіркі, звернутыя на Усход, дзе ў 20-я гады, хоць і абмежаваная, беларуская ды ўкраінская дзяржаўнасць прыносіла свой плён не толькі ў выглядзе культурна-асветнага будаўніцтва.

Заходнебеларуская моладзь масава памкнулася ў Саветы, спадзеючыся на вучобу і працу, даступную там усім. Здаецца, не было той вёскі ў Заходняй Беларусі, з якой бы некалькі хлопцаў і дзяўчат, болын адукаваных або падвучаных, як казалі даўней, не ўцякалі ў СССР. Алесь Салагуб імкнуўся ў Мінск яшчэ да масавага пераходу і, галоўнае, да першай хвалі рэпрэсій, якія пазначылі сабой у Беларусі 1930 год.

Пачатак новага жыцця Алеся Салагуба выглядаў, як ён і марыў яшчэ ў польскім астрозе, калі не светазарна (любілі тады гэта слова паэты), то досыць перспектыўна. Ён адразу стаў вучыцца. Неяк неаглядна скончыў, здаючы экстэрнам экзамены, універсітэт, паступіў у аспірантуру пры Беларускай акадэміі навук. Пасталелы, з залысінамі, усмешліва-шчаслівы побач з жонкаю выглядае ён на фотакартцы, прысланай сваякам у Яневічы. Ясныя, прыгожыя аблiччы, ні ценю знаку трагічнага лёсу. Здымак зроблены фатографам на Усебеларускай выстаўцы. Нядрэнна малюючы сам, Алесь цяпер стала цікавіцца мастацтвам. У перыёдыцы Савецкай Беларусі з'явіўся яго водгук на мастацкую выстаўку. Ён апублікаваў літаратурна-мастацтвазнаўчы

[1] Нарадовая дамакратыя — правая партыя ў даваеннай Польшчы.

эцюд пра творчасць Рамана Семашкевіча, мастака і скульптара, які зрабіў творчую справаздачу перад мінчанамі. На выстаўцы твораў Р. Семашкевіча дамінавала заходнебеларуская тэматыка, блізкая і зразумелая Алесю… Не магла не радаваць яго і кніжка паэзіі, выдадзеная Белдзяржвыдавецтвам. Цяжка сказаць, як аднёсся Алесь да Лукаша Бэндэ, які лез да маладога паэта ў хросныя бацькі. Ацяжэлая ад вульгарна-сацыялагічнага разумення літаратуры ўступная нататка тагачаснага заканадаўцы беларускай савецкай літаратуры, а па сутнасці самага звычайнага наглядчыка над ёй, была прадмовай да Алесевых «Лукішак». Бэндаўскае апякунства над Салагубам, аднак, наўрад ці было выпадковае. Інвектыва Алеся супраць заходнебеларускіх Н. Арсенневай, Х. Ілляшэвіча і іншых,апублікаваная ў савецкім друку, не выключана — была інспіравана якраз гэтым пагромшчыкам культуры з афіцыйным тытулам крытыка.

Час ішоў. Хутка за першай кніжкай яшчэ адна радасць прыйшла ў сям'ю Салагубаў. У Марысі з Алесем нарадзіўся сын, якога яны назвалі Лёнем, Лявонкам. Марыся выслала ў Польшчу сваім сёстрам, якія цяпер паразыходзіліся замуж — старэйшая Надзея ў Сівіцу, а малодшая Алена ў Вётхава, — фотакартку сына, усмешлівага жывога галыша. Маці маёй усё жыццё не ішоў з галавы лёс Марысінага Лёні! Пра Аляксея і сястру яна ведала, была ў гэтым пэўная, што іх даўно няма ў жывых. «Пасля таго, што там, у Расеі, рабілася», як казала яна, спадзявацца на добрае не даводзілася. Але неяк не магла ўявіць, што Лёні няма. Як жа забіваць дзіця? Такое не ўкладвалася ў галаве. Прасіла, наказвала мне пісаць куды-небудзь, даведацца хоць штонебудзь. Але куды было пісаць? Нават у лягчэйшую, хрушчоўскую, пару праўда аб вялікшай трагедыі 30—40-х гадоў заставалася за сямю замкамі, дакладней, за бранірыванымі дзвярыма ведамасных сейфаў.

Яшчэ жыла Алесева маці цётка Юста, і я, студэнтам у канікулярны час, выбраўся з'ездзіць у Зарудзічы, каб пазнаёміцца і пагаварыць з ёй. Старая Салагубіха жыла пры дачцэ Вользе, якая ў свой час таксама была ўцёкшы ў СССР, але пражыла гулагаўскае пекла, уцалела. Запомнілася хударлявая старэнькая паэтава маці, яе жывы дапытлівы — патрабавальны позірк і словы: «Жыць, сынок, можна… але каб не была так закідана праўда». І ў словах «каб не была так закідана праўда», і ў вачах жанчыны, што нямала пражыла на сваім вяку, быў боль. Боль перад усім за сына, за яго трагічны лёс,

Ад двух чалавек гадоў трыццаць таму назад я чуў пра трагічны зыход Алеся Салагуба. Нарэшце падаспелі, і праўзівыя на гэты раз, а не дыпламатычна-хлуслівыя, як гэта было ў 1956 годзе, пасля рэабілітацыі, звесткі пра арышт, суд — калі ўсе гэтыя «особые совещания», «тройки» можна назваць судом — і расстрэл паэта ў Мінску. Маю на увазе публікацыю ў друку. Міхась Машара, даведаўшыся, што прыходжуся сваяком Алесю Салагубу, сказаў, нібы арыштавалі яго за тое, што папярэджваў у лісце заходнебеларускіх падпольшчыкаў, каб не спяшаліся пераходзіць у Саюз, «бо тут нас саджаюць у свае, пралетарскія турмы». Такое ён, Алесь, мог напісаць: быў чалавекам адкрытым, праўдзівым. Але пэўна, арыштавалі яго не за выказаную ў перлюстраваным лісце думку. Проста ён, чалавек

цвёрдых марксісцкіх перакананняў, шчыры і прамы, не стасаваўся да той сістэмы, якую пад выглядам сацыялізму ўсталяваў Азеф рэвалюцыі ў сваім акружэнні, адселекцыяніраваным адпаведна маральнаму і інтэлектуальнаму ўзроўню Самога.

Вользе Салагубішцы было васемнаццаць, калі ёй удалося перабрацца ўслед за братамі ў Мінск. Было гэта на сходзе лета 1933 года. «Мне адразу неяк няўцям было, апынуўшыся на мінскіх вуліцах, што яны [людзі] усё неяк лятуць, лятуць. І ўсе бледныя», — успамінала праз гады сястра паэта. Пасля адбытага каранціну Вольга прыйшла ў сям'ю брата, але Алеся ўжо не застала. Лёня хадзіў па пакоі, напяваючы прыпеўку:

Винтовочка, бей, бей,
Буржуев не жалей…

Марыся была прыгнечаная, расказала пра гора, што так раптоўна абрынулася на іх. Вольга хутка трапіла туды, дзе апынуўся Алесь. Аднойчы напрасілася ў прыбіральшчыцы і, мыючы падлогу, праз дзверы камеры, ад нізу, патрапіла перакінуцца з ім словам. Алесь сказаў, што яго, пэўна, расстраляюць. Праз нейкі час радня даведалася, што Марысю з сынам выслалі ў Смаленск, як сям'ю ворага народа. Навучыўшыся яна была адно шыць. Можа, шытво і дапамагала ёй нейкі час, каб вытрываць адной на руках з малым сынам. Апошні раз, недзе ў 37-м, бачыў яе мільгом на Поўначы, у Усць-Выме, зямляк Валодзя Дудка з Вётхава, які падлеткам, маючы чатырнаццаць гадоў, падаўся быў за старэйшымі праз «зялёную граніцу». Пры атрыманні баланды ён назваў сваё прозвішча. «Ці не з залескай ваколіцы будзеце?» — спыталася яго жанчына-раздатчыца і назвалася, хто яна. Была гэта Марыся Салагуб з Дудкаў Янеўскіх.

І вось нарэшце ў ліку рэабілітаваных навукоўцаў у газеце «Навіны Беларускай акадэміі навук» ад 20 ліпеня 1990 года згадка, кароткая, у два абзацы, пра Алеся Салагуба. Даю ў мове арыгінала: «Сологуб Алексей Феофнловмч, литератор. Родился в 1906 г. в дер. Зарудичи Молодеченского уезда Виленской губернии, белорус. До ареста — аспирант 3-го курса Белорусской Академии наук. Арестован 1 августа 1933 г. н по постановлению внесудебного органа от 9 января 1934 г. по ст. 58 п. п. 4, 6, 11 УК РСФСР [?] осужден к исключительной мере наказания. Расстрелян 17 мая 1934 г. Реабилитирован 18 апреля 1956 г. Военным Трибуналом Белорусского военного округа».

Да сказанага ў дакументальнай нататцы мушу дадаць невялікі каментарый.

Алесь Салагуб быу арыштаваны і праходзіў дазнанне па справе сфабрыкаванага ў нетрах ведамства бяспекі так званага Беларускага нацыянальнага цэнтра. Апошнім часам пракінуліся ў друку першыя скупыя звесткі пра БНЦ. Быў гэта другі пасля «Саюза вызвалення Беларусі» сцэнарый, практыкаваны ДПУ для расправы з беларускай інтэлігенцыяй. У адрозненне ад першага, паводле якога аўтары і выканаўцы яго так і не здолелі арганізаваць адкрыты судовы працэс, што не перашкодзіла ім выкінуць за межы рэспублікі

цвет беларускай гуманітарнай навукі, страпчыя другога сцэнарыя разлічвалі на захоп шырэйшага кола інтэлігенцыі. Рэпрэсіі набіралі размах, адпаведны планам іх стратэга і натхніцеля. Па працэсе БНЦ праходзілі, павінны былі праходзіць, былыя лідэры Беларускай сялянска-работніцкай грамады, выменены ў Польшчы шляхам абмену палітзняволенымі, дэпутаты ад пасольскага клуба «Змаганне за інтарэсы сялян і рабочых», таксама гады два таму назад выбаўленыя з польскіх турмаў, здавалася б, не для таго, каб пасадзіць іх у свае, савецкія. Арыштаваны былі па так званай справе БНЦ некалькі дзеячаў Кампартыі Заходняй Беларусі, а таксама радавых яе членаў, хто паспеў эмігрыраваць у СССР. У прыдачу да гэтай немалой групы, пераважна палітычных дзеячаў, дадалі беларускіх савецкіх навукоўцаў і пісьменнікаў.

Былая заходнебеларуская камсамолка Зоя Грыц (яна у свой час з дзвюма сёстрамі і братам эмігрыравала ў СССР), будучы на высылцы ў Варкуце, ужо ў другой палове 30-х сустрэла там следчага Н. П. Бежанаву. Праўда, ужо не ў ролі прадстаўніка савецкай юрыспрудэнцыі, а як зняволеную. Пры эскалацыі тэрору была гэта звычайная рэч. Дык вось колішні следчы, даведаўшыся, што Зоя Грыц праходзіла па справе БНЦ, сказала ёй: «На БНЦ мы еще учились делать сценарии…» Дарага ж абышлася народам крывавая навука паслухмяных падручных Вялікага інквізітара XX стагоддзя.

Дадамо ў парадку інфармацыі: рэспубліканскае ДПУ у час афармлення справы БНЦ узначальваў Закоўскі. Рапапорт, якому ў актыў была залічана афёра з так званым СВБ, падаўся вышэй па службовай лесвіцы. Не найбуйнейшыя постаці ў абслузе машыны тэрору, але і не апошнія вінцікі ў ёй. Зрэшты, заказчык крывавай містэрыі, яе сцэнарыст, жрацы тэрору знаходзіліся ў Маскве.

Незразумела, калі не ведаць канкрэтных абставін, у якіх праходзіла следства і той квазісуд, чаму такім суровым, максімальным аказаўся прысуд Алесю Салагубу. Не быў ён буйной постаццю сярод тых, хто быў рэпрэсіраваны ў 1933 годзе. Па справе БНЦ праходзілі былыя паслы на сойм ад Грамады С. Рак-Міхайлоўскі, П. Мятла, П. Валошын, ад КПЗБ Л.Родзевіч, А. Капуцкі, Я. Бабровіч, ад «змаганцаў» Я. Гаўрылік, І. Дварчанін, Ф. Валынец — людзі вядомыя, сталыя. І то яны першы раз, як пагрозліва ні гучалі абвінавачванні ў іх адрас, не былі прыгавораны да расстрэлу. Гэта ўжо ў 1937—1938 гадах, калі малох тэрору запатрабаваў незлічоных ахвяр, былі яны асуджаны ў другі раз і прыгавораны да вышэйшай меры. У 1933-м кола рэпрэсій толькі набірала абароты, і раптам расстрэл фактычна радавога камуніста, няхай сабе і абцяжарвала віну Салагуба ў вачах тагачасных гаспадароў становішча тое, што быў літаратарам, беларускім пісьменнікам. Зразумела, яму цяжка, немагчыма было пагадзіць тую мару, якую ён выпеставаў пра краіну перамогшага пралетарыяту, і рэчаіснасць, суровы асабісты досвед. Невядома, ці зразумеў ён, у чадзе допытаў — а яны, сягоння гэта ўсплыло з безлічы крыніц, вызначаліся здзекамі над элементарным сэнсам, самой чалавечай існасцю — за дэмагогіяй аб дыктатуры пралетарыяту, сацыялізме — таталітарную сутнасць рэжыму. Наўрад ён прымаў асабістую і грамадскую трагедыю за непаразуменне, як нейкую загадку.

Зусім верагоднай выглядае адна легенда аб прычыне расстрэлу Алеся. Вядома адно, што ў час таго судзілішча, а праз яго праходзілі за дзень дзесяткі, сотні людзей, Алесь патрапіў нейкім чынам схапіць чарнільны прыбор са стала, каб кінуць ім у твар сваім катам. Такое ён мог зрабіць. Было ў яго натуры, агністым тэмпераменце і душы, што не дазваляла яму цярпець несправядлівасць, гвалт. Гэты выпадак мог паўплываць на рашэнне таго псеўдасуда.

Вяртаючыся яшчэ да лёсу Алеся Салагуба, не магу не расказаць адзін эпізод. Было гэта ў 1956—1957 гадах у За-рудзічах. Лейтэнанту, які прывёз Юсце Салагуб даведку аб рэабілітацыі яе сына, сказалі, што яна на сходзе. Вось ён і рашыў парадаваць старую маці паэта-камуніста прылюдна. Быў навічком у сваім ведамстве ды, можа, проста шчыра хацеў тым самым і яе падвысіць у вачах аднавяскоўцаў. Адным словам, хацеў, можа, быў рад зрабіць добрую справу. Зачытаў тую даведку, дзе гаварылася аб невінаватасці А.Салагуба і паведамлялася, што быццам ён памёр у лістападзе 1941 года. І нават называлася прычына смерці — крупознае запаленне лёгкіх. Калі ж пасланец зачытаў гэта «памёр» і назваў «хваробу», старая жанчына горача запратэставала: «Не памёр, а забілі», — голасна сказала яна. «Умер, бабушка», — удакладніў пасланец.

«Няпраўда, сынок, — прагучала ў адказ, — забілі». Прыезджы хацеў сказаць яшчэ штосьці. «Забілі», — балюча прамовіла старая жанчына. Сход прыціх. Над ім віталі адзін матчын боль, адна матчына праўда. «Сэрца матчына не абманеш» — сказаў нехта ў чуткай цішыні, выбіраючыся з хаты.

Маці Алеся Салагуба перажыла сына на трыццаць сем год. Памерла, маючы восемдзесят тры. Сына вырвалі з жыцця, творчасці ў дваццаць восем. У Зарудзічах заставаліся хлопцы, якім Алесь аддаваў часціну сваёй ідэйнай апантанасці, душы, сваіх ведаў. Цешыўся, што з іх вырастуць дастойныя людзі. Сам не паспеў дачакацца. Не здолеў зберагчы свой уласны працяг — сына. А можа, жыве дзесь Леня Салагуб пад чужым прозвішчам? Здаралася і такое ў гэтай краіне, якая была сваім дзецям часцей мачахай, чым маці.

*1991*

# Маладосць паэта: штрыхі да паэзіі ранняга Міхася Машары

Літаратура Заходняй Беларусі — паняццe сягоння ў пэўным сэнсе гістарычнае, пазначанае адно асобным раздзелам у гісторыі беларускай літаратуры. Тым часам яна адлюстравала, выказала ў мастацкім слове надзвычай духоўна Інтэнсіўны перыяд у жыцці народа, больш трох мільёнаў заходніх беларусаў, што воляю гістарычнага лёсу трапілі пад уладу адроджанай пасля Першай сусветнай вайны Польшчы і два дзесяцігоддзі вялі нялёгкае змаганне за свае сацыяльныя і нацыянальныя правы, этнічнае самасцвярджэнне.

Літаратуру Заходняй Беларусі, па сціплых падліках, рэпрэзентуюць каля сарака прадстаўнікоў розных жанраў паэзіі, прозы, драматургіі, крытыкі, літаратурна-філасофскай эсэістыкі, літаратуразнаўстза. Абсалютная бальшыня іх паспела выдаць свае творы асобны выданнем, а некаторыя мелі на творчым рахунку па некалькі кніг. Абсалютная большасць заходнебеларускіх літаратараў з-за ідэалагічнага табу эпохі таталітарызму невядома нашаму чытачу, іх спадчына паўвека заставалася ў спецсховішчах І паказацца на дзённае святло здолела нядаўна. Нават такі імяніты крытык і літаратуразнаўца, як У.А.Калеснік, які больш за паўвека аддаў вывучэнню і папулярызацыі літаратуры Зааходняй Беларусі, аўтар без мала дзесятка манаграфій і аналітычных літаратурных партрэтаў заходнебеларускіх паэтаў І пісьменнікаў, з-за цэнзурных ціскоў і ідэалагічных прадпісанняў 50-х — 80-х гадоў у сваёй даследчыцкай працы вымушаны быў аперыраваць у асноўным толькі некалькімі імёнамі. Па прачытанні ў карэктуры першай кнігі Ў.І.Калесніка «Паэзія змагання» тагачасным трэцім сакратаром ЦК КП(б)Б Ц.С.Гарбуновым аўтару яе з выдавецкім рэдактарам давялося «выпалваць» старонкі, дзе ў параўнальным кантэксце, зразумела, «выгадным» для М.Танка, упаміналася творчасць Н.Арсенневай і Хв.Ілляшэвіча. Не дазвалялася нават крытычна, чытай, у негатыўным плане згадваць імёны гэтых таленавітых паэтаў,

Цэнзарскія прытычкі псавалі ккіжку і кроў славутаму даследчыку і пазней, пры выданні адной з найвыдатнейшых кніг беларускай мастацкай крытыкі «Ветразі Адысея». Памятаю, як быў збянтэжаны стары ветэран камуністычнага падполля, адзіны ўцалелы пасля польскіх астрогаў і сталінскага генацыду былы сакратар ЦК КПЗБ М.С.Арэхва, калі яму згадалі ў другой карэктуры выкінуць з мемуараў «Справы і людзі КПЗБ: успаміны» сорак старонак тэксту.

Адным словам, «быў час, быў век, была эпоха», як сказана *ў* слыннай ананімнай паэме 60-х гадоў нашага часу.

Ідэалагічнае табу адносілася не толькі да творчаоці фізічна загубленых таталітарнай сістэмай заходнебеларускіх літаратараў Антона Луцкевіча, Уладзіміра Самойлы, Макара Краўцова, Францішка Аляхновіча, Франука Ўмястоўскага, Станіслава Грынкевіча, Алеся Салагуба, Франука Грышкевіча ды тых, што апынуліся на другім беразе, падаліся ў эміграцыю, але нават да асобных твораў, кнігаў колішніх заходнебеларускіх пісьменнікаў, што пазней, як Машара, дзейсна працавалі ў савецкай літаратуры. Давераснёўская творчасць Міхася Машары не аддавалася анафеме, але паколькі блага ўкладвалася ў анемічную ідэалагічную схему сацыялагізаванага савецкага літаратуразнаўства, заставалася ў большай частцы сваёй незапатрабаванай. Вядома, незапатрабаванасць гэта была штучна абумоўлена.

Адзін прыватны эпізод адносін афіцыйнай асобы да кніг Міхася Машары заходнебеларускага перыяду, выдадзеных у Вільні. Аднойчы супрацоўнікі акадэмічнай бібліятэкі звярнулі ўвагу загадчыка спецфонда палкоўніка Л. на тое, што кніжкі Міхася Машары варта было б вярнуць у адкрыты фонд. Шэф спецхрану з канвалютам твораў М.Машары ў руках адпарыраваў нечаканым чынам: «Паэт Машара сам быў бы рад, каб гэтых кніг у яго ніколі не было»… Пазней, прн канцы 80-х, закупленыя бібліятэкай старыя выданні М.Машары, прытрыманыя спецфондаўскім шэфам, былі вернуты для агульнага чытацкага карыстання. У канвалюце, што складаўся з паэтычных зборнікаў «На сонечны бераг», «На прадвесні», «З-пад стрэх саламяных» спісаны падчас хрушчоўскай «адлігі» з органаў на ціхую няпыльную работу маленькі ахоўнік ідэйнай чысціні савецкай ідэалогіі акуратна, чырвоным алоўкам падкрэсліў словы «Адраджэнне», «Пад сцягам Пагоні», «25 сакавіка». У словах-сімвалах, народжаных беларускім вызваленчым рухам, зразумела, бачыліся старому службоўцу не проста ідэйны зрыў паэта, а прамая палітычная крамола. Разумеў няпісаныя правілы савецкай сістэмы і сам паэт: прынамсі, нават у постсталінскі час у зборы сваіх твораў вершаў, у якіх акрэслена гучала беларуская ідэя, не ўключаў. А тым часам у творчасці М.Машары 30-х гадоў сацыяльныя і нацыявальныя матывы развіваліся паслядоўна, у аднначассі. І ў гэтым паэт, наколькі дазваляў яму талент, адукацыя, здабытая саманавукам, быў спадкаемцам ідэйна-паэтычнай традыцыі Янкі Купалы. Ды, папраўдзе, іначай, мабыць, і не мог, прыйшоўшы ў літаратуру на самым уздыме нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі.

Далучыўся да яго з заснаваннем Беларускай сялянска-работніцкай грамады. Удзельнічаў у арганізацыі яе гурткоў у сябе на Шаркоўшчыне. Кароткі час вясной 1927 года быў выдаўцом-рэдактарам постграмадаўскай газеты «Наша воля». Арышты дэфензівай грамадаўцаў не мінулі Машары. Тры з паловай гады будучы паэт адсядзеў у Лукішскай турме. У астрожнах мурах не занік душой, гартаваўся маральна, жыў напружаным духоўным жыццём.

Пра абставіны свайго прыходу ў літаратуру канкрэтна пісаў у лісце крытыку і літаратуразнаўцу Станіславу Станкевічуі «…Калі б не астрог, не Грамада, я і сёння мадзеў бы ў цяжка-мужыцкім жыцці, без жаднага духова-

га зместу, з спячай думкай і невыразна-падсвядома вострым імкненнем у грудзёх, якое ганяла мяне ад 16 да 25 год у вандроўцы з аднаго да другога кута, ад аднаго праекту да шукання другога, пакуль напаследак не абапёрся на Грамаду й Лукішкі. 30-месячныя гасціны, пераважна адзіночкі, разбудзілі думку, што скрышталізавала поглядам і нeяк выразней намеціўся жыццёвы шлях і перакананні. І тут станоўка і грунтоўна азяўся за далейшы цяг самаадукацыі і духовага развою» Нёман, 1932, кн. 5, с. 175).

На турэмным двары падчас шпацыра палітвязняў зрэдзь часу бачыў Алеся Салагуба і Хведара Ілляшэвіча, якія ўжо досыць актыўна друкаваліся ў беларускай перыёдыцы. У «Лукішскім дзённіку» А.Салагуб коратка занатоўвае ўражанне ад адной з такіх мімалётных сустрэч: «Вечарам бачыў Міхася Машару, які весела і ветліва перакідваўся навінамі».

У астрожных мурах была пережыта Міхасём Машарам радасць ад сваёй першай паэтычнай кніжкі. З надсыланых разам з лістамі на волю, у рэдакцыю часопіса «Заранка» вершаў зняволенага хлопца з Дзісеншчыны рэдактар Людвіка Войцік склала першы зборнічак яго твораў. Турма абвастрала адчуванне жыцця, волі, прыроднай прасторы, якія з астрожнага акна бачыліся, успрымаліся яшчэ зманлівей, прывабней:

У золаце зорных валокнаў,
У красках лятункаў і сна
Прышла, вось і стала ля вокнаў
У нас, чараўніца вясна…

Адзіночная турэмная камера схіляла да роздуму:

У нямым маўчанні сцен турмы
Пачаў вякоў навуку браць,
Гасіць задор, — агонь крыві —
Усё выбачаць, і ўсё кахаць.

У першай, танюткай, на 15 вершаў, сціпла выдадзенай кніжачцы М.Машары дамінавала пейзажная лірыка. Але часам у суплёце радкоў, строф яе набіраў сілу грамадзянскі матыў. Малады паэт звеставаў, напрыклад, што

«Хутка выйдзе з сялянскага нетра
Новы волат: без слёз і без жаху».

І ўжо зусім праграмным выдаваў верш « Я сын галоты і цямры»:

Я сын галоты і цямры
Паўстаў я з поту і крыві.
Я шэрай ціхай вёскі сын,
Ўладар палёў, лугоў, далін.

Наступны паэтычны зборнік М.Машары пабачыў свет ажно праз шэсць год, у 1934-ым, хоць паэт увесь час ужо актыўна друкаваўся ў ва ўсіх заходнебеларускіх перыядычных выданнях, што не ў малым ліку паўставалі да жыцця і занікалі, прыдушаныя цэнзурай, грамадскай беднасцю і не ў апошнюю чаргу расцерушэннем сіл з-за штучна падаграванай палітычнай дыферэнцыяцыі.

Якраз у гэты прамежак часу адбыліся фатальныя змены ў нацыянальна-вызваленчым руху, у беларускім адраджэнні. Беларуская ідая, тэарэтычна сфармуляваная як палітычная праграма народнікамі-гоманаўцамі ў 80-я гады XIX ст., на пачатку XX ст. набыла непасрэднае грамадска-палітычнае і культурна-асветніцкае ўвасабленне. Скіраваная ў сваёй аснове, стратэгічных мэтах на рэалізацыю духоўнага патэнцыялу беларускага народа як асобнага, самастойнага этнасу, нацыянальная ідэя пачала ўвасабляцца ў заснаванні палітычнай партыі (Беларускай сацыялістычнай грамады), стварэнні сталага перыядычнага друку (газеты «Наша доля», «Наша ніва», часоп. « Саха», «Лучынка», альманах «Маладая Беларусь»), разгортванні кніжна-выдавецкай дзейнасці (выдавецкія суполкі, таварыствы ў Пецярбургу, Вільні, Менску), развіцці мастацкай культуры (Беларускі музычна-драматычны гурток у Вільні, тэатр Ігната Буйніцкага) і інш. Рэдакцыя газеты «Наша ніва» сціпла і дакладна сфармулявала задачы свайго выданняі «Будзіць у беларуса пачуццё чалавека і грамадзяніна». Гэты пастулат сцісла зыражаў сутнасць беларускага руху на яго раннім этапе. Палітычнае разняволенне, прынесенае звяржэннем царызму ў лютым 1917 года, прычынілася да імклівага росту беларускага вызваленчага руху, набыцці ім масавасці і арганізаванасці. У ходзе з'ездаў беларускіх партый і арганізацый у Менску, бежанскіх з'ездаў, з'ездаў беларусаў-вайскоўцаў Заходняга, Паўночна-Заходняга і Паўднёва-Заходняга франтоў ішла нацыянальная кансалідацыя, фарміравалася грамадская думка адносна будучыні Беларусі, выкрышталізоўваўся яе палітычны ідэал. У снежні 1917 г. на І-ым Усебеларускім з'ездзе, прадстаўнічым, дэмакратычна абраным форуме ўсяго народа, ён атрымаў сваё ўвасабленне ў ідэі Беларускай дэмакратычнай рэспублікі. 25 сакавіка 1918 г. Рада, выбраная ўсебеларускім з'ездам, пракламаваўшы стварэнне Беларускай Народнай Рэспублікі і ўтварыўшы Народны сакратарыят яе, першы беларускі ўрад на чале з юрыстам Я.Варонкам, спрабавала рэалізаваць найвышэйшы ідэал беларускага народа — аб'явіць Беларусь суверэннай, незалежнай дзяржавай. Змаганне за пабудову беларускай дзяржаўнасці працягвалаоя ў бліжэйшыя ад дня пракламавання БНР гады ў надзвычай скрутных умовах захопу беларускіх зямель суседнімі дзяржавамі аж да драматычнага падзелу іх паміж Польшчай і Савецкай Расеяй. З гэтага часу беларускі адраджэнскі рух на Захадзе і ўсходзе Беларусі развіваўся ў розных формах, рознымі шляхамі. Абапіраючыся хоць і на абмежаваную бэсэсэраўскую дзяржаўнасць, у 20-я гады ў Савецкай Беларусі ён дасягнуў рэальных вынікаў у мастацкай, культурнай і навуковай сферах, стаў прыцягальным дзейнікам для прадстаўнікоў беларускага этнасу за межамі БССР, асабліва ў Заходняй Беларусі. На заходнебеларускіх землях беларускі рух набыў пе-

раважна легальныя арганізацыйныя формы супрацiву польскаму рэжыму з яго адкрыта каланiялiсцкай, асiмiляцыйнай канцэпцыяй у дачыненнi да беларусаў i ўкраiнцаў.

Папраўдзе, беларускi вызваленчы рух на захад ад польска-савецкай граніцы ўлучаў у сябе розныя плыні грамадскай думкі. Аднак па-над усім дамінавала ідэя непадзельнасці і незалежнасці Беларусі. Вобразным эквівалентам нацыянальнай ідэі ў свядомасці лідэраў вызваленчага руху быў Беларускі Дом, усведамленне неабходнасці пабудаваць супольную гасподу ўсіх беларусаў і этнічных меншасцяў, што здавён жывуць на беларускай зямлі.

У першай палавіне 20~х гадоў беларускі рух у Заходняй Беларусі абапіраўся на даволі шырокую агульнанацыянальную платформу і па сутнасці ўяўляў сабой адзіны нацыянальна-вызваленчы франт. Рухавіком яго былі значныя інтэлектуальныя сілы, сканцэнтраваныя ў Вільні ў папярэднія гады і асабліва на сыходзе сусветнай вайны і рэвалюцый. А.Луцкевічу, М.Гарэцкаму, Ул.Самойлу, Я.Родзевічу, А.Станкевічу, Яз.Лагіновічу, Ф.Аляхновічу, І.Канчэўскаму, П.Мятлу і інш. належыць стварэнне дэмакратычнага беларускага парыядычнага друку ў Вільні, якому наканавана было адыграць дзейсную ролю ў палітычнай асвеце народа, фарміраваняі вызваленчай грамадскай думкі. Трэба сказаць, што пэўную дапамогу вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі як непасрэдна, так і ўскосна аказала салідарнасць і падтрымка з боку інгэлігенцыі Ўсходняй, Савецкай Беларусі, асабліва яе кіраўнікоў, палітычных дзеячаў Ус.Ігнатоўскага, А.Чарвякова, Яз.Адамовіча да іх знішчэння таталітарным рэжымам.

Гісторыкам яшчэ належыць ацаніць ролю у станаўленні нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі яе прадстаўнікоў у вышэйшым органе даваеннай Польшчы — сойме і сенаце. Менавіта Беларускі пасольскі клуб, а не Беларускі нацыянальны камітэт як агульнанацыянальны прадстаўнічы орган быў тым штабам, дзе практычна выпрацоўваліся стратэгія і тактыка вызваленчага руху. Менавіта з дэпутацкай беларускай парламенцкай фракцыі выйшлі заснавальнікі Беларускай сялянска-работніцкай грамады, Беларускага сялянскага саюзу, БПК змагання, арганізацый, што прычыніліся да развіцця беларускага руху як масавага, з шырокім ахопам ім перадусім сялянства і інтэлігенцыі. Прыхільнікі і творцы леварадыкальнай плыні беларускага руху імкнуліся выкарыстаць дзеля мэты нацыянальнага вызвалення сацыяльны фактар, апелюючы да сялянства, якое ў Заходняй Беларусі ў масе сваёй было малазямельным, пачувала крыўду на фоне багатых зямельных латыфундый памешчыкаў. Перанёсшы барацьбу за зямельную рэформу, а фактычна за зямлю для сялянства, з соймавай арэны непасрэдна ў масы, а менавіта гэга яны рабілі на мітынгах, у друку, у арганізацыях БСР грамады, беларускія паслы (дэпутаты) садзейнічалі радыкалізацыі вызваленчага руху, наданню яму рэвалюцыйнага накірунку.

Нацыянальная кансалідацыя, што адначасна адбывалася ў Беларусі па абодва бакі польска-савецкай мяжы, пранікненне беларускай ідэі ў народныя нетры, узросшы агульны маштаб беларускага руху, натуральна,

занепакоілі ўладных гаспадароў беларускай зямлі, кіраўніцтва Польшчы, дзе ўжо ўсталяваўся аўтарытарны рэжым, і СССР, у якім ішло завяршэнне станаўлення таталітарнай сістэмы. Поліэтнічная Польшча і Савецкая Расія, у якіх да таго ж сфарміраваліся аўтарытарныя рэжымы з выразнай тэндэнцыяй да таталітарызму, натуральна, мелі засцярогу супраць адцэнтрабежных нацыянальных рухаў у сваіх краінах,

Невыпадковы той факг, што разгром урадам Пілсудскага стотысячнай БСР грамады, а сярод яе лідэраў былі прызнаныя дзеячы беларускага адраджэння, па часе супаў з палітычнай кампаніяй супраць так званай «нацдэмаўшчыны», а фактычна з пачаткам рэпрэсій супраць беларускай інтэлігенцыі і сялянства ў БССР, якія к канцу 30-х перараслі ў сапраўдны этнацыд. Пасля некалькіх хваляў тэрору стала праблематычным, ці здолеюць беларусы як нацыя падняцца, падаць голас і праз 50—70 гадоў.

Не так трагічна, але досыць драматычна склаўся лёс беларускага нацыянальна-вызваленчага руху і на Захадзе ад польска-савецкага гранічнага падзелу.

Па-першае, удар, нанесены беларускаму руху польскімі карнымі органамі закрануў не толькі Грамаду, а ўвесь яго ў цэлым. Быў стратны людзьмі, чалавечымі асабовасцямі. Арышты грамадаўцаў набылі масавы характар і ўключалі не толькі актыў, а і прадстаўнікоў нізавых арганізацый Грамады. У той час малады паэт, а пазней вядомы публіцыст Сяргей Хмара, абагульняючы факт масавага вывазу беларусаў-палітзняволеных у сумнаславутыя астрогі Заходняй Польшчы, пісаў:

Грудзёнц, Вронкі, Каранова, —
Грамада кругом,
Стогнуць, стогнуць беларусы
Пад панскім ярмом.

Па-другое, судова-астрожны тэрор, абрынуты на беларускі рух, сеяў ў масавай свядомасці зерні страху і паняверкі. Не ў малой меры ён прычыніўся і да масавага адтоку заходнебеларускай моладзі з сваёй зямлі, нелегальнай эміграцыі на ўсход, дзе яе чакалі крушэнне мары і трагічны лёс, хоць былі і чыста сацыяльныя і палітычныя прычыны гэтага па сутнасці трагічнага зыходу.

Апынуўшыся між двух агнёў, у спецыфічных псіхалагічна-сацыяльных умовах, дзеячы нацыянальнага руху ў Заходняй Беларусі, вышаўшы з польскай турмы, паспрабавалі неяк стабілізаваць яго. Паколькі рэалізацыя палітычнага, дзяржаўніцкага беларускага ідэалу ходам падзей адсоўвалася на няпэўную будучыню, яны выснавалі новую тактыку руху. Сутнасць яе заключалася ў здабыцці магчымага, нейкага мінімуму ў драматычных умовах існавання беларускага этнасу. Прыярытэтнымі аб’яўляліся асветныя заваяванні і здабыццё эканамічных падстаў экзістэнцыі беларускага грамадства.

Была зроблена спроба аб’яднання ўсіх нацыянальна свядомых сіл пад беларускім нацыянальным сцягам, на адной агульнанацыяналь-

най ідэалагічнай платформе. Ініцыятыву ў гэтым аб’яднанні, у канкрэтным стварэнні «Цэнтральнага саюзу беларускіх арганізацый і ўстаноў» узяла на сябе група Луцкевіча—Астроўскага. Газета «Наперад» (1929—1930) была выразніцай гэтага напрамку беларускай думкі, імкнулася да садзейнічання кансалідацыі руху на новых тактычных падставах. Сабраць разбітыя і ідэйна разрозненыя беларускія сілы цэнтрасаюзнікам не задалося. Устаноўкі на асветную і эканамічную працу з-за палітыкі акупацыйнай улады давалі мізэрныя вынікі. Да таго ж ідэі цэнтрыстаў падлеглі вострай крытыцы злева і справа. У іх палітыцы бачылі адно: кампраміс з урадам, здачу пазіцый вызваленчага руху. Ідэолагі незалежнага беларускага шляху на чале з Антонам Луцкевічам падвергліея ярасным нападкам з савецкага боку. «Цэнтрасаюз» з мэтай кампраметацыі ў вачах масаў жорстка атакавала падпольная легальная прэса КПЗБ, курс якой у нацыянальнай палітыцы пад уплывам змен у гэтай сферы ў Маскве радыкальна змяніўся. Цяпер у апарат КПЗБ прысылаліся з Мінску функцыянеры, якія ўмудраліся шукаць «нацдэмаў» сярод беларускай дэмакратычнай інтэлігенцыі на Захадзе і «выкрывалі» як такіх кіраўнікоў ТБШ Р.Шырму, Ф.Стацкевіча, С.Паўловіча.

З другога боку, ідэі і арганізацыйныя захады беларускіх цэнтрыстаў востра, без увагі на маральнвя прынцыпы атакаваліся справа беларускімі хрысціянскімі дэмакратамі,

Пасля ўсіх катаклізмаў, што здарыліся з беларускім рухам на Ўсходзе і Захадзе, хадэкі, не акцэнтуючы ўвагі на гэтым, пакрыёма прэтэндавалі на лідэрства ў ім. Ва ўмовах ціску на ўсякую беларускую працу з боку польскай дзяржавы і палітычныя скразнякі, што раздзьмухвалі агонь недаверу, сваркі чужымі зацікаўленымі рукамі, нацыянальна-вызваленчы рух у Заходняй Беларусі 30-х гадоў развіваўоя складана, у нечым супярэчліва як на ненармальныя абставіны. Але маладое пакаленне, якое ўлілося ў яго, пераймала сцяг барацьбы, асноўнага арыенціра не згубіла: выявіла сябе верным нацыянальнай ідэі.

Верным нацыянальнаму ідэалу заставаліся і прадстаўнікі мастацкай інтэлігенцыі Заходняй Беларусі. У вершах Міхася Машары сіратнага часу ў жыцці беларускага народу, яго вызваленчых радоў чуецца прамы водгалас тых палітычных ідэй, што кружылі тады ў грамадстве. Дэвіз часу выказвае паэт часам плакатна, лозунгава:

Наперад, наперад, наперад
Праз цемру, праз сон і ману,
Вяслуйма на сонечны бераг,
Там створым мы праўду сваю.

Роздум над часам, заходнебеларускай рэчаіснасцю, будучыняй у Машары, нягледзячы на скрутныя ўмовы, у якіх жыў паэт у вёсцы, і агульны грамадскі ўпадак, гучыць аптымістычна:

Няхай мы сёння блудзім сонна,
Няхай няволіць край туга,
І як даўней — яшчэ пакорна
І напалохана душа.

А ўсё ж да новых дзён падходзім
І хутка днець ужо пачне.

Паэт параканаы, што «Беларусь ужо спіць неглыбока».

Дылемы беларускага руху 30-х гадоў своеасабліва адгукаюцца ў вершах М.Машары, праз пафас паэтычных радкоў чутны рэаліі яго:

Бушуйце, шалёныя хвалі,
Гайдайце ў цемры чаўном!
Праменні там ўспыхнулі ў далі,
Гэй, стырнік! Туды напралом.
Падмогі не трэба, не хочам!
Надзея на гібкасць і моц.
Мы самі ўсё пераможам
Варожыя хвалі і ноч.
Ратунку таксама не просім,
Зацяжка нам ласка чужых.
Ўсё самі рукамі сваімі здабудзем —
Права і месца жывых!

М.Машара час ад часу сведчыць радасць ад сваёй заангажаванасці Адраджэннем, далучанасці да супольнай народна-грамадскай справы Беларусі. Выказвае гэту радасць непасрэдна як паэт і грамадзянін сваёй зняволенай, але няскоранай краіны, выказвае з верай у праўду народную, беларускую:

Як не кажы,
Якіх не роб там прыпушчэнняў,
А ад мяжы і да мяжы
Хвалюе сэрда Адраджэнне.

Вось хоць бы я,
Унук прыгоннікаў звычайных,
А муза звонкая мая
Не знае сонейка адчаю.

Звіні, звіні, мая бунтуючая ліра,
На вазе сёння нашы дні
І пераважуць праўдай шчырай.

Трэба сказаць, што насуперак неспрыяльным.часам, паводле сведчанняў сучаснікаў, фатальным умовам, жыццё М.Машары 30-х гадоў пазначана актыўнай, напружанай літаратурнай працай.

Да прыходу на літаратурную ніву Заходняй Беларусі Максіма Танка М.Машара фактычна заставаўся лідэрам заходнебеларускіх паэтаў. Наталля Арсеннева, равесніца Машары, нягледзячы на высокую культуру верша, з-за сваёй індыферэнтнасці да грамадскіх праблем, замкнутасці ў коле пейзажна-інтымнай тэматыкі, не магла прэтэндаваць на гэта высокае званне. Услед за зборнікамі «На сонечны бераг» (1934), «На прадвесні» (1935), паэмай «Смерць Кастуся Каліноўскага» (1934) выходзіць самая значная Машарава паэтычная кніжка «З-пад стрэх саламяных». Грамадзянокія матывы ў ёй набылі яскравейшае мастацкае ўвасабленне. Дастаткова прыгадаць яго вершы «Начамі чорнымі», «Ідзём туды, дзе волаты», «Званар», «Маладая Беларуоь», «Барацьбой працярэбім мы шлях», каб пераканацца ў сказаным. Па-ранейшаму сваю місію паэта М.Машара бачыць у тым, каб «маліцца песнямі світанню і спячых ворагаў будзіць». Яго натхненне жывіць вера ў свой народ і яго змагарную нязломнасць. Мастацкае абагульненне думкі паэта, энэргетыка яе выдатныя:

О край нядолі і пакуты!
Старая мудрасць шэрых хат,
Тваё цярпенне перакута
У Адраджэння моцны гарт.

Нввыпадкова малады крытык пад псеўданімам Алесь Рымчук у эцюдзе «Наш літаратурны маладняк» у такіх словах аддаваў належнае паэту: «Выдатнае месца ў сучаснай беларускай паэзіі займае Міхась Машара, вельмі папулярны і шырока вядомы сёнвя паэта не толькі сярод інтэлігенцыі, але і ў народзе». І далей: «Народна-грамадскі элемент з’яўляецца наймагутнейшай стыхіяй верша Машары, прарываецца ён у аграмаднай бальшыні яговых твораў, гучыць магутным заклікам да працы і барацьбы за народную долю або выліваецца ў форме візіі недалёкай будучыні, якую ўбірае паэта ў сонечныя бляскі» (Шлях моладзі, 1937, № 4).

Што да тэзіса «вельмі папулярны…не толькі сярод інгэлігенцыі, але і ў народзе», то не магу не прывесці адзін факт з размовы ў апошні год жыцця Максіма Танка. Незабыўны Яўген Іванавіч падчас роспытаў аб нейкіх рэаліях, дэталях літаратуры Заходняй Беларусі нечакана, крыху роздумна сказаў: «А ведаеце, мой бацька з усіх заходнебеларускіх паэтаў найбалей цаніў Міхася Машару, яго вершы». Пазней, думаючы над прызнаннем Народнага паэта, згадваў Машаравы вершы «Сейбіт»:

Спаткаў яго я ў полі,
як збозкжа сеяў ён,
Свянціў рукой мазольнай
размашыста загон…

Або такія радкі з верша «На раллі»:

У кашулі бела-палатнянай
З сяўнёй я вышаў на раллю
І над ажыўшымі палямі
Аўсяным золатам званю.

Вершы вельмі, сказаў бы, беларускія. Паэтычнае адчуванне зямлі, святасці ратайскай працы ў іх вельмі высокае.

Умеў крануць М.Машара струны душы народнай і востра сацыяльным матывам:

…І радасць — ціхая вяснянка —
ў душы гнязда не ўе сабе.
Замоўкла з песнямі сялянкі,
бо вёска родная ў бядзе.
Бяда глядзіць галодным вокам
на ніў разгорнуты дыван,
і дзеці плачуць ненарокам,
і жудзь гарыць ў вачах сялян.

Гэта напісана 24 красавіка 1937 г. у роднай вёсцы Таболы, дзе складалася асноўная вершатворчасць М.Машары даверанснёвай пары.

Цікава, што паэма «Валачобнае», якую хачу прапанаваць увазе сучаснага чытача, не была ўключана ні ў адну з чатырох паэтычных кніжак М.Машары, выдадзеных да вайны. Зразумела, чаму паэма не трапіла ні ў адно асобнае выданне твораў паэта савецкага часу: у ёй на ўсю моц прагучала нацыянальная ідэя, апаэтызаваны вызваленчы рух, беларускае Адраджэняе з яго гістарычнай сімволікай. А тое, што твор не трапляў у даваенныя зборнікі М.Машары, відаць, рэч суб’ектыўная. Проста вершы-кніжкі збіраліся добраахвотнымі і ахвярнымі выдаўцамі паэта, пераважна Станіславам Глякоўскім, з дапамогай Язэпа Найдзюка як бы завочна, у Вільні, далекавата ад тагачаснага месцажыхарства паэта, занятага будзённым клопатам земляроба аб кавалку хлеба, якога ў падпольскай Заходняй Беларусі нельга было зарабіць літаратурнай працай.

Паэмка «Валачобнае» напісана дваццацісямігадовым Міхасём Машарам. У сваім мастацкім пошуку паэт ішоў услед за паэтычнай кантатай Леапольда Родзевіча «Беларусь», за паэмай Уладзіміра Жылкі «Уяўленне». Але ў нечым істотным патрапіў застацца самім сабой, як сапраўдны паэт. Пры канцы не дзеля таго, каб запабягаць ураженню, думцы чытача, а для, так бы мовіць, эстэтычнай настройкі дазволю сабе працытаваць крытыка А.Бужанскага: «Хоць аўтар «Валачобнага» не належа да кірунку імпрэсіяністаў, паэма гэта, бясспрэчна, мае колер, мае сваю зрокавую трансфармацыю, як музыка Дэ Бюсі і Равэля.»

*1996*

# «Веснапесні» Хведара Ілляшэвіча

Як паэт Хведар Ілляшовіч склаўся ў стратныя для Беларусі 30-я гады. Друкавацца, і то досыць актыўна, пачаў рана, падлеткам. З сярэдзіны 20-х гадоў ледзь не ва ўсіх беларускіх перыядычных выданнях, што выходзілі тады ў Вільні, можна было сустрэць яго вершы, падпісаныя ўласным прозвішчам, крыптонімам Хв.І. або псеўданімам «Малады». Маючы дзвеятнаццаць, Ілляшэвіч ужо быў аўтарам першай кніжкі, зборніка паэзіі «Веснапесьні». А за два гады перад гэтым, семнаццацігадовым юнаком паспеў пазнаёміца з адзіночкай у сумна вядомай на ўсю Заходнюю Беарусь турме Лукішкі. Так што жыццёвыя ўніверсітэты пачаў праходзіць з рана.

Нічога прэтэнцыёзнага ў паводзінах, самім выглядзе Хведара Ілляшэвіча не адчувалася. Невысокі, хударлявы, прастадушны з твару: на першы погляд такі сабе вясковы хлапчына. У сапраўднасці ж быў месцічам з нараджэння, віленчуком. На фотакартках вучняў Віленскай беларускай гімназіі, гурту Беларускага студэнцкага саюзу за час навучання ва ўніверсітэце і пазней на фотаздымках творчай інтэлігенцыі трымаўся сціпла, прымасціўшыся дзенебудзь ззаду або з краю, — губляўся ў агуле.

У першай жа сваёй паэтычнай кніжцы пачынаў з маніфестацыі, аб уласным ідэйна-эстэтычным крэда эаяўляў па-маладому, гучнавата: «Я думаю вобразамі, дзеля гэтага ў маіх вершах шмат недасказанага, Галоўны тон іх — гэта трывожнасць сучаснае эпохі. Суадказна якраз гэтаму тону, які зьвініць, так сказаць, у цэнтральных вершах, я і назваў зборнічак «Веснапесьн» … Яшчэ шукаю пераважна ў галіне формы. Старое не падабаецца. У беларускай паэзіі (зусім зразумела) пераважалі сумныя, невыразныя матывы і ідэалы. Новае пакаленне, вырасшае на грунце адраджэнскага ўздыму, нясе з сабой выразнасць і бадзёрасць. У навейшай беларускай паэзіі гучыць сонечны марш і для «новых» паэтаў настаў час скласці «Новы Апокрыф».

У апошняй фразе па асацыяцыі праглядае алюзія на «Апокрыф» М.Багдановіча, але яна чыста знешняя: проста гутарка ідзе пра сімвал веры. Што ж да ідэйна-грамадскіх арыенціраў маладога Хведара Ілляшэвіча, то яны цалкам выплывалі з заходнебеларускай явы, у якой ён фарміраваўся як асоба, паэт. А сама рэчаіснасць, жыццё беларускага інтэлігента ва ўмовах пасляверсальскай Польшчы, што збройнай сілай захапіла, не без дапамогі звонку ўключыла ў склад сваёй адроджанай дзяржавы без мала палову этнічна беларускіх зямель, былі спецыфічныя»

З першай сусветнай вайны як ні адна з тэрыторый, уцягнутых у крывавую бойку, Заходняя Беларусь выйшла разбуранай і здратаванай. Яе землі з поўначы на поўдзень тры гады былі тэатрам ваенных дзеянняў. Тут тры гады стаяў руска-германскі фронт, нішчылася чалавечае жыццё і дабрабыт, нявечылася зямля. Больш за мільён людзей тутэйшага краю, пераважна сялян, было сарвана ваеннай віхурай з родных месц, асуджана на жорсткі лёс выгнанцаў.

У патоку ўцекачоў, што кіраваліся на ўсход, была і сям’я Ілляшэвічаў. З трыма дзецьмі і старымі бацькамі Ілляшэвічы знайшлі часовае прыстанішча аж на Разаншчыне, у горадзе Скопіне. Праз гады паэт згадае пра гэта ў лісце да рэдактара часопіса «Калоссе»… Пасля рэвалюцыі, заканчэння польска-савецкай вайны, праз пяць гадоў тулянне па чужыне, у 1921 годзе людскі паток, памяльчэлы, губляючы па дарозе ад мору і голаду жывыя душы, ізноў павярнуў на Захад, каб пабачыць родныя папялішчы, пераараныя снарадамі і парослыя кустамі палеткі.

Запанавалая на заходнебеларускіх землях, згодна Рыжскаму міру, польская ўлада не спяшалася на дапамогу рэпатрыянтам. Дрэва на адбудову зруйнаваных сяліб давалі — не давалі. А тым часам адвечныя беларускія лясы, дубровы, аддадзеныя ў канцэсію бельгійскім і ангельскім фірмам, трашчалі пад тапаром: « з мартвых всталэй» дзяржаве, асобным уласнікам лесу патрэбна была цвёрдая замежная валюта.

Польскі ўрад, сейм паспешліва выпрацоўвалі канцэпцыю асваення этнічна няпольскіх заходнеўкраінскіх і заходнебеларускіх земляў. Яна ўключала такія элементы, як насаджэнне на іх польскага вайсковага асадніцтва, падаўленне ачагоў беларускай і ўкраінскай нацыянальнай асветы, кааператыўнага руху і інш. У палітычным і сацыяльным сэнсе гэта была тыповая каланіялісцкая канцэпцыя. Адзін з аўтараў яе міністр Скульскі спяшаўся патрактаваць яе вынікі, заявіўшы, што праз 50 год у Польшчы нельга будзе знайсці беларуса і са свечкай.

Тым часам «тэрэнь пшэйсцёвы» (пераходная тэрыторыя), як мыслілі Беларусь некаторыя польскія, дый не толькі польскія, палітыкі, аказалася не такой ужо безыменнай, бязмоўнай зямлёй. А яе этнас, з самаістай этнапсіхалогіяй,старажытнай культурай і гісторыяй,не такі падатлівы на асіміляцыю і іншыя маніпуляцыі над ім, як здавалася дзяржаўцам даваеннай Польшчы. Беларусам не ўдалося рэалізазаць сваю мару аб уласнай дзяржаўнасці ў 1917—1918 гг., калі ў адначассі рушыліся дзве імперыі і незалежнасць заваявалі фіны, палякі, літоўцы, латышы, эстонцы, чэхі і іншыя народы, хоць маладыя беларускія адраджэнцы прыклалі шмат ахвярных намаганняў, каб разам з сваім народам устаць з нявол. Неспрыяльна для беларусаў як толькі што паўсталага да самастойнага жыцця народа складвалася міжнародная палітычная кан'юнктура. У адных надзею аб планэтарнай Свабодзе, а ў іншых страх і, як пазней аказалася, апраўданы выклікаў сацыяльны пераварот у Расіі.

Беларусь апынулася на перапутку глабальных планаў і стратэгій не толькі сваіх суседзяў, але і краін ад яе зусім далёкіх. Здратаваная шматкроць з За-

ходу на Усход, знаходзячыся ва ўмовах перманентнай акупацыі, беларуская зямля, яе народ мусілі даваць і давалі доказ сваёй жывучасці.

Такім доказам, адным з такіх доказаў у Заходняй Беларусі былі выбары восенню 1922 г. у найвышэйшы орган ІІ-ой Рэчыпаспалітай Польшчы сейм і сенат. Нягледзячы на агульныя неспрыяльныя ўмовы, беларусам у блоку з іншымі нацыянальнымі меншасцямі, а яны складалі больш траціны насельнікаў польскай дзяркавы, удалося правесці 15 сваіх абранцаў. Сфармаваны імі ў сценах польскага парламенту Беларускі пасольскі клуб і стаў не першым часе апораю і ў пэўнай меры маторам нацыянальна-вызваленчага руху. Беларускія дэпутаты, або паслы, як іх тады называлі, з’явіліся публічнымі рэпрэзентантамі народа Заходняі Беларусі, абаронцамі яго жыццёвых інтарэсаў. З трыбуны сойму старшынёй беларускай парламенцкай фракцыі была заяўлена палітычная праграма прадстаўнікоў Заходняй Беларусі. Сутнасць яе заключалася ў дамаганні аўтаноміі заходнебеларускіх земляў. БПК меў цесную зваротную сувязь з усімі раёнамі краю.

Факты праследу беларускай школы, прэсы, незаконшя арышты паасобных грамадзян, ладу жыцця вайсковых пастояў, самаўпраўства «kacykyw» (царкоў) мясцовай адміністрацыі, біцця палітзняволеных паступалі ў БПК, абагульняліся, выкарыстоўваліся ў дэпутацкіх выступленнях або афармляліся ў выглядзе афіцыйных зваротаў да прадстаўнікоў урада, міністраў як інтэрпеляцыі-запыты, будзілі грамадскую думку. Заслуга беларускіх дэпутатаў сойму ў абароне быту і жыцця свайго народа, а дагэтуль, трэба сказаць, нашага ратая і сейбіта ніхто ніколі з высокай трыбуны так не патрапіў абараніц, не толькі ў саміх абароне, заступніцтве, колькі ў правядзенні беларускай нацыянальнай ідэі непасрэдна ў масы.

Асаблівы рэзананс атрымлівала беларуская праўда,. беларускія пастулаты пры непасрэднай сустрэчы дэпутатаў з народам: на тах званых веча, імправізаваннх мітынгах, што адбываліся найчасцей на гадавыя святы, на рынку ў гарадах і мястэчках, дзе збіралася шырокае наваколле. Бэларускія паслы на сейм 1922—1927 гг. (а былі яны людзьмі невыпадковымі, у пераважнай большасці асобамі інтэлектуальна адметнымі: старэйшае пакаленне ў Заходняй Беларусі і праз гады памятала іх паімённа) у свой час прычыніліся да многіх добрых спраў Так, іхнюю арганізацыйную і матэрыяльную ўспамогу (тыя ж штомесячныя адлічэнні з дэпутацкіх акладаў) адчувалі на сабе беларускі перыядычны друк і школа, перадусім чатыры ўцалелыя ад закрыцця ўладай гімназіі. Мелі беларускія асветныя асяродкі апеку і яшчэ заднаго боку, з боку камуністычнага падполля. Яна была спецыфічнай.

Віленская беларуская гімназія, куды ўслед за старэйшым братам Мікалаем паступіў Хведар Ілляшэвіч, была вучэльня нэардынарная. Палітычныя і культурна-асветныя дзеячы глядзелі на яе як на агнішча беларускага Адраджэння, спадзеючыся з гімназістаў будучых свядомых працаўнікоў яго. Камуністычны саюз моладзі Заходняй Беларусі і тыя, хто ім кіраваў, імкнуліся папоўніць навучэнцамі гімназіі шэрагі камсамольскага падпол-

ля. Зрабіць гэта было не складана. Заходнебеларуская рэчаіснасць схіляла да радыкальных ідэй. Спецыфіка гістарычнага моманту заключалася ў тым. што камуністычная ідэя не толькі падавалася, але і ўспрымалася многімі на першым часе як ідэя ўніверсальнай свабоды, шлях вызвалення ад сацыяльнага прыгнёту і нацыянальнай няволі.

У пошуках выхаду з беларускай несвабоды захапіўся і адзін з сыноў знанай у Вільні інтэлігентнай сям'і Канчэўскіх. Ад Арсеня Канчэўскага ды яго старэйшага брата Ігната, філосафа, паэта. пераняў прагу пошуку свабоды малады гімназійны паэт Алесь Салагуб. Мэтаімклівы, валявы, з задаткамі маладзёжнага важака. У коле сяброў што гуртаваліся вакол Ал. Салагуба, паслядоўна прысутнічае і Хведар Ілляшэвіч.

Вясной 1927 года, калі польскія ўлады ўжо ў аблічччы аўтарытарнага рэжыму, павялі разгорнуты наступ на беларускі нацыянальна-вызваленчы рух перш-наперш на левае яго крыло, Алесь Салагуб і Хведар Ілляшэвіч аказаліся ў турмэ. У «Лукішскім дзённіку» Салагуба Хведар згадваецца як сябра па няволі, занатаваны факты хадайнічання Алеся перад турэмнай адміністрацыяй пра дазвол на пабачанне з ім.

У турме Салагуб штудзіруе працы па дыялектычным і гістарычным матэрыялізме (у польскіх астрогах 20-х гадоў літаратуру гэту можна было дастаць непасрадна ў турэмнай бібліятэцы), песціць мару, як па выхадзе на волю перабярэцца ў СССР, куды ўжо ўцёк яго зямляк, гімназійны сябра, мастак Раман Семашкевіч. Праз 10 месяцаў, вышаўшы з турмы, Алесь Салагуб адразу рэалізуе свой выбар, як аказалася, трагічны.

Хведар знаходзіўся ў заняволенні даўжэй. Мяркуючы па тэматыцы вершаў і часе іх напісання, Хв. Ілляшэвіч быў у турме яшчэ ўвесь 1928 год. «Лукішкі», слова, якім пазначаны творы многіх заходнебеларускіх паэтаў, стаіць і пад асобнымі вершамі Хв.Ілляшэвіча, напісанымі ў 1929 годзе.

Сябры паэта і ягоная сястра Ніна (імя яе як выдаўца значыцца на тытуле зборніка «Веснапесьні») пастараліся парадаваць маладога вершатворцу на час выхаду з турмы выданнем першай ягонай кніжкі. У графічным афармленні Язэпа Горыда яна выглядала святочна, як велікодны дарунак. На вокладцы яе сімвалічнай дамінантай тэкстаў па дыяганалі з левага ніжняга краю аркуша да правага верхняга красавала галінка сакавіцкай вярбы. Яна, як шпага, крыжавалася з мастацка выпісаным кінавар'ю загалоўкам.

Структура зборніка, яго змест вельмі непасрэдна адлюстроўвалі грамадскую заангажаванасць паэта, яго палітычную пазіцыю. Вершы «Работнік», «Каваль», «За работай», «З рабочых матываў» былі вынесены ў кніжцы на пярэдні план, мысліліся аўтарам як творы рабочай, пралетарскай тэматыкі. Напісаныя пятнаццаці-шаснаццацігадовым пачаткоўцам, нечага новага ў паэзіі яны не ўносілі.

Тытульны верш «Веснапесьняў» «Гвардыя» згодна дэкляраваных у прадмове прынцыпаў быў поўны задору, але грашыў рыторыкай:

Мы маладыя,
Мы ўдалыя,
Мы брацця волі, сонца й дня!
Хай льюцца песні
Аб шчасці й долі —
І болей смеху, больш жыцця!
Хай дождж галовы
І грудзі мне,
А бура песні нам пяе…
Мы маладыя
Стыхіяў змовы
Не баімося ў грамадзе…

Не сталі здабыткам беларускай паэзіі і першыя адраджэнскія акорды музы Хв.Ілляшэвіча. Было жывое адчуванне эпохі і дачынэння да яе свайго пакалення:

Родзяцца, творацца новыя дні,
Дні адраджэння зямлі,
Гэткія яркія, быццам агні,
А сведкамі гэтага — мы.

Адчувалася шчырае жаданне расказаць пра вызваленчы парыў абуджанага да свядомага палітычнага жыцця народа. Але выходзіла крыху плакатна:

Чуеш музыку?
Агніста,
Руніста,
Веснавіста
Палымнее
Адраджэнне.

Вершы Хв. Ілляшэвіча, што склаліся ў заняволенні («Бразнулі з грукатам дзверы», «У цэлі расселісь халодныя змрокі», «На дварэ астрожным бура», «Стамілася беднае сэрца ад суму» і інш.) не вызначаюцца арыгінальнасцю вырашэння тэмы, не набралі яскравай паэтычна-вобразнай формы. У цэлым зборнік (у ім 64 вершы) нясе на сабе адзнаку паэтычнай вучобы і спробы многіх самавітых тэмаў. Праўда, урокі, адчуваецца, бяруцца не толькі ў Цішкі Гартнага, але і ў высокіх літаратурных аўтарытэтаў, у Багдановіча («Мінуўшчына», «Над сінімі снягамі»), у Гётэ («Ймгла ахутала лог»), Ясеніна («Лета»)

Пачатыя ў мажорным тоне «Веснапесьні» завяршаліся тыповай беларускай элегіяй:

Шлях даўгі, ланцужны —
Беларусь мая!
Перапевы сцюжы,
Летняя туга…
Поле не ўзгарана…
Калёсаў паскрып…
І ідзе скаваны
Гаротнік-мужык.
Твар яго — васковы,
Вочы яго — муць,
А хатуль вясковы
Цісне спіны худзь…

Выхад кніжкі Хв.Ілляшэвіча супаў з пачаткам глыбокага крызісу ў беларускім жыцці, у беларускім нацыянальна-вызваленчым руху. Прычым разбуральны і зацяжны крызіс гэты прайшоўся па абодва бакі польска-савецкай мяжы, руйнуючы духоўныя і матэрыяльныя набыткі маладой нацыі, паўставалай да самастойнага жыцця. Вобраз скаванага гаротніка мужыка з верша Хв.Ілляшэвіча меў свайго рэальнага прататыпа ў жыцці. Не аднаму з заходнебеларускіх сялян давялося зведаць этапныя шляхі даваеннай Польшчы. Не менш трагічны быў лёс беларускага земляроба на Усходзе, дзе, разбураючы гаспадарку, сямейнае гняздо, таталітарны рэжым сотнямі тысяч гнаў яго на Беламор-канал, на Поўнач, у Сібір. Так што паэтава метафара «шлях даўгі, ланцужны — Беларусь мая!» схоплівала штось вельмі існае ў беларускім быцці на пачатку 30-х гадоў і на далейшую перспектыву.

Вобразнае абагульненне, заключанае ў словах «шлях даўгі, ланцужны — Беларусь мая!», сімвалізавала і лёс беларускай інтэлігенцыі на пачатак 30-х гадоў, наступных дзесяцігодцзяў. Лёс не проста драматычны, а трагічны ў самым прамым сэнсе гэтага слова.

З 30-га года ў Савецкай Беларусі пачынаюцца арышты, ссылкі, а з 1933 і масавыя расстрэлы інтэлігенцыі. Рэпрэсіі супраць інтэлігенцыі набылі планавы, стратэгічны характар. Услед за вучонымі, пісьменнікамі, акторамі, журналістамі рэпрэсіраваліся партыйныя работнікі, вайскоўцы, інжынеры, педагогі… К канцу 30-х гадоў вайна таталітарнага савецкага рэжыму супраць народа набыла форму генацыду, этнацыду.

Доля заходніх бедарусаў, якой драматычнай яна ні выглядала на пачатку падзелу беларускага этнасу між дужымі суседзямі, не была такой трагічнай. Праўда, там сялянства не атрымала зямлі і нацыянальнай асветы, да якіх моцна памкнулася. Абяцаная аграрная рэформа аказалася эрзацам: аграрная палітыка даваеннай Польшчы ўвязвалася з інтарэсамі класаў, у якіх урад бачыў апору, з асіміляцыйнымі планамі дзяржавы. Заходнебеларускае сялянства цярпела ад малазямелля.

Беларуская інтэлігенцыя, асабліва ідэйная, тая, што была неабыякавая да лёсу свайго народа, апынулася ў складаным палітычным і эканамічным становішчы. Яна фактычна дыскрымінавалася па нацыянальным прызнаку.

Атрымаць работу паводле адукацыі мокна было хіба змяніўшы нацыянальнасць, запісаўшыся палякам. Польская адміністрацыя на заходнебеларускіх землях, згодна каланізацыйных мэт, зверху да нізу, ад ваяводы да шэраговага паліцыянта, настаўніка, дробнага клерка абсаджвалася выключна прыбышамі, выхадцамі з карэннай Польшчы або Галіцыі. Асобныя з іх, перш-наперш сярод павятовых ды ваяводскіх школьных інспектараў, мелі месіянскія амбіцыі і прыкладалі нямала намаганняў, каб тамаваць, заглушыць беларускую асвету, якая, па сутнасці, будавалася на самаахвярнасці беларускага настаўніцтва, прыкметнага атрада нацыянальнай інтэлігенцыі. Фактычна ніводная беларуская інстытуцыя, што паўстала ў Вільні і на правінцыі, не лічачы адной-двух праўрадавых газет, не мела матэрыяльнай падтрымкі Польскай дзяржавы, якая і вялікае войска і такі ж паліцэйскі апарат утрымлівала, зразумела, за кошт падаткаплацелешчыкаў, у тым ліку беларускіх сялян і месцічаў.

На працягу 20-х гадоў заходнебеларуская інтэлігенцыя зведала дзве буйныя палітычныя акцыі і дасведчанні, якімі злучалі і раз’ядноўвалі яе. Яна пераканалася ў тым, што парламенцкім шляхам, праз дэмакратычныя механізмы забяспечыць сацыяльныя і нацыянальныя правы беларускага народа пад польскай уладай нельга. Імкненне рэалізаваць гэтыя правы праз наданне нацыянальна-вызваленчаму руху масавасці таксама пацярпела паражэнне; урад Пілсудскага фізічна разграміў легальныя формы супрацыву.

Складанасць сітуацыі ўзмацнялася тым, што надзея на будаўніцтва Беларускай дзяржаўнасці на ўсходзе, перспектыва нармальнага развіцця беларушчыны пад Саветамі пасля сталінскіх рэпрэсій 30-х гадоў начыста знікала.

Орган маладой незалежнай сацыялістычнай думкі часопіс «Золак» небеспадстаўна канстатаваў: …Сёння варожаю сілаю знішчаны амаль усе канкрэтныя здабыткі нарастаючага ўздойму вызвольна-адраджэнскага руху беларускіх працоўных грамад, — мы вярнуліся зноў на свае старыя папялішчы з часу перад 1905 годам».

Спроба аб’яднаць разбітыя і раз’яднаныя сілы пад адным нацыянальным сцягам па розных прычынах аб’ектыўнага і суб’ектыўнага характару давала малыя вынікі. Здавалася б, «Цэнтральны саюз беларускіх культурна-асветных і гаспадарскіх арганізацыяў і ўстаноў» (Цэнтрасаюз) прапанаваў нейкую пазітыўўную ў крызісных варунках руху праграму — аб’яднанне на грунце эканамічных і асветных задач — але здзяйснялася яна слаба. Узнікалі ўнутраныя супярэчнасці, галоўнае ж не даваў разгарнуцца знешні ціск з боку Польскае дзяржавы ды з-за мяжы, што ішоў ад Кампартыі.

Старэйшы брат Хв.Illяшэвіча, Мікола, які ў 1928 годзе закончыў Пражскі ўніверсітэт і вярнуўся ў Вільню з дыпломам доктара філасофіі, быў гарачым прыхільнікам аб’яднання нацыянальных сіл. Ён адразу ўвайшоў у раду Цэнтрасаюза. Аўтар кнігі «Беларусь і беларусы», выдадзенай у Празе па-чэшску дзеля пашырэння ведамасцяў пра сваю Бацькаўшчыну ў Еўропе, Мікола Ілляшэвіч дзейсна ўзяўся за адраджэнне сельскагаспадарчага часопіса «Саха», стаў яго рэдактарам.

Не пакідала старэйшага Ілляшэвіча цікавасць да айчыннаі гісторыі, аб чым засведчыла ягоная манаграфія пра расійскую палітыку на Беларусі за часы Кацярыны II-ой і Паўла I-га. Напісаць «Кароткі нарыс псіхалогіі» падказала яму, пэўна, педагагічная практыка.

Хведар ішоў услед за старэйшым братам. Выйшаўшы з турмы, ён скончыў гімназію, дзе старэйшы ўжо працаваў выкладчыкам, і паступіў, праўда, не на філасофскі, а на гісторыка-філалагічны факультэт і не Пражскага, а Віленскага ўніверсітэта. Ужо ў студэнцкія гады, у 1932-ім падрыхтаваў свой другі паэтычны зборнік, названы «Зорным шляхам». Адкрываў кнігу раздзельчык «Новая Беларусь»: маладое пакаленне не прымала старую Беларусь, паднявольную, пакорную. Хведар Ілляшэвіч сцвярджаў яе такой, якой яна яму мроілася:

Беларусь! Прыбірайся ў краскі,
У песні бурнай і гучнай вясны!
Мы збудуем цябе, як у казцы,
Светлай, яснай, як нашы сны!..

Сны былі рамантычныя. Як рамантычна-узнёслы стыль і сімвалічна-вобразны паэтычны выказ іх:

Я не баюсь за Беларусь:
Яна, працоўная, прачнулась —
І песні радасці цвітуць
Ад Адраджэння шуму-гулу…
У пушчах нехта грукаціць,
У вёсках, местах — палымніста…
І на палёх ідзе, звініць
Дзён новых веснік — Веснавіста.
Ударым радасна ў трызвон:
Ніхто, ніхто ўжо нас не зможа!
З вякоў няволі, стогну, сноў
Ўстае магутна Перамога.

Так бачылася будучыня Беларусі паэту ў 1928 годзе з турэмнай цэлі. Другі зборнік яго ўключаў увогуле вершы розных гадоў, напісаныя з 1927 па 1932 год. У асобных з твораў Ілляшэвіч вяртаўся да старой праблематыкі, пачатай у першай кнізе. І трэба сказаць што напрыклад, паэтызацыя працы, алегарызацыя яе ў вершы «У кузьні» увасоблены глыбей, мацней, чым у аналагічных творах першай кнігі. У вершах турэмнай тэматыкі «Спацэр», «Дазорца», «Вучуся холаду ў сцен» паглыбіўся псіхалагізм, у цэлым мастацкая іх апрацоўка. Ёсць у другой паэтычнай кніжцы Хв. Ілляшэвіча раздзел «Места вагнявокае» на пятнаццаць навеяных горадам (Вільняй), прысвечаных гораду вершаў, але анталагічных у прамым сэнсе гэтага слова сярод іх няма. Мастацкі поступ паэта быў запаволены. У пэўнай меры абумоўлівалася гэта і маштабам таленту,

Тым часам з гадамі расла патрабавальнасць да сябе і глыбейшае разуменне паэзіі як мастацтва. У лісце да рэдактара часопіса «Калоссе» Янкі Шутовіча, які пачаў складаць анталогію беларускай паэзіі і папрасіў у Ілляшэвіча даслаць аўтабіяграфічныя нататкі, паэт выявіў строгі, вельмі адказны падыход да задумкі і адначасова да ўласнай творчасці.

«З анталогіяй надта не спяшайся, — пісаў Хв. Ілляшэвіч. — Лепш паволі, але добра. Ты, як бачу, надта гоніш. Трэба парадзіцца, абдумаць, абмеркаваць. Шмат табе памог бы і Тумаш, і Луцкевіч, і Танк». З уласных вершаў, годных задуманага выдання, называе толькі 7 твораў, пераважна апошняга часу. Што да сваёй паэтычнай творчасці, то робіць некалькі характэрных пазнак. «Друкавацца пачаў рана, чаго вельмі шкадую, — пісаў Ілляшэвіч. — Апошнім толькі часам я пачаў свядома падыходзіць да літаратуры і яшчэ ўсё перажываю «крызісы». Так, пісаць трэба або добра, або зусім не пісаць. Здаецца, цяпер толькі я вызначаюся ўсё больш у напрамку прозы».

Працытаваны ліст адносіцца дзесь да 1938 года — часу самай актыўнай публікацыі Хв.Ілляшэвіча. К гэтаму часу паэт паспеў закончыць універсітэт, апублікаваў магістарскую працу «Друкарня дому Мамонічаў (1675—1622)» па-польску. Кожны нумар квартальніка «Калоссе» за 1938 год уключаў вершы Хв.Ілляшэвіча, а паасобныя — пад псеўданімам М.Дальні і яго апавяданні. Мабыць, упершыню ў самавітым выданні верш Хв. Ілляшэвіча быў надрукаваны на тытульным аркушы, месцы, якое ўсё часцей па праву сталі займаць творы Максіма Танка. Якраз у творах 1938 года Хв.Ілляшэвічу ўдалося дасягнунь сваёй паэтычнай вяршыні, адметнай метафарычнасці верша. Ён і раней свядома ставіў задачу метафарызацыі мовы паэтычнага выказвання. Пэўных поспехаў у гэтым плане дасягнуў у трэцім сваім зборніку «Захварбаваныя вершы» (1936 г.), пазначаным формавобразнымі пошукамі. Але ў апошнім, прыжыццёвым зборніку паэта пераважае мастацкі эксперымент, ёсць толькі асобныя ўдалыя вобразныя знаходкі, накшталт:

Неба — сіні плакат,
серабрыстымі ніткамі выткала восень.
Яблык спелы ў руках
басаногая дзяўчынка вуліцай носіць…

Аднак у большасці ім не хапае мастацкай цэласнасці, завершанасці. Трапляюцца рэчы цалкам эксперыментальныя, зробленыя ў духу метафарычнага канструктывізму (М.Танк), як, напрыклад, верш «Вось у ціхай задуме шагоў». Арганікай думкі, пачуцця і адэкватным ім мастацкім увасабленнем вылучаецца адно верш «Сінія дні — каляровыя хусткі». Шырока абагулены пейзажны матыў ў ім натуральна лёгка набірае сэнс грамадзянскага гучання ў кантэксце часу, кантэксце беларускага жыцця 30-х гадоў, з яго жорсткімі рэаліямі на Захадзе і Усходзе Беларусі. Вобразы «песніплачкі», «чорныя межы», аўтарскі неалагі зм «узнетрыць» добра працуюць на ідэю твора, садзейнічаюць стварэнню адпаведнага настрою. Насуперак проста фатальным абставінам беларускай рэчаіснасці 30-х, на фоне

агульнай элегічнай танальнасці твора верш захоўвае, перадае сацыяльны аптымізм паэта:

Сінія дні — каляровыя хусткі —
Кінула лета ў крыніцу за борам.
Зноў мітусіцца ў імглістым прасторы
Золатам дрэў лістапад беларускі,
Вецер-псаломшчык галосіць над краем,
Лістзм заносячы чорныя мзжы.
Зноў, Беларусь, у тваіх безбярожжах
Восень элегію ціха складае.
Колькі яшчэ такіх восеняў шэрых
Сном праплыве над табою, краіна?
Колькі яшчэ мы ў далі, у сіняй
Жалю нап’емся і поглядаў зьмерым?..
Толькі ж вы, песні, не падайце з ветрам
Плачкамі ў лістапад беларускі.
Верце — над гэтай асенняю пусткай
Іншымі віхрамі мы вам узнетрым…

Паэт не губляў веры, спадзяваўся на высненую ім і рэальную волю Беларусі. А тым часам на бліжэйшую перспектыву чакаць радыкальных змен у яе лёсе не даводзілася. Дапраўдзе, трэба было быць непапраўным рамантыкам, каб скрозь злавесную завесу, што апускалася, апусцілася над беларускай зямлёй з Усходу да Захаду яе, угледзець промень надзеі.

У другой палове 30-х галоўнага архітэктара дыктатуры ў Польшчы ўжо не было на свеце, але аўтарытарны дух даволі глыбока прасякнуў дзяржаўны арганізм краіны. Беларуская меншасць адчувала на сабе ціск яго асабліва востра. Польская адміністрацыя агулам абвінавачвала беларусаў у масавым радыкалізме, у сімпатыях да камунізму. На гэтай падставе, у прынцыпе дэмагагічнай, польскай уладай у 1936 годзе былі разгромлены апошнія бастыёны беларускай асветы. Таварыства беларускай школы і кіраваны пераважна хрысціянскімі дэмакратамі Беларускі інстытут гаспадаркі і культуры. Апошняя, яшчэ не закрытая Віленская беларуская гімназія была пераўтворана ў філіял польскай гімназіі імя Лелявеля. Канфіскавалася мастацкая беларуская літаратура. Пад забарону трапіла першая паэтычная кніяша Максіма Танка «На этапах» і зборнік «З-пад стрэх саламяных» Міхася Машары… Быў канфіскаваны, з’ява амаль нечуваная, беларускі буквар «Засеўкі» Сяргея Паўловіча; забарона, што несла выразныя элементы этнацыду, скіраваная на разбурэнне беларускай ідэнтычнасці. Заставаліся, праўда, яшчэ некалькі лічаных перыядычных выданняў, як часопісы «Калоссе», «Шлях моладзі», газета «Беларускі фронт», творчы актыў якіх у меру сіл і магчымасцяў змагаўся за беларускую ідэю на два франты перад наступам Захаду і Усходу.

Калі гарызонты беларускага грамадскага, духоўнага жыцця пад Польшчай катастрафічна звужаліся, то пад Саветамі к канцу 30-х гадоў яны набылі апакаліпсічныя рысы. Ніва беларускай духоўнасці, якая ў 20-я гады ва ўмовах рэдуцыраванай савецкай дзяржаўнасці, патрапіла хораша зарунець усходамі, за 10 год вялікага тэрору была зруйнавана дашчэнту, пераўтворана ў пустыню. Беларускія выкладчыцкія кадры як частка нацыянальнай эліты былі вынішчаны настолькі, што к пачатку 40-х у Беларускім дзяржаўным універсітэце чытаць курс беларускай літаратуры па-беларуску, які ён тады не быў, не было каму.

Канчатковым, як некаму ўяўлялася, і сімвалічным выкарчаваннам самога духу беларускага адраджэння, баларусізацыі з'явілася замена адвечнай назвы сталіцы рэспублікі Менск на паланізаваную, а затым русіфікаваную яе форму. Гэты дзяржаўны акт быў здзейснены спецыяльнай пастановай Вярхоўнага Савета БССР 29 ліпеня 1939 года, якая гучала даслоўна: «Изменить существующее белорусское наименование столицы БССР, установить наименование «Минск» вместо «Менск».

Драма сялянства Савецкай Беларусі, часткова выкараненага, у цэлым ператворанага ў вясковага пралетарыя, трагедыя інтэлігенцыі натуральна сімвалізавалі трагедыю цэлага народа, кінутага гісторыяй на караванных шляхах Усходняй Еўропы.

Паэтычны роздум Хведара Ілляшэвіча пра час ішоў непасрэдна ад грамадзянскага досведу стратнай эпохі;

Многа песняў згубілі мы ўжо —
усё жыццё так складаецца неяк —
у наш песенны звонкі дажон
вецер цвету нямала развее.
Што ж? Радзіліся ў час такі мы,
калі поле слязьмі ўскаласіла.
Не злічыць нам на роднай зямлі
неаплаканых песняў-магілаў.
І няведама колькі яшчэ
абляціць па шляхах белацвету….
З кожным шагам цяжэй і цяжэй
і ў імгле ледзь віднеюцца мэты.

Аднак, абазначыўшы дамінантную ідэю твора словамі «і ў імгле ледзь віднеюцца мэты» — ідэал вольнай, незалежнай Беларусі, паэт не хоча скарыцца наплыву горкіх дум-высноваk да канца і заканчвае верш думкай, альтэрнатыўнай скрушнай сучаснасці:

Нам не жаль, што раскінулі ўсе
свае сны ў нетры жудаснай гэтай —
мы яшчэ прапяем у рассвет
аб цвітучых садах і палатках.

«Прапяяць у рассвет», высці насустрач світанню Хведару Ілляшэвічу, як і іншым прадстаўнікам яго паэтычнага пакалення, не давялося. Жорсткая беларуская рэчаіснасць на сыходзе 30-х гадоў настойліва вяртала думку паэта да суровых рэалій, патрабавала засведчыць у мастацкім слове лёс яго народа ў страхлівым міжчассі. І паэт сведчыў аб сваёй эпосе шчыра, з болем, суперажывальна:

Мне й хацелася б песняй аб шчасці
узбуяніць наш родны прастор —
ўчора хлопчык Валодзя прадчасна
ў душнай хаце сялянскай памёр,
Ў гэтых хатах, занесеных снегам,
вецер ноту камечыць адну —
у махорачны дым — з нейкім гневам —
слёзы цадзяцца… усё пра вайну,
Ў цемру ночы агні гэтых сёлаў
Замятуха вуголлем мяце…
Так, цяпер, Беларусь, не вясёла
для тваіх беспрытульных дзяцей.

Наплывам ідуць абразкі народнага цярпення, нядолі, каб выліцца ў абагульнены вобраз, метафарычна перададзены прасвятлёны жаль па няздзейсненай мары:

Плыць агоркла ў чорным горы —
у снежнай далі лічыць крыжы…
І ніяк з-за палёў загор'я
сіні золак не набяжыць.

У іншым вершы матыў няздзейсненых мар рэалізуецпа паэтам пры адлюстраванні ім сустрэчы з вёскай, увасабляецца на тонка-элегічнай ноце, змрочным настроі:

…Як раней. у вячэрні мгляны небасхіл
стада стрэх плыве недзе на россашы —
нібы ў просіні той, дзе бярозаў шляхі,
край, ніводнай слязою нязрошаны.

«Край, ніводнай слязою нязрошаны», што прымроіўся паэту, быў глыбока гуманным па сутнасці ідэалам яго. Хв. Ілляшэвіч, тых часоў першай сусветнай вайны ўцякаў з сям'ёй у бежанства, з дзяцінства на ўласныя вочы бачыў пакуты народа, цяпер як паэт, ягоны сын не пераставаў думаць над бясконцаю яго трагедыяй.

Пры элегічным тоне лірыкі 30-х гадоў і нават жорсткасці мастацкай выявы бягучага гістарычнага моманту ў жыцці Беларусі Хведар Ілляшэвіч

ніколі не траціў веры ў свой народ, яго трываласць, у жыватворную сілу роднай зямлі, яе прыроды. У вершаваных медытацыях у скрушны для Бацькаўшчыны час ён шукае апоры менавіта ў іх, адвечных і вечных. У адным з такіх твораў паэт стварае панарамны, намаляваны ў імпрэсіяністычнай манеры, вобраз Беларусі з дамінантным у ім вобразам жней:

…На ўскалошаным полі, на прасторы шырокім
Упаду на зямлю я, упаду проста ніц —
Паплыву ў хвалях шуму з-пад палёў беластоцкіх
Да дняпроўскіх лугоў і да слуцкіх пшаніц.
Мо мне вецер раскажа, як у гэтых зарэччах
Рассыпаў нехта слёзы і ў змрок галасіў.
Мне так часта здаецца ў жаўцеючы вечар,
Што каменне на полі — гэта жнеі без сіл.
Расплялiся іх косы і апалі прыгожа,
Вецер з рук абамлелых не развеяў іх сны,
І яшчэ замірае спеў працяжны на пожні
З тых гадоў, калі ў жыце ўпалі яны.
Мо мне вецер раскажа, як у гэтых зарэччах
Беларуская доля зацвітала няраз,
Як адлівам пажараў над аўсамі, над грэчкай
Цёмнай ноччу займалася, палымнела зара.
Расшумеліся ветры на прасторы ў полі,
На прасторы ў полі, у цёмным лёсе-бары.
Зацвітала няраз беларуская доля
Ў гэтай далі бязмежнай балатоў-азярын.

Роздум паэта над беларускай доляй на фоне шырока разгорнутага, эпічнага па інтанацыі пейзажнага матыву змяняецца зваротам яго да песняроў роднай зямлі:

Столькі раніцаў мглістых, столькі восеняў шэрых,
У нашых песнях іржавіць жоўталісцем сухім.
Галасамі вясёлымі з берагу ў бераг
Скалыхнём аж да сіні веснавой небасхіл.
Трэба ў ветру парывах настроіць нам гуслі,
У жытах яго буйную волю скасіць
З-над палёў, дзе дым сцелюць Беласток і Супрасль,
Аж да слуцкіх пшаніцаў калоссе шуміць.

Дарэчы, верш гэты адзіны ў Хв. Ілляшэвіча, пазначаны не толькі годам, але і канкрэтнай датай напісання: 13.08.1938 г. У гэтай жа нізцы з трох вершаў змешчаны невялікі вершык «Прыяцелю". У аснове яго — авеяны смуткам успамін аб даўнім расстанні ў Вільні з сябрам, развітанні перад вялікай дарогай яго, развітанні назаўсёды. Паэт узнаўляе ў памяці дэталі

таго адвітання, штрыхі, што дазваляюць уявіць тую абстаноўку, настрой, з якім развітваліся два сябры, з якіх адзін рабіў лёсавызначальны выбар:

Помніцца вечар той сіні…
Вецер вясенні нам словы размыў —
У вулках маленькіх Вільні
Гаварылі да поўначы мы.
Места, дзе сны адцвіталі нам,
Мачыхай злоснай здалося тады…
Хутка так ніклі хвіліны,
Як на станцыі ўсхмараны дым.

Імя сябра паэтам не называецца. Яно ў падтэксце радкоў:

У хвалях кіпучага свету
Ты на чужыне, няведамы, знік.

А таксама прачытваегша ў кантэкспе біяграфіі Хв. Ілляшэвіча. Яно дэшыфруецца як імя Алеся Салагуба, які дзевяць год таму назад нелегальна перабраўся ў Мінск. З пачатку 30-х кантакты праз «зялёную граніцу» рабіліся ўсё цяжэйшыя, а неўзабаве паміж Заходняй і Усходняй Беларуссю і зусім апусцілася жалезная заслона. Хв. Ілляшэвіч не ведаў, а калі нешта чуў, то ці паверыў, што яго сябра, камсамольскі заўзятар, важак моладзі беларускай гімназіі ў Вільні ўжо не жыве. Ён трагічна загінуў, трапіўшы пад другую хвалю рэпрэсій ГПУ супраць беларускай інтэлігенцыі ў Савецкай Беларусі. Алесь Салагуб быў абвінавачаны ў тым, што нібыта выдаў польорганам члена ЦК КПЗБ Арсеня Канчэўскага. Апошні не мог абвергнуць беспадстаўнага абвінавачання свайго сябра, бо к гэтаму часу 1933 г.) не жыў: утапіўся, а ў Заходняй Беларусі казалі — утапілі, у Крыме, куды быў насланы пасля вызбаўлення з польскай турмы:

У хвалях кіпучага свету
Ты на чужыне, няведамы, знік…
Ды ў далёкіх прасторах,
Як і тады ў акне цягніка —
Прыязьні нашай задорам
Перапоўнена так жа рука, —

заканчваў Хведар Ілляшэвіч свой верш як прызнанне на вернасць былым ідэалам і сяброўскай прыязні праз гады.

У апошнім даваенным вершы «Цымбалы» Хв. Ілляшэвіч стварае абагульнены, у нейкай меры алегарызаваны вобраз свайго паэтычнага пакалення. Ён увасабляе іх у вобразе цымбалістаў і скрыпачоў, незапатрабаваннх мастакоў, адрынутых людзьмі, часам.

«Ніхто не згатаваў вам гучнае сустрэчы,
Ніхто не кінуў нават кветкаю ў вас», —

сведчыць паэт і одумна паўтарае «Зарана вы прыйшлі». А затым, уздымаючыся над стратамі, крыўдаю, часам як выклік сучаснаму, свету будучыні ад імя незапатрабаваных песняроў цэлага свайго пакалення заяўляе:

Ўрачыста панясём цымбалы многазвонныя,
затопім жудзь вякоў у пене струн,
і будуць слухаць з падпёртай галавою
усе народы нашую ігру.

У сапраўднасці ж надзея паэта «затапіць жудзь вякоў у пене струн» для песняроў беларускага народа, прынамсі, на блізкую будучыню не выглядала рэальнай. Неўзабаве зямля беларуская не па волі яе сыноў, насельнікаў, як найчасцей гэта бывала, сталася ўпягнутай у сусветную вайну.

Замена ў верасні 1939 г. у Заходняй Беларусі польскай улады, якая за дваццаць год тут не стала блізкай, на савецкую толькі напачатку абнадзеіла. Хутка за знешнім фасадам яе, дэкарацыямі стала праступаць сутнасць, у якой нельга было не угледзець таталітарных рыс. Хутка пачаліся арышты, вывазы і не толькі тых, хто складаў нейкую апору польскага тут уладання. Старшыня Часовага беларускага ўпраўлення І.Ф.Клімаў, едучы ў Вільню, каб абняць новую пасаду, меў з сабой і спісак беларускай інтэлігенцыі, падрыхтаваны ў Мінску. У ім канкрэтна было напісана-прадпісана, каго ў першую чаргу трэба арыштаваць. Спецыяльна арганізаваны беларускі сход-мітынг, на якім вядомыя беларускія інтэлігенты выступілі з лаяльнымі заявамі ў падтрымку акцыі савецкага ўрада ў дачыненні Заходняй Беларусі, быў для непасрэдных выканаўцаў прадпісанняў Цанавы агледзінамі-прыгледзінамі. Да 30 кастрычніка, калі Клімаў мусіў быў згарнуць працу свайго Часовага ўпраўлення і перадаць Вільню смятонаўскаму ўраду Літвы, прадстаўнікі віленскай беларускай інтэлігенцыі, выключаючы нямногіх, што адразу падаліся на Захад, былі арыштаваны органамі НКУС. Сярод іх грамадска-асветныя, палітычныя дзеячы, пісьменнікі, мысляры, заступнікі свайго народа Антон Луцкевіч, Уладзімір Самойла, Вячаслаў Багдановіч, Антон Трэпка, Макар Краўцоў і Аляксандр Уласаў… На высылцы ў Казахстане апынулася Наталля Арсеннева.

«Што тут беларускага ў гэтай прышлай Беларусі?» — недаўменна пытаўся Рыгор Шырма, а праз паўгода, ужо ў Маскве, на Лубянцы, гэта пытанне верне яму на начных допытах следчы, дамагаючыся ў заслужанага беларускага працаўніка прызнання ў міфічнай нацдэмаўшчыне, пад жупелам якой ужо больш дзесяці год знішчаўся інтэлектуальны патэнцыял беларускага народа. У савецкім на 1940 і пачатак 1941 года Беластоку Хведар Ілляшэвіч «прытуліўся» пры раённым аддзеле асветы. К гэтаму часу займеў такі-сякі педагагічны стаж: некалькі гадоў папрацаваў выкладчыкам беларускай мовы ў Віленскай гімназіі. Пры саветызацыі Беласточчыны актуальным стала пра-

блема адкрыцця беларускіх школ, і паэт спадзяваўся, стараўся быць карысным у гэтай, на той час перш-наперш грамадскай справе.

Ці друкаваўся ў «Беластоцкай праўдзе», невядома. Цяжка сказаць, наколькі глыбокія былі ў яго ілюзіі зрабіць хоць што-небудзь на карысць Беларусі ў абставінах нямепкай акупацыі. Уцзельнічаў у арганізацыі Беларускага нацыянальнага камітэта ў Беластоку, Беларускага аб'яднання, іх перыядычнага органа «Новыя дарогі». Злучыўшы сілы ў адной аб'ядноўваючай структуры, лягчэй было бараніць беларускія інтарэсы, наступ на якія ішоў з усіх бакоў.

Бараніць гэтыя інтарэсы тут, на беларуска-польскім этнічным памежжы, заўсёды было няпроста. Патрапіць адстаяць іх у скрутных абставінах вайны было цяжэй стокроць. у 1944 годзе спадзявацца на аб'ектыўную ацэнку свайго становішча пераможцамі Хв.Ідляшэвічу не даводзілася. Падаўся на захад. Эміграцыйнае жыццё паэта трывала нядоўга, чатыры гады, да 6 лістапада 1948 года. Мяркуючы па зборніку вершаў, выдадзенаму пасмяротна ў Германіі, пісаў у эміграцыі мала, хоць прычыніўся там да рэдагавання і выдання часопіса «Шыпшына», «Шляхам жыцця», бюлетэня «Апошнія весткі». Жменька вершаваных тэкстаў, напісаных у выгнанні, прасякнута настальгіяй, трывогай і прадчуваннем хуткай пагібелі. Фаталізм апошніх вершаў Хведара Ілляшэвіча абумоўлены сацыяльна: стратнай эпохай, на якую прыпала жыццё і творчасць паэта. Але не апошнія творы вызначалі змест і эстэтычную вышыню паэзіі Хведара Ілляшэвіча,»выдатнага паэта, змагара і чалавека», паводле слоў неардынарнага пісьменніка Юркі Віцьбіча. У цэлым творчую спадчыну Хведара Ілляшэвіча час ашчаджае, бо фальшывай ноты ён ніколі не браў, у думках,паэтычных здзяйсненнях арыентаваўся на каштоўнасці вечныя. Пуцяводнай зоркай паэта была свабода Беларусі.

*1997*

# Анатоль Бярозка: Як малітва аб волі

Паэт Анатоль Бярозка, які патроху займае належнае месца ў гісторыі беларускай літаратуры, доўгі час заставаўся постаццю невядомай, таямнічай нават для адмыслоўцаў па літаратуры. Сам Максім Танк, які неаднойчы выступаў разам з А. Бярозкам на літаратурных вечарах у даваеннай Вільні, азадачана пытаўся: «Дзе дзеўся Бярозка? Што з ім?» Тым часам Анатоль Бярозка пад сваім сапраўдным прозвішчам Мацей Смаршчок жыў у далёкім свеце за акіянам і паводле сваёй адукацыі, атрыманай у Віленскім універсітэце, займаўся медычнай практыкай. Цяжка з пэўнасцю сказаць, што прымусіла яго падацца на Захад: падчас вайны ні ў якую структуру не быў заангажаваны, працаваў як медык, здаецца, у Баранавічах. Не друкаваўся, але вось у 1944-ым з‘ехаў у свет і аж да канца 80-х гадоў, часоў перабудовы не было аб ім ніякіх звестак на Бацькаўшчыне.

У паэзіі заходнебеларускай пары падаў свой голас у першай палавіне 30-х. Спярша ў часопісе «Шлях моладзі», затым — у літаратурна-навуковым квартальніку «Калоссе». Праўда, яшчэ пад уласным прозвішчам кантакты з заходнебеларускай перыёдыкай пачынаў з «Заранкі», часопіса для дзяцей, выдаванага вядомай культурна-грамадскай дзеячкай Зоськай Верас. Пісаў яшчэ з роднага Падлесся, што на ўсходзе Берасцейшчыны, на Ляхаўшчыне.

Услед за вершам «Хрыстос васкрос», надрукаваным у красавіцкай кніжцы «Шляху моладзі» за 1933 год, у наступных нумарах гэтага маяадзёвага выдання паказалася яшчэ некалькі паэтычных заявак Анатоля Бярозкі, шчырых, ідэйна і танальнасцю суадносных з лірыкай іншых заходнебеларускіх паэтаў той складанай пары і мо ў першую чаргу Хведара Ілляшэвіча.

У «Шляху моладзі» за наступны, 1934-ы год студэнт медыцынскаг а факультэту Віленскага універсітэта імя Баторыя Смаршчок (Бярозка) змясціў яшчэ пяць вершаў. Паэтычны дэбют Ан.Бярозкі не авансаваў зоркі першай велічыні, але сведчыў аб уласна мастацкім успрыманні свету маладым аўтарам, пра яго арыентацыю на вечныя каштоўнасці: родную зямлю, яе людзей (народ), прыроду як крыніцу жыцця, хараства. Ужо ў адным з самых ранніх вершаў А. Бярозкі можна заўважыць уменне стварыць візуальны вобраз працы маладой праллі, але далей не хапае моцы даць яму псіхалагічнае напаўненне, мастацкую закончанасць:

На ўслончыку засела пад аконцам
Дзяўчынка ветлая, краса ўбогіх хат,
І ручкі бледныя то ўперад, то назад
нуюць і ўюць у ніткі валаконцы…

Ужо ў наступным апублікаваным у «Шляху моладзі» (май 1934-га) вершы можна прыкмеціць большае авалоданне пачаткоўцам паэтычнай формай, уключэнне ім у пейзажны абразок грамадзянскіх матываў. Слухаючы песняра поля жаўранка, паэт усклікае з думкай аб волатах, што стануць «у бой адкрыты»:

Дык хай жа льецца песня у блакіты!..
Пацешыць тых, што доляю прыбіты,
Затоптаны, сагнуты да зямлі,
Каб сталі волаты ў бой адкрыты
І горкіх слёз век цэлы не лілі!..

У вершы «Ноч навісла над соннай зямлёй» А. Бярозка ад разгорнутай карціны вялікоднай ночы пераходзіць да непасрэднага заклiку, звернутага да беларуса:

Званы уваскрэсення б’юць..,
Ці чуеш, брат-Крывіч?
Гудуць званы, гудуць…
Свабоды кліч!..
Збудзісь, Крывіч!
Званы уваскрэсення б’юць.

Прырода «прысутнічае» ў вершах А. Бярозкі, (няхай даруюць пурытане роднай мовы) скажу старабалгарскім словам «изначально» і стала. Паэтычна выяўлена бывае А. Бярозкам часцей у мінорнай, зрэдзь часу у мажорнай танальнасці. І амаль заўседы звязана не толькі з асабістым, аўтарскім перажываннем, а кліча думку аб грамадскім:

На раскутай з-пад снежных пялёнаў зямлі
Нова-устаўшая рунь зелянее;
У цёмнай гушчы лясной, у цішы расцвілі
Кветкі, зоры вясны, расцвілі канвалеі.
Доўга з бурамі жорсткую спорку вялі
Дубы-старцы лясныя, натужыўшы грудзі;
Доўга хмары ліхія над полем злавалі
І шалёна круціліся кудасы хвалі,
У вочы небу снягамі мялі…
Прамінулі і шчэзлі…

Як мары… Як людзі
Ідзе дзень…Ўстануць руні на нашых палёх
Вецер хмары-нягоды развее,
Слёзы сонца абсушыць…Магутны араты
Выйдзе з песняй і плугам з прабуджанай хаты
Новы шлях праараць між цярністых дарог…
Расцвітуць канвалеі…

З першых крокаў у літаратуры А.Бярозкам праяўляецца схільнасць да медытацыі. Як форма паэтычнага выказвання яна выразна дамінуе ў лірыцы паэта, накладае адбітак на характар зместу, структуру верша, яго стылістыку. Вялікі стымул для паэтычнага натхнення А. Бярозка зна-ходзіць у роднай прыродзе, яе палях, лясах, у касмічнай прасторы. Паэт умее слухаць голас прыроднай стыхіі, музыку ночы:

Поле, далёка-шырока поле… І неба над полем
сіняе!.. неба бяздоннае… Шолах вячэрні палёў
ціхі, як песня з грудзёў набалелых, што з ветру парывам
па струнах вечара ймкне … І слухаюць нівы…
Гэта песня, што полымем пеніць кроў…
Там
магілы дзядоў пад крыжамі пахілымі дрэмлюць -
здзірванелая спадчына сівых гадоў;

Шолах вячэрніх палёў і «песня з грудзей набалелых, што па струнах вечара ймкне», і стары могільнік выклікаюць у свядомасці паэта гіста-рычныя асацыяцыі, візію бацькаўшчыны і сыноўе прызнанне ёй у любові. Асобным моцным акордам гучыць гістарычная рэмінісцэнцыя:

Гэтта, на гэтых курганах
вякамі здабычу дзялілі чужыя багі і цары
і крывавыя іх алтары
дыміліся доўга —
нашай крывёю.
Хаты — бедныя-цёмныя… Пад вашымі стрэхамі соннымі
сэрца маё!.. Вашай доляй жыве,
вашым болем сумуе…
Вечар пад стрэхамі сніць сваю думу-тугу векавую…
З думкай-песняй ад хатаў шырока-разгоннаю
вечар, сэрца, магілы і поле зліліся ў адзіны псалм —
Крывія!..
І моляцца сонцу разоры,
сонцу, што ўжо дагарае на шэрым попеле хмар.

У вершах-медытацыях А. Бярозкі на стала прапісаны абагульнены вобраз селяніна-земляроба, народа-ратая і сейбіта. Ён трактуецца паэтам як

волат, прыніжаны няволяй. Сыну вёскі, А. Бярозку ведама мера пакут, нядолі свайго героя і ён па-філасофску асэнсоўвае мяжу яго цярпення. Паэт адметна вобразна абагульняе свой роздум над скаванай сілай і болем народа ў апошніх, ударных радках верша:

…Ноч шапталася з ветрам… Так ціха… Не чулі
сонныя стрэхі пахілых хат, закарэлыя рукі:
бо цяжкі мазоль тых рук, як цяжкія скібы раллі;
чорная доля, як чорны хлеб… У ёрмы прынукі
доўгіх вякоў ланцугі волатаў моц упраглі.
Тысячай воч палымяных неба ўпіліся ў барозны,
ў ціхія хаты… ў жорсткія рукі… ў чорны хлеб і ў соль.
Шэрыя хаты, цвёрдыя рукі — маўклівы і грозны:
гэтак ціха маўчаць умее толькі магутны боль.

Грамадзянскія матывы ў паэзіі А. Бярозкі, як правіла, увасоблены ў эпізаваную форму, маюць некалькі ўскладнёную кампазіцыю і метафорыку. У ідэйным жа плане яны цалкам рэалізаваліся ў агульным рэчышчы літаратуры Заходняй Беларусі 20-30-х гадоў, аб'ектыўна апазіцыйнай аўтарытарнаму рэжыму даваеннай Польшчы. У скрутных палітычна-гра-мадскіх умовах 30-х гадоў у краіне і па-за яе межамі паэт заставаўся менш элегічны (хіба што ў асобных вершах «Адзінота», «Снягі, снягі, снягі і шэры дзень зімовы»), чым Хведар Ілляшэвіч. У асобных творах радыкальнымі поглядамі і непасрэднымі паэтычнымі выказваннямі набліжаўся да Максіма Танка.

У адным з апошніх даваенных вершаў «Credo in duos deos», пазначаным 11 мая 1939 года, паэт бласлаўляе рукі, «гатовыя заўтрашні дзень адчыніць сабе стальлю…»

Чуй. Сырыя грудзі зямлі напоены потам мужычым,
Доўга кроў-гарачую чырвань цадзілі ў росквіту бель;
Хаты, урослыя ў чорную гразь, закарэлыя ў болі
Векавою тугою набраклі і сабраці суляць жніво —
Там, дзе косьці нямыя бацькоў парахнеюць пад мохам.
Перад богам маіх бацькоў голаў схіляю долу.
А калі над вясною замучанай зашапоча яблыні цвет,
На галіны, на май ацярушыцца бельлю,
Тады будзяцца песні пра сілу і гнеў — а рукі гатовы
Заўтрашні дзень адчыніць сабе стальлю…
Я малюся за гэтакі дзень богу маіх патомкаў.

Натуральна, не ўся лірыка А. Бярозкі вырашана, увасоблена ў такой важкай, цяжкаватай, як поступ ратая, што ўздымае чорныя скібіны раллі, рытміцы.

Ёсць вершы, дзе маніфеставанае, грамадскае як бы адступае на задні план, уступаючы месца, на першы погляд, асабістаму перажыванню і тут паэтава выказванне прыцішаецца, ідзе ў адпаведным моманту стрыманым

тэмпе-рытме. Але заангажаванасць паэта ў грамадскія і сацыяльныя праблемы свайго народа трымае яго пераважна ў «мабілізаваным стане».

З замалёўкі, на першы погляд, пабытовага ён няўзнак пераходзіць да думкі аб актуальным, грамадскім. Прыкладам таму, відаць, можа быць і верш «Зімовым вечарам»:

Пад ціхі шум твайго верацяна
Снуюцца думкі плоймамі густымі —
Узоры ткуць у лучыны сінім дыме
І ўецца ніць, як тонкая струна.
Кажы, бабулька, казку векавую,
Што вее чарамі заклятых сноў;
Хай слова ціхае ўскрынічыць кроў,
Патушыць сум і душу зачаруе.
Ўлажы ты ў словы дух сівых вякоў,
Дыхні ў іх волю моцную, святую,
Што ў сэрцы загуляе, як вясна,
Як Нёман хвалі бурныя падыме…
Мо' сціхне жаль прад казкамі тваімі,
Мо' змоўкне боль пад шум верацяна…

Інтымная лірыка заняла ўвогуле вельмі ніклае месца ў творчасці А. Бярозкі. Псйзажныя матывы выступаюць досыць моцна, арганічна спалучанымі з грамадзянскімі інтэнцыямі і настроямі творцы.

Маюцца, праўда, сярод няцэлай капы вершаў паэта літаральна тры-чатыры творы, так бы мовіць, чыста пейзажнай лірыкі. Сярод іх адметны тонкім мінорным настроем, эўфанічнымі знаходкамі верш «Адлёт жураўлёў»:

Вераснёвае сонца гуляе
На іх крыллях — і ціха, тужліва
Крышлі йграюць у ветры, як струн пералівы…
Сумна крыллі у ветры іграюць…
Вольны покліч далёка нясецца
Па блакіту бязмежных шляхох…
Там, далёка дзесь родны астаўся парог…
Крылле моцна з вятрамі б'ецца…
І лятуць… А пад імі, тугою спавітыя
Палі спяць у асенняй дрымоце…
А іх крыллі, блакітам залітыя,
Вераснёвае сонца залоціць…

Пазней я даведаўся крыху больш пра жыццёвыя дарогі паэта. Падчас паездкі ў Пазнань у 1944 г. А.Бярозка быу арыштаваны гестапа і пасаджаны ў канцэнтрацыйны лагер Нардгаўзен. Вызвалены пасля падзення фашысцкай Германіі, у Беларусь аднак не вярнуўся, хоць не быў заангажаваны ні ў

якай падакупацыйнай структуры, не друкаваўся ў прэсе. Меў досвед сутыку з савецкай законнасцю.

Чужына не аказалася такой паэтычна-плённай для Анатоля Бярозкі, як для Наталлі Арсенневай, Масея Сяднёва, Алеся Салаўя і іншых беларускіх паэтаў на эміграцыі. Хоць да паэтычнай творчасці, досыць выразна заявіўшы за пра сябе ў заходнебеларускі перыяд, ён спрабаваў вярнуцца. Невыпадкова ў 1989-ым годзе выдаў зборнік сваіх вершаў у Мантысэлі, што ў Мінэсоце ЗША. Выдаў у арыгінале і ў аўтаперакладзе на англійскую мову. Адбор зроблены ў эстэтычным плане строга, грунтоўна. У кніжачцы практычна два тэксты, невядомыя з заходнебеларускага перыяду публікацыі. Адзін з іх — звернуты да далёкай роднай зямлі верш. У канчатковай аўтарскай рэдакцыі ён набыў жанравую форму эпітафіі. Вось яе тэкст, важкі глыбокасэнсавымі радкамі, сыноўяй шчырасцю, спавядальнасцю.

Я з дарогаў далёкіх і горкіх аніколі к табе не вярнуся,
дарагая матуля-зямля.
У чужым, няведамым полі
мае косьці збутлеюць. Не аплача мяне Яраслаўна
у Падлесьсі, родным сяле. Ня схіляцца вербы, рабіны
над магілай забытаю. Толькі вецер з-над Нёмана, Лані
мо над ёю павее калісьці — зашапоча ў быльлі на кургане…
І ня вернецца конь мой буланы да парогу роднае хаты,
каб хоць вестку к табе данясьці пра мяне, што загінуў
без сваіх, без цябе, мой аграблены Краю Забраны.
Я зарокся цябе не забыць анідзе, аніколі —
а вялікую ласку к табе я пранёс
скрозь гады і нягоды
і вазьму я з сабой у магілу забытую гэту.
Не кажы пра мяне што загінуў дарма, пу стгацьветам —
пад мурогам чужым, у далёкай, нянашай краіне
будзе пораху жменя, што пайшла з беларускага роду
з беларускай ральлі.
Тая пораху жменя той куточак чужое зямлі — то навекі шматок Беларусі.
Сьніцца будзеш ты мне, мой краю палеткаў ільняных
ў раньні сьветлага дня, ў васільковае сіні вузорах…
Хоць далёка магіла мая, хоць і згінуў ня ў пору
я з табою навекі — там дае моляцца сонцу разоры.
Пад чужым, глухім дзірваном, што берамем ляжа на грудзі
Сьніцца будзе мне вецер той сьвежы з-над Нёмана, Лані —
І адна толькі скарга ў мяне —
што мяне там ня будзе, калі ў новую весну ты сустрэнеш сваё сьвітаньне.

У цэлым жа паэзія Анатоля Бярозкі была і ёсць малітвай аб Волі, беларускай Свабодзе.

*2005*

# Максім Танк: на разломе эпохі

Я песняй роднаю сваёй
Дашчэнту вусны спапяліў.
*Максім Танк*

Упершыню ўбачыць, пачуць Максіма Танка ўдалося дзесь у сярэдзіне 50-х, калі шчасліва стаў шырэць грамадскі гарызонт нашага жыцця.

У самай большай аўдыторыі філалагічнага факультэта тады адзінага у Беларусі універсітэта Паэт чытаў фрагмент з паэмы «Янук Сяліба», фактычна, устаўку ў твор мастацка пераўтворанага ім народнага падання: «Жыў на Палессі музыкант Кулік. // Ніхто, як ён, на скрыпцы так не йграў, // Ніхто, як ён, не ўмеў павесяліць, // Ды Бог і чорт яго упадабаў. // Спрачаюцца, каму яго забраць. // Бог кажа: — Мой, бо дзіўная ігра // Была святлом, што азарае дзень, // Была слязой, якая гасіць гнеў, // Была малітвай за грахі людзей // І гімнам праслаўляючым мяне... // Чорт зморшчыўся ад гутаркі такой: // — Няпраўду кажаш!.. // Ён зусім не твой! // Складаў ён гімны — толькі не табе, // Але зярну і сейбіту, які // Ўстае раней заўсёды за цябе, // І сонцу, азарыўшаму блакіт...»

Спрэчку двух тыпалагічных антыподаў паэт заканчваў па-свойму адметна: «Блішчыць у небе месяца нарог. // Стаіць музыка паміж двух дарог: // Адна — у пекла, а другая — ў рай... // Але ён тут успомніў родны край, // І што не ў кожнай хаце адгасціў, // І не на ўсіх хрысцінах пабываў, // І не на ўсіх вяселлях адыграў, // І не з усіх яшчэ ён чарак піў... // Зноў захацелася яму дамоў. // Папраівіў лапці, струны патужыў // І на Палессе, граючы пайшоў». Тэма для М.Танка няновая: неўміручасць мастака.

На пытанне, зададзенае Паэту з залы, калі найлепей яму пісалася, адказаў нечакана адназначна: «У турме».

Гэты, на першы погляд, парадаксальны адказ: такое недвухсэнсовае змяшчэнне часу лепшых творчых магчымасцей для паэта ка суровыя гады яго жышця ў даваеннай Польшчы, успрымаўся студэнцкай аўдыторыяй пазнаму. У адных — як прыём прамоўцы. У іншых мог пакінуць, пакідаў пытанне,

Для мяне ж свет Танкаўскай паэзіі пачаў адкрывацца, расхінуўся першнаперш якраз з вершаў, напісаных у той заходнебеларускай рэчаіснасці даваеннага часу, якая і нарадзіла Максіма Танка як паэта.

Паслухайце, вясна ідзе.
Звініць ў маім акне жалеза.
З вінтоўкай стражнік ноч і дзень
Пільнуе куст пахучы бэзу.
А ён расцвіў, агнём гарыць,
Такім пахучым, мяккім, сінім;
На дрот калючы, на мурог,
Як хустку, полымя ўскінуў.
Я ціха разбудзіў другіх.
Ад слёз сінелі вочы бэзам,
І недзе хруснула ў худых
Руках іржавае жалеза.

Будучы ў Вільні, не мінаю пліты, цяпер і Крыжа на месцы пакарання смерцю Каліноўскага, а таксама Лукішак, да якіх у літаратуры нашай заходнебеларускай прапісаны настала не адзін твор, у тым ліку і гэты Танкаў верш. Апошнім разам, будучы пад мурамі Лукішак, звярнуў увагу на тое, як вырасла надворная турэмная сцяна-агарожа з польскіх часоў за часы паваенныя: над цаглянай яе муроўкай узвысіўся шэры цэментны апаяс яшчэ такой самай вышыні — пэўна, на метры два вышэй.

Раней мне неяк гэта не кідалася ў вочы. Цяпер праглякула як сімвал змяняўшых тут адзін аднаго рэжымаў.

Выдатная з’ява ў гісторыі беларускай літаратуры, шырэй, культуры — давераснёўская паэзія Максіма Танка, вядома, не ўся нарадзілася ў Лукішскіх мурах. Ды і Паэт не так шмат прабыў у няволі як палітычны вязень. Ён імкліва, як на гэта яму дазваляў вялікі мастацкі талент, ішоў у літаратуру, на той час Заходняй Беларусі. І хоць польская, тады так званая санацыйная ўлада бачыла, не магла не бачыць у Паэце праціўніка свайго рэжыму, адначасна яна не магла ігнараваць яго публічную папулярнасць. І не толькі ў апазіцыйнага ў сілу свайго становішча беларускага чытача і слухача (М.Танк часта выступаў з эстрады), але і польскай інтэлігенцыі, за малым выключэннем не лішне чуйнай на беды-праблемы нацыянальных меншасцяў. Канфіскаваўшы першую кніжку Максіма Танка «На этапах», дэфензіва і віленская пракуратура не раз падступаліся, каб пры нейкай зачэпцы абвінаваціць беларускага паэта ў палітычнай крамоле, прыцягнуць да судовай адказнасці. Але пасля першай адсідкі за падпольную працу да другога турэмнага тэрміна, да Бярозы Картузскай так і не дайшло. У размове на гэту тэму Яўген Іванавіч выказаў меркаванне — засцярог той факт, што ўжо быу аўтарам чатырох кнікак паэзіі, перакладаўся і на польскую мозу. Дарэчы, лепшымі перакладчыкамі сваіх твораў з польскіх паэтаў назваў Яворскага і Вайнтраўба.

Заняўшы левую пазіцыю ў палітычным спектры даваеннай Польшчы, Максім Танк, перадусім дзякуючы маштабнаму прыроднаму таленту, патрапіў імкліва, упэўнена-пераканаўча ўвайсці ў літаратуру і арганічна, глыбока па-мастакоўску выказаць Заходнюю Беларусь у яе сацыяльнай, нацыянальнай, гістарычнай іпастасях, разам узятых. Меў падставы выдавец

зборніка «На этапах» і першы крытык паэта Р .Баравы (Р.Шырма), вітаючы Танка як новую зорку на небасхіле беларускай паэзіі, прарочыць ёй «падняцца да сузор'я Купалы і Коласа». Гэта не было авансаванне маладога таленту. Вершамі хрэстаматыйнага статусу, такімі, як «Песня кулікоў», «Спатканне», «Шэрыя хаты, платы і вароты», «Матыль», «На шляху дзікіх гусей», «Ураклі, матуля, сына твайго людзі», «Лірнік», «Пад мачтай», «За шыбамі тлеюць у інеі сінія зоры», «У полі вярба», Максім Танк уражліва сцвярджаў свае права у літаратуры як мастак і грамадзянін. Акрамя трох зборнікаў лірыкі за некалькі творча актыўных год працы да пачатку Другой сусветнай вайны ён здолеў стаць аўтарам некалькіх буйных эпічных твораў, паэм «Нарач», «Журавінавы цвет», «Каліноўскі». У творчым актыве маладога паэта аказаліся і «Казка пра Музыку», «Казка пра мядзведзя» і «Сказ пра Вяля», творы, што, паводле іх мастацкай сілы і красы, маглі смела супернічаць з класічнымі рэчамі гэтага жанру ў літаратурах іншых народаў.

Арганічны рытмам свабоднага дыхання, самаісты, з арыгінальнай, сэнсава ёмістай метафарай, Танкаў верш лёгка, прынамсі ў маладыя гады, запамінаўся, быў на слыху.

Гудкі і калёс перазвон, —
Памалу цягнік пад'язджае.
Абмыла вячэрні перон
І песня і мова чужая.
І ўсё іх дзівіла у нас:
І беднасць зямлі,
І багацце,
Палёў хараство,
І вясна,
І нашы лазовыя лапці.
Дзесь гаснуў начлежны напеў…
Праплакаў кулік над папарам.
Хтось «Мацюся» хрыпла запеў
Пад струны гавайскай гітары.
На Захад ідуць цягнікі —
Лён, жыта, сасна і бяроза…
Гляджу і гляджу з-пад рукі,
Як маладасць нашу вывозяць.

Гэта з тых даўніх, заходнебеларускай пары вершаў паэта. Неяк нядаўна нечакана пачуў ад нашага добрага асветніка Анатоля Клышкі: «Я ўдзячны табе, браце. Ты некалі прыадкрыў мне Танка…» Сумна і радасна адначасна ўсведамляць, што тыя даўнія інтэрнацкія вечаровыя чытанні нашы пакідалі след у душы, азываюцца ледзь не праз паўвека.

Ведаў, што пры ўсіх заслугах і адпаведна грамадскай вышні становішча, Яўген Іванавіч — чалавек даступны, душой раскрыты насустрач людям. Але неяк цяжка даваўся псіхалагічны бар'ер у набліжэнні да Паэта. Было адчу-

ванне дыстанцыі, узроставай, чалавечай, усякай іншай. Пачуццё звязанасці заставалася і тады, калі, здавалася, адчуў да сябе поўны давер з яго боку.

Калі трэба было звярнуцца да Максіма Танка ў нейкай паважнай справе, а разы два-такі ў гэтым была пільная патрэба, гаварыў спачатку з яго блізкім сябрам Іванам Антонавічам Брылем. Для мяне так было прасцей. Размова ішла звычайна аб заступніцтве, абароне перад людзьмі ўладнымі. Пра адзін такі выпадак мушу расказаць, бо той, каго абараніў Яўген Іванавіч, ужо сам не раскажа, хоць можа і пакінуў дзесь у запісах удзячны ўспамін.

Аднойчы прыскочыў з Маладзечна Генадзь Каханоўскі. Як звычайна, жвавы, усмешлівы. Сказаў, як пахваліўся: «Быў на пасяджэнні Мінскага абласнога ўпраўлення культуры — звольнілі мяне…»

— Як звольнілі? За што?

Генадзь працаваў тады яшчэ намеснікам дырэктара Маладзечанскага гісторыка-краязнаўчага музея. Фактычна стварыў яго. Удыхнуў у музей душу, нават пры тых казённых устаноўках патрапіў сабраць і паказаць у экспазіцыі, чым сапраўды духоўна багата Маладзечаншчына… І раптам звольнілі. Аказваецца, выступіў начальнік упраўлення культуры, былы баксёр Васільеў, яго падтрымаў сам шэф Маладзечанскага КДБ палкоўнік Іваноў, а адпаведнае прадстаўленне на свайго намесніка зрабіла тагачасны дырэктар музея нехта Чарнова. Арганізавалі маленькае аўтадафэ, тройку.

— Дык у чым твая віна? — пытаюся.

— Ат, часам спрачаўся з Чарновай, што Смаленшчыну раней этнографы і гісторыкі лічылі этнічна беларускай. Не верыла, дык паказаў ёй у «Жывапіснай Расіі»…

— Ты ёй — крыніцу-аргумент, а яна табе з дапамогай баксёра ад культуры — на дзверы ў тваім музеі?

— Выходзіць, так.

Сягоння такое абвінавачанне здаецца абсурдным, а тады гэта быў сур'ёзны палітычны крымінал, сімптом буржуазнага нацыяналізму і бог ведае які смяротны грэх.

Мусілі турбаваць Яўгена Іванавіча, каб абараніў ад чыноўнікаў, вярнуў навукоўца на належнае па праву яму месца.

Ведаю, што Танкава заступніцтва — Яўген Іванавіч выйшаў тады на загадчыка аддзела навукі ЦК Караткевіча — вярнула Алеся Разанава, Віктара Яраца і іх сябра Барташа ў ВНУ пасля таго, як іх выключылі з БДУ за збор подпісаў сярод студэнтаў, каб выкладанне на філфаку вялося па-беларуску. Такая была крамола… Яўген Іванавіч, чуў ад яго самаго пазней, напісаў тады разгубленай маці Алеся: «Вы яшчэ будзеце ганарыцца сваім сынам…» У мяне ўсплыло ў памяці тое — чутае 9 жніўня 1995 г., калі ўбачыў, як падышоў з ружамі Алесь да труны Яўгена Іванавіча ў Доме літаратара падчас грамадзянскай паніхіды і даўжэй затрымаўся, углядаючыся ў твар адыйшоўшага ў іншы свет Песняра.

Здаралася, даводзілася Яўгену Іванавічу выручаць людзей і ў больш складаных сітуацыях. У 1944 г. Максім Танк з камандзіровачным пасведчаннем ваеннага карэспандэнта, падпісаным Панамарэнкам, ехаў на 3-ці Беларускі фронт.

Затрымаўшыся ў Вільні, па старой памяці зайшоў да ксяндза Адама Станкевіча, чалавека аўтарытэтнага для людзей розных поглядаў. За паэтам услед уварвауся неккі тып праверыць дакументы і адразу рэціраваўся. Хоць ксёндз не супрацоўнічау з акупацыйнымі ўладамі, а ў сутарэннях касцёла св. Мікалая даваў прыстанішча-схоў падпольшчыкам, як зразумеў Танк, цяпер знаходзіўся пад сціслым наглядам. Тым часам вядомага чалавека яшчэ не чапалі.

Яўген Іванавіч, успомніўшы гэты эпізод, выказаў шкадаванне, што не скарысталі праектаў Адама Станкевіча для дэпаланізацыі касцёла на Беларусі. І сапраўды, ксёндз-асветнік, вучоны, палітык Станкевіч у сваіх планах беларусізацыі касцёла спадзяваўся на савецкую ўладу, бачыў у прапанаванай ёй ідэі дзяржаўную рацыю. Але, пэўна, у «экспертаў» праекта Станкевіча быў іншы клопат.

А вось другі эпізод у Вільні быў драматычны. Яўген Іванавіч зайшоў да Пятра Радзюка, з якім да вайны супрацоўнічалі ў падпольным камуністычным друку. Калі наведаўся праз дзень-другі, застаў яго цяжарную жонку ў слёзах. Смерш прыхапіў мужа адразу пасля візіту Максіма Танка. Становішча было у вышэйшай меры прыкрае. Зусім двухсэнсовае. Пайшоў на вуліцу Зыгмунтоўскую, дастукаўся да нейкага чыну, расказаў яму пра працу Радзюка пры паляках з левымі, што будучы выкладчыкам фізікі ў гімназіі ў час гітлераўскай акупацыі пасылаў партызанам неабходныя для радыё дэталі. Паабяцалі разабрацца. Пазней чуў — выпусцілі. А жонка-полька разумна звезла беларускага журналіста і педагога ў Польшчу.

З Юрам Кепелем, сынам старшыні бацькоўскага камітэта Віленскай беларускай гімназіі даваенных часоў, было горай. Юрай быў больш вядомы як паспяховы спартсмен, а ў 1935 г. яны з Максімам Танкам і Френуком Грышкевічам разам выдалі адзін нумар часопіса «Крыгалом». Ю.Кепель падпісаў яго як выдавец і рэдактар. Было там і яго, рэдактара-выдаўца, апавяданне пад назваю «Сторож камянніцы № 2424». Падрыхтаваны 2-гі нумар улады забаранілі. Па вайне Кепель аказаўся арыштаваны, склад прыпісанага яму злачынства быў асаблівы: ён абвінавачваўся ў тым, што ажаніўся з дачкой нейкага чына польскай контрразведкі. Шкадаваў Яўген Іванавіч таксама, што не ўдалося дапамагчы вызваліцца ад незаслужанай турмы рэдактару «Калосся» Янку Шутовічу: ужо не заспеў у Вільні.

А вось сябра па былым падполлі Міхася Васілька, заручыўшыся высокім заступніцтвам у самога П.К.Панамарэнкі, Максіму Танку ўдалося выручыць ад Сібіры. Паэта арыштавала НКВД у 1944-ым, адразу па выгнанні гітлераўцаў з Беларусі. Прычына арышту ў тым, што М.Васілёк, знаходзячыся ў нямецкім палоне ў Баварыі як былы жаўнер польскага войска, змясціў у газеце «Раніца» верш, прасякнуты тугой заняволенага па Радзіме. Нягледзячы на ідэйную, так сказаць, незамутнёнасць верша, факт публікацыі яго ў падакупацыйнай газеце у абставінах вайны мог расцэньвацца, трактаваўся як супрацоўніцтва з ворагам і мог каштаваць паэту жыцця.[1]

---

1 І.А.Брыль меркаваў, што асноўная прычына арышту М.Васілька была ў яго кантактах з «Беларускім аб'яднаннем» ды Хведарам Ілляшэвічам у Беластоку.

Вось такая няпростая выратавальная місія выпала Яўгену Іванавічу, якому і сам рэжым давяраў не вельмі. Такая ўжо была прырода ў тых рэжымаў: трымацца на жорсткасці, недаверы. Ахвярай жа, як адвеку, быў просты чалавек, а інтэлігент перш-наперш.

Мае асабістыя сустрэчы з Яўгенам Іванавічам да апошніх год насілі эпізадычны, часцей выпадковы характар. Гутарыць даводзілася, што называецца, на хаду. Так сталася і гэтым разам.

К канцу 60-х у некаторых акадэмічных гуманітарыяў з'явіўся непакой: кіраўнікі беларусазнаўчых структур акадэмікі П.Ф.Глебка, К.К.Атраховіч-Крапіва старэюць, каб не занялі іх месца парт-чыноўнікі ад навукі. Кіраўнічыя вярхі, як паказвала практыка, час ад часу таго-сяго з партнаменклатуры спісвалі, пасылаючы на ідэалагічную цэментоўку ў Акадэмію навук. Яшчэ раней — Ц.С.Гарбунова, на нашай памяпі —К.П.Буслава, К.І.Шабуню і інш. Перад пагрозай, што невялікая жыццёва важная для Беларусі пляцоўка можа быць занята чыноўнікамі ад навукі, раўнадушнымі да навуковага беларусазнаўства, маладзейшыя навукоўцы праз Алеся Адамовіча прасілі тагачаснага прэзідэнта Акадэміі навук М.А.Барысевіча выйсці на ЦК з праблемай кадраў. Гэта значна пазней акадэміку АН СССР Барысевічу стане ў цяжар суверэнітэт Беларусі, а ў 60—70-я гады ён дзейсна рупіўся, каб умацаваць флагман беларускай навукі, у тым ліку кіраўніцтва яго структур выхадцамі з Беларусі, прадстаўнікоў якіх на тых становішчах было вобмаль.

Просьба, выкладзеная прэзідэнту А.Адамовічам, заключалася ў тым, каб вылучыць двух-трох самых заслужаных перад літаратурай, культурай пісьменнікаў на званне акадэмікаў. Барысевіч праявіў поўнае разуменне клопату навукоўцаў-беларусаў і назваў у аддзеле навукі ЦК КПБ як найбольш адпаведных кандыдатаў на высокае навуковае званне Максіма Танка і Івана Мележа. Кандыдатуру Яўгена Іванавіча «на версе» падтрымалі, замест Мележа месца акадэміка было дадзена пад І.Я.Навуменку.

Падстрахоўка нававыбранымі акадэмікамі як бы адбылася. Але гэта было не ўсё. Трэба сказаць, што, на думку маладзейшых гуманітарыяў, пазіцыя Кандрата Кандратавіча Крапівы як віцэ-прэзідэнта АН у абароне беларускай мовы, яе рэфармавання не адпавядала яго высокаму аўтарытэту. У гэтым плане ён прайграваў акадэміку-сакратару Аддзялення грамадскіх навук П.Ф.Глебку, які меў гакі стратэгічную пазіцыю ў поглядзе на беларусазнаўчыя навукі. Жорсткія ўмовы ідэалагічнага выжывання 30-х — 40-х гадоў наклалі на характар паважанага сатырыка адбітак звышасцярогі, чынашанавання. Не выключана, што даваў сябе знаць і паважны век Кандрата Кандратавіча.

З выбарам акадэмікам Максіма Танка была надзея на змены ў вышэйшым кіраўніцтве акадэмічнай гуманітарыстыкі. Я выпадкам сустрэў Яўгена Іванавіча ў цэнтральным корпусе Акадэміі навук адразу па яго візіце да К.К.Крапівы. Угледзеўшы ўва мне аднаго з навукоўцаў, відавочна зацікаўленых у тым, каб іменна ён заняў становішча віцэ-прэзідэнта, Яўген Іванавіч адразу абазначыў сваю пазіцыю ў гэтым няпростым для яго пытанні. Зыходзіў са свайго ўражання ад таго, што Кандрат Кандратавіч трымаецца свайго месца на пасадзе віцэ-прэзідэнта і, магчыма, якраз гэта і ёсць яго апо-

ра у жыцці. Яму, маладзейшаму, не выпадае падважваць, цясніць старэйшага заслужанага чалавека. А па-другое, новаабраны паэт-акадэмік асцерагаўся, што адміністратыўная работа забярэ яго час, неабходны для творчасці. Аргумент аб тым, што вось, маўляў, Крапіва і на гэтым становішчы напісаў новуго п'есу і трахнуў старыной — апублікаваў новыя байкі, не здаўся Паэту пераканаўчым на карысць замены яго працы як рэдактара часопіса «Полымя» на прэстыжнае становішча віцэ-прэзідэнта Акадэміі навук. Тым часам неўзабаве яму давялося памяняць найбольш адпаведнае для творчай працы становішча рэдактара часопіса (аб гэтым між іншым шкадаваў пад канец жыцця) на пашанотную, але неспакойную пасаду першага сакратара праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі. І перад першым на час новага прызначэння-абрання М.Танка пленумам Саюза пісьменнікаў адчуць ціск улады.

Па наводцы літаратара, супрацоуніка адміністрацыі ЦК (Яўген Іванавіч не называў яго прозвішча, я не пытаўся), зверху сталі ціснуць на кіраўніцтва СП, каб у справаздачным дакладзе на пленуме была асуджана пазіцыя Васіля Быкава — адыход пісьменніка ад канонаў сацрэалізму. Сакратары, на той час і І.П.Шамякін у тым ліку, заўпарціліся і не выканалі прадпісанне. А ў выніку пасля выступлення Максіма Танка да яго падыйшоў П.М.Машэраў і выказаў згоду з пазіцыяй сакратарыята Саюза пісьменнікаў.

Ды не заўсёды было так лагодна, разумна. Былі і пажарныя выклікі «на верх». Ды гэта, пэўна, тэма не мая. Пра яе нешта згадаў-не згадаў Яўген Іванавіч у сваіх дзённіках, яшчэ раскажуць старэйшыя пісьменнікі, якія калі не непасрэдна былі заангажаваны ў дачыненні з вярхамі, то бліжэй цікавіліся палітыкай іх, паколькі яна адбівалася на лёсе асобных творцаў і літаратуры у цэлым.

Увогуле ў ходзе кожнай нават выпадковай гутаркі ўзнікае нямала сюжэтаў і тэм спантанна, і я нямала чаго пачуў ад Яўгена Іванавіча цікавага. Але тут раскажу больш пра тое, аб сам у яго пытаўся, што мог пачуць адно толькі ў Максіма Танка.

Перш-наперш пра невядомыя, не абазначаныя ў літаратуразнаўстве факты з жыцця, біяграфіі Паэта ды пра людзей, што працавалі на ніве літаратуры, культуры Заходняй Беларусі. Тут сведчанне Танка, яго аўтэнтычнае слова не заўсёды замацавана нават у такім адметным летапісе заходнебеларуокай літаратуры, як «Лісткі календара». Але па магчымасці па парадку.

На прадвесні 1994 г. сустрэў Яўгена Іванавіча на праспекце Машэрава, каля Дома кнігі. Хоць хада цяжкаватая, але твар нейкі абвеяны лагодным ветрам, пасвятлелы, сказаў бы, памаладзелы, каб не сляды стомленасці, якія апошнія гады праступалі выразна.

Паэт выказаў шкадаванне, што пакрыўдзіў хлопцаў пры галасаванні ў Акадэміі навук, пры выбары членаў-карэспандэнтаў і акадэмікаў, Маўляў, можа не за таго, каго трэба прагаласаваў: ціснулі з усіх бакоў. Я не ўдакладняў персаналіі. Даведаўся пазней, чаму бянтэжыўся паэт-акадэмік, пра каго мова.

Між слоў радасна паведаміў, што закончыў пераклад з польскай мовы сярэднявечнай паэмы Пельгрымоўскага, удзельніка пасольства ў Масковію

ў 1601 г. Радасць, якая свяцілася ў добрай усмешцы паэта, была зразумелая: твор нашага земляка Пельгрымоўскага — рэч працаёмкая, вельмі няпростая па мове, стылістыцы.

Не рыхтуючы іх спецыяльна, я, прызнацца, на выпадках сустрэчы з Мвксімам Танкам меў заўсёды некалькі пытанняў. Даўно ўжо мне хацелася дазнацца пра кантакты маладога Максіма Танка з часопісам «Золак». У 1933 г. паэт апублікаваў у ім верш «Ціха ў порце» пад псеўданімам «Яўген Бура», не зафіксаваным ні ў адным бібліяграфічным даведніку пра паэта. Карцела спытацца, чаму пазней адмовіўся ад гэтага літаратурнага імя, але паасцерагаўся быць бястактным, Спытаўся яшчэ, хто друкаваўся ў квартальніку «Калоссе» пад псеўданімам Я.Сяліба. Пераканаўшыся, што пытанні нельга задаваць на хаду, папрасіў у Паэта дазволу званіць яму дахаты.

З першага ж такога званка пераканаўся, што заходнебеларуская тэматыка, у самых розных яе праявах, персаналіях — цікавая для Паэта, будзіць жывыя згадкі ў яго душы. Распытваў, рабіў запісы, кожны раз памячаючы датай пачутае.

Давялося пры розных нагодах быць некалькі разоў і дома ў Яўгена Іванавіча, спачатку на праспекце, непадалёк ад Галоўпаштамта, а потым і на вуліцы Кульман.

Аб тым, што Максім Танк меў аба мне не абстрактнае ўяўленне ўжо на пачатку 70-х гадоў, магу меркаваць па такім факце. Аднаго разу мяне нечакана выклікаў дырэктар выдавецтва Мікола Ткачоў і, паціскаючы руку ды абдараючы сваёй шчодрай усмешкай, папрасіў адрэдагаваць рукапіс мемуараў Паўліны Мядзёлкі. Рукапіс той ужо сем гадоў ляжаў у выдавецтве з адмоўнай рэцэнзіяй Янкі Шарахоўскага. Матывіроўка рэцэнзента была па тым часе забойчая: маўляў, што можа ўспомніць аўтар рукапісу, правёўшы ўсё жыццё ў абозе нацыяналістаў. Адмаўляцца не выпадала. Мікалай Гаўрылавіч сказаў, што менавіта мяне як рэдактара будучай кнігі Мядзёлкі рэкамендаваў Максім Танк. Трэба думаць, што іменна дзякуючы заступніцтву Яўгена Іванавіча «цяжкі» рукапіс заслужанай перад беларускай культурай працаўніцы і быў зрушаны з мёртага пункту ў выдавецкіх планах.

Пазней я атрымаю, так сказаць, дакументальнае пацверджанне чалавечага даверу да сябе з боку Яўгена Іванавіча. У дарчым подпісе на кнізе «Збор калосся» ён напіша: «Майму… другу Арсеню Сяргеевічу Лісу на добры ўспамін аб нашых незабыўных сустрэчах, бяседах. З надзеяй — на новыя. Ад усяго сэрца. Максім Танк. Мінск. 4.4.1995 г.» Пішу гэта не дзеля таго, каб самасцвердзіць сябе дзе-небудзь бліжэй да вялікага Паэта і Чалавека, а адно для сведчання. што ў такім сумоўі ён меў патрэбу. Не таму, што на схіле жыцця быў самотны, але не абдзелены і лішняй увагай, у тым ліку сяброў. З гадамі ў кожнага чалавека застаецца іх усё меней.

Напачатку мае адведзіны Паэта былі аказійныя. Натаваў пачутае ад яго я толькі з размоў апошніх гадоў. З пярэстага набору вестак, фактаў выбіраю тое, што падсвечвае, прасвятляе некаторыя моманты з жыцця Паэта. Пershнаперш невядомае біяграфічнае. Невядомае з розных прычын. Не ў апошнюю чаргу — з-за аб'ектыўных: эпоха, нягледзячы на громкія найменні і

лозунгі яе, не вызначалася шырокімі гарызонтамі і шчырасцю, адэкватнасцю рэальнага кыцця дэкларацыям Сістэмы.

Спачатку пра родавае, сямейнае. Мяне ўразіў драматычнай сілай перажывання надрукаваны ў «ЛіМ»е верш Максіма Танка, прысвечаны роднаму дому. Пад уражаннем прачытанага я спытаўся пра тое, калі быў пабудаваны бацькоўскі дом, кім. У адказ пачуў, што пількаўцы сяліліся на хутары яшчэ перад Першай сусветнай вайной. Сям'я ў Івана Скуркі, дзеда Хведара, была вялікая, дванаццаць чалавек. На новым месцы хоць няўдобіца, курганне, але было болей зямлі. Да выдзеленага казной надзелу бацька яшчэ прыкупіў. Так што ворнай набіралася гектараў сем. Дзядзька з матчынага боку, з Чарняўскіх, прыбудаваў трысцен. Дрэва насіў на плячах: быў такі дужы. Пану наказалі, што ў лесе парубка, нехта ўчыніў шкоду. Прыехаў, паслухаў, што людзі казалі: маўляў, ніхто не памагаў, сам без каня навалок дравіны. Не стаў дакараць, зняў шапку, адвітаўся ды паехаў. Быў такі ж волат нехта ў сям'і сястры Веры, з боку яе мужа Леткі. Здаецца, мужаў бацька. Будучы пастырам за лета насушыў сяннік баравікоў, прадаў іх і купіў білет у Амерыку. Там працаваў грузчыкам. Быў увішны, зарабіў грошы і прыехаўшы дамоў, купіў дзецям ладны кавалак зямлі.

Два словы пра інтэр'ер хаты Скуркаў. Ля сцен здаўна былі зроблены шырокія лавы. Спалі на іх, падаслаўшы сяннікі, якія на дзень прымалі.

У адной з размоў Паэт з захапленнем загаварыў пра родныя мясціны вясной. Побач, як бы абапал хутара, былі дзве рэчкі. У веснавое разводдзе сям'я аказвалася адрэзанай ад свету. Грэблі былі непралазныя. Але гэта кампенсавалася музыкай вясны: лес наўкол кракаў, свішчэў, пішчэў у радасным да шалу абуджэнні. Глыбіннае адчуванне Максімам Танкам прыроды і пантэістычнавобразная прысутнасць яе ў паэтавай лірыцы ідзе ў нейкай меры і ад тых рэчак дзяцінства, ад гоману навакольнага бору, пяшчотнай раскошы тоняў Нарачы, прачула апетай паэтым. Па сутнасці, адчуванне паяднання зямлі і космасу было ў Паэта на генным узроўні, перанятае ад роду, спрадвечных земляробаў і рыбакоў. Перадусім — ад маці. Нават пры першым набліжэнні да паэзіі Максіма Танка нельга не заўважыць, як багата пераасэнсавана, мастацка пераўтворана ім народных паданняў, казак, песенных сюжэтаў — розных жанраў. Па частаце звароту да нацыянальных фальклорных матываў, арганічнасці іх творчага пераўвасаблення Максім Танк без сумніву параўноўваецца генію Янкі Купалы. З «Лісткоў календара» відно, што Паэт сквапна накідваўся ў маладосці на творы традыцыйнай культуры, змешчаныя ў зборах Шэйна, Раманава, Федароўскага. На пытанне, адкуль у яго столькі народнага багацця, адказваў аднаслоўна: «Найболей ад маці…» Домна Іванаўна, як і Еўфрасіння Гарэцкая, была ўвасабленнем традыцый народнай духоўнасці.

Невялікі штрых гістарычны. Захаваўся інвентар 1545 г. з мясцін, дзе цяпер жыў род Скуркаў. З дакумента вынікае, што далёкія продкі паэта, як і іншых навакольных сялянскіх родаў, належалі каралю, не былі прыгоннымі ў паноў-уласнікаў. Мясціны гэтыя ў мінулым зваліся Каралеўцам, Баравым.

Яшчэ такі штрых з сямейнай хронікі. Ён лёг у аснову верша паэта «Начная сяўба». Было ў 1916 годзе. У Наднарачы стаяў нямецка-рускі фронт.

Днём нельга было выткнуцца на поле: з нямецкага боку стралялі. Тады аднае ночы, крыху святлейшай, дзед Хведар, апрануўшыся ў белае, як рабілася гэта на Беларусі спрадвеку і як ён сам рабіў гэта кожнае вясны, вышаў з сяўнёю і засеяў яравы клін.

Аднойчы, калі Яўген Іванавіч дома ў сваім рабочнм кабінеце чытаў новыя вершы, а пад рукой у яго ляжалі чарнавікі і машынапіс, я звярнуў увагу на вельмі чытэльны, графічна чоткі ў рукапісе почырк. Паэт усміхаўўся і сказаў, што, мабыць, абавязаны гэтаму меліярацыйнымі курсам. Гутарка натуральва перайшла да тэмы пра адукацыю. Пасля польскай пачатковай школы ў Шкленнікаве будучы паэт паступіў у бліжэйшую ад дому Вілейскую рускую гімназію. дзе, дарэчы, у Першую сусветную вайну вучыўся і У.Дубоўка. Затым накіраваўся ў Радашковіцкую беларускую гімназію, але правучыўся ў ёй нядоўга. У 1928 г. палякі закрылі беларускую вучэльню як камунізуючую. Перабраўся ў Віленскую беларускую гімназію, але там пайшлі забастоўкі, сярод актывістаў забастоўшчыкаў быў адлічаны з яе і Яўген Скурко. Пасля арышту за падпольную камуністычную дзейкасць на Навагрудчыне і выхаду з Лукішскай турмы паступіць здолеў адно на двухгадовыя меліярацыйныя курсы: там не патрабавалася даведкі аб добранадзейнасці. На курсах удзялялася шмат увагі чарчэнню і літарніцтву. Вось адтуль у пэўнай меры гэты акуратны, непісьменніцкі почырк. І яшчэ на гэты раз Яўген Івававіч здзівіў мяне веданнем латыні. Чытаў цэлыя кавалкі з Цыцэрона напамяць. Пачаткі латыні былі ўзяты ім у гімназіях, у тым ліку ў Радашковіцкай, дзе яе выкладаў стары, яшчэ з часоў першай Грамады беларускі дзеяч Фелікс Стацкевіч, ён жа і дырэктар гімназіі. А наогул вяршыняў чалавечай культуры Яўген Іванавіч дасягнуў дзякуючы настойлівай, сталай самаадукацыі. Прага ведаў, і гэта добра відаць з дзённікаў паэта, ведзеных усё жыццё, была арганічна яго натуры. Невыпадкова Танкава паэтыка ўключае надзвычайнае багацце імён, паняццяў з сусветнай культуры, гісторыі цывілізацыі і вельмі ўважлівая да праяў, элементаў беларускай народнай, нацыянальнай духоўнасці.

Два разы ў нашай размове вяртаўся Яўген Івайавіч да свайго пераходу польска-савецкай граніцы. Было гэта ў 1932 г. перад першым арыштам будучага паэта і паўгодняй адсідкай яго ў турме Лукішкі за падпольную працу. Пераходзіў дзяржаўную мяжу ў раёне Плешчаніцаў. Прывялі, паказалі, дзе можна прайсці. Першая вёска, куды трапіў, — Пагост, з растрапанымі стрэхамі. У жанчыны, у якой спытаўся, як прайсці на пагранпункт, у вачах убачыў жах. Сядзеў нейкі час у Пішчаеўскім замку, адкуль быў бачны Яўрэйскі тэатр. Прыходзіў малады хлопец. М.Танк лічыў яго прадстаўніком Камінтэрну, распытваўся, чаму прыйшоў. Сказаў, што трэба яшчэ папрацаваць у падполлі. Недзе аб тым часе якраз выйшла распараджэнне Камінтэрна, згодна з якім уцякаць з Польшчы можна было толькі ў тым выпадку, калі падпольшчыку пагражаў «даразны» (палявы) суд. Яўгена Іванавіча тым разам ізноў перакінулі на граніцу. Там трымалі ў нейкай будыніне, падсадзілі «зязюльку». Падсадны апрануты быў пад заходняга беларуса, пачаў дудзець, што вось вернецца ў Польшчу, адбудуе хату. Танк не вытрымаў падыходаў правакатара, даў па вуху, пагранначальніку сказаў, што з такім

тыпам у Заходнюю Беларусь не пойдзе. Гэта вырашыла, перакінулі назад аднаго. Папраўдзе, быў момант лёсавырашальны для паэта.

Ні адзін пісьменнік, выхадзец з Заходняй Беларусі, у Савецкім Саюзе ракавы 1937-ы не перажыў. Дастаткова ўспомніць расстрэльны лёс Алеся Салагуба, Сяргея Дарожнага, Анатоля Дзеркача, Уладзіміра Жылкі, Алеся Гародні ды не менш трагічны тых што толькі ўзяліся, браліся за пяро, як Пётра Прадуха і Ўсевалад Семашкевіч з Маладзечаншчыны, Ключановіч з-пад Баранавіч, Васіль Шкодзіч з Ваўкавышчыны, Сымон Кашчына з Берастовіцы… Максіма Танка шчаслівы лёс бярог для вялікай літаратуры, Але «апекі» асноўнага спецведамства таталітарнай сістэмы Паэт не пазбег. Поўнае ўяўленне аб характары ўвагі кампетэнтных органаў да Паэта атрымаюць літаратуразнаўцы наступных пакаленняў, якім удасца заглянуць у дасье на яго асобу. Але адзін факт, расказаны пісьменнікам 8-га лістапада 1994 г., прывяду тут. Сустрэча была выпадковай. Яўген Іванавіч вярнуўся з сваёй апошняй паездкі ў Наднарочча. Асістыраваў яму ў тым падарожжы сваяк з боку Любові Андрэеўны доктар медыцыны прафесар Казюкевіч. ГІаэт чытаў у Мядзелі, Сватках напісаныя апошнім часам вершы, падняўся на магільніку да вечнага спачыну бацькоў. Сярод нараканняў на марноты сучаснай рэчаіснасці ўспомніў, што ў 1939 г., пасля вызвалення, НКВД падбівала некаторых людзей даць паказанні на яго ды дапытваныя ўстаялі. Былі, аказваецца, спробы нешта такое састрапаць супраць Паэта і пасля вайны.[1] «Хапіла ўсяго», — коратка падагульніў Яўген Іванавіч, — на гэты раз стомлены абліччам і голасам больш, чым калі.

На Танкаў успамін з 1939 года накідалася раней ім згаданае пра доктара Ўсевалада Шырана, які крыху друкаваўся ў заходнебеларускай перыёдыцы. Ды справа была не ў літзаслугах, а ў незалежных паводзінах доктара пры паляках і папулярнасці яго як лекара. Як чалавек знаны, прынамсі, ня Дзісеншчыне, адкуль і быў родам, Шыран папаў у дэпутаты на Народны сход у Беластоку, які фармальна вырашаў лёс Заходняй Беларусі. Дэпутатам Народнага сходу быў абраны і Міхась Машара, хоць некаторыя капэзэбоўцы скрыгаталі зубамі: паэт быў ў іх вачах саюзнікам хадэкаў. Выбранне на народны форум вырашыў тактычны ход М.Машары: ён першы сярод заходнебеларускіх паэтаў напісаў хвалебны верш пра І.Сталіна. А Шырану не пашанцавала. Пасля ганаравання званнем народнага пасланнікадэпутата нечакана ён быў арыштаваны. Новай уладзе больш, чым папярэдняй, мог не заімпанаваць яго нонканфармізм. Можа былі якія-небудзь і іншыя прычыны. А ў 1941 г. пры эвакуацыі доктар-паэт, як і большасць савецкіх палітзняволеных, быў ў спешцы расстраляны. Засталіся сведкі яго пагібелі.

Адбылася за час вайны і адна драма ў родзе пількаўскіх Скуркаў. Без маіх роспытаў Яўген Іванавіч двойчы вяртаўся да яе. Загінула паэтава сястра Вера, што была замужам дзесь пад Куранцом. Разам са швагеркай і трохлетнім

[1] Я да гэтага цыбатага яшчэ дабяруся, — прыгадваў аднойчы І.А.Брыль словы І.Ф.Клімава пра Максіма Танка.

дзіцянём яна пад'язджала фурманкай, на якой ехаў нейкі дробны чыноўнік. Па фурманцы далі чаргу з лесу. Фурман і той чыноўнік кумяльгом скаціліся з калёс і засталіся жывыя. А дзве жанчыны з дзіцем аказаліся смяртэльна параненыя. Танк яшчэ у Маскве даведаўся пра сямейнае гора, а пасля вайны адна з дачок Паэта пераняла імя бацькавай сястры.

Аднаго разу Яўген Іванавіч мне паказаў даведкі, паасобку выдадзеныя бацьку Паэта камандзірамі мясцовых партызанскіх злучэнняў Плотнікавым і Маркавым. У дакументах сведчылася, што Іван Фёдаравіч Скурко з'яўляецца савецкім патрыётам, бацькам савецкага паэта Максіма Танка (Скурко) і маёмасць яго не падлягае рэквізіцыі. Такую ахоўную грамату атрымаў Стары дзякуючы вядомасці свайго сына-паэта.

На жаль, маім роспытам у Яўгена Іванавіча не хапала літаратуразнаўчай мэтазгоднасці. Пачаўшы высвятляць факты, імёны падзеі, адлюстраваныя ў даваенным дзённіку Паэта, рабіў гэта па-аматарску, без бачання ўсёй перспектывы у будучым пры асэнсаванні, а канкрэтна каментаванні спадчыны, перадусім «Лісткоў календара». Часткова, аднак, паспеў нешта ўдакладніць, пачуць уласны паэтаў каментар, не адбіты на друкаваных яго старонках.

Было нечаканым для мяне сведчанне Максіма Танка, што «Лісткі календара» ў Польшчы былыя партыйныя таварышы сустрэлі холадна. У прыватнасці, быў названы Самуіл Малько, былы сакратар ЦК КПЗБ, а ў паваеннай Польшчы функцыянер на высокіх пасадах. У Танкавым дзённіку ён згадваецца ледзь не часцей іншых дзеячаў заходнебеларускага камуністычнага падполля. Кантэкст дзённікавых згадак Паэта пра С.Малько, МДворнікава, М.Крыштафовіча — гэта кантэкст працы падпольнай КПЗБ у Вільні, рэаліі, унутраныя падпольныя кантакты у ходзе барацьбы з рэжымам санацыі, супраціву яму. У вусных каментарыях Паэта пачуліся пэўныя моманты пераацэнкі не сутнасці дзейнасці, характару і задач змагання, а адносін да людзей.

Не акцэнтуючы сваіх заслуг перад падполлем (такое не было ў характары М.Танка, у нечым тыповага беларуса), ён пад настрой пералічаў і перадавіцы ў народнафронтаўскай «Нашай волі», і артыкулы ў «Sygnalach» і выступы ў «Kamenie». Згадваў, як з тым жа С.Малько і М.Дворнікавым на плыце ў Валакумпе на Вяллі пісалі артыкул-лістоўку пра С.Прытыцкага «Прытыцкі мусіць жыць».

Пра кватэру па вуліцы Сняговай (з ёй шмат звязана, занатавана ў дзённіку) Яўген Іванавіч успомніў без настальгічнага піетызму. Сказаў, што знаходзілася за вакзалам і з-за дашка дома быў відзён край станцыйнага будынку, «можна было пачуць, каго праводзілі і каму што крычалі». Жыў там Паэт у пакоі-каморцы плошчаю 2х3 метры, дзелячы дні і хлеб разам з сябрам па Радашковіцкай гімназіі, студэнтам сельскагаспадарчага факультэта Віленскага ўніверсітэта Сашкам Хадзінскім. Потым перабраліся на вуліцу Кэнарскага, пры Закрэце. «Тыя сосны і сягоння перад вачыма», — закончыў успамін Паэт. З партыйнай касы ад Малько 10 злотых хапала адно, каб аплаціць тую каморку са Сняговай. «А некаму малазначнаму давалі магазін для прыкрыцця падпольнай работы», — сказаў між слоў.

Успомнілася яшчэ побытавае, жыцейскае, сказанае з характэрнай Танкавай усмешкай. З-за безграшоўя абутак, штаны знашваліся дарэшты. Калі пасля чытання вершаў у зале Снядэцкіх студэнты падхапілі Паэта з эстрады і панеслі на руках, быў клопат, каб штаны на задку датрывалі, не асароміцца паэтычнаму трыўмфатару. На пытанне аб прычыне такога стану здароўя ў пажылыя гады і раней, Паэт назваў слабае аджывенне ў маладыя гады, неспакойную маладосць.

Некалькі штрыхоў, звестак, што да самой творчасці Максіма Танка ў даваенную пару. З гісторыі выдання зборніка «Пад мачтай». На кнігу трэба было 230—270 злотых. Частку сабрала «Беларускае культурнае згуртаванне ў Варшаве». Кіравалі ім А.Орса і Я.Гінько, інжынер чыгуначных шляхоў. Кіраўніцтва згуртавання запрашала М.Танка на вечары паэзіі ў Варшаву. Там пазнаёміўся з В.Іваноўскім і Чарняўскай-Орса, выпускніцай кансерваторыі. Яна паланіла добрым голасам, асабліва песняй «Паднімайся з нізін, сакаліна сям'я». Рэшту грошай, неабходных на выданне зборніка «Пад мачтай», даў член «Товажыства пшыяцюл наук» у Вільні, варта было толькі паэту паказаць карэктуру набранага зборніка. Пры завяршэнні выдання здарылася тое, што бывае пры канчатковым фарміраванні корпуса кніжкі: заставалася некалькі незадрукаваных старонак у канцы, Трэба было або зняць некалькі вершаў або дапісаць. У Танка за ноч тада напісалася пяць вершаў, сярод іх «Памёр стары лірнік». Зрэшты і апошнія гады, суровыя ў фізічным і маральным плане для Паэта, сведчылі, што пісаў ён надзіва многа і на самым апошнім жыццёвым рубяжы захоўваў магутны інтэлект і творчы патэнцыял.

Неяк у адной з гутарак пра даўнейшае Паэт успомніў, што пакуль дайшоў ад Вострай брамы да кватэры на Канарскага, склаўся без мала ўвесь тэкст паэмы «Журавінавы цвет». Былі ў яе і прататыпы. А вось пра іх я не спытаў адразу, а потым забылася ды не паспелася.

Пры ўспамінах Яўгена Іванавіча пра акалічнасці выдання даваенных зборнікаў паэзіі згадалася, што і першая кніжка Паэта, канфіскаваная за рэвалюцыйныя вершы, была выдадзена не на сродкі КПЗБ, як гэта недзе кан'юнктурна значылася ў нас. Зыйшла яна клопатам і коштам Р.Р.Шырмы, дзякуючы тым залатоўкам, якія былі ахвяраваны Рыгору Раманавічу на выданне народных песень інвалідам сусветнай вайны настаўнікам В.Труцькам. Гэта якраз з ім ды Р.Шырмам і сфатаграфаваны Максім Танк на адным з вядомых фотаздымкаў даваеннага часу.

І яшчэ ўспомнілася з «Лісткоў календара» развага-шкадаванне Паэта пра адсутнасць у беларусаў дзяржаўнасці, метафарычна параўнанай ім з высокай званіцай. У дзённікавых запісах гутарка ішла канкрэтна аб тым, на колькі прасцей было выдавацца віленскім польскім паэтам пры апоры на здабытую іхнім народам дзяржаўнасць «гэту высокую званіцу».

Яшчэ адзін факт прынцыповы для гісторыкаў літаратуры Заходняй Беларусі. Дзесь у другой палове 30-х гадоў у заходнебеларускай перыёдыцы з'явіліся адметныя публіцыстычныя артыкулы і тонкай эстэтычнай думкі літаратурна-крытычныя заметкі, падпісаныя псеўданімам А.Бужанскі. Рэчы

былі вострыя, напісаныя яскрава, таленавіта, актуальна. Спрактыкаваны наш гісторык літаратуры прафесар Уладзімір Калеснік лічыў, што літаратурны псеўданім гэты належаў Аўгену Бартулю, аўтару даволі рытарычнай, хоць і адраджэнскай, патрыятычнай лірыкі. Янка Шутовіч, рэдактар «Калосся», дзе найбольш друкаваўся А.Бужанскі, пад відам таго, што мо' яшчэ недзе чалавек жыве, каб не нашкодзіць, цямніў, не выдаваў сапраўднае прозвішча свайго аўтара. Разы два я загаварваў пра Бужанскага з Яўгенам Іванавічам. Той пісаў пра Паэта, сведчыў трохі экстравагантна, што Максім Танк адкрывае новую, македонскую пару ў беларускай літаратуры. Узважыўшы ўсё і паслухаўшы мае аргументы супраць ідэнтыфікацыі Бужанскаг супраць АюБартуля, Яўген Іванавіч сказаў, што пісаў пад гэтым псеўданімам нехта з Польшчы, магчыма, з таго «Згуртавання беларусаў у Варшаве».

Было б незразумела, а можа і недаравальна, каб аўтар паметаў думак, фактаў з жыцця Максіма Танка не спыніўся на яго перажываннях апошніх гадоў, якія прыпалі на спецыфічны гістарычны перыяд — час трансфармацыі палітычнай сістэмы на Усходзе Еўропы, абвалу таталітарызму, пакутлівай спробы пабудаваць прававое, дэмакратычнае грамадства.

Справа ў тым, што падзенне таталітарызму суправаджаецца не толькі адраджэннем такіх абясцэненых ім і кашчунна прафанаваных фундаментальных каштоўнасцей, як грамадскія свабоды, але і эканамічным развалам, псіхалагічным дыскамфортам сацыяльна не абароненых слаёў народа. Там, дзе народ адаптаваўся да таталітарных форм грамадскага ўладкавання жыцця, пераход да рэальнай дэмакратыі — непамерна цяжкі. У Беларусі ён ускладніўся працяглай палітыкай дэнацыяналізацыі, скіраванай на адчужэнне народа ад беларускай ідэі. На прасторы былога СССР негалосна, пад выглядам інтэрнацыяналізму, прапагандавалася фактычна адна ідэя — руская. Усе астатнія этнасы, нават самыя старэйшыя, аб'яднаныя ў імперыі, па задуме ідэолагаў і практыкаў савецкай формы сацыялізму, павінны былі адмовіцца ад сваёй ідэнтычнасці, пераварыцца ў адным катле накшталт англамоўнага амерыканскага этнасу. Такую мадэль фарміравання афіцыйна прапагандаванай супольнасці «савецкі народ» па падказцы тэарэтыкаў і практыкаў казарменнага сацыялізму пад сурдзінку выказваў М.С.Хрушчоў.

Аб'яўлены на пачатку 90-х гадоў Вярхоўным Саветам рэспублікі суверэнітэт Беларусі не меў пад сабой таго фундамента, які дае этнасу нацыянальная ідэя. Адсюль аб'ектыўна перашкоды і «воўчыя ямы» на шляху суверэнізацыі Беларусі. У гэтым асноўная прычына неадназначнага ўспрымання ідэі беларускай дзяржаўнасці ў самім беларускім грамадстве. Адсюль магчымасці для розных палітычных спекуляцый вакол беларускага суверэнітэту, спекуляцый, якія маюць перадусім знешнія, пазабеларускія вытокі і мэты. Калі гаварыць пра творчую інтэлігенцыю, то яна ў масе сваёй была гатова да ўспрыняцця ідэі суверэнітэту і пабудовы грамадства, абапёртага на агульначалавечыя каштоўнасці. Паасобныя прадстаўнікі беларускай літаратуры, такія, як Васіль Быкаў, Алесь Адамовіч, дзейсна супрацьстаялі таталітарнай сістэме ў яе маніпуляцыі масавай свядомасцю. Сягоння ўжо кожнаму неабыякаваму да лёсу Беларусі чалавеку відаць, як многа для гра-

мадскага ўсведамлення маладога пакалення гістарычнымі раманамі сваімі ды аповесцямі, думна-рамантычнай паэзіяй зрабіў незабыўны Валодзя Караткевіч.

Праз інтэрпрэтацыю ў графіцы і жывапісе вобразаў гістарычнай сімволікі нацыянальную ідэю, думку аб беларускай дзяржаўнасці актыўна прапагандавала пакаленне беларускіх мастакоў-шасцідзесятнікаў — А.Марачкін, Я.Кулік, У.Басалыга, М.Купава, скульптар А.Шатэрнік.

Новы напрамак грамадска-палітычнага жыцця, які абазначыўся з канца 80-х гадоў, сваёй творчасцю безаглядна падтрымалі старэйшыя прадстаўнікі беларускай літаратуры В.Вітка, А.Русецкі, А.Васілевіч, больш асцярожна — А.Вялюгін, М.Лужанін. Расстанне з таталітарнай сістэмай практычна прадэманстравалі і літаратары, якія, здавалася, былі больш ангажаваны ў яе. Падзенне інстытутаў ідэалагічнага кантролю, цэнзуры дабратворна-плённа адбілася на творчасці І.Чыгрынава, І.Навуменкі, І.Пташнікава.

Сягоння абсалютная большасць беларускіх літаратараў, фігуральна кажучы ад Уладзіміра Арлова да Эрнэста Ялугіна, за малым выключэннем не настальгіруе па мінулым, а ў меру сваіх здольнасцяў, таленту працуе на будучыню — умацоўвае падваліны супольнага нашага Беларускага дому.

Стаяць яму мурам у новым тысячагоддзі, і ніякім злым сілам не дадзена яго разбурыць.

Максім Танк знешне не выяўляў сваёй пазіцыі ў новай палітычнай сітуацыі, сваіх адносін да надыйшоўшых палітычных змен не выказваў публічна. У прыватных размовах, здаралася, быў крытычны да адвольных, на яго думку, інтэрпрэтацый нацыянальнай легенды. Натуральна, Паэта, абцяжаранага хваробамі, сямейнай драмай, звязанай з дачаснай смерцю дачкі Верачкі, прыгнятаў і эканамічны развал, элементарны дыскамфорт побыту. Але ні разу не даводзілася чуць ад яго нараканняў на развал «вялікай дзяржавы»: бачыў у гэтым працэсе пэўную гістарычную неўнікнёнасць. Гаварыў пра тое, што мову адстойваў яшчэ з даўніх часоў, адсылаўся на верш «Родная мова», напісаны ў вайну. У адной з размоў радасна казаў: «Школа будзе наша (тады ішла прыкметная беларусізацыя асветы) — значыць будзе будучыня». Пра беларускую школу гаварыў як пра з'яву адбытую, рэальную перамогу.

Мне ўспомнілася ўрачыстае святкаванне 60-годдзя Максіма Танка ў 1972 г. у акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы. Для мяне было тады нечакана пачуць, што першае, з чаго пачаў жывы класік, — падзякаваў народу за мову. Тады яшчэ звычайна юбіляры пачыналі падзяку ад партыі. Выказвалі яе, пазіраючы ў рэальны ці ўяўны чырвоны кут, дзе не толькі самому ганараванаму, але і аўдыторыі мроіліся партрэты членаў Палітбюро — лікі правадыроў.

Бліжэйшыя сябры Максіма Танка папракалі яго ў мяккасці, залішняй пачцівасці ў адносінах да начальства. Пэўна, было нешта такое. Але адступаў не далей мяжы прынцыповага. З абурэннем адкідаў папрокі, заснаваныя на пустых здагадках-меркаваннях, што нібыта падпісваў казённыя паперы з асуджэннем Салжаніцына, Сахарава. Не мог не аддаць даніну эпосе,

у рамках якой было замкнута яго чалавечае і мастакоўскае жыпцё. Але не апускаўся да беспрынцыпнага, бяздумнага служэння таталітарызму. Служыў сацыялістычнай ідэі, успрынятай у маладосці, калі гэта служэнне было небяспечным. Не пакідаў яе і пазней, калі стала відавочным, што практыкі яе рэалізавалі не тыя лозунгі, якія былі напісаны на фасадзе ўяўна велічнай будыніны камунізму. Але дыстанцыравацца не ад самой Сістэмы, а ад сутнасна таталітарысцкага ў ёй, патрапіў. Для гэтага меў дастаткова цвярозага сэнсу. І яшчэ валодаў добрым гумарам, аўтаіроніяй, якія маглі дапамагаць у цяжкую часіну, не давалі страціць пачуцця рэальнага.

Асабістае жыццё Паэта апошніх год ускладняла, рабіла часам пакутніцкім не толькі цяжкая хвароба сэрца, крыватоку, ног, удары лёсу (смерць дачкі, потым жонкі), але і розныя подступы, прэтэнзіі да асобы яго як грамадзяніна, аўтарытэтнай постаці. Нехта Іван Іванавіч хацеў заручыцца шанаваным імем народнага паэта, каб уключыць яго ў рэдкалегію праектаванага часопіса «Славянскае веча». Паэту ж ніяк не хацелася ўдзельнічаць, хоць пасіўна, у сумніцельным праекце.

Іншым разам Яўген Іванавіч дасадліва казаў аб тым, што званілі, хочуць вось прыйсці ветэраны, у прынцыпе людзі незнаёмыя, дзеля нейкага неакрэсленага хадайніцтва. Аднойчы сын Максім прыйшоў узрушаны, каб перадаць бацьку нечыю інвектыву наконт здрады паэта чырвонаму сцягу. Ах, гэта вечная артадаксія. Адчувалася, і гэта няраз вынікала з гутарак з Паэтам, што Яўген Іванавіч знаходзіцца ў стане амаль неперапыннай унутранай палемікі з немалалікімі сваімі апанентамі. Самымі рознымі, з розных бакоў, з розных пакаленняў. Аднаго разу ён нечакана, гэта не выцякала з кантэксту гаворкі, загаварыў пра тое, што ніколі не цураўся беларускага сцягу. Пісаў, напрыклад, пра бел-чырвона-белы ў перадавіцы «Нашай волі», якая была фактычна легальным органам кампартыі Заходняй Беларусі. Уласна, а чаму гэта — праблема ў Беларусі 1994 года, яшчэ дэмакратычнай Рэспубліцы Беларусь? І чаму нацыянальнаму геніго павінна быць чужой гістарычная сімволіка яго народа?

Наіўна было б думаць, што нацыянальная дзяржаўнасць абыякава яму, паэту такога таленту, маштабу, інтэлектуальнай вышыні. Пра яе з одумам гаварыў ён яшчэ ў даваенных дзённіках.

Паэт, натуральна, аглядаўся на пражытае, пройдзены шлях, думаў пра свае творчыя здабыткі, іх лёс. Не магло не бянтэжыць, што на два апошнія зборнікі — «Збор калосся» і «Мой каўчэг» не было водгукаў . Зноў жа між слоў сказаў, што нікім не заўважанай аказалася паэма пра Мікалая Дворнікава. Аб’ектыўная прычына маўчання крытыкі — не ў слабасці твораў гэтых кніг. Інтэлектуальна-мастацкая вышыня іх вялікая. Што да паэмы пра Дворнікава, то яна па-свойму наватарская. Ва ўсякім разе мастацкі ўзровень яе хіба толькі ў сноба можа выклікаць сумненні. Але ў апошняе дзесяцігоддзе грамадская, у тым ліку крытычна-мастацкая, думка рэзка павярнулася да вострых праблем, знакавых рэалій сучаснасці. А праблематыка, мастацкі свет той жа, бясспрэчна, таленавіта зробленай паэмы пра Дворнікава ляжалі ў іншай плоскасці. Адносіліся да мінулага, якое сягоння не пралівала святла ў праблематыку сучаснага жыцця.

Гэтым не хачу, не магу сказаць, што ў творах апошніх гадоў Максім Танк замкнуўся ў свет, абмежаваны уласным ідэйна-грамадскім, жыццёвым вопытам. Паэт, як гэта стала характэрна для яго з даўняга часу, ахопліваў духоўным позіркам усю планету, у беларускія па менталітэту творы ўбіраў водар з розных земляў, кантынентаў, культур. Яго верлібры канцэнтруюць у сабе планетарны ахоп праяў жыцця, паняццяў, праблем, пераўтвораных у мастацкім слове, мудра і паэтычна. Задума Паэта пра лёс уласнай творчай спадчыны неаддзяліма ад роздуму яго аб долі народа свайго, яго будучыні. Варта прачытаць ягоны верш «У палёце» з пасмяротна выдадзенай кнігі з сімвалічнай назвай «Эрата» або змешчаны там жа пераклад верша Ігнацiя Буціда «Народ», каб пераканацца, як нечакана актуальны ідэі гэтых твораў для сённяшняй Беларусі, вечнай бацькаўшчыны Максіма Танка.

У 40—80-я гады Паэт не мог, як у 10—20-я гады патрапілі гэта зрабіць Купала і Колас, выказаць карэнныя праблемы жыцця і лёсу беларусаў. На гэта былі жорстка аб'ектыўныя прычыны. Але трубадурам таталітарнай сістэмы не стаў. У канцы сваёй жыццёвай дарогі бачыў, што сярод яго паэтычных здабыткаў мае адзнаку вечнасці, а што было данінай часу, абставін. У «Выбранае», выдадзенае ў 1992 годзе, выбіраў творы непрамінальнай вартасці.

Паэтычная скарбніца, пазначаная літаратурным імем Максім Танк, — вялікая, і беларусам ёсць што ўзяць з яе ў будучыню. Апошні раз бачыў Яўгена Іванавіча за тыдзень да смерці ў лечкамісіі. Не здаўся безнадзейным, хоць 25 ліпеня яшчэ дома застаў яго ў цяжкім стане: малады доктар з лечкамісіі паставіў дыягназ: тромбафлебіт. Лячэнне ў бальніцы, няўдала робленыя ўколы на гэты раз не аблягчалі становішча цяжка хворага Паэта. Не было патрэбнага для ўтаймавання трапічнай язвы лякарства мадэкасолу. Яўген Іванавіч, праўда, спадзяваўся на ўрад: можа, дапаможа дастаць. Недзе між слоў: «Лепш адыйсці…»

Але разгаварыўся і прагаварылі дзесь гадзіны паўтары. Гаварыў Яўген Іванавіч, я слухаў, зрэдку нешта ўдакладняючы. Тэмы аповяду Паэта імкліва мяняліся. Пра Янку Купалу… Быў з ім апошніх дзесяць дзён разам: спачатку на кватэры ў мастака Елісеева, а затым у гасцініцы «Масква». Купала не выглядаў асуджаныш, рыхтаваўся да юбілею. Выступленні яму пісаў нейкі маскоўскі літаратар, п'янчужка. Пазней ён вылецеў з акна, забіўся.

Тэму сімвалічнага малюнка на вокладцы зборніка «На этапах» Яўген Іванавіч сам падказаў мастаку Сеўруку. Успомніў, што быў ў майстэрні Шагала, будучы ў Францыі… Пачаў расказваць, што ледзь не стаў міжвольным сведкам трагічнай гібелі знакамітага яўрэйскага актора Саламона Міхоэлса. Выйшаў на прагулку (жыў тады недалёка ад цяперашняга стадыёна «Дынама»), стаяла машына з прычыненымі дзверцамі. Калі наблізіўся, загадалі грозна: «Прахадзіце!..» У той час знайшлі там, нібы пасля наезду машынай, цела Міхоэлса і яго спадарожніка тэатразнаўца Голубава.

Узважваў памяццю пражытае, перажытае, саму жорсткую эпоху.

Загаварыў пра Аркадзя Куляшова. Найвышэй з твораў паэта цаніў «Сцяг брыгады». Пра «Грозную пушчу» казаў як пра рэч прыгодніцкую, а

«граніца для беларусаў — гістарычны лёс», — рэзюміраваў у канцы. Крытычна азваўся пра «Рыбакову хату» Якуба Коласа: маўляў, без ведання рэалій, атмасферы Заходняй Беларусі пісалася. З одумам сказаў, што ў нашай літаратуры, на жаль, не паўтарыўся варыянт тандэму, каб так, як Купала з Коласам, удваіх дапаўнялі адзін другога ў мастацкім плане, у маштабе нацыянальнай культуры.

Загаварыў пра апошнюю аповесць Івана Шамякіна, надрукаваную ў «Полымі», сказаў, чаму знакаміты белетрыст наш крыўдзіцца на яго. Успомніў пра тое, як з аднакашнікам па Радашковіцкай гімназіі Янкам Гарохам хадзілі дахаты да Аляксандра Уласава ў справе абароны беларускай школы. Былы сенатар сказаў, што будзе старацца, але разважаў услух, як бы запрашаў падзяліць яго роздум: «Бачыце самі, якія загародкі ставяць паны на шляху беларускай асветы». Успамін быў з далёкіх, даваенных часоў.

Ці не апошняй была згадка пра Любоў Андрэеўну. Помню яшчэ дома раз, калі яна, безуважная, сцята маўклівая, сядзела ў крэсле-калясцы ў зале, Яўген Іванавіч, кіўнуўшы ў яе бок, сказаў:

«Шмат ёй абавязаны, не толькі вершамі…» Цяпер одумна загаварыў пра тое, як яна ўмудралася, магла ў сваім цяжкім з-за хваробы ног стане, соўваючыся на крэсле-калясцы, яшчэ паспець нешта зрабіць ля пліты. А быў час — нагатоўвала на дзесяць чалавек сям'і. Яшчэ з часоў першай іх кватэры у Мінску з начлегам наведваліся землякі са скаргамі на старшынь калгаса, якіх змянілася не менш сямі…

Пры адвітанні ў вачах Паэта мільгнула сляза, і стала яшчэ больш балюча ўсведамляць, што гэты знешне магутны, волатаўскага складу чалавек, тытан нацыянальнай культуры стаіць ля апошняй рысы свайго зямнога бытавання, а мы бязрадныя яму рэальна дапамагчы.

Не заставшы Васіля Зуёнка, я пазваніў Валодзю Паўлаву, затым добраму доктару пісьменніцкага саюза Мікалаю Дзмітравічу Ладуценку ў надзеі, што можа можна неяк дапамагчы, дастаць хоць бы той дэфіцытны лек, хоць трохі аблегчыць пакуты чалавеку, каму літаратура наша ды і сам народ наш, напаўадчужаны ад свайго адвечнага слова, духоўнасці, сам ад сябе, нямала абавязаны яго боскаму таленту, высокаму розуму, добраму сэрцу…

*1997*

# Літаратура Заходняй Беларусі

Пачатак заходнебеларускай літаратуры, як і ўзнікненне самога палітычнага паняцця «Заходняя Беларусь», адносіцца да рубяжа 10-Х — 20-х гадоў ХХ ст.

Восенню 1920 г, пасля драматычных для абодвух ваюючых бакоў падзей, польска-савецкі фронт стабілізаваўся, а 8-га кастрычніка гэтага ж года быу падпісаны прэлімінарны мір, які праз паўгода перарос у заключанае ў Рызе мірнае пагадненне.

Згодна рыжскага дагавору польска-савецкая мяжа дзяліла этнічныя беларускія землі на дзве адносна роўнавялікія часткі. Насельніцтва заходнебеларускіх зямель, інкарпарыраваных у Польшчу, налічвала 4,6 мільёна чалавек[1]. Дзяржаўная граніца, розныя палітычныя сістэмы дзяржаў, у межах якіх давялося жыць раз’яднанаму беларускаму народу, па-featureзнаму адбіліся на духоўным жыцці, гістарычным лёсе ўсходніх і заходніх беларусаў. Амаль дваццаць год беларуская літаратура, што ўзнікла на Захад ад польска-савецкай мяжы, развівалася сваім адметным шляхам і ў агульнанацыянальнай мастацкай спадчыне складае асобны раздзел.

Аналагічна Менску на ўсходзе духоўна-кансалідуючым беларускім цэнтрам на Захадзе стала Вільня, з яе даўнімі культурна-гістарычнымі традыцыямі. Нвыпадкова здарылася, што тут сканцэнтраваліся значныя беларускія інтэлектуальныя сілы, у тым ліку літаратурныя. Адны з беларускіх пісьменнікаў, як крытык, публіцыст грамадскі дзеяч Антон Луцкевіч, драматург Францішак Аляхновіч, празаікі Антон Лявіцкі, Франук Умястоўскі, тут стала жылі яшчэ да сусветнай вайны. Іншыя, ях філосаф і крытык Уладзімір Самойла, Максім Гарэцкі, Леапольд Родзевіч, філосаф і паэт Ігнат Канчэўскі,трапілі ў Вільню, занесеныя сюды віхурай вайны і рэвалюцыі.

Аб актыўным развіцці грамадскай думкі, яе вышыні на заходнебеларускіх землях у пярэдадзень падзелу Беларусі паміж суседнімі дзяржавамі даволі красамоўна сведчыць беларускі перыядычны друк, што ўзнікаў там як легендарны Фенікс. Яшчэ ў 1919 годзе, да заняцця Вільні легіёнамі Пілсудскага, Тамаш Грыб тут заснаваў газету лсвай фракцыі Беларускай сацыялістычнай грамады «Грамадзянін». З вясны гэтага ж года Ф.Аляхновіч пачаў выдаваць грамадска-палітычную і літаратурную газету «Беларускае жыццё». Незалежніцкі грамадска-палітычны напрамак мела газета «Белару-

1 Хаўратовіч І. Заходняя Беларусь // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Мн., 1996. Т.3.С.421

ская думка», заснаваная летам 1919 г. у Вільні эсэрамі. Забароненая польскай адміністрацыяй, у 1920 г. яна адрадзілася пад назвай «Наша думка» і рэдагавалася М.Гарэцкім. Летам 1920 г. пачала выходзіць пад рэдакцыяй Г.Багдановіча «Незалежная думка», якая, як і большасць тагачасных беластсцкіх перыядычных выданняў, змяшчала літаратурныя творы. У гэтым жа годзе група інтэлігенцыі на чале з А.Луцкевічам спрабавала адрадзіць «Нашу ніву» (выйшла 10 нумароў газеты). Восенню 1919 г. выходзіла тры разы на тыдзень «Незалежная Беларусь» пад рэдакцыяй К.Мядзёлкі. На зломе 20-х — 30-х гадоў значны беларускі палітычны і літаратурны асяродак уяўляла Горадна, старажытны Горадзень. У 1919 г. тут выдаваліся штотыднёвік «Бацькаушчына», газеты «Беларускі народ», «Беларусь». У 1920 г. іх змяніла газета «Беларуская слова», рэдагаваная пісьменнікам Вацлавам Адамовічам, закрытая палякамі толькі на пачатку 1921года. Усе названыя перыядычныя выданні лучыла нацыянальная Беларуская ідэя, ідэя суверэнітэту і адбудовы даяржаўнасці Беларускага народа. Акрамя актуальных публіцыстычных матэрыялаў абсалютная большасць гэтых выданняў на сваіх старонках змяшчала малыя жанры прозы, паэзію, а некаторыя — аповесці і драматычныя творы.

Акрэслена літаратурна-мастацкі профіль мелі рэдагаваныя М.Гарэцкім «Беларускія ведамасці». Такім жа літаратурна-грамадскім асяродкам, своеасаблівым клубам, пасля закрыцця ўладамі Сярэдняй Літвы газеты М.Гарэцкага стала рэдакцыя газеты «Беларускі звон». У ёй актыўна друкаваліся А.Смоліч, Бр.Тарашкевіч, А.Луцкевіч, Ф.Умястоўскі і яе рэдактар-выдавец, пераважна сацыял-дэмакраты. Неафіцыйным органам Беларускай рэвалюцыйнай арганізацыі (мела леваэсэраўскі ідэйны напрамак) была газета «Наша будучына», дзе рэй вёў Д.Родзевіч, часцей, чым у іншым якім выданні, друкаваўся І.Канчэўскі. На старонках «Беларускага звону», «Нашай будучыны» з разгорнутымі публікацыямі, у тым ліку філасофскімі на тэму вызваленчага руху, з надзённай палітычнай публіцыстыкай пачаў выступаць Уладзімір Самойла, хросны бацька Янкі Купалы. Пасля закрыцця польскай адміністрацыяй «Нашай будучыны» яе рэдакцыйны актыў пад кіраўніцтвам Я.Лагіновіча, палітычнага дзеяча і публіцыста, стаў выдаваць газету «Вольны сцяг», якой з-за пастаяннага праследавання ўладай давялося змяніць некалькі назваў. Ва ўсіх згаданых перыядычных выданнях актыўна друкаваўся Макар Краўцоў (Косцявіч).

На пачатку 20-х гадоў найактуальнейшай праблемай для беларускай літаратурнай эліты Вільні і Горадні былі сацыяльна-палітычны стан Беларусі, лёс яе дзяржаўнасці, будучыні. Натуральна, у барацьбе за нацыянальны Беларускі ідэал — дзяржаўную незалежнасць сярод літаратурных жанраў адно з першых месц належала публіцыстыцы.

У 1919-1921 гг., калі даволі прыкметна абзначыўся прывід падзелу Беларусі паміж дужымі суседзямі, але лёс яе яшчэ працягваў вагацца на шалях гісторыі, з асаблівай вастрынёй і важкасцю гучала публіцыстычнае беларускае слова Янкі Купалы, Язэпа Лёсіка, Алеся Гаруна ў Менску, Антона Луцкевіча, Браніслава Тарашкевіча, Аркадзя Смоліча, Максіма Гарэцкага,

Леапольда Родзевіча ў Вільні. Ідэя суверэннай і непадзельнай Беларусі была ў цэнтры ўвагі публіцыстычных выступленняў А.Смоліча гродзенскага перыяду жыцця, Сымона Рака-Міхайлоўскага, Кузьмы Цярэшчанкі і маладога, рана памерлага публіцыста Янкі Натусевіча ў горадзенскім «Беларускім слове» (1920—1921 гг.). З прычыны падцэнзурнага характару друку большасць матэрыялаў гэтых падпісваліся псеўданімамі і крыптанімамі, сягоння ўжо расціыфраванымі, у выніку чаго іх аўтарства ідэнтыфікавана.

На абсягу заходнебеларускай публіцыстыкі пачатку 20-х гадоў глыбокай аналітыкай і мастацкай яскравасцю слова вылучаліся публікацыі Бр.Тарашкевіча, А.Луцкевіча, А.Смоліча і інш.[1]

Фундаментальнасць праблематыкі публіцыстычных выступленняў гэтых палітыкаў і літаратараў, пастаноўка імі кардынальных пытанняў быцця народа, нацыі, высокі інтэлектуальны, а ў некаторых аўтараў і мастацкі ўзровень публікацый забяспечылі публіцыстычнай спадчыне трывалае месца сярод духоўных набыткаў Беларусі і на перспектыву звяртанне да іх новых пакаленняў у сувязі з актуалізацыяй ідэі адбудовы беларускай дзяржаўнасці.

Побач з публіцыстыкай да закладкі надзейнага ідэйнага фундамента заходнебеларускай літаратуры і культуры *ў* цэлым прычынілася філасофская эсэістыка І.Канчэўскага, У.Самойлы, а таксама ў пэўнай меры і Аляксандра Цвікевіча, які хоць і жыў у Коўне, але меў непасрэдныя кантакты з заходнебеларускай палітычнай І літаратурнай элітай, друкаваўся ў Вільні.

У літаратурна-філаоофскім эсэ І.Канчэўскага (1896—1923) «Адвечным шляхам» асэнсоўваюцца сацыяльны, гістарычны і этычны аспекты беларускай ідэі, асаблівасці светапогляду беларускага народа, дэтэрмінаваныя, паводле думкі пісьменніка, перш-наперш рэгіёнам пражывання этнасу, размешчаным на мяжы ўсходу і Захаду[2]. Пісьменнік-філосаф лічыў, што «вольнага развіцця беларускай духоўнасці не запэўнівае ні заходняя ні ўсходняя культура, бо яны абяртаюцца ў формах гвалтоўнага месіянізму, а іх сціскаючыя ланцугі — аднолькавы для нашага духу»[3]. Канчэўскі гаворыць аб ваганні беларусаў паміж двума тыпамі культур і дасягненне агульначалавечага ідэалу бачыцца яму «толькі праз развіццё асабістага і народнага духу»[4]. «Каб запэўніць нашаму народу вольную творчасць ува ўсіх галінах жыцця, трэба стварыць і адпавадныя, свае, Беларускія формы жыцця»[5]. Перадумовай, здольнай забяспечыць грамадскую творчасць Беларусаў, Канчэўскі лічыць пазбаўленне «ад чужынскага прымусу, заваяванне суверэнітэту»[6].

---

1 Taraszkiewicz B. Biaioruskie postuiaty polityczne//Przymieze, 1920, №3,5; яго ж. Рыжскі трактат і Беларускае пытанне // Беларускі звон. 1921. №3; Луцкевіч А. Польская акупацыя Беларусі. Вільня, І920; яго ж. Аб дзяржаўным будаўніцтве // Беларускі народ. 1919. №2; яго ж, Крызіс ідэі, ці крызіс грамадзянства? // Заходняя Беларусь: Зборнік грамадскае мыслі, навукі, літаратуры, мастацтва. Вільня, 1924. С. 3—6; Л.Б. (Смоліч А.). Незалежнасць // Беларускі звон. І92І. №2.

2 Абдзіраловіч Ігнат. Адвечным шляхам: Даследзіны беларускага светапогляду. Вільня, 1921

3 Тамсама. С. 22

4 Тамсама. С. 11

5 Тамсама. С. 22

6 Тамсама. С. 53

Для развіцця творчай чалавечай асобы, будучыні грамадства Канчэўскі надаваў вялікае значэнне кааперацыі — непрымусоваму аб'яднанню спажыўцоў і вытворцаў[1]. Намі вылучаны толькі асобныя, сацыяльныя моманты ў аб'ёмным эсэ аўтара «Адвечнага шляху». У прынцыпе пісьменнік больш арыгінальны, праніклівы, ціхавы ў сваіх філасофскіх абагульненнях і ацэнках цывілізацый, досведу сацыяльных рэвалюцый, палітычных партый. Асобныя з ягоных ацэнак вызначаюцца празарлівасцю.

Уладзімір Самойла (1878—1941) на заходнебеларускім грунце, У Вільні з'явіўся ў канцы 1919 — пачатку 1920 года ўжо спрактыкаваным журналістам і літаратарам, паміж двума рэвалюцыямі ў Расіі заангажаваным у палітыку. Ужо ў самых першых сваіх выступленнях у віленскай перыёдыцы Самойла выявіў глыбокае зацікаўленне лёсам беларускага народа, яго будучыняй. Прадбачыў падзел Беларусі і заклікаў палітыкаў не спадзявацца на міжнародныя канферэнцыі, трактаты, а арганізаваць народ, каб стаць з ім гаспадарамі ў сваім краі[2].

У асобе ў.Самойлы, чалавека глыбока дасведчанага ў пытаннях літаратуры, культуры, палітыкі, творча актыўнага,заходнебеларускі дэмакратычны друк знайшоў незамянімага рабачая, генератара ідэй. Па сведчанню супрацоўніцы віленскай перыёдыкі 20-х гадоў Л.А.Войцік, Самойла з Ан. Луцкевічам выконвалі асноўную работу ў газетах незалежніцкага дэмакратычнага напрамку — «Голас беларуса», «Сялянская праўда», «Сын Беларуса», «Беларуская доля» і пазней у грамадаўскіх выданнях: пісалі перадавіцы, рыхтавалі асноўны матэрыял. Творчы дыяпазон У.Самойлы надзвычай шырокі. У аб'ёмістых публікацыях (яны звычайна займалі некалькі нумароў) ён піша пра змаганне ірландцаў за незалежнасць, сочачы ў барацьбе зялёнага вострава беларуокі вызваленчы кантэкст, выкрывае дробнабуржуазную польскую партыю «Wyzwolenie» з яе мімікрыяй пад сябра беларускага сялянства, крытыкуе праект польскай улады аб мясцовым самакіраванні для заходняй Беларусі[3]. У літаратурнафіласофскім эсэ «Прафесар Здзехоўскі аб беларускай душы» палемізуе з вядомым польскім вучоным, даследчыкам творчасці паэта Сыракомлі, высвятляе дэтэрмінаванасць псіхалогіі творцы этнічнымі карэннямі[4].

У разгорнутым філасофскім трактаце «Гэтым пераможаш!», напісаным эмацыянальна, у форма эсэ, Самойла тэаратычна абгрунтоўвае беларускую нацыянальную ідэю, акцэнтуе ўвагу на практычным аспекце яе рэалізацыі, выказвае глыбокую веру ў творчыя сіла свайго народа. Як і І.Канчэўскі, аўтар «нарысаў аптымізму» (такі падзагаловак эсэ У.Самойлы) стаіць за

[1] Тамсама. С. 12-65

[2] Civis. Не чакайце міру// Незалежная думка. 1920, ад 11 ліпеня.

[3] Суліма. Ад зямельнага батрацтва да дзяржаўнай незалежнасці // Беларускі звон. 1921. № 13, 16, 17, 18, 20, 34; яго ж. Які «самаўрад» гатуе Беларускаму народу Польская рэспубліка // Наша будучыня. 1923. № 3, 4, 5, 6; яго ж. Што такое «Wyzwolenie» з беларускага пункту гледжання // Новае жыццё. 1923, № 2, 3, 5, 6.

[4] Суліма. Прафесар Здзехоўскі аб беларускай душы. Вільня, 1924.

эвалюцыйны шлях развіцця нацыянальнага руху: «Тое, чаго абапіраючыся на сваю фактычную сілу і на «турэцкае» паняцце аб сваім неабмежаваным суверэнітэце сучасныя паны палажэння не дадуць Беларускаму грамадзянству сягоння, то заўтра будзе «заваёвана» самымі мірнымі, нармальнымі метадамі нашае непераможнае духовае актыўнасці«, — пісаў Самойла[1]. Ва ўмовах акупаванай Заходняй Беларусі, дзе ўсе дзяржаўныя чыннікі былі накіраваны на дэнацыяналізацыю беларускага этнасу, на ўзроўні прэм'ер-міністра заяўлялася, што «праз 50 год і са свечкай у Польшчы нельга будзе знайсці беларуса» (Скульскі), пісьменнік-філосаф безаглядна верыў у беларускае нацыянальнае адраджэнне. Заруку людскай будучыні беларускага народа Самойла бачыў у духоўнай самабытнасці яго мовы, народнай паэзіі і ў такіх знешніх фактарах, як знікненне «паваеннай варварызацыі еўрапейскага грамадзянства, моцнага ў Польшчы«, дэмакратызацыі свету[2]. Філасофскія абагульненні ў.Самойлы, апора беларускага мысліцеля на «Філасофію свабоды» Фіхтэ пры аналізе ідэі беларускага адраджэння мелі і практычныя высновы, якія гучалі даслоўна так: «Беларускі народ павінен цераз пасрэдніцтва сваёй новай нацыянальнай інтэлігенцыі прысвоіць сабе тую вечную праўду, што няма такога зла, якое б было дужэй за дабро і чым дужэй і страшней зло, чым цяжэйшыя акружаючыя нас вонкавыя абставіны жыцця, тым большую сілу, перамагаючую гэтае зло духоўнае актыўнасці павінны мы развіць у сабе, тым мацней і цясней павінны мы спаяцца ў непераможны як для вонкавага, так і для ўнутранага зла, нацыянальны арганізм»[3]. Нарысы аптымізму аўтар заканчваў адкрытым заклікам, падмацаваным словамі святога пісьма: «Дзяржыся ж за сваё роднае карэнне, Беларускі народзе!» — «Бо на гэтым камені збудуе для цябе Бог Царкву сваю, і пякельныя вароты не перамогуць яе».

Аб'ектам публіцыстыкі Аляксандра Цвікевіча (1888—1957) былі праблемы беларускага адраджэння, Беларускай дзяржаўнасці. Эсэ «Аб аргументах ад розуму і аб аргументах ад сарца» прысвечана ролі паэта ў абуджэнні нацыянальнай свядомасці народа[4]. Тэмай эсэ А.Цвікевіча «Вялікае апрашчэнне ці вялікае ўдасканаленне» з'явіліся маральна-этычны і псіхалагічны аспекты дачынення інтэлігенцыі да беларускага вызваленчага руху[5].

Мастацкая публіцыстыка, эсэістыка даволі актыўна ўплывалі на фарміраванне светапогляду маладога пакалвння заходніх беларусаў, у тым ліку тых прадстаўнікоў яго, што ішлі ў літаратуру.

Сярод літаратараў асабліва прыкметны ўклад у развіццё нацыянальнай духоўнасці ў Заходняй Беларусі на пачатку 20-х гадоў зроблены Максімам Гарэцкім. І гэта ў плане тэарэтычным і практычным. 3 Заходняй Беларус-

---

1 Суліма. Гэтым пераможаш!.. // Заходняя Беларусь. С. 68

2 Тамсама.

3 Тамсама. С.68, 70

4 Галынец А. Аб аргументах ад розуму і аргументах ад сэрца // Студэнцкая думка. Вільня, 1925. №№ I, 2.

5 Галынец А. Вялікае апрашчэнне ці вялікае ўдасканаленне? Рыга, 1926

сю, з Вільняй звязаны чатыры з лішнім гады жыцця і працы М.Гарэцкага. Віленскі перыяд творчасці — адзін з самых плённых, этапных у жыцці пісьменніка. Тут талент М.Гарэцкага праявіўся ва ўсёй яго шматграннасці і яскравасці. У Вільні, даўнім культурным цэнтры беларуска-літоўскага краю, карыстаючыся багатымі кнігазборамі, у тым ліку музейнай калекцыяй І.Луцкевіча, М.Гарэцкі напісаў першую канцэптуальную гісторыю беларускага прыгожага пісьменства[1]. Той факт, што развіццё беларускага мастацкага слова разгледжана М.Гарэцкім у кантэксце станаўлення нацыянальнай ідэі, бачна павышаў ролю кнігі як фактара ідэйна-узгадаваўчага ў абставінах жорсткага супраціву польскага рэжыму станаўленню нацыянальнай самасвядомасці заходніх Беларусаў.

Рэаліямі заходнебеларускіх абставін і, шырэй, стратэгічнымі мэтамі беларускага адраджэння кіраваўся пісьменнік, калі публікаваў у Вільні помнікі старажытнай і новай беларускай літаратуры, парадкаваў беларускі лексічны матэрыял у слоўніках, выдаваў дэкламатар[2]. Гэта была адна дзялянка працы яго. Самым дзейсным чынам прычыніўся Гарэцкі-пісьменнік, выяўляючы ў сабе грамадскага дзеяча, да палітычнага жыцця Заходняй Беларусі на зломе яе гістарычнага лёсу, у Вільні часу першай акупацыі яе легіёнамі Пілсудскага, а з восені 1920 г. у так званай Сярэдняй Літве, часовым дзяржаўным тварэнні генерала Люцыяна Жалігоўскага. Спачатку як фактычны рэдактар заснаванай вясной 1919 г. газеты «Беларуская думка», а пасля яе закрыцця польскімі ўладамі — «Наша думка». Нарэшце, як рэдактар-выдавец заснаваных ім «Беларускіх ведамасцей». Акрамя публіцыстычных артыкулаў, у якіх ставіліся, вырашаліся актуальныя задачы беларускага руху бягучага палітычнага моманту, Гарэцкі шмат робіць як арганізатар аўтарскага актыву, асветнік. На старонках перыядычных выданняў, кіраваных М.Гарэцкім, асабліва газеты «Беларускія ведамасці», пастаянна змяшчаліся творы літаратараў Заходняй Беларусі, маладых пісьменнікаў, публікаваліся запісы народных песень, матэрыялы па гісторыі Беларусі, у тым ліку беларускі гістарычны каляндар, складзены самім пісьменнікам. Публікацыі асноўных аўтараў выдання, сярод якіх акрамя яго рэдактара значацца імёны А.Луцкевіча, А.Смоліча, Л.Родзевіча, Т.Урублеўскага (друкаваўся пад псеўданімам Т.Вароніч), побач з допісамі з правінцыі ахоплівалі вельмі шырокі спектр пытанняў Беларускага жыцця, Беларускай духоўнасці, лёсу Беларусі. Ужо зусім непасрэдна прычыніўся Гарэцкі-пісьменнік да літаратурнага працэсу Заходняй Беларусі як творца мастацкіх каштоўнасцей. Ён практычна запачаткаваў традыцыю прозы ў заходнебеларускай літаратуры.

Вілэнскі, або заходнебеларускі перыяд у творчасці М.Гарэцкага характарызаваўся некаторымі асаблівасцямі, абумоўленымі частымі зменамі ўлады ў краі. З аднаго боку, змены гэтыя за чатыры з паловай пражытыя ў

---

[1] Гарэцкі Максім. Гісторыя беларускае літаратуры. Вільня, 1920.

[2] Гарэцкі М. Хрэстаматыя беларускае літаратуры XI век — 1905 год. Вільня, 1923; Браты М. і Г.Гарэцкія. Беларуска-маскоўскі слоўнік. Выд. 2-ое, Вільня, I920; Гарэцкія М. і Г. Маскоўска-беларускі слоўнік, Вільня, 1921; Гарэцкі М. Декляматар, Вільня, 1923.

Вільні гады не раз ставілі пісьменніка ў экстрэмальныя сігуацыі, на грань фізічнага выжывання. З другога — ва ўмовах нестабільнасці рэжымаў ён пазбягаў над сваёй працай татальнага ідэалагічнага кантролю, які спазнаў пазней.

Гады 1919—I923, нягледзячы на арышт, турму і дэпартацыю М.Гарэцкага ўладамі Сярэдняй Літвы, былі вельмі плённнымі ў творчасці пісьменніка. У гэты час ім апублікавана ў «Беларускай думцы» і выйшла асобным выданнем аповесць «Дзве душы», пачата аповесць «За што?», вядомая ў апошняй аўтарскай рэдакцыі як «Ціхая плынь», напісана да двух дзесяткаў апавяданняў, сем сцэнічных твораў, з дзесятак літаратуразнаўчых артыкулаў, не лічачы публіцыстычных выступленняў на актуальныя тэмы беларускага жыцця.

Побач з распрацоўкай «вечных» тэм (экзістэнцыяльных) на пачатку 2О-х гадоў М.Гарэцкі ў жанры апавядання, навэлы развівае далей бэларускую адраджэнокую ідэю, ствараe вобразы ўдзельнікаў Беларускага вызваленчага руху („У 1920 годзе«, «Усебеларускі з’езд 1917 года«, «Фантазія«)[1]. Заўсёды чуйны да павеваў новага ў жыцці, пісьменнік не без насцярогі прыглядаецца да некаторых праяў, прынесеных нацыяльнай рэвалюцыяй у Расіі. Ён даследуе асобныя рысы новай улады ў яе асабовым, чалавечым праяўленні, акцэнтуе сацыяльна-псіхалагічны аспект у раскрыцці вобразаў (апавяданні «Апостал«, «Незадача«)[2].

У віленскі перыяд творчасці М.Гарэцкі, згодна фундаментальнай задуме ўзнавіць у мастацкім слове гісторыю народа, асабліва вялікую ўвагу ўдзяляе тэме мінуўшчыны. Пры гэтым, як ужо было засведчана ў зборніку «Рунь«, мастак плённа выкарастоўвае матэрыял, бытавыя рэаліі часоў паншчыны. Апавяданні Гарэцкага аб прыгонных часах ва ўмовах Заходняй Бедарусі пачатку 20-х гадоў мелі пэўны сацыяльны і нацыянальны падтэкст. Ствараючы вобразы прыгоннікаў, пісьменнік дае ім імёны мясцовых магнацкіх родаў, некалі беларускіх з паходжання, але цягам стагоддзяў спаланізаваных. Гарэцкі паказвае не толькі іх сацыяльнае дамінаванне над народам, прадстаўнікамі якога выступаюць прыгонны селянін, парабак, слуга, прыгонна залежны музыка, але і нацыянальную адчужанасць ад свайго люду. У апавяданнях «У панскай кухні», «Страшная музыкава песня«, «Смачны заяц» паглыбляецца псіхалагізм вобразаў, часцей сустракаюцца філасофскія абагульненні аўтара[3]. Вельмі надзённай для жыхарства Заходняй Беларусі, якое перажыло сусветную вайну і звязанае з ёй выгнанне ў бежанства, была праблематыка п‘есы М.Гарэцкага «Жартаўлівы Пісарэвіч«, фрагменты якой пад назвай «‘Жарты пана Пісарэвіча» былі апублікаваны ў газеце «Наша будучына»[4].

Пачатак, першыя старонкі паэзіі Заходняй Беларусі звязаны парадусім з імёнамі Леапольда Родзевіча, Уладзіміра Жылкі, Ігната Канчэўскага. Яны

[1] Гарэцкі Максім. Творы. Мн.,1990. С. 113—120.

[2] Гарэцкі Максім. Творы. Мн.,1990. С. 121—128.

[3] Гарэцкі Максім. Збор твораў у чатырох тамах. Мн., 1984. Т.1. С. 280, 265, 253.

[4] Наша будучына. 1922, ад 8 снежня

былі найбольш творча актыўнымі і знак іх працы знайшоў выразны адбітак у перыядычным друку пачатку 20-х і ў выглядзе асобных кніжак. Хоць працягвалі працаваць паэты, што прыйшлі ў літаратуру яшчэ ў нашаніўскую пару, Гальяш Леўчык (1880—1944), Казімір Сваяк (1890—1926), Стары Ўлас (1865—1939), менавіта Л.Родзевіч у своеасаблівым сінтэтычным жанры паэме-сказе «Беларусь» і ўДылка ў паэме «Уяўленне» патрапілі найпаўней выявіць той душэўны тонус, той настрой, якім жыла творчая беларуская інтэлігенцыя пад уражаннем падзелу бацькаўшчыны дзяржаўнай мяжой, зрыву адбудовы дзяржаўнасці Беларусі. «У гразь утоптана ляжыш, зыходзіш кроўю з свежых ран«, — на драматычнай ноце пачынаецца твор Л.Родзевіча[1]. З гэтым драматычным заспевам пераклікавцца XI раздзел Жылкавага «Уяўлення«:

Ноччу, ах ноччу
Хтосьці шапоча!
Голас прарочы…
«— Ганьба, о ганьба над намі,
Сорам сябруе з сынамі.
Ныюць так раны,
Слёзным туманам
Засцяцца вочы.
Ні праўды святое,
Ні волі тое.
Чужынцы, напасці,
Пакута падзелам,
Па беламу целу
Знакам ад нажа
Крывавіць мяжа».[2]

Вобраз крывавай мяжы — не толькі паэтычная метафара. Глыбінную сутнасць яе засведчыць лёс тысячы сыноў Беларусі. Пры ўсім драматызме гістарычных падзей часу падзелу беларускіх зямель і адпаведнасці паэтычнай інтэрпрэтацыі лёсу Беларусі на шалях гісторыі твора Л.Родзевіча і ў.Жылкі гучаць аптымістычна, у іх дамінуе мажор.

У зменлівым ад раздзела да раздзела рытме паэмы, то крыху запаволеным, спаважнелым, то імклівым і заўсёды ўзрушаным Жылка паэтычнаабагульнена ўзнаўляе шлях беларускага руху, адраджэння на фоне сусветнага закалоту, грамадзянскай, польска-савецкай войнаў. Паэт радасна канстатуе факт, што ўжо «на мапу Еўропы ўзышоў Беларус». Сваю паэму Жылка заканчвае зваротам да народаў і выказам светлай веры ў добрую будучыню Беларусі:

---

1 Родзевіч Л. Беларусь. Вільня, 1922. С. 5.

2 Жылка ў. Уяўленне. Вільня, 1923. С. 19

Народы! Прадбачу:
Шпаркасць коняў
Пагоні
Суліць удачу.
Вам на пасадзе
Пакутніцу
Нявехнай бачыць.
З доляй-закутніцай
Ў ладзе,
З ясным аблiччам,
З глуму, з нягодаў,
Слову заручана,
Кліча да брацтва, згоды.[1]

Прысвячэнне ў.Жылкам паэмы «Уяўленне» Леапольду Родзевічу — яшчэ адно сведчанне іх ідэйнай блізкасці і заангажаванасці ў вызваленчым руху. Падчас знаходжання ў заходнебеларускай вёсцы, паэт даўжэйшы час заставаўся ў матчынай радні пад Баранавічамі, і выкананні ім ролі сувязнога мясцовай дружыны БРА з цэнтрам у Вільні, яшчэ да адʼезду на вучобу ў Прагу (1923 г.). Жылка стварыў цэлы рад вершаў, выдадзеных пазней стараннем крытыка і літаратуразнаўца А.Луцкевіча[2]. Як адзначыў даследчык творчасці ў.Жылкі ў.А.Калеснік, лірыка паэта вылучаецца ўменнем «перадаць грамадзянскія ідэі глыбока асабіста, як інтымныя рухі душы лірычнага героя»[3]. У вершах «Беларусь», «Віхор», «Замчышча», «Полімпсэст», «Сёмуха» Жылка паэтызуе вызваленчае змаганне. Захопленасць ідэаламі вызваленчага руху, вернасць ім з вялікай сілай гучыць у вершах «Меч», «Вершы аб Вільні», «Наш лёс, бы кат рукой забойнай», «Толькі той, чый вольны дух», «Каваль».

Вершы рана памерлага паэта І.Канчэўскага, падпісаныя псеўданімам «Ганна Галубянка», вылучаліся рамантычнай паэтыкай і высокай культурай пачуццяў[4].

Вераснёвае пано

У Бернардынскай прысадзе шапочуць пажоўклыя лісці,
Ледзь прыкметны на сцежках бліскучыя шкуркі каштанаў
І вада ў Віленцы ад зімна сінеей і празрысцей
Гаманіць з камянём аб працёкшых гадах без устану.

[1] Жылка ў. Уяўленне. Вільня, 1923. С. 22
[2] Жылка ўладзімір. На ростані. Вільня, 1924.
[3] Жылка ўладзімір. Пожні. Мн., 1986. С.9.
[4] Канчэўскі І. Вераснёвае пано // Наша будучына. 1923. №4; яго ж. Мы разам // Заходняя Беларусь. С.8.

…І выходзіць між дрэў у патаёмную вечара пору
Князь апошні Літвы ў хвалях гаснучых зыбкага свету,
З барадой кучаравай даспелых каштанаў калёру,
Са струсёвым пяром, што як воблак над чорным бірэтам.
І суваючысь крокам павольным па сцяжынках саду,
Ён падняўся на гору, падходзе да вежы цаглянай
І, апёршысь рукой над плашчом на злашчоную шпагу,
На прыціхшае места глядзіць аж да самага рання.
І чакае пакуль не засмуцііца ноч над ракою,
Над вадой пабялеўшай прытуляцца сонныя мары
І ў празрыстай імгле наплывуць лебядзі чарадою,
А над іскрамі росаў праблісне апратка Барбары.

Трагедыя сусветнай вайны, з яе безліччу ахвяр, вялізнымі разбурэннямі, драмай бежанства, а Заходняя Беларусь, дзе тры гады стаяў апазіцыйны руска-германскі фронт, зведала цяжар яе поўнай мерай, прынесены вайной і рэвалюцыяй пробліск надзеі на адбудову сваёй беларускай дзяржаўнасці, — увесь гэты вал падзей актывізаваў творчую думку. На беларускай літаратурнай ніве з'явіліся новыя сейбіты. На зрэзе дзвюх эпох у літаратуру прыйшлі на Захадзе Беларусі Макар Краўцоў(1890-І941), Станіслаў Шыманоўскі (1893—1920), на ўсходзе — Міхась Чарот, Уладзімір Дубоўка, Язэп Пушча, Алесь Дудар. На першую палавіну 20-х гадоў у Заходняй Беларусі прыпадае найбольшая літаратурная актыўнасць паэта-клерыка Казіміра Сваяка (Стэповіча), які пачаў друкаваць яшчэ ў газеце «Bieiarus» у 1913 годзе. У музы К.Сваяка, звычайна засмучанай асабістай трагедыяй паэта, хваробай, што рана звяла яго ў магілу, з'яўляюцца светлыя таны:

Ідзе вось ясная пара,
Прывіду свеціць нам зара.
Айчына — Маці — Беларусь,
Гарой, Жыва![1]

Паэт верыць у разбуджаныя сілы народа, у яго здольнасць збудаваць годную будучыню, запавесці наступным пакаленням ідэю свабоднай Айчыны:

Іскра бязвольна пажарышчам стане,
Ад твар схаваюць нябесныя зоры,
І дух народны адважна паўстане,
Раўняці будзе даліны й горы.
Будаваць будзе на зломах айчыны
Рукой магутнай з агнём Праметэя,
А сам ях згіне, дасці тэстамент сыну,
Каб не змалела Айчыны ідэя…[2]

[1] Сваяк К. Мая ліра. Вільня, 1924. С. 21. Гімн роднай зямлі.
[2] Тамсама. С. 25. Айчыны мілай зор на сабе чую.

Удзельнік сусветнай вайны, актыўны дзеяч Беларускага нацыянальнага руху ў перыяд яго ўздыму ў 1917—1920 гг. Макар Краўцоў (Косцявіч) акрамя вядомага верша-гімна «Мы выйдзем шчыльнымі радамі», створанага пад уражаннем Слуцкага паўстання, складае верш «Братом», у якім спалучаны роздум над трагічным лёсам беларускай зямлі з магутнай верай у нацыянальную свабоду яе народа:

Праклёнства нейкага пячатка на народзе,
Што засяліў абшар ад Нёмна за Дняпро,
Ён кожныя сто год апошняе дабро
Губляе ў полымі вайны ды годзі.

Ды мы народ жывы, не раб, а гаспадар
І роўнай з іншымі заслужваема долі,
Мы трупамі ўсцелем цяжкі шлях да волі,
Хай соты можа з нас, а ўбачыць яе твар.[1]

Адасоблена ад заходнебеларускіх пісьменнікаў, прасякнутых нацыянальнай ідэяй або ідэяй сацыяльнага разняволення працоўных, нярэдка арганізацыйна звязаных з вызваленчым рухам, стаяла Наталля Арсеннева (1903-1997), чые вершы з самага пачатку 20-х гадоў стала друкаваліся амаль ува ўсіх перыядычных выданнях. Блаславёная на паэтычнае выступленне М.Гарэцкім, падчас вучобы паэтэсы ў Віленскай беларускай гімназіі, Арсеннева ў сваёй лірыцы засяродзілася на суб'ектыўным пачатку, перажываннях інтымнага характару. Асноўнай крыніцай паэтычнай інспірацыі яе стала прырода, космас, Нягледзячы на індыферэнтнасць паэтэсы да грамадскіх праблем, бясспрэчны талент яе высока цаніўся прадстаўнікамі літаратурнай грамадскасці. Пасля выхаду зборніка «Пад сінім небам» (1927 г.) творчасць Н.Арсенневай ацанілі вядучыя крытыкі ў.Самойла (Чэмер) і А.Луцкевіч[2].

На пачатку 20-х гадоў у газетах «Беларускі звон» і «Беларускія ведамасці» друкаваўся паэт і мастак Алесь Смаленец (1893—1966), сапраўднае прозвішча Ружанцоў. На той час ён, былы ўдзельнік сусветнай і грамадзянскай войнаў, быў камандзірам беларускага батальёна ў Літве, створанага эміграцыйным урадам Вацлава Ластоўскага, рэдагаваў часопіс «Беларус-вайсковы». Вершы А.Смаленца вылучаліся ваеннай тэматыкай. У вобразнай структуры іх пераважалі вобразныя рэаліі вайны. М.Гарэцкі знаходзіў іх «моцнымі думкаю і даволі арыгінальнымі формаю». Пазней А.Смаленец выступаў як перакладчык беларускай паэзіі на літоўскую мову і літоўскай на беларускую[3].

Першыя публікацыі паэта Алеся Салагуба (1906—1934) адносяцца да 1923 г. Будучы вучнем Беларускай віленскай гімназіі малады паэт звязаў

1 Краўцоў М. Братом // Наша думка. Вільня, 1921. №24

2 Чэмер М. Верная дачка Сонца і шчырай зямелькі // Родныя гоні. Вільня, 1927. №5-6; Луцкевіч А. Адбітае жыццё. Вільня, 1929. С.108-114.

3 Ружанцоў Аляксандр. Беларускія пісьменнікі: Бібліяграфічны слоўнік. Мн., 1995. Т. 5. С. 168.

свой лёс з камуністычным падполлем, стаў сябрам члена ЦК КПЗБ Арсеня Канчэўскага, брата вядомага літаратара, удзельнічаў у арганізацыі гурткоў Беларускай сялянска-работніцкай грамады ў родных мясцінах на Смаргоншчыне. А.Салагуб двойчы арыштоўваўся дэфензівай, да года праседзеў у празваных заходнебеларускай Бастыліяй Лукішках, праз казематы якіх прайшло не адно пакаленне заходнебеларускі рэвалюцыянераў. Алесю Салагубу ў літаратуры Заходняй Беларусі належыць першынства, роля адкрывальніка турэмнай тэматыкі, стваральніка вобраза палітвязьня, пазней М.Танкам і В.Таўлаем узнятага да шырокіх мастацкіх абагульненняў. Лірычны герой А.Салагуба — alter ego аўтара — натура мэтаімклівая і цэласная, у яго свядомасці арганічна спалучаны сацыяльны і нацыянальны ідэалы, ён далучаны да ідэі разняволення чалавецтва ў планетарным маштабе («Мы рады, рады, што змяняем гісторый ход»), адначасна змагаецца, пакутвае ў астрозе і марыць убачыць «вольнай сваю Беларусь«. У сваіх інтэнцыях, душэўных перажываннях лірычны герой паэта моцны духоўнай повяззю з вёскай, цешыць сябе верай, што пакіне ў ёй «бунтарства агні«. Як рэвалюцыянер, максімаліст А.Салагуб малюе ідэал заходнебеларускай вёскі як бунтаркі:

…Люблю цябе, калі ты ў гневе
Замест сярпоў мячы куеш,
Замест зразаць калосся нівы —
Начамі будзіш Белавеж.[1]

Лёс А.Салагуба трагічны. Вырваўшыся з польскай турмы, ён нелегальна перайшоў граніцу, скончыў у Менску Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт, выдаў зборнік вершаў, даволі часта выступаў у перыядычным друку, паступіў на вучобу ў аспірантуру пры Беларускай Акадэміі навук. Трапіўшы пад другую хвалю рэпрэсій у Савецкай Беларусі, загінуў у 1934 годзе[2]. Значную гісторыка-пазнавальную цікавасць уяўляе «Лукішскі дзённік» А.Салагуба, часткова апублікаваны ў.А.Калеснікам[3].

Коратка агледзеўшы развіццё некаторых жанраў заходнебеларускай літаратуры першай палавіны 20-х гадоў, можна канстатаваць, што яно адзначана прыкметнымі здабыткамі перадусім у публіцыстыцы, у тым ліку ў філасофска-эсэістычнай, а таксама ў нейкай меры ў паэзіі. Што ж датычыць празаічных женраў, перш-наперш малой прозы, то яна практычна прадстаўлена адно апавяданнямі, навеламі і замалёўкамі М.Гарэцкага 1921—1922 гадоў, некалькімі апавяданнямі Макара Краўцова, нарысамі, абразкамі Вацлава Адамовіча (Дзяргача), апавяданнямі Л.Лаўскага, надрукаванымі ў студэнцкай перыёдыцы. Акрамя прозы М.Гарэцкага, псіхалагізмам, чалавеказнаўчай скіраванасцю вылучаюцца апавяданні М.Краўцова «Маршлют«, «Маскалёвы дзеці», у якіх па-мастацку даследуецца народны характар,

1 Салагуб Алесь. Лукішкі. Мн., 1929, С. 64. Начныя думы
2 Токарев Н.В. Возврашенные имена, Мн., 1992. С. 102.
3 Салагуб А. Лукішскі дзённік: Фрагменты // Полымя. 1961. № 4.

у класічнай манеры распавядаецца пра народнае жыццё[1]. Асобных адзнак свайго часу, заходнебеларускай рэчаіснасці ў іх пісьменнік не выяўляе. Ён паказвае вобразы, тыпы старой беларускай вёскі.

Вобразы прадстаўнікоў палескага сялянства, абуджанага вайной і рэвалюцыяй да свядомага грамадскага жыцця, удзельнікаў сялянскага руху, праўда, эскізна, накідвае ў сваёй кнізе В.Адамовіч-Дзяргач[2].

Імкненне да займальнасці распаведу, вострага псіхалагізму назіраецца ў апавяданні Франука ўмястоўскага (1882—1940) «Стася»[3].

У той час як прозе, жанру аналітычнаму, складанаму, у першай палавіне 20-х гадоў не лішне шанцавала ў заходнебеларускіх умовах жыцця: найбольш перспектыўны яе творца М.Гарэцкі хутка пакінуў Заходнюю Беларусі, а іншыя, як Ф.Умястоўскі, М.Краўцоў, аддалі перавагу перад эпасам іншым літаратурным жанрам. Самы складаны з іх, драматургічны, і ў першыя гады літаратурнага працэсу на заходнебеларускім грунце выявіў тэндэнцыю да імклівага і плённага развіцця. Паспяховаму развіццю драматургіі ў літаратуры Заходняй Беларусі паспрыяла некалькі акалічнасцей. Папершае, сусветная вайна, затым віхор грамадзянскіх разрухаў, з іх нішчэннем жыцця, змушаным уцякацтвам, — усімі няшчасцямі і горам, якія масава абрушыліся на Беларусь, асабліва на яе заходнія землі , самі сабе давалі пісьменнікам-драматургам унікальны матэрыял. Лёс народа, лёс чалавека ў экстрэмальных умовах вайны, трагедыя падзелу этнасу межамі чужых дзяржаў, — гэта былі актуаліі беларускага быцня, што самі прасіліся выліцца ў формах драматургічнага віду мастацтва. Па-другое, на ніве заходнебеларускай літаратуры, на шчасце, аказалася адразу некалькі глыбокіх самабытных драматургічных талентаў. Акрамя М.Гарэцкага, які на працягу некалькіх год жыцця ў Вільні даў цэлы рад выдатных драматычных абразкоў, драматургічная творчасць у Заходняй Баларусі была прадстаўлена п‘есамі Францішка Аляхновіча (1900—1944) і Леапольда Родзевіча (1895—1938), пісьменнікаў-драматургаў па прызванню. Трэцяя прычына паспяховага развіцця сцэнічных твораў у заходнебеларускай літаратуры — сацыяльны заказ. Абуджаны рэвалюцыяй, грамадскімі зрухамі ад летаргіі, народ пацягнуўся да асветы, шукаў дарогі да свядомага жыцця. Стан абуджанасці стымуляваў самадзейнасць ва ўсіх яе формах, у тым ліку і мастацкую. Сцэнічныя віды мастацтва, сцэнічныя жанры з іх непасрэдным уплывам на свядомасць масавага глядача і слухача адэкватна адказвалі на запатрабаванні часу. Ужо ў 1922 г. была заснавана ў Вільні Беларуская драматычная майстроўня з мэтай пашырэння беларускай тэатральнай культуры. Заснавальнікамі і асноўнымі працаўнікамі ў ёй былі Л.Родзевіч, М.Гарэцкі, М.Красінскі, А.Канчэўскі, А.Міхалевіч[4]. Беларускі музычна-драматычны

---

1 Краўцоў М. Маскалёвы дзеці // Беларускі звон. 1921. № 22-23; яго ж. Маршлют // Беларускі звон. 1921. №24.

2 Дзяргач. Тыпы Палесся. Абразкі і легенды. Вільня, 1924.

3 Дзядзька Пранук. Стася // Беларускі звон. 1921. №№ 20, 21, 23.

4 Лабовіч А. Тэатр змагання. Мн., 1969. С. 7—20.

гурток, дзейсны яшчэ з «нашаніўскіх» часоў, 4-га ліпеня 1922 г. аб‘явіў першы конкурс на сцэнічныя творы[1].

Заходнебеларуская вёска з-за немагчымасці адтоку моладзі ў горад была добрай сацыяльнай базай для развіцця нацыянальнага і рэвалюцыйнага руху, а таксама для першаасновы іх — асветнай дзейнасці. Культурна-асветная праца пад эгідай гурткоў Таварыства беларускай школы пачала шырока ахопліваць не толькі цэнтр, але і правінцыю. Беларускія прадстаўленні сталі значным фактарам пашырэння дэмакратычных ідэй, нацыянальнага ўсведамлення.

Побач з самым аператыўным жанрам літаратуры — публіцыстыкай далёка не аператыўны і самы працаёмкі яе від — драматургія ў мастацкай культуры Заходняй Беларусі першай палавіны 20-х гадоў аказаўся найбольш прадуктыўным, дзякуючы працы двух пісьменнікаў — Л.Родзевіча і Ф.Аляхновіча. Абодва драматургі пачыналі сваю пісьменніцкую кар‘еру як акторы, абодва былі членамі Беларускага музычна-драматычнага гуртка, заснаванага ў 1910 годзе, і выступалі на віленскай сцэне яшчэ да І-ай сусветнай вайны. У часавую прастору ўласна заходнебеларускай літаратуры ўступілі як пісьменнікі, якія ўжо вызначыліся ў сваіх асноўных жанрах, цалкам склаліся як творцы. У творчым актыве Л.Родзевіча к гэтаму часу было да дзесятка маленькіх камедый, тыпу «Збянтэжаны Саўка», «Пасланец«, «Конскі партрэт«, дарэчы, вельмі папулярных у заходнебеларускага гледача, і была сімвалічна-алегарычная драма «Пакрыўджаныя«, па эстэтычнай вышыні дзесь блізкая Купалаваму «Раскіданаму гнязду«. Ф.Аляхновічу, які пачаў пісаць крыху пазнэй малодшага за сябе Л.Родзевіча, належала аўтарства сямі п’ес, пабудаваных пвраважна на фальклорных сюжэтах і матэрыяле з жыцця месцічаў.

Надрукаваныя ў «Беларускім звоне», а затым асобным выданнем драматычныя сцэны пад назваю «Досвіткі» Л.Родзевіча — узор філасофска-эстэтычнага асэнсавання ў формах драматургічнага мастацтва пытанняў актуальных, праблем вялікага гуманістычнага сэнсу[2]. На матэрыяле драматычных падзвй у лёсе цэлага народа пісьменнік стварае сімвалічную карціну: паказвае, як на пажарышчы вайны, разруху прабуджаецца народная свядомасць, пачынаецца пошук дарогі, сябе ў кантэксце часу, грамадства. У сцэнах адзін толькі персанаж мае сваё імя — Ярміла. Іншыя набылі збіральнае сацыяльнае аблічча, названы драматургам агульна: гаспадар, селянін, вучыцель, маладіца, кабеціна. Асобныя найменні «Кволы чалавек«, «Прабуджаны«, «Хворы» маюць сімвалічны падтэкст і сэнс. Аўтар твора дасканала выкарыстоўвае «голас з грамады».

Архіактуальная на пераломе 10-х — 20-х гадоў для беларусаў тэма абароны свайго дому, меня, годнасці, бацькаўшчыны, у прынцыпе заўсёды надзённая, ляжыць у аснове фацэцыі Л.Родзевіча, назва якой П.С.Х. дэ-

---

1 Беларускі звон. 1922. №14.

2 Родзевіч Л. Досвіткі. Вільня, 1922. У газетным варыянце публікацыі аўтар п'есы выступае пад псеўданімам Лявон Жыцень. У гэты час Л.Родзевіч асобныя творы падпісвае яшчэ і псеўданімам «Сучасны».

шыфруецца як прытчавая — Пільнуй сваёй хаты[1]. Праз камізм сітуацыі: спрэчку гаспадыні з гаспадаром прыпыняе даволі каларытная сцэнка кароткага побыту ў іх хаце чырвонаармейца і кітайца, камедыёграф дасягае сцвярджэння паважнай сентэнцыі.

Яскравай сцэнічнай мовай, адметным вобразным каларытам твора характарызуецца аднаактоўка Л.Родзевіча, жанрава акрэсленая драматургам як феерыя пад назвай «На Каляды«[2]. Цалкам у рамантычным ключы, з выкарыстаннем рэвалюцыйнай сімволікі вытрыманы сцэнічны абразок Л.Родзевіча «Кавалі«. Галоўны персанаж абразка, малады каваль пачынае гаварыць у аўтара ўжо лозунгава: «Працаваць для вызвалення, працаваць для ўладарнасці працы… Працаваць для шчасця роду людскога, для хараства жыцця!»[3] Справа ў тым, што з восені 1923 г. Л.Родзевіч сілай абставін, свайго дзейснага характару ўцягваецца ў дзейнасць камуністычнага падполля Заходняй Беларусі, з лідара БРА становіцца сакратаром ЦК КПЗБ, рэдактарам галоўнага друкаванага органа партыі газеты «Чырвоны сцяг», а затым тэарэтычнага часопіса «Бальшавік». У «Чырвоным сцягу» пазнаецца почарк Л.Родзевіча ў актуальных антыпольскіх прыпеўках, надрукаваных без пазначэння аўтарства.

Пазней у Савецкай Беларусі выйдуць кніжка яго паэзіі «На паняволеных гонях» (1928 г.), зборнікі апавяданняў «Рэвалюцыйным шляхам» (1928 г.) і «Вогнішча барацьбы» (1930 г.), наскрозь прасякнутыя палітычнымі ідэалагемамі, крайне засацыялагізаваныя. Да драматургічнай творчасці, да якой маў немалыя здольнаеці, Л.Родзевіч, на жаль, не вярнуўся. У сярэдзіне 30-х пачынальнік заходнебеларускай літаратуры трапіў у Меску пад махавік сталінскіх рэпрэсій і трагічна загінуў.

Практычна на храналагічныя рамкі заходнебеларускай літаратуры, на першую палавіну 20-х гадоў яе развіцця прыпаў самы плённы перыяд творчасці аднаго з найбуйнейшых для свайго часу беларускіх драматургаў Ф.Аляхновіча. З 1921 па 1926 год, год выезду Аляхновіча ў СССР, ім напісаны п‘есы «Птушка шчасця«, «Заручыны Паўлінкі«, камедыі «Шчаслівы муж«, «Пан Міністар«, драмы «Дрыгва» і «Няскончаная драма». У 1921 г, Аляхновічам створана адна з лепшых у ідэйна-эстэтычным аспекце яго п’ес «Няскончаная драма»[4]. У творы мастацка тыпізуецца перажытае беларускай інтэлігенцыяй падчас сусветнай вайны і рэвалюцыі, узнаўляюцца падзеі, звязаныя са спробай дэмакратычнай інтэлігенцыі закласці падваліны беларускай дзяржаўнасці. Галоўны герой «Няскончанай драмы» Аляхновіча — Васіль — мае аўтабіяграфічныя рысы. У творы праявіліся лепшыя ўласцівасці таленту драматурга, адзначаныя сённяшняй крытыкай спадчыны пісьменніка (А.Сабалеўскім, С.Лаўшуком), а менавіта дынамізм дзеяння, каларытнасць характараў, выразнасць сцэнічнай мовы.

1 Сучасны. П.С.Х. Вільня, 1923.

2 Родзевіч Л. На Каляды // Наша будучына. 1922. №3

3 Родзевіч Л. Кавалі // Заходняя Беларусь. С. 95.

4 Аляхновіч Францішак. Няскончаная драма, Вільня, 1922.

На праблемах маральна-этычнага характару, на з‘явах, што стаяць на перашкодзе вёсцы да асветы, новага жыцця, засяродзіў увагу ў драме «Янка Канцавы» паэт К.Сваяк[1]. Герой драмы гіне ад рук аднавяскоўцаў праз іх цемнату, нежаданне адмовіцца ад парочных звычак, п'янства, на якія пісьменнік глядзіць як на сацыяльную злыбяду.

Асэнсоўваючы літаратурны працэс Заходняй Беларусі 20-х гадоў, пераконваешся, што, нягледзячы на адсутнасць уласнай дзяржаўнасці, фактычна каланіяльны статут краю, ён развіваўся даволі нармальна, адлюстроўваючы ў сабе творчыя патэнцыі абуджанай да жыцця нацыі. У літаратуры функцыяніравалі ўсе жанры, уключаючы такія, як крытыка і літаратуразнаўства. Належная ўвага пісьменнікамі аддавалася і перакладу на беларускую мову твораў сусветнай класікі.

Крытыка ў Заходняй Беларусі 20-х гадоў, першай іх палавіны, была прадстаўлена даволі самавітымі імёнамі А.Луцкевіча, У.Самойлы, М.Косцевіча. Апошні свае літаратуразнаўчыя эцюды, крытычныя заметкі падпісваў псеўданімам «Светазар«. Невялікія рэцэнзіі былі надрукаваны ў.Дварчанінам і ў.Жылкам.

У.Самойла выступіў з разгорнутым аналізам зборніка К.Сваяка «Мая ліра«, аповесці Я.Драздовіча «Вялікая шышка«, з крытычным аглядам выдаванага ў Коўне В.Ластоўскім часопіса «Крывіч«[2]. Крытык быў уважлівы да ідэалогі светапогляду творца, а таксама да эстэтыкі і паэтыкі разгляданых ім твораў.

А.Луцкевіч высока ацаніў талент лірыка пры аналізе першай кніжкі ў.Дубоўкі «Строма«, дарэчы, выдадзенай у Вільні[3]. Рэцэнзія крытыка на паэму Я.Коласа «Сымон Музыка» не вызначалася тэарэтычнай глыбінёй. Аўтар меў на мэце аператыўна пазнаёміць заходнебеларускага чытача з новым выдатным творам айчыннай літаратуры[4].

Не разыходзіліся ў сваёй ацэнцы паэмы «Беларусь» Л.Родзевіча ў.Жылка і І.Дварчанін[5]. Рэцэнзенты акцэнтавалі ўвагу на актуальнасці рэчы, сімволіцы яе вобразнасці, адметнасці рытмічнага рысунка тэксту. У цэлым літаратурная крытыка Заходняй Беларусі на пачатку 20-х гадоў вельмі аператыўна адгукалася на з'яўленне новых твораў, мела пераважна эцюдны характар і толькі зрэдку сягала шырэйшых ідэйна-эстэтычных абагульненняў. Публікацыі, прысвечаныя творчасці асобных пісьменнікаў мінулага, а таксама сучасных, зробленыя найчасцей з нагоды ўгодак творцаў, хоць насілі папулярызатарскія мэты, заключалі ў сабе і абагульненні сацыяфіласофскага зместу. Такія падходы назіраюцца ў артыкулах А.Луцкевіча, прысвечаных М.Багдановічу,

1 К.С. Янка Канцавы. Вясковая драма ў 6-ці дзеях. Вільня, 1924

2 Суліма. З гаспадарства кветак васілька і пралесак на заваяванне места // Змаганне. 1923. № I, 2; яго ж. Corardens // Сын беларуса. 1924. №№ 15, 17, 20, 22, 24; яго ж. «Крывіч» // Голас беларуса. 1924. № 2.

3 Навіна Ан. «Строма» У.Дубоўкі // Наша будучына. 1923. № 5.

4 Навіна Ан. «Сымон Музыка» // Жыццё беларуса. 1926. №№ 16, 17

5 Жылка ў. Бібліяграфія. «Беларусь» Л.Родзевіча // Перавясла. Прага, 1923. №1; Дварчанін І. Бібліяграфія. Л.Родзевіч. Беларусь // Наша будучына. 1923. №1.

творчасці М.Гарэцкага, Ядвігіна Ш., Дуніна-Марцінкевіча[1]. Тэарэтычна былі асэнсаваны ідэалагічныя асновы новай беларускай літаратуры ў літаратуразнаўчым эсэ — «Пуцяводныя ідэі беларускае літаратуры» А.Навіны[2]. Зрабіў заяўку на літаратуразнаўчыя нарысы і збіральнік памятак беларускай пісьменнасці Р.Зямкевіч[3].

Будаванне нацыянальнай культуры, а задачы яго добра ўсведамляліся яе заходнебеларускімі дойлідамі, натуральна, уключала і такі ейны кампанент, як пераклады, пераклады агульнаасветнай і мастацкай літаратуры. Канкрэтная праца на перакладах была засяроджана ў двух інстытуцыях Заходняй Беларусі — у Беларускім навуковым таварыстве ў Вільні і Беларускім выдавецкім таварыстве, дзе канцэнтраваліся значныя творчыя сілы[4]. Тут выпрацоўваліся беларуская тэрміналогія і канцэпцыя перакладаў. Праблемы перакладу на беларускую мову знайшлі адлюстраванне і ў друку. 3 артыкулам, прысвечаным агульным задачам перакладу мастацкай літаратуры, выступіў М.Краўцоў, які пазней практычна найболей зрабіў на гэтай дзялянцы працы[5].

Першыя пераклады, здзейсненыя заходнебеларускімі літаратарамі, сведчылі аб арыентацыі іх аўтараў на высокую класіку. Ужо ў сакавіку 1922 г. Бр. Тарашкевіч апублікаваў свой пераклад 1-га раздзела «Іліяда» Гамера[6], прыблізна ў гэты час, крыху пазней Н.Арсенневай быў зроблены пераклад другога раздзела паэмы А.Міцкевіча «Дзяды». Свае пераклады рускай класікі М.Краўцоў пачаў з твораў У.Каралнкі, А.Купрына, паэзіі — з паэмы «Мцыры» М.Лермантава[7].

Наступны этап развіцця мастацкай творчасці Заходняй Бедарусі звязаны з імклівым уздымам нацыянальна-вызваленчага руху, набыццём ім масавасці. У другой палавіне 20-х гадоў беларускі нацыянальны рух пад Польшчай у сваіх легальных формах дасягае апагею. Беларуская сялянска-работніцкая грамада з парламенцкай фракцыі групы радыкальных дэпутагаў перарастае ў масавую арганізацыю, якая сваім уплывам за нейкіх паўтара гады ахапіла ўсю Заходнюю Беларусь, згуртаваўшы ў сваіх шэрагах звыш ста тысяч сяброў. Будзячы сацыяльную і палігычную актыўнасць народа, грамадаўскі рух даў моцны імпульс перш-наперш усёй духоўнай сферы беларускага жыцця пад Польшчай. У час Грамады масавы характар набыў беларускі перыядычны рух, дасягнула росквіту культурна-асветная дзей-

[1] Навіна Ант. Максім Багдановіч: У чацвёртыя ўгодкі смерці яго // Наша думка. 1921.№ ; яго ж. Ідыёлаг народнае інтэлігенцыі // Беларускі звон. 1922. № 5; яго ж. Ядвігін Ш. (Антон Лявіцкі) // Тамсама. №7 ; яго ж. Вінцук Дунін-Марцінкевіч // Беларуская доля. 1926. № 16.

[2] Яго ж. Пуцяводныя ідэі беларускае літаратуры. Вільня, 1921.

[3] Зямкевіч Р. Гутаркі аб літаратуры // Новае жыццё. 1923. №1.

[4] Беларускі каляндар на 1922 год. Вільня, 1921. С 80—81.

[5] Светазар. Што перакладаць на беларускую мову? // Змаганне. 1924. №№ 3, 4.

[6] Гамер. Іліяда. Пераклад Бр. Тарашкевіча // Беларускі звон. 1922. №№7, 9.

[7] Купрын А. Алеся. Вільня, 1923; Лермантаў М. Мцыры, паэма. Перакл. з расейск. Краўцоў Макар. Выд. газ. «Змаганне». Вільня, 1924.

насць у форме гурткоў ТБШ, развівалася самадзейная аўтарская паэзія. З яе даволі шырокай плыні на старонках грамадаўскіх газет «Жыццё беларуса«, «Беларуская ніва«, «Беларуская справа», «Народная справа» неўзабаве сталі вылучацца вершы, а за імі і імёны паэтаў, чыя творчасць пазначыла далейшыя шляхі развіцця заходнебеларускай літаратуры. Гэта перадусім імёны Міхася Машары, Міхася Васілька, Валянціна Таўлая, Хведара Ілляшэвіча. Пасля разгрому БСР Грамады ўрадам Пілсудскага—Мейштовіча многія ўдзельнікі руху былі кінуты польскімі ўладамі ў турмы.

Алесь Салагуб у «Лукішскім дзённіку» сярод насельнікаў славутага віленскага астрогу на вясну-восень 1927 г. згадвае М.Машару і Хв.Ілляшэвіча, Ан. Луцкевіча[1]. З літаратараў, што ўжо адбыліся на той час, і яшчэ будучых у Лукішках «за Грамаду» сядзелі Уладыслаў Паўлюкоўскі і Васіль Шкодзіч. Характэрна, зняволены за грамадаўскую працу ў сябе на Шаркоўшчыне, мяноўна ў турме стаў паэтам Міхась Машара. У лісце да аднаго з першых крытыкаў сваёй творчасці пазней паэт засведчыць даслоўна, што як асоба і творца ён пачаўся з Грамады, турэмных універсітэтаў: «…Калі б не астрог, не Грамада, — пісаў М.Машара, — я і сёння мадзеў бы ў цяжкім мужыцкім жыцці, без жаднага духовага зместу, з спячай думкай і невыразным падсвядома вострым імкненнем у грудзёх, якое ганяла мяне ад шаснаццаці да дваццаці пяці год у вандроўцы з аднаго да другога кута, ад аднаго праекту да шукання другога, пакуль нарэшце не абапёрся аб Грамаду й Лукішкі. Трыдцацімесячныя гасціны, пераважна адзіночкі, разбудзілі думку, што скрышталізавала погляды і неяк выразней намеціўся жыццёвы шлях і перакананні. І тут становўка і грунтоўна азяўся за далейшы цяг самаадукацыі і духовага развою»[2].

Прадстаўнікі пакалення, што прыйшло ў літаратуру ў сярэдзіне, другой палавіне 20-х гадоў, не мела палітычнага досведу сваіх папярэднікаў, якія ўдзельнічалі ў сусветнай вайне, рэвалюцыі, барацьбе за беларускую дзяржаўнасць. У крайнасці, як М.Васілёк, яны падлеткамі пабывалі з сям’ёю ў бежанстве ў Расіі. Асноўная ж жыццёвая ацаптацыя ў іх адбылася ўжо ўва ўласна заходнебеларускай рэчаіснасці, у спецыфічных умовах польскай акупацыі, жыццёвы і грамадскі досвед іх складваўся па-свойму на зменлівым палітычным фоне жыцця краіны, грамадства.

З масай паэзіі, што друкавалася ў газетах Грамады і пост-грамадаўскай перыёдыцы, на агульным фоне ўсё выразней пачалі вылучацца паэтычныя галасы Ал.Салагуба (друкаваўся і пад псеўданімам «Лявон Чачотка»), Хв.Ілляшэвіча (псеўданім «Малады», «Дальны»), М.Васілька, Ф.Грышкевіча, М.Машары.

Постаці менаваных паэтаў і некаторых іншых тым рэльефней абазначыліся на ніве літаратуры Заходняй Беларусі другой палавіны 20-х гадоў, што былі зроблены і першыя падрахункі іх творчых здабыткаў, выйшлі з друку першыя кніжкі.

---

1 Б-ка АН Літоўскай Рэспублікі, АРКіР, ф. 21, спр. 560—563.

2 Станкевіч Ст. Аб беларускай літаратурнай сучаснасці ў Заходняй Беларусі // Нёман. 1932, №5. С. 175.

Не будзе перабольшаннем сказаць, што з першых публікацый у перыёдыцы, у кніжным дэбюце Міхася Машары (1902—1976) ужо даволі выразна акрэсліўся талент паэта-лірыка.

У лірыцы М.Машары ад вытокаў чуецца арганічны індывідуальны пачатак. Сацыяльныя арыенціры, пазіцыя паэта чотка акрэслены:

Я сын галоты і цямры,
Паўстаў я з поту і крыві,
Я шэрай, ціхай вёскі сын…[1]

Паэтава крэда выказана канкретна-вобразна, упэўнена:

Хутка прыдзе з сялянскага нетра
Новы волат: без слёз і без жаху.[2]

Ужо ў першай паэтычнай заяўцы, сціплай, на адзінаццаць вершаў кніжыцы, М.Машара здолеў даць некалькі не банальных абразкоў вёскі, накідаць нязмушаныя малюнкі прыроды, упэўнена пашырыць, развіць у літаратуры Заходняй Беларусі тэму астрогу, няволі (вершы «Вёска», «Цяпер я ўжо зусім не той», «У золаце зорных валокнаў»).

Паэтычны дэбют Францішака Грышкевіча (1904—1945) не быў абяцальны. Неарданарная індывідуальнасць маладога аўтара, абуджаная і сфарміраваная ідэямі нацаянальна-вызваленчага руху, не выяўляла ў слове дастатковага эстэтычнага чуцця. У немалым як для пачаткоўца зборніку паэт заяўляе амаль усе ідэі, якімі жыла інтэлігентная моладзь Заходняй Беларусі 20-х гадоў[3]. Ф.Грышкевіч востра адчувае нядолю паняволенай сваёй зямлі, але гаворыць пра гэта агульна («Русь Бела», «Раб», «Signum»). Прыбягае да гістарычных асацыяцый, кліча на дапамогу змаганню за свабоду бацькаўшчыны-Беларусі цені слаўных продкаў Усяслава Чарадзея, Вітаўта, звяртаецца да акта 25 сакавіка 1918 г, як сведчання ўзвышэння духу народа (з цыкла «Вечнае»). Інтымная лірыка Ф.Грышкевіча сведчыць аб даволі высокім інтэлектуальным узроўні асобы аўтара, але эстэтычнай вартасці вершы не набралі. Імкненне да разнастаяння вершаванай формы, скарыстанне калектыўнага мастацкага вопыту народа не выручаюць становішча. Эстэтычная недастатковасць няўмольне пакідае кніжны дэбют Фр.Грышкевіча ў рысе добрых намераў, хоць у цэлым паэтычная праца паэта не прайшла бясследна для црацэсу духоўнасці Заходняй Беларусі.

Хведар Ілляшэвіч (1910—1946) прадпаслаў свайму першаму зборніку своеасаблівую ідэйна-паэтычную дэкларацыю. «Я думаю вобразамі, — пісаў ён, — дзеля гэтага ў маіх вершах шмат недаказанага. Галоўны тон іх, гэта — трывожнасць сучаснае эпохі. …Яшчэ шукаю пераважна ў галіне формы,

1 М.Машара Я сын галоты і цямры // Малюнкі. Вільня, 1928. С. 9.

2 М.Машара Песням // Малюнкі. С. 1.

3 Грышкевіч Фр. Веснавыя мелодыі. Вільня, 1927.

старое не падабаецца. У беларускай паэзіі (зусім зразумела) пераважалі сумныя невыразныя матывы і ідэалы. Новае пакаленне, вырасціае на грунце адраджэнскага ўздыму, нясе з сабой выразнасць і бадзёрасць. У навейшай беларускай паэзіі гучыць сонечны марш і для новых паэтаў настаў час скласці «Новы Апокрыф»[1].

Адштурхоўваючыся ад эстэтычнага крэда М.Багдановіча, дзевятнаццацігадовы ініцыятар маніфэста новай паэзіі бачыў будучыню яе ў больш цеснай сувязі з быццём грамадства рэвалюцыйнай эпохі. Ілляшэвіч імкнуўся да гэтага ў сваёй мастацкай практыцы, аднак толькі пасля трох кніжак паэзіі, у канцы 30-х гадоў дасягнуў пэўных паэтычных здабыткаў. У 20-я гады дэкларацыя ім заставалася нерэалізаванай. Малады задор у слове «грашыў» рыторыкай: «Мы, маладыя, // Мы ўдалыя, // Мы брацця волі, сонца й дня! // Хай льюцца песні // Аб шчасці й долі — // І болей смеху, больш жыцця!»[2] Не выручаў і набор надзённых тэм, матываў (вершы «Работнік», «З рабочых матываў», «Каваль», «За работай», «Марш «Адраджэнне»«). Прарывалася радком-другім непадробнае лачуццё; «Родзяцца, творацца новыя дні; // Дні адраджэння зямлі, // Гэткія яркія, быццам агні, // А сведкамі гэтага — мы»[3]. Падхопліваў віхурысты рытм: «Чуеш музыку? // Агніста, // Руніста, // Веснавіста // Палымнее Адраджэнне…»[4] Але не хапала энергіі, думкі, яскравых вобразаў. Паэтычны парыў не забяспечваўся золатам слова. Ідэі высокія і гуманныя ў сутнасці сваёй не атрымлівалі адэкватнага паэтычнага ўвасаблення не з-за адсутнасці таленту ў паэта, а з-за неадэкватнасці прыроды яго пастаўленай задачы. Зварот да будняў заходнебеларускай рэчаіснасці, дзе мелі месца паняверка і, аб’ектыўна беручы, здзек улады над хлебадаем, гаротнікам-селянінам, радзіў у душы паэта не грымотны пратэст, а ціхі роздум над доляй народа, радзімы, выказаны простай, пранікнёнай інтанацыі:

Шлях даўгі, ланцужны —
Беларусь мая!
Перапевы сцюжы,
Летняя туга…
Поле неўзгарана…
Калёсаў паскрып…
І ідзе скаваны
Гаротнік-мужык.[5]

Ідэолагамі нацыянальна-вызваленчага руху Заходняй Беларусі рэальна ацэньваліся слабыя і моцныя бакі сацыяльнай базы яго — сялянства. Найважнейшай праблемай для асноўнай масы жыхароў краю, аграрнага па сва-

---

1 Ілляшэвіч Хв. Веснапесні. Вільня, 1929. С.3.

2 Тамсама. С.5.

3 Тамсама. С.45.

4 Тамсама. С.56.

5 Тамсама. С71. Шлях доўгі, ланцужны

ёй сацыяльна-эканамічнай структуры, была зямля. Беларуская вёска ўжо даўно пакутвала ад малазямелля. У Заходняй Беларусі зямельны крызіс набыў асабліва вострыя формы. Ён аб'ектыўна паглыбляўся сацыяльнай палітыкай польскіх урадаў, незалежна ад іх партыйнага складу. Урад і большасць сейма рабілі ўсё для таго, каб захаваць, закансерваваць у краіне буйнае памешчыцкае землекарыстанне.

Адным з важнейшых элементаў тактыкі кіраўніцтва беларускім нацыянальна-вызваленчым рухам Заходняй Беларусі была барацьба за аграрную рэформу, за зямлю для сялянства. Тая вайна за зямлю, якая вялася беларускімі дэпутатамі сойма на яго арэне пры падтрымцы ўкраінскага і нешматлікага левага польскага прадстаўніцтва ў 1924—1925 гг., актывізавала вызваленчыя імкненні ў беларускім народзе, прычынілася да ўздыму руху і набыцця ім розных арганізацыйных формаў.

З сацыяльнымі задачамі змагання цесна ўвязваліся нацыянальныя ў форме культурна-асветных, перш за ўсё барацьба за беларускую школу. Рух узрастаў імкліва і набіраў радыкальны характар.

Пасля разгрому ўрадам Бартля-Мейштовіча БСР Грамады асноўны вектар беларускага вызваленчага руху быў скіраваны на культурна-асветную дзейнасць. На культурным фронце канцэнтраваліся асноўныя творчыя Беларускія сілы.

У другой палавіне 20-х гадоў спрабуе набыць арганізацыйныя формы і літаратурны рух Заходняй Беларусі. У маі 1927 г. маладымі пісьменнікамі і мастакамі ў Вільні была створана на ўзор літаратурных аб'яднанняў Савецкай Беларусі арганізацыя «Веснаход». Члены яе ў 1928 г. выдалі невялікі альманах «Рунь Веснаходу», у якім былі змешчаны вершы Н.Арсенневай, Ал.Салагуба, Хв. Ілляшэвіча, П.Пестрака (Звестуна), Ю.Сергіевіча і іншых паэтаў. Аднак статут арганізацыі польскія ўлады не зацвердзілі і аб'яднанне хутка спыніла сваю дзейнасць. З перыядычных выданняў у другой палавіне 20-х гадоў творчыя адзінкі вакол сябе, мабыць, найбольш гуртавала рэдакцыя часопіса «Маланка». У яе складзе былі М.Краўцоў, І.Дварчанін, Я.Маразовіч, В.Грышкевіч, М.Васілёк, Я,Драздовіч.

Хоць пісаць М.Васілёк (1905-1960) пачаў за год да выхаду папулярнага гумарыстычна-сатырычнага часопіса і публікаваўся ў розных перыёдыках нярэдка, менавіта ў «Маланцы» праявілася адна з найбольш арганічных граняў яго таленту — гумарыстычная. Трапным словам, у духу народнага гумару паэт высмейвае паноў, прадстаўнікоў польскай адміністрацыі, палітыкаў, не абмінаючы ўвагай і заганы ў родным сялянскім асяроддзі (вершы «Як я трапіў ў камуністыя», «Перад выбарамі», Тарэлка»). Паэт умее абыграць народную прытчу («Дзед і смерць»), скарыстоўваючы традыцыйны народны матыў, напоўніць яго актуальным сацыяльным зместам («Эх, каб грошы»). У грамадзянскай жа лірыцы М.Васілька 20-х гадоў гучаць матывы, інтанацыі, характэрныя для ўсёй заходнебеларускай паэзіі таго часу.

Хоць суровая заходнебеларуская рэчаіснасць дый уласны лёс паэта (слова-вобраз «ратай» у яго тэкстах — мастацкае абагульненне, заснававае і непасрэдна на асабістым жыццёвым досведзе) дыктавалі нярэдка элегічны

настрой і адпаведную тэматыку, у цэлым лірыка М.Васілька выпраменьвала жыццесцвярджальныя ідэі. У ёй дамінавалі матывы барацьбы і закліку да працы ў імя вызвалення, свабоды народа. Змагарны, па сутнасці сваёй рамантычны пафас паэтавых строф грунтаваўся на тым, што Беларусь падымаецца да свядомага грамадскага жыцця. Сам непасрэдны ўдзельнік вызваленчага руху (М.Васілёк у часы Грамады хадзіў па вёсках, удзельнічаў у арганізацыі нізавых яе ячэек-гурткоў, пастаноўцы беларускіх спектакляў),паэт называе маладых барацьбітоў «сяўцамі красы і святла»:

Сяўцы жрацы, святла — душой вітаю вас.
Ўваскросла Беларусь! — Смялей жа к ясным зорам,
Пакуль у грудзях агонь змагання не пагас…[1]

Лірычны герой М.Васілька настойліва кліча да ахвярнай працы дзеля свабоднай будучыні «старонкі мілай»:

Горкім дымам даль спавіта,
Шлях сейбіта здзірванелы.
Веры трэба — гэй, хто смелы!
Церабі шлях, спробуй сілу,
Ахіні старонку мілу
Шчырай працаю, каханнем…[2]

Вобразы сейбіта і барацьбіта ў паэзіі М.Васілька — семантычна тоесныя, маюць рамантычны кантэкст. З барацьбітамі, увасобленымі ў вобразы сейбітаў, паэт падзяляе радаснае ўсведамленне таго, што высілкі, укладзеныя ў працу-змаганне, не прападуць марна, рыхтуюць добры плён.

М.Васілёк як паэт вельмі арганічны ў абразках-выявах працы, дзе яна не сімвалізуецца, а выступае ў сваёй натуральнай іпастасі, пададзеная рэалістычна: «Праца цяжкая… // На рукі мазольныя гляну свае // І сіл прыбывае… // Душа ўсцяшайся: ужо сонца ўстае»[3].

Пры пэўных вобразных паўторах, мастацкая прырода верша М.Васілька неаднастайная: рытміка арганічна выплывае з настрою, з ідэйна-сэнсавага напаўнення твора.

У другой палавіне 20-х гадоў у віленскай беларускай перыёдыцы, часопіснай і газетнай, даволі часта друкаваўся паэт з Латгаліі Пятро Сакол (сапраўдн. прозвішча Масальскі). Вершы П.Сакола «Беларускі сцяг», «Песня крывічоў», «Хай гром грыміць», «Покліч» і іншыя, аб'яднаныя ў цыкле «Песні аб волі», красамоўна сведчылі аб прасякнутасці маладога паэта, навучэнца Люцынскай беларускай гімназіі нацыянальнаі ідэяй[4]. Іх характарызавала ярка выражаная грамадзян-

[1] Васілёк М. Смялей! // Студэнцкая думка. 1928. №2 (9). С.22.
[2] Васілёк М. Разалью я мора веры // Беларуская культура. 1927. № 2-3. С.120.
[3] Васілёк М. Шум баравы. Вільня, 1929. С. 90.
[4] Сакол Пятро. Світанне. Рыга, 1929. С. 43, 44, 47, 49.

ская скіраванасць і публіцыстычная адкрытасць. Паэтычная творчасць П.Сакола ў цэлым развівалася ў агульным рэчышчы беларускай літаратуры, створанай на захад ад польска-савецкай мяжы, падзяліўшай Беларусь пасля рэвалюцыі, наступіўшых адразу за ёй войнаў. Аднак беларускаму паэту з Латвіі ўдалося ўнесці ў яе рэгіянальныя матывы. У іх сацыяльная і нацыянальная ідэі аказаліся цесна з’яднанымі. У паэме «Латгаліяда», на жаль, няскончанай, роздум над сацыяльнай нядоляй краю, лёсам яго людзей паэт рэалізуе ў выяўленча яскравых вобразах, выяўляе добрае адчуванне гістарычнага кантэксту:

Шлопаюць лапці лазовыя,
Хлюпае юхтавы бот…
Па бездарожжу вясноваму
Йдуць яны з году у год…
Нізка галовы схіліліся,
Ў сэрцах пакрыўджаных — боль…
Гоніць іх цемра бязлітасна,
Гоніць спрадвечная голь!..
Уса маладыя і дужыя,
Ім бы на долю — пляваць!
Ім бы рукамі сталёвымі
Хату сваю будаваць!
Славілісь сілай магутнаю
Дзеці крывіцкіх сядзіб, —
Ім бы — плячом развярнуцца
Жартам сусвет занялі б…[1]

І заключны паэтычны штрых у абразку, зроблены на крыху зніжаным да пабытавага ўзроўню аб’екце выявы, але дакладны, зрокавы, сацыяльна ёмісты:

Ўчора разлогі сібірскія
Шляхам злучалі з Масквой,
«Шэрым баронам» Курляндыі
Сёння вы возіце гной!..[2]

Пасля таго, як паэт быў пазбаўлены ўладай права працаваць настаўнікам у беларускай школе, яму давялося нейкі час весці вандроўнае жыццё беспрацоўнага, затым уладкавацца рабочым на чыгунцы. Рэвалюцыйныя настроі, запанавалыя сярод пралетарыяту, знайшлі адлюстраванне ў паасобных творах першага паэтычнага зборніка П.Сакола, Найвыразней яны прагучалі ў вершы «Свята працоўных», у якім голас паэта набраў моцы рэвалюцыйнай песні[3].

1 Сакол Пятро. Світанне. Рыга, 1929. С. 55
2 Тамсама. С.56.
3 Сакол Пятро. Світанне. Рыга, 1929. С. 62.

Сярэдзіна, другая палавіна 20-х гадоў у літаратуры Заходняй Беларусі пацвердзілі заканамернасць, паводле якой, эпохі грамадскіх узрушэнняў былі часам перадусім найпрадуктыўнейшага развіцця паэтычных жанраў. Эпіка, з уласцівым ёй патрабаваннем большай аналітычнасці, трывалейшай сацыяльнай базы, не набыла ў заходнебеларускіх умовах шырэйшага развіцця. На фоне поспехаў прозы Савецкай Беларусі канца 20-х — пачатку 30-х гадоў, звязаных з імёнамі Я.Коласа, К.Чорнага, М.Зарэцкага, А.Мрыя, здабыткі заходнебеларускай літаратуры ў жанры малой эпікі, не кажучы ўжо пра аповесць і раман, былі даволі сціплыя. Беларуская дзяржаўнасць, здзейсненая ў БССР, хоць і ў абмежаванай форме, у 20-я гады была апорай развіцця навукі і мастацкай культуры, Адсутнасць дзяржаўнасці, дакладней, чужая дзяржаўнасць у Заходняй Беларусі негатыўна адбівалася на стане духоўнага жыцця, мастацкай культуры: этнасу даводзілася затрачваць масу творчай энергіі на пераадоленне перашкод палітычнага, сацыяльна-эканамічнага характару.

Нягледзячы на аб'ектыўныя цяжкасці вонкавага і ўнутранага характару, да апошніх адносілася і тая маральная атмасфера, што ўзнікла ў Заходняй Беларусі пасля разгрому Грамады і распаду адзінай ідэалагічна-тактычнай платформы вызваленчага руху, мастацкая культура яе развівалася па ўзыходзячай. У агульным поступе літаратуры займалі сваё месца і празаічныя жанры, У постграмадаўскім друку, у парыёдыцы Беларускага сялянска-работніцкага хлуба «Змаганне» (пад бясконцымі забаронамі, яна, мяняючы назвы выданняў, адраджалася нанава) спарадычна з’яўляліся апавяданні новых аўтараў. Ад фельетонаў, часам даволі дасціпных, вострых, да напісання апавяданняў на актуальную тэматыку перайшоў рэдактар «Маланкі» Я.Маразовіч (1895—1938). З мэтаю ўсыплення цэнзарскай пільнасці Я.Маразовіч карыстаўся літаратурнай містыфікацыяй: месца дзеяння сваіх твораў пераносіў у каланіяльныя і залежныя краіны, падпісваў іх псеўданімам Ляо Дзэ (апавяданні «У даліне Ганга», «На берагах Ян Цзы», «Чырвоныя ружы» і інш,). Пры экзатычным знадворным антуражы ў апавяданнях Я.Маразовіча пазнавалася польская рэчаіснасць Заходняй Беларусі з яе вострымі палітычнымі праблемамі, па сутнасці выкрываўся польскі каланіялізм, стасаваны да «Крэсув Всходніх», як афіцыйна называліся заходнебеларускія землі ў даваеннай Польшчы.

Здольнасцю эпічна-мастацкага адлюстравання жыцця валодаў аўтар апавяданняў «Мсцівыя нябожчыкі «, «Жывое древа» і інш. В.Грывіч[1]. Ужо ў першых апублікаваных у часопісе «Студэнцкая думка» творах ён выявіў добрае эстэтычнае адчуванне прыроды і ўменне перадаць яе жыццё ў абагульненых пластычных вобразах. Адначасова маладым аўтарам было засведчана сталае веданне народнага побыту і псіхалогіі селяніна. Адчувалася вучоба ў М.Гарэцкага. Характэрная дэталь: В.Грывіч — адзіны ў тагачасным заходнебеларускім друку празаік, які публічна агаворваў (засцерагаў) сваё аўтарскае права. Месцам напісання твора пазначаў Вільню.

[1] Грывіч В. Студэнцкая думка. 1925. №№ 1 , 3, 4, 5. Цалкам ідэнтыфікаваць асобу В.Грывіча не ўдалося. Паводле слоў Л.Ф.Войцік, такім псеўданімам падпісваўся Вінцук Грыневіч.

У апавяданнях, напісаных падчас уздаму вызваленчага руху, на яго грамадаўскай хвалі, В.Грывіч адлюстраваў рост грамадскай свядомасці прадстаўнікоў заходнебеларускага сялянства, усведамленне народам свайго сацыяльнага і нацыянальнага права («І нас разбудзілі»)[1].

Паказваючы сутычку вясковых хлошаў на пошце з польскімі чыноўнікамі з-за нежадання апошніх аддаваць вёсцы радыкальных Беларускіх газет, пісьменнік умела тыпізуе палітычную атмасферу Заходняй Беларусі другой палавіны 20-х гадоў, па-мастацку перадае станаўленне нацыяльнай самасвядомасці простага чалавека.

Не абыйшоў Грывіч і гістарычнай тэматыкі. У адным з сваіх апавяданняў пісьменнік звярнуўся да падзей часу Крэўскай уніі, якая прадвызначыла гістарычны лёс Літвы—Беларусі на многія стагоддзі[2].

За перыёдыку, друк у БСР Грамады адказваў Пётра Мятла (1890—1936) і, трэба думаць, невыпадкова: меў літаратурныя схільнасці. Пасля разгрому БСР Грамады, пяць год знаходзячыся ў польскіх турмах, займаўся перакладамі твораў класікаў марксізму, пісаў апавяданні. Асобныя з іх пад псеўданімам П.Чабор, а менавіта «Замошская рэспубліка», «Купалле», «Жыць!», «Кірмаш», «Страх», былі часткова апублікаваны ў постграмадаўскай прэсе і засведчылі аб добрым валоданні аўтарам спакойнай эпічнай манерай апавядання[3]. Напісаныя крыху пазней і апублікаваныя П.Мятлой, як і пераклады з марксісцкай літаратуры, пад псеўданімая П.Асака апавяданні «Дзіўное вяселле», «Куды ні кінь — усюды клін», «Хто вінават?», мелі сацыяльны акцэнт і выразны заходнебеларускі кантэкст[4].

Асэнсаваннем філасофіі быцця чалавека ў заходнебеларускай літаратуры другой палавіны 20-х гадоў вылучалася Палачанка, аўтар, што хаваў сваё прозвішча пад літаратурнай мянушкай хутчэй асацыятыўна-гістарычнага, чым проста рэгіянальна-геаграфічнага сэнсу. Матэрыялам для твораў Палачанкі служыла жыццё месцічаў, пераважна інтэлігентаў, людзей, здольных на рэфлексію, заглыбленне ў адвечныя пытанні чалавечай існасці, людскога бытавання на зямлі. У творах Палачанкі навідавоку аўтарскае пачуццё густу, мастацкай меры, адказнасці за слова. Мастацкі ўзровень апавяданняў у цэлым даволі высокі[5].

У агульным працэсе духоўнага адраджэння, творчых пошукаў пакалення 20-х — 30-х гадоў даволі прыкметнае месца ў Заходняй Беларусі належала выпускніку Пазнанскага ўніверсітэта, медыку па адукацыі і прызванню, акрамя таго ў адной асобе неардынарнаму філосафу, грамадска-

---

1 Грывіч В. І нас разбудзілі // Наша справа. 1926, ад 15, 18 і 24 снежня.

2 Гр-віч. На парозе 1386 году // Родныя гоні. 1927. № 1. С. 2—7.

3 Чабор П. ЦНБ АН Літвы, ф. 21, спр. 394; яго ж. Страх // Воля працы. 1928, ад 22 сакавіка.

4 Асака П. Дзіўное вяселле // Сцяг працы. 1928, ад 4 ліпеня; яго жі Куды ні кінь… // Слова працы. 1928, ад 10 кастрычніка, яго ж. Хто вінават? // Беларускі каляндар на 1929 год. Вільня. С. 20—27.

5 Палачанка. Не вылечыла // Родныя гоні. 1927. Кн. 2. С. 6—10; яе ж. Казка парвалась // Родныя гоні. 1927. Кн. 3. С. 6—7; яе ж. Чары першае любові // Родныя гоні. 1927. Кн. 4. С. 4-7; яе ж. Хваравіты // Родныя гоні. Кн. 5. С. 5—6.

палітычнаму дзеячу і літаратару Станіславу Грынкевічу (1902—1945), Ст. Грынкевіч быў адным з лідэраў (віцэ-старшынёй) Беларускай хрысціянскай дэмакратыі, партыі, якая ва ўмовах поліканфесійнасці Беларусі заняла сваю нішу ў грамадска-палітычным і культурным жыцці заходнебеларускіх зямель. У культурных колах Заходняй Беларусі Ст. Грынкевіч меў вядомасць як дзейсны змагар за народную асвету, прапагандыст ідэі беларускага народнага ўніверсітэта, аўтар кніг «Народ», «Аб тэатры», «Асвета». За апошнюю зведаў рэпрэсіі з боку польскіх улад. Ст. Грынкевіч выступаў у друку па пытаннях грамадскай этыкі, псіхалогіі, культуралогіі. У сааўтарстве з жонкай-медыкам ім было выдадзена некалькі папулярных кніжак «Рады хворым і здаровым». У другой палавіне 20-х гадоў Ст. Грынкевіч актыўна спрабаваў свае сілы ў літаратурнай творчасці: асобным выданнем выйшла яго апавяданне «Арлянё», п’еса «Жанімства па радыё» і кніжка прозы «Царква. Помста. Вязніца», пазней нарысы «У братоў-украінцаў».

Свае развагі, тэарэтычныя пошукі ў праблемах нацыянальнага менталітэту, уплыву розных рэлігійных канфесій на свядомасць народа імкнуўся ўвасобіць у мастацкіх формах. Прынамсі, самы значны літаратурны твор Ст. Грынквеіча «Царква. Помста. Вязніца» наглядна сведчыць аб гэтым[1]. У сюжэце, не пазбаўленым драматызму, аўтар прасочвае духоўнае ўвыходжанне вясковага хлопца, нечапанай цаліны, да беларускай ідэі.

У кнізе праглядаюць такія рэаліі заходнебеларускай рэчаіснасці, як вяртанне з бежанства жыхароў мястэчка, дзе адбываецца дзеянне твора, агрэсіўны наступ прадстаўнікоў каталіцкага кліра, мясцовай польскай адміністрацыі і настаўніка-паланізатара на права іншых канфесій, у прыватнасці, уніяцкага прыходу, дэструктыўны маральны ўплыў іх учынку (раскіданне будынку царквы) на мясцовае беларускае жыхарства,

У асобе Бабыля, з якім у турме лёс сутыкае галоўнага героя кнігі Фэльку Ятвяцкага, пазнаецца прататып самога аўтара, яго жыццёвы досвед, ідэалагічная пазіцыя.

Характэрна, творы Ст, Грынкевіча маюць выразнав рэгіянальнае адценне. Рэгіяналізм іх выяўляецца ў мове, геаграфічнай лакалізацыяй дзеяння (мястэчка або вёска на польска-беларускім этнічным памежжы) і нават у прозвішчах герояў, літаратурных персанажаў, напрыклад, Фелікс Ятвяцкі.

Калі паэзія, а ў нейкай меры і проза Заходняй Бзларусі 20-х гадоў зрабілі пэўны поступ, то драматургічная творчасць не толькі ў другой палавіне 20-х, але і ў 30-я гады перажывала заняпад, нягледзячы на тое, што якраз у гэты час дасягнула свайго найвышэйшага развіцця масавая народная тэатральная дэейнасць.

Уздым нацыянальнага адраджэнскага руху непасрэдна паспрыяў больш інтэнсіўнаму развіццю крытыкі і літаратуразнаўства. Інтэнсіфікацыя гэта была выклікана агульным духоўным ажыўленнем, канкрэтнымі яго праявамі і задачамі руху. У гэты час Беларускім выдавецкім таварыствам было ажыццёулена выданне выбраных твораў Якуба Коласа, перавыдаде-

[1] Hrynkiewiи St. Carkwa.Pomsta.Wiaцnica. Wilnia, 1928.

ны Багдановічаўскі «Вянок», двойчы паўторана ў Вільні выданне «Сымона Музыкі».

Выданне і перавыданне творчасці класікаў, запатрабаванае часам і здзейсненае ў Заходняй Беларусі, мела патрэбу ў адпаведным літаратуразнаўчым забеспячэнні друкаваных тэкстаў. Прадмовы да выбраных твораў Я.Коласа і перавыдання «Вянка» М.Багдановіча, натуральна, набывалі заходнебеларускі кантэкст, абумоўлены месцам і часам выдання. Абвостранае ўспрыняцце нацыянальных каштоўнасцей, што ўзнікала ў святле абуджэння народа і пошуку ім новых шляхоў, уплывала на агульную канцэпцыю творчасці класікаў у вуснах заходнебеларускага крытыка і літаратуразнаўца.

«Хоць у Коласа пануе сумны настрой, — пісаў у прадмове да юбілейнага выдання выбраных твораў класіка А.Навіна, — хоць жалем і скаргамі пранікнуты ягоныя «Песні жалобы», як і душа нашага вясковага люду, аднак сум і туга яго не адчайныя, не безнадзейныя: праз іх прабіваецца пачуццё ўласнае сілы, прабіваецца магутнае імкненне да волі, …вера ў тое, што сучасны стан — гэта нешта дачаснае…»[1]

Праводзячы ў сваіх артыкулах пра М.Багдановіча тэзіс аб ім як песняру красы, літаратуразнаўца палемічна падкрэслівае вялікае ўтылітарнае значэнне творчасці паэта для беларускага народа ў плане прызнання яго ўсясветнай супольнасцю: «Ускрываючы вечную, неўміручую красу ў нашым родным, беларускім, Багдановіч уводзіць нас у сям'ю культурных народаў з большай пэўнасцю, чымся тыя, хто піша вялікія трактаты аб нашым праве на гэта»[2].

Крытыка і літаратуразнаўства ў Заходняй Беларусі мелі і такую форму бытавання, як публічная лекцыя, артыкул у друку з нагоды ўгодкаў нарадзінаў або смерці пісьменніка. Так, к пятым утодкам смерці Ядвігіна Ш. была, мабыць, упершыню ў Беларускім літаратуразнаўстве аб'ектыўна ацэнена творчасць гэтага неардынарнага празаіка[3].

Да разгляду паэзіі Янкі Купалы заходнебеларускі крытык звяртаўся некалькі разоў. Творчасць нацыянальнага паэта-вешчуна набыла ў абуджанай вызваленчымі ідэямі Заходняй Беларусі сэнс духоўнага арыенціра, стала знакам чалавечай і нацыянальнай годнасці, выкарыстоўвалася ў штодзённай палеміцы інтэлігенцыі з польскім афіцыёзам, рознамаснымі незычліўцамі беларушчыны[4].

Калі артыкулы А.Навіны, прысвечаныя творчасці М.Багдановіча, Ядвігіна Ш., Я.Коласа, пры ўсёй іх змястоўнай насычанасці формаю нагадвалі эцюды, то першая яго публічная лекцмя пра паэзію Янкі Купалы мела характар разгорнутага даследавання[5]. У сціслым кантэксце з жыццёвым і эстэ-

---

1 Колас Якуб. Выбраныя творы. Угодкавае выданне. Вільня, 1927. С.6.

2 Багдановіч Максім. Вянок: Зборнік вершаў. Другое выданне, папраўленае. Вільня, 1927. C.VI.

3 Навіна А. Антон Лявіцкі (Ядвігін Ш.) // Родныя гоні. 1927. Кн.1. С.13-19.

4 Таўлай Валянцін. Янка Купала ў Заходняй Беларусі // Творы. Мн., 1961. С.196-203.

5 Навіна Антон. Напевы лірыкі Янкі Купалы // Адбітае жыццё: Лекцыі і стацці з беларускае адраджэнскае літаратуры. С. 41—58.

тычным досведам Купалы крытыкам прасочаны ўсе этапы творчасці паэта, трапна акрэслена ідэйна-эстэтычная адметнасць творчай індывідуальнасці вялікага нацыянальнага песняра. Даследчык акцэнтуе ўвагу на такіх аспектах Купалавай паэзіі, як персаніфікацыя сацыяльнай крыўды беларускага мужыка ў асобе самога аўтара, увасабленне паэтам нацыянальнай ідэі, мастацкая прырода яго лірыкі.

Выконеаючы функцыю прыкладную, асветніцкую, што ў абставінах станаўлення грамадскай свядомасці заўсёды архіважна, літаратуразнаўотва і крытыка ў Заходняй Беларусі 20-х — 30-гадоў патраплялі заставацца на належнай тэарэтычнай вышыні. Дыяпазон узнятай імі праблематыкі быў даволі шырокі. Ён уключаў пытанні грамадскай існасці мастацкай літаратуры, прыроды народнай эстэтыкі, эвалюцыі адраджэнскай ідэалогі і і яе адлюотравання ў прыгожым пісьменстве[1]. У шырокім сацыялагічным і літаратурным аспекце ставілася і выршалася праблема беларускага горада, пераважна на матарыяле заходнебеларускага рэгіёну. Акцэнт рабіўся на праблематычнасці горада як базы беларускага вызваленчага руху[2].

Прыкметнай і даволі перспектыўнай у літаратурным жыцці Заходняй Беларусі 20-х гадоў выглядала літаратуразнаўчая праца Ігната Дварчаніна (1895—1937). Вярнуўшыся ў 1926 г. пасля заканчэння Пражскага ўніверсітэта і абароны доктарскай дысертацыі на тэму дзейнасці Ф.Скарыны ў Вільню, Дварчанін актыўна ўключыўся ў культурна-грамадскае жыццё. У 1927 г. ён выступіў з некалькімі публікацыямі, у тым ліку з артыкулам пра паэтыку М.Багдановіча, узяў удзел у публічнай дыскусіі наконт года нараджэння Скарыны[3]. Вынікам літаратуразнаўча-асветнай працы Дварчаніна з'явілася падрыхтаваная ім «Храстаматыя новай беларускай літаратуры», якая, дзякуючы ўключэнню ў яе ўзораў беларускага мастацкага слова першай чвэрці XX ст., адыграла выдатную этнаахоўную, патрыятычна-выхаваўчую ролю ў Заходняй Беларусі. Абапіраючыся на сацыялагічна-псіхалагічны крытэрый, малады літаратуразнавец стварыў даволі арыгінальную класіфікацыю беларускай літаратуры новага часу, даў змястоўныя дэфініцыі творчасці асобных яе прадстаўнікоў[4].

Ужо адразу пасля разгрому ўладай БСР Грамады ў грамадска-палітычным жыцці Заходняй Беларусі стварылася спецыфічная атмасфера. Палітычнае, ідэйнае размежаванне суправаджалася ўзаемаабвінавачаннямі, папрокамі і нападкамі. Маральна-этычныя крытэрыі аказаліся пры гэтым занядбанымі. К восені 1927 г. у сувязі з набліжэннем выбараў у сойм і сенат атмасфера варожасці і грызні асабліва згусцілася. Апублікаваны ў гэты час адкрыты

---

1 Навіна А. Істота літаратуры і яе грамадскза значэнне // Родныя гоні. 1927. Кн. 2; яго ж. Эвалюцыя беларускае адраджэнскае ідэалогіі і адбіццё яе ў літаратуры // Студэнцкая думка. 1926. №1 (7); Суніца Раман. Аб беларускай народнай эстэтыцы // Родныя гоні. 1927. Кн. 4.

2 Праблема беларускага места // Студэнцкая думка. 1925. № 4(5).

3 Дварчанін І. Максім Багдановіч // Родныя гоні. 1927. Кн. 5. С. 9—18; яго ж. Аб годзе нараджэння Ф.Скарыны // Родныя гоні. 1927. Кн.1. С.20—22.

4 Дварчанін І. Храстаматыя новай беларускай літаратуры (ад 1905 году). Вільня, 1927.

ліст Уладзіміра Самойлы, аўтара філасофска-публіцыстычных эсэ «Гэтым пераможаш!» і «Трыумфуе Беларусь» (у іх высокааўтарытэтны пісьменнік-філосаф сцвярджаў гістарычную рацыю беларускай ідэі, яе неперsaможнасць), быў своеасаблівай формай грамадскага пратэсту супраць маральнага звыраднення.

Самойла публічна адмаўляўся ўдзельнічаць далей у беларускім палітычным жыцці, пакідаючы за сабой адно права на культуралагічную працу. Чалавек заслужаны перад Беларуссю сваёй і нтэлектуальнай працай і ахвярнасцю, ён меў права на папярэджанне і выказаў сваю засцярогу прынцыпова і шчыра: «Гэты падзел, — сцвярджаў Самойла, — пры нашай слабай культурнасці дый асабліва складаных і цяжкіх абставінах жыцця ідзе, на жаль, значна далей, як нармальны падзел грамадзянства на палітычныя партыі ці грамадскія групы, не толькі распыляючы, але…папросту руйнуючы, зніштажаючы грамадзянства, якое і без таго не можа пахваліцца багаццем на людзей, здолыных да культурна-будаўнічай працы…я не маю больш попрасту а ні фізічных, а ні маральных сілаў зносіць такі стан грамадства, сябрам якога я хачу сябе лічыць. Я не магу не толькі працаваць, а попрасту не магу больш дыхаць атручанай атмасферай, якая створана гэтым нігілістычным, запамінаючым аб людскіх і боскіх законах, аб інтарэсах і маральным здароўі грамадзянства і народа падзелам і яго вынікамі…[1]

Трэба сказаць, што абет маўчання, неўмяшання ў палітычныя страсці Самойла датрымаў толькі часткова. Сапраўды, на працягу бліжэйшых некалькіх год яго публікацыі ў беларускім і польскім віленскім друку датычылі толькі культуралагічных праблем. У гэты час ён яшчэ паспяхова прапагандаэаў у нямецкім славістычным штогодніку «Jahrzeitsehrift fur slawischon Kulturunol schichte» здабыткі гуманітарыстыкі Савецкай Беларусі, а ў 1932 г. выступіў з аналітычнай публіцыстыкай, узняўшы найактуальнейшую на той час праблему жыцця беларускага этнасу. Самойла бліскуча прааналізаваў эвалюцыю ўрадавай польскай палітыкі канца 20 — пачатку 30-х гадоў у дачыненні да беларусаў і ўпершыню доказна і аўтарытэтна засведчыў карэлятыўную оўвязь так званага найноўшага курса яе з новай нацыянальнай палітыкай Саветаў — устаноўкай на татальнае знішчэнне нацыянальнай інтэлігенцыі ўскраін. Фактычна публікацыя вядомага беларускага інтэлектуала, зробленая ў Вільні, была скіравана на азнаямленне еўрапейскай грамадскасці з трагедыяй беларускага народа і яго інтэлігенцыі, аддадзеных на ласку антыдэмакратычных рэжымаў Польшчы і Савецкай Расіі. Аналітыка Самойлы была ўвасоблена ў дасканалай літаратурнай форме і складае сабой адзін з арганічных здабыткаў заходнебеларускай літаратуры, грамадскай думкі Беларусі[2].

Грамадскае жыццё і літаратурны працэс у Заходняй Беларусі ў 30-я гады не зазналі такіх радыкалыных перамен, як у Савецкім Саюзе ў год

---

1 Пісьмо грам. Уладзіміра Самойлы // Беларуская культура. 1927. № 2-3. С.126.

2 Sulima «Nowy» i «najnowszy» kurs polityki polskiej w sprawie biaioruskiej. Wilno, 1932.

«вялікага пералому» і пачатку наступнага дзесяцігоддзя, хоць палітычная абстаноўка ў Польшчы таксама мянялася не да лепшага. Аўтарытарны рэжым Пілсудскага ўзмацніў наступленне на сацыяльныя правы працоўных, на нацыянальныя меншасці.

Летам 1930 г. Пілсудскі загадам прэзідэнта разагнаў сойм, палічыўшы яго склад занадта радыкальным, левым. Палавіна беларускіх дэпутатаў сойма з сялянска-рабочага клуба «Змаганне» апынулася ў турме. Уняважнены былі дэпутацкія правы і дэпутатаў ад агульнага Беларускага пасольскага клуба, ад Сялянскага саюза і Беларускай хрысціянскай дэмакратыі. Рэпрэсіі супраць апазіцыі, змены ў выбарчай ардынацыі дазволілі ўраду заблакаваць прыход у вышэйшы заканадаўчы орган Рэчы Паспалітай новай кадэнцыі радыкальных прадстаўнікоў народа. Грамадскасць Заходняй Беларусі ў новых палітычных умовах не здолела правесці ў сойм ніводнага свайго прадстаўніка. Беларускую меншасць у новым складзе сойма рэпрэзентавалі прадстаўнікі польскага урадавага блока, чыноўнік, адказны за «крэсавую» палі тыку , Т.Галувка, рэдактар рупара «крэсавых» памешчыкаў гаэеты «Siowo» Цат-Мацкевіч і інш. Такое палітычнае становішча, натуральна, адбівалася і наўсім культурна-грамадскім жыцці Заходняй Беларусі. Частка актывістаў нацыянальна-вызваленчага руху, пайшоўшы на кампраміс (угоду) з уладай, спаадзявалася мець ад гэтага дывідэнды хоць бы ў выглядзе ўступак у асветнай палітыцы: дазвол на адкрыццё беларускіх школ, настаўніцкай семінарыі, якая б забяспечвала гэтыя школы педагагічнымі кадрамі. Тымчасам дамовы заставаліся на паперы, угадоўцы, атрымаўшы мянушку «беларускай санацыі«, па аналогіі з урадавым курсам на аздараўленне — санацыю, гублялі давер у народзе.

Карабель пад назвай Цантрасаюз Беларускіх культурна-асветных і гаспадарскіх арганізацыяў і інстытуцыяў, такое найменне мела збітае пасля ўдараў па нацыянальным руху згуртаванне, захлесталі хвалі палітыкі злева і справа, пагражаючы тонню. Цэнтрасаюзнікам удалося зрабіць няшмат: адчыніць настаўніцкую семінарыю, аднавіць выданне часопіса «Саха», ініцыяваць выхад часопіса «Жаноцкія справы«, выдаць некалькі перакладаў. Але выданні былі недаўгавечныя: бракавала сродкаў, бракавала людзей. Частка інтэлігенцыі, заангажаванай у палітыку, знаходзілася ў турмах. Працягваўся адток творчых сіл у Савецкую Беларусь, а нейкі час на пачатку 30-х ён набыў форму адыходу: праз «зялёную граніцу» на ўсход уцякала вясковая моладзь, асабліва падвучаная, у пошуках працы і магчымасці прадаўжаць адукацыю.

У 30-я гады на палітычнай арэне Заходняй Беларусі дамінавалі дзве арганізаваныя палітычныя сілы. З аднаго боку — КПЗБ (1923-1938), з другога, — БХД (1927-І940). Камуністы і хадакі многае прадвызначылі і ў культурна-грамадскім жыцці Заходняі Беларусі. Камуністычная ідэалогія з-за яе радыкальнай сацыяльнай праграмы мела ў масах Заходняй Беларусі, чуйных на сацыяльны фактар, пэўнае разуменне і падтрымку. Паводле слоў аднаго з сакратароў ЦК КПЗБ М.Арэхвы, у лепшыя часы камуністчнае падполле ў Заходняй Беларусі налічвала да сямі тысяч членаў. Акрамя тэарэ-

тычнага і папулярнага, выдаванага падпольна, КПЗБ мела і свой легальны перыядычны друк. Выпушчаная ёю ў 1933—34 гг. «Беларуская газета» выходзіла з літаратурным дадаткам «Літаратурная старонка» органам «Літаратурнага фронту сялянска-рабочых пісьменнікаў Заходняй Беларусі», аб‘яднання ініцыянаванага паэтамі камуністычнай арыентацыі В.Таўлаем, Д.Пестраком, АДубровічам, П.Гранітам і інш.

Вакол выданняў хадэкаў газеты «Беларуская крыніца«, «Хрысціянская думка», пазней «Беларускі фронт» гуртаваліся літаратары, спавядаўшыя хрысціянска-дэмакратычныя каштоўнасці. Сярод іх вылучаліся публіцысты Адам Станкевіч (Сакалінскі), Вінцэнт Гадлеўскі, Удадыслаў Талочка, Станіслаў Грынкевіч. У другой палавіне 30-х гадоў беларускія хрысціянскія дэмакраты пачалі выдаваць «тоўсты» часопіс, квартальнік навукі і літаратуры «Калоссе» (1935—1939), на старонках якога шырока друкаваліся прадстаўнікі розных ідэалагічных напрамкаў без выключэння. З-пад крыла хадэкаў вышла маладая група незалежнікаў на чале з Я.Найдзюком, якою выдаваўся часопіс «Шлях моладзі» (1929—40), са сталым «Літаратурным аддзелам».

Цэнтрысты, прыхільніхі адзінага нацыянальнага фронту, да іх належалі і старэйшыя літаратары, у 1930—1932 гг. выдавалі газету «Беларускі звон», самой назвай выдання навязваючы да традыцыі пачатку 20-х гадоў. Пасля закрыцця газеты ўладамі цэнтрысты ўзнавілі яе выданне пад назваю «Родны край» (1933—1936).

Незалежныя дэмакраты, культурнікі (Р.Шырма, Ф.Стэцкевіч, С.Паўловіч. В.Тумаш) выдаваді культурна-грамадскі і літаратурны месячнік «Летапіс ТБШ», з 1937 г. перайменаваны ў «Беларускі летапіс» (1933-1939). Было яшчэ некалькі спарадычна паўставалых недаўгавечных перыядычных выданняў, ях задушаны цэнзурай на першым нумары часопіс «Крыгалом» (1935 г.), змястоўны, перспектыўна задуманы альманах «Маладая Беларусь» (1936), Сярод і х выдаваны групай творчай інтэлігенцыі літаратурна-мастацка-навуковы месячнік «Нёман» (1932), запраектаваны як выданне па-за палітыкай, адмыслова прысвечанае мастацтву і літаратуры Беларусі.

Самым прадуктыўным паэтам у заходнебеларускай літаратуры першай палавіны 30-х гадоў быў М.Машара. У гэты перыяд хораша раскрыўся лірычны талент паэта. Паскорыўся выхад нядаўняга пачаткоўца, выхаванца Лукішскага «універсітэта» і на эпічныя формы. Як у свой час У.Жылка, адчуўшы далучанасць да вялікай справы народнага вызвалення, нацыянальнага руху, радасна выспеяў гімн яму, — паэму «Уяўленне", так і М.Машара, неафіт адраджэнскай ідэі, духоўна ўзвышаны да ўсведамлення такіх фундаментальных каштоўнасцей, як свабода народа, незалежнасць, стварае лірычную паэмку-сімфонію «Валачобнае«[1]. У ёй чуецца часам прамая пераклічка з Жылкавым хваласпевам абуджанаму духу народнаму:

[1] Машара М. Валачобнае // Нёман. 1932. № 3. С. 82—88

Доўга мы спалі, —
Кончыўся сон,
Мала-памалу
Будзіць нас звон.
Звон прабуджэння
Звоніць язык.
У аўтар адраджання
Ўходзіць мужык.[1]

І разам з тым «Валачобнае» М.Машары — рэч арыгінальная, твор самабытны, можа, вяршыня мастацкіх дасягненняў паэта ў давераснёўскую пару.

Паэт удала пераасэнсоўвае вобраз, узяты з беларускай этна-культурнай традыцыі, вобраз валачобніка як вестуна радасці. Традыцыйны вобраз-сімвал ён пераводзіць у кантэкст беларускага вызваленчага руху. Персаніфікуе вобраз валачобніка як вестуна світання, годнай будучыні:

Стану пад вокнамі зрання,
Стукацца ў хаты пачну,
Я валачобнік світання,
З дум вашых спуджу тугу.
Гэта не песня — імкненне,
Буйны вясновы прыліў
Веры ў тваё Адраджэнне,
Ў заўтра ваколіц і ніў.[2]

Паэма складаецца з трынаццаці невялікіх раздзельчыкаў. У творы моцны лірычны пачатак, у якім выяўлена паэтава прызнанне прычыны душэўнай узрушанасці, праз суб‘ектыўнае пераліванне дадзены маляўнічы вобраз вясны. Машара ўмела выкарыстоўвае сімвалічную атрыбутыку спрадвечнага свята вясновага абнаўлення. Рытміка верша ад раздзела да раздзела мяняецца. Над лірыкай пачынае дамінаваць эпічны элемент, асабліва ў зваротах да Хрыста, у паасобных абразках адроджанага пасля зімовага сну жыцця. У Машары, як і ў іншых паэтаў пераломных эпох, назіраецца імкненне ў імпульсіўна-энергічным рытме вершаў перадаць дух, дынаміку самога неспакойнага, імклівага часу.

А.Бужанскі, адзначыўшы кампзаіцыйнае багацце твора Машары, пяшчотную, паводле слоў крытыка, апрацоўку верша, звярнуў увагу на музычны аспект унутранай формы паэмы: «Хоць аўтар «Валачобнага» не належа да кірунку імпрэсіяніотаў, паэма гэта, бясспрэчна, мае колер, мае сваю зрокавую трансфармацыю, як музыка Дэ-Бюсі і Равэля»[3].

1 Тамсамя. С. 86.
2 Машара М. Валачобнае // Нёман. 1932. № 3. С. 87.
3 Бужанскі А. Паэмы Міхася Машары //Калоссе. 1937, Кн.2(ІІ).С.106.

На сямідзесятыя ўгодкі пагібелі кіраўніка паўстання 1863 года ў Беларусі і Літве, выдатнага рэвалюцыйнага дэмакрата, нацыянальнага героя К.Каліноўскага М.Машара адгукнуўся напісаннем паэмы «Смерць Кастуся Каліноўскага«[1]. Для сцвярджэння велічы подзвігу Каліноўскага паэт узяў у аснову твора драматычныя часіны яго жыцця — суда прадстаўнікоў царызму над героем паўстання і смерць яго на эшафоце. На жаль, не маючы мастацкай практыкі ў гістарачным жанры, трывалай дакументальнай асновы, пры асваенні няпростай тэмы Машара аказаўся на шляху страты эпічнай цэласнасці формы, замены яе месцам публіцыстычнымі элемэнтамі. У канчатковым выніку гэта не магло не прывесці да зніжэння зстэтычнай вартасці паэмы ў цэлым, нягледзячы на апафеоз патрыятызму і агульную актуальнасць яе ў канкрэтных беларускіх умовах даваеннай пары. Збудаваная цалкам на народным паданні, наступная па часе напісання паэма М.Машары «Мамчына горка» хоць і не стала прыкметным здабыткам у маштабе ўсёй беларускай літаратуры, была пэўным крокам наперад у развіцці паэтычнага таленту яе аўтара[2]. Хоць у сваёй новай паэме Машара звяртаўся да мінулага, феадальных чаооў, канфлікт, пакладзены ў аснову сюжэта яе, меў ярка выражаны сацыяльны характар І тым самым быў псіхалагічна не чужы рэчаіснаоні Заходняй Беларусі, дзе сацыяльныя супярэчнасці натуральна ўзмацняліся каланіяльным статусам краю. З аддалі часу, аднак, выразней відаць, што сапраўдная творчая ўдача сустракала М.Машару найчасцей у творах, дзе паэтам не ставілася задача асваення жыццёвага матэрыялу ў большых эпічных формах. Ліра-эпічны характар паэтычнага выказвання быў найбольш арганічны яго таленту, у якім пераважаў лірычны або феміністычны пачатак. Лірычныя вершаваныя цыклы, характэрныя для творчасці М.Машары 30-х гадоў, наглядна пацвярджаюць такое меркаванне.

Тэматычная скіраванасць паэтычных нізак розная. Агульная танальнасць — мажорная. Яны прасякнуты ўсведамленнем радасці быцця, веры ў яго існасць. Як мастацкі прыём, кампазіцыйны ход Машара часта выкарыстоўвае рух у часе і прасторы, форму вандроўкі. Ураженні ад яе і кладуцца ў аснову паэтычнага выказвання. Прыродзапісальны матыў у такога характару выказу натуральна суседнічае з грамадзянскім роздумам, інвектывай. Мэтаідэя паэтычна сфармулявана, выказвавцца чотка, метафарычна:

Мяне хтось кінуў на выгнанне
начмі чорнымі блудзіць,
маліцца песнямі світанню
і спячых волатаў будзіць.[3]

[1] Машара Міхась. Смерць Кастуся Каліноўскага. Вільня, 1934.

[2] Машара Міхась. Мамчына горка (паэма). Вільня, 1936.

[3] Машара М. Начамі чорнымі // Калоссе. 1937. Кн.2 (II). С. 68.

Прааналізаваўшы тры паэтычныя зборнікі М.Машары, выдадзеныя ў передваеннае дзесяцігоддзе ў Вільні, можна з поўнай падставай сцвердзіць: ідэя нацыянальнай свабоды народа была заўсёды актуальнай, дамінантнай у творчасці паэта заходнебеларускай пары. Толькі на нейкі момант пад ударамі, што з усіх бакоў абрынуліся на беларускі нацыянальны рух з канца 20-х — пачатку 30-х гадоў, М.Машара, як і іншыя, аказаўся дэзарыентаваным у новых абставінах. Рэфлексія паэта над складанай рэчаіснасцю непасрэдна і проста фіксуецца ў вершаваных радхах. І ў іх не чутно роспачы:

Растуць пытанні ўночы,
А ў сэрцы нейкі сум,
Глядзіць бяссонне ў вочы
І ткуцца кросны дум.
І хочацца праверыць
Ўсю моц і гарт душы,
Нанова перамераць
Дарожкі і шляхі.[1]

Пасля разгрому польскім урадам БСР Грамады, пачаткам рэпрэсій супраць сялянства і беларускай інтэлігенцыі ў СССР, уражлівых фактаў спробы самагубства Янкі Купалы і забойства прэзідэнта Акадэміі навук Беларусі, гісторыка і палітычнага дзеяча Ўсевалада Ігнатоўскага ў грамадскай свядомасці жыхарства Заходняй Беларусі адбыліся пэўныя змены настрою, Грамадская думка беларускага Захаду зведала радыкальную палітычную пераацэнку каштоўнасцей, а само грамадства — ідэйна-палітычную дыферэнцыяцыю. Пэўнае ідэалагічнае размежаванне адбылося перш-наперш у асяроддзі інтэлігенцыі, у тым ліку і творчай, мастацкай. Адна частка яе не бачыла альтэрнатывы беларускай ідэі і згуртавалася пад нацыянальным сцягам. Да яе належалі А.Луцкевіч, У.Самойла. М.Краўцоў, з маладзейшых — М.Машара, Хв. Ілляшэвіч, А.Бярозка. Другая частка інтэлігенцыі ідэйна, а ў большасці выпадкаў і арганізацыйна наблізілася да Кампартыі: падкупляла спавяданая камуністамі ідэя справядлівага сацыяльнага ўладкавання свету. Да заходнебеларускіх літаратараў, заангажаваных камуністычным падполлем, належалі Піліп Пястрак, Валянцін Таўлай, Максім Танк, Анатоль Іверс. Падзяляў ідэалы сацыялізму, прапагандаваныя КПЗБ, Міхась Васілёк. Дзесь прамежкавае становішча паміж гэтых дзвюх груп займалі былы грамадавец Сяргей Хмара, Алесь Мілюць. Уласна, рэзкай ідэйна размежавадьнай мяжы ў творчасці гэтых літаратараў не было. Усіх іх аб’ядноўвала болш або менш выразна выражаная апазіцыйнасць у дачыненні да польскай улады, сацыяльнага ладу і палітычнага рэжыму дазаеннай Польшчы.

Міхась Машара не акцэнтаваў сваёй незалежніцкай пазіцыі. Хоць у яго паэтычна-вобразнай сістэме стала прысутнічаў сімвалічны вобраз Пагоні, знакавага ўвасаблення палітычнага ідэалу Беларусі, пракламаванага Радай

[1] Машара М. Растуць пытанні ўночы // Родны край. 1933, ад 28 студзеня.

Беларускай народнай рэспублікі актам 25 сакавіка 1918 г. Сацыяльны ідэал у паэта не меў акрэсленай палітычнай формы, хоць сацыяльныя матывы ў вершах яго гучалі пастаянна, і гэта невыпадкова: М.Машара ў сваім асабістым чалавечым жыцці падзяляў нядолю і злыбеды заходнебеларускай вёскі, Машаравы прызнанні сябру-літаратару, члену рэдкалегіі часопіса «Калосее» аб тым, што яму даводзіцца «У чужым сшытку выводвіць строчкі траплом, лапатай і касой», — не проста паэтычная метафара, а суровыя рэаліі жыццёвага быту паэта, умовы якога крытык называў жудаснымі[1]. Тым не менш паэт адчуваў сябе заўсёды ідэйна мабілізаваным, ратнікам на варце светача праўды, Світання. Мажор яго лірыкі, толькі зрэдку асмужаны народнай тугой, гучаў заражальна, нёс трывалы зарад душэўнай бадзёрасці, аптымізму. Ад імя маладых паэтаў Заходняй Беларусі М.Машара натхнёна вяшчаў:

Над соннай краінай
Світання — мы варта.
Наш спеў не загіне:
Мы звонкі і ўпарты,
Мы — толіхі продвесне,
Мы — першыя коскі,
За намі — там — Сонца!.[2]

Ад імя ўсяго маладога пакалення Заходняй Беларусі, якое падымалася, узыходзіла на змагарныя шляхі, паэт заяўляў:

Прыйшлі мы змагацца і класці
Падваліны новага ладу.[3]

Вёска, абмяжоўваючы бытаванне, творчыя магчымасці М.Машары, была адначасна глыбіннай крыніцай яго творчасці. Яе духоўныя традыцыі, людзі, прырода стымулявалі яго натхненне, былі аб'ектам паэтычнай выявы. На вачах паэта павеў новага часу, ідэй сацыяльнага і нацыянальнага разнявolення знаходзіў жывы водгук у беларускім сяле. Гэта мацавала веру яго ў будучыню, натхняла на ўзнёслае паэтычнае выказванне:

Край няволі і пакуты,
Старая мудрасць шэрых хат,
Твае цярпенні перакуты
У Адраджэння моцны гарт.
Другое сніцца цяпер нівам,
Другі размах сялянскіх дум…[4]

1 Шутовіч Я. 10 год літаратурнае творчасці Міхася Машары // Калоссе. 1938. Кн. 4 (17). С. 239.
2 Машара М. На прадвесні. Вільня, 1936. С.
3 Яго ж.Маладым песнярам // На сонечны бераг. Вільня, 1934. С. 10.
4 Яго ж. Сонцавеі // З-пад стрэх саламяных. Вільня, 1937. С. 22.

Трэці салідны паэтычны зборнік М.Машары, дарэчы, канфіскаваны паліцыяй, нават у сваёй назве «З-пад стрэх саламяных» заключаў матыў вёскі. У творчасці сваёй, уключаючы і драматургію, М.Машара стварыў рэалістычны, у нейкай меры рамантызаваны вобраз беларускай вёскі, і ў гэтым адна з заслуг яго перад беларускай літаратурай. Максім Танк крыху пазней вобраз гэты сацыяльна заглыбіў і падняў на вышэйшую ступень эстэтычнага асваення.

У 30-я гады М.Машара не без поспеху звярнуўся да працы ў драматургіі. Пачаў з побытавых, жанравых сцэнак. Ужо ў двухактоўцы «Вось тут і зразумей» засведчыў уменне ў адпаведнасці з законамі сцэнічнага мастацтва разгортваць фабулу, нязмушана будаваць дыялог ды характарыстычна індывідуалізаваць мову герояў[1]. Мяркуючы па асобных дэталях, гэта відаць ужо ў наступных творах, сцэнічным жарце «Чорт з падпечча» і драме ў трох актах «Лёгкі хлеб», абапіраўся на драматургічную практыку Ф.Аляхновіча і М.Гарэцкага[2]. У паважнай п'есе «Лёгкі хлеб» дзеянне адбываецца ў вёсцы і горадзе: пісьменнік імкнецца адлюстраваць пэўныя змены ў беларускім грамадстве, прыход паасобных прадстаўнікоў сяла ў нацыянальна-вызваленчы рух[3]. М.Машару ўдалося паказаць эвалюцыю ў светапоглядзе прадстаўнікоў вёскі, стварыць даволі пераканаўчыя вобразы галоўнай гераіні Веры Мутэркі, яе бацькоў, антыгероя — негатыўны тып булахоўскага афіцэра Крукоўскага.

Прыкметнай постаццю сярод пісьменнікаў Заходняй Беларусі, тых, што, нягледзячы на ўсе перыпетыі, нават катастрофу беларускага вызваленчага руху, заставаўся верным нацыянальнай ідэі, быў Хведар Ілляшэвіч. У 30-я гады, не здрадзіўшы лірыцы, паэт стаў даволі актыўна і плённа выступаць таксама ў жанры прозы, з нахілам якраз да псіхалагічнай яе плыні. Патрапіў пакінуць свой след Хв.Ілляшэвіч і ў літаратуразнаўстве: яму належыць аўтарства пакуль што адзінай у беларусазнаўстве манаграфіі, прысвечанай жыццю і творчасці Ядвігіна Ш.[4] Магістарская манаграфія выпускніка Віленскага ўніверсітэта Хв.Ілляшэвіча аб друкарскім доме Мамонічаў папоўніла даследчую літаратуру пра культурнаасветнае вогнішча беларускага сярэднявечча, старога адраджэння[5]. Аднак Хв. Ілляшэвіч — перадусім паэт-лірык. І менавіта яму паўней, чым каму-небудзь іншаму, было наканавана, удалося адлюстраваць У вершах драматычны аспект скрушнага, стратнага часу беларускага грамадскага жыцця 30-х гадоў,

Змена ўзнёслага, наступальнага тону паэзіі Хв. Ілляшэвіча 20-х гадоў на элегічны лад 30-х была абумоўлена не эвалюцыяй светапогляду паэта. Хв. Ілляшэвіч, як і іншыя, нялічныя заходнебеларускія інтэлектуалы, здолеў рэальна ацаніць знешнія і ўнутраныя прычыны крызісу беларускага вызваленчага руху і застацца верным ідэалам маладосці, а менавіта — ідэі нацыянальнай і сацыяльнай свабоды беларускага народа. Элегічную ж танальнасць лірыкі Хв. Ілляшэвіча 30-х гадоў задавала само жыццё, беларуская рэчаіснасць і не толькі самой Заход-

---

1 Машара М. Вось тут і зразумей. Драматычны абразок у двух адслонах. Вільня, 1934.

2 Яго ж. Чорт з падпечча. Сцэны з сялянскага жыцця. Вільня, 1936

3 Яго ж. Лёгкі хлеб. Драма ў трох актах. Вільня, 1936.

4 Ілляшэвіч Хведар. Ядвігін Ш. (Антон Лявіцкі), жыццё і літаратурнае творства. Вільня, 1933.

5 Iljaszewicz Teodor. Drukarnia domu Mamoniczow w Wilno (1572-1622). Wilno, 1938.

няй Беларусі. Толькі некалькі фактаў сацыяльна-палітычнага плана для разумення духоўнага тонусу беларускага інтэлігента, дзе б ён не жыў, на Захад ці Усход польска-савецкай мяжы. У 1934 г. у Польшчы, менавіта на заходнебеларускіх землях, у Картуз-Бярозе, адкрываецца канцэнтрацыйны лагер для палітзняволеных.

Летам 1936 г. у Вільні адбыўся суд над групай заходнебеларускай моладзі камуністычнай арыентацыі, т.зв. малой Грамадой. Сярод падсудных, што былі асуджаны ад 3-х да 8-мі гадоў турэмнага зняволення — пісьменнікі В.Таўлай, П.Пястрак, А.Іверс (І.Міско), Я.Чабор (Патаповіч).

На трынаццатым нумары забараняецца ўладай народнафронтаўскае выданне газеты «Наша воля», у якой цесна супрацоўнічалі ўсе асуджаныя пісьменнікі, а таксама М.Танк, М.Васілёк, Р.Шырма (псеўд. В.Майстровіч). Судовыя рэпрэсіі абрушылі ўлады і на польскую арганізацыю ўніверсітэцкага студэнцтва «Фронт», адначасна забараніўшы друкаваны орган фронтаўцаў двухгыднёвік «Poprostu».

У 1936 г. улады забараняюць дзейнасць беларускіх культурна-грамадскіх арганізацый розных ідэалагічных пазіцый Таварыства беларускай школы і Беларускага Інстытута Гаспадаркі і Культуры. У 1936 г. канфіскуецца першы паэтычны зборнік Максіма Танка «На этапах». І заднім чыслом — выдадзены ў 1929 г. зборнік вершаў Міхася Васілька «Шум баравы». Даходзіць да канфіскацыі беларускага буквара Сяргея Паўловіча «Засеўкі».

У Савецкай Беларусі фактычна завяршаецца татальная элемінацыя інтэлігеніцыі: праследваецца ўсё, што мае на сабе самую малую адзнаку беларускасці. Фізічнае вынішчэнне інтэлектуалаў, да чаго польскі аўтарытарны рэжым даваеннага часу ўсё ж не дайшоў, набыло форму генацыду на ўсходзе, дзе пад прыкрыццём дыктатуры пралетарыяту аб'ектыўна адбылася трансфармацыя дзяржаўнай сістэмы ў самыя жорсткія таталітарныя формы прыгнечання чалавека.

Натуральна, што гэтыя жорсткія, бязлітасныя ў сваёй існасці факты, з'явы сублімаваліся ў элементы грамадскай атмасферы, станавіліся прадметам роздуму творчай інтэлігенцыі. І зусім невыпадкова рэфлексія паэта пра будучыню Баларусі набывала элегічную афарбоўкуу:

Многа песняў згубілі мы ўжо, —
ўсё жыццё так складаецца неяк —
у наш песенны звонкі дажон
вецер цвету нямала развее.
Што ж? Радзіліся ў час такі мы,
калі поле слязьмі ўскаласіла.
Не злічыць нам у роднай зямлі
неаплаканых песняў-магілаў.
І няведама колькі яшчэ
абляціць на шляхох белацвету…
З кожным шагам цяжэй і цяжэй
І ў імгле ледзь віднеюцца мэты.[1]

---

[1] Ілляшэвіч Хведар. Многа песняў… // Калоссе. І938. Кн. 3(16), С. 129.

Хв. Ілляшэвічу была блізкай руская паэтычная школа імажынізму ў яе ясенінскім варыянце. Паэт меў сталую ўнутраную ўстаноўку на канструкцыйную метафорыку, як азначыў яго паэтыку М.Танк[1]. Заснаваны на шчырым перажыванні, асвечаны спагадай, гуманістычнай думкай, такі сканструяваны вобраз часам набіраў у паэта сапраўднай змястоўнай ёмістасці. Як у вершы пра вёску:

Як раней, у вячэрні, ймгляны небасхіл
стада стрэх плыве недзе на россашы —
нібы ў просіні той, дзе бярозаў шляхі,
край ніводнай слязою нязрошаны.[2]

Вілянчук, паэт, які вырас у горадзе і толькі нейкай родавай, сваяцкай повяззю звязаны з вёскай, можа, якраз з-за ейнай глыбіннай беларускай існасці Хв. Ілляшэвіч адчуваў яе востра, мог выявіць у слове яскрава, Даваў вобраз праўдзівы, можа, непаўторны ў рэальнасці перажыванага моманту і свайго, мастака, сына гэтай зямлі, адчування:

Мне хацелася б песняй аб шчасці
узбуяніць наш родны прастор —
ўчора хлопчык Валодзя прадчасна
ў душнай хаце сялянскай памёр.
Ў гэтых хатах, занесеных снегам,
вецер ноту камячыць адну —
у махорачны дым з нейкім гневам
слозы цэдзяцца… ўсё пра вайну.[3]

Паэту ў сваім творы ўдаецца ўзняцца да нейкага шырэйшага мастацкага абагульнення, стварыць вобраз цяжкай, стратнай эпохі, у некалькіх радках выказаць грамадзянскі боль, трывогу за будучыню свайго, наступных пакаленняў:

Жыць агоркла ў чорным горы,
у снежнай далі лічыць крыжы…
І ніяк з-за палёў, загор'я
сіні золак не набяжыць.[4]

Свядомы грамадзянскага абавязку паэт паднявольнай нацыі, народа, што апынуўся на крыжовых дарогах гісторыі, Хв. Ілляшэвіч на дазваляе сабе нават у творах глыбока элегічных па зместу настроя, расплывац-

1 Танк Максім. Літаратурны маладняк і крытыка // Беларускі летапіс. 1938. № 4-5. С. 79.
2 Ілляшэвіч Хведар. Я прышоў да вас зноў // Калоссе. 1938. Кн. I (16). С. 76.
3 Ілляшэвіч Хведар. Столькі песняў // Калоссе, 1938. Кн. I (14). С.19
4 Тамсама.

ца ў суцэльным жалю. Паэт звяртаецца да ўласных вершапесняў, просячы іх не падаць «з ветрам плачкамі ў лістапад беларускі». Выразна элегічнай семантыкі і танальнасці творы заканчвае ўсё ж так, каб аставалася нейкая перспектыва. Часам робіць гэта, што называецца, адкрытым тэкстам: «Нам не жаль, што раскінулі ўсе // свае сны ў нетры жудаснай гэтай, // мы яшчэ прапяем у рассвет // аб цвітучых садах і палетках»[1].

Празаічная спадчына Хв. Ілляшэвіча не багатая: складае каля дзесяці апавяданняў.

Героямі навел і апавяданняў Хв. Ілляшэвіча з'яўляюцца, як правіла, маладыя інтэлігенты, студэнты або выпускнікі вышэйшай вучэльні, што шукаюць сваё месца ў жыцці, часам проста работы. У большасці выпадкаў — свядомыя свайго грамадзянскага абавязку перад простым людам, спаміж якога вышлі. Зведаўшы навуку, атрымаўшы веды, імкнуцца быць грамадска карыснымі на месцы сваёй працы: усведамляць сялян, дапамагчы закласці кааператыў, каб вызваліць рабачая ад зыску пасрэднікаў (апавяданне «На ростані»). У асобных герояў твораў Ілляшэвіча за плячыма пэўны жыццёвы досвед. Алесь з апавядання «Сосны шумяць» не можа ўладкавацца на работу з-за сваёй недабранадзейнаеці ў вачах улады. Часова прыняты на лесапавал, ён аказваецца хутка звольнены. «Падзякуйце, што я так, без паліцыі. …Нам бунтароў не трэба», — чуе ён ад служачага лясніцтва[2]. Для Алеся шчасце — у барацьбе і аб гэтым кажа ён сваёй змарнелай маці, якая сустракае звольненага сына на станцыі.

Хоць у апавяданні «Шопат зямлі» пісьменнік лакалізуе дзеянне (яго героі — вясковыя хлопцы, што вязуць прадаваць вазамі сена ў Беласток), яму ўдаецца намаляваць шырокую панараму заходнебеларускага жыцця, высвеціць нейкі тыповы чалавечы лёс, пранікнёна перадаць адчуванне, перажыванні асноўнага героя, аўтарскага рэзанатара ў кантэксце прыроды, акаляючай падарожжа ў горад.[3]

Найчасцей сюжэт у апавяданнях Ілляшэвіча (Дальнага) разгортваецца паволі, асобныя мясціны памячаюцца як бы пункцірна, замалёўкі прыроды, аўтарская рэфлексія адыгрываюць у ім значную ролю, маюць філасофскі падтэкст.

Індыферэнтнасць Н.Арсенневай у заходнебеларускі перыяд яе творчасці да грамадскіх праблем не спрыяла шырэйшаму раскрыццю таленту паэтэсы. Абсалютызацыя эстэтычнага пачатку, замыканне ідэйна-эстэтычнага крэда паэтэсы на паэтызацыі прыроды і звязаных з ёй інтымных пэражыванняў змяншала не толькі патэнцыяльны грамадскі рэзананс паэтычнага слова, але абмяжоўвала і саму паэтыку мастака. Узнікалі непазбежныя паўторы асобных паэтычна-воб-разных элементаў, тропаў, Між тым грамадская незаангажаванасць маладой Н.Арсенневай выражалася ёю не толькі праз саму мастацкую практыку, але нават і дэкларатыўна:

---

1 Ілляшэвіч Хведар. Столькі песняў // Калоссе, 1938. Кн. 3 (І6). С.129

2 Дальны М. Сосны шумяць // Зборнік «Роднага краю» за 1934 г. Вільня, 1935. С.89.

3 Дальны М. Шопат зямлі // Калоссе. 1938. Кн, I, С. 9—16.

Як калоссе ў жытняй ніве —
Цягне дух мяне ўгару,
Тут… нішто мяне не дзівіць,
Тут… нічога не збяру.[1]

Трэба сказаць, што абсалютызаваны пантэізм паэзіі Арсенневай падтрымлівала і крытыка. За паэтэсай прызнаваўся самадастатковым сінтэз пейзажных і інтымных матываў, характэрны яе творам.

Нельга, праўда, сказаць, што рзавіццё паэзіі Н.Арсенневай у 30-я гады засталося цалкам на ўзроўні папярэдняга дзесяцігоддзя. Паэтычны вобраз у яе стаў больш выяўленча выразным, пластычным, пазбаўленым лішняй слоўнай карункавасці. І ўсё ж толькі зварот да ўсёй паўнаты беларускага жыцця, з яго скамплікаванасцю і драматызмам, пералом, які наступіў для Н.Арсенневай у трагічныя гады Другой сусветнай вайны, працягваўся ў эміграцыі, даў магчымасць паэтэсе рэалізаваць яе «творчы патэнцыял на ўзроўні лепшых прадстаўнікоў Беларускай мастацкай культуры. Але гэта ўжо па-за храналагічнымі рамкамі літаратуры Заходняй Беларусі.

Заходнебеларуская крытыка *ў* асобе А.Бужанскага знаходзіла ў творчасці М.Васілька 30-х гадоў значны зрух. Перш-наперш ідэйны, але не толькі. «Калі «Шум баравы», будучы ў сваю чаргу вельмі сімпатычным з’явішчам, не ўносіў амаль нічога новага (пакрываўся з тым, што пакінулі Цётка, Сваяк і інш.) у заходнебеларускую літаратуру, — «З сялянскіх ніў» прыносіць вязанку смелай, суадказна з духам часу створанай, арыгінальнай, сказаў бы мадэрністычнай паэзіі», — падагульняў свае ўражанні ад другога паэтычнага зборніка М.Васілька крытык.[2]

З перспектывы часу, трэба сказаць, паэтычны поступ М.Васілька быў не такі значны, як аб’яўляў яго ў сваёй рэцэнзіі А.Бужанскі. Нават з пагаспадарску агледжанага, падрыхтаванага і выдадзенага Р.Шырмам зборніка «З сялянскіх ніў» вельмі няшмат вершаў магло трапіць у беларускую анталогію, як гэта прадракаў крытык-сучаснік. Сапраўды, у адрозненне ад Хв.Ілляшэвіча, М.Васілёк у 30-я гады захаваў баявы, наступальны тон паэтычнага слова. У яго стала менш нараканняў на долю. На першы план выйшлі матывы змагання:

Сыны мы ўсе працоўнае краіны.
Радзіла праца нас, скупаўшы ў крыві,
Наказ такі дала; працуй і не загінеш!
Ты створыш новы свет —
змагайся і жыві![3]

М.Васілька, як і М.Танка, абмінуў духоўны крызіс, зазнаны многімі інтэлігентамі Заходняй Беларусі ў сувязі з наступам таталітарызму ў СССР

1 Арсеннева Н. Як калоссе ў жытняй ніве // Калоссе. 1935. Кн. І. С. 3.

2 Бужанскі А. Кнігапіс // Калоссе, 1937. Кн. 3 (2). С. 186.

3 Васілёк Міхась. Паміж нягод, паміж штодзённых брудаў // З сялянскіх ніў. Вільня, 1937. С.6.

і звязаны з гэтым трагічным становішчам беларускай савецкай інтэлігенцыі. Абодвух паэтаў ад грамадскага сівера, якім разка пацягнула з Усходу, ахоўваў рамантычны вобраз Рэвалюцыі, вынесены імі яшчэ падлеткамі з часу бежанства ў Расіі. Да таго ж ад «ідэйнага вывіху», як казала тады савецкая сацыялагічная, запалітызаваная крытыка, падстрахоўвала абодвух паэтаў уступленне іх у 1936 годзе ў рады КПЗБ[1]. Адной жа з галоўнейшых акцый Кампартыі на той час было падтрыманне ў вачах сусветнай грамадскасці належнага іміджу краіны «перамогшага сацыялізму", абвяржэнне страхатлівых звестак аб масавым тэроры, запанавалым на 1/6 планеты.

Злачынствы гітлераўскага фашызму, з яго адкрыта антычалавечнай ідэалогіяй, цынізмам і агрэсіўнасцю, з аднаго боку, наяўнасць Народнага фронту ў Еўропе — з другога адсоўвалі на другі план іншыя пагрозы, у нейкай меры тушавалі, хавалі ў цень, камуфліравалі старанна ўкрытыя таямніцы ГУЛАГу. Зрэшты, і нямецкі і савецкі таталітарызм знаходзіліся хоць і не так далёка, але вонкі. У твар жа насельнікам Польшчы, асабліва заходніх Украіны і Беларусі, нахабна дыхаў «свой», хатні аўтарытарызм, замешаны на шавінізме, шляхетчыне і каталіцкім клерыкалізме. У гэты задушны, стратны, каварны час калі не лейтматывам, то, прынамсі, нечым вельмі істотным, актуальным у быцці і мастацтве беларускага пісьменніка, паэта была тэма, выказаная Максімам Танкам:

І ад астрога да астрога плятусь —
Беларусь, ты мая, Беларусь![2]

Натуральна, што ў цяжкай, пераднавальнічнай атмасферы тое ж «Калоссе», як адзін з ачагоў беларускага супраціўлення ўсяму супраць-беларускаму і перш-наперш агрэсіўнаму паланізму, рада было прадаставіць старонкі слову, якое сцвярджала, несла ў сабе сімвал веры, надзеі на іншае Заўтра. Таму трэцюю кніжку часопіса за 1937 г. адкрываў верш М.Васілька з характэрнай назвай і адпаведным ёй зместам:

Прышлі з песняй у свет мы, і гора пазналі з калыскі,
нам пяялі аб ім можа першая матчыны словы,
з непагодай жыцця парадніліся змалку так блізка, —
дык ці ж нам апускаць прад шалеючай бурай галовы!

Сонца кранула пальцамі струны агністыя раніцы,
зазвінелі яны гімнам вузенькіх межаў палос,
толькі гартам стальным перамогі звяно з звяном вяжыцца,
толькі сілай мазольнай рукі — лепшы выкуем лёс![3]

1 Танк Максім. Дзённікі // Полымя, 1996. №10. С. 123.
2 Танк Максім. На этапах. Вільня, 1936. С. 104.
3 Васілёк Міхась. Не схіляць галавы! // Калоссе. 1937. Кн, 3 (12). С. 129.

У давераснёўскі перыяд творчасці М.Васілёк звярнуўся і да жанру малой прозы, да якога пазней, здаецца, больш ніколі не вяртаўся. Апублікаваныя пісьменнікам у 1937—1938 гг. у «Калоссі» апавяданні «Крыўда» і «Развітанне", асабліва першае, па мастацкай фактуры, псіхалагізме было добрай заяўкай на эпіку. У апавяданні ж «Развітанне» Васілёк паспрабаваў вывесці новы для заходнебеларускай літаратуры мастацкі характар — вобраз важака рабочай моладзі. Недахоп адпаведнай жыццёвай і эстэтычнай практыкі, аднак, адбіўся на кампазіцыйнай арганізацыі матэрыялу, не дазволіў дасягнуць неабходнай мастацкай завершанасці твора.

Праз узрыў сацыяльнай і нацыянальнай свядомасці, што адбыўся ў Заходняй Беларусі ў часы Грамады (паэт пазней уражліва пісаў пра гэта ў аўтабіяграфіі), падлеткам далучаўся Валянцін Таўлай да вызваленчага руху[1]. Чатырнаццацігадовым вучнем Віленскай беларускай гімназіі ўпершыню публічна, у друку выказаў будучы паэт-рэвалюцыянер (такі тытул за ім даўно і заканамерна ўсталяваўся ў літаратуразнаўстве) свае дачыненні да свету. Першы вершык пад назваю «У нашым краі» Таўлай заканчваў словамі: «І краіна Гедыміна жджэць усё лепшай долі[2]. У пятнаццаць год для В.Таўлая пачаліся этапныя шляхі. Большасць вершаў яго складзены ў турме, «запісаны ў памяць», як сказаў сам паэт. Тэксты іх пазначаны такімі канкрэтнымі каардынатамі месца ўзнікнення: Гродзенскі астрог, Лукішкі, Слонімская турма.

Не толькі ўласна заходнебеларуская творчасць В.Таўлая, але і ўсё, што напісана ім пазней да канца дзён паэта, прадвызначана яго непасрэдным удзелам у барацьбе з рэжымам польскай акупацыі Заходняй Беларусі, яго самаахвярным жыццёвым шляхам. Паэт, мабыць, больш чым хто-небудзь іншы з заходнебеларускіх літаратараў паправу мае сказаць выпакутаванае ўласным лёсам: «Цёплай сейбіцкай жменяй мы шчыра жыццё раскідалі, каб вясна расцвіла і на гэтай, пакутнай зямлі»[3].

У заходнебеларускім друку з'явіліся толькі паадзінкавыя творы паэта: выдадзеная на шапірографе паэма «Непераможная», некалькі вершаў пад псеўданімам П.Сірата ў «Калоссі» за 1938 і 1939 г., а таксама за гэтыя ж гады ў «Шляху моладзі» пад псеўданімам Янка Бунтар. Паэма ж «Таварыш» (пра высокую ахвярнасць у імя свабоды) і «Песня пра сухар» (аб салідарнасці з палітзняволенымі), рэчы вяршынныя ў творчасці В.Таўлая, запачаткаваныя ў астрожных мурох, напісаны ўжо на волі, пасля верасня 1939 года. Ужо ў першай заяўцы на творчасць, прысвечанай грамадаўскай стыхіі як парыву мас да Свабоды паэме «Непераможная» выявіўся моцны эпічны пачатак паэзіі В.Таўлая. Нават у лірычных вершах («Дзяўчына», «Таварышу маёй вясны») паэт удала дасягае сінтэзу лірычных і эпічных элементаў паэтыкі. Публіцыстычяая аратарская інтанацыя, пры апоры на асабісты грамадскі вопыт, дазволіла Таўлаю, на ўпадаючы ў рыторыку, выходзіць на сэнсава

---

1 Таўлай Валянцін. Творы, Мн., 1961, С. 274.

2 Дванаццаты Янка. У нашым краі // Сіла працы. 1928, ад 4 лютага.

3 Сірата Паўлок. Таварышу маёй вясны // Калоссе. 1938, Кн. 4 (17). С.217.

значныя вобразныя абагульненні думкі, дасягаць арганічнага грамадзянскага пафасу (верш «Апошняе слова»). Заслуга В.Таўлая перад беларускай літаратурай заключаецца і ў тым, што ён стварыў высокаэтычны вобраз рэвалюцыянера, палітзняволенага, тыповага для заходнебеларускай рэчаіснасці 20-х — 30-х гадоў, лірычнага героя з яскрава выражанай індывідуальнасцю. Даследчык паэзіі В.Таўлая М.Арочка, І.Шпакоўскі сведчаць аб прыкметным укладзе паэта ў культуру беларускага верша[1].

У другой палавіне 30-х гадоў агульнапрызнаным лідэрам беларускай паэзіі ў Заходняй Беларусі стаў Максім Танк (1912—1995). Агульнае прызнанне незвычайнага таленту паэта выразілася ў ва ўсім адзінагалоснай высокай ацэнцы крытыкі, у дзейснай увазе да творчых здабыткаў беларускага песняра прадстаўнікоў польскай літаратурнай грамадскасці, нарэшце, у папулярнасці ў шырокіх колах беларускай і польскай інтэлігенцыі. Аб апошнім красамоўна сведчылі літаратурныя вечары М.Танка ў Вільні з аўтарскім чытаннем вершаў з эстрады пры перапоўненых залах. Глыбокаталенавітае сцвярджэнне паэтам высокіх гуманістычных ідэалаў, самабытнае мастацтва слова захаплялі, зачароўвалі.

Маштабнасць таленту М.Танка выявілася ў дынамічным творчым узыходжанні паэта. Пасля першых публікацый вершаў праз год-другі пачалі з'яўляцца ў друку яго эпічныя палотны. У паэмах «Нарач», «Каліноўскі», «Казка пра муаыку», «Журавінавы цвет», «Сказ пра Вяля» пры эстэтычным асэнсаванні рэвалюцыйнай сучаснасці і гістарычнага мінулага Беларусі М.Танк арганічна паяднаў у паэтычнай стылістыцы сінкрэтычнае фальклорнае і інтэлектуальна-асацыятыўнае мысленне.

У прадмове да першага паэтычнага зборніка М.Танка яго першы крытык і фактычны выдавец Р.Шырма (псеўданім Р.Баравы) выказаў празарлівую ацэнку будучыні маладога паэтаі «...Максім Танк прыйшоў у беларускую літаратуру... і тут, на нашым Заходнім небасхіле... адразу загарэўся зоркай першай велічыні. Думаем, што нам яшча прыдзецца быць сведкамі, калі ягоны талент падымецца да Вялікага Сузор'я — Купалы-Коласа»[2]. Канфіскацыя польскай уладай кнігі «На атапах», сама назва якой — метафара жыцця паэта і яго паднявольнай краіны, была таксама высокай афіцыйнай ацэнкай Польскай дзяржавай таленту Беларускага песняра, дзейснасці яго Слова.

Творчае лідэрства М.Танка ў літаратуры Заходняй Беларусі грунтавалася на адзіна надзейных падставах: на высокім, агульнаеўрапейскім узроўні яго паэзіі і рэдкаснай мастацкай прадуктыўнасці паэта. За нейкія чатыры передвераснёўскія гады ў складаных, часам экстрэмальных умовах (заангажаваны ў камуністычным падполлі паэт зведаў канспіраіцыйныя яўкі, панскія астрогі), М.Танк у чатырох кнігах паэзіі здолеў апублікаваць каля трохсот твораў, пераважна лірыкі (акрамя першага зборніка М.Танка, вы-

[1] Арочка М. Валянцін Таўлай: Крытычна-біяграфічны нарыс. Мн., 1969. С. 97—165; Шпакоўскі І. Развіццё наватарскіх рыс у беларускай паэзіі зо-х гадоў // Паэзія абнаўлення свету: Фарміраванне творчых прынцыпаў і стылявых форм беларускай савецкай паэзіі. Мн., 1981. С. І80-183.

[2] Танк Максім. На этапах. Вільня, 1936. С.XVI.

дадзенага ў 1936 годзе, у 1937 г. асобнымі выданнямі паказаліся ў свет «Нарач», «Журавінавы цвет», а ў 1938 г. — зборнік «Пад мачтай». Сярод іх, не лічачы паэм, такія паэтычныя шэдэўры, як «На пероне», «Паслухайце, вясна ідзе», «Песня кулікоў», «Лірнік», «Шэрыя хаты, платы і вароты», «Над калыскай», «Ткала я, ткала палотны», «Ураклі, матуля, сына твайго людзі «, — рэчы непрамінальнай красы ў беларускай літаратурна-мастацкай скарбніцы. У заходнебеларускі перыяд творчасці, як некалі Янка Купала, толькі ўжо на новым гістарычным этапе жыцця беларускага народа Максім Танк у лірыцы і эпасе здолеў глыбока, па-мастацку ёміста выказаць існае ў сацыяльным лёсе Беларуса. Паэтам створаны па сутнасці зборны гістарычны сягоння вобраз Заходняй Беларусі, яе сацыяльны партрэт.

Лірычны герой Танкавай паэзіі — сялянская жанчына-маці, рэвалюцыянер-палітвязень, народны тып інтэлігента — актыўнага барацьбіта за сацыяльнав вызваленне працоўных, чалавека духоўна багатага, прыгожага. Нацыянальны ідэал у ранняга М.Танка не злімінаваны з сацыяльнага. Нацыянальная ідэя паэзіі М.Танка выяўлялася ў беларускай сутнасці ягонай творчасці ў цэлым, яе высокай ідэйна-эстэтычнай вартасці. Паэтычнага вызвалення працоўнай Заходняі Беларусі паэт, аб гэтым недвухсэнсоўна сведчыць яго лірычны герой, чакаў з Усходу. Роспуск КПЗБ і КПП, здзейснены Камінтэрнам у 1938 г. пад дыктатам «Азефа рэвалюцыі » (А.Луцкевіч), хоць у нейкай меры паўплываў на танальнасць перадваеннай лірыкі М.Танка, не змяніў ідэйнага крэда яе творцы.

Хоць паасобныя прадстаўнікі заходнебеларускай літаратуры, у тым ліку М.Танк, дастаткова ўспомніць яго «Пачатак оды», «Раманс» не цураліся выпадку сродкамі гумару і сатыры выказаць свае адносіны да жыцця, тых або іншых яго грамадскіх праяў, сатырычны жанр на беларускім Захадзе ні ўва ўздымныя 20-я гады, ні пазней не вылучаў выдатнага яго рэпрэзентанта. Вяршыні свайго развіцця гумарыстычна-сатырычны напрамак у Заходняй Беларусі дасягнуў, мабыць, у часы «Маланкі». Але сатыра маланкаўцаў, заўсёды надзённая, далёка не ўсягды мала адэкватнза ідэям эстэтычнае забеспячэнне, каб быць гарантаванай на працяглае жыццё ў прасторы і часе. Пісьменнік Баляслаў Друцкі-Падбярэскі (1895—1940), адвакат па прафесіі, нашчадак старога княскага роду, літаратар, які прэтэндаваў на рэпрэзентацыю беларускага гумару і сатыры, найчасцей выступаў як байкапісец, *быў* нават аўтарам асобнага выдання «Байкі, гумар, сатыра» (1928 г,), не дасягнуў у баечным жанры ўзроўню свайго папярэдніка Альгерда Абуховіча. Не ўзняўся на належны эстэтычны ўзровень і другі заходнебеларускі аўтар баек і гумарыстычных гутарак ксёндз Янка Быліна (Семашквеіч, 1883— 1955). Творам іх бракавала паэтычнай энергі і, сціслацсі радка, кандэнсацыі думкі, а часам і эстэтычнага густу.

Пасля добра памятнай у народзе «Маланкі» у Заходняй Беларусі не ўзнікла адпаведнага перыядычнага выдання, якое б паслужыла так, як яна, развіццю гумарыстычна-сатырычнай плыні літаратуры. Гумарыстычна-сатырычны месячнік «Асва», што выходзіў у Вільні з сакавіка па жнівень 1934 года, не толькі з-за свайго кароткага з-за цэнзурных умоў жыцця, але

і з прычыны ідэалагічнай і тактычнай пазіцыі рэдакцыі не мог сканцэнтраваць вакол сябе паважных літаратурных сіл. «Асва» была легальным органам ЦК КПЗБ і выдавалася не ў лепшыя для самой Кампартыі Заходняй Беларусі чаоы. У гэты перыяд КПЗБ ужо была страціўшай усякую магчымасць кіравацца рэаліямі жыцця Польшчы, самой Заходняй Беларусі. Яна кіравалася ў асноўным прысланымі з-за кардону ідэолагамі тымі палітычнымі ўстаноўкамі, што выпрацоўваліся дактрынёрамі ў Маскве і транслíраваліся як загад да дзеяння Менскам. І хоць у праграме «Асвы» ставілася задача «паглыбляць сацыяльную і нацыянальную свядомасць працоўных», на практыцы рэалізацыя гэтага праграмнага палажэння адбывалася вельмі спецыфічна. Клопат гаспадароў часопіса палягаў больш на тым, каб скампраментаваць аб'ектыўную інфармацыю аб палітычных рэпрэсіях у СССР, зменах там нацыянальнай палітыкі, спецыфічным вырашэнні сялянскага пытання. Нападкі былі перш за ўсё на тыя перыядычныя беларускія выданні, якія імкнуліся аб'ектыўна інфармаваць заходнебеларускага чытача аб падзеях на ўсходзе. «Асва» пайшла далей за падпольныя камуністычныя выданні ў гэтым плане. Яна, згодна ідэалагічных установак, якімі стала кіравацца грамадскае жыццё ў БССР, пачала шукаць «наццэмаў» сярод беларускай інтэлігенцыі на Захад ад польска-савецкай мяжы і знайшла іх у асобе самаахвярных дзеячаў ТБШ, той групы демакратычнай інтэлігенцыі, што найбліжэй стаяла да камуністаў у асобах Р.Шырмы, Ф.Стэцкевіча і інш. Друкаваліся ў «Асве» маладыя аўтары, звязаныя з камуністычным падполлем, Пятруоь Граніт, Васіль Струмень, Міхась Ліст. З больш вядомых — А.Іверс і М.Засім.

Мікола Засім (1908-1967) — народны самародак, вылучаны ў літаратуру культурна-масавым рухам Грамады і камуністычнага падполля 30-х гадоў. Пробы пяра яго, падпісаныя псеўданімам «Агонь», «Асот», паказаліся яшчэ ў «Маланцы». У 1933 годзе ў «Родным краі» М.Засім пад сваім прозвішчам друкаваў рэчы побытавай сатыры. Для паэта было арганічным і ярка выражаным менавіта гумарыстычна-сатырычнае бачанне рэчаіснасці. Верш М.Засіма быў блізкі да народна-паэтычнага гумару, але вылучаўся індывідуальным стылем выказвання, нёс на сабе знак натуры самабытнай, самавітай. Прынамсі, два гумарыстычна-сатырычныя вершы М.Засіма 30-х гадоў «Парагвай» і «Мы нічым так не багаты» сталі хрэстаматыйнымі. Саркастычны ракурс погляду дазволіў паэту вельмі ёміста абагульніць тыя «даброты», што далі заходнім беларусам эндэцкія ўрады даваеннай Польшчы і сам Пілсудскі:

…Наша школа — мур за кратай,
Наш тэатр — то секвестратар,
Кіно наша — у шынку,
Воля наша на шнурку.[1]

Амаль у аднначассі з М.Танкам, хто на год, хто на два-тры пазней на літаратурную ніву Заходняй Беларусі ўступілі паэты Анатоль Бярозка, Сяр-

[1] Засім Мікола. Мы нічым так не багаты… // Выбранае. Мн., 1960. С. 21 і 25.

гей Хмара, Анатоль Іверс, Алесь Дубровіч, Сяргей Крывец, Ніна Тарас. Гаварыць аб істотным укладзе апошняй генерацыі літаратурнага маладняка ў заходнебеларускую літаратуру праблематычна, тым не менш нейкі след, больш і менш прыкметны, імі ў ёй усё ж пакінуты. С.Хмара, А.Іверс, так бы мовіць, пад занавес гістарычнага, пры ўсёй яго двухсэнсоўнасці ў святле дакументальных фактаў, акту 1939 г. паспелі выпусціць у віленскіх выдавецтвах свае першыя нніжкі.

Сяргей Хмара (Сіняк, 1912—1992), мяркуючы па часопісных публікацыях, як паэт рос паволі. Магчыма прычынай замаруджваная паэтычнага росту была ранняя турма, няпросты пошук свайго месца ў постграмадаўскія часы ў вызваленчым руху. Водгалас драматычных перажыванняў глуха адчуваецца ў вершах зборніка «Жураўлінымі шляхам», хоць дамінуе ў ім бадзёры, аптымістычны настрой. Усведамленне мінулага, рабскага

«жабравалі на каленях,
ганьбв гімн сваёй пяялі»[1]

пераадольваецца адчуваннем свабоднай будучыні і моцы змагацца за яе прыход. У дынамічным рытме маштабных і лакальных вобразах паэт умее перадаць сваю веру, упэўненасць у здольнасць вызваленчага руху, маладых сіл Беларусі супрацьстаяць няволі, паніжэнню і перамагчы:

Чуеш? Ці чуеш?! Ідзе пераклічка:

Дзісна, Горадня, Бельск…
Слонім, Палессе. Хто іх паліча?
Голас вясковых аселіц.

Чуеш, як гойкаюць? То ж пераклічка! —
Моцны мы! Цвёрды! Жывы!
Цягліцы пружацца, сэрцы крынічаць…
Мы ж — авангард веснавы!2

У праграмным вершы «Мы», ім адкрываецца зборнік С.Хмары, палемічна выказвае крэда мастака-змагара, пакаленне маладых паэтаў-змагароў, ад імя якіх прамаўляе, называе «маладой ускалоссю Вялікай Сябрыны», а чао, які выпаў ім, — часам, «стагоддзі, што ломіць». Паэтычна-вобразная сістэма вершатворчасці Сяргея Хмары наглядна выяўляе арганічную засвоенасць маладым паэтам мастацкана досведу еўрапейскага літаратурнага авангарда:

[1] Хмара Сяргей. Жураўлінім шляхам. Вільня, 1939. С. 26—27.
[2] Тамсама. С.3-4.

Нeяк рвуцца ўсё словы,
Верш га?зьлівы штось, —
Бо ў гароце вясковай
Атрымалі мы хрост.
Жадных правіл, асноваў! —
Гэта чорт знае што!
Лапцем лезе лазовым,
Брудзіць нам хараство!
Мовіць пэўна трэ' шчыра:
Між нарцызаў — асот!
Так! Між пэрлаў настырай
Крыві крапліны…пот…
І праз краты, праз дроты,
Заскарузлай рукой,
На Парнасе ілоты
Узьнялі неспакой.
Што ж — да звягі прывыклі.
Не саб'юць! Сталь ня шкло.
Мы Сябрыны Вялікай
Маладая ўскалось.
І хоць рваныя словы
Кантаватасці скрозь —
Час, стагодздзі, што ломіць,
У нашы вершы урос.

У часопісе «Калоссе» С.Хмара засведчыў даволі вострае пяро публіцыста і эсэіста[1].

Анатоль Бярозка (Мацей Смаршчок, 1915 г,н.), выпускнік медыцынскага факультэта Віленскага ўніверсітэта, хутка перадолеў перыяд паэтычнага вучнёуства і ўзняўся на даволі прыстойны мастацкі ўзровень у сваёй творчасці. Аде друкаваўся мала. Паэзія А.Бярозкі развівалася ў агульным для перадавой літаратуры Заходняй Беларусі ідэйным речышчы, як апазіцыйная да рэжыму. Галоўныя матывы паэзіі А.Бярозкі адлюстроўвалі нацыянальныя і сацыяльныя праблемы заходнебеларускай рэчаіснасці, заўсёды між сабой цесна звязаныя ў беларускім быцці. Паэтычнае выказванне ў А .Бярозкі часта набывала форму медытацыі. Адпаведна верш яго развіваўся найчасцей у эпічнай традыцыі. Паэт імкнуўся да максімальнай метафарызацыі мовы: гэтага патрабавалі ад заходнебеларускага пісьменніка не толькі законы мастацтва, што само па сабе зразумела, але і законы аўтарытарнага рэжыму — метафарай можна змадэліраваць думку забароненую, стоена сказаць нешта крамольнае ў вачах улады, Уласна палітычны сэнс мелі шматлікія метафары лірыкі М.Танка. Метафорыка А.Бярозкі бяднейшая, але і ён у сваіх медытацыях часам уздымаўся да шырскага мастацкага абагульнення, высноўваў вобраз Радзімы:

[1] Калоссе. 1938. Кн. 4 (17). С.28-210; Калоссе. 1939. Кн.2 (19). С. 71—74.

Поле, далёка — шырока поле… І неба над полем
Сіняе! Неба бяздоннае… Шолах вячэрні палёў
ціхі, ях песня а грудзей набалелых, што ветру парывам
па струнах вечару ймкне… І слухаюць нівы…
Гэта песня, што полымем пеніць кроў…
Гэта песня — аб волі!

Гэтта, па гэтых курганах
вякамі здабычу дзялілі чужыя багі і цары
і крывавыя іх аўтары дыміліся доўга —
нашай крывёю.

З думай-песняй ад хатаў шырока-разгонную
Вечар, сэрца, магілы і поле зліліся ў адзіны псалм —
Крывія!..[1]

На фоне цяжкаватага поступу радка, рытмаў Анатоля Бярозкі верш Анатоля Іверса (Івана Міско, 1912 г.н.) вылучаецца акварэльнасцю. У Іверса лёгка вар'іруюцца настраёвыя пейзажныя матывы, на якія кладуцца, аднак, час ад часу цені глыбейшых, сацыяльна дэтэрміваваных перажыванняў. Паэт прызнаецца, што песні «часамі праціснуцца трудна праз лёс наш пакутны». У вершы «Загарэліся іскрамі зорнымі» Іверс асэнсоўвае некаторыя палітычныя рэаліі заходнебеларускай рэчаіснасці, праз пейзажны матыў лапідарна перадае лёс сям'і зняволенага ў астрозе земляроба. Лірычны герой А.Іверса — рамантык. Ён гатоў вартаваць зару, сабраць зоркі, каб сыпнуць іх на славу роднай Беларусі (вершы «Я выйду ў прастор безбярэжжаў», «Да жніва», «У шуме жыта»). У цэлым жа грамадзянскія матывы зборніка Іверса «Песні на загонах' яшчэ не адліліся ў высокапаэтычныя строфы, хоць лірыцы паэта наогул не бракуе пяшчоты, шчырасці, душэўнай цеплыні.

Як большасць паэтаў Заходняй Баларусі, цяжкую жыццёвую школу прайшоў Сяргей Крывац (1909—1945 гг.). Многае з перажытага паэтам было наканавана агульным беларускім лёсам: бежанскае дзяцінства, маладосць, растрачаная хлопцам з наднёманскай вёскі ў пошуках хлеба, наёмнай працы цесля ў Гродне, Беластоку, заўчасная смерць пад Гдыняй вясною І945-га, калі трэба было прыспешыць перамогу над фашызмам.

Вялікі знаўца і прыхільнік заходнебеларускай паэзіі, яе апякун, выдавец і крытык Р.Р.Шырма ў прадмове да пасмяротнай кнігі вершаў С.Крыўца даваў высокую ацэнку асобе і таленту паэта: «Сяргей Крывец быў паэтам-грамадзянінам, які заўсёды з запалам выступаў супраць тых, хто нясе няволю народам, хто творыць гвалты над светам»[2]. І яшчэ: «…Гэта быў цудоўны, востры і моцны талент»[3]. Знаёмства з творчасцю С.Крыўца пераконвае

[1] Поле, далёка-шырока поле // Калоссе. 1936. Кн. 2 (6). С. 89.

[2] Крывец Сяргей. Дубок. Мн., 1972. С. 5.

[3] Тамсама.

ў справядлівасці выказанага патрыярхам беларускай культуры, у ва ўсім напісаным С.Крыўцом адчуваецца неардынарная чалавечая асабовасць, глыбокая, пазбаўленая эгацэнтрызму. У вершаваных радках, снаваных сталяром беластоцкіх будоўляў, чуецца гарт душы, шырокі кругагляд, дасягнуты дапытлівым розумам, мэтанакіраванай самаадукацыяй.

С.Крывец па-свойму, адметна адлюстраваў у паэтычным слове крызісныя трыццатыя гады, час не толькі гаспадарчага заняпаду ў Польшчы, але і наступу «санацыйнага» рэжыму на сацыяльныя і нацыянальныя правы працоўных, У душы паэта жыў дух няскоранасаі грамадскім нягодам. «Няма закону быць рабамі», — як пратэст, перакананне вырывалася з паэтавых грудзей[1]. Вера ў сілы народнага супраціўлення рэжыму, чужому яго народу, па сутнасці варожаму чалавеку працы выказвалася Крыўцом лапідарна, але ніколі дэкларатыўна. За словам паэта стаяў сацыяльны вопыт, напружаная праца думкі, вера ў ідэал:

Мы ідзём. Дык хай жа значаць
След наш чорныя крыжы, —
Нас ужо не апалячыць
Мы жывём і будзем жыць!2

Гутарку аб беларускім мінулым С.Крывец пачынае нечакана, з бяседы-развагі са сваёй рабочай артэллю. Прычыну таго, чаму «абдзіралі нас да ніткі, акрывалі ў сорам», паэт-рабочы бачыць у няўменні беларусаў «жыці ўласнай доляй» і пры гэтым робіць адзіна лагічны вывад:

Мы даволі паслужылі,
Час пагаспадарыць.[3]

Апанентаў жа сваіх вершаў з беларускай мінуўшчыны ды цяпершчыны (ці ж бо мала іх было?) апярэджвае простым і пераканаўчым довадам:

Бедны самі — дух багаты,
Ідэал вялікі.[4]

Сацыяльны ракурс бачання і адлюстравання заходнебеларускай рэчаіснасці ў С.Крыўца — востры, выяўленча арыгінальны. Выява яе грунтуецца на асабістым перажыванні паэта, перададзеным з досціпам, іроніяй (вершы «Крызіс», «Сыплюць думкі», «Шэрая гадзіна»). Паэтычны сінтаксіс С.Крыўца мае размоўную аснову, вылучаецца сціслацю фразы, афарыстычнасцю мастацкага абагульнення.

1 Тамсама. С.15.
2 Тамсама. Мы жывём. С.48.
3 Тамсама. Да нас выйдзі. С.54-55.
4 Тамсама.

Нягледзячы на дзяржаўную мяжу, што раздзяляла, як афарыстычна выслаўляліся ў той час, два светы, сувязь больш і менш інтэнсіўная, паміж літаратурамі Заходняй і Ўсходняй, Савецкай Беларусі існавала на працягу ўсяго міжваеннага дваццацігоддзя. Яна грунтавалася на этнічным адзінстве і была адной з праяў нацыянальнай кансалідацыі, што адбывалася па два бакі Рыжскай граніцы, асабліва ў 20-я гады.

Публіцыстыка ў агульным духоўным працэсе Заходняй Беларусі 30-х гадоў па прычынах аб'ектыўных ужо не адыгрывала той актыўнай ролі, якая выпала ёй у 20-я гады, асабліва на іх пачатку. Магчымасць свабоднага выказвання думкі ў Польшчы 30-х гадоў была моцна абмежавана, мінімалізавалася. Тым не менш у сістэме жанраў літаратуры Заходняй Беларусі публіцыстыка працягвала займаць не апошняе меспа. І гэта нягледзячы на тое, што ў 30-я гады з прычын маральна-этычных, а па сутнасці палітычных, адмовіліся ад публіцыстычных выступленняў у друку два вядучыя літаратары-публіцысты А.Луцкевіч і Ў.Самойла. Хоць заступіць такія творча моцныя асобы было няпроста, поле публіцыстыкі Заходняй Беларусі перадваенных год не пуставала: падыйшла маладая змена. З мініпублцыстыкай па розных беларускіх актуаліях у часопісе «Шлях моладзі» (1929—1940) пастаянна стаў выступаць Язэп Найдзюк. Публіцыстычная практыка дапамагла яму пазней зрабіць жывы накід гісторыі беларускай ідэі ў кнізе «Беларусь учора і сёння» (1940). На публіцыстычны жанр спарадычна выходзіў і актыўны даследчык беларускай грамадскай думкі, аўтар кніг «Кастусь Каліноўскі», «Мужыцкая праўда» і «Ідэя незалажнасці Беларусі» (1933), «Да гісторыі беларускага палітычнага вызвалення» (1936), «Беларускі хрысціянскі рух» (1939) Адам Станкевіч (1891-1949). У артыкулв «Цені і бляскі» публіцыст з пазіцый інтарэсаў беларускага народа аналізаваў канцэпцыю культуры, сфарміраваную ідэолагамі таталітарызму, яе лозунгавае выражэнне «нацыянальная формай, камуністычная зместам», Аўтар артыкула стараецца аб'ектыўна раскрыць дыялектыку афіцыйнай ідыялагемы, аднак, паколькі не спасцігнуў яшчэ сутнасць новай сістэмы ва ўсёй яе паўнаце, дапускаў некаторыя ілюзіі наконт школ на роднай мове, друку. Праўда, выказаў засцярогу, выкліканую анімічнасцю твораў, збудаваных паводле прапагандаванай як новыя скрыжалі на шляхах культуры канцэпіцыі[1].

Утылітарны сэнс, выкліканы жорсткай палітычнай практыкай даваенных польскіх ўрадаў у нацыянальным пытанні, мела публіцыстычнае выступленне Ад.Станкевіча, прысвечанае этычным асновам нацыянальна-культурных правоў нацыянальных меншасцяў[2].

Да шырокага круга праблем, падказаных, прадыктаваных беларускімі актуаліямі, звяртаўся ў сваёй публіцыстыцы 30-х гадоў Ст. Грынкевіч. Інтэлігент-інтэлектуал Грынкевіч па-грамадзянску рупіўся аб розных аспектах

[1] Станкевіч Ад. Цені і бляскі, Да лозунгу «Культура нацыянальная формай — камуністычная зместам» // Калоссе. 1935. Кн. 4. С. 213—216.

[2] Станкевіч Ад. Эпічныя падставы нацыянальна-культурных правоў нацыянальных меншасцяў // Калоссе. 1937. Кн, 3 (12). С. 158—160.

жыцця беларускага народа як нацыі. Аб'ектамі яго прафэсійнага зацікаўлення і тэарэтычных абагульненняў былі характар беларуса, узгадаванне гарманічнай чалавечай асобы, падставы культуры і задачы беларусаў у гэтай сферы[1]. Публіцыстыка Грынкевіча вылучалася трывалай навуковай асновай.

Тэма, якая спачатку 30-х гадоў, адразу недаўмённа, затым з году ў год усё трывожней гучала са старонак друку, у літаратуры Заходняй Беларусі, датычыла праследвання думкі, масавых рэпрэсій супраць мастацкай і навуковай інталігецыі ў СССР і, у прыватнасці, у Савецкай Беларусі.

Мяркуючы з пазіцый сённяшняга дня, гэта няпростая праблема аб'ектыўна вырашалася ў публікацыях А.Луцкевіча, Ф.Акінчыца яшчэ на пачатку 30-х. Названыя аўтары разглядалі яе ў кантэксце беларускага вызваленчага руху і закранулі розныя аспекты прыроды таталі тарнай сістэмы, хоць самога тэрміна «таталітарызм» не ўжывалі. У другой палавіне 30-х, з нарастаннем эскалацыі тэрору, палітычных рэпрэсій у СССР, гэта балючая для мыслячых людзей тэма, да канца незразумелая нават такімі еўрапейскімі пісьменнікамі, як Л.Фейхтвангер, Р.Ралан, Б.Шоў, змястоўна інтэрпрэтавалася ў заходнебеларускім друку публіцыстам і крытыкам А.Бужанскім[2]. Малады беларускі літаратар даў сціслы агляд палітыкі царызму ў дачыненні да Беларусі, адносін Часовага ўраду да беларускага пытаныя, назваў прычыны талеранцыі савецкай улады да нацыянальных рухаў на этапе яе станаўлення. Аб'ектыўна кажучы, ён пазначыў генезіс фарміравання савецкай таталітарнай сістэмы і на прыкладзе Савецкай Беларусі паказаў, які татальны характар тут набыло знішчэнне ўсіх духоўных падстаў развіцця народа. Атрымалася карціна ўражлівая ў дэталях і ў абагульненні. А.Бужанскі быў не толькі добрым аналітыкам, але і валодаў пластыкай слова. Яго крытычныя матэрыялы ў друку вылучаліся яскравым індывілуальна-вобразным стылем (Да канца ідэнтыфікаваць асобу А.Бужанскага не ўдалося. Рэдактар «Калосся» Я.Шутовіч называў як сапраўднае прозвішча публіцыста Барэйка, а Надбужжа — месцам нарадзін А.Бужанскага. Ёсць і іншыя версіі.)

У цэлым публікацыям А.Бужанскага ўласцівы незалежны погляд на многія з'явы, у тым ліку на гісторыю беларускага вываленчага руху, на сучасны пісьменніку яго стан, на літаратуру Заходняй Беларусі. Нельга сказаць, што крытычныя заўвагі публіцыста грашаць празлішнім суб'ектывізмам. Вобразныя абагульненні А.Бужанскага, на першы погляд можа экстравагангныя, грунтуюцца на аналізе сукупнасці рэальных фактаў суровай беларускай рэчаіснасці. У артыкуле «На пераломе» крытык канстатаваў: «канец трыццатых гадоў вашага сталецця будучыя даследчыкі нацыянальных рухаў назавуць у беларусаў канцом беларускага Адраджэння. Першая ліквідацыя «нацдэмаўшшны» на ўсходзе і Грамады» на Захадзе — вось гранічныя капцы закончанага перыяду»[3]. І далей, выходзячы на размову пра творчасць

---

1 Грынкевіч Ст. З зацемак аб характары беларуса //Калоссе, 1935. Кн. 3; яго ж. Культура і загады нацыянальнае працы // Калоссе, 1935. Кн. 3; яго ж. Аб тэатры // Калоссе. 1935. Кн. 3.

2 Бужанскі А. У аблічччы расейскага тэрмідору // Калоссе. 1938. Кн. 3 (16). С. 178—183.

3 Бужанскі А. Недахопы «айцоў». Аб направе нацыянальнай ментальнасці // Калоссе. 1936. Кн. 4. С. 244—250.

М.Танка, у якім убачыў пачынальніка новага этапу, новай пары ў беларускай літаратуры, А.Бужанскі без ілюзій ацэньваў перспектывы развіцця літаратуры ў Савецкай Беларусі, прадставіўшы адначасна самы высокі рахунак і літаратуры Беларусі Заходняй: «У той час, калі з беларускай літаратуры на Ўсходзе сілком зрабілі рыкшу… літаратура на Захадзе пачала таптацца на месцы, узбагачаючы форму і шліфуючы дэталі. Паўстала паэзія зачараванага кола, каторую цягнулі песняры ў ярме старых канонаў.

Потым — зарысаваўся аілуэт Макоіма Танка«[1].

Паэзія М.Танка з другой палавіны 30-х гадоў аб'ектыўна становіцца ў цэнтры ўвагі ўсёй літаратурнай крытыкі Заходняй Беларусі. Да аналізу яе акрамя А.Бужанскага звяртаюцца А.Станкевіч, Р.Баравы, В.Путрамант і Ст.Станкевіч. Станіслаў Станкевіч (1907— 1980) як крытык і літаратуразнавец сфарміраваўся цалкам у заходнебеларускіх умовах, у якіх свабодная, незалежная беларуская думка, нягледзячы на ўціск з боку польскай улады, заставалася фактарам грамадскага жыцця.

Да аналізу творчасці М.Танка Ст.Станкевіч падыйшоў ужо маючы пэўную практыку крытычнага асэнсавання літаратурнага мастацтва. Акрамя эцюдаў пра паэзію М.Машары і Н.Арсенневай, ён апублікаваў змястоўны разгляд творчасці паэтычнай кагорты Савецкай Беларусі на чале з Я.Пушчам і Ў.Дубоўкам, якая, паводле слоў заходнебеларускага крытыка, «творыць адзін з найпрыгажэйшых раздзелаў у гісторыі Беларускае літаратуры»[2]. Ст. Станкевічам упершыню ў беларускім літаратуразнаўства была шырока пастаўлена і асветлена прынцыповая праблема ўплыву беларускага фальклору на станаўленне польскай рамантычнай паэзіі[3].

Падзяляючы погляд на мастацкі феномен М.Танка іншых крытыкаў беларускіх і польскіх, і перш за ўсё А.Бужанскага, Р.Баравога, Е.Путрамента, Ст.Станкевіч паўней асэнсоўвае паэтычны набытак, прынесены маладым паэтам у айчынную літаратуру. Разглядае творчасць М.Танка ў шырокім кантэксце літаратурна-мастацкага развіцця на Беларусі, асаблівую ўвагу ўдзяляла мастацкай прыродзе Танкавай паэзіі, эстэтычнай функцыянальнасці ў ёй слова[4].

Пры ўсёй актыўнасці літаратурнай крытыкі 30-х гадоў у Заходняй Беларусі другое месца за паэзіяй у агульным літаратурным працэсе ўсё ж займала літаратуразнаўства. Звязана гэта было з прыходам на гуманітарныя дзялянкі працы выпускнікоў філалагічнага, гістарычнага, юрыдычнага факультэтаў Віленскага і Пражскага ўніверсітэтаў. У 30-я гады былі выдадзены два гадавікі, у 1933 і 1938 гадах, Беларускага навуковага таварыства ў Вільні. Нямала беларусазнаўчых прац па гісторыі, літаратуразнаўству, лінгвістыцы друкавалася ў часопісах «Нёман», «Калоссе». Ужо на пачатку 30-х у Вільні выходзіць першая манаграфія, прысвечаная жыццю і дзейнасці Ф.Багушэвіча[5].

---

1 Бужанскі А. На пераломе. Заўвагі да творчасці Максіма Танка // Калоссе. 1937, Кн. 4 (13). С. 209.

2 Станкевіч Ст. На шляхах новай беларускай паэзіі // Маладая Беларусь. Вільня, 1936. С.14-22.

3 Stankiewicz St. Pierwiastki biaoruskie w polskiej poezii romantyvznej. Wilno, 1936.

4 Каліна С. На парозе новае эпохі ў беларускай літаратуры // Калоссе. 1938. Кн. I (14). С. 20—39.

5 Stankiewicz Ad. Franciљ Bahuљevіи. Jaho ћyccio i tworиasc. Wilnia, 1930.

А.Луцкевіч, які к гэтаму часу цалкам засяродзіўся на літаратуразнаўстве, працягвае даследаванне творчасці Янкі Купалы і Максіма Багдановіча. Піша працу пра Купалу як паэта-вешчуна, носьбіта беларускай ідэі, духоўнага правадыра народа[1]. Дзве публікацыі А.Луцкевіча пра М.Багдановіча прысвечаны адпаведна даследаванню фарміравання светапогляду паэта і крыніцам яго паэзіі[2]. У абодвух артыкулах літаратуразнаўцам абагульнены вельмі вялікі матэрыял, які дазволіў глыбей спасцігнуць многія з'явы ў творчай спадчыне паэта, яго значэнне для адраджэння Беларусі. Навіна-Луцкевіч сваімі росшукамі ўзбагачаў методыку беларускага літаратуразнаўства. Ужо ў даваенныя часы ён арганічна выходзіў на тыпалагічныя метады даследавання. Аналізуючы паралельна вобразы аповесцей М.Гарэцкага «Дзве душы» і яго польскага сучасніка Ст. Жаромскага «Прадвесне» як твораў, што мастацка даследуюць стан грамадства на зломе эпох, А.Луцкевіч і праз гады дапамагае дакладней расчытаць неардынарны твор беларускага класіка[3].

Ні да літаратурнай крытыкі, ні да актуальнай публіцыстыкі ў перадваенную пару не вярнуўся ўжо Ў.Самойла, знакаміты Сулі-на-Чэмер. Сярод культуралагічных публікацый яго пра М.Рэрыха, Ф.Шаляпіна, М.Забэйду-Суміцкага, хор Р.Шырмы адна, прысвечаная 750-годдзю «Слова аб палку Ігаравым», насіла гісторыка-літаратуразнаўчы характар, мела на мэце маральна падтрымаць заходнебеларускую інтэлігенцыю ў скрушны для яе час[4]. На парозе Еўропы стаяла Другая сусветная вайна, філосаф, неардынарны палітолаг і літаратар Ул.Самойла прадбачыў яе трагічны плён.

Такім чынам, літаратура Заходняй Беларусі на працягу дваццацігадовага свайго існавання як самастойнай інтэгральнай часткі нацыянальнай мастацкай культуры беларускага народа была выразніцай свядомасці заходніх беларусаў, іх спадзяванняў, спадарожніцай у вызваленчым змаганні.

За час між двума войнамі яна прайшла некалькі этапаў развіцця, суадносных з поступам грамадства, рознымі перыядамі нацыянальна-вызваленчага руху. Першы з іх характарызаваўся інтэнсіфікацыяй грамадскай думкі і знайшоў выраз у актуальнай публіцыстыцы і філасофска-літаратурнай эсэістыцы, угрунтаваных на беларускай ідэі. Значнымі былі на пачатку 20-х гадоў у літаратурнай Заходняй Беларусі і дасягненні ў драматургіі.

У цэлым першы этап літаратурнага развіцця Заходняй Беларусі найпаўней рэпрэзэнтавалі Ў.Самойла, А.Луцкевіч, І.Канчэўскі, І.Родзевіч, Ф.Аляхновіч, М.Краўцоў.

Другі перыяд быў звязаны з легальнымі формамі беларускага руху, перадусім з БСР Грамадой, што паклікала да жыцця масавую паэзію. На грамадаўскай хвалі ўздыму вызваленчага руху ўвайшло ў літаратуру ўжо

---

1 Навіна. А Янка Купала — прарок Адраджэння. Вільня, 1932.

2 Навіна А. Праблема сфармавання нацыянальнае душы Максіма Багдановіча // Калоссе. 1937. Кн. 4 (13). С. 218—224; яго ж. Да крыніцаў гворчасці М.Багдановіча // Калоссе. 1937, Кн. 3 (20). С.163-167.

3 Н.А. Абдзіраловіч і Барыка // Калоссе. 1939. Кн. I (18). С. 15—I9.

4 Чэмер У. Вялікі скарб нашай старасведчыны // Калоссе. 1938. Кн 2, 3, 4. С. 77-83, 138-146, 199-206.

ўласна заходнебеларускае пакаленне паэтаў: А.Салагуб, М.Машара, Хв. Ілляшэвіч, М.Васілёк, Н.Арсеннева, В.Таўлай. З сярэдзіны 20-х гадоў крыху памножыла свае мастацкія здабыткі літаратура Заходняй Беларусі за кошт малых жанраў эпікі (апавяданні В.Грывіча, Палачанкі; П.Чабора—П. Асакі і іншых).

Трэці перыяд, які абыймаў 30-я гады, не меў такога выразнага ўнутранага падзелу, як у папярэднім дзесяцігоддзі. Ён характарызаваўся дамінаваннем паэзіі, паглыбленнем у ёй сацыяльных матываў, уздымам літаратуры ў цэлым на вышэйшы ідэйна-мастацкі ўзровень. Нарэшце, — прыходам у літаратуру Заходняй Беларусі М.Танка.

У сувязі з тым, што літаратура ў 30-ыя гады ў Савецкай Беларусі трапіла пад жорсткі ідэалагічны кантроль і, падуладная інстытутам таталітарызму, мо магла ў поўную меру выконваць сваёй натуральнай грамадскай функцыі, публіцыстыка, крытыка і культуралогія Заходняй Беларусі заставаліся перахоўніцай знічу нацыянальнага духу. У гэтым сягоння — немалое іх гісторыка-пазнавальнае значэнне.

У сувязі з актуалізацыяй сягоння такіх фундаменталыных паняццяў, як незалежнасць, ментальнасць нацыі, духоўнасць народа істотнае значэнне набываюць здабыткі думкі заходнебеларускіх аўтараў літаратурна-філасофскай эсэістыкі і публіцыстыкі.

Арыентацыя паэтаў Заходняй Беларусі на высокія гуманістычныя ідэалы свабоднай працы, свабоды чалавечай асобы, свабоды народа спрыяла ўзлёту духу, стварэнню імі непрамінальных эстэтычных каштоўнасцей.

*1996*

# 3. НА ГРУНЦЕ НАВУКІ

## Браты Гарэцкія

У рамане «Камароўская хроніка» Максім Гарэцкі сцісла, на манер старабеларускіх летапісаў апавядае пра гісторыю аднаго сялянскага роду ад даўнейшых часоў, як іх толькі сягала памяць дзядоў-прадзедаў, аж да 30-х гадоў нашага стагоддзя, калі ў асноўным складалася, пісалася гэта своеасаблівая кніга-эпапея народнага жыцця. Мастак філасофскага складу М. Гарэцкі ў сваім галоўным творы (так, дарэчы, думаў аўтар, да такой высновы прыходзіць і сучасная крытыка) асэнсоўваў лёс народа, тую жыццёвую тфываласць, маральнасць, якія ўзгадавалі ў чалавеку праз вякі нялёгкія ўмовы працы на раллі.

Аддаючы даніну ўдзячнасці вёсцы, яе людзям, роднай зямлі, пісьменнік разам з тым даследаваў прыродную глебу беларускай інтэлігенцыі. Тэма інтэлігенцыі ўзнікае ў рамане ра зам са з‘яўленнем у сялянскім родзе Ваяводаў першых яе прадстаўнікоў: маладога,рана памерлага настаўніка Міхалкі, затым Лявона, ма рынкі, Лаўрыка…

У праблеме інтэлігенцыі, а яе Максім Гарэцкі ніколі не выпускаў з поля зроку ні ў сваіх мастацкіх творах, ні ў навукова-практычнай працы, у розныя гады цікавілі пісьменніка розныя аспекты. У ранніх апавяданнях перыяду зборніка «Рунь» (1914) Гарэцкага непакоіла думка аб вернасці беларускай інтэлігенцыі, якая доўгі час дэнацыяналізавалася, адрывалася ад роднага карэння, свайму народу, дэмакратычным вытокам, перакананням. Час напісання «Камароўскай хронікі» аб‘ектыўна ставіў перад мастаком, адказным перад людзьмі, светам, нарэшце, сваім талентам, праблему пошуку сацыяльнага, гістарычнага аптымізму, праблему неабстрактную для інтэлігенцыі заўсёды. Для беларускай — у асобнасці.

Галоўная ж кніга М. Гарэцкага рэалізавалася, набліжалася да завяршэння ў спецыфічных экстрэмальных умовах. Пасля сямі год, пражытых у Менску і ў Горы-Горках, гадоў на рэдкасць плённых, шчаслівых, пісьменнік раптам апынуўся ў адміністрацыйнай высылцы ў Вятцы. Па адзінаццаці месяцах выпрабаванняў, подла жорсткіх ілжывасцю і каварствам абвінавачанняў, Гарэцкі сам, з таварышам па рабоце ў Горацкай сельгасакадэміі прафесарам І. А. Кісляковым ехаў на поўнач. У Вятцы застаў Нічыпара Чарнушэвіча. Разам шукалі першага прыстанішча, работы. Спачатку ўзяў быў одум. Жыццё так неспадзявана крута павярнулася — і якраз тады, калі, здавалася, перад ім, яго народам адкрыўся такі шырокі далягляд. Одум цяжкі, пакутлівы

толькі крыху, зболыпага адбіўся ў яго кароткіх лістах у Менск, дзе заставалася аглушаная раптоўнай бядой, хоць ужо і звычная да многага, яго сям‘я, Леаніла, дзецi. Выбіты з жыццёвага тору пісьменнік-філолаг думаў: «Можа, заняцца тэхнікай? Нечым далекім ад няпэўнага, нават помслівага ў яго лёсе Слова?..» Лісты ад Гурыка (жыццё малодшага брата цяпер таксама гвалтоўна заламалася, а ўжо колькі часу яны ішлі поплеч) прынеслі нейкае адхланне. З‘яўляліся прасветліны ў настроі, калі чытаў у Гурыкавым лісце, прысланым Кемі: «Прыбой б‘е, крычаць марскія чайкі. Здаецца, край зямлі. Скрозь скала, галізна, і раптам, не верыш вачам — васілёк цвіце». Пісьмы малодшага, акадэміка-эканаміста, які пачынаў цяпер нанава, спачатку, ад радавога геолага разведчыка, дыхалі аптымізмам. Гурыку яўна шанцавала на людзей у тым новым месцы (трапіліся сярод іх ленінградцы, прызнаныя геолагі і спагадныя, інтэлігентныя людзі), шанцавала на нечаканую блізкасць да таямніц зямлі, практычную геалогію, да якой, зрэшты, малодшы Гарэцкі даўно быў неабыякавы. Мабыць, з часоў навучання ў Маскве, у Ціміразеўцы і яшчэ раней, калі пасля заканчэння Горацкага камор ніцка-агранамічнага вучылішча ў 1920 годзе быў накіраваны на землеўпарадкавальныя работы ў Башкірыю.

Крыху зачапіўся за новы грунт (прынялі чарцёжнікам на фабрыку вучэбных дапаможнікаў, у аддзел капітальнага будаўніцтва, агораў невялічкі праходны пакойчык) і ён, Максім са знаёмым непакоем пацягнуўся да сваіх няскончаных старонак.

У лісце да жонкі Леанілы Усцінаўны ад 24 верасня 1931 г. (на трэцім месяцы побыту ў Вятцы) турбуецца пра свае літаратурныя матэрыялы: «Ці вярнулі ў партфелі «Сямейную хроніку»?» А трохі счакаўшы, просіць: «Лёля, вышлі мне бандэроллю мае нататкі пра «Віленскіх камунараў»… можа, я тут іх апрацую да друку». Праз нейкі час, як звычайна, каротка, сцісла: «Цяпер я раблю прадольны і пяць папярэчных профіляў дрэваапрацоўчага цэха. Работы многа. А ў вечары чытаю «Гісторыю цывілізацыі Англіі» Бокля і канчаю апрацоўваць «Віленскіх камунараў». Нічога выйшаў нарыс, але папрацую яшчэ». Па атрыманні рукапісу «Хронікі» у адным з лістоў: «Запісаўся «Кронікаю» Атрымаў бандэроль, надта вам дзякую. Як быццам роднае нешта маё прыйшло ў хату. І хоць усімі сіламі хачу скараціцца, каб хутчэй, і хапаюся, але прыемна мне і радуюся, што на лад пісанне маё патрошку пайшло». Зварот да творчасці праз год з лішкам (адарваны ад рабочага стала пісьменнік быў у ліпені 1930 года) вярнулі настрой і надзею. Спяшаўся хутчэй рэалізаваць пачатае, спадзяваўся ўбачыць надрукаваным.

Мінула паўгода новага бытавання, і ў лісце да родных раскавана, радасна з прадчуваннем на заўтра выхаднога дня, права належаць сабе самому:

«Добры вечар, цярплівая Ласка! Добры вечар, парасткі малыя! Заўтра ў Задумекуса выхадны дзень. Зараз ляжа Задумекус у свой аблезлы човен і панясецца на выспу Патмос. У той дарозе можа спаткаць любых сэрцу сваймy, пабачыцца з імі, пагаманіць. Цёпла будзе блазеннаму, бо ў каморы яго сёння настрой Арктыкі і кіно-парад скарбаў жыцця перад задуменнымі вачыма».

Ішла работа думкі, праца душы. Вялікай патоляй быў той міфічны востраў, узвышэнне між будняў, не сваёй работы, утрапення. Далёкае ідаць было з таго сціплага пакойчыка, згубленага ў бясконцым свеце. Чаго толькі не праходзіла перад духоўным зрокам пісьменніка. Усё жыццё. А яно за няцэлых сорак пражытых гадоў такі добра ўжо павадзіла яго па сваіх жарсцвяных сцежках, дарогах. Думка свядома і міжволі найчасцей блукала ў крузе гарадоў, мясцін Багацькаўка — Горы-Горкі — Вільня — Смаленск — Менск — Вільня. Гледзячы цяпер з далёкага берага, ды адкуль ні глядзі, — там яго выток і працяг. Спасціжэнне жыцця, найважнейшага ў ім. Там роднае, запаветнае, пеpажытае — скарбы жыцця. Збіраліся яны на ўсіх дарогах… А што да ўмоў працы, то, папраўдзе, калі яны былі ў яго памысныя, добрыя. Усё жыццё — кароткія паўстанкі. Станцыі, калі і здараліся, то толькі дзве — Менск…Вільня.

Спачатку была Вільня. Лёс тройчы прыводзіў Гарэцкага ў гэты старадаўні горад над Вяллёй. Першы раз дваццацігадовым хлопцам, адразу пасля заканчэння Горацкага каморніцка-агранамічнага вучылішча, незадоўга перад першай сусветнай вайной. Другі раз трапіў сюды Максім цяжка паранены ўвосень 1914 года. Трэці раз — вясной у 1919-м як карэспандэнт савецкай газеты «Звязда». У першы свой прыезд працаваў таксатарам, памочнікам каморніка ў ваколіцах Вільні. Наведваючыся ў горад, заходзіў у Беларускую кнігарню, што мясцілася на Завальнай, 7, у рэдакцыю газеты «Наша ніва». Тут пазнаёміўся, зблізіўся з Янкам Купалам, Цёткай, Алесем Бурбісам, Ігнатам Буйніцкім, Змітраком Бядулем, Лявонам Гмыраком, Іванам Луцкевічам… Мімаходзь сустрэўся з Ям[3] Коласам, з якім сысціся бліжэй задалося потым, ужо ў Менску. Тут, непасрэдна ў рэдакцыі газеты, шмат пачуў пра Максіма Багдановіча. Гэтыя людзі тварылі беларускі пеюыя дычны друк, будавалі падваліны нацыянальнага тэатра, асобныя з іх, як Бурбіс, прапагандавалі ў падпольных гуртках сацыялістычныя ідэі. Усе разам яны адсланялі новую старонку ў гісторыі культуры свайго народа. На вачах маладога Гарэцкага адбывалася адраджэнне беларускага мастацкага слова, палітычнае станаўленне самога народа, узрастанне яго дэмакратычнай духам і складам літаратуры. Мэта была высокая, адказная. Вартая таго, каб дзеля яе жыпь, ахвяраваць.

Як зводдалі часу, дык, можа, занадта адрываліся ад зямлі ў сваіх планах.

Зашмат летуцелі? Не азіраліся долу? Але хіба памыляліся ў галоўным, ідучы да народа, верачы ў яго прыспаныя сілы? Спадзеючыся, што адроджаны да свядомага духоўнага палітычнага жыцця, ён здолее стварыць «нешта такое, перад чым прыемна адчыніцца агульна-людская скарбніца векавечных здабыткаў культуры і цывілізацыі».

Хіба размінуўся з праўдай у нататках, эсэ, напісаных у маладыя гады, у Вільні перадрэвалюцыйных часоў? Хоць сабе ў развагах пра тэатр, яго значэнне ў духоўным жыцці народа «…Трэба паказаць беларусу са сцэны, што так жыць, як ён жывець, не можна, гэткага жыцця нельга трываць… І трэба яшчэ паказаць беларусу са сцэны, што ён — чалавек і што ён павінен мець свій чалавечы гонар і павінен дзетак сваіх гадаваць з сумленнем.

І трэба паказаць беларусу са сцэны, што ён маіць слаўнае мінулае… і што карані нашы родныя беларускія не згнілі, трывалыя і цягучыя, маюць жывы сок і жывую сілу і ўжо добрыя адросткі к небу гонюць… І трэба паказаць са сцэны беларусу, у які бок кіравацца яму, па якому «шляху жыцця» пайсці і якім чынам сілы сілы фізічнай і духоўнай набрацца.

Патрэбна паказаць з беларускай сцэны другім народам зямным, што за народ такі ёсць беларусы…» Няхай сабе ў эсэ яго таго часу буяў малады максімалізм, калі казаў, моцна верачы ў літаратуру, тэатр: «Пакажыце беларусу са сцэны, хто ён, чым ён быў, што ён цяпер, чым ён мог быць, гукніце яго са сцэны да новага жыцця і… гэты гаротнік беларус, пераканаўшыся, ужо знойдзе здольнасці парваць ланцуг рабства».

Канешна ж, маладосць гарачыла кроў, падбівала выказвацца ўзнёсла, гучнавата. Але хіба рамантычны туман засланяў яму вочы, хіба не быў ён рэалістам, не мог пацвердзіць і праз гады думкі, што сназаліся на жыццёвым ранку. Вось хоць бы сабе гэтыя, пра літаратуру: «А куды ж ісці ў творчасці нашым пісьменнікам? Пісаць жыццё, якое ёсць яно? Паказаць, якім магло б быць? Якім павінна быць? Ці не мастацкая праўдзівашнасць найлепшая дарога літаратуры нашай?»

Гэту праўду ён мог паўтарыць і сягоння, праз дваццаць гадоў і пры канцы жыцця, блізак ён ці далёк. Як мог бы паўтарыць і тую раду, якон у дваццаць год, паўзіраўпгыся на маладую беларускую літаратуру, дзяліўся тады, у пярэдадзень вялікай вайны, з маладымі братамі-пісьменнікамі: «Гадуйцеся на чытанні класікаў і ўдыхайце свежае паветра народнай паэзіі, пазнавайце прыгажосць гэтай паэзіі, а маючы ў сабе карэнні яе, тчыце праўдзівыя мастацкія ўзоры беларускага жыцця». І яшчэ пра мову, першаэлемент творчасці, фундамент духоўнага жыцця народа: «Мы забылі сваю мову; старадаўняя сіла і арыгінальнасць яе і гладкая гучная форма ў доўгія часы нашай няволі патроху псавалася… Вучыцеся мове і дбайце аб яе сіле і прыгажосці». І ніхто не пахісне яго, Максіма, веру ў трывалы духоўны пачатак, што ёсць у народзе, у простым чалавеку. Можа, трохі нешта перабольшыў ён у сваёй драматызаванай аповесці «Антон», сцвярджаючы мастацкім словам не так складанасць, як ускладнёнасць духоўнага свету беларускага селяніна. Можа, залішне паспешліва, катэгарычна абагульніў жыццёвы факт, узяты з роднай Мсціслаўшчыны? Убачыў нахіл да містыцызму, няхай сабе здаровага, там, дзе была індывідуальная трагедыя, абумоўленая сацыяльна: спадчыннасць, спароджаная векавой няволяй? Можа, крыху не там ляжала разгадка феномена сялянскай душы, псіхікі, дзе ён шукаў яе ў сваёй першай кніжцы. Перабольшыў цягу даўнейшага селяніна да патаёмнага? Зрушыў акцэнты ў жыцці?

Можа, па-маладому перабіраў ён калісь у палеміцы (а апанентаў усё сваё жыццё меў незамала, як толькі ўсвядоміў сябе сынам свайго народа, свайго часу), калі бараніў духоўную годнасць селяніна? Дый цяпер, вандруючы з сваімі прататыпамі-героямі «Камароўскай хронікі» па прасторах і часе, быў перакананы, што «ў простага старога селяніна-беларуса задумкі і адгадкі на пытанні агульналюдскія, на пытанні ўсясветнага характару — глыбокія, строгія, класічныя».

І ці так ужо ён разыходзіўся з праўдай, калі ў тых жа сваіх даўніх «Развагах і думках» цвярдзіў, што «літаратура такога простага народа і будзе мець пры добрых варунках значэнне і сусветнае»? Ды, зрэшты, не толькі «здаровы містыцызм» беларускага земляроба займаў яго ў пару напісання «Руні». Кніжку, можна сказаць, ядро яе склалі апавяданні пра лес маладой беларускай інтэлігенцыі. Адпачкаванне яе ад народнага ствала, шуканне ёю сваен глебы шля хоў. І гэта бачылі ўсе. І нездарма, мабыць, першы яго рэцэнзент, В.Ластоўскі, сам неблагі празаік, публіцыст, знаўца народнай творчасці, жыцця народнага пісаў: «Рунь — гэта не зборнік апавяданняў мляўка-стагнальных і не скалазубстватва з вяскоўца, з яго мазалёў і цемнаты. Гэта першая ў нашай літаратуры паэма-трагедыя маладой Беларусі. Першы голас беларускай маладой набалелай душы «на ўвесь свет…» Гарэцкі прамаўляе, як маючы сілу. Як сын народа».

Другі раз у горад Гедыміна Максім Гарэцкі трапіў пасля крывавых баёў у Прусіі, ранення пад Сталупененам. Тады толькі пачынаў раскручвацца, набіраць хуткасці махавік сусветнай вайны. Максіма, знямоглага, перабінтаванага ледзь пазналі на шпітальным ложку калегі, супрацоўнікі «Нашай нівы» Цётка і Іван Луцкевіч. Іван, якому было знаёма паў-Вільні, неўзабаве прывёў прыяцеля-доктара. Умовы раненаму Максіму адразу змяніліся: пачуўся, нібы ляжыць у роднай хаце. Цётка, калі спаў, каб лішне не турбаваць параненага, ціха клала газету пад падушку. «Наша ніва» зеўрала белымі плямамі-вокнамі сканфіскаваных вайсковай цэнзурай матэрыялаў. Наведвальнікі гаварылі пра невядомы лёс мабілізаваных на фронт літаратараў Лявона Гмырака, Якуба Коласа, Янука Дарашкевіча… Дзяліліся чуткамі: ёсць пагроза, што газету скора закрыюць, будзе эвакуацыя.

Прывід выгнання, бежанства ўставаў перад краем. Балелі яго, Максімавы, раны. Сціскалася сэрца ад думкі, як нішчыцца чалавечае жыццё, набытак людскі, грамадскі. Чаго чакаць ад жорсткага малоха вайны яму, яго народу, свету? Яшчэ год-другі кідаў Максіма лёс па шпіталях, гарадах, шляхах. Толькі ў 1916-м ён вяртаецца ў строй і адразу накіроўваецца ў Петраград у Паўлаўскае вайсковае вучылішча. А адтуль неўзабаве ўжо прапаршчыкам — зноў на фронт, на Палессе. Малодшы афіцэр царскай арміі чакае рэвалюцыі і верыць у блізкі яе надыход. Аб гэтым дзеліцца ў лістах да свайго малодшага брата Гурыка, які пакуль што ідзе яго першым следам — цярэбіць сцежку да агранамічна-каморніцкіх ведаў у Горы-Горках.

Два першыя разы быў Максім Гарэцкі ў Вільні нядоўга. Калі з першага побыту праз гады памяць узнаўляла рой светлых думак, абразкоў: як-ніяк, лічы, у яго на вачах складалася, друкавалася першая кніжка, віленскі асяродак аднадумцаў умацаваў веру, што робіцца супольная «святая праца», як казаў экспансіўны, парывісты Змітрок Бядуля, то другі Максімаў заход у гэты старажытны, загадкавы горад будзіў у памяці скруху, балючыя ўспаміны. Трэці быў цяжкі, памат драматычны і радасны, шчаслівы адначасна. Удалося зрабіць неблагі дасевак. Толькі плёну, плёну сяўбы калі прычакаеш?

Перад тым як трэці раз трапіць у Вільню і асесці тут на цэлыя чатыры гады, у Максіма былі, прынамсі, два невялікія жыццёвыя перавалы. Можа,

было іх, калі строга глядзець, і больш. Але з тых, што пакінулі след не толькі ў душы, а неяк пазначаны і на старонках гісторыі роднай літаратуры, культуры — два.

У Гжацку, па сканчэнні Паўлаўскага ваеннага вучылішча, Гарэцкі быў нядоўга, каля паўгода. Апынуўшыся як афіцэр у вальнейшым стане, паздаравелы, ён упершыню з пачатку вайны мог тут спакайней аглянуцца на ўбачанае, пачутае на фронце, у шпіталях. Мог даверыць перажытае паперы. Першыя свае ўражанні вайны пісьменнік, праўда, асэнсаваў крыху раней, яшчэ вясной 1915 года, калі зболыпага ачуняў ад ран, стаў на ногі. Тады напісаліся яго «Літоўскі хутарок» і «Рускі». Вайну Гарэцкі бачыў у іх ва ўсёй яе антычалавечай сутнасці, перш-наперш як трагедыю простага чалавека. І ў незалежнасці ад таго, ці ён яе непасрэдны ўдзельнік, ці толькі міжвольны сведка, як сям'я літоўскага селяніна Яна Шымкунаса, чыя сядзіба аказалася ў раёне баёў. У навеле «Рускі» трагедыя царскага салдата, нехлямяжага селяніна з Магілёўшчыны, які забівае аўстрыйца, галіцкага мужыка, трагедыя сацыяльная узмацняецца для пісьменніка, чытача трагедыяй з нацыянальным падтэкстам: два праціўнікі, беларус і ўкраінец змагаюцца, забіваюць у імя інтарэсаў заняволіўшых іх зямлю рускага і аўстрыйскага манархаў. У Гжацку даволі плоднай выдалася для Гарэцкага тая восень 1916-га, напісана было аж сем апавяданняў. Жорсткасць, бессэнсоўнасць вайны, згубнасць яе на канкрэтным чалавечым лёсе добра, нязмушана памастакоўску сцверджаны ў апавяданні «Генерал», творы вельмі дакладным, тонкім паводле псіхалагічнага малюнка. Неблагі па натуры чалавек, стары генерал, выхаваны пэўнай сістэмай, на пэўных паняццях аб воінскай годнасці, мужнасці, патрэбе падтрымліваць у падначаленых «баявы дух», пры аглядзе пазіцыі ў час зацішку між баямі становіцца віноўнікам бессэнсоўнай смерці маладога афіцэра, ротнага.

Глабальная згубнасць вайны, пранікненне яе разбуральнага ўплыву аж да асноў народнага жыцця, у сям'ю, хвалявалі пісьменніка, падказвалі яму яркае вобразнае рашэнне ў апавяданні «На этапе». Разам з тым па-мастацку пераканаўча, з радасцю Гарэцкі сцвярджае сваім героем палескім селянінам, учарашнім салдатам, георгіеўскім кавалерам рост чалавечай годнасці сацыяльнай і нацыянальнай свядомасці ў народзе за час вайны.

Якія б свежыя ні былі ўражанні ад вайны ў прапаршчыка Гарэцкага канца 1916 года, не яны адны трымалі ў палоне душу Гарэцкага-пісьменніка. У тую ж гжацкую восень, у кастрычніку—лістападзе былі напісаны навелы «Маці», «Хадзяка», «Прысяга», дзе пісьменнік паўстае як найтанчэйшы знаўца народнага жыцця, псіхалогіі чалавека, селяніна, як класічны апавядальнік. Псіхалагічная дакладнасць, аб'ёмнасць пісьма, скандэнсаванасць думкі і пачуцця, лаканізм выяўленчай формы — усё ёсць у дваццацітрох-дваццацічатырохгадовага пісьменніка. Сапраўднае мастацкае і філасофскае заглыбленне ў жыццё народа, роздум над яго лёсам, майстэрскае валоданне словам. Вось абразок знешне пейзажны, інтанацыйна прыўзняты, з апавядання «Габрыелевы прысады». Змястоўнасць, пластыка яго, натуральна-мінорная танальнасць прамаўляюць самі за сябе: «Ціха

і глуха. Хіба часам галодная варона каркне там. Хіба часам няшчасны бедны чалавек прапляцецца на разбітых калёсах, на худой клячы па каменнай грудзе або глыбокай гразі, маючы за пазухаю паперу ад начальства аб забітым на вайне сыне. Абголеныя восенню прысады лішні раз падгледзяць тады пахаваныя чалавечыя слезы. Многа бачылі яны на вяку сваім і найболей у завірушныя апошнія часы. І ўсё маўкліва прымаюць на сховы, пакуль прыйдзе пясняр, распытаецца ў іх і песню зложыць.

А можа, у цёмную восеньскую ночку прыйдзе гаротнік, згубіўшы лепшае сваё, і як жыццё ссекла радасць яму, так ссячэ і ён тую бярозку ў прысадах і знішчыць частку вечнае думкі і хараства.

Прысады, прысады жыцця майго! Дзе вы?»

Дзесь у гэты час напісалася і разгорнутае апавяданне «Зімою», падсычанае ўражаннямі кароткай пабыўкі пісьменніка-вайскоўца ў бацькоў, роднай Багацькаўцы. Дужа рэльефна ўбачыліся ў ім Гарэцкаму розныя праявы вясковага жыцця, вобразы вяскоўцаў, настаўніка. Твор нечым істотным розніўся ў паглядзе пісьменніка на вёску, селяніна ад апавяданняў зборніка «Рунь». Перш-наперш знікла рамантычная падсветка. Жыццё глядзіцца ў роўным, спакойным, поўным святле.

Здаецца, прама з натуры апісаны псіхалагічны абразок «Дзве сястры»… Тым часам набіралася напрацаванага. Думаў, куды з ім падацца. Спадзяваўся, што «Наша ніва» эвакуіравалася куды-небудзь у глыбіню Расіі. Ажно з сумам даведаўся, што закрыта. Давялося засунуць рукапісы глыбей у рэчавы мяшок. Толькі з надыходам рэвалюцыі і пачаткам новай беларускай перыёдыкі назапашаныя ў рукапісах апавяданні адаслаў, пераправіў у Лёсікаву «Вольную Беларусь» ды сёе-тое ў «Дзянніцу» Жылуновічу.

Рэвалюцыю Максім Гарэцкі сустрэў у Смаленску. У Смаленску пражыў ён і ўвесь 1918 год. Працаваў камендантам жыллёвага аддзела, пераразмяркоўваў лішкі жылплошчы заможных сярод рабочых, працоўнай інтэлігенцыі. Пісаў у «Известня Смоленского Совета рабочих, крестьянских и солдатских депутатов». Затым стаў сталым супрацоўнікам рэдакцыі «Известий Смоленского Совета». Болей не чуўся адзінокім. Былі нейкія кантакты ўнутры рэдакцыі. А галоўнае — поруч быў Янка Купала. Паэт завяз у Смаленску па дарозе ў Менск, які цяпер быў акупаваны кайзераўцамі… Да Максіма ў Смаленск прыехаў малодшы брат Гурык. Ён тады ашчэ не скончыў навучання ў Горках, прыехаўшы да старэйшага брата на нейкі час, уладкаваўся на працу статыстам у губернскі саўнаргас Вечарамі памагаў Максіму рыхтаваць руска-беларускі слоўнік. Абапіраліся на фундаментальную працу земляка Насовіча. Часам разам з Максімам шукалі беларускі адпаведнік слову а найчасцей Гурык перадрукоўваў тое, што Максім ужо парыхтаваў. Вечарам нярэдка разам хадзілі да Купалы. Гасцінная ўладзіслава Францаўна і ў тых найсціплейшых умовах умела прыняць землякоў пачціва, з мілай гаспадыньскай увагай, зычлівасцю. Час быў нялёгкі. Паэт журбаваў па Беларусі. Гаварылі пра яе мінулае турбаваліся пра будучыню. Была трывога, што прыфрантавыя ўмовы, навала акупацыі не дадуць роднай зямлі самавызначыцца — скары-стаць з гэтага высокага права, заваяванага рэвалюцыяй.

Грамадзянскі клопат Гарэцкага адбіўся ў публіцыстычных выступленнях пісьменніка ў «Известиях Смоленского Совета» ў артыкулах «Беларуская рэспубліка», «Будзем жыць» і інш. Купала ў гэты час працаваў над перакладам «Слова…», або, як ён яго называў, «Песня аб паходзе Ігара». Браты Гарэцкія слухалі, як узвышана і горна гучаў голас паэта, узнаўляючы мужныя і драматычныя вобразы мінуласці. Максім тады яшчэ не ведаў, што да працы над перакладам «Слова…», ужо празаічным, а не паэтычным, пільная патрэба, час паклічуць і яго. Як і Купалу, а дакладней, цяпер савецкаму служачаму, агенту па забеспячэнні Заходняй вобласці Івану Дамінікавічу Луцэвічу, Максіму Гарэцкаму з-за камандзіровак, занятасці не было лішне калі наведваць лекцыі ў Смаленскім археалагічным інстытуце. Слухалі іх зрэдку. Марылі аб пераездзе ў Менск. Гэта стала рэальным, калі кайзераўская навалач адкацілася на захад, а ў снежні 1918 года ў Смаленску сабраўся партыйны з'езд абласнога выканаўчага камітэта Заходняй вобласці і фронту і на ім усё настойлівей, выразней сталі чуваць галасы беларускіх бальшавікоў. Справа дзяржаўна-палітычнага будучага Беларусі станавілася на рэальны грунт. З абвяшчэннем утварэння Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі смаленскія беларусы рушылі ў Менск. Але даўжэй затрымацца ў сталіцы, толькі што заснаванай Беларускай сацыялістычнай рэспублікі Гарэцкім не давялося. Гурык неўзабаве адправіўся ў сельгасакадэмію ў Маскву. Максім, які ўжо па запрашэнні Кнорына працаваў у рэдакцыі «Звязда», мусіў быў пераехаць з ёю ў Вільню: там цяпер знаходзіўся ЦК і ўрад Літоўска-Беларускай рэспублікі.

Тым часам лавіна падзей не спынялася. Не паспеў Гарэцкі і яго калегі па газетнай працы добра агледзецца на новым месцы, як у красавіку, святочным днём, у Вільню знянацку ўварваліся конныя легіёны Пілсудскага. Схінуцца ад арышту Кнорыну і Гарэцкаму памог мясцовы літаратар. Ф.Аляхновіч, ён час ад часу заглядаў у рэдакцыю з надзеяй надрукаваць што-небудзь сваё.

Невялікія атрады Чырвонай Арміі адступілі ў бок Ашмян і Немянчына. Шмат хто спадзяваўся, аднак, што Саветы скора вернуцца.

Яшчэ ранняй вясной, адразу па прыездзе ў Вільню, Гарэцкі сустрэў сёетаго са знаёмых тут з даваеннага часу інтэлігентаў. Думаў заахвоціць іх да супрацоўніцтва ў газеце. Даведаўся навіны. Было іх няшмат. Сярод іншых пачуў расказ аб тым, як да апошняга бараніўся ад контррэвалюцыянераў у снежні 1918 года Віленскі Савет. Змрачнаваты, з гатычнымі рысамі дом на Вароняй, сведка мужнасці, стойкасці жменькі рабочых, што згінулі, а не здаліся, цяпер атуліла, прыхавала маладая зеляніна дрэў.

Не магла пахваліцца значным набыткам малая, парадзелая за вайну грамадка беларусаў-культурнікаў. Але сёе-тое прыдбалася імі. Трымаліся ў традыцыйным, яшчэ з XVI ст., гняздоўі культуры, асветнай працы — Базыльянскіх мурах, на Вастрабрамскай, 9, побач старадаўніх варот горада. Тут, пад аховай векавых сцен цяпер мясціліся 1-я Віленская беларуская гімназія, Беларускае выдавецкае таварыства. Віленскі беларускі камітэт помачы пацярпеўшым ад вайны збіраў у прытулак сірот, ахвяр толькі што адгрымелай вайны. Па старой памяці ў яго падаў Гарэцкі рукапіс «Невялічкага

беларуска-расійскага слоўніка». Даў некалькі рэчаў сваіх у газету «Беларуская думка», пакуль яе цярпела новая, заснаваная тут з прыходам легіёнаў улада.

У гісторыка-крытычлым эцюдзе «Беларускае драматычнае пісьменства» Гарэцкі рупна агледзеў здабыткі сцэнічных твораў — п‘есы В. Дуніна-Марцінкевіча, К. Каганца, Ул.Галубка, Янкі Купалы… У накідзе «На ўгодкі па М. Багдановічу» накрэсліў сілуэт паэта, што як знічка бліснуў на гарызонце айчыннай паэзіі. З мастацкіх твораў у «Беларускай думцы» ўбачыла свет аповесць Гарэцкага «Дзве душы». У ёй пісьменнік зрабіў спробу асэнсаваць падзеі вайны і рэвалюцыі, паказаць прадстаўнікоў розных пластоў грамадства. У цэнтры аповесці — вобраз Ігната Абдзіраловіча, інтэлігента з сялян, выхаванага, аднак, паводле выпадковага збегу абставін, у асяроддзі пануючага класа, у сям‘і памешчыка. Ігнат Абдзіраловіч — чалавек духоўна раздвоены. Яго адносіны да перажыванага гістарычнага моманту, да рэвалюцыі, носяць адбітак умоў яго паходжання і выхавання. Ён нібы і спачувае працоўным, усведамляе іх сацыяльную правату, аднак дзесь у глыбіні душы застаецца разам з прадстаўнікамі зрынутых рэвалюцыяй класаў. Пісьменнік імкнуўся асэнсаваць, намаляваць Абдзіраловіча як сацыяльны тып. Двудушша створанага ім вобраза намагаўся растлумачыць біялагічнымі пачаткамі. Аб‘ектыўна пісьменніку ўдалося намастацку замацаваць некаторыя з‘явы ў псіхалогіі пэўнай праслоякі людзей часу вялікіх сацыялыіых зрухаў, у прыватнасці часткі інтэлігенцыі. Пры гэтым як цыянальны мастак Гарэцкі кожную значную з‘яву разглядае на беларускім грунце ў сацыяльным і нацыянальным яго аспектах. Адносіны Абдзіраловіча да працоўных, гэта яшчэ адначасова і адносіны яго да свайго народа. Пісьменнік выносіць на суд грамадскасці абдзіраловіччыну як з‘яву, абумоўленую сацыяльнымі і гістарычнымі абставінамі. Менавіта не ў малой меры гістарычнымі беларускімі. Сягоння можна гаварыць, наколькі ўдалося і не ўдалося Гарэцкаму перадаць вобраз складанага часу рэвалюцыі, як убачыў і не ўбачыў пісьменнік яе рухаючыя сілы. Разважаць над тым, наколькі тыповую з’яву закрануў ён у сваім творы. Гарэцкі пісаў аповесць пра падзеі, якія не паспелі яшчэ набыць у вачах мастака акрэсленыя сацыяльна-палітычныя і гістарычныя контуры. Пісьменнік стараўся схапіць, схопліваў у слоўных вобразах не так эпоху, не столькі эпоху, як нейкія сацыяльна-псіхалагічныя праявы жыцця, што асабліва рэльефна праступалі на фоне вялізнай рэвалюцыйнай ломкі.[1]

Забягаючы наперад, не зашкодзіць дадаць, што ў Заходняй Беларусі 20-х гадоў, з яе віраваннем грамадскай думкі, небывалым ростам палітычнай свядомасці тутэйшага народа, аповесць «Дзве душы» жыва цікавіла моладзь, асабліва навучэнцаў. Натуральна, маладыя не прымалі, не маглі прыняць рэфлексій Абдзіраловіча, яго філасофіі. Затое парываў іх да сябе цэльны характар Сухавея, вобраз маладога хлопца, прасякнутага ідэяй сацыяльнага і

[1] Адно з першых крытычных прачытанняў аповесці Гарэцкага належыць Зм.Бядулю. У наш час асобныя аспекты яе знайшлі глыбокую інтэрпрэтацыю ў кнізе У.А.Калесніка «Ветразі Адысея»

нацыянальнага адраджэння Беларусі, якое ў тагачасных заходнебеларускіх умовах успрымалася ў рэвалюцыйным кантэксце эпохі.

У цеснаватае падвор‘е, аточанае строгімі пасівелымі мурамі, цяпер ажыўленымі звонкімі галасамі гімназіяльнага маладняку, Гарэцкі зайшоў ранняй вясной 1919 года. Неяк трапілася на вочы кніжка «Родны край», складзеная настаўніцай Чарняўшчынкай. Хораша, з любасцю да свету дзіцяці, да роднага слова, зямлі, бацькоў была падрыхтавана чытанка. Ці не родная душа? — мільганула думка. Прыйшоў спецыяльна, пазнаёміцца. А неўзабаве, яшчэ кулі пасвіствалі ў дварышчы, насіў маладой настаўніцы чырвоныя ружы і ласкава клікаў Міла, мілая Ласка, а пазней з прызнаннем і болем — цярплівая Ласка.

У ліпені таго доўгага зменлівага 19-га года Максім перабраўся пад адзін дах з Леанілай. Кватэра іх была збоч Базыльянскіх муроў у двухпавярховым доме з масіўнымі сценамі і вузкаватымі вокнамі, з строгай гатычнай аблямоўкай. Разам сталі хадзіць на працу ў гімназію, куды Гарэцкага запрасілі выкладаць мову і літаратуру беларускую ў старшых класах. А пачаў пісьменнік, нядаўні журналіст, сваю новую, педагагічную кар‘еру з лекцый, чытаных на настаўніцкіх курсах.

Справа ў тым, што настаўніцтва як больш адукаваны і грамадска актыўны элемент, асабліва на вёсцы, нягледзячы на бясконцыя змены палітычнай сітуацыі ў краі, імкнулася не пакінуць дзяцей без навучання, рупілася неяк адкрыць школу. У кароткія перыяды існавання на заходнебеларускіх землях Савецкай улады ў 1919—1920 гг. ініцыятыва настаўнікаў, як ні цяжкія былі ўмовы, знаходзіла рэальную падтрымку ў асветных аддзелах павятовых рэўкомаў. Ва ўмовах жа нямецкай акупацыі, наступу польскіх легіёнаў мясцовыя энтузіясты асветы маглі разлічваць толькі на сябе, шукаць разумення ў жыхароў. Дзякуючы настаўнікам, школы паўставалі саматугам. Выбіралася большая, прастарнейшая вясковая хата, настаўніка, замест платы за працу, сяляне па чарзе кармілі, як пастуха. Цяжка было ў такой самадзельнай школе з паперай, з падручнікамі (лаўкі, іншы школьны рыштунак майстраваўся сталярамі бескарысна), але дзятва не гуляла самапасам, не дзічэла ў цемры, авалодвала граматай, далучалася да ведаў. Беларуская школьная рада (была такая асветная арганізацыя ў Заходняй Беларусі яшчэ да стварэння масавага Таварыства беларускае школы) старалася як мага падтрымаць тыя агеньчыкі, што засвяціліся ў вясковай, местачковай глушы. Віленская беларуская гімназія (на тую пару большае асветнае вогнішча: у ёй працавалі вядомыя педагогі, культурна-асветныя дзеячы) стала на першым часе своеасаблівай базай школьнага руху ў краі. Летам тут наладжваліся беларускія настаўніцкія курсы, пазней у 1923 годзе адбыўся з’езд педагогаў сярэдніх школ усёй Заходняй Беларусі.

Арганізатары беларускіх вучыцельскіх курсаў (так даслоўна яны называліся) збіралі расцярушанае па краі настаўніцтва перш за ўсё для таго, каб даць яму сістэматычныя веды па роднай мове, літаратуры, гісторыі. Выхаванцы дарэвалюцыйных настаўніцкіх семінарыяў і інстытутаў, вы-

хадцы з народнй гушчы, беларускія настаўнікі часта не мелі элементаранага ўяўлення аб духоўным абліччы свайго народа, скарбах яго душы. Ахвяры афіцыйнай асветы, яны былі выхаваны калі не ў пагардзе, то ў лепшым выпадку ў поўным няведанні культурных набыткаў народаў вялізнай імперыі.

На курсах часам траплялiся і пажылыя дзядзькі. Але пераважала моладзь, шчырая, энтузіястычная ў сваіх намерах, гатовая на працу і ахвярнасць дзеля свайго народа, брата-рабачая.

Гарэцкі сэрцам адчуў іхні парыў, уласную далучанасць да гэтага маладога свету. Галоўнае ж — упэўніўся ў сваёй патрэбнасці тут. Патрэбнасці, можа, не столькі як пісьменніка, а перш-наперш як журналіста і працаўніка асветы. беларускай асветы, цяпер, можа, як ніколі важнай для палітычнага ўсведамлення народа. Час быў адказны. Пераломны час. І тут, як скрозь, трэба было трымаць фронт, нябачную, трудную і пэўную лінію абароны народных інтарэсаў, народнай душы.

Не паспелі легіёны крыху далей пасунуцца на ўсход, як у Вільні, Віленшчыне за ўладу моцна ўчапіліся мешчанчукі, сынкт навакольнай шляхты, заняпалых памешчыкаў. Былыя пісарчукі, дробначыноўны люд спадзяваліся ў новай палітычнай сітуацыі на хуткую і пышную кар’еру. Не было недахопу сярод цывільнага кіраўніцтва краю і ў прыбыўшых з Галіцыі ды карэннай Польшчы: розны рухлівы люд спяшаўся пад аслонай легіянерскіх штыхоў заняць сабе цяплейшае месца на новых землях — ці гэта была пасада інспектара школ ці паліцыі, або службоўца якой-небудзь канторы. А хцівасць, душэўную пустату можна было лёгка схаваць пад флёрам патрыятызму, служэннем «змартвых-всталэй» айчызне. Былі ў часовым кіраўніцтве Вільні і сёй-той з мясцовых дэмакратычна настроеных людзей, як, напрыклад, Л. Абрамовіч. Але так склалася, і невыпадкова, пэўна ж, што тон вызначалі, практычны накірунак спраў вырашалі прадстаўнікі партыі нарадова-дэмакратычнай (эндэкі). Палітычны багаж гэтага палітычнага аб‘яднання цалкам прадвызначаўся эгаістычнымі інтарэсамі польскіх маёмасных класаў. Эндэкі адыгралі асобую ролю ў палітычным жыцці міжваеннай Полынчы, у яе гістарычнай долі-нядолі. Але гэта ўжо гаворыцца забягаючы наперад. Ішло ж яшчэ толькі лета 1919 года.

Не паспелі адцвісці ліпы над Базыльянамі, скончыцца настаўніцкія курсы, як «Беларускую думку» пасля тайнага вобыску ў яе рэдакцыі ваенная ўлада забараніла за «шкодны кірунак».Заставалася, праўда, яшчэ адна газета «Беларускае жыццё», Рэдакцыя яе перабралася ў Менск. Засяродзілася пераважна на пытаннях культурнага жыцця. Друкавала матэрыялы Р.Зямкевіча, Ул.Талочкі, Зм.Бядулі, які, дарэчы, вёў літаратурны аддзел. Вастрэйшых палітычных праблем выдаўцы газеты не ўздымалі, не лічачы сціплых філіпік у адрас распаясаных эндэкаў з іх калапіялісцкімі апетытамі ды двух-трох эскапад у бок праціўніка паноў становішча. І гэтыя апошнія не чапалі выдання, якое ім практычна не перашкаджала. Гарэцкі быў паслаў пару дробных допісаў у «Беларускае жыццё» (у Вільні не было куды падацца), ды скора ад супрацоўніцтва з ім адмовіўся. Канец лета і восень, ды яшчэ

зімы давялося пры хапіць, Гарэцкі сядзеў над новай для сябе працай. Па накідах, мініпартрэтах асобных пісьмеі нікаў, якія з'явіліся ў друку за яго подпісам, цяжка было здагадацца, што пісьменнік узяўся напісаць гісторыю роднай літаратуры. А да гэтага яго проста прымушала становішча выкладчыка Першай беларускай гімназіі. І не толькі патрабаванне радавой асветы. Агледзець усе здабыткі беларускай мастацкай думкі, слова трэба было і дзеля таго, каб выразней бачыць яго сённяшні дзень і дзень будучы. Каб спарней каласілася духоўная ніва народа.

Нельга сказаць, што зусім не была нарыхтавана глеба для таго, каб здзейсніць такую паважную, працаемкую работу. Для гэтага нямала папрацаваў акадэмік Карскі. Але шаноўны беларусазнаўца аглядаў пераважна помнікі старога пісьма. Праўда, Гарэцкі, час ад часу лістуючыся з вучоным, ведаў, што той збірае матэрыял і па свежых слядах, сучасны. Ды ў Карскага, даследчыка старой, дарэвалюцыйнай школы, на многія рэчы быў занадта афіцыйны для свайго часу погляд, абмежаваны палітычнымі ўстаноўкамі царызму. Трэба было свежым вокам ахапіць вялізны матэрыял, без мала за дзесяць стагоддзяў. З масы імён, твораў, звестак стварыць цэльнасць, убачыць развіццё мастацкай думкі Беларусі ў яе гістарычнай пераемнасці і індывідуальна-творчай ненаўторнасці, ад самых пачаткаў пісьменства, асветы на беларускіх землях. Ад Ефрасінні Полацкай, Клімента Смаляціча, Кірылы Тураўскага…

Старыя імёны. Яшчэ без прозвішчаў. Замест іх — назвы зямель, у якіх «суць ускормлены». Сама зямля беларуская яшчэ без свайго агульнага найменння, з якім прыйдзе ў свядомасць сваіх сыноў, свету пазней.

Асветнае слова яшчэ тулілася ў манастырскіх келлях, высокімі мурамі адгароджанае ад шырэйшых жыццёвых павеваў. Часам, праўда, яно брала пажытак не толькі з біблейных кніг ды антычных аўтараў, але смакавала сакавітыя барвы навакольнай прыроды. «Літаратурны бок павучанняў старажытнага Тураўляніна вышэй за царкоўны элемент іх», паэт валодаў «усімі спосабамі прыгожага пісання», «пільнуець хараство стылю», — заключаў Гарэцкі мініпартрэт К.Тураўскага.

Адной з духоўных вяршынь на гістарычным шляху беларускага народа Гарэцкі, натуральна ўбачыў літаратуру — культуру XVI стагоддзя, здзяйсненні эпохі Адраджэння.

Інтэнсіўны разумовы рух, што ахапіў быў той парою Еўропу, праз Польшчу прышоў на Беларусь. Ён прынёс з сабой рэнесансавы гуманізм. З ім — веру ў чалавека, яго высокае прызначэнне, неабмежаваныя магчымасці.

Выроджаны не ддя быдлячай долі.
Дзеля дабра, навук на свет прыйшпі вы. —

гэтыя словы аднаго са светачаў італьянскага Адраджэння праглядаюць у дзейнасці ўсіх выдатных гуманістаў. У тым ліку беларускіх, Францішка Скарыны, Васіля Цяпінскага, Сымона Буднага. Гарэцкі аналізуе іх працу ў цесным кантэксце грамадска-палітычнай атмасферы часу, атачэння. На

прыкладзе ўдзелу ў працы Скарыны сына віленскага радцы Багдана Онькі, бургамістра Якуба Бабіча, Віленскага брацтва, у дзейнасці Сымона Будната — Мікалая Радзівіла Чорнага, у выданні Літоўскага статута 1588 года — магілёўскіх купцоў Кузьмы і Лукаша Мамонічаў сцвярджае факт таго, што гуманістычныя ідэі праніклі ў розныя слаі грамадства. Яны будзілі дух патрыятызму, грамадзянскасці, патрэбы асветы, адукаванасці, клопату пра агульнае дабро краю, бацькаўшчыны.

Пры разглядзе выдатнага твора юрыдычнай думкі эпохі Рэнесансу Літоўскага статута (Гарэцкі яго называе «несакрушальнай скалінай, тым духоўным помнікам, які наплепей сведчыць аб славе і магутнасці нашай мовы і нашага простага пісьменства») гісторык беларускай літаратуры першым звяртае ўвагу на словы канцлера Вялікага княства Літоўскага Льва Сапегі, сказаныя ім пры зацвярджэнні Статута на сойме ў Варшаве: «Калі сорамна якому народу не ведаць сваіх правоў, баронячых яго вольнасць, дык асабліва сорамна было б тое нам, маючым правы, пісаныя не ў якой чужой, а ў сваёй роднай мове». Быў гонар за айчыннае слова, быў дзяржаўны падыход да права грамадзян, асветы, лёсу гаспадарства.

Яскравым сведчаннем культурна-грамадскага поступу Беларусі XVI ст была для летапісца роднай літаратуры густая сетка друкарань, паўсталых на працягу стагоддзя ў яе гарадах, мястэчках і нават асобных шляхецкіх ваколіцах, як гэта было ў Цяпіне, на Лепельшчыне, дзе дабру паспалітаму, агульнаму, «з убогае свае маетнасці ўслугуючы» жыў і працаваў прадстаўнік беларускай Рэфармацыі Васіль Цяпінскі, перакладчык старых кніг, асветнік-патрыёт, балявое сумленне свайго часу. Гарэцкі даў вельмі выразны ідэйна-творчы партрэт гэтага старадаўняга беларускага асветнага дзеяча, мысліцеля, вобраз якога, дарэчы, яго неспакойнае жыццё даўно чакаюць сучаснага літаратурна-мастацкага асэнсавання. Дзейнасць Васіля Цяпінскага прыпадала на 70—80-я гады XVI ст., калі пачала набіраць моцы контррэфармацыя. Прыбылыя з Польшчы ў абозе Стэфана Баторыя езуіты прынеслі на Беларусь зацятую рэлігійную вайну, у якой марнаваліся духоўныя сілы народа. На ідэалагічнай арэне рэзка абазначыўся фанатызм канфесійных функцыянераў і грамадская апатыя шырэйшых колаў. Хоць здрада заможных слаёў традыцыйнай веры, праваслаўю, пераход у каталіцтва адбудзецца пазней, асобныя сімптомы гэтай з'явы, што адыграла немалую ролю ў гістарычных лёсах беларускага, украінскага народаў, ужо праглядалі. Васіль Цяпінскі, як гэта добра відаць з прадмовы да «Евангелля», балюча перажываў стан грамадскага ўпадку ў сваім народзе, занядбання асветы ў роднай мове: «відзечы так вялікіх княжат, такіх паноў значных, так многа дзетак нявінных, мужоў з жонамі ў таком зацном русском, а злашча перад тым доўсціпным, вучоным народзе языка свайго слаўнага занядбанне, а проста взгарду». Цяпінскі прама вінаваціць у абыякавасці да духоўных патрэб люду, яго асветы вышэйшае духавенства і звяртаецца непасрэдна да народа, каб прасілі ў мітрапаліта, «жебы не подкупов, не посулов для поседання сталіць одін перед другім, не доживатей і прівілеев одін над другого обвароване йшіх, але… самі се учілі і другіх з моетностей і іменей от ва-

шых предков ім не на марнотрацтва, не на строі і што такого але для наўк надданых».

Уражанне такое, што гэты руплівы, радыкальна настроены інтэлігент пары Рэфармацыі што пісаў, паводле яго прызнання, «ані часу ўгадняючы словы, а яко спрыязлівый, простый а шчыры… а твористе з зычлівости ку… отчизне» добра бачыў грамадскія, культурныя праблемы свайго часу, глядзеў далёка наперад.

Выказаны ў першым, віленскім выданні «Гісторыі беларускай літаратуры» Гарэцкім сму-так з прычыны таго, што залатая спадчына эпохі гуманізму застаецца схаванай ад вачэй шы-рэйшай грамадскасці Беларусі, быў смуткам дзейсным, актыўным. Неўзабаве ў сваёй «Хрэстаматыі», а пазней у «Выпісах з беларускае літаратуры» пісьменнік-літаратуразнаўца змесціць і прадмову Цяпінскага і пасляслоўі Скарыны і ўсе даступныя яму творы старадаўніх аўтараў. Гарэцкі добра ўсведамляў, як важна даць сучаснікам рэальнае ўяўленне аб духоўных здабытках мінулых пакаленняў: на шырокім трывалым фундаменце лацвей будаваць, узводзіць гмах культуры сёння. Па тым, з якой руплівасцю, гісторыка-літаратурнай дасведчанасцю і паслядоўнасцю гэта роблена, можна меркаваць: пісьменнік-вучоны быў шчаслівы спаўняць абавязак.

Але перш-наперш ён агледзеў поле айчыннай літаратуры ў тэарэтычным плане. Асэнсаваў здабыткі і страты яе стагоддзе за стагоддзем. Разлеглае ў часе поле гэтае было вельмі няроўнае: здаралася дзесяцігоддзі, цэлая пара, былі пазначаны недародам. Сурова вытлядала не толькі літаратурная ніва Беларусі XVIII ст., натуральна, патрактаваная Гарэцкім як заняпад. Цяжка прабіваліся на свет і парасткі новай беларускай літаратуры, хоць ішло XIX ст. з актыўнымі грамадскімі рухамі, раскатамі рэвалюцый у Еўропе.

Адзін з першых прадстаўнікоў новай беларускай літаратуры царскімі ўціхамірнікамі бунту крошынскіх сялян быў на дваццаць пяць гадоў здадзены ў салдаты. (Літаратурна-гістарычную заслугу П.Багрыма Гарэцкага бачыў у тым, што творы яго «пайшлі ў гушчу народа, дзе не толькі пабуджалі беларускасць, але надавалі ёй выразны сацыяльны выгляд».). Другі з пачынальнікаў яе Ян Чачот быў сасланы ў Башкірыю. У Іркуцку, у высылцы памёр Арцём Вярыга-Дарэўскі, які, паводле слоў Гарэцкага «у нашым адраджэнні прыслужыўся не столькі пісаным, колькі жывым словам і жывым прыкладам». Гісторык літаратуры меў на ўвазе духоўныя кантакты Вярыгі з краёвай інтэлігенцыяй, буджэнне ў ёй грамадскай свядомасці, яго вядомы «Альбом», як цікавы дакумент літара-турна-грамадскай думкі Беларусі сярэдзіны мінулага стагоддзя. Гарэцкі ўпершыню ўвёў «Альбом» у шырэйшы навуковы ўжытак. Першы гісторык беларускай літаратуры ўсебакова разглядае светапогляд, характар, слабыя і мацнейшыя бакі творчасці так званых старашляхоцкіх рамантыкаў (Я. Чачота, А. Рыпінскага, А. Баршчэўскага), прадстаўнікоў рэвалюцыйнай літаратуры (К.Каліноўскага), рэпрэзентантаў беларуска-рускай школы (П. Шпілеўскага) і нова-шляхоцкіх пісьменнікаў (В. Дунін-Марцінкевіча, В.Каратынскага, А. Вярыгу-Дарэўскага, Ф. Тапчэўскага) і інш. Навейшы этап беларускай літаратуры Гарэцкі звязваў

з парой народніцтва, з Францішкам Багушэвічам. Крытык упершыню ёміста, грунтоўна характарызуе творчасць паэта-дэмакрата, называючы «першым нацыянальным паэтам у поўным значэнні гэтага слова». У факце, што ў 1918 годзе ў Вільні «Дудка беларуская» выйшла пятым выданнем, а «Смык» чацвёртым, — гэта не гледзячы на нацыянальны ўціск, цемнату народа і рэнегацтва інтэлігенцыі», — як зазначае Гарэцкі, — нельга не бачыць жывога сведчання выхаду творчасці Ф.Багушэвіча за рамкі літаратурныя. Яна на вачах сучасніткаў рабілася фактарам сацыяльнага і нацыянальнага ўсведамлення народа, звонам, што абуджаў беларусаў з векавога сну.

У адных выпадках, як гэта было з паэзіяй Францішка Багушэвіча, яго праграмнымі прадмовамі, гаворка пра творчасць, грамадскую пазіцыю пісьменніка ў Гарэцкага разгортвалася ў шырокую, грунтоўную гутарку. Пасля сціслага біяграфічнага накіду вылучалася бібліяграфія твораў. Асобна гаварылася пра грунт (аснову) і элементы творчасці, сацыяльную і нацыянальную тэматычную скіраванасць. Асобнымі параграфамі ішла «Мова Багушэвіча», «Верш Багушэвіча», «Значэнне творчасці». Калі ж заслугі перад літаратурай былі сціплейшыя ці проста, як гэта здарылася са спадчынай Альгерда Абуховіча, час захаваў толькі рэшткі яе, Гарэцкі накідваў толькі сілуэт літаратара, у якім абрысы, аднак, былі вельмі выразныя, бо нічога істотнага для выявы іх не апускалася даследчыкам. У болыпасці ж пісьменніку-крытыку ўдавалася стварыць вобраз самога творцы, узнавіць дух яго жывога слова, інтанацыі, трапна акрэсліць месца кожнага ў агульным поступе беларускай мастацкай думкі. Азначэнні гісторыка лаканічныя, глыбокія, хоць часам адразу могуць здацца перабольшаннем першаадкрывальніка. «Яно, — кажа Гарэцкі пра значэнне творчасці Ф. Багушэвіча, — вялікае з гістарычна-літаратурнага погляду, асабліва ад шчыльнага звязку з нашым сацыяльна-нацыянальным адраджэннем, духоўным бацькам каторага і ёсць Багушэвіч. Ён — першы ўсенародны беларускі правадыр і першы беларускі пясняр-рэвалюцыянер. Ён першы нацыянальны беларускі паэт, дагэтуль адзін з самых вялікіх у гэтым значэнні. Як пясняр класавы, вяшчун сацыяльнай рэвалюцыі, Багушэвіч займае адно з першых месц у сусветнай паэзіі. Літаратурнае значэнне яго не было ацэнена як мае быць, і цікава, што народ скарэй за інтэлігентных крытыкаў пачуў яго веліч». У гэтых энергічна кіданых абагульненнях-тэзісах пра паэта-дэмакрата, думаецца, ёсць нямала чаго і для роздуму сённяшнім багушэвічазнаўцам: не ўсё яшчэ ў паэзіі першага нашага будзіцеля, паэзіі, якая здолела прабіцца да народа праз змрок царскага дэспатызму, забароны самога слова беларускага, агледжана з належнай вышыні, асэнсавана да канца.

Пісаць гісторыю сучаснай літаратуры было лягчэй і цяжэй адначасна. Адно што, дзе, у якіх архівах збіральнік яе здолеў бы адшукаць столькі патрэбных звестак хоць бы пра Янку Купалу, калі б не запісаў у свой час у Смаленску са слоў самога паэта сумную аповесць яго вандровак у пошуках работы? Занатаваў падрабязна, па гадах, з пазначэннем часу і месна напісання важнейшых твораў. Адкуль было б даведацца, што на Бядулі ляжала ўся тэхнічная работа ў рэдакцыі «Нашай нівы», а ў «Беларускім шля-

ху» (1918) ён вёў некалькі аддзелаў, ды моцна падстаўляў плячо пад газетную работу, калі выходзіла «Беларусь»?!. Або пра такія драбносткі, цікавыя, можа, толькі гісторыку літаратуры, які быў сам мастаком слова, як факт, пераказаны дзедам Бядулі, катляром (быў такі від рамяства), што будучы пісьменнік, маючы тры гады, «заўсёды плакаў, слухаючы жніўныя песні ў полі». Ці звесцінку, нялішнюю гісторыку культуры пра тое, што наш выдатны навеліст Антон Лявіцкі, вядомы ў літаратуры пад жартаўлівым, а мо і не толькі дзеля жарту прыдуманым псеўданімам Ядвігін Ш., жыў у Менску на Старажоўцы.

Літаратурную сучаснасць лягчэй было пісаць яшчэ і таму, што ўся яна здяйснялася на вачах яе летапісца. Ён не стаяў убаку, з краю. Разам з тым, аб кім цяпер думаў, пісаў, друкаваўся ў «Нашай ніве , «Вольнай Беларусі», «Дзянніцы», «Беларусі», «Незалежнай думцы» і іншых перыядычных выданнях дарэвалюцыйнай пары і першых паслярэвалюцыйных год. Супольна была пражыта цэлая эпоха. Цяпер факты і з'явы жыцця і творчасці пісьменнікаў выстройваліся ў стройную сістэму. На вачах даследчыка выяўлялі свій унутраны рух. Рабіліся літаратурным працэсам. Давалі бачны вобраз літаратурнай сучаснасці Беларусі. Гарэцкі-гісторык, крытык пісаў яго шырокімі мазкамі.

Першаму гісторыку навейшай літаратуры добра бачны яе жыццёвыя вытокі, ступені росту, які ад першай рускай рэвалюцыі набыў дынамізм, новую сацыяльна-палітычную скіраванасць.

«Свядома-сацыяльны элемент нашаніўскай паэзіі, — пісаў ён, — меў цвёрды і паўсёдны нахіл або кірунак у бок сацыялістычны. У гэты час сярод цэлай плеяды большых і меншых літаратурных сіл твораць асілкі Я.Колас і Я.Купала. Нашаніўцы з калейдаскапічнай шпаркасцю прабывалі ў сентыменталізме, рамантызме, мадэрнізме. Трэці час пачаў адзначацца ад дзён вайны і потым сацыяльнай рэвалюцыі. Цікавай прыметай гэтай пары ёсць не толькі красаванне сацыяльных пытанняў, але… і пачатак аналізу агульначалавечых праблем. Гэта прымета — знак вялікага росту беларускай літаратуры». А найболыпая заваёва беларускай літаратуры на рубяжы новай эпохі, эпохі сацыяльнай рэвалюцыі, бачылася М. Гарэцкаму ў тым, што «яна вызвалілася ад пераймання чужых літаратур і атрымала, такім чынам, нацыянальнае значэнне; яна выказвае асаблівасці беларускага духу, тыя рысы характару, той спосаб думання і пачування, тыя сімпатыі і ідэалы, якімі беларуская нацыя вызначаецца сярод другіх еўрапейскіх народаў». Першы гісторык беларускага прыгожага пісьменства доказна сведчыў факт яго самасцвярджэння.

Ішоў 1920 год, і патрэба ў гэтым, як і ў самасцвярджэнні самога яго народа, асабліва тут, у Заходняй Беларусі, была вялікая. «Гісторыя беларускай літаратуры», як і іншыя выданні пачатку 20-х гадоў, што дапамагалі выявіць, раскрыць духоўнае аблічча народа, яго творчы патэнцыял, была не проста курсам літаратуры. Для заходнебеларускай моладзі гэта была адначасна і кніга пра шляхі мастацкага слова свайго народа, і падручнік жыцця з урокамі па сацыяльнай і нацыянальнай гісторыі. Мастацкае слова набірала

вагі ў вачах народа. Да яго прыслухоўваліся, спадзеючыся на праўду, здольнасць прасвятліць розум, мацаваць веру дзеля лепшай будучыні. Гэтага нельга было не адчуць, не бачыць. І клопат пра слова да народа і для народа, як і рознае іншае, рупілі Гарэцкаму, які, выглядала, трывала асеў цяпер тут, у Вільні. Летам 1920-га асабістым коштам каапэратара Э. Будзькі і друкара У.Знамяроўскга выйшла яго «Гісторыя беларускае літаратуры». Добра ілюстраванае рэпрадукцыямі помнікаў старога пісьменства, узорамі пісьма графічнымі партрэтамі пісьменнікаў (іх удала выканаў віленскі мастак Т. Арлоўскі) выданне цешыла і аўтара. Гарэцкія чакалі ў гэты час свайго першынца. Лета было бурлівае. Пад імклівым націскам войск Тухачэўскага легіёны пакінулі Беларусь, Віленшчыну. Вал вайны адкаціўся аж пад Варшаву. Неўзабаве ён ізноў вяртаўся на ўсход. У Менску ў другі раз была абвешчана Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка. Вільня па дамоўленасці Савецкага ўрада з буржуазнай Літвой адыходзіла пад яе ўладу. Легіёны ізноў нібы пакідалі яе, адводзіліся за дэмаркацыйную лінію. Але раптам з боку Ліды ў горад уварвалася беларуска-літоўская дывізія генерала Жалігоўскага, ашмянчука паводле паходжання, які заявіў, што не згодзен аддаваць Віленшчыны літоўцам. Было аб'яўлена аб стварэнні так званан Сярэдняй Літвы. Пагоня на шапках жалігоўшчыкаў як і назва дывізіі «літоўска-беларуская», была камуфляжам. Палітычны фарс «бунту» генерала Жалігоўскага супроць волі камандавання польскага войска, маршалка Пілсудскаі разыгрываўся з ведама самога Пілсудскага.

Жменька беларускай і літоўскай інтэлігенцыі ў Вільні апынулася ў спецыфічных палітычных абставінах. Ледзь не адразу (на шостым нумары) было спынена выданне газеты «Незалежная думка», рэдагаванай былым супрацоўнікам Белнацкома ў Петраградзе, географам па адукацыі Генадзем Багдановічам. Дарэчы, М. Гарэцкі паспеў надрукаваць у ёй апавяданне «Асілак». На дзевятым нумары ўлады закрылі ўмеркаваную газету, якую пад старой назвай «Наша ніва» пачаў быў увосень 1920 г выдаваць былы нашаніўскі наборшчык, пазней выдавец і ўласнік невялікай друкарні Уладзіслаў Знамяроўскі разам з А.Луцкевічам. Заставацца без «грамадскай званіцы» было проста нельга. Грамадка беларускіх культурна-асветных працаўнікоў у Вільні глядзела на Максіма Гарэцкага як на чалавека, які мог узяць на сябе адвагу і рупнасць узначаліць радыкальнае выданне. Як-ніяк у яго была практыка журналіста-газетчыка, аўтарытэт пісьменніка, чалавека прызнанага.

Шукаючы назвы новаму выданню, успомнілі забароненую год з лішкам таму «Беларускую думку». Крамольнае ў вачах адміністрацыі найменне газеты нельга было ўзнавіць, але адмаўляцца ад старога штандару выдаўцы новай беларускай газеты не збіраліся. Першы нумар палітычнага, эканамічнага і літаратурнага тыднёвіка «Наша думка» за подпісам М. Гарэцкага як рэдактара выйшаў напярэдадні Новага года, 24 снежня 1920 года. У ім былі змешчаны артыкул Гарэцкага «Змагайцеся!» пад псеўданімам А. Мсціслаўскі і падпісанае ўласным імем пісьменніка апавяданне «Герой».

Тут, у Заходняй Беларусі, воляю лёсу падпалай пад уладу польскай буржуазіі, жыццё прымушала пісьменніка брацца за простае, аднак неаб-

ходнае, як хлеб. Трэба было абудзіць у шырокіх сялянскіх грамадах, у гушчы працоўных людзей, ніклай праслойкі інтэлігенцыі пачуццё далучанасці да ўсяго, што робіцца вакол іх і ў свеце. Трэ было дайсці да сэрца тых, хто за працай не меў хвіліны ўзняць вочы да сонца. Трэ было змагчы грамадскую інерцыю цэлага народа.

Былі яшчэ канкрэтныя палітычныя абставіны, што прымушалі Гарэцкага неадкладна ўзяцца за пяро публіцыста: на Віленшчыне, аддзеленай тады дэмаркацыйнай лініяй ад Польшчы, Літвы, рэшты Заходняй Беларусі, меўся быць праведзены плебісцыт — належала вырашыць дзяржаўную прыналежнасць, палітычную будучыню рэгіёна. У першым сваім публіцыстычным выступленні ў газеце, якая надоўга ці не, а ўсё ж належала яму і яго аднанадумцам, пісьменнік гаварыў пра горкі палітычны вопыт мінулага, называў прычыны грамадскіх бед — пасіўнасць, неасвечанасць народа, цемнату, з якіх карыстаюць яго прыгнятальнікі, захопнікі з лічынай абаронцаў. «У нас, беларускіх сялян і работнікаў, ёсць шмат нацыянальных і сацыяльных ворагаў, але найгоршы наш вораг — наша несвядомасць і нядбайласць. Праз нашу несвядомасць і нядбайласць з намі робяць злыя людзі ўсё што хочуць. У нас адабралі наша імя… У нас проста з рук ірвуць зямлю. У нас даўно адабралі ўвесь набытак краю і гаспадара. Над намі здзекуюцца. Нам затыкаюць рот. А ў гэты час на кошт, набыты мазалямі рук нашых, абвяшчаюць свету, што мы і хочам таго ярма. Самі яго прагнем».

Вельмі канкрэтных анексіяністаў меў на ўвазе пісьменнік, хоць называць іх пайменна не даводзілася — усё ж газета была падцэнзурная, — калі ў 2-м нумары «Нашай думкі» пісаў: «Дурны той, хто ймець веры, што ў наш век можна далучыць чужую зямлю і перавярнуць на свой абраз чужы народ. Мінуліся тыя часы». Пра свой сацыяльны, палітычны ідэал будучыні прыходзілася гаварыць без адпаведных прадмету размовы фармуліровак, але выразна: «Мы адраджаліся не для таго, каб біць, драць, лупіць, зневажаць, а дзеля таго, каб пабудаваць найлепшы тып «простага» гаспадарства, дзе паноў не будзе, а «просты» чалавек будзе гаспадаром».

З публіцыстычных публікацый Гарэцкага пачатку 1921 года відаць, што пісьменніка моцна цікавіла нацыянальна-дзяржаўнае будаўніцтва Савецкай улады. Ён імкнецца ведаць у гэтай сферы ўсё. Вітаючы кожны крок, кожную жывую праяву на шляху дзяржаўнага будаўніцтва Беларускай савецкай рэспублікі, мучыцца над загадкай, чаму ўсходняя Беларусь, Віцебшчына і яго Магілёўшчына апынуліся за межамі БССР.

Часцей, аднак, даводзілася рэдактару ў яго газетных артыкулах, заметках гаварыць аб рэчах простых, будзённых, аднак жа жыццёва важных. Пра тое, як бараніцца ад самаўпраўства панскай адміністрацыі, дзе шукаць ратунку (артыкул «Гуртуйцеся»), як сцвердзіць сваё законнае права на асвету, вывучэнне краю (артыкул «Кафедра беларусазнаўства ў Вільні»). Гарэцкі арыентуе на дэмакратычныя і інтэрнацыяналыныя традыцыі ў адносінах паміж насельнікамі гэтага своеасаблівага ў этнічных адносінах рэгіёна (артыкулы «Беларусы і яўрэі» і інш). Асобна ніша артыкул-пасланне да беларусаўрабочых у Амерыцы, звяртаючы іх увагу на цяжкае становішча пакінутай

імі бацькаўшчыны, просіць аб матэрыяльнай падтрымцы школы, нерыядычных выданняў, кніжна-выдавецкай справы ў Заходняй Беларусі.

…Цяпер увесь час пісьменніка забірала работа, па-сутнасці, асветная: палітычна-асветная ў рэдакцыі, у газеце, культуряа і педагагічна-асветная ў гімназіі, у Беларускай драматычнай майстроўні, дзе яму даводзілася выступаць з лекцыямі аб тэатры. І ўсё ж яшчэ нешта рабілася дома, за рабочым сталом. Рыхтавалася другое выданне «Маскоўска-беларускага слоўніка» і «Невялічкі беларуска-маскоўскі слоўнік», таксама другім выданнем. Карцела паўнеіі выявіць беларускае карэннае слова ва ўсім яго сэнсава-стылёвым багацці. Ён узважваў, смакаваў, цаніў яго як пісьменнік-мастак і асветнш. Адабранае ўважліва, пільна, падсвечанае прыкладам, ідыёмай, яно, здаецца, несла, захоўвала ў сваім змесце, форме святло душы яго творцы — народа.

Тут, у доме на Вастрабрамскай, які тольк знадворку мог здацца крэпасцю, а ў жыцці мурамі сваімі ніяк не здолеў захінуць ад настой лівага вока «канарыкаў» (так з-за канарэечнага колеру формы называлі агентаў спецслужб бяспекі), Гарэцкі, прыспешаны імклівым часам рыхтаваў рукапісы «Хрэстаматыі беларускай літаратуры (XI век — 1905 год)», слоўнікаў, «Кароткага нарыса гісторыі беларускай літаратуры» у польскім перакладзе: трэба было падзяліцца беларускімі народнымі набыткамі з суседзямі — дзеля большага ўзаемапазнання і пашаны. Тут складаў «Дэкламатар»[1]. Трэба было хутчэй пусціць у народ дзеля духоўнага пажытку, палітычнага ўсведамлення лепшае з айчыннай паэзіі. У «Дэкламатар» Гарэцкі сабраў залатазёрны дасевак беларускага паэтычнага слова ад гімнічнага Купалавага «А хто там ідзе?», які паслужыў своеасаблівым камертонам, да інтымных радкоў Уладзіміра Жылкі. Узяў пераважна ўзоры грамадзянскай лірыкі, тое, чым жыла, чым была моцная беларуская літаратура эпохі дзвюх рэвалюцый у сваім парыве да свабоды, годнай будучыні.

Шмат часу забірала газета.

Вясною 1921 года нечакана, а, папраўдзе, калі глянуць на тыя ўмовы ды абставіны, у якіх даводзілася жыць і нешта рабіць, можа, і не так ужо нечакана («у гімназіі нам трудна… як з боку матэрыяльнага, так і духоўнага», — пісаў, прызнаваўся Гарэцкі акадэміку Карскаму) падступілася хворасць. «Нашу думку» давялося перадаць у іншыя рукі. Праўда, работа газеты ўжо была наладжана: вакол яе склаўся не лішне вялікі, але працадзённы аўтарскі актыў (ён уключаў публіцыстаў, пісьменнікаў), быў устаноўлены някепскі кантакт з правінцыяй. Настаўнікі, работнікі ды нямала хто з земляробаў, абуджаныя рэвалюцыяй, пацягнуліся да палітыкі. Спазнаўшы ў радыкальным перыядычным друку свайго заступніка, абаронцу, пісалі не толькі пра асобныя факты пагвалчэння грамадскіх правоў народа польскай адміністрацыяй у тым ці іншым павеце, але ў сваіх карэспандэнцыях, допісах патрапілі выявіць нярэдка і шырэйшы падыход да ацэнкі становішча ў краі.

[1] Усе ўспомненыя працы М.Гарэцкага выйшлі асобнымі выданнямі ў Вільні на працягу 1920-1922 гг.

Тым часам апазіцыйнасць беларускай газеты пануючаму рэжыму, яе адкрыта радыкальная пазіцыя ў зямельным пытанні, вельмі балючым для Заходняй Беларусі, дзе пераважала дробная гаспадарка, нарэшце, адкрытыя выказванні рэдакцыі ў дачыненні палітычнай будучыні Віленшчыны ўлада цярпела нядоўга.

У ліпені, як і яе папярэдніцу год назад, толькі ўжо не на пяцьдзесят сёмым, а на дваццаць сёмым нумары (па меры росту радыкалізму, апазіцыйнасці газеты век яе скарачаўся ) «Нашу думку» закрылі. У апошнім выпуску знак таго, што выданне будзе забаронена, з'явілася невялікая нататка загадчыка беларускай кнігарні ў Ашмянах Тарчэўскага, сваяка Францішка Багушэвіча. Сціплы энтузіяст беларускай асветы ў рэляцыі, напісанай рукой, звыклай трымаць плут і касу, паведамляў: «28.VI. у кнігарні паручнікам жандармерыі сканфіскавана 45 №№ газеты «Наша думка». Даю знаць да ведама: можа, будзе якая рада. Наогул — цяжка — баюся хадзіць у Ашмяну, збіраюць на мяне многа. Але хаця каб нажаць жыта на хлеб сям'і, а там няхай садзяць».

Нейкі месяц віленскія белартскія радыкалы былі без сваёй перыёдыкі. Заставацца ж без грамадскай трыбуны і далей, калі блізіліся выбары ў Віленскі сойм, які павінен быў юрыдычна вырашыць лёс краю, проста не было змогі. І Гарэцкі зноў хадайнічае перад уладай аб праве пачаць новае перыядычнае выданне. На гэты раз звяртаецца да аднаго з творцаў Сярэдняй Літвы З.Жалігоўскага, даводзячы яго эксцэленцыі аб праве беларусаў, спрадвечных жыхароў краю, мець свой друкававы орган.

«Беларускія ведамасці» пад рэдакцыяй Максіма Гарэцкага пачалі выходзіць у сярэдзіне верасня 1921 г. і праз чатыры месяцы прычыніліся да арышту пісьменніка ўдадамі Сярэдняй Літвы, заняволенню яго на Лукішках і пазней гвалтоўнай высылцы за мяжу. Але восень і пачатак зімы 1921 — 1922 гг. Максім Гарэцкі яшчэ добра папрацаваў у Вільні, баронячы інтарэсы працоўнага беларускага люду. Папрацаваў як мастак слова, празаік, а яшчэ больш як публіцыст, выконваючы фактычна чарнавую палітычную работу: даючы водпаведзь эндэкам з іх пахабнымі інсінуацыямі, заклікаючы да арганізаванага адпору князькам адміністрацыі, выкрываючы беларускіх прыслужнікаў пануючага рэжыму.

У публіцыстычных выступленнях «Важны фронт», «Беларусы, бярыцеся за грамадскую работу», ««Беларускія дзеячы» з польскай душою» і інш. Гарэцкі зноў пад літаратурным імем «Дзед Кузьма» вядзе жывую размову з чытачом, будзіць прыспаную вякамі няволі бяспраўя грамадскую думку суайчыннікаў, кліча да палітычнай актыўнасці, ставіць канкрэтныя надзённыя задачы, што выцякалі з абставін першых год жыцця Заходняй Беларусі пад уладай буржуазнай Польшчы. Трэба сказаць, што на той час апазіцыйныя рэжыму сілы яшчэ не афарміліся арганізацыйна. Не існавала Кампартыі Заходняй Беларусі, якая ў далейшым адыграла паважную ролю ў палітычнай барацьбе працоўных. Праўда, дзейнічала ў падполлі Беларуская рэвалюцыйная арганізацыя, але яе ўплыў быў абмежаваны. Толькі з восені 1923 года, калі была ўтворана КПЗБ, якая арганізацыйна ўключыла

ў сябе і БРА, справа арганізаванага адпору пануючаму рэжыму набыла пад сабой трывалейшы грунт.

Выступаючы ў газеце як публіцыст, Гарэцкі выказваў не толькі сваю думку. Пазіцыя, погляды пісьменніка адбівалі ў сабе меркаванні, пазіцыю прадстаўнікоў усёй заходнебеларускай радыкальнай інтэлігенцыі. У артыкулах Гарэцкага праглядае цэлая грамадска-палітычная праграма. Пісьменнік заклікае заходнебеларускую грамадскасць перш-наперш авалодаць нізавым звяном улады, валаснымі або гмінннымі, паводле польскай тэрміналогіі, упраўленнямі. Даслоўна : «узяць кіраўніцтва гмінамі з нявартых рук у рукі сапраўдных прадстаўнікоў народа». Гэта, па думцы Гарэцкага, «будзе падваліна, апора ўсякіх іншых арганізацый». Мясцовая ўлада, узятая ў рукі людзей, свядомых абаронцаў народа, паводле меркавання публіцыста, дазволіць «беларусам пад Польшчаю правесці і сваіх добрых дэпутатаў у польскі сойм. Яны будуць бараніць не толькі родную культуру, не толькі нашы духоўныя інтарэсы, але і эканамічныя патрэбы. А цяпер хто іх абароніць, хто скажа так што мусяць прыслухацца і пачуць?» — выказваў думку, слушна пытаўся ў чытача Гарэцкі. Слова пісьменніка-публіцыста было ўзрушаным і, трэба думаць, падала не на камень. Была ж у ім кроўная праўда заходнебеларускага жыхарства, было тое, пгто балела цэламу народу. «Хто цяпер бароніць правы нашых уцекачоў на падмогу (маецпа на ўвазе рэвакуіраваных бежанцаў, выгнаных у свет імперыялістычнай вайной — *А. Л.).* сялян на зямлю і розныя багацці свайго краю? — Ніхто!» — адказваў на сваё рытарычнае пытанне публіцыст. Адказваў у поўнай адпаведнасці з гістарычнымі, жыццёвымі фактамі.

Звяртаючыся непасрэдна да палітычнай сітуацыі ў т.зв. Сярэдняй Літве, Гарэцкі пераканаўча сцвярджаў: «…тут у звязку з палітычным момантам справа беларускай арганізацыі незвычайна даспела і вымагае найбарджэйшае і нашіільнейшае падгатоўкі. Бо ў адзін прыгожы дзень наша становішча можа скончыцца (гутарка ішла аб няпэўным, часовым дзяржаўным статусе віленскага калідора — *А. Л.)* і беларусы павінны будуць паказадь усе свае адміністратыўныя, культурна-нацыянальныя і навогул грамадскія сілы і здольнасці». На духоўныя патэнцыяльныя магчымасці Заходняй Беларусі ўжо ў 1921 годзе пісьменнік глядзеў аптымістычна. «Сіл у нас хопіць.— падагульняў ён свае разважанні.— Мы сапраўды адна з культурных і духоўна багатых нацый. Але ж калі сілы нашы будуць расцярушаны, не звязаны, не падлічаны, адны адным невядомы?..» — засцерагаў ён рэзонна перад горшым зыходам гістарычнай сітуацыі. Будзячы грамадскас сумленне, асуджаючы пасіўнасць, апатыю, выказваўся за дзейсную канкрэтную грамадскую работу: «Ці не пара б было весці работу з планам, абдумана і арганізавана?»

Баронячы народныя інтарэсы, даводзілася мець справу не толькі з адкрытымі ворагамі, як эндэкі, але і з замаскаванымі, беларускімі прыслужнікамі паноў становішча. На самым пачатку 20-х у Заходняй Беларусі найпрыкметнейшай постаццю сярод іх быў Павел Аляксюк. Адвакат, з сякімі-такімі журналісцкімі здольнасцямі, з добрым нюхам на

грошы, беспрынцыповы, амаральны палітыкан, Аляксюк прэтэндаваў сярод беларусаў на лідэра з польскай арыентацыяй. Вадзіў хаўрус з зеленадубаўцамі, з Булак-Балаховічам, Савінкавым. Выдаваў газетку «Jedanść», а ў 1921--1922 гг. нават штодзённую «Раніца», тварыў сваю арганізацыю, склікаў з‘езд Заходняй Беларусі, — адным словам, пнуўся трымацца на паверхні грамадскага жыцця краю. У абставінах выбараў у Віленскі сойм, які павінен быў канчаткова вырашыць палітычны лёс «калідора», заклікаў насуперак пазіцыі радыкальных дзеячоў, ісці галасаваць, каб далучыць Віленшчыну і ўсю Заходнюю Беларусь да Польшчы. Гарэцкі вуснамі свайго Дзеда Кузьмы выкрыў увішнога прыстасаванца, каліфа на час, які імкнуўся жыраваць на недастатковай асвечанасці сялянства, грамадскай інертнасці шырэйшых гушчаў.

Гарэцкаму-публіцысту нельга адмовіць ва ўменні скупымі штрыхамі стварыць выразны, акрэслены партрэт палітычнага авантурыста з прэтэнзіяй. «Пан Аляксюк як палітычная асоба і як палітык, — пісаў пісьменнік, — ёсць поўнае нішто, нуль. Гэта ёсць пашыраны сучасны тып Рэпяцілава з грыбаедаўскага «Горе от ума» (Шумим, братец, шумим), але з дамешкаю досыць энэргічнага фахоўца на ўсякія, блізка авантурныя штукі. Няма нічога асабліва дзіўнага, што якраз на яго долю выпала работа канчаткова папсаваць беларуска-польскія адносіны і звесці беларускае пытанне ў Польшчы ў цёмны і непрыгожы закутак».

Але Алексюка не проста было суняць. Ён абвінавачваў публічна «Беларускія ведамасці» і іх рэдактара ў матэрыяльнай залежнасці ад бальшавікоў і любой цаной стараўся споўніць бліжэйшы наказ сваіх працадаўцаў, конт‘рразведкі з 2-га генштаба Польскага войска, павесці за сабой беларусаў на выбары, каб іх імем прысягнуць на вернасць чужой дзяржаве. І Дзед Кузьма Максіма Гарэцкага зноў забіраў слова, каб паталкаваць з сваім народам. Як некалі Яська, гаспадар з-пад Вільні Каліноўскага ў «Мужыцкай праўдзе». «Браты беларусы, працоўныя людзі, — пісаў пісьменнік у артыкуле «Выбары ў польскі віленскі сойм».— Дагэтуль у нас ніхто не пытаўся, чаго мы хочам і што нам баліць. Рабілі з намі што хацелі. Адна была ў нас уцеха, што мы сваёй падпіскі на гвалт і здзек над намі нікому не давалі. Значыцца: рабі са мною, калі твая сіла, што хочаш, а маёй згоды на гэта нават пад прымусам няма! Ды вось прыйшоў такі час, калі без нашай згоды панаваць камусь над намі ўжо ніякава…

Трэба яму, каб мы далі сваю падпіску. Прыдумалі склікаць у Вільні сойм. Намаўляюць нас выбіраць угодных Полынчы і панам людзей, каб яны далі за нас падпіску на вечную няволю. Дык жа не; няўжо ж мы гэткія цёмныя, штосамі палезем у пастку на згубу. Выбраць сваіх верных людзей мы цяпер усё роўна не можам, дык няхай сойм склікаецца без нас і пастанаўляе што хоцькі без нас! Вядома, ён пастановіць, што тут Полыпча, дык трэба і ў нас шмат зямлі пакінуць паном, а рэштку купяць у паноў дробныя панкімазуры ці будзе надзел іншым каланістам з Польшчы. Але хай пастанаўляе. Калі ж на гэту нягодную справу так патрэбна наша падпіска цераз выбіранне ў польскі віленскі сойм, дык падзівімся, што з яе будзе без нашай згоды.

Мусіць, нічога не будзе, і нашым панам прыйдзецца падзяліцца зямлёй з намі, а не так, як яны хочуць…»

Так, была гэта не лішне ўдзячная работа для мастака слова. Але работа пільная, неабходная. Не абыходзіліся без асветніцтва вунь якія незраўняныя творцы. Як было ў пільнай патрэбе сцурацца яе беларускаму літаратару. Ды толькі хто пазней у трывалым, стройным гмаху-цытадэлі супраціўлення працоўных Заходняй Беларусі буржуазнаму рэжыму, які ўсёй сваён велічы ўзняўся ў другой палове 20-х, заўважыць цагліну, пакладзеную ў яго падмурак Максімам Гарэцкім? Добра, калі гісторык літаратуры пацікавіцца адно мастацкім набыткам пісьменніка за той неспакойны час.

На старонках «Беларускіх ведамасцяў» Гарэцкі паспеў надрукаваць нейкіх сем апавяданняў, сярод якіх «Паншчына», пазней перайменаванае ў «Смачны заяц», «У досвецця». У «Досвітках» (так пазней названым) узнавіў атмасферу, у якой, будучы падлеткам, слухаў-пераймаў прыгоды, гісторыі з часоў прыгону, назваў крыніцу сюжэтаў апавяданняў «Панская сучка», «Прысяга», «Асілак», Паншчына» і іншых твораў — згадкі дзеда, імя якога, жывога летапісца-байкара, браў за псеўданім. Да тэмы мінулага, пары паншчыны, прыгону (як яна жыла ў памяці старэйшага пакалення) Гарэцкі звярнуўся рана. Ужо ў зборніку «Рунь» побач з акварэльна тонкім псіхалагічна насычаным накідам «Князёўна», у вобразе якой угадваецца прататып Ефрасінні Полацкай, ёсць навела «Войт». Ужо ў гэтым першым для пісьменніка вобразе тыповага прадстаўніка прыгоннай рэчаіснасці адчуваецца арганічна мастацкі падыход, псіхалагічная неаднамернасць створанай Гарэцкім-мастаком мадэлі жыцця. Свядомая ўстаноўка на пазнанне і мастацкае ўзнаўленне мшулага на-рода, яго этыкі, філасофіі, чытаецца ўжо ў «Родным карэнні» Гарэцкага: «Першае, што скажу я табе — кажа-наказвае дзед унуку які ў навуку адправіўся — гэта — чытай, галубец, у кніжках і ў разумных людзей пытайся, як жылі даўней нашы тутэйшыя людзі… Споўніш гэты загад — у жыцці не ашукаешся, будзеш ведаць што рабіць трэба». Драматызмам і псіхалагічнай пераканаўчасцю, пластыкай у выяве малюнкаў прыроды ў суаднясенні іх з жыццём, вылучаецца апавяданне «Прысяга», што паклікалася на паперу ў шчодрую на плён слова для пісьменніка гжацкую восень шаснаццатага года. Карціна жудкаватая ў сваёй жыццёвай праўдзе, усё з той жа прыгоннай рэчаіснасці.

У навелістыцы Максіма Гарэцкага віленскіх год выразна пераважала тэматыка, звязаная з прыгонным мінулым Беларусі. Не было гэта выпадковасцю. Некаторыя тыпы даўно адышоўшай паншчыны, няхай сабе моцна змененыя, усё ж час ад часу мільгалі ў заходнебеларускай рэчаіспасці 20-х гадоў. Не толькі памешчыкі, арыстакратыя, а ўся сістэма буржуазна-абшарніцкай дзяржавы з яе напдскам на селяніна, работніка, прытоенай або адкрытай пагардай да простага люду, выклікалі, будзілі ў аналітычным розуме адпаведныя асацыяцыі з даўнейшым. Яшчэ ў апавяданні «Панская сучка». напісаным у Смаленску і апублікаваным спачатку на рускай мове ў «Известиях Смоленского Совета», Гарэцкі імкнецца звязаць жорсткую гісторыю-быль часоў прыгону з канкрэтнымі прадстаўнікамі феадальна-

га класа, з імёнамі князя Вішнявецкага, графаў Пшаздзецкага і Зільбер-Плятэра. Гэтым самым імкнуўся да шырэйшага сацыяльнага і мастацкага абагуль-нення, падвядзення гістарычных падвалін пад эпас аб мінулым. Не менш паўнакроўна выпісаны тут войт Рымарчук і прыгонная еялянка, ахвяра самадурства прытоннікаў, якая такі здолела пастаяць за сваю чалавечую мацярынскую годнасць. Тацяна Турботная. Апавяданне «Паншчьша», напісанае і апублікаванае ў Вільні, пазней вядомае пад назвай «Смачны заяц», наадварот, дае абагульнены вобраз магната, князя, не называючы яго імя. Княжацкі кухар, драматычныя перыпетыі лёсу якога і складаюць фабулу апавядання, таксама выступае безыменным. Па імені тут названы толькі памочнік кухара кухаронак Ясючок. Паважная плынь аб'ектывізаванага, аўтарскага апавядання трапна зрэдзь часу перапыняецца тут філасофскай сентэнцыяй. Гэты прыём хараша арганізуе ўсю архітэктоніку твора, падвышае яго гучанне, скіроўвае асацыятыўную думку да вяршыняў мастацкай творчасці. Жыццёвая праўда, псіхалагічная пераканаўчасць вобразаў, а значыць, праўда мастацкая тут выступаюць у поўнай знітаванасці, гармоніі. Зрэшты, як у большасці талентаў, верных праўдзе жыцця, праўдзе гісторыі, верных сабе.

Суровая заходнебеларуская рэчаіснасць, Вільня, дзе побач быў Лукішскі пляц з ценем вісельні Каліноўскага і яшчэ больш рэальная самі Лукішкі, пра якія гаварылася як пра самую рэальную перспектыву для рэдактара («Мы пішам газету, азіраючыся на «Лукішкі», — прызнаваўся Гарэцкі), спялілі ўсё ж у пісьменніку мастака незалежнага, цвёрдага ў сваіх перакананнях што да абавязку перад народам. І вобраз прыгоннага музыкі Арцёма Скамароха (так ва ўяўленні пісьменніка абагульнілася яго найменне) радаваў якраз мастакоўскай, чалавечай годнасцю, няскоранасцю жорсткай волі панаваладара. Праз цяжкае выпрабаванне волі, роздуму, духу вядзе свайго героя, прыгоннага скрыпача, Гарэцкі ў апавяданні «Страшная музыкава песня». Мастацтва перамагае зло, вялікае мастацтва неўміруча, — сцвярджае пісьменнік сваім творам ды, калі глядзець шырэй, то і ўсёй творчасшо, абапертай на трывалую гуманістычную аснову.

Была. як кашмарны сон, тая ноч Гарэцкага, калі дэфензіўшчыкі раптам загадалі яму выбірацца з адзіночкі на Лукішках, прыгналі дахаты, каб развітацца з сям'ёй і гэтым напалохаць яе да смерці, а потым везці ў невядомым напрамку аж да загаду: «Марш у кірунку літоўскай граніцы!» Пацвярджэннем рэальнасці злавеснага дзейства былі тры кулямёты, накіраваныя ў спіны высыланых. Знайшлі-такі выйсце. Судзіць адкрытым судом не было за што, хоць абвінавачанняў прад'явілі нямала: сувязь з камуністамі, праца на атрыманыя ад іх грошы, сепаратызм, ведаў: асноўная віна яго — «Беларускія ведамасці». Сталі яны панам косцю ў горле. Перашкаджалі рабіць шахермахер з выбарамі. І апошняй кропляй цярпення гаспадароў становішча ў дачыненні да беларускай незалежнай газеты было апублікаванне ёю матэрыялаў пра групу Алексюка. На чые грошы яна агітуе за далучэнне Віленшчыны да Польшчы Гарэцкі надрукаваў у «Беларускіх ведамасцях»

буйным шрыфтам. Каб шулера ад палітыкі прытым нібыта клапатара за беларускія інтарэсы, выбаршчыкі адрознівалі ад сапраўдных абаронцаў іх сацыяльнага і нацыянальнага права.

Праз Коўна Гарэцкі дабраўся ў Латвію, у Дзвінск. Там, добра ведаў з друку, існаваў заснаваны настаўніцтвам беларускі культурна-грамадскі асяродак. Працавала гімназія, былі адкрыты пры зычлівым спрыянні Яна Райніса беларускія школы. Арганізавалася драматычна-тэатральная дружына. Гарэцкі, вядомы пісьменнік, аўтар кніг гісторыі літаратуры, хрэстаматыі, слоўнікаў, спрактыкаваны педагог, быў не толькі жаданым госцем, але чалавекам незаменным. Яго прасілі прачытаць лекцыі па літаратуры на настаўніцкіх курсах, тэарэтычна падкаваць аматараў тэатра. Рабіў і тое, і другое і не забываўся на літаратурна-мастацкую працу. Непасрэдна сутыкнуўшыся з праблеман рэпертуару для энтузіястаў беларускага тэатра, узяўся за п’есы. Даўно меў поцяг да драматызаванай формы мастацкага выказвання. Цяпер адразу напісалася аж некалькі невялікіх драматычных абразкоў, п’ес «Мутэрка», «Каменацёс», «Салдат і яго жонка», «Чырвоныя ружы», «Свецкі чалавек»… «Мутэрку» паслаў у «Нашу будучыню», якую ўдалося агораць віленчанам пасля яго выгнання панамі з Сярэдняй Літвы. Уласна «калідора» ўжо не было. Віленскі сойм, у якм гаспадарылі эндэкі ды хадэкі ,без ніякіх федэрацыйных праў, асноў, як гэта разлічвалі дэмакратычныя колы, далучыў яго да Польшчы. У Вільні, ведаў, жонка, сябры праз адваката Тадэвуша Урублеўскага, чалавека нязменна прагрэсіўных перакананняў, патрыёта краю, агульна прызнанага прававеда, хадайнічаюць перад цэнтральнай уладай за яго. Дэпартацыя пісьменніка з Вільні не мела пад сабой ніякай праўнай падставы. Была грубай, паліцэйскай формай палітычнай расправы з апазіцыйна настроеным літаратарам. Абаронцу лейтэнанта Шміта, Урублеўскаму, было няцяжка гэта даказаць. Максіму Гарэцкаму, натаміўшы яго Лукішкамі высылкай, выгнаннем, дазволілі вярнуцца да сям‘і. Пісьменнік яшчэ сёе-тое паспеў надрукаваць у віленскай беларускай перыёдыцы. Але цяпер ужо жыў думкамі аб тым, каб выбрацца ў Савецкую Беларусь, Менск. Яшчэ будучы ў Дзвінску, ездзіў у Рыгу, у Савецкае пасольства, даведацца, як гэта зрабіць. Тут, на Захадзе, на палітычным гарызонце, на яго, Гарэцкага, даляглядзе грамаздзіліся хмары. На ўсходзе неяк усё шырэй абдымала жыццёвую далеч зара. Усё святлейшыя, радаснейшыя весткі даходзілі сюды аб сацыяльных набытках народа пад Савецкай уладай, аб рэальных заваёвах беларускай асветы, культуры на ўсход ад польска-савецкай мяжы. І ўсё ж Вільню пакідаў Гарэцкі не без жалю. Шмат з ёю было звязана. Рознага. Не толькі цесная цэля Лукішскай турмы ўспаміналася пісьменніку пазней. За чатыры гады бытавання тут паспеў урасці ў яе грунт душою. Тут лёгка адгукалася рэха стагоддзяў. Лунаў падзвіжніцкі дух Скарыны, яго, Гарэцкага, земляка Пятра Мсціслаўца, выгнанца-пілігрыма Адама Міцкевіча… Тут асабліва блізкія, зразумелыя яму былі іх апантанасць, боль, парырыў да святла. Тут узрушалі яго сэрца, парывалі ўяўленне вобразы рана адышоўшых маладых сейбітаў роднай нівы Багдановіча, Алаізы Пашкевіч-Цёткі, Івана Луцкевіча,

Сяргея Палуяна… Паклікаў іх да жыцця, у сучасную яму яго Вільню, друкуючы ў «Беларускіх ведамасцях » «Навагоднюю фантазію».

Усё, здаецца, найбольш цікавае, самае даспелае, вартае, што з’явілася было на старонках газеты, потым адбіў друкам у трох асобньгх зборнічках. А сваіх мастацкіх рэчаў, пра публіцыстыку і думаць не прыходзілася, не сабраў не было калі, у адну вязанку. Можа, у лепшыя, спагаднейшыя часы…

А наогул, калі шчыра, папраўдзе, то папракаць сябе яму няма ў чым. Стаяў прама, часу не змарнаваў. Дзве газеты, што рыхтаваў з сябрамі, пускаў у народ, рабілі патрэбную справу. Па тым, як з розных куткоў заходнебеларускай зямлі адгукаліся на слова іх людзі — спавядальнымі скаргамі, развагамі, радамі — сустрэчным словам, можна было меркаваць: душэўны запал гублялі недарма, зерне падала на ўдзячную глебу.

Ды, мабыць, нечага варты і яго педагагічны дасевак: кнігі пра дітаратуру, само мастацкае слова беларускае, сабранае ў кніжкі-хрэстаматыі, дэкламатар. Народнае маўленне, словы, выразы спарадкаваныя ў лексічных выданнях, перакладных руска-беларускіх і беларуска-рускіх слоўніках.

Можа, зашмат часу адабраў ён гэтым у сваіх апавяданняў, аповесцяў, будучых раманаў? Але, здаецца, ні разу яшчэ не ўчыняў гвалту над працай сваёю, над сабой. Ішоў насустрач часу, рабіў тое, што падказвала сумленне, думка, было патрэбна людзям. Мастацкую дзялянку, як ні быў заклапочаны, заняты іншым, пакуль што не кідаў ніколі. Стала чуў у сабе патрэбу ўбачанае, згаданае, передуманае, тое, што мільгнула вобразам, пачулася блізкай ненкаму ўнутранаму руху душы інтанацыяй, замацаваць у слове. Часам адзін факт непакоіў, высвечваў у свядомасці праблему, за якой быў цэлы свет жыцця, чалавечага, народнага.

Яшчэ ў той час, калі грымела громам гармат і слязьмі пакут залівала паўсвету ваняа распачатая манархамі, пісьменнік, ачунялы ад ран, мабыць, з пісьма з дому даведаўся, што на фронце, ці толькі не ў першы дзень свайго побыту там, забіты сын вясковых суседзяў Гарэцкіх Восіп Нажынскі.

Гэты жорсткі, пакутны дзень земляка пісьменнік убачыў праз свой горкі ваенны вопыт, праз вопыт тых, хто быў у пекле вайны побач. За што? — апошні, роспачны, немы крык канаючага пісьменнік вынес спачатку ў загаловак. Упершыню надрукаваў як абразок вайны ў перакладзе ў «Известиях Смоленского Совета». Адʻязджаючы з Вільні ўвосень 1923 года адзін з рукапісаў арыгінала пакінуў для зборніка літаратуры, навукі, грамадскай думкі «Заходняя Беларусь». «За што?» было надрукавана ў Вільні, калі яго аўтар быў ужо ў Савецкай Беларусі.

У Менску рытм, атмасфера жыцця моцна розніліся ад віленскіх. Яны неўпрыкмет забіралі пісьменніка ў сваю ўладу. Часу на разгледзіны не было. Прапанавалі выкладаць мову і літаратуру на рабфаку Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта.

Запрасілі ў Інстытут беларускай культуры. Тут ужо даволі паважна было настаўлена беларусазнаўства, даследаваліся розныя аспекты духоўнага жыцця народа.

Ва ўсіх сферах жыцця адчувалася навіна, ажыўленасць, пошук.

Рэспубліка будавалася. Умацоўвала свае асновы сацыяльныя, культурныя, дзяржаўныя. У далучаную Віцебшчыну, а крыху пазней Магілёўшчыну, у Клімавіцкую яе акругу ўжо па асабістым запрашэнні сакратара акружкома Алеся Адамовіча Максім Гарэцкі ездзіў з лекцыямі. Выступаў як паўпрэд беларускай культуры. Прадстаўнік дасведчаны, правамоцны. Слова, сказанае ім тут пра духоўны набытак беларусаў, было словам, сказаным у пару. Адно што было супольным у жыцці пісьменніка ў параўнанні з віленскім часам — абсяг работы. Ён не меншаў. І тут творчыя планы яму ўладна дыктавалі патрэбы дня.

Дзяржаўнае выдавецтва, у кіраўніцтве якога былі Жылуновіч-Гартны, Янка Купала, прапанавала падрыхтаваць новае выданне «Гісторыі беларускай літаратуры», хрэстаматыі, слоўнікаў. Асвета ў Савецкай Беларусі трывала станавілася на нацыянальны грунт. Патрэба ў такога роду кніжках была вялікая. Гісторыю літаратуры ў чарговым выданні трэба было пад-навіць не столькі метадычна (узважаны, арганічны сацыяльна-эстэтычны аналіз даўся Гарэцкаму ў першымварыянце), колькі неабход-на было расшырыць яго за кошт новых імён. За нейкіх пяць-сем паслярэвалюцыйных савец-кіх год беларуская літаратура зрабіла значны крок наперад.

У самабытныя літаратурныя постаці скла-даліся паэты Міхась Чарот і ўладзімір Дубоўка, празаікі Кузьма Чорны і Міхась Зарэцкі, крытык Адам Бабарэка… Было нямала новяга напісанага і «старымі», жывымі класікамі, Ку-палам, Коласам, Бядулем, такога, што патраба-вала сур'ёзнага гісторыка-эстэтычнага тэарэтычнага асэнсавання.

Да савецкага выдання сваёй «Гісторыі беларускай літаратуры» Гарэцкі дадаў даволі важкі раздзел, прысвечаны народна-паэтычнай творчасці. Ім пачаў гісторыю прыгожага пісьменства, добра ўсведамляючы, якая гэта вялізная неацэнная спадчына беларускі фальклор, які ўнікальны летапіс народнага жыцця ён уяўляе і колькі патэнцыяльных магчымасцей творцы свайго сцвярджае.

…Радасць сустрэчы з роднымі пасля доўгага расстання таіла для Максіма і тужлівую, журботную ноту. Трагічная смерць малодшай у сям'і Гарэцкіх, парывістай, летуценнай Ганначкі, ценем клалася на сэрцы. Сын прывёз маці ў Менск. Ефрасіння Міхайлаўна хацела разам з Максімам адведаць Ганначкіну магілку ў Маскве.

Малодшы, Гаўрыла, расказаў падрабязна, як папала сястра пад трамвай, як памірала. Чуў сваю міжвольную віну ў тым трагічным выпадку. У той дзень яна спяшалася на Лубянку, куды па навету аднакурсніка трапіў быў Гаўрыла. Сам Мянжынскі тады пацікавіўся навучэнцам акадэміі. Зычліва гаварыў, выслухаў цэлы трактат пра адраджэнне беларусаў, пажадаў поспехаў у акадэмічнай вучобе.

Гаўрыла, іх Гурык, узмужнеў: раздаўся ў плячах, запаўняў сабой дзвярны праём, у голасе чуліся. самавітыя ноткі. Ад яго Максім шмат пачуў аб жыцці

студэнтаў-землякоў у Маскве: пра маёўкі, клопаты з выданнем часопісаў «Змаганне», «Маладая Беларусь»… Асобна пра беларускую секцыю ў сельскагаспадарчай акадэміі, якую сам узначальваў. Даклады, спрэчкі (дарэчы, пасяджэнні секцыі наведваў кіраўнік беларускага прадстаўніцтва М. Мароз, а аднойчы, будучы ў Маскве, заглянуў нават старшыня ЦВК Беларусі А.Р.Чарвякоў) прысвячаліся пытанням гаспадаркі, эканомікі, гісторыі. Рыхтаваліся, пісаліся гэтыя навуковыя выступленні з думкай пра гаспадарча-эканамічны фундамент рэспублікі, пра яе духоўны ўздым.

Малодшы Гарэцкі з запалам, пераканаўча гаварыў пра будучыню. Беларусь уяўлялася, мроілася яму ўся пакрытая навукова-даследчымі станцыямі. Трэба было вывучаць яе глебы, яе лясы, балоты, зямныя нетры. Ускрыць усе вытворчыя магчымасці краю, эканамічны патэнцыял, які, моладзь верыла, — не маленькі.

Гаўрыла Гарэцкі ўжо пісаў сваю першую кнігу. Яна вырастала з карпатліва сабраных звестак па эканоміцы Беларусі, яе сельскай гаспадарцы і прамысловасці.

У прадмове, накіданай летам 1925 года у Малой Багацькаўцы, Гаўрыла Гарэцкі пісаў аб прадмеце свайго даследавання.

«Народны прыбытак яскрава адбівае у сабе гаспадарчыя асабдівасці краю, дае магчымасць вызначыць ролю паасобных галін гаспадаркі, іх развіццё; ён паказвае адносную беднасць і багацце народа і, што ў тыя гады (першы варыянт працы быў здзейснены ў 1920-1921 гг. — А.Л.) здавалася мно асабліва важным, ён паказвае наша месца, нашу адносную вагу ў гаспадарцы Еўрапейскай Расіі…

…Вылічэнне народнага прыбытку дапамагае адшуканню геаграфічных заканамернасцяў, дае матэрыялы аб тыпе народнай гаспадаркі, можа быць сталай падставай эканамічнай палітыкі, асабліва ў беларускіх умовах, калі маладая наша дзяржава пачынае самастойнае гаспадарчае будаўніцтва пры адсутнасці самага пачатковага матэрыялу па вывучэнню Беларусі».

Задачы былі пастаўлены грунтоўныя, маштабныя, з тых, што па плячы сталаму, спрактыкаванаму вучонаму. Малады даследчык кампенсаваў гэты бачны недахоп запалам, патрое-най энергіяй, творчай знаходлівасцю.

Абагульненні маладога эканаміста датычылі і асобных галін сельскай гаспадаркі рэспуб-лікі, стану ў мінулым і тэндэнцый, што абазна-чыліся апошнім часам: «Беларусь — край з залежнай роллю збожжа, якое даводзіцца толькі да харчовае нормы, край з інтэнсіўнымі формамі жывёлагадоўлі, пакуль што мясной, з харчовай малочнаю гаспадаркаю, у якой ужо з'яўляецца, пакуль што вельмі слабы рыначны ўхіл». Малады вучоны ў сваёй кнізе дае нямала звестак, якія не толькі эканамісту, гісторыку, а і проста чалавеку, неабыякаваму да мінулага народа, цікавы і праз гады. Напрыклад, факт, што памешчыкам у дарэвалюцыйнай Беларусі належала 75,01 працэнтаў усіх лясоў, а 17,49 працэнтаў лясных масіваў былі скарбовыя. Яшчэ такі факт, што лён, на 98 працэнтаў — культура мужыцкая, г. зн. культываваўся, апрацоўваўся ў сялянскай гаспадарцы. Або такая інфармацыя: да рэвалюцыі ў Беларусі налічвалася 96 тысяч рамеснікаў.

Беларуская прамысловасць, і Гарэцкі гэта наглядна даводзіць, у мінулым выяўляла сабой акрэслены рамесніцка-саматужны тып. Доля яе ў народным прыбытку Беларусі была значна меншая, чым доля прамысловасці ў на-цыянальным даходзе Расіі.

Вучоны зноў жа скрупулёзна падлічвае, падсумоўвае той прыбытак, што даюць апрацоўчая прамысловасць воўны, бавоўны, лёну, шоўку, дрэва, металу, выраб паперы.

За шматлікімі, проста ўражлівымі падлічэннямі, табліцамі, абагульненнямі маладога вучонага праглядаў жывы і кампетэнтны клопат — хутчэй убачыць і наблізіць уздым вытворчых сіл роднага краю. Першую сваю працу, прысвечаную ключаваму пытанню развіцця эканомікі рэспублікі, Гарэцкі заканчвае на аптымістычнай ноце: «Маладая з боку прамысловага развіцця краіна, дзе індустрыяльнаму развіццю перашкаджала ў даўнейшыя гады палітыка царскага ўраду, Беларусь цвёрда стала на шлях індустрыялізацыі…»

Тысяча дзевяцьсот дваццаць пяты для братоў Гарэцкіх прайшоў на ўздыме.

Толькі год пасля заканчэння Ціміразеўскай акадэміі папрацаваў Гаўрыла Гарэцкі ў Маскве, у Камуністычным універсітэце народаў Захаду, дзе чытаў курс эканамічнай геаграфіі свету. Цягнула дамоў. І ў дваццаць пятым ён ужо ў Мінску.

Не ўдалося хітраму, спрактыкаванаму столаначальніку наркамата асветы Валасевічу перашкодзіць Гарэцкаму заняць кафедру эканамічнай геаграфіі ў Белсельгасакадэміі ў Горках. Праўда часу была не на баку чыноўніка. Рэалізавалася нацыянальная ленінская палітыка. Яе рэальная праява — беларусізацыя.

Для Максіма 1925-ты быў перш-наперш годам падрахункаў працы мастацкай, літаратурнай. Збіраў раней напісанае, заканчваў няскончанае. Нарэшце былі ўмовы для нармальнай працы, час, каб падбаць пра новыя кніжкі прозы. Так здарылася, што яны не выходзілі ўжо шэсць год. Апавяданні, абразкі з часоў паншчыны, удакладняючы факты, дэталі памяццю старэйшых роду, аб'ядноўвае ў зборніку «Досвіткі». Замалёўкай аднайменнай назвы ўводзіць чытача ў даўні свет, дае ёю натуральную эмацыянальную настройку на ўспрыманне карцін таго, што ўжо стала гісторыяй, а некалі было існасцю жыцця народа. Рэтраспекцыя была па-мастацку пераканаўчай і эмацыянальна блізкай сучасніку, сынам і ўнукам, вызваленых рэвалюцыяй ад сацыяльнага і нацыянальнага ўціску людзей. Але Гарэцкі тут не ішоў за карацейшай патрэбай дня. Ён здзяйсняў сваю болыпую, можа, адну з найбольшых задум — у паўнакроўных мастацкіх вобразах, карцінах узнавіць гістарычны шлях, што прайшоў народ. І то не проста ў асобе лепшых сваіх прадстаўнікоў, а сам народ. Сотнямі, тысячамі, тысячамі тысяч сялян, сялянак, ратаяў і сейбітаў, цесляў і музыкаў, жнеяў, рабачаек і пяюлляў, што жылі, тварылі жыццё, яго харашыню і мудрасць — песні, казкі, паданні, драўлянае дой-лідства і адыходзілі ў нябыт, каб праз пакаленне, другое стаць безымяннымі, забытымі.

У перапынку працы над падрыхтоўкай трох сваіх мастацкіх кніжак зімою дваццаць пятага Максім з'ездзіў у Багацькаўку і прывёз у Мінск маці, загадзя дамовіўшыся са знаёмымі музы-кантамі, што яны запішуць наспяваныя ёю песні. З дзіцячых год матчыны песні былі на слыху ў сына: маці азывалася імі пры рознай рабоце — у хаце як прала, калі скрэбла бульбу на вячэру, у полі ў час жніва, пры ўборцы лёну.

Згадзіўшыся ад слова Грыневіч прыйшоў са старой скрыпачкай пад пахай і скруткамі нотнай паперы. Але работа не пайшла. Слухавы запіс песень вымагаў напружання, цярпення, — часу ад спявачкі і запісчыка. Аднойчы дачка Галіна шапнула бацьку, што барадаты дзядзька-музыкант заснуў, запісваючы песні, а бабуля сядзіць збянтэжаная. Максім прабачальна сумна ўсміхнуўся. Ведаў суровую адысею рупліўца беларускага фальклору: Грыневіч нядаўна, можна сказаць, толькі што вырваўся з рук дэфензівы. Каля года сядзеў у Лукішкінскай турме. Максім тады, яшчэ ў сакавіку 1921 г. у «Нашай думцы» публічна апавяшчаў пра гэта грамадскасць. «У Вільні на Лукішках (астрог) мадзее аўтар музычнае літаратуры Антон Грынввіч…» «Мадзее» — народ у гэта слоўца ўкладаў дакладны глыбокі сэнс. Фізічна і маральна вычарпаны музыкапт запісаць тую моц песень, што ведала Ефрасіння Гарэцкая, не патрапіў бы зараз, і пісьменнік запрасіў маладзейшых Аладава і Ягорава. Гэтыя, асабліва апошні, прыклалі нямала працы, каб запісаць, а Максім, каб падрыхтаваць і выдаць адзіную на многа год наперад кнігу-рэпертуар матчыных песень, асобны том твораў адной народнай спявачкі. Будучы добрым знаўцам народна-паэтычнай культуры, фалькларыстам (Гарэцкі не толькі падрыхтаваў прысвечаныя фальклорным жанрам раздзелы ў «Гісторыі беларускай літаратуры», «Выпісах з беларускай літаратуры», але выступаў з дакладам «Збіранне і апрацоўка фальклору» на Першым Усебеларускім краязнаўчым з'ездзе), пісьменнік дасканала спарадкаваў вялікі і разнастайны матэрыял у зборнік «Народныя песні з мелодыямі», так што атрымалася цэласная ў сваіх цыклах і жанрах кніга-паэма народнага жыцця, жывы адлюстровак народна-паэтычнага генія.

У дваццаць пятым Гарэцкі падрыхтаваў да выдання аповесць «У чым яго крыўда?», роспаведзь пра перажыванні і шуканні маладых гадоў, апублікаваную адначасова са зборнікам апавяданняў «Досвіткі» і дакументальнай аповесцю «На імперыялістычнай вайне» ўжо ў 1926 годзе, часе не толькі спорнай сяўбы, але і плённага жніва Гарэцкага-празаіка. Гэтым жа годам пабачыла свет і пачатая яшчэ ў 1917 годзе, цяпер канчаткова перапрацаваная і закончаная аповесць «Ціхія песні». Аповесць «Ціхія песні», у другім выданні названая аўтарам «Ціхая плынь», — лепшая сярод твораў пісьменніка гэтага жанру, прыкметны набытак усёй нацыянальнай літаратуры.

У аснове аповесці — адзін чалавечы лес, трагедыя хлопца з Мсціслаўшчыны, забітага У першы яго ратны дзень. Гарэцкі шырока і па-мастацку ёміста абагульніў жыццёвы факт — лёс Хомкі Нажынскага. Разгледзеў яго ў кантэксце народнага жыцця, узноўленага лакальна, у маштабах роднай Мсціслаўшчыны. Ад першых радкоў, спакойна-эпічных, Гарэцкі бачыць

свой край у гістарычнай рэтраспектыве, з яе сацыяльна-этнаграфічнай асаблівасцю і малюе яго жыццё вобразамі, фарбамі мастака-летапісца. «З левага боку Дняпра, за дзень летняе хады да яго, абнятае з трох бакоў балотамі ды хмыз-някамі беднай Плёскі прытулілася тое Асмолава пры вялікім некалі шляху з Вялікага княства Літоўскага на Масковію.

Мялее і нядужае стары нябога Дняпро. І потым таго выбілася з духу Плёска. Дзе зусім парвалася, усохла, кінуўшы знак колішняй магутнасці, — глыбокі замуравелы равок-рэчышча…

Заглушэў зусім вялікі стары шлях, размыты з бакоў веснавымі ручаямі, пакарабачан даўнымі засохлымі калюгамі… Спустошыўся і змоўк. Дзень і ноч, зіму і лета маўкліва-патаённа думае думы, якім борздым лётам ляціць усё ў вечнасць». Абразок «забытага краю» паволі разгортваецца пісьменнікам у шырокую панараму сучаснага мастаку жыцця колішняга Лунгвенава (Мсціслаўскага княства ад імя больш вядомага яго гаспадара князя Лунгвена.— *А. Л.*), жыцця, з сацыяльнымі яго кантрастамі. Усё гэта толькі пра жыццё галоўнага героя твора. У расказе пісьменніка пра дзіцячыя, школьныя, падлеткавыя гады героя аповесці чуваць нота спагады, болю за чалавека, вытлумачэнне ўмоў, што прыніжаюць яго. Ціхі, мінорны тон апавядання акрамя элегіі заключае ў сабе глыбока аптымістычнае аўтарскае адчуванне жыцця, яго паўнаты, мудрасці, бясконцасці… Гэта апошняе яскрава выяўляецца ў сцэне дзеда-даматура, яго клопату ля восеці, пры хаце з унукамі. А можа, яшчэ болей, з маладой мастацкай сілай, відушчасцю ў раздзеле «Млявыя сненні», дзе жыццё земляробчае сям'і, яе праца разгорнуты ў гадавым кругабегу, а мудрую кнігу прыроды, у знітаванасці з ёй жыцця чалавека, пісьменнік чытае як мастак і філосаф. Тут беларуская вясна, лета, восень асвечаныя адвечным гаспадарчым клопатам, руплівасцю, ва ўсім сваіім зямным багацці, харастве раскрываюцца па-мастакоўску пранікнёна, самабытна.

«Жніво. Ранне. Спелае жыта схіліла каласы. Блішчыць раса і буйнымі круглымі слязьмі капае з коласа і з тонкага залатога сцебеля.

Падзьме цёплы, і густы, і лёгкі ветрык — і ад жытняе сцяны льецца і плыве пах упрэлай палявой зямлі і ціхамірнай непрыкметнай румянкі… Шырокая, а далёкая жоўтая ніва! Там, пры далёкім лесе, у думнай імгліцы, мусіць, канчаецца яна.

Шархае пад лёгкімі лапцікамі колкае і яшчэ поўнае соку іржышча. Грубыя, туга звязаныя снапы разлегліся, як купцы, бавячы пагляд. Не хочацца думаць, што там, на ўзгорачку, на пясочку, ёсць і рэдзенькае, і жыдзенькае, дробненькае жытцо, з малюсенькімі каласінкамі. Сумна там… Затое ж тут, дзе яно буйное, дзе яно густое, — надта хораша! Дзятліна зелянее патройнымі лісцінкамі. Клякоча скакунец-каваль… Трапыхаецца і снуе туды-сюды над жытам жоўценькая мятлушка».

Паэтычны вобраз хлебадарнае жытняе нівы Гарэцкі дапаўняе сцэнай працы жней, жніва, убачанага і пададзенага так, што аглядаеш яго ў натуры і не можаш не залюбавацца рытмам, харашынёй пераўтворанага ў слове жыцця.

«А нечыя жнеі прыйшлі ўжо на постаць — пад самы лес. Лётаюць панад жытнім морам каласяныя жмені і хаваюцца ў ім. Уздоймецца галава ў белай намётцы, блісне на плячы гібенка сярпа, тонкія рукі круцяць вязьмо, і зрок задумна стаіць на дальнім ускраі паласы-шнурочка… «Відзіць маё вочка, што край недалёчка! Відзіць жа й другое, што шчэ гоней двое!..» Схавалася белая намётка, — узмятнулася чырвоная хустачка дзяўчыны. І дзве жмені, гнуткія, шумяцяць, мятаюцца і мятаюцца.

Вуха з радасцю ловіць аднастайную музыку — ігранне сярпоў: хруп! хруп! хруп!»

Малой мерай, вельмі скупа надзяляла жыццё радасцю героя аповесці Гарэцкага, Хомку, што рос у сям'і працавітага, як пчаліна, трывалага ў рабоце чалавека, але ў якога «мала ладу ў гаспадарцы, няма прыбытку».

Усё, што ні заробіць Хомкаў бацька, — сведчыў з сумам пісьменнік, — «пойдзе як вада сквозь рэшата». Ад цягі да чаркі пакутаваў і няўстойлівы чалавек, і яго сям'я. Сыну рана даводзілася ісці ў пастушкі да чужых людзей, а падросшы — у парабкі. Сцэна возкі гарэлкі з бровара на станцыю, паездка, у якую бацька браў з сабою хлопчыка-падлетка — адна з цяжкіх, псіхалагічна насычаных і па-мастацку цэльных, завершаных. У суровай школе жыц-ця свайго героя пісьменнік вылучае часіны прасветлін, скупаватай радасці (раздзел «Кірмашовыя прыемнасці», калі Хомка, ужо беручы-ся пад дзецюка, з сынам гаспадара, у якога парабкуе, ідзе ў мястэчка на гадавое свята).

Апошні, фінальны раздзел аповесці пачынаўся з апісання таго, як вестка аб пачатку вайны заспела людзей. «Вайна заспела раптам: каго ў полі, каго на сенажаці, — і адгукнуліся на страшную навіну неяк легкадумна і вясёла. Запаснікі пакідалі косы, цалюткі вечар пілі і елі, быццам вялікім святам, гаманілі дужа многа і абы-што, і ўсё з адбіткам незразумелай хваравітасці… А рана-параненьку на ўсіх дарогах пацягнуліся ці вельмі гаманлівыя, ці зусім нямыя фурманкі з мужыкамі і жанкамі, братамі і сёстрамі, бацькамі і сынамі — на зборны пункт у горад.

Так пачалася тая страшная вайна, і ва ўсіх тады была толькі адна ўцеха: вайна, як пішуць, будзе вельмі кароткая, скончыцца яшчэ нават, можа, да зімы.

Ды вось была ўжо і зіма, ішлі бясконцыя наборы некрутаў, і запасных, і ратнікаў, за новыя і новыя гады, прыйшла вясна, другое лета, —і здавалася, канца гэтай нудзе не будзе».

Не шчасціла герою аповесці. Ці сапраўды бацюшка памыліўся, запісваючы нованароджанага Хомку ў царкоўныя кнігі пад 1896-м годам, ці было ў тым, што хлопца прызвалі на два гады раней, нейкае хітраванне валаснога пісара і віной бацькава апяшаласць: у час не дагледзеў, не справіў у спісках, але яго забралі недаросткам на суровае ратнае поле. Канец героя аповесці «Ціхая плынь» мы ўжо ведаем з рапеппіага эцюда Гарэцкага «За што?». Да разгорнутага эпічна-слоўнага палатна ён, натуральна, быў бы занадта прамым, публіцыстычным. У аповесці пісьменнік імкнуўся да шырокага мастацкага і філасофскага абагульнення. Заўсёды верны праўдзе жыцця, Гарэцкі трымаўся «духу дакумента» найболей, найпаслядоўней у двух сваіх творах —

«Камароўскай хронiцы» i дакументальнай аповесцi «На iмперыялiстычнай вайне», што мела падзагаловак «Запiскi салдата другой батарэi N-скай артылерыйскай брыгады Лявона Задумы». Кнiга была дзённiкам пiсьменнiка, запiсам убачанага, перажытага, перадуманага Гарэцкiм непасрэдна на крывавых палях першай сусветнай вайны. Яна вылучалася шчырай увагай да простага чалавека, салдата, да народа, што выносiлi на сваiх плячах цяжар вайны i чыёй крывёю былi аплочаны ўсе яе перамогi i паражэннi. Глыбока гуманiстычны падыход да праблем вайны i мiру, да паказу чалавека на вайне забяспечылi «Запiскам салдата» М. Гарэцкага месца ў шэрагу такiх прызнаных у сусветнай лiтаратуры твораў антываеннай, антыiмперыялiстычнай скiраванасцi, як раманы А. Барбюса «Агонь», «Чалавек добры» Л. Франка. На гэты факт, дарэчы, звярнула ўвагу крытыка 20-х гадоў. Што датычыць беларускан лiтаратуры, то яна не мае больш пераканаўчага дакументальна-эстэтычнага сведчання аб першай сусветнай вайне, , чым гэты i iншыя творы Маскiма Гарэцкага, яе непасрэднага ўдзельнiка i сведкi.

«У вандроўцы жыццё маё, у вандроўцы», — мог паўтарыць услед за паэтам Максiм Гарэцкi. Толькi два з лiшкам гады пражыў з сям’ёю ў Менску, i зноў пярэбары. На гэты раз, праўда, дабравольныя. З пачуцця абавязку, цi што.

Неяк на пачатку года заглянуў на кватэру Гарэцкiх малады элегантны дацэнт Беларускай сельгасакадэмii ў Горках, завочна знаёмы гаспадару па перакладах замежнай паэзii, Юрка Гаўрук. Пачаў горача намаўляць Максiма Iванавiча ўзначалiць кафедру беларускай мовы i лiтаратуры, якая адкрывалася пры сельгасакадэмii. Разумна меркавалася, што будучыя iнтэлiгенты, аграномы i земляробы, павiнны добра ведаць не толькi глебы, грунты, але i мову народа, далучацца да яго духоўных набыткаў. Да таго ж Гарэцкi сам некалi скончыў вучылiшча ў Горках i на гэта як факт у карысць сваёй просьбы цяпер разлiчваў пасланец сельгасакадэмii. Было над чым задумацца пiсьменнiку, спецыялiсту ў роднай мове i лiтаратуры. Тым часам Менск, сталiца рэспублiкi, набыў акрэсленыя рысы культурна-грамадскага i навуковага цэнтра. За два гады Гарэцкi паспеў гэта добра адчуць. Асаблiва хараша закрасавала тут блiзкая яму лiтаратурна-мастацкая, навукова-крытычная думка. Перад вяла моладзь. Ройна было на сходах, дыспутах у Доме пiсьменнiка, у сценах Iнбелкульта. Творчыя спрэчкi пераносiлiся на шырокую аўдыторыю, уцягвалi шырэйшыя iнтэлiгентныя колы. Цiкавыя знаёмствы, гутаркi ўзнiкалi, завязвалiся ў рэдакцыях часопiсаў i газет «Полымя», «Савецкая Беларусь», «Маладняк», «Узвышша», «Беларуская вёска»… Папраўдзе, усё, асаблiва маладое, жыло нейкiм парывам да йошуку, верай у, мала сказаць, добрую, а вялiкую будучыню новапаўсталага з агню рэвалюцыi грамадства. За кароткi час у Мiнску ў Гарэцкага паспелi скласцiся не толькi прыязныя адносiны з асобнымi лiтаратарамi, але i трывалыя творчыя кантакты. З маладым лiнгвiстам i лiтаратуразнаўцам Мiколам Байковым ён супольна падрыхтаваў «Практычны расiйска-беларускi слоўнiк», з крытыкамi У. Дзяржынскiм i П. Караваем салiдныя «Выпiсы з беларускай

літаратуры» ў дзвюх кнігах. Вельмі прыязныя адносіны склаліся з Ям[3] Коласам: чыталі адзін аднаму напісанае, дарылі кнігі, разам наведвалі БДТ-1, дзе таленавітая моладзь пад кіраўніцтвам Міровіча і Тэраўскага будавала самавіты нацыянальны тэатр. Адным словам, не так проста было рашыцца Гарэцкаму пакінуць Менск дзеля Горак. З другога боку, як бы і не выпадала адмаўляцца ад прапановы-запросін: там, дзе мова, культура народа ў гады яго навучання была аб'ектам пагарды, знаходзіла прыхільнасць хіба толькі ў сэрцах грамадкі навучэнцаў, гурткоўцаў-аматараў беларускай літаратуры, цяпер яна ўваходзіла ў акадэмію як роўная з роўнымі, вястунняй рэвалюцыйнага абнаўлення гэтай зямлі. І хто ведае, можа, не ў адным аграноме, як у зерні колас, дрэмле будучы мастак слова. Можа, якраз яму ўдасца ўгадаць, разбудзіць стоены дар. Сцежкі юнацтва, маладосці, такой нядаўняй і ўжо няблізкай, калі глядзець на яе праз гады вайны, рэвалюцыі, віленскай працы, Лукішак, таксама не згубілі сваёй вабнай сілы. Востра гэта адчуў, пішучы, кампануючы аповесць «У чым яго крыўда?», сягаючы думкай да праблемы станаўлення дэмакратычнай інтэлігенцыі, інтэлігенцыі ў першым пакаленні. Былі яшчэ адна-дзве акалічнасці на карысць Горак… Неабцяжараныя прадметамі быту (ды хто імі тады быў абцяжараны) Гарэцкія сабраліся ў дарогу. Неўзабаве і ў Горках рабочы стол пісьменніка стаяў трывала, хоць напачатку поле яго аддавалася пераважна педагагічнай працы. Як убачыу і пазней сведчыў калега Гарэцкага па рабоце на кафедры Ю. П. Гаўрук, пісьменнік «вельмі любіў выкладаць мову». Працай у акадэміі не быу перагружаны: займаўся са студэнтамі тры дні на тыдзень. Паважная педагагічная практыка (у гімназіі ў Вільні, у Камуністычным універсітэце і на рабфаку БДУ ў Менску), свабодная арыентацыя ў моўным моры, пастаянныя агляданні здабыткаў беларускага слова, роздум над імі не проста з цікавасці, а дзеля патрэбы душы, рабілі для Гарэцкага працэс навувучання нязмушаным радасным заняткам.

У Горацкай сельгасакадэміі браты Гарэцкія зноў апынуліся разам, побач. Лаўрык, прафесар Гаўрыла Іванавіч, заканчваўз дэмаграфічна-эканамічнае даследаванне насельніцтва і гаспадаркі Гомельшчыны, якая далучалася да БССР. Пачаў пісаць другую сваю кнігу на матэрыяле Заходняй Беларусі. Дзеля гэтага па накіраванні Інбелкульта ездзіў у замежную навуковую камандзіроўку, быў у Вільні, Горадні. Наведаўся ў Белавеж.

Савецкі эканаміст не быў расчараваны ў сваім клопаце на месцы, глыбей пазнаць сучасны стан эканомікі Заходняй Беларусі, паўней разабрацца ў яе дэмаграфічнай сітуацыі. Даволі прыхільна яго прыняў дырэктар польскага ЦСУ, пажылы прафесар Бузэк. Неблагое разуменне знайшоў Гарэцкі ў спецыяліста па сялянскіх бюджэтах універсітэцкага прафесара Буека. Закупіў статыстычнай літаратуры, добрых карт Беларусі, нават удалося дастаць праз Рамуальда Зямкевіча спіс асаднікаў. Здабытае разам з літаратурай паслаў праз Савецкае прадстаўніцтва ў Менск, але па адрасе пасланае не дайшло.

Пабываў на заводах у Вільні, Горадні. Пераканаўся, што прамысловасць перажывала заняпад. У горадзе над Нёманам паўглядаўся на памятку XII

стагоддзя Каложу. У музеі першы раз бачыў лятучыя лісткі «Мужыцкай праўды» Каліноўскага. У Вільні якраз трапіў на святкаванне 20-х угодкаў беларускага друку, новага друку, які вёў радавод ад «Нашай долі». На свяце прамаўлялі самі творцы заходнебеларускай перыёдыкі, якая на той час, восень 1926 года, дасягнула свайго апагею. Прамаўлялі прызнаныя публіцысты, самі ідэолагі вызваленчага руху на заходнебеларускіх землях — Антон Луцкевіч, Аляксандр Уласаў. Уся гэтая гама ўражанняў, перажыванняў давала настрой, абвастрала думку.

На шчасце, такі немалаважны для работы над задуманай кнігай, такі патрэбны цяпер Гаўрылу Гарэцкаму зарад падтрымліваўся і дома, у Горках. Заходнебеларуская тема ў размовах братоў, а цяпер яны сустракаліся ледзь не штодзённа, узнікала пастаянна. Для малодшага Гарэцкага яна была цяпер прадметам навуковага і проста чалавечага пазнання. Для старэйшага — кавалкам пражытага жыцця. Ці варта казаць, што ў асобе Максіма будучая кніга Гаўрылы мела першага зацікаўленага, крытычнага і спагаднага чытача.

Манаграфія Г. І. Гарэцкага «Межы Заходняй Беларусі ў Польшчы» (1928) вырашала вельмі актуальную палітычную праблему сродкамі навукі. Аўтар яе, даследчык выступаў адразу як дэмограф, эканаміст і этнограф-гісторык. Трэба было даць праўдзівы малюнак граніц той часткі беларускага этнасу, якая воляю гістарычнага лёсу апынулася пад Польшчай. Буржуазныя гісторыкі, статысты-дэмографы свядома тэндэнцыйна акрэслівалі гэтыя межы. Іх працы нярэдка насілі ахоўны характар у дачыненні палітыкі буржуазнай дзяржавы. Дзеля ўкрытых тактычных і стратэгічных палітычных мэт дзялілі насельніцтва ўскраін не паводле нацыянальнага, а паводле канфесіянальнага (веравызнаўчага) прызнаку, стараліся падаць зменшанай агульную колькасць беларускага насельніцтва ў Польшчы.

Гарэцкі на падставе аналізу, супастаўлення фактаў гістарычных, этнаграфічных, статыстычных крыніц даў аб'ектыўны вобраз беларускага этнасу ў межах Полыпчы, асаблівую увагу звярнуўшы на арэал рассялення беларусаў на захад ад польска-савецкай граніцы Тым самым выбіваў аргументы з рук польскіх буржуазных палітыкаў, адэптаў каланіялісцкіх прэтэнзій. З другога боку, кніга аўтарытэтнага савецкага вучонага, моцная сістэмай доказау і фактаў, стала надзейнай зброяй, важкім аргументам для кіраўнікоў і радавых членаў вызваленчага руху Заходняй Беларусі.

Даўжэй папрацаваць у Горках братам Гарэцкім не давялося. Час быў дынамічны, насычаны ідэямі і справамі гранічна. Першым пакінуў працу ў сельгасакадэміі, выкліканы старшынёй Саўнаркома рэспублікі М.М.Галадзедам у Менск, Гаўрыла Іванавіч. Максім яшчэ нейкі час заставаўся на кафедры беларусазнаўства ў акадэміі ў Горках. Перспектыўным для яго пісьменніцкай працы аказалася працяглае падарожжа ў Сібір. Карыстаючыся з летняга перапынку заняткаў у акадэміі, пісьменнік ажыццявіў сваю даўнюю-нядаўнюю мару «праехаць па слядах беларусаў-перасяленцаў, азнаёміцца з іх жыццём, захаванасцю традыцыйнай духоўнай культуры на новым месцы». Не ўсё з задуманага ў гэтай далёкай вандроўцы ўдалося здзейсніць. Ды запас

уражанняў быў немалы. Недзе праз год-паўтара яны пачалі ўвасабляцца ў замалёўкі, навелы, аб'яднаныя супольнай назвай «Сібірскія абразкі». Але спачатку на чарзе было іншае. Рэшту 1926-га і ўвесь 1927-мы Максім Гарэцкі ў асноўным аддаў фіксацыі і аналізу імклівага літаратурнага працэсу сваіх дзён. У «Звяздзе» і «Савецкай Беларусі» з'явілася цэлая серыя літаратурна-крытычных эцюдаў, прысвечаных асобна творчасці Міхася Чарота, Янкі Нёманскага, Міхася Зарэцкага, Міхайлы Грамыкі, паслярэвалюцыйнага Якуба Коласа.

Дваццаць сёмы год для Гарэцкага, лічы, пачаўся з сустрэчы з Коласам. У Горках паэт выступіў на літаратурным вечары ў студэнцкім клубе сельгасакадэміі. Затым на кватэры Гарэцкага чытаў свае творы выкладчыкам і членам літаратурнага аб'яднання. Гарэцкага з Коласам зблізіла і тое, што абодва пісьменнікі не цураліся «ў родным слове саўбы», не толькі сваімі кнігамі, але і вусна, проста як педагогі, на настаўніцкіх курсах і ў студэнцкай аўдыторыі. А аўдыторыя была ўсё больш цікаўная і цікавая, людзі відучы цягнуліся ўгору маральна, духоўна: рэвалюцыя разбудзіла ў чалавеку прагу шуканняў, творчасці. Адбыўся своеасаблівы выбух духоўнасці. Адным са спектраў гэтага выбуху была небывалая цяга да слова, да літаратуры. Здаецца, не было таго горада, большага мястэчка ў Савецкай Беларусі, дзе б не заснаваліся літаратурныя гурткі, якія са станаўленнем літаратурна-мастацкай арганізацыі «Маладняк» зрабіліся яго філіямі-аддзеламі. «Маладняк» арганізацыйна і творча ахопліваў сабой літаратурны рух, які быў, аднак, шыріііы за яго: уключаў моманты палітычна-грамадскія і культурна-асветныя. Гарэцкага гэта шырокая духоўная плынь цікавіла перад усім як з’ява літаратурна-мастацкага парадку цікавілі тыя творчыя індывідуальнасці, што развіваліся ва ўлонні «Маладняка». Была свая рацыя і радасць пісаць гісторыю літаратуры па свежых слядах, праз сённяшні дзень яе ўглядацца ў рысы заўтрашняга, будучыні. Была не толькі надзённа-грамадская, але д творчая патрэба пераключацца з мастацкай прозы на гісторыка-літаратуразнаўчы артыкул, крытычны агляд, зрабіць накід літаратурнага сілуэта таго ці іншага пісьменніка.

У манаграфіі «Маладняк» за пяць гадоў» (1928) Гарэцкі падагульніў зробленае маладнякоўцамі, адзначыў этапы ідэйна-мастацкага росту гэтага незвычайнага літаратурнага руху. Даследчык пісаў: «Маладнякоўцы ўзрушылі… усю Беларусь, асабліва ўсходнюю яе частку, нядаўна перад гэтым далучаную (у пачатку 1924 г.). Можна смела сказаць, што самыя шырокія беларускія масы першы раз пачулі тады сваё мастацкае слова з вуснаў маладнякоўцаў. У гэтым ёсць вялізная, яшчэ неацэненая заслуга «Маладняка». Заслуга кнігі Максіма Гарэцкага, прысвечанай маладой беларускай савецкай літаратуры, стане асабліва бачнай праз гады. Сягоння цяжка ўявіць усю карціну станаўлення літаратуры Савецкай Беларусі без гэтых накідаў з натуры, без сілуэтаў шматлікіх літаратараў, якіх і чые першыя кнігі суровы час раскідаў жорстка. Нібы нейкае гістарычнае пракляцце насуперак праўдзе, жыццю прагнула тут бяспамяцця, глухога забыцця. Застануцца цікавымі, карыснымі даследчыкам мастацкага слова і непасрэдныя сведчанні гісторыка

пра ідэйна-арганізацыйныя аспекты «Маладняка» (колькі літаратуразнаўцы пазней на гэтым паламаюць коп'яў!) і ацэнкі, прагнозы крытыка Гарэцкага што да творчасці паасобных маладнякоўцаў. Але галоўнае, найбольшае сведчанне першай кнігі пра «Маладняк» для будучых пакаленняў — у запісе, адбіцці ў ёй, няхай даруецца паўтарэнне, сілуэтаў, творчых абліччаў дзесяткаў літаратараў чые імёны, галасы прамаўляюць да нас ужо такі з далёкага мінулага — з першых год новай, савецкай рэчаіснасці.

«Біяграфічна-крытычны слоўнік сучасных выдатных і тыповых маладнякоўцаў», — асноўны раздзел манаграфіі, што захаваў сягоння і захавае на будучыню непераходнае значэнне.

«Маладняк» за пяць гадоў» была апошняй крытыка-літаратуразнаўчай кнігай пры жыцці пісьменніка. Хоць да літаратурна-крытычных эцюдаў час ад часу Гарэцкі яшчэ вяртаўся і на працягу 1928 года, гэты апошні прайшоў у яго ў асноўным пад знакам «Сібірскіх абразкоў». Прынамсі, да восені, часу звароту ў Мінск. У кватэры на другім паверсе невялікага дома для прафесараў, што над азярком, непадалёк ад вучэбнага корпуса акадэміі, парадкаваў Максім Гарэцкі запісы сваёй далёкай вандроўкі, нанава перажываў яе эпізоды, уражанні. Некаторыя з іх выкрышталізоўваліся ў апавяданні. То з заглыбленнем у псіхалогію (апавяданні «Пабожны мешчанін», «Моцнае каханне»), то проста як роздум пра чалавека, яго жыццёвую філасофію (апавяданні «Фельчар плакун», «Лёкай камунара», «Палонны»), роздум часам нечаканы (апавяданне «Івашка Палачанін». Часцей наогул як задума аб жыцці…

Быў час, калі ўзрушанае доўгай сусветнай вайной, рэвалюцыямі, грамадзянскімі разрухамі яно (жыццё) толькі што адстойвалася. Расткі новага толькі-толькі прабіваліся. Асабліва ў глушы, далёкай ад цэнтра.

Чуйнае сэрца пісьменніка патрапляла шчымліва адзначыць у ім нямала праблемнага. Беспрытульнасць, беднасць, непрыкаянасць, як спадчыннасць імперыялістычнай і грамадзянскіх войнаў гуманістычна, па-мастакоўску пераканаўча асэнсаваны ў апавяданнях «Малы рызыкант», «Дурная», «Уцекачы». Асабліва хваля-вала пісьменніка, і гэта адчуваецца ледзь не ў кожным апавяданні, замалёўцы, штрыху «Сібірскіх абразкоў», праблема перасялення, перасяленцаў. Абвостраным сдыхам ловіць ён у час свайго незвычайнага падарожжа па слядах перасяленцаў гамонкі ў вагоне, распытвае ў вёсках-пасёлках на Томшчыне пра іх жыццё-быццё, душэўныя памкненні. Гэтыя дабравольныя выгнанцы з роднага кутка, вандроўнікі мімаволі — выхадцы з Беларусі, Украіны, цэнтральных раёнаў Расіі. У пошуках зямлі яны адправіліся за свет. Трапляюцца магілёўскія землякі пісьменніка, і ён спагадна, пільна чытае ў іх вачах, душах… Спісвае з натуры іх вобразы і толькі зрэдку дадае ад сябе роздум-сентэнцыю адно-другое. Напрыклад: «Смелыя энергічныя перасяленцы знойдуць тут сваё новае месца, на якім збудуюць новае лепшае жыпцё. Мы ж жывём у часы сацыялістычнага будауніцтва.

Але ўсё ж лепей бы асушыць балоты Беларусі і не ехаць сюды…» Не-не дый залюбуецца чалавекам станоўкім, характарам неардынарным (апавяданне «Хоцімка»), перадасць ціхую драму жыпця (абразкі «Мала сілы», «Бязногая бабуля»). У запісах, замалёўках «Сібірскіх абразкоў» шмат мімалётных

назіранняў аўтара, штрыхоў да характарыстыкі прыроды краю (яна міжволі параўноўваецца ім, суадносна з беларускай), яго людзей, старажылаў і перасяленцаў. Наогул нямала карыснай інфармацыі, без якой літаратура самай высокай эстэтычнай пробы нешта істотнае траціць, бо мастацкае слова павінна заўсёды несці новае, адкрываць невядомае, узбагачаць душу. Інакш як яна выканае сваю высокую місію?

«Сібірскія абразкі» «знешнім» сюжэтам лучыць асоба аўтара-апавядальніка. Пісьменнік, аднак жа, не акцэнтуе ўвагі на сваім успрыманні акаляючага, хоць аб'ектыўна яно чутно. Зрэдку непасрэдна прарываецца яго настрой, апеляцыя да аасбістых успамінаў з часоў першага побыту ў Сібіры падчас сусветнай вайны (апавяданне «Пабожны мешчанін»), згадка пра тое, «як сядзеў за тую няшчасную беларускасць сваю ў польскай турме» (абразок «Спрэчкі), роздум пад куванне сібірскай зязюлі (абразок «Максімава зязюля»): «Вось я выходжу на большы прагал, зелянейшыя ад бяроз на яго ўскрайках, — дзесьці далёка і нейк асабліва сумна закукавала сібірская зязюля:

— Ку-ку! Ку-ку!

І мне ўспомніліся яго сумныя вершы:

— Не кувай ты, шэрая зязюля!..

Ці прылятае яна, шэрая, там, у Крыме, пакукаваці яму?

І дзе будзе маё апошняе прытулішча?»

Новая кніга прозы, над якой працаваў Гарэцкі на мяжы 20—30-х гадоў, мелася называцца «Люстрадзён». Назва невыпадковая: навелы і апавяданні яе былі звернуты непасрэдна да сучаснасці. Не толькі тэматычна, сваімі героямі, але і ў мастацка-філасофскім плане. Працу пісьменніка гвалтоўна перапынілі падзеі лета 1930 года. Яны сталі драматычным этапам у жыцці не аднаго прадстаўніка беларускай навуковай і мастацкай інтэлігенцыі. Супольная горкая чаша не мінула і Максіма Гарэцкага.

Да сярэдзіны 1930 года пісьменнік напісаў восем твораў, частку таго, што павінна было скласці будучую кнігу. Не ўсе яны вытрыманы ва ўласцівай спрактыкаванаму майстру апавядальнага жанру арганіцы: мастацкай ёмістасці, глыбінным псіхалагізме. Аднак дзве-тры рэчы можна смела, не баючыся памыліцца, залічыць да здабыткаў беларускай савецкай навелістыкі не толькі той пары. Гэта ў першы чарод апавяданні «Чыстка» і «Смерць». Абодва творы маюць строга дакументальную аснову. Абодва датычаць лёсу, дакладней, жыцця і смерці вядомых беларускіх савецкіх інтэлігентаў.

Вострасюжэтнае апавяданне «Чыстка» заснавава па адным моманце з біяграфіі гісторыка, грамадска-налітычнага двеяча Усевалада Ігнатоўскага. Кладучы ў аснову твора адну з калізій грамадскага жыцця пачатку 30-х гадоў, Гарэцкі яшчэ быў далёкі ад думкі шырока абагульняць факт. Ды, мабыць, ніякае самае буйнае ўяўленне, ніякі правідзец, хто б ён ні быў, мастак ці палітык, яшчэ не маглі прадбачыць тады ўсяго таго, што чакала людзей, усё грамадства ў наступным дзесяцігоддзі. Не бачыў знаку бяды і Максім Гарэцкі, калі пісаў сваю «Чыстку». Прататыпа твора пісьменнік імем яго не

называў. У апавяданні «Чыстка» жыве і пакутуе ад зламысна нанесенага ўдару літаратурны персанаж пад прозвішчам Старабыльскі.

Канешне ж, у ненармальных абставінах 30-х гадоў розгалас праз літаратуру нейкага, няхай сабе не вельмі істотнага здарэння з жыцця вядомага чалавека, мог набыць непрадбачаны рэзананс. І, мабыць, можна шукаць магчымасці працягнуць якуюсьці нітачку логікі ад апісанага пісьменнікам факта да фатальнага лёсу гісторыка: агульнавядома, што дзесь праз год Ігнатоўскі застрэліўся, хоць апошнім часам ёсць і іншыя пагудкі. Але ж сёння, з вышыні часу, добра відаць адно: не нейкі там эпізод, падступна арганізаваны, а агульная грамадска-палітычная атмасфера таго часу забіла таленавітага вучонага і сумленнага савецкага грамадзяніна. Тым не менш. Гэта ўжо адносіцца не да гісторыі твора Гарэцкага і яго прататыпа, а да псіхалогіі пакалення, якое прайшло праз несправядлівыя абвінавачанні і пакуты. Неяк нядаўна, больш чым праз паўвека пасля напісання «Чысткі», я спытаўся ў акадэміка Гаўрылы Гарэцкага, ці сапраўды ў аснове апавядання яго брата ляжыць здарэнне з Усеваладам Ігнатоўскім. Самавіты вучоны адказаў нечакана адназначна: «Лепш бы Максім яго не пісаў…»

Апавяданне «Смерць» кароткае, знешне нагадвае эцюд, але фабула яго разгорнута паводле законаў апавядальнага жанру. У ім Гарэцкі расказвае пра тое, як успрынялі смерць Паўлюка Труса стары бацька і сястра паэта. Жорсткая вестка застае паэтавых родных пры чарговай гаспадарчай рабоце — возцы аўсяных снапоў. Вельмі дакладна, праз скупы псіхалагічны жэст, словы па-мастацку ўзноўлены душэўны стан людзей, якія страцілі роднага чалавека. Пісьменнік патрапляе ў гэтым сціслым сюжэце, дзе не павінна было быць, няма нічога лішняга, паказаць і нейкую адметнасць у жыцці вёскі 20-х гадоў і адносіны да паэта не толькі родных, але і вяскоўцаў, камсамольскую моладзь, маладосць, якую так прачула, светла апяяў Паўлюк Трус у сваіх вершах і паэмах.

Як не ўпадаў душой Максім Гарэцкі ў розны клопат свайго часу, грамадскі, палітычны, асветны, усё ж асноўным, доляй яго было мастац-кае летапісанне, і ён займаўся ім заўсёды і ўсюды, усё сваё жыццё: дзе толькі можна было схіліцца над белым аркушам паперы.

Гаўрылу Гарэцкаму, якому лёс і час наканавалі быць фундаментальным даследчыкам, — і ён стаў ім насуперак усяму, доўга давялося займацца рэчамі практычнымі — арганізацый-нымі, вышуковымі, падрыхтоўчымі. Гады, цэлыя дзесяцігоддзі. Толькі ў канцы 60—70-х, маючы, нарэшце, для гэтага належпыя ўмовы, патрапіў рэалізаваць свой талент, духоўны патэнцыял. Здолеў, нарэшце, фундаментальна заняцца выбранай воляю лёсу геалогіяй і стварыць цэлую бібліятэку прац аб прарэках Рускай раўніны і Беларусі, з іх прырднымі таямніцамі і багаццем.

Сваёй творчай, чалавечай вяршыні акадэмік Г.І.Гарэцкі дасягнуў тады, калі яго старэйшага брата Максіма, чыя духоўная відушчасць і сацыяльная зарыентаваыасць служылі заўсёды апорай малодшаму, даўно не было на свеце.

Узыходзячы на свой першы перавал (такімі былі для Гаўрылы Гарэцкага 1927—1930 гады), ён яшчэ мог адчуваць на сабе дапытліва-зычлівы позірк старэйшага брата, мецъ ад яго слова падтрымкі. Зрэшты, што да падтрымкі, то яе малодшаму Гарэцкаму тады, здаецца, як ніколі ў жыцці то бракавала. Тады, калі вядучыя вучоныя і кіраўнікі рэспублікі задумалі стварэнне новага навукова-даследчага цэнтра сельскай і лясной гаспадаркі Беларусі, каб надаць усёй эканоміцы яе моцны імпульс і выбар як на арганізатара новай справы паў на Гарэцкага. Старшыня Савета народных камісараў рэспублікі М. М. Галадзед блаславўляў маладога вучонага на новае пачынанне, абяцаў памагаць. Не застаўся безуважлівы да інстытута, што закладаў навуковыя падваліны пад сельскую і лясную гаспадарку рэспублікі і яе (рэспублікі) прэзідэнт, старшыня ЦВК А. Р. Чарвякоў: ахвяраваў новай даследчай установе для эксперыментальных патрэб сваю дачу ў Сляпянцы. Кіраўніцтва Інбелкульта на чале з Усеваладам Ігнатоўскім спяшалася заключыць з новапаўсталым навукова-даследчым інстытутам, давераным Г.І.Гарэцкаму, творчае пагадненне. Прыхільна, спадзеўна глядзеў на Беларускі навукова-даследчы інстытут сельскай і лясной гаспадаркі і народны камісарыят земляробства. Сам вецер часу дзьмуў у ветразі ўзначаленага Гарэцкім карабля. Так склалася, што к сярэдзіне 20-х гадоў, часу ўздыму духоўных і вытворчых сіл Савецкай Беларусі, натуральна паўстала праблема перабудовы эканомікі рэспублікі на новай, навуковай аснове. Гэта было пытанне будучыні. І ўставала яна ва ўсёй краіне перамогшай рэвалюцыі. Сельскагаспадарчая вытворчасць у эканоміцы Беларусі на той час заставалася дамінуючай, прадвызначала ўсю эканоміку. А навуковая, тэхнічная база над ёй была слабая. Мінскі сельскагаспадарчы інстытут хоць і разгарнуў навукова-даследчую дзейнасць па вывучэнні глеб, балот: Беларусі, не патрапіў аказаць адчувальнага ўплыву на гаспадарчае развіццё рэспублікі. Горацкая сельгасакадэмія, у якой таксама вялася і навукова-даследчая праца, а асобныя яе выхаванцы пайшлі ў вялікую навуку, выконвала ў асноўным ролю кузні агранамічных кадраў. Новастворанаму Беларускаму навукова-даследчаму інстытуту сельскай і лясной гаспадаркі імя Леніна пры СНК БССР ставілася, такім чынам, вялікая грамадска-гаспадарчая задача стратэгічнага характару. На яго глядзелі як на фундаментальную навуковую базу пад вызначальныя галіны гаспадаркі рэспублікі, у выніку — пад усю яе эканоміку.

Быў або не малады вучоны і арганізатар навукі на вышыні пастаўленых задач — меркаваць па яго публікацыях таго часу, а найпераканальней — па выніках працы новага даследчага інстытута. З самага пачатку яго дзейнасці.

У кнізе «Даследчая справа па сельскай і лясной гаспадарцы БССР» Гарэцкі лапідарна акрэсліў задачы новага навуковага цэнтра — «сістэматычнае і ўсебаковае вывучанне сельскай і лясной гаспадаркі», мэту — «памагчы хутчэйшай перабудове яе на сацыялістычнай аснове і садзейнічаць шырэйшаму развіццю вытворчасці ўсяе народнае гаспадаркі Беларусі».

Пастаўленыя мэты меркавалася дасягнуць праз распрацоўку і ўкараненне навуковых асноў рацыяналізацыі сельскай і лясной гаспадаркі, распрацоўку

агульнатэарэтычных пытанняў іх развіцця… Гэта ў агульным плане. Канкрэтна ж — гаварылася пра тэхніку паляводства, меліярацыі і культуру балот, землеўўпарадкаванне, індустрыялізацыю і калектывізацыю сельскай гаспадаркі. Была ў кнізе «Даследчая справа…» і статыстычна абгрунтаваная аўтарская прыкідка. Сягоння яна цікавая ў гістарычным аспекце. Гарэцкі зыходзіў з пастулата: «Магчымасці БССР па развіццю сельскай і лясной гаспадаркі бязмежны». А тым часам, як зазначаў аўтар кнігі, пад пасеўную плошчу рэспубліка скарыстоўвала не больш 25 % усіх сваіх зямельных прастораў.

«Павелічэнне засеўнай плошчы ў два разы, — пісаў Гарэцкі, — ляжыць у межах рэальных гаспадарчых магчымасцей бліжэйшых дяесяцігоддзяў».

Канстатуючы факт, што ўраджаі ў тагачаснай Савецкай Беларусі былі ў 2,5 рааоў меншыя, чым у Познаншчыне і Прусіі (вучоны спецыяльна бываў там у навуковых камандзіроўках), Гарецкі сцвярджаў перспектыўнае для роднай зямлі: «…з боку прыродных умоў у Беларусі ўраджаі магчымы большыя, чым пазнанскія і прускія». Дазваляў сабе як эканаміст і дэмограф прыкідваць далёка наперад: «У бліжэйшыя 25-30 год БССР мае зусім рэальныя падставы, каб павялічыць гуртавую вытворчасць сельскай гаспадаркі ў 4—5 разоў, давесці гушчыню насельніцтва да 70—75 чалавек на кіламетр, з агульнай ёмкасцю тэрыторый сучаснай БССР у 8,5—9 мільёнаў чалавек».

Як жа практычна пачынаў Беларускі навукова-даследчы інстытут сельскай і лясной гаспадаркі, дзіця ленінскай нацыянальнай палітыкі на былых царска-імперскіх ускраінах? У сваіх аддзелах і лабараторыях-станцыях ён сканцэнтраваў трыста супрацоўнікаў, як для пачатку — немалы атрад навукоўцаў. Частку яго склалі былыя супрацоўнікі аддзела сельскай гаспадаркі Інбелкульта, які быў цалкам перададзены новаму інстытуту. На працу ў яго перайшлі і некаторыя вучоныя Горацкай сельгасакадэміі. Кіраўніцтвам БНДІ адразу былі пасланы аспіранты ў адпаведныя навуковыя цэнтры Масквы, Ленінграда, Кёнігсберга. Так, за мяжу. Гэта былі 20-я гады, і вывучэнне, запазычанне зарубежнага навуковага вопыту разумна лічылася нормай.

Пры БНДІ сельскай і лясной гаспадаркі імя Леніна, на яго базе быў заснаваны і паспяхова выдаваўся спецыяльны часопіс «Сельская і лясная гаспадарка Беларусі», які зрабіўся сталым прапагандыстам здабыткаў навуковай думкі ў галіне аграхіміі, тэхнікі паляводства, жывёлагадоўлі, лугаводства, лесазнаўства. Штогод выходзілі гадавікі навуковых прац БНДІ. У іх з аглядам навуковай і арганізацыйнай дзейнасці інстытута выступаў яго дырэктар. Падагульняў асноўныя даоягненні па ўсіх падраздзяленнях, канкрэтна гаварыў пра недахопы, ускрываў іх прычыны, прапанаваў новыя ідэі.

За кароткі час БНДІ імя Леніна здолеў выдаць шэраг асобных прац, манаграфій, некаторыя з якіх, як «Кліматычны атлас Беларусі», падрыхтаваны Кайгарадавым, мелі прынцыповае тэарэтычнае і практычнае гаспадарчае значэнне. Апрача таго, такія працы, як «Кліматычны атлас Беларусі», уключалі маладую навуку рэспублікі ў кантэкст усесаюзнай і, шырэй, сусветнай навукі: ліквідавалі дэфіцыт ведаў у сферы прыроды аднаго рэгіёна, ведаў, што мелі агульначалавечую значнасць.

Актыўная навуковая дзейнасць Г. І. Гарэцкага была рана ацэнена навуковай грамадскасцю і ўрадам рэспублікі. Пры заснаванні Беларускай Акадэміі навук Гаўрыла Іванавіч Гарэцкі ў дваццаць восем год быў абраны яе акадэмікам. Прызнанне абавязвала, падвойвала энергію. К драматычнаму ў жыцці Гарэцкіх лету 1930 года Гаўрыла Іванавіч паспеў закончыць вялікую манаграфію «Штандорт індустрыялізацыі і урбанізацыі Беларусі за сто год (1825—1925)». Але пабачыць свет, стаць кнігай ёй не давялося. Не толькі мінскі следчы Юдзіцкі і яго вышэйшы шэф Маляўка, якія, паводле нарыхтаванага сцэнарыя, прыкладалі намаганні, каб даказаць недаказальнае — прыналежнасць Гарэцкага да міфічнага СВБ, але, мабыць, і сам Гаўрыла Іванавіч у свінцовай атмасферы таго часу думаў, што шлях у навуку, у яе шырокі, вабны свет яму закрыты. Ды не гэта рупіла, балела тады. Не проста было да канца асэнсаваць як рэальнасць тое неверагоднае, тую бяду, што раптам абрынулася на навуковую, мастацкую, асветную інтэлігенцыю. Каму, дзеля чаго спатрэбілася раптам адарваць сотні і сотні людзей ад кроўнай справы іх жыцця, кінуць на здзек, паняверку? Узвесці навет, спрабаваць аб'явіць зламыснікамі, ворагамі народа і ўлады тых, чые кнігі, партытуры, карціны, сцэнічныя вобразы, кім сеянае разумнае, добрае, вечнае былі неабвержным сведчаннем высокага гарэння, адданасці народу, новай яве?

Як здарылася? Ракавы знак лёсу, што ў сутарэннях, «амерыканцы» на Савецкай… аказаліся вядучыя вучоныя: гісторыкі на чале з рэктарам БДУ Уладзімірам Пічэтам, лінгвісты, этнографы, археолагі, географы, мастацтва— і літаратуразнаўцы, асветныя працаўнікі разам з наркомам Антонам Баліцкім, глебазнаўцы, эканамісты з наркамзема і даследчых асяродкаў па сельскай гаспадарцы?.. Найбольшыя страты панеслі нядаўна заснаваная Акадэмія навук рэспублікі, універсітэт, Беларускі навукова-даследчы інстытут сельскай і лясной гаспадаркі… Удар яўна быў разлічаны перш-наперш супроць навуковых кадраў, інтэлектуальнага патэнцыялу Савецкай Беларусі. Хто стаіць за шырмай гэтага злавеснага спектакля? Што ў будучыні?

Галоўнае было выстаяць. Сілаю духу, усёй натурай супрацьстаяць грубаму і вытанчанаму езуіцтву і новаму, дваццатага стагоддзя вынаходу юрыдычнай думкі — «канвеернаму» спосабу здабывання доказаў віны невінаватага. Аднаго пачуцця ўласнай праваты, абсалютнай невінаватасці было замала. Трэба было валодаць вялікім запасам чалавечай трываласці. Гарэцкі выстаяў. Захаваў сваю чалавечую, грамадзянскую годнасць. У гэтым была не такая. мабыць. малая заслуга і простай фізічнай дужасці, успадкаванай вучоным ад бліжэйшых і далейшых прашчураў, багацькаўскіх земляробаў.

Быў малады. Хоць у паездцы на Вайгач (у Кемі набіралі тую групу пашуковую) Гарэцкаму адмовілі: пункты ў прыпісным у Мінску артыкуле перашкодзілі, скора ўсміхнулася надзея. Прыйшла разам з весткай, што на будаўніцтва Беламорска-Балтыйскага канала бяруць усіх, абы меў вышэйшую адукацыю. Здаецца, само неба заззяла, калі прынялі па геалагічную базу.

Спачатку завінуўся каля скрынак са змесцівам свідравін, але ўжо праз нейкі тыдзень спыталі: «Ці ве выправіліся б Вы на трасу для вышуквання?.. »

Прыхапіў у пляцак з сабою кнігу прафеса Інастранцава «Геология Повенецкого уезда». Ад Павянца, што за трыццаць кіламетраў ад Мядзвежагорска (там быў пазначаны пачатак канала) і пачаў…

«Павянец — свету канец», — успомніцца і праз паўвека акадэміку пачутая ў Мядзвежагорску прымаўка. З рана да вечара ішоў трасай будучага канала, вывучаў грунты, збіраў узоры, вёў геалагічную дакументацыю. Адолеў дзвесце дваццаць шэсць кіламетраў — увесь канал удоўжкі, аж да парогаў ля г. Сарокі. Розныя людзі сустракаліся на шляху. Заняты яны былі ў асноўным на выемцы грунту пад будучае рэчышча. Кідаліся ў вочы сярэднеазіяцкія дэхкане ў сваіх пярэстых, слаба адпаведных тутэйшай шырaце апратках. З землякоў сустракаліся былыя грамадаўцы, каму ўдалося вырвацца з польскіх турмаў. Даводзілася, аднак, больш пільнавацца свайго геолага-разведвальнага клопату. Углядаўся, учытваўся ў кнігу таямніц Зямлі. Не сказаць каб яму не шанцавала, ды інaчай не магло і быць на такой вялікай будоўлі. Адшукаў процьму скамянелай флоры, натрапіў на неалітычную стаянку. Набраў розных выкапнёвых акамянеласцяў і керамікі.

Не было лёгкаважаннем слова, калі жыва пісаў свой настрой з Беламор-Балта брату Максіму ў Вятку. Аптымізм яго быў няроблены, нявыдуманы. Свядомасцю сапраўды да дна душы завалодвала новая праца, поўная захаплення перад таямніцамі матухны-зямлі. Асабліва пазней, на Кольскім паўвостраве, калі ўдзельнічаў у вышуканнях пад Колскую (на рэчцы аднайменнай назвы), затым пад Туломскую, ужо начальнікам разведвальнай партыі, ГЭС. Прырода тут, на краі зямлі, у далінах гэтых рэк рупліва папрацавала. Ва ўшчэпт выдзьмуханых вятрамі скалах, проста па іх паверхні можна было чытаць летапіс чацвярцічнага перыяду зямлі: адклады алювію ляжалі наверсе.

Хораша ўспаміналіся Гарэцкаму даліны рэк Колы і Туломы, час, там пражыты. Яны, даліны гэтых паўночных рэк, былі сапраўднай геалагічнай скарбніцай; паларылі маладому шукальніку шмат цудоўных знаходак, твар у твар паставілі перад найцікавейшымі загадкамі прыроды, што гналі сон з павек. Па-сапраўднаму прыадкрылі заслону часу над тым, што тварылася на Зямлі тысячы, сотні тысяч год таму назад, навучылі чытаць яе велічны загадкавы летапіс, адбіты на камені, скалах, морскім дне. Там будучы вучоны-геолаг адшукаў і апісаў даледніковую кару выветрывання, адклады чацвярцічнага, або, як сам Гарэцкі схільны называць яго па вызначальнай адзнацы — з'яўленню чалавека, антрапагенавага перыяду Зямлі. Гэты геалагічны час нашай планеты стаў прадметам захаплення, натхнёнай працы вучонага на ўсё жыццё. Шмат аспектаў у гэтым перыядзе гісторыі Зямлі. Нямала іх асэнсавана неспакойнай дапытлівай думкай вучонага.

Яшчэ да Колы і Туломы к Гаўрылу Гарэцкаму з сынамі Усяславам і Радзімам прыехала жонка Ларыса Іосіфаўна. Апошнім часам яна працавала на садовадаследчай станцыі ля Гомеля. Прыехала дзяліць з мужам вандроўнае жыццё геолага. Гарэцкія зажылі вялікай сям'ёй. Пры іх стала цяпер былі бацькі Ларысы Іосіфаўны, у мінулым чыгуначнік Восіп Іванавіч Парфіяновіч і Марыя Міхайлаўна, мілавальнікі ўнукаў. Тут, у атачэнні не

лішне ласкавай да чалавека прыроды, гартаваліся характары і іх хлопцаў, рос будучы геолаг-акадэмік Радзім.

Вайна заспела Гарэцкага непадалёк Ленінграда. Вышуканні ў даліне ракі Мста якраз былі скончаны, і адразу пачалося будаўніцтва ажно сямі гідрастанцый і канала. Напад гітлераўскай Германіі прымусіў мабілізаваць усе сілы на адпор ворагу, які напорыста рваўся да жыццёвых цэнтраў Савецкага Саюза. Геолагі былі таксама пакліканы на падмогу фронту. Мабілізаваны на абарончыя работы па вышукванню мясцін, непрыступных для ворага, Гарэцкі працаваў на розных прыфрантавых участках Ленінградскай і Наўгародскай абласцей, Валагодчыне. Неўзабаве востра ўстала праблема будаўніцтва шырокай энергетычнай базы пад абарончую прамысловасць. Гарэцкі ў ліку другіх спецыялістаў трапіў у Прыуралле.

У Салікамску затрымаўся даўжэй чым дзе. Пражытыя тут гады былі для Гарэцкага шчаслівыя. З цягам часу яны стануць здавацца вучонаму залатымі. Як звычайна, пры будаўніцтве гідратэхнічнага аб'екта бывае некалькі варыянтаў, з якіх выбіраецца ў канчатковым выніку самы адпаведны.

На Каме было два варыянты гідратэхнічнага праекта. І ў вярхоўі ракі і яе нізоўі быў карст: прасочваліся солі. Салікамск даў багаты геолагаразведвальны матэрыял. Пры новых фактах узніклі новыя абагульненні, доказы. Гарэцкі змог з імі выступіць у Акадэміі навук і быць з цікавасцю выслуханым. Неагенавыя і чацвярыковыя адклады сярэдняй Камы далі магчымасць Г. І. Гарэцкаму абараніць чарговую, цяпер ужо доктарскую (кандыдацкая была абаронена год назад) дысертацыю і атрымаць вышэйшую атэстацыю як вучонаму, спецыялісту — стаць доктарам геолага-мінералагічных навук. Апаніраваў працу Гарэцкага знаёмы яшчэ па Карэліі і Кольскім паўвостраве ленінградскі геолаг, прафесар Якаўлеў.

Прывіды мінулага, прывіды зла засталіся за плячыма Гарэцкага. Ён цяпер стала працаваў у сістэме саюзнага гідрапраекта. Шляхі геолага-разведчыка цяпер вялі яго ад аднаго гідратэхнічнага аб’екта да другога, усё большага, усё маштабнейшага. Ужо быў за плячыма не толькі паважны практычны вопыт, але чуў пад сабой і надзейны тэарэтычны навуковы грунт, а дзесь у глыбіні душы жыла шчымлівая думка-мара маладосці — паслужыць навуковай працай, ведамі зямлі бацькоў. Але яму яшчэ прадстаяла здзейсніць свой навуковы подзвіг на шырокім раздоллі Рускай раўніны.

Ад пачатку Гарэцкага як геолага найпаўней яго ўяўленнем завалодала гісторыя рачных далін, выкапнёвыя рэкі. Пра ролю рэк у гісторыі чалавека, народаў, культур вучоны ў сваіх працах гаворыць словамі паэта: «Прарэкі антрапагенавага перыяду мелі велізарны ўплыў на гісторыю чалавека, які з’явіўся і развіўся менавіта у гэтым перыядзе. Пераважная большасць стаянак першабытнага чалавека ў палеаліце, мезаліце і неаліце размяшчаецца каля прарэк і сучасных рэк. Прарэкі і рэкі гістарычнага часу былі калыскамі народаў, дзяржаў, шматлікіх цывілізацый і культур. Лёс чалавецтва непарыўна звязаны з прарэкамі і рэкамі. Нездарма ўсе народы надавалі родным рэкам імёны маці і бацькі: матушка Волга, бацька Дніпро,

бацька наш — Нёман… А колькі паэтычных дыяментаў парадзілі рэкі ў літаратуры ўсіх часоў, усіх народаў».

Гарэцкаму доўгі час даводзілася сумяшчаць геолага-пошукавую, геолага-інжынерную працу з навуковай. Моцна трымала вучонага практычная геалогія. Ды не адна яна. Абставіны, прадвызначаныя ў нашым грамадскім жыцці 30-мі гадамі. Беларускія вучоныя двойчы спра-бавалі вярнуць Г.І.Гарэцкага ў акадэмічную сістэму. Яшчэ А. Р. Жэбрак у сваю непрацяглую бытнасць прэзідэнтам АН БССР спрабаваў вярнуць знанага земляка ва ўлонне навукі Савецкай Беларусі. Памяталі, які арганічны і плённы быў ён тут у 20-я гады. З просьбай вярнуць Гарэцкага на працу ў Акадэмію навук у Менск на сесіі Акадэміі навук СССР выступаў віцэ-прэзідэнт АН БССР Якуб Колас. За Гарэцкага хадайнічалі беларускія савецкія акадэмікі А. Я. Пракапчук, П. П. Рагавы, член-карэспандэнт М. М. Ганчарык.

Я. Колас як віцэ-прэзідэнт выклікаў быў вучонага з жонкаю ў Менск, прасіў не спыняцца ў гасцініцах, ветліва прапанаваў свой дах. Сказаў: «Сходзіце ў ЦК, прыме Вас там вучоны». І сапраўды прыняў загадчык навукі К.І.Шабуня. Гаварылі гадзіны дзве. Шабуня ўчыніў вучонаму сапраўдны допыт, можа, самы прыкры з усіх допытаў, якія Гарэцкаму давялося зазнаць у розных гадах. Страшэнная нуда ахапіла вучонага ва гэты духоўны здзек, недавер, паблажлівасць. Не хацелася вяртацца да мілага Канстанціна Міхайлавіча, расказваць паэту-акадэміку пачутае ад чыноўніка. Хутчэй на поезд і ў Маскву. У гэты час Гарэцкі ўжо жыў непадалёк ад сталіцы, у Дзедаўску, і ўсё больш мог займацца любімай навуковай працай. Але машына, а то і самалёт усё яшчэ чакалі геолага, каб імчацца на чарговы аб’ект, даследаваць ложа будучых электрастанцыі, канала, вадасховішча. Перад тым як вярнуцца да беларускіх вытокаў, да лагойскіх баравін ды дуброваў узгоркавай Навагрудчыны, да Нёмана, які здаўна непакоіў уяўленне геолага, у жыцці Гарэцкага быў яшчэ асобы перыяд. Ён пачаўся з сапраўднага рыўка на Поўдзень. Не ўслед, а паперадзе вялікіх будоўляў. Не будзе перабольшаннем сказаць — гідрабудаўнічых здзяйсненняў.

З пачатку 50-х як намеснік начальніка аддзела геалагічных вышуканняў, галоўны спецыяліст Гідрапраекта СССР Г.І.Гарэцкі ўдзельнічае ў маштабных пашуковых работах пад такія буйныя і складаныя аб’екты, як Цымлянская і Кіеўская гідраэлектрастанцыі, каналы Волга-Данскі, Сальска-Манычскі, Северскі Данец — Данбас, Дняпро — Крывы Рог, Дона-Сальскі (Мартынаўскі) тунель, Сарпінская абвадняльная і арашальная сістэма, Чаграйскае вадасховішча, шлюзавая сістэма нізоўя Дона, схема выкарыстання Кубані… У ходзе гэтых работ, якім па размаху, маштабу нельга знайсці аналагаў, вывучаліся рачныя даліны, грунты ложа будучых плацін і вадасховішчаў, геалагічная структура тэрыторый, закранутых будаўніцтвам. Інжынерна-геалагічнай службе Гідрапраекта даводзілася рабіць сотні тысяч буравых свідравін. Бурэнне, як правіла, вялося на вялікую глыбіню, сягала падсцілу самых старажытных рачных адкладаў. Практьтчпа — сто-, а ў дэльтах да двухсот— і нават да трохсотметровай глыбіні. Гушчыня свідравання была звычайна сто, а часам дваццаць пяць — трыццаць метраў. Проба бра-

лася праз кожнага паўметра ствала свідравіны. Праходзілі ўсю магутнасць залягання алювію — рачных адкладаў.

У выніку гэтага вялікага гідрабудаўніцтва, мэтай якога было паставіць, здавалася, неабмежаваныя прыродныя рэсурсы на службу савецкаму чалавеку, сацыялізму, геолагі назапасілі агромністы эксперыментальны матэрыял. Пра такую багатую натуральную даследчую базу маглі толькі марыць вучоныя. Цяпер патрэбен быў такі прадстаўнік навукі або група вучоных, якія патрапілі б грунтоўна, усебакова прааналізаваць і абагульніць гэты унікальны матэрыял. Праз яго ўбачыць тыя працэсы, што адбываліся на Зямлі мільёны год назад і прадвызначылі шмат што ў яе структуры, рэльефе, схаваных багаццях. Патрэбен быў чалавек вялікай працаздольнасці, смелай, маштабнай, праніклівай думкі. Патрэбна была натура цэльная, апантаная. Патрэбна была асоба, трывалы чалавечышча. Г. І. Гарэцкі, пэўна, спалучаў у сабе гэтыя многія чалавечыя якасці. Іначай як бы ён здолеў падняць у навуку такі вялізарны прыродапазнавальны матэрыял, бліскуча тэарэтычна яго асэнсаваць, прыйсці да каштоўных і шырокіх навуковых высноў і заключэнняў. На працягу 60-х гадоў, пачынаючы з 1964-га, адна за адной выходзяць фундаментальныя яго працы «Алювій вялікіх антрапагенавых прарэк Рускай раўніны», «Фарміраванне даліны р. Волгі ў раннім і сярэднім антрапагене» і «Алювіяльны летапіс вялікага пра-Дняпра». Агульным аб'ёмам тры манаграфіі Гарэцкага пераўзыходзілі сто дваццаць друкаваных аркушаў. Гэта была сапраўды фундаментальная праца. Невыпадкова адразу яна атрымала ў навуковай грамадскасці краіны высокую ацэнку. Многія вучоныя-прыродазнаўцы, сярод якіх акадэмік К. К. Маркаў, дактары геолага-мінералагічных навук Н. І. Крыгер, дарэчы, адзін з першых біёграфаў Г. І. Гарэцкага, А. В. Вастракоў, К.І.Геранчук, М. М. Сакалоў і іншыя, успрынялі кнігі, прысвечаныя даследаванню алювію антрапагенавых прарэк Усходнееўрапейскай раўніны, як подзвіг.

Надзвычай высока ацанілі манаграфіі Гарэцкага акадэмікі В. М. Сукачоў, А. Л. Яншын. Раздаліся галасы глыбокага захаплення і ўдзячнасці. «…Перад тым, што вы зрабілі, што далі нашай геалагічнай навуцы, я нізка схіляю галаву», —пісаў праф. А. В. Вастракоў з Саратава. «Віншую з публікацыяй каласальнай працы і радуюся за рускую культуру і навуку», — тэлеграфаваў з Ленінграда праф. М. К. Верашчагін. Здзейсненае было сапраўды маштабным, перакапаўчым па тэарэтычна абгрунтаваным матэрыяле, метадычным ключы, ідэях, вывадах.

Аналіз алювіяльных адкладаў Гарэцкі разглядае як сродак узнавіць гідралагічны рэжым старадаўніх рачных артэрый, а таксама рэжым клімату. Для ўзнаўлення рэжыму выкапнёвых рэк, гісторыі развіцця іх далін аўтар скарыстоўвае аналіз падоўжаных разрэзаў рознаўзроставых алювіяльных світ, не толькі якасны, але і комплексны аналіз малюскавай фауны, пылку, спораў, насення выкапнёвых раслін.

Пытанне аб суадносінах морскіх і канты-нентальных адкладаў заўсёды займала важнае месца ў геалагічнай гісторыі Зямлі. Асаблівую ўвагу надавалі яму айчынныя вучоныя В. В. Да-кучаеў, У. І. Вернадскі, П. А. Туткоўскі. Яно

з'яўляецца ключом для разумення суадносін ледавіковых і рачных адкладаў. Гісторыя ста-ражытных рэк, у тым ліку беларускіх Дняпра, Прыпяці, Заходняй Дзвіны, закранае карэнныя пытанні аб адносінах ледавікоў Скандынавіі і рачных сістэм Чарнаморскага і Балтыйскага басейнаў. А, беручы шырэй, гісторыя прарэк Усходнеславянскай раўніны — гэта адначасна і гісторыя рэк Заходняй Еўропы. Асабліва вялікае значэнне для пазнання геалагічных працэсаў у антрапагенавым перыядзе еўрапейскага кантынеітту мае палеапатамалогія Дпяпра, Віслы, Эльбы, Рэйна, Дуная.

Вялізны матэрыял прарэк Еўрапейскай часткі СССР, сістэматызаваны і тэарэтычна асэнсаваны Г. І. Гарэцкім, даў трывалую навуковую аснову для глабальных суадносів, увязкі з'яў усёй гісторыі антрапагену ў агульнаеўрапейскім маштабе.

Вывучэнне антрапагенавых прарэк і іх пахавальнага алювію акрамя немалога тэарэтычнага мае паважнае прыкладное гаспадарчае значэнне. На алювіі прарэк размешчаны будынкі шмат якіх гідрастанцый і шлюзаў. Суглінкі і гліны пахавальнага алювію скарыстоўваюцца пры будаўніцтве як добры, натуральны супрацьфільтрацыйны экран. З алювію выкапнёвых рэк здабываецца высакаякасны пясок і інертныя матэрыялы для жалезабетону. У алювіі прарэк, рачных перапаглыбленнях захоўваецца высакаякасная пітная вада. З алювіяльных адкладаў бяруць і тэхнічную ваду для забеспячэння гарадоў, паселішчаў і прамысловых прадпрыемстваў, а таксама ваду для арашэння і абваднення засушлівых зямель. У наносах прарэк хаваецца многа індыкатараў карысных выкапняў (магніту, золата, медзі, нікелю, бурштыну, алмазаў і інш.), а таксама саміх выкапняў.

Праз трыццаць сем год пасля прымусовага выезду з Беларусі, у 1968 годзе, Г.І.Гарэцкі нарэшце вяртаецца ў Мінск. Здзейснілася патаемная мара вучонага, што заўсёды то светла, то шчымліва-балюча адзывалася ў яго душы.

Гарэцкі займае на радзіме адносна сціплую пасаду загадчыка аддзела (цяпер лабараторыі) геалогіі і палеапатамалогіі антрапагену Інстытута геахіміі і геафізікі АН БССР. Праз год яго абіраюць намеснікам акадэміка-сакратара Аддзялення хімічных і геалагічных навук АН БССР.

Аднак хутка вучоны ўсё паўней уключаецца ў навуковае і культурнаграмадскае жыццё рэспублікі. Яго абіраюць старшынёй створанай пры АН БССР па яго ініцыятыве Беларускай антрапагенавай камісіі, у Праблемны савет па комплексным вывучэнні зямной кары і верхняй мантыі, членам Навуковага савета па праблемах Палесся. Аднаўляецца падрыхтоўка да выдання распачатай у 30-я гады і не здзейсненай да вайны з-за вялікіх і непапраўных страт, панесеных тады навукай, Беларускай Савецкай Энцыклапедыі. Г. І. Гарэцкага як знакамітага прыродазнаўца і беларусазнаўца запрашаюць у Тэрміналагічную камісію і рэдкалегію гэтага этапнага для духоўнага жыцця рэспублікі выдання.

Не аслаблі сувязі вучонага і з саюзным акадэмічным цэнтрам. Г. І. Гарэцкі застаецца членам Навуковага савета па інжынернай геалогіі АН СССР, членам Маскоўскага таварыства даследчыкаў прыроды. З 1967 года акадэмік Гарэцкі — старшыня Савецкай секцыі Міжнароднага саюза па вывучэн-

ню чацвярцічнага перыяду (INQUA) і старшыня Камісіі па вывучэнні чацвярцічнага перыяду пры Секцыі навук аб Зямлі АН СССР. У гэтым апошнім, між іншым, выразілася прызнанне савецкай навуко-вай грамадскасцю Г. І. Гарэцкага як заснавальніка айчыннай школы палеапатамалогіі — навукі, якая вывучае геалагічную гісторыю рэк.

Ужо ў Менску знайшло Гарэцкага і высокае дзяржаўнае прызнанне яго навуковых заслуг. У 1971 годзе за манаграфічныя даследаванні, прысвечаныя прарэкам Усходнееўрапейскай раўніны, Г. І. Гарэцкаму была прысуджана Дзяржаўная прэмія СССР у галіне навукі.

У свой час вядомы савецкі вучоны Я. В. Шанцар, рэцэнзуючы ккігі Г. І. Гарэцкага аб прарэках Усходнеславянскай раўніны, пісаў: «Г. І. Гарэцкі адносіцца да ліку вучоных, якія не толькі валодаюць логікай навуковага даследавання, але і вялікай вобразнасцю мыслення, я б сказаў, дарам паэтычнага бачання фактаў».

Гэты дар, падмечаны калегам-вучоным, праглядае не толькі ў тытанічнай працы, укладзенай Гарэцкім у тэарэтычнае асэнсаванне прарэк Еўрапейскай часткі краіны, гісторыі антрапагенавага перыяду Зямлі. Ало і ў меншым, паслядоўва. Ад самых першых навуковых эцюдаў, алублікавапых у выданнях Бвдарускай культурна-навуковай асацыяцыі студэнтаў Пятроўскай (цяпер Ціміразеўокай) сельскагаспадарчай акадэміі, у зборніку «Маладая Беларусь», што з цяжкасцю пабачыў свет у Маскве ў 1922 годзе. Паэтычнасць у Гарэцкага заўсёды лучылася з шырынёй погляду. Можа, якраз яе крылы і падымалі вучонага вышэй, рассоўвалі гарызонт бачання максімальна.

Спакойны, разважлівы акадэмік Гарэцкі ў гутарцы, гамонцы (любіць ён гэта прыроджанае магілёўскае слоўца). У душы ж адчуваецца агонь, і ён час ад часу ў размове раптам палыхне з-пад густаватых броваў: энергічна, іскрыста адаб‘ецца ў позірку.

На сходзе восьмага дзесятка Гаўрыла Іванавіч заканчваў працу над манаграфіяй «Асаблівасці палеапатамалогіі ледавіковых абласцей» (на прыкладзе Беларускага Панямоння). Быў ва ўладзе ачаравання прадметам свайго даследавання. З душэўным узрушэннем гаварыў пра Нёман як эталон рэк, басейны якіх у многім фармаваліся пад уплывам зледзяненняў. Таму, даследуючы пра-Нёман, можна, паводле думкі вучонага, знайсці адказ на некаторыя фундаментальныя пытанні палеапатамалогіі.

Даліна старажытнага Нёмана. Ледавікі, якія пяць разоў перакрывалі вадазбор беларускай ракі, у асноўным знішчылі сляды пахаванага алювію. Яны ўтварылі ў Нёманскім басейне вялізныя лагчыны ледніковага выворвання і размыву, днішчы якіх залягаюць часам на 100—160 метраў ніжэй узроўню мора.

Народна-гаспадарчае значэнне даследавання даліны Нёмана ў параўнанні з поймамі іншых рэк павялічваецца яшчэ ад таго, што пахаваныя даліны і лагчыны ледніковага выворвання і размыву шмат дзе знішчылі ўсе даантрапагенавыя пароды, дакапаліся да крышталічнага фундаменту. Пры гэтым у пахаваныя даліны і лагчыны траплялі рэшткі карысных выкапняў, якія змяшчаюцца ў крышталічных пародах…

Не перастаеш унутрана дзівіцца — нястомнасці, працаздольнасці вучонага. Няма той імклівай хады, у якой мажная постаць яго глядзелася асабліва хараша. Не сустрэнеш больш пачцівую інтэлігентную пару Гарэцкіх на канцэртах у філармоніі, Доме літаратараў. Але вось на восемдзесят другім годзе жыцця вучонага выходзіць яшчэ адна яго кніга. На гэты раз прысвечаная пра-Дону. На падставе раней назапашаных матэрыялаў. Не цэлы навуковы маналіт — фундаментальная манаграфія, а палеапатамалагічныя эскізы. Асобныя пытанні, штрыхі да агульнай карціны гісторыі яшчэ адной старажытнай ракі. Яшчэ адно навукова-дакументальнае сведчанне-пасланне працэсаў, якія мільёны год таму адбываліся з нашай Зямлёй.

Калі б не гэтая неабыдзённасць погляду на свет, душэўная шырыня і вечны поцяг да родных вытокаў, як бы патрапіў ён, вучоны, што з галавой увайшоў у фундаментальныя і прыкладныя праблемы геалогіі, раптам пакінуць свой штодзённы навуковы клопат, каб заняц-ца нечым зусім іншым. Напрыклад, спецыяльна корпацца ў архіве музея Максіма Горкага, каб адшукаць япгчэ лішнія сведчанні кантактаў пісьменніка-гуманіста з Беларуссю, яе культурай. А вынікам такога экскурсу прыродазнаўцы — яго публікацыя ў «Полымі», пасланая яшчэ з Падмаскоўя. Хто-небудзь, можа, паўстагоддзя ў самой Беларускай Акадэміі навук адседзеўшы, не зварухнуўся б, а ён, Гарэцкі, не ўтрымаўся, каб з нагоды юбілею Інбелкульта светла і горна не ўспомніць тых, хто закладваў фундамент сягоння ўжо далёка бачнага гмаху беларускай савецкай навукі.

Была духоўная патрэба ў прызнанага даследчыка Зямлі сказаць асобнае сваё слова пра Янку Купалу, узнавіць па-свойму бессмяротны вобраз паэта.

А ўспаміны пра Максіма?.. Максім паволі вяртаўся ў літаратуру.

Пісьменнікі, літаратуразнаўцы душой пацягнуліся да яго спадчыны.

Гаўрыла Іванавіч удзельнічаў у вяртанні спадчыны брата. Успамінамі, парадамі даследчыкам. Згадваў роднае асяроддзе, Максімавы шляхі, той духоўны светач, які даў яму старэйшы брат на пачатку дарогі. Раздумваў над вытокамі творчасці Максіма, сацыяльным аптымізмам, што дазволіў яму ў самых неверагодных умовах не здрадзіць адзіна праўдзіваму мастацтву, не сступіць на сцежку, што вяла б у бок ад адвечнага шляху, таго шляху, на якім, як бы цяжка ні было, служэнне праўдзе, народу, людзям. Служэнне ў імя перамогі Справядлівасці, Дабра, Братэрства на зямлі. Думаў над незавершанай Максімам у «Камароўскай хроніцы» тэмай інтэлігенцыі, яе лёсах.

Апошні раз бачыліся яны з Максімам увосень 1936 года.

Гаўрыла з Ларысай Восіпаўнай прыехалі да Максіма з Мілай у Пясочню на Смаленшчыне (тады Заходняй вобласці), дзе старэйшаму Гарэцкаму дазволілі былі працаваць. Калі ўжо нельга было ў Беларусі, то стараўся хоць бліжэй да «милого предела». Зноў прыдалася набытая практыкай філалагічная кваліфікацыя: выкладаў рускую мову і літаратуру ў школе, чытаў лекцыі ў клубе на заводзе і ў ваенкамаце. Падумваў нават, каб скончыць завочна філфак у Смаленскім педінстытуце. Пасля шасцігадовага рас-

стання, стольків змен, усяго перажы-тага братам было пра што пагаманіць. Хоць сустрэча была нядоўгая (сям'я малодшых Гарэцкіх скарыстала на паездку ў гасціну толькі пару святочных Кастрычнікавых дзён), шмат аб чым паспелі пагаварыць.

З Вяткі Максім вярнуўся з надзеяй. Асеўшы тут, ездзіў у Мінск, агледзецца на былым, незваротным. Ды яшчэ спадзяваўся ўбачыць надрукаванымі «Віленскія камунары»… Аднак родны горад надзеі не дадаў. Ад Якуба Коласа даведаўся пра сумны лёс літаратараў, навукоўцаў забраных у 1933-м. Сам Канстанцін Міхайлавіч чуўся не вельмі самавіта, быў няпэўны ў заўтрашнім дні. У духоўнай атмасферы Мінска, прынамсі ў тым, як яна адбівалася ў газетах, было нешта ненатуральнае. Праз робленыя аптымізм, захапленне прабівалася жорсткасць. Бянтэжылі жанры, невядомыя раней краснаму пісьменству: допіс-данос, пакаянныя лісты, калектыўныя пісьмы ў вершах, складзеныя на чэсць правадыра, настаўніка ўсіх народаў. Прагнаць смугу, што асядала на душы, Максім стараўся работай. Налягаў на заняткі ў школе, працу з літгурткоўцамі, зацікавіўся сам і другіх нахінуў да пошукаў у Пясочні слядоў палатнянага завода, які быццам бы быў тут у часы Пушкіна: паэт наведваўся ў гэты глухаваты край да сваіх сваякоў Ганчаровых.

Браў Максім каго-небудзь з дзяцей, дачку Галю ці сына Лёню, і адпраўляўся з імі ў мілую, родную Багацькаўку. Гаманіў з аднавяскоўцамі, блукаў па лужку, пералесках, сумаваў, што не азавецца ніколі да яго ласкавым словам маці. Год мінуў, як не стала яе. Тады яшчэ не мог, не меў права прыехаць, каб развітацца. Памерла недарэчна, як памірала не адна сялянская жанчына, цяжка, не па гадах працуючы, увіха-ючыся ля гаспадаркі. Цяпер, уяўляючы, як яна падымала з пограба той цяжкі кошык з бульбай, спавядаўся перад ёй, перад мацярынскай памяццю. Шчыры сыноўні боль заставаўся ў словах, занатаваных на паперы.

Зрабіўшы ў думках «парад камароўцаў», сцісла занатаваўшы ў сшытак рэестр аднавяскоўцаў, па хатах: «дзе хто, з кім што», выбіраўся ў Пясочню. Па дарозе забягаў на вясковыя могілкі развітацца з той, што дала жыццё. Былы педагог, калега па працы ў школе ў Пясочні праз гады ўспомніць, які неардынарны педагог і чалавек быў з імі побач. Раскажа пра атмасферу прыязні, зычлівасці, што акружала Гарэцкага ў іх маленькім чалавечым асяродку — школе. Не ведацьме пачціўы стары педагог, што не ўсе цанілі, шанавалі выкладчыка рускай мовы і літаратуры ў іх там. Са свайго кутка ўаблана хціва і зларадна цікаваў за настаўнікам, апальным пісьменнікам нехта Осін. І, пэўна, не проста сваім одумам, а з нечай ласкі, загаду пісаў даносы на настаўніка Пясочынскай школы…

Вядома, паветра чалавечай дабрыні, ім дыхаў пісьменнік у школьным калектыве, нямала значыла для душы. Як і святло, цяпло роднага дому, блізкіх. Але што магло замяніць мастаку грамадскую перспектыву, якая відучы знікала. І толькі сляпы, зусім недалёкі чалавек, нейкі страус мог гэтага не заўважыць. Гарэцкі не быў фаталістам, калі прызнаваўся ў «Скарбах жыцця» (можа, заключнага раздзела «Камароўскаіі хронікі»): «Цану рэчаў пазнаў. Людзей да самых глыбінь уведаў. Жыццём даражыць навучыўся. І

да смерці сябе рыхтаваць я ўмею. Каб прыняць яе меч хоць калі, і без пары, без усякай патрэбы».

Не фаталістам, аналітыкам быў: бачыў, да чаго кіруецца грамадскае жыццё. Успрымаў яго жорсткую скіраванасць як наканаванне? Не. Напэўна, тлумачыў, разумеў прычыны таго, што адбывалася. Няхай не ўсе. Быў жа не толькі мастаком. Тэарэтыкам і практыкам таксама. Але ў словах, тых, з апошняй мяжы, што дойдуць да людзей праз гады, заставаўся мастаком, мастаком-філосафам, які ўзняўся думкаю над адпакутаваным, пражытым самім сабою, народам.

«Судзі мяне, судзі мяне кожны і ўсякі! Судзі мяне судом сваім і кожным і ўсякім. Карай мяне карамі сваімі, карай… Толькі прашу цябе: не выбівай з маіх худых і кволых рук гэтага маленькага пучочка васількоў… А выб'еш — буду азірацца на іх з сумам і жалем вялікім, перавышаючым мае слабыя сілы… Як мне забыцца на іх, пакінутых там, ззаду, на дарозе ў гіыле і брудзе, на цярпёвай дарозе, якою народ мой ішоў».

Каменне, камяні. Удумацца — адно з цудаў прыроды. Жорсткі сейбіт-ледавік рассяваў іх ва свеце. Пры дарогах, на палях, узлесках ляжаць яны, сведкі даўнейшых часоў. Прырода, гісторыя рабіла на іх свае адмеціны. Шмат таямніц ў звычайных шэрых валунах. Аднаму нагадаюць яны легенду, чутую ў маленстве ля вясковай ваколіцы. Другому — памятку на магіле бацькоў, кургане продкаў. Для акадэміка Гарэцкага — гэта перш-наперш мудрыя летапісцы Зямлі. І яе аздоба.

Яго думку сабраць валуны, шчодра рассеяныя па беларускай зямлі, у адно месца пры Акадэміі навук дружна падтрымалі вучоныя. Шчыра адгукнуўся на яе прэзідэнт М. А. Барысевіч. Гаўрыла Іванавіч Гарэцкі, разам з калегамі-геолагамі, сынам Радзімам рынуліся ў экспедыцыю. Загадзя нагледжаныя і нанова адшуканыя на Лагойшчыне, Барысаўшчыне, Вілейшчыне валуны збіраліся, адвозіліся ў Менск, у акадэмгарадок. Тут найлепей можна арганізаваць сістэматычны па раёнах збор гэтых маўклівых сведкаў мінулага. Рэальна наладзіць вывучэнне іх на навуковай аснове.

Няхай спачатку і не музей, а сціпла — эксперыментальная база па вывучэнню валуноў пры Інстытуце геахіміі і геафізікі АН БССР. Валуны. Легенды і каменны летапіс. Разам. Не-шта супольнае і свой выгляд, можа, нават аблічча, у кожнага. Асобныя глядзяцца самавіта, думна. Можа, загадкава. Натуральна, але не адвольна твораць яны кампазіцыі. Радуюць вочы.

Вечнасць… З глыбіняў яе ішоў чалавек. Мільёны год. Міма гэтых нямых сведкаў найдалёкшых часоў. Праз цемру, бездараж, пакуты. Да святла, дабра, людскасці. З нізін да вяршыні. Неадступна ўзвышаючыся над цемрай, злом, нядоляй. Уздымаючы рукі да Сонца.

# Мікола Шчакаціхін: Краіна Беларусь — вачыма вучонага

**Пачатак**

Мікола Шчакаціхін прыйшоў у беларускую навуку ў той час, калі яна з паасобных, нярэдка вельмі жыццядзейных, але ўсё ж адзінкавых вытокаў пачала ўвачавідкі ператварацца ў імклівую шырокую плынь. Падрыхтаваная руплівай, часам проста падзвіжніцкай працай самаадданых адзінак у XIX — пачатку XX стагоддзяў, адухоўленая і ўзвышаная вызваленчымі імкненнямі народа, абуджанага да грамадскага жыцця рэвалюцыяй 1905 года, разняволенага і акрыленага рэвалюцыяй 1917 года, беларуская навуковая думка к канцу 20-х гадоў зведала сапраўдны творчы ўзлёт. І ў гэтай, пад знакам добрай вясны, дружна пачатай сяўбе быў шчодры дасевак і М. Шчакаціхіна.

У асобе Міколы Шчакаціхіна маладое выяўленчае мастацтва Савецкай Беларусі якраз у пару яго фарміравання (што было асабліва важна) атрымала эстэтычна тонкага, з добра развітым грамадзянскім пачуццём крытыка, дарадцу. Недаследаваная ж, ад сівых вякоў створаная і бязлітасна знішчаная незлічоньжі войнамі мастацкая спадчына народа шчасліва знайшла ў ім дасведчанага і пранікнёнага свайго гісторыка.

Нядоўгаму, адзначанаму творчым гарэннем жыццю Міколы Шчакаціхіна, плёну шчырай працы яго прысвячаюцца гэтыя старонкі.

Аўдыторыя была крыху зацесная. Гэта асабліва выразна кідалася ў вочы, калі праз высокія вузкія вокны заглядала асенняе сонца, творачы светавую мазаіку на чыста-белых сценах яе. Промні мякка падсвечвалі то засяроджаныя, пасуравелыя, то светла-летуценныя абліччы, краналіся крутога пляча хлопца ў зелянковай гімнасцёрцы, высвечвалі тонкі профіль учарашняй гімназісткі…

І ў гэтай ушчыльную пасеўшай за сталамі студэнцкай грамадзе дзесь губляўся ясначолы задумлівы малады чалавек з дабрадушным выразам твару, спакойнымі задуменнымі вачыма па імені Мікалай Раманоўскі, духоўны свет якога ўжо таіў у сабе неабдымны край вобразаў, летуценняў… Міне год-другі, і ён пад літаратурным імем Кузьмы Чорнага падорыць народу адно за другім свае дзівосныя палотны — мастацка-непаўторныя, самабытныя карціны жыцця, быту і лёсу беларускага чалавека.

Дзесь углыбіні аўдыторыі вялікія жывыя вочы падняў на лектара Адам Бабарэка.

Прыгожы, жвавы, парывісты, запытальна аглянуўся на суседа Дайлідовіч, ужо добра вядомы студэнцкай моладзі як паэт Алесь Дудар…

Дзесь у гэтай гушчы растварыліся яшчэ нехлямяжыя юнакі, а ў будучым таленавітыя і шчырыя да самазабыцця ў працы гісторыкі, літаратуразнаўцы, лінгвісты: Кастусь Кернажыцкі, Андрэй Бурдзейка, Тодар Забела, Мікалай Улашчык, Янка Бялькевіч, Васіль Мачульскі… Лектар, узвышаючыся над невысокай пераноснай кафедрай, чытаў зусім новы курс, яшчэ не чытаны ні ў адной аўдыторыі свету. Ён гаварыгў аб беларускім мастацтве. І разумоваму зроку слухачоў упершыню з-за шыза-ліловай заслоны стагоддзяў паўставалі вобразы, тварэнні невядомых, забытых майстроў, дойлідаў. Лектар, а гэта быў Мікола Шчакаціхін, імкнуўся на першым часе даць студэнтам хоць бы ў агульных абрысах уяўленне аб новым прадмеце, прадставіць хоць вугалем накіданы эскіз гісторыі мастацкай творчасці ў Беларусі, паказаць шляхі, якімі ішло тут развіццё розных мастацкіх форм, вылучыць асноўныя этапы і напрамкі гэтага развіцця…

Выкладчыку не даводзілася падрабязна гаварыць пра акалічнасці і прычыны, дзеля якіх сам тэрмін «беларускае мастацтва» быў нечым нязвыклым, зусім новым у навуковым ужытку, хоць з'ява, сутнасць якой ён выражаў, каранямі ішла ў старажытныя пласты гістарычнага жыцця народа гэтай зямлі. Было ў народа сваё, як імя і голас, багатае мастацтва, але не было навукі аб ім. Была яркая, насычаная драматычнымі падзеямі, характэрная высокім узлётам грамадскай думкі, багатая на дзеі гісторыя, але сам творца гэтай гісторыі з ласкі розных прыгнятальнікаў забыў яе…

Так было, але так быць не павінна.

…Вузкі праход аддзяляў першыя студэнцкія сталы ад невысокай кафедры за якой цяпер стаяў хударлявы, тонкк рыс твару чалавек. З-пад шкельцаў акуляраў на слуха^ў глядзелі жывыя цемна-шэрыя вочы. Неўпрыкмет забіраў увагу ўсей аўдыторыі яго багаты на інтанацыі голас За плячыма чалавека за кафедрай не было яшчэ напружаных дзен працы, плён якіх важкімі тамамі кладзецца на паліцу. Праўда, за 27 прамінулых год нямала перажыта. На жыццёвы шлях маладога чалавека падалі блікі святла і ценю. Першых пакуль што было больш.

Мікола Шчакаціхін, а для студэнтаў Беларускага дзяр-жаўнага універсітэта цяпер паважаны Мікалай Мікалаевіч, нарадзіўся 1 кастрычніка 1896 года ў сям'і, якая калі не ведала лішняга дастатку, то, прынамсі, і не знала турботы аб кавалку хлеба. Маці, добрая знаўца французскай і нямецкай моў, працавала выкладчыцай у адной з маскоўскіх гімназій. Бацька яго, Мікалай Шчакаціхін, быў інжынерам. З-за нейкіх складаных сямейных акалічнасцей ён, аднак, не выконваў прамых бацькоўскіх абавязкаў перад сынам. Гадаваць маленькага Ніколіньку дапамагалі сваякі: старэйшая сястра маці, у замужжы Гольдэнвейзер, і дзед, які жыў на Арлоўшчыне, дзе меў невялікі, напалову растранжыраны маёнтак і чын калежскага асэсара.

На радзіме маці, у дзедавай сядзібе, будучаму мастацтвазнаўцу беларускаму ва ўсёй раскошы і красе ўпершыню раскрылася загадкавае і зманлівае

жыццё прыроды. Тут ён упершыню зведаў радасць прычашчэння да яе таямніц і хараства.

У сям'і цёткі, з якой выйшаў у будучым славуты піяніст і педагог, першы савецкі дырэктар Маскоўскай кансерваторыі Аляксандр Гольдэнвейзер, юны Шчакаіцхін незаўважна спасціг не менш дзівосны свет, створаны з гукаў і фарбаў, напоўнены высокім палётам думкі, уздымам пачуцця, — свет мастацтва.

У доме Гольдэнвейзераў яшчэ гімназістам Мікалай Шчакаціхін убіраў у сябе атмасферу вялікай духоўнасці і незгасальнай творчасці. Тут ён упершыню ўбачыў вачыма, адчуў уражлівым сэрцам усю непаўторнас і веліч творцаў жывога цуду мастацтва Фёдара Шаляпіна, Сяргея Танеева і Сяргея Рахманінава. Шчодра адораныя прыродай натуры гэтых волатаў духу ў нязмушаных абставінах сядзібы Гольдэнвейзераў не раз зведалі высокае творчае азарэнне. Сярод шчасліўцаў, хто захлынаўся зорным дажджом іх таленавітасці, іх генію, быў сціплы, строгі юнак у гімназічнай форме, будучы пачынальнік беларускага мастацтвазнаўства, яго надзея і ранняя страта — Мікола Шчакаціхін.

Гуманітарны напрамак адукацыі, выбраны для Шчакаціхіна яго маці, спрыяў развіццю прыродных задаткаў юнака. Літаратура, пачынаючы ад эпасу і драмы старажытнай Элады да класічнага рускага рамана і паэзіі Аляксандра Блока, раскрывала перад ім усё непераходнае і вечнае, што назапасіў эстэтычны вопыт чалавека і чалавецтва. Грунтоўныя веды па грэчаскай, лацінскай, французскай і нямецкай мовах, якія давала гімназія, лёгкасць, з якой хлопец авалодваў імі, змястоўныя курсы літаратур свету і айчыннай садзейнічалі яго духоўнаму росту, шпаркаму развіццю. Маці сама сачыла за правільнасцю і паўнатой засваення ведаў сынам. Гімназія, скончаная М. Шчакаціхіным з залатым медалём, дала добрую аснову для авалодання найбагацейшымі здабыткамі чалавечай культуры. Наперадзе, аднак, быў вельмі адказны перыяд. Юнак у ім павінен быў паволі ўступіць месца маладому чалавеку. Якім ён будзе, гэты чалавек? Як вызначыць, ці знойдзе сваё месца ў жыцці? З чым пойдзе да людзей? Чым узрадуе ці засмуціць матчына сэрца?

Час, калі Мікалай Шчакаціхін пераступіў парог Маскоўскага універсітэта, быў навальнічна задушлівы. Толькі што ўспыхнула крывавае зарыва сусветнай вайны, і яшчэ ніхто не ведаў, знак якіх вялікіх перамен гэта зарыва. Хіба толькі той, хто сэрцам улоўліваў водгулле стрэ-лаў, што два гады таму назад прагучала над Ленай, у далёкай Сібіры, хто мог удумліва ўслухацца ў стрыманы голас пецярбургскага і маскоўскага пралетарыяту, сялянства імперскіх ускраін. Мог… Але такіх было няшмат. І тым больш не яны вызначалі настроі, што панавалі ва універсітэцкіх мурах. Хвалі рэакцыі, якія так шырока і мутна разліліся за апошнія 6—7 год на абшары Расійскай імперыі, абрынуліся і на высокія універсітэцкія сцены.

Яшчэ за тры гады да прыходу Шчакаціхіна ў Маскоўскі універсітэт у ім разгарнуліся нябачныя падзеі. Паслядоўна руйнуючы ўсе ранейшыя заваёвы працоўных, і перш за ўсё, хоць абмежаваныя, палітычныя свабо-

ды, царызм вырашыў энішчыць і універсітэцкую аўтаномію, заваяванун> студонтамі ў 1905 годзе. Выбарнасць унімрсітэцкай адміністрацыі, якую забяспечыла аўтаномія, паступова адбірала ад улады магчымасць назначаць у кіраўніцтва навуковых , навучальных цэнтраў сваіх адданых паслугачоў. Заядлыя манархісты з вучонымі званнямі, адэпты царызму вымушаны былі ўступіць сваё месца ў рэктараце дэмакратычна настроеным вучоным. I ўлада вымушана была прыняць гэта як факт.

Аўтаномія забяспечвала ў межах тэрыторыі універсітэта свабоду слова, сходаў і арганізацый. На універсітэцкую тэрыторыю не мелі права ўрывацца жандары. У гады сталыпшскай рэакцыі, калі ўмовы агітацыйнай працы былі страшэнна абмежаваныя, рэвалюцыйнае студэнцтва дзейсна скарыстоўвала правы універсітэцкай аўтаноміі для выкрыцця гвалтаў царызму, для давядзення да ведама. мас фактаў дзікага яго самавольства і злачыннасці.

У 1911 годзе царскі міністр асветы Касо адным росчыркам пяра скасаваў універсітэцкае самакіраванне. Гэты нахабны выклік рэакцыі знайшоў у радах студэнцкай моладзі самы рашучы адпор. Узначалілі студэнцкі рух навучэнцы Маскоўскага універсітэта. Баючыся, што таксама, як і ў 1901—1902 гадах, студэнцкія хваляванні будуць мець шырокі грамадскі рэзананс і атрымаюць падтрымку з боку пралетарыяту, царызм вырашыў разграміць іх выступленні адразу. Па вышэйшым загадзе ва універсітэцкія калідоры і ў аўдыторыі хлынулі жандары. Тысячы студэнтаў былі арыштаваны, здадзены ў салдаты. Тады свае адносіны да варварскай расправы ўлады над універсітэцкай моладдзю недвухсэнсоўна выказалі перадавыя вучоныя і педагогі. У знак пратэсту супраць паліцэйскіх мер урада ў дачыненні да студэнтаў 112 выкладчыкаў Маскоўскага універсітэта падалі ў адстаўку. Сярод іх былі вучоныя, чые імёны сталі гонарам рускай навую. Малады Шчакаціхін не меў шчасця ўбачыць у аўдыторыі постаці, пачуць голас такіх перадавых прадстаўнікоў навуковай думкі, як Фартунатаў, Вінаградаў, Шаршаневіч і многія іншыя.

Сярод выкладчыкаў, што з абурэннем пакінулі заследжаныя паліцэйскімі ботамі кафедры, быў і малады прыват-дацэнт гісторыі, будучы рэктар Беларускага дзяржаўнага універсітэта Уладзімір Пічэта, чалавек, з якім пазней жыццёвыя сцежкі шчасліва звялі Міколу Шчакаціхіна. Выкладчык курса рускай гісторыі, даследчык і глыбокі знаўца мінулага Літвы і Беларусі, прафесар М. К. Любаўскі, чалавек памяркоўны, лагодны, цесць У. Пічэты, заняў у той складаны час пасаду рэктара Маскоўскага універсітэта. У такой далікатнай сітуацыі паставіць на гэту пасаду заядлага рэакцыянера ўлады асцерагаліся.

Хоць дэмакратычны дух, антыцарысцкія настроі ў мурах Маскоўскага універсітэта трохі аслаблі, яны ўсё ж не маглі панікяуць зусім. Велізарная краіна жыла новымі ўзрушальнымі падзеямі, і ўжо чуўся павеў блізкіх бур. Не чужыя гзтыя новыя адчуванні былі і акадэмічнай моладзі.

Рызыкоўна гаварыць катэгарычна, што іменна паўплыва-ла на рашэнне студэнта Шчакаціхіна пасля першага курса пакінуць гісторыка-філалагічны факультэт і перайсці на прыродазнаўчае аддзяленне матэматычнага. Ці гэта

быў вынік звычайнага крызісу, нярэдка характэрнага маладосці пад час выбару шляху, ці прычыны караніліся ў нечым іншым, цяжка сказаць. Можна, аднак, дапусціць, беручы пад увагу агульную сітуацыю ва універсітэце, што Шчакаціхін быў незадаволены выкладаннем на факультэце. Пасля вядомых падзей 1911 года на гуманітарных факультэтах сабралася нямала людзей правых пазіцый і поглядаў. Гуманітарныя навукі, як болып непасрэдна залежныя ад бягучага палітычнага моманту ў краіне ў часы рэакцыі, зразумела, больш рэзка і непазбежна адчувалі на сабе яе ўплыў і сумныя вынікі гэтага ўплыву.

Праз нейкі час, даволі працяглы, Шчакаціхін вярнуўся на гісторыка-філалагічны факультэт — мабыць, загаварыла прызванне, духоўкыя схільнасці, мабыць, хлопец адчуў востры сум па навуцы аб слове, аб культуры… Ды і было дзеля чаго вярнуцца. Тут чыталіся асобныя курсы па грэчаскай архітэктуры і скульптуры. Усеагульную цікавасць выклікалі лекцыі па італьянскім мастацтве эпохі Адраджэння. Тытаны творчага духу Леанарда да Вінчы, Мікеланджэла Буанароці, Рафаэль Санці, Тыцыян, Караваджа пала-нілі магутнай выяўленчай сілай мастацкага генія, гарманічным увасабленнем сваёй бурлівай эпохі, што раскавала чалавечы розум і сэрца для вялікіх спраў, творчых пошукаў.

Зманлівае святло творчага агню, адухоўленасці свяціла маладому Шчакаціхіну ўжо не толькі ў аўдыторыі ды сонечным асабняку Гольдэнвейзераў. Яно ішло і ад узвышана-зямной паэзіі Аляксандра Блока, ад пяшчотна-суровай музыкі ягоных слоў, якая гучала то пагрозліва-прароча:

Рожденные в года глухие
Пути не помнят стоего.
Мы — дети страшных лет России —
Забыть не в силах ничего, —

то яснела кожным новым акордам свайго то імклівага, то роздумнага рытму:

Вновь весна без конца и без края,
Без конца и без края мечта!
Узнаю тебя, жизнь, принимаю
И приветствую звоном щита!

Тонкім мастацтвам, жывапісам слова прыцягваў Іван Бунін.

Чарадзейнае святло ішло і са сцэны. Тэатр Ібсена, з яго нянавісцю да грамадскага фальшу, маны, тэатр Чэхава, з яго авеянай смуткам марай аб гарманічным жыцці, аб прыгожым чалавеку, тэатр Горкага, з яго верай у чалавечае ў чалавеку, з пафасам адмаўлення ўсяго, што яго прыніжае і прыгнятае.

А які невыказна багаты свет таілі ў сабе Траццякоўская галерэя, Музей выяўленчых мастацтваў. Старажытная руская ікона і палотны пе-

радзвіжнікаў, тварэнні майстроў розных эпох і розных народаў будзілі пачуццё, паланілі думку.

Не, не мог не вярнуцца Шчакаціхін туды, дзе дасведчана і паслядоўна пра гэта чыталі, дзе можна было спасцігаць усё нерукатворнае рэальнае дзіва чалавечага духу, дзе засталіся сябры…

І прафесар М. Раманаў, які чытаў на гісторыка-філалагічным факультэце Маскоўскага універсітэта курс старажытнага італьянскага мастацтва, і пазней А. Сідараў, выкладчык сучаснага мастацтва, у віры студэнцкай грамады, сярод сваіх выхаванцаў пачалі вылучаць спакойнага хударлявага студэнта. З уласцівай яму тонкасцю і далікатнасцю пры выпадку ён задаваў адно-два пытанні, якія сведчылі і аб роздуме над пачутым, убачаным, і гаварылі аб уменні па-свойму зразумець мастацкую існасць твора, адчуць яго індывідуальную форму. Пазней, праз некалысі год, рэкамендацыйны ліст прафесара Сідарава, дадзены Шчакаціхіну да першага рэктара Беларускага універсітэта Пічэты, і паслужыў будучаму беларускаму гісторыку і крытыку мастацтва пуцёўкай у беларускую навуку. Але гэта было крыху пазней.

А пакуль што, акрамя навуковага, акадэмічнага, у 22-гадовага Шчакаціхіна быў і іншы жыццёвы клопат. Жыцце прад'яўляла свае патрабаванні і правы. Яшчэ не атрымаўшы дыплома, з 4-га курса універсітэта, у цяжкім для ўсіх 1918 годзе, Шчакаціхін ідзе працаваць інструктарам у Маскоўскі аддзел па справах музеяў і аховы помнікаў мастацтва і старажытнасцей. Рэвалюцыя, што там ні здарыцца потым, усё ж клапацілася аб культурнай спадчыне для народа. Ды пакуль не была знішчана старая інтэлігенцыя, было на каго рэальна абаперціся ў гэтай справе. Установа, куды пайшоў працаваць Шчакаціхін, як і падобныя аддзелы ў Петраградзе і ў правінцыі, адыграла неацэнную ролю ў захаванні помнікаў архітэктуры, здабыткаў матэрыяльнай і духоўнай культуры ў музеях, галерэях, прыватных калекцыях.

У першы ж год самастойнай працы Шчакаціхін атрымаў магчымасць непасрэдна і па-новаму зірнуць на самыя разна-стайныя праявы мастацкай культуры. Любоў да памятак культурнага мінулага, да твораў знаных і нязнаных майстроў, шчырае жаданне захаваць іх для рэвалюцыі, для наступных пакаленняў сабрала ў новай установе многа самаадданых энтузіястаў. І Шчакаціхін не толькі сваімі вачыма, а і вачыма гэтых дзівакоў, добрых знаўцаў і цаніцеляў мастацтва ўбачыў разам, у комплексе цудоўныя помнікі маскоўскага дойлідства, пільней угледзеўся і глыбей зразумеў значэнне тых рысаў, якія яны надаюць архітэктурнаму абліччу горада.

Тым часам Масква 1918—1919 гадоў жыла напружана, нялёгкім жыццём сталіцы-змагаркі. Каб трохі паправіць сваё і матчына бытаванне, Шчакаціхін у 1919 годзе пераехаў на Арлоўшчыну, дзе зноў стаў працаваць інструктарам у музейным пададдзеле пры губернскім аддзеле народнай асветы. Не пакідаючы музейных заняткаў, ён адначасова выконвае абавязкі клубнага інструктара і лектара пры пашт-аддзеле Арлоўскай ваеннай акругі.

На сходзе зімы 1920 года Шчакаціхін трапляе ў Харкаў, дзе пільнуецца сваёй ужо ўлюбёнай музейнай працы. Паралельна малады энтузіяст ма-

стацтва чытае лекцыі ў рабочых студыях, што былі створаны пры пададдзеле мастацтваў губернскага аддзела народнай асветы. Хутка, і гэта не здзіўляла ва ўмовах станаўлення новых форм жыцця, змяняліся месцы працы Шчакаціхіна, аднак ён заўсёды трымаўся нечага адйаго, абранага. Ад першых крокаў самастойнага жыцця інтарэсы, асноўны ўчастак прыкладання душэўных сіл ляжалі ў адным напрамку — да мастацтва, культуры.

З мая 1920 па снежань 1921 года Мікалай Мікалаевіч Шчакаціхін загадваў перакладчыцкай калегіяй і з'яўляўся членам рэпертуарнай камісіі пры навукова-тэарэтычным пададдзеле Народнага камісарыята асветы УССР, адначасова быў і загадчыкам літаратурнай секцыі цэнтральнага паказальнага чырвонаармейскага і рабочага клуба «Будучае» пры палітупраўленні Харкаўскай ваеннай акругі, потым членам Усеўкраінскага саюза пісьменнікаў і нават членам праўлення таго ж саюза. Да гэтага часу адносіцца, відаць, праца Шчакаціхіна над перакладам на рускую мову твораў вядомага дзеяча нямецкага рабочага руху крытыка і публіцыста марксісцкага напрамку Франца Мерынга. Крыху пазней, ужо пасля пераезду Шчакаціхіна ў Менск, у 1923 годзе том прац Мерынга ў добрым перакладзе маладога мастацтвазнаўцы ўбачыў свет.

**У Менску**

Яшчэ да таго, як невядомыя нам шчаслівыя акалічнасці скіравалі настроі, думкі і «стапы» Шчакаціхіна ў Беларусь, у Адэсе ён працяглы час інструктаваў і практычна арганізоўваў навукова-даследчую работу ў музеях і інстытутах горада. І ўжо ў 1922 годзе, з намерам узяцца за сталую даследчую працу, Шчакаціхін трапляе ў Менск. Цяжка сказаць, што прывяло яго сюды. Не адказваюць на гэта пытанне ні мізэрныя рэшткі архіва Шчакаціхіна, што засталіся ў родных, жонкі і сына, ні ўспаміны тых, хто даволі блізка яго ведаў. Магчыма, гэта была чыстая выпадковасць? А мо і не. Можна не без падстаў дапусціць, што бацька М. Шчакаціхіна паходзіў з Беларусі. Бо адкуль у прыроджанага масквіча ўзнікла не толькі думка, але і патрэба пісацца беларусам і месцам нараджэння называць горад Магілёў? Гэтыя звесткі знаходзім у даведніку «Навуковыя супрацоўнікі СССР», выдадзеным у 1925 годзе, паўтораны яны і ў спісе навуковых супрацоўнікаў Інстытута беларускай культуры, які захоўваецца ў архіве Акадэміі навук Беларусі.

Пазней, чым больш пазнаваў малады вучоны Беларусь, чым глыбей пачынаў адчуваць, яе гісторыю, мастацтва, яе народ, тым больш лічыў яе краем свайго духоўнага нараджэння. Сюды прыйшоў ён, пакліканы голасам свайго лрызвання. Беларуская зямля напаіла яго сэрца ўзвышаючай любоўю. Праца на яе карысць, дзеля яе культурнага росквіту, дзеля яе дабра зрабіла яго моцным, дала магчымасць шырока разгарнуцца яго таленту…

Упершыню ж апынуўшыся ў незнаёмым, чужым горадзе, Шчакаціхін, напэўна, быў далёкі ад тых адчуванняў, якія прыйшлі потым, пазней. Проста са станцыі ён прыйшоў ва ўніверсітэцкую бібліятэку, што месцілася ў Юбілейным доме (цяпер Дом мастацтваў). У кабінеце дырэктара сустрэў буйнатварага, з уважліва-праніклівым позіркам чалавека. Не заўважылі,

як праляцела ў размове гадзіна-другая. З рускай пераходзілі на французскую і нямецкую мовы. Гаварылі пра Генрыха Гейнэ, творчасць якога дырэктар бібліятэкі І. Б. Сіманоўскі ў 1912—1914 гадах вывучаў на спецкурсах у Швейцарыі, закранулі культурнае жыццё Менска, які зрабіўся нядаўна сталіцай маладой Беларускай рэспублікі. У канцы размовы Шчакаціхін пазнаёміў Сіманоўскага са сваёй першай кніжкай. Гэта была даніна захапленню графікай швейцарскага мастака Фелікса Валатона, творы якога яшчэ да рэвалюцыі з поспехам выстаўляліся ў Расіі. Тапчан у дырэктарскім кабінеце бібліятэкі на першы раз і стаў часовай Менскай кватэрай будучага выдатнага беларускага мастацтвазнаўцы. А далей прадстаяў візіт да рэктара Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Ад гэтай сустрэчы шмат залежала.

У. І. Пічэта гаварыў, нібы крыху спяшаючыся, механічна папраўляў пенснэ, часам дакранаўся няўлоўным жэстам рукі выпуклага лба. Пакуль прабег рэкамендацыйны ліст прафесара Сідарава, некалькі разоў адрываўся ад чы-тання, нібы нешта ўспамінаючы.

— Ведаеце, у нас ёсць выкладчык мастацтва М. Сыркін. Прынёс з сабою ва універсітэт сваю велізарную бібліятэку. У ёй ёсць усё: ад літаратуры пра Фідзія на розных мовах да адкрыццяў творцаў «новых скрыжаляў» Казіміра Малевіча і іншых. Сапраўдны скарб для нас, прымаючы пад увагу нашу беднасць, неабсталяванасць… Сыркін — чалавек пажылага веку. Ведае нямала, але каб захапіць моладзь, трэба энергія і энергія, — і тут чалавек з рэктарскім званнем кінуў быстравокі дапытлівы позірк у бок свайго субяседніка.

Пасля аднаго-двух успамінаў з жыцця Маскоўскага універсітэта, крыху паслухаўшы наведвальніка, загаварыў зноў, ужо неяк больш непасрэдна, тонам даверлівага захаплення:

— Тут жа ўсё толькі пачынаецца, калі хочаце, пачынаецца нанава, спачатку. Цэлы народ, яго прадукцыйныя сілы, яго гІсторыя, мова, паэзія, музыка мала і бадай зусім не даследаваны. Цэлы край не адкрыты. Колькі трэба шчырых працавітых рук. Моц працы. Безліч адкрыццяў чакае…

З такімі словамі і запрашэннем эаўтра ж зайсці на кафедру гісторыі мастацтваў і выйшаў ШчакацІхін, ішчэ не ведаючы, што ўжо пачалася зусім новая, асаблівая старонка яго жыцця.

Пазней з вуснаў прафесара беларускай літаратуры, абыходлівага, мяккага Міхаіла Піятуховіча, з расказаў прафесара старажытнай гісторыі М. М. Нікольскага, са слоў Сыркіна неафіт даведаўся, як пачынаўся тут Беларускі універсітэт, які хутка стаў і яму родным домам. А пачынаўся ён з даўно ўзніклай ідэі. Спачатку, як мара, жыў у галовах вучоных, творчан інталігенцыі, выхадцаў з беларускага краю. Захады, нават спроба адкрыць яго рабіўся некалькі разоў на працягу мінулага стагоддзя. Апошні раз пытанне аб адкрыцці ў Беларусі універсітэта грамадскасць узнімала напярэдадні першай сусветнай вайны. Адны хадайнічалі перад уладай, другія падумвалі аб кадрах і бібліятэцы будучай вышэйшай навучальнай установы. Напрыклад, прафесар М. Доўнар-Запольскі неяк ужо дамовіўся з уладальнікам унікальнага кніжнага збору ў Шчорсах Храбтовічам-Буценевым аб перадачы яго фамільнай бібліятэкі будучаму беларускаму універсітэту.

Але ва ўмовах царскай Расіі ідэя заснавання універсітэта ў Беларусі заставалася марным спадзяваннем, ілюзіяй. Царызм не быў зацікаўлены ў пашырэнні асветы і навукі на нацыянальных ускраінах сваёй імперыі.

За ажыццяўленне такой надзённай, неадкладнай справы, як заснаванне універсітэта ў Менску, адразу пасля рэвалюцыі ўзяліся беларускія грамадскія і культурныя дзеячы. Карыстаючыся заваёвамі новай, савецкай улады, яшчэ летам 1918 года члены Белнацкома А. Чарвякоў, І. Лагун,.З. Жылуновіч арганізавалі ў Маскве так званы Беларускі народны універсітэт. Слухачамі яго былі беларусы-бежанцы, якіх дзесяткамі тысяч сабрала ў Петраградзе, Маскве іншых гарадах імперыялістычная вайна. Да выкладання удалося прыцягнуць выдатныя навуковыя сілы сталіцы. Курс па беларусазнаўству тут чыталі вядомы антраполаг, этнограф і археолаг акадэмік Д. М. Анучын, этнограф, фалькларыст і гісторык літаратуры прафесар М.А.Янчук, прафесар У.І.Пічэта. Сярод маладзейшых выкладчыкаў былі выхадцы з Беларусі — эканаміст і гісторык Я. Канчар, гісторык Ф.Турук і шмат іншых.

Адкрыццю ўніверсітэта ў Менску ў 1919 годзе перашкодзіла белапольская акупацыя. Передавыя прадстаўнікі грамадскасці, аднак, не пераставалі і далей рухаць справу ўніверсітэта ў рэспубліцы, падшукваць выкладчыцкія кадры. Шмат у гэтам дапамог УюПічэта, ужо вядомы айчыннай навуцы сваімі працамі па гісторыі Беларусі і Літвы. Выбар, які паў на яго як на рэктара першага Беларускага універсітэта, быў вельмі шчаслівы. Малады прафесар сам умеў працаваць як арганізатар і мог узняць на працу людзей. Ён нястомна абходзіў розныя ўстановы, сам насіў сталы і іншае абсталяванне, распараджаўся пры арганізацыі лабараторый. Пастаянная дзелавая падтрымка з боку ўсебеларускага старасты, старшыні ЦВК А. Р. Чарвя-кова не давала маладому рэктару ўпадаць у роспач, калі не хапала часам самага звычайнага.

Беларускі дзяржаўны універсітэт у кастрычніку 1921 го-да прыязна расчыніў дзверы для дзяцей рабочых і сялян, для жыхароў усяго краю. На яго кафедрах моладзь сустрэ-лі высокаадукаваныя працаўнікі навукі. Маладым педаго-гам было ў каго пераймаць практыку, студэнтам — у каго навучыцца разумець складаныя законы чалавечага грамад-ства і прыроды, пазнаваць духоўны вопыт чалавецтва і свайго народа.

У такім калектыве працавалася лёгка. Прыемна было раніцай і Шчакаціхіну спяшацца ў прафесарскую, дзе не то спрачаліся, не то раіліся паміж сабою тэарэтык літаратуры прафесар Барычэўскі і імправізатар, стваральнік лекцый-эцюдаў па гісторыі беларускай літаратуры прафесар М. Піятуховіч, дзяліліся вынікам новых росшукаў па сярэднявечны Беларусі дацэнты З. Даўгяла і В. Друшчыц, дзе злёгку адбіваўся ад наскокаў гісторыка Ф. Турука і філосафа І. Герцыка прафесар А. Ясінскі. Зрэдку ўдавалася пагаварыдь аб культурна-гістарычных памятках, асаблівасцях краю — вобразе Беларусі з А. Смолічам. Прыемна было абмяняцца словам-другім з падкрэслена далікатным выкладчыкам геаграфіі і краязнаўства М. Азбукіным, пакланіцца прафесару І. Замоціну, пачуць сяброўскую заўвагу-жарт занятых прыяцельскай размовай прафесараў М. Нікольскага, Д. Д. Жарынава,

спытаць прызнанага знаўцу беларускай мовы Я. Лёсіка, ці добра, натуральна будзе гучаць па-беларуску той ці іншы выраз.

Асістэнт Шчакаціхін не адчуваў сябе прыгнечаным ні грузам ведаў сваіх калег па кафедры гісторыі мастацтва, ні педагагічным іх майстэрствам. Апошнія гэта хутка заўважылі і не сталі ўтойваць перад дэканам і рэктарам, што іх падначалены заслугоўвае лепшай долі, чым толькі дапамагаць весці семінары.

За нейкіх дзесяць месяцаў Шчакаціхін распрацаваў самастойны курс гісторыі беларускага мастацтва і з кастрычніка 1923 года з благаславення Пічэты пачаў чытаць студэнтам. А праз год абараніў дысертацыю на гэтую тэму пры адзінагалосным адабрэнні і нават захапленні вучонай аўдыторыі.

К 1925 году малады педагог і вучоны ўжо досыць трывала ўжыўся ў менскую глебу. Расшырылася кола яго знаёмстваў сярод інтэлігенцыі. Шырокая аўдыторыя таксама прыкмеціла і запомніла інтэлігентнага лектара, які ўмеў вельмі жыва і цікава расказаць пра творчасць Някрасава ці Маякоўскага. Шчакаціхіна ўсё больш непасрэдна і неадольна стала цікавіць, а потым захапляць беларусазнаўчая праца, якая паспяхова разгарнулася пасля рэвалюцыі і сканцэнтравалася на першым часе пераважна ў Інстытуце беларускай культуры. Шчакаціхін звярнуў пільны позірк на гэту ўстанову. Супрацоўнікі Інбелкульту, у сваю чаргу, зацікавіліся маладым даследчыкам з універсітэта, які ўзяўся падняць такі запушчаны дзірван, як гісторыя беларускага мастацтва. Праз Азбукіна завязалася знаёмства з М. Касяровічам і А. Шлюбскім, этнографамі, фалькларыстамі-краязнаўцамі, сапраўднымі энтузіястамі навукі.

Па дарозе да творчых здзяйсненняў, да поспеху, які чакаў Міколу Шчакаціхіна на ніве беларускай савецкай навукі, нечакана прыйшло і асабістае шчасце. Аднойчы, вяртаючыся з заняткаў у літаратурным гуртку, які ён вёў на 21-х ваенных кавалерыйскіх курсах, Шчакаціхін убачыў пад акном сваёй кватэры дзвюх дзяўчат. Яны захапіліся, разглядаючы праз акно яго зоадэндрарый, паддражніваючы праз шыбіну бухматага сібірскага ката… і толькі войкнулі, калі ўбачылі за спіной гаспадара кватэры. Разгаварыліся, пазнаёміліся. Шчакаціхін запрасіў сябровак у самым блізкім часе паслухаць лекцыю пра Някрасава, якую ён меўся чытаць у гарадскім садзе. Тоненькая, спакойная, з завіткамі-кольцамі валасоў на смуглай шыі, Анка неўзабаве адчула на сабе стрымана-далікатную ўвагу гэтага цікавага маладога чалавека. Было радасна і трывожна слухаць яго, калі ён спакойным голасам чытаў на памяць вершы, нібы ўспамінаў аб нечым прыгожа далёкім. Было светла хадзіць з ім па старым гарадскім садзе, шуршаць пурпуровымі кляновымі лістамі, уяўляць дзеі даўно мінулых часоў, дзіўных людзей, якія аддавалі сваё жыццё вечна жывым жывапісным палотнам, белым храмам, несмяротным кнігам. Штосьці новае ўваходзіла ў дзявочае сэрца, калі, стоячы на плошчы Свабоды, ён лёгка павадзіў рукой у бок ружаватага іахаду і трохі мройліва гаварыў ёй:

— Адсюль, дзе некалі былі берагі Нямігі, чаўны далёкіх прашчураў менчукоў імкнулі ў няблізкі свет. Адсюль везлі яны ў чужыя землі здабыткі

сваёй працы: жыта, лён, пяньку, бурштынавы мёд. Тут грудзьмі сустракалі прышэльцаў. Прыслухайся, і здаецца, гучыць дзесь далёка-далёка, нааддалі стагоддзяў іх журботна-суровая песня…— І яшчэ казаў пра князя Менеска і яго замак…

1925 год зноў быў у пэўнай меры паваротным у жыцці Шчакаціхіна. 3 лютага гэтага года, з часу назначэння Міколы Шчакаціхіна сакратаром секцыі беларускага мастацтва Інбелкульту, пачынаецца надзіва плённы этап у працы маладога вучонага. Яго талент гісторыка, тэарэтыка і кры-тыка беларускага мастацтва раскрыўся ўвачавідкі. За нейкіх пяць год натхнёнай працы Мікола Шчакаціхін заваяваў глыбокае прызнанне сучаснікаў, заняў сталае месца ў беларускай савецкай навуцы аб мастацтве. Плён яго працы тым болын каштоўны, тым болын заслугоўвае ўдзячнасці нашчадкаў, што ўзрос ён не на ўзрыхленай глебе, што Шча-каціхін тарыўшырокі шлях для беларускага выяўленчага мастацтва і навукі аб ім.

Праца ў Інбелкульце, яе ўмовы, напрамак, урэшце, навуковае асяроддзе спрыялі максімальнаму развіццю творчых задаткаў Міколы Шчакаціхіна, раскрыццю яго даследчыцкага і крытычнага таленту. Да гэтага, асабліва да прыходу ва універсітэт, навуковыя пошукі яго былі ўрыўкавымі, выбар аб’ектаў даследавання часам выпадковы. Не было знойдзена тое адзінае, сваё, што вызначае плённасць творчай асобы, становіцца сутнасцю яго індывідуальнага аблічча. Даследчыцкія здольнасці Шчакаціхіна праявіліся вельмі рана. Будучы студэнтам 4-га курса Маскоўскага універсітэта, ён ужо напісаў працу, якая не просіць скідкі на маладосць і неспрактыкаванасць аўтара. У 1918 годзе выдавецтва «Альціёна» выпусціла ў свет з прадмовай прафесара А. А. Сідарава першую невялікую манаграфію Шчакаціхіна «Фелікс Валатон». Падтрымка Сідарава шмат у чым тлумачыць зыходны момант першапачатковых навуковых інтарэсаў маладога даследчыка, будучага беларускага мастацтвазнаўцы.

У свой час, у бытнасць Шчакаціхіна студэнтам, новы выкладчык Сідараў прынёс у аўдыторыю непадкупную і пра-нікнёную адданасць самаму масаваму і надзённаму віду мастацтва — графіцы. Маладому прафесару (пазней выдатнаму савецкаму вучонаму) тым лягчэй было перадаць слухачам сваю ўлюбёнасць у графічнае мастацтва, веру ў яго будучыню, росквіт, што мастацтва гэта ў самых розных яго формах усё больш смела ўрывалася ў жыццё, у грамадскі быт. Яно паўнагучна прамаўляла на ўздымленых рэвалюцыяй вуліцах мовай плакатаў, у перыёдыцы вобразам карыкатур… Нераскрытыя да канца магчымасці графікі абяцалі сказаць яшчэ вельмі многа. Захапленне гравюрай, перанятае Шчакаціхіным ад свайго настаўніка непрыкметна перарасло ў жаданне падзяліцца сваім прачытаннем мастацкага твора, сваім разуменнем бягучага жыцця, перададзенага скупымі і такімі выразнымі сродкамі як лятучая лінія…

Трэба прызнаць, што першы выбар Шчакаціхіна-даследчыка, зроблены, магчыма, не без падказу Сідарава, быў даволі ўдалы. Швейцарац па паходжанні і француз па мастацкім выхаванні Фелікс Валатон увасабляў сабою тып мастака-наватара з моцнай рэалістычнай традыцыяй у аснове

пошукаў. Пра яго гравюры на дрэве Сідараў сказаў, што іх можна параўнаць толькі з гравюрамі вялікага нямецкага майстра эпохі Рэнесансу Дзюрэра і што «ў галіне ксілаграфіі ён (Валатон) увасабляе сабою адну з класічных яе вяршынь увогуле». Як у антычным свеце скульптура, у сярэднія вякі архітэктура, у эпоху Адраджэння жывапіс, так у наш час графіка з'яўляецца вядучым відам мастацтва, пачынае развіваць тэзіс малады даследчык. Іменна ў графіцы, як ні ў адным відзе выяўленчага мастацтва, «складаная імклівасць нашых дзён можа знайсці найболып поўнае сваё выражэнне», — сцвярджае Шчакаціхін, і далей: «Калі звярнуцца да мастацкага жыцця рада краін за апошнія дзесяцігоддзі, то тэндэнцыя ўсё болып самастойнага развіцця гэтага віду мастацкага адлюстравання рэчаіснасці, усё больш смелае яго пранікненне ў розныя сферы жыцця відавочная».

У нарысе Шчакаціхін перш-наперш імкнецца ў агульных рысах акрэсліць творчае аблічча мастака, выдзеліць яго з усёй французскай школы мастацтва, характэрнай няспыннымі пошукамі новых Форм мастацкага выяўлення свету. Даследчык слушна зазначае, што Валатон стаіць крыху ўбаку ад асноўнага напрамку развіцця французскага мастацтва з яго «незакончанасцю, імпрэсіяніісцкай бегласцю яго раздробленых форм, урыўкавай недасказанасцю». У яго, падкрэслівае Шчакаціхін, іншыя формы выяўлення свайго ўспрымання. З імклівага бегу жыцця Валатон выхоплівае «рысы непарушна манументальныя». Яго мастацтва не любіць нічога лішняга: ніводнай лішняй дэталі, штрыха. Самае стракатае і заблытанае са з'яў сучаснасці Валатон можа перадаць сімвалам, «замкнуць у самую простую форму абсалютна лаканічнага белага і чорнага». Геніяльны мастак, паводле слоў Шчакаціхіна, знайшоў у параўнанні са сваімі сучаснікамі «больш сціслую, сканцэнтраваную і дакладную сістэму выяўлення, дзе ўся зманлівая бачнасць свету магла б быць зведзена да гармоніі самых характэрных элементаў, — у вострых кантрастах, у рэзкіх супрацьпалажэннях, якія адлюстроўваюць самую сутнасць рэчаў». Творчасць Валатона для Шчакаціхіна ў пэўным сэнсе — узор мастацтва. Яна набліжаецца да таго ідэалу, які вялікі Бетховен выразіў словамі: «Гранічна скупымі сродкамі — вялікую мастацкую выразнасць».

Паказаўшы асноўнае ў творчасці Валатона, акрэсліўшы яе жывую сутнасць, мастацтвазнаўца ўжо на канкрэтным матэрыяле творчасці мастака робіць аналіз яе эвалюцыі, разглядае паасобныя аркушы і графічныя серыі. Як мастак са сваім бачаннем свету, са сваімі тэхнічнымі прыёмамі пісьма Валатон выступае ўжо ў ілюстрацыях да літаратурна-крытычных эцюдаў Рэмі дэ Гурмона «Кніга масак». Графік даў псіхалагічна вострыя характэрныя партрэты французскіх паэтаў і пісьменнікаў «навейшай школы». Разам з тым серыя партрэтаў, створаная ім на працягу ладнага адрэзку часу, дазволіла Шчакаціхіну прасачыць шлях узыходжання Валатона як мастака, асноўны напрамак яго творчых пошукаў. Шчакаціхін наглядна паказвае, як славуты мастак няўхільна і настойліва імкнуўся зрабіць лінію больш вымоўнай, выразнай, дасягнуць болыпай графічнасці малюнка, як лавіў ён «асноўныя прызнакі прадметаў на абвостраных граніцах святла і ценю». Гэта добра відаць у партрэтах самага музыкальнага сярод

паэтаў Поля Верлена, «паўночнага волата» Ібсена, у партрэце Дастаеўскага і іншых. У лепшых графічных партрэтах Валатон дасягае жаданага. «Адным штрыхом схопліваецца падабенства, адной плямай даецца складаная ігра выражэння, настрою, у выпадковым контуры якога-небудзь выгібу праносіцца дыханне жыцця», — рэзюміруе Шчакаціхін. Чароўнасць простых да прымітыўнага выяўленчых сродкаў засведчыў Валатон, паводле слоў даследчыка, у графічных аркушах «Дэманстрацыя», «Траншэя», у серыі «Музыка».

Фелікс Валатон сваімі мастацкімі пошукамі расшырыў магчымасці ксілаграфіі, сцвердзіў асноўным зместам яе сучаснасць. Для яго мастацкай манеры Шчакаціхін знаходзіць характэрнай поўную закончанасць рысаў.

Ужо першы крытычна-мастацкі эцюд Шчакаціхіна прадставіў маладога прыхільніка графічнага мастацтва як удумлівага і пранікнёнага інтэрпрэтатара яго. Пачынаючы, даследчык праявіў сябе як добры знаўца мастацтвазнаўчай літаратуры, айчыннай і зарубежнай. Фрагменты з нямецкіх і французскіх аўтараў, што пісалі пра Валатона, ва ўласным перакладзе змясціў ён у дадатку да сваёй манаграфіі.

Даволі пераканаўча выявілася ўменне маладога Шчакаціхіна пранікнуць у сутнасць мастацкай з'явы, трапна абагульніць пэўныя яе заканамернасці, характэрныя рысы. Добрае ўражанне пакідае і эмацыянальная манера пісьма маладога аўтара, якая асабліва выразна прыкметна ў параўнанні яе з сухаватым стылем фрагментаў Оскара Віса і Макса Осбарна. Калі чаго і бракавала маладому крытыку, дык гэта ўмення бачыць больш арганічна і танчэй сувязь мастака з асяроддзем і эпохай, сацыяльна-грамадскую падаплёку мастацкай з'явы.

Пасля першай манаграфіі і выхаду Шчакаціхіна на свой хлеб род заняткаў не спрыяў выніковай навукова-даследчай працы яго. Толькі з прыходам маладога вучонага ў Беларускі дзяржаўны універсітэт ён атрымаў сталы грунт для заняткаў, раз і назаўсёды выбраў асноўны прадмет даследавання. І ўжо праз год малады даследчык, а з ім беларускае мастацтвазнаўства сабралі першы добры плён. Часопіс «Асвета» ў сакавіцкай кніжцы за 1924 год даў падрабязную інфармацыю аб лекцыі, прачытанай Шчакаціхіным на курсах беларусазнаўства. Інфармацыя, падпісаная Т. Апацёнкам, была па сутнасці разгорнутым выкладам зместу «Кароткага нарыса гісторыі беларускага мастацтва» — лекцыі Шчакаціхіна, прынятай слухачамі са шчырым захапленнем і ўдзячнасцю. З яе вынікала, што даследчык яскрава ўяўляў сабе асноўныя этапы і тэндэнцыі мастацкага развіцця на Беларусі ў гістарычным аспекце.

Ён коратка спыніўся на курганных старажытнасцях на тэрыторыі краю і даў ім агульнае мастацтвазнаўчае асвятленне, ахарактарызаваў культавае дойшдства перыяду ўзнікнення першых дзяржаўных фарміраванняў на тэрыторыі Беларусі, спыніўся на замкавым будаўніцтве раннефеадальнай пары і сярэднявечча, на старабеларускай разьбе і жывапісу, на прыкладным мастацтве.

У дадатак (гэта відаць з інфармацыі) лектар здзівіў слухачоў якія ведалі, што Шчакаціхін год таму назад упершыню пачуў жывое белару-

скае слова, сваёй дасканалай мовай. Так пераканаўча сказаліся яго моўнапазнавальныя задаткі. Забягаючы крыху наперад, можна адзначыць, што ў 1925 годзе Шчакаціхін з М. Красінскім былі прызначаны стылістамі навуковых выданняў Інбелкульту, якія, як вядома, усе выходзілі на беларускай мове.

Цяпер жа на першай лекцыі па гісторыі беларускага мастацтва, прачытанай у шырокай аўдыторыі, удзячныя слухачы не толькі запэўнілі піянера беларускага мастацтвазнаўства, што адгукнуцца на яго заклік дапамагаць выяўляць творы і помнікі мастацтва, зберагаць іх, але і вынеслі адзінагалосную пастанову хадайнічаць аб неадкладным выданні складзенага Шчакаціхіным курса гісторыі беларускага мастацтва. Значыць, за надзіва кароткі тэрмін ужо было падрыхтавана такое складанае даследаванне. Трэба было мець добрую тэарэтычную базу і па-сапраўднаму захапіцца тэмай, каб такое здзейсніць.

Іменна курс гісторыі беларускага мастацтва і абараняў Шчакаціхін у 1924 годзе як кандыдацкую дысертацыю. Наўрад бы прынесла дысертанту сапраўдны трыумф на пасяджэнні вучонага савета адно, хоць і даволі цікавае, даследаванне яго «Ілюстрацыі Данііеля Хадавецкага да «Буры» Шэкспіра», апублікаванае ў «Працах БДУ» № 4—5 за 1923 год[1].

Артыкул «Ілюстрацыі Данііеля Хадавецкага…» быў прысвечаны нямецкаму мастаку-афарміцелю часоў Лесінга. Напісаная з добрым веданнем крыніц, матэрыялу, у дадатак з душой, як гэта заўсёды выходзіла ў Шчакаціхіна, праца гэта рабіла вельмі добрае ўражанне, аднак яна знаходзілася яшчэ ў баку ад галоўнага напрамку мэтаімклівага шляху маладога беларускага мастацтвазнаўцы.

З часу прыходу на працу ў Інстытут беларускай культуры (1925) Шчакаціхін усё болып актыўна ўключаецца ў культурна-грамадскае жыццё рэепублікі, творчыя планы яго набіраюць размах, паслядоўнасць у развіцці і рэалізацыі задум.

З зімы 1925 года ў Менску пачаў выходзіць часопіс «Трыбуна мастацтва». Ці з-за таго, што рэдакцыйная калегія не здолела прыцягнуць да супрацоўніцтва ў ім творчых людзей, арганізаваць іх, ці па іншых якіх прычынах, дзесь на 14-м нумары часопіс спыніў сваё існаванне. За кароткі час на яго старонках з'явілася некалькі цікавых матэрыялаў з тэатральнага жыцця рэспублікі, эцюды да творчых партрэтаў Е. Міровіча, А. Марыкса, пачата была нават дыскусія аб будучай беларускай оперы, — якой яна павінна быць. У асноўным жа часопіс налягаў на рэкламу пярэстага рэпертуару тых часоў, даваў разнастайную інфармацыю змяшчаў аляпаватыя шаржы мастака М. Сляпяна на заезджых у Менск артыстычных славутасцей. Была няпэўная спроба прапагандаваць беларускіх аўтараў, у асноўным літаратараў, паставіць праблему станаўлення нацыянальнага мастацтва, а ўвогуле змест часопіса пакідаў жадаць лепшага.

1 Другая частка гэтай працы Шчакаціхіна была надрукавана ўжо па-беларуску ў «Працах БДУ» №12 за 1926 г.

У першым жа нумары ўслед за музыказнаўцам Юліянам Дрэйзіным з пастаноўкай прынцыповага пытання жыцця і будучыні сучаснага беларускага выяўленчага мастацтва выступіў Мікола Шчакаціхін. Чым быў выкліканы артыкул «Наша сучаснае мастацтва», які ў наступным нумары часо-піса меў ужо ў сваім загалоўку дапаўненне «і нацыянальны стыль»? Пытанне гэта патрабуе таго, каб асобна спыніцца на некаторых аспектах культурна-мастацкага жыцця Савецкай Беларусі першай палавіны 20-х гадоў.

У Беларусі, як і іншых нацыянальных ускраінах былой царскай імперыі, дзе нацыянальна-вызваленчы рух меў сацыяльную аснову і ўзмацняўся сацыялістычнымі момантамі і дзе рэвалюцыя, такім чынам, прарабіла двайную работу, першыя ж гады новага жыцця прынеслі буйны рост творчых сіл народа, іх шырокае выяўленне. Гэтаму спрыяла карэнная перабудова асноў жыцця: сацыяльна-эканамічных, грамадска-палітычных і культурных. Працоўны народ у асобе сваіх лепшых прадстаўнікоў, узнятых рэвалюцыяй да палітычнай творчасці, азораных яе ачышчальным агнём, вёў лад у краіне, здзяйсняў справу свайго жыцця і барацьбы. У рэспубліцы складваўся новы рабочы клас, вызвалены ад панскага і дзяржаўна-бюракратычнага прыгнёту і апекі, іншым рабіўся беларускі селянін. Інтэнсіўна ішоў працэс складвання беларускай савецкай інтэлігенцыі, якая гэтак жа арганічна, як выйшла з гушчаў народных, успрыняла сваю гістарычную місію развіваць духоўна-творчыя пачаткі народа, памнажаць матэрыяльны дабрабыт працоўных.

Дзіўна хораша была адгорнута першая старонка беларускага савецкага тэатра. Прыгожыя постаці стаялі ля яго калыскі. Фларыян Ждановіч і Уладзіслаў Галубок, Уладзімір Тэраўскі і Еўсцігней Міровіч… Творчы і чалавечы лёс гэтых людзей быў паказальны для эпохі. Рознабакова адароныя ад прыроды, яны амаль усе спачатку пракладвалі шлях да мастацтва далёка ад улоння роднай культуры, былі зоркамі, што свяцілі адбітым святлом. І варта было ім толькі дакрануцца бацькоўскай зямлі, прыпасці да крыніцы роднага слова, як таленты іх раскрыліся ва ўсёй абаяльнасці і харастве.

Невыпадкова выступіў з польскага правінцыяльнага тэатра, шукаў і знайшоў сябе ў драматургіі Янкі Купалы Фларыян Ждановіч. З Перадуралля, з Башкірыі, прыйшоў на голас сэрца, згукі песень радзімы Уладзімір Тэраўскі. Прыехаўшы з Паўночнай Пальміры, прагна ўслухоўваўся ўражлівай душой у шматгамнасць беларускага вяселля, спасцігаў язычніцкае хараство купальскай ночы, адшукваў старых лірнікаў — гэтых сімвалічных носьбітаў народнага мастацтва, каб іх граннем пачаць спектакль «Машэка», Еўсцігней Міровіч. І з усё большым захапленнем штудзіраваў ён гісторыю народа, пазнаваў яго быт, псіхалогію — праз экспедыцыі, падарожжы, сустрэчы з людзьмі.

Узвышаная ідэя, ідэя стварэння беларускага тэатра, музыкі вяла гэтых людзей, адухаўляла іх у творчых пошуках. Яны і дзесяткі іншых, хто гуртаваўся вакол іх, узнімалі беларускае мастацтва, і іх галасам, сілай іх таленту народ беларускі сцвярджаў сябе ў мастацтве — у «Кастусю Каліноўскім», у «Машэку», «На Купалле»… Кожнага вечару стары будынак тэатра, што прыткнуўся ў жывой каланадзе старадрэвін — кляноў і таполяў, напаўняўся

стрыманым гулам. Сюды ішлі і рабочы люд з Ляхаўкі, Камароўкі, Серабранкі, і заезджыя вясковыя настаўнікі, і сяляне…

У хуткім часе БДТ-1 стаў храмам мастацтва, святыняй роднага слова. Разыходзячыся, людзі неслі з сабой у зрокавай памяці разам з вобразамі народных заступнікаў, барацьбітоў, створаных акцёрамі, і спеўны голас Фларыяна Ждановіча, і погляд вялікіх, карых, крыху самотных вачэй Уладзіміра Крыловіча. А ў той час артысты вандроўнай трупы Галубка скалясілі ўсю вясковую і местачковую Беларусь, несучы, як нейкія місіянеры, у самыя далёкія, глухія куткі ідэі новага жыцця, святло роднага слова, культуры.

Беларуская песня… Да рэвалюцыі яна нясмела толькі ступіла на эстраду, а дакладней, на падмосткі, толькі паказа-лася на шырокі свет, трохі прыбраная для новай сваёй выправы кампазітарам Людамірам Рагоўскім. Але ўжо і тады голас яе, хоць і быў нягучны, залунаў прароча. «А хто там ідзе, а хто там ідзе У агромністай такой грамадзе? — запытала яна і сама адказала: «Беларусы!» Паміж дзвюма рэвалюцыямі песня беларускай зямлі ўжо смялей падала свой голас, узнятая першым беларускім народным хорам Тэраўскага.

Музычна-драматычнае прадстаўленне «На Купалле» творцамі якога былі М Чарот, У. Тэраўскі і Е. Міровіч, затым «Беларуская сімфаньета» М. Чуркіна засведчылі аб пачатку беларускай савецкай музыкі. Паступова падводзілася аснова пад сталае і перспектыўнае развіццё нацыянальнай музычнай культуры ў рэспубліцы. Яшчэ ў 1921 го дзе ў Маскве, заснаваная Народным камісарыятам асветы БССР, пачала працаваць Беларуская песенная камісія У яе склад увайшлі прыхільнікі і энтузіясты беларускай народнай музыкі: вядомыя рускія кампазітары А. Грачанінаў, М. Іпалітаў-Іванаў, У. Прохараў, прафесар М. Янчук, М. Аладаў і многія іншыя. Камісія занялася збіраннем і аранжыроўкай беларускага музычнага фальклору. Дзейсна працавала музычная падсекцыя Інбелкульту. Тэарэтыкі і практыкі музычнай культуры Антон Грыневіч і Юліян Дрэйзін у сваёй дзейнасці зыходзілі з пастулата, што беларуская народная музычная стыхія тоіць у сабе шмат хараства і сілы і будучая беларуская прафесіянальная музыка, чэрпаючы з гэтай жыватворнай крыніцы, прынясе ў скарбніцу сусветнай культуры шчодры і самабытны дар.

Аб гэтай надзеі, што валодала сэрцамі лепшых прадстаўнікоў творчай інтэлігенцыі, гавораць узрушаныя словы кампазітара, аўтара першых беларускіх рэвалюцыйных песень і даследчыка народнага меласу Міхаіла Анцава: «Недалёка той час, калі лепшыя ўзоры сапраўднай народнай песнятворчасці стараннямі нашых вучоных арганізацый, кампазітараў, тэарэтыкаў і знаўцаў беларускага фальклору, пры дапамозе ўрада БССР стануць агульным здабыткам — будуць надрукаваны.

Недалёка той час, калі зусім незаслужана абяздоленая беларуская песня ўзмацнее, прыбярэцца і выйдзе на людзі паказаць сябе, а не будзе хавацца на пазадворках, як гэта было да рэвалюцыі. Недалёка той час, калі гукі роднан песні будуць чутны не толькі ва ўсіх кутках Беларусі, але і далёка замежамі яе. Вольна, радасна і смела будзе гучаць наша родная белару-

ская песня, якая вырасла сярод, шырокіх палёў і лясоў Беларусі, тая песня, якую наш селянін прыгрэў і прытуліў пад сваёй саламянай страхой, хаваў і песціў яе, перадаючы з пакалення ў пакаленне»[1].

Што ж да форм выяўленчага мастацтва, то тут для яго хуткага ўздыму на першым часе было многа цяжкасцей, абумоўленых спадчынай сумнага мінулага. Калі новая беларуская літаратура магла моцна абаперціся на трывалы падмурак народнапаэтычнай практыкі, народнай творчасці знайшоўшы ў гэтай апошняй і сапраўдны дэмакратызм светаўспрымання, і выпрацаваныя паэтычныя прыёмы, і, нарэшце, асноўны літаратурны матэрыял — жывое слова, калі беларуская прафесіянальная музыка з першых крокаў свайго самастойнага развіцця нямала ўзяла з невычэрпных крыніц народнага меласу, то ў выяўленчым мастацтве, пры яго станаўленні, жыццёва важнае пытанне аб вытоках, аб грунце ва ўмовах Беларусі выглядала намнога больш складаным.

Традыцыі тут былі і не былі. Былі, вядома, у тым сэнсе, што існавала шматвяковая мастацкая практыка народа: разьба па дрэве, багатае ўзорнае ткацтва і гафтаванне. Вякамі дойліды ўзводзілі храмы, бажніцы, моц народных рук стварала замкі… Былі таленавіта аздобленыя старажытныя кнігі, жывапіс… Увесь разам гэты набытак мог скласці неацэнную культурную спадчыну народа, яго гордасць і славу. Але не сабранае ў музеі, прытуленае ў сутонні куль-тавых пабудоў, пад сялянскай страхой, а часцей пад вечным небам, яно (мастацтва гэта) магло толькі ўразіць выпадкова набрыўшага знаўцу. Звычайна ж панікала, паволі нішчылася, занядбанае і неацэненае. Віхуры шматлікіх войнаў і проста разбуральная сіла часу бязлітасна паглыналі тое, што было вечным, бессмяротным.

Не было мастацкай школы, ідэйна звязанай з народам, з яго імкненнямі, якая падсумавала б мастацкае развіццё мінулага, адабрала з яго важнейшае і тым самым садзейнічала стварэнню новага. Не было ды і не магло быць у варунках двух стагоддзяў заняпаду культурна-нацыянальнай ідэі, неабходнага для руху наперад сінтэзу традыцый.

Беларускія мастакі XIX стагоддзя, а дакладней, мастакі — выхадцы з Беларусі В. Ванькові́ч, С. Заранка, Н. Сілівановіч, І. Гараўскі, І. Хруцкі, К. Альхімовіч, К. Русецкі, Б. Залескі і інш., хоць і нямала працавалі з беларускім матэрыялам і на палотнах сваіх адлюстроўвалі беларускую прыроду і самога беларуса, не ўзняліся ўсё ж да разумення таго, што твораць асобнае мастацтва, мастацкі выяўляюць цэлы народ. У іх яшчэ не ўзнікла адчуванне неабходнасці адкрыць свету той народ, з якога выйшлі, не з'явілася пачуцця роднасці з гэтым народам і абавязку перад ім. Яны не стварылі вобраза бацькаўшчыны як такой…

Інакш кажучы, у Беларусі да часу рэвалюцыі не было мастацкай традыцыі, хоць трошкі абагульненай практычна, не было нацыянальнай, прафесіянальна аформленай мастацкай школы. Яе трэба было стварыць. А каб мастакі не блукалі ў стыхійных пошуках, трэба было клапатліва выявіць

[1] Віцебшчына. Віцебск, 1928. Т. 2. С. 192.

і даць у глыбокім навуковым асвятленні, наглядна давесці практыкам, праз што вядзе шлях да сапраўдных вяршынь нацыянальнага мастацтва.

Акрамя таго, адчувалася вострая патрэба ў падрыхтоўцы спрыяльнай для мастацкай творчасці грамадска-культурнай атмасферы ў вузкім сэнсе гэтага слова, ва ўзбуджэнні ў шырокіх грамадскіх колах зацікаўленасці ў мастацкім развіцці… У дадатак, праца ў мастацтве патрабавала працяглай спецыяльнай падрыхтоўкі, умоў для якой не давала дарэвалюцыйная рэчаіснасць Беларусі.

Шчакаціхін як ніхто іншы ў Беларусі сярэдзіны 20-х га-доў востра адчуваў гэтыя задачы моманту і як ніхто мог тут прыспорыць працу і тэарэтычна і практычна.

**На чале нацыянальнай школы беларускага савецкага мастацтва**

Артыкулам у часопісе «Трыбуна мастацтва» Шчакаціхін і пачаў настойлівую барацьбу за стварэнне ў Беларусі сацыяльна напоўненага, нацыянальна-самабытнага, паслядоўна-рэалістычнага выяўленчага мастацтва — такога мастацтва, аб якім марылі лепшыя прадстаўнікі беларускай культуры, якога заслужвала гэтая зямля, яе народ. У артыкуле «Наша сучасная мастацтва і беларускі стыль» вучоны завастрыў увагу грамадскасці на тых тэарэтычных і практычных аспектах праблемы станаўлення мастацкага жыцця ў рэспубліцы, ад якіх залежаў зрух у развіцці яе выяўленчага мастацтва.

Шчакаціхін канстатаваў факт, што у тым імклівым руху наперад, які заўважаецца ў беларускім тэатральным жыцці, музыцы не кажучы ўжо пра літаратуру, вобразныя, або прасторавыя мастацтвы, як тады часцей іх называлі, займаюць «амаль што апошняе месца». Карэнныя прычыны застою мастацтва ён бачыў у пашырэнні няправільных уяўленняў аб гістарычных традыцыях беларускага мастацтва і ў сувязі з гэтым аб няправільнай аднабаковай арыентацыі практыкаў мастацтва. «Усе нацыянальныя адзнакі беларускай мастацкай творчасці, — пісаў Шчакаціхін, — абмяжоўваюцца адно толькі народным арнаментам і вопраткай». Паводле яго слоў, нават прыхільнікі беларускай культуры нярэдка думаюць, што, «апрача арнаменту ў галіне вобразных мастацтваў, у нас не было створана нічога самастойнага і арыгінальнага». «Нацыянальнае ў мастацтве, — справядліва адзначаў вучоны, — тлумачыцца толькі як бытавое, і гэта ў лепшым выпадку ўтрымлівае мастакоў у межах сялянскіх матываў або дэкаратыўных узораў, узятых з вясковых вышывак і паяскоў».

Шчакаціхін, аддаючы належнае народнаму мастацтву прыкладнога характару, падкрэслівае думку, што нельга толькі ім адным вымяраць усё беларускае мастацтва і свя-дома аддаваць небыццю або проста занядбаць няўвагай разнастайныя мастацкія традыцыі мінулага. Ужо першыя ж даследаванні беларускай мастацкай мінуўшчыны паказалі, што ў нас існавалі цікавыя мастацкія традыцыі. Іншая рэч, што яны ў сілу розных гістарычных прычын развіваліся ня-роўна, часам ледзь не перапыняючыся, але ніколі не занепадалі настолькі, каб знікнуць зусім. Абысці гэ-

тыя трады-цыі, ствараючы новае мастацтва Савецкай Беларусі, не зразумець і не ўбачыць іх — азначала б заведама збедніць саміх сябе, ускладніць пошукі шляху да сапраўдных здабыткаў нацыянальнага мастацтва, вартых агульначалавечай культурнай скарбніцы.

Выступленне Шчакаціхіна супраць спрошчанага разумення нацыянальнамастацкіх традыцый — адзін з момантаў на шляху барацьбы за сапраўднае мастацтва, вольнае ад правінцыяльнай заскарузласці і адначасова нацыянальна непаўторнае, якім з'яўляецца кожнае развітае мастацтва: ці то рускае, ці то польскае, ці нарвежскае, ці грузінскае.

Роля, якую Мікола Шчакаціхін пачынаў адыгрываць у мастацкім жыцці рэспублікі як тэарэтык, няўхільна мусіла прывесці і прывяла яго да штодзённай канкрэтнай прак-тычнай дзейнасці на фронце культурнага будаўніцтва.

Вярнуўшыся з летняй вандроўкі па Полаччыне, куды малады мастацтвазнаўца пасляшаўся паехаць вывучаць старажытныя фрэскавыя роспісы (апошнія былі пад пагрозай знішчэння), ён жыва ўключыўся ў працу камітэта па падрыхтоўцы Першай Усебеларускай мастацкай выстаўкі. Ездзіў збіраць экспанаты, складаў каталог. Восенню 1925 года адбылося гэта першае «мастацкае свята Беларусі». Ранейшыя выстаўкі мелі рэгіянальны характар і аб'ядноўвалі самыя нязначныя групы мастакоў.

Першая Усебеларуская выстаўка выявіла ў рэспубліцы значныя мастацкія сілы (усяго ў ёй удзельнічала 85 мастакоў, скульптараў і графікаў) і адначасова паказала многа недахопаў у мастацкім жыцці. Шчакаціхіну ж яна дала ня мала повадаў для разважанняў, тэарэтычных высадаў і заключэнняў. Разам з тым яна падказала рад практычных наметак, жыццёва важных для арганізацыі мастацкага жыцця на трывалай і перспектыўнай аснове.

Сваімі першымі ўражаннямі ад выстаўкі, кароткімі заўвагамі Шчакаціхш падзяліўся ў артыкуле «Падрахунак мастацкіх сіл»[1]. Вучоны вітаў гэты, паводле яго слоў, «першы крок у шэрагу практычных мерапрыемстваў па арганізацыі пrасторавых мастацтваў БССР з мэтай выкарыстаць іх як моцную культурную зброю, як адзін са спосабаў уплыву на рабоча-сялянскія масы».

Шчакаціхін акрэслівае асноўныя мастацкія тэндэнцыі працы прадстаўленых на выстаўцы мастакоў, імкнецца выявіць узаемаадносіны розных мастацкіх ухілаў. Ён вылучае тры асноўныя напрамкі падыходу беларускіх мастакоў да адлюстравання рэчаіснасці: рэалістычны (акадэмічны натуралізм і новы рэалізм); дэкаратыўна-стылізацыйны з ухілам да прыкладнога і ўмоўна-стылізацыйны.

Крытык з радасцю канстатуе факт, што выстаўка наглядна прадэманстравала значныя мастацкія магчымасці. Сціслы і патрабавальны аналіз прац Я. Кругера, Ю. Пэна, У. Кудрэвіча, В. Волкава, М. Філіповіча, А. Тычыны, А. Бразера, С. Юдовіна, М. Эндэ, Лебедзевай, К. Русецкага, Наўроцкага і інш., зроблены Шчакаціхіным, пацвярджаў асноўны вывад мастацтвазнаўцы.

---

1 Сав.Беларусь, 1925, 9 снеж.

У агульным плане задачы мастацкага жыцця рэспублікі Шчакаціхін акрэсліў як патрэбу «ў набліжэнні мастацтва да мас, у вывадзе яго на шлях грамадскай працы». Рэальную перадумову поспеху М. Шчакаціхін бачыў у стварэнні належных умоў. Трэба зацікавіць мастакоў агульнымі культурна-асветнымі мэтамі, даць ім магчымасць бліжэй пазнаёміцца «з бытам і стылем таго народа, сярод якога ім даводзіцца працаваць», — гаварыў крытык. «Тады, быць можа, на наступнай выстаўцы мы ўбачым мастацтва больш блізкае да нашай сучаснасці, больш звязанае з жыццем і больш нацыянальнае ў сваіх формах, арганічна знойдзеных згодна з патрабаваннямі гэтага жыцця».

Другі раз Шчакаціхін звяртаецца да вопыту Першай Усебеларускай мастацкай выстаўкі ў артыкуле «Матывы краязнаўства ў нашым сучасным мастацтве»[1]. Шануючы розныя мастацкія кірункі, ён, адпаведна з задачамі грамадскага будаўніцтва ў краіне, кліча творцаў да актуальнай жыццёвай тэматыкі, выразнасці выяўленчых сродкаў. Шчакаціхін узнімае тут і паслядоўна развівае далей ідэю аб неабходнасці свядомых адносін мастака да краю, у якім ён працуе, да яго гісторыі, прыроды, народнага жыцця. Беларускі мастацтвазнаўца кліча творцаў узяць барвы для сваіх палотнаў ад роднага неба, ад мяккіх сіне-зялёных таноў беларускіх краявідаў, пранікнуцца эстэтычным ідэалам свайго народа, выявіць яго мастацкі лад мыслення. Аналізуючы краязнаўчыя матывы ў творчасці В. Волкава, М. Філіповіча, З. Астаповіча, А. Тычыны і інш., аўтар сцвярджае, што можна (як, напрыклад, Тычына) наблізіцца да народнага праз вывучэнне ўзораў арнаменту, строяў, праз наву-ковае пазнанне традыцый мінулага і можна выявіць сваё нацыянальнае, дзякуючы зліццю мастацкага ўяўлення, светаўспрыняцця з тым бачаннем свету, што арганічна дае геаграфічнае асяроддзе, быт, які акружае мастака. Такое як бы стыхійнае выяўленне беларускага можна бачыць у графічных лістах З. Астаповіча.

У 1925 годзе шырокая грамадскасць Савецкай Беларусі адзначала славутую культурна-гістарычную дату—400-годдзе беларускага кнігадрукавання. Паэты і мастакі, вучоныя і журналісты дзейсна адгукнуліся на гістарычны юбілей беларускага друкаванага слова. Рэй у шырока распачатай працы па даследаванні эпохі, у якую жыў і тварыў слаўны беларускі першадрукар і асветнік, па вывучэнні яго перакладчыцкай і выдавецкай дзейнасці вялі, натуральна, вучоныя.

Мікола Шчакаціхін, з уласцівай яму душэўнай шчодрасцю і даследчыцкім энтузіязмам, уключыўся ў шырока задуманую работу. Поле для працы было шырокае. Хацелася ўзяць як мага большы абсяг. Яго неспакойная думка сягала незакранутых, яшчэ не распачатых праблем скарына-знаўства і ўжо ўздыманых, але нявырашаных. Так, Шчакаціхін выказаў цікавую гіпотэзу адносна даты нараджэння Ф. Скарыны. Вучоны звярнуў увагу на верагоднасць сувязі паміж сонечным зацьменнем, якое было ў 1486 годзе, і знакам яго на скарынінскім гербе, вядомым з гравюры[2]. На аснове аналізу вадзя-

[1] Наш край. 1926. № 2—3.

[2] Полымя. 1925. № 5.

ных знакаў скарынінскага выдання «Малой падарожнай кніжкі» Шчакаціхін выказаў абгрунтаванае меркаванне адносна года выхаду ў свет кнігі, што, у сваю чаргу, праліло святло на адзін з самых малавядомых перыядаў дзейнасці старажытнабеларускага асветніка. Для доказу дацiроўкi «Малой падарожнай кніжкі» вучоны рабіў вельмі скрупулёзную даследчыцкую работу[1].

Аднак самы значны ўклад у Скарыніяну зрабіў Шчакаціхін як мастацтвазнаўца. Услед за Д. Равінскім, У. Стасавым і П. Уладзіміравым, але больш усебакова і грунтоўна даследаваў ён мастацкі бок Скарынавых выданняў упершыню па-сапраўднаму аддаўшы належнае высокаму майстэрству гравюр, заставак і літар.

Спачатку быў зроблены вучоным эцюд «Дрэварыты і арнамент у выданнях Скарыны». Потым з’явілася разгорнутая праца «Гравюры і кніжныя аздобы ў выданнях Францішка Скарыны».

У працы таленавітага мастацтвазнаўцы, змешчанай ім у зборніку «400-лецце беларускага друку» пад загалоўкам «Гравюры і кніжныя аздобы ў выданнях Францішка Скарыны», мы бачым шырока пастаўленай, дэталёва распрацаванай праблему адной з найярчэйшых з’яў культуры беларускага сярэдневякоўя. Вывучыўшы з уласцівай Шчакаціхіну дэталёвасцю літаратуру прадмета, а таксама разнастайныя пабочныя крыніцы, вучоны без малога на трох друкаваных аркушах вядзе размову, якая то набывае выгляд дэталёвага мастацкага аналізу, то пераходзіць у дыскусію, то прымае форму разважанняў, абгрунтаваных фактамі, супастаўленнямі, параўнаннямі.

Пасля вызначэння месца скарынінскай працы ў гісторыі беларускай культуры, пасля агульнага акрэслення мастацкага аблічча яго выданняў, як чагосьці «зусім асаблівага, арыгінальнага», адзначанага «нейкім надзвычайна ценкім і добра сфармаваным мастацкім густам», Шчакаціхін пераходзіць да падрабязнага мастацтвазнаўчага разгляду ўсіх кампанентаў, што складаюць мастацкі аспект кніг беларускага першадрукара.

Даследчык упершыню звяртае ўвагу на заўвагі самога Скарыны адносна змешчаных ім гравюр, але не абмяжоўваецца заўвагамі. Як адно з першых, заканамерна ўзнікае ў Шчакаціхіна пытанне адносна аўтарства ілюстрацый і аздоб, якія надалі выданням Скарыны такі высокі мастацкі ўзровень. І тут вучоны завастрае ўвагу на факце з апублікаванага А. Мілавідавым дакумента, узятага з Кёнігсбергскага дзяржаўнага архіва. Дадатак да імя Скарыны, які гучаў «doctor atrium bonarum», на думку Шчакаціхіна, таіў нейкі новы сэнс у плане атрыманых асветнікам ведаў. Беларускі даследчык зусім слушна дапускае, што Скарына атрымліваў у Падуанскім універсітэце і веды па «прасторавых» мастацтвах. Адсюль і яго меркаванне адносна скарынінскага аўтарства рысункаў і кампазіцыйных схем. Аднак вучоны не настойваў на сваім дапушчэнні, адкладаючы канчатковае рашэнне гэтага пытання на той час, калі паўней будзе пазнаны жыццёвы і творчы шлях выдатнага беларускага асветніка і гуманіста.

---

[1] Шчакаціхін М. Да пытання аб храналогіі «Малой падарожнай кніжыцы» Скарыны // Запіскі аддзела гуманітарных навук. Мн., 1928. Т.2. С. 435—450.

Шчакаціхін перш-наперш перад канкрэтным разглядам гравюр адзначае некаторыя рысы, што вылучаюць іх з тагачасных гравюр нямецкіх і чэшскіх выданняў, і затым дае падрабязны спіс саміх гравюр, па ходу адзначаючы памылкі і пропускі ў спісах І. Каратаева і П. Уладзімірава, прысвечаных ім.

Усе 29 сюжэтных гравюр і 11 ілюстрацыйных рысункаў адпаведна з іх стылістычнымі і тэхнічнымі адзнакамі вучоны падзяляе на чатыры групы.

У сувязі з пашыранай у рускай дарэвалюцыйнай мастацтвазнаўчай навуцы думкай адносна даволі цеснай залежнасці мастацкага афармлення скарынінскіх кніг ад нямецкіх і чэшскіх узораў Шчакаціхін разглядае і кожную асобную гравюру, ці то з Бібліі, ці то з «Малой падарожнай кніжкі», яшчэ і ў плане яе параўнання з магчымымі, часам ука-занымі першаўзорамі. Скрупулёзны, вельмі ўважлівы да кожнай дзталі, дробязі аналіз даў падставу вучона-му сцвярджаць, што ўсталяваная думка далёкая ад ісціны.

Запазычанні і прытым вельмі адносныя (штосьць прыблізнае ў дэталях) выяўляюцца толькі ў чатырох-пяці ілюстрацыйна-тлумачальнага зместу рысунках кнігі Ісход, шасці аналагічных рысунках з трэцяй кнігі Царстваў. Шчакаціхін вылучае іх у асобную групу і разглядае першымі. У другой групе скарынінскіх гравюр (усе 12 з пражскага выдання Бібліі) даследчык бачыць поўнае стылістычна-тэхнічнае адзінства. Як характэрны прызнак гэтай групы гравюр, ён адзначае «добры і выразны рысунак, вялікія пластычна мадэляваныя фігуры з рэзка акрэсленымі рысамі твараў». У дадатак усе яны ўключаюць у сваю кампазіцыю скарынінскі герб. Аналіз гравюр другой групы Шчакаціхін пачынае з партрэта Скарыны — гэтай цудоўнай па сваёй мастацкай закончанасці, адточанасці форм гравюры. Аўтар гаворыць аб двух варыянтах гравюры Францішка Скарыны, адзначае іх кампазіцыйнае супадзенне і розніцу ў выканані. Ён акрэслівае месца партрэта ў кнігах, дакладныя памеры іх, дае дэталевае апісанне: «У кампазіцыйных адносінах абодва варыянты амаль што зусім таясамны. На гравюры мы бачым Скарыну ў яго пакоі, у нізкім крэсле перад пюпітрам, з пяром у руцэ над разгорнутай кнігай; другая рука знаходзіцца направа ад яго на падстаўцы. Ён апрануты у доктарскую мантыю і берэт, з-пад якога выбіваюцца доўгія валасы. Пюпітр пакрыты вузкім абрусам з бахрамой арнаментам і вялікім «гербам». На спінцы крэсла з абодвух бакоў — геральдычныя львы, якія падтрымліваюць шчыты з гербавымі знакамі. На заднім плане архітэктурны матыў з калонамі і гзымсам, абвітым расліннай гірляндай. Навакол фігуры Скарыны размешчаны розныя рэчы: sphaera mundi, пясочны гадзіннік, кнігі, лаўка з падушкай, свяча ў ліхтары з рэфлектарам, два кошыкі, жаба… На самай гары гравюры, на асобнай пласцінцы, якую падтрымліваюць дзве фантастычныя рыбы, змешчана дата: АФЗІ (1517). На аналагічнай пласцінцы, толькі крыху большых памераў, унізе знаходзіцца подпіс кірылічнай вяззю «Доктар Францыск(о) Скорина». Налева, каля кошыкаў — манаграма гравёра з літар М і З. Усе гэтыя дэталі ў абодвух варыянтах паўтараюцца з поўным падабенствам, за выключэннем толькі формы «герба», часткова зменены у другім варыянце. Але з тэхнічнага боку паміж гэтымі варыянтамі існуе

вядомая розніца. Уласна, другі з іх з'яўляецца лепшым: ён характарызуецца высокай выразнасцю рысунка, разам з чыстатой і яснасцю ліній, пракладзеных умелым разцом, і, бясспрэчна, з'яўляецца вытворам надзвычай добрага гравёра; першы варыянт некалькі слабейшы ў дэталях і менш выразны, як, напрыклад, у валасах, у берэце або ў накрыцці пюпітра; таксама грубей пракладзены ў ім цені, з меншай сфармаванасцю абрысаў і большай таўшчынёй штрыхоў. Але ўсё ж і ён робіць настолькі добрае ўражанне, што нават, не карыстаючыся другім варыянтам, Стасаў, знаёмы выключна з першым, зусім справядліва раўняе яго «да найлепшых нямецкіх гравюр таго часу па добрым рысунку, моцы і каларытнасці гравюры»[1].

Разгляд 12 гравюр з скарыншскай Біблн Шчакаціхін заканчвае разважаннямі аб мастацкай школе, з якой выйшаў аўтар ці мо калектыў аўтараў гэтых твораў.

Трэцюю групу скарынінскіх гравюр Шчакаціхін лічыць не звязанай з іншымі, некалькі выпадковай у выданнях беларускага першадрукара. На іх ён менш за ўсё і спыняецца. Дзевяць апошніх (чацвёртая група, згодна падзелу даследчыка) вылучаюцца тым, што рысунак і кампазіцыя ў іх высокамастацкай задумы, а гравіраванне грубаватае, недасканалае.

Па-за межамі чатырох адзначаных груп Шчакаціхін разглядае 12 гравюр: «Тройцу» з адваротнага тытула пражскай Бібліі і 11 рысункаў ілюстрацыйна-тлумачальнага характару. Як і ў папярэдніх выпадках, вучоны дае падрабязнае апісанне гравюры, яе ідэйна-мастацкага зместу і формы. Па ходзе аналізу аспрэчвае ці пацвярджае думкі, выказаныя да яго даследчыкамі адносна мастацкіх вартасцей тых ці іншых гравюр і рысункаў.

Выданні Скарыны пракладвалі «да некаторай ступені шляхі ў мастацтве кніжнай арнаментыкі, злучаючы дэкаратыўныя традыцыі візантыйска-славянскіх рукапісаў са стылістычнымі традыцыямі заходнееўрапейскіх арнаментальных матываў». «У гэтым сэнсе, — падкрэсліваў Шчакаціхін, — быў зроблены пэўны крок наперад у параўнанні да заходнееўрапейскіх выданняў», якія стаялі ў той час на значнай вышыні. Тытульныя лісты, застаўкі і арнаментаваныя вялікія літары ў рамках з разнастайнымі рысункамі — тры віды графічных аздоб скарынінскіх кніг. Нягледзячы на пэўную супольнасць стылістычнага характару, усе яны (гэтыя віды) маюць сваю мастацкую спецыфіку і кожны асобна прадстаўляе навуковую цікавасць.

Дэталёвы, тонкі аналіз тытульных лістоў скарынінскай Бібліі дазволіў Шчакаціхіну зрабіць вывад, што ў сэнсе мастацкасці яна «далёка апярэдзіла шмат якія ранейшыя выданні, у тым ліку, напрыклад, чэшскую біблію 1506 г.». Па-водле слоў мастацтвазнаўцы, у агульнай сваёй масе тытульныя лісты «выяўляюць элементы готыкі ў пражскай «Бібліі» і рэнесансавыя формы ў больш позніх віленскіх выданнях». Немалую ролю адыгрываюць самі загалоўкі, якія арганічна ўключаюцца ў агульную кампазіцыю тытула, адпаведна арганізуючы яе.

[1] Шчакаціхін М. Гравюры і кніжныя аздобы ў выданнях Франціўка Скарыны // 400-лецце беларускага друку. Мн., 1926. С. 194-195.

М. Шчакаціхін вельмі высока ацэньвае арнаментыку скарынінекіх заставак, якія зноў жа падрабязна разглядае і ў мастацкім плане, і ў плане генезісу.

Па колькасці, разнастайнасці рысункаў і высокай дакладнасці выканання даследчык сярод іншых графічных аздоб вылучае скарынінскія арнаментаваныя вялікія літары. Яны чаруюць разнастайнасцю і багаццем узораў, свежасцю і каларытнасцю. Па фармальна стылявых адзнаках Шчакаціхін падзяліў усе іх на тры групы: 1) белыя літары на чорным фоне, у вузенькай рамцы, паміж якой і фонам застаецца тонкая белая палоска, 2) такія ж літары белыя на гранулляваным фоне і 3) літары лінейныя, або штрыхаваныя,на белым фоне ў чорнай рамцы. Затым падаецца апісанне узораў 45 літар першай групы. Напрыклад, «В з верхняй пятлёй у форме вітка, налева — птах, направа — воўк на задніх лапах, у ніжняй пятлі — лісіца («Іова», 46; «Аповесці», 18); Г, у ім два хлопчыкі, угары налева сонца («Левіт», 13); Е з двух раслінных віткоў з чатырма сасновымі гулямі («Другазаконне», 35; «Суддзяў», 31); К вострых абрысаў, за ім зубр («Ісуса, сына Сірахава», 46)» і г. д.

У заключэнне гэтага шырокага і канкрэтнага разгляду мастацкіх кампанентаў скарынінскіх кніг Шчакаціхін спыняецца на пытанні ўплыву яго гравюр і арнаментыкі на пазнейшыя беларускія выданні, ставіць праблему пераймання мастацкіх традыцый славутага першадрукара.

Вучоны згаджаецца ў асноўным з думкай вядомага рускага мастацкага крытыка і гісторыка культуры У. В. Стасава, што ні адно выданне славянскага друку XVII—XVIII стагоддзяў не паўтарыла таго майстэрства гравюры, якое выявілі працы Скарыны. Што ж да скарынінскай арнаментыкі, то ў старабеларускім друку можна знайсці нямала прыкладаў наследавання ёй, пераймання яе ўзораў. Часткова вучоны гэта тлумачыць пераходам у спадчыну да друкарняў Мамонічаў і Свята-Духаўскага брацтва друкарскіх прылад Скарыны.

Акрамя таго, бачыць ён тут і ўплыў творча-мастацкі. Апошняе даследчык пацвярджае і фактамі пашырэння кніг Скарыны ў Вялікім княстве Літоўскім (на аснове пстарычных коыніц) і канкрэтнай спасылкай на пазнейшыя віленскія выданні кніг тыпу «Бяседы Макарыя егіпецкага» (1627), «Трэбніка» (1697), на кнігі В. Цяпінскага, С. Буднага, а таксама на некаторыя львоўскія, кіеўскія, астрожскія і маскоўскія выданні. Пры гэтым вучоны зазначае, што залежнасць ад першаўзораў Скарыны часам з'яулялася чыста друкарскай, а не мастацкай у поўным сэнсе гэтага Паводле пераканання Шчакаціхіна, найбольшаму ўплыву Скарынавай арнаментыкі падпала віленская друкарня, прадстаўленая друкарнямі самой Вільні і Еўя.

Нават разгледзеўшы канкрэтныя факты ўплыву і запазычанняў са Скарыны ў кніжнай прадукцыі друкарняў віленскай школы, Шчакаціхін не схільны перабольшваць ні аб'ёму, ні інтэнсіўнасці ўплыву. Абмежаванасць уплыву, аднак, на думку вучонага, у дадзеным выпадку толькі лішні раз падкрэслівае тое «асабліва выдатнае мастацкае значэнне выданняў Скарыны ў гісторыі старабеларускага кнігадрукавання і тое асобнае становішча, якое займаюць яны сярод іншых выданняў». «І гэта, — развівае сваю дум-

ку Шчакаціхін, — яшчэ раз дае нам падставы, каб сапраўды лічыць выданні Скарыны і па агульнай іх пабудове, і па дэталях апрацоўкі ў гравюрах і арнаментыцы адным з най-важнейшых дасягненняў друкарскага і ксілаграфічнага мастацтва не толькі ў старабеларускім, але і наогул у славянскім друку, высокая дасканаласць якога, такая суцэльная ў сваёй стылістычнай скончанасці, ніколі і не магла дзе-небудзь быць перавышана».

Удзел М. Шчакаціхіна ў калектыўнай працы па даследаванні спадчыны Скарыны выразіўся яшчэ і ў каменціраванні ім 30 ілюстрацый, змешчаных у зборніку «400-лецце беларускага друку». Кажуць, сапраўдны талент відаць і ў дробязі. Шчакаціхін выдатна пацвердзіў гэту ісціну сваімі каментарыямі. У «Заўвагах да ілюстрацый» ён даў глыбокі і бліскучы аналіз многіх дакументаў, фактаў, з'яў. Дазволіла яму гэта паспяхова зрабіць і добрае веданне лацінскай мовы, і адточаны інструмент гісторыка-мастацкага аналізу.

У 1925 годзе Мікола Шчакаціхін перажываў творчы ўздым яшчэ больш, чым калі складаў першы курс лекцый па гісторыі беларускага мастацтва. Натхненне, прыўзняты рабочы настрой не пакідалі яго на працягу ўсяго года. Усё складвалася добра ў яго жыцці. У беларускім навуковым цэнтры — Інбелкульце стварылася добрая творчая атмасфера, дух шчырай руплівасці, якія ішлі ад без гучных слоў усвядомленага большасцю супрацоўнікаў завешчанага рэвалюцыяй абавязку перад працоўнымі, перад сваім народам. Шчакаціхіну ў гэтай прыязнай і сапраўды творчай атмасферы лёгка дыхалася, плённа працавалася. Жыццё несла паўнамерную радасць — радасць тварыць, радасць усведамлення вялікай высакароднай мэты — узводзіць гмах беларускай культуры, навукі.

У яго было ўсё: каханая жонка, якая атуліла яго добрым хатнім цяплом, мілыя дзеці, утульны рабочы кабінет, нраца, што адкрывала новыя і новыя прывабныя далягляды, зведаны поспех у ёй і прызнанне сяброў-вучоных, мастакоў і проста людзей цікавых. Сярод іх быў чалавек няпростага лёсу — Аляксандр Сак, збіральнік, цаніцель мастацтва.

Жыць у Менску Шчакаціхін асталяваўся недалёка ад станцыі ў старым мураваным з цмяна-чырвонай цэглы доме, што стаяў на рагу вуліц Універсітэцкай (цяпер Кірава) і Валадарскага. Між іншым, муры гэтай камяніцы, дзе цяпер пасяліліся вучоныя, у свой час чулі апошнія словы прапагандыста марксізму на Украіне, нашага земляка С. К. Мяржынскага і былі сведкамі бяссонных начэй Лесі Украінкі над яго болем, знямогай.

У грамадзянскую вайну цеснаватыя пакоі гэтага дома на нейкі час сталі сядзібай польскай дэфензівы і, напэўна, нямала б маглі расказаць аб мужнасці перад вачыма смерці барацьбітоў Менскага антыбелапольскага падполля і беларускіх партызан 1919 года У. Шумскага, С. Плашчынскага і інш.

Раніцай Шчакаціхін звычайна выпраўляўся ва ўніверсітэт, а калі не было лекцый, адразу ішоў, перасякаючы ажыўленую цэнтральную вуліцу, у бок плошчы Свабоды. Там, не даходзячы яе, на Рэвалюцыйнай быў будынак Інстытута беларускай культуры. Там чакала яго любімая праца.

Спорую частку лета 1925 года правёў Мікола Шчакаціхін у раз'ездах. Перш за ўсё клікалі віцебскія краязнаўцы. У віцебскім музеі яны сабралі сярод іншых культурных каштоўнасцей надзвычай багатую калекцыю старажытных абразоў. Акрамя таго, мясцовыя прыхільнікі даўніны прыспешвалі мастацтвазнаўцу парупіцца паглядзець фрагменты унікальных насценных роспісаў XII стагоддзя ў Бельчыцах, пад Полацкам.

У Полацк Шчакаціхін трапіў упершыню, калі працаваў над першым варыянтам нарысаў па гісторыі беларускага мастацтва. Начытаўся пра полацкую Сафію і Спаса-Ефрасінінскую царкву, пра непакорны род полацкіх князёў і, каб дыхнуць гісторыяй, дакрануцца рукамі муроў васьмівяковай даўнасці, паехаў. У сувязі з юбілеем Скарыны ўвага да яго радзімы ўзрасла яшчэ больш. Вучоныя і паэты скіравалі свае маршруты ў Падзвінне. Паміж імі быў і Шчакаціхін. Пэўна ж, яму не цярпелася даследаваць старажытныя помнікі на дзвінскіх берагах. Былі ў іх стрыманае, да канца не разгаданае хараство і прывабнасць. Было ў іх штось ад голасу, пададзенага ледзь не ад самай калыскі нашай цывілізацыі, нешта ад знаку першых дзяржаўных імкненняў даўніх крывічоў. Аднак адкрывальнік непазнаванага хараства гэтай зямлі Шчакаціхін быў гаспадарлівы даследчык. Тое, што трывала стаяла, магло пачакаць, ён адкладваў навукова апрацоўваць надалей.

Мастацтвазнаўца перш-наперш паспешліва накіраваўся ў Бельчыцы, да паўзруйнаваных будынкаў XII стагоддзя, над якімі сам час занёс бязлітасны молат. Яшчэ ні разу дасведчанае вока не кранался насценных роспісаў цэркваў Бельчыцкага манастыра, ніхто не расказаў пра гэту жывую памятку старажытнага беларускага жы-вапісу.

Даследчык старажытнага мастацтва адначасова і ўдумлівы гісторык, і археолаг. Па літоўскіх або старажытнабе-ларускіх летапісах, цярпліва вывучаючы ўсе іх спісы, вы-праўляючы памылкі ў дапушчэннях К. Гаворскага і А. Са-пунова, Мікола Шчакаціхін устанавіў час узнікнення Бельчыцкага манастыра — канец XII ст[1].

Вывучыўшы спосаб кладкі сцен манастыра і параўнаўшы яе з характарам кладкі ў полацкай Сафіі, Спасе і іншых помнікаў XII стагоддзя, даследчык пераканаўча аргументуе новыя высновы. Сваё меркаванне вучоны пацвярджае і чыста мастацтвазнаўчымі довадамі — пашырэннем у Полацка-Віцебскай зямлі аднаапсіднай канструкцыі царквы якраз к трэцяй чвэрці XII стагоддзя.

Шчакаціхін крытычна паставіўся да летапіснага паве-дамлення, што Сафія, Спас і Бельчыцкі манастыр былі ўзведзены адначасова па загадзе Барыса Мінгайлавіча. Паводле яго думкі, стылістычныя даныя даюць падставы меркаваць, што ўзніклі гэтыя помнікі ў наступнай паслядоўнасці: Сафія, Спас, Бельчыцкі манастыр з яго цэрм[2]і, прытым усе ў межах XII стагоддзя.

Вучоны дае ўласны абмер, апісанне дзвюх ацалелых у сваёй аснове цэркваў Бельчыцкага манастыра. У больш разбуранай Пятніцкай царкве ён угледжвае «адзін з найбольш спрошчаных варыянтаў візантыйскага

[1] Наш край. 1925. № 1.

кубічнага тыпу пры аднаапсіднай канструкцыі». Не перабольшваючы гісторыка-архітэктурнай вартасці абедзвюх цэркваў Бельчыцкага манастыра, Шчакаціхін падкрэслівае каштоўнасць іх фрэскавага роспісу XII стагоддзя, першага па старажытнасці з усіх вядомых на тэрыторыі сучаснай Беларусі[1]. Пры гэтым вучоны выказаў думку, што, магчыма, некаторыя вынікі ў плане выяўлення старажытных роспісаў маглі б даць рэканструкцыйныя работы ў віцебскай Благавешчанскай царкве[2].

Што ж да жывапісу бельчыцкіх цэркваў, то ён быў пакладзены у свой час на першым, самым старажытным пласце тынку, зробленым непасрэдна па старой цаглянай кладцы. Пазнейшых напластаванняў на іх было ажно чатыры.

Упершыню «старажытныя фрэскі яркіх колераў» глянулі на свет выпадкова ў канцы 60-х гадоў XIX стагоддзя і хутка зноў на дрбрага паўвека зніклі пад навейшай тынкоўкай. І толькі ў 1925 годзе члены Полацкага краязнаўчага таварыства пры нечаканым разбурэнні часткі будынка Пятніцкай царквы прыкмецілі старажытны роспіс.

З дапамогай энтузіястаў Полацкага таварыства Шчакаціхін узяўся за нялёгкую працу выдабывання з-пад напластовак першапачатковых роспісаў. Даследчыку прыйшлося абмежавацца фрагментамі. Пры спробе аддзялення пазнейшых тынковак разбуралася і тынкаваная першааснова з фрэскамі. Дзенідзе фрэскі былі зафарбаваны настолькі, што ні зняць, ні змыць зафарбоўку было нельга. У выніку Пятніцкая царква ў Бельчыцах адкрыла вачам мастацтвазнаўцы рэшткі вялікай кампазіцыі «Ўкрыжавання» і яшчэ больш мізэрныя — «Стрэчання» ды невялікі фрагмент вельмі простых форм арнаменту. Трактоўка фігур плоскасная. На жоўта-шэра-цынамонавым фоне тынку — фігуры, выкананыя ў лілова-сіняй і цёмна-зялёнай каляровай гаме.

Барысаглебская царква Бельчыцкага манастыра дала крыху больш, а іменна — 6 фрагментаў фрэскавага роспісу. А паміж вокнамі былі заўважаны «добра захаваныя фрагменты арнаментальнага матыву ў выглядзе сістэматычна размешчаных віткоў з атожылкамі светла-зялёнага колеру, блізкага па свайму малюнку да падобнага арнаменту, які знаходзіцца на сходах Сафійскага сабора».

На паўднёвай сцяне, пры куце, пад незвычайна тоўстым пластом тынку аказаўся «арнамент з ардынарных цынамонавых віткоў па натуральнаму фону». У частцы сцяны каля закладзенага аконца быў выяўлены прымітыўны арнамент, намаляваны сурыкам «у выглядзе краткі з невялічкіх ром-баў у асадды з шырокіх сурыкавых палос і падобнай жа наласой наўкол самога акенца». У сярэдняй частцы паўднёвай сцяны ў рамках з падвойных сурыкавай і зялёнай палос Шчакаціхін знайшоў два паясныя вобразы традыцыйнага іканаграфічнага тыпу, «намаляваныя цёмным сурыкам з пераходам у чырвона-цынамонавы тон». На паўночнай сцяне на натуральным фоне жаўтаватага тынку паўтараўся намаляваны змрочна-зялёнай фарбай

[1] Пазней былі знойдзены яшчэ больш раннія роспісы.

[2] Меркаванне гэтае пазней пацвердзілася.

«рысунак з трыкутнікаў і змешчаных унутры гэтых апошніх дэкаратыўных віткоў». Другая ад усходу лапатка дала адну з самых значных знаходак — вялікую мужчынскую постаць у адзенні жоўта-ружовага колеру з зеленаватым адценнем у зборках ніжняга хітону і цёмна-цынамонавым у верхняй фелоні на шэра-зялёным фоне. Мастацтвазнаўца адзначае незвычайна мяккую трактоўку адзення. Указаўшы на пэўную блізкасць фрэсак цэркваў Бельчыцкага манастыра, з аднаго боку, да кіеўскіх фрэсак, а з другога — да наўгародскіх, Шчакаціхін, аднак, не схільны шукаць крыніцу фрэскавага жывапісу Полацка XII стагоддзя непасрэдна ў Кіеве. Ён заўважае пэўную розніцу і ў іканаграфічных, і ў фармальных адносінах. На думку вучонага, незразумелым, з пункту гледжан-ня традыцыйных кіеўскіх канонаў, з'яўляецца змяшчэнне «Укрыжавання» і «Стрэчання» разам з паасобнымі вобра-замі на адной паўночнай сцяне, як гэта зроблена ў Пятніцкай царкве. Бясспрэчнае адхіленне ад кіеўскіх іканаграфічных царкоўных правіл і адсутнасць сярод роспісаў Барысаглебскай царквы шматфігурных сюжэтных кампазіцый. Да таго ж маляўнічая тэндэнцыя, якая пераважала ў Кіеве, у фрэсках Бельчыцкага манастыра ўступіла месца мазаічнай, дзе, згодна Шчакаціхіну, «пануе нейкая мазаічная манументальнасць асноўных форм». Гэта ў сэнсе фрэскавай тэхнікі, якая набліжае полацкія фрэскі XII стагоддзя да наўгародскіх. Даследчык гатовы дапусціць тут аналогію, што мела месца ў гэту ж эпоху ў культавай архітэктуры.

Кіеўская традыцыя, па яго ўяўленні, відазмянялася на мясцовай аснове ў Полаччыне і затым перадавалася ў крыху трансфармаваным выглядзе ў Наўгародчыну. Свае меркаванні даследчык выказвае як першапачатковае дапушчэнне і канчатковае вырашэнне гэтага пытання на матэ-рыяле жывапісу адкладвае на той час, калі будуць выяўлены новыя і багацейшыя фрэскавыя роспісы.

У гэтым жа 1925 годзе паклікаў да сябе Міколу Шчакаціхіна і краязнаўчы Віцебск, які збіраў на свой акруговы форум усіх аматараў і навуковых супрацоўнікаў, хто як-небудзь і чым-небудзь быў звязаны з вывучэннем Віцебшчыны. Сярод іншых краязнаўчых цэнтраў толькі што далучаны да БССР Віцебск моцна вылучаўся. Дзякуючы наяўнасці значнай часткі інтэлігенцыі, горад гэты ўвогуле самага пачатку 20-х гадоў меў відавочны культурны прагрэс, наглядныя дасягненні. І для гэтага былі вельмі канкрэтныя прычыны. Віцебск на пэўны час стаў горадам, які воляй лёсу сабраў у сабе цэлую кагорту творчай інтэлігенцыі. У пераважнай большасці гэта былі выхадцы з розных куткоў вясковай і мястэчковай Віцебшчыны. Рэвалюцыйная бура падштурхнула іх да родных берагоў. Адны вярнуліся з Петраграда, Масквы, другія з Парыжа, дзе папаўнялі свае веды, адточвалі мастацкае майстэрства. Менск жа, які быў спачатку пад нямецкай, а затым белапольскай акупацыяй, не мог адразу сабраць многа творчай інтэлігенцыі. На бацькаўшчыне яны не сядзелі склаўшы рукі, а ўнеслі ў грамад-скае і культурнае жыццё горада творчы неспакой, абуджэнне. Узвіхраная рэвалюцыяй атмасфера, расчыноўленыя абставіны як не трэба лепш спрыялі іх разнастайным пачынанням.

Тон задавалі мастакі… Спрачаючыся паміж сабою за права толькі пасвойму (так і не інакш) трактаваць сённяшнія і заўтрашнія шляхі мастацтва, яны свае гарачыя спрэчкі выносілі ў клубы, на вуліцу, дзе наглядным прыкладам сваіх твораў агітавалі за той ці іншы напрамак. У гэтых нястомных спрэчках і словам і аргументамі твораў удзельнічалі такія разнастайныя па сваёй мастацкай манеры, школе мастакі, як Казімір Малевіч і Юрый Пэн, Мсціслаў Дабужынскі і Марк Шагал… Прадстаўнікі рэалізму, кубізму, супрэматызму, яны кожны паасобку прэтэндавалі на веданне самай аб'ектыўнай ісціны, адстойвалі кожны свой мастацкі напрамак, як адзіна перспектыўны, адзіна магчымы і, нарэшце, адзіна патрэбны новаму, сацыялістычнаму грамадству. Многае тут ішло ад установак Пралеткульту…

Мастакі пры падтрымцы савецкіх органаў і шырокай грамадскасці стварылі ў Віцебску мастацкі інстытут. А музычныя дзеячы, не адстаўшы ад мастакоў, арганізавалі ў горадзе народную кансерваторыю. У музыкантаў рэй вёў дырыжор былога імператарскага тэатра Мікалай Малько. Яму дапамагалі кампазітар і мелограф Міхаіл Анцаў, а таксама адзін з першых збіральнікаў і прапагандыстаў музычнага фальклору Віцебшчыны Я. Варпаховіч і выкладчык музыкі М Сплендэр. Стараннямі трох апошніх упершыню ў Віцебскіх канцэртных залах прагучала беларуская народная песня, што нарадзілася паміж азёр і бароў льняной і жытняй Віцебшчыны.

Большасць з названых мастакоў, музыкантаў гэтак жа хутка пакінулі горад, як і з'явіліся ў ім. Аднак былі сярод іх і такія, для каго Віцебск стаў родным домам назаўсёды.

Усё жыццё пражыў у горадзе над Дзвіной і яго ваколіцах гісторык Аляксей Сапуноў. Увесь свой час і сродкі аддаў ён даследаванню роднай Віцебшчыны, яе гістарычнага мінулага. Семдзесят навуковых выданняў, зборнікаў-дакументаў, карпатліва сабраных і пракаменціраваных, манаграфій, артыкулаў пакінуў ён у спадчыну нашчадкам. Самаадданая праца Сапуна шмат у чым прычынілася да развіцця на Віцебшчыне ў першыя ж гады пасля рэвалюцыі шырокай сеткі краязнаўства, радзімазнаўства, светазнаўства. Ён рупліва рыхліў глебу, зараніў зерне зацікаўленасці роднай зямлёй, на якой пазней так дружна ўзняўся навуковы маладняк. Добра паспрыяла справе гістарычнага, археалагічнага і этнаграфічнага вывучэння Віцебшчыны і тое, што тут працяглы час з 1911 года існавала Віцебскае аддзяленне Маскоўскага археалагічнага інстытута. Яно дапамагло знайсці шлях у беларускую навуку не аднаму выхадцу з Віцебшчыны.

Наяўнасць у горадзе помнікаў старажытнай архітэктуры, дзейнасць у ім цэлай кагорты мастакоў садзейнічалі павышэнню цікавасці да мастацкай гісторыю краю, навуковаму згуртаванню аматараў старажытнасці. У рамках Віцебскага акруговага краязнаўчага таварыства працаваў значны атрад натуралістаў, даследчыкаў прыродных багаццяў краю.

Своеасаблівай пляцоўкай краязнаўства тут стаў Віцебскі дзяржаўны культурна-гістарычны музей. У ім па запрашэнні дырэктара музея Язэпа Васілевіча і іншых віцебскіх культурнікаў і вывучаў Шчакаціхін напрадвесні 1925 года творы старабеларускага жывапісу з тым, каб прыняць удзел

у акруговай краязнаўчай канферэнцыі. Зразумела, што для даследчыка гэта быў не толькі повад для выступлення, але і пазнанне яшчэ аднаго звяна ў агульным працягу мастацкага развіцця Беларусі. Выступленне Шчакаціхіна на канферэнцыі значна перарасло рамкі даклада і з'явілася сур'ёз-ным манаграфічнага тыпу даследаваннем старажытнага жывапісу Віцебшчыны[1].

З багатай калекцыі абразоў XVIII стагоддзя, сабранай у сховішчы Віцебскага музея, Шчакаціхін адабраў 22 самыя цікавыя з іх і даў грунтоўны, уласцівы яму, глыбока і жыва зроблены аналіз. Па асаблівасцях пісьма і сты лістычных адзнаках ён крыху ўмоўна разбіў даследуемы матэрыял на тры групы: помнікі лінейна-роўнічнай (плоскаснай) кампазіцыі, маляўнічадэкаратыўнай і жывапіснай.

Пры разглядзе гэтых помнікаў царкоўнага жывапісу XVIII стагоддзя Шчакаціхін імкнуўся перш за ўсё вызначыць асаблівасці мастацкай трактоўкі вобразаў, характэрныя рысы жывапіснай манеры. А для гэтага ён прарабіў вельмі яскравы мастацтвазнаўчы разбор твораў. Цікавыя вывады, да якіх прыйшоў даследчык. Паводле яго думкі, з усіх разгледжаных помнікаў толькі невялікая колькасць іх выяўляе кампазіцыйную сувязь з традыцыйнымі іканапіснымі канонамі. Затое вельмі выразна выступае «залежнасць шмат якіх вобразаў ад тых або іншых узятых беспасрэдна з жыцця жывых узораў, што надае ім асаблівае рэалістычнае адценне, а часам нават амаль што пабытовую афарбоўку». Другой агульнай рысай прааналізаваных ікон Шчакаціхін лічыць выяўленне ўласцівай беларускай школе выпрацоўкі ўласных іканаграфічных тыпаў, моцна звязаных з жыццёвай асновай. Трэцяй характэрнай уласцівасцю ўсіх даследаваных помнікаў мастацтвазнаўца называе асаблівую, выяўленую іх творцамі, можна сказаць, выключную цікавасць да чалавечых фігур. Мастакі амаль зусім уніклі дэталей, другараднага і сканцэнтроўвалі ўвагу на чалавечых постацях, іх абліччах. Для XVIII стагоддзя такі падыход быў мала характэрны.

Шчакаціхін адзначае, што «прысутнасць розных манер, розных тэхнічных спосабаў і разнастайных стылістычных адценняў, бясспрэчна, сведчыць аб тым, што гэтая школа (ён называе яе віцебскай) нават і ў такі позні час, як XVIII ст., яшчэ знаходзілася ў пары свайго поўнага росквіту, захоўваючы сваю моц і жыццёвасць».

Як бліжэйшую задачу ў плане пазнання старабеларускага жывапісу Шчакаціхін ставіў мэту выявіць тыя «сувязі, якія набліжаюць дадзеную групу помнікаў да помнікаў з іншых частак Беларусі, часткова з Магілёўшчыны, да якіх яны, як відаць, маюць найбольшае падабенства». Мэта — устанаўленне агульных рысаў, характэрных для ўсяго старабеларускага жывапісу, выяўленне нацыянальнага мастацкага аблічча ў тых яго формах, у якіх яно існавала на мяжы новага гістарычнага этапу жыцця Беларусі. Аднак увагу вучонага хутка прыкавалі больш надзённыя задачы.

[1] Першая частка даследавання Шчакаціхіна «Матэрыялы да гісторыі беларускага малярства XVIII ст.» друкавалася ў зб. «Віцебшчына», 1925. т. 1, заканчэнне — у зб. «Віцебшчына», 1928, т. 2.

А пакуль што дзесь у час працы над даследаваннем гравюр і арнаментыкі скарынінскіх выданняў, над вывучэннем старабеларускага жывапісу віцебскай і магілёўскай школ напісаў Шчакаціхін невялікае даследаванне пад назвай «Васіль Вашчанка — магілёўскі гравёр канца XVII — пачатку XVIII сталецця». Як і шмат якія працы мастацтва-знаўцы, гэта выйшла і асобным адбіткам. У ёй даследуюцца 22 гравюры, з якіх 8 падпісана імем В. Вашчанкі, а астатнія на аснове аналізу гравёрнай манеры і таго, што яны змешчаны ў тых самых выданнях, што і падпісаныя, аўтар прыпісвае Васілю Вашчанку. Шчакаціхін пераканаўча аспрэчвае думку вядомага даследчыка гравюры Д. Равінскага адносна малой колькасці твораў магілёўскай гравёрнай школы і яе нібыта поўнай залежнасці ад кіева-львоўскай.

Беларускі вучоны называе болыы ста твораў магілёўскай гравёрнай школы XVII—XVIII стагоддзяў і чатырох вядомых майстроў гэтай справы. Сярод іх першае месца па мастацкім узроўні гравюр адводзіць Васілю Вашчанку, брату вядомага старамагілёўскага кнігадрукара Максіма Вашчанкі. Шчакаціхін акрэслівае творчую манеру Вашчанкі, праследжвае яе эвалюцыю. Паводле яго меркавання, эвалюцыя гэта заключалася ў пераходзе лінейнай трактоўкі ў пластычную, у набыцці лініяй асаблівай тонкасці і чыстаты, у далучэнні дробнай і надзвычай дакладнай штрыхоўкі — распрацоўцы паўтонаў.

Недахоп фактаў з жыцця і творчасці Вашчанкі абмяжоўваў мастацтвазнаўцу ў вырашэнні многіх пытанняў, аднак той матэрыял, які быў знойдзены, аналіз яго дазволілі вучонаму выразіць надзею, што «гэта імя павінна заняць пачэснае месца ў гісторыі беларускага мастацтва, як імя аднаго з найлепшых майстроў у Магілёўскай гравернай школе і наогул у беларускай гравюры XVII—XVIII ста-годдзяў». Першае разгорнутае выступленне Шчакаціхіна ў часопісе «Полымя» вызначалася шырынёй падыходу да становішча беларускага выяўленчага мастацтва і прынцыповай пастаноўкай яго актуальных задач[1].

Мінулыя гады, на думку аўтара, мелі тое пазітыўнае значэнне для развіцця выяўленчага мастацтва ў рэспубліцы, што пад яго «пачала падводзіцца пэўная, няхай сабе яшчэ і не надта цвёрдая, моцная база, калі зрабіліся зусім актуальнымі раней забытыя пытанні аб ролі вобразнага мастацтва як сацыяльнага і культурнага фактару і аб прыцягненні яго да ўдзелу ў нашым сучасным культурным будаўніцтве». Аднак Шчакаціхін папярэджвае супраць перабольшання рэальнага значэння такіх знешніх фактараў бягучага мо-манту мастацкага жыцця, як арганізацыя Секцыі беларуска-га мастацтва пры Інбелкульце і адкрыццё Першай Усебеларускай мастацкай выстаўкі, «якія, — зазначае вучоны, — крыху ўзварушылі нерухомае «багно» нашага вобразнага мастацтва і вывелі са стану мёртвай раўнавагі паасобныя творчыя адзінкі».

Далей Шчакаціхін непасрэдна ставіць пытанне аб неабходнасці арганізацыйнага аб’яднання. Даслоўна ён кажа: «Тут, з аднаго боку, патрэбен

---

[1] Шчакаціхін М. Сучаснае мастацтва Беларусі // Полымя. 1926. № 6.

нейкі цэнтральны орган для агульнага кіравання мастацкай справай у БССР з галоўнай увагай у бок рэгулявання мастацкай вытворчасці і правядзення ў жыццё стройнай сістэмы мастацкай асветы… З другога боку, бясспрэчна, наспела патрэба ў заснаванні асобнага, пераважна ідэалагічнага, а часткова вытворчага прафесіянальнага аб'яднання мастацкіх сіл Беларусі».

Як вядома, у той час у краіне пераважалі згуртаванні мастакоў на фармальна-творчых пачатках. Настойліва паўтараемы Шчакашхіным заклік да аб'яднання на аснове ідэалагічнага прынцыпу, па-першае, рэальна ўлічваў творчы ўзровень мастацкага жыцця рэспублікі, а па-другое, даваў правільную перспектыву для паступовага ідэйна-творчага росту і ўдасканалення як паасобным мастакам, так і справе ўсёй выяўленчай культуры ў цэлым. Практычна такую асацыяцыю Шчакаціхін бачыў як «аб'яднанне ўсіх тых практыкаў вобразнага мастацтва БССР, якія жадаюць у ім працаваць у напрамку мастацкага выяўлення рэвалюцыйнай сутнасці нашай эпохі ў формах нацыянальнага мастацтва: у першую чаргу г. зн. мастацтва беларускага, як асновы, і мастацтва тых нацыянальных меншасцей, якія прымаюць актыўны ўдзел у нашым культурным і грамадскім жыцці».

Даволі падрабязна разгледзеўшы функцыі такой асацыяцыі і наглядна паказаўшы перавагі, якія яна нясе ў мас-тацкую працу, вучоны спыніўся на некаторых перадумовах яе ўзнікнення. Затым ён падкрэслівае думку, што стварэнне асацыяцыі мастакоў і ўстанаўленне ёю патрэбных кантактаў — толькі першы крок, «пасля чаго павінна пачацца ўжо сістэматычная і планавая праца па ажыццяўленню чарговых задач, якія з усёй вастрынёю ставяцца цяпер у галіне нашай мастацкай культуры». У сваім артыкуле Шчакаціхін зноў, ужо трэці раз, звяртаецца да вопыту Першай Усебеларускай мастацкай выстаўкі, каб, па-першае, даць спакойны, як мага больш дэталізаваны малюнак мастацкага жыцця і, па-другое, завастрыць увагу творцаў і грамадзянства на недахопах і заганах гэтага жыцця. Адсюль такі аб'ектыўны погляд мастацтвазнаўцы.

Аналіз, зроблены з пункту гледжання задач выстаўкі, адзначаных у каталогу як імкненне прадэманстраваць вы-нікі мастацкай працы, выявіць яе напрамкі, а таксама як першы крок да стварэння новых адносін паміж мастацкай вытворчасцю і спажываннем, быў у вышэйшай ступені строгі, але апраўданы. Вывады Шчакаціхіна зводзіліся ў асноўным да наступнага. Па-першае, высокакваліфікаваных мастакоў у Беларусі і за яе межамі, звязаных з ёй паходжаннем ці той або іншай зацікаўленасцю, — адзінкі і на выстаўцы яны танулі сярод агульнай напаўаматарскай масы. Па-другое, няма пэўных і выразных груповак і фармальна-мастацкіх напрамкаў. Па-трэцяе, праца ўсіх мастакоў мае індывідуалістычны характар, як вынік адсутнасці творчага абмену.

Больш дэталёва, чым у сваіх папярэдніх артыкулах аб выстаўцы, аўтар спыняецца тут на ідэйна-творчых, фармальна-мастацкіх напрамках. Момант гэты тым больш цікавы для нас, што ён сведчыць аб шырокім разуменні беларускім вучоным вядучага напрамку ў мастацтве — рэалізму. Справа ў тым, што на пачатку 20-х гадоў пышным разнацветам забуялі самыя

разнастайныя мастацкія напрамкі ў станковым жывапісе, манументальным мастацтве — пост-імпрэсіянізм, футурызм, супрэматызм, часткова канструктывізм. Ледзь не кожны з пералічаных напрамкаў быў не супраць аб'явіць сябе адзіна правільным, самым рэвалюцыйным. Нейкі час плыні абстрактнага мастацтва і прэтэндавалі на права ім адным гаварыць ад імя рэвалюцыі, ад імя новага мастацтва.

У адной са сваіх прац Шчакаціхін даваў такі малюнак мастацкай рэчаіснасці першых паслярэвалюцыйных год: «У штодзённай творчасці змяняліся і перакрыжоўваліся розныя фармальныя напрамкі, цэлы віхор «ізмаў», часам глыбокіх і сур'ёзных, часам павярхоўных і безгрунтоўных, але заўсёды энтузіястычных, нястрымных, палкіх да неразважнасці ў тэорыі і практыцы сваіх адэптаў. Тут быў і пост-імпрэсіянізм, які, выходзячы з глыбокіх фармальных дасягненняў Сезана, то паглыбляўся ў строгім шуканні мастацкае праўды, то зводзіўся да абсурду ў творчасці найбольш крайніх сваіх прадстаўнікоў; шумны футурызм, які крычаў: «Я — бальшавізм у мастацтве!» (хоць мала хто яму верыў) — і на падставе гэтага патрабаваў для сябе ў дзяржаўным мастацтве неабмежаванае дыктатуры; супрэматызм, фанатычна захоплены ідэяй звальнення чыстага колеру з-пад улады зместу і формы; часткова вызначаліся шляхі канструктывізму — адваротнае мастацкае тэорыі і практыкі чыстай формы з «мэтавай устаноўкай»; і над усім гэтым хаосам напрамкаў ужо ўздымалася строгая здань неарэалізму з поклічам ісці ў мастацтва ад блізкіх, ненадуманых і неперакручаных рэальна-жыццёвых форм — шляхам працавітага, удасканаленага, глыбокага майстэрства»[1].

Гэты віхор знішчэння старых форм і хапатлівага пошуку новых амаль не дайшоў да Менска. Мастацкае жыццё яго толькі здалёку адчула гэты неспакойны павеў. Аднак тым болып важна было ў нас з увагі на працэс станаўлення беларускага савецкага выяўленчага мастацтва пазбегнуць марнай траты сіл. Іменна гэтым кіраваўся Мікола Шчакаціхін у сваім адказе праціўнікам станкавізму, у адстойванні грамадска значнага мастацтва. Тут ён працаваў на два франты: апеляваў да мастакоў і цярпліва выхоўваў грамадскі эстэтычны густ, арыентуючы яго на сапраўднае мастацтва. У працы такой не абыходзілася і без чарнавых, зусім уты-літарных момантаў. Але за ўсім гэтым стаяла заўсёды вялікая канчатковая мэта. І ёй было ўсё падпарадкавана. На думку Шчакаціхіна, Першая Усебеларуская выстаўка паказала, што ёсць неабходнасць, патрэба наблізіць тэматыку выяўленчага мастацтва да гледача і «ў той жа час надаць ёй тую разнастайнасць, якая характэрна для яга сучасных інтарэсаў». Пры гэтым трэба ісці наперад самім і ўзнімаць гледача «к формам вышэйшай мастацкай культуры». «Час ужо, — падкрэсліваў мастацтвазнаўца, — скончыць працаваць «пад старынку» (нягледзячы нават на тое, што гэта і падабаецца неспрактыкаванаму спажыўцу, якога цікавіць і задавальняе толькі адзін сюжэт), і нельга абмінаць апошніх фармальных дасягненняў агульнаеўрапейскага мастацтва, без уплыву якіх нам усё роўна не абысціся».

---

1 Полымя. 1927. № 2.

Дзеля набліжэння мастацтва да жыцця, дзеля набыцця ім свайго нацыянальна непаўторнага аблічча Шчакаціхш ставіць прынцыповае патрабаванне: «Трэба аддаць належную ўвагу і беларускай гісторыі, і беларускаму рэвалюцыйнаму руху і тэмам, узятым на сюжэты з беларускай народнай творчасці, — адным словам усім тым тэмам, якія менш за ўсё яшчэ сустракаюцца цяпер у нашым мастацтве, нягледзячы на сваю бясспрэчную вартасць».

Аднак толькі адна тэматыка не вызначае спецыфікі ніякага нацыянальнага мастацтва. Трэба стварыць сваю жывапісную культуру, свой стыль. «Калі мы кажам аб стылі, — зазначае Шчакаціхін, — мы ўласна і маем на ўвазе такое Шырокае і living рознабаковае выяўленне ўва ўсіх складовых элементах вобразнага мастацтва — г. зн. і ў тэматыцы, і ў надворным афармленні, і ў тэхнічных прыёмах — найбольш істотных, тыповых рыс і ўласцівасцей беларускай краіны, беларускага народа і яго сучаснага жыцця». Ці ёсць для гэтага рэальныя магчымасці, ці можна гэта здзейсніць наяўнымі мастацкімі сіламі, — пытаецца аўтар і адказвае, што ўсё залежыць ад рада аб’ектыўных і суб’ектыўных прычын.

З фактараў, ад якіх, паводле Шчакаціхіна, залежыць прагрэс у сучасным беларускім мастацтве, асабліва цікава адзначыць, як бачыў і разумеў вучоны пастаноўку мастац-кага выхавання ў рэспубліцы. Яго заява, што патрэбна сталая сістэма мастацкага выхавання і адукацыі, заключана ў форму наступнага патрабавання: «Узмацніць агульнае мастацкае выхаванне ў сістэме народнай асветы, прытым не абмяжоўваць яго толькі традыцыйнымі ўрокамі рысавання, але ўвесці таксама заняткі па прыкладным мастацтве і даць агульнае азнаямленне з асноўнымі момантамі гісторыі мастацтва. Трэба паступова будаваць хаця б невялікую сетку спецыяльных мастацкіх школ, пачынаючы з ніжэйшых школ у раённых і сярэдніх (тэхнікумаў) у акруговых цэнтрах і канчаючы вышэйшай школай — інстытутам у Менску». Толькі падрыхтоўкай добра кваліфікаваных сіл можна будзе рушыць наперад справу выяўленчага мастацтва і выхаваць у шырокіх колах грамадства належнае стаўленне да яго, якое вынікала б з глыбокага разумення ягонага актуальнага, жыццёвага значэння і вялікай сацыяльнай і культурнай ролі.

У заключэнне артыкула «Сучаснае беларускае мастацтва» Мікола Шчакаціхін выказвае ўпэўненасць, што ў далейшым «мы яшчэ будзем сведкамі няўхільнага поступу нашага мастацтва наперад, да поўнага ўсебаковага росквіту, які, аднак, можа з’явіцца вынікам толькі свядомага і правільна накіраванага ўзбуджэння шырокай масавай творчай актыўнасці».

Клопат аб заўтрашнім дні беларускага мастацтва ў Шчакаціхіна ўключаў многа аспектаў. Збіранне і вывучэнне твораў мінулага было ў яго адным з пастаянных заняткаў. З гэтай мэтай ён пры кожным зручным выпадку звяртаўся за дапамогай да грамадскасці. Артыкул-інструкцыя Шчакаціхіна «Спосабы збірання матэрыялаў з беларускага мастацтва», апублікаваны рэдакцыяй часопіса «Наш край» за 1926 год, мог бы быць перадрукава-

ны і сёння, бо не страціў сваёй актуальнасці і цікавы з пункту гледжання методыкі вучонага.

Даследчык-энтузіяст з жалем канстатаваў, што ў справе ўсебаковага вывучэння краю праз краязнаўчыя арганіза-цыі адно з самых апошніх месцаў займае мастацтва. А між тым збіранне неабходных матэрыялаў затрымлівае распрацоўку такіх пытанняў, як гісторыя паходжання і развіцця розных галін беларускага мастацтва, пытання аб сучасных народных крыніцах мастацкай творчасці, аб змесце і характары народных мастацкіх форм. На думку аўтара, народнае мастацтва ў Беларусі знайшло сваё найяскравейшае выражэнне ў дзвюх галінах — ткацтве і разьбе па дрэве. У абодвух гэтых відах яно вызначаецца багаццем рысункаў арнаменту, якія неабходна як найпаўней сабраць. Непасрэдна інструкцыйная частка артыкула дае падрабязныя тлумачэнні ў плане навуковага падыходу да гэтай важнай справы. Вучоны арыентуе аматараў краязнаўчай працы на выяўленне майстроў разьбы па дрэве, па афарбоўцы матэрыі, на даследаванне вытокаў іх рамяства. Пры гэтым звяртае ўвагу краязнаўцаў на тое, ці няма ў мясцовай гаворцы вы-разаў, датычных разьбы. Асабліва пільна завастраў увагу Шчакаціхін на драўлянай архітэктуры. У ёй, відаць, мастацтвазнаўца схільны быў бачыць найбольш поўнае праяўленне мясцовых мастацкіх традыцый.

Увесь артыкул-інструкцыя — цэлая сістэма парад, дэталёва і тонка прадуманых, цалкам накіраваных на тое, каб як мага паўней, мэтазгодней выявіць, сабраць і зберагчы творы народнага мастацтва і старой агульнанацыянальнай спадчыны. Канчатковая мэта — дапамагчы маладой беларускай навуцы і працаўнікам прафесійнай мастацкай практыкі скласці самае поўнае і правільнае ўяўленне аб аб’ёме традыцый, іх канкрэтным змесце і аб рысах нацыянальнага стылю.

Улетку 1926 года Шчакаціхін, як звычайна, вандраваў па Беларусі. На гэты раз — па Магілёўшчыне. Раніцай, калі яшчэ сонечна іскрылася ў кронах старых кляноў і ліп раса, ён спяшаўся ў велічны старадаўні будынак сабора, дзе ў сіняватым рассеяным сонечным святле паўставалі ў першароднай красе даўнія роспісы. Падсвечаныя ранішнім ліпеньскім сонцам, яны адкрывалі ўважліваму гіозірку шукальніка сваё некрыклівае хараство: спакойную гаму фарбаў, плаўныя рытмы кампазіцый.

Ад мясцовых краязнаўцаў Шчакаціхін даведаўся, што ніжэй па Дняпры, у Рагачове, ёсць загадкавы помнік, празваны ў народзе замкам каралевы Боны. Старая архітэктура была асаблівай страсцю даследчыка, і ён неадкладна выбраўся ў Рагачоў. Паміж Дняпром і прытокам яго, Друццю, на былым старажытным замчышчы знайшоў і адразу зафатаграфаваў Шчакаціхін масіўную прысадзістую чатырохвугольную камяніцу з магутнымі ўпорамі-контрфорсамі. Адначасова апісаў яе знешні выгляд, вышерыў планіроўку, даследаваў інтэр’ер.

Мяркуючы па ўсім, будыніна гэта не магла быць самім замкам: мінімальна па сваіх функцыях не адпавядала патрабаванням каралеўскага жыцця… Але ж народная легенда праўдзіла. Пад Напластаваннямі фантазіі, часам прымхлівай, нярэдка ляжыць зерне гістарычнай праўды. Па зваро-

це з экспедыцыі Шчакаціхін засеў за гістарычныя дакументы, звязаныя са знаходжаннем у літоўска-беларускіх землях Боны, асвечанай ідэямі італьянскага Адраджэння асобы, жонкі караля Вялікага княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай.

Літоўская метрыка, акты Віленскага земскага суда, працы М. Любаўскага, М.Доўнар-Запольскага і У. Пічэты падказалі разгадку. Так, ёсць дакументы з прамымі сведчаннямі, што каралева Бона давала ў свой час распараджэнне будаваць у Рачагове замак. У сваім лісце ад 1548 года з Петрыкава дзяржаўцы рагачоўскаму, разгледзеўшы скаргу жыхароў сяла Лучынскага і пацвярджаючы непарушнасць іх старадаўніх правоў, Бона пісала: «Только где бы потреба вказывала, тогды они замок наш Рогочовски восполок из иншою волостью нашею тамашнюю робити и будовати повинны будуть».

Па дакументальных крыніцах вучоны прасачыў далейшы лёс замка, даведаўся аб яго стратэгічным значэнні ў Вялікім княстве Літоўскім. На аснове выяўленых гістарычных фактаў, параўнання архітэктурнага стылю Рагачоўскага замка са стылем некаторых помнікаў архітэктуры XVI стагоддзя ў Вільні Шчакаціхін робіць пераканаўчы вывад: «Рагачоўскі замак сваёй першаасновай узыходэіць да XVI ст. і з’яўляецца адной з падсобных пабудоў (найскарэй вартоўняй) эамка каралевы Боны»,

Пры гэтым Шчакаціхін склаў дэталёвы план Рагачоўскага замка і зрабіў спробу рэканструкцыі першапачатковага выгляду ўсходняга фасада яго. Рэканструкцыя была зроблена на аснове вывучэння архітэктурнага аблічча помніка. Адначасова пры гэтым мастацтвазнаўца меў на ўвазе той факт, што з прыездам у сталіцу Вялікага княства Літоўскага высокаадукаванай італьянкі з ёй з’явіліся сюды і мастакі і архітэктары. Таму, узнаўляючы першаснае аблічча Рагачоўскага замка, Шчакаціхін азіраўся і на аналагічныя італьянскія ўзоры. Апрацаваны матэрыял аб архітэктурным помніку над Дняпром пад загалоўкам «Замак у Рагачове» быў апублікаваны ў адным з восеньскіх нумароў «Нашага краю» за 1926 год. Надрукаванне чарговага артыкула Шчакаціхіна іменна ў гэтым часопісе было невыпадковым. Аўтар і рэдакцыя, якую ўзначальваў З.Бядуля, імкнуліся да наглянага і шырэйшага ўзбуджэння зацікаўленасці помнікамі архітэктуры сярод краязнаўцаў, сярод вялікай арміі аматарскай і паўаматарскай масы прыхільнікаў роднай культуры.

Мікола Шчакаціхін прадстаўляў сабою тып вучонага, які ніколі не мог зачыніцца ў кабінетнай цішы і, даследуючы старасвеччыну, ствараючы гісторыю беларускага мастацтва як суцэльнага творчага працэсу, увесь час звяртаўся да спраў надзённых, практычных спраў культурнага будаўніцтва, мастацкага жыцця рэспублікі.

Нарыс Шчакаціхіна «На шляхах да новага беларускага мастацтва» зноў узнімаў актуальную для Беларусі сярэдзіны 20-х гадоў праблему станаўлення мастацкай культуры яе. На гэты раз яна цікава вырашалася на матэрыяле творчасці аднаго са здольнейшых прадстаўнікоў мастацкай моладзі таго часу — Міхася Філіповіча.

Міхась Філіповіч, мінчанін па паходжанні, сярод іншых беларускіх мастакоў, якія прыйшлі ў мастацтва разам з рэвалюцыяй, вылучаўся пэўнай

выяўленчай культурай, самім напрамкам і зместам творчасці. Шукальнік па натуры, ён абяцаў вырасці ў даволі самабытную мастацкую постаць, у пэўным сэнсе тыповую для эпохі паслярэвалюцыйнага ўздыму творчых сіл беларускага народа.

Нарыс Шчакаціхіна, прысвечаны агляду творчасці Філь поюча, складаецца з трох частак. У першай, уступнай, аўтар з глыбокім адчуваннем гістарычных умоў дае наглядную карціку беларускага бытавання ў мінулым якраз з пункту погляду ўмоў для творчасці, для стварэння нацыянальнаЙ культуры. Рэвалюцыя і айчына, рэвалюцыя і Беларусь — у такой плоскасці разглядае вучоны гэтыя ўмовы. Царызм скоўваў творчыя сілы народа, свядома не даваў ім ніякага выйсця. Ва ўмовах царызму Беларусь не магла выявіць свае культурнае аблічча. Рэвалюцыя знішчыла сацыяльны і на-цыянальны прыгнёт і тым самым дала свабодны выхад творчай энергіі мас, стварыла перадумовы для плённай працы ва ўсіх галінах творчасці сацыяльна-палітычнай, культурна-нацыянальнай і інш.

Пасля кароткага, але вельмі насычанага, змястоўнага гістарычнага экскурсу аўтар перайшоў да мастацкай сучаснасці Савецкай Беларусі, кінуў некалькі беглых, але трапных заўваг адносна яе стану. Даволі рэальна ацаніўшы магчы-масці перавыхавання прадстаўнікоў старэйшага пакалення мастакоў у сэнсе прасякнутасці іх надзённымі задачамі культурна-нацыянальнага будаўніцтва, найбольшыя надзеі на развіццё савецкага беларускага мастацтва Шчакаціхін звязвае з маладымі творчымі сіламі, узнятымі рэвалюцыяй. У іх свядомым падыходзе да народа і радзімы, у іх прасякнутасці грамадзянскімі і мастацкімі ідэаламі працоўных на новым этапе жыцця бачыў вучоны добрае будучае выяўлен-чага мастацтва Савецкай Беларусі.

Даслоўна ён казаў наступнае: «Тут слова належыць моладзі, тым маладым творчым сілам, якія пастунова выхо-дзяць з шырокіх гушчаў беларускага працоўнага народа і нясуць з сабою, апроч не развітых яшчэ і цалкам не выяў-леных здольнасцей, яшчэ і глыбокае замілаванне да роднага краю, шчыльную сувязь з ім і ў творчасці і ў жыцці, невычэрпную крыніцу маладой энергіі і захаплення»[1].

Рысы чалавечай і творчай біяграфіі Філіповіча, убачаныя рэльефна, складаюць змест другой часткі нарыса Шчакаціхіна «На шляхах да новага беларускага мастацтва». З яе чытач даведваецца, як таленавіты беларускі юнак, сын чыгуначніка, змогшы сірочую долю, упарта ідзе на голас свайго прызвання. Спачатку ён дома, у Менску, пазнае ў мастакоў Ермакова і Д. Полазава агульныя заканамернасці рысунка, затым у бурныя гады грамадзянскай вайны трапляе спачатку ў студыю мастака Хатулёва, а потым у Вольныя мастацкія дзяржаўныя майстэрні.

Адкамандзіраваны з фронту ў Вышэйшую школу ваеннай маскіроўкі, крыху пазней, у 1920 годзе, ён трапляе, нарэшце, у Вышэйшыя мастацка-тэхнічныя майстэрю (ВХУТЕМАС), якія, аднак, яму адразу не ўдалося

---

[1] Полымя. 1927. № 2.

скончыць па прычыне самай празаічнай — трэба было зарабляць на хлеб. З 1921 года Філіповіч зноў у Менску, працуе выкладчыкам рысавання, а пазней — мастаком у Беларускім дзяржаўным музеі. Праца ў музеі, частыя экспедыцыі-вандроўкі па розных кутках Беларусі, засяроджванне ўвагі на народным і старажытным беларускім мастацтве — спрыяльна адбіліся на фарміраванні творчай індывідуальнасці Філшовіча. Ён многа і досыць паспяхова працуе, усё глыбей пранікаючы ў гістарычнае мінулае свайго народа, яго грамадскі і вытворчы быт, у нязмерны свет яго фантазіі шматфарбна адбіты ў казках, песнях, легендах, паданнях…

У 1925 годзе Народны камісарыят асветы БССР, улічваючы творчыя схільнасці Філіповіча, перспектыўнасць яго як мастака, накіроўвае маладога творцу ў Маскву для заканчэння адукацыі.

Перад тым як перайсці да разбору твораў Філіповіча, Шчакаціхін у сваім нарысе дае некалькі агульных азначэнняў творчай асобы мастака: «У творчасці Філіповіча мы знаходзім, — пісаў ён, — асаблівую цікавасць да сюжэта, асаблівую ўвагу яго абрання і належнай трактоўкі, адпаведнай узятаму зместу… Можна лічыць, што якраз тут Філіповіч упершыню знайшоў сам сябе як мастака выключна і цалкам беларускага, — не толькі сваім паходжаннем, нацыянальнай прыналежнасцю, а таксама ўсім ахопам сваёй мастацкай творчасці, кожным замыслам, кожным помазам пэндзля ці рыскаю алавіка». Шчакаціхін яшчэ так азначае творчасць здольнага мастака: «Ставячы сабе мэтай выяўленне жыццёвай праўды ў мастацкай творчасці, ён не звярнуўся да гэтай праўды як праўды наогул, але свядома абмежаваў сябе праўдай аб жыцці Беларусі, якая адна ў самых розных формах яе і праявах, асветлена з самых розных бакоў, стала адзінай нязменнай тэмай яго мастацтва…»

Трэцюю, галоўную чаетку нарыса «На шляхах да новага беларускага мастацтва» Шчакаціхін пачаў з акрэслення наяўнай, паводле яго погляду, у Філіповіча «сваёй уласнай індывідуальнай манеры пісьма і рысунка, а таксама пэўнай суцэльнасці свайго агульнага стылю».

Асноўную лінію мастацкай працы Філіповіча Шчакаціхін бачыў у паслядоўна рэалістычным рашэнні кампазіцыйных і выяўленчых праблем. Незавершанасць мастацкай школы ў Філіповіча часам дае сябе знаць «у адсутнасці належнае раўнавагі паміж асобных фармальных элементаў, перавазе толькі маляўнічага прынцыпу, у маладым захапленні гучнасцю разнастайных яскравых колераў». Практычна гэта ў асобных творах «выводзіць мастака з узятай асноўнай фарбавай гамы ў рознагалоссе рэзкіх каляровых дысанансаў». Аднак узрыў фарбаў ужо не быў характэрны для пазнейшых прац Філіповіча, што дало даследчыку повад спадзявацца на выпрацоўку мастаком больш строгай і гарманічнай манеры, ураўнаважанай ва ўсіх яе паасобных прыёмах. Трактоўка формы ў Філіповіча, на думку крытыка, ішла ад сінтэзу яе тыповых рыс, «абагульненых і зведзеных да нейкага монументалізаванага вобраза».

У графіцы Філіповіча Шчакаціхін адзначае перавагу ілюстрацыйнасці, аднак не адмаўляе яе пэўнай мастацкай выразнасці. Вось яго добра схо-

пленая мастацкая характа-рыстыка графічных лістоў Філіповіча: «Навокал асобных каляровых плям асабліва важнае значэнне набываюць граніцы абрысаў; яны падкрэсліваюцца звычайна чытэльнымі цвёрдымі контурамі, цікавай лініяй, пераважна ў вострых зломах, ухілах і перагібах, якая вядзе асноўную графічную мелодыю пад заглушаны акампанемент рытмічна размеркаваных у межах контураў фарб».

Кампазіцыі Філіповіча прама залежаць ад натуры, толькі ракурс падыходу да апошняй мастак бярэ з такім разлікам, каб асабліва, часам нават параболыыана, выявіць найбольш істотныя прадметы, рысы, зрабіўшы на іх не толькі кампазіцыйны, але і фармальна-тэхнічны акцэнт.

Урэшце, Шчакаціхін пераходзіць да тэматычнага аналізу твораў мастака, для чаго разглядае іх пасерыйна і па групах.

У захапленні Філіповіча бытавымі сцэнамі з сялянскага жыцця мастацтвазнаўца не бачыць і ценю сухога бяскрылага этнаграфізму. Аўтар прыгадвае памятных з Першай Усебеларускай мастацкай выстаўкі «Касцоў», што, залітыя заходзячым сонцам, вяртаюцца з працы. Далей называе «Кірмашовыя сцэны», вылучае ярка выпісаную манумен-тальную постаць дудара з аднайменнай карціны «Лірнікі на кірмашы». Трохі дэкаратыўна ў гэтых карцінах мастак «моваю сталай формы і гарачых фарбаў выявіў», паводле слоў Шчакаціхіна, знешняе аблічча старой Беларусі, «вернае ў сваім асноўным тоне і стушаванае ў дэталях». І гэта аблічча «ёсць часам нейкім абагульненым яе абліччам, злуч-насцю найболей тыповых яе фармальных рыс, знойдзеных у самых глыбінях традыцыйнага народнага бытавання», — падкрэсліваў вучоны. У карцінах Філіповіча «Веснавое свята», «На Купалле» Шчакаціхін знаходзіць добрае адчуванне даўняга быту тых часоў, калі, здавалася, «з самой глебы струменіліся жывыя крыніцы народнай творчасці», уменне каларытна і пераканаўча яго ўзнавіць, падкрэсліць паэтычнае у ім.

У пейзажах Філіповіча пераважалі гарадскія матывы. Удалым выбарам ракурсу (крыху зверху), адпаведнага асвятлення, часцей надвячоркавага, мастак ствараў цікавыя перспектывы вуліц Менска з усёй маляўнічасцю старой архітэктуры, з заміраючым у далечыні рытмам дахаў.

Глыбокае і стылістычна аформленае пачуццё старасвеччыны, уласцівае Філіповічу, бачыў Шчакаціхін у карціне «Менскі замак» і ў серыі яго твораў на тэму «Слова аб палку Ігаравым».

Вось як інтэрпрэтуе даследчык палатно «Менскі замак». Знішчаную ў пажары Вялікай Айчыннай вайны, сёння мы можам убачыць гэту карціну толькі вачыма Шчакаціхіна. «На фоне вячэрняга неба з зеленаватым адценнем водамі Свіслачы важкі драўляны масіў з магутным парканам і квадратнымі пахмурнымі вежамі знойдзены рэдка ўдала і сваімі архітэктурнымі, масамі і той агульнай сваёй старадаўняй стылёвасцю, якая з'яўляецца не столькі свядома выяўленай, як беспасрэдна адчутай».

Карціна «Бойка на Нямізе» напісана, згодна сведчанню Шчакаціхіна, «хоць эскізна, але энергічна, з шырокім размахам, з напружанай экспрэсіяй апошняй рашучай сутычкі старадаўніх багатыроў-асілкаў пад зеленаватым казачным небам, на фоне ліловых даляў, зніклых у сізым тумане».

Мастацкі крытык адзначае і гісторыка-мастацкую пераканаўчасць, дасягнутую праз стварэнне адпаведнага каларыту і трактоўку вобраза эскіза Філіповіча «Плач Яраслаўны».

Асобна разглядае Шчакаціхін творы Міхася Філіповіча, створаныя па матывах беларускай народнай вусна-паэтычнай спадчыны. У казачным эпасе, дзе шчыльна перапляліся рэальнае штодзённае жыццё і казачная фантастыка, мастак, як зазначаў Шчакаціхін, «умее ў адпаведных вобразах выявіць гэтыя падвойныя элементы ў кожным асобным сюжэце» Так рэальна-бытавое і фантастычнае, аргашчна схопленыя ў нейкім адзінстве, ярка выступаюць у графічных аркушах Філіповіча «Каваль-асілак», «Каваль і Цмок», «Паляшук і чорт», «Іван-прастачок», «Змей», «Адважны», «Сабака і воўк» і інш. Імкненне да народных вытокаў ва ўсім іх багацці і разнастайнасці, жаданне спасцігнуць і ўвасобіць у пластычных вобразах гістарычнае, псіхалагічнае, жыццёва-бытавое аблічча народа Шчакаціхін лічыў прынцыпова важным у пару станаўлення кожнага маладога нацыянальнага мастацтва.

Да агульначалавечага, інтэрнацыянальнага, агульнага праз адзінкавае, нацыянальнае. Ці не аб гэтым сведчыла культурная практыка ўсіх народаў, ці не пра гэта так пераканаўча заявілі сваёй геніяльнай творчасцю нарвежац Эдвард Грыг, паляк Фрэдэрык Шапэн, венгерац Ферэнц Ліст рускія Глінка, Мусаргскі?.. Ці не аб гэтым гаварыла эстэтычная рэвалюцыйна-дэмакратычная думка Чарнышэўскага і Дабралюбава? Вось чаму, вітаючы першы паспяховы крок Міхася Філіповіча на шляху пластычна-вобразнага выяўлення аблічна свайго народа, вучоны схільны быў бачыць у ім «не толькі асабісты крок на ўласным шляху, але таксама і першы поступ маладога мастацтва Беларусі ў тыя светлыя далі, якія ўжо мігцяць перад намі, залітыя яскравым сонцам нашай дасягнутай вольнасці».

У юбілейным, кастрычніцкім, нумары «Полымя» за 1927 год сярод іншых матэрыялаў, прысвечаных святочнай даце, быў змешчаны артыкул Шчакаціхіна «Беларускае мастацтва — да 10-гадовага юбілею Кастрычніка». 3 гістарыч-нага падыходу да агляду здабыткаў маладога мастацтва рэспублікі, аналізу перадумоў яго развіцця ў савецкі час пачы-наў мастацтвазнаўца сваю гаворку. «Векавы прыгон і здзек, — падкрэсліваў вучоны, — не маглі знішчыць адвечны мастацкі густ і творчую волю беларускага народа». Аднак патрэбны былі адпаведныя палітычна-сацыяльныя ўмовы, якія якраз і былі створаны пасля рэвалюцыі, каб быў магчымы сапраўдны росквіт мастацкай творчасці. Вучоны настойліва сцвярджае, што сэнс барацьбы за новую культуру ў Савецкай Беларусі не ў тым, каб «аздобіць англійскі фрак беларускім паяском», а стварыць сапраўды нацыянальнае па форме і змесце мастацтва, каб новы стыль «утварыўся, апрацаваўся арганічна ў працэсе заканамернага выяўлення рэвалюцыйных і нацыянальных элементаў у формах выяўленчага мастацтва».

Праблему беларускага мастацтва трэба ставіць і разглядаць у гістарычным разрэзе — настойваў вучоны. Іншы падыход вядзе да вузкага этнаграфізму або да заведамага растварэння нацыянальнага індывідуума, страты свайго аблічча, самапазбаўлення невычэрпных вытокаў народных асноў. Страта ве-

кавых традыцый — рэч небяспечная для мастацтва. Самае жыццядзейнае і перспектыўнае тое, што трывала абапіраецца на грунт народнага жыцця і ўвабрала ў сябе ўсе сокі зямлі, у якой вырастала. Яно развіваецца натуральна і прымае тыя адзіна ўласцівыя дадзенай з'яве пры дадзенай аснове формы, якія забяспечваюць і неаднадзённае прызнанне дома, і пэўнае месца сярод набыткаў агульначалавечай культуры. Азіраючы дзесяцігадовы шлях беларускага савецкага выяўленчага мастацтва, Шчакаціхін гаворыць аб той працы, якая праароблена па вывучэнні народных і гістарычных мастацкіх традыцый, аб задачы пашырэння навуковых ведаў, пра мастацкае мінулае і сучасныя здабыткі.

Гістарычнае мастацтва Беларусі Шчакаціхін лічыць «тым імпульсам, пад уплывам якога ў адпаведнай нацыянальнай мастацкай свядомасці ўзварушылася наша сучасная мастацкая творчасць, накіравалася ў пэўнае рэчышча і ўцягнула ў сябе маладыя мастацкія сілы, уліўшы ў працу іх жывы струмень патрэбнага творчага энтузіязму». Спачатку трэба было выявіць усе наяўныя мастацкія сілы і магчы-масці, потым аб'яднаць вакол «адзінага не ў фармальна мастацкім, а ў нацыянальна-рэвалюцыйным сэнсе напрамку».

Мабыць, найбольшы зрух у беларускім мастацтве да 10-гадовага юбілею Кастрычніка можна, на думку Шчакаціхіна, адзначыць у плане належнай пастаноўкі ў рэспубліцы спецыяльнай мастацкай адукацыі. Не будучы схільным перабольшваць значэнне Віцебскага мастацкага тэхнікума і ставячы пытанне аб заснаванні мастацкай вышэйшай навучальнай установы ў Беларусі, аўтар тым не менш аддае належнае тэхнікуму, як за пастаноўку працы, так і за падрыхтоўку кадраў — практыкаў мастацтва, якія павінны вызначыць заўтрашні дзень гэтага мастацтва. У гэтай сувязі Шчакаціхін усебакова раскрывае значэнне вышэйшай навучальнай установы, утворанай па тыпу інстытута ці мастацкай акадэміі, «бо наша сучаснае мастацкае жыццё, — гаворыць ён, — настойліва патрабуе належнага вырашэння пытання адносна вышэйшай мастацкай асветы ў БССР». Па-станоўку мастацкай асветы Шчакаціхін лічыў неабходным цесна ўвязаць з патрэбамі культурна-грамадскага жыцця, з ростам выдавецкай справы, тэатраў, клубаў і г. д.

Да значных дасягненняў адносіць Шчакаціхін і арганізацыю выставкі і заснаванне Усебеларускай асацыяцыі мастакоў. У выніку ўсіх гэтых зрухаў і змен беларускае мастацтва, паводле слоў тэарэтыка і практыка яго, можа «выступіць на грамадскай арэне больш-менш цвёрда арганізаванай адзінкай што ўжо паспела прынесці сваю карысць, напрыклад, цяпер, у сувязі з юбілеем Кастрычніка, у справе наладжвання Другой Усебеларускай мастацкай выстаўкі і ў арганізацыі шырокага беларускага аддзела на Усесаюзнай выстаўцы мастацтва нацыянальнасцей СССР у Маскве». Гэта, так сказаць, знешнія аспекты дасягненняў, якія, аднак, прадвызначаюць асноўнае. Разгляд жа пытанняў унутранага развіцця і росту беларускага мастацтва, яго фармальных напрамкаў, зместу і стылявой афармленасці крытык адносіць да часу адкрыцця абедзвюх названых выставак.

У заключэнне артыкула Шчакаціхін лічыць неабходным падкрэсліць, што «10-я гадавіна Кастрычніка знаходзіць наша выяўленчае мастацтва ў

перыядзе болын-менш ужо' скончанае арганізацыі, якая забяспечвае яму магчымасць далейшых дасягненняў на чыста творчым шляху».

Да 10-годдзя Кастрычніка беларуская савецкая навука (як і літаратура і тэатр) падыходзіла з непараўнальна боль-шымі дасягненнямі, чым выяўленчае мастацтва. Жыватворнае дыханне свабоды, прынесенай рэвалюцыяй, тут праявілася хутчэй, чым у іншых сферах духоўнага жыцця. Як прамы паказчык росту творчых сіл народа, як сімвал яго адраджэння, забруіла магутная крыніца думкі ва ўсіх галінах беларусазнаўства.

Старэйшыя гісторыкі, перамагаючы цяжар установак афіцыйнай буржуазна-дваранскай навукі, і маладыя, што складваліся як вучоныя ў гады рэвалюцыі і пасля яе, узнаўлялі праўдзівую карціну гістарычнага шляху, пройдзенага беларускім народам. Упершыню спрабавалі стварыць стройную, збудаваную на трывалым навуковым фундаменце канцэпцыю беларускай гісторыі. І не карыслівыя погляды ўладароў, палітычная выгада расійскай манархіі ці пыхлівай шляхетчыны, а кроўныя інтарэсы беларускага работніка і селяніна вызначалі яе змест і пафас. Упершыню гісторыя Беларусі пісалася не з пункту гледжання яе часовых уладароў, душыцеляў працоўнага люду, а з пазіцый яе спрадвечных насельнікаў, адзіназаконных спадчыннікаў-працаўнікоў, чые пот, слёзы і кроў зямля гэта так шчодра ўвабрала ў свае нетры.

Над эскізам праўдзівага гістарычнага мінулага Беларусі па нязмерна багатых архіўных крыніцах, якія рэвалюцыя зрабіла шырока даступнымі, працавалі У. Пічэта, М. Доўнар-Запольскі, З.Даўгяла, В. Друшчыц, А. Ясінскі, М. Любаўскі, Савіч, Ф. Турук, Я. Канчар, В. Шчарбакоў, К.Кернажыцкі, цэлая школа археолагаў — А. Ляўданскі, А. Каваленя, С. Дубінскі, К. Палікарповіч.

Ішло шырокае навуковае пазнанне мовы народа, якая станавілася магутным фактарам у культурна-нацыянальным і дзяржаўным будаўніцтве рэспублікі. Былі напісаны паасобныя курсы па асноўных раздзелах мовы: па фанетыцы марфалогіі, сінтаксісу. Была створана Камісія для ўкладання слоўніка жывой беларускай мовы, а таксама выйшлі адзін за другім руска-беларускі і беларуска-рускі слоўнікі С. Некрашэвіча і М. Байкова, аналагічныя слоўнікі М. Гарэцкага. Вясковы настаўнік М. Шатэрнік склаў «Краёвы слоўнік Чэрвеньшчыны», «Краёвы слоўнік Віцебшчыны» з дапамогай сельскай інтэлігенцыі склаў М. Касперовіч. Быў здадзены ў друк «Краёвы слоўнік Мазыршчыны» А. Крукоўскага. Рабіліся захады да выдання шматтомнага слоўніка Я. Ціхінскага. Залатыя россыпы роднага слова, любоўна сабраныя сыноўняй рукой, ачышчаныя ад пылу пагарды і занядбання, заззялі пераліванні вясёлкавых фарбаў, чароўна-зычных гукаў, зазіхацелі ў высокапаэтычных радках, натхнёных песнях невыказна шчодрым сваім хараством.

Устаноўка на шырокае выяўленне ўсіх моўных скарбаў Беларусі ў перыяд канчатковага складвання літаратурнай мовы, станаўлення ўсіх яе жанраў і стыляў мела неацэннае значэнне. Яна дазволіла 6 свядома адабраць усё лепшае, што мелася ў народных гаворках. Усебаковае вывучэнне гаворак, лексікі і фразеалогіі давала літаратуры і маладой навуцы натураль-

ную, арганічна вырасшую з народнай асновы, стылявую форму, арганічна ўласцівы мове сінтаксіс. Яшчэ не адышлі ад творчай працы класікі беларускага мо-вазнаўства Я. Карскі, П. Растаргуеў, а ўжо паспяхова браліся за даследаванне лінгвістычнай геаграфіі Беларусі, напісанне гісторыі беларускай мовы П. Бузук, Я. Воўк-Левановіч, А. Багдановіч і інш. У практычным мовазнаўстве шмат зрабіў Язэп Лёсік.

Бурную пару станаўлення перажывала літаратуразнаўства. Адначасова з М. Гарэцкім, які стварыў першую гісторыю беларускай літаратуры, гісторыю старажытнага яе перыяду напісаў М.Янчук. Трапнымі штрыхамі накідваў сілуэты творцаў літаратуры беларускага народа прафесар М.Піятуховіч Масціты даследчык рускай літаратуры І. Замоцін надзвычай паспяхова займаўся даследаваннем творчасці М. Багдановіча і драматургіі Я. Купалы. Яго метадычна-даследчы вопыт быў павучальны. Высокім літаратуразнаўчым узроўнем адзначалася праца А.Вазнясенскага.

Вывучалася эканамічная гісторыя Беларусі, былі напісаны першыя грунтоўныя даследаванні па яе фізічнай і эканамічнай геаграфіі перад усім А. Смолічам.

Урад Савецкай Беларусі праз саюзны ўрад яшчэ ў самым пачатку 20-х гадоў звярнуўся да суайчыннікаў з заклікам вярнуцца на радзіму і прыняць удзел у працы па ўздыме прадукцыйных вытворчых сіл і культуры рэспублікі. Сярод вучоных, што адгукнуліся на гэты заклік, быў і М.Бліадуха — першы адкрывальнік геалагічных багаццяў краю, пазней акадэмік, шырокавядомы даследчык.

Уздым беларускай савецкай навукі, літаратуры быў вы-ражэннем таго бурнага працэсу, які ахапіў усе сферы дзяржаўна-палітычнага і культурнанацыянальнага жыцця рэспублікі. Працэс гэты па меры развіцця вытворчагаспадарчых магчымасцей Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі, па меры прыходу да актыўнай грамадскай працы новых творчых сіл набіраў усё большы размах. Ён выразна сведчыў аб культурна-нацыянальнай кансалідацыі — аб складванні беларускай савецкай нацыі.

У пільнай справе навуковага пазнання Беларусі, дапамогі выяўлення творчых сіл народа адно з актыўных месц у другой палавіне 20-х гадоў займаў Мікола Шчакаціхін. Прынамсі, у галіне, у якой ён працаваў, Беларусь таго часу не мела больш пладавітага і больш самаадданага працаўніка. К 1927 году Шчакаціхін даў сінтэз свайго бачання інляхоў і напрамку развіцця мастацкіх форм у Беларусі. У артыкуле «Беларускае мастацтва» мы бачым канчаткова афармлены погляд даследчыка на гісторыю беларускага мастацтва — пераканаўчую перыядызацыю, асноўныя галіны, галоўныя вехі яго развіцця, стылістычную спецыфіку…[1]

Змест артыкула коратка ў наступным. Ужо ў дафеадальную эпоху, нягледзячы на перавагу прывазных вырабаў, якія давалі шматлікія сувязі з Усходам і Захадам, на тэрыторыі цяперашняй Беларусі самыя старажытныя мастацкія формы (прылады працы, начынне, прадметы аздо-

---

[1] Большая Советская Энциклопедия. М. 1927. Т. 5.

бы) адлюстроўваюць не толькі надзвычай складаны комплекс пабочных уплываў, але і пэўную самастойнасць. Узнікненне на цяперашняй беларускай тэрыторыі першых асяродкаў культуры ў Полацку, Віцебску і іншых гарадах дало каменную архітэктуру. Нягледзячы на візантыйскую аснову, стылявыя формы яе былі ў новых умовах некалькі перапрацаваны і набылі новыя адзнакі. Шасцiслупная, аднаапсідная канструкцыя — тыповая схема і рыса віцебска-полацкага старажытнага будаўніцтва. З XIII стагоддзя ў сувязі з наступам на беларускія землі крыжакоў узнікла замкавае будаўніцтва, прадстаўленае помнікамі ў Навагрудку, Крэве Лідзе, Гродна і інш. У стылявых адносінах гэта ваеннае дойлідства характарызавалася на першым часе ўспрыняц-цем готыкі, а пазней уплывам італьянскай архітэктуры эпохі Адраджэння. І тыя і другія былі грунтоўна зменены на беларускай глебе і атрымлівалі часам даволі самастойнае архі-тэктурнае аблічча[1]. Найбольшай мастацкай выразнасці і стылявой незалежнасці дасягнула беларуская архітэктура ў канцы XV — пачатку XVI стагоддзяў у познеготычных тыпах царкоўна-абарончых пабудоў Сынкавічаў, Малога Мажэйкава і Супрасля.

У XVII—XVIII стагоддзях у Беларусі быў вельмі пашыраны «тып двухвежавай базілікавай пабудовы з трансепам або без яго, у адзін ці тры нефы». Тая ж эпоха пакінула многа драўляных цэркваў з арыіінальнымі сістэмамі перакрыцця (трохскатныя, шатровыя, купальныя). Старажытны жывапіс на сучаснай беларускай тэрыторыі вядомы з XII стагоддзя. Элементы акрэсленай школы можна заўважыць ужо ў фрэскавых роспісах XIV—XV стагоддзяў, выкананых беларускімі майстрамі ў Кракаве, Любліне, Сандаміры ў сувязі з узыходам літоўскіх князёў на польскі трон.

Майстры гэтыя прынеслі з сабой у Полыычу ўжо выпрацаваныя на ўсходняй аснове жывапісныя прыёмы. Пэўная свабода пры трактоўцы сюжэтаў характэрна і для роспісаў Благавешчанскай царквы ў Супраслі (сярэдзіна XVI ст.).

Асабліва выразна, паводле меркаванняў Шчакаціхіна, рысы гэтай адасобленай школы выступаюць у шматлікіх помніках беларускага іканапісу XVII—XVIII стагоддзяў, цэнтрамі якой з'явіліся найболыы значныя гарады ўсходняй Беларусі (Віцебск, Магілёў, Слуцк), дзе, ёсць меркаванні, існавалі малярскія цэхі на ўзор цэхаў заходнееўрапейскіх гарадоў, чаму, безумоўна, спрыяла магдэбургскае права. У форме, тэхніцы тут назіраецца «рашучы адыход ад візантыйскіх прататыпаў з прыватным набліжэннем да некаторых заходнееўрапейскіх школ, з паступовым вызваленнем ад традыцыйных іканапісных канонаў». Заўважаецца таксама ухіл у бок жывапіснага натуралізму або дэкаратыўнай стылізацыі, што збліжае беларускі іканапіс з украінскім.

Ведала Беларусь і захавала часткова да апошніх часоў багатую разьбу па дрэве, скульптуру як дэкаратыунага, так і станковага характару. Беларуская разьба, якая склалася на асйове арнаментыкі рэнесансу і барока, дзякуючы

[1] Некаторыя мастацтвазнаўцы не пагаджаюцца з гэтым тэзісам Шчакаціхіна. Аднак для таго, каб канчаткова высветліць такое складанае пытанне, патрэбны далейшыя даследаванні.

самастойнай кампазіцыйнай апрацоўцы к сярэдзіне XVII стагод-дзя цалкам аформілася як самастойны від мастацтва і аказала ўплыў на дэкаратыўнае мастацтва Маскоўскай дзяржавы.

Гравюра на дрэве ў сярэднія вякі займала выдатнае месца сярод іншых галін мастацтва на Беларусі. Росквіт яе быў звязаны з развіццём кнігадрукавання. Ксілаграфія ў пэўнай ступені аказала ўплыў і на царкоўны жывапіс.

Сярод твораў прыкладнога мастацтва Шчакаціхін называе ювелірныя вырабы спецыяльных цэхаў Магілёва і іншых гарадоў, вырабы ядвабных, шаўковых, тканін (слуцкія паясы).

У сваім гістарычным аглядзе мастацтвазнаўца некалькі няправільна ўбачыў мастацкае развіццё Беларусі з канца XVIII стагоддзя, лічачы, што царскі рэжым сваім казённа-бюракратычным прэсам задушыў тут усе праявы самастойнай мастацкай думкі, навязваючы свой псеўдакласічны стыль — мёртвы стандарт у будаўніцтве.

Гаворачы аб адраджэнні маладой мастацкай творчасці пасля рэвалюцыі, Шчакаціхін зазначыў, што практыкі-творцы шукаюць шляхоў да афармлення мастацкага нацыянальнага стылю, непасрэдна набліжаюцца да задач, якія ставяць перад імі патрэбы культурнага будаўніцтва Беларускай рэспублікі.

У асноўным тыя ж палажэнні, што і ў Вялікай Савецкай Энцыклапедыі, толькі крыху больш разгорнута і з экспрэсіяй развіваў вучоны і ў артыкуле «Беларускае выяўленчае мастацтва», змешчаным у выданні Беларускага таварыства культурнай сувязі з заграніцай[1]. Праўда, у апошнім быў большы акцэнт на агульны стан беларускага савецкага мас-тацтва, яго арганізацыю.

Сведчаннем жывой увагі беларускага даследчыка да мастацкага жыцця ўсёй Савецкай краіны з'яўляецца яго артыкул «Народнае мастацтва ў Савецкім Саюзе». Ён напісаны пад уражаннем наведвання ў Маскве выстаўкі «Мастацтва народаў СССР», якую арганізаваў аддзел, створаны пры Дзяржаўнай акадэміі мастацкіх навук пад кіраўніцтвам Якава Тугендхольда.

Зразумела, на сённяшні дзень нават у плане вывучэння творчай дзейнасці Шчакаціхіна агляд зробленых ім у артыкуле мастацкіх вырабаў рускіх народных умельцаў, украінскіх, армянскіх, узбекскіх, татарскіх майстроў дываноу ка рункаў, народнай разьбы, роспісаў наўрад ці мае якое-небудзь значэнне. Аднак некаторыя пытанні, узнятыя па ходзе агляду, бясспрэчна, прадстаўляюць пэўную агульна-тэарэтычную цікавасць, практычны сэнс і заслугоўваюць увагі.

Шчакаціхін, напрыклад, адзначае, што ў працэсе станаўлення мастацкай творчасці разняволеных рэвалюцыяй народаў былой царскай імперыі народнае мастацтва іх з'явілася той «асновай, тымі падвалінамі нацыянальнага мастацтва, з якіх у цяперашні час вырастаюць магутныя муры новае артыстычнае творчасці вольных народаўшляхам удасканаленае інтэрпрэтацыі народ-

1 Белорусская культура. Мн., 1928. Т. 1.

ных стылістычных форм у індывідуальнай дзейнасці паасобных майстроў». Адсюль яго заключэнне адносна правільнага накіравання і арганізацыі форм і галін народнага мастацтва да развіцця арцельнага кааперацыйнага спосабу працы на базе мастацкіх школ. Рэзка адмоўна рэагуючы на ўсякую падробку пад народны стыль, беларускі мастацтвазнаўца стаіць за развіццё народных традыцый з ўлікам новых умоў жыцця, яго патрэб, адпаведна з мастацкімі задачамі кожнай нацыянальнай культуры.

Што датычыцца беларускага народнага мастацтва, то Шчакаціхін лічыў: «…асновы яго застаюцца і да цяперашняга глыбока традыцыйнымі і надзвычайна сталымі». Гэтаму садзейнічала тая акалічнасць, што народнае мастацтва цалкам знаходзілася ў стадыі хатняга вырабу і не набывала, як на Украіне ці ў Расіі і іншых краях, прамысловага характару. Вучоны са шкадаваннем канстатуе, што і ў апошні час у нас нічога не зроблена для таго, каб неяк накіроўваць развіццё народна-мастацкіх форм, разумна іх выкарыстоўваць.

У заключэнне свайго артыкула аб мастацтве народаў СССР Шчакаціхін спыняецца на некаторых асаблівасцях беларускага народнага ткацтва і гафтавання, аналізуе, як дасягаецца высокая гармонія форм арнаментыкі і каляровага рашэння яе. Не абмінае ўвагай ён таксама і разьбы па дрэве і керамікі, якая, згодна з заўвагай Шчакаціхіна, у адрозненне ад іншых народна-мастацкіх формаў на Беларусі мае саматужна-прамысловы характар і спосаб вытворчасці.

Дзесь ужо пасля заканчэння ў рукапісе другога дапоўненага і ўдакладненага ў даталях варыянта «Нарысаў з гісторыі беларускага мастацтва» амаль на трох друкаваных аркушах Шчакаціхін апублікаваў бібліяграфічны агляд літаратуры, якая ў той ці іншай ступені адносілася да беларускай мастацкай гісторыі. Публікуючы «Беларускае мастацтва ў гістарычнай і археалагічнай літаратуры», вучоны паводле яго слоў, ставіў на мэце садзейнічаць арыенціроўцы зацікаўленых чытачоў у матэрыяле прадмета гісторыі беларускай мастацкай культуры, назапашаным на працягу XIX і пачатку XX стагоддзяў. Фактычна ж Шчакаціхін меў унутраную патрэбу выказаць свае асабістыя адносіны да ўсіх тых прац, што закраналі ці прама адносіліся да паасобных момантаў беларускага мастацтва. Беларускі вучоны робіць агляд прац рускіх, польскіх і нямецкіх даследчыкаў А. Спіцына, В. Сізова, А. Паўлінава, М. Шароцкага, П. Пакрышкіна, І. Хозерава, І.Крашэўскага, А. Шышкі-Богуша, М. Сакалоўскага, П. Вэбера і іншых, ацэньвае іх навуковую і фактaлагічную вартасць, звяртае ўвагу на тэндэнцыі. Агляд літаратуры вядзецца храналагічна па гістарычных этапах мастацкага развіцця Беларусі і па відах яго.

Бібліяграфічны нарыс Шчакаціхіна, цікавы з метадала-гічнага боку, мае таксама шкавасць і з пункту гледжання выражэння ў ім поглядаў вучонага на паасобныя этапы, гістарычныя моманты і формы беларускага мастацтва. Так, напрыклад, істотнай з’яўляецца яго заўвага адносна таго, як выкарыстоўваць пры вывучэнні разбураных, знішчаных помнікаў архітэктуры старажытныя планы і чарцяжы горада. Гэта асабліва важна для вывучэння стара-

жытнай драўлянай архітэктуры, як больш падлеглай знішчэнню пажарам, архітэктуры, якая ў беларускіх умовах мела асаблівае значэнне з прычыны вырастання яе цалкам на аснове мяс-цовых будаўнічых традыцый.

У нарысе знаходзім і абгрунтаванне перыядызацыі гіс-торыі беларускага мастацтва. Вось што пісаў даследчык адносна азначэння першапачатковага этапу развіцця мастацкай культуры на тэрыторыі Беларусі: «Першым перыядам развіцця беларускага мастацтва ў тэрытарыяльным сэнсе мы можам лічыць археалагічную эпоху, пачынаючы з неаліту, калі ў вырабах ужо з'яўляюцца элементы арнаментыкі, і да канца так званага кургановага перыяду, г. зн. прыблізна да X—XI стст., прычым умоўна мы можам, як нам здаецца, ужо і ў гэты час казаць аб этнаграфічна беларускім мастацтве, паколькі ў большасці прадметы гэтага часу характарызуюць культуру тых славянскіх плямёнаў, якія з'яўляюцца продкамі сучасных беларусаў».

Маюць цікавасць таксама і паасобныя беглыя заўвагі Шчакаціхіна, якія датычаць асобных момантаў беларускай мастацкай гісторыі і ўзняты ў працэсе разбору літаратуры. У плане глыбейшага пазнання творчай біяграфіі таленавітага беларускага вучонага набываюць значэнне тыя мясціны з яго працы, адкуль відаць, які іменна момант з гісторыі беларускага мастацтва найболып займае яго на дадзеным этапе, над чым ён працуе. Гэта важна асабліва таму што вучонаму воляй зменлівага лёсу не ўдалося здзейсніць шмат чаго са сваіх шырока задуманых планаў, а з напісанага — не ўсё паспець апублікаваць. Так, будучы даследчык творчай спадчыны Міколы Шчакаціхіна з жалем можа зазначыць сабе з артыкула «Беларускае мастацтва ў гістарычнай і археалагічнай літаратуры», што разьба, гравюра, ювелірныя вырабы, ткацкая вытворчасць XVIII стагоддзя былі ў другой палавіне 20-х гадоў «прадметам асабліва ўважлівага вывучэння» беларускага вучонага.

Нельга абысці маўчаннем і таго факта, што якраз у гэтым артыкуле, у якім разглядалася навуковая літаратура, Шчакаціхін даваў часам і даволі разгорнутыя старонкі свайго бачання гісторыі мастацтва, якія пазней пад яго пяром маглі перарасці і, напэўна, перараслі б у спецыяльныя даследаванні. Сказанае датычыцца працы старабеларускіх мастакоў-жывапісцаў часоў Ягайлы, пашырэння ў сувязі з далучэннем часткі ўсходняй Беларусі да Маскоўскай дзяржавы ў гэтай апошняй беларускай разьбы, гісторыі слуцкай ткацкай фабрыкі і інш. Аўтар доказна, з гістарычнымі фактамі ў руках, грунтоўным мастацкім аналізам аспрэчвае тыя ці іншыя палажэнні, вывады сваіх папярэднікаў, працы якіх былі аб'ектам уважлівага вывучэння Шчакаціхіна.

Яшчэ ў 1926 годзе па ініцыятыве Міколы Шчакаціхіна была створана Камісія па гісторыі мастацтва. У ёй беларускі мастацтвазнаўца імкнуўся згуртаваць навуковыя сілы рэспублікі, здольныя рухаць наперад справу выяўленчага мастацтва Зыходзячы з сваёй канцэпцыі, вучоны лічыў, што спачатку неабходна падвесці пад мастацкую працу трывалы грунт. Трэба было забяспечыць нацыянальнаму мастацтву сталую апору на сапраўдныя яго традыцыі і, значыць, скараціць шлях да паспяховага развіцця ў натуральна ўласцівых эстэтычнаму светаўспрыманню народа формах яго ма-

стацкага патэнцыялу. Гэта б садзейнічала больш хуткаму творчаму росту мастацкіх сіл, павышэнню іх ролі ў жыцці народа і ў канчатковым выніку прадвызначыла б значнасць і арыгінальнасць укладу беларускага мастацкага генія ў сусветна-культурную скарбніцу.

Выдадзены ў 1928 годзе першы том прац Камісіі па гісторыі мастацтва дае ўяўленне і аб коле людзей, што пачалі навукова ўзнімаць справу беларускага выяўленчага мастацтва, і канкрэтна аб тых пытаннях, на якіх яны на першым часе засяродзілі сваю ўвагу.

Камісія па гісторыі мастацтва паклікала да працы ўсіх тых, хто мог быць карысным пры вырашэнні пастаўленых самім часам задач. У свой склад яна ўключыла і вядомых гісторыкаў-беларусазнаўцаў, і творцаў-мастакоў, і знаўцаў беларускіх старадаўнасцей, што працавалі на перыферыі, і тых рускіх вучоных, якія сваімі навуковымі інтарэсамі былі так ці інакш звязаны з Беларуссю, з яе мастацтвам. Усяго Камісія налічвала 20 членаўсупрацоўнікаў. За старшынёю ў ёй быў Мікола Шчакаціхін, за сакратара — Алесь Шлюбскі. На працягу 1926/27 акадэмічнага года Камісія па гісторыі мастацтва збіралася 11 разоў на пасяджэнні і членамі яе былі прачытаны даклады па каменнай архітэктуры раннефеадальнай пары, па старажытным жывапісе XII— XVIII стагоддзяў, па драўлянай старажытнай архітэктуры, па набойцы і эксліебрысе і інш.

На большасці пасяджэнняў Камісіі за гэты год з дакладамі і навуковымі паведамленнямі выступаў і Мікола Шчакаціхін. Гэта была ўлюбёная яго дзялянка працы, яго стыхія. Некаторыя з дакладаў з'яўляліся не чым іншым, як эскізамі будучых нарысаў па гісторыі беларускага мастацтва. Іншыя насілі форму кароткіх паведамленняў аб выніках экспедыцыйнага даследавання, архіўных росшукаў. Такім, напрыклад, быў даклад Шчакаціхіна, зроблены ім у форме нататак пад назвай «Рыгор Мядзвецкі —невядомы беларускі маляр канца XVIII ст. ». Мастацтвазнаўцу трапіліся факты, звязаныя з працай Мядзвецкага ў справах так званага архіва уніяцкіх мітраполіяў у Ленінградзе. Скупыя дакументальныя звесткі занепакоілі творчае ўяўленне даследчыка. Ад архіўных сховішчаў ён скіраваўся проста на Магілёўшчыну, дзе жыў і працаваў Мядзвецкі. На жаль, вучонага чакаў толькі частковы поспех. Час няўмольна знішчыў шматлікія працы Мядзвецкага, іншыя яго іконы былі перапісаны пазнейшымі мастакамі. У старых цэрквах вучоны заспеў толькі крыху яшчэ новых дакументальных сведчанняў пра Мядзвецкага і сёе-тое даведаўся ўжо па часе аб лёс« паасобных твораў гэтага вельмі цікавага па жывапіснай манеры мастака. На аснове абмежаванага, але па-мастацку выразнага матэрыялу Шчакаціхін адзначыў «асобны артыстычны [мастацкі. — А.Л.] твар» магілёўскага жыаапісца XVIII стагоддзя. Рысамі, якія вызначаюць творчую індывідуальнасць Мядзвецкага, даследчык называе «замілаванне да асабліва стрыманае і цьмянае каляровае гамы, дакладнасць рысунка і пластычнай трактоўкі, выразную тонкасць пісьма і дэталізаванасць яго…».

Абмінём тут даклады Шчакаціхіна аб старабеларускім дойлідстве (яны складуць прадмет асобнай размовы ў сувязі з разглядам «Нарысаў з гісторыі

беларускага мастацтва») і затрымаемся хіба на змешчаным у 1-м сшытку першага тома прац Камісіі даследаванні яго, прысвечаным помнікам старажытнай Менскай архітэктуры. У пачатку свайго нарыса мастацтвазнаўца вымушаны быў зазначыць, што Менск ніколі, мабыць, не меў значэння вельмі выдатнага асяродку ў гістарычным развіцці беларускай архітэктуры. Эпоха XII стагоддзя, з якой звязваюцца ў навуцы пачаткі каменнага дойлідства на тэрыторыі Беларусі, «мела тут іншыя вогнішчы будаўнічай культуры». «Тая самая плынь пачатковай беларуска-візантыйскай архітэктуры, якая, узняўшыся ў Віцебску, Полацку, дакацілася, — як піша Шчакаціхін, — з Наддзвіння да Горадні, дзе выплеснула на высокі бераг Нёмана манументальны масіў Каложскае царквы», Менск абышла. Тут вучоны, трэба сказаць, пры ўсёй яго звычайнай асцярожнасці ў трактоўцы складаных пы-танняў мастацкага мінулага, у дачыненні да самай старажытнай архітэктуры Менска залішне катэгарычны ў сцверджаннях. Мы маем на ўвазе яго тэзіс адносна адсутнасці ў Менску ў раннефеадальны перыяд каменнага будаўніцтва.

Як паказалі археалагічныя раскопкі апошніх год, на старажытным Менскім замчышчы яшчэ ў XI стагоддзі была закладзена арыгінальнага, пакуль што нідзе не вядомага архітэктурнага тыпу царква. У прынцыпе, гэта, аднак, хоць бы з-за поўнай адсутнасці матэрыялу, не змяняе агульнай канцэпцыі старажытнай Менскай архітэктуры, якую даў Шчакаціхін.

На аснове гістарычных крыніц вучоны высоўвае тэзіс аб тым, што ўключна па XVIII стагоддзе Менск заставаўся драўляным горадам, у чым і можна шукаць прычыну адсутнасці ў ім архітэктурных помнікаў больш ранніх часоў. Толькі пасля вялікага пажару ў 1694 годзе ў горадзе пачало пашырацца каменнае будаўніцтва.

Зірнуўшы вачыма мастака на архітэктурны пейзаж Менска 20-х гадоў, Шчакаціхін вылучае ў ім паасобныя па-мастацку закончаныя рысы, ансамблі, некалькі прыгожых архітэктурных груп, у якіх пануе «пэўная стылістычная суцальнасць». Мастацтвазнаўца называе некалькі «назіральных пунктаў», з якіх найлепей адкрываецца вачам архітэктурнае аблічча горада, яго самыя выразныя рысы.

«Найлепшыя архітэктурныя краявіды, — пісаў Шчакаціхін, — разгортваюцца перад вашымі вачыма, калі глядзець на будынкі так званага Высокага рынку (каля цяперашняга пляца Волі) з боку Траецкае гары або з некаторых пунктаў каля Юбілейнага пляца: над зграмаджэннем стракатых рознакаляровых дахаў, збітых у кучу ў нейкай сярэднявечнай маляўнічай бессістэмнасці, на светлым фоне неба чытэльна вырэзваюцца важкія масівы старадаўніх муроў і строгія падвойныя вежы касцёлаў, абрысаваныя лёгкімі і стройнымі сілуэтамі. Крыху меншае, але не меней інтэнсіўнае ўражанне робяць тыя ж будынкі ў выпадковых ракурсах з некаторых вузенькіх вулачак Старога места ў раёне Нізкага рынку, калі нечакана за якім-колечы стромкім заваротам, над брудна-чырвонымі, часта напаўзруйнаванымі плямістымі мурамі старых дамоў раптам уздымуцца нейкія магутныя вежы, зніклыя ў сівым тумане або спавітыя празрыстым вэлюмам дажджу, у вострым і рэзкім кантрасце сваіх гарманічна ўраўнаважаных ліній з трывож-

най і сумнай070 рознагалосіцай бліжэйшых пахмурных і бедных будынкаў». Бясспрэчна, словы гэтыя маглі сарвацца з вуснаў чалавека, за-каханага ў свой горад, гісторыка, мастацтвазнаўца.

Але вернемся да архітэктурнага мінулага горада, ад якога амаль нічога не засталося і аб якім расказвае нарыс Шчакаціхіна. Вылучыўшы асобныя архітэктурныя групы старога Менска, вучоны спачатку дае агульнае іх апісанне, характарыстыку.

Архітэктурны ансамбль пляца Волі, або плошчы Свабоды, як сёння называюць яго, першым спыніў на сабе ўвагу мастацтвазнаўцы. Арганізуючы дойлідны пачатак, гарманічная завяршальная лінія будынкаў вакол плошчы рабіла яркі архітэктурны эфект.

Грунтоўны разбор вучоны пачаў з менш значных па мастацкай выразнасці і асабліва па іх аўтахтонным паходжанні помнікаў, кіруючыся храналагічным прынцыпам. У гэтым плане, хоць Шчакаціхін і вельмі ўважліва ставіцца да генезісу стылю і самога ўзнікнення Дамініканскага касцёла і Бернардынскага кляштара, да мастацкага аналізу гэтых помнікаў барока XVII стагоддзя, падкрэслівае, аднак, што «гэты тып ёсць вынікам беспасрэднага пераносу яго з-за рубяжа на беларускі грунт, што ў Вільні магло быць справаю беспасрэдна італьянскіх майстроў, у Менску ж, магчыма, вынікам віленскага ўплыву, паколькі менскія дамініканцы… былі пераведзены ласне з Вільні».

Творчае ўяўленне даследчыка глыбей захапіў архітэктурны помнік, які і сёння з’яўляецца арганічнай дэталлю менскага пейзажу у раёне пр. Машэрава, — Кафедральны сабор. Шчакаціхін даў яскравы аналіз гэтага, на яго думку характэрнага для архітэктуры ўсёй Беларусі XVII—XVIII стагоддзяў двухвежавага будынка барочнага тыпу. Возьмем два моманты з яго, якія лішні раз сведчаць аб тым, як свабодна развіваў мастацтвазнаўца сваю думку, з якой раскошай нюансаў і моўна-стылявой формы. «Дольняя палова фасада служыць тут як быццам толькі асновай, з якой расце стылістычна аформленая верхавіна ва ўсім багацці свае чы-тэльнае і лёгкае формы. Гэтая рыса з’яўляецца асабліва тыповай як у даным будынку, так і наогул, бо яна адбівае, з нашага погляду, найболей характэрныя тэндэнцыі беларускага царкоўнага і касцёльнага барока, якое зрабіла сабе як быццам пэўную сталую традыцыю ласне з аналагічнага двухвежавага будынка, і большую частку свае ўвагі звычайна і накіроўвала на лепшае стылістычнае выяўленне гэтай традыцыйнай двухвежавасці, што да таго ж давала магчымасць, не захапляючыся дэталямі, даваць найлепшыя і найбольш суцэльныя, чыста фармальныя эфекты, пабудаваныя на суадносінах чытэльных ліній і ясных контураў».

З яшчэ большай экспрэсіяй падае Шчакаціхін знешнюю мастацкую апрацоўку касцёла. «Адразу за строгай гарызантальнай лініяй горняга гзымсу [карніза.— А. Л.], які аддзяляе ўжо частку фасада ад дольняй, распачынаецца лёгкае хваляванне і рух усіх асноўных архітэктурных ліній, дзе вертыкалі пілястраў ёсць толькі выходны пункт для гэтай гарманічна ажыўленай кампазіцыі. Прыгожа выгнуты верх франтона, выпрастаўшыся на хвіліну у адразу ж ізноў пераходзіць у адходныя выгшы сваіх бакавых

спадаў. З абодвух бакоў тут нанава вырастаюць пілястравыя вертыкалі, — але толькі для таго, каб разбіцца у загібістых, моцных лініях гзымсаў, якімі канчаюцца першыя ярусы ў бакавых вежах.

Далей ізноў — хвалевыя вертыкалі ў рагох другіх ярусаў, але між іх празрыстыя разворы, згары закругленыя аркі, над імі нанава яшчэ болей дынамічныя, моцна дыферынцаваныя гзымсы, злітыя з раздробленымі формамі пілястравых капітэлей. Гэта стварае ў вежах нейкую асаблівую лёгкасць другіх паверхаў, пачынаючы з якіх ужо канчаткова знікаюць простыя лініі і вежы моцна выносяцца ўгару прыгожымі высокімі перакрыццямі, цалкам ужо барочнымі па сваіх формах, але шмат у чым яшчэ поўным і чыста гатычнага імпэту і напружанага, моцнага ўздыму, які нібыта выпраменьвае з сябе ўвесь фасад, для якога ўвесь ён з'яўляецца як бы падрыхтоўкай у паслядоўным, лагічна разгорнутым нарастанні свайго фармальнага зместу ад нерухомай статыкі масіўнае базы да энергічнае дынамікі лёгкага верху». Разважанні аб эвалюцыі падобнага тыпу будовы Шчакаціхін заканчвае вывадам аб тым, што двухвежавыя барочныя і пазнейшыя будынкі «могуць лічыцца для Беларусі найболей характэрнымі і складаюць цікавую асаблівасць гарадское яе архітэктуры ў цягу досыць доўгага часу».

Гіпотэза эвалюцыі архітэктурных канструкцый разгледжанага тыпу, выказаная Шчакаціхіным на аснове беларускага матэрыялу, заслугоўвае ўвагі і падтрымкі. Яна яшчэ раз сведчыць, як цэльна ўяўлялася вучонаму асноўная лінія архітэктурнага развіцця на Беларусі, як складвалася ў яго канцэпцыя гісторыі беларускага дойлідства ў прыватнасці і мастацтва наогул.

Схема гэтай бачанай гісторыкам мастацтва эвалюцыі выглядала наступным чынам. У канцы XV і першай палавіне XVI стагоддзяў у Беларусі пад уплывам замкавага будаўніцтва адбываўся і цікавы працэс утварэння царкоўных гатычных канструкцый. Магчыма, рэлігійная барацьба вымушала ставіцца да культавай архітэктуры з тымі ж вымаганнямі, што і да абарончай. Спачатку культавыя абарончыя збудаванні мелі дзве вежы, потым узнік чатырохвежавы царкоўны тып, некалькі класічных узораў якога (у Сынкавічах, Малым Мажэйкаве) захоўваюцца па сённяшні дзень. Пазней з адпадзеннем патрэбы ў абароне канструкцыя куль-тавай пабудовы зноў вярнулася да двухвежавага тыпу, пры-тым двухвежавасць пачала адыгрьгоаць болын дэкаратыўную, у асноўным стылявую ролю. Карацей кажучы, эвалюцыя ішла ад двухвежавай готыкі да двухвежавай базілікі.

Нейкую аналогію архітэктурных традыцый Бернардынскага касцёла бачыць Шчакаціхін у Жоўтай, або Кацярынінскай царкве, гісторыю пабудовы якой на аснове дакументаў са «Збору старажытных грамат і актаў гарадоў Менскай губерні» падрабязна высвятляе. Будынак жа царквы неаднаразова перабудоўваўся і рамантаваўся, і даследчыку прыйшлося карпатліва ўстанаўліваць першасны варыянт яго.

З іншых Менскіх старажытнасцей XVII стагоддэя вучоны спыніўся на апісанні масіўнага будынка, размешчанага на так званым Школьным двары, і дамка Сапегі на Камуністычнай, былой Юр'еўскай вуліцы. І ўжо як на помніку які выявіў пэўныя, акрэсленыя тэндэнцыі беларускага

архітэктурнага будаўніцтва XVIII стагоддзя, засяродзіў увагу Шчакаціхін у сваім нарысе на Кафедральным касцёле і яго прыбудове. Кафедральны касцёл з кляштарам і Гадзіннікавай вежай склацалі адзін з важнейшых архітэктурна арганізуючых ансамбляў плошчы Свабоды. Мастацтвазнаўца знаходзіць у аснове канструкцыі помніка трохнефную базіліку, якую аздабляюць дзве масіўныя вежы на галоўным фасадзе. Агульны характар канструкцыі гаворыць аб непасрэдным працягу ў ёй архітэктурнай традыцыі XVII стагоддзя, аб аналогіі з архітэктурнымі тыпамі мінулага, хоць усе формы тут выступаюць ужо больш дэталізавана, болей разлічаны на пластычны эфект.

Не спыняючыся на падрабязным апісанні канструкцыі і знадворнага выгляду «Катэдры», якое, як звычайна ў Шчакаціхіна, дае вычарпальнае ўяўленне аб архітэктурным аб-ліччы помніка, возьмем толькі паасобныя штрыхі з аналізу, адзін-два моманты яго. «Ранейшае барока замянілася тут значна болей стрыманымі і спакойнымі суадносінамі, толькі ў некаторых месцах яшчэ захаваліся тут як бы зыпадковыя барочныя лініі, агульная ж схема перайшла ў манументальную аснову з просталінейных абрысаў, з амаль што класіч-ным падзелам па строгіх вертыкалях і гарызанталях».

Услед за разглядам Кафедральнага касцёла Шчакаціхін даў сціслы і выразны аналіз Гадзіннікавай вежы — аднаго з найцікавейшых помнікаў позняга барока ў Беларусі, які таксама тварыў архітэктурны ансамбль плошчы Свабоды. Што да грамадскага дойлідства XVIII стагоддзя, то ву-чоны ацаніў яго некалькі агульна і таму не зусім дакладна. Беручы пад увагу тое, што з канца XVIII стагоддзя выйшлі спецыяльныя губернатарскія загады, згодна з якімі у беларускіх гарадах новыя збудаванні і перабудова не маглі праходзіць без «папярэдняй цэнзуры», Шчакашхш заключыў, што беларуская архітэктура гэтага часу была пазбаўлена ўсякай самастойнасці, мясцовых адзнак. Не бачыў даследчык зыходзячы з агульных пастулатаў, нічога беларускага і ў сядзібах мясцовых землеўласнікаў, якія даўно дэнацыяналізаваліся і намагаліся збудаваць свае гасподы на польскі манер, што фактычна вяло ў большасці выпадкаў да механічнага капіравання праз польскае італьянскіх узораў.

Як паказала даследчая праца пазнейшых савецкіх мастацтвазнаўцаў, і ў прыватнасці Уладзіміра Чантурыі[1], гэта не зусім так. З помнікаў грамадскага будаўніцтва XVIII стагоддзя Шчакаціхін разглядае сем будынкаў. Пры гэтым ён не надае ім прыкметнага, нават у маштабах Менска, мастацкага значэння.

Коратка ахарактарызаваў даследчык у мінулым размешчаны на Замчышчы Дом гарадскога суда, вартыя ўвагі мастацкія асаблівасці Дома масонаў у Музыканцкім завулку, яўрэйскай сінагогі на Школьным двары і Пішчалаўскага замка, пазней гарадской турмы.

У канцы нарыса Шчакаціхін не без шкадавання канстатуе, што пробліск арыгінальнасці ў архітэктурным будаўніцтве Менска пазней быў заслонены прыўнесенымі архітэктурнымі тыпамі. Будаўніцтва яго, як і ва ўсёй Беларусі,

---

[1] Чантурия В. А. Архитектура Белоруссии конца XVIII — начала XIX века. Мн., 1962.

пачынаючы з пачатку XIX стагоддзя, пайшло не праз выкарыстанне «магчымых форм з свайго ўласнага архітэктурнага мінулага ці нават проста шляхам захавання той ці іншай сваёй архітэктурнай самастойнасці, а шляхам непасрэднага пераносу на беларускія землі гатовых і не заўсёды лепшых узораў». Так было аж да сярэдзіны XX стагоддзя.

**Задума ўсяго жыцця**

1928 год быў асабліва плённы для ўсёй беларускай савецкай навукі і культуры. У гэтым годзе практычна на павестку дня стала пытанне рэарганізацыі Інбелкульту ў Акадэмію навук. Ён прынёс нямала творчай радасці і Міколу Шчакаціхіну. Убачыў свет адразу вельмі прыхільна сустрэты навуковай грамадскасцю першы том яго капітальна задуманай працы з гісторыі беларускага мастацтва. Салідны фаліянт пад назвай «Нарысы з гісторыі беларускага мастацтва» стаў на кніжныя паліцы вучоных і пісьменнікаў, грамадскіх дзеячаў і радавых працаўнікоў. Гэта было першае сістэматызаванае даследаванне беларускай мастацкай культуры, пачынаючы ад глыбокай старажытнасці да канца XVI стагоддзя. Для сусветнай навуковай думкі гэта было адкрыццё яшчэ аднаго народа праз яго мастацкую творчасць і гісторыю, выражаную ў гэтай творчасці. У свеце працу беларускага мастацтвазнаўцы першымі віталі чэшскія вучоныя, змясціўшы ў студзеньскім нумары «Slawishe Rundschau» за 1929 год вельмі прыхільную рэцэнзію.

У 1923—1924 гадах, яшчэ на пачатку, калі і ў Міколы Шчакаціхіна высноўваліся галоўныя палажэнні канцэпцыі гістарычнага мінулага беларускага мастацтва, яго спецыфікі, многае нараджалася ў працэсе дыялога. Трэба было разабраць нямала схаванага пад друзам забабонаў буржуазна-дваранскай навукі, трэба было глянуць на рад фактаў і вызначыць па іх асноўную лінію мастацкага развіцця ў Беларусі, нарэшце, трэба было глянуць на ўсе большыя і меншыя мастацкія здабыткі народа з пазіцый таго, чыім мастацкім чуццём, густам, чыімі намаганнямі яны былі пакліканы да жыцця. Трэба было япгчэ раз да ўсяго прыкласці эстэтычную меру і вызначыць яго эстэтычную вартасць. А пачынаць даводзілася пры традыцыях «праклятага мінулага», калі нават часам шчырыя сыны народа, перакананыя і поўныя веры ў яго творчыя сілы, не маглі ўявіць, што Беларусь і раней мела штосьці цікавае з пункту гледжання мастацкага яе развіцця.

Унутранай спрэчкай, антытэзай думцы, крылата выражанай паэтам 20-х гадоў:

О Беларусь, тваё мінулае ў мармурах не застыла
І меддзю, бронзай не звініць,
Не знае готыкі, антычных стыляў,
Не знае колераў сузорчатых зарніц!..—

з’явілася кніга першага свядомага, паслядоўнага беларускага мастацтвазнаўцы «Нарысы з гісторыі беларускага мастацтва».

Фактамі, яркім аналізам, усім пафасам даследчыка-творцы Шчакаціхін сцвярджаў адваротнае. Вуснамі яго гаварыла само мастацкае мінулае Беларусі, гаварыла пераканаўча, красамоўна. У прадмове, напісанай за год да выхаду перша-га тома «Нарысаў з гісторыі беларускага мастацтва», вучоны зазначаў: «Гэтыя першыя нарысы… не могуць лічыцца поўным вырашэннем пастаўленай намі сабе задачы, нават у абхваце папярэдняга даследавання: беспасрэдным працягам іх лавінен быць шэраг далейшых студый, прысвечаных помнікам барочнай архітэктуры XVII—XVIII стст., архітэктурным формам драўлянага будаўніцтва, помшкам малярства разьбярства, гравюры, нарэшце, рознага роду ўжытковых мастацтваў, пачынаючы з старадаўніх ювелірных вырабаў, разьбы, гафтавання, тканіны і канчаючы сучаснай народнай арнаментыкай. Па нашым плане ўся гэта праца разлічана прыблізна на пяць тамоў, наколькі можна судзіць па характары і памерах як ужо сабранага намі, так і намечанага для чарговага вывучэння матэрыялу».

Першы том гісторыі беларускага мастацтва складалі чатыры невялікія, унутрана звязаныя манаграфіі, прысвечаныя адпаведна: а) прыкладному мастацтву першабытных плямён на тэрыторыі Беларусі; б) царкоўнай архітэктуры XI—XII стст.; в) замкаваму і ваеннаму будаўніцтву ў XIII— XVI стст.; г) беларускай готыцы XV—XVI стст. Усе разам яны давалі суцэльную карціну мастацкага, перш за ўсё архітэктурнага развіцця Беларусі ўключна па XVI стагоддзе.

Храналагічна першы раздзел прысвячаўся вытокам першапачатковых мастацкіх форм на тэрыторыі сучаснай Бе-ларусі, якія сталі вядомы дзякуючы працы археолагаў.

Здабытыя са скрозь параскіданых па Беларусі курганоў рэліквіі каменнага, бронзавага і жалезнага вякоў, рэчы з адзнакай першага пробліску эстэтычнай думкі старажытнага чалавека, далёкіх прашчураў беларусаў, прадметы працы, аздобы: нашыйныя грыўні, плечавыя ланцужкі, фібулы, пацеркі, галаўныяпрыколкі — усё ажывала пад пяром таленавітага даследчыка, раскрывала сваё часам вельмі тонкае хараство.

Разам з азначэннем мастацкай вартасці курганных старажытнасцей, вызначэннем шляхоў, якімі яны трапілі ў тую ці іншую мясцовасць, Шчакаціхін ажыўляў у свядомасці чытачоў быт далёкай эпохі, калі крывічы спынілі сваю невядомую вандроўку, запоўнілі ўзбярэжжы Верхняга Дняпра і Заходняй Дзвіны, навакольныя пушчы і пачалі закладваць першыя свае дзяржаўныя ўтварэнні — Смаленскае і Полацкае княствы.

На жаль, у час даследавання Шчакаціхіным археалагічных знаходак як першых мастацкіх форм эстэтычных пачаткаў на Беларусі, самі археалагічныя помнікі былі вельмі недастаткова выяўлены. Археалагічная навука толькі раз-гортвалася, і лепшыя здабыткі яе яшчэ былі наперадзе. Мастацтвазнаўца быў вымушаны карыстацца курганнымі рэчамі, сабранымі ў асноўным у XIX стагоддзі. Гэтым небагатым матэрыялам беларуская навука, і ў прыватнасці Шчакаціхін, былі абавязаны ў асноўным працы братоў Яўстафія і Канстанціна Тышкевічаў — беларускіх археолагаў, этнографаў і

фалькларыстаў мінулага стагоддзя. Браты Тышкевічы былі ініцыятарамі, арганізатарамі і самымі актыўнымі членамі Віленскай археалагічнай камісіі, якая ўзнікла пры Музеі старажытнасцей у Вільні. Яўстафій Тышкевіч раскапаў каля 1000 курганоў і перадаў у музей вялікую колькасць сваіх знаходак. Нямала прац курганным старажытнасцям Беларусі і Літвы прысвяціў Канстанцін Тышкевіч. У Ашмянскім павеце і на Наваградчыне даследаваў курганы вядомы краязнаўца, этнограф і фалькларыст Адам Ганорый Кіркор. Яшчэ раней, папярэднічаючы археалагічнай працы братоў Тышкевічаў, займаўся ёю на Лідчыне Тодар Нарбут, аўтар фундаментальнага дзевяцітомнага даследавання «Гісторыя літоўскага народа» («Dzieje narodu Litewskiego»). Збор беларускіх курганных старажытнасцей крыху папоўніў М. Янчук. На вялікі жаль, не стала здабыткам айчыннай навукі багатая калекцыя класіка беларусазнаўства Е. Раманава. З-за матэрыяльных нястач вучоны мусіў быў прадаць яе за мяжу. У асноўным былі страчаны ў віхурах войнаў або вывезены далёка за межы Беларусі археалагічныя зборы, што ў свой час накопліваліся ў сядзібах магнатаў Радзівілаў і Храбтовіча. Не мог пахваліцца багаццем сваіх археалагічных экспанатаў і Беларускі дзяржаўны музей у Менску, хоць сёё-тое ён і даў Шчакаціхіну для вывучэння неалітычнай арнаментыкі. Асноўным жа для мастацтвазнаўчага аналізу вучонаму заставаўся адносна небагаты, але даволі каштоўны матэрыял былога віленскага музея, часткова апісаны К. Тышкевічам і А. Кіркорам у асобных працах, а таксама ў спецыяльных выданнях Віленскай археалагічнай камісіі.

Шчакаціхін вельмі ўважліва паставіўся да таго беларускага археалагічнага матэрыялу, які быў апрацаваны рускімі і польскімі вучонымі і знайшоў адлюстраванне ў навуковай літаратуры суседніх народаў. Адным з зыходных момантаў пры мастацтвазнаўчым разглядзе курганных знаходак было для даследчыка пытанне аб іх аўтахтоннасці. Пачынаючы з самай глыбокай старажытнасці, тэрыторыя сучаснай Беларусі знаходзілася ў сферы гандлёвых зносін паміж паўночнымі краінамі і поўднем, усходам і захадам. Гэтаму спрыялі водныя і сухапутныя шляхі, якія крыжаваліся тут здаўна. Натуральна, што многія рэчы курганнага інвентару давалі аб'ектыўную магчымасць гаварыць аб іншаземным паходжанні. Аднак на гэтай падставе часам рабіліся вывады аб тым, што ўсе прадметы ўжытку нашых далёкіх прашчураў былі не іхняй, а чужой вытворчасці. Не збіраючыся дзеля патрыятычных меркаванняў ахвяроўваць навуковай ісцінай, Шчакаціхін тым не менш катэгарычна ставіць гэты пункт гледжання пад сумненне і хоць асцярожна, але паслядоўна і навукова абгрунтавана праводзіць думку аб мясцовым паходжанні многіх знаходак і ў сувязі з гэтым аб перапрацоўцы пэўных запазычаных форм і стыляў на мясцовым грунце, прынамсі, у межах Кіеўскай Русі.

Шчакаціхін дае класіфікацыю вядомага археалагічнага матэрыялу, сістэматызуе яго па фармальных і стылістычных адзнаках у межах кожнага асобнага тыпу прадметаў. Услед за разглядам знешніх сувязей беларускай тэрыторыі асобны параграф ён прысвячае арнаментыцы неалітычнай

эпохі, якая знайшла выяўленне на рагавых і каменных сякерах і яшчэ большую разнастайнасць форм дала ў керамічных вырабах. У кераміцы вучоны выдзяляе тры асноўныя групы арнаментальных узораў: у першай ён разглядае рысункі, скампанаваныя з просталінейных элементаў. У гэту ж групу ўваходзіць і тып найбольш пашыранага арнаменту з рада ўскосных ліній, нахіленых пад вуглом 50—60°. Да гэтага арнаменту ў якасці другой раўналежнай крайкі далучаліся часам касыя крыжыкі. Рысункі з кароткіх рысак утвараюць завернутыя вяршынямі ўбок вуглы. Цікава адзначыць, што такі ўзор арнаменту захаваўся да апошняга часу ў сялянскіх паясах пад назвай «капыцікі».

Арнаменты з просталінейных геаметрычных фігур Шчакаціхін разглядаў у другой групе. Крывалінейныя рысункі — між іншым, найменш пашыраны тып арнаментыкі — складалі, згодна класіфікацыі Шчакаціхіна, трэцюю групу.

Эмалевым вырабам VI—XIII стагоддзяў прысвяціў вучоны асобны параграф раздзела «Курганныя старажытнасці Беларусі». Прадметы ранняй бронзы, аздобленыя выемчатай эмаллю, у значнай колькасці выяўлены па Прыпяці і Нёмане. Яны характарызуюцца сваім уласным, адметным стылем і тэхнікай апрацоўкі. Прааналізаваўшы некалькі прадметаў з выемчатай эмаллю, вучоны значную ўвагу аддае генезісу гэтых мастацкіх форм і разглядае рад гіпотэз, звязаных з іх паходжаннем. Параўнальны разгляд знаходак эмалевых вырабаў у раёне, а дакладней, у вадазборы Нёмана з аналагічнымі знаходкамі ў раёне Акі і Дняпра, падагульненне думак археолагаў адносна месца паходжання гэтых вырабаў далі Шчакаціхіну падставу сцвярджаць, што нёманскі басейн «дае найбольшую разнастайнасць тыпаў і часта найлепшыя па тэхніцы вырабы». А гэта заключэнне, у сваю чаргу, дазволіла зрабіць вывад аб тым, што басейн Нёмана быў адным з названых трох месцаў, дзе вырабы з выемчатай эмаллю мелі значную распрацоўку.

Аб'ём прадметаў аздоб, бытавога ўжытку, якія разглядаў даследчык у першым раздзеле сваіх нарысаў, уключаў грыўні з падвескамі, грыўні без падвесак, гладкія і вітыя, павязкі, ланцугі, фібулы, пражкі, паясы і бранзалеты. Тыпы гэтых прадметаў, іх форма, арнаментыка, паходжанне, эвалюцыя — вось у асноўным кола пытанняў, якія ў ходзе аналізу вырашае аўтар. У выніку — стройная паслядоўная сістэма разнастайных мастацкіх форм, якія засвоілі і развівалі далёкія прашчуры беларусаў яшчэ задоўга да складвання беларускай народнасці. І хоць формы гэтыя не далі пачатку пэўнаму мастацкаму стылю, што пазней склаўся на беларускіх землях, усё ж пазнанне іх узбагаціла наша ўяўленне аб развіцці эстэтычнага пачуцця напярэдадні эпохі, калі на этнічна беларускіх землях узніклі першыя помнікі манументальнага дойлідства.

З канца X стагоддзя праз гандлёвыя і палітычныя сувязі, дзякуючы прыняццю хрысціянства, сучасныя беларускія землі былі ўцягнуты на нейкі час у сферу візантыйскага культурнага ўплыву. Пашырэнне хрысціянства, якое на пер-шым часе вельмі марудна пранікала ў народную гушчу, застаючыся рэлігіяй верхняй праслойкі тагачаснага грамадства, спрыяла

распаўсюджанню на ўсім абшары ўсходніх славян царкоўнаславянскай пісьменнасці. У галіне мастацкай творчасці яно садзейнічала ўзнікненню тут ману-ментальнай архітэктуры. Былі і сацыяльна-эканамічныя прычыны, што садзейнічалі ўздыму высокай хвалі дойлідскай творчасці на берагах Заходняй Дзвіны ў XI—XII стагоддзях.

Полацкай зямлі, якая ўзмацнілася эканамічна дзякуючы актыўным сувязям з усходам і захадам, станавілася ў цяжар палітычная залежнасць ад Кіева. Полацк рабіўся буйным палітычным асяродкам, што не магло не пацягнуць за сабою росту культуры ў ім. Яшчэ ў X стагоддзі тут, а таксама ў Тураве былі ўтвораны архіепіскапскія кафедры. Яны садзейнічалі пашырэнню хрысціянства і звязанай з ім кніжнай асветы. З'явіліся першыя на сучасных беларускіх землях старажытныя асветнікі Кірыл Тураўскі і Ефрасіння Полацкая. Узвышэнне Полацка ў сувязі з аслабленнем і зашша-ддм Кіеўскай Русі, што наступілі ў перыяд феадальнай раздробленасці, стварыла спрыяльныя ўмовы для развіцця тут каменнага культавага будаўніцтва. Полацкія князі імкнуліся ўзвесці ў сваёй сталіцы храмы, якія б не ўступалі іш харастве і манументальнасці аналагічным збудаванням у Кіеве. Так, на працягу XI—XII стагоддзяў адзін за другім узніклі гмахі полацкай Сафіі і Спаса-Ефрасіннеўскай царквы, цэркваў Бельчыцкага манастыра і віцебскага Благавешчання.

Гісторыя ўзнікнення гэтых старажытных помнікаў, відазмены канструкцыйных форм, аналіз іх структуры складаюць прадмет даследавання Шчакаціхіна ў другім раздзеле яго «Нарысаў з гісторыі беларускага мастацтва». Акрамя таго, тут удзяляецца нямала ўвагі смаленскай архітэктуры, якая трасфармавала (праз Кіеў) усходнія формы дойлідства, разглядаецца ў плане станаўлення адметных будаў-нічых традыцый гродзенская Каложа.

Сафія, з якой пачынае Шчакаціхін мастацтвазнаўчы аналіз архітэктурных помнікаў старажытнага Полацка, у XVIII стагоддзі была грунтоўна перабудавана і ў знадворным выглядзе сваім нічога не захавала ад першаасновы. Аднак у бакавым прыдзеле засталіся апсіды першапачатковай пабудовы, а сутарэнная частка помніка дае магчымасць узнавіць яго план. Летапісныя звесткі даюць пэўнае ўяўленне аб колішнім архітэктурным абліччы Сафіі. Не задаволены рэканструкцыяй плана будынка, якую зрабілі ў свой час А. Паўлінаў і М. Шыроцкі, Шчакаціхін у 1926 годзе нанава абмераў яе аснову ў сутарэннях і даследаваў кладку сцен. Першы вывад, зроблены беларускім вучоным, паставіў пад сумненне заходнееўрапейскі ўплыў на канструкцыю полац-кай Сафіі. Паводле заключэння Шчакаціхіна, будынак Сафіі меў амаль што квадратны пяцінефны план, са звычайнай сістэмай усходніх апсід, «які хоць і мае некаторыя ўласцівыя асаблівасці ў дэталях, але агулам знаходзіць сабе досыць блізкія аналогіі ў шэрагу іншых славяна-візантыйскіх помнікаў».

Дакладней, на падставе асабістых абмераў план Сафійскага гмаху ўяўляўся Шчакаціхіну ў выглядзе вялікага прамавугольніка памерам 21X22 метры, падзеленага пры дапамозе 16 унутраных слупоў на 5 нефаў, з якіх 3 сярэднія закончаны апсідамі — паўкруглымі выступамі. Усходнія слу-

пы служылі для аддзялення алтарнай часткі, заходнія — для падтрымання хораў. Сярэднія ж чатыры пары слупоў выдзялялі з асноўнага квадрата крыжападобную ў плане прастору. «Такім чынам, — падагульняў вучоны, — мы маем у даным выпадку не чыста кубічны, а камбінаваны кубічна-крыжовы план, блізкі да вядомых Сафій кіеўскай і наўгародскай». Полацкую Сафію пры ўсіх яе адхіленнях (маецца на ўвазе своеасаблівасць канструкцыі алтарнай часткі, формы бакавых апсід) ад магчымых кіеўскіх першаўзораў і крыніц Шчакаціхін не лічыў тыповай з'явай для архітэктурнага будаўніцтва Полацкай і Віцебскай земляў. Канструкцыйным асаблівасці шцебскай царквы Благавешчання і блізкай да яе па тыпе полацкай Спаса-Ефрасіннеўскай «зусім выразна выяўляюць некаторыя характэрныя рысы таго асобнага шляху, якім ішло полацка-віцебскае будаўніцтва XII ст далека адыходзячы ад тых архітэктурных тыпаў, якія ўжываліся у іншых частках Беларусі…».

Адасобленае становішча Полацкай зямлі, паводле думкі мастацтвазнаўцы, спрыяла ў асноўнай масе пэўнай сталасці ў перапрацоўцы ўсходніх традыцый на мясцовым грунце і стварэнню даволі арыгінальных канструкцый. Шчакаціхін не ставіць катэгарычна пытанне храналогіі ў дачыненні да цэркваў Благавешчання і Спаса-Ефрасіннеўскай: што чаму папярэднічала. Ён лічыць гэтыя і блізкія па тыпе ім помнікі за збудаванні, узведзеныя ў невялікі прамежак часу. Пры гэтым, ведаючы прыблізна гады збудавання Спаса-Ефрасіннеўскай царквы (не пазней 1173 года — года смерці закладчыцы яе Ефрасінні), вучоны дапускае, што царква Благавешчання ўзнікла крыху раней.

На жаль, рамкі нашага нарыса не дазваляюць пайсці ўслед за Шчакаціхіным, падрабязна прасачыць разгляд ім гзтых цікавых помнікаў. Спынімся толькі на адным: у чым жа бачыў вучоны своеасаблівасць, спецыфіку, прыўнесеную старажытнымі полацкімі дойлідамі ў культавыя пабудовы? Гэта тым больш цікава, што перапрацаваны на полацка-віцебскім грунце архітэктурны тып пазней быў пераняты ў іншых землях. Старажытныя дойліды ў Полацку і Віцебску пайшлі па лініі зручнага, без страт для гарманічнага выгляду форм будынка спрашчэння яго плана. Яны распрацавалі аднаапсідную канструкцыю пры строга кубічным чатырохслупным тыпе самой пабудовы. Іншыя канструкцыйныя асаблівасці цэркваў Благавешчання і Спаса-Ефрасіннеўскай, а таксама апрацоўку фасадаў, як увогуле ўвесь знешні выгляд іх, мімаволі даводзіцца пакідаць па-за рамкамі нашага разгляду. Паспяшаемся ўслед за даследчыкам, каб агледзець яго вачыма на высокім нёманскім беразе ушкальны помнік архітэктуры XII стагоддзя — Каложу.

Пазнейшыя напластаванні не змянілі старажытных архітэктурных форм Каложскай царквы. У плане Каложа прадстаўляе сабою выцягнуты прамавугольнік, які заканчваецца ва ўсходняй частцы трыма паўкруглымі апсідамі. Генезіс канструкцыі Каложы вучоны пераканаўча ўзводзіць да Чарнігаўскага сабора, а яшчэ далей, як да першаўзору, паходжанне дадзенага тыпу вядзе ад цзркваў у Салуні і Лехне (апошняя ў Абхазіі). У плане некаторых асаблівасцей структуры алтаранай часткі помніка Шчакаціхін

адзначае падвойныя сценкі бакавых апсід, паміж якіх знаходзяцца праходы і драбіны (лесвіцы), што вялі калісьці ў асобныя памяшканні, зробленыя над алтарнымі скляпеннямі. Асабліва цікавай выдалася мастацтвазнаўцу арнаментацыя знадворных бакоў царквы ў дольных частках муроў. Моцна запаланіла яго ўвагу і сістэма галаснікоў, вядомых у Беларусі адной толькі Каложы.

Што да кафлянай арнаментыкі фасадаў у помніках XII стагоддзя, то тут гродзенскаЯ Каложа — адзіны ўзор ва ўсім раннестаражытным славянскім будаўніцтве. Роўная паверхня каложскіх сцен, складзеных з правільных радоў цэглы, аздоблена шматлікімі ўстаўкамі з рознакаляровых паліваных кафляў, у формах якіх ёсць прамавугольнікі, квадраты, ромбы, трапецыі, кругі, злучаныя, у сваю чаргу, у форме многавугольнікаў і крыжоў. Рознай велічыні і колераў гранітныя камяні, гладка абчасаныя і адшліфаваныя, размешчаныя роўнымі радамі разам з арнаментальнымі кафлямі, нібы падмяняюць сабою тыя мармуровыя і алебастравыя аздобы, якія ўжываліся ў Візантыі і на Усходзе, хоць яны і ўступаюць апошнім у складанасці арнаментальных матываў і гармоніі іх.

Нават пры павярхоўным знаёмстве з каложскімі мурамі нельга не заўважыць, што на вышыні 1,5 метра ад зямлі ў сценах будынка закладзена многа галаснікоў. Ёсць яны і ў арцы над лесвіцаю. Там, дзе паверхня роўная, можна прасачыць пэўную заканамернасць у размяшчэнні гэтых галаснікоў, а іменна: строга ў шахматным парадку, радамі з адлегласцю ў 35 сантыметраў паміж радамі і ў 37 сантыметраў паміж адтулінамі. Прааналізаваўшы параўнальна форму галасніковага посуду, Шчакаціхін, у дачыненні функцыі яго ў Каложы, стаіць на тым пункце гледжання, што ён адыгрываў і ролю рэзанатара, і служыў пэўным тэхнічным мэтам пры ўзвядзенні такіх трывалых сцен.

На заключных старонках, прысвечаных самаму агульнаму абрысу працы Міколы Шчакаціхіна па вывучэнні архітэктуры перыяду першых дзяржаўных фарміраванняў на тэрыторыі Беларусі, хочацца дадаць, што даследчыя работы сёння вядомага савецкага археолага і мастацтвазнаўцы прафесара М. Каргерд, гісторыка Л. Аляксеева, аўтара грунтоўнай манаграфіі «Полацкая зямля», яшчэ раз пацвердзілі правільнасць таго напрамку, якім ішоў беларускі вучоны ў 20-я гады, знаходзячы нямала самабытнага і цікавага ў будаўнічай школе XII стагоддзя на Полаччыне і Гродзеншчыне.

Наступны этап архітэктурнага развіцця Беларусі, згодна канцэпцыі Шчакаціхіна, быў звязаны з замкавым ваенным будаўніцтвам XIII — XVI стагоддзяў. Перадумовы, што выклікалі да жыцця іменна гэтыя архітэктурныя формы, вынікалі з надзённых патрэб абароны беларуска-літоўскіх зямель ад наступу крыжакоў. Суровая неабходнасць прымусіла беларусаў і літоўцаў, жыхароў Вялікага княства Літоўскага, пераняць новы тып абароннага збудавання ў сваіх ворагаў, каб супрацьстаяць іх магутнаму напору[1].

[1] Гэты тэзіс Шчакаціхіна ў кнізе «Белорусская архитектура» (1956) аспрэчвае мастацтвазнаўца М.Кацар. Аднак думку, выказаную Шчакаціхіным, пацвярджае ў сваёй кнізе «Замкі і людзі» (1991) гісторык, археолаг М.Ткачоў.

Паколькі пераймаліся не першаўзоры, а відазмененая гатычная фартэфікацыйная канструкцыя з заходняга Падзвіння (са шляху прасоўвання тэўтонаў) ды ў дадатак развітая часта на ўжо існуючай аснове мясцовых умацаван-няў тыпу гарадзішчаў, то адхіленні былі значныя. І тым не менш каменныя беларускія старажытныя замкі носяць на сабе стылявую афарбоўку заходняй архітэктуры ў адрозненне ад манументальнай культавай пабудовы XII стагоддзя з яе візантыйскімі прататыпамі.

Самым старажытным з усіх, праўда, толькі фрагментарна захаваным да нашага часу ў Беларусі замкам Шчакаціхін лічыць Навагрдскі. Ён адносіць будаўніцтва гэтага замка да сярэдзіны XIII стагоддзя, калі Навагрдак стаў рэзідэнцыяй вялікага князя Міндоўга. На замак неаднойчы нападалі крыжакі, што вяло пазней да перабудоў умацавання. Аднак Шчакаціхін мяркуе, што аснова, і аб гэтым сведчыць старажытнасць формы, засталася першапачатковай. Аналіз замкавых форм вучоны робіць на аснове рэшткаў руін, а таксама з дапамогай рысунка В.Гразнова, які адносіцца да сярэдзіны XIX стагоддзя, калі замак быў яшчэ ў менш разбураным стане. Цяпер напаўзруйнаваная варта-вая вежа Навагрдскага замка на грязноўскім рысунку паказана як чатырохвугольная з ледзь прыкметным звужэннем угары. Рагавая вежа (таксама захаваная толькі часткова) на рысунку паказана даволі масіўнай чатырохсценнай пабудовай, вышынёй у два паверхі. У дольным паверсе яна мела акно з паўкруглай перамычкай. Апошняя дэталь сведчыць, што гатычны стыль яшчэ не выяулен тут у сваіх спецыфічных рысах.

Крэўскі і Лідскі замкі Шчакаціхін адносіць да пачатку XIV стагоддзя. Першы быў сталай рэзідэнцыяй Альгерда. З ім звязана забойства бацькі Вітаўта, праціўніка уніі Літвы з Польшчай Кейстута, і шлюб Ягайлы з Ядвігай у 1385 годзе[1]. У плане Крэўскі замак меў выгляд прамавугольніка. Дзве брамы яго былі ўмацаваны вежамі. Рэшткі вялікай вартавой вежы з поўначы сведчаць, што «яна выконвала ролю палацавага ці ўвогуле жылога памяшкання, — калі меркаваць па велічыні і ліку аконных пралётаў другога і трэцяга паверхаў», — робіць вывад даследчык. Муры і вежа, як і ў Навагрдскім замку, складзены тут з каменя, а знадворку абліцаваны цэглай, што надае ёй выгляд цаглянай пабудовы.

Шчакаціхін даволі дэталёва разглядае вялікую вартавую вежу з радам акон у ёй, яе структуру, прызначэнне, выказвае меркаванне адносна чатырох’яруснасці гэтай важйай часткі замка. У сувязі з адкрыццём паглыбленняў у сценах ён робіць дапушчэнне аб ужыванні дубовых трам (спецыяльных бэлек) для падзелу паверхаў. Як на прызнак пэўнай залежнасці Крэўскага замка ад ранніх гатычных канструкцый вучоны паказвае на злёгку пераламаныя перамычкі ў аконных пралётах.

Лідскі замак захаванасцю сваіх знадворных форм даў Шчакаціхіну яшчэ большы матэрыял для вывучэння. Уцалелыя ўсе чатыры сцяны замка ўтвараюць прамавугольнік, размешчаны на невялічкім узгорку і акружаны калісь рэчкай ды балотамі. Як і ў Крэўскім замку, каменная кладка тут

[1] Крэўскі замак зведаў вялікія разбурэнні пад час першай сусветнай вайны.

абліцавана чырвонай цэглай, у некаторых месцах яшчэ ў дадатак і затынкавана. Усходні фасадны мур мае дэкаратыўны фрыз у выглядзе цэлага рада невялічкіх паўцыркульных арак з цэглы. У іншых месцах муру захаваліся сляды спецыяльных абаронных прылад. Уцалелыя каменныя часткі Лідскага замка і дапамаглі Шчакаціхіну зрабіць вывад, што «ўжо на пачатку XIV ст. тыпы замкавых будынкаў на тэрыторыі Заходняй Беларусі аформіліся досыць ясна, прычым у планах усталявалася форма больш-менш правільнага чатырохвугольніка з вежамі па рагах, хоць яшчэ і ў няпоўным ліку».

У крыху пазней узведзеным на літоўска-беларускіх землях Трокскім замку Шчакаціхін убачыў стылявую закончанасць архітэктурных традыцый, якія развіваліся ў замкавым будаўніцтве старажытных Наваградка, Крэва, Ліды і адначасова ярка выражаны гатычны тып, праўда з тэндэнцыяй унікнення гатычнай стральчатай аркі і замены яе на паўцыркульную.

Малую колькасць замкавых умацаванняў XV стагоддзя ў межах Вялікага княства Літоўскага беларускі вучоны тлумачыць зменай ваенна-палітычных умоў: адпадзеннем пагрозы з боку крыжакоў пасля разгрому іх пры Грунвальдзе ў 1410 годзе. У «Нарысах з гісторыі беларускага мастацтва» Шчакаціхін разглядае два такія замкі з вядомых на беларуска-літоўскіх землях — стары замак у Гродне і Верхні віленскі замак.

Для аналізу першага вучоны меў адну крыніцу — гравюру замка, зробленую ў 1568 годзе Адэльгаўзерам і Цюндтам. Не пераацэньваючы такога роду інфармацыі, даследчык, тым не менш, на аснове параўнанняў схільны давяраць ёй. Сённяшняя рэканструкцыя старога замка не абвяргае таго плана яго, якім ён быў прадстаўлены на сярэдневяковай гравюры. Рысунак з гравюры прадстаўляў такі выгляд замка. Размяшчаўся замак на высокім беразе Нёмана, над стромкім абрывам. Ад астатняй часткі берага аддзяляўся глыбокім ярам, праз які быў перакінуты мост, умацаваны на даволі складанай сістэме забітых у дно яра паляў. Мостам замак злучаўся з асобна размешчаным будынкам палаца, акружаным болын дробнай забудоўкай. Сам замак быў абнесены мурам няправільнай формы з байніцамі і контрфорсамі. Крапасныя сцены пакрыты двухскатным дахам. Двухскатнае пакрыццё маюць і будыніна ўнутры замка, і вежа над замкавай брамай. Дзве другія вежы мелі конусападобную форму. Чатырохвугольная вежа над галоўнай брамай была крыху расшырана ў верхняй частцы і ўтварала тым самым баявую пляцоўку з зубчастай агароджай. Такім чынам, дакументальная крыніца пры пэўнай схематычнасці рысунка давала ўсё ж досыць цэласнае ўяўленне аб помні-ку XV стагоддзя, чаго не маглі даць у дэталях фрагментарна захаваныя руіны.

Мастацтвазнаўчы аналіз рысунка старога Гродзенскага замка на гравюры Адэльгаўзера і Цюндта дазволіў Шчакаціхіну зрабіць вывад «аб з'яўленні новага прынцыпу ў замкавых будовах Беларусі, выяўленага у поўным аддзяленні, з аднаго боку чыста замкавай, з другога, палацавай часткі». Калі ў Крэве адзін і той жа будынак адыгрываў ролю ваеннага ўмацавання і адначасова жылога памяшкання, то ў Троках гэтыя ролі былі перададзены розным будынкам, але гэтыя апошнія яшчэ застааліся ў самай цеснай

канструкцыйнай сувязі паміж сабою. У старым Гродзенскім замку вучоны бачыў трэці этап таго ж працэсу — вылучэнне кожнай часткі пабудовы ў цалкам самастойную.

Тып замкавай будовы XV стагоддзя (на ўзорах Гродзенскага і Верхняга замка ў Вільні), паводле слоў Шчакаціхіна, займае прамежкавае месца паміж старажытнымі замкамі ў Лідзе, Крэве, Троках і замкавай архітэктурай XVI стагоддзя з яе «шмат у чым ужо зусім новымі элементамі, і гэтым самым у якасці нейкага злучальнага звяна яднае ўсю лінію арганічнага развіцця замкавай архітэктуры Беларусі ў адно непарыўнае цэлае».

Калі ў дзяржаўным велікакняскім будаўніцтве XV стагоддзя Шчакаціхін ужо адзначаў працэс дыферэнцыяцыі фартыфікацыйнай і палацавай яго частак, то для прыватных замкавых збудаванняў на Беларусі нават у XVI стагоддзі (у перыяд іх росквіту), наадварот, характэрна цесная канст-рукцыйная сувязь гэтых двух састаўных элементаў. Прыватнае замкавае будаўніцтва было выклікана, з аднаго боку, узвышэннем паасобных феадалаў-магнатаў, іх пэўнай незалежнасцю ад велікакняскай улады, з другога — патрэбай бараніць сваё жыццё і маёмасць не толькі ад нападу заваёўнікаў, але часам і ад наезду свайго аднапляменнага зайздроснага суседа. Ведаючы аб высокім кошце замкавага будаўніцтва ў XVI стагоддзі, не цяжка зразумець, што матэрыяльны бок таксама абмяжоўваў планы і магчымасці прыватных уласнікаў. Ім было нялёгка раздзяляць абаронную і палацавую часткі, свабодна і раскошна кожную паасобку афармляць, усталёўваць.

Замкі беларускіх і літоўскіх феадалаў, нягледзячы на даволі позні час іх узнікнення, у планах і размяшчэнні сваіх паасобных будынкаў былі вымушаны наследаваць старадаўнія замкавыя тыпы, дзе арганічна былі злучаны ў адно архітэктурнае цэлае абаронныя ўмацаванні і жылыя памяшканні. Аднак гэта не было літаральнае паўтарэнне старых традыцый. Замкавае будаўніцтва XVI стагоддзя, на думку Шчакаціхіна, стварыла такія архітэктурныя схемы, у якіх «старадаўнія будаўнічыя прынцыпы злучаліся з новымі спосабамі фармальнага іх выяўлення». Цесная канструкцыйная сувязь цытадэлі і палаца ў замках феадалаў не перашкаджала ні ўжыванню складаных абаронных прыстасаванняў, ні свабоднай распрацоўцы чыста архітэктурных аспектаў пабудовы, канструкцыйных і дэкаратыўных. Адным з тыповых манументальных помнікаў якраз такой архітэктуры XVI стагоддзя Шчакаціхін называе Мірскі замак.

Мірскі замак збудаваны ў першай палавіне XVI стагоддзя як уласнасць роду Ільінічаў. Войны не абміналі яго. У пажарах і разбурэннях загінулі шматлікія роспісы, вітражы і іншы дэкор, аднак агульны план, першапачатковы знадворны выгляд, асноўныя архітэктурныя формы даступны і сённяшняму даследчыку.

Шчакаціхін так апісваў помнік. Мірскі замак у плане мае амаль што правільны квадрат, абнесены масіўнымі мурамі з чатырма вежамі па рагах. З паўночнага і паўднёвага ўсходу да муроў знутры прымыкаюць два карпусы палацавага будынка, размешчаныя адзін да аднаго пад прамым вуглом. Над брамай знаходзіцца пятая, галоўная вежа. З трох бакоў замак акружа-

ны валамі, з чацвёртага подступы да яго ахоўвае стаў. Замак пабудаваны з добра апаленай і роўна выкладзенай цэглы на фундаменце з валуноў. Кладка скрозь вельмі трывалая, з тонкімі швамі вапнавай рошчыны і роўнай апрацоўкай паверхні. Так што тэхнічная канструкцыя пабудовы робіць самае добрае ўражанне.

Абаронных прылад і прыстасаванняў у Мірскім замку нялішне. У мурах і вежах зроблены байніцы. У разрэзе яны складаюцца з некалькіх аддзяленняў, якія паступова змяншаюцца ў напрамку знадворнага боку. Вежы Мірскага замка, нягледзячы на іх абароннае прызначэнне, маюць архітэктурную закончанасць і багацце форм і дэкаратыўных дэталей. Пасля агульнай характарыстыкі вежаў мастацтвазнаўца зазначае, што дэкаратыўная іх апрацоўка нясе ў сабе як спозненыя рысы гатычных, так і раманскіх матываў.

Падрабязны разгляд элемёнтаў дэкора, агульнага іх рысунка, архітэктурнага эфекту займае цэлыя старонкі нарысаў Шчакаціхіна. У разнастайнай сістэме нішаў, багацці форм і варыянтнасці груповак іх у дэкоры фасада Мірскага замка вучоны ўбачыў стылявую адметнасць арнаментыкі помніка, якая робіць багатае ўражанне. Уважліва затрымліваецца мастацтвазнаўца і на інтэр’еры вежаў, распланаванні паверхаў, хадоў і выхадаў у іх. Унутраная апрацоўка вежаў вельмі сціплая, на думку даследчыка, з той прычыны, што яны ніколі не прыстасоўваліся да іншых мэт, як толыеі абаронных.

У адрозненне ад гатычнага тыпу абароннай часткі замка яго палац нясе на сабе адзнакі ўзораў італьянскага будаўніцтва энохі Рэнесансу. Калісьці, як сведчаць раскопкі, любленыя ў 1912 годзе, гэта быў раскошны будынак, багата ншблены алебастрам, керамікай, маляваным вітражамі, пазалотай. Ранейшыя даследчыкі, напрыклад І.Іядкоўскі, знайшлі ўпрыгожанні гэтыя ўжо нашчэнт зруйнаванымі. Сцены з дзвярыма і праёмамі акон — вось што засталося ад замкавага палаца пазней. І гэтых рэштказў Шчакаціхін лічыць дастаткова, каб зрабіць агульную стылістычную характарыстыку будынка.

Але спачатку апісанне знадворнага выгляду палаца. Фасады яго зусім не дэкарыраваны і нічым не падзелены, акрамя лініі акон па гарызанталі. Карнізаў няма, кожнае акно — самастойная адзінка, аздобленая прамавугольнай плоскай рамай, якую зверху вянчае гарызантальная стрэшка і выкладзеная рэльефам арка. Уваход у палац апрацаваны, як і вокны. «У выніку, — заключае даследчык, — агульны характар палацавага будынка ў параўнанні да вежаў набывае значна болыпую прастату, але ў той самы час здаепда болып вытрыманым і строгім».

І ўжо падагульняючы вынікі мастацтвазнаўчага разгляду Мірскага замка, Шчакаціхін адзначае адну важную асаблівасць: «Нягледзячы на істотную розніцу ў стылі, палац настолькі сцісла злучаны з вежамі і мурамі, што разам з імі стварае нейкае агульнае архітэктурнае цэлае, якое хаця і не было прадбачана, пэўна, асноўным першапачатковым пла-нам замка, але ў выніку крыху пазнейшага развіцця яго канструкцыі, у межах таго самага XVI стагоддзя, зрабілася як быццам зусім натуральным і арганічным». Гэта цесная сувязь, на думку аўтара, і складае асноўнае ў спецыфіцы пры-

ватнага замкавага будаўніцтва XVI стагоддзя. Адсюль ідзе выкарыстанне ў іх розных стылістычных плыней, сінтэзу, адсюль вынікае і непадабенства да дзяржаўнай замкавай архітэктуры, дзе выразна выступала стылявая суцэльнасць.

Прыватныя замкі з'явіліся ў гісторыі каменнай архітэктуры Беларусі апошнімі сапраўды замкавымі збудаваннямі. Далей адкрываліся шляхі толькі для самастойнага, адасобленага развіцця спецыяльнага цытадэльнага і чыста палацавага будаўніцтва. Гэтым вывадам заканчвае Мікола Шчакаціхін трэці раздзел сваіх «Нарысаў з гісторыі бе-ларускага мастацтва».

Варта заўважыць, што ў нарысе «Замкавае і ваеннае будаўніцтва Заходняй Беларусі ў XIII — XVI стст.» прагучала інтанацыя жалю. Беларускі вучоны выказаў шкадаванне не толькі з прычыны таго, што дзяржаўная мяжа, якая падзя-ляла ў час яго даследавання Беларусь, не дазволіла на месцы агледзець самі помнікі, ажывіць іх аобраз у зрокавай памяці, але і з таго выпадку, што гэтыя памяткі складанай і мужнай гісторыі народа знаходзяцца ў вартым жалю становішчы. Польскія заваёўнікі, як і ўсякія іншыя, былі кроўна зацікаўлены ў страце народам гістарычнай памяці яго.

Калі пытанне паходжання готыкі ў Беларусі для Шчакаціхіна не складае праблемы, то гісторыю развіцця і змены яе форм на беларуска-літоўскіх землях вучоны адносіць да вельмі цікавых і нялёгкіх задач мастацтвазнаўства. Ясна абазначыўшыся ў архітэктуры Беларусі ўжо ў XIV стагоддзі, яны захоўваліся яшчэ і побач з дойліднымі формамі рэнесансу і канчаткова былі выцеснены толькі моцным націскам барока. За некалькі стагоддзяў яны перажылі тут своеасаблівую, часам вельмі арыгінальную эвалюцыю, — як прыходзіць да вываду Шчакаціхін: «…мы павінны ўжо казаць аб асобнай беларускай готыцы, укладаючы ў гэта паняцце не толькі тэрытарыяльны, але таксама і фармальна-стылістычны сэнс».

Шукаючы вытокаў арыгінальнай беларускай готыкі XVI стагоддзя, даследчык звяртаецца да двух крыніц. З пункту гледжання паступовай мадыфікацыі касцёльных будаўнічых форм, ён разглядае ўсе вядомыя помнікі беларуска-літоўскай готыкі XV стагоддзя. Асабліва запыняе яго ўвагу ў гэтым плане архітэктурны тып, прадстаўлены віленскім Бернардынскім касцёлам. Дэталёвы аналіз яго структуры дазволіў Шчакаціхіну ўгледзець, няхай сабе больш позняе, далейшае пераходнае звяно ў працяглым ланцугу эвалюцыі готыкі на землях Вялікага княства Літоўскага. На думку даследчыка, Бернардынскі касцёл быў тут адным з першых помнікаў цытадэльна-царкоўнага будаўніцтва.

Не складаючы яшчэ цалкам самастойнай царкоўна-цытадэльнай адзінкі, помнік гэты не меў ярка выражанай абароннай функцыі. Аднак ён азначаў пэўны этап на шляху эвалюцыі готыкі на беларуска-літоўскіх землях. У сувязі з патрэбай узмацнення абароннай ролі царкоўнай архітэктуры беларускае культавае будаўніцтва пайшло па шляху выкарыстання сваіх будаўнічых традыцый, шляху перанясення ў царкоўныя збудаванні прыёмаў, форм і прынцыпаў, выпрацаваных у Беларусі пануючым на працягу доўгага часу замкавым будаўніцтвам. «Усё папярэдняе беларускае будаўніцтва, —

падкрэсліваў Шчакаціхін, — ужо падрыхтавала да таго часу [XVI ст.— А. Л. ) належны грунт, калі ў манументальным царкоўным будаўніцтве магчыма было развіццё таксама і зусім самастойнага архітэктурнага стылю, хоць і пагрунгаванага на гатычнай аснове, але апрацаванага пераважна на ўзорах якраз не царкоўнае, а замкавае готыкі», У заходнебеларускіх мястэчках Сынкавічах, Малым Мажэйкаве і ў Супраслі засталіся гэтыя, можа, самыя арыгінальныя без прамых аналагаў помнікі беларускай каменнай архітэктуры мінулага. Невыпадкова яны маюць багатую мастацтвазнаўчую літаратуру. 3 выхадам «Нарысаў з гісторыі беларускага мастацтва» Шчакаціхіна літаратура гэта папоўнілася адной з самых абагульняльных і закончаных прац. Заслуга беларускага мастацтвазнаўцы заключалася тут не толькі ў дасканалым, глыбока навуковым аналізе, але і ў тым, што ён цікава раскрыў генезіс дадзенай мастацкай з'явы, вызначыў яе месца ў агульнай лініі архітэктурнага развіцця Беларусі. Гісторыі ўзнікнення, мастацкаму абліччу трох узораў беларускай готыкі XVI стагоддзя прысвечаны чацвёрты раздзел першага тома «Нарысаў з гісторыі беларускага мастацтва». Хоць разгляду кожнага помніка, з увагі на іх мастацкую вартасць, вучоны прысвячае асобны параграф, даследаванне вядзецца ім увесь час у плане параўнання з тым, каб бачыць і паказаць эвалюцыю ўнутры самога гэтага цытадэльна-царкоўнага чатырохвежавага тыпу.

Сынкавіцкая царква, узнікненне якой Шчакаціхін адно-сіць да пачатку XVI стагоддзя, мела ў сваёй аснове візантыйскі план (трохнефны падзел і тры апсіды на ўсходнім баку), што не перашкодзіла ёй набыць у самой істоце іншую агульную канцэпцыю будынка, дзе план гэты атрымаў у канструкцыйным афармленні чыста гатычную апрацоўку і стварыў тым самым «сінтэзаваны архітэктурны арганізм цалкам арыгінальнага тыпу». Дакладней, як кажа вучоны, «агульнае распланаванне будынка хутчэй набыло ў даным выпадку характар нейкае старасвецкае для свайго часу рэмінісцэнцыі, а не сапраўднае спробы пагрунтавання новае канструкцыі на старадаўнім плане».

Што датычыць архітэктурнага афармлення ўнутранай прасторы Сынкавіцкайцарквы, то яно зроблена ўсё ў гатычным стылі: і крыжавыя скляпенні, і злучэнне слупоў востралукам і стральчатая форма акон. Знадворны выгляд царквы выяўляў таксама, бясспрэчна, гатычны тып. Прамалінейны масіў яе быў пакрыты высокім стромкім двухскатным дахам, роўным вышыні сцен, і ўмацаваны па вуглах чатырма вежамі.

Асноўным матывам знадворнай апрацоўкі Сынкашцкай царквы з'яўляўся матыў паўцыркульных арак, прадстаўле-ных у разнастайных варыянтах і камбінацыях. Уся верхняя частка будынка царквы, за выключэннем усходняга фасада, абхоплена магутнай аркатурай, якая мае ў сабе, у пралётах паміж аркамі, рад круглых байніц, выведзеных з уну-траных абаронных памяшканняў, размешчаных на гары над скляпеннямі і ў рагавых вежах. Такім чынам, прарэзаная байніцамі аркатура дэкаратыўна выяўляла знадворны, выхадны бок абароннай сістэмы.

У плане паходжання чатырохвежавага царкоўна-цытадэльнага тыпу (Шчакаціхін быў цалкам схільны выводзіць яго з папярэдняга беларускага

замкавага будаўніцтва) вучоны надае вялікую ўвагу дэталям апрацоўкі — канструкцыйным і дэкаратыўным. Што ж да вядомага сінтэзу візантыйскага царкоўнага плана і афармлення яго ў гатычных прыёмах, то Шчакаціхін не лічыў гэта за вызначальны момант пры агульнай трактоўцы ўсяго суцэльнага архітэктурнага арганізма беларускай готыкі XVI стагоддзя. Аркавы пояс з байніцамі надаў нейкі новы асноўны тон усёй арнаментыцы будынка. Аналагічны матыў перанесены ў тыя часткі, дзе ён выконвае чыста дэкаратыўную ролю, напрыклад, на апсідныя паўкружыны, дзе ён вытрыманы ў тым жа характары і рытме.

Другая форма, якая спыняе ўвагу мастацтвазнаўцы, — высокі конусападобны дах алтарных апсід. Для таго каб адпаведна высокаму ўсходняму франтону зрабіць адно суцэльнае пакрыццё трохдольнай алтарнай часткі, трэба было ўжыць новы прыём, невядомы ні помнікам візантыйскага паходжання, ні помнікам царкоўнай готыкі. Прыём пакрыцця алтарных апсід Сынкавіцкай царквы набліжаецда да прыёмаў пакрыцця замкавых вежаў у Літве і Беларусі і далей у Заходняй Еўропе.

Нарэшце, прыём мастацкай апрацоўкі франтонаў Сынкавіцкай царквы з дапамогай спалучэння розных форм нішаў Шчакаціхін прама выводзіць ад замкавага дэкору. У параўнанні з Мірскім замкам у Сынкавіцкай царкве вучоны зна-ходзіць узор болын складаных, добра распрацаваных форм аздоб, стылістычна звязаных, аднак, іменна з помнікам у Міры Царква ў Сынкавічах і пабочны матэрыял аб кафедральным касцёле ў старажытным Бярэсці дазволілі Шчакаціхшу развіць гіпотэзу адносна генезісу гатычных форм на Беларусі якраз у выглядзе царкоўна-цытадэльнага будаўніцтва.

Аднак пяройдзем услед за вучоным да наступнага этапу ў развіцці беларускіх гатычных помнікаў XVI стагоддзя. Што новае ў сэнсе архітэктурных матываў з’явілася ў Маламажэйкаўскай царкве-цытадэлі ў параўнанні з яе сынкавіцкай папярэдніцай? Пры агульным плане і вонкавым аблічны ў Маламажэйкаўскай царм[2]ы знаходзім ужо больш цесную, арганічную сувязь вежаў з асноўным корпусам. Калі ў сынкавіцкім тыпе яны былі нібы дадаткам да візантыйскага плана, то тут сталі неад’емнай часткай яго, стварылі новую схему. Тым самым была дасягнута завершанасць плана, яго кампактнасць.

У Маламажэйкаўскай царкве дойліды адмовіліся ад трохчленнага падзелу алтарнай часткі і тым самым ад візантыйскага характару яе. Формай сваёй адзіная вялікая і шырокая апсіда набліжалася да раманскіх ці раннегатычных апсід. Узмацненне гатычных элементаў у Маламажэйкаўскай царкве таксама выразна выяўляецца ў яе ўнутранай канструкцыі. У аснове пакрыцця будынка ляжаць складаныя зорчатыя скляпенні. Нервюры густымі пучкамі сходзяцца к слупам, а з .супрацьлеглага боку абапіраюцца на кранштэйны ў сценах. Такім чынам, уся сістэма пакрыцця Маламажэйкаўскай царквы выяўляла больш дасканалую форму і прыёмы гатычнага будаўніцтва ў параўнанні з папярэднім яго этапам.

Пры ўсім знадворным падабенстве Сынкавіцкай і Маламажэйкаўскай цэркваў апошняя мае рад новых рысаў у сваёй вонкавай апрацоўцы. За ас-

нову дэкарацыі ў ёй узяты прыём аздаблення муроў з дапамогай нішаў, пры гэтым імі апрацаваны не толькі франтоны, але і фасады. Праўда, форма і размяшчэнне нішаў на фасадах некалькі зменены.

Заходні франтон Маламажэйкаўскай царквы падняты крыху вышэй даху ў выглядзе дэкаратыўнага шчыта, мае ступеньчатыя спады з вертыкальнымі ўзвышэннямі, што ўзмацняе сваёй формай уражанне агульнай вертыкальнасці ўсяго фасада. Другую дэкаратыўную асаблівасць Маламажэйкаўскай абароннай царквы Шчакаціхін бачыў у перанясенні дэкаратыўнай апрацоўкі франтонаў на бакавыя фасады і вежы, алтарную частку муроў. А зроблена гэта было, як заўважае мастацтвазнаўца, з прычыны таго, што абаронная сістэма тут не атрымала ніякага знадворнага выяўлення, а, наадварот, была схавана ў дэкарацыі. Іменна ва ўхіленні ў бок большай дэкаратыўнасці, у незалежнасці ад цытадэльнай канструкцыі будынка імкнуўся бачыць вучоны асноўную рысу далейшага стылістычнага развіцця ўмацаваных, абароннага прызначэння цэркваў. «Надалей развіты і болей распрацаваны ў дэталях сынкавіцкі тып, бясспрэчна, набыў у Мала-Мажэйкаве нейкую адметную фармальную выразнасць з рысамі новае стылістычнае афарбоўкі, з магчымасцю новага агульнага ўражання», — падагульняў вынікі назірання і параўнання Шчакаціхін.

Для аўтара першай гісторыі беларускага мастацтва царква Благавешчання ў Супраслі была прыкладам найбольш складанага і арыгінальнага ўзору беларускай готыкі. Яна як бы давяла сабой да поўнай стылістычнай выразнасці, мастацкай закончанасці адну з самых цікавых плыней сярэдневяковай беларускай архітэктуры[1].

У прынцыпе, Супрасльская царм[2]ае ў сваёй аснове той жа план, што Сынкавіцкая і Маламажэйкаўская, толькі болын свабодна распрацаваны і выяўлены ў болыы склада-ных і яркіх формах. Болыпая выцягнутасць будынка з захаду на ўсход пры болей вузкіх адпаведна фасадах надала яму значна болыпую стройнасць адносна папярэдніх помнікаў. Вузкія фасады, нягледзячы на іх гарызантальны падзел, узмацнілі асноўныя вертыкалі будынка, якія асабліва выяўлены ў вежах з наданнем апошнім значнага месца ва ўсёй кампазіцыі. Да чатырох рагавых, тонка ўзгодненых з фасадамі вежаў тут дададзена пятая — у цэнтры, што пацягнула за сабою значныя змены як у знадворным, так і ўнутраным выглядзе царквы. Пры гэтым вежы ўсе добра дэкарыраваны і завяршаюцца складанымі яруснымі пакрыццямі з фігурнымі галоўкамі і высокімі шпілямі. З унутранага боку васьмісценнік цэнтральнай вежы, якая выконвае ролю купала, багата распісаны. Не выключана, зазначае вучоны, што ў свой час яна была зручным назіральным пунктам.

Агульны эфект гарманічнасці і хараства ў верхніх абры-сах помніка ўзмацняўся арыгінальнай сістэмай пакрыцця, дзе двухскатны дах быў як

---

1 У 1944 г. пры невядомых акалічнасцях гэты выдатны помнік беларускага дойлідства быў разбураны. Цяпер беларуская грамадскасць Беласточчыны робіць захады, каб аднавіць гэты класічны ўзор беларускай архітэктуры.

бы дапоўнены яшчэ двухскатнымі дадаткамі, падобнымі да так званых «бочак», вядомых у драўлянай архітэктуры. У выніку ўзніклі два дадатковыя франтоны, усярэдзіне якіх перакінуты паўцыркульныя ар-хівольты, а палі змяшчаюць у сабе байніцы.

Пры аналізе канструкцыйных прыёмаў, ужытых пры пабудове пакрыцця супрасльскай царквы Благавешчання, Шчакаціхін выказвае думку адносна ўплыву на яго практыкі драўлянага беларускага будаўніцтва. Свае довады вучоны ілюструе яшчэ і разглядам формы і размяшчэння эубчастых фрызаў, якія праходзяць адзін ніжэй аркатуры ў верхняй частцы фасадаў і другі, аддзяляючы цокаль будынка, а таксама спасылкай на кантовасць апсіды і ўвогуле ўвесь пяцісценнік алтарнай часткі.

Пры вытлумачэнні ўнутранай структуры будынка Супрасльскай царквы Шчакаціхін акцэнтуе ўвагу на тым уплыве, што зрабіла на кампазіцыю збудавання і ўвесь унутраны лад яе цэнтральная зежа. Праз арганічнае злучэнне з усёй сістэмай унутранага перакрыцця яна пацягнула за сабою змены ў асноўнай гатычнай канструкцыгі. Цэнтральная частка будынка набыла ў сувязі з гэтым зусім іншыя прасторавыя суадносіны. Высокі і вузкі пралёт унутранага боку вежы, які пачынаецца над мурамі і мкне ўверх, нібыта разрывае, на думку мастацтвазнаўцы, звычайную аднастайнасць гатычнага перакрыцця і нечакана ў формах, блізкіх да форм перакрыццяў шатровых цэркваў, узносіць усю сярэднюю частку будынка ўгару. Таксама, як цэнтральная частка царквы замкнулася ў сабе ў выглядзе асобнай адзінкі, самастойна аформіліся і іншыя, адасобіўшыся ад суседніх. У выніку суцэльнасць гатычнага тыпу будынка тут зусім страцілася, хоць у асобных частках ужываюцца характэрныя і добра распрацаваныя гатычныя канструкцыі.

Вучоны лічыць, што перад намі цікавы, стылістычна складаны працэс, у ходзе якога чыста гатычныя формы паступова трацілі сваё асноўнае значэнне, зрабіўшыся толькі адным з элементаў ужо зусім новага архітэктурнага арга-нізма, амаль што цалкам самастойнага і ў сваёй агульнай канцэпцыі, і ў сваім стылістычным абліччы. Прыклад Супрасльскай царквы дазволіў вучонаму прасачыць і падагульніць тыя заканамернасці, якія характарызавалі беларускую готыку ў яе развіцці. «Візантыйская схема плана, — пісаў ён, — гатычная цытадэльная канструкцыя, дэталі, па-зычаныя з драўлянага будаўніцтва, — усё гэта злілося тут у адно гарманічнае цэлае, стылістычна цалкам закончанае». І далей: «Працэс афармлення чатырохвежавых гатычных цэркваў на Беларусі адбыўся цалкам дыялектычна, складаючы з супрацьлеглых асноў адзіную сінтэтычную форму, дзе гэтыя асновы грунтоўна былі перароблены і пагоджаны паміж сабой у цалкам новай стылістычнай манеры».

У з’яўленні гэтага стылю Шчакаціхін бачыў арганічнае заканчэнне ўсёй папярэдняй эвалюцыі беларускай старажытнай архітэктуры і найвышэйшы яе этап у плане своеасаблівасці перш за ўсё.

Хоць асноўную ўвагу і творчы час Мікола Шчакаціхін у перыяд сваёй працы ў Інбелкульце аддаваў даследаванню яшчэ не пазнанага мінулага беларускага мастацтва, яго разнастайных здабыткаў, кола інтарэсаў вучонага

на гэтым па-ранейшаму не замыкалася. З неаслабнай зацікаўленасцю дзейсна ўдзельнічаў ён у падрыхтоўцы Другой і Трэцяй Усебеларускіх мастацкіх выставак, у арганізацыі беларускага аддзела на юбілейнай выстаўцы мастацтва народаў СССР у Маскве (1927). Ездзіў адбіраць экспанаты, складаў каталогі, як член выстаўкома рабіў безліч звязанай з гэтымі мерапрыемствамі ў мастацкім жыцці краіны работы.

Усімі мерамі садзейнічаў Шчакаціхін пашырэнню мастацтвазнаўчых ведаў, выхаванню, падтрымцы маладых даследчыкаў выяўленчага мастацтва. Ён выступіў ініцыятарам і арганізатарам Беларускага таварыства экслібрыстаў, зацікавіўшы гэтай новай у рэспубліцы справай маладога мастака Мікалая Тычыну і згуртаваўшы ў таварыстве заядлых краязнаўцаў. Добразычлівай прадмовай да «Беларускай архітэктуры» М. Касяровіча ён заахвочваў да мастацтва-знаўчай работы найбольш тэарэтычна падрыхтаваных краязнаўцаў.

На старонках рэспубліканскага друку яго спагадную ацэнку атрымалі першыя, часта нясмелыя спробы асвятліць тое ці іншае пытанне з мастацтва Беларусі. У рэцэнзіі на кніжку віцебскага мастацтвазнаўцы І.Фурмана «Віцебск у гравюрах С.Юдовіна» Шчакаціхін даў агляд усіх выдадзеных Віцебскім акруговым краязнаўчым таварыствам прац, асцярожна і пэўна накіроўваючы пошукі даследчыкаў у напрамку паглыблення аналізу, паўнаты ахопу даследуемых з'яў[1]. У рэцэнзіі гаворка ідзе пра «Крашаніну» І. Фурмана і пра кнігу аднайменнай назвы А.Шлюбскага, а таксама ўпамінаную ўжо брашуру Касяровіча. Сваім прыемным абавязкам М.Шчакаціхін лічыў удзельнічаць у краязнаўчых з'ездах і канферэнцыях як рэспубліканскага, так і перыферыйнага маштабу.

Выступаючы ў перыядычным друку з аглядам вынікаў мастацкага жыцця Беларусі, знаёмячы шырокую грамадскасць з надзённымі патрэбамі гэтага жыцця, крытык адначасова вядзе размову і ў цесным коле творцаў, садзейнічае іх прафесіянальнай арганізацыі. Гэта Шчакаціхін падрыхтаваў грамадскую думку і атмасферу ў творчым асяроддзі да заснавання Усебеларускай асацыяцыі мастакоў. Яго творчы неспакой, яго востры позірк, накіраваны ў будучыню, падказвалі новым ідэі, якія ў канчатковым выніку былі падпарадкаваныя адной мэце — стварэнню ў Беларусі мастацтва вялікага і яркага, вартага яе гісторыі, яе традыцый, яе чароўнай прыроды, яе працалюбівага народа, паэта і маста-ка, творцы новага жыцця.

На працягу апошніх двух год працы ў секцыі мастацтва Інбелкульту, а затым з 1929 года ў аддзеле мастацтва Інстытута гісторыі Беларускай акадэміі навук Шчакаціхін, у параўнанні з папярэднім часам, мала друкаваўся. Ведаючы яго працаздольнасць, якая межавала часам з апантанасцю, гэта наводзіць на думку, што вучоны быў заняты нейкай працаёмкай работай. Магчыма, ён спяшаўся падрыхтаваць другі том нарысаў беларускага мастацтва. Аднак пэўна сказаць штосьці цяжка з-за адсутнасці архіва гэтага нястомнага працаўніка — піянера беларускай мастацтвазнаўчай навукі.

---

1 Полымя. 1926, № 7.

Нам вядома толькі адна большая апублікаваная праца Шчакаціхіна, выпушчаная ў 1929 годзе асобным выданнем, — «Сучаснае беларускае мастацтва». Ініцыятыва яго выпуску належыць Беларускаму дзяржаўнаму музею. Пасля Трэцяй Усебеларускай мастацкай выстаўкі Дзяржаўны музей грунтоўна папоўніў свой аддзел «Сучаснае беларускае мастацтва». У яго дырэктара В.Ластоўскага і М. Шчакаціхіна, які, як і некаторыя мастакі, працаваў у цесным кантакце з музеем, узнікла думка да 10-годдзя ўтварэння рэспублікі шырэй распрапагандаваць здабыткі маладога савецкага беларускага мастацтва, а заадно яшчэ раз агледзець дасягненні і пралікі ў яго развіцці. У выніку з'явіўся спецыфічны каталог з артыкулам Шчакаціхіна, з кароткімі біяграфічнымі даведкамі пра мастакоў і скульптараў і яго анатацыйным разглядам 53 твораў, гірадстаўленых у музеі. Праца гэта цікавая тым, што яна адлюстравала пэўны этап у мастацкім развіцці рэспублікі, а таксама паасобнымі сваімі палажэннямі, якія маюць гісторыка-тэарэтычнае значэнне.

Ва ўступе Шчакаціхін адзначыў два важныя моманты, два аспекты мастацкага жыцця рэспублікі. Першы — арганізацыйны, які развіваўся па лініі ідэйнай і вытворчай. І другі — непасрэдна творчы, які выяўляўся ў «набліжэнні тэматыкі мастацкіх твораў да інтарэсаў і патрэб сацыялістычнага культурнага будаўніцтва Савецкай Беларусі, нарэшце, у свядомым шуканні нацыянальных форм і своеадменнага стылю», Аўтар бачыць тры этапы, пройдзеныя маладым беларускім савецкім маотацтвам на працягу бягучага дзесяцігоддзя — 20-х гадоў: першы — да 1925 года, другі — паміж дзвюма мастацкімі выстаўкамі, трэці пачаўся ў 1927 годзе з Другой Усебеларускай мастацкай выстаўкі.

На кожным з гэтых этапаў даследчык заўважае новыя рысы, праявы і звязаныя з гэтым прыкметы росту, а таксама пэўныя недахопы. Першы перыяд меў у сваім характары многа арганізацыйных момантаў — збліжэнне мастакоў, стварэнне грамадскай атмасферы для мастацтва.

Крытык зазначае, што на другім этапе, яшчэ слаба вы-яўленым нашымі мастакамі, застаецца сацыяльны і рэвалюцыйны сюжэт. Адлюстраванне «нядаўняй героікі рэвалюцыйнага змагання або штодзённай упартай напружанасці сучаснага сацыялістычнага будаўніцтва як быццам яшчэ перавышае рэальныя магчымасці і сілы маладога беларускага мастацтва, якое з вялікімі цяжкасцямі адрываецца ад ранейшай эскізнасці і яшчэ не знаходзіць сабе моцнага грунту для рэалізацыі складаных і манументальных кампазіцый». На трэцім этапе мастацтвазнаўца бачыць відавочны зрух у гэтым напрамку. У адносінах да пытанняў фармальнага парадку Шчакаціхін справядліва лічыць, што яны ў беларускім мастацтве не мелі асаблівай вастрыні і што яму не пагражае насланнё крайніх плыняў накшталт кубізму, супрэматызму і т. п. Мастацкія напрамкі ў сучаснай беларускай выяўленчай творчасці, паводле Шчакаціхіна, ідуць ад рэалізму ў розных яго праяўленнях. Паняцце рэалізму ён трактаваў шырока. Мастацкае бачанне свету магло быць выражана па-рознаму, абы яно не скажала рэальны вобраз жыцця.

Крытык не прымаў такога спосабу адлюстравання рэчаіснасці, які ішоў ад бяскрылага натуралізму, «поўзання па натуры». Не адмаўляючы права творцы на featuresнабаковы падыход да вытлумачэння выяўленчымі сродкамі з'яў жыцця, Шчакаціхін сваімі сімпатыямі схіляўся да тых, хто на новым этапе і на новым узроўні імкнуўся працягваць рэалістычныя мастацкія традыцыі мінулага. Апошняе добра відаць у стаўленні крытыка да творчасці грамадкі маладых беларускіх мастакоў М. Філіповіча, У. Кудрэвіча, І. Ахрэмчыка М. Станюты, В. Руцая, А. Бразера і іншых. Неабходна зазначыць, што Шчакаціхін яшчэ не карыстаецца звычным нам тэрмінам «метад сацыялістычнага рэалізму». Названых мастакоў ён называе, напрыклад, прадстаўнікамі неарэалізму. Па сутнасці, сваёй творчасцю яны сцвярджалі ідэал новага, сацыялістычнага грамадства сродкамі рэалістычнага. І гэта, як пазітыўнае, у іх адзначаў і вітаў выдатны вучоны. У артыкуле «Сучаснае беларускае мастацтва» вылучае тры адметныя ў сэнсе мастацкага адлюстравання жыцця напрамкі.

Да першага вучоны адносіць у асноўным мастакоў, цесна звязаных з традыцыямі Расійскай Акадэміі мастацтва, і называе яго акадэмічным натуралізмам. Неабходна заўважыць, што тэрмін «натуралізм», у разуменні Шчакаціхіна, не мае нічога агульнага з натуралізмам у літаратурным, сучасным сэнсе гэтага слова. Да гэтага напрамку мастацтвазнаўца адносіць В. Волкава, Я. Кругера, Ю. Пэна, М. Сляпяна і іншых. Прадстаўнікамі, якія карысталіся своеасаблі-вай формай імпрэсіянізму, Шчакаціхін называе невялікую групу мастакоў — У. Кудрэвіча, Каўроўскага, Цёмкіна, К. Русецкага, часткова М. Станюту. Трэцюю плынь мы ўжо назвалі, пералічылі і яе прадстаўнікоў. Гэта неарэалісты. Пошукі імі выяўленчай выразнасці Шчакаціхін узводзіў да Сезана і маляўнічых здабыткаў Фалька. Як пазітыўную тэндэнцыю адзначыў ён цягу некаторых беларускіх творцаў да прыкладнога мастацтва як найбольш масавай яго формы.

Біяграфічныя нататкі і разгляд паасобных твораў, дадзеныя Шчакаціхіным у кнізе «Сучаснае беларускае мастацтва», часта перарастаюць рамкі пастаўленай задачы і ператвараюцца ў партрэты вугалем таго ці іншага мастака. Характарызуючы, напрыклад, творы Волкава «Мужчынскі партрэт», «Рабочы», «Плытагоны», «Дзвіна», «Від Віцебска», даследчык падкрэслівае характэрнае для мастака імкненне выявіць натуральнае хараство самога размяшчэння горада, не меней тыповае для Віцебска пранікненне некранутай прыроды ў гарадскі пейзаж. Адзначаецца таксама і характэрнае для Волкава строгае кампазіцыйнае рашэнне палотнаў.

Вельмі ёмістая характарыстыка бюста Максіма Багдановіча і «Лірніка» работы А. Грубэ пад пяром Шчакаціхіна перарастае ў характарыстыку творчага аблічча маладога скульптара: «Бюст М. Багдановіча мае характар псіхалагічнага партрэту, у фармальных адносінах крыху эскізнага і глыбока прапрацаванага толькі ў тых частках, на якія ўскладаецца заданне быць выявіцелямі сінтэзаванага вобраза паэта, якім ён уяўляецца аўтару. Гэтаму самаму заданню служыць і агульная кампазіцыя бюста — нахіл галавы, задуменая накіраванасць пагляду і самастойная выразнасць уведзеных у кампазіцыю рук». Трэба бачыць саму скульптуру, каб ацаніць яе хараство

і сілу, а таксама трапнасць агульнай мастацкай характарыстыкі, дадзенай ёй Шчакаціхіным.

А вось яшчэ больш наглядны і пластычны фрагмент, што адлюстраваў вастрыню і яркасць шчакаціхінскай эстэтычнай думкі. «Лірнік» — характэрны ўзор імпрэсіяністычнае скульптуры з элементамі эмацыянальнае стылізацыі, дзе гэтак тыповая для Беларусі постаць жабрака-лірніка як бы выхаплена з яго звычайнага атачэння ў адзін з беглых момантаў і ператорана мастаком у цалкам эмацыянальны вобраз. У няроўнай паверхні скульптуры ўмела выкарыстаны фармальныя магчымасці дрэва ў арганічным зліцці формы і матэрыялу, з наданнем форме амаль што маляўнічага, а не скульптурнага характару, выяўленага ў дробных пераходах святла і ценю».

Старэйшы беларускі мастак Якуб Кругер, які прайшоў мастацкае навучанне і ўдасканаленне майстэрства ў Пецярбургу і Парыжы, у аддзеле «Сучаснае беларускае мастацтва» быў прадстаўлены партрэтамі Якуба Коласа, Змітрака Бядулі, Усевалада Ігнатоўскага, аўтапартрэтам, некалькімі тэматычнымі карцінамі. Шчакаціхін абмежаваўся кароткай характарыстыкай яго прац, некаторымі заўвагамі.

Пры разглядзе карцін Уладзіміра Кудрэвіча «Над Свіслаччу» і «Весновая раніца» мастацтвазнаўца звяртае ўвагу на тэхнічны аспект працы мастака, «на спосаб змешчаных побач дробных помазаў… не ў чыстых колерах спектра, як характэрна для французскага імпрэсіянізму, але ў мяшаных танах, дапасаваных да агульнае гамы».

Астатнія старонкі «Сучаснага беларускага мастацтва» прысвечаны мастакам М. Станюту, М. Філіповічу, М. Сляпяну, В. Хрусталёву, М. Эндэ — усім тым, хто прычыніўся да мастацкай працы ў Савецкай Беларусі на пачатку яе развіцця.

Для мастакоў і вучоных, для прыхільпкаў таленту Міколы Шчакаціхіна выданне «Сучаснае беларускае мастацтва» было апошняй яго працай, з якой яны азнаёміліся. Шчасліва распачатая даследчая дзейнасць вучонага нечакана перапынілася. Улетку 1930 года ён быў беспадстаўна арыштаваны і назаўсёды вырваны з радоў беларускіх савецкіх працаўнікоў навукі як чалавек, але не як вучоны.

Сёння таленавітая спадчына Міколы Шчакаціхіна вернута народу, якому яна, складзеная шчырым сэрцам і высокім розумам, належала кожным сваім радком, кожнай часцінкай.

**Замест эпілога**

Летам 1966 года проста з фальклорнага падарожжа па Наддзвінню спяшаюся па незнаёмай новай вуліцы Мала-зечна. На званок выходзіць невысокая пажылая жанчына. У адказ на маё кароткае прадстаўленне падае руку, узрушаную, з гулкім рытмам пульсу… Ганна Мацвееўна, добрая спадарожніца Міколы Шчакаціхіна, сведка яго радасцей і бед, у чыім сэрцы жыве непацямнелы ад часу вобраз дара-гога мужа, вучонага, чалавека.

З ёй вяртаемся ў думках да 20-х гадоў: Ганна Мацвееўна, гартаючы старонкі перажытага, я — прачытанага, пазнанага…

# 4. ФАРБЫ БЕЛАРУСКАЙ ЗЯМЛІ

## Язэп Драздовіч: вечны вандроўнік

Ён быў самабытным мастаком і цікавым чалавекам, Язэп Драздовіч.

Усё жыцце яго прайшло ў вандроўках, пошуках хлеба і ісціны. Нельга не дзівіцца, колькі ўсё ж паспеў ён зрабіць у сваім беспрытульным, бяздомным жыцці-вандраванні. Неабдымны свет яго чорна-белых аркушаў. З іх ува ўсёй красе сваіх задуменных бароў, лясных азярын, сялянскіх сядзіб, затанулых у збажыне палёў, валатовак паўстае яго малая радзіма Дзісеншчына, паўстае Беларусь.

Сімволіка-алегарычныя карціны, жывапісныя касмічныя кампазіцыі яго ўражваюць арыгінальным мастацкім бачаннем свету. Выклікае роздум створаны мастаком выяўленчы эпас мінулага беларускай зямлі. Хораша глядзяцца разьбаваныя ім на дрэве барэльефныя партрэты паэтаў, музыкантаў, хлебаробаў, і ,здаецца, ліку няма зробленым мастаком замалёўкам твораў народнага дойлідства, прылад працы колішняга земляроба, узораў ткацтва…

Вялікая любоў вяла гэтага чалавека па роднай зямлі. Яна раскрывала перад мастаком хараство кожнага яе кутка, і часавую далячынь — стагоддзі айчыннай гісторыі, і зманлівую загадкавасць Сусвету.

На золку стагоддзя з думай аб новай будучыні роднай зямлі, свету прыйшоў Драздовіч у мастацтва. Першыя беларускія календары, паэтычныя зборнікі, ім аздобленыя, асобныя графічныя малюнкі ў алегарычна-сімвалічнай форме віталі нараджэнне новага дня. У іх агніста ўстае сонца над здзірванелай нівай аратага, бласлаўляючы першую цяжкую яго баразну, зманліва і прызыўна пылае вогнішча на вяршыні, гучыць вецер рэвалюцыі.

У заняволенай буржуазнай Польшчаю Заходняй Беларусі лёс мастака, як і яго народа, быў суровы. Драздовіч штокрок натыкаўся на жорсткую рэчаіснасць санацыйнага рэжыму. Мастака двойчы арыштоўвала дэфензіва. Ён жыў пад паліцэйскім наглядам, пакутваў ад беспрацоўя. Але ад мары, любові сваёй не адмовіўся. Светазарны хорам свабоды, чалавечага шчасця, контуры якога бачыліся Драздовічу ў дні рэвалюцыі (тады мастак упершыню замацаваў вобраз яго на сваіх аркушах) мроіліся яму і ў Заходняй Беларусі. Вобраз гэты светлай будучыні людской ажываў пад рукой мастака на старонках смелага, бескампраміснага часопіса вызваленчага руху «Маланка». Алегарычна-сімвалічнай і рэалістычнай мовай сваіх карцін «Бежанцы», «Дух цемры», «Пагоня Ярылы», графічных лістоў «Няволя», «Пажар у замку» мастак асуджае імперыялізм. Аднак асноўную сваю задачу ва ўмовах сацыяльнай і нацыянальнай няволі бачыць у актуалізацыі айчыннай гісторыі. У стварэнні гераічных вобразаў, мастацкім узнаўленні мінулага бачыў сродак умацавання духу супраціву ў народзе каланізацыйнай палітыцы пілсудчыкаў. Графічныя серыі Драздовіча «Крэва», «Мір», «Гальшаны», «Ліда», «Навагрудак» — мудры сказ мастака аб дзеях, годных памяці продкаў: дойлідаў, сейбітаў, воінаў. Пазней Драздовіч створыць цэлую жывапісную галерэю гістарычных вобразаў, пачынаючы ад легендарнага Баяна, Усяслава Чарадзея, асветніка, першадрукара Францыска Скарыны…

Неспакойная мара мастака імкнулася ў неаглядную далеч Сусвету ў той час, калі космас быў прадметам цікавасці толькі паасобных вучоных. Разгорнутыя Драздовічам у 30-я гады

жывапісныя серыі, прысвечаныя жыццю на іншых планетах, прываблівають смеласцю думкі, нязвычнасцю мастацка-вобразных рашэнняў.

Здзейсненае мастаком-падзвіжнікам, мастаком-летуценнікам і праз гады, як пра гэта красамоўна засведчыла выстаўка яго твораў у 1979 годзе, не перастае хваляваць. Яно абуджае глыбокае пачуццё любові да роднай зямлі, патрэбу паўнейшага пазнання яе людзей, духоўнай спадчыны дзеля дабра, чалавечай прыязні, дзеля добрай будучыні будучыні.

У самаадданым служэнні мастака Радзіме, народу, людзям — пазнавальнае значэнне кнігі пра Язэпа Драздовіча. Асабліва для моладзі, юнацтва.

*Максім Танк*

## Дзе пацеркай белай Вялля прабягае

Я палюбіў бацькаўшчыну нашу,
вандруючы па ёй.
*Язэп Драздовіч*

Мастак ішоў і ішоў да іх на спатканне — да свае зямлі, да родных людзей. Адкрытыя, падстаўленыя стрэчнаму ветру грудзі, яснае аблічча з хваляй цёмна-русых валасоў да плячэй, добрыя зоркія вочы.

Праз плячо сумка з мастакоўскімі прыладамі, фарбамі, скруткам белай палатніны, акрайцам хлеба.

Яго пазнавалі здалёк па лёгкай хадзе, рослай постаці. «Дзядзька Язэп, дзядзька Драздовіч», — казалі дзеці і сталыя, вітаючыся з ім.

Цхае светлае пачуццё змалку лучыла мастака з роднай зямлёй. Ён любіў яе лясныя, палявыя, азёрныя краявіды: вёскі па ўзлесках, на ўзрэччах, пры старых бальшаках. Ціхія зажураныя песні, мудрае хараство сялянскай будовы…

Любіў і гаманкія мястэчкі, што туліліся больш да старых гасцінцаў ды час ад часу збіралі на свае кірмашы, фэсты, земляробчае наваколле з плёнамдарамі гэтай зямлі: серабрыста-шэрым жытам, ручайкамі шаўкавістага лёну, бела-залацістымі пляйстрамі мёду, узорыстымі посцілкамі на вазах, бандарнымі вырабамі, паліваным посудам.

Любіў яе гарады са старымі камяніцамі, разнастыльнымі ды новаўзнятымі гмахамі, вялікія «месты», дзе адчувалася напружанасць сучаснага жыцця, грамадскага, палітычнага, асветнага, чулася дыханне іншага свету.

Гэта любоў дала таленту мастака відушчасць, можа, нават празорлівасць, без якіх сапраўднага творцы не бывае. Яна не дазволіла здрабнець, знікнуць, згінуць яго мастацкаму дару ў тых умовах, у якіх іншы зламаўся б, змізарнеў.

Усведамленне роднай зямлі, бацькаўшчыны пачалося для Язэпа Драздовіча ў юначыя гады, у час навучання ў Вільні.

Як рака за выток мае ручай, нейкую крынічку, што аднойчы раптам з-пад цяжкіх пластоў зямлі прабілася на волю, каб бегчы пад адкрытым небам да свайго мора, так і яго любоў пачалася ў адзін шчаслівы дзень, з аднаго здарэння.

У аўтабіяграфіі, напісанай Язэпам Драздовічам у 1938 годзе па просьбе рэдактара «Калосся» (часопіс сціпла адзначаў паўстогадовы юбілей мастака), сярод іншых звестак ёсць такі факт. З паўвекавой вышыні мастак успамінае пра сваю першую сустрэчу з беларускім друкаваным словам, праз трыццаць два гады згаданую так ярка.

Было гэта ўвосень 1906 года. Першая рэвалюцыя яшчэ не адпалыхала народным гневам над Расійскай імперыяй. Ачышчальны навальнічны подых яе чуўся ў грамадскай атмасферы часу. Хоць царызм перайшоў у наступленне, людзі яшчэ жылі надзеяй на перамену ў жыцці. То тут, то там у розных канцах краіны ўспыхвалі іскры змагання. Грамадская думка рвалася з ціскоў абсалютысцкай дэспатыі. Адной з такіх праяў неадольнага імкнення да волі на беларускай зямлі быў выхад газеты «Наша доля». Менавіта яна патрапіла прамовіць да сэрца маладога Драздовіча, будучага самабытнага мастака, як здолела прамовіць за кароткі час свайго жыцця да многіх, кінуць у народ ідэю адраджэння беларускага слова, беларускай зямлі.

Драздовіч толькі што паступіў у Віленскую рысавальную школу прафесара жывапісу Трутнева і быў па-юначы шчаслівы. Збывалася снаваная з падлеткавых гадоў думка-мара: пайсці вучыцца маляваць, здабыць мастацкую адукацыю.

І вось гэты старадаўні горад, першы вялікі горад у жыцці хлопца з Дзісеншчыны, прыняў, прытуліў яго. Юзік Драздовіч блукаў па асенніх вуліцах у светлым, прыўзнятым настроі.

Цэнтра льная, званая Георгіеўскім праспектам, выводзіла на кафедральную плошчу. Далей была Замкавая гара. Клёны, парослыя на схілах гары, ужо кранулі асеннія барвы. Іх цёплая гама змякчыла суровасць старадаўніх руін. З дзядзінца Замкавай гары горад быў увесь перад вачыма.

На першым, бліжэйшым, плане яшчэ пазнаваліся лініі вуліц, абрысы кварталаў, а далей дахі будынін да гарызонта зліваліся ў нейкае суцэльнае застылае мора. А берагамі яго на поўначы, захадзе ды ўсходзе глядзеліся невысокія пагоркі, парослыя баравой сасной, а дзе-нідзе і мяшаным лесам. Здавалася, горад, спакойны і вечны, ляжаў у вялікай смарагдавай чашы. Шыракаватая сіняя стужка Віліі дзесь з-за зялёных узгоркаў, з боку старога прадмесця Антокаля, вілася, пралегла да самай Замкавай гары.

Драздовіч прыйдзе сюды не раз, ужо сталым мастаком, і як вынік роздуму над вечным, старым і парасткамі новага на яго аркушах закрасуе маладое дрэўца на фоне руін старой крапасной сцяны. Яно стане застаўкай у кнізе новай беларускай літаратуры Ігната Дварчаніна як сімвал узлёту над руінамі гісторыі беларускай думкі, слова. Але гэта будзе пазней, гадоў праз дваццаць. Цяпер жа будучаму мастаку яшчэ трэба было спасцігнуць і асэнсаваць беларускае Слова.

Каля гарадской ратушы пачатковец рысавальнай школы Трутнева пачуў ад хлапчука — прадаўца газет — нечаканае: «Беларуская газета «Наша доля»! Купляйце першую беларускую газету!» Калі купіў і пачаў чытаць, уразілі дзве рэчы. Па-першае — газета была напісана, надрукавана на той самай мове, што гучала вакол яго з маленства. А па-другое, словы яе дзіўна

прыпадалі да сэрца, узрушалі. «Прачнуўся з цяжкага сну народ, падняўся, як рака ўвесну, за вялікае дзела свабоды і лепшае долі…

У гэты вялікі момант, калі ўсе народы гасударства Расійскага, аб'явіўшы вайну старым парадкам, напружваюць усе свае сілы, каб дабіцца свабоды і лепшае долі, мы будзем разам з імі», — гаварылі выдаўцы газеты ў сваім звароце да чытачоў. Яны клікалі «шчырых прыяцеляў вялікай народнай справы» дапамагаць асвеце працоўнага люду беларускага. Выказвалі надзею, што з дапамогай прыяцеляў народнага вызвалення «Наша доля» патрапіць «вывесці на свет божы ўсе нашы справы, думкі, усю нашу долю-нядолю».

Артыкул пад назваю «Што будзе?», як агонь на душу, кідаў праўду аб палітычным становішчы Расіі.

«Правіцельства кроўю заліло ўвесь край і думала гэтым успакоіць народ. Але штыкамі і кулямі можна прыдушыць народ, можна з усёй Расіі зрабіць адну вялікую магілу, а не ўпраўляць жывымі людзьмі. Кроў забітых братоў трудна забыць…»

А на заканчэнне ў газеце як адказ на пытанне, што будзе (хоць і так зразумела з артыкула: выдаўцы газеты моцна верылі ў перамогу рэвалюцыйнага народа), — алегорыя, прароцтва на будучыню ў форме апавядання. І назва — «Прысяга над крывавымі разорамі» — неяк доўга паўтараецца, жыве ў памяці. І яшчэ кідаўся ў вочы верш «Наш палетак», падпісаны тым жа імем, што і «Прысяга над крывавымі разорамі» , — Мацей Крапіўка. У ім таксама было шмат іншасказальнага. Мацей Крапіўка клікаў сыноў занядбанай бацькаўскай зямлі, сейбітаў і ратаяў, выйсці на ўдзірванелы родны загон, каб і на ім, як у суседзяў, закрасавалі збажына, дабро, надзея.

Наш палетак не араты,
Палынамі цвіце ніва.
Ну-ка, братцы, кумы, сваты,
Да работы станьма жыва!
Хто араці добра зможа,
Хто разоры скора ладзіць,
Хто шчасліва сее збожжа…

У той час калі перад вачыма васемнаццацігадовага Драздовіча са старонак першай легальнай беларускай газеты паўсталі гэтыя поклічныя словы, будучы мастак наўрад ці мог падумаць, што пройдзе нейкіх два-тры гады і яны стануць для яго справай. Драздовіч яшчэ навучэнцам далучыўся да тых руплівых і думных, хто на золку XX стагоддзя дружна і смела выйшлі працаваць на заняпалай духоўнай ніве беларускага народа. Малады мастак зойме на родных гонях сваю адметную дзялянку і ўзгадуе, ускалосіць на ёй шчыры мастацкі плён.

А пакуль што ў школе Трутнева пачыналіся для яго першыя мастацкія штудыі. Трэба было авалодаць тэхнікай рысунка, адчуваннем перспектывы, кампазіцыяй… Цяпер зрабіць гэта можна было пад назіркам спрак-

тыкаванага педагога, а не пакладацца, як дома, толькі на сваё адчуванне, кемлівасць, інтуіцыю.

Віленская рысавальная школа (Драздовіч паслядоўна ў сваіх аўтабіяграфічных матэрыялах называе яе мастацкай, каб слова «рысавальная» не зводзіла ў зман наконт характару, прызначэння ўстановы) была заснавана ў 1866 годзе. Адкрыццё яе ажыццяўлялася ў рамках праграмы ўкаранення рускіх пачаткаў у краі, як іх разумеў царызм.

Але царызм царызмам, а некаторыя навуковыя і культурна-асветныя асяродкі, у тым ліку і Віленская рысавальная школа, і Паўночна-Заходні аддзел імператарскага Рускага геаграфічнага таварыства, адкрытыя ў 1867 годзе, зрабілі нямала карыснага. Часта насуперак мэтам і ўстаноўкам іх закладчыкаў і натхніцеляў. Бо пры ўсёй тэндэнцыйнасці, напрыклад, збору звестак пра матэрыяльную і духоўную культуру так званага Паўночна-Заходняга краю быў сабраны багаты фактычны матэрыял, што пераканаўча сведчыў аб духоўнай самабытнасці беларускага народа: дзесяткі тысяч запісаў песень, казак, паданняў, легенд, павер’яў, прыказак, загадак.

Рысавальная ж школа Трутнева, пасля таго 1 як у 1832 годзе Мікалай I закрыў Віленскі універсітэт, стала адзінай навучальнай установай у краі, дзе можна было атрымаць пачатковую мастацкую адукацыю.

К часу паступлення ў яе Драздовіча школа мела свае пэўныя традыцыі. Некалькі яе былых выхаванцаў, сярод іх жывапісец Альфрэд Ромер, скульптар Марк Антакольскі, сталі акадэмікамі. Дэмакратычныя павевы часу пачатку XX стагоддзя не абышлі Віленскай рысавальнай школы. Аб гэтым можна меркаваць і па сацыяльным складзе навучэнцаў, сярод якіх часцей-гусцей сталі трапляцца выхадцы з разначыннага і сялянскага асяроддзя, і па тым, што рэвалюцыя 1905 года знайшла водгук у творчых працах яе педагогаў. Драздовіч найчасцей успамінае двух сваіх выкладчыкаў — Трутнева і прафесара Рыбакова. Абодва педагогі былі выхаванцамі Пецярбургскай акадэміі мастацтва. І. П. Трутнеў меў званне акадэміка. Працаваў больш у бытавым жанры. Гэту сваю схільнасць перадаваў і вучням. Знешне быў самавітым, паважным чалавекам. Сівая кучма валасоў над высокім спакойным чалом, даўгаватая, лапатай, белая барада, вусы — усе рысы твару выдавалі ў ім тып рускага інтэлігента другой паловы XIX стагоддзя. Карціна Трутнева «1905 год у Вільні» засведчыла, што майстар жанравых сцэн на схіле сваіх гадоў неабыякавы да таго новага, што несла ў сабе рэвалюцыя. Рыбакоў быў прыблізна на палавіну маладзейшы за даўгалетняга (на працягу сарака шасці гадоў) кіраўніка рысавальнай школы.

Быў і яшчэ адзін выкладчык, Іван Луцкевіч, праўда, вельмі нядоўга: як хапіла яго курсу гісторыі мастацтва. Казалі, што, забіраючыся ў самыя глухія куткі Беларусі, ён адшукваў цікавыя культурна-гістарычныя памяткі мінулага. Недзе стараўся раздабыць грошы на выданне дэмакратычнай газеты. Быў у вечным клопаце, няспынных пошуках. У школе, дзе выкладаў, паказваўся вельмі рэдка. Мала хто з навучэнцаў, у тым ліку і Драздовіч, ведаў аго прозвішча. Хударлявы з выгляду, энергічны, добры прамоўца, ён сваё захапленне, духоўную акрыленасць, мэтаімклівасць умеў перадаць іншым.

Мог запаліць святы агонь і ў душы маладога Драздовіча. Але многія факты жыцця мастака сведчаць, што духоўнае яго фарміраванне ішло ў асноўным па-за сценамі Віленскай рысавальнай школы. Яно толькі па часе супадала з гадамі навучання ў ёй.

У пазнейшыя гады Драздовіч даволі часта вяртаўся думкамі ў пражытае. Пра гэта сведчаць яго дзённікі, аўтабіяграфічныя запісы, дзе мастак амаль не ўспамінаў гадоў навучання ў вучылішчы. Мусіць, няшмат светлых згадак яны будзілі. Канешне, была маладосць — пара радаснага пазнання свету, шчырага юначага сяброўства. Добра марылася, снаваліся планы на будучае. Сярод іх нават такія, як стварэнне беларускага маладзёжнага часопіса, напісанне гістарычнага рамана пра Рагнеду-Гарыславу. Сляды юначых перажыванняў, летуценняў засталіся ў лістах да аднакашнікаў.

З гэтых даўніх сведчанняў відаць, як нялёгка было выхадцу з беззямельнай, шарачковай шляхты здабыць асвету. Юзіку споўнілася толькі два гады, як памёр бацька Нарцыз Драздовіч. З таго часу, ад 1890 года, сям’я Драздовічаў — маці, пяць яе сыноў і дачка, — прадаўшы пад заставу засценак Пунькі, вандравала ад арэнды да арэнды. Дзе два, дзе тры гады. Пераважна па тры. Падобна таму, як некалі сям’я Дамініка Луцэвіча, бацькі Янкі Купалы. Такі быў лёс беззямельнікаў. Абжываць чужыя куты, чужую зямлю, жыць да часу, думаючы, куды падацца ў наступныя гады.

Добра — маці ў Драздовічаў была працавітая, гаспадарлівая. Умела разумна пакіраваць. Старэйшыя ж браты мастака спраўна хадзілі за сахой. Так што сумнай долі іншых беззямельнікаў, да таго ж сем’яў без гаспадара, якім было яшчэ цяжэй, удалося пазбегчы.

У пярэбарах з месца на месца для хлапчука, а затым і падлетка Юзіка Драздовіча быў свой цікавы бок. Перад вачыма будучага мастака паўставалі ўсё новыя мясціны, родная зямля адкрывалася яму ўсё новымі даляглядамі, людзьмі. Некалькі разоў пры розных нагодах у сваіх дзённікавых запісах ужо сталым чалавекам Драздовіч успамінае тыя трохгадовыя прыпынкі на жыццёвым шляху сям’і. На пяцідзесяцігоддзе, акідваючы позіркам пражытае, мастак выпіша ў храналагічным парадку, з указаннем гадоў усе мясціны, дзе значыліся яго дзіцячыя і юначыя сляды.

Перш-наперш назаве зыходную дату, час і месца свайго нараджэння: 1 кастрычніка 1888 года (па старому стылю), на Пакровы. Убачыў свет Юзік Драздовіч у пару, калі земляроб скончыў усе свае работы ў полі: сабраў і звёз збажыну ў гумно, засеяў азіміну, калі зямля, аддаўшы свой плён чалавеку, адпачывала, чакала першага снегу. Журавы забралі з сабою лета, ласкавае сонца. Дрэнна свяціла яно немаўляці. Не вельмі грэла і тады, калі вырас, пайшоў у людзі — малады мастак, настаўнік, збіральнік духоўных скарбаў свайго народа, чалавек з пільнымі вачыма і высокім чалом філосафа-мудраца і сэрцам паэта.

У доўгім спісе мясцін, дзе жылі Драздовічы, перабіраючыся з арэнды на арэнду, першымі стаяць Пунькі — засценак Пунькі ў Галубіцкай пушчы. Калі кіравацца з Глыбокага на Дзісну і, не даязджаючы яе, звярнуць направа ў мора сініх лясоў, то праз якіх кіламетраў васемнац-

цаць можна патрапіць у Пунькі. Яны там, дзе вёскі Перадолы, Ліпляны, Прапелеўшчына.

Хаты старой, таго драздовічаўскага гнязда, няма. Згарэла ў вайну, у час блакады. Але яе можна ўбачыць на графічных аркушах мастака. Цяпер на былой сядзібе Драздовічаў невялікая хаціна. У ёй дажывае свой век былы ляснік Данат Пабядзінскі, які добра, хораша помніць Язэпа Драздовіча, дзядзьку Драздовіча, як завуць старэйшыя людзі тутэйшых ваколіц свайго мастака. Памятае яго мо самыя першыя дзіцячыя крокі па зямлі буйнарослая ліпа, што непадалёк ад цяперашняй хаты Пабядзінскага велічна ўзняла ў неба сваю зялёную карону. Услед за Пунькамі мастак называў месцамі жыцця-вандроўкі сям'і: Стадолішча, Станулíва, Кміты, Александрыю, Чаронку, Галічына, Красоўшчыну, Міёры, Саворына, Лявонаўку, Прапелеўшчыну, Падорку…

З Александрыі ў 1906 годзе Юзік Драздовіч і выправіўся ў Вільню. Упершыню пакідаў родны дом. Парываўся яшчэ раней. Але маці адразу як бы не даўмелася, што ёй рабіць з сынам. Бачыла, што ён не горнецца так да гаспадаркі, як браты. Трэба — памагае: і ў лес па дровы з'ездзіць, і равы капаць, каб збегла вада і крыху падправілася ніва. Але ў яго з маленства свой клопат. Дзесяцігадовым хлапчуком Юзік мог гадзінамі карпець над змалёўваннем звяркоў з кнігі, купленай у Дзісне на рынку. Рана пачаў з карэнняў і сучкоў выразаць розныя фігуркі. Ляпіў іх з гліны. Грамата давалася яму лёгка. Спачатку маці аддала яго ў навуку разам з дзецьмі сваякоў паненцы-настаўніцы, якая вучыла, тоячыся, прыватна. А цяпер хлопца трэба было паслаць кудысь далей. Дачуліся, распыталі пра школу мастака Трутнева ў Вільні, і ўжо думка аб ёй не давала хлопцу спакою. Маці рашалася паслаць свайго малодшанькага вучыцца, хоць ведала: будзе цяжка. Спадкі па бацьку, якія перад смерцю ён наказаў роўна падзяліць паміж пяццю сынамі, былі невялікія. Плаціць жа давядзецца і за навуку, і за кватэру,і за сталаванне. Сын супакойваў маці. Казаў, што неяк дасць сабе рады: ці мала бяднейшых людзей цяперашнім часам усё ж прабіваецца да асветы. І сапраўды, год сяк-так выдужалі. А ў наступны хлопца ўзяў одум: «Можа, не так трэба было пачынаць? Нашто цярпець беднасць, прыніжэнне. Лепш спачатку папрацаваць, зарабіць грошы, а потым ужо смялей падацца ў навуку».

Дзевяцісотыя гады — час масавага выезду абяздоленых за мяжу. Гнала ў свет людзей беззямелле, галеча, безнадзейнасць. Як падавала «Наша ніва», толькі за 1900—1908 гады з Расіі выехала за мяжу паўтара мільёна чалавек. Большасць эканамічных эмігрантаў паходзіла з Беларусі і Украіны.

Драздовіч сабраўся ўвосень 1907 года ўслед за землякамі, якія ехалі ў пошуках працы, кавалка хлеба. Дзеля гэтага выбраўся ў Рыгу да свайго швагра Яна Коўзуна, рабочага, за якім была замужам сястра Леакадзія. Аднак у адну раніцу, як пазней прызнаецца мастак, яму стала страшна ад думкі, што можна дзесь згубіцца ў далёкім чужым свеце. І хлопец рашуча адкідае думку аб выездзе ў Амерыку. Вярнуўся ў Вільню. На выстаўцы студэнцкіх работ убачыў некалькі сваіх. Гэта суцешыла. З такімі ж немаёмаснымі, як сам, Венедзем Петраковым і Антонам Сточкусам цяпер шукалі разам таннейшай кватэры

ды выгадвалі, каб быў прымус і можна было самім часам што-небудзь згатаваць. Сяк-так пракідаўся яшчэ год. А ўвосень 1908 года ізноў выбіраецца ў Рыгу, цяпер з надзеяй паступіць на фарфоравыя заводы, дзе маглі прыдацца яго мастакоўскія здольнасці. Але на заводах, як на тое, пачаліся скарачэнні, звальненні. Паспрабаваў уладкавацца ў малярскую фірму, ды там трэба было ведаць нямецкую і латышскую мовы. Крыху папрацаваў у нейкага прадпрымальнага чалавека, гаспадара майстэрні шыльдаў. Заробак быў марны, і зноў давялося вярнуцца ў Вільню. Клікаў сюды школьны сябра Антон Сточкус. У лісце з Палангі пісаў, што паказаў малюнкі Драздовіча двум заезджым знакамітым мастакам, і яны ацанілі іх як творы, напісаныя таленавітай рукой. Блудны сын, уцякач паняволі, зноў вяртаўся ў сваю маленькую альма матэр, у гэты горад, які станавіўся ўжо часцінкай яго роднага свету. Цяпер знайшлася і сякая-такая работа. Падзарабляў крыху ў майстэрні жывапісца Ябланоўскага, потым у Пяркоўскага на Бернардынах. Паспрабаваў маляваць карыкатуры для часопіса Wilnianka». Невялікія былі заробкі, але прыезд у Вільню апраўдваў сябе ў адным, вельмі важным. Вільня вяртала Драздовіча да роднай стыхіі, да беларускага друкаванага слова. Будучы мастак усё пільней пачынае прыглядацца да працы людзей, што рупіліся на ніве адраджэння беларускай культуры.

Ва ўмовах, калі рэвалюцыя пайшла на спад і спадзявацца на хуткае і радыкальнае вырашэнне сацыяльных і нацыянальных патрабаванняў народных мас было цяжка, беларускі вызваленчы рух набраў перш за ўсё культурна-грамадскія формы. Зрэшты, з такіх форм і ў іншых сацыяльна-гістарычных абставінах пачыналася адраджэнне балгар, чэхаў, славакаў, сербаў, латышоў, літоўцаў і іншых народаў.

Адной з самых яркіх праяў вызваленчага руху на Беларусі, адначасова і заваёў яго, быў друк — перыёдыка і кнігавыданне. Яшчэ да таго, як царызм спачатку задушыў канфіскацыямі, а потым і зусім забараніў «Нашу долю» за яе рэвалюцыйна-дэмакратычны напрамак, з 10(23) лістапада 1906 года пачала выдавацца больш умераная газета «Наша ніва». Рэдакцыя новай беларускай газеты, як і яе папярэдніца «Наша доля» (а складалася яна ў асноўным з тых жа людзей), ставіла задачу «будзіць у беларусе пачуццё чалавека і грамадзяніна, голасна гаварыць аб яго патрэбах і правах». Яна абяцала са старонак свайго выдання «кідаць усім праўду ў вочы»… Але рабіла гэта стрымана, улічваючы тое, што рэвалюцыя пачала ісці на спад і патрэбна была карпатлівая будзённая праца на доўгія гады, каб прычакаць новага ўздыму народнага мора. «Наша ніва» зрабіла акцэнт на развіццё асветы і культуры.

Нельга сказаць, што рэдакцыі беларускай газеты не ўдавалася здзяйсняць сваёй праграмы. Калі палітычную частку яе з-за цэнзуры яна выконвала толькі часткова, то культурную — даволі паспяхова. Асабліва інтэнсіўна пачалі гуртавацца каля «Нашай нівы» літаратурныя сілы. На старонках газеты, аздабляючы яе сваім талентам, узмацняючы дух супраціўлення царскаму самаўладству, узышлі зоркамі першай велічыні імёны Янкі Купалы, Якуба Коласа, Элаізы Пашкевіч, Максіма Багдановіча, Ядвігіна Ш., Змітрака Бядулі, Максіма Гарэцкага. Акрамя паэзіі, якая задавала тон у новай беларускай літаратуры, а так-

сама даволі паважнай навелістыкі, шырокае развіццё на старонках «Нашай нівы» атрымала публіцыстыка. Жанр гэты нёс патрыятычную, грамадзянскую, сацыяльную службу і быў прадстаўлены імёнамі Янкі Купалы, Лявона Гмырака, Сяргея Палуяна, Янкі Окліча, Фабіяна Шантыра, Антона Луцкевіча інш. Іншы раз, калі ўжо вельмі нахабна пачыналі завіхацца, старацца з паліцэйскімі даносамі чарнасоценцы тыпу кавалюкоў, саланевічаў, каранкевічаў, браўся за пяро і рэдактар «Нашай нівы» Аляксандр Уласаў, каб годна і доказна сцвердзіць: беларускае слова і народ беларускі не сягоння з'явіліся на свет — яны маюць сваю мінуўшчыну, сучаснасць і будучыню.

Шмат значыла для рэдакцыі беларускай газеты, апазіцыйнай рэжыму, маральная падтрымка, што зыходзіла ад перадавых людзей Расіі.

Прыязную руку «Нашай ніве» працягнулі рускія, украінскія вучоныя, пісьменнікі. Сярод іх — сумленне тагачаснай дэмакратычнай Расіі — Максім Горкі.

…«Горача жадаю вам поспеху ў высакароднай і жывой справе Вашай», — пісаў ён у рэдакцыю газеты ў 1910 годзе.

Першае слова ў «Нашай ніве» было, мабыць, за паэзіяй. І рэдка які з нумароў «Нашай нівы» не нёс на сваіх старонках акрыленых агністых радкоў Янкі Купалы. У паэтавых словах яшчэ жыла, гучала то набатным клічам, то рэквіемам па загінуўшых сама Рэвалюцыя.

Дзе вы, хлопцы непакорныя,
Дзе вы з песняй удалою,
Як на поле на прасторнае
Вы хадзілі грамадою?
Ці пайшлі вы ў далёкую
У старонку ў чужую,
Ці ляглі вы адзінокія
У магілку ў сырую.
Дзе вы, песні, дзе свабодныя,
Дзе ваш водгалас магучы?..—

парывіста гучаў голас паэта.

І чым змрачнейшым рабілася грамадскае жыццё Расіі ў перыяд, калі, паводле трапнага вызначэння Блока, адбыўся «пераход кіраўніцтва краінай з рук паўдваранскіх паўчыноўнічых у рукі дэпартамента паліцыі», тым настойлівей голас беларускага паэта клікаў да вытрымкі, мужнасці, да новых рэвалюцыйных дзей:

Не ўздыхай, не бядуй, брат замучаны мой!
І жыцця не кляні, не кляні.
Думу-песню запей, стань адважнай ступой.
Яшчэ раз не засні, не засні!
Болей крыжам адным — гэта цень прад зарой,
А там ясныя, новыя дні!..

Позірк паэта быў скіраваны ў будучыню.

З-за цэнзурных умоў думку, покліч ён ахінуў у алегарычныя вобразы, вельмі выразныя, нягледзячы на іх іншасказальнасць. І тут жа ўслед, як бы вырваўшыся з цеснаватых рамак алегарычнасці, пераходзіў да адкрытага, амаль публіцыстычнага тэксту.

Песняру-беларусу (так і называўся верш) Купала дае наказ быць будзіцелем:

Шчаслівы ты ці не шчаслівы —
Будзі сыноў сваёй зямлі.
Над беларускай соннай нівай
Нязгасны светач распалі.

Драздовіч, як сотні і тысячы маладых інтэлігентаў, прыслухоўваўся да палымяных слоў паэта-звестуна, убіраў у сябе зорную музыку яго радкоў. Робячы першыя крокі ў выяўленчым мастацтве, Драздовіч быў поўны гэтай музыкі, прасякнуты сімволікай і алегарычнасцю, уласцівай купалавай моўнай палітры.

Першага студзеня 1923 года на адзіноце, у вёсцы, мастак раздумвае над пражытым і ў лісце да сябра сціпла падагульняе, што ў 1909 годзе «пачаў з драбнічкі — вокладкі для «Беларускага календара на 1910 год»«.

Восенню 1908 года Драздовіч пераступае парог рэдакцыі «Нашай нівы», каб пазнаёміцца з людзьмі, што выпускаюць беларускую газету. Прыйшоў не з пустымі рукамі, прынес першы допіс. У ім расказаў пра клопаты-згрызоты земляробаў з-пад Дзісны і Полацка. Занатоўка, падпісаная псеўданімам Яззп Разора, была надрукавана ў «Нашай ніве» 20 лістапада 1908 года. З таго часу Драздовіч не раз бываў у рэдакцыі на Віленскай, 20. І калі там зарадзілася думка выдаць першы беларускі каляндар кнігай, а за справу ўзяўся запальчывы Сяргей Палуян, то мастацкае афармленне заказалі яму. Супрацоўнікі рэдакцыі ўжо мелі ўяўленне аб здольнасцях навучэнца школы Трутнева. І толькі прасілі лішне не выдумляць, а трымацца народнай глебы, народных мастацкіх традыцый. Малады мастак імпанавау «нашаніўцам» сваім разуменнем тых думак, засевак, з якімі газета ішла ў народ. І гэта ён добра выявіў у абразку на вокладцы «Першага беларускага календара «Нашае нівы». Пры перагружанасці кампазіцыі, выяўленчай незавершанасці вобраза ратая, у цэлым вокладка давала пераканаўчы мастацкі воблік кнігі.

Яго першая праца вытрымала выпрабаванне часам: у перыяд уздыму нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі (а ў гэты час друкавалася ці не найболын розных кніг-календароў з палітычна і культурна-асветнымі мэтамі) на вокладцы «Беларускага календара на 1928 год» быў узноўлены Драздовічаў рысунак 1909 года і ўспрымаўся ён надзённа.

У аўтабіяграфіі, напісанай да 50-годдзя, Драздовіч раскрыў у двух словах задуму сваёй першай графічнай работы: старая і новая, або, як любілі выслоўлівацца тады, маладая Беларусь. Адпаведна аўтарскай задуме і ма-

стацкая выява мела два планы, кампазіцыя малюнка складалася з двух асноўных частак.

Злева ўстае суцэльнай сцяной змрачнаваты яловы лес. Унізе задрамала забытая светам, з паніклымі будынінамі вёска. Справа — яснейшы далягляд. Ратай выйшаў на ніву насустрач усходу сонца. Пракладае першую баразну на запушчаных гонях. Ранішняе сонца шчодра сыпнула промні на зямлю, ратая.

Натуральна, вобраз земляроба вырастае да шырокага ідэйна-мастацкага абагульнення. Ён увасабляў сабой працоўную Беларусь, якая прачнулася да новага жыцця, да святлейшай будучыні. І прыхмаранае неба, і сонца, што, здаецца, бласлаўляе пачатую працу, і першая баразна, пракладзеная на запусцелым дзірване, — усё набывала сімвалічны сэнс. Але мастак не абмежаваўся гэтай сімволікай і ўвёў яшчэ некалькі вобразаў, якія паўтараюць той самы матыў на іншым сімволіка-мастацкім узроўні. Ён укампаноўвае ў малюнак круг, дзе асноўная думка паўтараецца ў іншых вобразах, якія ў пэўным сэнсе паглыбляюць гучанне твора ў цэлым. Матывы старой і маладой, паўсталай да новага жыцця Радзімы тут увасабляюцца адпаведна ў двух вобразах: старога дрэва, ля камля якога сярод папаратніку ляжаць шлем, даспехі — знак мінулага, і гонкага маладога пабегу, буйналістай атожылкі — сімвала новых сіл народа. Падпісаў свой першы твор Драздовіч псеўданімам І. Разора.

Творчае супрацоўніцтва маладога мастака з «Нашай нівай» пераходзіць за апошні год навучання ў Вільні ў прыязныя сяброўскія адносіны з некаторымі членамі рэдакцыі (перш-наперш з сакратаром яе В.Ластоўскім), акружэннем газеты. Сярод тых, хто ўвосень 1910 года вітаў рэдакцыю «Нашай нівы» з чатырохгадовым юбілеем працы яе (а павіншаванні такія прыслалі М. Багдановіч, Ц. Гартны, І. Буйніцкі, Я. Журба, праф. Пагодзін, праф. Свянціцкі і іншыя), быў і падпісаны псеўданімам І. Разора кароткі, шчыры зварот мастака, дасланы ўжо з Дзісны.

**Казарма. Дарогамі Сусветнай вайны**

Сувязі з рэдакцыяй беларускай газеты не перапыняюцца ў Драздовіча і тады, калі яго на сыходзе восені 1910 года забіраюць на вайсковую службу.

Амаль два гады салдацкай муштры ў 188-ым Карскім палку ў Саратаве малады мастак пераносіць як стоік. Вясною 1912 года, аднак, не вытрымлівае — «уцякае» на курсы вайсковых фельчараў пры дывізіённым шпіталі. Правучыўшыся да зімы 1913 года і здаўшы экзамены «кругом на отлично», малады фельчар вяртаецца ў полк і адразу атрымлівае накіраванне «ў прыгожы, міжгорны вясёленькі гарадок над Волгай Вольск у амбулаторыю».

У Вольску ўжо казарменныя сцены не адгароджваюць яго так глуха ад шырэйшага свету. Курсанту фельчарскай школы ўдаецца завесці прыязныя знаёмствы і дружбу з цывільнымі, ці вольнымі, як кажа мастак. Сярод іх нехта брат і сястра Баранкіны. Мастак-вайсковы Драздовіч мае магчымасць паўней даведацца, чым жыве вялікая краіна, чаго чакае, спадзяецца на бліжэйшыя гады.

«Тут я чуюся хоць і «ніжнім чынам», але па-людску», — згадае мастак, азіраючыся ў маладосць з вышыні пяцідзесяці гадоў. З Вольска наведвае гарады Казань, Уфу і нават далёкі Іркуцк. У Вольску Драздовіч можа больш стала, а не толькі ўрыўкамі, працаваць, займацца самаадукацыяй.

І першая мастацкая праца Драздовіча, і пазнейшыя яго выяўленчыя алегорыі, надасланыя ў Вільню з-пад Волгі, не ўніклі вачэй Янкі Купалы. Прынамсі, калі ён пачынае рыхтаваць да выдання першы паэтычны зборнік пятнаццацігадовай Кастусі Буйлянкі «Курганная кветка», то зычліва раіць паэтэсе, каб вокладку да кнігі папрасіла намаляваць Драздовіча, і ўрэшце сам заказвае яе мастаку, з якім быў асабіста знаёмы.

Паэт адчуваў, што малады мастак знойдзе адпаведны выяўленчы вобраз кніжкі, уловіць яе паэтычны дух і стыль. Трэба сказаць, што Драздовіч не падмануў спадзяванняў паэта. Яго малюнак на вокладцы кнігі Канстанцыі Буйло «Курганная кветка» — дасканалы мастацкі твор. Ён мог бы прагучаць і асобна, як самастойны графічны аркуш. Загадкавае, таямнічае аблічча глядзіць з вокладкі. Такое загадкавае і таямнічае, як само народнае паданне пра папараць-кветку, што можа зрабіць чалавека шчаслівым.

Зманлівая загадкавасць тоіцца ў абліччы, створаным Драздовічам, строгім і таямнічым. Ледзь-ледзь праступаюць у ім жаночыя рысы. Твар, шыя, плечы загадкавай асобы шчыльна ўкрыты-атулены ўдала стылізаваным пад папараць нечым светла-шэрым. Гэта надае абліччу яшчэ большую строгасць, зманлівасць, недасяжнасць.

Мастацкая завершанасць «Курганнай кветкі» Драздовіча была не ў малой ступені абумоўлена тым, што мастак знайшоў адпаведную тоеснасць міфалагічнага і рэалістычнага, не раствараючы адно ў другім. У Вольску Драздовіч піша пяць карцін, паводле яго слоў, «прарочучых будучыню». Ужо самі іх назвы сведчаць, што творы насілі алегарычна-сімвалічны характар: «Трызна мінуўшчыны», «Брама будучыні», «Злыя чары», «Хаос смутку», «Дух зямлі».

Разам з графічнымі малюнкамі, якіх набралася пад шэсцьдзесят, мастак адсылае іх у Вільню, у рэдакцыю газеты «Наша ніва». Там бачыў іх супрацоўнік газеты Змітрок Бядуля і праз некалькі год перадаў сваё ўражанне — захапленне мастакоўскай фантазіяй Драздовіча. Дзякуючы Бядулі, можна даведацца штосьці канкрэтнае аб змесце гэтых першых жывапісных твораў-летуценняў мастака.

Эцюд Бядулі (называўся ён «Штрыхі аб беларускай культуры» і быў змешчаны ў газеце «Беларускае жыццё» ад 28 студзеня 1920 года)— першая спроба публічнай ацэнкі творчасці Драздовіча, яе кароткі агляд. Адначасова — роздум аб лёсе беларускага мастацкага таленту, аб няўменю грамадства належна шанаваць яго.

Пісьменнік гаворыць пра Драздовіча, што «гэта чалавек з вялікім малярскім (мастакоўскім) талентам, з багатай фантазіяй у творчасці, толькі матэрыяльныя варункі падразаюць яму крылле». Бядуля ўспамінае пра тое, што яшчэ да вайны у Вільні бачыў альбомы графічных рысункаў

Драздовіча, яго жывапісныя творы і знаўцы мастацтва «вынеслі ад іх самае добрае ўражанне».

«У Драздовіча ёсць свой стыль, самабытны арыгінальны. Чуецца ў яго творах багатая фантазія, містычнасць і сімволіка», — падагульняў свае разважанні пісьменнік. Чуйнаму на хараство, схільнаму да імпрэсіянізму па манеры пісьма ранняму Бядулю імпанавалі і фантазія, і сімволіка, у нейкай ступені нават містычнасць, якія ўбачыў ён у карціне «Трызна мінуўшчыны». У карцінах жа Драздовіча, тых першых, пяці, «прарочучых будучыню», калі меркаваць па іх мастацкім змесце, часткова пераданым Бядулем, дамінавала думка аб перамозе святла над цемрай, хараства над смерцю, яснай будучыні над хаосам смутку. Праўда, жывая, жыццесцвярджальная ідэя твораў-фантазій, увасобленая ў адцягненыя сімвалічныя і алегарычныя вобразы, была выказана вельмі суб'ектыўна, прынамсі, не прачытвалася так выразна, непасрэдна, як у першай працы мастака, якая пайшла да людзей, у свет разам з «Беларускім календаром на 1910 год».

У згаданым артыкуле Бядулі, прысвечаным пытанням беларускай культуры, пісьменнікам падмечана: «Шмат ёсць у Драздовіча гэткіх багатых фантазій, напісаных у духу Чурлёніса, а з беларускай інтэлігенцыі мала хто аб ім ведае». Трэба сказаць наперад, што зварот да жывапіснай спадчыны знакамітага літоўца ў розныя перыяды меў зусім розны характар. З творчасцю Чурлёніса, якая ўразіла незвычайнасцю, Драздовіч пазнаёміўся ў 1907 годзе, будучы на другім курсе Віленскай рысавальнай школы. Пра літоўскую выстауку ў Вільні ў той час пісала ўся разнамоўная мясцовая прэса. Быў вельмі прыязны водгук аб ёй і ў «Нашай ніве». У маладыя гады Драздовіч памкнуўся быў на той шлях, які пракладваў у мастацтве жывапісу Чурлёніс. У 30-я ж гады хіба толькі адштурхнуўся ад расхінутасці сусвету, зорнай музыкі, фарбаў Чурлёніса.

З цягам часу Драздовіч з уласнага пераканання, жыццёвай дасведчанасці адмовіўся ад пошукаў у тым напрамку, які быў пазначаны ўплывам мадэрнісцкага светаўспрымання.

Напачатку мастак спалучае ў сваёй творчасці перадачу рэчаіснасці ў сімволіка-алегарычных вобразах з класічна-рэалістычным спосабам яе адлюстравання, асабліва ў графіцы. Захавалася некалькі ранніх графічных пейзажаў Драздовіча, створаных у гады вучобы ў Вільні. На невялікіх, альбомных па фармату аркушах — краявіды роднай Драздовічу Дзісеншчыны, тых мясцін, дзе прайшло дзяцінства мастака. Убачаны гэты зялёны, лясны, азёрны, песенны край вачыма чалавека, які тонка адчуваў хараство бацькоўскай зямлі і з замілаваннем яе паэтызаваў. Адзін з такіх графічных аркушаў — «Стадолішча», створаны, відаць, пад час летніх канікулаў, у 1907 годзе. Мастак пісаў «Стадолішча» неаднойчы. На першым аркушы «Стадолішча» — графічная мініяцюра, На ёй — выява сялянскай сядзібы на ўзгорку, як бы ў валачобнай песні апетай («А чый то дом на пагурачку?»). Сядзіба намалявана з далейшага плану: так, што бачны ўсе пабудовы і палеткі, якія акружаюць яе. Паданы палеткі схематычна: пазначаны доўгімі, пластычна нанесенымі штрыхамі. Аднак больш маляўнічы аркуш

«Стадолішча» пазнейшага часу. На ім выява сялянскай сядзібы, якая мякка тоне ў збажыне.

Мастак паэтызуе прытулак земляроба, плён яго працы. Рысунак старанна прапрацаваны графічна.

Калі «Стадолішча» — гэта шырокая мелодыя, у якой палявы прастор, жыта, цішыня, то аркуш «Александрыя» — адлюстраванне замкнутага лесам невялікага абсягу зямлі, куток сядзібы, паданы інтымна, з журбінкай. У ім угадваецца настрой развітання з юнацкімі днямі, з бесклапотным светам падлеткавага жыцця. Гэта адчуваецца ва ўсім, што адлюстравана на малюнку. І перш-наперш у застылых нерухома арэлях між двух старых сосен на пярэднім плане, злева, у сцежцы, якая бяжыць з глыбіні падворка, у невялікім беласценным доме з галерэяй на квадратных драўляных слупах і хацінай пад шэрай гонтай, што трыма вокнамі паглядае на свет крыху сіратліва. Ніякіх гаспадарчых пабудоў, аніякіх прыкмет гаспадарскіх клопатаў, руплівасці. Утравелы двор, чэзлы плот ля дома, лес, што сцяной устае адразу за сядзібай, выклікаюць адчуванне закінутасці, глушы, пачуццё лёгкага смутку.

Драздовічы, маці з братамі будучага мастака, двойчы арандавалі двор Александрыю. Першы раз у 1900—1901 гадах. Другі раз лёс беззямельнікаў прыгнаў іх у гэты глухі куток у 1904 годзе. Свой эцюд «Александрыя» малады мастак маляваў улетку 1907 года, пад час прыезду сюды з Вільні на канікулы.

«Летам 1914 года, калі пачынаецца ваенная завіруха, — пісаў Драздовіч у дзённікавых запісах пазнейшых часоў, — ідуць палкамі і маршавымі ротамі на фронт, усё пад Люблін і пад Люблін, я пазастаюся ў ліку трох фельчараў пры запасным, з 15 тысяч салдат, батальёне і тры месяцы працую з імі без урача штодзень ад усходу да заходу сонца без адпачынку ў батальённай амбулаторыі. Адпускаю па пяцьсот у дзень пацыентаў, уважліва і цярпліва, каб ніводнага з іх не пакрыўдзіць, не адпусціць без дапамогі. На астатку захворваю сам на брушны тыфус, кладуся на цэлых два месяцы ў пасцель, спачатку ў гарадскую бальніцу, а пасля пераводжуся ў лазарэт Саюза гарадоў у г. Пятроўску, дзе добра, старанна даглядаюць кожнага, як свайго роднага. Адгэтуль я атрымліваю ад лекарскай камісіі сямімесячны водпуск дамоў дзеля паправы здароўя». На жаль, мастак не гаворыць пра сваю мастацкую працу ў тыя сем месяцаў, праведзеных у Мёрах, дзе ў гэты год парадкавала чыюсь чарговую гаспадарку маці. З гэтага часу захавалася адна невялікая памятка мастака — кніга Карла Робера «Руководство к живописи» з падарункавым надпісам «М. Міоры 12 іюня 1915 г. на памятку Эдзьку Коўзану ад Юзюка Драздовіча». Відаць, гэтай кніжкай як дапаможнікам (выпушчана яна ў 1901 годзе) карыстаўся Драздовіч — вучань Віленскай рысавальнай школы і цяпер падараваў яе пляменніку, які марыў стаць мастаком. У кнізе Робера некалькі алоўкавых накідаў на палях, зробленых рукой Драздовіча. Толькі адзін, на шмуцтытуле, — фантазія: сфінкс на руінах. У сфінкса — галава старога селяніна.

Тым часам доўжылася жорсткая бессэнсоўная вайна, якая патрабавала ўсё новых і новых чалавечых ахвяр. Драздовіч, падправіўшы здароўе, ізноў

ідзе ў армію. Спачатку служыць у Дзісне, дзе робіць прышчэпку воспы «прызваным падрад у тры наборы наймалодшым (ад 17-ціда20-цігадоў). «Усе яны прыгожыя, вясёлыя, — бачыць мастак з аддалі часу, — ідуць, ідуць на фронт з «кіямі», каб страціць там за нішто, за чужое сваю красу і здароўе».

Фронт затрымліваецца на лініі Паставы, міма Казяніна Вопсу. «Замест ранейшых званоў, — згадвае Драздовіч пазней, — каля двух гадоў чуваць, як гудзяць гарматы».

Увосень 1915 года Драздовіч атрымлівае ад санітарнага ўпраўлення Паўночнага фронту назначэнне фельчарам у Новатроіцкі запасны полк. Канец восені і пачатак зімы мастак ездзіць па розных гарадах, шукае свой новы полк. Пабываў у Віцебску, Полацку, Гомелі, Оршы, Смаленску, нават праходзіць 200 вёрст пехатой з Оршы да Смаленска праз Краснае, Ляды — «напалеонаўскім трактам». Нарэшце знаходзіць часць свайго прызначэння ў Гарадку за Віцебскам ужо са зmененай назвай, што і ўскладніла так моцна пошук яе. У ваенна-медыцынскай лабараторыі Гарадка Драздовіча сустрэлі вельмі ўзрадавана: прыбыў памочнік.

Аднак доўга папрацаваць Драздовічу ў Гарадку не давялося. Праз месяц яму даюць накіраванне ў вялікую вёску Вархі, дзе было раскватаравана некалькі сот салдат. Там новапрыбыўшы фельчар павінен быў адкрыць амбулаторыю. Драздовіч арганізуе такі, сказалі б мы сёння, медпункт побач, у вёсцы Стаськова: там знайшлося адпаведнае памяшканне. Працуе адзін. Работы незашмат. Салдаты, не абцяжараныя заняткамі, мала хвараюць. Ад насельніцтва, якому памагае вайсковы «доктар», атрымлівае «гасцінную падзяку».

Напрадвесні 1916 года трапляе пад Вышні Валачок, у Паўлаўскае. Паўлаўскае — былы панскі двор, ператвораны ў вайсковую стаянку. Амбулаторыя тут абсталявана на 10 ложкаў. Адзін раз на тыдзень наведваецца ў Паўлаўскае ўрач з горада. Летам 1916 года ў вольны ад службы час Драздовіч малюе, крыху займаецца лепкай. Ля свежавыкапаных ганчарамі ям знаходзіць чорную інфузорную гліну і скарыстоўвае яе, каб зрабіць першыя свае скульптуры. Адсылае ў Петраград у беларускую кніжную суполку «Загляне сонца і ў наша аконца» прафесару Браніславу Эпімах-Шыпілу на захаванне рысункі і малюнкі.

Сярод іх «Брама будучыні», «1917 год», «Дух усходу» (малюнкі) і рысункі «Сон», «Крыга», «Ідуць-ідуць», «5» і «7» і іншыя. У сімвалічных вобразах мастак разважаў пра будучыню, прадракаў хуткую пагібель цара і самаўладства. Так, прынамсі, ён праз год, трапіўшы ў Петраград, тлумачыў сэнс сваіх сімвалічных абразкоў прафесару Эпімах-Шыпілу.

У тую пару шмат хто думаў пра будучае, а больш дзейсныя і справай клапаціліся пра заўтрашні дзень. Царызм быў асуджаны гісторыян на смерць. Усе чакалі перамен.

Карцела расхінуць заслону часу, зазірнуць у будучыню і ніжняму чыну царскай арміі Іосіфу Драздовічу. І зрабіць гэта ён імкнуўся з дапамогай мастацкага бачання. Сімволіка-алегарычныя вобразы здаваліся яму для гэтай мэты вельмі прыдатнымі. Яны давалі магчымасць нават у казармен-

ных умовах выказаць на палатне свае мары-летуценні, сваё ўяўленне аб будучыні.

Да 1916 года адносіцца і ацалелы сярод папер мастака графічны рысунак без назвы. Алегарычны сэнс яго чытаецца лёгка. У гарах прыкавана да слупа-скалы са звязанымі крыламі Свабода. Позірк яе прагна скіраваны долу, дзе ў даліне, акружаны моцнымі, глухімі сценамі, ляжыць горад. Цяжкі стыль архітэктуры гэтага горада-дзяржавы дае адчуць, што жыццё там прыгнечана. Адначасова вобраз горада даволі арыгінальны, запамінальны. Менавіта з-за яго архітэктуры. Свабода з гарачым, страсным позіркам так імкнецца да горада, што, здаецца, зараз лопнуць ковы, якія вяжуць яе крылле, і яна, светлая вястунка справядлівасці і братэрства, памкне з гары ў горад-царства. Так перадаў мастак сваё чаканне Рэвалюцыі і веру ў хуткі яе прыход.

**Год чаканых перамен**

Надышоў семнаццаты год. Драздовіч, як і мільёны стомленых бясконцай вайной людзей, прыслухваўся да вестак са сталіцы. У гэты час салдаты асабліва ўважліва чыталі газеты. Толькі іх ужо больш не цікавіла, «кто побеждает». «Царскаму акружэнню яны не верылі, — пісаў Драздовіч.— У душы не паважалі і самога цара. У іх вачах ён ужо не быў усемагутны расійскі самадзержац, як раней «на славу нам, на страх врагам».

Калі ў лютым семнаццатага царызм паў, салдаты радасна віталі рэвалюцыю. Якраз у дні гэтых вялікіх перамен Драздовічу давялося адвозіць у Маскву на камісію хворых салдат.

Масква яшчэ жыла па-ранейшаму, і павеву рэвалюцыі ў ёй не адчувалася. Салдаты, як і раней, аддавалі «чэсць» афіцэрам. Тыя ж, гуляючы па тратуарах, рабілі выгляд бадзёрых і храбрых воінаў.

Здаўшы хворых у шпіталь, Драздовіч заглянуў у Траццякоўскую галерэю, Гістарычны музей, Музей Аляксандра Трэцяга (так у тыя часы называўся музей выяўленчага мастацтва імя Пушкіна), а надвячоркам яшчэ трапіў у Крэмль, падняўся на званіцу Івана Грознага… Па звароце ў Вышні Валачок застаў змены ў салдацкім жыцці. Грубае «ты», якое так часта гучала ў адрас салдата, замянялася на «вы», а тытул «ваше благородие» на звычайны зварот «господин». Ішлі выбары камандзіраў. Сапраўднай падзеяй стаў Дзень свабоды. Яго ўрачыста адзначылі на гарадской плошчы 10 сакавіка.

Рыхтаваўся да свята і Паўлаўскі запасны полк. Драздовіча папрасілі напісаць на вялікім штандары, з якім выбіраўся на свята полк, слова «свабода».

Калі мастак прапанаваў напісаць нешта сваё, бо на ўсіх пісалі адно слова, то салдаты згадзіліся, толькі наказалі: не прапусціць слова «свабода». Мастак вывеў на сцягу:

С нами народ,
И мы с народом.
Да здравствует свобода!

На заўтра Паўлаўскі «запас» рушыў у горад на свята свабоды. Мастак адышоўся, каб зірнуць з боку на калону, і быў узрушаны непаўторнасцю моманту. «У душы маёй, — пісаў ён пазней, — ускалыхнулася нейкая таемная радасць, уцеха, калі я глядзеў на высока падняты развінуты штандар, які выплыў з бярозавай алеі на поле, ведучы за сабой сотні бадзёрых, адчуўшых сябе за людзей…»

Пасля ўрачыстасці на гарадской плошчы сабраўся мітынг у Вышневалоцкім народным доме. На мітынгу выступіў урач з гарадской бальніцы Папоў. Ён у канцы прамовы аб'явіў, што вярнуўся з заграніцы правадыр сацыял-дэмакратычнай партыі таварыш Ленін, і дадаў: «Гэта вялікі дзеяч».

Вясну і пачатак лета 1917 года Драздовіч быў яшчэ ў Паўлаўскім. Гады напружанай працы адбіліся на яго здароўі. Мастак моцна схуднеў, стаў блага спаць. Урач Яцына, які раз у тыдзень наязджаў у Паўлаўскую амбулаторыю, паставіў дыягназ: «неўрастэнія» і паслаў Драздовіча на камісію ў Маскву.

Там фельчару даюць два месяцы адпачынку для папраўкі здароўя. Драздовіч вяртаецца ў Вышні Валачок, уладкоўвае свае справы, забірае з сабой скульптуру Гарыславы і выбіраецца ў Петраград. У сталіцы трапляе якраз на вялікую маніфестацыю.

Па дарозе на яе Драздовіч паспеў пабыць на Марсавым полі, дзе былі пахаваны ахвяры рэвалюцыі, барацьбіты за волю. Магіла іх яшчэ не была як след дагледжана, і толькі вялікі чырвоны сцяг развінаўся над ёй. На палотнішчы быў намаляваны перакулены двухгаловы арол і кароны, што падалі долу з яго галоў. А ўверсе яснеў надпіс: «Академия художеств». «Браты-мастакі ўжо нясуць свой дар здабытай свабодзе і акадэмія мастацтва — з Рэвалюцыяй», — радасна падумалася Драздовічу.

Зачэрпнуўшы ўзнёслага настрою па вуліцах горада, мастак паспяшаўся на Васільеўскі востраў у суполку «Загляне сонца», на кватэру да прафесара Эігімах-Шыпілы, з якім быў ужо год як знаёмы завочна, праз лісты. Сустрэча выйшла непасрэдная, простая. У адчыненых дзвярах спаткаў Драздовіча невысокі пажылы мужчына. Вочы яго свяціліся розумам і зычлівасцю. Павітаўшыся ў жартоўным тоне, ён павёў госця ў пакой, дзе стаяў пакрыты саматканым абрусам доўгі стол з вялікай хлебніцай пасяродку, а ўздоўж сцен — шырокія з зашклёнымі дзвярыма цёмна-карычневыя шафы з кнігамі.

На адной сцяне вісеў партрэт прафесара-індыйца, на другой — малюнкі мастака-самавука Галубка. А далей у самаробных рамках Драздовіч пазнаў свае тры абразкі: «Дух усходу», «Скрозь агністую браму» і «Брама на волю, або 1917 год». Яшчэ летась прыслаў іх на захаванне вучонаму. Мелі яны ўсе сімвалічны змест. Мастацкая думка, прынамсі апошняй, «Брамы на волю» (Драздовіч часам называе яе і «Брамай будучыні») была скіравана ў будучыню. Творам сваім мастак імкнуўся прадказаць прыход Рэвалюцыі.

На гэты раз да прысланых прафесару малюнкаў і абразкоў Драздовіч дадаў скульптуру Гарыславы: прасіў прыняць на захаванне. Гаспадар паказаў госцю падарунак Купалы, дастаў альбом фатаграфій пісьменнікаў і культур-

ных працаўні-коў, сярод якіх мастак адразу заўважыў асабіста знаёмых з нашаніўскай пары Купалу, Аляксандра Уласава, Ігната Буйніцкага, Бурбіса, Бядулю. За кароткі час побыту ў Петраградзе Драздовіч тройчы наведаў кватэру чалавека, які, паводле слоў самога мастака, ды і не толькі яго, быў «душой беларускай акадэмічнай (студэнцкай) моладзі ў сталіцы».

Калі Драздовіч забег у дом 45 на 4-й лініі Васільеўскага вострава, ужо развітацца з Браніславам Ігнатавічам, то застаў на кватэры прафесара «буйнарослага вусатага госця ў чыне капітана». Пазнаёміліся. Аказалася — гэта быў Антон Грыневіч, збіральнік беларускай народнай музыкі. Ён прыехаў са станцыі Балагое, дзе служыў у войску. Высветлілася — яны землякі. Грыневіч не прапусціў выпадку, як рабіў гэта кожны раз пры знаёмстве з беларусам, каб не запісаць народнай мелодыі ад Драздовіча. Сустрэча з Антонам Грыневічам паклала пачатак доўгаму і шчыраму сяброўству музыканта і мастака. Асновай гэтай шчырай прыязнасці была іх любоў да беларускага народнага мастацтва, жаданне зберагчы яго здабыткі, зрабіць іх даступнымі грамадству, развіваць культуру роднага народа, уздымаць яго да новай, лепшай будучыні.

З Петраграда на кароткі час Драздовіч вяртаецца ў Паўлаўскае, каб уладзіць фармальнасці, забраць рэчы і назаўсёды пакінуць салдацкую службу, якой аддаў сем год. Перад ад'ездам атрымлівае паштоўку ад Жылуновіча-Гартнага і нумар газеты «Дзянніца». Выданне Жылуновіча, як і ўсё новае, што паўставала ў той час да жыцця, клікала да руплівасці грамадскай, палітычнай, асветнай.

* * *

У лістах, дзённікавых запісах Драздовіча пазнейшых гадоў некалькі разоў сумам, шкадаваннем азваўся невядомы лёс яго ранніх твораў. Казарма, становішча царскага салдата — якія там умовы для мастацкай працы. Не спрыялі яны і захаванню напісанага. Звычайна ён стараўся перадаць зробленае ў больш надзейнае месца, пэўныя рукі. Балазе здараліся для гэтага зручныя выпадкі — камандзіроўка, выезд на лячэнне. Але не заўсёды і гэта было гарантыяй захавання. Ішлі гады. У віхуры падзей губляліся і людзі і творы. Не засталося і многіх графічных і жывапісных рэчаў Драздовіча. Сярод іх некалькі альбомаў графікі і пяць першых жывапісных фантазій мастака. Яшчэ ў 1912 годзе з Саратава адаслаў іх Драздовіч у рэдакцыю «Нашай нівы», дзе іх бачылі шмат хто, у тым ліку Бядуля.

У Замасточчы, на Полаччыне, у сваякоў Канстанцыі Буйло згубіўся скульптурны партрэт Францыска Скарыны. Мастак перадаў яго паэтэсе ў 1917 годзе ў Полацку, дзе яна ў той час была бібліятэкаркай і загадчыцай беларускай кнігарні. Невядомы лёс і калекцыі малюнкаў, аддадзеных на захаванне прафесару Эпімах-Шыпілу ў Петраградзе. Некаторыя з іх значацца ў каталогу твораў, прадстаўленых на Усебеларускай мастацкай выстаўцы ў Менску ў 1925 годзе. А скульптурная выява Гарыславы, як успамінаў Эпімах-Шыпіла, доўгі час аздабляла залу паседжанняў Інстытута беларускай культуры. Але далейшы іх лёс невядомы. Толькі з узнікненнем на Беларусі ў па-

чатку 20-х гадоў першых гістарычна-этнаграфічных і мастацкіх музеяў многа твораў Драздовіча напаткаў ласкавейшы лёс. Крыху графікі мастака трапіла ў друк, скарыстана ў ім як застаўкі, малюнкі, рэпрадукцыі і сягоння даступныя гісторыку культуры.

Са станковых твораў мастака дарэвалюцыйнай пары шчасліва пазбег небыцця невялікі графічны абразок «Вогнішча». У ім відаць залежнасць пошукаў Драздовіча ад графікаў-мадэрністаў 10-х гадоў. Але ў той жа час малюнак вызначаецца непадробным пачуццём, настроем роздуму, нясе ў сабе філасофскае напаўненне. Знешне сюжэт яго просты, але не пазбаўлены элемента загадкавасці. На руінах старой крэпасці, што стаіць у міжрэччы, раскладзена вогнішча. Доўгія-доўгія пасмы дыму з фантастычнымі абрысамі ўзняліся ў неба. Пры агні відаць дзве чалавечыя постаці. Раскладзенае на ўзвышшэнні, вогнішча дамінуе над нізкаватай раўнінай, дзе ідзе нейкая праца, пасецца статак. Нешта прыцягальнае ёсць у клопаце людзей пры агні. «Вогнішча» было напісана ў 1916 годзе.

Зусім у іншай танальнасці, экспрэсіўна, дынамічна загучаў графічны твор Драздовіча «Вецер». Подых новага ў гэтым простым абразку ўвасоблены з усёй непасрэднасцю маладога, буйнага, радаснага пачуцця. Так ажывіць звычайны краявід, зрабіць яго кавалкам нейкага шырэйшага свету магло толькі сапраўднае натхненне, творчае азарэнне. На аркушы ж — усяго толькі падхопленыя буйным ветрам, не прыніклыя, а як бы выраслыя ў яго парыве высокія кусты. Далей таполі, што толькі злёгку паддаліся ветру. І на заднім плане бялее невялікі двор. Можа гэта ў натуры і абразок таго Паўлаўска, у якім праходзіла вайсковая служба Драздовіча. Мастак зірнуў на яго з тым адчуваннем, настроем, што прынеслі з сабой весткі з Петраграда.

З рэвалюцыйнымі пераменамі ў Драздовіча ўзніклі новыя думкі-намеры. Цяпер яны разам з Грыневічам снуюць шырокія планы. Горача абмяркоўваюць іх у лістах: хочуць заснаваць беларускую мастацкую майстэрню, ледзь не акадэмію. І клопат гэты кіруе Драздовіча хутчэй да родных берагоў. Тым больш, што салдатчына моцна апрыкрала. На гэты раз маці і братоў мастак застае на гаспадарцы ў Красоўшчыне, пад Германавічамі.

Цяпер, пасля чатырох гадоў вучобы ды сямі — салдацкай службы, Драздовіч даўжэй затрымаўся пры доме. Быў шчаслівы крыху адпачыць, прыгледзецца да народнага жыцця-быцця ў яго адвечным току.

Пры маці застаў вялікую сям'ю. Ратуючыся ад наступу немцаў, з Лібавы прыехала ў бежаства старэйшая сястра Леакадзія са сваімі дочкамі, зяцямі і ўнукамі. Маці, хоць арэнда на гэты раз была слабая (ледзь не ўвесь прыбытак даводзілася аддаваць гаспадару), імкнулася да гасціннасці. Нягледзячы на беднаватую арэнду ды вайсковыя паборы, на агульны стол падавалася яшчэ нямала страў, асабліва малочных.

Месяц адпачынку ў Красоўшчыне вярнуў мастаку добрае самаадчуванне. Сорамна было сядзець склаўшы рукі ў такі незвычайны час, калі ў свеце адбываліся вялікія змены, і Драздовіч бярэцца за грамадскую работу. Арганізуе ў мястэчку Германавічы харчовы камітэт, згуртоўвае адно з самых большых на Віленшчыне кааператыўнае таварыства «Беларус».

У Красоўшчыне застала Драздовіча вестка аб тым, што часовы ўрад арыштаваны, да ўлады прыйшлі бальшавікі на чале з Леніным… Што вайне будзе канец, а зямлю аддадуць сялянам.

Тое, што дагэтуль невыразна вырысоўвалася ў грамадскім жыцці, адразу стала набываць нейкія акрэсленыя контуры. Салдаты, што вярнуліся з франтоў, ды сёй-той маладзейшы з настаўнікаў пачалі арганізоўваць валасныя выканкомы, новыя органы ўлады. Першая думка, якая найбольш непакоіла людзей тут, была аб зямлі. Адвечная мара земляроба аб надзеле, які б пракарміў сям'ю, даў упэўненасць у заўтрашнім дні, здаецца, збывалася. Ды новая, нябачаная яшчэ ўлада не паспела ўмацавацца, як, зламаўшы фронт, на ўсход хлынулі кайзераўскія дывізіі. Брудна-зялёная хваля нямецкіх войск заліла і Дзісеншчыну. Думаць аб нейкай грамадскай працы пры новых гаспадарах не даводзілася: жалезная рука вайсковай адміністрацыі, нямецкага каменданта, ляжала на ўсім. На шчасце, кайзераўцы гаспадарылі не так доўга.

**Хмары з захаду**

На самым пачатку 1919 года да Дзісеншчыны дайшлі чуткі аб утварэнні Беларускай савецкай рэспублікі. Гэта бліснула Драздовічу зоркай надзеі. Мастак не задумваючыся выбраўся ў дарогу. У Менску радасна далучыўся да групы беларускай інтэлігенцыі, сярод якой сёй-той быў знаёмы. Драздовіча запрашаюць на працу ў Камісарыят народнай асветы на пасаду мастака-дэкаратара ў Беларускім літаратурна-выдавецкім аддзеле. Тут ён стварае за паўсотню рысункаў для першага ў Савецкай Беларусі буквара (лемантара — як піша мастак у лісце да Пачопкі). «Выстаўляў сваю графіку і малюнкі на Бабруйскай выстаўцы Саюзу мастакоў Літвы і Беларусі», — скупа ўспомніць Драздовіч пра гэты перыяд сваёй працы. На жаль, дзённікавыя запісы мастака захаваліся толькі ва ўрыўках. Скупавата асвятляла культурнае жыццё таго часу і не вельмі багатая тады прэса.

Менск як горад быў ранейшы і адначасова не той. Стаўшы адміністрацыйным і культурным цэнтрам рэспублікі, ён сабраў у сабе творчыя сілы, якія выходзілі з народа. Час надаў яму новае духоўнае аблічча. Горад неяк сам сабой падвышаўся і ў вачах мастака. Усё выразней і прывабней праступалі для яго рысы жывога аблічча горада. Хвіліны радасці, душэўнага ўздыму прыносіла яму блуканне па яго высокім месце: тут выразна пачувалася яго гісторыя і сучаснасць. Мітынгі, урачыстасці з часоў рэвалюцыі адбываліся на яго прасторнай плошчы, узнятай самой прыродай над ніжнім горадам, званым цяпер рынкам. Збоку, з Траецкай гары, дзе мясцілася пазней вышэйшая жаночая школа і дзе мастак выкладаў маляванне, аднойчы ўбачыўся яму куток цэнтральнага Менска. Ракурс крыху зверху нечакана адкрываў і хараство яго помнікаў і нейкі інтымны родны свет. Мастак замацаваў на паперы гэты краявід з уласцівай яму непасрэднасцю адчування бачанага. З уменнем адухавіць прадмет выявы, надаць яму другое жыццё на аркушы паперы, палатне, на дрэве. Знікне завулак, перабудуецца плошча, непазнавальна зменіцца краявід, а малюнак не толькі кране сэрца сваім мастацкім ладам,

перададзенай гармоніяй, але будзе і гістарычным дакументам, помнікам. З яго дапамогай нашчадак лягчэй адчыніць дзверы ў мінулае роднага горада, можа, больш будзе любіць і шанаваць яго, ганарыцца, што жыве тут.

Але Драздовіч, ловячы ў 1919 годзе рысы параднелага яму горада, не думаў, напэўна, пра тое, што яго твор будзе расказваць нашчадкам пра той Менск, якога яны не застануць. Сам сабой перадаваўся той настрой, якім гэты куток роднага горада ўскалыхнуў сэрца мастака. Настрой гэты абняў усё: брукаваную вуліцу, што спускалася з боку Траецкай гары да Свіслачы, жывую завесу зяляніны над ёй і далей — выгляд высокага горада. Дамы падымаюцца з лагчыны, ад рэчышча нябачнай ракі, усё вышэй. І што вышэй, тым выгляд іх самавіцей. Не шэрыя мяшчанскія домікі, а стройныя белыя камяніцы глядзяцца ў цэнтры кампазіцыі. Паволі нарастае архітэктурны рытм, каб завяршыцца гожымі вежамі ў стылі барока цэлага ансамблю імкнучых у неба збудаванняў.

Вобраз горада паэтычны, поўны сардэчнай цеплыні, адданай яму мастаком.

У Бабруйску, куды пераехалі савецкія ўстановы і арганізацыі ў сувязі з набліжэннем легіёнаў Пілсудскага, Драздовічу давялося быць нядоўга. З таго часу ў архіве мастака захаваўся партрэт рабочага паэта Аралюка — алоўкавы накід мужчыны сярэдніх год, паглыбленага ў думкі, крыху стомленага. Паэт напісаны ў профіль. Пэўную суровасць часу, нават знешнюю аскетычнасць паэта падкрэсліваюць другарадныя дэталі: сціпласць адзення — простая салдацкая гімнасцёрка ў першую чаргу.

Драздовіч у гэты час працуе настаўнікам малявання. Перад гэтым зімой 1920 года мастак пабываў на курсах, якія праводзіліся педагагічнымі сіламі Менскага настаўніцкага інстытута. Праслухаў курс мовы, літаратуры і асабліва цікавы (гэта было цэлым адкрыццём не толькі для мастака, а і для соцень настаўнікаў) курс гісторыі Беларусі. Рэвалюцыя давала народу слова, паталяла яго смагу ў пазнанні і самапазнанні.

Драздовіч і да гэтага цікавіўся гісторыяй роднай зямлі. Сёе-тое прачытаў ён на старонках «Нашай нівы», крыху ў «Живописной России». Але тут, у Менску, адчуў яе вастрэй, ад вытокаў.

Дзесятае стагоддзе. Золак айчыннай гісторыі. Якая часавая далячынь, і разам з тым так блізка. Дзесь у самым сэрцы водгук гэтага золку, а перад вачыма аблічны далёкіх продкаў з іх драматычным лёсам. Рамантычны пошук мастака, аднак, часта вяртаў і да сучаснай рэчаіснасці. Заробку не хапала на хлеб. Як настаўніку яму плацілі ня-шмат, а галоўнае — грошы тыя былі мала чаго варты. Праца ж дэкаратара ў «Беларускай хатцы» была, як і ў артыстаў, без аплаты. Пазней расказваў Пятру Сергіевічу ў Вільні пра нялёгкае сваё Менскае бытаванне ў 1919—1920 гадах. Жыў у нейкай бакавушцы на Камароўцы. Ложка не было: спаў на куфэрку, — балазе вечка ў ім плоскае. Накрываўся сваім салдацкім шынялём: адна пала пад бок, другая зверху. Не лепей было і з харчаваннем. Жыццё прывучыла абыходзіцца самым малым, самым простым.

Адзінаццатага ліпеня 1920 года Чырвоная Армія вызваліла Менск ад палякаў. Фронт імкліва пакаціўся на Захад. Савецкая Беларусь была ў другі

раз абвешчана суверэннай сацыялістычнай рэспублікай. Праўда, спачатку на тэрыторыі шасці паветаў. Паволі пачало адраджацца культурна— і асветна-грамадскае жыццё рэспублікі. Распачаў працу Беларускі дзяржаўны тэатр, утварыўся навуковы цэнтр, наркамат асветы рупіўся аб адкрыцці школ, пачыналася выдавецкая дзейнасць.

Драздовіч працуе ў літаратурна-выдавецкім аддзеле Народнага камісарыята асветы. Амаль штодня сустракаецца з супрацоўнікамі гэтага ж аддзела Янкам Купалам, Сцяпанам Некрашэвічам, Міколам Байковым… Акрамя кніг, падручнікаў аддзел плануе выданне часопіса «Вольны сцяг» і неўзабаве выпускае ў свет першы нумар яго, Драздовіч кампануе назву новага выдання.

Краіне, знішчанай імперыялістычнай і грамадзянскай войнамі, нялёгка ўстаць з руін, адалець разруху, голад. Але жыццё наладжваецца. Новае грамадства, здавалася, мае трывалы фундамент для таго, каб змагчы тысячы перашкод і збудаваць свет без эксплуатацыі, няволі.

Аднак знешняя пагроза савецкім рэспублікам яшчэ не адпадае зусім. Польскія легіёны ізноў імкнуцца на Усход. Зноў захапілі Віленшчыну, Гродзеншчыну, частку Меншчыны. Ходзяць чуткі пра новае ўсталяванне польска-савецкай граніцы. Гэтым часам Драздовіч атрымлівае сумную вестку з дому. Хворая маці хоча бачыць перад смерцю сына. Без лішніх збораў і роздумаў Драздовіч у пярэдадзень новага 1921 года пехатой выбіраецца на Дзісеншчыну.

Дзісеншчына — больш, чым толькі зямля бацькоў. Тут прайшло маленства, падлеткавыя гады… Адсюль адыходзіў ён у свет па навуку, на салдацкую службу, для асветнай і мастацкай працы ў Менск, Вільню, Навагрудак і вяртаўся сюды зноў. Вяртаўся, каб наталяць душу ў мілых сэрцу пушчах і баравінах, у яе вёсках і хутарах, паміж азёр і парослых соснамі валатовак, старых гарадзішчаў, сярод тутэйшых людзей, якія на яго зычлівасць, працу адказвалі ветлівасцю, гасціннасцю, добрай памяццю.

І на гэты раз пасля Менска, Бабруйска, пасля першых гістарычных прац, першага ўдзелу ў выстаўцы, новых падзей мастак вяртаўся да маці і братоў у Лявонаўку, што пад Германавічамі. На гэты раз без новых планаў і пэўнай будучыні.

**На роднай, не сваёй зямлі**

Маці са слязамі на вачах сустрэла свайго малодшага. Папраўдзе, ужо і не спадзявалася ўбачыць яго. Тым больш цяпер, калі пагранічныя слупы вось-вось маглі падзяліць іх зямлю. Цяпер, калі нейкі нязнаны цяжар ціснуў на сэрца. Сын стаяў перад ёй пахудзелы, стомлены, пасталелы. А яна ўспамінала яго маленькім на ўтравелым падворку ў Пуньках, студэнтам у шчытным мундзірчыку з альбомам замалёвак у руках на сядзібах Александрыя, Стадолішча… Дзякуй, суцешыў матчына сэрца. Такі пачуў…Такі прыйшоў на саслабелы голас яе. І яшчэ прынёс суцяшальную вясціну пра старэйшага, Балеслава. Хоць паранены, скалечаны, але жывы. Пад Віцебскам у доме вайсковых інвалідаў. Прайшоў франты і на поўдні быў і на захадзе.

Але, дзякаваць богу, жывы. Хоць пабачыцца ўжо не давядзецца… — Добра, што жывы, — паўтарала сабе.

На сходзе доўгага і такога кароткага жыцця маці цяпер шмат думала пра ўсіх іх. Найстарэйшы, Кастусь, гаравіты, але цягавіты ў працы. Хоць і застаўся адзін, але дасць сабе рады. Падстаршы, Геранім, таксама на арэндзе. Хоць і залежны ад чужой волі, але з сямейкай; можа, выкіруецца і на ўласную гаспадарку.

За падмалодшага, Стафана, яна была таксама спакойная. Бойкі, хітраваты, хоць і не любіла яна гэтага ў ім, ведала — не прападзе.

Найбольш непакоіў сэрца самы малодшы, апошні яе. Дзе прытуліцца ён, як згорне яна рукі навекі? Якая доля чакае яго? Ад зямлі ён зусім адбіўся. А што здабыў сваім талентам? Любы шавец ці кравец маюць пэўны кавалак хлеба, сталае месца ў жыцці. А ў яго ні хлеба, ні страхі над галавой. Ці асмеліцца хто пайсці за беспрытульніка. Так адзінокім і звякуе…

Чула матчына сэрца: сын дома не ўседзіць доўга. Толькі крыху палягчэла ёй — сабраўся ў Вільню; Менск ужо паспелі адрэзаць пагранічныя слупы.

А праз нейкі час Драздовіч узяўся за стварэнне школы ў сябе на радзіме. З рэвалюцыяй у народзе абудзілася цяга да асветы на роднай мове. Заняволенне Заходняй Беларусі буржуазнай Польшчай стала на перашкодзе гэтага натуральнага імкнення мас.

Але выяўлялася гэта цяга неаднолькава ўсюды. Адны ўсё ж аглядаліся на зменлівыя ўмовы (права ж польскае: што загадаюць, так мусіш і рабіць. Ці дзе чаго дойдзеш з беларускай граматай у іх), іншыя смела дамагаліся сваёй, беларускай школы. У Сталіцы, так звалася вёска, Драздовіч адкрыў такую школу.

Летам 1963 года я крыху прайшоў сцежкамі Драздовіча. Пабываў на яго радзіме. Распытваў людзей, якія ведалі мастака, пабачыў яго апошнія жывапісныя творы…

Па дарозе ў Перадолы на ўскрайку вёскі разгаварыўся з сярэдняга веку мужчынам, які абганяў бульбу. Даведаўшыся, што я распытваю пра Драздовіча, Антуневіч (так назваўся мне пазней селянін) спыніў каня, падышоў да плота, углядаючыся ў падарожніка, і з пытаннем у голасе сказаў:

— То і я ведаў дзядзьку Язэпа. Ён вучыў нас калісьці грамаце. Во тут стаяла хата, якая была тады нам за школу, — паказаў калгаснік на крушню камення.

— Як вучыліся, пытаецеся? Добра, у яго ўсё было цікава…

«А вучыліся, — успамінаў мастак-настаўнік праз гады сваю школку, — без пастраху і кары, а на зразуменні, што ёсць добра і нядобра, прыгожа і непрыгожа… Слухаліся мяне не як «пана» ці «гаспадзіна» ўчыцеля, а як дзядзьку настаўніка».

І пасля згадкі пра метад, крыху пра тое, чаму навучаліся. «Апрача чытання, лічэння ды пісання, яны й рысавалі, яны й пяялі, яны й дэкламавалі, у геаграфічных картах разбіраліся». Лёс адкрытай Драздовічам школы быў сумны, як і ўсёй беларускай асветы ў даваеннай Польшчы. Праз нядоўгі час

школу ў Сталіцы закрылі як нелегалі-заваную, незаконную. «Шкадавалі бацькі, плакалі дзеці, — нішто не памагло», — з жалем успамінаў-расказваў мастак-настаўнік. З таго часу паліцэйскае вока сцерагло яго пільна.

Зрэшты, Драздовічу гэта ўжо і не было нечым нечаканым. Пакрысе пазнаваў на ўласным лёсе словы і справы запанавалай на бацькаўшчыне, у Заходняй Беларусі, панскай улады. Не паспеў мастак пабыць некалькі месяцаў на радзіме, як яго ўжо арыштавала паліцыя і тры дні трымала ў брудным закутку пастарунка. Было гэта вясной 1921 года, у час аднадзённага перапісу насельніцтва. Польскім уладам хацелася, асабліва перад заграніцай, даказаць тое, што нельга было даказаць. Хоць з большага абгрунтаваць свае прэтэнзіі на заходнебеларускія землі. Дзеля гэтага і быў арганізаваны аднадзённы перапіс жыхароў спецыяльна падабранымі людзьмі.

Драздовіч, дзе толькі мог, стараўся растлумачыць, чаму так карціць панкам і паненкам-перапісчыцам перарабіць за адзін дзень беларусаў на палякаў. Пераапранутая паліцыя цікавала за тым, ці спраўна ідзе адказная дзяржаўная акцыя. Таго ж, хто надумаў перашкодзіць, каб яна прайшла не так, як задумана «з гуры», можна было аб'явіць бальшавіцкім агітатарам. Цяжка было змірыцца з гэтым гвалтам, несправядлівасцю. Сунімаў боль развагай: «Зрэшты, хто яны тут, гэтыя людзі ў чорных мундзірах, у шапках з доўгімі бліскучымі брылямі, гэтыя франтаватыя панкі ды паненкі, што зрэдзь часу паказваюцца ў вёсках? Хваля гісторыі прынесла іх і аднясе некалі зноў. Астаецца ж вечная яго зямля, яго народ, гэтыя ратаі і сейбіты, адвечныя рабачаі з іх звычаямі, з іх чароўнай, — услухайся толькі сэрцам і столькі ў ёй пачуеш! — мовай».

А хто адбярэ тое, што ён пазнаў, што жыве ў ім, часам уздымаецца трывожнай радасцю, трымценнем душы — яго мастацтва?

У засценак Лявонаўка мастак вярнуўся зімой. Вярнуўся на няпэўны час. Крыху пабыць, пагрэцца каля хатняга агню. Маці тут, як і раней, асела на дробнай, як звесці канцы з канцамі, арэндзе і цяпер гэта быў іх дом. Няўтульны на гэты раз: маці была на адходзе.

Драздовіч вярнуўся з Менска стомлены неўладкаваным бытам, але поўны творчых задум.

Там, у Менску, у асяродку творчай, мастацкай, навуковай інтэлігенцыі ён упершыню так абвострана, чуйна спасціг, якая неабсяжная далячынь — стагоддзі беларускай гісторыі, шляхі, пройдзеныя родным народам. А яшчэ тое, як важна мастацка асэнсаваць, увасобіць у бачных выяўленчых вобразах мінулае дзеля будучыні, сучаснасці. Асабліва ў пераломныя моманты гісторыі і для народа, які паўстае з занядаду, беспрасвецця, заваёўвае права на сваю будучыню.

Там, у Менску, з агнішча роднай гісторыі мастаку дыхнула ў твар жывое полымя яе. Там адчуць мінулае было прасцей. Варта было пайсці зарысаваць абрыў над Свіслаччу, там, дзе ў яе ўпадаў цяпер ніклы ручаёк Нямігі, як уяўленне ўзносіла над ім сцены і вежы першай драўлянай цвярдыні.

Драздовіч не рашыўся назваць свой графічны малюнак 1920 года «Замак» Менскім. У мастаку ўжо жыло пачуццё строгай адказнасці перад

гістарычнай праўдай. Але яму карцела адхінуць смугу стагоддзяў над вытокамі роднай гісторыі, уявіць, перадаць у мастацкіх вобразах пачаткі Менска, цяперашняй сталіцы рэспублікі. Аркуш «Замак» — подступы да гэтых пачаткаў. Драўлянае збудаванне мажна высіцца сярод вады, дрымотных лясоў, што падступаюць з розных бакоў. Крута над вадой абрываецца ўзгорак ці насып, на якім замак узняў трывала ўзведзеныя сцены. Брама з двух злучаных веж адкрывае ўваход у яго. Над сценамі высяцца вежы. Вярхі іх — нібы шаломы волатаў, старадаўніх вояў-асілкаў. Крыху відаць унутраная забудова замка, яго дзядзінец. Вельмі непасрэднае адчуванне гістарычнага жыцця мастак выяўляе і ў агульным вобразе замка, і ў дэталях. Яго замак — не застылы ў аддалі стагоддзяў помнік — усё ў ім жыве, нясе пачуццё рэальнасці. Здаецца, зараз памкне з расчыненай брамы коннік, вырушаць воі насустрач ворагам.

Яшчэ ў Менску Драздовіч загарэўся думкай стварыць серыю графічных малюнкаў, якія б расказалі пра жыллё далёкіх продкаў, а заадно і пра іх саміх. Ужо ў 1920 годзе мастак малюе аркушы «Хаты-буданы», «Тып старадаўняй беларускай будоўлі», «Гарадзецкая брама», «Стажары», «Вежа Празор». Большасць з іх пазначаны сапраўдным творчым пошукам, мастацкім густам. Асабліва вылучаецца аркуш «Вежа Празор». На ім — выява сігнальнай вежы. Гожа ўзносіцца яе зруб.

Верхавіны высокіх елак дасягаюць толькі краю другога яруса вежы, падкрэсліваючы яе гонкасць, імклівы ўзлёт у неба. Вежа, з якой вялікі агляд — празор — грамадка стройных елак паўз яе, доле, узгорак з кучаравай травой, калівам збажыны, — усё арганічна ўвязана, нясе вобраз цэльны, ясны, збудаваны фантазіяй мастака на трывалым падмурку гістарычнай рэальнасці.

Распачатую ў Менску серыю Драздовіч заканчвае ўжо ў Лявонаўцы, пад Германавічамі, ды ў Прапелеўшчыне, на ўскрайку пушчы, што калыхала яго дзіцячыя сны. Цяпер нетры Галубіцкай пушчы, яе краса будзілі фантазію мастака. Разам з сінім разводдзем лясоў, іх вячыстым гоманам хлынулі ў душу яго вобразы далёкіх продкаў.

На нейкі час Драздовічу нават здалося, што яго мастацтва не так прыдатна, каб перадаць ва ўсёй паўнаце і падрабязнасці падказанае ўяўленнем — шырокае гістарычнае палатно падуладна толькі, мабыць, мастаку слова. Апантаны ідэяй гістарычнай аповесці, ён адкладае ўбок пэндзаль, разец і бярэцца за пяро з думкай расказаць у кнізе аб далёкіх продках, насельніках Галубіцкай пушчы, што жылі на подступах да гістарычнага Полацка.

У лісце, адасланым у Беларускі музей у снежні 1921 года з засценка Лявонаўка, крыху чутна туга мастака па шырэйшым свеце. Драздовіч пытаецца аб магчымасці будучай мастацкай выстаўкі, расказвае, і даволі падрабязна, пра тое, што зрабіў апошнім часам, і на заканчэнне з лёгкай усмешкай зазначае: «яшчэ знянацку спакусіўся гуканкаю «не святыя гаршкі лепяць» і пішу гісторыка-бытавую (з часоў князя Ягелкі) аповесць-легенду… а завуць яе «Гарадольская пушча».

На заспеў мастака натхніла безбярэжнае сіняе мора лясоў, што разлілося на яго радзіме, і ўступ аповесці загучаў узнёслым гімнам пушчы, пушчанскай зямлі.

«Узыдзі на гару Чалагор‘е, што ля пушчы, ды ўгледзься ў гэтае сіняе мора лясоў, што як быццам паўсвета сабой агарнулі. Лес ды лес, лес ды лес, а за ім яшчэ без пярэрвы шыза-сінія стугі лясоў, быццам нейкае безбярэжнае чароўнае мора.

Глянь управа — бесканечная даль. Якая тут шыр прастору ў шызым тумане разлогаў-роўнядзі, якой і канца не відаць. Гэта галікі — наш мокры стэп: пушчанскія лугі, сенажаці. Тут Бяроза-рака бярэ першыя воды свае… Глянь улева ўдаль па ўзбярэжжы пушчы, дзе, як быццам курган, велікан-валатоўка ўзнялася над лесам гара Гараватка. Тут бары ды бары, бары ды бары, нібы дзіўны дыван разаслаўся, сатканы з вершалін хваін зелянковага цёмнага бору. Глянь насупраць на разлогі ляснога прастору, дзе, як быццам у казцы нябачанага горада, зубчастыя сцены лясоў, сцяна за сцяной аж да самага небасхілу. Гэта стругі недаступнага першабытнага лесу, самабытны звярыны прыпынак мядзведзя, лася, дзікіх коз, лісіц і куніцы…»

І тут жа, услед за панарамай лясоў, штрыхі, з якіх пачынае снавацца сюжэт.

«На гэтай гары Чалавой, дзе стаіш, аглядаючы дзіўнае мора лясоў, у старадаўнія часы калісь вежа Празор была. На вяршыні гэтай высокай ізрубнай вежы горан гарэў, дзень і ноч не згасаючы, а на горне, калі трэба было ў ліхія часы пад час небяспекі ў Полацак весці паслаць сігнальнымі знакамі, смалу ды бяросту палілі. Днём дымам, а ноччу святлом агню ад гары стажароўкі да гары стажароўкі, з празору на празор, з вежы на вежу, перадавалі аж да самага Полацку. Калі вораг адкуль з’явіўся і вайною ішоў пагражаючы, то ўжо ў Полацку ведалі добра, на якім ён шляху, як далёка і як і дзе яго можна сустрэць, каб не даць яму ходу».

Праца ішла спорна. Раздзел за раздзелам паўставалі на старонках вузкага доўгага сшытка, зробленага мастаком з рэштак старога альбома таго, што было пад рукой. Сваіх герояў-пушчавікоў Грыгора, Васілька ён вядзе ў стольны горад старадаўняга княства. Паказвае жыццё вярхоў простага люду, першых асветнікаў. Твор уяўляўся мастаку як гістарычна-бытавая рэч. Быт, думалася яму, узноўлены ў аповесці, надасць праўдзівасць і жыццёвасць персанажам, праз яго ўдасца перадаць «паветра часу», яго дух, Але здарылася тое, у чым мастак спачатку не мог прызнацца нават сам сабе: аднаго жывога ўяўлення, якім ён бязмерна валодаў, было замала, каб падняць вялікі гістарычны пласт. Патрэбны былі канкрэтныя гістарычныя веды, факты. А іх мастак няшмат паспеў назапасіць. Гісторыя беларуская яшчэ чакала сваіх карамзіных, салаўёвых, ключэўскіх… Яна амаль яшчэ ўся ляжала ў архіўных сховішчах, параскіданых па свеце ад Петраграда да Стакгольма і Рыма. Не з вясковай глухамані, з Дзісеншчыны, было дацягнуцца да іх у той час.

Тое ж, што трапіла да рэвалюцыі ў археагра-фічныя зборнікі, што можна было прачытаць у працах Доўнар-Запольскага, Любаўскога, таксама няпро-

ста было дастацьф мала, зусім мала было ў краі бібліятэк, ды і тыя далёка, у Вільні, напрыклад, а туды трэба было яшчэ дайсці. Не заўсёды мастак мог гэта зрабіць. У згаданьш лісце ў Беларускі музей, пасланым у канцы 1921 года з Лявонаўкі, Драздовіч пісаў: «Бяда, што я беспашпартны: не магу адведаць Вільню, бо састаю пад судом за камісарства ў аднадзённую перапісь».

І ўсё ж мастак настойліва заглядаў за заслону часу. Да задумы сваей не астываў. Ужо ўлетку 1922 года, пішучы з мястэчка Пліса ў Беларускае выдавецкае таварыства ў Вільні, называў сваю «Гарадольскую пушчу» раманам. Тым часам «Гарадольская пушча» заставалася няскончанай і ў друк, натуральна, не магла трапіць, а Драздовіч браўся за другую рэч. Пачаў пісаць аповесць з жыцця мастацкай моладзі: з усмешкай аглядаўся на свае юначыя гады, пару навучання ў Вільні.

Да «Гарадольскай пушчы» ж, якую ў думках бачыў паважным, закончаным творам, зрабіў некалькі графічных рысункаў. Сярод іх вылучаецца «Дары пушчы», які прадстаўляе пушчавікоў з іх багатымі гасцінцамі на княскім двары. Каларытна выглядаюць постаці пушчанцаў, апранутых у звярыныя скуры.

Вее ад іх суровай красой пракаветных пушчаў-лясоў, першароднай чалавечай дужасцю, жыцця-стойкасцю. Шчодрыя яны шчодрасцю сваёй зямлі. Стаяць з годнасцю на фоне развешаных мядзведжых ды кунічых шкур. Перад імі дары пушчы, іх дары: пляцёнкі, кашы, поўныя арэхаў, сушаных грыбоў, ягад…

Іх каля дзесятка, выяўленчых вобразаў гістарычнай аповесці, арыгінальных ілюстрацый: «Князёўна Русіслава», «Геройства Доні Зашчыслаўны на вежы празору», «Знайшла ліст на бяросце», «Гэта я прыйшоў цябе даведацца», «Уцёкі»…

Самы моцны малюнак гэтайііілюстратыўнай серыі — «Святар-мудрэц». Мастак стварае запамінальны вобраз старадаўняга кніжніка, асветніка, мудраца. Мысліцель пададзены мастаком у імклівым руху, хадзе. У руках яго разгорнуты вя-лікі фаліянт. Вецер абвявае адкрытае аблічча мысліцеля, яго моцную постаць, раскідае краі апраткі. Дарога вядзе праз узаранае поле, паўз гай, ахоплены парывам ветру, кудысь удалячынь, туды, дзе абазначыліся абрысы лесу. Уся істота пустэльніка ахоплена нейкім душэўным гарэннем.

Пэўная ўмоўнасць, як чытанне на хаду, тут не абярнулася штучнасцю, ненатуральнасцю. Усё злілося ў гармоніі, усё арганічна: чалавек, прырода; усё злучыла і ўзняла натхнёная думка мастака. Драздовіч здолеў надаць створанаму ім вобразу біблейскую ўзвышанасць. Толькі без духу міфічнасці. Вобраз яго пустэльніка — гэта ўвасабленне не самотнасці, жыццёвай адрынутасці, а апантанасці чалавечага духу дзеля людскога дабра, дзеля святла навукі.

Да гістарычна-бытавой аповесці прымыкала задуманая Драздовічам алегарычная казка «Сон Гораноса». Ілюстрацыя да яе (сам тэкст не захаваўся) дае ўяўленне пра сюжэт, думку-ідэю твора,

Гэта цэлы народ свой мастак бачыў спячым волатам, прыкутым ланцугамі да глухога муру.

У 1923 годзе Віленскае выдавецтва Барыса Клецкіна выдае першую кніжку аповесці Драздовіча «Вялікая шышка».

У ёй — два сябры, пабрацімы, як называе іх аўтар, вучні мастацкага вучылішча. Выяўляюць яны, аднак, два зусім розныя характары. Гапук (ласкава ад імя Агафон, Гапон)— натура няўрымслівая, хлопец з шляхецкім гонарам. Ён імкнецца заўсёды быць у цэнтры ўвагі, паказаць сябе. Альфук — натура больш глыбокая, разважная. У яго характары праступае народны пачатак. Паміж сябрамі, ускладняючы іх узаемаадносіны, з'яўляецца яшчэ адна гераіня аповесці студэнтка-мастачка Адэля.

Рыхтуецца навагодні баль-маскарад. Гапук настойвае зрабіць футурыстычныя касцюмы. Імкненне вылучыцца на гэты раз канчаецца для яго камічным здарэннем на вечарыне. Аўтар робіць яго смешным у вачах усіх. Такім чынам, сюжэт першай кніжкі аповесці просценькі, з устаноўкай на гумар, камізм сітуацый. Праўда, Драздовіч абяцаў весці сваіх герояў далей, стварыць другую частку аповесці — «Скандал на Гапонавым млыне». Заходнебеларуская крытыка, грамадска чуйная на кожную праяву духоўнага жыцця, не пакінула кнігу Драздовіча незаўважанай. Хоць, па праўдзе кажучы, гартаючы яе сёння, думаеш: для сур'ёзнай размовы прычын было замала.

Тым часам, ці не самы выдатны публіцыст Заходняй Беларусі, крытык з філасофскім ухілам Уладзімір Самойла, той самы Самойла, які яшчэ ў 1908 годзе радасна вітаў выхад у свет Купалавай «Жалейкі», адгукнуўся на кнігу мастака. Адгукнуўся аж двума вялікімі падваламі ў газеце «Змаганне», у двух нумарах яе. Усе прычакаліся твораў буйных эпічных форм — беларускіх аповесці, рамана. Гэты сум чуцён і ў згаданым артыкуле пра літаратурны дэбют мастака. Рэцэнзент з цікавасцю звяртаецца да твора Драздовіча, шукае ў ім тыя вартасці, якіх «чакае беларускі чытач і літаратура». Хваліць пісьменніка-мастака перш-наперш за аптымістычнае гучанне твора, свабоднае валоданне матэрыялам… Першую кнігу сваёй аповесці Драздовіч закончыў сентэнцыяй, павучаннем, якое ў пэўным сэнсе выяўляла жыццёвае крэда мастака. Выказана яно ў форме простага вершыка:

Не стварай сабе куміра
Ні з сурдута, ні з мундзіра,
А ні з шоўкавага плацця,
А ні з якага багацця.
Не стварай яго у «мэце»
Ні ў натуры, ні ў партрэце.

Выснаваная ў маладыя гады мастаком думка не ствараць сабе куміра «ні ў натуры, ні ў партрэце» паслядоўна праглядае праз усё яго жыццё. А яно па-свойму дапамагала Драздовічу не забывацца гэтай толькі на першы погляд простай ісціны.

1921—1923 гады праходзяць у Драздовіча пераважна пад знакам літаратурнай працы. І яна, здавалася, была гатова прынесці яму рэальны

плён. Прынамсі, сціпла і не без густу выдадзеная кніга мастака з добрым выразным яго рысункам на вокладцы, магла цешыць аўтарскае сэрца.

Да таго ж яе падтрымліваў, бласлаўляў знакаміты крытык і публіцыст, пяро якога — вострае, дасціпнае — шанавалі ўсе.

Але прайшло няшмат часу і мастак пераканаўся, што аповесць яго не здолела выклікаць шырэйшага водгаласу нават у беднай на той час заходнебеларускай літаратуры. Занадта насычана была сама рэчаіснасць вострымі сацыяльна-палітычнымі, жыццёвымі праблемамі, ідэяй вызвалення, барацьбы, каб твор, пазбаўлены сур'ёзных пытанняў, мог у той атмасферы выклікаць шырокае грамадскае зацікаўленне.

Не спраўдзілася пакрыёмая надзея аўтара і на тое, што месяц-другі можна будзе пажыць без будзённага клопату пра хлеб. Ганарару за кігу ледзь хапіла, каб пакрыць кошт друку, паперы. На самым пачатку зімы 1923 года (аповесць выйшла ў свет летам) у лісце, высланым у Беларускае выдавецкае таварыства, мастак просіць даць яму якія-небудзь пераклады з рускай, украінскай, польскай моў. Сумна жартуе, што мае «зашмат вольнага часу ад работы і заработку» і не хавае празаічнай прычыны просьбы — патрэбы зарабіць на пражыццё.

Напісаўшы некалькі раздзелаў другой кнігі-аповесці, ён адкладае яе на няпэўны час, на далей.

І хоць паддаўся мастак на самым пачатку 20-х гадоў спакусе пяра, працы мастацка-выяўленчай у гэты час не кінуў. Плён яе, можа, менш значны, чым у іншую пару, усё ж апраўдаў тыя два-тры гады. Азіраючыся на пражытае, мастак мог нешта ўспомніць: хвіліны працы над карцінамі «Пагоня Ярылы», «Спаленыя сялібы», «Усяслаў Чарадзей у парубе Кіеўскага князя», графічную серыю, якую можна абняць агульнай назвай «Дзісеншчына».

У лісце ў Беларускі музей» пасланы 16 снежня 1921 года з Лявонаўкі, Драздовіч у post skryptum зазначае з нехаванай радасцю: «Дазволю сабе пахваліцца, як мне тут працуецца…» І пасля кажа: «Не зважаючы на недастатак матэрыялаў, я ў працягу гэтага лета змог вымаляваць адзін абраз сімвалічнай пагоні «Пагоня-Яра» (Ярылы).

Можа, не варта занадта хваліцца, але я ўжо заўважыў, што мой гэты абраз рабіў на адведаўшых мяне тут (акінутага вялікім і дужым светам) нашых інтэлігентаў-беларусаў досыць моцнае ўражанне».

Мастакова думка, увасобленая на палатне, унутраны пафас яго твора былі блізкія не толькі інтэлігентам з Дзісенскіх ваколіц, а і шырэй — з усёй Заходняй Беларусі. У карціне адчуваецца трывожны роздум мастака над лёсам Радзімы: Драздовіч паспеў ужо зведаць нямала горкіх перажыванняў за кароткі, у паўгода, час побыту на бацькаўшчыне. Тут запанавала цяпер панская ўлада. Узяла верх, раілася новая сіла: абшарнікі, паны і паўпанкі, асадніцкая набрыдзь, паліцэйскія гракі. Ужо няцяжка было зразумець, што чужая варожая воля будзе тут правам і законам. Грубая сіла, гвалт будуць гнясці, забіваць жывую душу народа.

Рыжская мірная ўмова замацавала дзяржаўную мяжу, праведзеную праз Беларусь. Значыць, улада, прынесеная на штыках легіёнаў, тут, у Дзісеншчыне, — не на дзень, не на год…

Мастак не мог змірыцца з гэтай балючая думкай. Творчае ўяўленне клікала, падказвала мужныя вобразы, зачэрпнутыя з саміх глыбінь народнай свядомасці. І няхай гэта былі міфалагічныя вобразы, але што за прастор яго мастаковай думцы давалі яны, як ёміста перадавалі яго перажыванні!

Бо хіба тое, што сягоння робіцца на яго радзіме, — гэта не адвечны бой праўды і несправядлівасці, не змаганне святла з цемрай, волі з няволяй.

Алегорыя, хоць і выказаная ў міфалагічных вобразах, чыталася выразна, проста. Увасабленне цемры, зла, прыгнёту. Цмок страшнымі лапішчамі хціва ўчапіўся ў край зямной паўсферы, за якой далей светла віднеецца дзіўны горад. І адтуль прама на Цмока, узняўшы над галавой светач-меч, бясстрашна імкне мужны коннік.

Гэта сам Ярыла (яго можна пазнаць па адметным шчыце), язычніцкі бог сонца, гнеўна паўстаў супроць Цмока на абарону сваіх землляробаў і вось-вось паласне страшыдла агністым мячом. Ад грому яго нат зляцеў цяжкі надмагільны камень з даўняга пахавання, на якім акрэслены словы: Vita, AIbarusia, Libertas — жыццё, Беларусь, свабода.

Каларыт карціны зялёны. Ён стане вядучым у творчасці мастака. Гэты колер бачыўся Драздовічу дамінантным у вобліку роднай зямлі. Да таго ж гэта быў колер вечнага жыцця. Увядзенне ў «Пагоні-Яры» кантрасных таноў (чорна-шэры прывід Цмока і белы коннік, светлы горад за ім, белыя плямы-блікі на зямлі) узмацнялі эмацыяльнае напружанне і без таго вельмі дынамічнай кампазіцыі.

Трывожна-вогненным водсветам нядаўняй вайны палыхнулі фарбы на карціне Драздовіча «Спаленыя сялібы». Гэта быў суровы і просты рэалістычны расказ аб народных пакутах. Тры гады стаяў руска-германскі фронт на Беларусі, у яе заходніх землях. Спаленую, зрытую акопамі, узараную снарадамі, яе вымушаны былі пакінуць тысячы, дзесяткі тысяч сем‘яў. Вайна зрабіла іх выгнаннікамі, асудзіла на бежанскае тулянне, пакуты.

Пасля сканчэння вайны яны зноў пацягнуліся да родных гняздоўяў. Няміла сустрэла іх родная старана: руінамі, папялішчамі, пазарасталымі хмызняком загонамі. Непрытульнасць, голад чакалі рэпатрыянтаў на бацькаўшчыне. Буржуазна-памешчыцкая ўлада не спяшалася на дапамогу. Лес на адбудову адпускалі скупой мерай. Затое паспешліва ладавалі ім вагоны для вывазу за мяжу: абшарнікі спяшаліся набіць кішэні замежнай валютай за кошт зялёнага золата векавечных беларускіх лясоў і пушчаў,

Драздовіч з вялікай адысеі бежанства ўзяў адзін эпізод — зварот людзей да родных папялішчаў. І праз яго здолеў перадаць увесь драматызм становішча земляробаў, чыю працу, мазольны набытак да падмурка знішчыла віхура вайны.

На карціне — зімовы адвячорак. Марозным зарывам па-над белай змярцвелай зямлёй заняўся захад. Яго агністым святлом падсвечаны заснежаныя руіны спаленых сяліб. З-пад белых гурбаў дзе-нідзе чарнее абгарэлае дрэва. На дарозе, якая, відаць, была калісь вясковай вуліцай, паказалася бедна апранутая сялянская сям’я: сярэдняга веку мужчына з жанчынай і дзяўчынай-падлеткам. Узрушанне, страх адбіліся на іх тварах. Прыкрытыя снегам руіны

хат дыхаюць жудой. Вусцішная белая цішыня. Нават крык роспачы не можа вырвацца з грудзей перад тым, што паўстала перад вачыма. Трывожная думка мастака: «Што чакае гэтых бяздомных людзей на руінах, сярод марознай стыні?» — вяла да шырэйшага абагульнення: «Колькі гора, нядолі прынесла мільёнам простых людзей вайна, якая антычалавечая яе сутнасць!».

На пачатку 20-х гадоў Драздовіч у сваёй творчасці звяртаецца да драматычных момантаў айчыннай гісторыі. Зварот гэты быў абумоўлены палітычнымі абставінамі і адпавядаў настроям радыкальнай заходнебеларускай інтэлігенцыі таго часу. Яна апынулася ў суровых умовах польскага заняволення краю, калі праследвалася сама думка аб вызваленні, паліцэйскімі рэпрэсіямі душылася асвета і культура.

Тыя, хто не скарыўся, шукалі апору ў народзе, у яго гісторыі, імкнуліся палітычна абудзіць масы. Марылі пра хуткае абуджэнне творчых сіл народа, аб лепшай долі ў будучыні.

Эцюд Драздовіча «Усяслаў Чарадзей у парубе кіеўскага князя» — роздум мастака над лёсам роднай зямлі, балада аб вернасці ёй, мудрай веры ў яе няскоранасць.

Полацкі князь Усяслаў Брачыславіч, празваны Чарадзеем, — адна з найбольш каларытных постацей нашай ранняй гісторыі. Пяцьдзесят сем гадоў стаяў ён на чале Полацкага княства, мужна бараніў інтарэсы зямлі крывічоў, дбаў аб развіцці асветы і культуры. Гэта яго клопатам і загадам быў узведзены шэдэўр старажытнага дойлідства Полацкая Сафія. Аўтар «Слова аб палку Ігаравым» узнёс высокую хвалу дзяржаўнай мудрасці полацкага князя-волата, яго ратнай мужнасці, адданасці роднай зямлі.

Былі ў жыцці легендарнага дзеяча старажытнай Полаччыны і трагічныя моманты: паражэнне на Нямізе ад злучаных сіл Яраславічаў, вераломнае паланенне ў час перагавораў пад Оршай, пазбаўленне полацкага пасаду аб'яднанымі войскамі Ізяслава і польскага караля Балеслава Смелага і, нарэшце, аняволенне ў Кіеве. Потым зноў узлёт, калі кіеўляне вызвалілі Усяслава з цямніцы і запрасілі на прастол замест прагнанага імі князя, Усяслаў, аднак, нядоўга княжыў у Кіеве. Яго ўладна клікала да сябе роднае Наддзвінне, здалёк чуліся яму званы полацкай Сафіі.

Да канца верны ідэі суверэннасці Полацкага княства, Полацкай зямлі, гатовы заўсёды бараніць яе ад пасягання звонку, Усяслаў кідае кіеўскі велікакняскі пасад і ўцякае на радзіму.

Ні Усяслаў гераічны, што з ільвінай адвагай кідаўся на ворага, ні Усяслаў урачысты, узведзены кіеўлянамі на велікакняскі прастол, ні Усяслаў — гаспадар Полацкай зямлі, які любіў «судить и рядить народ и города», не ўзрушыў творчае ўяўленне Драздовіча. Прынамсі, у пачатку 20-х, калі ён упершыню звярнуўся да вобраза гэтай, бясспрэчна, незвычайнай постаці на гістарычным даляглядзе ўсходніх славян.

Перажываннямі Драздовіча гэтай пары быў блізкі якраз Усяслаў трагічны, Усяслаў-нявольнік.

Усяслаў Чарадзей Драздовіча — заняволены, але няскораны. Позірк яго, хоць на вачах заіскрыліся слёзы, рашуча скіраваны ў заўтра.

Драздовіч свядома дэмакратызуе вобраз полацкага князя. Знешне яго Усяслаў нагадвае тых вясковых беларускіх дзядоў, якія, пражыўшы доўгі век, мелі на ўсё свой сталы погляд, з'ўляліся носьбітамі народнай мудрасці, своеасаблівымі філосафамі. Усяслаў Чарадзей Драздовіча вонкава просты. Мастак засяроджваецца на выяўленні душэўнага стану свайго героя, яго чалавечай сутнасці. Усяслаў у выяве Драздовіча — чалавек паважнага веку. Сівыя доўгія валасы абвіваюць яго высокае светлае чало, шчокі. Хваля белай барады спадае на шырокія грудзі. У вачах, усім абліччы Усяслава, — энергічнасць, розум, сіла волі. Апрануты ён проста: магутныя грудзі аблегла звычайная цёмная палатніна, на плечы накінута шэрая суконная світка, накшталт тых, што насілі сяляне яшчэ ў пачатку нашага стагоддзя. На палатне нічога лішняга. Большасць яго займае постаць Усяслава на фоне цёмнашэрай сцяны цямніцы. Дарэчы, фактура сцяны, перададзеная хвалістымі грубавата-жорсткімі мазкамі, добра падкрэслівае суровасць умоў паруба.

У левым верхнім кутку палатна праз закратаванае акно відаць крыху размытыя, як бы ў тумане, абрысы велічнага храма. Гэта кіеўская Сафія — дэталь, якая геаграфічна канкрэтызуе дзеянне.

Трывалыя, з вострымі зазубрынамі-насечкамі краты, грубымі вяроўкамі схоплены дужы князеў стан. Але адчуваецца: зможа іх нязломны дух асілка князя і свабода прыйдзе да заняволенага.

Свой першы жывапісны твор пра Усяслава —а быў ён, наогул, першым вобразам гордага палачаніна ва ўсім беларускім мастацтве — Драздовіч пісаў як эцюд. Аб гэтым сведчаць і невялікі памер палатна, і фрагментарна ўзяты мастаком паруб, і, у пэўнай меры, паясная выява вобраза. Але па значнасці задумы, паўнаце і дасканаласці ўвасаблення твор набываў значэнне нечага большага, чым толькі мастацкі твор. Ва ўмовах Заходняй Беларусі пачатку 20-х гадоў ён меў надзённае палітычнае прачытанне.

Неўзабаве «Усяслаў Чарадзей» Драздовіча трапіў у Беларускі музей у Вільні і трывала заняў месца ў яго экспазіцыі.

Музей быў заснаваны ў 1921 годзе стараннем Беларускага навуковага таварыства і прытуліўся там, дзе ўжо з 1919 года існавала Віленская беларуская гімназія — у Базыльянскіх мурах. Асновай музейнай экспазіцыі і бібліятэкі стала калекцыя старадрукаў, твораў старажытнага мастацтва, археалагічных знаходак, старадаўніх грамат, манускрыптаў, рупліва збіраных вялікім энтузіястам старасветчыны Іванам Луцкевічам. Паміраючы ад сухот у 1919 годзе, ён завяшчаў сваю калекцыю Беларускаму навуковаму таварыству. З думкай пра будучыню Беларусі, яе культуры збіралася, назапашвалася гэта багацце: скарынінскія кнігі, Літоўскі статут, выданні братоў Мамонічаў, старадаўнія абразы, разьба па дрэве, афорты, узоры народнага беларускага ткацтва…

Драздовіч, дачуўшыся ў сваёй Дзісенскай глушы, што адчыніўся Веларускі музей, адразу ацаніў гэты факт як важную падзею. І ў гэтым ён не ашукаўся, зразумеў перспектыўнасць такой установы для беларускага мастацтва. З віленскага друку ўжо ведаў, што ў музей людзі пачалі дасылаць свае знаходкі: у газетах мільгалі аб'явы аб перададзеных у дар музею старадаўніх

манетах, кнігах, творах народнай скульптуры. У чэрвені 1922 года Драздовіч выбіраецца ў Вільню, і не з пустымі рукамі. Мастак перадае ў дар адкрытаму Беларускаму музею «калекцыю графічных малюнкаў, найбольш гістарычнага зместу: старасвецкая будоўля на Беларусі і тыпы полацкіх князёў «Рагвалод», «Усяслаў Чарадзей», «Брачыслаў», «Барыс-каменакоў» і «Раман Расціславіч, князь смаленскі».

Гэта вандроўка ў Вільню была не без сумных прыгод. Мастаку не ўдалося ўнікнуць паліцэйскага вока, якое за ім пільна сачыла.

«…Працярпеў ад сцігуноў шмат непрыемнасцей, — пісаў захавальніку музея Антон Луцкевіч. — Сцягалі мяне аж у Арэхаўна на кантрольную станцыю. Тры дні прамуштравалі, а нарэшце пусцілі. Кальпартаваны багаж вярнулі, але прымусілі раз у тыдзень з’яўляцца на пастарунак». Сказана лаканічна, як у лісце можна было сказаць. Адрасат быў чалавек дасведчаны ў палітычных абставінах краю і разумеў, што стаяла за скупымі радкамі ліста. Мог уявіць, як шпікі трэслі мастакоў багаж з газетамі і кнігамі, шукаючы забароненай камуністычнай літаратуры, як дапытваліся аб мэтах наведвання Вільні. І зразумела было галоўнае: за мастаком устаноўлены сталы паліцэйскі нагляд, бо іначай што б азначаў гэты загад штотыдзень з’яўляцца ў паліцэйскі ўчастак.

Драздовіч дазволіў сабе ўсё гэта назваць у лісце свінствам і падаць духам ад такіх «прыгод» не збіраўся. Пераслаў заяву ў Таварыства беларускай школы з просьбай залічыць у яго: спадзяваўся быць карысным гэтай асветна-грамадскай арганізацыі Заходняй Беларусі, калі не як настаўнік, то як мастак.

У гэтым жа лісце прасіў перадаць адміністрацыі Беларускага дзіцячага прытулку (быў такі арганізаваны ў 1918 годзе ў Вільні для асірацелых за вайну дзяцей), што «сабраў у Глыбокім 2800 марак». Марак тых набралася, канешне ж, няшмат (былі яны ў звароце яшчэ да ўвядзення злотых і мелі малую пакупную вартасць), але ў дарэнні, зборы іх бачылася штось большае — чалавечая спагада, знак дабрыні. Мастак прасіў надрукаваць у газеце спіс прозвішчаў ахвярадаўцаў, падаўнікоў гасцінцу: трэба было праз друк падзякаваць людзям. Драздовіч заставаўся ў вечным неспакоі, рознай руплівасці. Сярод іншых клопатаў пачынаў збіраць мясцовых мастакоў-самавукаў, гуртаваў іх, даваў парады, дапамагаў, чым мог.

Шмат вандруе па Дзісеншчыне. Яшчэ ў 1915 годзе, прыехаўшы з арміі на пабыўку да маці, пасля хваробы, Драздовіч адчуў на сабе жыватворную сілу роднага лесу. У лісце сябру, напісаным з Мёр, мастак задзівіўся таму, якую стрымана-глыбокую красу тояць у сабе беларускія лясы, задумаўся над тым, хто пранікнёна здолее перадаць яе на палотнах, як гэта зрабіў Шышкін у Расіі.

Цяпер жа, пасля таго як за доўгія гады салдацкай службы давялося пабачыць і былінныя Надволжскія разлогі, і неабсяжны зялёна-белы акіян Сібіры, вочы яго адкрываліся шырэй на світанні над Дзісёнкай, надвячоркі ля Мнюты і Ауты, летні поўдзень над Гінь-возерам, у пушчы Цытавізна, на ўскрайку якой туліліся цяпер ужо нечыя, чужыя і ўсё ж родныя Пунькі.

Калі ўсімі адценнямі зялёнага і блакітнага засвяцілася маладое лета (было гэта ў 1922 годзе), Драздовіч выправіўся ў падарожжа па берагах Дзісёнкі. Ішоў ад вёскі да вёскі. Тое, што адкрывалася вачам і душы, пераносіў на паперу. А рэчка на кожнай вярсце, на кожным павароце разгортвала ўсё новыя, усё больш зваблівыя краявіды. Там лес прыгожа выходзіў на высокі бераг, каб зірнуць у рачное люстра, тут берагі ніклі, прыпадалі да самай плыні, там весела падбягала к рацэ маладая збажына. І гэты задумёна-трапяткі свет лесу, ракі, яснага, пагоднага неба поўніўся жаўруковым звонам, крыкам беражанак, куваннем баравой зязюлі. Свет шчымлівай радасці, стоенай журбы. Блізкі і родны, просты і велічны свет.

Невялікі альбом графікі — плён тых летніх дзён над Дзісёнкай. Аркушы так і называюцца паводле рачнога краявіду: «Дзісёнка ля Баяр», «Дзісёнка ля Старапολля», «Дзісёнка ля Сталіцы»… У цэлым серыя— маленькая графічная паэма, можа, крыху камерная. Апошняе, відаць, з-за таго, што краявід мастак падае замкнёны ў крузе, як гэта любілі часам рабіць у кніжнай графіцы XIX — пачатку XX ст., ды не толькі ў гэты час. Хараство ракі жыва паўстае на малюнках. Абрывістыя берагі, светлая вадзяная плынь., Хаты, вёскі падыходзяць да самай ракі. Хораша высіцца лес над высокімі берагамі. Ля Баяр збажына падступілася да самага рачнога ўлоння, а справа — цёмны прыгожы сілуэт купкі ялін. Далей відзён пакрыты лесам курган.

Круг як кампазіцыйны прыём дазваляе мастаку сфакусіраваць выяву, сканцэнтраваць пункт зроку на асноўным, углядацца, як праз павелінальнае шкло. Зразумела, ён адасабляе прадмет адлюстравання ад яго акружэння, вылучае яго. Але адначасна з вылучэннем і акцэнтацыяй дае адчуць, што замкнёнае ў ім — толькі часціны шырэйшага, болынага свету, які лёгка ўгадваецца за лініяй.

І, вядома, гэты прыём не заўсёды быў адзнакай камернасці. Іншы раз нават наадварот. На малой плошчы дазваляў выявіць змястоўнасць адлюстраванага, разгарнуць яго ў глыбіню і тым еамым надаць яму значнасць і маштабнасць.

У графічным аркушы «Над Дзісёнкай» (1923 г.), які тэматычна звязаны з серыяй 1922 года, лірычнай па характару, акварэльнай, Драздовіч дасягае эпічнага гучання.

На малюнку — бераг Дзісёнкі. Воддаль, на заднім плане, — гумны, дрэвы, за якімі ўгадваюцца хаты, вёска. У цэнтры — рэльефны бераг і прыбярэжная плынь. І над усім купал неба ў белых аблачынах, велічны, спакойны. Бераг праразае глыбокі яр. Ускрай яго на пагорку — прысадзісты каменны крыж, якія ставілі на старадаўніх пахаваннях, валатоўках.

Эпічнасць гучання гэтага невялікага аркуша выяўляецца не столькі ў паасобных вобразах, якія, як валатоўка, напрыклад, ужо самі па сабе садзейнічаюць стварэнню адпаведнага настрою. Адчуванне вечнасці, што разліта ў творы, дасягнута ўсім мастацкім ладам яго. І перш-наперш шырокім абагульненнем. Эпічнасці гучання, настрою роздуму мастак дасягнуў праз спакойны шырокі рытм ліній і штрыхоў. Гэты рытм дапамог яму перадаць пачуццё адвечнасці зямлі, яе простае і мудрае хараство.

У вандраваннях на Дзісеншчыне Драздовіч абходзіў знаёмыя з дзяцінства, блізкія і родныя мясціны, а таксама адкрываў для сябе і для будучых гледачоў сваіх графічных серый хараство раней нязнаных ім куткоў.

Яны самі папрасіліся на белыя аркушы, гэтыя задумлівыя пералескі, хаты, сядзібы, стоеныя ў міжлессі, старыя курганы-валатоўкі, лясныя азёры, гожыя рачныя берагі, палеткі збажыны, ласкава абнятай ранішнім сонцам, лясныя і палявыя дарогі.

Родныя вобразы. Яны будзілі ў душы мастака шчымлівую мелодыю ціхай радасці. І яна поўніла яго істоту, пакуль працаваў-пераносіў на паперу вячыстыя і зменлівыя рысы зямлі. Яе краявіды, яе жывыя абразкі. Адзін за адным.

«Вёска Лаўрынаўка», «Засценак Пунькі», «Гараватка», «Дом на пагорку», «Вітаўтавы масты», «Александрыя», «Кміты», «Чаронка», «Прапелеўшчына». Некаторыя з адбітых на гэтых аркушах краявідаў мастак «разгортваў» у цэлыя графічныя серыі. Падаваў аблюбаваную мясціну з розных ракурсаў, адкрываў усё новыя грані прывабнасці, чароўнасці, хараства.

Графічная серыя «Пунькі» пачата ў 1922 годзе. Кожнае наступнае лета ці вясну мастак не абмінаў роднага кутка. І чужыя людзі, што тут жылі цяпер, не перашкаджалі яму. Яны прывыклі, што гэты дзівак у капелюшы, з сумкай цераз плячо зрэдзь часу паказваўся на іх сядзібе, прыстасоўваўся дзенебудзь са сваімі мастакоўскімі прыладамі: замацоўваў на самаробным мальберце белы аркуш, браўся за аловак або пяро з чорнай тушшу. А ўвечары, пачаставаны кубкам сырадою з чорным хлебам, расказваў, што дзеецца ў свеце, а іншы раз, калі зоры праступалі на цёмным полагу неба, мог здзівіць разважаннямі пра планеты, сузор'і, рух нябесных свяціл. Не таіўся з тым, што маляваў, над чым гадзінамі карпеў ускрай сядзібы.

Ад аркуша да аркуша мастак паступова набліжаўся да цэнтра сядзібы і засяроджваўся на адлюстраванні яе разам з найбліжэйшым акружэннем.

На першым аркушы падаў агульны выгляд засценка. У малюнку дэталізаваны толькі пярэдні план — падыход да сядзібы і яшчэ справа выразна прапісана высокая ліпа, што пануе над ёй і лесам. Хаты не відаць: з-за гаспадарчых пабудоў гумна, каласніка, адрыны выглядае толькі страха з двума комінамі. Мастацкі вобраз усяго аркуша ствараецца ў асноўным менавіта выявай пярэдняга плана. У простых рэчах, прадметах, адлюстраваных на ім, шмат цяпла, святла душы мастака.

Праз два гады Драздовіч створыць яшчэ адзін аркуш з серыі «Пунькі», дзе пакажа куток сваіх народзінаў здалёк, з узлеску.

Але самыя моцныя ў серыі наступныя, трэці і чацвёрты аркушы. У іх мастак засяродзіўся на выяве непасрэднага выгляду сядзібы і здолеў перадаць нават унутраны свет земляроба, нейкі агульны лад яго.

На малюнку 1923 года хата падаецца крыху збоку, але так, што ўся фасадная частка яе добра праглядаецца. Хата звычайная, пад саламянай страхой. Даўгаватая: так што можна здагадацца — яна на два канцы. У дзвярах віднеецца чалавечая постаць, лёгкая, мабыць, жаночая ці дзявочая. Левы канец хаты, асабліва страху, захінаюць шаты дрэў. І хоць яна не ў цэнтры

малюнка, але менавіта ў ёй увасоблены прыцягальны вобраз твора. Жаночай постаццю на парозе, светлым прыкрыццем-страхой, тым жыццём, што тоіць унутры сябе хата, яна прыцягвае позірк і сэрца, абуджае своеасаблівую таямнічасць непазнанага і ўжо блізкага чымсьці нам чалавечага жыцця.

На аркушы 1924 года ўсё, акрамя хаты, засталося па-за рамкамі. Пададзеная буйным планам у цэнтры малюнка, яна траціць сваю таямнічасць. Папраўдзе, звычайная сялянская хата. Мастак адчувальна перадае форму і колер бярвенняў, з якіх яна складзена, белізну аконных ліштваў, што добра вылучаецца на фоне шэрых сцен.

І, вядома, — усё, што перад самай хатай, у непасрэднай блізкасці ад яе: грады, невялічкі кветнік пры ганку. І толькі з левага боку, пры сцяне, выпісаны цяжкаватыя галіны яблынь. На самым заднім плане, за хатай, абазначаны «сілуэт» лесу. Можа, хата і не такая ўтульная, але разам са сваім зялёным, жывым атачэннем яна не страціла прывабнасці як прытулак, гняздо працаўніка-земляроба, з усімі адзнакамі яго гаспадарчай руплівасці.

Першыя сталыя вандроўкі па Дзісеншчыне далі Драздовічу ўражанні, натурны матэрыял і для графічных малюнкаў «Вёска Лаўрынаўка», «Чаронка», «Дом на пагорку», «Гара Гараватка», «Вітаўтавы масты» і інш. Усе яны напісаны Ў 1922—1923 гадах. Уражлівай была сустрэча мастака з невялічкай вёскай пад назвай Лаўрынаўка. Закінутая сярод лясоў, яна паўставала перад вачыма падарожніка нечакана і светла. Вельмі жывапісна была размешчана: у даліне, між лесу высокай, як для Дзісеншчыны, гарою.

Мастак перадаў усю маляўнічасць гэтага ляснога кутка, чалавечага прыстанішча на ўлонні велічнай красы прыроды.

І красу гэту бачыў мастак арганічнай жыццю чалавека, працы земляроба. На малюнку перш-наперш лёгка абазначана дарога, што спускаецца ў даліну, да сяла. Злева на яе лёгка нахінулася калоссе яравога кліна, справа — край бору: грамада цяглых сосен і на цёмным фоне іх срабрыста свеціцца лісцем бяроза. У цэнтры малюнка — выява вёскі: хаты шчытамі да вуліцы, гумны, азяроды. Пададзеныя зверху (позірк мастака іх ахопліваў з дарогі, са спуску ў даліну), яны добра выяўляюць план будовы, яе стройную форму, удалае размяшчэнне.

Замалёўваючы мясціну, празваную ў народзе Вітаўтавымі мастамі, Драздовіч імкнуўся да дакументальнай дакладнасці. Мастаку хацелася перш за ўсё занатаваць на паперы тое, што народная памяць данесла аж з XV стагоддзя. Тут, на Дзісеншчыне, звязвала яна з імем Вітаўта дарогу, грэблю, стан — відаць, невыпадкова. Вітаўт, які бараніў літоўска-беларускія землі не толькі ад теўтонаў, але і ад польскай экспансіі, пакінуў прыкметны след у гісторыі двух суседніх народаў. Нездарма вялікі гуманіст эпохі Рэнесансу Мікола Гусоўскі ў паэме «Песня пра зубра» ўспомніў ды ўславіў гэтага мудрага дзяржаўнага дзеяча.

Дарогі Вітаўта не раз пралягалі і праз Дзісеншчыну, якая была на шляху з Вільні ў Полацк, Віцебск, Лукомль… На малюнку Драздовіча — звычайная лясная дарога праз рэдкую баравіну. Толькі курганы воддаль, па-

мятка мінулага, сведчаць, што з гэтай дарогай звязаны нейкія гістарычныя падзеі, войны, змаганне. Малюнак скупаваты ў выяўленчым плане. Меў ён выразную ўстаноўку на дакументальнасць.

Вельмі лірычнай, светлай была невялікая серыя графічных малюнкаў Драздовіча — «Александрыя». У ёй са стрыманай пяшчотай узноўлены свет родны і блізкі мастаку з маленства.

Нязмушана, лёгка, у эцюднай манеры ствараў Драздовіч графічны аркуш «Дом на пагорку». Адкрыты з усіх бакоў зроку, вятрам, прыветна глядзіць на свет вокнамі адзінокі дом на высокай белай падмуроўцы. За домам цямнее старая галінастая груша, а з-за даху выглядае цэлая сям'я вастраверхіх дрэў. Лёгкімі тонкімі штрыхамі мастак перадаў шэры тон пацямнелых ад часу і дажджоў драўляных сцен, гонты на даху. Без націску акрэсліў контуры шыракаватай сцяжыны ў мяккіх берагах-разводах травы. Акуратная жардзяная агарожа, пастаўленая воддаль ад сцежкі, не абмяжоўвае праходу к дому, а неяк шырока і адкрыта разгорнута ў бок гледача.

І сам дом, адзінокі і светлы, з разчыненымі белымі аканіцамі, і шырокая сцежка-дарога, што мякка «цячэ» з пагорка прама пад ногі падарожнаму, гаворадь аб гасціннасці, зычлівасці людзей, якія тут жывуць. Узіраючыся ў гэты невялікі абразок Дзісеншчыны, успамінаеш адзін з дзённікавых запісаў мастака пазнейшай пары, зроблены ў ліпені 1934 года.

«У Падаутах я адведаў даўнейшую сялібу сімпатычнага інтэлігентнага старыка-кавалера Язэпа Гурскага.

Досыць прасторны дом на высокім буі непадалёк вытоку з возера рэчкі Ауты, за якім, як і даўней, зеленавацідь высока ўзнесены лес, адбіваючы свой цень у глыбокіх і ціхіх водах возера Ауты.

Дом гэты даўней складаўся з двух канцоў. У адным, к поўначы, жыў музыка-скрыпач з невялікім сынком-цымбалістам, артыст сваёй справы Ледаховіч. А ў паўдзённым канцы, цераз кухню, сені і бакоўку жыла сям'я светлай памяці Язэпа і трох ягоных па брату пляменніц, для якіх ён быў апекуном. У галоўным прасторным пакоі было вельмі ўтульна: гладка абгаблёваныя, пацямнелыя ад старасці нетынкаваныя сцены былі ўвешаны прыгожымі саматканымі ды вышыванымі дыванамі. Сталы і столікі таксама пакрываліся рознаўзорыстымі сеткамі ды абрусікамі. У куце ад парога стаяў на крыжовых нагах старадаўнейшы ўжо прыпсуты фартэпіян, а над ім паліца з хатняю бібліятэкай. Між кніг яе асабліва мне ўрэзалася ў памяць аграмадная ў масіўнай аправе з друкам на даўнейшай сіваватай паперы кніга з загалоўкам «Статут».»

Гараватка. Вобраз гэты, уражлівы краявід ваколіц Галубіцкай пушчы быў асабліва мілы сэрцу мастака, узрушаў яго ціхай і светлай красой. Не раз браўся Драздовіч за пяро, пэндзаль, каб узнавіць Гаравагку на паперы, палатне.

Апошні яго твор — жывапісны эцюд «Гара Гараватка», датаваны 29 вераснем 1952 года, — даніна захаплення і ўдзячнасці мастака гэтаму кутку роднай зямлі, паклон на вечнае развітанне. Першы графічны аркуш Драздовіча, прысвечаны Гараватцы, ад апошняга жывапіснага палатна аддзялялі трыццаць год.

Сярод графічных пейзажаў мастака «Гараватка» вылучалася незвычайна паэтычным ладам гучання, мастацкай дасканаласцю. Мяккасць, пранікнёнасць, пластычнасць беларускіх краявідау тут выяўлена з глыбокім і тонкім мастацкім чуццём, на якое здольны толькі талент праўдзівы, шчыры, сапраўдны.

Малюнак кампазіцыйна выцягнуты ўглыбіню. На пярэднім плане лясная дарога, такая асязальная, што адчуваеш халаднаваты пясок яе каляін. Вынырнуўшы з лесу, яна нібы спынілася на момант перад хараством прасторы: роўным шнурам збажыны, маладым жытам, стройным радам хат і гумнаў на ўзвышшы пад гарою, што, як карона, вянчае спакойнае яснае чало зямлі.

Усё люба мастаку ў гэтай мясціне. Нічога не хоча ён упусціць, ніводнай драбніцы. Сілай свайго таленту «прымушае» затрымцець лісты на прыдарожным кусце, адчуць панаднасць летняга неба, выклікае ў гледача жаданне задумацца пра селяніна, які адваяваў гэты кавалак зямлі ў пушчы і аздобіў яго сваім жытлом, збажыной. Чыстыя, ясныя, спакойныя лініі другога і трэцяга плана малюнка добра перадаюць пластыку падножжа і самой гары, спакойнае хараство ўсяго гэтага чароўнага кутка.

Менск для мастака быў цяпер адрэзаны дзяржаўнай мяжой. Заставалася Вільня, дзе з-пад акупацыйных дратоў прабіваўся ўпарты расток беларускай грамадскай думкі. Водгалас яе даносілі лісты, а найболей газеты, часопісы, што траплялі ў Надзвінне. З друку можна было даведацца пра цяжкую барацьбу народа за свае элементарныя правы, улавіць надзеі, звернутыя на Усход. Прагучаў у Варшаве, у сойме, голас першых беларускіх паслоў-дэпутатаў, абраных народам увосень 1922 года. Асабліва палымяна, мужна, пераканаўча з трыбуны сойма прагучаў на пачатку 1923 года голас заходнебеларускага дэпутата Браніслава Тарашкевіча. Пад градам нападак правых дэпутатаў, якія і знаць не хацелі ніякіх нацыянальных меншасцяў, ніякіх абавязкаў польскай дзяржавы перад імі, пасланнік Заходняй Беларусі з годнасцю, доказна давёў абсурднасць імкнення ваяўнічай шляхетчыны ігнараваць імя і права беларускага і ўкраінскага народаў.

Прыцягвалі ўвагу расцярушаных па краі інтэлігентаў беларускія культурна-асветныя, навуковыя і мастацкія асяродкі (як тады казалі «пляцоўкі») у Вільні. Рупілася аб асвеце народа Таварыства беларускай школы: вяло сапраўдную вайну за адкрыццё і ўтрыманне беларускіх гімназій, школ, рыхтавала арыгінальныя падручнікі, разгортвала сетку гурткоў самаадукацыі, мастацкай самадзейнасці, якія станавіліся вогнішчамі грамадскага ўсведамлення.

Стараннем драматурга Леапольда Родзевіча ўзнікла Беларуская драматычная майстэрня. Яна згуртавала вакол сябб жменьку мастацкай інтэлігенцыі, зацікаўленай у развіцці нацыянальнага тэатра ў Заходняй Беларусі.

Заснаванае яшчэ да сусветнай вайны тут, у Вільні, аднавіла сваю дзейнасць і пачало выдаваць творы прыгожага пісьменства, падручнікі, кнігі-календары, спеўнікі Беларускае выдавецкае таварыства. Праца ВВТ набірала год ад году ўсё большы раамах.

Але як бы плённа ні працавала Беларускае выдавецкае таварыства, яно не магло ахапіць у сваёй дзейнасці ўсёй шырокай і разнастайнай духоўнай плыні, выкліканай да жыцця нацыянальна-вызваленчым рухам. Поруч з ім паўсталі і іншыя выдавецтвы, якія выпусцілі ў свет дзесяткі і сотні беларускіх кніжак, перыядычных выданняў. У адрозненне ад БВТ, аб'яднання каапературыўнага, большасць іх насіла прыватны характар.

Палітычная і культурна-асветная праца бу-дзіла ў сэрцы Драздовіча светлыя надзеі на будучыню. Мастак бачыў, што ўсё болей людзей рупілася каля духоўнай нівы народа.

Насуперак забаронам паліцыі разы два ён прарываўся ў выдавецтва ці рэдакцыі газет. Адзін раз без лішніх турбот: удалося ўнікнуць вока шпікоў. Другі раз не так удала: давялося прайсці праз арышт, здзек. Але калі займець сталую працу ў Вільні, то і «сцігуны» (так называў ён тайнікаў, паліцэйскіх суглядчыкаў) будуць вымушаны пакінуць у спакоі ці, прынамсі, зрабіць выгляд, што пакінулі. У тых, што сцераглі падваліны дзяржавы, цікавалі за падазронымі, падпольпчыкамі, рэвалюцыянерамі быў большы, пільнейшы клопат, чым віжаванне за мастаком з Дзісеншчыны. Зрэшты, хто ведае. Можа, у Вільні можна з большай пэўнасцю мець яго на воку, глядзець куды, да каго ўчашчае. Балазе паручыць гэту не надта далікатную справу тут можна было сапраўдньш артыстам вышуку, а не якім-небудзь там правінцыяльным сівалапым паліцыянтам, у якіх ні спрыту, ні тонкасці. Папраўдзе, мастак пра апеку над сабой з боку «сцігуноў» шмат не думаў. Дакучала няпэўнасць становішча, і як толькі прыйшоў з Вільні ліст ад Янкі Пачопкі, які ўладкаваўся ў рэдакцыі адной з беларускіх газет і цяпер клікаў да сябе, рынуўся ў горад. Прытуліўся на Віленскай, 12, у Антона Грыневіча і Янкі Пачопкі. Склалася шчырае, прыязнае таварыства. Можа, не так узнёсла, як у 1917-ым, адразу па Лютаўскай рэвалюцыі (Грыневіч пасля года побыту ў Варшаўскай турме ў сорак пяць пасівеў, страціў ранейшы гумар), але ўсё ж снавалі новыя планы, марылі аб будучым уздыме беларускай культуры.

Грыневіч заканчваў працу над першым беларускім музычным падручнікам «Навука спеву». Спадзяваўся кніжкай сваёй і музычную грамату даць, і памагчы, асабліва вясковым настаўнікам, пачаць збор народнай музыкі, арганізаваць вучнёўскі хор. Лічыў, што навука спеву павінна быць пастаўлена ў школе на належнае месца, «ажыўляць народны дух і стацца крыніцай любасці да сваёй бацькаўшчыны». Янка Пачопка акрамя газетнай працы з запалам рыхтаваў адну за адной папулярныя гаспадарчыя кнігі, насіўся з думкай выдаць фальклор Дзісеншчыны.

Тут, на Віленскай, 12, і накідаў мастак свой першы графічны партрэт Грыневіча. Паказаў самаахвярнага руплівуца беларускай народнай музыкі, кампазітара такім, як найчасцей бачыў, — за працай. Грыневіч на малюнку схіліўся над нотным аркушам. У яго высокае адкрытае чало, спакойна-ўдумлівы позірк.

І хоць на партрэце Грыневіча, намаляваным сябрам, нельга было «прачытаць» усяго пра фалькларыста, педагога і кампазітара, на ім значна было адно: мастак стварыў вобраз чалавека нялёгкага лёсу і глыбокіх ідэйных

перакананняў. На партрэце Драздовіча — Грыневіч, які вярнуўся да жыцця, да грамадскай, улюбёнай музычнай працы, да сваіх шырокіх планаў. Ён рупіўся, яму трэба было спяшацца. Яшчэ так шмат трэба было зрабіць на гэтай ніве, дзе толькі-толькі падымалася рунь! Толькі праз гады Драздовіч зразумее, чаму так даражыў кожнай мінутай яго старэйшы сябра, чаму так не цярпеў марнатраўства часу і ўсяго, што перашкаджала засяродзіцца на працы, на сваім кроўным занятку.

Летам 1923 года Драздовіч, здавалася, ужо настала прыпыніўся ў Вільні. Пасол у сайм Сымон Рак-Міхайлоўскі ў лісце да мастака з Варшавы 13 жніўня пытаўся, ці заказаў яму Тарашкеаіч (на той час старшыня беларуокай дэпутацкай фракцыі ў сойме) партрэты Янкі Купалы і Якуба Коласа. Відаць, меркавалася павесіць партрэты ў будынку Беларускага пасольскага клуба.

У гэтым самым лісце гаворыцца як аб вырашаным факце — ўдзеле Драздовіча ў выданні казак Сержпутоўскага.

І яшчэ ў лісце была такая прыпіска: «Прывядзеце ў парадак цемнаваты пакой, дзе начуеце. Там пасля кватэрных рэформаў мае быць адміністрацыя газеты «Наш сцяг».

«Наш сцяг» выходзіў з чэрвеня 1923 года. Гэта было на той час адно з самых левых легальных перыядычных выданняў у Вільні. Узначальваў газету адзін з лідэраў Беларускай рэвалюцыйнай арганізацыі, пазней дзеяч Кампартыі Заходняй Беларусі, шматгадовы яе сакратар, публіцыст Язэп Лагіновіч. Супрацоўнічалі, актыўна выступалі на яе старонках Леапольд Родзевіч, Сымон Рак-Міхайлоўскі (пісаў пад псеўданімам Баўтручонак), Ігнат Канчэўскі, Уладзімір Самойла, Максім Гарэцкі і іншыя. Драздовіч быў з усімі асабіста знаёмы. І калі ў асяроддзі гэтай гронкі творчай інтэлігенцыі ўзнікла ідэя выдаць зборнік прац па грамадскай думцы, літаратуры і мастацтву Заходняй Беларусі, то запрасілі ўдзельнічаць і яго як мастака ў першую чаргу. Кніга выйшла на пачатку 1924 года і была досыць разнастайнай і багатай зместам.

Сур'ёзнаму, строгаму зместу выдання адпавядала мастацкае афармленне Драздовіча, сціплае, з густам зробленае. Яно складалася з некалькіх заставак і віньетак. На першай застаўцы зборніка «Заходняя Беларусь» адлюстраваны характэрны беларускі краявід. Удалечыні вёска: сілуэты хат, дрэў, студні з асверам. Далей прысады. Знаць, імі кіруецца ўдалеч дарога-гасцінец. На гарызонце — узгорак-курган. А на пярэднім плане — палявы разлог — доўгія роўныя загоны да самай вёскі. Справа — плаўны спуск пагорка, лініі якога неяк своеасаблівa крыжуюцца з полем, пераходзяць у яго.

У аснову другой застаўкі Драздовіча пакладзены таксама пейзажны матыў. Толькі тут няма паэтызацыі роднай зямлі, а зроблены акцэнт на становішча Заходняй Беларусі, шляхах будучыні Радзімы. Тэма застаўкі — старая і новая Беларусь. Старая ўвасоблена мастаком у вобразе дрымотнай зямлі: краю балот, гацей, запушчэння. Новая, будучая, радасна глядзіць на свет роўнымі загонамі збажыны, гожым каналам, што даў сцёк балотнай вадзе.

Прыжыўшыся ў Вільні з лета 1923 года, Драздовіч напачатку часта пакідаў горад, вяртаўся на сваю Дзісеншчыну. Прычыны для гэтага былі

розныя. Сталага заробку мастак у Вільні так і не займеў. Не было і большменш пэўнай страхі над галавой. Туліўся то ў Пачопкі, то ў Грыневіча. Ды, акрамя таго, зманьвалі бацькоўскія сцежкі, край маленства на сваё зялёнае ўлонне.

І ўсё ж мастак праз нейкі год побыту ў горадзе ўжо добра ўжыўся ў віленскае беларускае асяроддзе, настолькі добра, што мог чэрпаць у ім матэрыял для сваёй творчасці. І самы разнастайны. Спрыяла такому пазнанню і мастацкая натура, жывая, непасрэдная. А найболей тое, што прыпыніўся ў Вільні Драздовіч якраз у самым асяродку беларускага культурна-грамадскага руху. Віленская, 12 ды Базыльянскія муры ля Вострай брамы, дзе мясціліся гімназія, музей, Беларускае навуковае таварыства, былі на пачатку 20-х галоўнымі вогнішчамі культурна-грамадскага ды і палітычнага жыцця Заходняй Беларусі.

На Віленскую, 12 сыходзіліся практычна ўсе, хто меў дачыненне да грамадскай і культурна-асветнай беларускай працы. Заходзілі дэпутаты, пісьменнікі, актывісты вызваленчага руху з правінцыі, журналісты, настаўнікі… Не трэба было нікуды хадзіць, каб прыгледзецца да жывой плыні руху, які пачынаўся тут і ішоў у глыбіню ўсёй заходнебеларускай зямлі, жывым рэхам азываўся на яе разлогах ад Прыпяці да Заходняй Дзвіны, ад Вярэзіны да Нарава і Буга. Сярод людзей, што працавалі, друкаваліся на Віленскай, 12, вучылі ці вучыліся ў Базыльянскіх мурах, наведваліся туды ў Беларускі музей, навуковае таварыства было нямала каларытных, паглядных, як на вока мастака, постацей. Энергічны, нават выбуховы характарам паэт, драматург Родзевіч прыносіў новыя вершы. Чытаў горача: узрываўся думкай, пачуццём, новымі нечаканымі сугуччамі рыфмаў, імклівым рытмам:

Ідзе ў цьме.
У пакрыўджанай грамадзе,
Яднаючы ў паток веснавы
Дзяцей катаваных рабоў,
Ідзе праз галовы змей,
Ідзе праз кроў,
Праз руіны, равы
З мальбой і гневам
Кіпучым, святым.

…З пажарышч узнімаецца ахвярны дым
«Мы доўга цярпелі, цярпець больш не будзем…»

Спакойным, ураўнаважаным, задумлівым летуценнікам выглядаў побач з ім далікатны з твару ціхі Уладзімір Жылка. Такім быў ён і ў сваёй лірыцы, мройлівы рамантык з чулай, дзіцячай душой, з думкай змаганца.

Нягучным грудным голасам чытаў:
Толькі той, чый вольны дух
Застаецца ў бойках квол,
Толькі той, хто творыць рух
Беларускіх мест і сёл,
Толькі той, хто верыць у цуд —
Лепшу долю курных хат,
Толькі той, хто любіць люд,
Толькі той мне любы брат.
Брат, бо думкі ў нас адны
І адзін злучае лес,
Бо для роднай стараны
Долі хочыма без слёз.

Разы два давялося бачыць Максіма Гарэцкага. Прама з урокаў у гімназіі прыходзіў у Драматычную майстэрню. На Віленскую 12 часта заглядаў высокі вузкатвары Уладзімір Самойла. Прыносіў перадавіцы, Найчасцей можна было, аднак, прачытаць яго пазначаныя смелай палітычнай думкай, вострыя, дасціпныя артыкулы, якія друкаваліся з працягам у некалькіх нумарах. Яны былі прысвечаны розным надзённым пытанням палітычнага жыцця Заходняй Беларусі і Польшчы. Асвятлялі яго з пазіцый вызваленчага руху, асвятлялі кваліфікавана, таленавіта, мудра.

Самойла неяк адразу зацікавіўся Драздовічам. Падрабязна распытваў мастака пра перажытае, творчыя планы. Падтрымліваў намер мастака пісаць другую частку аповесці, не кідаць пяра. Папрасіў перадаць падрабязны план літаратурнай задумы.

Моцна падабаўся Драздовічу сваім імпазантным выглядам, інтэлігентнасцю лацініст а Віленскай беларускай гімназіі Мікалай Красінскі. Педагог жыва цікавіўся мастацтвам і ведаў яго. Сабраў невялікую калекцыю малюнкаў, партрэтаў, пейзажных эцюдаў.

Мастаковага сябра Пачопку аднойчы назаўсёды замяніла ў адміністрацыі газеты невысокая зграбная маладая жанчына, з удумлівымі строгімі вачыма. Звалі яе Людвіка Сівіцкая. Зрэдку яна змяшчала ў друку свае паэтычныя замалёўкі ў прозе. Пад псеўданімам Зоська Верас Сівіцкая пісала яшчэ ў «Нашу ніву». Цяпер жа бралася за арганізацыю сельскагаспадарчага аддзела ў газеце.

Часам у рэдакцыю заходзілі паслы на сойм Рак-Міхайлоўскі і Тарашкевіч. Рак-Міхайлоўскі па-вайсковаму падцягнуты, статны, высакаваты. Тарашкевіч шырэйшы ў плячах, блакітнавокі. Абодва жывыя, прыязныя. Міхайлоўскі курыраваў газету, пісаў у асноўным пра работу Беларускага пасольскага клуба, аб барацьбе ў сойме. У БПК ужо ішла дыскусія аб змене тактыкі, наспяваў раскол, абумоўлены поступам вызваленчага руху, дыферэнцыяцыяй грамадскай думкі пад уплывам развіцця палітычных умоў у краіне.

Усё, што гаварылася ў рэдакцыі, друкавалася ў газеце, не ўнікала слыху Драздовіча. Заядлым палітыкам ён не быў, але ўсё, што рабілася наўкол, праходвіла праз яго душу. І ўсяму мастак даваў сваё тлумачэнне.

Шмат цікавага для сябе знаходзіў і ў Базыльянскіх мурах. У музеі, што там мясціўся, з подзівам аглядаў старажытныя рэчы: вялікі «персцень-пячатку» Усяслава Полацкага, знойдзены каля Дзісны, скарынінскія выданні, надрукаваныя ў Празе і Вільні больш за чатыры стагоддзі таму назад, карціны невядомых мастакоў з прыцьмелымі фарбамі, золататканыя ўзорыстыя слуцкія паясы… Любіў пагутарыць з педагогамі гімназіі. Паважнага выгляду, пажылы ўжо, густавусы выкладчык фізікі Антон Трэпка цікавіўся этнаграфічнымі замалёўкамі мастака. У настаўніка была вялікая калекцыя фотаздымкаў мястэчковых кірмашоў з цэлымі выстаўкамі ганчарных і бандарных вырабаў, тыпамі раменнікаў і сялян-земляробаў. Трэпка складаў падручнікі па розных раздзелах фізікі. Дзеля праверкі гучання асобных беларускіх тэрмінаў даваў «пасмакаваць» іх і Драздовічу.

Тут пазнаёміўся мастак з Нінай Сасноўскай, якая па парадзе Максіма Гарэцкага намалявала вельмі ўдалы партрэт Купалы. Невысокая сарамлівая жанчына таксама вучылася ў Віленскай рысавальнай школе Трутнева, але гадоў на восем пазней за Драздовіча. А паходзіла сама з наднёманскай вёскі Дубна, што на Гродзеншчыне.

Звычайна ўсе, хто працаваў на Віленскай, 12 заглядаў у рэдакцыю, не мелі часу, спяшаліся. На просьбу мастака папазіраваць звычайна адмаўляліся. Абяцалі другім разам, зручнейшай хвілінаю. Тады Драздовіч стаў маляваць іх употай, на ляту лавіць характэрныя рысы, партрэтнае падабенства. Некаторыя раздарыў тым, з каго пісаў, і лёс іх невядомы.

У 1927 і наступных гадах санацыйныя ўлады буржуазнай Полыпчы абрушылі ўдар за ўдарам на вызваленчы рух. Лідэры яго, актывісты аказаліся ў астрогах, і далейшы лёс іх быў трагічны.

Вясна 1924 года неяк трывожна паклікала Драздовіча дамоў, на Дзісеншчыну. Схадзіў на матчыну магілу пад Германавічамі. Тры гады, як яна адышла назаўсёды, працавітая, з добрым спагадным сэрцам. Востра зажадалася яе намаляваць, узнавіць дарагое, роднае аблічча. Як гэта ён не зрабіў раней, пры жыцці? Пагадзіўся з яе аднекваннем, адкладам на потым, на далей. Але хіба цяпер у яго вачах, у яго душы не ўстае яна як жывая? Асабліва тут, ля родных парогаў.

Мастак абышоў Пунькі, Чаронку, Кміты і скрозь па гэтых сцежках, кутках дзяцінства, падлеткавай яго пары была з ім побач у думках маці. Але ніколі, можа, ён так востра не адчуваў патрэ-бы гаварыць з ёй, раіцца, проста бачыць яе. Мабыць, адразу, страціўшы яе, не адчуваў так востра ўсяго пражытага жыцця, яе лёсу ўдавы, якая трыдцаць з лішнім год адна давала рады ўправіцца з вялікай сям’ёй, выгадаваць дзяцей, выправіць у свет яго. Ён маляваў маці спакойна, думаючы пра тую трываласць, што была ў яе ад прыроды. Цяпер былі фарбы, купленыя ў Вільні. Не кожны раз ён мог раздабыць такія добрыя фарбы. То не было іх дзе купіць, то не было за што. Палатніна, кардон, — смешна прызнацца, — для яго таксама былі раскошай. Прасцей было набыць туш, пяро. Яны заўсёды былі пры ім. І нядорага, і месца мала займалі. Але цяпер былі фарбы, сапраўдныя алейныя фарбы. Праўда, невялікі выбар. Але не бяда. Была зялёная, карычневая, светла-ружовая, амаль бэжавая.

Дабрадушны і адначасова валявы твар маці паўставаў на малюнку. Светла-зялёны колер добра спалучаўся з ясна-карычневым. Зялёны фон, на якім паўставаў вобраз маці, дзіўна ажыўляў яе, падсвечваў. Яснеў яе адкрыты высокі лоб. Строгія і добрыя вочы глядзелі на свет з одумам. У натуры была відаць стрыманасць і засяроджанасць. Лёгкі паварот галавы (можа, любімая пастава) дапамагалі выявіць валявы пачатак, няскоранасць перад жыццёвымі нягодамі. Гэта таксама надавала ўсяму партрэту болып жывасці, што было дарэчы пры выяве пажылога чалавека, крыху ацяжэлага пад ношай гадоў.

Драздовіч знаходзіў у сабе падабенства з маці. Прыгадвалася народнае павер'е: «Сын, падобны на маці, будзе мець шчаслівую долю» — і выклікала сумную ўсмешку. У Вільні пакуль што так і не ўдалося асталявацца. Заказы — час ад часу і ганарар грошавы. Рэдакцыі, выдавецтвы, кнігарні — усе былі небагатыя. Даводзілася рабіць грамадскую работу на адным энтузіязме. І трэба было рабіць і рабілі, але ж хацелася б мець хоць бы пэўны начлег — больш-менш надзейную страху над галавой ды каб так не дапякаў голад.

А тут, у сябе на радзіме, у Глыбокім, лёс як бы абнадзейваў. У мясцовай школе не было настаўніка малявання. Пачаў працаваць за мізэрную плату — дваццаць чатыры злотых у месяц. Каб пражыць, даводзілася яшчэ падрабляць урокамі. Дармо, што школа была польская (беларускай не дазвалялі), узяўся за працу шчыра. Вучні хутка перайшлі ад малявання кубоў ды іншых прадметаў да замалёвак помнікаў архітэктуры мястэчка і яго ваколіц. Зрабіў мастацкае афармленне, дэкарацыі да некалькіх вучнёўскіх спектакляў. Пры занятках па эцюдах расказваў пра гісторыю роднага краю. Хутка дзеці пачалі ўжываць беларускія словы і на ўроках настаўнікаў-палякаў. Гэта моцна не спадабалася. Да таго ж на выстаўцы мастак-настаўнік паспрачаўся з старастам, Чыноўнік, які лічыў сябе гаспадаром павету, ніяк не мог дапусціць, каб на выстаўцы сялянскія вырабы з дрэва і гліны разам з карцінамі Драздовіча былі прадстаўлены як творы беларускага мастацтва. Паводле яго перакананшя і ўказу, яны павінны былі называцца творамі рэгіянальнага мастацтва, а выстаўка — рэгіянальнай. Чыноўнік выражаў афіцыйны дзяржаўны погляд: ніякага беларускага народа няма, а, значыць, і беларускага мастацтва няма і быць не можа.

Сутыкнуўшыся з забаронай называць свае творы беларускімі пры публічным іх паказе сваім жа людзям, мастак выказаў старасту ўсё, што ён думае пра такую «палітыку».

А на карцінах сваіх з гэтага часу стане выразна пісаць па-беларуску «Язэп Драздовіч», на адвароце ж прыгожымі літарамі выводзіць фарбамі назвы і год напісання. Гэта зробіцца прынцыпам мастака, адным са спосабаў сцвердзіць нацыянальную прыналежнасць свайго мастацтва. Стане знакам асабістага яго супраціўлення панам-экспансіяністам з Варшавы, іх каланіялісцкай палітыцы.

Эпізод са старастам яшчэ больш настроіў пана дырэктара Глыбоцкай сямікласнай школы супраць настаўніка малявання і чарчэння. Але канчаткова прадрашыла звальненне Драздовіча з Глыбоцкай школы яшчэ адно

здарэнне. Расказаў пра яго летам 1974 года глыбоцкі старажыл, некалі каваль, Антон Дрозд.

Неяк аднойчы на сходзе лета ў Глыбокае наведаліся беларускія паслы. Дзень быў святочны, і ў мястэчка з’ехалася і сышлося шмат народу. Гэта і скарысталі дэпутаты. Пры дапамозе мясцовых актывістаў, камуністаў і грамадаўцаў, яны наладзілі вялікі мітынг, веча, як называлі тады. Расказалі аб становішчы ў краіне, Заходняй Беларусі асобна. Растлумачылі, чаму з Беларускага пасольскага клуба выйшла група дэпутатаў і заснавала асобны клуб пад назвай Беларуская сялянска-работніцкая грамада. Гаварылі, што новая арганізацыя дамагаецца зямлі для сялянства, васьмігадзіннага рабочага дня, асветы на роднай мове… І калі пасол Мятла, — а яго тут многія зналі ў твар, — сказаў: «Можа, хто хоча гаварыць?», Драздовіч імкліва выйшаў наперад. Гаварыў пра крыўды, якіх нязмерна назбіралася ў народзе: пра нядолю беззямельных і малазямельных, пыху абшарнікаў, пра асадніцкую пошасць, што распаўзаецца па краі, пра адбіранне ад беларускіх дзяцей школы з матчынай мовай.

Услед за Драздовічам загаварылі і іншыя. Гаварылі пра кроўнае, набалелае: пра нязмерныя падаткі, дарагавізну, самаўпраўства мясцовай адміністрацыі, паліцэйскія гвалты.

На другі дзень Драздовіча выклікаў да сябе кіраўнік школы, заклапочаны, строгі. Не прапануючы сесці, спытаў:

Ці пан наўчыцель думае, што працаваць у панствовай (дзяржаўнай) польскай школе можна без павагі да самога панства, яго засад (асноў)? Пан публічна выступіў з камуністычнай прамовай. То, можа, пан палітык, а не наўчыцель?

Мастак зразумеў: ён звольнены. Апраўдвацца не стаў. Ды, уласна, за што? За праўду? Падзякаваў дырэктару за шчырасць. Спытаў, апярэджваючы апошнія яго словы: «Естам звольнёны?».

— Так, — адказаў дырэктар, дапытліва гледзячы ў вочы мастаку. — Загадам пана інспектара…

Трэба было зноў кудысь падаваццаі Можа, і добра, што так атрымалася. Школьная праца забірала нямала часу, а хлеб, што давала ўзамен, быў скупы. Не надта багаты мастацкі плён прынёс яму год у Глыбокім. Праўда, не скажаш, што нічога не даў. Вось жа ёсць Глыбоцкі альбом — серыя алоўкавых малюнкаў мястэчка і ваколіц. Некалькі малюнкаў узнаўляюць агульны выгляд Глыбокага. Яны няблага выяўляюць адметнасць мястэчка, маляўніча размешчанага над возерам, своеасаблівасць яго архітэктуры. Позірк на выявы паасобных мясцін, помнікаў мястэчка выклікае светлае і шчымлівае пачуццё роднага, блізкага. Мастак глядзеў на гарадок, што да часу прытуліў яго, улюбёнымі вачыма паэта. Шляхі, старыя гасцінцы заўсёды, асабліва ў маладосці, мелі над Драздовічам зваблівую ўладу. Яны адкрывалі ўсё новыя і новыя далягляды, вялі да людзей, у шырокі свет разнастайных праяў чалавечага жыцця і неагляднай прыроды. Дарога парывала мастака да новых дзей, абуджала новыя настроі, думкі, абяцала нешта таямнічае.

**У Вільні**

Вымушаны развітацца з Глыбокім, Драздовіч і ў наступны год, адкрываючы для сябе новы, нязнаны край, Палессе, у думках, перажываннях вяртаецца да глыбоцкіх ваколіц. Уражанні ад гэтага цікавага, мілага гарадка яшчэ жылі ў душы мастака. І ў наступны, 1926 год, ён стварае акварэльныя малюнкі «Беразвечча», «Беразвецкі кляштар», жывапіснае палатно той жа назвы. На іх мяккія зялёныя тоны беларускага лета спалучаюцца з пурпуровым колерам чарапіцы белых муроў, прыгожых светлых помнікаў барока. Але гэта было ў дваццаць шостым. У тысяча дзевяцьсот дваццаць пятым у мастака пануюць чорна-белыя тоны. Ён піша вугалем дзве рэчы «Пажар гарадзішча» і «Нірвана», пазначаныя самабытным светаадчуваннем, арыгінальным вобразным ладам, як большасць твораў мастака.

«Пажар гарадзішча» пры графічнай тэхніцы выканання — рэч жывапісная. Аўтар дасягае надзвычайнай асязальнасці выявы, мяккасці ў перадачы фактуры вобразаў, манеры пісьма. На чорным фоне неба святлее пакаты ўзгорак, характэрнай формы. Белыя пасмы дыму ўзняліся ўгору над гарадзішчам, што на яго вяршыні. Гарыць будова за агароджай. У святле пажару бачны тры маленькія постаці. Прыгледзеўшыся, заўважаеш, што гэта ўзброеныя людзі. Яны паспешліва суправаджаюць нейкі груз, кіруюцца кудысь долу і зараз схаваюцца за невялікім пагоркам з бажніцай на ім.

Пачуццё трывогі, насцярожанасці ўзмацняе фігура чалавека ў вопратцы са звярыных шкур. Выпісаны буйным планам, спіной да гледача, ён з узлеску цікуе за пажарам. Хто такі? Выпадковы сведка ці віноўнік людской бяды? Аўтар пакідае, здаецца, гэта пытанне без адказу.

Праца Драздовіча «Пажар гарадзішча» рэпрадуцыравалася ў заходнебеларускім друку: спачатку ў часопісе «Неман» (1932, № 1), пазней была выпушчана паштоўкай. «Нірвана» заставалася ў прыватнай калекцыі ў Вільні, у Ігната Мятлы — брата вядомага грамадска-палітычнага дзеяча Пятра Мятлы, які крыху займаўся выдавецкай дзейнасцю.

Зерне цікавасці да філасофіі Усходу ў пачатку 20-х на віленскім грунце пасеяў Ігнат Канчэўскі. Выпускнік Маскоўскага універсітэта, рамантык па натуры, у паэзіі Канчэўскі быў схільны да філасофіі, цікавіўся рознымі яе плынямі. Праўдападобна, гутаркі з Канчэўскім або з кім-небудзь блізкім да яго, найхутчэй з Самойлам, навялі мастака на думку стварыць аркуш «Нірвана». Тэма, да якой звярнуўся Драздовіч, — не новая ў гісторыі сусветнага мастацтва. Яе асэнсоўвалі мастакі розных эпох і розных народаў. Кожны з іх па-свойму ўвасабляў паняцце аб шчасці, якім яно склалася ва ўяўленні народаў Індыі і Кітая.

Вобразная трактоўка «Нірваны» ў Драздовіча цікавая ў некалькіх аспектах. І перш за ўсё ў плане пранікнення мастака ў далёкую іншанацыянальную стыхію. Для Драздовіча, зместам і духам сваёй працы мастака беларускага, даступным аказаўся вобразны лад мыслення ўсходніх народаў, іх філасофія. Зрэшты, гэта быў эпізод у творчасці мастака. Але, можа, не такі выпадковы. Тэма космасу якая прыйдзе да яго пазней, можа быць у пэўнай ступені неблагім таму пацвярджэннем.

Пачаўся 1926 год, які стаў своеасаблівым этапам у духоўным жыцці былой Заходняй Беларусі. Пэўнай вехай быў ён і на шляху мастака, які ўжо не мог уявіць сябе, сваю творчасць па-за вызваленчым рухам, па-за агульным лёсам усіх, хто змагаўся за палітычную і духоўную свабоду народа. З восені 1925 года Драздовічу ўдаецца неяк больш стала, пэўна затрымацца ў Вільні. Як і першы раз, яму не пашанцавала ўладкавацца выкладчыкам малявання ў Віленскую беларускую гімназію. Мела яна для мастака, як і для многіх, вялікую прыцягальную сілу. Сабраліся ў ёй выдатныя педагагічныя кадры Заходняй Беларусі, вучобу ў мурах яе праходзіла шмат здольнай моладзі. Былі сярод іх паэты і мастакі. Некаторыя выхаванцы сталі палітычнымі дзеячамі вызваленчага руху. Улады бачылі, што гімназія зрабілася своеасаблівым цэнтрам культурна-грамадскага жыцця Вільні і ўсёй Заходняй Беларусі, імкнуліся ўсімі спосабамі абмежаваць гэты рэвалюцыйны ў сваёй аснове асяродак. Былі выпадкі, калі паліцыя ўрывалася ў гімназійныя класы, каб арыштаваць паасобных вучняў, з-за нядобранадзейнасці звальнялі настаўнікаў. Але баявы дух у гімназіі панаваў нязменна. Сувязь яе з вызваленчым рухам краю выражалася ў самых розных формах і праявах. У гімназіі з першых год працы існавала моцнае падпольнае камсамольскае ядро. У паасобныя гады да сямідзесяці працэнтаў вучнёўскага складу належала да Камуністычнага саюза моладзі Заходняй Беларусі.

У дваццаць трэцім годзе, калі Драздовіч упершыню спрабаваў настала запыніцца ў Вільні, шукаў тут працы, настаўнікам малявання ў гімназіі быў Павел Южык, строгі, ужо ў гадах мастак. Меў ён педагагічную і мастацкую адукацыю: скончыў Маладзечанскую настаўніцкую семінарыю, працаваў яшчэ да рэвалюцыі ў сельскіх школах, а ў 1919 годзе, пад час эвакуацыі на ўсход, вучыўся ў мастацкіх майстэрнях у Пензе. Быў нядрэнны пейзажыст і партрэтыст. Напісаў нямала краявідаў ваколіц Залесся, звязанага з жыццём і дзейнасцю кампазітара Агінскага, скуль і сам паходзіў. Добра адчуваў прыроду, ва ўсіх яе паравых зменах. Стварыў таксама з дзесятак партрэтаў, мужчынскіх і жаночых, сялян з родных ваколіц і вучнёўскай моладзі. Працуючы ў гімназіі, Южык употай пачаў пісаць вершы па-беларуску, нават склаў вершаваную аповесць пра лес вясковай дзяўчыны, якая трапіла ў горад і зазнала ў ім шмат нягод.

Драздовіч з Южыкам пазнаёміліся, але супольнай мовы не знайшлі. Вельмі ўжо былі розныя. Южык — стрыманы, замкнёны ў сабе, як бы насцярожаны ў дачыненні да кожнага новага чалавека. Знешне — стары інтэлігент, можа, нават крыху старамодны: строгі цёмны гарнітур, каракуль, ляска-кіёк.

Драздовіч — наадварот. Адкрыты, пагодлівы настроем, прыязны, гатовы адгукнуцца на першы ж знак зычлівасці… Апрануты сціпла: недарагі касцюмчык, які прасіў змены, простая або вышываная ў васількі кашуля. Вылучала, можа, толькі традыцыйная мастакоўская грыва валасоў. Часам насіў невялікую бародку — клінам або запускаў даўгую — напаўгрудзей. Галоўнае ж, што раздзяляла двух мастакоў, было ўспрыманне свету, людзей і стаўленне да іх. Южык, працуючы ў такім на свой час своеасаблівым асяродку,

як Віленская беларуская гімназія, глядзеў збоку на жыццё, што тут бурліла і віравала за яе сценамі. Не сказаць, што ён не прымаў новай скіраванасці жыцця, той барацьбы, якую нёс з сабой вызваленчы рух, духоўнага парыву, ім народжанага. Але, мабыць, быў застары, захалодны тэмпераментам, складам натуры, каб усім гэтым глыбока прасякнуцца. Маладая адкрытасць, адвага, імкненне да новых ідэй, форм яго стрымлівала, можа, насцярожвала. Мастак замыкаўся ў сваім свеце, абмежаваным прыродай, добра знаёмымі сталымі людзьмі.

А тым часам у гімназіі падрастала здольная мастацкая моладзь. Стараннем найбольш дзейсных з іх, напачатку пры падтрымцы старэйшых паўстаў і пачаў набіраць моцы гімназіяльны друк. Меў ён грамадскі, патрыятычны напрамак. Часопіс «Маладое жыццё» змяніла друкаваная ручным спосабам «Рунь». У «Руні» акрамя паэтаў і публіцыстаў з малюнкамі выступілі маладыя мастакі Раман Семашкевіч, Васіль Сідаровіч. Яны праілюстравалі вершы, апавяданні сваіх калег па гімназіі, што шчыра ўзяліся за пяро. К дваццаць шостаму году некаторыя з іх, як Васіль Сідаровіч, пачалі супрацоўнічаць і ў вялікім друку, які чытала ўся працоўная Заходняя Беларусь. Сатырычныя малюнкі Сідаровіча ў часопісе «Маланка» былі нечакана смелыя па змесце, падкуплялі праўдзівасцю і вобразнай свежасцю. Добрыя надзеі як мастак ладаваў і Мікалай Васілеўскі, сціплы інтэлігентны з выгляду хлапчына, які прыйшоў у гімназію з навагрудскага Наднямоння. Былі і другія здольныя да малявання хлопцы — Янка Хвораст з Пружаншчыны, віленец Лёня Фёдараў.

У сяго-таго з выкладчыкаў гімназіі з'явілася думка, што трэба неяк хлопцам дапамагчы прафесійнымі ведамі. Тое, што атрымлівалі яны на ўроках ад Паўла Южыка, штосьці давала ім як будучым мастакам. Южык няблага выкладаў рысунак, вучыў бачыць перспектыву… Але патрэбна была сталая практыка, сур'ёзнае штудзіраванне кампазіцыі, патрэбны былі спецыяльныя заняткі. І не самае апошняе — трэба было маладыя таленты аб'яднаць, стварыць адпаведную духоўную атмасферу, запаліць пошукам…

Драздовіч жадаў і браўся гэта зрабіць. Моладзь гарнулася да яго. А гэта ўжо для пачатку нешта значыла. Педагагічная рада гімназіі, падтрыманая рашэннем бацькоўскага камітэта, выкраіла са сціплага школьнага бюджэту сякія-такія сродкі на надзённы хлеб кіраўніку студыі. Знайшлося і невялічкае памяшканне. Шчаслівыя кіраўнік і яго вучні хутка завешалі сцены сваёй мастацкай майстроўні, як яе называлі, эцюдамі і карцінамі. Збіраліся часта. Малявалі і спрачаліся, разам адпраўляліся на эцюды, зрэдку слухалі кіраўніка-настаўніка, яго парады, як лепш схапіць, перадаць на паперы, палатне жывую натуру: краявід, архітэктурны матыў, чалавечы твар, характар. Любіў настаўнік распавядаць штосьці з беларускай гісторыі, часам успамінаў сваю маладосць. Часам усёй грамадой абмяркоўвалі, як лепей паказаць юнака-палітвязня, каб выявіць яго душэўны стан, перажыванні і вернасць ідэалу, за які пакутвае, змагаецца. Спрачаліся пра месца і значэнне сімвалаў і алегорыі ў мастацтве, мяжы паміж рэалізмам і мадэрнісцкім кірункам у жывапісе і графіцы.

Паглядзець на плён працы маладых талентаў і пагаварыць з Драздовічам у студыю часта заглядалі настаўнікі, асабліва кіраўнік хору і выкладчык музыкі Рыгор Шырма, старэйшы педагог Сяргей Паўловіч, які радаваўся кожнаму таленту, чакаў, выглядаў сярод выхаванцаў будучых беларускіх ламаносавых. Драздовіч натхнёна на вачах сваіх вучняў рыхтаваў мастацкае афармленне для пастановак драматычнага гуртка ці выступлення хора. Клапаціўся пра аздабленне залы і сцэны ў дні святочных урачыстасцей. Для гэтага намаляваў некалькі карцін. Блакітна-зялёнае па каларыце палатно «Гарадольская пушча» асабліва хораша ўпісалася ў інтэр'ер актавай залы, заняўшы месца на яе заходняй сцяне.

Жыва, з падрабязнасцямі, нібы толькі ўчора чутае і бачанае, праз пяцьдзесят пяць год успамінае стары беларускі журналіст Ян Багдановіч лекцыю Драздовіча ў гімназіі. Мастак тады толькі што вярнуўся з Палесся, куды ездзіў па камандзіроўцы Беларускага навуковага таварыства. Перапоўнены ўражаннямі, сакавіта, з захапленнем, якое перадавалася слухачам, апавядаў пра самабытнае драўлянае дойлідства палескай зямлі, пра багатую каляровую гаму ўбораў палешукоў, іх распеўныя песні. Пры гэтым паказваў замалёўкі вясковых цэркваў, званіц, капліц, гожых формамі, паэтычных у сваёй адзіноце. Мэты паездкі былі навукова-этнаграфічныя. У вёсках і мястэчках Піншчыны: Серніках, Плешчыцах, Парэччы, Марочне, Пінкавічах, Дубнавічах мастак рабіў замалёўкі гаспадарчых прыладаў, вазоў, санак, сох, рознай формы вулляў, хатняга начыння, вупражы.

Вялікае месца ў палескай калекцыі Драздовіча занялі партрэты паляшучак і палешукоў. Замалёўкі гэтыя, зробленыя ў пераважнай большасці для таго, каб адлюстраваць своеасаблівасць строю або нават нейкай часткі касцюма, галаўнога ўбора, перадавалі і асаблівасці палескага тыпу, каларытныя народныя характары.

Не абышоў увагай мастак і народнай гаворкі. Асобныя словы цікавілі Драздовіча як назвы тых або іншых прадметаў, рэчаў, паняццяў, а таксама як дыялектныя адхіленні ад агульнабеларускіх норм. З песень найболей трапілася мастаку вясельных. Маючы нешта супольнае з песнямі родных ваколіц Драздовіча, яны моцна адрозніваліся ад іх.

І ад чаго ўжо не мог утрымацца мастак, дык гэта ад спакусы накідаць некалькі палескіх краявідаў. Яны не былі такія багатыя, разнастайныя, як на яго Дзісеншчыне, але таілі нямала свайго, адметнага. І яшчэ доўга потым жылі ў душы мастака. Нават праз гады, дзесяцігоддзі ён па памяці ўзнаўляў іх на паперы і палатне. З малюнкаў сангінай, вугалем, зробленых мастаком на Палессі, найболей пашанцавала краявіду без назвы. Мабыць, можна называць яго проста «Палескім краявідам»: шмат у ім тыповага для гэтага краю. «Палескі краявід» Драздовіча трапіў у папулярныя ў Заходняй Беларусі падручнікі Сяргея Паўловіча «Першыя зярняткі», «Засеўкі» (лацінкай) і такім чынам разышоўся ў дзесятках тысяч экземпляраў. Якое значэнне Драздовічаваму твору надаваў «выдатны заходнебеларускі педагог» (азначэнне Р. Шырмы), можна меркаваць па тым, што менавіта ім распачынаў ён у падручніку раздзел «Беларусь і беларусы». У «Засеўках» падтэкстоўкай да малюнка ішлі словы Цёткі:

Мы належым да народу,
Што ад свету да заходу
Кожны з гора ў трое гнецца,
Аднак гору не даецца.

Малюнак Драздовіча — просты, але сагрэты цяплом мастаковай душы, «расказваў» пра Палессе, жыццё яго жыхароў, даваў уяўленне пра асаблівасць палескага краявіду. На ім мастак адлюстраваў паляшуцкую сядзібу пры канцы вёскі. Адразу адчуваецца, што месца там нізкае: вада, балота блізка падступаюць да жылля. На пярэднім плане хістаецца над балотнай вадою трыснёг. На хаце буслянка з буслам. Буслінае гняздо відаць і далей, на клуні. Гэта ўжо тыпова палеская адзнака, даніна павагі палешука да гэтай гожай птушкі, спрадвеку вернай нашым мокразялёным сенажацям, сялянскім сядзібам.

Драздовіч у сваім «Палескім краявідзе» вельмі ўважлівы да бытавых рэалій. На ёўні, або асеці, што амаль франтальна размешчана да гледача, добра прыкметна кройка — рады трыснягу, як яны ўкладзены на страсе. Хлевушок асобна спыняе позірк вільчыкам, у абрысах якога мастак разгледзеў вельмі старажытную форму.

У цэлым краявід не мае паныласці. Светла-шэры тон будынкаў, падсветлены высокім ясным летнім небам. І прырода, і чалавечае жытло мякка адсвечваюць спакойным рассеяным святлом.

Дваццаць шосты год, год нарастання вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі звязаны з небывалым арганізацыйным ахопам мас рэвалюцыйна-дэмакратычнай Беларускай сялянска-работніцкай грамадой, выглядаў шчаслівым у жыцці Язэпа Драздовіча. Ён меў сталы занятак у Вільні.

Пятнаццатага лістапада 1926 года часопіс «Маланка» друкуе малюнак Драздовіча «Трыумф Грамады». Гэта быў прамы водгук мастака на рост рэвалюцыйна-дэмакратычнай арганізацыі заходнебеларускіх працоўных. Твор Драздовіча нёс у сабе два пачаткі: сцвярджальны, нават пафасны ў дачыненні да вызваленчага руху і сатырычны, выкрывальны ў дачыненні згодніцкіх партый.

Цікава, што ў малюнку сустракаецца вобраз светазарнага хорама-палаца.

Светазарны горад, светазарны будынак у Драздовіча трапляецца некалькі разоў. Ён сімвалізуе ў мастака светлую будучыню, да якой імкнецца і якую, — творца верыць у гэта, — здабудзе працоўны народ.

Першы раз гэты вобраз-сімвал, вобраз-матыў узнік у Драздовіча ў гады рэвалюцыі і грамадзянскай вайны. Напачатку складаўся як невялікі малюнак-абразок. Там былі зламаныя краты і сарваныя, расхінутыя дзверы, за якімі ўдалечыні ўзвышаўся асветлены сонцам хорам.

Цяпер Драздовіч у сваім «Трыумфе Грамады» вярнуўся да вобраза светазарнага хорама-будыніны, як сімвала шчаслівай будучыні чалавецтва, увасаблення ідэалаў свабоды, роўнасці, братэрства.

Выступаючы ў «Маланцы», мастак адкрыта звязваў свае погляды, сваю надзею з левымі сіламі вызваленчага руху. У гэты час Драздовіч уваходзіць

у склад рэдакцыйнай калегіі органа вызваленчага руху часопіса «Маланка» і такім чынам непасрэдна ўносіць свой уклад у барацьбу з рэжымам «санацыі», які ўсталяваўся ў Польшчы пасля майскага 1926 года перавароту Пілсудскага.

Станіслаў Місевіч з вёскі Перадолы, што непадалёк ад Пунек, у 1963 годзе расказваў, быццам «Драздовіч улетку 1926 года ў ваколіцах Галубіцкай пушчы арганізаваў гурткі БСР Грамады», На жаль, факт гэты не ўдалося пацвердзіць у сведак, сяброў мастака з гэтых мясцін: актыўных грамадаўцаў і членаў КПЗБ Уладзіміра Гужонка і Кастуся Лабунькі не давялося застаць у жывых. А ўвогуле, сама думка, здхаваная ў народзе, што Драздовіч быў, павінен быць там, дзе рабілася грамадская справа, — красамоўная.

Драздовіч у 1926 годзе пабываў на Дзісеншчыне, хоць год гэты ў асноўным прайшоў у Вільні і на Палессі ды яшчэ ў Радашковічах.

На бацькаўшчыну ў тым памятным годзе паклікала мастака гора. Нечакана, як гром з яснага неба, яно абрынулася на яго. Ад запалення лёгкіх у Падорцы, пад Германавічамі, памёр старэйшы брат Гаранім, Гарук, як называў яго мастак. Толькі год таму назад маляваў яго, маладога мужчыну, поўнага сілы, працавітага, прыгожага сваёй маладой сталасцю. А зараз застаў на лаве пад абразамі са складзенымі на грудзях рукамі. Ля нябожчыка плакала трое дзетак-сірот, гаравала аўдавелая жонка.

Справіўшыся з хвілінамі роспачы, горачы страты, усё ж узяўся за пяро, туш, каб апошні раз занатаваць на паперы дарагое аблічча. Мастак стварае пасмяротны партрэт брата, паказвае побач яго родных — перадае нязмернае гора сялянскай сям'і, якая страціла кармільца. «Смерць Гараніма» — так і называецца гэты аркуш Драздовіча, скупы на выяўленчыя сродкі, суровапросты, як суровая, жорсткая рэчаіснасць, што на ім адлюстравана. Праз гады мастак коратка згадае ў аўтабіяграфіі: «…Брат Гарук (падстаршы) быў добрым выплетачом кашоў, карзін і лубак. Пакінуў у слёзах сыноў і дачку. Памёр у 1926 годзе, у беднаце. Пахаваны ў Лужках». Словы прагучаць як эпітафія.

У лепшыя, святлейшыя дні гэтага суровага для мастака года створаны ім на радзіме графічныя замалёўкі гары Варганіхі. Гара прывабіла Драздовіча сваёй легендарнасцю і маляўнічасцю.

У дваццаць шостым годзе Драздовіч канчаткова развітваецца з алегарычна-сімвалічнай старонкай сваёй творчасці. У свой час, на пачатку творчага шляху, мастак аддаў даніну захаплення міфалагічна-сімвалічным вобразам, кампануючы з іх цэлыя кампазіцыі. Як правіла, яны неслі ў сабе пэўную сацыяльную нагрузку. Напрыклад, у эскізе фрэскі для Засвірскага кляштара ў 1924 годзе Драздовіч напісаў прываблівы вобраз маладой жанчыны, якую душыла, гняла якаясь пачвара ў канфедэратцы. Асацыяцыя жанчыны з заняволенай радзімай, Заходняй Беларуссю, тут прамая, выразна чытаецца.

У 1925 годзе мастак стварае малюнак алегарычна-сімвалічнага зместу «Пажар у княжацкім замку». Светлая хароміна ахоплена полымем, і наверсе яе дзяўчына-князёўна незвычайнай прыгажосці. Па сценах паспешліва ка-

раскаюцца нейкія людзі з намерам схапіць, паланіць дзіўную красуню. У постацях, што мітусліва лезуць на ахопленыя агнём сцены, можна заўважыць на галовах канфедэраткі. Гэта дэталь добра прасвятляе змест алегорыі, сэнс роздуму мастака над лёсам заняволенай радзімы.

Была яшчэ сімвалічна-алегарычная карціна «Пагоня-яра», якая ў свой час выклікала шырэйшы рэзананс і не абыдзена ўвагай і ў нашай вандроўцы па слядах Драздовіча.

І вось нарэшце ў 1926 годзе тры карціны «Дух цемры», «Дух помсты», «Фатум». Дзве першыя невялікія памерам, апошняя — буйнафарматнае палатно.

Цяжка сказаць, што канкрэтна выклікала ў мастака жаданне стварыць карціну «Дух цемры», напісаную ў алегарычна-міфалагічным ключы. Можна дапусціць, што Драздовіч у царстве начніцы ўвасабляў тыя змрочныя сілы, якія затоена чакалі ў Заходняй Беларусі, Польшчы, каб нанесці ўдар вызваленчаму руху. Можа, мастак проста пажадаў даць сваю эстэтычную інтэрпрэтацыю зла, цемры, няволі, сінтэзаваўшы народна-вобразныя ўяўленні аб гэтых спрадвечных, але нявечных падарожніках чалавецтва. А мо (хоць гэта менш верагодна), як на малюнку «Прывід за гарой», намаляваным вугалем, — свабодны палёт мастаковай фантазіі. Так ці іначай «Дух цемры» — твор, які запыняе ўвагу сваім выяўленчым ладам, заклікае да роздуму. Змест яго нескладаны. Дзесьці воддаль гарыць жыватворнае сонца. Промні яго абнялі блакітнае неба. А тут, на пер-шым плане, злавесна маўклівая камяніца, аблада страшыдла-начніцы, якая ўглядаецца на свет халоднымі драпежнымі вачыма. Цёмны зялёна-карычневы тон гняздоўя, усяго ўладання начніцы падкрэслівае змрочна-злавесную сілу, што тоіцца ў цемры ночы.

Увосень 1926 года, напалоханыя бурным ростам грамадаўскага руху, памешчыкі, асаднікі, гэта апора дзяржавы, панскай улады, зацікаўленыя ў сацыяльнай і нацыянальнай няволі працоўных Заходняй Беларусі, павялі ліхаманкавую барацьбу з вызваленчым рухам. Разгарнулі паклёпніцкую кампанію ў друку, віленскім і варшаўскім, склікалі спецыяльны з’езд-нараду памешчыкаў і вышэйшых чыноў у Нясвіжы. Пачаліся бандыцкія напады ўзброеных асаднікаў, агентаў паліцыі на дзеячаў вызваленчага руху. Становішча было яапружанае. Рэакцыя паспешліва рыхтавала ўдар, каб апярэдзіць узрыў народнага гневу, а мо і ўзброенага паўстання.

Хто ведае, можа, мастак, які асабіста, на ўласным лёсе не раз спазнаў жорсткасць панскай адміністрацыі, за кім цікавалі халодныя вочы ахранкі, захацеў у сваім творы неяк вывесці на дзённае святло, выкрыць сілы, што фактычна кіравалі краінай, выяўлялі сутнасць буржуазна-памешчыцкай улады.

«Дух цемры» сярод іншых твораў Драздовіча, разам з працамі вучняў мастака, быў паказаны на выстаўцы ў Радашковічах. На Радашковіцкай выстаўцы ўпершыню выставіў Драздовіч і партрэт Францыска Скарыны, здаецца, першы жывапісны партрэт славутага асветніка, калі не лічыць

фрэскі ў Падуі, у Італіі. Мястэчка Радашковічы, размешчанае на старадаўнім тракце, на той час амаль на самай польска-савецкай граніцы, таксама склала, хоць і невялікую, старонку ў біяграфіі Драздовіча.

Трапіў сюды мастак праз Аляксандра Уласава, знаёмага яму яшчэ з часоў «Нашай нівы». Аднойчы Драздовіч і яго студыйцы пры Віленскай беларускай гімназіі ўбачылі на парозе сваёй майстэрні мажную постаць дзядзькі Уласава. Чалавек ён быў заняты, актыўна працаваў у Таварыстве беларускай школы, як сенатар (абраны ў сойм быў у 1922 годзе) бараніў ад наступлення санацыі беларускія школы. Ездзіў непасрэдна па паветах, адкуль паступалі скаргі на гвалты мясцовай адміністрацыі, і дапамагаў энтузіястам беларускай асветы, настаўнікам, партыйнаму актыву вырваць з лап старастаў, школьных куратараў — правінцыяльных князькоў — права, гарантаванае канстытуцыяй. Уласава разам з Шырмам як прадстаўнікоў Галоўнай управы ТБШ, гэтай асветнай арганізацыі працоўных Заходняй Беларусі, нямала зрабіла для сацыяльнага і нацыянальнага абуджэння народа, можна было бачыць на ўсіх павятовых з'ездах Таварыства, мнагалюдных і гаманкіх.

У Вільні ў параўнанні з іншымі беларускімі пасламі Аляксандр Уласаў бываў мала. Жыў у Мігаўцы, пад Радашковічамі. Мігаўку яго здаўна не абміналі вучоныя. Яшчэ на пачатку веку тут бываў акадэмік Шахматаў, які цікавіўся беларускімі дыялектамі, заязджаў выкладчык Пецярбургскага універсітэта, славеснік і фальклярыст Аляксандр Розенфельд, заглядалі Ігнат Буйніцкі і Фларыян Ждановіч, дойліды беларускай сцэны, аўтар першай беларускай граматыкі прыват-дацэнт Пецярбургскага універсітэта Браніслаў Тарашкевіч.

У 20-я гады Мігаўка стала апорным пунктам грамадскай працы радашковіцкіх ваколіц. Адсюль быў магчымы кантакт з Савецкай Беларуссю цераз «зялёную граніцу». Сюды трапляла з Менска палітычная літаратура, якая потым разыходзілася далей, у глыбіню Заходняй Беларусі. Дэфензіва пільна сачыла за Мігаўкай, але ўсіх ніцей, што вялі сюды, яна не магла ўлавіць. У 1924 годзе, скарыстаўшы становішча абранца ў высокі дзяржаўны орган, Аляксандр Уласаў адкрывае, што нялёгка было зрабіць ва ўмовах устаноўкі польскіх улад на знішчэнне беларускай школы, Радашковіцкую гімназію і дзейсна апякуецца ёю. Дырэктарам запрашае старога рэвалюцыйнага дзеяча, арганізатара падпольных друкарняў у дарэвалюцыйных Менску і Петраградзе Фелікса Стацкевіча. Гімназія працавала да 1928 года, калі была закрыта польскай адміністрацыяй.

За гады існавання яна стала цэнтрам асветна грамадскай і рэвалюцыйна-падпольнай працы на самым усходнім ускрайку Заходняй Беларусі. Тут вучылася цэлая кагорта дзеячаў маладзёжнага камуністычнага падполля, у тым ліку Максім Танк, Якуб Міско, будучы дзеяч беларускай эміграцыі Абрамчык.

Аляксандр Уласаў, паблісквconfigurationючы пенснэ, агледзеў працы Драздовіча і яго выхаванцаў у мастацкай майстэрні ў Базыльянах і на правах старога знаёмага запрасіў мастака арганізаваць падобную студыю і ў Радашковіцкай гімназіі. Так Драздовіч апынуўся ў Радашковічах. На ўроках малявання

адабраў здольных да рысунка вучняў і стаў займацца з імі асобна. Сам жа перш-наперш напісаў партрэт Скарыны, чыё імя з гонарам насіла гімназія. У працы зыходзіў з адзіна вядомага на той час графічнага партрэта першадрукара, змешчанага ў перакладзенай ім на старабеларускую мову і выдадзенай ў 1517 годзе Бібліі.

Каларыт першага жывапіснага партрэта Скарыны быў набліжаны мастаком да каларыту старых беларускіх абразоў: колеры насычаныя, без адценняў — зялёны, умбрысты, блакітны. Сам асветнік — вобраз сціплага і поўнага годнасці чалавека, які ўсведамляе свой абавязак перад людзьмі, патрэбу сваёй працы дзеля іхняга дабра.

У цэлым партрэт удаўся, і цяпер першадрукар, гуманіст і асветнік прывячаў у гімназіі маладое пакаленне, якое прыйшло здабыць асвету, каб перабудаваць жыццё на справядлівых пачатках. Праз нейкіх чатыры-пяць месяцаў свайго побыту ў Радашковічах Драздовіч арганізаваў выстаўку карцін і эцюдаў сваіх вучняў. Разам з імі паказаў некалькі і сваіх новых прац.

Сярод іх партрэт тушшу старога рэвалюцыянера, паплечніка па падполлі Цёткі і Алеся Бурбіса Фелікса Стацкевіча. З партрэта Стацкевіча глядзіць стары баец, чалавек інтэлігентны, сталы, цвёрды ў сваіх перакананнях, можа, крыху сухаваты.

У радашковічах мастак яшчэ напісаў некалькі раздзелаў сваёй гістарычнай аповесці «Гарадольская пушча», якая разрасталася ў раман.

Ранняй вясной 1927 года Драздовіч зноў вярнуўся ў Вільню і тут са сваімі студыйцамі арганізаваў другую мастацкую выстаўку, больш прадстаўнічую, чым Радашковіцкая. Сваіх твораў паказаў на ёй няшмат — пяць-шэсць карцін. Працы студыйцаў прадставіў шырока. Часопіс «Родныя гоні» (1927 г., № 3) змясціў здымак з выстаўкі, які дае ўяўленне аб яе тэматыцы, жанравым складзе. На ёй былі скарынінскі партрэт, але не драздовічавай рукі, невялікае палатно «Палітвязень у кайданах», партрэт селяніна. Пераважалі, аднак, пейзажы, сярод якіх некалькі цудоўных беларускіх краявідаў. Драздовіч мог бы паказаць публіцы і некаторыя свае афарміцельскія працы. Але ў той час неяк не прыдавалі значэння прыкладной графіцы як самастойнаму жанру. Проста лічылася, што як бы па-мастацку ні была аздоблена кніга, няма патрэбы лішні раз выстаўляць яе на выставачных стэндах.

А к часу Віленскай выстаўкі выйшла якраз другім выданнем Купалава «Паўлінка», афармленая Драздовічам. Класічная камедыя Купалы карысталася на сцэне гурткоў Таварыства беларускай школы незвычайным поспехам. Патрэба ў кнізе была вялікая. Перавыдаць яе ўзяўся Ігнат Мятла. Мятла малодшы загадваў беларускай кнігарняй, спяваў у хоры Шырмы, запісваў фальклор. Пасля таго як старэйшы брат быў пасаджаны санацыйнымі ўладамі за Грамаду ў астрог, Ігнат Мятла стаў яшчэ руплівей працаваць на культурна-асветнай ніве. А найбольш стараўся даць ход беларускай кніжцы, шырэй пусціць яе ў народ.

На Драздовічавай вокладцы «Паўлінкі» традыцыйная вобразная сімволіка тэатра: расхінутая заслона, камедыйная маска, ліра. У аздобу

шырмы ўведзены арнамент, узоры народнай разьбы па дрэве. На ніжняй частцы рамкі дубовыя галінкі з лістамі і просты элемент старадаўняга арнаменту.

У прасвеце расхінутай заслоны дадзена назва твора, падзагаловак.

Светла-малінавы колер малюнка добра спалучыўся з бела-зялёным колерам паперы, і знешні выгляд кнігі набыў ясны, святочны выгляд.

**Паданні старых замчышчаў**

Тысяча дзевяцьсот дваццаць сёмы год не быў этапным у творчасці Драздовіча, але ўсё ж вельмі адметным. Пачынаючы з лета гэтага года на працягу трох наступных мастак стварыў сем альбомаў, сем буйных графічных серый помнікаў замкавага будаўніцтва Заходняй Беларусі XIII—XVI стагоддзяў. Вялікая гэта праца Драздовіча — цікавая як з боку навукова-пазнаваўчага, так і мастацкага. Скіравана яна была сваім зместам і духам на глыбейшае пазнанне гісторыі свайго народа і далучэнне да гэтага пазнання як мага шырэйшых пластоў суайчыннікаў.

Першыя аркушы, прысвечаныя Мірскаму замку, пазначаны чэрвенем 1927 года. З гэтага часу дарогі мастака кіруюцца ў бок Навагрудка і Навагрудчыны. Вядуць яны праз Трокі, Меднікі, Гальшаны, гістарычнае Крэва, дзе быў задушаны князь Кейстут і заключана першая унія літоўска-беларускай дзяржавы з Польшчай, да Навагрудка, сталічнага ў XII стагоддзі, Лаўрышава, старажытнага культурнага цэнтра Навагрудскай зямлі, і далей да Міра. Шмат загадкавага таілі для мастака, ды і не толькі для яго, гэтыя мясціны з руінамі старадаўніх замкаў, веліч і моц якіх сведчыла аб тым, што далёкія продкі нашы былі добрымі дойлідамі-будаўнікамі і мужнымі воінамі, — умелі бараніць сваю свабоду. Чым больш прыглядаўся мастак да гэтых каменных сведак даўнейшых часоў, прыслухоўваўся да рэха, што блукала ў іх мурах, тым яскравей паўставала перад яго духоўным зрокам суровая і вялікая мінуўшчына народа, кінутага лёсам на скрыжаванне шляхоў «з вараг у грэкі» і з Захаду на Усход.

Мір з яго выдатным помнікам замкавай архітэктуры XV-XVI стагоддзяў даў Драздовічу натурны матэрыял для аднайменнай графічнай серыі, якая стала толькі ўступам да вялікай, натхнёнай, пасільнай толькі сапраўднаму таленту працы.

Ужо ў альбоме «Мір» вызначыліся асноўныя прынцыпы падыходу мастака да адлюстравання гістарычных помнікаў ва ўсіх здзейсненых ім на працягу 1927—1930 гадоў графічных серыях.

У некаторых альбомах мастак выносіў на вокладку нейкі галоўны вобраз-сімвал горада, мястэчка. Такім тыповым вобразам, сімвалам-абагульненнем для альбома «Мір» мастак узяў верхнюю частку франтальнай вежы замка. Напісаў яе фарбамі і стварыў ілюзію жылога памяшкання, напоўненага нейкім схаваным, таямнічым, але рэальным жыццём. У іншых выпадках на вокладцы разгортваў панараму горада, як у альбоме «Вільня». Загалоўны аркуш серыі «Мір» даваў агульны выгляд мястэчка з

боку грэблі. З яго паўставаў выразна акрэслены сілуэт мястэчка, над якім дамінаваў велічны замак-палац. Далей мастак адлюстраваў замак у розных ракурсах, маля-ваў асобныя яго фрагменты: вежы, унутрысценныя хады. На першым плане стаялі навуковыя мэты — як найпаўней, найдакладней паказаць, занатаваць гістарычны помнік. Але адвечнае хараство зямлі, архітэктура помніка, яго прыроднае акружэнне міжволі авалодвалі душой мастака, і з-пад яго рукі ўзнікалі вобразы, поўныя паэзіі, гармоніі, святла. Ім аддаваў мастак часцінку свайго шчырага сэрца, долю дабрыні сваёй узнёслай душы.

У серыі «Мір» пранікнёным мастацкім бачаннем замка і ўсяго, што яго акружае, вылучаецца аркуш «Франтавая вежа. Выгляд з захаду».

Хоць паказана яна здалёк, адчуваецца яе велічнасць і адначасова лёгкасць. Гасцінец паўз замак, слупкі на абочыне і маладыя дрэўцы неяк набліжаюць старажытнае збудаванне да сучаснага мастаку жыцця, даюць магчымасць адчуць яго ходу, ток, працяг. Увесь краявід з узнёслымі замкавымі вежамі ў гатычным стылі, мяккай у росквіце прыродай, што атуляе замкавыя муры, абвеяны светлай паэзіяй летняй раніцы, успрымаецца як успамін аб дзеях продкаў, роздум аб пражытым.

Альбом «Мір» — лепшы набытак першага падарожжа Драздовіча па Навагрудчыне. За некалькі тыдняў летам 1927 года мастак абышоў каля дзесятка вёсак і мястэчак — Любчу, Незвішча, Лаўрышава, Шчорсы, Ярэмічы, Мір, Турэц, Карэлічы. Большасць з іх — гістарычныя мясціны, што так ці іначай азваліся ў беларускай мінуласці, культуры.

Сярод замалёвак, накідаў, малюнкаў, зробленых у час гэтай вандроўкі, Драздовіч вылучыў у асобны альбом «Лаўрышава і Незвішча». Графічная серыя гэта вылілася ў своеасаблівы расказ-успамін пра старажытныя асяродкі культуры, асветы Навагрудскай зямлі.

Размешчаная ў лукавіне Нёмана манастыршчына Незвішча (найменне — яшчэ з супольна-славянскай пары) захавалася тольківаламі, нязначнымі слядамі былога манументальнага збудавання. Як і Лаўрышава, заснаванае ў XIII стагоддзі навагрудскім, а пазней вялікім літоўскім князем Войшалкам, яно было калісь асяродкам старажытнага пісьменства. Час не пашкадаваў ні сцен, за якімі бараніліся ад нашэсцяў, пісалі, перапісвалі старажытныя кнігі колішнія руплiўцы кніжнай мудрасці, ні плёну іх бяссонных начэй. Толькі Лаўрышаўскае евангелле — адзінае, што дайшло да нашчадкаў з пісанага на Навагрудчыне ў старажытнасці.

На месцы старадаўняга манастыра мастак застаў толькі драўляную заімшэлую царкву пазнейшых часоў. Напісаў уласна не яе, а навакольны краявід, які добра даносіць адчуванне гістарычнай мясціны. Атрымаўся цудоўны пейзаж, поўны задумлівасці, лірызму, лёгкай элегічнасці.На першым плане дарога, драўляны пакаты мост праз невялікую рэчку і далей за ім цяг шляху, што абходзіць царкву ў купчастай абсадзе. З-за дрэў, іх густой зеляніны, крыху відаць шэрая царкоўная сцяна з невялікім высокім акном, шэры гонтавы дах і шатровы верх — купал. Неяк сіратліва, забыта пазірае на свет старая харöміна.

З восені 1927 года Драздовіч уладкоўваецца ў Навагрудскую беларускую гімназію настаўнікам малявання і на тры гады робіцца сталым жыхаром Навагрудскага краю. Гэта дазволіла мастаку не вандроўным госцем агледзець гэты чароўны куток беларускай зямлі, які даў свету Адама Міцкевіча, а зрадніцца душой з яго маляўнічымі ўзгоркамі і далінамі, легендарнымі азёрамі, старымі замкамі, з мужным добрым народам, сярод якога і цяпер было болып чым дзе барацьбітоў з рэжымам пілсудчыкаў. Відаць, таму ў Навагрудку, як нідзе ў былой Заходняй Беларусі, найдаўжэй трывала беларуская гімназія, па тым часе — цэнтр супраціўлення паланізацыі. Утрымліваў гімназію бацькоўскі камітэт на сродкі саміх бацькоў пры падтрымцы Таварыства беларускай школы, падпольнага мясцовага актыву камсамольцаў і камуністаў. Зарплату мастаку, як і ўсім настаўнікам гімназіі, плацілі невялікую — як пражыць. Вылучылі сталае месцажыхарства каморку-пакойчык у інтэрнаце, дарэчы, пабудаваным бацькамі вучняў, якія самі і лес секлі, і вывозілі дрэва, і зруб ставілі талакой, каб толькі дзеці іх маглі вучыцца.

Не пакідаў абыякавым, будзіў нейкія новыя настроі сам гарадок. Вечарам руіны замка, дзве высокія каменныя вежы, набывалі асабліва таямнічыя абрысы, непакоілі ўяўленне.

З замчышча, узнесенага над наваколлем, жнівеньскія зоры здаваліся яшчэ буйнейшымі. А сонечнай раніцай адсюль неаглядна расхінаўся перад вачыма далягляд: стрэлы дарог кіраваліся ў розныя бакі — на возера Літоўку, на Любчу… І гледзячы з Замкавай гары на разлогія даліны з шляхамі, вёскамі, сіняй смугой лясоў удалечыні мастак адчуваў, як будзіўся ў душы нейкі парыў, уздымалася шчымлівая радасная хваля: «Якое шчасце проста жыць і азіраць гэта вечнае хараство!»

Драздовіч з прагай, ледзь не апантанасцю малюе і замчышча, і Міндоўгаву гару, і гарадскі касцёл, так званую фару, і паднавагрудскія краявіды.

Гісторыя замка, яго першапачатковы выгляд моцна хвалююць мастака. Ён звяртаецца да археалагічных, гісторыяграфічных крыніц, чытае ўсё, што можа знайсці, шмат думае і робіць сваю мастацкую рэканструкцыю Навагрудскага замчышча, складае яго план, які і зараз захоўваецца у Вільнюсе ў гісторыка-этнаграфічным музеі Літоўскай ССР.

Трыццаць шэсць малюнкаў Драздовіча, якія ўзнаўлялі на паперы Навагрудскае замчышча з рэшткамі двух магутных вежаў, маглі аглядаць ужо ў 1928 годзе ў Вільні наведвальнікі рэгіянальнай выстаўкі, так званых Паўночных торгаў. Захаваўся спіс экспанатаў мастака з гэтай выстаўкі, дзе значыцца многа рэчаў, якіх час, на жаль, не збярог. Не захавалася цэлай і Навагрудская калекцыя (не трапіла, як большасць твораў Драздовіча, у Беларускі музей), але паасобныя аркушы і жывапісныя палотны мастака, прысвечаныя Навагрудку, можна аглядаць і сягоння. На юбілейнай персанальнай выстаўцы Язэпа Драздовіча ў Менску ў маі 1979 года можна было бачыць намаляваныя вугалем аркушы «Навагрудак. Выгляд фары з гары замчышча», «Навагрудак. Выгляд на Брацянскую даліну скрозь адтуліну ў Нічытавон вежы замчышча», а таксама пісаныя тушшу «Навагрудак. Вы-

гляд замчышча і фары з Міндоўгавай гары», «Навагрудак. Фара і руіны замчышча», акварэль «Навагрудак. Выгляд ад вёскі Грыбшкаў» (два варыянты), дзівосны краявід, выкананы ў зелянкова-залацістай гаме. Эпічны пачатак у гэтых драздовічавых творах неяк вельмі натуральна, арганічна зліты з лірычным, пяшчотным і задушэўным.

Яшчэ мацней гэтыя якасці выявіць Драздовіч у сваіх выдатных графічных серыях «Крэва» «Ліда», «Гальшанскае гарадзішча», створаных у 1929 годзе адначасна з альбомамі «Гальшаны. Замак», «Медніцкі замак», «Трокі», «Трокі-астравец», «Ашмяншчына. Хаты і гумны» і іншыя. Наўдзіў плённае было яно, лета дваццаць дзевятага года ў мастака і ці не апошняе, вольнае ад нялёгкай думкі пра хлеб надзённы. Пагодлівае было, шчодрае. З драздовічавых графічных аркушаў відаць, як сцяной устае ўздоўж гасцінца каласістая збажына і то не на шырокіх панскіх палетках, а на мазольна ўзараных і засеяных сялянскіх шнурах.

Як толькі скончыліся заняткі і экзамены ў гімназіі, мастак напачатку выбраўся ў Вільню. Карцела хоць краем вока глянуць, што там робіцца ў шырэйшым свеце: зазірнуць у рэдакцыі, музей, бібліятэку Урублеўскіх ды прыкупіць сёе-тое з матэрыялаў, неабходных для працы. З Вільні выправіўся ў Трокі, каб замаляваць руіны замкаў, берагавога і астраўнога. А з Трок зноў жа праз Вільню накіраваўся ў бок Крэва. Па дарозе з тыдзень прабыў у Медніках, заняпалым мястэчку непадалёк ад Вільні, дзе даволі добра захаваўся замак XIV стагоддзя, даўжэй затрымаўся ў Гальшанах…

У Ліду была асобная вандроўка. Мастак хацеў закончыць працу па замалёўцы і мастацкай натацыі абарончых збудаванняў гедымінавічаў. Навагрудак, Вільня, Трокі, Крэва — то былі іх гняздоўі, палітычныя і адміністрацыйныя цэнтры. На гэтым не такім ужо разлеглым абшары паўстала і мацавалася старажытная літоўска-славянская дзяржава, вядомая ў Еўропе пад нйзвай Вялікае княства Літоўскае.

Усе гэтыя цяперашнія замчышчы, колішнія замкі былі звязаны ў гісторыі адной пераемлівай думкай-ідэяй, больш адчутай, чым зразумелай мастаком. Народнае ўяўленне таксама па-свойму лучыла іх. Драздовіч пачуў у Медніках паданне аб тым, што быццам ад самай Вільні да Крэва (на працягу ўсяго Літоўска-беларускага ўзвышша) ёсць падземны ход — і такі шырокі, што можна праехаць карэтай, запрэжанай у шасцёра коней. Другая легенда пра замкі была яшчэ цікавейшая. Расказвалі (пра гэта, між іншым, засведчыў яшчэ Сыракомля ў сваіх «Вандроўках па маіх колісь родных мясцінах»), што Медніцкі і Крэўскі замак будавалі дойлідыволаты. У патрэбе яны перакідваліся паміж Крэвам і Меднікамі (гэта адлегласць прыблізна кіламетраў у восемдзесят) малаткамі і кельнямі: замкі нібыта будаваліся адначасова. І яшчэ не мог не затрымацца мастак у Медніках на вечар-другі, каб запісаць тутэйшыя песні. Адны з іх былі паэтычным адгалоскам велічнай, цяжкай і радаснай працы земляроба — жніва.

Да пара дамоў, пара,
Ужо напала расіца,
Адна раса лядовая,
А другая мядовая.
Лядовую — да крыніцы,
Мядовую — да шкляніцы,
Лядовую і вол не п'е,
Мядовую кароль вып'е,
Сярод рынку стоячы,
Вінаград таргуючы —
Паненак частуючы.

Іншыя — насілі на сабе як бы водбліск купальскага вогнішча, тых жартаў, гульняў, насмешлівых песень, што гучалі пры ім.

Трэція — таілі ў сабе вясельны роздум над будучым лёсам маладой дзяўчыны.

Ай хадзілі два браціткі па полі,
Яны шукалі сівога каня падковы,
Яны пыталі сівога каня слядочка,
Яны шукалі сваёй сястрыцы дварочка.
— Ай мы коніку падкованьку падкуём,
З сваёй сястрыцай размованькі найдзём.

Але песні — не асноўны набытак у Медніках. Мастакова сэрца цешылі пятнаццаць малюнкаў з натуры. Аб'яднаў іх у альбоме «Меднікі», даўшы падзагаловак «Руіны Медніцкага замка». Як і ў ншых альбомах, прысвечаных гістарычным помнікам, мастак адлюстраваў размяшчэнне замка на мясцовасці, асноўныя фрагменты яго і нават некаторыя цікавейшыя дэталі.

У серыі «Меднікі» найбольш яскравы трэці аркуш (Драздовіч іх заўсёды нумараваў), на якім намаляваны руіны вежы палаца. Мастак паказаў яе на шырокім фоне акаляючай прыроды. У выніку атрымаўся сучасны пейзаж з гістарычнымі матывамі.

У цэнтры выявы — напаўразбураная, але яшчэ няблага захаваная вежа. На цемнаватым фоне густарослых дрэў сілуэт яе глядзіцца светла і ўзнёсла. Лёгкасць ёй надаюць прадаўгаватыя стральчатыя байніцы і напаўкруглыя ўверсе вокны, якія значаць сабой чатыры ярусы-паверхі.

Перададзеная строга дакладна, нават скрупулёзна, форма каменнай кладкі асновы вежы і замкавай сцяны не абцяжарвае малюнка, не парушае лёгкага вобразнага ладу твора.

Пейзаж экспрэсіўны па настрою. Дрэвы, кусты ахоплены парывам ветру. Сляды наскоку ветру відаць і на копах сена, на іх абазначыліся «чубы» — завіхрэнні. Лёгка вызначаецца пара года — сярэдзіна лета, час сенакосу. Гэта адразу неяк асучаснівае пейзаж, здымае гістарычны акцэнт, набліжае гледача да сённяшніх клопатау чалавека. Бусел на вяршыне вежавых муроў —

не апошняя дэталь пейзажа. Ён таксама ўдакладняе пару, а з другога боку, падказвае думку аб плыннасці часу, пераемнасці жыцця. Муры, якія былі сведкамі грозных падзей, цяпер толькі прыпынішча паважанага птаха, нейтральны фон для простых, штодзённых клопатаў-заняткаў земляроба. Верны свайму мастацкаму бачанню навакольнага свету, Драздовіч і ў гэтым пейзажы адухаўляе яго.

Ішоў мастак старым трактам ад замка да замка. Тым шляхам, па якім сквапна пасоўваліся на ўсход тэўтоны, смерчам праносілася конніца крымчакоў… Цяпер жаўранкі званілі ў празрыстай вышыні. Красавала, налівалася шызае жыта, у якім праглядалі блакітнавокія васількі. Жоўталіловым, белым цвіла бульба, светла-зялёным ільсніліся на сонцы ячмяні. Сівеў, серабрыўся палын на абочыне. Часам мастак пад'язджаў пару вёрст, падсеўшы на падводу. Гаманіў з вазаком, слухаў скаргі на падаткі, на штрафы, на тое, што цяжка дажыць да новага хлеба ці пра тое, што сын вось ужо каторы год сядзіць у Лукішскай турме за палітыку, а старому бацьку не ўправіцца з касьбой і малацьбой.

Колькі разоў чуў такое мастак і на роднай Дзісеншчыне, і на Палессі, і тут — па ўсёй Заходняй Беларусі, падпалай пад панскую ўладу!

Не маючы ні калві ні двара, сам добра разумеў бедакоў. Але чым мог памагчы? Хіба адзіным, што было ў яго — працай мастака. Драздовіч усведамляў: нямала прычын народных бед сваім карэннем схавана ў мінулым, гісторыі народа. Але трагічнага, цёмнага пазбягаў. Па перакананню мастака, у мінулым трэба шукаць агонь, а не попел. Тое, што распроствае народны дух, прыгнечаны няволяй.

Лепшае, святлейшае, што гаварыла не пра паніжэнне, а пра годнасць, мудрасць, адвагу, стойкасць, думнасць, ён узвышаў, паэтызаваў. Імкнуўся зрабіць нейкай часцінай сучаснасці. Каб народ не страціў сваёй гістарычнай памяці, бо без яе ці будзе мець і будучыню.

Гісторыя перад мастаком паўставала ў сваёй загадкавасці і нейкай повязі з сучаснасцю адначасова. Не сказаць, каб ён рамантызаваў мінулае, уздымаў яго над невясёлай заходнебеларускай рэчаіснасцю. Падаваў, як бачыў, адчуваў. І, вядома, руіны замкаў не былі на яго аркушах толькі руінамі. Яны ўзнікалі перад вачыма мастака сярод сучаснага жыцця: сярод хат, што туліліся, ляпіліся вакол замка на невялікіх надзелах. Уставалі сведкамі мінулых дзей.

Замкі не глядзелі грозна з узвышшаў, гор, былі ў даліне, як, напрыклад, Крэўскі. Такі здалёку не ўбачыш.

Не сказаць: руіны замка — велічныя. А ўсё ж неяк незвычайна адчуваеш сябе пад гэтымі высокімі мураванымі сценамі, каля напаўразбураных вежаў. Міжвольна думаеш пра Крэўскую, 1385 года, унію, што на стагоддзі шмат чаго прадвызначыла ў гістарычных лёсах трох народаў. Пра натхніцеляў і арганізатараў уніі, тых, хто здалёк умела расстаўляў дыпламатычныя сеці, каб мець у будучым пажытак з гэтай зямлі, прыдбаць яе для кароны, прыбраць да ўласных рук. А выглядала ж вунь як добра, хораша, высакародна: «Злучаецеся з Польшчай дзеля ўзаемнай карысці. Лягчэй будзе бараніцца ад

крыважэрнага тэўтона, ад усякага ворага, адкуль бы ён ні пагражаў. Ніякай перавагі, бронь божа. Роўныя з роўнымі. У вас, на Літве, літоўскай Русі свой сойм, свой канцлер, свой скарб. Да вашага герба мы дадаём толькі свайго арла, ці, дакладней, да арла вашу пагоню. Не ніжэй, а побач. А за караля давайце свайго вялікага князя. Ваш князь ён жа і наш кароль. Кароль неяк самавіцей гучыць. Ну і веру нашу вазьміце, праўдзіва хрысціянскую. Дакуль жа гібець душой у дзікім паганстве ці гэтым візантыйскім праваслаўі, што праз Кіеў ды Полацк шырыцца ў нашых землях?»

Такое чулі далёкія продкі… Нехта спрабаваў паўтарыць гэта іншымі словамі, калі легіёны Пілсудскага рынуліся на беларуска-літоўскія і ўкраінскія землі. Мастак на свае вушы чуў гэта. Але ўжо добра пераканаўся, як далёка адыходзіць слова ад справы ў паноў-дабрадзеяў.

Побач з замкам цяжка ахапіць яго позіркам. Драздовіч узняўся на ўзгорак на захад ад яго. Прамавугольнік замка быў як на далоні. А за ім на ўсход і паўночны ўсход расхінаўся шырокі краявід: набіралі павольны разбег хвалі ўзгоркаў. Яны цягнуліся аж за небасхіл. Так і передаў на аркушы мастак узгоркавы пейзаж, а ў лагчыне сярод невялікіх местачковых хат — сцены-муры старадаўняга замка: дзе высокія, а дзе з'едзеныя часам. На першым жа плане травяністы ўзгорак з валуном пасяродку, на якім надпіс: «Крэва. Лета, 1929 год».

Мастак напісаў яшчэ некалькі фрагментаў замка. На адным з аркушаў «Крэўскага альбома» вельмі маляўніча ажылі руіны палацавай вежы замка, узняліся нейкім загадкавым сфінксам. Сілуэт іх набыў нечаканыя абрысы. Некалькі вельмі дакладных замалёвак сцен знутры, звонку. А на адным з аркушаў праз замкавую сцяну паказана Юрава гара, круглая, з адметнай вяршынай, дрэвамі, кустамі ядлоўцу на схілах.

Пра яе ў народзе захаваліся шматлікія легенды. Казалі, пераказвалі з даўнейшых часоў, што ў язычніцкую пару на Юравай гары гарэў незгасальны агонь — зніч.

Так панарамна, як Крэўскі, на ўлонні шырока разлеглай узгоркавай далечыні мастак не мог паказаць Лідскі замак. Тут не было ўзвышэння, з якога можна было абняць позіркам усё гэта старажытнае абарончае гнездзішча. Замак «урос» у гарадок і быў добра бачны толькі зблізку. На адным з аркушаў Драздовіч паспрабаваў як мага шырэй ахапіць замкавыя муры, даць агульны выгляд замка. Ракурс выбраў ад захаду, на разломе дзвюх масіўных сцен.

Але не хапала падвышанага пункту, з якога можна было б убачыць помнік зверху, і малюнак застаўся фактам дакументальным.

Сапраўдную мастацкую вартасць у «Лідскім альбоме» набылі два аркушы: «Выгляд замчышча з паўднёва-заходняга боку» і «Паўночна заходняя сцяна замка».

Светлы ўстае вобраз старажытнасці з гэтых драздовічавых прац. Выгляд замка з паўднёвага захаду найбольш уражлівы. Тут ён бачны праз лугавіну з крынічкай, праз дзве тонкія алешыны. Высокі замкавы мур (відаць яго цагляна-каменная кладка, прорэзі-байніцы ў верхняй частцы) лёгка ўзвышаецца, пануе над мясцовасцю, над хатамі.

Фрагмент замка паданы так, што за ім адчуваецца ўся старажытная будыніна, яе трываласць, неададуладнасць разбуральнай сіле часу. Мур як бы стаў над часам лёгка і светла, Малюнак поўны настрою, цяпла, лёгкай задумнасці — усяго таго, што абудзіў помнік у мастаковым сэрцы.

Паэтычна патрактаваў Драздовіч і другі фрагмент Лідскага замка — яго паўночна-заходнюю сцяну. Караблём даўнейшых часоў выплывае яна да гледача. Выяўлена надзіў пластычна. Застылы мур жыве, і гэта дасягнута добра знойдзеным ракурсам падачы: ад зрэза сцяны, пад вуглом да гледача.

Канечне ж, у стварэнні паэтычнага вобраза старажытнага замка немалую ролю адыграў і пярэдні план малюнка — выява прыроды, натуральнага асяроддзя помніка. На высакаватым узлобку пры замкавым муры ўзнялі гарызантальна выцягнутыя кроны дзве сасны. Дрэвы нязвычныя. Сваім выглядам нагадваюць італьянскія пініі. Крыху воддаль ад сосен-сясцёр яшчэ маладыя ліпа, клён. А доле, дзе спакойная плынь дарогі пралягла паўз крэпасць, — студня з арыгінальнай, ва ўсходнім стылі, стрэшкай.

Добра ішлося Драздовічу летам тысяча дзевяцьсот дваццаць дзевятага па старых беларускіх трактах. Творчы настрой не пакідаў мастака. Радасная ўзбуджанасць прыходзіла да яго з раніцы, калі сонца шчодра залівала золатам праменняў прастор, іскрылася ў расе і палявы разлог уставаў У лагодзе, яснасці, мяккасці фарбаў неба і зямлі. Мастак чуў у сабе добры запас душэўных сіл, чуў сваю лучнасць з усім гэтым родным светам, сваю патрэбнасць яму. Трэба было яшчэ шмат зрабіць, каб аддзякаваць гэтай зямлі, што ўзгадавала яго, не абдзяліла здольнасцю чуйна слухаць жыццё, улаўліваць яго хараство.

Ішоў мастаку сорак першы год. Неўладкаванае жыццё яшчэ не паклала на яго арганізм, цягавіты ад прыроды, цяжкага адбітку. Пытанні быту, будучыні не прыгнечвалі яго аптымістычную натуру. Быў здаволены малым. Збанок кіслага малака, сопкая бульба з кропавым пахам ці неабіраная, у лупінах, што гарачыла пальцы, ды кавалак хлеба — чым не наедак. У начлезе яму не адмаўлялі. Мастак умеў слухаць і сам мог нямала цікавага расказаць людзям. Яго слухалі, прывячалі. Радасна здзіўляліся, бачачы, як на белых аркушах паўставалі з-пад рукі мастака іх хаты, гумны, свірны, вёскі. Паціскалі плячыма: раней ніколі не бачылі, не чулі такога, каб чужы чалавек цікавіўся іх жыццём, іх хатай, песняй, словам.

За час дарогі праз Ашмяншчыну Драздовіч зрабіў нямала замалёвак розных тыпаў хат, гаспадарчых пабудоў. Дваццаць малюнкаў аб’яднаў у адным альбоме пад назваю «Ашмяншчына».

Цікавыя перш-наперш этнографу, даследчыку народнай архітэктуры, здабыткі гэтыя супольнай чалавечай думкі, працы былі павабныя з выгляду. Невыпадкова заўважыў і вылучыў іх сярод іншых мастак. А таму, што маляваў, ён заўсёды аддаваў і часцінку сваёй відушчай, узвышанай душы.

«Вёска каля Барун», «Жупраны», «Баруны» (так і чуецца ў слове музыка сосен, бароў)— эцюды розных мясцін, краявідаў Ашмяншчыны з яе адметнымі ландшафтам і народнай архітэктурай. Па дарозе праз Ашмянскую зямлю, якая дала Беларусі яшчэ ў мінулым стагоддзі аднаго з

празарлівых і мужных яе паэтаў, Францішка Багушэвіча, мастак затрымаўся каля Гальшан.

Два гістарычныя помнікі, раздзеленыя амаль тысячагадовай далеччу, супынілі ўвагу Драздовіча.

Замалёўка Гальшанскага гарадзішча і Гальшанскага замка, пабудаванага на пачатку XVII стагоддзя, не ўваходзіла ў задачу мастака — занатаваць, напісаць абарончыя збудаванні, гістарычныя пункты апоры гедымінавічаў. Тут, у гэтай узгоркавай старане, хіба толькі чалавек зусім прыгнечаны жыццём, абыякавы да ўсяго, мог не залюбавацца зялёнымі ды залацістымі ад збажыны перакатамі палёў, застылымі ў смузе сілуэтамі дрэў, што здалёк значылі сабой вёскі, хутары, свабодным разбегам палявых дарог. І дзівам тон далёкай пары, калі чалавек яшчэ не пакідаў па сабе пісанага слова-сведкі, а толькі гэтыя памяткі-знакі свайго жыцця — гарадзішчы.

Гальшанскае гарадзішча адкрылася перад вачыма мастака з Барунскага тракта: правільнай круглай формы, вялікае, загадкава ўзняўшыся над палявымі разлогамі. На пяці аркушах Драздовіч узнавіў гарадзішча. На кожным наступным набліжаўся да яго, прыбіраў усё лішняе, неабавязковае. На апошніх двух аркушах імкнуўся ў асноўным да дэталёвага, дакладнага і поўнага выяўлення формы. І нават у такім выглядзе (рабілася гэта дзеля гістарычна-навуковых мэт) пластычнасць выявы не дала затухнуць агеньчыку прыгожага, гарадзішча выявіла сваё жывое хараство.

На першым аркушы гарадзішча праглядалася здалёк і крыху зверху. Узнікала, як матыў, які яшчэ толькі зараджаўся. Каласіста, густа ўставала паабапал дарогі збажына. І толькі наперадзе, воддаль, у спакойным рытме ўзгоркаў і далін узнікала прыгожай формы ўзвышша. Зверху праглядалася роўная круглая пляцоўка — вяршыня яго, збоку — ярусы. Быў бачны трэці план: справа ад гарадзішча і за ім разбегліся ўдалячынь палявыя сцежкі-дарожкі, ззаду, на гарызонце, цямнеў лес.

Цешыў сэрца, вока гэты забыты куток зямлі мяккімі лініямі пагоркаў і лагчын, чаргаванне якіх нараджала хвалюючы рытм. На яго адгукалася душа. А рука ўслед песціла гэтыя ліні, формы, перадаючы на паперы гармонію, закончанасць, дасканаласць.

У Гальшанах мастак затрымаўся даўжэй, чым дзе-небудзь. Нават больш, чым у Троках, дзе замалёўваў берагавы і астраўны замкі. А тым часам трэба было ўжо выбірацца ў Навагрудак. На адыход Драздовіч, як гэта ўжо было ў Медніках, ды ці толькі ў іх, пацікавіўся, хто з мясцовых жанчын ведае, спявае народныя песні. Але агульнапрызнаных пявунняў не было. І тут успомніў: Грыневіч расказваў, што адзін час яму ў Пецярбург дасылаў песні ў нотным запісе Астрамовіч, які друкаваў вершы пад псеўданімам Андрэй Зязюля. Астрамовіч жа быў родам з-пад Гальшан.

Пэўна ж, паспеў збольшага занатаваць песні родных ваколіц, хоць бедака рана, ці не ў 1921 годзе, даканалі сухоты. Нявесела падумалася: голад, сухоты, турма — такі ўжо лёс нашай інтэлігенцыі. Толькі там, на ўсходзе, апошнім часам яны выбіліся на лягчэйшы шлях, знайшлі лепшую долю. Варта прагледзець тамы навуковых прац, выдадзеныя Інбелкультам па гісторыі,

па мове і літаратуры, па этнаграфіі і мастацтву, што надаслаў нядаўна мастаку з Менска Эпімах-Шыпіла, каб пераканацца, як высока стаіць у Савецкай Беларусі гуманітарная навука.

А чуткі пра нябачны поступ асветы ў рэспубліцы, пра Беларускі універсітэт? А паважна пастаўленыя перыядычныя выданні і ў першую чаргу часопісы «Полымя рэвалюцыі», «Маладняк», «Узвышша»,«Наш край»? Іх прыносілі гімназісты ў Вільні ў мастацкую майстэрню, можна было пазычыць іх і з асабістай бібліятэкі Пятра Мятлы. Там сапраўды было што пачытаць, чаму парадавацца. Літаратура ў Савецкай Беларусі ўздымалася, як жыта пасля цёплых майскіх дажджоў. Многа талентаў, розных і добрых, прыйшло адразу руплівымі рабачаямі на духоўную ніву народа.

Драздовіч прыглядаўся да таго, што рабілі, чаго дасягнулі там, у Менску, яго сябры па цэху, браты-мастакі. Графіка, прыкладная і станковая, не магла не радаваць. Працы А.Астаповіча, М. Філіповіча, А. Тычыны, Я. Мініна, З. Гарбаўца, Г. Змудзінскага прываблівалі і цікавасцю да народнага жыцця, і пошукам новых выяўленчых прыёмаў і сродкаў, імкненнем стварыць нацыянальную школу. Сувязь з Менскам, усведамленне таго, што там хораша ўзрастаюць беларуская навука, літаратура, выяўленчае мастацтва, тэатр, былі для Драздовіча, як і для соцень і соцень заходнебеларускіх інтэлігентаў, добрай духоўнай апорай, падтрымкай.

Сум па Менску часам адзываўся ў мастаку. Гата можна было зразумець з яго лістоў. У адным з іх дасланым у Вільню з Прапелеўшчыны, з-пад Галубіцкай пушчы, як уздыханне, вырываліся словы: «Мянчане нашы галадаюць (пісана у 1921 годзе.— *А. Л.*), а тэрміналогію будуюць, а я ні там, ні тут». Гаворка ішла пра акадэмічны цэнтр, толькі што заснаваны ў Менску. З 1926 года сувязі мастака з Менскам зрабіліся сталымі, набылі форму супрацоўніцтва з Інстытутам беларускай культуры. Усталяваліся спачатку праз Браніслава Эпімах-Шыпілу, які пераехаў у 1925 годзе з Ленінграда ў Менск. Эпімах-Шыпіла даў пару Драздовічавых мастацкіх рэчаў на Усебеларускую выстаўку — прывёз іх разам са сваёй вялікай бібліятэкай. Нанава пачалася перапіска. Эпімах-Шыпіла цяпер працаваў у слоўнікавай камісіі, якая займалася зборам і вывучэннем сучасных беларускіх гаворак. Неўзабаве ён выслаў мастаку праграму збірання слоўнікавых матэрыялаў, складзеную мовазнаўцамі С. Некрашэвічам і П. Бузуком.

У Драздовіча ўжо з 1922 года назапашваўся моўны матэрыял. Яшчэ жывучы ў Прапелеўшчыне, ён пачаў запісваць прыказкі і прымаўкі. Цяпер, маючы праграму ў руках, заняўся збіраннем і класіфікацыяй народнай лексікі з большай пэўнасцю, дасведчанасцю. Калі слова абазначала прадмет, рэч хатняга, гаспадарчага ўжытку, паралельна рабіў яе замалёўку тушшу. У 1926 годзе калекцыю дробных малюнкаў-ілюстрацый да слоўнікавых матэрыялаў, запісаных у Галубіччыне, адаслаў у Менск. Пасля Палескай экспедыцыі, якую так і не ўдалося давесці да канца (паліцыя западозрыла ў шпіянажы і, каб пазбегнуць арышту, давялося ўцякаць у Вільню), паслаў у Інбелкульт некалькі альбомаў этнаграфічных матэрыялаў. Сярод іх найбольш дарагі самому альбом палескіх народных строяў, апратак, Паслаў

таксама і альбомы драўлянага храмавага дойлідства ды капу вясельных народных песень.

**На голас песні**

Песні падахвоціў збіраць Антон Грыневіч, незабыўны Агрынь. Неяк улетку 1917 года той заехаў да Драздовіча ў Красоўшчыну, запісаў песні ад яго маці. Мастак не спадзяваўся, што сябра выпытае ў маці столькі песень. Не да песень, здавалася, было ёй у вечна вандроўным, клапатлівым, бязмужнім жыцці.

Сам запісваць песні пачаў у 1923 годзе. У Пралелеўшчыне, ужо закончыўшы аповесць «Вялікая шышка» і напісаўшы яе другую частку «Скандал на гапонавым млыне», зрабіў сабе перапынак. Аднойчы, калі задумліва ішоў вясковай вуліцай, Кастуся Ледаховіч праспявала мастаку насмешлівае:

Знаці-пазнаці — хто ажаніўся:
Скорчыўся, зморшчыўся, з твару змяніўся.
Знаці-пазнаці — хто нежанаты:
Белае лічыка, як у паняты.

Улучыўшы вольную часіну, мастак завітаў да Ледаховічаў і маладая гаспадыня наспявала яму рознага. Шмат было ў жанчыны песень вясёлых, жартоўных, але траплялiся і вельмі паважныя, раздумныя.

Іншым разам Ледаховічыха махнула рукой на тое, што не пара, і праспявала яму вязанку вясельных песень, пачынаючы з «суборніцы». Мастак адчуў, як шчымліва адзываецца сэрца на словы песні, іх зажураную ноту, і пры кожным зручным здарэнні, калі трапляўся яму чалавек песельны, імкнуўся запісаць словы. Шкадавау, што слаба ведаў ноты. Спрабаваў хоць схематычна пазначыць сабе мелодыю.

К трыццатаму году набралася ў мастака ладная калекцыя песень розных жанраў. У Антаполлі, каля Залесся, за паўсотню іх наспявалі дзве пявунні, дзве Ганны — Міраш і Вашкель. Вашкель мела пяцьдзесят гадоў, Мірашова, маладзейшая за яе — толькі трыццаць сем. У абедзвюх была добрая памяць і чыстыя звонкія галасы. Заводзіла Ганна Вашкель:

Кругла мала, кругла мала
Балоцітка,
А хоць яно, а хоць яно
Кругла мала,
Але яно, але яно
Урадліва.
Наляцела, наляцела
Гусей многа,
Ні адны гусі, ні адны гусі,
Ёсць і лебедзі…

Ганна Мірашова больш кідала талочных, застольных, бойкіх, словам і рытмам:

Піва п’яна, піва п’яна,
Гарэліца горка…

У вёсцы Вялец, каля мястэчка Лужкі, яму асабліва пашанцавала на вясельныя песні. Мар’я-на Коптур, кабета пажылога веку, ведала іх безліч. Адна прыгажэй, паэтычней другой:

Хоць ты зеляніся, не зеляніся, рутачка,
Табе не быці, не зімаваці ў садочку.
Табе быці і зімаваці ў вяночку.
Хоць весяліся, не весяліся, Ганулька,
Табе не быці, не векаваці ў татульці,
Табе і быці і векаваці ў свёкаркі.

Вясельныя песні мастак перапісаў у асобны альбом, хораша аздобіў яго. Зрабіў у двух паасобніках. Адзін адаслаў у Менск, разам з альбомам драўлянай архітэктуры.

Найболей сваіх прац ён адаслаў у Менск на адрас Беларускай Акадэміі навук вясной 1929 года. З паўгода перад тым на свой навагрудскі адрас атрымаў праз англа-польскі банк у замежнай валюце прэмію, высланую яму з Менска. Неўзабаве прыйшла як узнагарода за надасланыя ім працы цэлая бібліятэка акадэмічных выданняў.

Цяпер Драздовіч адразу сабраў некалькі альбомаў сваіх графічных прац, пераважна этнаграфічнага характару. Альбомы «Драўлянае будаўніцтва Навагрудчыны і Піншчыны.Хаты». Асобна «Гумны». Асобна «Храмава дойлідства Навагрудчыны і Дзісеншчыны». Завяршыла гэты добры пакунак калекцыя з двух соцень народных песень. У лісце ад 22 мая 1929 года навуковы сакратар аддзела гуманітарных навук Акадэміі Янка Бялькевіч паведаміў мастаку, што песні і альбомы з замалёўкамі народнай драўлянай архітэктуры атрыманы і будуць скарыстаны. Ліст заканчваўся шчырай падзякай.

Спяшаючыся ў Навагрудак з поўнай сумкай альбомаў замкавай архітэктуры, прапахлы дарожным пылам, палыном, пахам збажыны, мастак спадзяваўся на новыя лісты з Менска…

У Навагрудку чакала педагагічная праца, чакаў гімназійны інтэрнат.

Сырая восень, зіма звычайна не пабуджалі да творчай працы. Вясна, залатое лета былі яго пара — сяўба і дажон.

У апошнюю сваю зіму ў Навагрудку Драздовіч парадкаваў альбомы ўзораў народных тканін. З самага пачатку працы ў гімназіі прыйшла думка прыцягнуць вучняў да збору ўзораў народнага ткацтва. На ўроках малявання паказаў некалькі такіх узораў, навучыў, як змалёўваць іх акварэльнымі фарбамі. І работа пайшла спорна. Дома ў маці, бабуль вучні знаходзілі дзяружкі, абрусы, паяскі, і ўзоры іх малявалі ў сваіх альбомах. Рабілася ўсё

гэта гімназіяльнай грамадой як пазашкольная праца, і за тры навучальныя гады набралася багата народных узораў. Мастак наклеіў кожны малюнак на асобны аркуш, і атрымаліся тры вялікіх альбомы. У першым і другім былі сабраны ўзоры навагрудскіх дзяружак. Пры кожным малюнку значыліся прозвішчы юных рупліўцаў.

Вельмі разнастайнымі былі ўзоры, сабраныя ў альбоме «Паяскі». Якіх толькі назваў не мелі яны! «Ланцужок», «скрыначка», «крыжык», «вербачка», «кіёчак», «капытца», «грабелькі», «лукаткі». Пры зборы ўзораў тканых паясоў вызначыліся вучні старэйшых класаў. Некаторыя з іх, напрыклад, Раман Лецка, падавалі надаею як мастакі: вельмі шчыра браліся за работу, мелі здольнасці да малявання, захапляліся літаратурай, гісторыяй.

Вясной 1930 года Драздовіч на бытавой аснове заканфліктаваў з педагагічнай радай гімназіі і накіраваўся ў Вільню. Тут адразу ж прыняўся за новы альбом архітэктуры. Віленскі гарадскі пейзаж пісаў не ўпершыню. Яшчэ ў 1924 годзе напісаў «Выгляд з Базыльянаў на Басокі», зруйнаваны мур Гедымінава замка. Цяпер хацеў засяродзіцца на асноўных, вызначальных для аблічча горада архітэктурных збудаваннях, на якіх да таго ж ляжаў выразны водсвет гісторыі. Вільню нельга было ўявіць без Замкавай гары, без вежы на ёй. Гедымінаўскі замак у Вільні меў добрую славу: яго ні разу не ўзялі тэўтонскія рыцары, колькі ні прыходзілі яны на беларуска-літоўскія землі.

Сілуэт гары з вежай быў аздобай, сімвалам гэтага старажытнага места над Віленкай і Віллёю. Не пакінула абыякавым Замкавая гара і Купалу, калі жыў тут, працаваў у рэдакцыі «Нашай нівы» на пачатку веку. Не раз гуляў ля яе падножжа паэт у парку, званым Бернардынскім садам, паўз яе праходзіў, вяртаючыся з рэдакцыі. Навеяла яна паэту вобразы мінулага, нагадала аб плыннасці часу:

Над Вяллёй ракой
На гарэ крутой
Туман сцелецца,
Ні то лом-ламок,
Ні то дом-дамок
Там віднеецца.
Слаўны Гедымін,
Князь Літвы-ліцвін,
Душа чынная
Многа лет таму
У гэтым жыў даму
Са дружынаю.
Горда мур глядзеў
На зямлю, як леў,
Сцяной крэпкаю.
Ні адной бітвы
Тут сыны Літвы
Былі сведкаю.

Язэп Драздовіч прысвяціў Замкавай гары, Гедымінавай вежы два аркушы свайго «Віленскага альбома», намаляваў яе ў двух ракурсах: знізу, ад Бернардынскага саду і здаля, з суседняй гары.

На вокладцы альбома мастак стварыў абагульнены вобраз горада з колішнімі гарадскімі варотамі — Вострай брамай — на пярэднім плане. Знакамітая брама бачна вельмі выразна — аж да барэльефнай выявы конніка на ёй, які з узнятым мячом імкне ў пагоню за ворагам. Вострая брама, што ўскалыхнула ў сэрцы Максіма Багдановіча балючы роздум аб лёсе народнай інтэлігенцыі, будучыні Радзімы і падказала паэту радкі:

Толькі ў сэрцы трывожным пачую
За радзіму любімую жах,
Успомню Вострую браму святую
І ваякаў на грозных канях…

Знайшла яна водгук і ў душы мастака: ажыла на аркушах яго светла, эпічна, абвеяная задумай.

У 1930 годзе грамадскасць былой Заходняй Беларусі адзначала трыццатыя ўгодкі з дня смерці Францішка Багушэвіча. Значэнне паэта-дэмакрата ў духоўным жыцці Беларусі з гадамі ўзрастала. Нашчадкі ўсё глыбей асэнсоўвалі народны дух, матывы яго паэзіі, аддавалі належнае празарлівасці паэта-вешчуна, які ў змрочныя гады царызму выйшаў сеяць на беларускіх загонах слова праўды, надзеі.

Драздовіч яшчэ летась, у дваццаць дзевятым, прайшоў сцежкамі паэта, чалавека, які застаўся ў памяці народнай заступнікам абяздоленых, песняром іх нялёгкага жыцця, Мацеем Бурачком.

Мастак наведаў сядзібу паэта ў Кушлянах. Пачціва пераступіў парог старога драўлянага дома, што помніў крокі задумлівага свайго гаспадара. Вячыстыя ліпы шумелі пад яго страхой, разросся і крыху здзічэў сад. Паранейшаму стаяла драўляная альтанка, пабудаваная, казалі, рукамі самога паэта. Тут ён любіў сядзець, можа абдумваў свае творы, тыя, што трапілі ў друк і тыя, што так і не дайшлі да сярмяжнага люду, якому прызначаліся. Благі час стаяў на перашкодзе да гэтага, а часам (о, горкая доля першых беларускіх інтэлігентаў!) і ўласная сям'я. У Неслухоўскага (Янкі Лучыны) дзеці, радня стараліся схаваць беларускую спадчыну бацькі, каб не прынізіць шляхецкага гонару. Такая ж гістарычная слепата пакарала і некаторых Багушэвічавых нашчадкаў.

Замалёўваючы дом, альтанку ў Кушлянах, мастак міжволі думаў, які ўсё ж суровы лёс напаткаў паэта. Не дажыць усяго пяць-шэсць год, каб сваімі вачыма ўбачыць, што зерне, якое сыпнуў калісь у занядбалы бацькоўскі загон, пачынае ўсходзіць, і, пэўна, дасць нейкі плён гэтай самотна прыгожай зямлі. А меў, калі адыходзіў назаўсёды, толькі шэсцьдзесят.

Драздовіч пабываў і ў Жупранах, на могілках, дзе пахаваны паэт. Самотны вобраз вечнага прыпынку Багушэвіча застаўся на яго аркушы. Як і хата, і драўляная капліца пры дарозе. І яшчэ мастак намаляваў камень, вялікі

шэры валун край кушлянскага лесу, які сябры, прыхільнікі незабыўнага Мацея Бурачка, адзначылі надпісам у памяць яго.

Замаляваўшы яшчэ некалькі сялянскіх хат на Ашмяншчыне, у вёсцы Арляняты, у тым ліку сядзібу бацькоў Адама Станкевіча, Драздовіч вярнуўся ў Вільню. Цяпер ажно на тры гады, цяжкіх, суровых для мастака. Цяжкіх, суровых для вызваленчага руху Заходняй Беларусі, для працоўных яе людзей. Нялёгкіх ва ўсім свеце.

Спачатку мастак закончыў працу над летнімі задумамі. Стварэннем серыі малюнкаў «Памятныя мясціны Францішка Багушэвіча» не абмежаваўся. Закончыўшы графічную серыю, Драздовіч ужо ў Вільні намаляваў вялікі жывапісны партрэт паэта. На ім Багушэвіч — чалавек сталага веку. Годна і спакойна глядзяць крыху прытомленыя вочы песняра народнай нядолі. Багушэвіч адлюстраваны на цёмным з зеленаватым адлівам фоне. Галава павернута крыху ўлева. Постаць прамая. Светларусыя валасы. Доўгая барада, вусы. Апрануты ў шэры сурдут. Выява паэта пададзена ў авале, за якім фон дэкарыраваны пад народныя ткацкія ўзоры. У дэкор упісана дата 1900—1930. Тым самым падкрэслена, што партрэт створаны да 30-й гадавіны з дня смерці. На адвароце ёсць цікавая заўвага аўтара. «Партрэт Багушэвіча (М. Бурачка). Маляваў з памяці з 1897 г. у фальварку Кміты, на Дзісеншчыне». І нарэшце месца і дата напісання партрэта: «Вільня 4/XI.1930».

Сведчанне Драздовіча пралівае святло на адзін немалазначны ў гісторыі грамадскай думкі Беларусі факт. Мала каму вядома, што прафесар В. Эпімах-Шьшіла, які адыграў значную ролю Ў заснаванні і працы выдавецкай суполкі ў Пецярбургу «Загляне сонца і ў наша аконца», быў асабіста знаёмы з Францішкам Багушэвічам. Знаёмства іх мела немалое значэнне ў сэнсе духоўнай пераемнасці ідэй, думак Багушэвіча. Дзе спаткаліся гэтыя цікавыя, заклапочаныя лёсам свайго народа людзі, — невядома. Заўвага Драздовіча нечакана падказвае, дзе магла адбыцца сустрэча. Значыць, паэт бываў на Дзісеншчыне і якраз у тых мясцінах, адкуль паходзіў Б.Эпімах-Шыпіла. Застаецца дадаць, што партрэт Багушэвіча, створаны Драздовічам, заняў належнае месца на святкаванні 30-й гадавіны з дня смерці паэта-дэмакрата ў Вільні.

…Ізноў Вільня. Каторы ўжо раз мастак прыходзіць сюды з надзеяй, чаканнем. Спачатку вызваленасць ад штодзённых абавязкаў здалася Драздовічу спакуслівай, жаданай. Можна было аддацца нечаму аднаму, свайму. Цяпер адна даўняя мара завалодвала ім непадзельна. Яна жыла ў яго душы з юначых год. Яшчэ падлеткам, на начлезе, калі сузор'і карагодзілі ў начной цішы, не без подзіву сачыў за імі, лежачы пры дагарэлым вогнішчы. Здаецца, нічога больш не існавала тады — толькі лес, што абступаў паляну, і зорнае неба. І нейкае суладдзе было ў іх маўчанні, неразгаданае, значнае.

У гады навучання ён расказваў маці пра нябесную сферу, намаляваную на скляпеннях Віленскай бібліятэкі, пра знакі планет… «Вучыся і пазнай нябесныя бегі, — сказала яна сыну аднойчы.— Светабудова — ці не найвялікшая гэта з таямніц?»

Цяпер, маючы шмат вольнага часу, мастак паспяшаўся ў бібліятэку, пад скляпенні, што ўражвалі ў юнацтве партрэтамі старажытных вучоных, нябеснай сферай, знакамі планет. Прагна накінуўся на астранамічную літаратуру. Чытаў запоем. І чым больп паглыбляўся ў навуковую літаратуру, тым мацнейшай рабілася яго вера: чалавек можа, павінен зазірнуць у сусвет, ступіць на іншыя планеты.

Позна вечарам, узбіраючыся па рыпучай лесвіцы на свой паддашак у прадмесці Вільні Ліпаўцы, мастак з шчымлівай радасцю чакаў новых сноў. У іх пакідаў сваю цесную каморку, пагружаны ў сон горад, усю родную спаконвечную пакутную і такую дарагую зямлю і пераносіўся на далёкія планеты. Там у сне блукаў па нейкіх дзіўных краінах, з загадкавымі, таямнічымі краявідамі, збудаваннямі, нябачанымі раслінамі і жывымі істотамі. А раніцай запісваў бачанае ў сне, падпраўляючы яго навуковымі ведамі. Так старонка за старонкай паўставала фантастычная аповесдь жыцця на Месяцы…

На вачах у мастака матэматычная астраномія, якая адыграла велізарную ролю ў пазнанні сусвету, саступала месца фізічнай. І Драздовіч верыў, што настане дзень, і ён ужо недалёка, калі астраномія перастане займацца вызначэннямі адлегласцей і мас суседніх зямлянам планет, а «займецца іх фізічным складам, геаграфічнымі ўласцівасцямі іх паверхняў, іхняй кліматалогіяй і метэаралогіяй, памкнецца ў таямніцы іх жыццёвай арганізацыі і на астатку пяройдзе да пытання аб іх насельніках».

Вясной і летам 1931 года мастак піша карціны на касмічную тэму «Падкружнікавы краявід на планеце Сатурн», «Астранамічная абсерваторыя на брылявіку», «Курорт і знак перасцярогі над безданню», «Космаполіс», «Сатурнянка» і іншыя, стварае шэраг алоўкавых малюнкаў і акварэляў.

На космас Драздовіч глядзіць вачыма зямляніна. Матывы зямнога ландшафту, пераўтвораныя ў жывым уяўленні мастака, пераважаюць у яго касмічных творах. На палатне «Падкружнікавы краявід на планеце Сатурн» адлюстраваны ўзгоркавы рэльеф. На пярэднім плане ўступ узвышша з дарогай над стромай. Па схіле ўзгорка роўнымі радага зелянее сельскагаспадарчая культура, падобная на бульбу. А далей злева відзён невялікі будынак пад невысокімі прыгожымі дрэвамі, якія нагадваюць ліпы. Нейкая будыніна з пласкаватым дахам відаць у даліне пад абрывам, дзе сінеюць азёры. На другім плане, па цэнтру, высіцца нязвычна голая гара. За ёй цягнецца рад светла-белых аблокаў. Слуп святла пырснуў у блакітнае неба, адразу надаўшы карціне нейкі незвычайны настрой. Зялёна-блакітны каларыт твора — зялёна-блакітны тон маладога беларускага лета. Ды і краявід, адлюстраваны на ёй, нейкімі штрыхамі нагадваў мастакову Дзісеншчыну. Аднак мастацкі вобраз атрымаўся жывы, непасрэдны, пераканаўчы, хоць і далёкі ад сённяшняга нашага ўяўлення пра космас.

Ад твора да твора палёт фантазіі мастака рабіўся ўсё смялейшым. Паглыбленне ж у навуковую літаратуру па астраноміі ўсё больш дысцыплінавала думку, прымушала да дакладнасці, хоць бы сабе ў межах тых звестак, якія к трыццатым гадам назапасіла навука аб космасе. На малюнках і карцінах

Драздовіча, прысвечаных іншым планетам, стануць пераважаць чорна-пустынны краявід, скалы, дзіўнай формы застылыя масы.

К канцу 1931 года мастак выдае брашуру «Нябесныя бегі», у якой на падставе скрупулёзных разлікаў імкнецца высветліць пытанні, звязаныя з вярчэннем зямлі, пазаатмасфернай бранёй яе. Асобна спыняецца на абручах Сатурна, якога лічыць за адну з найцікавейшых планет сусвету.

Зіму з 1931 на 1932 год праводзіць за напісаннем працы «Гармонія планет сонечнай сістэмы». Рукапіс дасылае ў Менск, у Акадэмію навук. Пры гэтым суправаджае яго лістом: «Магчыма, што для АН такое пытанне, скуль свет паўстаў, паўстала гэта зямелька, на якой мы жывём, і гэта ўсеянае зоркамі неба, зусім неактуальнае, але для мяне як аўтара, які знайшоў сваё тлумачэнне паходжання планет сонечнай сістэмы і іх самакручэння, а таксама гармоніі руху планет, для мяне гэта вельмі паважная рэч…»

Мастак спадзяваўся, што самая аўтарытэтная навуковая ўстанова Савецкай Беларусі апублікуе яго працу «хоць у выглядзе гіпотэзы». Лічыў яе найбольшым здабыткам усяго свайго жыцця. Ліст заканчваў блізкай сэрцу думкай: «Кожная адкрытая навуковая ісціна, хоць бы нават у выглядзе ўдалай гіпотэзы, робіць гонар не толькі той навуковай установе, якая налажыла на яго сваю апрабату, але і цэламу краю, і таму народу, з якога яна выйшла».

Адначасова з навуковымі пошукамі і роздумам над гармоніяй руху планет, цэльнасцю, гарманічнасцю сусвету мастак піша фантастычныя абразкі аб жыцці на Марсе, паціху пасоўваецца ла шляху стварэння фантастычнай белетрыстыкі.

Апантаны думкамі аб космасе, захоплены працай мастак, аднак, паволі пачынае азірацца вакол сябе. Тым часам бяднейшым рабілася грамадскае жыццё. Адчувалася, што ў ім няма многіх людзей, якія раней сваёй працай, словам задавалі тон. Каторы год у турмах сядзелі ці падаліся кудысь у іншы свет грамадаўскія паслы. Санацыя, пілсудчыкі паклапаціліся, каб адправіць на доўгія гады за краты спадкаемцаў і паслядоўнікаў Беларускай сялянска-работніцкай грамады — «змаганцаў».

Нельга сказаць, што пасля ўсіх больш і менш гучных судовых працэсаў над грамадаўцамі», «змаганцамі», актывам КПЗБ зусім заглох беларускі друк у Вільні. З падполля прамаўлялі орган ЦК КПЗБ «Чырвоны сцяг», часопіс «Бальшавік», газета «Малады камуніст». Легальным жа выданням не ўдавалася трымацца так доўга, як у часы Грамады. Узнікала іх нямала. Але праз два-тры нумары або цэнзура накладала сваю кіпцюрыстую лапу, або проста не хапала людзей, сродкаў, каб працягваць выданне. Грамадскія сілы, грамадская думка раздрабіліся. Разгром легальных форм вызваленчага руху, яго асноўных палітычных арганізацый моцна адчуваўся. Пачатак трыццатых гадоў — цяжкі перыяд у жыцці Заходняй Беларусі, Польшчы. Палітычны крызіс дапаўняўся і паглыбляўся эканамічным. Маральная атмасфера рабілася ўсё цяжэйшай.

Вучоны-лінгвіст прафесар Антон Канстанцінавіч Антановіч на пачатку 60-х расказваў, што ў 1932 годзе, калі ён дабраўся ў Вільню, каб знайсці

працу, які-небудаь прытулак, то ў драўляным доме на Ліпаўцы, густа населеным кватарантамі, не раўнуючы, як буслянка вераб'іным падсуседствам, застаў і Драздовіча. Хтосьці з рэдакцыйных ці друкарскіх работнікаў час ад часу прыносіў які-небудзь невялікі заказ мастаку. Тады Драздовіч карпеў над малюнкам ці адразу выразаў на лінолеуме будучую застаўку. Але аднойчы ў бакоўку да сукватаранта Лукашыка з'явілася паліцыя, ператрэсла ўсе яго манаткі, забрала штосьці з папер, кніг, а таксама прыхапіла і самога іх уладальніка. Тады з заробкам на хлеб у мастака стала зусім блага. Паспрабаваў шукаць ратунку ад беспрацоўя ў школьным кураторыуме. У жніўні 1932 года падаў заяву, просячы пасаду настаўніка малюнкаў калі не ў Віленскай беларускай гімназіі, то хоць у польскай школе на правінцыі. Але кураторыум адмовіў: што значыў для яго адзін беспрацоўны беларускі мастак?

Адно, што ўдалося Драздовічу зрабіць за апошні год у Вільні, дык гэта вокладку да кааператыўна-гаспадарчага часопіса «Самапомач» (1932 г.). Кааперацыя — паняцце не абстрактнае, не чужое для мастака. Папраўдзе, нават блізкае яго сэрцу. У маладосці Драздовіч сам прычыніўся да кааператыўнага руху. Тады, у час разрухі, ваенных ліхалеццяў людзі шукалі выхаду з галечы, незабяспечанасці самым неабходным і ў кааператыве. Аб'яднанне хоць крыху ратавала становішча а галоўнае, выхавала навыкі грамадскай працы. Акрамя эканамічных мэт — супольнымі сіламі будаваць фундамент быту, кааператывы займаліся і асветай. Пасля рэвалюцыі яны пачалі расці скрозь. У Заходняй Беларусі кааператыўны рух набыў асабліва шырокі размах. Ва ўмовах сацыяльнай і нацыянальнай няволі, усё болшага збяднення заходнебеларускіх вёсак кааперацыя набывала значэнне палітычнае. Няхай сабе і не вельмі актыўнае, гэта было ўсё ж супраціўленнем рэжыму. Польскія ўлады невыпадкова адразу павялі барацьбу з беларускім кааператыўным рухам як з самастойнай з'явай. Беларускім кааператарам усё ж удалося захаваць незалежнасць у сферы грамадскай працы.

З выхадам часопіса «Самапомач» заходнебеларускія кааператары атрымлівалі грамадскую трыбуну. Беспрацоўны мастак з жарам узяўся за стварэнне вокладкі да новага выдання. У аснове малюнка яго — паэтычны вобраз летняй беларускай раніцы, жытняй нівы, вёскі. На пярэднім плане — дарога. У цэнтры — палеткі збажыны. На заднім плане кампазіцыю замыкае пададзенае ў «профіль» да гледача сяло. Толькі што ўзышоўшае сонца падсвяціла хаты, гумны, студні з асверамі, купы дрэў, палетак на ўлонні вёскі. На ўсім ляжыць ранішняя свежасць. Яна адчуваецца ў набралых росту жытах, у прахалодзе светлых бяроз, ледзь улоўнаму водсвету дарогі. Вышэй малюнка ў лаканічным абразку мастак перадаў ідэю выдання: у дэкараваным авале дзве рукі ў поціску і буйное жытняе калоссе, якое вырастае над імі як плён супольных намаганняў. У верхняй частцы вокладкі, займаючы крыху больш траціны яе, прыгожа выведзена кірыліцай, а знізу лацінкай назва часопіса. На вокладцы выдавец пажадаў даць у якасці эпіграфа словы Джорджа Расела: «Усе вялікія падзеі народаў і ўсе цывілізацыі былі створаны дабравольнымі стараннямі аб'яднаных людзей… самапомаччу». А яшчэ перад імі ішоў дэвіз, выказаны словамі Купалы:

Хай злыдні над намі
Скрыгочуць зубамі,
Любі сваю ніву, свой край
І, колькі ёсць сілы,
Да самай магілы
Ары, барануй, засявай!..

Вокладка Драздовіча надала выданню вельмі прывабны выгляд. Афармленне было змястоўнае, і выяўленча яскравае. Яно магло радаваць і самога мастака. Толькі, на жаль, не прынесла і не магло прынесці ў заходнебеларускіх умовах той пары матэрыяльнай аддачы. Выдавец-рэдактар Адольф Клімовіч не мог спадзявацца на вялікі тыраж часопіса ў збяднелым, эканамічна занялалым краі. Здабытыя на выданне сродкі былі мізэрныя

Ужо надыходзіў трэці год без сталай працы… Перабіваючыся з вады на хлеб, мастак, праўда, яшчэ жыў надзеяй на больш спагадныя ўмовы, спадзяваўся на нейкія перамены ў сваім жыцці. У новага 1933 года прасіў не пакрыўдзіць яго. «А працы на хлеб ніадкуль нідзе не чуваць. Сам не ведаю, як жыць, што далей будзе, — запісвае ён І дзённіку ў першы дзень 1933 года.— Пагода хмарная, акно нізкае, у хаце цёмна і цесна. Думаў узяцца за маляванне, ды немагчыма. Дзень каротак, ды і той нельга выкарыстаць».

Між тым мастак не адмовіўся ад сваіх іншапланетных «падарожжаў». Піша ўсё новыя раздзелы фантастычных аповесцей, апошнім часам — «З жыцця на Месяцы», «Трывеж», «Арыаполь», «Краіна дымнага неба».

Каб расцягнуць надалей апошнія грошы, варыць сам сабе абед, набраўшы ў сталяроў, у Бернардынах, стружак і трэсак да печкі. Калі ж удавалася раздабыць кавалак кілбасы, то суп атрымліваўся, здавалася, лепшы, чым у рэстаране. Горш было з адзеннем. За доўгі час беспрацоўя яно моцна паднасілася. Блага было і з абуткам.

Але ў адчай ад галечы не ўпадаў. Знаходзіў цень суцяшэння: «Знаёмых маю каля тысячы, даспявай толькі раскланьвацца ды вітацца, а пагасціць… Але хіба ж я такі адзін?..» І далей, з сумам: «Дзень прайшоў дамасідна. Знайшлося б мо куды схадзіць, пакалядаваць, ды няма ў чым. Касцюм незавідзен, а галоўнае гэта боты…цякуць».

Мастак усё ж спадзяваўся на пробліск у гэтым цемнаватым калідоры свайго жыцця. Галоўнае — не губляць веры. Аднаго такога шэрага дня дырэктар Беларускага музея выплаціў яму дваццаць злотых за альбом «Мір». Гэта ўжо была другая выплата. Грошы невялікія, але ўсё ж давалі магчымасць нейкі час пратрымацца. Мастак нават дазволіў сабе схадзіць на канцэрт славянскай песні. У дзённіку прызнаваўся, што чуўся вельмі добра, асабліва ў час спеву хору Шырмы, аднак у антракце, калі запальвалася святло, было ніякавата сярод чыста апранутай публікі: бянтэжыўся з-за сваёй старой, паношанай вопраткі.

Найгорш было ў час хваробы, няхай сабе грыпу: ні цёплай пасцелі, ні лекаў, ні стравы — хоць памірай ці крычы ратунку.

Але з'яўляўся нейкі заблуканы праменьчык у яго адзінокі закутак. Нехта па добрай памяці запрашаў мастака на вечарыну, што ладзіў мастацкі

факультэт універсітэта. Драздовіч быў шчаслівы пабыць у гаманкой маладзёжнай кампаніі, пагаварыць пра мастацтва, паваражыць дзяўчатам-выпускніцам аб іх будучым лёсе, схільнасцях, дараваных матухнай прыродай. Стары педагог Антон Неканда-Трэпка, выслухаўшы расказы Драздовіча аб яго фантастычных вандроўках на Месяц, Марс, Сатурн, паабяцаў мастаку-касмолагу аблегчыць доступ да тэлескопа ва універсітэцкай абсерваторыі.

У дзённіку з'яўляюцца запісы з падсумаваннем зробленага за апошні час:

«Закончыў графічную апрацоўку рысункаў-зарысовак у альбом «Флора луннага свету» ў 15 старонак-аркушаў з 25-цю абразкамі выгляду тамтэйшай, луннай флоры…»

**Беластоцкая вандроўка**

Сярод дзён, што прамільгнулі ў марных спадзяваннях невясёлых бытавых клопатах, раптам навіна — запрашэнне паехаць на работу ў Беласток. Сталая праца, сталы кавалак хлеба, а вольны час — для любімай справы, гэта ўжо зусім добра, як у людзей. Бывай бясхлебіца, няхай жыве мастацтва! І да д’ябла гэту мудрую лацінскую прымаўку «Ars longe, vitae brevis»[1]. Жыццё таксама вечнае, як і мастацтва!

Было прадвесне 1933 года. Мастак прыехаў у Беласток. Зазначыў па дарозе ў сядзібу акружной управы Таварыства беларускай школы, якая запрасіла на працу, што горад не з вельмі цікавых: «Ні ракі, ні возера, ні прыгожых узгор‘яў ці даліны». Самым прыгожым у горадзе здалося месца ад ратушы да брамы палаца Браніцкіх.

У Беластоку перш-наперш намаляваў шыльду для акружной управы ТБШ. «Усё добра, ды холад, работа з рук валіцца», — адзін з першых дзённікавых запісаў на новым месцы. Праз пару дзён закончыў вітражныя шыльды для кааператыўна-выдавецкага таварыства «Сяўба». «У левым акне па-польску, у правым па-беларуску, а пасяродку ў дзвярах намаляваў сейбіта, сівабародага, у белай вопратцы», — расказваў мастак.

Затым пачаў па заказу Беластоцкай акружной управы ТБШ маляваць дэкарацыі для спектакляў, якія рыхтавала драматычная секцыя Таварыства. «Вясковую вуліцу» — для прадстаўлення паводле камедыі Уладзіслава Галубка «Суд», дэкарацыю «Пушча» і яшчэ краявід «марэнна-лясістага характару: наводдалі лес, узгор‘е, рэчка, узгоркі, а па іх бярозавыя гайкі. На ўзбліжжу — узмёт з альшынкамі і дубамі». Непадалёк у Супраслі ўжо ставіўся спвктакль паводле п‘есы Крапіўніцкага «Пашыліся ў дурні» пры дэкарацыях, выканаых ім. Было прыемна бачыць, як удала ішло прадстаўленне, пры поўнай зале, з агеньчыкам жывога зацікаўлення да ўсяго, што дзеялася на сцэне.

Адышлі прымаразкі. Ужо не так моцна мерз пад скляпеннямі клуба акружной управы ТБШ на Купецкай, як першыя дні, калі пальцы не трымалі пэндзля. 16 красавіка мастак з радасцю дапамагаў усталёўваць дэкарацыі ў заарандаваным на спектакль памяшканні па вуліцы Ружанскай у Беластоку. «Ставілася п‘еса Крапіўніцкага. Сыгралі як найлепей. Сама сцэна з маімі

[1] Мастацтва бясконцае, жыццё кароткае.

дэкарацыямі, — цешыўся мастак, — мела выгляд надта прыстойны. Ды на вялікі жаль, цаніцеляў на ўсё гэта не хапала. Публікі было шмат. Моладзь уборная, франтаватая, ды эстэтычна слаба развітая».

Не агледзеўся, як праляцелі два месяцы працы. Раптам адчуў сябе нездаровым. Прастуды, недаяданне, асабліва напружаная праца ў халодным і вельмі сырым памяшканні з мокрымі сценамі — нічога не прайшло дарам. У дзённіку пачулася нараканне на цяжкія ўмовы для работы, на «лосніцу і недаедкі». Акружная ўправа ТБШ была не дзяржаўная ўстанова, а згуртаванне аднадумцаў з працоўнай моладзі. Выручка ад спектакляў была адзінай крыніцай папаўнення бюджэту. Але аматарскія спектаклі рэдка даюць добры касавы збор. Неўзабаве мастак зразумеў, што не толькі на ганарар яму, а нават на фарбы, патрэбныя для дэкарацый, у Таварыства няма грошай. Стаў падумваць аб тым, каб хоць бы на дарогу да Вільні атрымаць што-небудзь. А за ўсю працу не варта і спадзявацца.

Каб зусім не падцягнула жывот, пачаў сям-там крыху падзарабляць, калі працу за адно сталаванне можна назваць заробкам. Адзін з членаў Таварыства займеў аматарскую фотамайстэрню. Мастак намаляваў яму некалькі дэкаратыўных пано, скарыстаўшы касмічныя матывы. Адно пано — «з пірамідамі, сфінксамі, сонцам». І яшчэ адно на тэму запаветнага, роднага: лёгка хмарнае неба, дарога, парк, тапаліная абсада. Рабіў адпачываючы, лёгка.

Калі ў сілу ўбралася вясна, меў прыемнасць пакапацца на гародзе ў Васіля — гаспадара кватэры. Той быў яшчэ нежанаты. Брат служыў у войску, малодшая сястра вучылася на апошнім курсе Навагрудскай гімназіі, маці паехала да братоў пад Варшаву. Так што гаспадарылі ўдвух. Удвух ачысцілі запушчанае поле ад друзу. Мастак навучыў маладога гаспадара рабіць грады, ці лехі, як казалі ў іх, на Дзісеншчыне.

Ад працы на гародзе ды нармальнай стравы, якую рыхтавалі разам з гаспадаром, здароўе стала папраўляцца. Даваў сабе рады і без абяцанага акружной управай ТВШ ганарару.

Зноў знайшоў сякі-такі пабочны заробак: памагаў каменячосу ляпіць фігуры для помнікаў.

У дзённіку загучалі бадзёрыя ноты: «Усё добра і весела… Няма нічога прыемнейшага, як даваць жыццё раслінам, — араць ды сеяць…» Умеркаваная фізічная праца мацавала цела і дух. Радасць прыносіла і дзявочае таварыства. Кожны дзень заглядалі да Васіля дзве сімпатычныя суседкі, сёстры Рэгіна і Ванда. Прыходзілі паглядзець кнігі, пагутарыць.

У час адпачынку, вечарамі мастак запісвае далей свае самнамбулічныя сны — вандроўкі па Месяцы, натуе ў афарыстычнай форме роздум аб жыцці.

«Няма жыцця ў крайнасцях». «Нішто не жывець, не расцець у агні. Нішто не жывець, не расцець і ў марозе. Толькі між агнём і марозам усё жывець, усё расцець, развіваецца, красуе». «Не будзь ні горак, ні соладак. Будзеш горак, — праклянуць, а соладак, — праглынуць». «Не цвярдзі ніколі таго, чаго цвёрда-пэўна не ведаеш». У гэтых развагах народная мудрасць была перамешана з жыццёвымі назіраннямі мастака.

Думка аб тым, каб выбрацца з Беластока, не пакідала. Хадзіў у акружную ўправу, каб выплацілі грошы хоць бы толькі на аўтобусны білет да Вільні. Сакратар управы разводзіў рукамі: нават на такую суму пакуль што беластоцкія тэбэшоўцы не маглі спабіцца. Даводзілася чакаць. Нудзячыся ў чужым горадзе, Драздовіч аднойчы нядзеляй выбраўся ў ваколіцы Беластока, пад мястэчка Васількоў. І не без здзіўлення зазначыў для сябе: «якія дзіўныя тут сінеючыя далі, колькі красы ў гэтых воддалях з сіняватымі сценамі лясоў…»

Прырода беластоцкіх ваколіц уразіла, як некалі ўразілі прыгожа-велічныя муры і вежы Супрасльскага сабора — цудоўнага помніка архітэктуры XVI стагоддзя.

На астатак яшчэ папрацаваў з тыдзень за адно сталаванне ў каменячоса. Паміж працай над фігуркамі да помнікаў намаляваў алоўкам два партрэты дочак гаспадара.

Нарэшце пасля немалога клопату Беластоцкаму ТБШ удалося раздабыць дваццаць пяць залатовак на дарогу мастаку. Радасны, ён развітаўся з горадам, у якім працаваў і гараваў траціну года. «Не ведаю, што мяне там чакае, але еду ў сваю старую Вільню», — апошні дзённікавы запіс, зроблены ў Беластоку.

У Вільні ўсё было па-старому. Адным з першых рашыў адведаць Пятра Сергіевіча. У майстэрні яго не застаў. Мастак паехаў у Солы на заработкі. Праз пару дзён спаткаў Рафала Яхімовіча. Скульптар паказаў здымак сваіх прац, выкінутых мітрапалітанскай курыяй на падворак а памяшкання ў Бернардынскім завулку. Моклі пад дажджом на бруку і трохметровая скульптура «Праца», і бюст Вітаўта, і праекты помнікаў, у тым ліку помніка Адаму Міцкевічу.

Адарваўшыся ад працы, на два дні прыехаў у Вільню Пятро Сергіевіч. Моцна ўзрадаваліся сустрэчы. Малодшы калега звадзіў сябра на вячэру ў мастацкую суполку на Міцкевічаўскім праспекце. Аказалася, там цэлая выстаўка карцін і скульптур. Драздовіч адразу заўважыў на выстаўцы сёетое сваё, і акрамя таго сябе, «на двух Пецевых партрэтах».

А заробку як не было, так і не было. І цяжка чакаць яго аднекуль. Жыццё выразна мізарнела. І ў яго «вандроўках» па Месяцы ды іншых планетах было нейкае адхланне: забываўся пра невясёлыя думкі аб хлебе, аб заўтрашнім дні. Запісваў новыя старонкі «бачанага» на іншых планетах, у іншым свеце. Дапрацоўваў распачатую яшчэ ў мінулым годзе, да выезду ў Беласток, карціну горада на Месяцы «Трывеж». На пярэднім плане, знізу, над самым краем рамкі дзіўнай формы вежы і побач ажурны дах палаца. У цэнтры палатна нібы плаціна між двух азёр з павольнымі ступенчатымі спускамі да іх. А на заднім плане якіясь трапецыяпадобныя глыбы ці збудаванні. Усё ў нейкай прасветленай ружова-шэра-салатавай гаме, далёкае і загадкавае. Праўда, не так маляўніча, як на леташнім яго палатне «Спатканне вясны на Сатурне». Там каларыт радасны,звонкі. Фарбы — пазычаныя ў самой маладой вясны, поўныя сонечнай музыкі, святла. Сатурняне, невысокія, прысадзістыя, у белых доўгіх кашулях выйшлі з пячор на светла-зялёны дол.

Яны дружна ўзнялі рукі ў радасным вітанні. З вялікай грамады вылучаецца доўгабароды стары, у якога ў адрозненне ад іншых паверх белага адзення накінуты плашч. Магчыма, гэта нейкі мудрэц, старэйшына. Ён узняў рукі да сонца прама перад гледачом, у цэнтры палатна. Справа ад ног яго па рудым камені струменіць крыніца.

Светла-руды тон пячор і нейкай дзіўнай расліны, што па левы бок ад старога, у спалучэнні з белым колерам адзення, блакітным разлівам вады і светла-зялёным колерам долу твораць своеасаблівую гармонію фарб, пасапраўднаму касмічны матыў. Апошнія свае дні ў Вільні мастак пераносіць кнігі ў Беларускім музеі з аднаго склада, вільготнага, на другі. Аплата мізэрная, і дня з яе не пражывеш, але ўсё ж сякі-такі заробак. А васемнаццатага ліпеня, калі і гэта праца была скончана, Драздовіч прынёс у музей і аддаў на сховы карціну «Трывеж». Потым аднёс на продаж музею і свае альбомы замкавага дойлідства. Пакінуў толькі адзін, яшчэ неўпарадкаваны, з планамі замчышчаў. Гэтым часам накідвае пару дзесяткаў старонак у рукапісе «З жыцця на Марсе». Атрымлівае аванс за праданыя Беларускаму музею альбомы графікі, у тым ліку альбом «Гумны і хаты». Купляе гатовы чорны касцюм, крыху паношанае, але яшчэ неблагое асенняе паліто, разлічваецца з «барадой» (Уладзіславам Паўлюкоўскім, самадзейным мастаком і паэтам) за пераплёт рукапісаў і альбомаў, дае пару залатовак гаспадыні за кватэру і цягніком выбіраецца на Глыбокае.

**Доўг — роднай Дзісеншчыне**

Тры гады ён не быў на Дзісеншчыне і такі добра засумаваў па ёй. У Глыбокім ужо сабраўся быў выправіцца ў Антаполле пехатой, але, на шчасце, трапіўся сусед з канём і ўдалося пад'ехаць аж да Паўлова. А там нацянькі праз лес зусім блізка Антаполле. На старым месцы, у хаце, перабудаванай з асеці, жылі незнаёмыя людзі. Кастусь з пляменнікамі ды пляменніцай па брату Гераніму за гэты час перабраліся ажно на трэцяе месца. Неласкавы лёс запашніка загнаў іх у цесную і цёмную хатку пад лесам. Брат прыкметна пастарэў, жаліўся на дыхавіцу.

Праз пару дзён мастак схадзіў у Германавічы адведаць матчыну магілу на Цярэшкаўскім могільніку. Першыя тыдні на радзіме праходзяць у адведзінах, гасцяванні ў радні і знаёмых. Сустрэў на фэсце ў Задарожжы брата Стафана з жонкай. З Задарожжа пехатой ідзе ў Парэчча, дзе жыве самая багатая з Драздовічаў радня. Ветліва сустрэты, гасціць з тыдзень, робіць алоўкам і тушшу малюнкі з жыцця на Месяцы «У цырку Платона». Потым адпраўляецца да цёткі з бацькавага боку ў Кучыншчыну, бліжэй да засценка Стануліва, дзе прайшлі дзіцячыя гады. За час гасціны ў Кучышпчыне блукаў па гаях, адведаў Станулёва з яго дзівосна прыгожым надрэччам і пагор'ямі. Заглянуў на радзіму маці — Барысаўшчыну. Затым падаўся ў Зароўе, дзе, як і скрозь каля Ауты, прыгожая вясёлая мясцовасць. Кругом гаі, па палях грушы, і далёка відаць на зарэчча.

Але час збірацца дамоў. «Вось я нібыта ў родным куце, у Антаполлі…» — запіша мастак 28 жніўня 1933 года. А дзе яму было яшчэ прыхінуцца, як

не ля старэйшага свайго брата, шчырага і працавітага Кастуся. Са Стафанам, хоць і быу ён па гадах бліжэй, не знаходзіў паразумення. Той прагнуў жыць спрытней, лаўчэй, багацей. І хоць няпраўдай, хітрыкамі, усё ж узбіўся на ўласную зямлю. Даходзіў яе перад уладамі, дабраўся аж да Варшавы. Але бог з ім. Мастак не зайздросціць яму, а мянушку «Хцівец» усё ж прыляпіў. Любіў сам усё чыстае, праўдзівае, шчырае ў людзях і прыродзе. Кастусь жа быў гарапашнік. Меў ужо каля сямідзесяці. Без здароўя, на чужой зямлі ледзь не парабак. А хата? Толькі што страха над галавой… Перароблена са старой варыўні, маленькая, з двума малымі акенцамі. І цесна, і цёмна, падлога гліняная. А пасярод хаты ваўначоска, старая, дабітая. Брат спадзяваўся мець з яе які грош на хатнія расходы. Але ў апошнія гады іх завялі тут не адну, і заказаў амаль не было.

Неяк на пачатку верасня разам з Кастусём адправіўся на хутар у Падорку да Стафана дапамагчы таму малаціць пшаніцу. Карыстаючыся перапынкамі ў малацьбе ды вечарамі зрабіў копіі «Трох алейных партрэтаў Маткі і нябожчыка-брата Болюся, які ў пазапрошлым годзе адышоў на вечны спакой, будучы інвалідам з кантузіяй ног, у прытулку для вайсковых інвалідаў у вёсцы Сялюты, каля Віцебска».

Вярнуўшыся ў Антаполле, дапамагае брату і пляменнікам на палявых работах. Заўважыў, што ніколі так востра не адчуваў красы гэтага падлеснага кутка, як цяпер, у час касьбы, калі прыкладваўся на аўсянішча адпачыць, пакурыць.

«Колькі велічы ў гэтых цёмных сценах яловага лесу, лагоднасці ў гэтых далікатных постацях белых кудраватых бяровак на цёмным фоне лесу. Колькі прыгожа гарманізаваных форм у гэтых групках бяроз і чорнае вольхі, асабліва ў праменнях вячэрняга сонца».

За колькі дзён авёс каля леснічоўкі ўбралі. Толькі, шкада, малы быў умалот. Несумленны ляснік напалову спасціў, здратаваў канём аўсяныя гоні старэйшага Драздовіча. А трэба ж было заплаціць гаспадару. Ох, невясёлы лёс земляроба…

Дзеля разнастайнасці ды з ветлівасці адведаў мастак антопальскіх суседзяў. У Антона Лапацкага здзівіўся: маляваныя ім калісь партрэты здаліся нашмат прыгажэйшымі, чым у часе працы над імі. І штось балюча азвалася ў сэрцы: «Колькі зроблена людзям партрэтаў за пражыццё на час працы, а сваім таго не парабіў». Нават аўтапартрэта няма ніводнага.

Весялейшай была прагулка ў Залессе. Мастак выправіўся туды на пошту, каб атрымаць другую рату раскладзенай Беларускім музеем на дзесяць месяцаў выплаты за альбом старадаўняй архітэктуры. Мастак залюбаваўся мясцовасцю: азёрамі, «што цягнуліся ланцугом» — адно за адным серабрыстымі плямамі між узгоркаў», борам з валатоўкамі ды падобнай на шапку гарой — гарадзішчам над апошняй з азярын.

На атрыманыя грошы даручыў Кастусю купіць у Стафана «хоць пяць пудоў новай пшаніцы на прыварак для хаты…»

У вольную часіну мастак адпраўляўся ў лес. Іншы раз прыносіў цэлае бярэма ляшчыны. Ад няма чаго рабіць пачаў выразаць, аздабляць кіі, ляскі.

«Няма ані палатна, ані фарб, ані адпаведнага месца для працы, каб маляваць, дык мушу хоць гэтай драбязлівай разьбою заняцца», — жаліўся дзённіку, апраўдваўся перад некім ды перад самім сабой.

Канчаўся верасень. Недалёка было да зімы. Да старой хаціны-варыўні браты з пляменнікамі дабудавалі трысцен, а зараз рабілі глінабітную падлогу. Стасюк вазіў з поля гліну. Кастусь паганяў кругом сябе пару сівак, якія дабрадушна пафырквалі, утаптваючы гліну на ток. Мастак завіхаўся з рыдлёўкай — раскідаў, падраўноўваў гліну.

24 верасня, у нядзелю, востра адчуў сваю адарванасць ад свету. Хацелася распачаць нейкую большую працу, але неспрыяльнымі ўмовамі стрымліваліся, тушыліся ўсе намеры. У новую палавіну хаты яшчэ не перайшлі. Даймала сырасць. Па вечарах мастак доўга не мог заснуць. Стала шумець увушшу. Пакуль што паціху папраўляў старыя працы свае, заканчваў няскончаныя. Падправіў вугалем пісаны абразок «Замак» мадэллю якога было гарадзішча, што непадал воэера Пліса. І некалькі іншых, сярод якіх акварэльны малюнак «Беразвецкі кляштар». Выразаў галоўкі Да нарыхтаваных кіёў. У фантастычным творы пры апісанні «вандровак» па Месяцы даваў выхад сваім перажываванням і роздуму над сучасным светам. «Прыйдуць часы, — пісаў у кастрычніку 1933 года, — калі большыня жыхароў нашай планеты адмовіцца ад удзелу ў войнах, адмовіцца ад гэтага штучна ўзаконенага спрадвеку сільнейшымі свету праз уладу сваю над людзьмі вялікага зладзейства, якое пхае цэлыя мільёны людзей на ўзаемнае забойства. І ўсю тэхніку з навукамі абернуць не на паслугі гэтаму зладзейству, а на добрую справу. Не на праліванне крыві, калецтва, асірочванне. Не на забойства праз біццё, рубанне, калоцце, вывarачванне кішак. Не на рванне чалавечага цела на кавалкі. Не на душэнне жывых істот і закапванне іх жыўцом у зямлю. Не на ламанне касцей, руйнаванне ды падпальванне будынкаў, знішчэнне хлеба ды розных раслін. Не на знішчэнне разумных істот і ўсяго таго, чым гэта жыццё падтрымліваецца, даючы тым самым поўную волю і развіццё ворагам гэтага жыцця — голаду, немачы і заразе. А наадварот, на падтрыманне гэтага жыцця, каб яно было сытым і здаровым, высокакультурным, добрым, разумным і прыгожым. А перад усім бясцэнна вольным, непрыгнечаным тымі нягодамі, у якіх нам, большыні роду людскога…даводзіцца жыць, аддаваць усе сілы на фізічную працу ды змаганне з прасторам. Прыйдуць часы, калі людзі будуць глядзець на наш аромы хамут і на кірку вуглякопа, як мы цяпер глядзім на старадаўняе вясло з галер. А гарматы ды розныя прыдуманыя для забойства людзей машыны ды прылады паперарабляюць на трактары ды друкарскія станкі.

Замест казармаў ды крэпасцей з гарматамі ўзвядуць школы, шпіталі, прытулкі, тэатры, музеі ды астранамічныя абсерваторыі. Усе тыя затраты сродкаў, што ішлі на вядзенне вайны, пойдуць на заваяванне нявыкарыстаных сіл прыроды дзеля аблягчэння мускульнай працы, а побач з. гэтым і на заваяванне прастору не толькі на самой зямлі з яе сухапутнымі абшарамі ды акіянамі, але і па-за атмасфернага, міжпланетарнага. Перад усім таго прастору, які нас раздзяляе з найбліжэйшаю планетаю, аднак не

з Венераю і не з Марсам, а з нашым хоць і надта старым, але яшчэ жывым светам — ясным Месяцам».

Надышоў лістапад 1933 года. Імглістыя дні змяніліся сухімі, ветранымі, калі яснела далеч было хораша, як напрадвесні. Людзі падрабіліся на полі, цяпер рупіліся з драбнейшым клопатам пры хаце. Сталі прыходзіць, прыязджаць часаць воўну. У хаце гамава, жарты, смех. Асавліва калі збіралася некалькі дзяўчат.

Мастак любіў паслухаць жывую гамонку, пажартаваць, пасмяяцца. Але часам уцякаў на гарышча, на столь, як казалі тут, і там у зацішку карпеў над сваімі кіямі: ачьшічаў іх, абразаў ды разьбаваў — то галоўку адной з тых смяюх, што ўнізе завіхаліся ля ваўначоскі, то карыкатуру на каго-небудзь, то паважаную, мудрую галаву біблейскага Маісея.

Больш сур'ёзнае, што ўдалося зрабіць у лістападзе, дык гэта барэльефны партрэт маці. Выразаў дарагі вобраз у анфас на тоўстай бярозавай дошцы. Аблічча маці, выяўленае ў дрэве, было валявым, разумным, ясным.

Скончыўшы працу над барэльефным партрэтам Юзэфы Янаўны з Канчэўскіх, як шаноўна казаў мастак, згадваючы маці, узяўся за партрэт сябра, музыказнаўца-фалькларыста Антона Грыневіча. Сувязі з Мйскам прыпыніліся, і мастак не ведаў, дзе цяпер, над чым працуе яго незабыўны Агрынь. Рысы сябра ажыўляў на камлёвай бярозавай дошцы. Разьбаваў паводле графічнага малюнка, зробленага з натуры ў 1923 годзе ў Вільні. Паказваў нястомнага рупліўца беларускай музыкі схіленым над нотным аркушам, за працай. Буйныя рысы аблічча Грыневіча няблага выяўляліся ў матэрыяле. Яшчэ больш, чым у графічным парт-рэце, адчувалася значнасць, можна скааацць, маштабнасць асобы. К канцу месяца закончыў разьбаванне.

У самым канцы лістапада з'ездзілі з братам у Глыбокае. На атрыманыя ад музея новыя трыццаць злотых купілі сёе-тое з адзення ды абутку, а таксама з харчоў. Удалося прыкупіць крыху матэрыялаў і для мастацкай працы. Але пыл ад ваўначоскі, сырасць, чаднасць у хаце не давалі працаваць. І вось, забраўшы папку з паперай для малюнкаў, ляску, нядаўна выштукаваную з яблыневага дрэва, адправіўся да Янкі Пачопкі, або Башкіра, як той называў сябе, падпісваючы творы ў «Маланцы». Добра, што было гэта прыстанішча. Янка чалавек хатні, гасцінны, спагадны — сапраўдны сябар. Сюды мастак прыходзіў у цяжкую гадзіну, а часам і проста так, каб адпачыць душой, пагаварыць аб нечым не будзённым.

На гэты раз мастак спадзяваўся закватараваць у сябра. У таго дом быў на два канцы, і меншы стаяў пусты. Але цяпер, як на тое, не пашанцавала. Самога Янкі не было дома, а ў вольнай палове жыў кватарант. Пераначаваўшы ў Летніках, мастак скіроўваецца да паэта Міхася Машары, які пасля турмы вярнуўся ў родную вёску пад Шаркаўшчынай.

Пабыўшы некалькі дзён у Машараў, мастак даведаўся аб цяжкім жыцці паэта. Зямлі ў бацькі — толькі гарод. Міхасю даводзіцца жыць з п дзёншчыны. Вось адкуль яны, гэтыя, як уздых словы паэта: «Эх ты доля, доля, ну й жыццёвы шлях: па чужому полю, з торбай на плячах».

Падараваўшы паэту разьбаваную з грушы ў выглядзе егіпецкага саркафага табакерку, мастак адправіўся ў Антаполле.

Надышоў Новы год. Мастак, як і большасць свят цяпер, сустрэў яго ў Летніках, у Янкі Пачопкі. А на другі дзень новага, 1934 года, вярнуўшыся ў Антаполле, пачаў разьбаваць на дошцы з чачоткі партрэт Міхася Машары. Праз тыдзень выява дабрадушнага, паўнатварага паэта была гатова.

Скончыўшы працу над партрэтам Машары, мастак распачынае разьбаваць партрэт Янкі Пачопкі: добра пад рукой быў гатовы і, здаецца, удалы партрэт сябра, зроблены вуглем. Гэты аграном з душой пісьменніка быў удзячнай мадэллю для мастака, скульптара. Рысы твару выразныя, буйныя, ярка акрэсленыя. Робячы першы накід, мастак не думаў, што на паперы выявіцца такая класічная дасканаласць форм.

Няблага выглядаў і партрэт Пачопкі, выкананы ў дрэве. Ладная галава з шырокім адкрытым ілбом, выразна акрэслены падбародак. Пенснэ, невялікія вусы. Хоць і цяжкаватай напачатку здалася мастаку плоская разьба, усё ж нямое дрэва паддалося яго разцу, набыло жывыя, адухоўленыя формы.

Апошні раз будучы ў Янкі Пачопкі ў Летніках, мастак памог яму намаляваць некалькі дэкаратыўных сценных дываноў. Пісалі іх казеінавымі фарбамі на чорным кужалі і зрэб'і. Такімі заробкамі Янка вырашыў неяк даць рады сабе ў беспрацоўі. Мода на сценныя дываны тут пачынала пашырацца.

Зрабіўшы свой першы дэкаратыўны дыван, мастак і падумаць не мог, што гэтая праца на гады стане ці не асноўным спосабам зарабіць на кавалак хлеба. Далейшай выплаты за графіку з музея з Вільні не было. Улады стасавалі да беларускага музея розныя рэпрэсіўныя меры. Хоць гэта быў не актыўны асяродак нацыянальнай культуры, усё ж ён раздражняў іх.

Люты прайшоў у нездароўі. Па чарзе з братам хварэлі на грып. А потым яшчэ схапіў запаленне вуха. Так што было не да малявання. Адно што аздобіў пару крушынавых кіёў, выразьбаваўшы на іх паненак, апранутых па старой модзе. Ды зрабіў з грушавага дрэва футаральчык для дзённіка, дэкараваўшы яго разьбой у «месяцовым стылі». І яшчэ пару драбнічак: сценку для календара, пару табакерак і пісьмовы прыбор з чорнага дубу.

Не агледзеўся, як прайшла, прамінула вясна.

А калі надышло лета, праца гэта, да якой ставіўся не вельмі сур'ёзна, — дываны — забрала ўвесь час. Знайшоў у ёй не толькі спосаб пражыць, але і большы сэнс. «Ад месяца ліпеня аж да канца верасня аддаўся дзеля развіцця ў народзе мастацкага, эстэтычнага пачуцця і размалёўваю для тых, хто запросіць, на простым вясковым саматканым палатне рознаўзорыстыя дываны з месячнымі пейзажамі на асяродках». Працаваў найбольш у лужкоўскіх ваколіцах, каля Улінскай пушчы. Траплялася ў адной хаце маляваць некалькі дываноў. Кожная з дачок хацела мець свой — і яшчэ лепшы, прыгажэйшы, чым у сясцёр. Звычайна, дзе працаваў, там і сталаваўся. Рад быў прысесці за супольны стол: хоць у чужой, але ў сям'і, — і весялей і смачней. У нядзелі, дні пераходу з вёскі да вёскі, аглядаў ваколіцы, распытваў у старэйшых людзей пра даўнейшыя часы, пра старыя курганы-валатоўкі, сляды старажытных селішчаў. У вёсцы Забалоцце селянін Протас падараваў мастаку «перунову

стралу» — крамнёвую сякерку. Ля возера Язна, на адным з хутароў раздабыў яшчэ адну, даволі вялікую.

Прайшоўся сцежкамі дзяцінства. Пабываў у Кмітах, над рэчкаю Аутай, дзе жыў пры маці і старэйшых братах з васьмі да дванаццаці год. Залатая гара, Чырвонае поле, Мая даліна — назвы гэтыя адзываліся ў сэрцы шчымлівай музыкай. Назбіраў арэхаў і вярнуўся ў Падауты. Тут затрымаўся на пару дзён.

Зацікавіла мастака Замкавая гара, што была непадалёк ад хутара. Прайшоўшыся па схіле гары, знайшоў прыкметы старадаўняга селішча — чарапкі гаршкоў.

У кастрычніку работы паменела. Хоць плату за дываны мастак браў малую (яна фактычна ішла на фарбы ды махорку, якая, дарэчы, у тыя часы ў Польшчы была вельмі дарагая), але не кожны меў і тыя пару злотых, каб ахвяраваць іх на аздабленне сваёй хаты. Заработкаў жа ў дзяўчат — галоўных заказчыкаў — лічы, не было ніякіх. Хіба які-небудзь фунт масла ды пару дзесяткаў яек маці прадасць на рынку, або сама ў жніво пойдзе жаць на панскае поле.

Неяк Драздовіч пабываў у Глыбокім на таргу. Працаваў у Свіле ў знаёмага каваля, напісау партрэты яго бацькоў, і карыстаючыся з таго, што гаспадар выбіраўся канём у мястэчка, паехаў разам з ім. Такога вялікага заезду ў Глыбокім мастак яшчэ не бачыў. Вазамі было запруджана ўсё — пляц, вуліцы і новы рынак на ўскраіне І ўсе хацелі нешта прадаць, збыць, хоць па марнай цане.

З прычыны прымусовай перадышкі (новых заказаў на дываны не было) мастак дазволіў сабе павандраваць па гарадзішчах, сабраць новыя звесткі ды запісаць усё, што даведаўся, аглядаючы іх раней. Апісаў гарадзішча каля возера Пліса. Апісанне зрабіў скрупулёзнае, з дакладнасцю даследчыка-археолага: з падрабязнай характарыстыкай месцазнаходжання, форм, грунту, падачай памераў. Гэтаксама апісаў гарадзішча «Гарадзец», што каля Лужкоў. Распытаў пра гарадзішчанскія ўзвышшы ля вёскі Пілад, ля Новага Пагосту, пра гарадзішчы ў ваколіцах Залесся. Сабраў шмат звестак па археалогіі старажытнай Дзісны.

Пра гарадзішча Гарадзея, што ля Залесся, захавалася прыгожая легенда. Нібыта тут, на гэтай гары, калісь даўно стаяў вялікі драўляны замак. І жыла ў ім красуня княжна. Аднойчы замак яе аблажылі і падпалілі ворагі. Калі сцены заняліся агнём, княжна-прыгажуня на шасцёрцы коней праз рады ворагаў шыбанула з гары ў возера. Кажуць, з таго часу раз у год з возера даносяцца званкі: нескароная княжна раз'язджае па дне яго.

Пры апісанні гарадзішча «Гародня», што каля Залесся, мастак звяртае ўвагу на асаблівасць мясцовасці: «На ўсход ад гарадзішча цягнецца на некалькі вёрст прыгожага выгляду, парослая лесам і кустамі ляшчыны надазёрная горная града з характэрнымі акруглястымі на ёй крынічна-балацянымі лагчынамі, якія прыпамінаюць сваім выглядам некаторыя цыркакратары на Месяцы».

Аднак археалогія археалогіяй, але трэба падумаць і аб надыходзячай зіме: куды падацца, каб у цяпле мець магчымасць папрацаваць кры-

ху і над сваімі задумамі. За лета ні разу не ўзяўся ні за пяро, ні за пэндзаль. Хацеў пайсці на Жацкія Імхі, але раздумаўся: успомніў, што запрашалі ў Спігальшчыну маляваць партрэты. Спыніўся тут на адным з падлесных хутароў. Маляваў з натуры па аднаму партрэту ў дзень. Меў заказы і на дываны. Яшчэ не адгаманіла пара вяселляў, і мастак пабываў на двух, запрошаны дзяўчатамі-выданніцамі, для якіх стараўся маляваць найпрыгажэйшыя дываны. Два тыдні лістапада правёў у Тупічыне, дзе дэкараваў сялянскія хаты каляровымі дыванамі. Скончыў працу ў Тупічыне, нацешыў свае і чужыя вочы яркімі фарбамі, пакінуў малярскія прылады ў засценку Сіпаліна, а сам падауся нацянькі ў Юркава да брата і пляменнікаў, каб разам адсвяткаваць каляды. Дарога бяссснежная. Галалёдзіца. Слізка.

Родных застаў, як заўсёды, у гаспадарчых клопатах. Пляменнікі днём працавалі ў лесе — дровы seклі, а вечарам валілі лямец па заказу. Адсвяткавалі — і зноў падаўся ў Сіпаліна, дзе чакаў ужо, здаецца, апошні ў гэтым годзе заказ на дыван для панны Мальвіны. Папрасіла намаляваць месячную ноч. Аблямаваў букетамі кветак вялікае палатно і скончыў працу ўвечары. Ужо запаліліся зоркі, і Новы год стаяў ля парога. Не рашыўся, нанач гледзячы, выбірацца да родных.

Раніцай адправіўся да цёткі ў Кучыншчыну, а надвячоркам схадзіў да сваякоў у Зароўе: свята на тое і свята, каб яго святкаваць, адведваць родных — так заведзена ў народзе спрадвеку. Ласам Драздовіча даймалі невясёлыя думкі. Хацелася кінуць гэта валацужнае жыццё, вярнуцца да сваіх сталых задум. Як мастака, чалавека яго ўяўленне ўладна забіраў сусвет. Ведаў, што шмат хто глядзіць на яго як на дзівака. Машара нават спрабаваў высмеяць гэта лунанне ў безбярэжжы сусвету. Бачыў у гэтым страту рэальнага грунту, марнатраўства таленту. Але тыя, хто быў найбліжэй, як Янка Пачопка, глядзелі на захапленне Драздовіча космасам спагадна, з надзеяй. Няхай нязвычнае і далёкае, але штось цікавае, значнае адкрываў мастак сабе і людзям на палотнах, прысвечаных космасу. Чуючы Янкаву падтрымку, Драздовіч смялей распінаў на рамцы ў яго хаце чарговае палатно, грунтаваў яго пад новыя прамільгнуўшыя ў яго фантазіі касмічныя вобразы,матывы.

І вось цяпер, каб не мясіць глыбокі снег, папрасіў пляменніка Стася адвезці яго ў Летнікі. Бачылася яму ўжо занебная краіна «Аргентонія». Аргентонія, паводле ўяўлення Драздовіча, — стратэгічна ўмацаваны горад, гняздо месячан нвпадалёку срабрыстага цырку «Капернік». На фоне цёмных маналітаў — асветленая крапасная сцяна, цэлы горад-крэпасць. На пярэднім плане хвалісты, нібы застылая лава, грунт. На ім цёмна-зялёныя з жоўтым, зграбныя невялікія раслінкі, якія скупа ажыўляюць скалісты пейзаж. І вобраз гэтага каменнага гнязда-ўмацавання, і охрысты каларыт карціны сапраўды пераносяць наша ўяўленне ў пустынна-загадкавыя нетры далёкай планеты.

Аднаго дня заглянуў да Янкі Антон Роўда з Верацеі, стаў зманьваць мастака ў сваю вёску: «Дзяўчаты даўно пытаюцца, чаму дзядзька Язэп абмінае наш кут?» Мастак згадзіўся, паехаў. Канец студзеня і ледзь не ўвесь люты маляваў дываны і фіранкі. Для Веркі чырвоныя фіранкі з месяцавай ноччу,

для Марылі — зялёныя з выглядам вясковай вуліцы, Соні — з раніцай над возерам, Любе — з зімовай дарогай, заінелымі бярозамі Лужэцкага тракта. Нарэшце — сінія фіранкі з Гедымінавай гарой на асяродку. Працаваў, як падганяны. Нарэшце надакучыла з дня ў дзень тырчаць каля распятай на сцяне посцілкі. Дранцвеў карак, сэрца пачынала шчымець ды і страўнік ад доўгага стаяння на нагах пачынаў падводзіць. Кінуў-рынуў «перабіранкі», як тут называлі посцілкі, што служылі асновай для дываноў», ды пайшоў у Летнікі. Там пачаў новую рэч з касмічных «візіяў» — карціну «Artapolis», што ў перакладзе з латыні азначала «Горад мастацтва». У ёй увасабляў сваю мару аб будучыні, аб сацыяльным ладзе, дзе будзе прастор чалавечаму духу,творчасці.

Адпачываў нядоўга. У Янкі то збіраліся госці, то ўсе з'язджалі з дому і пакідалі яго за гаспадара. Паліў печку, пераглядаў кнігі ў Янкавай бібліятэцы. Асабліва часта браў у рукі «Жыццё раслін» і доўга разглядаў малюнкі-абразкі Эрнеста Гейнэ. Выбіраўся слухаць самаробнае радыё да суседа. Днём лавілі Маскву, Ленінград, Менск, а вечарам Прагу, Берлін. З Масквы, Ленінграда можна было наслухацца добрай музыкі, спеваў. Тое ж і з Прагі. А з Берліна ляцелі толькі бравурныя маршы, часам чуліся нейкія ўзбуджаныя, з ноткамі істэрызму прамовы.

У пачатку красавіка мастак ужо ў Верацеі, у добрага знаёмага Роўды. Зноў малюе дзяўчатам і маладзіцам дываны з разнастайнымі краявідамі. Ад няма чаго рабіць піша, паводле свайго вызначэння, «карыкатурны абраз», а фактычна вельмі цікавы твор, у якім нейк па-народнаму, па-філасофску асэнсавана сацыяльная барацьба, што тачылася вякамі і цяпер была рэальнасцю Заходняй Беларусі. Палатно «Мужык з панам цягаецца» — не карыкатура. Толькі ў знешнім праяўленні яно выглядае гумарыстычна. А ў сапраўднасці мастак, можа, і сам таго не падаараючы, вельмі тонка, пранікнёна, дасціпна схапіў і ўвасобіў у жывых вобразах адзін з самых вострых сацыяльных вузлоў, адно з самых набалелых пытанняў грамадскага жыцця ў Заходняй Беларусі ды і ўсёй даваеннай Польшчы ў цэлым. «Мужык з панам цягаецца» — твор глыбокай сацыяльнай праўды, вельмі надзённы для свайго часу.

На палатне пажылы беларускі селянін у белай світцы, магерцы, лапцях і яго антыпод — стары, азызлы пан у гарнітуры, белай манішцы, чорных туфлях. Упёршыся нагамі, узяўшыся за вілачнік, яны цягнуць — не могуць перацягнуць адзін другога. Цяганіна гэта, баруханне адбываецца на фоне будынка парламента, які нібы лунае воддаль угары. Палац сейма тут намаляваны невыпадкова. Мастак пісаў сваю карціну, успамінаючы тую зацятую барацьбу, сапраўдную вайну, якую некалькі год таму разгарнулі на сеймавай арэне прадстаўнікі левых сіл — Кампартыі Польшчы, Незалежнай сялянскай партыі і Беларускай грамады — з правымі за зямлю для сялянства. Колькі гарачых, шчырых слоў было сказана ў абарону працоўных. Тарашкевіч нават прыгразіў памешчыкам, што калі яны па-добраму не аддадуць сялянам зямлю, то іх маёнткі пойдуць з дымам пажараў. Але намаганні левых дэпутатаў аказаліся дарэмнымі. Ні пострах, ні пакліканне на маральнае права не падзейнічалі на ўладароў вялізных зямельных абшараў. Яны не

збіраліся дзяліцца зямлёй з тымі, хто на яе меў найбольшае права. Цяганне з панам пакуль што ў Польшчы не прыносіла перамогі селяніну-гаротніку.

— Дык хто ж перацягне? — пыталіся ў мастака людзі, з цікавасцю ўглядаючыся ў яго палатно.

— Прыгледзьцеся добра, — адказваў дзядзька Язэп.— Вунь які рыхлы пан. Не адолець яму цягавітага, вякамі ў працы гартаванага нашага брата-земляроба.

Карціна падабалася. Шмат хто хацеў яе мець у сваёй хаце, і мастак зрабіў некалькі паасобнікаў свайго «Пана з селянінам». Адзін з іх і дачакаўся, што на яго праз нейкіх гадоў сорак натрапілі збіральнікі неагляднай, раскіданай па ўсёй Дзісеншчыне, спадчыны мастака-вандроўніка.

**Радасць і смутак дарог**

Пакінуўшы «Мужыка з панам» Роўдзе ў падзяку за гасціннасць, сяброўскае спрыянне, вясной 1935 года мастак зноў адправіўся ў падарожжа па Дзісеншчыне. Хадзіў ад вёскі да вёскі, ад засценка да засценка, з хутара на хутар, абмінаючы панскія двары і асадніцкія сядзібы. Ішоў з думкай зарабіць на хлеб і крыху аздобіць хату земляроба.

Жнівень і верасень правёў пад Шаркаўшчынай. Меў шмат заказаў у Казінцы. Як заўсёды, карыстаючыся з побыту ў новым месцы, агледзеў старасветчыну — пабываў у Шладскім бары, каля Новага Пагосту, дзе, даўно чуў, ёсць гара Гарадзец. Гарадзішча аказалася невысокае. Перыметр — каля двухсот крокаў. Культурны пласт неглыбокі, з выразнымі слядамі колішняга жыцця, але не такі багаты, як у гарадзішчах пад Лужкамі і ля Залесся.

Характэрная для Шаркаўшчыны раўнінная мясцовасць навявала сум на мастака. Ён прывык да ўзгоркавых даляглядаў. На ўзвышшах, як цяпер заўважыў, адчуваў сябе намнога лепей.

Пасля вандровак пад Новы і Стары Пагост выправіўся ў Германавічы, дзе ў добрых знаёмых мог крыху папрацаваць «для душы». Напісаў некалькі пейзажаў: «Ноч над возерам», «Зіма», «Германаўская роўнядзь», «Зіма ў вёсцы».

У Германавічах затрымаўся нядоўга. Выбраўся ў Летнікі, дзе цяпер стала закватараваў. Та быў рад дабрацца да сваіх «касмічных» палотнаў. Да «Артаполіса» і «Аргентоніі» дадаў «Піянеры зямлі на месяцы» і «Каналы Марса». Схадзіў да брата ў Юркава, забраў фарбы, а па дарозе назад, калі давялося ўброд пераходзіць Лучайку, застудзіў ногі. Пару тыдняў не знаходзіў месца ад болю. Націранне не памагала і, каб не турбаваць гаспадара сваім начным тупаннем, сышоў у Новаполле да Янцэвічаў. Лячыўся,і як усе сяляне спрадвеку — на гарачай чарэні печы і крапівай-жыгучкай. Першы раз моцна задумаўся над тым, што без здароўя, без уласнага кутка можа зусім загінуць. «Захварэць — гэта значыць адкінуць усякую працу і злегчы ў пасцель, але дзе, у чыю і на якія сродкі?»

Акрыяўшы, у канцы верасня мастак пайшоў працаваць у бок Красоўшчыны, на Задзісенне. Ішоў праз Германавічы. А там па даўняй завядзёнцы ў панядзелак — кірмаш. Кінулася ў вочы, што ледзь не на кожным возе ля-

жаць вязанкі лёну сёлетняга збору. Лён урадзіў, і сяляне хочуць выручыцца ім з безграшоўя. Купцы ж скупляюць яго за бесцань. Бачачы гэта, мастак са скрухай думаў, што сяляне не ўмеюць гуртавацца ў кааператыў, каб разам бараніцца ад беднасці, ад розных перакулшчыкаў, ліхвяроў. Тыя ж, як сляпні, роем кружаць над імі.

Радавала, што сяляне-гаротнікі неабыякавыя да свету: шчыра спачуваюць абісінцам, пра якіх першы раз у жыцці прачыталі ў газетах, абураюцца, наракаюць на фашысцкую Італію. Сам мастак моцна верыў у перамогу справядлівага пачатку, праўды ў жыцці. Не раз згадваў пачутае ў народзе «Праўда ў агні не гарыць і ў вадзе не тоне». Нягледзячы на тое, што паняверкі праўды бачыў за сваё жыццё нямала, быў аптымістам, Хоць, па праўдзе кажучы, быць ім у тых умовах трэба было ўмець. Вось і цяпер зусім ужо абнасіўся. Спадзяваўся на Беларускі музей. Яшчэ летась адвёз у Вільню разьбаваныя партрэты Міхася Машары, Антона Грыневіча, Янкі Пачопкі, а пра плату анігадкі. Дырэктар, ён жа і адзіны супрацоўнік музея, жаліўся, што гэты год музей ледзь трывае…

Гады ляцелі, і мастак усё часцей задумваўся над сваім лёсам. Ажаніцца, мець сям'ю, магчы заняцца паважнай мастацкай працай — на гэта ен яшчэ не губляў надзеі. Жартаваў, гуляючы у шахматы з Павалковічам, такім жа старым кавалерам, што трэба ім знайсці такіх жонак, каб у іх былі «хата ды і кароўка ў прыдатак». Часам успаміналася пражытае. Яно і жаніцца як бы не было калі. Маладосць прайшла ў салдатах, не жартачкі — аж сем гадоў адслужыў бацюшку цару. А потым гады поўнай неўсталяванасці, беднасці. Не сказаць, што ніхто яго не любіў, не адказаў узаемнасцю. Яшчэ з часоў службы ў Вольску ляжалі цяпер у дарожным куфэрку пяшчотна-мройлівыя пісьмы сябравай сястры Серафімы. Ужо калі меў пад сорак, у Вільні па-юначы закахаўся ў гімназістку Жэнечку Казлоўскую, гожую, ласкавую, з далікатнай усмешкай. Аднойчы, апрануўшыся як найлепей, пастукаўся да Казлоўскіх.

Маці, аднак, аддаць дачку за чалавека нашмат старэйшага за яе меншую да таго ж фактычна беспрацоўнага не рашылася. Засталася ў Жэні Казлоўскай з таго часу памятка — яе партрэт: гожая дзявочая галоўка з какетліва надзетай шапачкай, на якой эмблема Віленскай беларускай гімназіі. Але і Вільня і «ласкавая ластавачка» Жэня Казлоўская былі цяпер далёка. Амаль дзесяць год сплыло з тых мройна-далёкіх дзён 1926 года. Мастак падсумоўваў сваю працу і дні, сумна жартуючы: «Ад восені аж да самыхдаляд працаваў без пярэрвы, дэкаруючы сялянскія хаты сажонных памераў маляўнічымі дыванамі ў ваколіцы сяла Шкунцікаў. Намаляваў за гэты ўвесь час каля дзесятка іх. Адзін для Ніны чарнявай, адзін для Ніны чырвонай, адзін для Ніны малой («Авулькі»), адзін для Ніны белакурай, адзін для Надзеі цыглястай, два для Надзеі акруглястай, адзін для Ліды («Ай, не дурэй…»). Некалькі з ружовымі залаціста-махрыстымі занавескамі (ручнікамі) і пейзажамі пасяродку, а рэшту з букетамі кветак ды арнаментам. Спадабаліся пашкоўцы. Не таргаваліся, «каб танней». Казалі, «за што людзям, за тое і нам», і ганарар плацілі не тады, калі збіраўся па канцы ўсёй работы ў вёсцы адходзіць, а загадзя, акуратна».

Было перадзім'е. Зямля ўжо выстыла ў першых замаразках. Але снег яшчэ не лёг. Мастак прыкупіў на заробленыя грошы сёе-тое з прысмакаў хвораму брату, прыхапіў невялікі квяцісты дыванчык для Броні Шыпілянкі і падаўся ў Юркава. Брата застаў моцна заняпалым на здароўе. Апухлі ногі, дыхаў зусім цяжка. Хлопцы вазілі дзядзьку на ўколы да хірурга Шырана ў Лужкі. Цяпер нідзе дармовых амбулаторый не было, і трэба было неяк умудрыцца выкраіць злоты на нятаннае лячэнне. Давялося прадаць сканструяваную калісь (Кастусь быў прыроджаным тэхнікам) трохвальцовую мялку і новую, уласнаручнай работы арфу. А надзеі, што лячэнне паможа, было няшмат. Да лекаў патрэбны былі і добрыя ўмовы. А якія там маглі быць людскія ўмовы у маленькай, сырой, на падпорах хаціне бедака-запашніка!

Не мог пажаліцца мастак, што ўсё марным, беспатольным было цяпер у яго жыцці. Праўда, рэдка ўдавалася прарвацца да нечага такога, ад чаго ўвесь загараўся. Але, здаралася, і над дыванам сэрца займалася радасцю, калі з-пад рукі паўставала хараство, суладдзе колераў і звычайна аддаваў на кожны з іх дні тры працы. Спачатку накідваў контурам пейзаж. Яно быццам і нельга было без традыцыйнай экзотыкі. Але адмовіўся ад яе. Пераносіў на палатно штосьці з бачанага наўкол. Яшчэ сёе-тое падказвала ўяўленне. Маляваў старое гарадзішча, замак над возерам, стары млын, бачаны на Дзісенскай дарозе. На іншых яго дыванах дзяды-цымбалісты на лясной паляне самазабыўна ігралі нешта велічна-журботнае, можа, кантату пра адважных і мудрых палачан, пра далёкіх продкаў… Гадоў праз паўсотні, калі збудзецца пакрыёмная думка, надзея мастака («мяне яшчэ пашукаюць») і сцежкамі яго вандровак пройдуць маладыя беларускія жывапісцы і графікі, аднаму з гэтага «племя маладога незнаёмага», здаецца, Міколу Купаве, нагадаюць дываны дзядзькі Драздовіча старажытныя беларускія габелены. Нагадаюць па агульнаму выгляду, каларыту, па духу. І гэта нягледзячы на розласць тэматыкі і вялікую часавую адлегласць, гістарычную далячынь.

У аднастайным жыцці найбольш запаміналіся святы. Звычайныя земляробчыя святы, свае ў кожную пару года. Яны дзялілі клапатлівы год хлебароба на пэўныя адрэзкі часу. Напаўнялі жыццё нейкай духоўнасцю, асвячалі традыцыяй, мудрымі прыгожымі звычаямі, увагай да маці-зямлі, да памяці продкаў.

Найлепей святкавалася мастаку ў Летніках над Лучайкай, у хаце Янкі Пачопкі. Ці то Новы год, ці вялікдзень — спяшаўся мастак у Янкаву хату. Як ні любіў літаратуру Янка, а давялося вярнуцца дадому, да плуга. Не атрымаўся з яго пісьменнік — паклапаціліся паны пра гэта, — затое выйшаў някепскі гаспадар. Хлеб, мазольна запрацаваны, быў на стале. Было штось і да хлеба. У садзе стараліся, руплівіся пчолы. Недарэчы было б, каб яны не вадзіліся ў аўтара манаграфіі «Пчолы», выдадзенай у Вільні ў 1923 годзе.

Сёлета Янка — атэіст — усхадзіўся святкаваць Асяніны — асеннія дзяды. «Каго-каго, — прыгаворваў, — а дзядоў дык трэба памянуць». Чакалі Звінячага (так звалі між сабой паэта Машару), а той штось не ехаў. Памянулі дзядоў без яго. Захмялелы гаспадар сыпаў жартамі і досціпамі ўвесь вечар. Згадалі бацькоў, мінулае.

А Новы, 1936 год сустракалі ўжо разам. Паэт прыехаў з жонкаю. Чыталі старыя рукапісы Янкі, знойдзеныя на гарышчы і пісаныя ў часы Грамады ў Вільні. Міхась на гэты раз не прыдзіраўся да мастака за яго захапленне космасам, не кпіў з яго касмічных фантазій. Панаваў агульны лагодны настрой.

Але святы хутка канчаліся. Цяг жыцця ў ас ноўным складалі будзённыя дні. Даводзілася перабірацца са сваімі мастакоўскімі прыладамі Папкоў у Баяршчыну. Потым зноў праз Дзісёнку ў Папкі, а далей — у Пагары, а там на Ліпаўскія і Гуркаўскія хутары і так аж да самай вясны. А ў Летніках ужо Янка непакоіўся, будучы ў Табалах у Міхася, ці хоць жывы дзе Язэп, ці не ўсунуўся часам у Дзісёнку пад лёд. Драздовіч між тым давяраў дзённіку запаветнае, жаліўся, як сябру, брату: «Шчасліў той, хто мае часу на вольную творчую працу. Хто пры гэтым здароў і без клопату аб заўтрашнім дні. Хто не маець патрэбы прадаваць свой час на грош дзеля хлеба». Мастак паказаўся ў Летнікі на святы, каб сябры маглі перш-наперш упэўніцца, што ён жывы і здаровы. Збіраліся з Янкам на другі дзень адведаць паэта ў Таболах, але пад перазвон жаўруковых званочкаў у палях дайшлі толькі да Шкуньцікаў ды вярнуліся дахаты.

Апошнім часам мастак зноў узяўся за паэтычнае пяро. Напісаў верш пра долю старога салдата, складаў паэму «Трызна мінуўшчыны» пра старажытную Полаччыну з яе вечам, славаю і ўпадкам. Агледзіны гарадзішчаў, іх вывучэнне абуджалі творчае ўяўленне. І радкі літаратурных твораў складаліся, запісваліся сярод дзённікавых дамет. Як гэта «Водгулле вечавога звону»:

Сабірайся народ,
Гууў-га!
На ізбор, на сход,
Гууў-га!
Будзем радзіць, судзіць,
Гууў-га!
Як свой край бараніць,
Гууў-га!
Бо ўжо вораг ідзець,
Гууў-га!
Смерць і голад нясець.
Гууў-га!

«Водгулле вечаровага звону», як і «Стары сал-дат», былі пасланы ў рэдакцыю часопіса «Калоссе», але адказу не было. Думаў, што, можа, рукапісы загінулі дзесь на пошце, потым з горыччу: забываюць…

Моцна не крыўдаваў. Але калі Максім Танк прыслаў адказ з крытыкай паэмы «Трызна мінуўшчыны» за апісальнасць, не ўтрымаўся, напісаў вялікі ліст «Майму крытыку» і да яго далучыў некалькі з'едлівых шаржаў на паэта.

Дзе б ні працаваў мастак, дзе б ні вандраваў, пры кожным зручным выпадку, найчасцей у свята, стараўся заглянуць у Юркава, даведацца аб

здароўі найстарэйшага свайго брата. Гэтым разам, перад тым як сходзіць у Юркава, выправіўся спачатку ў Глыбокае. Трэба было крыху паднавіць адзенне, каб старэйшаму не сорамна было перад суседзямі за свайго брата-валачэнніка.

З Канстантам было блага. На зіму крыху нібы паздаравеў, а ўвясну зноў паапухалі ногі, пухліна пачала падыходзіць аж да грудзей. Зайшлі і сякія-такія сямейныя змены ў братавай хаце. Найстарэйшы пляменнік Уладзіслаў «прапаў жывым» — пайшоў у прымы да Уладкі Шыпілянкі.

Толькі вярнуўся ў Летнікі, ажно там трывога. У суседняй вёсцы Бруйкі пажар. Пабеглі з Янкам і яго сынам Юрасём на пажар. Тым часам яго ўжо прытушылі. Але паспелі згарэць дзве хаты, самых найбяднейшых. Эх ты, доля бедакоў!..

Зноў праца кліча, як і летась, мастака пад Шаркаўшчыну, спачатку на хутары да Кляноўскіх. «Прыгожыя мясцінкі ды без вады», — уздыхае мастак па рэчцы свайго маленства Мнюце, ласкава называючы яе Мнюціцай. Тутэйшую рэчку Янку і блізка не можа параўнаць з крыштальнымі водамі Мнюты.

На Сёмуху мастак пераплывае Дзісёнку і ідзе ў Таболы да Машары. Там, нарэшце, даведваецца, што «Калоссе» ў друкаванні яго « Водгул ля вечавога звону» адмовіла. Вяртаецца ў Летнікі, куды назаўтра прыязджае на веласіпедзе і паэт. Пад канец свята зноў заглянуў да брата, з радасцю даведаўся, што яму лепей. Хацеў праз Лужкі, Летнікі махнуць у Азэту, дзе чакала распачатая праца, але перадумаў і праз пару дзён цераз Плавінскія лясы падаўся ў Сталіцу, на гадзінку спыняючыся ў Ляскове. У Сталіцы нахлынулі на мастака ўспаміны радасныя і сумныя — тут на пачатку 20-х гадоў ён стварыў беларускую школу.

Праз два тыдні мастак нарэшце выбраўся ў Азэту. Затрымала падарожжа на лодцы па Дзісёнцы ад Навාполля да Таболаў. Зрабілі яго з Мар’янам Янцэвічам. Уражанне ад вандроўкі было незвычайнае.

«А ўсё ж такі наша Дзісёнка — адна з найпрыгажэйшых рэк Беларусі, — робіць вывад мастак.— Якія пекныя строма-высокія берагі. Так і здаецца, плывучы ёю, што ты плывеш…ракою нейкай невядомай горнай краіны, дзе берагі ракі месцамі, што высокія сцены муроў». Карыстаючыся з таго, што некаторыя госці ехалі з Азэты ў Ляскова, Драздовіч адпраўляе з імі свае мастакоўскія прылады, а сам ідзе пехатой. Ажно тры дні. Там, у Ляскове, на пачатку лета 1936 года і было створана адно з самых радасных палотнаў, так і названае — «Ляскова». Мастак адлюстраваў сялянскую сядзібу, і столькі душы, святла аддаў выяве яе, што ўзноўленае на палатне ўспрымаецца як запаветны куток, нешта вельмі роднае і дарагое кожнаму. Уласцівая мастаку мяккасць таноў пануе ў гэтым пейзажы.

Цёпла адсвечваюць залацістыя бярвенні дома. Далікатным светла-зялёным, здаецца, празрысты лісцем, якое бывае на самым пачатку лета, ахінуліся дрэвы. Свет малады, зялёны — так і чакаеш зараз аднекуль пачуецца куванне зязюлі». Ззяюць на сонцы ліштвы акон, невялікі ў белай ажурнай разьбе ганак з прыстрэшкам. Зелянее і цвіце агарод перад до-

мам. Жаўцее непацямнелымі сценамі свіран, што стаіць непадалёк ад хаты. І над усім гэтым ціхім мірным драўляным светам — блакіт неба з белымі ды папяловага адцення аблачынамі. У сваіх дзённікавых запісах Драздовіч заўважае, што ў Ляскове пісаў сцянныя дываны ажно пяці сёстрам Балошкам. Няцяжка здагадацца, што адлюстраваў мастак у сваім «Ляскове» сядзібу Балошкі. Адлюстраваў з усёй шчырасцю сваёй натуры, гэтак жа паэтычна і светла, як паэтычны і светлы гэты куток роднай зямлі. На заканчэнне размовы пра Ляскова — абразок са слоў самога мастака. Ён добра перадае атмасферу, удакладняе факты. «Пятніца, 26/VI. Заканчваю тут ужо чацвёртую працу сваю для сям'і Балошак з пяццю паненкамі. І насценны дыван на падрамніку — для старэйшай, што збіраецца выйсці замуж аж пад Шаркаўшчыну… Два пейзажы (выгляд іхняй сялібы і «Зіма») для ўсёй сям'і і малодшых, і насценнік для падстаршай, Жэні. Апошні, як на зайздрасць старэйшай, Ганьцы, з двума букетамі паабапал гатычнага акна з начным відам на вадзяны млын выйшаў зусім як на дзіва…

…Жарты, спеў і смехі, — вясёлы народ гэтыя маладыя. З імі і ты маладзееш».

Лета бралася ў сілу. Толькі яно не радавада людзей тут, у Дзісенскім краі. Шмат дзе ад самай вясны не было дажджу. Зямля высахла, патрэскалася, звінела пад нагамі. Гарэлі, дымелі імхі. На папарах ні травінкі. Павысыхалі сажалкі і ручаі гароды пуставалі. На яблынах завязь, не паспеўшы развіцца, абсыпалася. У лесе таксама няўрод. Паказаліся суніцы — дробныя, як канапелькі. Ільняное насенне спяклося ў раллі. Адно жыта сіратліва калыхалася на загонах. Неяк давала сабе рады, беручы крыху вільгаці з расы і ранішніх туманаў. На яго і было крыху надзеі.

«Ці прырода ў гневе на нас, ці сонца занадта наш край улюбіла? Сухата, пеката небывалыя. Як быццам у нейкай афрыканскай пустыні», — пісаў мастак 23 чэрвеня 1936 года ў дзённіку, бядуючы разам з усімі, чакаючы голад, няшчасце, што насоўваліся на край.

У Сталіцы над Дзісёнкай, куды перабраўся Драздовіч, тое ж самае, што і ў Ляскове: суш, сонца паліць без літасці. Зямля зацвярдзела, патрэскалася. Ярына ўзнялася не вышэй, як на пядзю. Лясное птаства пачула бяду, замоўкла, не азавецца ні спевам, ні крыкам. У мастака часам ападалі рукі за працай — «што будзе з людзьмі, свойскай і лясной жывёлай? »

Аднойчы позна, уклаўшыся спаць, ён пачаў шаптаць як малітву: «Прырода, зжалься!..— вялікая, ты і багатая. У цябе цэлыя моры-акіяны вады… Чаму не пашлеш ты хмары на нашу засохлую краіну, не палееш яе дажджом?..»

А праз дзень, пад вечар, малюючы ў французёвым гумне, з радасцю заўважыў, што з боку, дзе ляжыць возера Князь, ціха ўзышла на небе хмара, лінуў доўгачаканы дождж. Міжволі падумаў пра свой зварот да прыроды, усміхнуўся: «Нікому не прызнаешся: смяяцца будуць».

Скончыў работу ў Сталіцы, зноў павандраваў далей. У Германавічах, на Цярэшкаўскай даліне, заглянуў на магілу маці. А потым думаў са скрухай аб тым, што не можа разжыцца на нейкіх 25 залатовак, каб выкупіць у Путраніцы пліту на матчыну магілку. Выканаў заказ адной дамы, якую

ведаў калісь дзяўчынкай, адправіў свае рэчы канём праз знаёмых у засценак Рэчкі, а сам выбраўся кружной дарогай праз Наваполле, Шкунцікі, Ігуменава, Шчамялі.

Пражыўшы пад пяцьдзесят, паспеў заўважыць, як шмат што на вачах змянілася ў жыцці селяніна, у яго працы, побыце. У сваіх запісах этнаграфічнага характару прывёў нямала цікавых звестак аб эвалюцыі жылля, гаспадарчых прылад, збруі, рознага роду павозак, санак на Дзісеншчыне. Пры гэтым параўноўваў усе рэчы з аналагічннымі ў суседзяў і далейшых народаў. Змястоўнымі аказаіся таксама нататкі пра ежу дзісенцаў, пра гаспадарчую іх будоўлю.

Ліпень быў на зыходзе, а сонца ўсё паліла, як у Сахары. «Колер неба днём, як на месяцы, стальны, не сіні, а папялясты», — заўважаў мастак. Толькі на нізінах, зялёных лужках, было не так душна. З травы, здаецца, застаўся адзін падарож-нік. Пад ім на скалу высахлы дол, сонца «пячэць яго бязлітасна, яго топчуць. Ён увесь у пыле, без кроплі вады, а зелянее. Толькі пазайздросціць такой трываласці».

Працавалася мастаку ў Рэчках не згорш. Пачаў у Пугавак з невялікіх пейзажаў. Асабліва з настроем пісаўся адзін з натуры. Некалі дрэвам забіла аднаго з братоў Пугавак, бацьку гаспадара. На тым месцы паставілі капліцу. Цяпер пасівелая ашалёўка гэтага невялічкага помніка земляробу асацыіравалася ў думках і з пражытым жыццём, з няздзейсненымі марамі і з нечым зажурана-вечным.

Праз пару дзён Драздовіч пераходзіў на працу да новага гаспадара і скарыстаў, каб ахвяраваць паўдня на новы паход. На гэты раз захацелася агледзець возера Краснае. Як зазвычай, паншоу пехатой, дзе дарогай, а дзе і нацянькі. Калісь, гадоў дваццаць таму, прыходзіў сюды з Красоўшчыны, каб пасядзець, паглядзець, памарыць, паслухаць плюскат крыштальных хваляў. Здавалася тады, быццам знаходзіўся ў нейкай невядомай краіне, ля берага нейкага нязнанага мора…

«Край наш далёкі ад сапраўднага мора, дык чаму ж не быць возеру нашым морам?» — думалася мастаку цяпер. Вада ў Красным была крышталёва-празрыстай. Колер яе — ад дна. У тым баку, што пад імшарай, вада чорная ад тарфянога ложа пад ёй. На жоўтых пясках і жвірах з каменнем — жаўтлява-чырвоная. І чым глыбей, тым вада чырванейшая. Відаць, таму возера і атрымала назву «Краснае». А можа, таму, што вельмі прыгожае.

У бліжэйшае свята, так званы Спас (казалі: «Спас — усяму час»), выправіўся ў Германавічы. Сустрэў там шмат знаёмых і аднаго даўнейшага суседа з Красоўшчыны, з якім не бачыліся гадоў дваццаць.

З радасцю заўважыў на германавіцкім фэсце шмат праваслаўных з Шкунцікаў. Раней ксяндзы ды папы адчужалі католікаў ад праваслаўных і наадварот. А людзі ж тут нягледзячы на розніцу рэлігій гамоняць адной мовай, складаюць адзін і той самы народ. Цяпер, прыкмеціў мастак, людзі ўжо не зважалі на тое, хто каталік, а хто праваслаўны.

Радавала мастака і тое, што народ цягнуўся да лепшага быту, дбаў пра свой знешні выгляд, пастаянна развіваў, паглыбляў у сабе пачуццё прыгожага.

Кіруючыся з Германавіч у Летнікі, каб потым ізноў вярнуцца ў Рэчкі, мастак не абмінуў Наваполля. Мар'ян Янцэвіч расказаў, што надоечы на кірмаш з Вільні прыязджаў Шутовіч, рэдактар «Калосся», і Міхась Машара. Быццам меліся не мінуць і Летнікі, але «хіба дзеля гаспадара», крыўдна падумалася Драздовічу. Мабыць, забываюць яго там, у сталіцы краю. Нават найбліжэйшы сябра Сергіевіч і той маўчыць як вады ў рот набраўшы, не адказвае на лісты. Зрэдку толькі стары Паўловіч акажацца, папросіць малюнкаў да сваіх падручнікаў ды Паўлюкоўскі выскачыць з якой-небудзь нечаканай думкай, напрыклад, сабраць народнае тлумачэнне сноў — хоча скласці «Беларускі соннік», лепшы, чым Антона Васілеўскага. Але на Сергіевіча крыўдзіўся дарма. Зноў лятаў недзе па заработках. Быў аж на Валыні. Вярнуўся ў Вільню і даў знаць аб сабе.

Машара прыблізна ў гэты час (11 лістапада 1936 года) пісаў Максіму Танку:

«Жыву ў такіх праклятых матэрыяльных абставінах, што ты і ўявіць сабе не можаш. Атрымліваю якіх 20 злотых у месяц і жыву на іх з сям'ёй. Уласнага грунту амаль не маю (паўгектара). Крыху выдужваў, але ў гэтым годзе была такая засуха, што ўсё загінула, абсалютна ўсё на полі. Як буду жыць далей, не ведаю. Думаў вясной выэміграваць кудысь — не пусцілі.

Што цяпер раблю? Над чым працую? Капаю бульбу, важу гной, ару і хутка буду прымацца за пасеў жыта.

Аб літаратурнай працы няма калі нават і падумаць. Калі пачнуцца дажджы і голад не выганіць кудысь, то пачну працаваць над новым зборнікам дробных вершаў».

Для Драздовіча наступіла цяжкая восень. Людзі, прыгнечаныя недародам, меней думалі пра хараство, аздобу. Радзей клікалі мастака. Але і сярод людской бяды яго, Драздовіча, гора, страта добрага, любага брата, не было лягчэйшым. Добра, што пляменнікі паспелі падняцца. Уладзіслаў жыў сваёй сям'ёй. Station? 

Беглі дні, тыдні, ішлі месяцы. Наступіў 1937 год. Мастак-вандроўнік часам вяртаўся на старыя сцежкі, пракладваў новыя. І год ад году ўсё далей, глыбей удаваўся ў розныя куткі Дзісеншчыны, выходзіў за яе межы.

Зімою выслізганай саннай дарогай завітаў у пушчу Цытавізну, пад Галубічы. Напісаў партрэт Вайноўскага, свёкра пляменніцы Яніны, спакойнага старога гаспадара. А ў Азярках — партрэт Янінінага бацькі — Драздовіча, у абліччы якога было нямала і ад іх, Нарцызавых.

У пачатку вясны перакачаваў у Зароўе «на дываны», потым пісаў «цадзілкі» (так дзіўнавата называлі тут насценнікі) у Навінах. Жыў у швачкі, у якой была цэлая грамадка вучаніц. У іх кампаніі мастаку працавалася весела, хоць і не вельмі спорна. Вялікдзень зноў, як бывала, святкаваў у Янкі ў Летніках. На гэты раз ладнай такі грамадой, у якой быў і Машара.

У маі добра натрапілася: адвёў душу на пейзажах. Запрошаны быў на хутар Плавінскіх, пад Бушавічы. Гаспадары не скупыя, талковыя. Меу час на выкананне заказаў і на работу для сябе. Свет быў зялёна-блакітны. На раніцы лес аж стагнаў ад птушынага шчэбету. Цвілі сады. У ясным небе снавалі ластаўкі. Далікатна зелянелі бярозы, серабрыстым адлівалі лазовыя кусты, трапяталі пад лёгкім павевам ветру белыя галоўкі кураслепу. Аднаго дня ўлучыў часіну, каб па крынічна-дрыгвяністым лузе прабрацца да яшчэ аднаго, асо нага ім гарадзішча.

Канец вясны і пачатак лета мастак «цярпеў беспрацоўе» — пасля Мамонаўкі, у якой затр маўся тыдні на два, не было новых заказаў. Без работы на адным месцы доўга не пасядзіш. Выправіўся зноў як і пазалетась, на вытокі Аўты. Заглянуў у Падаўты, Баброўшчыну. У Падаўтах намаляваў пейзаж «Лясное азярко» для зяця далёкай сваячкі па брату Канстанціну, даволі цікавага маладога хлопца, дываны для дзяўчат Гурчанкі і Забароўшчынкі.

Адкрыццём года для Драздовіча была далёкая, вялікая, як на Дзісеншчыне, вёска Крывічы. Налічвала яна семдзесят хат. Стаяла на высокай жвірыстай гары. Пасярод знаходзіўся ўзгорысты стары могільнік, а край яго — пляц, месца збору усёй вёскі. Зямля тут навокал — больш жвір ды пясок. На такой не разжывешся, заможным не станеш. Крывічанцы ж, дарма што беднаватыя (рэдка хто хлеба не дакупляў)— народ прыветлівы, гасцінны.

Заказаў у мастака было, як нідзе. Затрымаўся аж на паўтара месяца. Меў час прыглёдзецца і да ваколіц і да быту крывічан, прыслухацца да іх гаворкі. Сяло, відаць, было старадаўняе. Непадалёк знаходзіўся стары закінуты могілыгік, на якім язычніцкія пахаванні-валатоўкі стаялі ў суседстве з пазнейшымі магіламі хрысціян. Не ўтрываў, зазірнуў у кніжку гісторыка Сапунова і там знайшоў пацвярджэнне сваёй здагадцы. Крывічы былі вядомы ўжо ў XVI стагодздзі. Дакументы сведчылі, што належалі яны полацкім баярам Петухам, якія адраблялі ў год дванаццаць талок.

Гаворка ў крывічанскіх жанок вельмі прыгожая, лагодная. Чулася ў ёй плаўнасць, пявучасць сардэчнасць. Валасы ў дзяўчат, маладых жанчын светлыя, як лён, з лёгкім залаціста-саломенным адценнем. Мець бы час, поўны набор фарбаў і пісаць гэтыя гожыя светлыя галоўкі, зычлівыя абліччы, пакінуць на палатне на гады, назаўсёды гэту мяккасць, красу, гэты шчыры свет…

…Не, не згубіўся ў сваёй азёрна-лясной Дзісеншчыне мастак. Ён добра помніў старую Вільню. Ды і яна не зусім забыла яго. Тут яго сустракалі і прывячалі як чалавека, які нямала зрабіў для беларускага мастацтва, культуры. Казалі, што тут не хапае яго. Ён мог у гэтым пераканацца і сам, калі ўзяў у рукі некаторыя выданні. У.Паўлюкоўскі, шчыра рады сустрэчы, вінавата казаў:

— Бачыш, ты там недзе сабе вандруеш. А тут кнігі выходзяць. Трэба нейкі людскі выгляд ім надаць. А хто гэта мае рабіць? Ты сышоў у сваю Дзісеншчыну, Васілеўскі ды Семашкевіч падаліся ў Савецкі Саюз. Горыд сабе недзе лятае. Хоць мне бярыся. І мусіў узяцца. Сёе-тое зрабіў для

кніжак Паўловіча, для «Шляху моладзі», але ж ведаю, што гэта недасканала. Я ж навукі мастацтва не спасцігаў. Намагаюся, падглядаючы, як іншыя робяць. Ды ў мяне свой клопат. Хачу скласці кніжку-другую дзеля асветы народу…

Трэпка запрасіў да сябе на кватэру. Часта распытваў пра напісанае ды намаляванае, цікавіўся планамі. У музеі яму ўручылі дзесятак залатовак за разьбаваныя і аздобленыя мастаком кіі. Ажно дзесяць іх купіў пісьменнік Мельхіёр Ваньковіч. Пэўна, дзеля сантыменту да сваёй колішняй бацькаўшчыны.

А Пятра Сергіевіча не застаў. Пагаладаўшы зімой, той таксама сыходзіў на лета кудысь. Найчасцей выбіраўся на сваю Браслаўшчыну. Там шчыраваў над паперай — маляваў сваіх улюбё-ных вясковых дзядзькоў, кабет, хлопцаў. Сяк-так перакідваўся пры маці, то ягадамі, то грыбамі падтрымліваў дух у целе.

Затое спаткаў на вуліцы Максіма Танка. Па тым, як бліснуў сваёй усмешкай, па моцным поціску рукі зразумеў, што за «адказ крытыку» і за карыкатуры на сябе не пакрыўдзіўся. Разам паблукалі па горадзе. Паказаў паэту дом, дзе да апошняга змагаліся Віленскія камунары. Танк жа пасля сустрэчы запісаў у дзённіку (7 мая 1938 года): «Гэта надзвычай арыгінальны, цікавы і таленавіты чалавек, які ў нашых умовах жыцця бадзяецца, не знаходзячы сабе месца. Арыгінальныя яго карціны, напісаныя гу ашам, акварэльнымі і маслянымі фарбамі на гістарычныя і касмічныя тэмы. Яны не толькі здзіўляюць новым бачаннем свету, але і прымушаюць задумацца над яшча неразгаданым, што акружае чалавека. Замалёўкі ж яго народных тканін, дываноў, паясоў, зробленыя ў час яго бясконцых вандраванняў на Заходняй Беларусі і падараваныя музею, — рэдкі скарб, якому некалі і цаны не будзе».

Але прайшоў дзень, прайшоў другі, трэці — мастак пачаў збірацца ў дарогу. Было ясна, што нечага пэўнага, што дало б хлеб і дах над галавой, тут не знойдзеш. Хадзіць так, як Паўлюкоўскі з вядзерцамі і пэндзлем, бяліць мяшчанам сцены, фарбаваць платы, каб мець нейкі злоты на пражыццё, ці, як Макар Краўцоў, раз у тыдзень на правах беспрацоўнага дзе-небудзь спаўняць канторскую падзёншчыну? Не, такое жыццё не па яго натуры.

Кідацца ж з зуба на барану, як гадоў шэсць-сем таму назад? Перабівацца выпадковым заробкам, мусіць, ужо не будзе змогі. Надзеі на ўспамогу ніадкуль: ні ад музея, ні ад рэдакцый. І партрэты маляваць хоць з каго, абы плацілі, як іншы брат-мастак, ён не будзе. Драздовіч павінен рабіць свае, адзіна сваё. Прыйдуць лепшыя часы. Быць таго не можа. Ён яшчэ дабярэцца да сваіх запаветных задум. Беларуская гісторыя яшчэ загаворыць да людзей вобразамі яго абразкоў, малюнкаў, разгорнутых кампазіцый.

1 кастрычніка 1938 года Драздовіч сустракае сваё пяцідзесяцігоддзе ў маленькай хатцы на Пушчавіках, непадалёк Лужкоў у сям'і пляменніка Уладзіслава.

Міжволі нахлынулі ўспаміны, думкі аб перажытым. Усё жыццё прайшло перад вачыма і шмат чаго ў ім так яскрава, як бы ўчора было. Мастак рашыў

запісаць сёе-тое з гэтых агледзін мінулага. Не дзеля нашчадкаў (наўрад ці хто калі дабярэцца да гэтых запісаў, а калі і дабярэцца, то ці будзе яму цікава), а проста меў прыемнасць за гэтым заняткам спатоліць душу, нанава пера-жыць пражытае. З-пад пяра выходзілі аўтабіяграфічныя нататкі. Мастак глядзеў на пражытае сабой, народам вачыма сталага чалавека, які не мала паспытаў у жыцці.

Аднак і сёння заметкі мастака чытаюцца з цікавасцю. На жаль, маленства ды юнацтва, гады навучання Драздовіч у сваіх мемуарных нататках абмінуў. Пачаў з 1910 года, з часу, калі быў забраны ў армію.

На 1918 годзе запісы абрываюцца. Не захаваліся. Шмат рукапісаў мастака згарэла на хутары пад Юркавам у час вайны, нямецкай блакады. Сёетое, што захоўвалася на руках у родных, блізкіх мастака, загінула пасля вайны. «Казаў жонцы, прыхіні дзе-небудзь, можа, людзям прыдасца, можа, нешта цікавае, але, ведаеце, дзеці во аж трое… А было шмат чаго: і малюнкаў і тоўстых сшыткаў, спісаных яго рукой. Не зберагглі», — шчыра прызнаваўся ў 1963 годзе збіральніку пляменнік Драздовіча Янак Бельскі.

У студзені 1939 года мастак сфатаграфаваўся на фоне аднаго са сваіх насценных дываноў. У час працы. Стройны, падцягнуты, ні іскрынкі сівізны ў валасах. У белай кужэльнай сарочцы. Дужыя рукі працавітага чалавека. Позірк скіраваны ўдалячынь. У ім, як на многіх іншых фотаздымках мастака, — выраз чакання. Гэта толькі на першы погляд магло здацца, што мастак прымірыўся з жыццём, якое ўжо шэсць гадоў цягнулася без змен. Яго не прыніжала тое, што ён ходзіць ад вёскі да вёскі, дзеля кавалка хлеба ўпрыгожвае сялянскія хаты. Часам не без гордасці думаў, што няма на шырокай Дзісеншчыне ваколіцы, вёскі, засценка, дзе б не было яго прац: дываноў, партрэтаў, пейзажаў, разьбаваных рэчаў. Так і пісаў у лістах: «Хаджу паміж Мнютай і Аутай па хатах, малюючы людзям… на сваёй радзіме… даугі ёй аддаю».

**Сонечны верасень**

Марыў, аднак, аддаваць доўг не толькі мясцінам, дзе нарадзіўся, узрос, але і ўсёй роднай зямлі. Верасень 1939 года даў надзеі яго моцнае крылле — Савецкая ўлада надзяляла сялян зямлёй, адкрывала бальніцы, культурна-асветныя ўстановы, школы. Асабліва многа — школ. Векапомны верасень стаў этапам і ў жыцці мастака. Праз дзевяць год беспрацоўя ён скідае свой сіні хвартух, у якім дзень пры дні стаяў каля напятых на сцяне палотнаў пад дываны, робіцца педагогам. Працуе выкладчыкам малявання, батанікі і астраноміі ў Лужэцкай школе. З уздымам узяўся за працу. Раніцай спяшаўся ў школу, а пасля абеду браўся за фарбы, пэндзаль. Пісаў карціну «Пісьмо дахаты». Стары журналіст, сябар Змітрака Бядулі, В.Сосенскі бачыў твор, калі мастак канчаў работу над ім. Карціна здалася яму жыццесцвярджальнай і светлай. Мастак стварыў вобраз маладога чырвонаармейца, удзельніка вызваленчага паходу ў Заходнюю Беларусь. Лежачы на ложку пры акне, ранены баец дыктаваў медыцынскай сястры ліст дахаты. Нягледзячы на цень пакут ад ран, у чырвонаармейца светлы, шчаслівы твар: у лісце родным ён

расказвае, з якой нябачнай радасцю, уздымам сустракалі працоўныя Заходняй Беларусі Чырвоную Армію.

У 1940—1941 гадах Драздовіч малюе акварэлі «Юны будаўнічы», «У свет па навуку…». У 1940 годзе распачынае свае жывапісныя серыі на тэмы айчыннай гісторыі, закончыць якія давялося ўжо па вайне. Пры звароце да гісторыі роднага народа першыя думкі Драздовіча былі пра Скарыну, першадрукара, асветніка, гуманіста, мысляра, патрыёта.

Мастак стварыў цэлую жывапісную скарыніяну, прэлюдыяй да якой стаў партрэт асветніка, напісаны ім у 20-я гады. Тэматычную серыю, прысвечаную жыццю і дзейнасці выдатнага суайчынніка, у 1940 годзе Драздовіч пачаў карцінай «Друкарня Францыска Скарыны ў Вільні ў 1525 годзе». На пярэднім плане бачым маладога асветніка. У правай руцэ яго пяро, у левай кніга. Нейкі ўвесь ён светла ўзняты, акрылены. Апрануты Скарына ў куртку, з-пад якой відаць трохкутнік светлай сарочкі з гальштукам. На плечы вучонага накінуты сіні плашч з крылаткай. Нібыта ён толькі прыйшоў або збіраецца адысці. Але не кая думка прымусіла ўмомант узяцца за пяро» штось запісаць. Большую частку палатна займаюць выявы друкарні, памочнікаў першадрукара. Скарынінская друкарня размешчана ў даволі прасторным памяшканні са скляпеністай столлю. Адзін малады светлавалосы друкар працуе за станком. Другі робіць адбітак валікам. Справа пажылы чалавек вычытвае (мы сказалі б зараз — гранкі) першы адбітак. Злева, перад акном, працуе лысы барадаты мужчына, магчыма, мастак-гравёр. Злева, за спіной у Скарыны, уздоўж сцяны аж да акна, дзе завінуўся за працай гравёр, — стэлажы з кнігамі.

Тэматычна звязаны карціны «Развітанне з Полацкам», або «У свет па навуку» і «Са свету з навукай». Абедзве напісаны ў 1944 годзе. На першай паказаны Скарына-юнак. Светлым летнім ранкам стаіць ён на дарозе, што пралегла па высокім беразе Заходняй Дзвіны. На баку ў яго — берасцяная кайстра, ля ног — просты рэчавы мяшок. Перад ім, за ракой, спавітай ружовым туманам, родны горад, які ён толькі што пакінуў. Ружаваты ранішні туман сцелецца над ракой. Справа ад Скарыны высіцца прыгожы сасновы бор. У аблічча юнака, які выправіўся ў далёкую дарогу, мяккасць, узрушанасць. Здаецца, зараз ён схіліцца ў паклоне роднаму гораду і рушыць у свет. Выгляд у юнака-Скарыны просты, сціплы.

Добрай выяўленчай пераканаўчасці мастак дасягнуў у карціне «Са свету з навукай». Тут ён паказаў Скарыну пасля вучобы ў Кракаўскім універсітэце, бліскучай абароны на званне доктара «лекарскіх і сямі вызвольных навук» у Падуі, пасля выдавецка-асветніцкай працы ў Празе і Вільні. На палатне Драздовіча пасталелы Скарына імкліва крочыць дарогай на фоне асенніх палёў, далёкай сінечы лесу на гарызонце. Апрануты Скарына ў чорны еўрапейскі касцюм. Праз плячо ў яго скураная сумка, у руках дарожны кій. Ён далёка апярэдзіў фурманку, што везла яго. Асветнік спяшаецца на спатканне з роднымі мясцінамі.

Каларыт карціны стрыманы, нават скупы. Асенняя выстыласць палёў, дарогі толькі падкрэсліваюць засяроджанасць, нават заклапочанасць

асветніка. Можа, сэрца яго непакоіць думка: ці прыбавіць праца яго святла, шчасця простым людзям гэтай зямлі, што яго нарадзіла, дзеля дабра якой ён аддасць усе свае душэўныя сілы, найлепшыя намеры.

Карціна Драздовіча «Набыўцы кніг у друкарні Францыска Скарыны» — імкненне мастака паказаць прадстаўнікоў розных слаёў гараджан у адносінах да плёну працы асветніка. На палатне адлюстравана некалькі цікавых вобразаў. Сярод іх адзін жаночы. Са Скарынай гутарыць гожая гараджанка, якая прыйшла купіць кнігу і пачуц ад асветніка адказ на нейкія пытанні.

У вобразе Скарыны ў гэтай карціне, як і ў іншых палотнах Драздовіча, выразна чытаюцца рысы зычлівасці, дабрыні, светлага розуму. Сюжэтамі сваіх твораў, іх зместам мастак падкрэсліваў высокую гуманістычную сутнасць дзейнасці Скарыны. У суровы ваенны час, калі Драздовіч думаў над жыццём і асветніцкім подзвігам Францыска Скарыны, ён адштурхоўваўся ад жорсткай акупацыйнай рэчаіснасці, у якой знішчаліся ўсе чалавечыя ўстоі: справядлівасць, дабро, сумленнасць, розум. Каваны бот прышэльцаў з-над Рэйна растаптаў усе правы чалавека.

**Ноч «Новага парадку»**

Што прыход гітлераўцаў нясе нечалавечую жорсткасць, Драздовіч паспытаў на ўласным лёсе. У першыя ж дні акупацыі па даносу быў схоплены і расстраляны як савецкі актывіст пляменнік мастака Уладзіслаў Геранімавіч. Страх пракаціўся па Дзісеншчыне. З вуснаў у вусны перадавалася: там таго расстралялі, там таго. Сярод імён тых, каго расстралялі акупанты, мастак пачуў і імя Рэдзькі, чые вершы як паэта Алеся Дубровіча мастак часта сустракаў на старонках часопіса «Калоссе».

Аднойчы Драздовіч сустрэў у Глыбокім знаёмага аптэкара (яшчэ сына яго калісь вучыў). Той ішоў з прышытай на спіне жоўтай зоркай.

— Дзень добры, пане Драздовіч, — паспеў ён першым прывітаць мастака.— Бачылі? — крануў плячом, каб быў відзён жоўты знак на пінжаку.— Учора яны расстралялі камуністаў, сягоння пазначылі нас гэтай зоркай, а заўтра яны выберуць усіх, хто будзе трохі вышэй іх аршына. У іх кароткі аршын, паверце мне, пане Драздовіч.

Мастак сам ужо ўсё бачыў і разумеў. А праз пару дзён здарылася падзея, якая ледзь не кончылася трагічна. Прагрукатаў матацыкл побач, і Драздовіч не паспеў саступіць з тратуару, як перад ім вырас граміла ў касцы. Дапытліва ўтаропіўся ў мастака.

На местачковай вуліцы мастак кідаўся ў вочы сваім знешнім выглядам — традыцыйнай для мастакоў даўгавалосай прычоскай і адзеннем, якое часам шыў сам.

— Юдэн? — сказаў, як стрэліў пугай, салдат. Драздовіч бачыў і не бачыў чорны аўтамат на грудзях у немца, тупыя наскі яго ботаў… На шчасце, падаспеў знаёмы настаўнік. Ён пачаў тлумачыць гітлераўцу па-польску:

— То ест наўчыцель бялорускі, маляж.

Але салдат глядзеў няўцямнымі вачыма.

— Лерэр, лерэр, — узрадаваўся настаўнік, што ўспомніў нямецкае слова.— Кунстлер, — ускрыкнуў ён, і, імітуючы рукамі ў паветры ўзмахі пэндзля, стараўся давесці, што Драздовіч толькі беларускі настаўнік, мастак.

Пасля выпадку на вуліцы мастак зусім сышоў у падлесныя хутары, нікуды не паказваўся.

Чуў здалёк, як усталёўваўся «новы парадак» на Дзісеншчыне. Там некага зноў расстралялі, таго абрабавалі, таго арыштавалі і павезлі ў турму ў Беразвеч.

У гэты суровы час Драздовіч думаў, што трэба даць народу яго мастацка асэнсаваную гісторыю, паказаць дзеі, справы і парыванні яго лепшых сыноў. Важна сцвердзіць духоўную сілу, трываласць народа, стойкасць перад гістарычнымі, жыццёвымі выпрабаваннямі. Трэба мацаваць людскі дух сцвярджэннем высокіх чалавечых ідэалаў.

І калі ён здолее ў неверагодных умовах узвышаць духоўнае харавство, свабодны розум, вернасць бацькаўшчыне, то гэта і будзе выкананнем грамадзянскага абавязку перад часам, людзьмі, народам, будзе хай сабе і невялікім укладам у агульную барацьбу супраць бяды, што навалілася на родную зямлю.

У Паўлове, на хутары ў дваюраднага брата Пятра Мятлы Сымона Вашкеля мастак дапісвае сваё палатно «Друкарня Францыска Скарыны ў Вільні ў 1525 годзе».

— Мы не варвары, як намагаецца паказаць гітлераўская прапаганда ўсходніх славян, а нашчадкі вялікага асветніка, які яшчэ на золку XVI стагоддзя рупліва сеяў зерні навукі, святла ў сваім народзе, далучаў яго да высокіх гуманістычных ідэй. Мы нашчадкі асвечаных вольналюбівых продкаў, носьбіты светлых ідэй чалавечай еднасці, справядлівасці, усеагульнага дабра, — казаў мастак у душы ворагам, якія рабілі адчайнае намаганне дабрацца да Масквы, Ленінграда.

Думка Драздовіча звяртаецца да народнага эпасу, да «Слова аб палку Ігаравым». Мастака хвалюе велічная постаць гераічнага палачаніна Усяслава Чарадзея, легендарная постаць Баяна. Няма ўмоў, каб закончыць распачатае яшчэ ў 1940 годзе, няма фарбаў, каб пісаць далей скарынінскую серыю.

Часам падступала роспач. А што будуць ведаць нашчадкі пра яго, свайго мастака? Сотні партрэтаў намаляваў, а свайго не зрабіў ніводнага. І вось у лясной глушы ён, нарэшце, бярэцца за аўтапартрэт. Піша яго на нябеленым кужэльным палатне, вугалем, падмалёўваючы штрыхі фарбамі. Малюе партрэт-хроніку, у якім адлюстроўвав важнейшыя этапы свайго жыцця. У анфас мастак паказвае сябе маладым, натхнёным, з пэндзлем у руцэ. Гэта Драздовіч перыяду найбольш інтэнсіўнай мастакоўскай працы. У профіль справа мастак — сталы чалавек, захоплены вывучэннем беларускай гісторыі: перад ім кніга з малюнкам помніка старадаўняй архітэктуры. Профіль злева прадстаўляе мастака ў пажылым веку, з барадой. Позірк яго роздумна спыніўся над рукапісам, у якім бачны замалёўкі нябесных сфер.

Крыху разжыўшыся праз Янку Пачопку фарбамі, перад самым выгнаннем немцаў піша «У свет па навуку» і «Са свету з навукай».

**Вызваленне**

Калі, нарэшце, свет з палёгкай уздыхнуў, прычакаўшы канца гітлераўскай навалы, мастак з душэўным уздымам вярнуўся да актыўнай працы. На працягу двух-трох год ён піша свае самыя буйныя жывапісныя палотны пераважна на гістарычную тэму. Але ёй адной не абмяжоўваецца. Па-свойму пераасэнсоўвае толькі што адгрымелую вайну, пражытае, перажытае. Найярчэй — у карціне «Успаміны на руінах», творы, пазначаным філасофскім абагульненнем.

На палатне — стары вандроўнік. У абліччы яго праглядаюцца рысы твару самога мастака. Стары прыпыніўся на момант супачыць. Дастаў скрыпку, смычок, і паплыла ціхая зажураная мелодыя. А перад зрокавай памяццю музыкі праходзіць пражытае, мільгаюць родныя вобразы. За плячыма яго, як фон — абрысы руін горада, палацаў. Над імі спакойнае сіняе неба. Светла-зялёны прытушаны каларыт карціны добра адпавядае яе вобразнаму ладу, агульнаму настрою. «Успаміны на руінах»—твор уладнай мастацкай сілы, глыбока гуманістычны па гучанню.

Калі «Успаміны на руінах» — пранікнёная элегія, створаная «моваю» фарбаў, то «Песня Баяна» (паводле гістарычнага эпасу — узнёслы гімн легендарнаму песняру, таму, хто ўхваляў мудрасць, мужнасць у імя Айчыны, яе свабоды. Старажытны Баян паказаны мастаком у хвіліну высокага духоўнага напружання. У песняра-чарадзея натхнёны высакародны твар. Тонкія музычныя пальцы кранаюцца струн. Песня яго — натхнёны гімн Радзіме. Прыгожы ўбор песняра падкрэслівае артыстызм яго зграбнай, лёгкан постаці. Гэта носьбіт інтэлекту, творца, увасабленне духоўнай сілы народа. Баян (мастак называў яго яшчэ гусляром) паказаны на фоне драўляных крапасных сцен, вежы, ля якіх лёгка нахінуліся пад павевам ветру гонкія дрэвы. Далей бачны шырокі водны прастор — ні то рака, ні то мора. Полаг неба чысты, зеленавата-сіні.

З карцінай «Успаміны на руінах» пераклікаецца другое палатно Драздовіча, напісанае ў сакавіку 1945 года, «Памінкі». Твор узнік як згадка далёкіх гадоў юнацтва, калі яшчэ жывыя былі маці і ўсе браты. Мастак адлюстраваў даўні народны звычай упамінання памерлых — «дзяды».

У народным гадавым календары беларусаў было ажно пяць дзён упамінання і ўшанавання памяці продкаў. Сярод іх найбольш вылучаліся сваёй урачыстасцю «дзяды» на Радаўніцу і Асяніны. Цяпер, калі канчалася суровая, кровапралітная вайна, народ уключаў у няпісаныя спісы навек адышоўшых родных і тых сваіх сыноў, бацькоў, што палі на вайне, прапалі ў палоне, у няволі. Народная традыцыя паднаўлялася, а высакародны яе маральны сэнс заставаўся ранейшы, толькі набываў новае сацыяльнае адценне. Драздовіч адлюстраваў на палатне даўні народны звычай, як яго памятаў з практыкі роднай сям'і. Канкрэтызаваў час і месца абходзін абрада: «Александрыя над Дзісенкай, 1906—1907 год». Уся сям'я Драздовічаў паказана ў паўабарота да гледача. Маці ў блузцы, з чорнай вуаллю на галаве схілілася над кнігай паміж двух высокіх запаленых свечак. За ёй уздоўж доўгага стала, на якім графін, кілішкі і дзве гліняныя талеркі, прыкленчылі чатыры сыны.

Самы малодшы (будучы мастак) з апушчанай галавой — з правага боку стала. Яго можна пазнаць па знаёмым са здымкаў абліччы, студэнцкай форменнай тужурцы. Усе старэйшыя браты выразна індывідуалізаваны. Добра праглядаюць іх характары, душэўны склад. Вельмі задумлівы стаіць найстарэйшы, Кастусь. Мяккасць, пранікнёнасць у абліччы Баляслава. Суровы Геранім. Бравы, па-вайсковаму падцягнуты Сцяпан. Ідэйны цэнтр карціны творыць вобраз маці. Яна сваёй паставай, настроем лучыць усю сям'ю. Ад яе зыходзіць асаблівая ўрачыстая таемнасць моманту.

У даўняй гісторыі Беларусі моцна цікавіла Драздовіча старажытная Полаччына. Вечавы лад, паасобныя постаці дзеячаў старажытнай полацкай зямлі здаўна непакоілі ўяўленне мастака. Не пакідалі хваляваць і ў пажылыя гады. У 1946 годзе Драздовіч заканчвае пачатую перад вайной карціну «Персцень Усяслава Чарадзея». У гэтым жа годзе стварае палатно «Праводзіны непажаданага князя» і карціну «Усяслаў Чарадзей пад Гародняй».

Палатно «Персцень Усяслава Чарадзея» — паясны партрэт услаўленага аўтарам «Слова аб палку Ігаравым» дзеяча старажытнай Беларусі. Мастак паказвае яго ў пажылым веку. Састарэлы князь сядзіць у крэсле ў цеснаватым пакоі свайго палаца, можа, у саборы, куды прыйшоў пабыць на адзіноце. Ён цяжкавата абапёрся на шчыт, пастаўлены на рабро. Глядзіць на зіхаткі персцень на пальцы. На аблічча легла глыбокая задума,

«Адышлі, адгрымелі паходы з іх перамогамі і паражэннямі. Шмат пражыта. Штось зроблена з таго, дзеля чаго жыў, змагаўся. Якім будзе далей лёс Полацкай зямлі? — пытае ў сябе, у будучыні князь.— Ці зберагуць дзеці, унукі, нашчадкі тое, на што аддадзена цэлае жыццё?..»

Яркімі псіхалагічнымі характарыстыкамі вобразаў вылучаецца тэматычная карціна мастака, прысвечаная гістарычнай Полаччыне. Гэта палатно «Праводзіны непажаданага князя». Яна мае падзагаловак «З вечавога права ў Полацку». Твор цікавы і ў сюжэтным плане. У цэнтры яго малады князь на кані без сядла з апушчанай галавой. Каня за аброць вядзе баярын. Паперадзе ідзе юнак у белым адзенні, з мятлой. Ззаду — цэлы натоўп палачан. Натоўп узбуджаны падзеяй выгнання князя, нявыбранага вечам. У першых шэрагах рэагуюць на выгнанне князя неадназначна. Пару чалавек злева глядзяць на князя запытальна. На пярэднім плане перад князем схіліўся стары лысы баярын. На твары яго з'едлівая, злая ўсмешка. Злева збоку вылучаюцца дзве багата апранутыя гараджанкі. Дзея адбываецца на фоне крапаснай сцяны. Карціна створана летам 1946 года ў Зуях. У наступныя гады Драздовіч амаль не піша буйных палотнаў. Звяртаецца да працы над распачатай яшчэ ў 30-я гады серыі «Прырода Беларусі». У 1947—1949 гадах стварае многа акварэльных малюнкаў, на якіх апаэтызаваны задуменныя бары, рэкі Дзісеншчыны. Мяккасць беларускай прыроды, яе стрыманае глыбокае хараство раскрываюцца ў тонавых малюнках Драздовіча «Ускраіна бору», «Рэчка Дзісёнка ля вёскі Баяр», «Рэчка Дзісёнка вясной», «Адзінокая сасна», «Зазімак на возеры Гародня» і іншыя.

У срэбнай шэрані стынуць дрэвы над замёрзлым лонам возера. Старая сасна сцеражэ таямніцы курганішча. Веснавой плынню ракі кіруюцца ўдалеч плыты з вогнішчам на іх. Надрэчны бор слухае гоман хваль, песні салоўкі ў лазняку, — гэта край, свет мастака, гэта наша зямля.

Мастак чуўся шчаслівым. Задумы збываліся. Адроджанае жыццё харашэла, дабрэла. Былы падпольшчык, цяпер старшыня сельсавета, Лабунька па-сяброўску падтрымліваў яго заказамі, прытуліў у сябе. Разам успаміналі, марылі.

**Развітальная песня**

Яшчэ не пераставала непакоіць думку мастака, яго ўяўленне бясконцасць свету. Верылася: недалёкі той час, калі чалавек ступіць на бліжэйшыя да зямлі планеты. І яшчэ была патайная думка: там — на Месяцы, іншых спадарожніках Зямлі, Сонца — ён убачыць тыя краявіды, якія падказвала мастаку жывая фантазія, мо яснавіднасць.

У 1947 годзе Драздовіч піша акварэллю малюнак «З жыцця на Месяцы», які ўяўляе сабой дзіўны краявід з высокімі кратэрамі, стромамі, пальмавым лесам і шарам нашай матухны-зямлі на гарызонце. Жывапіс малюнка вельмі моцны. Ен арганічна дапаўняе арыгінальна знойдзеныя формы рэльефа.

Маладзела зямля, і хараство, якое яна раскрывала перад вачыма, было нязмернае, бясконцае. Столькі трэба было б яшчэ зрабіць. Але сілы былі ўжо не тыя, чым тады, калі мастак за дзень мог прайсці паўсотню кіламетраў, выкупацца ў Мнюце або Дзісёнцы і зноў адчуць, як пружыніць пад нагамі зямля, клічуць новыя дарогі.

Падводзіў зрок. Цяпер ён не мог ужо нанізваць пацеркі літар у радкі дзённікавых запісаў.

Давялося адмовіцца ад пяра, ад чорна-белай графікі. Машара клікаў у Менск, абяцаў уладкаваць на працу ў музеі. Але цяжкавата было рашыцца: так зросся з гэтымі хатамі, сялібамі, дарогамі, лясным ды азёрным даляглядам, людам, які з дзеда-прадзеда не ведаў іншай працы, як песціць зямлю сваімі дужымі далонямі. Яшчэ слухалася рука. Яшчэ магла пераносіць на палатно хараство, што акружала яго, было ў абліччах людзей, іх душах. Часам ён адчуваў яго асабліва востра. Тады напятыя струны душы звінелі ціхай радасцю. Ён браўся за пэндзаль, мазкі кладліся мякка, трапна выяўляючы вобразы. «Сядзіба на ўскрайку Галубіцкай пушчы» — дар светлых мінут, творчага азарэння мастака, даніна ўдзячнасці роднай зямлі за яе ласкавае хараство, за хлеб, прытулак. Адроджанае жыццё. Новая хата з агародам, пчалінымі вуллямі каля плота пад гонкай сасной. Воддаль светлае гумно, што прыняло ў сябе сабраную з поля збажыну. Гожыя піраміды елак за ім. Маладыя сасняк на першым плане. Яснае неба ў лёгкіх аблачынках. Многа прастору, паветра, што дасягнута выкарыстаннем тонкіх адценняў зялёных фарбаў. Але ўсё менш і менш было іх, дзён натхнення, светлых мройлівых дзён. Давалася ў знакі, мучыла застарэлая язва, набытая ў вечных вандроўках — бадзяннях, бяздом'і.

Неяк з вясны пачуўся зусім блага. Перад гэтым адправіў у Менск, у Акадэмію навук важкі рукапіс «Тэорыя рухаў» — плён сваіх чвэрцьвекавых роздумаў над гармоніяй руху планет. Напісаў ліст у Літаратурны музей Янкі Купалы, прапанаваў сваю скарынінскую серыю. У Дворанаве прасіў Ядзвігу Шыпіла, сваю пляменніцу па брату Гераніму, узяць каня, аб'ехаць на падводзе бліжэйшыя ваколіцы, сабраць пакінутыя ў людзей карціны, партрэты, малюнкі, сёе-тое з разьбы… Летам не палягчэла, пагоршала. Мастака адвезлі ў бальніцу ў Падсвілле. Пад лекарскім наглядам крыху прыбадзёрыўся, як бы ачуняў. Але да часу. Што ж, вечнае толькі хараство, мастацтва, сумленнасць, чалавечнасць, радзіма. А жыццё кароткае. Як бы толькі ўчора маланкай. Але жыў усё ж не дарма. Штось раскажуць наступным, будучым пакаленням пра людзей, сярод якіх жыў, пра чго зялёна-блакітную зямлю аркушы, палотны, над якімі зведаў радасць творчай працы, радасць натхнення. А небыццё, мабыць, і не такое страшнае. Гавораць жа старыя сяляне пра будучую смерць як пра нешта зусім звычайнае, натуральнае, з жартам, спакойна. Толькі ці споўняць пляменнікі просьбу, каб мог ён ужо па-за рысай жыцця з вяршыні Гараваткі аглядаць бязмежны лясны прастор Дзісеншчыны? Ці збяруць, ці захаваюць параскіданыя па ўсім краі яго працы, якія ўжо стануць звацца спадчынай Язэпа Драздовіча?

Іншы раз мастаку здавалася, што ён яшчэ ўстане да працы. Сцежкамі яго пойдуць маладыя мастакі. Не ведаў ён карысці, дастатку, прыкладаючы іх. Тарыў шчыра, з адной думкай — народу, зялёна-блакітнай зямлі сваёй услугаваць, сцвердзіць іх хараство, неўміручасць.

Аднаго дня позняй восенню 1982 года памяць пра Драздовіча паклікала на Дзісеншчыну мастакоў, навуковых работнікаў, пісьменнікаў, студэнтаў. У Ліплянах, дзе мастак-вандроўнік знайшоў вечны прыпын на вясковых могілках, адкрываўся помнік, а пад Лужкамі, над ракою Мнютай, у саўгасе «Гарадзец» — музей мастацтва і этнаграфіі.

Да заснавання гэтага музея Язэп Драздовіч прычыніўся галоўнай ідэяй сваёй творчасці — служыць зямлі, што цябе нарадзіла, людзям, сярод якіх жывеш.

На ўскрайку Ліплян, на старым пагосце госці з Менска засталі мастакоў Віктара Маркаўца, Яўгена Куліка, Уладзіміра Сулкоўскага з грамадкай ліплянскіх піянераў і камсамольцаў.

Не паспелі мы агледзецца, як з розных бакоў заспяшаліся людзі — землякі мастака. Старэйшыя добра помнілі «дзядзьку Драздовіча», зычлівага, спагаднага да людзей, самаадданага творцу.

Ен пакінуў па сабе на роднай зямлі светлую памяць.

Яшчэ ў маі 1979 года прадстаўнікі беларускай творчай інтэлігенцыі сабраліся на выстаўцы твораў Я.Драздовіча, арганізаванай Саюзам мастакоў рэспублікі ў Менску, у Палацы мастацтва. Упершыню сабраная больш-менш поўна мастацкая спадчына Драздовіча ўражвала багаццем і разнастайнасцю жанраў, тэматыкі, мастацкіх рашэнняў. Паўнагучна «прамаўляла» ў ёй мінулае народа, гучала сучаснасць. Здзіўлялі касмічныя кампазіцыі

Драздовіча, несастарэлыя праз гады для сучаснікаў штурму космасу савецкай навукай.

Пра гэта гаварылі і на адкрыцці помніка мастаку на Дзісеншчыне.

Упала покрыва з помніка-стэлы, і вачам прысутных адкрылася на фоне гранітнай глыбы яснае задумлівае аблічча мастака. Такім ён быў у жыцці, такім убачыў яго ў бронзе малады скульптар Аляксандр Шатэрнік.

Прыйдзе вясна, ударыць пругкі паўднёвы вецер у літыя медныя ствалы высозных соснаў, што велічна ўзняліся над Ліплянскай ваколіцай, над вечным спакоем мастака, затрапеча маладое лісце бяроз над узгалоўем вечнага вандроўніка, прыйдуць сюды людзі, несучы даніну пашаны і ўдзячнасці творцу, які жыў іпрацаваў для іх духоўнага ўзвышэння, у імя годнай будучыні беларускай зямлі, вольнай і шчаслівай, што бачылася мастаку хіба адо ў снах.

*1983*

# Пётра Сергіевіч: Праца і лёс мастака

Споўнілася 90 год з дня нарадзін жывапісца і графіка, стваральніка цэлай галерэі мастацкіх вобразаў славутых сыноў зямлі беларускай і простых яе людзей: земляробаў, рыбакоў, цесляў — Пётры Сергіевіча. Больш за шэсцьдзесят год працаваў ён у беларускім мастацтве. А тым часам з-за нашай нядбайнасці ці закінутасці (пэўна ж, не небам яны нам дадзены) спадчына таленавітага творцы глыбей не асэнсавана, месца яго ў беларускай мастацкай культуры не акрэслена, тады як нават беглае знаёмства з ёю, дарэчы, так недаравальна дагэтуль несабранай, сведчыць: мастак узбагаціў беларускую духоўную скарбніцу творамі прынцыповага значэння, непрамінальнай вартасці. І не толькі талент і праца забяспечылі гэта. Не менш важную ролю адыграў той факт, што, жывучы ў пераменную, па сутнасці, стратную эпоху (колькі было войнаў, пераваротаў на вяку мастака, ды і без іх ці мала рознага), ён здолеў захаваць унутраную свабоду, незалежнасіць поглядаў. Да гэтага, акрамя характару мастака, прычыніліся адпаведныя спрыяльныя і неспрыяльныя гістарычныя абставіны, умовы яго жыцця.

Як чалавек і майстра ўзнаўляць жыццё па законах праўды і хараства Пётра Сергіевіч фарміраваўся ў складаных умовах Заходняй Беларусі 20—30-х гадоў, у Вільні. Нямала ўплывала на духоўны свет будучага мастака яго малая радзіма — вёска Стаўрова па-над Богінскім возерам. Тут, у беднай матчынай хаце, атрымаў першыя суровыя ўрокі жыцця, тут юначая душа раскрылася насустрач азёрна-лясной старане. Тут спасцігаў някідкае душэўнае хараство і трываласць людзей ад сахі, касы і сярпа, каб потым усё гэта паклікаць, можа, да вечнага жыцця на сваіх мастацкіх палотнах і графічных аркушах.

Як мастак Сергіевіч пачынаўся з гадоў навучання ва універсітэце. Дзесь у 1920 годзе, вычытаўшы ў віленскай газеце (а чытаў яе для таго, каб навучыцца па-польску, бо ўжо быў прыняты ў брыгаду рамонтнікаў на чыгуначнай станцыі), што адкрываецца універсітэт, а ў ім Wydział sztuk pięknych — мастацкі факультэт, страціў душэўны спакой. Неўзабаве, кружачы сярод універсітэцкіх муроў, рашуча пераступіў парог запаветнага факультэта, трапіў прама да яго дэкана Фердынанда Рушчыца. Мастак еўрапейскай славы, строгі, самавіты з выгляду, аказаўся вельмі даступным і зычлівым чалавекам. Уважліва разгледзеў эцюды, прынесеныя Сергіевічам, адзін купіў сабе (на памятку?) і сказаў прыносіць неабходныя дакументы для

залічэння на вучобу. Вучыцца ў самога Рушчыца — такога і не снілася рабочаму хлопцу з Браслаўшчыны. Імпрэсіяністычнай манеры вялікага майстра і настаўніка Сергіевіч не пераняў, але ўдзячнасць да яго захаваў на ўсё сваё доўгае жыццё.

Майстэрства партрэтыста, партрэтны жанр, які стане вядучым у творчасці будучага беларускага мастака, Сергіевіч спасцігаў у другога жывапісца, універсітэцкага педагога Штурмана, майстра рэпінскай школы. Нейкі час вучыўся ў прафесара Панкевіча ў Кракаўскай акадэміі мастацтва. Праўда, зусім нядоўга: не было сродкаў, зробленыя ў Вільні грошы хутка растаялі. Давялося вярнуцца зноў дахаты. Жыў паміж Вільняй і Стаўровам — і там, і там. Завяршыў вучобу ў прафесара Сляндзінскага. Як усвядоміў сябе мастаком беларускім? Тут ужо не яго вялікасць выпадак, а сама гістарычная заканамернасць, грамадскія акалічнасці часу прадрашалі і вырашалі, Вільня 20-х гадоў.

У мурах гэтага адвечнага горада з пачатку стагоддзя, у другі раз пасля скарынінскіх часоў, адраджалася беларускае слова, беларуская думка. У 20-я гады яны набіралі тут асаблівую моц, напаўняючы святлом надзеі прыгнечаны і прыніжаны народ. Без шырэйшых эканамічных падстаў, без дзяржаўнасці, якой заходнім беларусам так і не ўдалося адстаяць, наладжвалася, пачало набіраць размах грамадска-палітычнае і культурнае жыццё. Яно выражалася ў стварэнні партый і арганізацый, культурна-асветных асяродкаў, кніжных выдавецтваў, перыёдыкі. Тут у падполлі працавалі Беларуская рэвалюцыйная арганізацыя, Кампартыя Заходняй Беларусі. Затым, збіраючы пад свае сцягі неаглядныя дэмакратычныя сілы краю, паўстала Беларуская сялянска-работніцкая грамада. Акрамя таго — Беларускі сялянскі саюз, старэйшыя ад іх Беларуская хрысціянская дэмакратыя, Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя ды Бела-руская партыя сацыялістаў-рэвалюцыянераў, той яе адлом, што не пагадзіўся з рашэннем аб роспуску і зліцці з КП (б) Беларусі. Ды было яшчэ некалькі драбнейшых груповак, са сваімі праграмамі, арыентацыямі, пошукам шляхоў да народа, да будучыні.

Разбуджаная душа народа выяўляла сябе ў паэзіі, сцэнічным мастацтве, у сотнях хароў, драмгурткоў, што самі сабой паўставалі ў мястэчках, вёсках і гарадах па ўсёй заходнебеларускай зямлі пад эгідай Таварыства беларускай школы, Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры і іншых культурна-асветных згуртаванняў, арганізацый, асяродкаў.

Уся гэта сіла духу, што ўздымалася з самых глыбінь народнага жыцця (філосаф і крытык Самойла акрэсліў яе ў той час як беларускі актывізм) не магло не пагрукаць у душу мастака. І калі ў часопісе «Беларуская культура», які выдаваўся ў Вільні ў 1927 годзе, імя Сергіевіча яшчэ не сустракаецца, то ўжо ў наступным за ім «Нёмане», прысвечаным пытанням літаратуры, мастацтва і навукі, бачым рэпрадукцыі з яго малюнкаў і першых тэматычных карцін. Больш таго, Сергіевіч узяўся за заўсёды нялёгкую, самаахвярную ў заходнебеларускіх умовах працу — быць рэдактарам новага выдання. Быў пачатак 30-х, легальныя формы вызваленчага руху пасля разгрому пілсудчыкамі Грамады і «Змагання» занепадалі. Палітычная грамадская

думка перажывала браджэнне, дыферэнцыяцыю. Адзіны вызваленчы фронт канчаткова распаўся. Палітычныя згуртаванні, партыі, групоўкі трацілі шмат сіл на ўзаемнае зваяванне.

У такіх умовах заснавальнікі «Нёмана» спрабавалі глянуць на літаратуру, мастацтва як на сродак нацыянальнай кансалідацыі грамадства, узвышэннем духоўных каштоўнасцей у вачах усіх суайчыннікаў памкнуліся сцішыць варажнечу. Не ўсе, вядома, такі намер разумелі, адобрылі. У беларускім руху сацыяльная ідэя амаль заўсёды дамінавала, і падыход выдаўцоў «Нёмана» многія ацанілі як спробу стаць над класамі, паверх барацьбы. Тым часам са старонак часопіса з-пад рукі мастака глядзелі валявыя аблічча хлопцаў, ззяў мілым хараством дзявочы тварык, праз узбунтаваную навальніцай водную стыхію пракладваў шлях вясляр, на ўздагон ворагу імпэтна імкнуў срабрысты коннік, і глядач у той польскай, даваеннай, заходнебеларускай рэчаіснасці мог зідэнтыфікаваць, канкрэтызаваць сябе.

К гэтаму часу, дзесь к 1932 году, Пётра Сергіевіч стаў членам Віленскага саюза незалежных мастакоў, А гэта азначала і многа, і мала. Прынамсі, нарэшце можна было стала прыпісацца ў горадзе, не хавацца, тулячыся то ў касцельнай званіцы, з ласкі званара, то ў закінутай краме, дзе пры ўсёй неадпаведнасці жыццёвых умоў мастак хоць мог папрацаваць: вокнывітрыны давалі многа святла; да таго ж на сценах можна было разгарнуць экспазіцыю намаляванага. Членства ў саюзе незалежных мастакоў, што было немалаважна, давала права на персанальную выстаўку. Упершыню скарыстаў яго Сергіевіч 26 снежня 1935 года. Выстаўка цягнулася паўмесяца, і ўжо ў канцы першага тыдня з'явіліся ў друку прыхільныя водгукі, была дадзена даволі высокая ацэнка паказанага мастаком. Віленскае «Słowo» тэндэнцыйна, застаючыся верным сабе ў непрызнанні беларусаў, беларускага, усё ж аддавала належнае Сергіевічу як мастаку, які ідзе сваёй дарогай. «П. Сергіевіч, — пісаў рэцэнзент, — гэта мастак прынцыпова «тутэйшы», гэта выдатны рэгіяніст. Цікавіць яго толькі Віленская зямля, наш краявід, наш люд. Стараецца ён адчуць і перажыць яго долю і нядолю. І хоць ён звязаны з Вільняй, аднак нельга яго залічыць да «Віленскай школы». Ён незалежны і ідзе сваёй дарогай. Мастак працуе шмат і без сумнення мае перад сабой светлую будучыню. Пашчасліў яму, божа!»

Беларускі рэцэнзент са «Шляху моладзі», нехта доктар Малецкі, адзначаў тэматычнае і жанравае багацце прадстаўленых на публічны агляд мастацкіх твораў Сергіевіча, называў паасобныя сюжэты іх, у тым ліку гістарычныя (Усяслаў Чарадзей, Кастусь Каліноўскі), падкрэсліваў: «Віленскае беларускае грамадзянства вельмі высока ацаніла творчасць Пётры Сергіевіча, бо побач з высокім артыстызмам (мастацкасцю) у малюнках яго чуваць нешта роднае, беларускае». Аглядальнік-рэцэнзент з маладзёжнага часопіса правільна ўбачыў вытокі мастацтва Сергіевіча, ідэйныя пабуджэнні яго творчасці. Рэальнай высокай ацэнкай мастацкіх здабыткаў Сергіевіча быў і той факт, што ягонае палатно «Усяслаў Чарадзей выпраўляецца на вайну» прама з выстаўкі трапіла ў Беларускі музей імя Івана Луцкевіча і заняло ў яго экспазіцыі сталае, шанаванае месца.

А тым часам ішлі жорсткія 30-я гады, нялёгкія і тут, пад белым арлом, на Заходняй Беларусі. Разбуджаная грамадская энергія народа, не знаходздчы выдхаду ў палітычнай сферы, дзе яе таймавала, разбівала дзяржаўная машына, шукала і знаходзіла выйсце ў формах культурна-асветных. Ладзілася святкаванне юбілеяў угодкаў, паводле тэрміналогіі таго часу, Ф. Багушэвіча, Цёткі, Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Цішкі Гартнага… Адзначалася 400-лецце дзейнасці Скарыны. Былі і меншыя юбілейныя святкаванні, напрыклад, 10-я угодкі Віленскай і Слуцкай беларускіх гімназій. З другой паловы 30-х, калі наступ санацыйнага рэжыму на палітычныя і гуманітарныя правы беларусаў і іншых нацыянальных меншасцей у Польшчы стаў асабліва востры, пачалі практыкаваць святы беларускай культуры, ладзіць так званыя акадэміі. На іх звычайна выступаў хто-небудзь з прызнаных дзеячаў, коратка аналізаваў палітычна-грамадскую сітуацыю ў краіне, падагульняў здабыткі і страты культуры. Беларускі хор Рыгора Шырмы, які стаў дзейсным фактарам не толькі беларускага, а ўсяго культурнага жыцця ў Вільні, дэманстраваў новыя музычныя творы і аранжыроўкі народных песень. Вершы і фрагменты з паэм чыталі папулярныя на ўсю Заходнюю Беларусь паэты М. Танк, М. Машара, М. Васілёк… Хараством беларускай песні зачароўваў слухачоў саліст познаньскай оперы Міхал Забэйда-Суміцкі. Удзельнікаў свята віталі прадстаўнікі арганізаваных меншасцей Польшчы — украінцы, рускія, яўрэі, літоўцы, а таксама палякі. Сергіевіч удзельнічаў у такіх імпрэзах як мастак. Пісаў заднік для сцэны, афармляў залу. «Такія ўрачыстасці, — успамінаў праз гады, — духоўна ядналі, пакраплялі на духу».

Няўзнак у маладога мастака ўзнікала асабістае дачыненне да ўсяго, што рабілася наўкол, чым жылі людзі, заангажаваныя да супольнай грамадскай працы, чым жыла творчая інтэлігенцыя.

…Сітуацыя ў выяўленчым мастацтве Заходняй Беларусі 30-х гадоў мела сваю спецыфіку. Завяршыўшы вялікія графічныя серыі «Мір», «Наваградак», «Ліда», «Гальшаны», «Меднікі», «Трокі», у якіх з уласцівай яму мастацкай пранікнёнасцю ўзнавіў помнікі абарончага і палацавага дойлідства беларускага сярэднявечча, старэйшы мастак Язэп Драздовіч сышоў у сваю Дзісеншчыну, Язэп Горыд, чые графічныя малюнкі, аркушы яшчэ нядаўна былі гордасцю беларускіх кніжных і перыядычных выданняў, надавалі ім не толькі еўрапейскі ўзровень, але і прагрэсіўны ідэйны сэнс, ад актыўнай дзейнасці на беларускай мастацкай ніве пачаў адыходзіць, адышоў Кузьма Чурыла, што добра адчуваў народны ўклад жыцця, нацыянальны тыпаж, яшчэ толькі пачынаў, хоць і браўся адразу заўзята. Праўда, у графіцы імклівую манеру Горыда, яго ўменне ахапіць адразу сутнасць і форму прадмета выявы лёгкай вымоўнай лініяй абяцаў маладзейшы Міхаіл Сеўрук. Былі яшчэ графікі Кучынскі і Рамановіч, што студыявалі на мастацкім факультэце універсітэта ў прафесара Гопэна, ды яны неяк не гарнуліся да беларускай мастацкай сябрыны. Тут Сергіевіч, старэйшы за ўсіх, не сказаць, каб вёў рэй — рыс важака ў яго характары не было, але выразна выходзіў наперад. Перш-наперш тым, што праца яго набывала ўсе большы абсяг. Сцэнаграфія, кніжная графіка, удзел у перыядычным друку. І не толькі ў «Нёмане», але і

ў левaрадыкальным «Крыгаломе», забароненым на першым жа нумары, і ў «Калосьсі». Мастак выступае не толькі з рэпрадукцыямі сваіх твораў на старонках гэтых выданняў, але і бярэцца за пяро, дзеліцца роздумам пра народную драўляную скульптуру, пра саму беларускую ідэю ў культуры.

Галоўнае ж — шукае і ўжо знаходзіць для мастацкага ўвасаблення сваіх задум нешта існае, тыповае для заходнебеларускай рэчаіснасці, асэнсоўваючы яго праз уласны жыццёвы вопыт і лёс тысяч і тысяч суайчыннікаў.

«Шляхам жыцця» Сергіевіча — вобраз самой працоўнай Беларусі даваеннай, заходняй, мастацкае сведчанне аб долі народа. Мастак стварае два варыянты карціны. Першы пад назвай «Жыццё» рэпрадуцыраваўся ў «Беларускім летапісе» за 1938 год. У абодвух паасобніках у аснове твора — просты, суровы сюжэт. На шляху мужчына і жанчына з дзіцем на руках. Дзве дужыя маладыя постаці, спіной да гледача. Нейкая нядоля выгнала іх у свет: беспрацоўе, бесхацінства?.. Не ратуе ні маладосць, ні сіла. Прыгнечаныя ношай (у мужчыны за плячыма хатомка), невядомасцю, непрыкаяна ступаюць-брыдуць яны па старым беларускім гасцінцы, Адна старая каравая бяроза спагадна спусціла над імі зялёнае голле. Дарога падымаецца ўгору,ісці ўсё цяжэй.

У другім варыянце карціны ідэйны акцэнт застаецца той самы, аднак мастацкая думка паглыбляецца выяўленча. Жыццёвая дарога двух гнаных суровым лёсам людзей яшчэ больш абагульняецца ў цэлым і асабліва ў дэталях падымаецца да сімвала. Шлях, па якім ідзе маладая сям'я, яшчэ болып крута забірае ўгору і набывае па-біблейску пустынны выгляд. Удалечыні, падкрэсліваючы пустэчу і бязрадаснасць наваколля, маячыць адна толькі змарнелая дравінка. Пяшчана-гліністы ў натуры і вохрысты на палатне каларыт зямлі не ажыўляецда зялёна-белай гамай бярозы, як было ў першым варыянце. Постаці ж узбуйнены і змадэляваны так, каб падкрэсліць трываласць, прыродную жыццястойкасць людзей, што адольваюць шлях.

Мастак бачыў гэта ў самім жыцці. Ведаў, як кідалася ў пошуках працы і хлеба беларуская вёска. Як рос у ёй лішак сіл, што не знаходзіў прымянення на сваёй зямлі, якой было крыўдна мала. Як штогод у пошуках хлеба з'язджала сялянская моладзь за акіян, найболей у Аргенціну, Парагвай, у Францыю. Як спяшаліся летам на сезонныя заработкі ў бліжэйшую Латвію. Як падвучаная, па сканчэнні гімназій, асабліва камсамольская моладзь тысячамі пераходзіла «зялёную» граніцу з надзеяй знайсці адсутныя тут працу, права на вучобу ў Саветах.

Балючым роздумам над лёсам добраахвотных выгнанцаў з бацькаўшчыны пазначаны літаратура Заходняй Беларусі гэтай пары, 30-х гадоў. У Міхася Машары ён гучаў элегічна, з папрокам:

Вы нібы птушкі паляцелі
Ў далёкі край, у край чужы…
І, пэўна, з вас ніхто не ўспомніць,
Папаўшы ў іншы, новы свет,
Як Нёман родны наш гамоніць,
Чым вёска родная жыве…

У Максіма Танка з’ява прымусовай эміграцыі небеларускай моладзі за мяжу выклікала перш-наперш сацыяльны пратэст і адпаведныя вобразныя асацыяцыі з часоў нявольніцтва. У вершы, надрукаваным у паўлегальным часопісе «Золак» пад псеўданшам Яўген Бура, паэт даваў абразок ад’езду эканамічнай эміграцыі за акіян.

Народ шумеў, кіпеў ля парахода,
У Аргенціну плыў жывы тавар…

Над тым, як раскідаецца тутэйшы люд па свеце, журбаваў, давяраючы перажыванні дзённку, мастак-вандроўнік Язэп Драздовіч.

Натуральна, не пакідалі, не маглі пакінуць Пётру Сергіевіча абыякавымі не толькі гэтыя сумныя праявы заходне-беларускага жыцця. Прасілі адлюстраваныя на палатне тыя праявы рэчаіснасці, дзе народ выяўляў актыўнасць. Цікавілі святлейшыя старонкі айчыннай гісторыі: дзяржаўныя падваліны, духоўны падмурак старажытнай Полаччыны, асветніцкі прарыў Францішка Скарыны, мужны выклік тыраніі беларускага свабодатворцы Кастуся Каліноўскага… Мастак добра разумеў патрэбу актуалізацыі гісторыі, мінулага дзеля кансалідацыі нацыі, узмацнення ў ёй духу супраціўлення ў скрушных палітычных умовах сучаснасці, дзе на дзяржаўным узроўні адмаўлялася народу ў праве на будучыню. Але грунтоўнейшае мастацкае асэнсаванне Сергіевічам шляхоў, якімі народ яго прайшоў, было яшчэ наперадзе.

У 30-я ён з маладым захапленнем маляваў тых, хто былі побач, хто нёс сваю ахвяру ў некалі распачаты гмах беларускай культуры, духоўнасці. Ствараў жывапісныя партрэты ўдзельнікаў вызваленчага руху, рабіў графічныя накіды, паралельна, разам з замалёўкамі аблíччаў сваіх землякоў з Браслаўшчыны, дзе чытаецца і мастакоўская захопленасць тыпажом, і добра схопленая характарыстыка духоўнага свету, стану чалавека.

Побач са строга рэалістычнымі вобразамі Сергіевіч адначасна стварае і рамантызаваны вобраз сучасніка. Заходнебеларуская літаратура, пачынаючы ад Уладзіміра Жылкі, Леапольда Родзевіча, Ігната Канчэўскага, тварыла рамантычную легенду вызваленчага руху, рамантычнага героя яго. Сергіевіч выяўленчымі сродкамі выснoўвае такі вобраз. Мастак падступаўся да яго неаднойчы, шукаў у рознай тэхніцы, спачатку ў графіцы. Нарэшце напісаў тры жывапісныя варыянты — «Вясляр», «Насуперак буры», «Пад ветразем». Мастак карыстаўся сродкамі алегорыі, асацыятыўнасці. Малады прыгожы хлопец на яго палатне смела ўстае насуперак прыроднай стыхіі, нягледзячы на тое, што бура зламала ветразь і пагражае зрынуць яго ў марскую пучыну. Змаганне са стыхіяй чытаецца як змаганне з нягодамі, змаганне з перашкодамі на шляху да новага берага. Вобраз юнака пры ўсім алегарычна-рамантычным антуражы карціны вельмі псіхалагічна-рэалістычны. І з вельмі канкрэтнай этнічнай прапіскай. Гэта хлопец з заходнебеларускай вёскі. Ён выйшаў насустрач жыццю, з яго нягодамі, выпрабаваннямі. У буры мацнее яго дух, відушчасць. Была ў вобразе Весляра і кропліна асабістых жыц-

цёвых дасведчанняў мастака — суровая маладосць, жорсткія сацыяльныя ўмовы, што абціналі крылле мары. Ды асабістае, перажытае, мабыць, нябла-га лучылася з агульным, грамадскім. Творчая задума мастака патрабавала дынамічнага кампазіцыйнага і няпростага каларыстычнага рашэння, што ў значнай меры і абумовіла працягласць пошуку і шматварыянтнасць карціны. Мастак шукаў адэкватнага вызнанаму выяўленчага ўвасаблення…

Калі з вышыні пражытых гадоў Сергіевіч неспакойным позіркам акідаў свае творы, то вобраз маладога змагальніка буры, які некалі хвалявау яго, неўпрыцям адступаў назад, заслонены іншымі, але ўсё ж нечым заставаўся дарагім. Хоць, папраўдзе, творчыя ўдачы яго першай, даваеннай пары, пэўна, былі ў іншым жанры. Душэўную адкрытасць свету, прагу пазнаць чалавека і расказаць пра яго сродкамі свайго мастацтва Сергіевіч выявіў рана. І менавіта ў партрэтным жанры. Гэты жанр жанраў, відаць, найболей адпавядаў складу душы мастака, яго дару. Накіданы энергічна, шырокімі мазкамі эцюд «Цётка Агата» прадстаўляў каларытны народны тып, характар жыццястойкі, неардынарны. Душэўны агонь так і свеціцца, б'е з насмешлівых, разумных вачэй, грубаватага і прывабнага аблічча партрэтаванай.

У іншай танальнасці выкананы партрэт «Аксіня Сергіевіч». На ім пажы-лая, стомленая жыццём жанчына, адклаўшы на момант працу, сцішылася ў задуме. Важкі мацярынскі, чалавечы клопат лёг на яе крыху сутулыя пле-чы, чытаецца ў сур'ёзным, глыбокім позірку вачэй. Прытушаныя светла-карычневыя і блакітныя таны ствараюць стрыманы каларыт, добра адпа-вядаюць агульнай мастацкай трактоўцы вобраза.

Сярод мужчынскіх жывапісных партрэтаў Сергіевіча, напісаных у 30-я гады, партрэтаў польскіх віленскіх мастакоў, сяброў па факультэце, а так-сама беларускіх дзеячаў — А. Луцкевіча, М. Машары, А. Станкевіча, вылу-чаецца партрэт Станіслава Глякоўскага. Глякоўскі імпанаваў Сергіевічу не толькі глыбокай адданасцю ідэі адраджэння народа, але і як удзячная ма-стацкая мадэль. Тэмперамент, інтэлект Глякоўскага добра праглядалі ў самой знешнасці гэтага чалавека. Буйнаватыя рысы твару, валявы выраз, строй-ная высокая постаць, адухоўленасць ва ўсім вобліку. Такім і маляваў свайго знаёмца мастак. Маляваў неаднойчы. Постаць Глякоўскага можна сустрэць і на тэматычных карцінах Сергіевіча, сярод паўстанцаў Кастуся Каліноўскага, ідэалы якога, дарэчы, і насіў у сваім сэрцы радавы змагар шырокага вызва-ленчага фронту Глякоўскі. Не будучы празарліўцам, Сергіевіч не мог зда-гадвацца аб трагічным у недалёкім будучым лёсе Глякоўскага, у вайну рас-стралянага немцамі. Тым не менш у сваіх накідах, партрэтах, карцінах здолеў перадаць і адценне трагічнага, якое няўмольна праступала на абліччы гэ-тага чалавека. Вельмі рэпрэзентатыўныя тыпажом, мастацкімі вобразамі жаночыя партрэты Сергіевіча канца 30-х — пачатку 40-х гадоў. Гэта хва-ла маладосці, хараству, чалавечай годнасці. Гармонія душэўная і гармонія фарбаў. Іх, гэтых партрэтаў, цэлая галерэя — «Валя Чэрнік», «Люба Асаевіч», «Дзяўчына ў сінім сарафане», «Ксеня Грыгарук», «Стася Кадзевічанка»… Тут мастакоўская палітра светлая, звонкая, замешаная на сонцы і блакіце. Асабліва ў партрэце Любы Асаевіч, дзе партрэтаваная пададзена ў нацыя-

нальным строі, дый у партрэце «Дзяўчыны ў сінім сарафане», цёплая гама фарбаў якога больш стрыманая.

Вераснёвая радасць 1939 года была супярэчлівая, напалам з недаўменнем. Арганізаваны Часовым савецкім упраўленнем Вільні мітынг у гонар вызвалення шчодра сабраў тутэйшую беларускую інтэлігенцыю. Прамаўлялі шчыра, з надзеяй на новыя далягляды ў жыцці свайго народа. Усе, і Сергіевіч у тым ліку, як свята ўспрынялі прыезд у Вільню Янкі Купалы і Якуба Коласа, наведанне народнымі паэтамі Беларускага музея і гімназіі. Суправаджаў іх сакратар ЦК КПБ Цімох Гарбуноў. І па абавязку службы, і па-чалавечы цікавіўся, знаёміўся з інтэлігенцкім папаўненнем. Эйфарыя новага, аднак, працягвалася нядоўга. Неўзабаве пацягнула не толькі халадком. Вільню і Віленшчыну па загадзе з Масквы камісар Клімаў мусіў перадаць суседняй рэспубліцы, якая яшчэ не была савецкай. 30 кастрычніка, калі ў Беластоку збіраўся Народны сход усёй Заходняй Беларусі дзеля вырашэння ці, дакладней, пацвярджэння дэ-юрэ палітычнага лёсу краю, у Вільні былі арыштаваны беларускія публіцысты, навукоўцы, працаўнікі культуры. Дайшлі трывожныя чуткі аб арышце на правінцыі былых членаў КПЗБ, грамадаўцаў… Было гэта толькі глухое рэха той трагедыі, якую вось ужо дзесяць год перажывалі народ і асабліва інтэлігенцыя на ўсход ад польска-савецкай граніцы.

Сергіевічу зімой 1940 года давялося падацца да Цімоха Гарбунова ў Мінск з хадайніцтвам за сястру Гелену, якую вывезлі ў Казахстан з-за таго, што яе муж меў невялікі вадзяны млын. Самога ж мастака горшае пакуль што абмінала. Рэдакцыя «Літаратуры і мастацтва» прыслала да яго ў майстэрню свайго асабістага карэспандэнта. У нататцы, змешчанай у газеце з рэпрадукцыямі твораў мастака, той вылучаў «Весляра», «Партрэт беларускай настаўніцы», гаварыў пра гістарычныя яго кампазіцыі і, нарэшце, як пра факт ужо вырашаны — будучую выстаўку ў Мінску. А наогул жа мяжа двух дзесяцігоддзяў — час плённай працы ў жыцці Сергіевіча, час партрэтаў. Перад усім партрэтаў. Твораў, пазначаных буяннем творчых сіл мастака, сталым майстэрствам. Аўтапартрэт мастака, «Юнак з кнігай», «Ванда Гір’яд» сведчылі пра глыбокае адчуванне ім паўнаты жыцця, яго непаўторнасці, мудрасці, духоўнага хараства.

Тым часам насоўваліся падзеі глабальнага значэння. Самы агрэсіўны з таталітарных рэжымаў — гітлераўскі падтаптаўшы пад ногі паў-Еўропы, рынуўся на ўсход. «Замерла культурнае жыццё з прыходам нямецкіх фашыстаў у Вільню, — пісаў Сергіевіч у аўтабіяграфіі, накіданай па просьбе аўтара гэтых радкоў.— Не маючы чаго есці, выехаў у родную вёску і там маляваў сялян. Плацілі жытам, хто чым мог. Маляваў і для сябе, падбіраючы тыпаж. Перажыў на вёсцы вялікую трагедыю народную».

У час пярэбараў мастака з горада ў вёску і назад здаралася рознае. Аднойчы ехаў канём у санках. Вёз з сабой крыху сякіх-такіх прыпасаў і, як заўсёды, нешта намаляванае. Раптам людзі пры зброі крыкам спынілі каня, сталі аглядаць паклажу ў санках. Убачыўшы эцюды і партрэты ў самаробных падрамніках, загадалі расставіць усё тут жа, на дарозе, для агляду. Вецер завывае над настам заснежанага поля, «эксперты» з вінтоўкамі моўчкі агляда-

юць малюнкі і партрэты, не ведаеш, што зараз скамандуюць. Ажно па нейкім часе старэйшы махнуў рукой: «Айнам!» Зразумеў, што адпускаюць. Аказалася, літоўская паліцыя правярала яго на прадмет лаяльнасці: западозрылі, ці не замаскаваны пад мастака партызан. Пазней, чаму не пайшоў у партызаны, мастака спытаюць «кампетэнтныя людзі» у Мінску пры выпадковым затрыманні ля Чырвонага касцела па дарозе да Віктара Шутовіча.

Ды ўсё гэта дробязі, якія можна было пераЖыць, у параўнанні з тым, што адбылося з мастаком і яго Стаўровам пры канцы вайны. На той раз мастак на нейкі дзень адлучыўся са Стаўрова, а калі вярнуўся — жах скаваў усяго. Дзе была матчына хата — дымелі галавешкі. Дагаралі суседскія сядзібы, паўвёскі як не было. Толькі што прайшоў ланцуг карнікаў, і вось курыўся крывавы іх след. Ацалелыя стаўроўцы шукалі родных, як анямелыя, а хто з плачам стаялі над папялішчамі. Трэба было нешта рабіць. Аглушаны горам, нечуваным злачынствам прыхадняў, мастак разам з пазасталымі землякамі капаў брацкую магілу, высцілаў дно яе саломай, шукаў, гукаючы пя лесе, двух падлеткаў, якіх не было ні сярод забітых, ні сярод жывых. Лёс дараваў яму яшчэ некалькі дзесяткаў год жыцця і балючую памяць…

Мастацкі плён Сергіевіча часу вайны невялікі, лёс яго асобных твораў марны. Партрэты, маляваныя на даматканым палатне, што разышліся па стаўроўскай ваколіцы, большасцю згарэлі ў час блакады, загінулі разам з землякамі мастака. Засталося ў мастака небагата пейзажаў, пераважна эцюднага характару, самі назвы якіх «Ноч», «Пад снегавым пакрывалам», «Сум» недвухсэнсоўна выяўляюць тагачасны настрой іх стваральніка. Засталася крыху святлейшая тонам кампазіцыя «Зварот», у якой мастак адлюстраваў асабістае — адведзіны Стаўрова з маладой жонкай, захавалася невялікае палатно «Калыханка», некалькі партрэтаў. Апошнія названы мастаком паводле жыццёвага занятку партрэтаванага, фаху, як казалі даўней — «Земляроб», «Лесаруб», «Пастух». Постаці трывалыя, аблiччы самабытныя, асабліва ў «Земляроба». Углядаючыся ў іх, міжволі ўспомніш мастаковы словы наконт падбору тыпажу, ды сама сабой прыходзіць думка: такога жыццёвая бура не сагне, не вырве, як старадрэвіну з зямлі. Мастак яўна з замілаваннем малюе жыццярадасны народны тып, любуецца станоўкім народным характарам.

Неўзабаве перад выгнаннем немцаў Сергіевіч напісаў тры па-свойму адметныя жывапісныя партрэты.

У Вільні ў яго засталася майстэрня. Пасля таго як родная вёска была спалена карнікамі, мусіў быў перабрацца сюды жыць. Адзін раз вечарам у майстэрню пастукаўся стрыечны брат Федзя. Атрад, у якім ён партызаніў, быў разбіты немцамі, трэба было хлопцу на час схінуцца, каб не трапіць на вочы гітлераўскім спецслужбам, проста нядобраму чалавеку. Мастак і напісаў тады свайго «Партызана Федзю» амаль на ўвесь рост, у незалежнай паставе. Такім, як стрэў яго на парозе майстэрні. Сабраным унутрана, абветраным, у кажуху, стаўбаватай зімовай шапцы. Твар маладымі пасталела строгі. Пры знешняй незалежнасці, раскутасці цень засцярогі прытаіўся дзесь у самай глыбіні істоты.

Вясной 44-га госцем Сергіевічавай майстэрні быў Міхал Забэйда-Суміцкі. Мастак памятаў радасныя даваенныя канцэрты спевака, калі віленская студэнцкая моладзь крычала з галёркі: «Міхась, «Лявоніху!» — потым, падхапіўшыся, несла «беларускага салаўя» з эстрады на руках. І цяпер, у час усеагульнай прыгнечанасці, нядолі, страт спявак азваўся народнай песняй, спадзеючыся падтрымаць у родным людзе дух, надзею на святлейшыя дні. Позірк Забэйды-Суміцкага, як яго ўвасобіў Сергіевіч на партрэце, глыбокі, скіраваны крыху ўдаль. У выразных, прыгожых вачах прытоены боль ад зведаных жыццёвых дасведчанняў, асабістых і людскіх. Строгі, шчыльна аблёгшы фігуру касцюм на партрэце спевака падкрэсліваў яго статнасць. Рукі, складзеныя на грудзях — у такой позе спявак звычайна пачынаў спяваць «Лявоніху» — светлай плямай «разрывалі» цёмную фактуру гарнітура, глядзеліся артыстычна, тварылі каляровы рытм цёмнага і светлага.

Майстэрня — не самы надзейны спрат у неспакойны час, што дзіўнага ў тым, калі чалавек з няўтульнай, страшнаватай вуліцы загляне да мастака, у зацішак маўклівых вобразаў і чалавечага разумення, спагады. На ледзь прыкметны агеньчык Сергіевіча траплялі людзі за добрым словам, парадай, ішлі тыя, каму проста трэба было схінуцца ад акупацыйнай адміністрацыі. Нейкі час мастак прытуліў быў у сябе інжынера Пракаповіча, якога шукала гестапа, потым ужо канём перакінуў «натуршчыка» ў бяспечнейшае месца. Знешне было проста, звычайна. А як інакш, як, не рызыкуючы галавой, застанешся чалавекам на гэтай зямлі? Ды наогул, як было думаць, паступаць па-іншаму, калі на чалавека літаральна палявалі. Не толькі на таго, хто супраціўляўся рэжыму, але на ўсякага і кожнага. Асабліва на моладзь, дзяўчат, якіх маглі проста схапіць на вуліцы і адправіць у Германію. Мастаку ў каторы раз даводзілася запрагаць пазычанага ў суседа коніка, каб адвезці каго-небудзь з горада, памагчы схінуцца на час. Такое ратаванне ад вывазу дзяўчыны-суседкі Кадзевічанкі азвалася ў творчасці мастака ажно трыпціхам, і з далечы гадоў тая трывожная зімовая вандроўка ў санках з Вільні на Браслаўшчыну, да Богінскага возера, глядзіцца нават рамантычна, асабліва у пейзажных карцінах «Старым гасцінцам» і «Зварот», дзе зімовае сонца паклала трывожныя водбліскі на матчыну сядзібу ў Стаўрове.

Яшчэ ў вайну ў складзе нейкай беларускан літаратурніцкай групы заглядаў у Вільню Валянцін Таўлай. Тады яны і пазнаёміліся. Неўзабаве пасля вайны паэт наведаў майстэрню Сергіевіча як супрацоўнік толькі што створанага літаратурнага музея Янкі Купалы, прасіў напісаць штосьці на Купалаву тэму. Мастак успомніў нядаўнюю паездку.

Адразу пасля вайны Сергіевіч наведаўся ў Мінск. Зноў з клопатам пра высланую сястру. Знаёмы з даваеннага часу Ц. С. Гарбуноў арганізаваў яму аўдыенцыю ў першага сакратара КП (б) Беларусі П. К. Панамарэнкі. Высокі дзяржаўца прыняў мастака зычліва і ўважліва. Распытаў пра жыллёвыя ўмовы, творчую працу, стаў запрашаць пераязджаць у Мінск… Хутка Сергіевіч змог пераканацца, што Першы, рэальны гаспадар у рэспубліцы — чалавек слова: сястра з дочкамі была вызвалена і вярнулася дахаты.

Выбаўленнем сестрыной сям'і з казахстанскай высылкі ўдзел Панамарэнкі ў лёсе беларускага мастака не абмежаваўся. Пасля вайны ў Вільні і яе ваколіцах, як і ў даваенны час, пачалі ізноў знікаць адзін за адным беларускія інтэлігенты. Першым, мабыць, — былы сеймавы пасол двух кадэнцый і адзін з заснавальнікаў Беларускага сялянскага саюза Ф. Ярэміч. Ды той быў у нейкай акупацыйнай адміністрацыі, і спадзявацца іншага зыходу як бы і не прыходзілася, незалежна ад таго, ці застаўся чалавекам, ці стаў дрэнню на той пасадзе. Але гэтак жа знік і медык-псіхіятр, аўтар цэлай бібліятэкі народнаасветніцкай літаратуры яшчэ з даваенных часоў Станіслаў Грынкевіч, чалавек пачцівы, без пасад, якія маглі хоць як-небудзь кампраметаваць. За ім не стала і былога дырэктара Віленскай беларускай гімназіі, выпускніка Пражскага універсітэта, у 39-м годзе правай рукі камісара Клімава — Франука Грышкевіча…

Нейкі час пасля ліквідацыі Беларускага музея ў Вільні Сергіевіч працаваў у малазнаным музейчыку, заснаваным у колішняй сядзібе сына Пушкіна Грыгорыя. Пры паляках звалі гэту мясцінку Пушкінуўкай, пазней назавуць Мяркучай, а даўней яна звалася Паплавы. Мясціна здатная, над Вільнянкай, з дубамі ды алешнікам на ўзгорках. Разам з Сергіевічам быў прытуліўся ў гэтым музейчыку і этнограф ды літаратар Уладзіслаў Паўлюкоўскі, а таксама стары беларускі працаўнік, да вайны старшыня Галоўнай управы таварыства беларускай школы, грамадавец, яшчэ той першай, што ў Пецярбургу заснавалася, Беларускай сацыялістычнай грамады — Фелікс Стацкевіч. Дык абодва яны дзесь у 46-м раптам апынуліся ў старой віленскай турме Лукішкі, якую «абжылі» былі яшчэ пры санацыйнай Польшчы. Знік аднае ночы і блізкі Сергіевічаў сусед Янка Шутовіч, што да вайны рэдагаваў часопіс «Калосьсе». Яго жонка, літоўская паэтэса Она Міцютэ, чые вершы даўно перакладаў М. Танк, аказалася зусім бязраднай. Балазе жылі з Сергіевічам на адным падвор'і, то мастак пілаваў, сек дровы, каб аўдавелая пры жывым мужу жанчына (Шутовіч апынуўся ў Карагандзе) не змерзла ў сваёй прасторнай аднапакаёвай кватэры.

Далейшы сусед мастака — Адольф Клімовіч, а затым этнограф Мар'ян Пецюкевіч, журналіст Янка Багдановіч зніклі пазней, ужо на мяжы 40—50-х гадоў. Аднойчы ізноў сустрэў на сваім парозе Сергіевіч заплаканую Верцю Клімовічыху. Жанчына прасіла памагчы шукаць яе сына, які ўтапіўся. З'ездзілі, мацалі шастом вялнянскае дно, ды рака не аддавала хлапчука. Толькі застаўся ўсмешлівым залатавалосым успамінам на палатне ў мастака ды вечным болем у матчыным сэрцы.

У атмасферы, якой спакойнай ніяк не назавеш, Сергіевіч жыў незачэпна. Нібы магутнай якасці далонь ахоўна прасцерлася над галавой мастака. Усемагутнае ведамства вымушана было ў дачыненні да яго абмежавацца адно прыглядам.

З Таўлаем, які наведваўся ў майстэрню на Антокалі неаднойчы, шмат гаварылі пра Купалу, сілу яго творчага духу, глыбінны ахоп беларускага жыцця, лёсу…

На кніжных паліцах Сергіевічавай майстэрні ды ў шафах за шклом першнаперш кідаліся ў вочы самавітыя фаліянты па гісторыі сусветнага мастацт-

ва на польскай і рускай мовах, манаграфіі, альбомы рэпірадукцый. Прыгледзеўшыся, там можна было знайсці ўсё з віленскіх беларускіх выданняў, кнігі суполкі «Загляне сонца і ў наша ваконца» з Пецярбургу, мінскія рарытэты 20-х гадоў. Зборнікаў Купалавай паэзіі на паліцах у майстэрні можна было ўбачыць аж некалькі, сярод іх найдаражэйшы — «Шляхам жыцця», падараваны калісь мастаку адным універсітэцкім студэнтам. Кніга гэта стала для Сергіевіча адкрыццём вялікага нацыянальнага паэта, а заадно, і не ў малой меры, — адкрыццём у сабе беларуса…

Аднаго разу Таўлай прыехаў не адзін. З ім была рухавая, імпульсіўная, гаманкая Уладзіслава Францаўна. Аглядаючы мастакову працоўню, на адным з палотнаў, у хлопцу, што непрыкаяна адыходзіў у свет, яна прызнала самога Янку. «А ты, сіраціна, жыві» — іншай назвы цёця Уладзя і чуць не хацела для гэтага твора. У яе ўяўленні два вобразы: выява на палатне і той, што выснoўваўся з Купалавых радкоў, былі адным. І з гэтай назвай непрэтэнцыёзны твор мастака заняў сваё месца ў экспазіцыі Літаратурнага музея Янкі Купалы, здаецца, навечна. А ўвосень 1947-га ў Мінску ў цеснаватым асабняку, дзе ў падсуседзях Саюза пісьменнікаў напачатку мясціўся музей паэта, Пётра Сергіевіч трымаў своеасаблівую справаздачу за свайго, выяўленчага Кулалу. Неафіцыйны мастацкі савет складаўся з Уладзіславы Францаўны, Валянціна Таўлая і мастака Івана Ахрэмчыка. Сергіевіч прывёз два варыянты карціны «А хто там ідзе?» і «Званара». Аглядальнікі Сергіевічавых прац былі адзінадушныя: нікому яшчэ да мастака з Вільні не ўдавалася так схапіць, трапна ўвасобіць на палатне сам дух Купалавай паэзіі. Ад адраджэнскай вызваленчай ідэі, якой была прасякнута ўся творчасць паэта-вешчуна, паэта-будзіцеля, да беларускага тыпажу, этнаграфічных рэалій, — усё было арганічна жыццю, пераўтворанаму ў слове, усё прамаўляла да сэрца і розуму гледача.

У аснову кампазіцыі твора мастак паклаў Купалава бачанне паўстання беларусаў да свядомага палітычнага жыцця — як паход агромністай грамады па будучыню, па бацькаўшчыну. Пры шырокім вобразным абагульненні грамады беларусаў (так бы мовіць, сам народ вырушыў здабыць належнае яму права, сам зажадаў — людзьмі звацца) Сергіевіч надаў асноўным вобразам-постацям акрэсленыя індывідуальныя аблічча. У першым радзе грамады мастак змясціў не ідэйных, палітычных правадыроў паўсталага народа, а перш-наперш носьбітаў яго духоўнасці — велічную постаць Гусляра, побач з якім хлопчык-музыка з жалейкай. Да грамады, што павольна ўздымаецца з нізіны ўгару, ідучы крыху ўперадзе, звяртаецца, як бы заклікае людзей паспяшацца, малады стройны мужчына. У ім няцяжка пазнаць Купалавага Сымона з «Раскіданага гнязда» з яго по-клічам: «На вялікі сход! Па бацькаўшчыну!» З-пад рукі мастака выйшаў арыгінальны, глыбокі выяўленчы аналіз і сінтэз творчасці Купалы часу найвышэйшага ўзлёту яго паэтычнага генія. У наступныя гады, дзесяцігоддзі беларускія мастакі пры сваім прачытанні асноўнай тэмы Купалавай спадчыны міжволі будуць ісці ўслед за Сергіевічам.

Такі ж самы арганічна беларускі і Сергіевічаў «Званар» паводле аднайменнага Купалавага твора. У яго вобразе ўвасоблены менавіта беларускі

селянін перыяду першай рускай рэвалюцыі, той селянін, які ўжо страціў змогу цярпець прыгнёт, няволю і апантана хапаўся за набат, каб разам, грамадой абараніць, адстаяць сваё сацыяльнае і чалавечае права. Дарэчы, селянін у Сергіевіча, дзе б ён ні з'яўляўся: ці то ў кампазіцыях, прысвечаных паўстанню 1863 года, ці ў хрэстаматыйнай у прамым сэнсе карціне «А хто там ідзе?» дый ва ўсёй творчасці мастака наогул — не ёсць цень мужыка з палотнаў перадзвіжнікаў, глыбока шанаваных ім, і тым больш не ўсераднёны этнічна ўсходне-славянскі тып, які, што граха таіць, не раз глядзіць на нас з прац сучасных беларускіх мастакоў, у тым ліку нават майстроў жывапісу і графікі. І гэта (стварэнне цэнтральнага вобраза, новай беларускай літаратуры, мастацтва) дасягнута Сергіевічам не за кошт этнаграфізму, а ў выніку пранікнёнага стаўлення творцы да гістарычнай спецыфікі нацыянальнага жыцця, характару побыту — усяго таго, з чаго высноўваецца духоўнае аблічча народа. Гэта вобраз, што пад сілу не абы-якому мастаку. З тых вобразаў, створаных майстрамі слова, пэндзля, па якіх пазнаюць, адкрываюць для сябе чужы народ прадстаўнікі іншых культур.

У сярэдзіне 50-х, папярэдне паспрабаваўшы сябе на актуальных тэматычных карцінах са сферы вытворчага быту, Сергіевіч робіць сапраўдны прарыў да гістарычнай тэматыкі. У мастака здаўна жыло ў душы адчуванне, што за плячыма яго народа тысячагадовая гісторыя. На духоўным гарызонце беларусаў уставалі, змяняючы адна другую, а часам і некалькі адразу глыбокіх, самабытных постацей. Фактычна Сергіевіч вяртаўся да тых тэм, вобразаў, якія непакоілі яго ў маладыя гады. Вяртаўся на кругі свае сталым, спрактыкаваным майстрам. У мастацкіх пошуках мог цяпер і больш пэўна абаперціся на навуковую думку. Не гістарычную: яна ў рэспубліцы нават у час хрушчоўскай адлігі не здолела адысці, як гэта было ў іншых сферах, ад здранцвення, заставалася нерухомай, казённа вытрыманай, анімічнай. Услед за красным пісьменствам, якое і ў самыя змрочныя часы грамадскага развіцця патрапляе захаваць дзесь у глыбінях вернасць вышэйшым чалавечым ідэалам, жывы струмень прабіўся ў літаратуразнаўстве, публіцыстыцы. Літаратурнай навуцы, крытыцы ўдалося парушыць панылыя, народжаныя абсалютызмам і накіраваныя на яго ахову ўстаноўкі-канцэпцыі, пачаць сур'ёзна асвойваць забароненую і напаўзабароненую духоўную спадчыну. Праўда, і цяпер лягчэй было тым першапраходцам, хто працаваў на дзялянцы больш аддаленай па часе ад сучаснасці. Там ідэалагічныя догмы і стэрэатыпы не таймавалі так даследчыцкай думкі. Лягчэй, зразумела, было-таму, хто шукаў на духоўных прасторах XIX стагоддзя. А рупілася там няшмат, лічаныя людзі.

Над расшукваннем беларускай грамадска-літаратурнай спадчыны і абуджэннем да яе цікавасці ў сучаснікаў у канцы 50-х — 60-я гады дзейсна працаваў Сцяпан Александровіч, Неабыдзеннымі публікацыямі ў «Полымі» пра рэвалюцыйных дэмакратаў, паўстанцаў, што адважна штурмавалі царскі абсалютызм у 1863—1864 гадах звярнуў на сябе, а перад усім на новыя старонкі беларускай гісторыі, грамадскай думкі малады даследчык беларусістыкі Генадзь Кісялёў, за карпатлівыя і плённыя архіўныя росшукі

па-сяброўску названы Валодзем Караткевічам Генус Кротус. Малады гісторык цераз пасрэдніцтва мінскіх ды віленскіх знаёмых Сергіевіча скора стане наведвальнікам майстэрні на Антокалі, і мастак з удзячнасцю і карысцю будзе прымаць кампетэнтныя парады і заўвагі маладога гісторыка-архівіста, асабліва пры рабоце над «паўстанцкай серыяй», над карцінамі пра Кастуся Каліноўскага. Кіраўнік беларускіх паўстанцаў бачыўся мастаку перш за ўсё ў дзеянні. Як рэвалюцыйны важак, натхняльнік руху, яго творца. Такім пісаў палымянага Кастуся ён першы раз: агітатарам-прапагандыстам, сейбітам свабоды. Але тады вобразу бракавала мастацкай пераканаўчасці, і гэта стала асабліва добра відаць цяпер, калі на палатне побач з перакананым мяцежным трыбунам паўстання ажылі абліччы людзей, якіх на карціне сабрала, з'яднала ў паўстанцкі атрад непрыняцце царскага дэспатызму, няволі.

Каліноўскі падаецца мастаком праз успрыняцце паўстанцаў. Сергіевіч акцэнтуе ўвагу гледача на тым, як адклікаюцца на слова сейбіта мужыцкай праўды людскія душы. Мастак дамогся грунтоўнай псіхалагічнай індьшідуалізацыі паўстанцаў, а ў вобразе Каліноўскага — пераканаўчага выяўлення характару і тэмпераменту. Акрамя таго, дакумен-тальнага партрэтнага падабенства. На той час якраз быў знойдзены ў Варшаўскім архіве фотаздымак Каліноўскага пачатку 60-х гадоў, і мастак шчасліва дасягнуў гістарычнай дасканаласці і псіхалагічна-мастацкай завершанасці вобраза. Пасля заканчэння працы над карцінай, дарэчы, адразу купленай музеем, мастак замаляваў свой даўнейшы твор аднайменнай назвы — маладым наівам ён цяпер бянтэжыў сталага майстра.

У 1957 годзе Сергіевіч піша партрэтнае палатно «Кастусь Каліноўскі». На гэты раз вылучае ўлюбёнага героя з масы. Воддаль віднеецца лагер паўстанцаў. На першым плане задуменны Каліноўскі пад дубам, пададзеным фрагментарна. Мастак пільней, чым у іншых сваіх творах пра паўстанне, «углядаецца» ў аблічча, духоўны свет чалавека, які сваёй самаахвярнасцю, узлётам думкі, дзейнасцю пазначыў цэлты этап у гісторыі свайго народа. Мастак малюе натуру моцную, высокаінтэлектуальную, чалавека, апантанага высакароднай ідэяй народнай свабоды.

50-я гады Пётра Сергіевіч завяршыў манументальным палатном «Каліноўскі і Урублеўскі на аглядзе паўстанцаў». У новым творы мастак адштурхнуўся ад факта інспекціравання Каліноўскім паўстанцкіх атрадаў. У сюжэце ён асэнсаваў яго так, каб шырэй паказаць паўстанцкія сілы. Шырока разгорнутая кампазіцыя дазволіла стварыць не толькі агульны вобраз паўстанцкага войска, але ўвасобіць яго ў розных характарах, індывідуальным чалавечым праяўленні.

Большасць паўстанцаў упершыню бачаць легендарнага Світку, Яську-гаспадара з-пад Вільні, ідэолага і важака чырвоных, кіраўніка паўстання ў краі. І рэакцыя іх на яго неадназначная.

У тэматычнай карціне адчуваецца вопыт сталага партрэтыста, імкненне мастака перадаць на палатне нават падсвядомы душэўны рух, гаму перажыванняў партрэтаваных паўстанцаў. У гэтай разналікай грамадзе, разнастайнай нават па знешнім выглядзе — апратцы, зброі (былыя салдаты-

стральцы побач з касінерамі, службоўцы-інтэлігенты, гімназісты) ёсць супольнае —кроўная справа, якая яднае ўсіх. Братэрства. Але братэрства не па зброі, а па ідэі: у паўстанцкі атрад вялі не распараджэнне, не загад, а голас сумлення.

Сам Каліноўскі перад вачыма згуртаваных высакароднай мэтай, пры зброі людзей прасветлены, спадзеўны. Ад яго дужай маладой постаці, позірку вее энергіяй, імпэтам, і гэта асабліва добра адцяняецца стрыманым у выяўленні сваіх пачуццяў Валерыем Урублеўскім, які крочыць побач. У цэлым карціна выйшла светлая, аптымістычная сваім зместам і каларытам з дамінаваннем жоўтага колеру кажухоў і белага — світак.

Да сваёй мастацкай інтэрпрэтацыі асветніцкага подзвігу франціпіка Скарыны Сергіевіч ішоў доўга. З даваенных часоў, калі пра першадрукара, асветніка, гуманіста часта га-варылі. Праўда, у 30-я гады не так часта ў друку, з трыбуны, колькі ў сяброўскіх інтэлігентных колах, на той час здэарыентаваных рэпрэсіямі, праследам на абодва бакі мяжы, да канца спалітызаваных, пабітых на групоўкі. Пётраў сябар, які нярэдка наведваўся ў майстэрню, Максім Танк, раздумваў, дзяліўся з дзённікам і калегамі, колькі загадак было ў жыцці Скарыны. І сапраўды, і час нараджэння асветніка быў да канца не высветлены, нягледзячы на вельмі дасціпныя гіпотэзы навукоўцаў на гэты конт. І тое, дзе атрымаў першую адукацыю? Да якой канфесіі належаў? Дзе быў пасля навуковага трыумфу ў Падуі? Чаму памёр фактычна выгнанцам з бацькаўшчыны, людзям паспалітым якой ахвяраваў сваю працу, жыццё? Нехта Пятроўскі настойліва раіў мастаку: «Пішы Скарыну як пратэстанта! Толькі гэта канфесія дазваляла яе паслядоўнікам больш давяраць жыццю, дапытліваму чалавечаму розуму, не грашыла нецярпімасцю да іншадумцаў».

Пасля тых даўнейшых спрэчак, разваг цяпер пра Скарыну была адна думка. Перш-наперш гэта асветнік-мысліцель, што ўсвядоміў высокую задачу свайго часу — праз кнігу, якая рабілася, дзякуючы друкарскаму станку, шырэй даступнай, прасвятляць люд паспаліты, падвышаць яго маральнаэтычны ўзровень, клапаціцца пра агульнае грамадскае дабро. Гэта была вялікая, адпаведная часу, маштабнай постаці апостала асветы гуманістычная праграма.

Упершыню даўнюю задуму пра Скарыну, які далучаў свой народ да вялікшага здабытку чалавечай цывілізацыі, духу, Сергіевіч рэалізаваў дзесь пасля напісання свайго вяршыннага твора пра нацыянальна-вызваленчы рух беларусаў XIX стагоддзя, пра Кастуся Каліноўскага, рэчы, здаецца, яшчэ так і не пераўзыдзенай у сучасным беларускім выяўленчым мастацтве. Аўтара карціны «Скарына ў друкарні», напісанай у 1957 годзе, можна, пэўна, сёння ў нечым папракнуць, хоць бы за просты спосаб псіхалагічнай матывацыі вобраза, але ў цэлым твор удаўся.

Вобраз асветніка ў ёй арганічны, гістарычна і выяўленча даставерны. Сергіевіч паказвае Францішка Скарыну ў адзін з найшчаслівейшых, найурачысцейшых момантаў яго жыцця — у час нараджэння кнігі, аднаго з цудаў свету. З толькі што аддрукаваным аркушам у руках узрушаны, счаканы асветнік як бы міжволі падаўся наперад, ступіў да нас, душой і сэр-

цам адкрыты людзям, будучыні. Вобраз памочніка першадрукара, простага хлопца, крыху нейтралізуе эмацыянальную адкрытасць галоўнай постаці на палатне. У яго сціплай паставе, выразе вачэй свая псіхалагічна-мастацкая апраўданасць прысутнасці ў творы. Пры стварэнні яго мастак, здаецца, не клапаціўся аб знешніх рэаліях, касцюме, а толькі аб адным — псіхалагічнай, мастацкай праўдзівасці выявы. Не забірае на сябе ўвагі і ўся ўзноўленая мастаком у карціне атмасфера, атрыбутыка старадаўняй друкарні. Мастакоўскі клопат пра адпаведнасць створанага вобраза Скарыны гістарычнаму прататыпу не толькі ў цэлым, але і ў дэталях, пра тое, каб ён, гэты вобраз, матэрыялізаваўся, жыў на палатне.

Праз пару год Сергіевіч зноў вернецца да велічнай постаці асветніка высокага Адраджэння. Вернецца, каб раскрыць новыя грані гэтай маштабна дзейснай натуры, чалавека, чыё дыхоўнае святло і праз стагоддзі значыць духоўныя арыенціры нашчадкам, напамінае пра вечныя, непраміналыныя каштоўнасці. З карціны «Скарына ў рабочым кабінеце» перад намі паўстае вобраз вучонага эпохі Рэнесансу, мысліцеля, чый інтэлект, руплівасць садзейнічалі ўключэнню беларусаў у агульнаеўрапейскі культурны працэс. І праз стагоддзі ён будзе сімвалізаваць сабой выхад сваёй Айчыны на сусветныя духоўныя гарызонты. Але гэта ўсведамленне прыйдзе пазней, у 1967-м, калі святкавалася 450-годдзе беларускай кнігі і асабліва ў 1990 годзе, калі быў сусветна адзначаны паўтысячагадовы юбілей вялікага асветніка-гуманіста, перакладчыка і каментатара беларускай Біблії.

На мяжы ж 50—60-х гадоў, калі Сергіевіч пісаў свайго Скарыну-мысліцеля, непраміналынасць здзейсненага асветнікам першага беларускага Рэнесансу разумелі нямногія, каб не сказаць, лічаныя людзі. Мог важкасць зробленага Скарынам не толькі для свайго, але і будучых пакаленняў адчуць творца-мастак, здольны ўглядацца ў мінулае, у дзеі продкаў відушчай душой. І якраз той мастак пэндзля, разца слова, які пранікся багдановічаўскім разуменнем, ідэяй аб тым, што «гмах беларускай культуры, калісьці распачаты, павінен быць збудаваны да канца».

Сергіевіч, пішучы «Скарыну ў рабочым кабінеце», меў перад сабой нялёгкую задачу. Перш за ўсё кампазіцыйнага плана. Выява чалавека за працай пры стале абмяжоўвала варыянтнасць кампазіцыі твора, пагражала статыкай. Сергіевічу, праўда, даволі проста ўдалося пазбегнуць апошняй. На палатне Сергіевіча Скарына на момант устаў над сталом, спынены нейкай мільгануўшай думкай. Здаецца, зараз запіша яе ў разгорнуты на стале рукапіс ці, узбуджаны зна-ходкай, будзе роздумна хадзіць па пакоі. Мастак паказаў асветніка ў росквіце сіл: у тым узросце, калі хараство чалавечай натуры гарманічна спалучаецца са спеласцю душы, інтэлекту. У Скарыны прыгожы думны валявы твар інтэлектуала, мужа. Сама постаць, аблічча асветніка выяўляюць натуру трывалую, характар стойкі. Каларыт карціны спакойны, цёплы. Мякка, у цёплых танах мадалявана вопратка вучонага. Цеплыя фарбы ўзнаўляюць усю атмасферу яго кабінета, узятага фрагментарна.

Скарына паказаны ў даволі цесным акружэнні кніг, яны за спіной вучонага, на сцяне на паліцах, на стале — наступаюць на рукапіс. Самавітыя

з выгляду, важкія, разлічаныя не на гады — на стагоддзі. Гэта і крыніцы мудрасці, з якіх чэрпаў беларускі асветнік, і плён працы, яго дар сучаснікам і нашчадкам. Слюдзяныя балонкі акна ў скарынаўскім кабінеце наліліся блакітам — таксама добры, спагадны знак на спор у працы мысліцеля. Добрая, спрыяльная пара першай чвэрці XVI стагоддзя, час высокага Адраджэння прыйшоў на Беларусь. Сергіевіч, душой зачарпнуўшы таго далёкага святла, ішоў з ім да сваіх сучаснікаў.

«Скарыну ў рабочым кабінеце», як першую сваю работу пра асветніка-гуманіста, мастак не паўтараў. Мабыць, лічыў твор здзейсненым у сваёй задуме да канца.

60-я гады, паважна, можна сказаць, шчасліва пачатыя скарынінскай тэмай, прайшлі ў Сергіевіча ў асноўным пад знакам партрэта. Розныя людзі прыцягвалі мастакову ўвагу. Ён, як і ў маладыя гады, жадзён быў да чалавека — да самога яго тыпажу, складу душы, лёсу. Мастак стварае цэлую галерэю вобразаў. Між іхтып рускага арыстакрата («Партрэт хірурга Талпеціна»), тутэйшага рабочага чалавека («Партрэт Барэйвы»), партрэты беларускіх інтэлігентаў, што пасля хрушчоўскіх рэабілітацый вярнуліся з краёў аддаленых (Янка Шўтовіч, Адольф Клімовіч, Янка Багдановіч, Антон Шантыр), партрэты літоўскіх творчых работнікаў, дырыжора Піліпоўскаса і асабліва ўдалы партрэт старога, з польскіх часоў, сябра мастака — скульптара Рафала Яхімовіча.

Характэрны паварот галавы, скептычная ўсмешка чалавека, дасведчанага ў жыцці, артыстызм, выяўленыя на палатне, выдаюць у партрэтаваным натуру тонкую, інтэлігента высокай пробы, незалежнага у сваіх поглядах, паводзінах, у жыцці і мастацтве.

Што да партрэтаў беларускіх інтэлігентаў, у мінулым публіцыстаў, журналістаў, крыху палітыкаў, то ўсе яны, выключаючы маладзейшага А. Шантыра, выглядаюць на партрэтах работы Сергіевіча людзьмі, прытомлёнымі жыццём. Іх духоўнасць, вынесеная з культурна-грамадскай і палітычнай практыкі Заходняй Беларусі, тых «запольскіх» часоў, калі яна ўставала, змагалася, аказалася прытушанай, ледзь улоўнай. І ў гэтым не было віны мастака. Выбітыя з жыццёвай каляіны, падкошаныя горкімі жыццёвымі дасведчаннямі, бесперспектыўнасцю не толькі асабістага лёсу, гэтыя людзі — колькі іх было ў вялікай краіне, з іх недаўменнем, стоенымі праклёнамі і ўсёдараваннем сваім катам, — паволі адыходзілі ў нябыт.

Не вельмі задаўся Сергіевічу і партрэт вялікага, недаацэненага сучаснікамі з-за абкрадзенага часам жыцця, паэта, які ў пару маладосці мастака ўваходзіў у літаратуру, як пясняр Нарачы, трыбун сацыяльнага бунту, пратэсту. У 60-я пісаў мастак даўняга сябра на высокай душэўнай хвалі, уласцівай іх маладосці. Пісаў як рамантык рамантыка. Здавалася, лепшага фону і прыроднага антуражу не прыдумаць. Паэт пазіраваў на беразе Нарачы, прысеўшы на валун, пры сасне, што ўставала, як мачта, як зялёны ветразь. Позірк паверх хваляў на плячы накінуты плашч, не плашч — апратка пілігрыма. Сапраўды — пясняр Нарачы, паэт у сваёй стыхіі. Але аблічча, як і ўтаймаваная стыхія, не выдала таямніцы сваіх глыбіняў. Не адбылося

магічнай успышкі, забракавала хоць бы ўсмешкі, ці што, каб вочы раптам высвецілі душэўны свет паэта літасцю божай, песняра з тых, каму быць у сваім народзе прарокам, заступнікам, маральным лідэрам.

У 60-я гады Сергіевіч стварыў яшчэ цэлы шэраг так ска-заць, дэмакратычных, паводле аб'екту выявы, партрэтаў. Да схілу веку, пакуль рука надзейна трымала пэндзаль і палітру і не здраджвалі інтуіцыя, вока, мастак захаваў жывую цікавасць да кожнага чалавека, да людзей працы, асабліва з замілаваннем маляваў ён нарачанскіх рыбакоў, цесляў, рабочых з будоўляў. Нават з піетызмам, як некалі ў пару маладосці — бондараў, кавалёў, жней з ваколіц Богінскага возера ды віленскіх студэнтаў і рабочых. Праўда, тады часцей карыстаўся графічнай тэхнікай — алоўкам, сангінай, вугалем, — было зручней накідаць строгія і задуменныя, усмешлівыя і адкрытыя аблічча. Як і тады, трыццаць — сорак год назад, называў ізноў свае, цяпер ужо жывапісныя партрэты паводле рабочай прафесіі партрэтаваных, зрэдку дадаючы нейкі біяграфічны штрых, указваючы месца працы, упадабанае імя: «Цясляр», «Броня з нарачанскіх будоўляў», «Нарачанскі рыбак», «Сталяр». Пісаныя на пленэры, партрэты гэтыя, іх фарбы ўбіралі ў сябе яркае летняе сонца, сінечу азёрных хваль, смугу далечы. Старонняму чалавеку яны маглі расказаць пра міралюбны, працавіты, не вельмі патрабавальны да жыццёвых умоў народ. Жыццястойкаоць, зямную трываласць, працавітасць нягучна паэтызаваў, сцвярджаў мастак у вобразах людэей, з якімі ў свядомасці яго былі звязаны паняцці «народ», «мой народ».

Як і раней, пісаў Сергіевіч жаночыя патрэты камернага характару, без эцюдаў, у майстэрні. Пісаў іх многа, і разыходзіліся яны па руках заказчыкаў. Найчасцей былі гэта партрэты знаёмых, сваячак, людзей блізкіх. Сярод іх — партрэт найбліжэйшага чалавека — жонкі. Спакойнае жаночае харство вылучае партрэты Стасі Сергіевіч сярод іншых, намаляваных мастаком у 60—70-я гады. Вобраз, перанесены з жыцця на палатно, падкупляе разумным, лагодным характарам, прыхаванай душэўнасцю. Сціплыя строі без мала на ўсіх партрэтах Станіславы Сергіевіч (небагата жыла сям'я мастака) не прытушваюць, не захінаюць уласцівую натуры яе жаноцкасць і нязмушана адцяняюць натуральную, ад прыроды гожасць. Партрэты жонкі мастака ў цэлым вытрыманы ў строгай манеры, і толькі адзін у нейкім асабліва прасветленым настроі. Пані Стася прылегла на малінавай кушэтцы ў майстэрні, абаперлася на правую руку. Задумліва-ўсмешлівая, у летняй з кароткімі рукавамі сукенцы. Высокастольная працоўня мастака да краёў напоўнена сонечным святлом. Партрэт атрымаўся інтымным, святляным, маляўнічым, абуджае роздум пра радасць жыцця і яго хуткаплыннасць.

Яшчэ былі, снаваліся планы на будучыню. Мастак вяртаўся да нясконччаных рэчаў, тэматычных карцін. Напісаў «Вячэрнюю баладу». Сюжэт стары. Мастак звяртаўся да яго ў маладосці. Толькі цяпер пад спрактыкаванай рукой майстра ён набыў іншую псіхалагічную матывіроўку і мастацкую напоўненасць. У яго трыццацігадовай даўнасці «Залётах» адчувалася зададзенасць, кампазіцыйная недасканаласць пры ўдачнасці вобразаў, асабліва дзяўчыны. У «Вячэрняй баладзе» сюжэт малазменены. Хлопец прыехаў на

кані пад адчышенае акно. Прыехаў позна, пры святле паўсталага на небе маладзіка. У акне ніхто не паказаўся, але, відаць, за асветленымі шыбамі яго нехта чакае. У карціне разліта атмасфера таямнічасці, чакання. Яна не толькі ў начным покрыве зямлі, дому, прасветленым акне, але ва ўсім, што стварае вобразна ўзноўленае на палатне жыццё.

Нават у буйной расліннасці, павялічанай ценямі ў месячным святле. І, вядома ж, у самім хлопцу на кані: яго трывалай постаці і паставе, якая хавае ад гледача выраз твару.

Мастацкі эфект дае і своеасаблівае змяшчэнне ў часе. Вобразныя рэаліі пераносяць наша ўяўленне ў даўнейшыя гады. Адчуванне такое, нібы на карціне адлюстравана сустрэча ў нейкіх экстрэмальных умовах. Можа, гэта паўстанец часоў Каліноўскага ці сам няўлоўны для сышчыкаў і жандараў Світка завярнуў каня на таямнічы агеньчык у акне. Прыцягальная сіла твора яшчэ і ў сюжэтнай недамоўленасці: мы нікога не бачым у акне, адчуваем толькі, што там нехта чакае… Само асветленае акно творыць нейкі важны кампазіцыйны цэнтр.

Не было змогі ўсё недапрацаванае закончыць, перапрацаваць нанава асобныя рэчы, якія прасілі новага заходу, нейкай іншай эмацыянальнай, душэўнай хвалі, каб вобразы зажылі самастойным жыццём. Вось некалі пад віхурны танец у Наднараччы, пад час свята песні, яго мастакоўскую свядомасць уразіла пранізлівая думка: у «Лявонісе» — само ўвасабленне народнай душы, народнага беларускага характару, не прыгнечанага, не скажонага цяжкім мінулым, няпэўным будучым. Падаць танец як увасабленне народнага духу, узняць яго да сімвала. А на палатне выйшла пярэста. Чым-чым, а ўжо стракатасцю, крыклівай фарбай ён не грашыў. Яго палітра стрыманая. Можа, надта непасрэдна ішоў ад натуры? Ад самадзейнага пад народны касцюм-строй? Трэба было больш абстрагавацца, ухапіць толькі дух і заключыць яго ў лаканічную вобразную форму. А дух якраз не даваўся. Ва ўсякім разе ўзняцце яго да сімвала не выходзіла.

Больш наблізіўся да жаданай ідэі ў «Дажынках». Сам не раз бачыў, як спраўлялі гэта традыцыйнае на Беларусі свята-звычай, заслухоўваўся, як танула ў мінорных пералі-вах над полем, глухнучы ў лесе, старадаўняя жніўная песня. Натурнага матэрыялу для напісання дажынак хапала пад рукой: нямала занатаваў, вымаляваў народных тыпаў, ха-рактараў. Былі, што называецца, гатовыя вобразы — і касец, і жняя. Брата Федзю, які пасля партызанкі «ўверх» не пайшоў, вярнуўся да зямлі, маляваў з граблямі на плячах, гэтай спрадвечнай сялянскай прыладай працы. Маляваў, якім заставаўся ў жыцці, — маладжавым, падцягнутым, з разумным, праніклівым позіркам з-пад насунутай на вочы кепкі.

Кампанаваў «Дажынкі» мастак з нарыхтаванага матэрыялу, нешта дапісваючы. Выстройваў жыццярадасных маладых жней, касцоў у цэлую працоўную грамаду, што на заходзе сонца вяртаецца з нівы. Як на першы погляд, кампазіцыя, з яе старадаўнімі працоўнымі рэаліямі, сярпамі ды касамі, у нечым не пасавала часу: у век камбайнаў спрадвечныя прылады працы? Але мастаку рупілі не выяўленне сучаснасці, меранае здабыткамі цывілізацыі,

а дух традыцыі. Ён імкнуўся перадаць сутнасць, атмасферу таго працоўнага свята, якім былі некалі для селянша заканчэнне жніва — дажынкі.

У шэсцьдзесят чатыры гады мастак напісаў свой апошні аўтапартрэт. Ён розніўся ад ранейшых не толькі выяўленча, але перад усім трактоўкай чалавека, асобы. Розніўся ад вобраза таго прастадушнага насмешлівага мастака з мальбертам за плячамі, які вітаецца ў полі з грамадкай дзяўчат — капальніц бульбы, ад расхрыстанага, усмешлівага, крыху зухаватага Сергіевіча з аўтапартрэта 1940 года, ад пагружанага ў працу, апантанага чалавека — 1949-га. Аўтапартрэт Сергіевіча 1964 года — партрэт сталага, пажылага ўжо чалавека, поўнага, аднак, душэўнай энергіі, жыццярадаснага, светаімклівага.

Зробім невялікае адступленне, якое, магчыма, паможа лепш зразумець апошні аўтапартрэт мастака. У пасляваеннай Вільні Сергіевіч па непрацяглай працы ў Беларускім музеі, а пасля яго ліквідацыі (дарэчы, слоўца з акрэсленага часу і пэўнай сферы) непрацяглай педагагічнай занятасці ў Вільнюскім мастацкім інстытуце аказаўся крыху наводшыбе ад бальшакоў мастацкага жыцця. Натуральна, усё дыялектычна, і былі ў мастакоўскай самоце свае мінусы і плюсы… Ды не ўсе духоўныя кантакты перапыніліся. Творчыя, праўда, моцна паслабелі пасля таго, як цэлая грона мастакоў-вілянчан рэпатрыявалася ў Полыпчу. Было сярод іх нямала калег Сергіевіча па «выдзяле штук пенкных» — мастацкім факультэце універсітэта. Праз гады яны адчуюць вострую настальгію па старой Вільні, і прывезеныя Сергіевічам у Варшаву з нагоды выстаўкі эцюды, на якіх адлюстраваны універсітэцкі дворык, фрагменты старога горада, будуць для іх найдаражэйшым падарункам. А сам Сергіевіч, палюбаваўшыся адноўленай польскай сталіцай, Гдыняй ды Кракавам, яшчэ раз упэўніцца, што меў рацыю, калі не паслухаў сяброў, якія клікалі з сабою — нішто не заменіць мастаку родную зямлю.

З сяброў маладосці, той, што прайшла ў аўдыторыях ды майстэрнях мастацкага факультэта на Бернардзінскай, поруч заставаўся адзін Рафал Яхімовіч (Яхімавічус). З ім лёгка дзяліліся напапалам і радасці творчых удач, і засмучэнні. А таго і другого хапала, пачынаючы з той даваеннай, польскай пары, калі яны сталі свядома працаваць, адчуваючы, што называецца, локаць адзін другога, кожны на мастацкай дзялянцы свайго народа, Але вось Рафал захварэў і, як скора стала зразумела, без надзеі паправіцца. Перад адыходам у незваротнае, нязнанае, таямнічае папрасіў Пётру абвесці яго па любых сэрцу мясцінах горада і яго наваколля. Ціха развітваўся з імі. Смерць Рафала жорстка абрывала душэўныя повязі Сергіевіча. Варта было азірнуцца ў майстэрні на скульптурны партрэт Івана Луцкевіча, выпеставаны Рафалавымі рукамі, як усплывала безліч згадак, светлых і шчымлівых.

Але жыццё ішло, і нешта са старых, страчаных сувязяў заступалася новымі. З пачатку 60-х на парозе Сергіевічавай майстэрні на Антокалі ўсё часцей сталі з'яўляцца мінчукі — навукоўцы, літаратары — самы розны люд. Неяк як бы і не выпадала інтэлігентнаму чалавеку з Беларусі, будучы ў Вільні-Вільнюсе, не заглянуць у дом пад аслонай старых ліп, ганак якога вартавалі два сціплыя тутэйшыя сфінксы. Сергіевіч цяпер тут

рэпрэзентаваў не толькі мастацтва, а нешта большае. Пэўна, нямала для каго, як пазней і Зоська Верас, ён быў часцінкай, увасабленнем той Заходняй Беларусі, усёй Беларусі, якая некалі была ўся ў руху, у змаганні, пошуку шляхоў да будучыні. І ўжо як самае малое, гэты сціплы, несамавіты знешне чалавек у вачах суайчыннікаў быў адным з тых інтэлектуалаў, што насуперак гістарычнай беларускай драме, ударам лёсу не пераставалі працаваць, рупіцца каля «гмаху беларускай культуры, калісьці распачатага»…

Мінск для Сергіевіча меў сваю прыцягальную сілу яшчэ з даваенных часоў. Як-ніяк там у 20-я гады як нідзе высока шугала полымя беларускага духу, роднай культуры. І хоць пазней крывавы туман засланіў шлях той інтэлігенцыі, што выйшла з народа, каб працаваць дзеля яго духоўнага ўзвы-шэння, дабра, сцвердзіць імя і правы беларуса, — той-сёй заставаўся пры ачагу яго духоўнасці. Не лістамі, хутчэй новай кнігай паэзіі з прысвячэннем, якое сведчыла, што даўняе сяброўства не забыта, зрэдзьчасу адгукаўся з Мінска Максім Танк. Радасна і трывожна было мастаку сачыць за яго словам.

Радавалі рэдкія вясціны ад мастака — Сергіевіч лічыў яго майстрам беларускага пейзажу — Мікалая Дучыца. А цяпер маладзейшыя сталі клікаць у Мінск — паказаць свае творчыя набыткі гледачам. Яшчэ без апоры на мінскую мастацкую інтэлігенцыю, толькі па дазволу Саюза літоўскіх мастакоў і Міністэрства культуры Літоўскай савецкай рэспублікі ў 1963 годзе Сергіевіч адбыў першую персанальную выстаўку ў Мінску. Была зычлівасць, цікавасць тых, хто наведаў выстаўку ў мастацкім музеі. Было і падводнае каменне

У самім музеі. Былі лікі і маскі. Мастак, аднак, адчуў, што праца яго небязадрасная, што яна знаходзіць разуменне і душэўны водгук, часам вельмі шчыры і самавіты. Гэта паддавала настрою. І хоць «Каліноўскі», якога так не хапала ў залах мінскага музея, у стагоддзе паўстання вяртаўся назад у майстэрню на Антокалі, у Мінску заставаўся яго «Скарына ў рабочым кабінеце», заняўшы трывалае месца ў экспазіцыі Дзяржаўнага гістарычнага музея. Да дзесяці твораў ягоных ужо стала прыпісалася ў Мінску, у музеях, разышлося ў выглядзе рэпрадукцый у хрэстаматыях, чытанках. Што ж, няблага для мастака, які толькі госцем ступае на мінскія вуліцы.

Снаваліся новыя планы. «Яшчэ папрацую», — казаў мастак, характэрным жэстам сціскаючы ў кулак дужую трывалую руку. Марыў пра новую сустрэчу з беларускім гледачом у Мінску, прадбачыў прыход у беларускую культуру цікавай маладой генерацыі мастакоў. Да новага паказу мінчанам збіраўся адабраць з напрацаванага самае лепшае. Вось такі гістарычны, калі дазволіце, і псіхалагічны фон, на якім пісаўся апошні аўтапартрэт Сергіевіча. На ім — сталы чалавек, якога цяжка назваць пажылым — столькі душэўнага агню, парыву ў яго адкрытым твары, імкнення да жыцця, творчасці. Мастак падае сябе без усякіх прафесійных адзнак на цалкам нейтральным фоне. Апранутым па-хатняму, як звычайна пры рабоце ў майстэрні. Нічога лішняга, адна чалавечая, асабовая сутнасць. Такім, якім быў у жыцці, творчасці, якой запальваўся, дзеля якой жыў, свяціўся і імкнуўся свяціць сэрцам, не глухім

на хараство, дабрыню, чалавечнасць. У новыя планы мастака ізноў ішла Купалава тэма, на гэты раз навеяная вершам «А зязюля кукавала».

Як на свет радзіўся Янка,
Як заплакаў многа-мала, —
Пела маці над калыскай,
А зязюля кукавала…

У элегічным запеве, у роздуме паэта-вешчуна над сваім лёсам мастак узяў тры матывы, тры эпізоды. Разгортваў іх у форме трыпціха: «Калыханка», «Ясевы «універсітэты» і «Сейбіт». Ідэйны акцэнт, натуральна, рабіў на апошняй частцы трыпціха. У ёй выяўляў сваё разуменне Купалы як будзіцеля, паэта-змагара, сейбіта ў вышэйшым, духоўным разуменні слова. Момант Купалавай працы-сяўбы трактаваў алегарычна, але цалкам на рэалістычнай вобразнай аснове. Паэт увасоблены ў вобразе сейбіта, што выйшаў на ніву і

Ўзараную раллю. Над полем грамоздзяцца хмары, неба падпёрта дугой вясёлкі — насоўваецца навальніца. Купала-сейбіт у расхрыстанай сарочцы, з непакрытай галавой — як спакон вякоў засявалі зямлю, калі сяўба была і працай, і святадзеяннем адначасна. Ён мерна-размашыста ступае па раллі з сяўнёю. Ідзе на-сустрач буры, і адчуваецца самаадданасць і нават апантанасць у яго сейбіцкай працы. Вобраз сейбіта і сама сяўба на фоне рухомага навальнічнага неба набываюць драматычны характар. Што будзе з ніваю, засяванай пад знакам надыходзячай буры?

Дзесьці ў той час, як работа над трыпціхам не пайшла (матэрыял стаў супраціўляцца, «сейбіцкая» частка падказвала, што і ў першых двух нешта трэба было ўзбуйніць, выйсці ў параўнанні з літаратурным тэкстам на болыпыя абагульненні), Сергіевіч напісаў партрэт бацькі паэта. Стварыў яго на строга дакументальнай аснове. Як вядома, лічылася ды і дагэтуль абыходзіцца маўчаннем знаходка фотаздымка Дамініка Луцэвіча. Мабыць, прывыклі да думкі, што фотапартрэта бацькі Купалы не захавалася. Тым больш што створаны Янкам Раманоўскім гіпатэтычны партрэт старога Луцэвіча надзейна ўвайшоў у іканаграфію. Мастак Раманоўскі, які так шмат зрабіў для ўвасаблення вобліку Купалы ў выяўленчым мастацтве, карыстаўся ўспамінамі цётак, сясцёр паэта. Але, здаецца, на яго версію вобраза Дамініка Луцэвіча перш за ўсё паўплывала Купалава канцэпцыя селяніна. Мастак мімаволі, і гэта псіхалагічна апраўдана, пайшоў за вобразам мужыка, створанага ў Купалавым слове, геніем паэта. Суровая доля беларускага рабачая-гаротніка выразна чытаецца ў пакутніцкіх вачах, ва ўсёй постаці партрэтаванага. Выява бацькі паэта ў мастацкай версіі Раманоўскага была прынята купалазнаўцамі і шырэй культурным грамадствам тым болыы даверліва, што не мела сабе альтэрнатывы.

Можна ўявіць Сергіевіча, які аднойчы ў сваёй майстэрні ўбачыў фатаграфію бацькі Янкі Купалы. Можна было сумнявацца. Але ж гэта быў не нейкі шалёны выпадак. Фотаздымак Дамініка Луцэвіча прынесла настаўніца

Настасся Сланеўская з Эйшышак. Педагогі Сланеўскія родам з Наваградчыны, з-пад Любчы, аселі ў мястэчку Эйшышкі пасля вайны Тут было працей выхаванцу Карлавага універсітэта у Празе ў той сумнаваты час, калі дыплом замежнай вучэльні ў вачах мясцовых беларускіх бюракратаў і ахоўнікаў ідэйнай чысціні ды парадку быў нечым сумніцельным. Дык вось Сланеўскія пасябравалі тут, у Літве, з землякамі, якія аказаліся сваякамі Янкі Купалы. Тут настаўнічаў да выезду ў Польшчу ў 1957 годзе траюрадны брат Купалы Ян Луцэвіч і заставалася яшчэ траюрадная сястра Марыя. Марыя Луцэвіч у 1926—1928 гадах з-за асцярогі арышту фактычнага рэдактара «Маланкі» часта падпісвала яе нумары ў свет, значылася адказным, за што ў 1928 годзе была пасаджана санацыйнымі ўладамі Польшчы ў лідскую турму. Вось у яе і заставаўся фотаздымак дзядзькі Дамініка. Пазней стараннямі Генадзя Каханоўскага ён трапіць у энцыклапедычны даведнік «Янка Купала», а пакуль што, у 1971-м, Сергіевіч з душэўным уздымам піша жывапісны партрэт Дамініка Луцэвіча, першы на аўтэнтычнай аснове партрэт бацькі паэта. Натуральна, строга трымаецца фотаздымка, дазваляючы сабе толькі каларыстычнае рашэнне адзення, той жа бравэркі з даматканага сукна, дарэчы, тыповага строю беларускага селяніна канца XIX — пачатку XX стагоддзяў, і то, вядома, у межах пабытавай традыцыі.

Збудзецца мара Пятра Сергіевіча аб яшчэ адной персанальнай выстаўцы ў Мінску. Тут ужо яго заахвочвае, падтрымлівае беларуская мастацкая моладзь, якая з 70-х гадоў усё настойлівей бярэ справу мастацкага жыцця ў рэспубліцы ў свае рукі, адкідае казённыя прадпісанні ў поглядах на шлях нацыянальнай культуры, шукае трывалай глебы для сваёй мастацкай практыкі ў гісторыі, традыцыях, самім народзе. Арганізаваныя ёю выстаўкі, прысвечаныя 100-годдзю з дня нарадзін паэтэсы-рэвалюцыянеркі Алаізы Пашкевіч — Цёткі, 500-гадоваму юбілею паэта эпохі Рэнесансу Міколы Гусоўскага і яго бессмяротнай паэмы «Песня пра зубра», выстаўка мастацкай спадчыны Язэпа Драздовіча пазначылі нябачныя вехі не толькі ў мастацкім, але і ў цэлым у духоўным жыцці Мінска, рэспублікі. Яны былі звестунамі нечага большага, чым толькі мастацкі паказ, прарывам да новага.

На сваю апошнюю выстаўку ў Мінску (адбылася яна ў 1978-м, неяк з юбілеем мастака разышоўшыся) Сергіевіч глядзеў як бы збоку. Фактычна мінская мастацкая моладзь арганізоўвала і ладзіла яе сама, з увагі на пажылы век майстра з ім толькі раючыся. Самі адбіралі палотны, самі кампанавалі экспазіцыю ў Палацы мастацтваў. Мастак чуўся госцем на сваім свяце. Ды, уласна, пачуццё гаспадара, рэпрэзентатара ў ім заўсёды тушавалася. Не спрыялі гэтаму жыццёвыя ўмовы, дый у самой натуры не было яго, мабыць упэўнена адчуваў сябе толькі пры мальберце, сталюзе, як называў яго.

Не ўсё новае у атмасферы Мінска патрапіў адчуць стаоы мастак. Адно кінулася ў вочы: кола людзей, для якіх мастацтва, у тым ліку яго творчыя набыткі, нешта важнае, незаменнае, шырэла, адчуў, што ідзе новае пакаленне нераўнадушных, актыўных у сваім стаўленні да ўсяго, смелых людзей.

Пачуццё, што ты са сваёй творчасцю аказаўся не дзесь на абочыне, не адрынуты, а патрэбны ім на новым, невядомым шляху, прыносіла суця-

шэнне, супакойвала. Значыць, недарэмна. Што хавацца, часам сам-насам са сваімі партрэтамі, карцінамі, аркушамі ў майстэрні, на антокальскай самоце пытаўся ў сябе: «Ці дайду? Ці пачуюць? Ці ацэняць?..» Рэдка, а ўсё ж прарываўся ў душу такі настрой. Стараўся прагнаць яго працай.

Што і казаць, апошні прыезд у Мінск быў шчаслівы. Мастак убачыў свае творы розных гадоў (шмат іх ужо даўно разышлося па музеях) разам. Яны выстройваліся ў нейкую цэласць, і, разам з тым, з кожным паасобку ў мастака была цяпер свая маўклівая размова. Адзін радаваў яго. Другі? Нешта хацелася ў ім змяніць. Цешыла ўвага людзей. Падыходзілі, пацiскалі руку, пыталіся. Акадэмік Гаўрыла Гарэцкі, Янка Брыль папрасілі дазволу набыць сабе «Зварот» і «Капліцу над Богінскім возерам…». Але быў у мітусні свята і момант развітання. Развітання, нябачнага староннямy воку.

Надыходзілі жыццёвыя змрокі. Сілы пакідалі старога майстра. Пачаў здраджваць вокамер. Стала здавацца, што ў ранейшых яго партрэтах Багдановіча, Яхімавічуса парушана прапорцыя — занадта ўзбуйніў галовы. Хацелася справіць. Часам уладна пачынала клікаць Браслаўшчына, роднае Стаўрова. У свядомасці мільгаў вобраз маці.

Не пераставаў з болем у вачах прасіць Стасю, на чыю руку цяпер абапіраўся штодня, адведаць матчыну магілу. Раней яны рабілі гэта штогод. Да Казян дабіраліся маршрутным аўтобусам, а там, далей, ужо пехатой. Наведаўшыся на могілкі ў Плятарове, садзіліся на траву, сцішаныя, зачараваныя лясным харaством. Часам мастак успамінаў, як збіралі з матуляй ягады, сцежку, якою бег у пабудаваную графам школку, дзе непадалёк шумеў млын, тухкала машыннае сэрца фабрыкі, бялеў невялічкі касцёлік…

Але цяпер у гэты няблізкі ад Вільні і такі блізкі і дарагі мастаковаму сэрцу куток няпроста было дабрацца. Надзеі на ўласныя ногі не было. Усё ж надарыўся шчаслівы выпадак. Неяк ёй, Стасі, давялося загаварыць пра свой клопат з незнаёмым чалавекам. Той з жонкай на ўласнай машыне выбіраўся штолета пад Богінскае ў ягады. Знайшоў месца і мастаку, душа якога сасмягла па родным кутку. Як жа быў той удзячны зычліваму незнаёмцу. Толькі ўбачыў купалы казянскай царквы, слёзы хлынулі з вачэй. Балюча было бачыць той, што была цяпер неадступна побач, гэта поўнае сумнага прадчування апошняе развітанне мастака з родным кутком.

Дома хацелася выбрацца на прастор са звычных да апастыласці сцен. Выходзіў міма маўклівых, не раз крыўджаных людзьмі сфінксаў, ішоў у завулак побач з домам. Спускаўся да Вяллі, што была тут блізка. Вецер каціў, гнаў пажоўклае лісце, развяваў сівыя валасы майстра. Раставаў няўцямны сум, і сустрэчных знаёмых уражвала глыбокае ўнутранае святло чыстых блакітных вачэй чалавека ў берэце. Вялля рабіла адвечную сваю работу — несла міма мастака, як дзесяткі гадоў таму, калі ён першы раз схіліўся над яе водамі, хвалю за хваляй у далеч невядомага… Скупое асенняе сонца клала на зямлю і ваду мяккія цені захаду.

Пётра Сергіевіч ціха адышоў у іншы свет 1 лістапада 1984 года.

*1990*

# Васіль Сідаровіч: Беларуская элегія

У Лукаша Сідаровіча, які гаспадарыў на нейкіх пяці гектарах скупаватай зямлі ў вёсцы Сівіца, што на Смаргоншчыне, было дзве дачкі і тры сыны. Дочкі, як толькі падраслі, адвечным парадкам пайшлі замуж. Адна ў сваю вёску, а другая праз гару (край тут узгоркавы, няроўны) — у Гарбачы.

У сыноў была свая, іншая доля. Самы старэйшы — Дзімітра — добра маляваў і вучыўся няблага. У лепшыя часы мог бы пашукаць сабе дарогі ў мастацтва, навуку дома, на бацькаўшчыне. Але да лепшых часоў тады было надта далёка, і Змітрок Сідаровіч, адно толькі скончыўшы рускую гімназію, падаўся ў свет. Услед за землякамі, што наважыліся шукаць лепшай долі, а папраўдзе, проста кавалка хлеба, аж за акіян. Было гэта яшчэ да першай сусветнай вайны.

Трохі болей затрымаўся дома малодшы Лукашоў сын Васіль, народжаны ў 1905 годзе. Утрох, з бацькам і серадолыным братам Захаркам, які хлопцам толькі што вярнуўся з вайны, недзе аж з-за Петраграда, будавалі новую хату. Ставілі яе па наднаселлю, на месцы акопаў і бункераў, што засталіся тут ад руска-германскага фронту. Фронт той то заціхаў, то зноў грукатаў тут, побач, ажно тры доўгія гады, і сівічане нагледзеліся і наслухаліся living розлага. Ужо пасля Лютаўскай рэвалюцыі тым, хто не падаўся ў бежанства, давялося бачыць і чуць Керанскага. Ён выступаў на Сівіцкім выгане перад салдатамі, намаўляў воінства трымаць баявыя пазіцыі ў імя рускай свабоды, наступаць.

Часы, улады мяняліся, і ў Сівіцы, як і ва ўсёй Заходняй Беларусі, з пачатку 20-х гадоў усталявалася Польшча. Нешта заставалася як даўней, нешта змянілася пад польскай рукой. Што ж да Васіля Сідаровіча, то ён, у адрозненне ад старшага брата, вучыўся ўжо не ў рускай, а ў беларускай гімназіі ў Вільні. Вучыўся не вельмі паспяхова: блага давалася хлопцу латынь, якой у Віленскай беларускай гімназіі, як вучэльні класічнага гуманітарнага тыпу, надавалася значная ўвага. Але дырэкцыя і педагогі, якія спадзяваліся выхаваць беларускіх Ламаносавых ды Рэпіных, цанілі здольнасць Васіля Сідаровіча да малявання і стараліся даць яму належную адукацыю. Займауся малюнкам Васіль Сідаровіч у майстэрні Язэпа Драздовіча, адкрытай пры гімназіі, і рана пачаў паказвацца са сваімі графічнымі рысункамі ў славутай на ўсю Заходнюю Беларусь «Маланцы».

Маляваў на тэмы, якія падымаў тады ўвесь апазіцыйны ўладзе беларускі перыядычны друк. Сатырычная графіка Васіля Сідаровіча на старонках

часопіса «Маланка» насіла пераважна характар разгорнутых кампазіцый, тэматычных малюнкаў, была падпісана тэкстамі, актуальнымі для свайго часу. Сродкамі графікі мастак трапна перадаваў сацыяльныя кантрасты заходнебеларускай, польскай рэчаіснасці даваенных гадоў, адлюстроўваў рост грамадскай свядомасці народа (серыі малюнкаў «Хоць гультаём мяне завуць, а з працы маей жывуць», «Праўдзівы пост», «Што Рыгор у свеце бачыў» і інш.).

У сваёй графічнай сатыры Васіль Сідаровіч выкрываў сацыяльную дэмагогію буржуазных партый і груповак, засілле ў краіне паліцэйшчыны, палітычны сыск, як сродак барацьбы з апазіцыяй, з вальнадумствам (серыі малюнкаў «Хто сказаць нам можа, што гэты доктар паможа», «І на зямлі і пад зямлёй «апякун» усё за табой»). Асобныя тэматычныя малюнкі Сідаровіча мелі адкрыта агітацыйную скіраванасць («Беларусь, ты прабуджайся, ашукаць сябе не дайся»). Як мастак-маланкавец Сідаровіч стварыў досыць каларытныя тыпы беларускага селяніна, польскага чыноўніка і высокага дзяржаўнага ўрадоўца, а таксама запамінальныя вобразы памешчыка, паліцыянта, шпіка. Гумарыстычна-сатырычная графіка Сідаровіча развівалася ў агульным рэчышчы заангажаванага вызваленчым рухам мастацтва.

З сярэдзіны 20-х беларускі вызваленчы рух у Польшчы набірае арганізацыйную моц і масавасць. «З грамадой новы свет адкрыўся», — успамінаў пляменніку стары Захар Сідаровіч тыя далёкія часы. Прыязджалі віленскія гімназісты ў Сівіцу. Сходы праводзілі. Гаварылі пра цяперашняе жыццё і пра тое, як павінен жыць беларускі гаротнік-земляроб. Бабы плакалі, слухаючы маладых людзей. Новы дух сеялі яны ў народзе. Заклікалі і расказвалі, як трэба пісаць пра ўсе крыўды, што чыніць мясцовае начальства, у Вільню, у Беларускі пасольскі клуб ды ў свае, беларускія газеты. Ладзілі і прадстаўленні для вяскоўцаў, чыталі вершы, песні спявалі. Асабліва запомнілася, была падхоплена моладдзю — «Адвеку мы спалі і нас разбудзілі» — праўдзівая, пабуджальная песня. А дома, у хаце Сідаровічаў, хлопцы спявалі і яшчэ смялейшыя баявейшыя песні. Але гэтыя ўжо, каб не пачула паліцыя, якая заўсёды тырчала на сходзе ці вечарынцы. Пастарунак (паліцэйскі ўчастак) быў побач — у Беніцы. І маладыя рэвалюцыянеры, грамадаўцы ці камсамольцы-падпольшчыкі, якіх ва ўсёй ваколіцы налічвалася нямала, былі на воку ў ахоўнікаў рэжыму. Зрэшты, моцна на гэта не зважалі. І падпольныя сходкі ладзілі пад носам у паліцыі, на гары ў капліцы.

Важаком сівіцкіх падпольшчыкаў быў Сяргей Сабіла. Пазней ён, як і безліч заходнебеларускіх хлопцаў і дзяўчат, эмігрыраваў у СССР і па непрацяглым свабодным жыцці паў ахвярай масавага дзяржаўнага тэрору, асабліва жорсткага ў 1937—1938 гадах.

Васіль Сідаровіч стаў камсамольцам у гімназіі. Меў пэўныя заданні, калі прыязджаў на летнія канікулы, наогул наведваўся ў вёску. Але больш аддаваў часу рысункам. Маляваў краявіды з сівіцкіх ды янеўскіх аселіц. Любіў тую смутную пару, калі адыходзіла лета. На сенажаці знікала буян-

ства траў і кветак, а заміж іх стаялі стагі ціхім, смутным напамінкам аб раскошы і характве зямлі. Умеў надаць жыццё на палатне фарбамі па перадасенняму зажуранай рачулцы са старой алешынай над яе ўлоннем. А часам і злавіць маладое імгненне вясны, маладосці. Памятаю апошні такі Васілёў абразок у хаце дзядзькі Захара ў Сівіцы. Разглядаючы яго, на адваротным баку заўважыў не такую ўжо і нечаканую ў сялянскай хаце паметку «Свіння пагукавала 21 акцябра»: у сярэдняга Сідаровіча, раз ужо прыйшлося да слова, быў прыгожы, мастацкі почырк. Усе тры браты Сідаровічы адчувалі характва, пявучасць лініі, праведзенай чуйнай рукой.

Яшчэ даводзілася, і даволі часта, маляваць Васілю Сідаровічу рэкламу, а часам і заднік да беларускіх спектакляў, дзейсна ладжаных моладдзю ў 20-я гады. Брат мастака ўспамінаў, як да Васіля наведваліся хлопцы з просьбай напісаць нешта для прадстаўлення. Здаралася, заставалі сябра-мастака за нейкай хатняй работай. То падмянялі яго, садзіліся абіваць пранікам ільняное насенне ці браліся за маладзьбіцкі цэп. А Васіль тым часам садзіўся за палатно. І незадоўга хлопцы ад'язджалі на роварах з ужо гатовым заказам. Запомніліся Захару найбольш каларытныя з тых Васілевых накідаў: чорт, высалапіўшы язык, падае на вілах кабеціне мяшок золата (пэўна, ставілася камедыя «Чорт і баба»), і закратаванае акно з ценем чалавека за ім (можа, ішло ў адной з бліжэйшых вёсак «Апошняе спатканне» У. Галубка).

Свет павузеў пасля разгрому Беларускай сялянска-работніцкай грамады. «Маланку» яшчэ крыху цярпелі ўлады, але не доўга. Шмат хто з хлопцаў аказаўся ў астрозе. Адзін за адным сябры-мастакі з іх невялічкай грамадкі, злучанай майстроўняй Я. Драздовіча, пачалі падавацца за мяжу, у Саветы, дзе, верылі, будаваўся новы, справядлівы свет.

Спачатку перабраўся на Усход Раман Семашкевіч, за ім Мікола Васілеўскі. Толькі выбавіўшыся з Лукішак, адразу папраставаў праз «зялёную граніцу» ў Мінск Васілёў зямляк і сябар Алесь Салагуб. Туды ж падаліся і сівіцкія хлопцы І дзяўчаты: Сяргей Сабіла і Марыя Зяневіч, Антон Лескаць і Вольга Бандаровіч, Пётра Валынец і Трахім Гарбач, Пётра Жукоўскі, сёстры Рудовічышкі, Параска і Сцепаніда, два браты Жукоўскія, Антон і Іван, і іх сястра Таццяна.

У гэты радасна-трывожны і, як аказалася, фатальны вырай заходнебеларускай моладзі аднае ночы вырушыў і Васіль Сідаровіч. Ці пабачыўся з Алесем, Раманам, Міколам, хлопцамі-землякамі, цяжка сказаць. Ва ўсякім разе былі весткі ад Васіля, прысланыя з Віцебска. Яны падпісаны 1929 годам. Відаць, ішоў слядамі Рамана Семашкевіча. У Віцебск кіраваўся, каб здабыць у мастацкім тэхнікуме спецыяльную сярэднюю адукацыю. Як было далей, невядома. Маўчыць пра гэта сфінкс той пазначанай безліччу трагедый эпохі. Вядома толькі з лістоў да радні ў Сівіцу, што апынуўся Васіль ажно ў Чэлябінску. Працаваў там мастаком-дэкаратарам у мясцовым тэатры. Ажаніўся з удавой, якая мела дачку ці сына. Быў жыў-здароў да 1937 года, які стаў апошнім у ягоным жыцці, як і ў жыцці мільёнаў яго суайчыннікаў. Цяжка з пэўнасцю сказаць, па якім прынцыпе наркамат унутраных спраў, наглядальныя органы размяркоўвалі эмігрантаў па краіне. Ёсць сведчанні,

што тых, хто быў незгаворлівы, не ішоў на згоду з ДПУ стаць яго тайным супрацоўнікам, пасылалі далей. Быў, вядома, і нейкі індывідуальны падыход. А ў канцы 30-х — 1938-1939-м — многіх вярталі ў Мінск пад выглядам перасуду. Збіралі з усёй краіны, асабліва камуністаў. Відаць, мела НКУС Беларусі нейкае права на іх душы, галовы. Для абсалютнай большасці той перасуд канчаўся Курапатамі і да іх падобнымі жальбіннымі мясцінамі.

Найстарэйшы з братоў Сідаровічаў, Дзімітра, дажыў да глыбокай старасці. Рознага пабачыў на вяку. Жыў нябедна: меў залатыя рукі. Мог, напрыклад, выштукаваць скрыпку, за якую ўзяў 40 тысяч долараў. Прыслаў быў у Сівіцу аўтапартрэт. На палатне такі сабе дэндзі ў пенснэ, портках-дудачках. У пачатку 30-х пакутваў ад беспрацоўя, адзін час працаваў на фабрыцы і быў заняты такім руцінным працэсам, як прышыванне гузікаў. У цэлым жа жыццё не ўдалося на тым, здавалася, сонечным беразе. Ажаніўся быў з дачкой рускага эмігранта. Быў нейкі няпэўны авантурыстычны момант у той жаніцьбе ці проста не пашанцавала, але маладажону, каб уратаваць жыццё, неўзабаве давялося ўцякаць не толькі ад нявесты, але і з горада, і ўцякаць як стой. Хто яго ведае, што там адбылося ў той усё ж, што ні кажы, загадкавай Амерыцы з беларускім хлопцам з Сівіцы. Апошнія весткі і здымак малодшаму брату Захару Дзімітра Сідаровіч прыслаў недзе ў хрушчоўскую адлігу. Сум па бацькаўшчыне, сум па растрачаным жыцці ў радках таго апошняга ліста, напісанага добра па-руску. А на фотакартцы, так бы мовіць, жанравая сцэна. Пасівелы, згорблены, самотны стары цягнецца з чаркай да свайго бара пры сцяне, у якім відаць бутэлькі з рознымі наклейкамі.

Не лішне пашанцавала і падстаршаму Сідаровічу. Праўда, напачатку ўсё складвалася няблага. Застаўся адзін на гаспадарцы, зямлю дзяліць з братамі не трэба было. Ажаніўся з дзяўчынай з Яневіч, куды знайшоў сцежку ўслед за Васілём. Надзя ў пасаг прывезла пару каранікоў пчол. Хутка паднялася маладая абсада вакол сядзібы з вётлаў і ліп. Зямля ў Сівіцы гліністая, і калі даць гною, нязгорш расла зба-жына. Падрастаў садок, асабліва вішні. Дзеці пайшлі. Спачатку два хлопцы, потым дачка. Але пачалася вайна. Хата Захара Сідаровіча пры гасцінцы, і чалавек у ёй, як гарох пры дарозе: хто ідзе, той ушчыкне. Неяк ператрывалі, аднак. Няшчасце звалілася на галаву Захару адразу па вайне. Садзіўся на таварняк — да пасажырскіх яшчэ было далёка, — адрэзала руку. Сыны і дачка быццам і няблага аста-ляваліся ў новым жыцці. Старэйшы Генадзь, хлопцам адваяваўшы вайну, адслужыўшы сем год у Германіі, вярнуўся жывым і здаровым, давучыўся завочна, стаў паважаным пе-дагогам у Смаргоні. Малодшы Валодзя затрымаўся пры зямлі, застаўся гаспадаром у бацькавай хаце. А ён, Захар, дзядзька Захарка, неяк не трапляў у каляіну новага жыцці.

Чуўся непрыкаяна. Часам успамінаў сваю маладосць. Хлопцаў з 20-х і іх гарачыя словы, надзеі і жорсткі лёс. Усё шукаў праўды. Незадоўга да смерці прасіў свайго вучонага пляменніка напісаць старшыні Вярхоўнага Савета рэспублікі, тагачаснаму прэзідэнту, не выбіранаму, праўда, Сурганаву. А просьба-прэтэнзія заключалася ў тым, што ў колішняга гаспадара Сідаровіча З. Л. савецкая ўлада ў свой час забрала зямлю, каня, вупраж, а

дала зусім малую пенсію. Угаворвалі старога, што ўва ўсіх забралі, аб'ядналі ў адно агульнае дабро і што такія прэтэнзіі выстаўляць марна, нават смешна. Упарціўся, слухаў казанае яму і не чуў. І мусіў адзін з пляменнікаў занесці-такі ў Дом урада рэспублікі напісанае старым селянінам, які выбіўся з тропу і не стаў у новым жыцці нікім, тое пісьмо-заяву…

Не сказаць, каб няўцямным радзіўся Захар Сідаровіч ці быў у жыцці такім, прынамсі, пакуль стаяў на сваіх нагах, быў гаспадаром на невялікім надзеле.

Наўрад вернуцца да зямлі ўнукі Захара Сідаровіча. Ці здолеюць уступіць на новы, трывалейшы грунт, цяжка сказаць. Занадта доўга вятры з дажджамі з Захаду і Усходу вымывалі і высушвалі яго. Нялёгка сеяць. Яшчэ цяжэй плён зберагчы.

*1991*

# Павел Южык — жывапісец залескіх ваколіц

**Мастак родам з Вётхава**

Перад тым як расказаць пра аўтара вялікай серыі «Беларускі краявід», мастака-педагога Паўла Южыка (4.3.1874—16.3.1944), скажу крыху пра вёску, з якой ён паходзіў, і якоесь слова пра яго род. Вётхава ў залескай ваколіцы, дзе без мала ўсе вёскі маюць канчатак на «-чы»: Міхнічы, Зарудзічы, Яневічы, Готкавічы, — нават назвай сваёй сведчыць аб познім паходжанні. Яно ўзнікла пасля сялянскай рэформы 1861 года, калі адмянілі прыгоннае права і былыя парабкі графа Агінскага (сына Міхала Клеафаса) атрымалі надзелы як самастойныя гаспадары. Прапрадзеды сённяшніх ветхаўчан выбіралі мясціну пад новае селішча, як гэта рабілі іхнія прашчуры, — непадалёк ад рэчкі. Праўда, сяліліся не пры самай рэчцы, куды выходзілі іх надзелы-шнуры. Відаць, дзеля засцярогі ад вясенняга разводдзя хаты стаўлялі крыху воддаль. Невялікі Нурэц вясною шырока разліваўся, і заліўны лужок уздоўж яго летам даваў добры мурог. Па-над рэчкай ля старых вольхаў і вербаў прытуліліся лазні ветхаўчан. Спачатку вёска звалася Новаалександрова: на чэсць цара-вызваліцеля.

Надзелы зямлі былым графскім парабкам наразаліся скупа. І каморнікі, што рабілі землямерныя работы, абранілі: «Ветхая будет деревушка». Слова «ветхая», не надта і зразумелае, лёгка прыляпілася да назвы новай вёскі, а афіцыйна наданае ёй імя неяк страцілася, з гадамі зусім забылася. Бацька будучага мастака Тамаш быў садоўнікам у маёнтку Агінскага. Мой школьны настаўнік Янка Дудка, дарэчы, заснавальнік першай беларускай школы ў нашай ваколіцы «пры паляках», у 1920—1921 гадах, памятаў, як стары Тамаш Южык называў у іхняй хаце кожны вазон па-латыні, гэтаксама і дрэвы ў садзе. Як дасягнуў тых ведаў просты прыгонны селянін, не так проста і даўмецца.

Відаць, працей здагадацца, чаму свайго сына, Паўла, паслаў вучыцца ў Маладзечанскую настаўніцкую семінарыю: спакушаны ведамі сам, шукаў дарогі да асветы дзецям.

Пасля сканчэння Маладзечанскай семінарыі Павел Южык настаўнічаў у народным вучылішчы ў вёсцы Сітцы на Вілейшчыне, затым у Падброддзі. Здольны да маляван-ня, разам з навучаннем асноўных прадметаў імкнуўся прышчапіць гэтую любоў сваім вучням. Адзін час быў пакінуў педагагічную ніву дзеля навучання ў Віленскай рысавальнай школе І. П. Трутнёва, але пасля заканчэння яе ў 1901 годзе ізноў вярнуўся ў народнае вучылішча.

Стараннага ў працы, адказнага ва ўсім педагога заўважыла інспектура, і з 1915 года Павел Южык быў запрошаны віленскай дырэкцыяй народных вучылішчаў працаваць у яе канцылярыі.

Першая сусветная вайна з канца 1915 года выкінула ў бежанства культурна-асветныя ўстановы, а затым і значную частку, да мільёна, заходнебеларускага насельніцтва. Эвакуіраваўся на ўсход разам з віленскай дырэкцыяй народных вучылішчаў і Павел Южык. Апынуўся на Украіне, на Палтаўшчыне. Захаваўся з таго часу альбом малюнкаў Южыка: народныя тыпы, жанравыя сцэнкі з украінскага сялянскага жыцця.

Хвалі вайны, пазней рэвалюцыі закінулі Паўла Южыка на Волгу, дзе яму ўдалося павучыцца ў Пензенскіх вольных майстэрнях у мастака М. Ф. Пятрова.

Па ўсталяванні польска-савецкай граніцы ў 1921 годзе з адваротнай хваляй бежанцаў-рэпатрыянтаў вярнуўся Павел Южык на радзіму. Спачатку кантаваўся ў бацькоўскай хаце, седзячы кутам у пляменніка Паўла. Не проста было беларускаму інтэлігенту ў Заходняй Беларусі, падпалай пад уладу Польшчы. Шукаў апірышча пры Рускім доме ў Вільні, ажно пашанцавала — запрасілі выкладчыкам малявання ў Віленскую беларускую гімназію.

Паволі авалодваў літаратурнай роднай мовай, нават паспрабаваў напісаць паэмку па-беларуску аб лёсе дзяцей вёскі ў горадзе. У побыце ж карыстаўся рускай мовай, якой быў навучаны ў прыхадской Міхневіцкай школе ды Маладзечанскай семінарыі, дзе асобныя педагогі пільна сачылі за тым, каб выкараніць беларускі акцэнт у сваіх выхаван-цаў. Ды, урэшце, уся яго педагагічная практыка да рэвалюцый была звязана з рускай мовай.

У Віленскай беларускай гімназіі меўся даволі самавіты педагагічны калектыў, і Павел Южык у атмасферы гэтага асветнага асяродку мог пазнаць, адчуць новыя павевы жыцця, сваю беларускуіо прьналежнасць. Але трымаўся ён нея крыху ўбаку. Можа, бянтэжыў, насцярожваў радыкалізм гімназічнай моладзі: яна ў 20-я гады неаглядна звяртала свой позірк на Усход, а Южык, будучы ў Расіі, наглядзеўся рознага і меў асцярогу да таго, што там адбывалася. Не сказаць, каб замыкаўся зусім, быў «чалавекам ў футарале». Грамадскага клопату не зракаўся, але ў пэўных рамках. Калі вётхавічане вымушаны былі судзіцца з панам за сервітут, Павел Южык, або Фаміч, як яго звалі, памагаў складаць «народную ўхвалу», каб вывесіць у судзе для публічнага азнаямлення, вазіў прадстаўнікоў вёскі ў Вільню да адваката Урублеўскага. Адным словам, дапамагаў землякам, падтрымліваў як мог.

З часу працы Южыка ў гімназіі з'явіліся ў яго новапабудаваным на бацькаўшчыне, у Вётхаве, доме мастацкія партрэты юнакоў і дзяўчат, напісаныя звычайна на прыродным фоне. Дзе яны дзеліся, цяжка сказаць з пэўнасцю. Засталіся з 20-х гадоў два жаночыя партрэты. Іх можна назваць паводле імён партрэтаваных — «Цётка Марыся» і «Вольга» (захоўваюцца ў г. Смаргоні ў Л. П. Сідаровіч). У абодвух выпадках мадэллю мастаку паслужылі сваячкі. На абодвух партрэтах створаны даволі цікавыя, выяўленча-выразныя вобразы. На першым — немаладога веку, з несхаванай годнасцю жанчына ў строгага строю адзенні, у белай хусцінцы, завяза-

най пад бараду. На другім — сціплая гожая маладзіца, прывабны тып маладой беларускай сялянкі. Адкрыты зычлівы позірк, сціплы летні ўбор: белая кофта, хусцінка. У знешнім выглядзе, позірку адчуваецца вытрыманасць, трываласць у працы. Каларыт партрэта святлейшы, чым у партрэце «Цёткі Марысі», у жыцці—Вользінай свекрыві. Фон абодвух партрэтаў нейтральны. Захаваўся яшчэ адзін жывапісны партрэт работы Паўла Южыка. На ім намаляваны паважны стары, у акулярах, з доўгай сівой барадой. Праўдападобна, што гэта партрэт Тамаша Южыка, бацькі мастака. Але, на жаль, твор вельмі пашкоджаны. Аб мастацкіх вартасцях яго гаварыць цяжка. Наўрад ці партрэт можна і адрэстаўрыраваць: фарбы на палатне бязлітасна сцёрліся.

За час працы ў гімназіі Южык напісаў некалькі падвіленскіх пейзажаў. Маляваў іх, мяркую, на натурным матэрыяле, пасля паездкі на эцюды ў ваколіцы Новай Вілейкі, або Нова-Вільні, з яе маляўнічымі ўзгоркамі і далінамі, за што і была празвана польскай Швейцарыяй. Але больш эа ўсё пісаў мастак родныя яму залескія, або, дакладней, вётхаўскія, мясціны. Натаваў фарбамі розны стан прыроды, сялянскі двор, поле з мэндлікамі жыта, надрэчны краявід. Маляваў, прыязджаючы дамоў з Вільні, а выйшаўшы на пенсію — было гэта дзесь у сярэдзіне 30-х, — стала пасяліўся ў Вётхаве. Прыехаў сталы ўжо мастак з маладой жонкай, пабудаваў хату з шырокім прасторным пакоем пасярэдзіне. Служыў ён (гэты пакой) мастаку за майстэрню: вокны выходзілі ў малады сад і далей глядзелі на Букараўскі лес, вясёлы, светлы. ўвесну і шумлівы ў час зімовых адліг і завірух. Сэрца мастака цешылі партрэты яго былых выхаванцаў. Пейзажаў дабаўлялася. Дасталося Паўлу Южыку па спадчыне ад бацькі трохі зямлі, то здаў яе ў арэнду Івану Баніцэвічу, жыў у асноўным на пенсію. Падзарабляў крыху, малюючы абразы для тутэйшых цэркваў. У 1939—1940 гадах Павел Южык вярнуўся зноў да педагагічнай працы. На гэты раз выкладаў маляванне ў Залескай школе. Не могучы пражыць з маленькага свайго надзелу, да таго ж абробленага чужымі рукамі з падзелам ураджаю напалову, мусіў пайсці на працу ў школу і ў час вайны. Быў настаўнікам малявання не толысі ў сваёй, Залескай школе, але і ў Сіньках. Гэта кіламетраў за сем ад Вётхава. Два разы на тыдзень вазіў яго ў Сінькоўскую школу хлапец Рамана Южыка Валодзя. І, пэўна, не дзеля большага кавалка хлеба, дзеля прыварку: заробак настаўніцкі быў сціплы, ледзь не сімвалічны. Значыць, быў клопат, каб дзеці ў час ваеннага діхалецця не заставаліся без школы, не дзічэлі. Помніцца мастак у старым паліто, каракулевай шапцы дарэвалюцыйнага строю, з ляскай у руцэ. Насіў з сабой у школу эцюднік у драўлянай скрынцы. Памятаю яго рукі — зімою пасінелыя ад холаду. Пазней наша настаўніца Алена Раманаўна з Южыкаў звязала яму пальчаткі, за што ўдзячны мастак падараваў ёй (паказвала, хвалілася нам, дзятве) прыгожы пейзаж.

А наогул пейзажныя эцюды і партрэты Южыка разыходзіліся па залескай ваколіцы. Пасля вайны, калі яшчэ была Маладзечанская вобласць, загадчык абласнога Дома народнай творчасці Носаў і інструктары адбіралі творы П. Южыка на абласную выстаўку. З яе яны ў Вётхава не вярнуліся. Хоць у ўдавы мастака і была на руках квітанцыя, што Маладзечанскі аблас-

ны Народны дом прыняў творы яе мужа на выстаўку, ніхто аддаваць іх не збіраўся. Бачыш, што жанчына сціплая, бязрадная — можна і падмануць.

Работнікі ад культуры сталінскіх часоў не былі абцяжа-раны сумленнем. Былі гэта адмысловыя культуртрэгеры.

З'язджаліся на лоўлю шчасця і чыноў з усяго свету людзі ўвішныя, выпадковыя, запаўняючы вакуум на той дзялянцы, дзе раней працавала беларуская інтэлігенцыя, старанна вы палатая за час рэпрэсій 30—50тХ гадоў. Не беларуская абыякавасць, несвядомасць віной таму, што спадчына Паўла Южыка, і ці аднаго толькі яго, аказалася распыленай. Памятаю такі выпадак. Будучы студэнтам, зайшоў у Дзяржаўны мастацкі музей БССР з просьбай, каб забралі ва ўдавы Паўла Южыка тое, што засталося пасля мастака. Натрапіў на намесніка дырэктара музея. Спытала, ці пісаў Павел Южык графічныя работы. Кажу, што графікі мала, альбом адзін, а пісаных маслам пейзажаў шмат і партрэты жывапісныя ёсць. Нават адрас не запісала. Зразумеў, што спытала пра графіку для прыліку, дзеля адчэпнага. Праўда, цікавіўся спадчынай Южыка доктар мастацтвазнаўства М. Кацар. Неяк прыязджаў у Вётхава да Марыі Аляксееўны. Распытваў пра мужа, фатаграфаваў творы. Але на тым усё і скончылася. Стары мастацтвазнавец справу да канца не давёў. Выйшаўшы на пенсію і пакінуўшы Інстытут мастацтвазнаўства, зусім адцураўся навукі.

А летась не стала і ахоўніцы рэшткаў мастацкай спадчыны Паўла Южыка, яго нядоўгай спадарожніцы. Адве-даўшы залескі могільнік, побач з удзірванелай магілай мастака ўбачыў неачарсцвелы крыж і свежы землянынадгробак. Сумна ўспомнілася, што мала затрымаўся, мала пагаварыў з Марыяй Аляксееўнай у апошнюю нашу сустрэчу, і яе лёгкае нараканне, што мала пішуць пра Паўла Фаміча, ды і тое блытаюць. Мела на ўвазе публікацыю ў раённай газеце. Вось так. Жыў у Вётхаве калісь мастак і настаўнік. Любіў сваю зямлю, яе людзей, расказваў пра іх сваім мастацтвам. Бог не абдзяліў Паўла Южыка талентам, пачуццём красы і дабрыні. Але час, палітычныя ўмовы беларускага жыцця ды сацыяльныя варункі не спрыялі шырэйшаму разгарненню чалавека, яго таленту. Ціснулі да зямлі, вязалі крылы.

*1991*
*1997*

# 4. ПЕСНЮ — У СПАДЧЫНУ

## Агінскі ў Залессі

Вялікі і самы плённы перыяд у жыцці кампазітара паўстанца, дзяржаўнага дзеяча Міхала Клеафаса Агінскага звязаны з Залессем, што на Смаргоншчыне.

…Шырокая дарога ў абсадзе старых ліп з пчаліным гудам у мядовых кронах вядзе ў колішнюю сядзібу Агінскіх. Палац тут — пазнейшых часоў, але з фрагментамі першапачатковага, даўняга. За палацам — атулены старымі вербамі стаў. Яшчэ не так даўно, чвэрць стагоддзя таму, на яго запрудзе працавіта грукатала млынавае кола, мелючы збажыну з усёй шырокай залескай ваколіцы. Увосень тут — буянне барваў, угары і долах, на цёмна-зялёнай траве, задумлівае маўчанне векавечных дрэў ды ціхамірнае журчанне рэчкі, што пасля змагання з перашкодай, з плацінай, паблісквае, пераліваецца па заціненым камені. Вялікі блакітны шчыт сведчыць, што парк Агінскага — помнік рэспубліканскага значэння — знаходзіцца пад аховай Савецкай дзяржавы.

У Залессі Міхал Агінскі пасяліўся ў 1802 годзе, калі меў трыццаць сем гадоў. Асталёўваўся тут трывала, назаўсёды. Маладзейшыя гады, багатыя на гістарычныя падзеі, грамадскія і асабістыя ўзрушэнні, былі за плячыма. Жыцце ўваходзіла ў роўныя берагі. Двойчы заносіў лес удар над ім. Першы раз у 1792 годзе творцы і прыхільнікі Таргавіцкай канфедэрацыі — саюза рэакцыйнай шляхты — канфіскавалі ўсю яго маёмасць за дзейнасць на карысць прагрэсіўных рэформаў, за адданасць Канстытуцыі 3 мая, асудзілі на выгнанне. У другі раз царскія ўлады наклалі секвестр на яго ўладанні за ўдзел у паўстанні 1794 года пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі, за адстойванне са зброяй у руках незалежнасці і гонару Айчыны. Абодва разы ўдар удалося адвесці, вярнуцца з эміграцыі. Праўда, не без прыніжэння, хоць апошні раз і меншага. Цар Аляксандр з уласцівай асвечанаму манарху велікадушнасцю дараваў быламу інсургенту яго рэвалюцыйны парыў, вярнуў секвестраваную маёмасць, надаўшы пры гэтым званне тайнага саветніка і зрабіўшы сенатарам. На жыццё ў Залессі асталёўваўся чалавек высокага грамадскага становішча, вядомы, нягледзячы на ўсе нялітасці зменлівага лёсу.

Падараваны бяздзетным дзядзькам, апошнім кухмістрам Вялікага княства Літоўскага, залескі маёнтак, некалі званы Дэрбы, Міхал Агінскі прыстасаваў пад рэзідэнцыю, вартую свайго становішча, адпаведную густу і заможнасці.

Замест старога палаца з вялікім французскім паркам ён пабудаваў новы, паводле планаў і малюнкаў прафесара архітэктуры Віленскага універсітэта

М. Шульца. У адпаведнасці з духам часу разбіў англійскі парк. Заклаў вялікі батанічны сад з рэдкімі раслінамі, звярынец. Пабудаваў стральніцу. Рэчкі Бабрынку і Рудзічу, што агіналі сядзібу з поўдня, запыніў запрудай. Рытмічны гул млынавага кола цешыў музычны слых гаспадара, а галоўнае, забяспечваў патрэбу ў муцэ. Дзверы сваёй залескай гаспады Агінскі трымаў адчыненымі. Вучоныя людзі, літаратары, музыканты, палітыкі наязджалі ў Залессе з Вільні, Пецярбурга, Варшавы і цэлымі тыднямі гасцявалі тут. Шмат ніцей лучыла Міхала Агінскага з шырокім светам. Па-ранейшаму не астыў ён да грамадскіх спраў. Да тых, пра якія афіцыйна не меў права і думаць, і да тых сціплых, што не перавышалі кампетэнцыі і прэрагатываў царскага сенатара — Агінскі стаў адным з ініцыятараў і закладчыкаў Таварыства дабрачыннасці ў Вільні, адкрыў школу ў Маладзечне, падтрымліваў моладзь Віленскага універсітэта.

А наогул, жыццё ў Залесгі цякло мерна. З раніцы Міхал Андрэевіч (згадаем імя бацькі кампазітара, звычайна абыходжанае ў публікацыях) праглядаў прывезеную егерамі з Пецярбурга і Вільні пошту. Сярод надасланага яму нярэдка трапляліся найноўшыя кампазіцыі нямецкіх, французскіх, рускіх музыкантаў

Нейкі час дня гаспадар праводзіў у размовах з наезджымі сябрамі. Адпраўляўся разам з гасцямі на спацыр, конны ці пешы. Найчасцей прагульваліся зручнымі дарогамі ў прысадах. На поўдзень — кляновай. З яе адкрываўся шырэйшы, не абмежаваны так барамі, як з поўначы і захаду, далягляд. Было крыху палявога прастору, трапляліся імшарыны, а далей цягнуўся ланцуг узгоркаў. Схілы іх, абернутыя да Залесся, улетку маляўніча зелянелі, жаўцелі сваімі палеткамі-шнурамі.

Самыя большыя прысады кіраваліся на поўнач ад палаца. Ліповая плянта (так і цяпер завуць яе ў народзе) выводзіла проста на стары тракт Вільня — Мінск; праз яго ў два канцы — на Маскву і Варшаву. Ліповай плянтай госці Агінскага, перасекшы стары віленскі шлях, траплялі на даволі прывабныя тоні Вяллі з яе пясчанымі берагамі ды дубамі, што вольна раскінуліся на лугавіне па той бок рэчкі.

Даволі часта ў парадку дня залескай сядзібы было музіцыраванне. Найчасцей іграў квартэт у якім за першую скрыпку быў сам гаспадар. Тураваў яму іспанец Эскудэра, скрыпач на той час вядомы ў Вільні. На віяланчэлі граў стары настаўнік музыкі Агінскага, знаны у Пецярбургу музычны педагог і кампазітар Восіп Казлоўскі… Арыі і рэчытатывы з італьянскіх опер спяваў Паліяні. Зрэшты, гасцей у Залессі да абавязковай праграмы не прымушалі. Кожны мог бавіць час як хацеў.

Даўжэйшымі асеннімі і зімовымі вечарамі, калі госці здараліся радзей, ля каміна, у кабінетнай цішы Агінскаму жыва ўспаміналася пражытае: маладосць, бурлівыя падзеі чатырохгадовага сейма, паўстанне, сам Тадэвуш Касцюшка. Камень у надрэчнай частцы саду з высечанымі на ім словамі «ценям Касцюшкі» быў не толькі данінай памяці вечнаму валанцёру свабоды, але і знакам вернасці гаспадара залескай сядзібы ідэям паўстанцкай маладосці.

Касцюшку бачыў не раз. Але найбольш запомніўся з часу паўстання, з лета 1794 года, калі Агінскі прыскакаў у Варшаву, каб далажыць аб стане паўстанцкіх

сіл на Літве і Беларусі. Гэта было назаўтра па расправе-экзекуцыі паўстанцаў над таргавічанамі. Касцюшка знаходзіўся ў трох мілях ад сталіцы, у Пражскай Волі. Сустрэў як брата, доўга размаўлялі. Неабмежаваны кіраўнік паўстання быў засяроджаны і строгі, гаварыў аб блізкіх неўнікнёных бітвах з сіламі трох манархаў, згадаў аб дваццаці дзевяці перамогах рэвалюцыйнай арміі рэспубліканскай Францыі… Гаварыў пра тое, што шляхта вяжа яму рукі.

Запомнілася, што Касцюшка трымаўся роўна з усімі. Еў салдацкі абед за адным сталом з усімі афіцэрамі, быў даступны, уважлівы. Пасланцу з Літвы абяцаў падмацаванне — дзесяць тысяч войска з артылерыяй, і той вяртаўся ў штаб паўстанцаў у Воранаве акрылены.

У Агінскага самога наспела думка выбавіць сялян з прыгону. Яшчэ ў красавіку незабыўнага 1794 года, калі выбухнула паўстанне ў Вільні, а за ім па ўсёй Літве, Беларусі. Тады фарміраваўся атрад з былых прыхільнікаў рэформ, навізны, кавалі зброю і ўся Вільня збіралася глядзець на публічнае пакаранне самазванага гетмана Вялікага княства Касакоўскага.

Агінскі паспешліва, як ніхто, на свае сродкі арганізуе, абмундзіроўвае і ўзбройвае атрад з чатырохсот васьмідзесяці чалавек. Яму прыдаюць яшчэ дзвесце кавалерыстаў, і былы пасол на сейм, дыпламат, ведаючы аб вайне толькі з кніжак ды газет, у авангардзе паўстанцкай арміі кідаецца з уласным добраахвотніцкім фарміраваннем на непрыяцеля. Праз Гальшаны, Вішнева, Валожын даходзіць да Івянца, маючы на мэце прарваць кардоны царскіх войск, уступіць у гатовы да барацьбы Менск і шырыць вогнішча паўстання далей на ўсход Беларусі. А каб здзейсніць задуманы план, меў цвёрды намер распрыгоніць сялян, пачаўшы з уласных зямель тварыць паўстанцкія сялянскіяатрады. Але прарвацца да Менска не ўдалося. Царскія войскі у шмат разоў перавышалі сілы інсургентаў. А кацярынінскія генералы, што вялі іх — Зубаў, Кнорынг, Бенігсен, Цыцыянаў ды іншыя былі спрактыкаваныя стратэгі і тактыкі бою Аднаго рэвалюцыйнага запалу было замала каб супрацьстаяць вялізнай арміі, змагчы яе. З амаль пяцісот добраахвотнікаў, аб'яднаных у атрад Агінскага, жывымі засталося толькі сорак чалавек. Астатнія палеглі ў баях пад Вішневам, ля вёскі Сакаўшчына. Было сярод паўстанцаў нямала ўдалых, адважных хлопцаў, вартых песень, бессмяротнасці.

Цяпер у Залессі, калі ўспаміны-перажыванні падступалі да горла то комам горычы, то хваляй радасці, Агінскі схіляўся да нотнай паперы на стале. Даўно не існавала інсургента-ратніка, але быў музыкант, якому скараліся нязнаныя гукі, самі складваючыся ў гармонію сугуччаў, выліваючыся ў шырокую плынь: то журботную, то прасветленую. Нашчадкі знойдуць у яго паланезах (а яны ўсе без мала нарадзіліся тут, у Залессі) тугу па героях паўстання, смутак над заўчаснымі іх магіламі… і маршавы поступ старых (хто ведае?) ці, можа, новых змагароў. А хто пачуе ў яго музыцы, што закрынічыла ў душы тут, у Залессі, журбу гэтых асенніх палёў і лясоў, скаргу гэтай зямлі? Агінскі не мог сказаць, прызнацца сабе ці каму б ні было, ўто яна чужая яму. Якія б палітычныя вятры ні веялі над ёй, як бы яна не называлася — Руссю, Літвой, Белай Руссю. У яе глебе быў спрадвечны корань яго роду. Агінскія нараджаліся, ішлі да вядомасці і забыцця, паміралі пад яе жураўліным небам.

З гадамі, калі Агінскаму на памяць часцей прыходзіла пражытае: ранняе грамадскае ўзыходжанне (будучы кампазітар у дзевятнаццаць гадоў стаў дэпутатам сейма, а ў дваццаць пяць — надзвычайным паслом Рэчы Паспалітай у Галандыі і Англіі), думалася і аб папярэдніках. Асабліва найбліжэйшых. Яны канешне ж, шмат зрабілі для таго, каб шлях яго, — сыноў, унукаў быў прасцейшы і шырэйшы. Бацька Андрэй, сын Тадэвуша, быў пісарам Вялікага княства Літоўскага, ваяводам у Троках, паслом у Пецярбургу і Берліне. Даволі высокія пасады ў княстве займалі дзед і прадзед Міхала Агінскага. Усе яго продкі, пачынаючы ад заснавальніка роду князя Дзмітрыя Іванавіча Глушонка, значыліся на адпаведных месцах дзяржаўнай іерархіі гэтага літоўска-славянскага гаспадарства. Але менавіта пачынальнік рэтаўскай (ад назвы ўладання) лініі Агінскіх Дз. І. Глушонак атрымаў ад вялікага князя Аляксандра Ягелончыка прывілей на маёнтак Агінты.

Ужо сын заснавальніка роду Багдан памяняў занадта простае, на яго погляд, беларускае прозвішча Глушонак на больш шляхетнае Агінскі, узяўшы ў яго аснову назву спадчыннага па бацьку ўладання Агінты. Агінскія, аднак, як і большасць беларускіх магнатаў і шляхты, да другой паловы XVII ст. заставаліся праваслаўнымі. Толькі ўжо прапрадзед кампазітара Сымон (памёр у 1699 годзе) пакінуў усходнюю, «грэцкую» веру і перайшоў у каталіцтва, што, трэба сказаць, няблага адбілася на яго прасоўванні па службовай лесвіцы (да гэтага пасады ў Агінскіх былі сціплейшыя). Дадаўшы да першапачатковага імя, згодна з новапрынятым веравызнаннем, яшчэ адно імя Кароль, ён стаў Мсціслаўскім ваяводам, а сын яго ўжо кіраваў Віцебскім ваяводствам.

Міхал Агінскі, калі пісаў або дыктаваў свае мемуары ў Залессі, каб потым выпусціць іх чатырохтомным выданнем у Парыжы, чуўся, мабыць, больш палякам, чым тутэйшым краёўцам, беларусам або ліцвінам у гістарычным значэнні гэтага слова. Былі таму свае прычыны. Дзяржаўнасць гістарычнай Літвы, інкарпараванай у Польскую дзяржаву, к канцу XVIII насіла фармальны характар. Апалячаныя праз каталіцызм вярхі Вялікага княства ужо не адстойвалі так упарта, як да Люблінскай уніі, суверэннасць сваёй дзяржавы, палітычных і юрыдычных прэрагатываў народнасці, мовы. Хоць думка аб звароце да ранейшага, незалежнага становішча літоўска-славянскай дзяржавы яшчэ зусім не згасла. Прыхільнікі яе знаходзіліся то сярод Сапегаў, то Агінскіх. Міхал Клеафас у 1811 годзе падаў Аляксандру І праект заснавання Вялікага герцагства Літоўскага на правах аўтаноміі.

У мемуарах, якія Агінскі давяраў натаваць выхадцу з яго маладзечанскай навучальні Машынскаму, аўтар асаблівую ўвагу аддаў апошнім гадам Рэчы Паспалітай, затым напалеонаўскаму нашэсцю. Напісаныя па-французску і выдадзеныя ў Парыжы, яны, паводле задумы Агінскага, павінны былі прыцягнуць увагу шырокай сусветнай грамадскасці да палітычнага лёсу Польшчы. Гэту ідэю выдання горача падтрымлівалі сябры кампазітара, у тым ліку пісьменнік-зямляк Леанард Ходзька, які пэўны час быў сакратаром Агінскага. Палітычная мэта мемуараў, на жаль, не пакінула месца на іх старонках іншым аспектам жыцця аўтара.

Радасна, праўда, сустрэць на шырокім прасцягу мемуараў Агінскага (дарэчы, пазней яны перавыдаваліся на нямецкай і польскай мовах) шчырае спачуванне жыхарам Міншчыны, Полаччыны, Віцебшчыны, жыццё якіх руйнаваў паход Напалеона ў Расію.

Не не сказаць, што гэта зямля, дзе ён столькі пражыў і перажыў, якая дарыла яму хлеб і натхненне, была абыякава кампазітару. Мову яе гаротнікаў-земляробаў ён добра разумеў, ведаў. Знаходзіў у ёй мілагучнасць і спеўнасць. Чуў і эпічнасць у яе складзе, калі гаварыў з садоўнікам Южыкам або гуменнікам Лісам. Сум летніх і асенніх песень яе, што плылі з жытніх палеткаў у жніво ці з узлеску ўвосень, быў зразумелы і блізкі яго душы. Нават дзве-тры з тутэйшых песень, у якіх гучаў асбліва тонкі мінор, яму запомніліся, часам усплывалі на памяць. Можа, найчасцей вось гэтая песня асенняй пары, калі дзяўчаты рвалі, слалі лён.

Чаго ты, лосю, чаго, сівенькі,
Так к сялу прылягаеш,
Да ці ты, лосю, ці ты, сівенькі,
Цяжкую зіму чуеш?

У Залессі неўпрыкмет падышла да кампазітара і старасць. Яму надаелі бясконцыя гаспадарчыя, фінансавыя клопаты. Стала прыгнятаць палітычная бесперспектыўнасць… У 1822 годзе ён распрадае ўсю сваю нерухомую маёмасць, пакідае сабе адносна невялікую рэнту і выбіраецца ў Італію. У Фларэнцыі, дзе неаднойчы бываў і дзе нарадзіўся яго сын Еранім, застаецца да скону дзён.

Незадоўга да смерці кампазітара яго родная зямля ізноў ажыла паўстаннем 1830—1831 гадоў. Ці гарачылі весткі з яе кроў састарэлага паўстанца Міхала Агінскага, цяжка сказаць. Але сум па ёй жыў у яго сэрцы да апошніх дзён, той, што крыляў у музыцы, дзейсны, гаючы.

Можа, у нечым памыляўся бессмяротны музыкант, калі думаў аб будучыні сваёй пакінутай дзеля сіняга неба поўдня радзімы. Няпроста было разгледзець яе будучыню тады, калі абсалютызм скоўваў усю Еўропу, а дух Венскага кангрэса ахутваў далягляд густой імглой.

Толькі больш чым праз стагоддзе сацыяльная рэвалюцыя з Усходу прынесла малой радзіме кампазітара духоўнае абнаўленне. З вёсак, што належалі Агінскаму ў залескай ваколіцы, ужо ў даваенны час выйшла ці мала цікавых, карысных грамадству людзей. Сярод іх паэт-рэвалюцыянер з Зарудзіч Алесь Салагуб, мастак-жывапісец з Вётхава Павел Южык.

У пасляваенны, савецкі час з Залесся і яго ваколіц узняўся, стаў да шырокай грамадскай, асветнай і вытворчай працы вялікі атрад інжынераў, педагогаў, журналістаў, аграномаў, асабліва настаўнікаў. Імя Міхала Агінскага, знакамітага земляка, шаноўнае ў Залессі.

*1983*

# Антон Грыневіч — першы беларускі этнамузыколаг

У апошні свой студэнцкі год у рэспубліканскай бібліятэцы (на той час там разам з даўнімі выданнямі з нетраў кнігасховішчаў на дзённае святло было паднята не адно забытае імя) натрапіў я на тонкую кніжачку «Беларускія песні з нотамі». На вокладцы значылася 1910 год, месца выдання — Пецярбург, незнаёмае імя збіральніка і выдаўца песень — Антон Грыневіч. Пранікнёнасцю, шчырай прастатой падкупляў малюнак на вокладцы. На ім сярэдзіна лета дыхала добрым зямным спакоем. На схіле ўзгорка задрамала сяло. Вакол яго на палетках, сенажаці людзі завінуліся за сярпом і касой. Непадалёк лесу пасвіўся статак. На гэты просты свет суладдзя, працы задзівіўся з узлеску стары, мудры лірнік, сама сабой палілася з-пад чуйных рук яго ціхая мелодыя.

Праглядала ўнутраная сувязь паміж знешнім вобразам кніжкі і яе напаўненнем.

У зборнічку была вязанка песень з Наддзвіння — дар зямлі, дзе нарадзіўся Грыневіч. Сярод песень — некалькі сапраўдных шэдэўраў вялікай, неўміручай народнай паэзіі, музыкі.

Пазнвй сапраўдную мастацкую асалоду прынесла мне знаёмства з іншымі песеннымі выданнямі Антона Грыневіча: народныя скарбы ён збіраў і даносіў да людзей з пяшчотнай любасцю, ашчаднасцю, надзеяй.

Другі томік «Беларускіх народных песень», потым «Школьны спеўнік», «Народны спеўнік» падручнік «Навука спеву», «Дзіцячы спеўнік», песні і арыгінальныя артыкулы ў перыядычным друку, некалькі навукова-папулярных брашур — ва ўсім гэтым відна шчырая заклапочанасць, каб як найпаўней выявіць здабыткі народнага духу, раскрыць іх красу і сілу, даць ім шырэйшы доступ да сэрцаў людскіх.

Імя Антона Грыневіча часта траплялася на вочы, калі я чытаў краязнаўчую літаратуру.

У размовах са старэйшымі дзеячамі нашай культуры і навукі імя Грыневіча ўсплывала неяк само сабой… За гады назбіралася нямала звестак, фактаў, матэрыялаў, а ва ўяўленні склаўся вобраз чалавека, зачараванага народ-най песняй, руплівца на ніве народнага мас-тацтва, змагара за стварэнне нацыянальнай музычнай культуры.

З адной прыватнай калекцыі дастаю невя-лікі партрэтны здымак Грыневіча. Галава — старадаўняга мудраца. У плячах адчуваецца важ-

кая сіла. Першае ўражанне — Стасаў. А прыгледзішся — няма той гордай моцы, упэўненасці, якія адчуваюцца ў партрэце славутага рускага мастацтвазнаўцы.

Замест іх — нейкая лагоднасць, мяккасць, якія мо і не вельмі пасуюць да фізічна магутнай постаці Грыневіча. І яшчэ пасля знаёмства з партрэтам неяк выразней убачыўся плён працы гэтага нястомнага дбайцы пра культуру народа, пра памнажэнне яе здабыткаў. І само яго жыццё, аддадзенае высакароднай справе, пачынае выразна праходзіць у маім уяўленні. Наддзвінне, Петраград, Вільня, Менск, Салаўкі… Але каб расказаць пра гэтае жыццё, асветленае бязмежнай любоўю да творчага генію свайго народа, да яго песні, мне яшчэ не хапае двух вельмі важных фактаў: дзе дакладна і калі нарадзіўся Антон Грыневіч. Архівы Акадэміі навук БССР, дзе Грыневіч працаваў пад канец свайго жыцця, амаль цалкам знішчаны ў час апошняй вайны. Скупыя рэшткі іх не даюць ад казу на мае пытанні. Пішу да Паўліны Мядзёлкі, актыўнай удзельніцы культурных пачынанняў беларускіх студэнтаў у Пецярбургу ў перыяд між дзвюма рэвалюцыямі. Вельмі цёпла адзываецца пра Грыневіча, але звестак… Хіба толькі тое, што наш фалькларыст, кампазітар называў Паўліну Вінцэнтаўну «зямлячкай». Пошукам нечакана памагаюць мемуарныя запіскі Я. Драздовіча. Мастак, апісваючы свой кароткі візіт летам 1917 года да прафесара Б. І. Эпімах-Шыпілы, называе прыкладнае месца нараджэння Грыневіча. Забегшы развітацца з Баніславам Ігнатавічам у суполку «Загляне сонца і ў наша аконца», Драздовіч, як ён кажа, «застаў там нейкага буйнарослага вусатага госця ў форме афіцэра ў чыне капітана… А раззнаёміўшыся, — піша далей Драздовіч, — аказалася, што гэта наш вядомы збіральнік беларускай народнай музыкі Антон Антонавіч Грыневіч, які прыбыў сюды, у Піцер, са станцыі Балагое, дзе займаў пасаду ў земскім саюзе зусім цывільнага супрацоўніка… І апранаўся ў новазаведзеную пры свабодзе ў земскім саюзе вайскова-капітанскую форму — форму так званых земгусараў».

З далейшай гутаркі Грыневіч і Драздовіч, узаемна прадстаўленыя адзін аднаму прафесарам, высветлілі, што яны землякі. «Антон Антонавіч паходзіў дзесь там з-пад Палюдавіч — на граніцы Дзісеншчыны з Полаччынай», — зазначаў у запісах Драздовіч.

Летась, у час экспедыцыі нашых фалькларыстаў па’азёрнай, лясной і жытняй Віцебшчыне, я рашыў наведаць родныя мясціны Антона Грыневіча, пашукаць, ці не захавалі яны якіх-небудзь слядоў гэтага надзвычай руплівага збіральніка і папулярызатара нашай народнай культуры.

Прыехаў у Палюдавічы — вёску пры гасцінцы, кіламетраў за 28 ад Полацка. Мой клопат адшукаць у тых ваколіцах месца нараджэння Грыневіча або людзей, што памятаюць яго, вельмі блізка прыняла да сэрца заслужаная настаўніца рэспублікі М.Ф.Шупейка. Разам пайшлі на пошукі. Спыталі у старажылаў, дзе жылі раней Грыневічы, — яны паказалі розныя напрамкі: там жыў нейкі Грыневіч, і там, і там. Выбраўшы нешта найбольш верагоднае, накіраваліся ў суседнія вёскі. Ужо, здавалася, знайшлі жаданае. Пра сям'ю Грыневічаў, што жыла ў засценку Кавалёўшчына, расказвалі нешта вельмі

падобнае на тое, што я ведаў пра род Антона Грыневіча. Але новыя людзі, новыя факты — і першапачатковае меркаванне адпа-ла. Нарэшце, у вёсцы Аўдзеева калгаснік Дземянчонак з жонкай успамінаюць, што Грыневіч, у якога брат служыў у Пецярбургу, жыў у фальварку Іваноўшчына. Дземянчонкаў сусед Мядзведзеў, чалавек бывалы, да рэвалюцыі яшчэ працаваў на розных заводах, расказвае, што ў Іваноўшчыне жыў Віталь Грыневіч. Яго, вітаючыся, называлі па бацьку Антонавічам. Быў у яго старэйшы брат: у Пецярбурзе ці ў Менску служыў. Прыязджаў на лета ў Іваноўшчыну. Хадзіў і спісваў беларускія песні… А найлепей павінен помніць таго Грыневіча Фёдар Шабан з саўгаса «Крупскі», яны побач жылі…

Да Іваноўшчыны ад Палюдавіч — кіламетраў шэсць. Збоч дарогі ўздыбіліся валуны, нібы зусім яшчэ нядаўна яны ўпіраліся перад ледніком, што нёс іх на поўдзень. Пахне скошаная канюшына, дальні круглы пагорак залаціцца ярыной. Цераз лагчыну — лужок, па зялёным бульбянішчы прайшлі шырокім крокам слупы электраліні.

Перад саўгасам «Шпакоўшчына» дарога ўбягае ў абсаду з старых бяроз, спускаецца да шыракаватай неглыбокай рэчкі. Воддаль, за нейкага паўкіламетра ад Шпакоўшчыны, на нізкаватай лугавіне, па якой уецца нетаропкая Нача, калісь стаяў дом Грыневічаў, і звалася гэтая мясціна Іваноўшчынай. Цяпер ад сядзібы Грыневічаў ні знаку. Мясцовыя хутаране падаліся ў Шпакоўшчыну, новыя, на два паверхі, белыя дамы якой на фоне купчастай зяляніны дрэў глядзяцца адсюль, з Іваноўшчыны, асабліва прывабна і надаюць саўгасу выгляд гарадскога пасёлка.

Сустрэчны хлопец арыентуе мяне на «латавіну», ад якой рукой падаць да Карсюкоў, дзе жыве Шабан Фёдар, Грыневічаў сусед…

Старому за семдзесят, але яшчэ рухавы. Успамінае — як жа не знаць — Антона Грыневіча… Маці Шабана, па-вясковаму Піліпіха, шмат напяяла яму песень. Прыходзіў, бывала, на поле да жней пад канец дня. Прасіў спяваць усе песні і прыпеўкі, якія хто знае. Вясёлы, жартаўлівы быў чалавек…

Пазнаёміўшыся яшчэ ў суседняй вёсцы Нача-Шпакоўшчына з васьмідзесяцігадовай Просяй Дземянчонак, якая год 50 таму назад разам з жанкамі хадзіла спяваць песні «Грыневічу таму, што прыязджаў з Піцярбурга», вяртаюся ў Шпакоўшчыну.

Кіраўнік мастацкай самадзейнасці, малады хлопец Макарэвіч Мікола, расказвае, што тут, у цэнтральнай сядзібе, плануецца гарадок. Ахвотна знаёміць з рэпертуарам драмгуртка і хору, называе Ганну Гаўрыльчык з вёскі Маразы як здольную выканаўцу народных песень. Пра земляка-фалькларыста і кампазітара не чуў, хоць вельмі цікава было б што-небудзь даведацца…

У Палюдавічах, развітваючыся, настаўнікі просяць памагчы арганізаваць куток Антона Грыневіча ў школьным музеі.

Ад'язджаю ў Менск з адчуваннем падвойнага абавязку: перад памяццю незабыўнага энтузіяста народнага мастацтва і перад ягонымі землякамі.

Пасля «прычашчэння» да бацькаўшчыны Антона Грыневіча, атуленай сінімі лясамі Полаччыны, можа, будзе трохі лягчэй раскінуць заслон часу над яго жыццём, самаахвярна аддадзеным песні, яе ўзвышэнню.

У запісны, пададзенай г разам з дакладам «Аб стане беларускай музычнай культуры» на імя варкома асветы БССР Антона Баліцкага ў 1926 годзе, Грыневіч піша, што збіральніцкую фальклорную працу сваго пачаў у 1906 годзе.

Прычыны, якія падахвоцілі маладога службоўца Міністэрства гандлю і прамысловасці ўзяцца збіраць беларускія народныя мелоды, былі ў грамадскім зруху…

У свае 28 год сустрэў Антон Грыневіч першую рускую рэвалюцыю. Яна пераканаўча выявіла не толькі імкненні шырокіх мас, але і іх моц, здольную нізрынуць самаўладства. Полымя рэвалюцыі ахапіла ўсю імперыю: ад яе прамысловых цэнтраў да нацыянальных ускраін. Услед за рускім пралетарыятам пад кіраўніцтвам сацыял-дэмакратаў узняліся супроць нямецкіх баронаў і царскай адміністрацыі сяляне Прыбалтыкі. Паўстаннем быў ахоплены і разнамоўны Каўказ, украінскія сяляне палілі панскія маёнткі.

Рабочыя і рамеснікі беларускіх гарадоў актыўна падтрымалі кастрычніцкую ўсерасійскую стачку. Беларуская вёска «глуха шумела», дзе-нідзе пачалі секчы панскія лясы, самавольна захопліваць абшарніцкія землі…

Важнейшым гістарычным актам рэвалюцыі 1905—1907 гадоў на Беларусі было тое, што яна абудзіла творчыя сілы народа, дала штуршок развіццю сацыяльнай і нацыянальнай свядомасці беларускіх працоўных.

Іскры рэвалюцыі ўжо не гаслі, хоць ноч рэакцыі ў перыяд.1907—1912 гадоў станавілася ўсё больш душная, усё больш нясцерпная. Грамадскае жыццё ў Беларусі, як і на іншых ускраінах царскай імперыі, было асабліва прыдушана.

Першая беларуская легальная газета «Наша доля» была закрыта. Актыўная супрацоўніца яе, палымяная рэвалюцыянерка і патрыётка Алаіза Пашкевіч (Цётка), ратуючыся ад лап царскай ахранкі, мусіла ісці на выгнанне. Адтуль, з аўстрыйскай Галіцыі, шле яна на бацькаўшчыну свой «Хрэст на свабоду» — паэзію мужнасці і змагання. За краты Менскага астрога трапляе Якуб Колас. На 10 год у сібірскую катаргу адпраўляюць Алеся Гаруна. Не вытрымаўшы ўдушлівай атмасферы пяволі, у Кіеве канчае самагубствам малады беларускі паат і публіцыст Сяргей Палуян. Канфіскуецца першы паэтычны зборнік будучага ўладара беларускага мастацкага слова Янкі Купалы «Жалейка». Агульныя адчуванні, перажыванні, нязмернасць пакут і няволі Максім Багдановіч выказаў у словах:

Сціснула гора дыханне ў народзе,

Хваляй шырокай разлілась, як мора,
Родны наш край затапіла.

Самотна гучаць коласаўскія песні-жальбы. Толькі Янка Купала, выказаўшы хвілiннае сумненне словамі «Ці ты ўзыдзеш калі, сонца?..», — зноў упэўнена паўтарае:

Не пужайся, што здрадныя хмары
Неба ўкрылі з канца да канца,
Што свае цемната ўзяла чары,
Закружыўся груган над папарам…
Яшчэ прыйдзе вясна,
Яшчэ прыйдзе вясна!..

Глыбока ў падполлі працавалі партыі і палітычныя групы. Легальна можна было весці толькі культурную працу, і загон яе паволі шырэў.

Амаль адначасова з заснаваннем «Нашай долі» і «Нашай нівы» ў Пецярбургу было закладзена першае беларускае кніжнае выдавецтва — суполка «Загляне сонца і ў наша аконца». Адным з заснавальнікаў яго і дзейным супрацоўнікам быў прафесар Браніслаў Ігнатавіч Эпімах-Шыпіла. У Эпімах-Шыпілы быў вялікі архіў і багатая літаратура на розных мовах па самых розных пытаннях беларусазнаўства. Пры падрыхтоўцы да выдання суполкай твораў Дуніна-Марцінкевіча, Францішка Багушэвіча, ананімных паэм збор прафесара быў незаменнай крыніцай. Эпімах-Шыпіла не толькі матэрыяльна падтрымліваў арганізаванае таварыства, ён прымаў непасрэдны ўдзел у выдавецкай працы, быў душой яго.

Для моладзі, якая гарнулася да Эпімах-Шыпілы як да чалавека прагрэсіўных поглядаў, рупліўца беларускай культуры, прафесар быў жывым увасабленнем пераемніка культурна-нацыянальных дэмакратычных традыцый канца XIX стагоддзя. Эпімах-Шыпіла быў асабіста знаёмы з Францішкам Багушэвічам, які складам сваіх думак, сваёй пранікнёнай паэзіяй уразіў маладога вучонага. Светлы вобраз народнага паэта, яго ідэалы Эпімах-Шыпіла захаваў у сэрцы на ўсё жыццё

У гасціннай прафесаравай кватэры на 4-й лініі Васільеўскага вострава кожную суботу збіралася студэнцкая і рабочая моладзь, выхадцы з Полаччыны, Гродзеншчыны, Магілёўшчыны, Віленшчыны. Чыталіся рэфераты на самыя розныя тэмы, найчасцей гэта былі спробы навуковага пазнання Беларусі. Тут упершыню прагучалі паведамленні зназіранняў над мовай будучага аўтара першай беларускай граматыкі Браніслава Тарашкевіча, новыя вершы Янкі Купалы, які жыў у Эпімах-Шыпілы падчас сваёй вучобы на курсах Чарняева. На гэтых суботах, як успамінае Паўліна Мядзёлка, праігрываў свае запісы беларускіх песень і Антон Грыневіч. У гэты час Грыневіч ужо быў сябрам выдавецкай суполкі. Ён настойліва пгукае магчымасці быць карысным народу, перад якім адчувае свой асабісты грамадзянскі абавязак, — піша і выдае папулярную брашуру маральна-этычнага зместу, на свае грашовыя сродкі пачынае выдаваць мастацкую літаратуру. «Адвечную песню» Янкі Купалы, якая ўжо два гады чакала выдаўца, потым «Апавяданні» Уладзіслава Галубка, зборнікі навел Якуба Коласа. І ўжо асабістым дарам свайму народу, вернутым яму ў выглядзе надрукаванай асобнай кніжкі, былі «Беларускія песні з нотамі». Шырокая грамадскасць сустракала гэты гасцінец з вялікай удзячнасцю. Купала ў лісце з Вільні прасіў хутчэй даслаць яму сабраныя Антонам Грыневічам песні. Максім Багдановіч у артыку-

ле «Слаі і глыбы», прысвечаным агляду беларускай літаратуры за 1910 год, адзначыў, што зборнік сабраных і выдадзеных Грыневічам песень «цікавы і з артыстычнага (мастацкага.— А. Л.) боку».

Як паветра патрэбны былі музычныя запісы Грыневіча мастацкай самадзейнасці якая пачала шпарка раввівацца як у асяроддзі пецярбургскіх студэнтаў-беларусаў, так і на бацькаўшчыне.

Вызваліўшыся пасля трохгадовага зняволення, вядомы грамадскі і культурны дзеяч Алесь Бурбіс[1] наладжвае беларускі хор і тэатр у Вільні. Да кіраўніцтва хорам прыходзіць віленскі польскі кампазітар Людамір Міхал Рагоўскі.

Цесна звязаны з пецярбургскай студэнцкай моладдзю, Грыневіч, аднак, непасрэдна не ўдзельнічае ў арганізацыі самадзейнасці. Як пазней высветліцца, яшчэ не гатовы для гэтага. Хорам беларускіх студэнтаў у Пецярбургу кі-руе малады таленавіты навучэнец кансервато-рыі, пазней вядомы літоўскі кампазітар Станіслаў Шымкус. Шымкус апрацоўвае некалькі запісаных з вуснаў студэнтаў беларускіх народ-ных песень. Адна-дзве з іх трапляюць у «Бела-рускі спеўнік», выдадзены пры ўдзеле Алеся Бурбіса Людамірам Рагоўскім. Першая ластаўка была вельмі сціплая. Туды трапіла ўсяго 8 песень: шэсць народных і дзве арыгінальныя. Народныя мелодыі былі не лепшых узораў. Затое, праўда, песня самога ўкладальніка спеўніка — «А хто там ідзе?» на словы Купалы — была ўжо нечым вельмі чаканым і хутка стала папулярная.

У Грыневічавым зборніку «Беларускія песні з нотамі» былі сабраны цудоўныя песні, поўныя сілы і красы.

«Беларускім песням» Грыневіч даў эпіграф з вершаў Янкі Купалы, сэнс якога быў у закліку да песень — смела змагаць «непрыветы» і свабодна здабываць свае права… Грыневіч інакш, чым Еўдакім Раманаў, бараніў песню свайго працоўнага люду ад нядобразычліўцаў і ганіцеляў яе. Вядомы вучоны ў прадмове да сёмага выпуску «Белорусского сборника» падкрэсліваў: «Они (песни) решительно опровергают установившееся мнение о бедности белорусских мелодий. Правда, большая часть их печальны и вызывают слёзы у слушателей, мало-мальски знакомых с трагической историей этого народа-страдальца, но зато они же свидетельствуют о глубокой древности белорусской народной поэзии и служат доказательством живучести и силы белоруса, не потерявшего, несмотря на все исторические повороты и тяжкие гонения, своего этнографического облика».

Антон Грыневіч даваў узоры музычна-паэтычнай творчасці народа, і эпіграфам, гэтым словам на дарогу ім, нібы казаў: «Заваёўвайце па праву належнае вам — сэрцы людскія».

Поруч з лірычнай сямейна-бытавой «Рабіна-рабіначка», у якой з вялікай выяўленчай сілай, мастацкай тонкасцю адлюстравана жаночая доля, доля нявольніцы, зборнік змяшчаў рэдкую па характву створанага паэтычнага малюнка, па гармоніі музычных і слоўных вобразаў жніўную «Выхадзіла цёмная туча…»:

---

[1] А.Бурбіс пасля рэвалюцыі — намеснік наркома замежных спраў БССР, памёр у 1922 годзе.

Выхадзіла цёмная туча
З-за цёмнага лесу —
Выхадзіла,
Ды не выйшла цёмная туча
З-з а цёмнага лесу —
Ды не выйшла.
Толькі ціхім прыгнала ветрам
Дробненькага дожджу —
Толькі ціхім.
Ах, павейце, ціхія ветры,
Па шырокім полі!
Ой, павейце!
Ах, павейце, ціхія ветры,
Па ядраным жыце.
Ах, павейце!..
Выхадзіла к нам гаспадынька
Раненька на ніўку —
Выхадзіла,
Да не выйшла к нам гаспадынька
Раненька на ніўку —
Ды не выйшла.
Толькі слала сыноў-сакалоў,
Дачок-перапёлак —
Толькі слала.
Толькі слала дачок-перапёлак,
Нявестак-лябёдак —
Толькі слала.
Дочкі-перапёлкі,
Пажынайце!
Паспрыяйце шыроканькай ніўцы,
Ядранаму жыту —
Паспрыяйце!

Песні былі падабраны, як каласы ў снопе буйнарослага жыта: колас да коласа. Была тут і любімая песня Адама Міцкевіча і ягонага першага кахання — песня Марылі «Цераз мой сад зялёненькі» з жальбой, што «не аддаў татуленька за каго хацела», былі тры варыянты песні «У нядзельку раненька» і адна з лепшых гумарыстычных народных «Чачотачка», пра ўдалую Чачотачку, якая «спарадзіла сямёра дачок»…

З Грыневічавых артыкулаў канца дзевяцісотых — пачатку дзесятых гадоў (а голас збіральніка песень гучаў і са старонак «Нашай нівы», і з часопіса «Kwartaknik Litewski», і з календароў) відаць, што аўтар іх глыбока ўсвядоміў культурна-грамадскую каштоўнасць народнага мастацтва.

«Не будзем марнаваць гэту спадчыну бацькоў нашых, гэты скарб нацыянальны, — звяртаецца ён да шырокай грамадскасці ў артыкуле «Збірайце

народныя песні» («Наша ніва», № 34, 1910).— Няхай родная песня зазвініць моцна і смела па ўсіх кутках нашага краю, клічучы да пільнай працы… Няхай і расце яна, крэпне і памагае нам лепей пераносіць усе нягоды, усе болі».

«Песня людская адбівае ў сабе душу чалавека, яго боль і гора, яго патрэбы, жаданні і само жыццё. Як па абліччу пазнаюць чалавека, так па песні, асабліва народнай, пазнаецца цэлая нацыя, яе характар і душа. …Песня прыносіла і прыносіць многа карысці для народа: яна быццам зменшвае людскія няшчасці, суцяшае ў нядолі, а калі трэба, дык і весяліць. …Песня нібы нейкая таемная сіла: яна памагала будзіць народ, заахвочваць яго да працы, падымаць з цемнаты, клікаць да святла, да абароны свайго краю, на добрыя важныя справы. Таму ў народаў з шырокай асветай песня даўным-даўно заваявала сабе пачэснае месца, яе справядліва шануюць, як вялікі ўсенародны скарб». («Беларускі каляндар на 1912 год»).

Адчуваецца, што народная песня ўжо непадзельна авалодала сэрцам маладога энтузіяста, клікала яго да неадкладнай вялікай работы…

Песня стала для маладога службоўца сэнсам жыцця. Яна раскрыла перад ім сваю душу, усе зманлівыя таямніцы свайго ўнутранага хараства. Вось ён бачыць, як нясуць яе ў шыза-сіняй далечы вякоў! Звінела яна яшчэ на даўніх лядах, была просценькая, але ўжо нехта аддаў ёй часціну сваёй душы, і яна стукалася ў новыя і новыя сэрцы, прасілася на вусны.

Узлятала яна на ўзлеску вясной, выгукнутая маладымі дзявочымі грудзьмі. А колькі парываючай душу красы было ў яе клічы — празе веснавога адраджэння: жаўранкавых песень, блакіту, пралесак, рачных светлалозавых берагоў з разасланым кужэльным палатном на іх, сырой свежасці першых баразён. А як журботным асеннім ручайком цяклі песні за прадзівам доўгімі цёмнымі вечарамі, як шырока разліваліся на полі ў час жніва, нястрымна ляцелі над сялянскімі вузкімі шнурамі і панскімі абшарамі.

Песні плылі і плылі. З году ў год надыходзілі святы. У траскучыя маразы, пад зорным небам у завеяных гурбамі вёсках ішлі з «казой», і ляцела песня-дума пра шчодры ўраджай, які дасць яшчэ сонная пад снегам зямля. Потым цягнуўся нудны доўгі пост. Песні вясёлыя, песні-зычэнні гінулі. Аджывалі яны з першымі праталінамі, калі дзяўчаты з узгоркаў, гуменных стрэх пачыналі гукаць вясну. Свята ранняй вясны, Юр'е роснае, моладасонечнае, з празрыста-зялёнай травой, з пастухоўскай жалейкай, са знябытым па пашы статкам зноў зычна кідала ў неба песню, якой, хоць і звінела яна разам з жаўруковай, не даваў выоока ўзпяцца клопат пра жыты, пра ліха, што можа не абмінуць скацінкі. А там ужо сонца пачынала гаспадаром хадзіць над зямлёй. Зазірала ў бязрадасны і, асмужаныя вясковыя ваколіцы. Трохі святла і вясёлай уцехі кідала туды, у цёмныя закуткі яе.

Была зялёная вярба, былі потым вечарам дзіўныя песні гаспадару, гаспадыні, «краснай паненцы», прарочыўся дабрабыт у хаце і на полі. Далей надыходзіў чарод свята зялёных бярозак, аеру, жоўтага пяску на сялянскіх падворках, песень дзявочых ля зялёнага жыта. Лета бяжыць, не агледзішся. Купалле, пятроўка. Ідучы з сенажаці, нясуць дзяўчаты і жанкі на вуснах песню пра купалінку, што «ішла сялом, прыкрыўшы вочы рукаўцом». Агні над

рэчкай, вянкі на цёмнай вадзе, песні, карагод. Лёгка-лёгка адно за адным лятуць над палаючым вогнішчам, смяюцца бліскучыя вочы, белыя зубы, смяюцца каляровыя гарсэцікі, загарэлыя дзявочыя босыя ногі. Смяюцца разам цёмны глыбокі прастор, хвалі ў рацэ і бліжні пералесак. А нехта, дзівак, распрануўся і качаецца ў буйной сцюдзёнай расе: напэўна, будзе здаровы, як гэта чыстая бліскучая крапіліна на траве. Змяняюцца людзі ля рэчкі, вакол вогнішча. Ужо сёння кладуць агонь не ля тых магутных дубоў над Дзвіной, бо дубы тыя сплылі яе водамі на захад, але касцёр гэтак жа гучна страляе іскрамі, і языкі яго прагавіта хапаюць цемень. І кружыцца моладзь. Яна ўжо іншая — і нечым тая, ранейшая. Унук колішняга завадатара моладзі сёння першы раз нясмела ўзяў у карагодзе дзявочую руку… Надта неяк нязручна трымаць яе, каб не вырвалася, і дзяўчаты так смяюцца.

Песні былыя, якімі будзілі гэты абшар у мінулыя леты, гучаць і сёння.

Ой, рана на Йвана…

Ад сэрца да сэрца, ад вуснаў да вуснаў…

Адыходзілі людзі, а песні свае перадавалі іншым, тыя неўпрыкмет пераймалі іх, каб перадаць зноў далей, новым пакаленням, і песня ішла і ішла поруч з маладосцю і сталасцю, радасцю і бядоіі, працай і адпачынкам: то бадзёрая, нарыўная то журботная, жаласлівая — ніколі не аднолькавая, як чалавечае сэрца, як белы дзень: то светлая, то прыціхла-самотная, поўная жальбы, буйнога імпэту — як рэчка ў разводдзе.

Якая ты бясконцая, бессмяротная, песня, дар чалавечага сэрца і светлага розуму, вечны спадарожнік вечных чалавечых перажыванняў, думак і дзей! Ва ўсёй сваёй неабдымпай велічы раскрылася беларуская песня перад тым, хто чуйна ўслухаўся ў біццё яе сэрца, адчуў яе жывы голас. Маладога фалькларыста ў сурдуце чыноўніка яна падымала над жыццёвымі буднямі, клікала да радзімы, да нейкіх нязнаных крыніц, да вялікай радасці. А можа, ён бачыў: недзе расце хлопчык. А можа, ён ужо юнак, мужчына, надзелены высокапаэтычнай, шчодрай душой. Гэта ён пранікаецца па-свойму шчырай і запаветнай любоўю да гэтых хацін, параскіданых між бароў, жытніх палеткаў, ціхіх рэчак, да гэтых самотных мястэчак: схопіць сэрцам тон гэтых песень, што часам узлятаюць, губляючыся пералівамі ў палях, над гэтай зялёна-сіняй зямлёй, загарыцца любоўю да ўсяе яе, з аратымі, сейбітамі, цеслямі, з яе мінулым і будучым.

І тады загучыць з яго сэрца такая ж і іншая — ласкава-велічная і грозная, раздумная і палымяная, як музыка 2-й венгерскай рапсодыі Ферэнца Ліста; або такая празрыста-журботная, з светлымі блікамі (сонечная раніца ў асеннім садзе), як шапэнаўскія эцюды; або сурова-трывожная, успоеная шумам паўночных мораў, наскальных сосен, таямніцамі суровых легенд, як музыка Эдварда Грыга; ці такая гняўліва-балючая, шквальная, як у Людвіга Бетховена; альбо такая шчымліва-чыстая, блізкая да шырыні і задумлівасці рускіх прастораў, як музыка сімфоній Чайкоўскага.

І тады таму, хто пракладзе сцежку проста ад беларускіх народных крыніц да вяршынь чалавечай культуры, хто сілай свайго таленту схопіць дух народнай стыхіі, падыме, разаўе гэтыя парасткі, нехта скажа, як сказаў у свой

час Мусаргскі: «Слава Глинке, указавшему путь к истине!» І так, як ён, пойдуць далей і далей, уздымаючы талентам, узмацнёным і акрылёным сілай маці-зямлі, нашу музыку да сапраўднай вышыні. Якое шчасце ведаць, адчуваць, што там, дзесь на пачатку гэтага сонечнага ўзлёту, ты памог яму, творцу новай вялікай музыкі, адкрыць гэту бяздонную крыніцу на роднай зямлі, прыпаўшы да якой ён стаў бессмяротны, расказаў гукамі яшчэ адну неўміручую паэму свету.

У наступнай кнізе песень, сабраных Грыневічам (выйшла яна ў 1912 годзе), яшчэ багацей была прадстаўлена творчасць народа, паўней раскрыты нязмерна багаты эмацыянальны свет стваральнікаў і носьбітаў беларускай песні. У другім томіку «Беларускіх песень», які, дарэчы, Грыневічу памог сабраць і скампанаваць у маладым веку скрышаны сухотамі паэт з духоўнікаў А. Зязюля (Астрамовіч), што ні твор — то маленькая паэма, цэлы вялікі свет у словах і гуках.

Другі томік «Беларускіх песень» з нотамі адкрывае адна з самых задушэўных народных песень «Чырвоная каліманька», якой пазней будзе закалыхваць сваю тугу па радзіме слаўны спявак, адзін з самых пранікнёных інтэрпрэтатараў і нястомных прапагандыстаў беларускай музычнай культуры Міхась Забэйда-Суміцкі. У пранікнёнасць схопленага ў гэтым творы пачуцця ён укладзе ўсю сваю пяснярскую і сыноўную пяшчоту і любоў да зямлі сваіх бацькоў, да мілагучнага слова яе.

Тут жа і гэта дзівосная сімфонія з яе меладыйна празрыстым уступам «Ці свет, ці світае». Яна нясе пачуццё нейкай праясненай журбы, міжвольна нагадваючы 7-мы вальс Фрэдэрыка Шапэна, дзе такое ж перажыванне ўзнята да вяршынь мастацкай выразнасці. А праз некаль-кі нумароў пяшчотна-шчымлівая «Зязюленька» — як балюча-ласкава просіць маладая жанчына шэрую пералётніцу не куваць так рана. І зноў нязмерна глыбокі свет перажыванняў, перададзены эканомна, некалькімі штрыхамі, нібы дзеля таго, каб лішнім словам не разбурыць мастацкай праўды. А колькі задушэўнасці, сардэчнай цеплыні ў гэтай раздумнай, крыху зажуранай мелодыі…

У другім Грыневічавым зборніку значна багацей прадстаўлены розныя песенныя жанры. Тут і калядная «Вароты скрыпяць», і валачобныя «Ой, ляцелі ды два галубочкі», і купальская «Ты, ель мая зялёная», і пятроўская «Пятрова ночка», і вясельныя, бяседныя, баладныя, каля дзесятка сямейна-бытавых і іншыя. Пры гэтым выбраны надзвычай поўныя варыянты, найбольш выразныя музычна. Адчуваецца, што Грыневіч адбіраў самае характэрнае, па-мастацку спелае.

Імперыялістычная вайна, што выбухнула летам 1914 года, прыпыніла на нейкі час культурную працу на Беларусі. Антон Грыневіч, як тысячы іншых інтэлігентаў, быў мабілізаваны ў армію. Трэба думаць, што, маючы магчымасць бываць на Беларусі (нейкі час Грыневіч служыў на ст. Балагое), ён заўсёды карыстаў з выпадку запісаць новую народную песню… Прынамсі, шмат хто з сучаснікаў Грыневіча ўспамінае, што фальклярыст пры кожнай нагодзе ўмудраўся пачуць і занатаваць песню. «Тут Антон Антонавіч, — дзяліўся ўражаннем Драздовіч, — не прамінуў, як і заўсёды пры кожным

спатканні з беларусам, запісаць ад мяне мелодыі некалькіх песень народных…»

Калі ў лютым 1917 года рухнуў царызм і дзяржаўная машына ўдушэння і прыгнёту паволі пачала развальвацца, яшчэ са звязанымі вайсковай службай рукамі Антон Грыневіч снуе шырокія планы будучай культурнай працы. Яго хвалююць новыя перспектывы жыцця. Летам 1917 года пры шчаслівым знаёмстве з Драздовічам Грыневіч ужо гарыць думкай аб супольнай працы — збіранні і прапагандзе твораў народнай спадчыны, марыць аб стварэнні на іх аспове вялікага нацыянальнага мастацтва. Неўзабаве пасля сустрэчьг з Яаэпам Драздовічам Грыневіч піша яму са станцыі Балагое: «Толькі скончыцца вайна, возьмемся шчыра разам за выкананне нашых задум, аб каторых мы талкавалі. Грошы, якія маю, і ўся маёмасць паслужаць нам абоім зароўна… усё будзем рахаваць папалам». І тут жа канкрэтызуе план: «Што датычыць маляўніцтва, секцыі штукарства (мастацтва. — А.Л.), будзе пад Вашым загадам і доглядам і пад Вашым імем, а секцыя музыкі і тэатральных твораў — у маіх руках, як і самое выданне».

У адным з наступных лістоў да Драздовіча, ужо ў пачатку зімы 1917 года, Грыневіч зноў горача гаворыць аб тых самых задумах і планах і адначасова паведамляе, што заканчвае пісаць «падручнік пачатковай музыкі для сярэдняй школы па-беларуску».

Праз пару год гэту працу сваю Грыневіч выдасць як «Школьны спеўнік». А да гэтага ён нейкі час жыў на Дзісеншчыне, быў, як відаць з артыкула Змітрака Бядулі «Беларуская народная мелодыя», у Менску і нават кіраваў невялікім хорам, які існаваў пры «Беларускай хатцы».

Пра некалькі год жыцця Антона Грыневіча нельга было знайсці ніякіх звестак ні ў перыёдыцы, ні ў архівах. Я звярнуўся да старэйшага беларускага журналіста В. А. Сосенскага, таго Сосенскага, які ў свой час пазнаёміў Змітрака Бядулю з «Нашай нівай» і садзейнічаў «заручынам» гэтага самабытнага таленту з беларускай культурай. Сосенскі адказаў, што памятае Антона Грыневіча па Вільні, куды той вярнуўся ў годзе 1922-м, пасля зняволення ў Варшаўскай цытадэлі. Зямляк Грыневіча Я. Пачопка пацвердзіў гэты факт і перадаў чутае ў свой час ад некага з Грыневічавых сяброў.

На польска-савецкай граніцы Грыневіча затрымала польская жандармерыя. Пры вобыску ў паперах Грыневіча знайшлі нейкі шыфр. Цэлы год гэтыя паперы былі прадметам вывучэння дэфензівы. Нічога пе ўстанавіўшы, фалькларыста нарэшце выпусцілі. «Пасля гадавога зняволення, розных здзекаў і катаванняў, — піша ў лісце Я.Пачопка, — Грыневіч быў вызвалены. Але ў якім стане выпусцілі? Той, хто знаў яго раней, у гэтым не старым, але зусім белым як лунь нямоглым старцы не мог пазнаць былога маладога жыццярадаснага Антона. У Вільні ён крыху ачуняў, паправіўся. Але і тут умовы жыцця былі надта цяжкія. Сталай працы ён не меў. Жыў, як кажуць, на ласкавым хлебе і з гэтага кавалка яшчэ ашчаджаў на выданне сваіх спеўнікаў».

З лістоў Сосенскага, расказаў Надзеі Шнаркевіч можна ўзнаваць абставіны, у якіх жыў і вёў напружаную фальклорна-музычную працу ў Вільні Антон Грыневіч да яго пераходу ў Савецкую Беларусь.

Грыневіч з маладым рэдактарам Лаўрыновічам — псеўданім Я. Лагіновіча, аднаго з лідэраў Беларускай рэвалюцыйнай арганізацыі, пазней сакратара ЦК КПЗБ, мелі прытулак у маленькім пакойчыку на заднім двары Віленскай, 12. Тут жа, побач, былі рэдакцыі розных беларускіх газет, школьная рада і іншыя ўстановы. У Грыневічавым прыстанішчы стаялі «адзін старыпрыстары стол, два старыя сасновыя ложкі, без ніякай пасцелі — голая салома ды старое прасцірадла з маленькай падушачкай, таксама саломай напханай». «Вячэра — кавалак падсохлага хлеба з бог ведае дзе раздабытай прастаквашай».

«Пры спатканні, — расказвае Сосенскі, — Грыневіч прасіў у яго пасядзець, прасіў спець што-небудзь. «Чуеш, Лаўрэн, галасок?» — звяртаўся ён тады да Лаўрыновіча. І прадаўгаваты твар яго з шырокім ілбом яснеў, вочы паблісквалі пад пенснэ.

Раз назаўсёды запомніўся ціхі, працяжны тон Грыневічавай размовы. Хадзіў у той час наш кампазітар у чорным гарнітуры і капелюшы, якія некалі былі досыць шыкоўныя, а пазней зусім абнасіліся і, здаецца, не мелі ніякай надзеі на змену…»

А між тым якраз у час гэтага невясёлага бытавання на Віленскай, 12, у баковачцы пры ўправе ТБШ, Антон Грыневіч настойліва, паспешліва працуе над падручнай кнігай для кіраўнікоў хораў, вясковых настаўнікаў, гарманізуе народныя песні, піша арыгінальныя творы, сядзіць над падрыхтоўкай спеўнікаў. Яго праца ўся падпарадкавана вострым патрэбам культурнаграмадскага жыцця, якое з ростам вызваленчага руху набывае ўсё большы размах.

Выдадзены літаграфскім спосабам «Школьны спеўнік» быў першым практычным дапаможнікам пры выкладанні музыкі ў заходнебеларускіх школах, у працы дырыжораў-аматараў. Для выпрацоўкі музычнага слыху і навыкаў чытання нот Грыневіч прапаноўвае ў сваім дапаможніку простыя народныя ўзоры, знаёмыя дзецям з вясковага быту, падае песні, створаныя ім на словы Янкі Купалы і Якуба Коласа. Арыгінальныя песні Грыневіча пранікнуты народна-песенным ладам. З ідэйнага боку — пераважаюць патрыятычныя матывы. Звяртае на сябе ўвагу песня Грыневіча «Касцу» (словы Янкі Купалы). Мне праз чвэрць стагоддзя пасля напісання песні давялося сустрэцца з ёю як з народным творам. У Заходняй Беларусі перыяду яе польскага заняволення песня «Касцу» набыла рэвалюцыйнае гучанне, успрымалася як заклік да барацьбы.

У «Школьным спеўніку» Грыневіча з дзесятак апрацовак народнага голасу. Гэта першыя гарманізаваныя ім творы: «А хто ў полі», «Было ў бацькі тры сыны», «Чаму ж мне не пець?», «Козлік» і інш. У спеўніку змешчана некалькі трохгалосых народных песень, тэксты якіх апрацаваў Янка Купала. Відаць, у 1919-м ці 1920 годзе ў ходзе падрыхтоўкі спеўніка Грыневіч непасрэдна звяртаўся да паэта.

У «Школьным спеўніку» ўпершыню была змешчана песня прафесара М. А. Янчука «Не пагаснуць зоркі ў небе», якой у Заходняй Беларусі 20-х гадоў было суджана стаць гімнам вызваленчага змагання.

Два арыгінальныя творы Грыневіча можна спаткаць на старонках «Беларускага календара» за 1923 год. Першы з іх — «Гэй, наперад!» — марш. Грыневіч улавіў унутраны рух купалаўскага верша і стварыў мелодыю, якая музычнымі вобразамі добра раскрывае слоўна-вобразную мову верша, робіць яго здабыткам шырокай аўдыторыі.

У свой час песня «Гэй, наперад!» — абышла ўсю Заходнюю Беларусь: гучала з падмосткаў самадзейнай сцэны, на масоўках, на вечарынках. Моладзі, якая горда расхінула крылле ў вызваленчай барацьбе, глыбока імпанаваў змагарны пафас купалаўскіх строфаў.

Хай бацькі цярпелі ўчора,
Йшлі на той свет без пары,
Сёння ў нашай моцы — воля,
Мы — жыцця гаспадары!

Песня Грыневіча «Кукуе зязюленька» з таго ж календара напісана кампазітарам на ўласны тэкст. Песня расказвала пра долю Сымонкі, які вярнуўся з палону-няволі ў родную старану і застаў там руіны ад сядзібы ды зарослыя быллём гоні. Ні прыпынішча, ні жонкі, што пайшла з дзецьмі ў свет. Песня адлюстроўвала нешта тыповае для жыцця Заходняй Беларусі пачатку 20-х гадоў, самім кампазітарам перажытае разам з суайчыннікамі, заходнебеларускімі жыхарамі. Мінорная, у лад словам, была танальнасць песні.

1923 год быў для Грыневіча святлейшы за папярэднія. Нейкі час ён працаваў у Віленскай беларускай гімназіі выкладчыкам спеваў. Быў за сакратара ў Таварыстве беларускай школы. Радасна аддаўся працы ў Беларускай драматычнай майстроўні.

Вясной 1922 года пасля малапаспяховых спроб стварыць беларускі тэатр у Вільні выкладчык-лацініст беларускай гімназіі Мікалай Красінскі разам з пісьменнікам, пазней відным дзеячам Кампартыі Заходняй Беларусі Леапольдам Родзевічам, маладым артыстам Андрэем Курылам заснавалі тэатральную майстэрню. У студыі чыталіся лекцыі аб драматургіі і тэатральным майстэрстве (лектар М. Гарэцкі), ставіліся спектаклі, якія рэжысіраваў Аляксандр Міхалевіч.

У базыльянскіх мурах, у канцэртнай зале беларускай гімназіі, часам можна было бачыць, як, рыхтуючы сцэну да спектакля, на дошцы з гэблікам у руках сядзеў будучы рэдактар органа ЦК КПЗБ — газеты «Чырвоны сцяг» — Леапольд Родзевіч, а насупроць яго — інспектар спажывецкай кааперацыі Віленшчыны паэт публіцыст Ігнат Канчэўскі. Побач завіхаўся з сякерай Андрэй Курыла. У гэтай маладой энергічнай кампаніі Антон Грыневіч выглядаў паважаным у вялікай сям'і бацькам.

Тады ён заканчваў пісаць падручнік «Навука спеву», які, будучы зацверджаным музычнай камісіяй Беларускага навуковага таварыства ў Вільні, у 1923 годзе пабачыў свет. У кароткай прадмове аўтар зазначыў, што «кіраваўся мэтай даць магчымасць грамадзянству праз адпаведны падручнік

без вялікага высілку пазнаць і выкарыстаць у поўнай меры сваю народную песню, каторая, пры бліжэйшым яе разглядзе, мае поўнае права займаць роўнае месца сярод песень іншых народаў».

Спасылаючыся на прыклады з гісторыі су-светнай культуры, Грыневіч падкрэслівае думку, што песня можа «стацца крыніцай любасці да сваёй бацькаўшчыны».

Аўтар спадзяецца, што «Навука спеву» будзе дарадчыкам настаўніку, які захоча стварыць народны хор. І, магчыма, паслужыць таму, каб з яе дапамогай больш людзей навучылася запісваць мелодыі, «каб зберагчы знікаючыя скарбы народнай творчасці».

«Навука спеву» складаецца з трох невялікіх раздзелаў. Першы — цыкл лекцый, дзе вельмі падрабязна, даходліва, з добрым педагагічным тактам выкладаюцца асновы музычнай граматы. Два другія маюць прызначэнне замацаваць атрыманыя веды. У адным падабраны прыкла-ды для практыкаванняў, а ў другім змешчана 100 пытанняў з адказамі (тут жа) па курсу музычных нравіл.

Гэтая праца Грыневіча была ўдзячна сустрэта не толькі ў Заходняй Беларусі. Не аставалася яна незаўважанай і за яе межамі, у Менску. Там яшчэ раней, у 1921 годзе, у часопісе «Вольны сцяг» Змітрок Бядуля шырока акрэсліў заслугі Антона Грыневіча як працаўніна на ніве беларускай музычнай культуры.

Пісьменнік пісаў, між іншым: «У збіранні народных мелодый ад часоў «Нашае нівы» — А. Грыневіч займае першае месца. На гэту працу ён ахвяраваў усе свае матэрыяльныя здабыткі, усё сваё жыццё… З матэрыялаў і гарманізацыяў А. Грыневіча карысталі потым усе беларускія хоры. Побач з гарманізацыяй народных матываў ён пісаў і ўласныя творы…»

Вядомы ў 20-я гады ў Савецкай Беларусі музыказнаўца Юлі Дрэйзін таксама аддаваў у сваіх артыкулах належнае Грыневічу як «старэйшаму і выдатнейшаму збіральніку беларускае песні».

На выхад у свет «Навукі спеву» савецкая музычная грамадскасць адгукнулася разгорнутай рэцэнзіяй у часопісе «Полымя». Пасля падрабязнага кваліфікаванага аналізу праробленай Грыневічам працы аўтар рэцэнзіі зазначаў: «Навука спеву» кладзе пачатак беларускае музычна-навуковае літаратуры і з’явіцца вельмі карысным пачатковым падручнікам як для настаўніцтва, гэтак і для шырокіх колаў грамадзянства».

У адным з чарговых нумароў «Полымя» ў «Хроніцы культурнага жыцця» называлася пяць новых падрыхтаваных Грыневічам кніжак. Сярод іх — «Асновы мастацкага спеву», рукапіс, друкаваць які раіў ужо ў 1923 годзе вядомы польскі кампазітар з беларусаў, прафесар Варшаўскай кансерваторыі Станіслаў Казура, гарманізатар народных беларускіх песень. Антон Грыневіч (гэта відаць з нямногіх уцалелых дакументаў, лістоў) надаваў вялікае значэнне «Асновам мастацкага спеву» і не пераставаў удасканальваць рукапіс…

Натхнёным, цалкам паглынутым любімай працай паказвае Грыневіча гэтай пары на сваіх графічных аркушах Язэп Драздовіч. На адным з іх кампазітар намаляваны аа рабочым сталом, нрыху паверпутм да гледача. Увага яго засяроджана па нотных запісах. З-пад ппенснэ глядзяць добрыя

ўдумлівыя вочы. Серабрыстыя густыя валасы высока падняліся над пакатым ілбом і цяжкімі хвалямі ападаюць да шырокіх плячэй. Сівая акуратная барада прыкрывае грудзі. Да 1933 года адносіцца партрэт Антона Грыневіча, зроблены Драздовічам на дрэве. Вельмі рэльефна выступаюць скульптурныя рысы твару фальклрыста: ад аблічча яго і магутных плячэй вее самабытнай сілай, дужасцю…

Аднак моцнай гэтай натуры было нялёгка трымацца, аддавацца любімай працы на карысць беларускай музычнай культуры. Акупацыйныя ўлады ў Заходняй Беларусі ўвесь час вялі наступ на правы працоўных. Жорстка праследавалася загнаная ў падполле Кампартыя, рэпрэсіі бесперапынна сыпаліся на радыкальны друк. Закрываліся грамадскія арганізацыі, спа-жывецкія кааператывы. Асабліва злосна праследавалася беларуская асвета. Не толькі дзяржаўныя, але і прыватпыя беларускія гпколы закрываліся і замяняліся на польскія, нягледзячы на пратэсты бацькоў і шырокай дэмакратычнай грамадскасці. Песня, якую Грыневіч сваімі спеўнікамі і падручнікамі прывёў у школу, выкідвалася з яе разам з матчынай мовай дзяцей.

Давалася ў знакі палітычная «ненадзейнасць» Грыневіча. Не папрацаваўшы і года ў Віленскай гімназіі, кампазітар вымушаны пакінуць яе сцены: віленскі куратар не зацвярджае яго на выкладчыцкай рабоце.

Фальклрысту забаронена выязджаць за межы Вільні. За ім устаноўлены сталы паліцэйскі нагляд.

Грыневіч спяшаецца выдаць апошнюю сваю кніжку ў Вільні — «Беларускі дзіцячы спеўнік». Дзіцячы спеўнік Грыневіча ўслед за «Дзяцінымі гульнямі» Леанілы Чарняўскай быў добры гасцінец заходнебеларускай дзетвары. У ім Грыневіч падаў вязанку цудоўных калыханак, забаўлянак, дражнілак, саораных у самых розных мясцінах Беларусі — ад Мсціслаўшчыьшы да Свянцяншчыны і Гродзеншчыны, ад Дзісеншчыны да Піншчыны…

«Ладу-ладу ладкі», «Кую-кую ножку», «Заінька шэранькі», «Чыжык», «Сіваваронка», «Ду-ду-ду, казёл-барада» і многія іншыя песні — тая просценькая паэзія, якая ад калыскі акружала немаўля, узбагачала яго свет простым апавяданнем пра верабейку, што «мядзведзю задаў дыхту», пра муркатаннежальбу котачкі, пра сіўку-варонку, што паляцела к кавалю на двор…

У спеўніку ёсць і некалькі песень-сцэнак, дзе тэкст суправаджаецца адпаведнымі дзеяннямі, гульнёй. Кніжачку аформіў адзін з самых творча актыўных заходнебеларускіх графікаў Язэп Горыд.

Нарэкламнай старонцы «Беларускага дзіцячага спеўніка» значыліся наступныя падрыхтаваныя да друку кніжкі Грыневіча: «Сальфеджыё» — 250 практыкаванняў з метадычнымі заўвагамі і кароткім тлумачэннем музычных правілаў; «Асновы мастацкага спеву» (апрацоўка голасу і розныя заўвагі аб спеве); другое (дапоўненае) выданне «Школьнага спеўніка»; «Беларускі канцэртны спеўнік» (для чатырохгалосага змешанага хору); «Зборнік беларускай музыкі» (этнаграфічныя матэрыялы).

Гэта ўсё ўжо было зроблена, а планы рабіліся штораз болыныя. Для рэалізацыі ж іх магчымасці былі мізэрныя, ды і тыя ўбаўляліся, і Грыневіч рашуча прымае важнае рашэнне…

Ён добра ведаў (у Вільню ішла перыёдыка з Савецкай Беларусі — амаль усе навуковыя і мастацкія выданні), што на Усходзе вядзецца вялікая работа па сацыяльна-дзяржаўнаму будаўніцтву, распачата шырокая культурная праца.

Рабочыя, сяляне і працоўная інтэлігенцыя Заходняй Беларусі ўважліва сачылі і ўмелі радавацца кожнай сацыяльнай заваёве, кожнаму дзяржаўнаму і культурнаму здабытку ў БССР. Адкрыццё Беларускага дзяржаўнага універсітэта, Гястытута беларускай культуры, узбуйненне рэспублікі — усе гэта факты, якія моцна ўплывалі на развіццё грамадскай думкі на захад ад рыжскай мяжы.

Грыневіч, як і многія культурныя працаўнікі ў Заходняй Беларусі, ведаў з друку, што ў Маскве арганізавана і працуе «Беларуская песенная камісія», што Інбелкульт збірае і рыхтуе да друку выданне народнага меласу. Зайздросна (а выдаўцу-аматару Грыневічу гэта асабліва добра відаць) — быў выдадзены двойчы «Беларускі лірнік» Уладзіміра Тэраўскага, спеўнік Мацісона і іншыя песенныя выданні.

Галоўнае ж — на Усходзе працоўны люд трымаў ва ўласных руках свой лёс, сацыяльныя і нацыянальныя асновы жыцця, справу сваёй культуры. Прынамсі, так тады здавалася.

Усё гэта асабліва добра адчуваў Грыневіч, жывучы ў Заходняй Беларусі, дзе буржуазна-абшарніцкае ўладаранне прыкрывалася фразамі аб дэмакратыі і пэўнай сваёй місіяй на Усходзе.

«Першы пісьменнік паміж географаў і географ паміж пісьменнікаў» Міхайла Грамыка памятае Грыневіча з першых часоў яго прыходу ў 1924 годзе ў Менск.

Неяк аднойчы Грыневіч наведаўся да Грамыкаў, каб асабіста пазнаёміцца… Прынёс з сабой згорнутыя ў трубачку ноты. «Высокі, крышку сутулы стары чалавек. Інтэлігентны твар у вянку па-тургенеўску зачасаных валасоў. Агульнае ўражанне — народнік…

Размераныя спакойныя рухі чалавека, які знайшоў справу свайго жыцця і ўпэўнены, што справа гэтая значная, патрэбная, можа, не для кожнага зразумелая…» Такім убачыў Антона Грыневіча Грамыка. Сваіх новых знаёмых Грыневіч запрасіў да сябе ў гасціну. На адной з зялёных вулачак Мгаска Грамыкі знайшлі яго «ашаляваны асабняк». «Грыневічу належаў левялікі пакой з вокнамі ў сад, з нізкай, як на яго рост, столлю, мэбляваны небагата, але досыць утульны».

Пасля пачастунку Грыневіч сеў за раяль. «Паліліся гукі адной, другой народнай многавекавой песні… Потым — уласныя творы на словы беларускіх паэтаў. У гэты час кампазітар усёй сваёй істотай жыў у народнай стыхіі. Уявіліся яго вандроўкі па краі. Дзе пехатой, дзе на коніку… На прызбах вясковых хат, на ўслоне, на ўзмежку пры жыце — дзе толькі не падслухана, не падгледжана гэтая краса, гэтыя одум, боль, мары, пераліўтыя ў песенныя гукі і словы!»

У чэрвені 1925 года, ужо са старонак газеты «Савецкая Беларусь» Антон Грыневіч ад імя Беларускай песеннай камісіі звяртаецца да шырокай савецкай грамадскасці з заклікам збіраць музычную народную творчасць.

К гэтаму часу створаная ў 1923 годзе наркаматам асветы БССР Беларуская песенная камісія, у склад якой уваходзілі вядомыя рускія кампазітары Я. В. Прохараў, М. М. Іпалітаў-Іванаў і некалькі мясцовых музычных дзеячаў, досыць шырока разгарнула працу па музычнай апрацоўцы беларускіх народных мелодый, па навуковым даследаванні беларускага музычнага фальклору. Неабходна было хутчэй даць музычна апрацаваныя народныя творы першым мастацкім калектывам, памагчы станаўленню прафесійнай беларускай музыкі.

Сваёй арганізацыйнай базай песенная камісія мела Інстытут беларускай культуры, дзе ў секцыі мастацтва існавала музычная падсекцыя. З восені 1925 года сакратаром гэтай падсекцыі пачынае працаваць Антон Грыневіч. Няцяжка ўявіць, як радаваўся шчыры руплівец беларускай культуры новым магчымасцям яе, свайму новаму акружэнню — навуковаму асяроддзю, адданаму працы пазнання мастацтва разняволеных мас.

На здымку гэтай пары можна бачыць Грыневіча ў акружэнні навуковых супрацоўнікаў секцыі мастацтва Інбелкульта. Сярод іх фалькларыст, за плячыма якога 20 год працы над беларускай песняй, — пажылы, абелены сівізной, — выглядае як патрыярх. Побач з ім вялікі энтузіяст беларускага выяўленчага мастацтва, яго тонкі знаўца і прапагандыст, інтэлігент да мозгу касцей, абаяльны Мікалай Мікалаевіч Шчакаціхін. У 20-я гады ён пісаў, здаецца, за дваіх — столькі выходзіла з-пад ягонага пяра артыкулаў і нарысаў, манаграфій. А па левую руку ад Грыневіча прыемна ўражвае валявы, пранікнёны твар Язэпа Дылы, драматурга і тэатразнаўцы, былога члена першага Часовага беларускага савецкага ўрада. Ззаду стаіць знешне стрыманы, унутрана засяроджаны Фларыян Ждановіч — адзін з заснавальнікаў беларускага савецкага тэатра. З жывой, лагоднай усмешкай сядзіць Юлі Дрэйзін — музыказнаўца, нястомны прапагандыст музычнага мастацтва ў Менску 20-х гадоў.

Гэта яго, невысокага, жвавага, прыветна і прывычна сустракалі мінчане воплескамі перад пачаткам канцэртаў, ад яго папярэдне чулі, што раскажуць ім мовай гукаў Моцарт, Бетховен, Чайкоўскі… Ад яго, перакладчыка на беларускую мову твораў класічнай грэчаскай літаратуры, лібрэта выдатных опер, слухачы даведваліся і пра першыя нясмелыя самастойныя крокі беларускай музыкі. Для Грыневіча гэта былі сябры, паплечнікі па вялікай справе барацьбы за культуру беларускага народа, за яе будучыню. Ва ўмовах агульнага ўздыму, у сапраўды творчых абставінах Грыневіч поўнасцю аддаецца любімай працы. Ужо праз некалькі месяцаў пасля пераходу «зялёнай граніцы», у кастрычніку 1925 года, у краязнаўчым часопісе «Наш край» Грыневіч змяшчае «Праграму-інструкцыю для збіральнікаў беларускай музычна-этнаграфічнай творчасці». Ва ўступнай частцы праграмы фалькларыст падкрэслівае думку, што збіральнік перш-наперш павінен пазнаёміцца з гісторыяй і этнаграфіяй народа, з ужо апублікаванай народна-паэтычнай спадчынай, і тут жа дае кароткую бібліяграфію неабходных выданняў.

Некалькі практычных арганізацыйных парад папярэднічае выкладанню пажанравага плану песень, якія неабходна выявіць. Даецца надзвычай

поўны пералік усіх відаў каляндарна-абрадавых і сямейна-бытавых песень. Звяртаецца асаблівая ўвага на дзіцячы фальклор, на народныя танцы. Потым ідуць падрабязныя практычныя парады па тэхніцы музычных запісаў, пашпартызацыі. Астатнія пункты праграмы-інструкцыі накіраваны на тое, каб як найпаўней узнавіць усе асаблівасці прыроды кожнага фальклорнага жанру, умоў бытавання асобнага твору ці віду, выявіць народных самародкаў.

Грыневіч прымае дзейны ўдзел у распрацоўцы музычнай тэрміналогіі, у абмеркаванні пытанняў музычнай асветы рэспублікі, выбірае, каго з народных музыкаў паслаць на сусветную Парыжскую выстаўку, падбірае рэпертуар мастацкім калектывам. У 1926 годзе Грыневіч падрыхтаваў вялікае пісьмовае выступленне «Аб стане беларускай музычнай культуры», якое мела падзагаловак «Адно з набалеўшых пытанняў у нашым савецкім будаўніцтве». Мэта гэтага выступлення — звярнуць увагу наркамата асветы і іншых кампетэнтных органаў на недахопы і перашкоды, што стаялі на шляху развіцця музычнай культуры ў рэспубліцы. Пры гэтым аўтар выяўляе глыбокае разуменне асноў нацыянальнай культуры, шчыра і па-дзелавому клапоціцца аб яе ўздыме, падае рад практычных заўваг. У той час у Менску яшчэ кепска была наладжана справа з друкаваннем музычнай літаратуры. Песенныя зборнікі доўга чакалі сваёй чаргі ў Маскве ці Берліне, дзе З. Жылуновічам быў заснаваны філіял выдавецтва «Савецкая Беларусь». Грыневіч, добра знаёмы з друкарскай справай, просіць дазволіць яму прывезці з Масквы і прыстасаваць неабходныя для нотадруку дэталі машын.

У вывадах свайго дакладу Грыневіч настойліва патрабуе, між іншым, даць у Менску працу кампазітарам Анцаву, Тышкевічу, М. Ігнатоўскаму.

Да 1927 года Грыневіч паспеў ужо аб’ехаць паўночныя раёны Віцебшчыны і часткова Палессе, запісаў у Тураўскім, Себежскім і іншых раёнах 350 народных песень і танцаў. Ён выступае ў «Нашым краі» з аглядамі матэрыялаў, дасланых у Інбелкульт краязнаўцамі, аматарамі народнай муаыкі. Глыбокі знаўца народнай мелодыі, ён дае нямала каштоўных заўваг пры абмеркаванні твораў пачынаючых беларускіх кампазітараў Вішнеўскага, Тарасевіча, Фідлона, Каранеўскай, Навацкага, Беразоўскага і інш.

Працуючы ў камісіі па вывучэнні беларускага народнага танца, Грыневіч разам з І. Сербавым і Чэславам Родзевічам, архітэктарам і хімікам па адукацыі, братам вядомага драматурга і палітычнага дзеяча, падрыхтоўвае зборнік «Беларускія танцы». Кніга гэта была вельмі патрэбна харэаграфічным калектывам. Нецярпліва чакае яе тонкі інтэрпрэтатар народнай танцавальнай музыкі рэжысёр-балетмайстар БДТ-1 К.Алексютовіч. У працэсе падрыхтоўкі да выдання зборніка «Беларускія танцы», акрамя ўласнаручных запісаў укладальнікаў, былі скарыстаны і фальклорныя матэрыялы Рамуальда Зямкевіча — гісторыка літаратуры і этнографа, які ў свой час запісаў 50 беларускіх народных танцавальных мелодый.

У 20-я гады па ўсёй савецкай краіне дасягае вялізнага развіцця краязнаўства. Разняволеныя рэвалюцыяй народныя масы імкнуцца да самапазнання. Краязнаўства — вялікая падмога і маладой беларускай наву-

цы. Яно памагае паўней выявіць творчыя магчымасці, асабліва-сці народнага мастацтва і таму неабходна пры будаванні новай савецкай беларускай культуры, якая адразу станавілася на трывалы грунт выпрацаваных вякамі народнатворчых мастацкіх традыцый.

Антон Грыневіч разам з прадстаўнікамі навуковай грамадскасці рэспублікі актыўна ўдзельнічае ў рабоце Першага ўсебеларускага краязнаўчага з’езда, услед за Максімам Гарэцкім выступае па пытаннях беларускай народнай паэзіі і музыкі.

Язэп Дыла — старшыня секцыі мастацтва у Інбелкульце, а пазней — у Беларускай Акадэміі навук — з аддалечы 40 год успамшае разважанні Грыневіча аб ладавых асаблівасцях беларускай народнай песні, аб яе выкананні. АІшьваючы ўсю фальклорна-музычную працу Гішпевіча пачынаючы ад 1906 года, Дыла называе яе самаахвярнай, да канца падпарадкаванай вялікай справе культуры роднага народа. Згадваючы Грыневіча-чалавека, Дыла піша: «Антон Антонавіч быў сціплы, далікатны душою чалавек, бязмежна адданы сваёй справе, я б сказаў — закаханы ў беларускую народную песню». Гэтыя словы міжволі нагадваюць выказванне Юлія Дрэйзіна, які ў артыкуле «Кастрычнік і беларуская музыка» называў Антона Грыневіча «сапраўдным героем працы ў галіне вывучэння беларускае музычнае творчасці».

Успаміны Я. Дылы праліваюць крыху святла на апошнія гады жыцця аднаго з самаадданых энтузіястаў беларускага песеннага мастацтва. Пазней, калі рыхтавалася першая Бела-руская савецкая энцыклапедыя (як бы парадаваўся ёй самаадданы рабачай культуры Антон Антонавіч Грыневіч!), мне ўдалося дакументальна ўстанавіць час нараджэння фальклорыста-музыказнаўца. Нарадзіўся Антон Грыневіч 3(16) мая 1877 года ў фальварку Іваноўшчына, як гэта ў свой час даведаўся я з успамінаў землякоў нястомнага збіральніка, прапагандыста беларускай песні. Мясціны нараджэння бу-дучага музыканта-фальклорыста адносіліся на той час да Лепельскага павета. Пачаткі адукацыі атрымаў у Дзісенскім гарадскім вучылішчы. У дзевятнаццаць год трапіў у Пецярбург, дзе адзін з яго братоў быў дробным чыноўнікам. Спачатку зачапіўся ў Казённай палаце пісцом. Пазней перайшоў у Дэпартамент гандлю і прамысловасці. Вечарамі вучыўся. Скончыў сярэднеадукацыйныя курсы Шклоўскага, бухгалтарскія курсы. Сышоўся з рэвалюцыйна настроенымі студэнтамі. Праз іх і трапіў у круг знаёмых Браніслава Ігнатавіча Эпімах-Шыпілы, далучыўся да працы беларускай выдавецкай суполкі «Загляне сонца і ў наша аконца». Убачыў, што музыка, песня — самая занядбаная дзялянка на духоўнай ніве беларусаў, на якой з пачатку стагоддзя да працы стала цэлая плея-да прадстаўнікоў маладога пакалення — Маладая Беларусь, як авяртаўся да яе, клічучы з нізін да святла, сонца, малады песняр Янка Купала. У Грыневіча быў абсалютны слых (пра гэта згадвае яго вучань беларускі музычны фальклорыст Павел Каруза), і будучы культурны дзеяч авалодаў музычнай граматай яшчэ ў Дзісенскім гарадскім вучылішчы. Але каб паспяхова збіраць народную музыку, зрабіць яе здабыткам шырокай грамадскасці, узгадаваць на яе ўзорах беларускага

кампазітара, нацыянальнага творцу, які сягнуў бы сапраўдных музычных вяршынь, а заадно засведчыў перад светам, што за духоўныя каштоўнасці тоіць у сваёй душы яго народ, якія кветы духу мог бы ён унесці ў агульначалавечую скарбніцу, патрэбна была сталая прафесійная падрыхтоўка. Грыневіч пгукаў такой магчымасці. На яго шчасце ў Пецярбурзе можна было яе знайсці. Яму ўдаецца скончыць народную музычную школу кампазітара Сяргея Ляпунова.

Год ад году рабіліся ўсё больш плённымі вандроўкі Грыневіча па Беларусі. Увесь адпачынак, вольны час ён аддае пошуку песень ля іх жывых вытокаў. Сцежкі фальклярыста пра-леглі праз Лепельшчыну і Сенненшчыну, Случчыну і Навагрудчыну, Лідчыну і Дзісеншчыну. Ён запісвае песні ў Коласавай Мікалаеўшчыне і Купалавых Акопах… На яго заклік рупіцца каля роднай песні адгукаецца ўсё болей энтузі-ястаў. Акрамя Астрамовіча, што дасылае песні з Ракава і Траб, запісвае іх яму случчак Дзяніс Крывадубскі. Са Слоніма ўзрушана «Залаты братко па ідэі…» звяртаецца да пецярбургскага фальклярыста Гальяш Леўчык, шле свае запісы, ведаючы пэўна — ім будзе дадзены належны ход і ўжытак. Грыневіч рассылае сваім карэспандэнтам ім надрукаваную своеасаблівую анкету на фальклорны твор, якая прадугледжвае навуковы яго запіс… На прадаўгаватых аркушах анкеты ўласнаручныя запісы шэсень, зробленыя Грыневічам ад прадстаўнікоу Маладой Беларусі, пазней выдатных людзей нашай культуры, ад старэйшых носьбітаў народнай фальклорна-музычнай традыцыі. Назапашваецца багаты матэрыял. Фальклярыст, выдавец, асветнік марыць аб шырокай працы на родная ніве, снуе творчыя планы. Вайна на нейкі час перапыняе іх здзяйсненне.

У сярэдзіне 1915 года Грыневіч быў мабілізаваны ў армію ратнікам апалчэння. Служыў спачатку ў Гатчыне, пазней на ст. Балагое як вайсковы чыноўнік па ўліку інтэндрацкіх грузаў, якія праходзілі на Паўночны фронт. Рэвалюцыю сустрэў з радасцю і надзеяй. Пайшоў працаваць у Беларускі нацыянальны Каміса-рыят, які ў многім прычыніўся да падрыхтоўкі аб'яўлення Беларусі савецкай рэспублікай. У Белнацкоме Грьгаевіч загадваў мастацкай падсекцыяй, займаўся справамі выдавецтва, арганізацыяй вечароў і забеспячэння іх мастацкай часткай. Пасля абвяшчэння БССР спя-шаецца ў Менск. Тут назначаецца загадчыкам Беларускага народнага дома, арганізуе пры ім драматычную труггу, бібліятэку. Паралельна выкладае спевы ў 8-й школе 2-й ступені і рых-туе першы беларускі дапаможнік па музыцы. Грамадзянская вайна, акупацыя Беларусі палякамі ўносіць у жыццё, творчыя планы беларускага фальклярыста свае жорсткія карэктывы. Далей мы ўжо ведаем яго суровую эпапею, якая пачалася з арышту дэфензівай, Варшаўскай турмой. Загінуў Антон Грыневіч 8 снежня 1937 года. Трыццаць год свайго мэтанакіраванага жыцця ён аддаў беларускай песні, музыцы: рыхтаваў глебу для яе ўздыму, набліжаў прыход новых творцаў. Усім сваім жыццём, самаахвярнай працай вучоны-музыкант завяшчаў пашану да народнага генія, руплівасць над здабыткамі яго духу, дзеля дабра, дзеля ўзвышэння чалавека, узлёту яго мары.

Вайна растрэсла творчую спадчыну музыказнаўцы і кампазітара. Але, на шчасце, не ўсё.

У галоднай, стэрарызаванай нямецка-фашысцкімі захопнікамі Вільні, праклінаючы гэты «горад — сусветны палігон» і абяцаючы з'ехаць пасля вайны хоць на край свету, будучы выдатны дзеяч музычнай культуры Польскай Народнай Рэспублікі Тадэвуш Шалігоўскі перабіраў запісы беларускіх народных мелодый, што захоўваліся ў Беларускім музеі. Значную частку калекцыі музычных запісаў, назбіраных за чвэрць стагоддзя, складалі Грыневічавы запісы. Уцякаючы з Вільні ў Менск фалькларыст не мог іх захапіць з сабой пры нелегальным пераходзе «зялёнай граніцы».

У сваіх пасляваенных лістах з Варшавы да Г. І. Цітовіча і другіх дзеячаў беларускай савецкай культуры сусветна вядомы кампазітар успамінаў, як была захапіла яго беларуская народная музычная стыхія, што цяпер яна часам падымаецца дзесь з глыбіні істоты і просіць выхаду. Каб было адпаведнае лібрэта, магла б атрымацца арыгінальная опера… Гэта думка-пажаданне ўзнікла яшчэ ў суровыя гады вайны, была і ў апошніх, перадсмяротных лістах Шалігоўскага.

Што ж да пэрлін, здабытых, паднятых Грыневічам з народных глыбінь, то яны і сёння шчодра жывяць, узбагачаюць мастацтва бела-рускіх савецкіх кампазітараў. І гэтым ужо ў нейкай меры здзяйсняецца мара жыцця аднаго з самых нястомных працаўнікоў на духоўнай ніве народа Антона Грыневіча.

Збіранне звестак пра жыццё і падзвіжніцкую працу Антона Грыневіча ішло цяжка. З канца 20-х гадоў след Антона Грыневіча губ-ляўся для даследчыкаў зусім. Пытаўся я ў Міхайлы Грамыкі, які жыў у Хімках пад Масквой, у Язэпа Дылы, закінутага бурай 30-х у Саратаў. Звяртаўся да Уладзіміра Дубоўкі, Міколы Улашчыка, ацалелых магікан 20-х гадоў. Нарэшце пытаўся ў «беларускага пецярбуржца» Язэпа Сушынскага. Ніхто не ведаў, дзе дзеўся Антон Грыневіч за рубяжом трыццатага года.

Язэп Францавіч Сушынскі ўспомніў, што ў Белебеі, у Башкірыі, куды вучоны трапіў у 30-я гады, у яго на вачах памёр былы рэктар Маскоўскага універсітэта прафесар Любаўскі, былы дырэктар Віцебскага краязнаўчага музея Язэп Васілевіч.

Уладзімір Мікалаевіч Дубоука дзівіўся: сапраўды, ні з тымі, каго ў 1931 г. высылалі за Урал, ні з тымі, каго на Поўнач, — Грыневіча не было.

Першую сваю публікацыю пра Антона Грыневіча мне давялося абаперці на зусім скупых звестках. Праўда, у рэштках акадэмічнага архіва, так крыўдна мала пакінула ад яго апошняя вайна, удалося знайсці год, дату яго нараджэння: 3 мая 1877. Было там названа і месца, дзе нарадзіўся будучы дзеяч беларускай культуры. Пазней нечакана пашанцавала натрапіць ажно на дзве аўтабіяграфіі А. А. Грыневіча. Адну паказаў мне загадчык рэдакцыі мастацтва БелСЭ Арсень Лабовіч. Менску восенюю 1933 г. у спецыфічных, зразумела, умовах. Аўтабіяграфія сціслая, але было на той старонцы, спісанай праз паўтара інтэрвала, некалькі цікавых фактаў. Галоўнае ж — усё жыццё майго героя, занатаванае па гадах.

Другая аўтабіяграфія Грыневіча, больш разгорнутая, была напісана ў 1927 годзе на просьбу вядомага музыказнаўцы Квіткі. Яе знайшла ў архіве інстытута імя Гнесіных у Масм[2]алады педагог, выкладчык Інстытута культуры Наталля Крыловіч. Ведаючы мой клопат, яна ласкава падзялілася са мной знойдзенымі новымі звесткамі аб творчых планах А. А. Грыневіча, занатаваных у аўтабіяграфіі, напісанай для Квіткі.

* * *

Старэйшы беларускі фальклярыст-музыказнаўца Павел Каруза, расказваючы пра Антона Антонавіча Грыневіча як чалавека, які першы прыхінуў яго, тады маладога хлопца, да беларускай народнай песні, даў адчуць яе нязмернае багацце, згадаў, што апошні раз бачыў свайго настаўніка ў позную восень 1937 года на Салаўках. Яны ўдвух з Максімам Бурсевічам, педагогам, воляю палітычных абставін сакратаром Беларускай сялянска-рабочай грамады, прыйшлі наведаць земляка. Абодва рослыя, срэбнагаловыя, прыгпечапыя. Час быў трывожны. Пра гэта скупа гаварылі пры аладках, якіх напёк дарагім гасцям гаспадар. Успомнілі Вільню, даўні свой вырай.

Вялікі руплівец народнай песні, першы беларускі этнамузыколаг Антон Антонавіч Грыневіч быў расстраляны ў Салаўках 8 снежня 1937 года.

*1964*

# Песню — у спадчыну

Маё пакаленне спазнавала ўрачыстую і пранікнёную красу харавога спеву, паланілася ім у шчаслівую пару студэнцтва, у 50-я гады. Адкрыццё мастацкай харавой культуры, далучэнне да яе шмат у каго з нас адбылося праз хор Рыгора Раманавіча Шырмы, які неўзабаве стаў насіць высокае ганаровае званне Акадэмічнай капэлы. На пачатку гэта была сустрэча з роднай песняй. Глыбока адчутая прыроджаным мастаком, беражліва данесеная хорам, яна неўпрыкмет раскрывала ўладную сілу свайго хараства, прамаўляла да сэрца, узвышала думку. Не магла пакінуць абыякавым нікога. Памятаю, у інтэрнаце мы, будучыя філолагі, — настаўнікі, навукоўцы, паэты, але яшчэ толькі будучыя — пра нешта горача спрачаліся. І ўсе, як адзін, раптам схамянуліся, прымоўклі, калі з рудаватай скрыначкі-рэпрадуктара плаўна палілася мелодыя, поўная пяшчоты, задуменнасці, стоенага агню.

Што то за хлопец, што за дзяўчына
З лесу пад вечар выходзяць
І, прытуліўшысь там, каля млыну,
Ночку спакойна праводзяць…

Як светлы ўспамін цяпер ужо далёкіх студэнцкіх гадоў, бывае, прамільгне ў памяці падараваная калісь Шырмам, шырмаўцамі дзіўна прасветленая зажуранасць песні «Ці свет, ці світае». Ускалыхнуцца ў душы водгаласам даўняга ўзрушэння і паклічуць да вытокаў, да родных берагоў песні «Люблю наш край», «Ці ўсе лугі пакошаны?», «Ой, не кукуй, зязюленька, рана», «Зорка Венера»… Ціха паклічуць туды, дзе залацее лотаць у надрэчных лугах, ільсніцца пад сонцам свежаўзараная ралля, пад майскім дажджом жаўруковых песень падымаецца, набірае моцы маладое, светла-зялёнае жыта. Туды, дзе ўстаюць да небасхілу сінія задуменныя лясы. Туды, дзе працоўная руплівасьць, гамана вялікіх шляхоў змяняецца на цішыню палявых ды лясных дарог, утравелых сцежак. Туды, на адвечнае ўлонне народнага жыцця, у краіну земляробчай працы, простай паэзіі, дзе несупынна бруяць з вечнай крыніцы-душы народа песні.

Але не толькі беларускай народнай песняй магла зачараваць капэла Шырмы. На тое і быў ён вялікі мастак, сапраўдны майстра музычнай культуры, Рыгор Шырма, што, спасцігшы душу роднай песні, беларускай музычнай

стыхіі, здолеў адчуць і з такой жа глыбінёй, мастакоускай пранікнёнасцю раскрыць, данесці да сэрцаў людскіх усю веліч, неўміручую красу твораў Моцарта, Бетховена, Гендэля, Грыга, Глінкі, Чайкоўскага, Танеева…

Помніцца, у 56-й, на той час самай большай універсітэцкай аўдыторыі, чакаем выступлення Шырмавай капэлы. І вось падымаюцца адзін за адным на невялікі падмостак у строгіх сваіх касцюмах харысты. Стройны, выразны прамавугольнік хору вырастае на вачах, імгненна. Лёгка і спаважна адначасова крочыў аднекуль, вырас перад ім невысокі, але ўвесь нейкі цэльны, стройны постаццю чалавек. Як бы нешта ціха сказаў хору. Скупы, ледзь прыкметны ўзмах яго рукі — і ў залу, пад высокую столь яе, узляцелі срабрыстыя гукі. Да іх далучыліся барытанальныя галасы, а праз хвіліну дзесь на левым крыле, ззаду, адазваліся густым рэхам басы — нібы далёка недзе пушчаю шуганула бура і сюды кінула прыглушаны свой водгалас. Песня паднялася над залай дужа і молада. За ёй другая, мройная. Мабыць, увабрала ў сябе і спеў веснавой жалейкі, і даўнюю жальбу жніўных песень, і жураўліную тугу асенніх палёў, шшарын. Потым выступілі наперад двое харыстаў: танклявая гожая маладая жанчына і шчыра ўсмешлівы, светлаблічны мужчына. На фоне ціха-ўрачыстага, крыху таямнічага галасавога акампанементу хору галасы салістаў узвіліся высока, звонка. То гучалі асобна, то трапятліва зліваліся ў адным пачуцці, адным парыве — над студэнцкай залай светла ўзыходзіла «Зорка Венера».

Калі воплескі ўзарваліся з новай сілай, да краю сцэны падышоў дырыжор. Твар яго, рухі былі спакойнымі. Толькі на момант, ледзь улоўна з-пад густых броваў агнём-усмешкай бліснулі вочы, усмешкай чалавека, які шчаслівы дарыць людзям радасць. Нельга было не заўважыць яго самаістага, інтэлігентнага выгляду.

Вельмі спаважным густым голасам адзін з харыстаў аб’явіў: «Гендэль. «Гімн працы»». Дырыжыруе народны артыст рэспублікі Рыгор Раманавіч Шырма», — і лёгка, напорыста хлынула ў залу хваля спеўных гукаў. Словамі «Працы хвала! Хвала моцным рукам! » пераклікнуліся тэнары, сапрана, барытоны, басы. Недаступны, як на кволае юнацкае уяўленне, алімпіец Гендэль увачавідкі рабіўся зразумелым, нават блізкім: энергічным пульсоўным рытмам, строгай мелодыяй закідаў у сэрца зерне бадзёрасці, дужасці, святла.

У адзіным імклівым патоку, віхры гукаў зліліся галасы. Рукі дырыжора (можна было заўважыць з-за плячэй) задавалі хору гранічна напружаны рытм. Усё літаральна патанула ў моры музыкі, агню, святла — гучаў Глінка: «Слаўся», і паўставалі перад вачыма манументальныя вобразы рускай гісторыі. Высокая патэтыка, дух дзяржаўнасці, уласцівыя вобразнаму ладу твора, бачыліся ярка, запамінальна — як у святле маланкі.

Было шмат радасных сустрэч з гэтым незвычайным, этапным у музычнай культуры Беларусі калектывам. І цяпер ужо з запозненым шкадаваннем думаеш, што ўсё ж было іх замала. Трэба было спяшацца на іх часцей. Адно засталося ў памяці, памяці сэрца, што кожны раз знакаміты ансамбль дарыў табе душэўнае ўзрушэнне, якое можа даць толькі прычашчэнне да сапраўднага, вялікага мастацтва.

Натуральна, постаць кіраўніка капэлы, яе заснавальніка, творцы набывала ўсё большую прыцягальную сілу, цікавасць. Упершыню, аднак, адважыўся падысці загаварыць з Рыгорам Раманавічам няскора. Выпадак такі надарыўся пад час нарады ў Акадэміі навук у 1960 годзе. Запрошаны тагачасным дырэктарам Інстытута мастацвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР паэтам-акадэмікам П. Ф. Глебкам Р. Р. Шырма выступаў тады горача, пераканальна, як ён заўсёды гаварыў (мне да гэтага і пазней некалькі разоў даводзілася яго слухаць) пра любімую, кроўную справу свайго жыцця — беларускую народнапаэтычную творчасць…

У мяне знайшлася пільная прычына для таго, каб падысці, загаварыць з Рыгорам Раманавічам. У тойчас я толькі што разлічыўся з кандыдацкім мінімумам і збіраўся падступацца к даследаванню, прысвечанаму культурнаму жыццю былой Заходняй Беларусі. Няшмат ведаў пра тое, якую ролю адыграў у ім Шырма. Для гэтага трэба было хоць збольшага пазнаёміцца з віленскімі выданнямі 20-х-— 30-х гадоў. На той час я зрабіць гэтага яшчэ не паспеў. Разумеў, аднак, што ад Шырмы, непасрэднага ўдзельніка падзей, больш чым ад каго магу пачуць нешта важнае, што зарыентуе ў пошуку. Загадчык сектара фальклору ІМЭФ і мой навуковы кіраўнік прафесар І.В.Гутараў ухваліў тэму, з якой я прыйшоў у Інстытут, нават пахваліу за самастойнасць выбару, але адразу даў зразумець, што лішне апекавацца, дапамагаць не будзе. Адно — сам заходнебеларускай тэматыкай не займаўся, а другое — каб аспірант не апускаў галавы ад такой перспектывы, расказаў вяселую бывальшчыну… Гутарку гэтую я зразумеў прыблізна так: «хопіць духу — выплывеш, а не — дык не варта было і уплаў пускацца». Цяпер была магчымасць пакансультавацца у чалавека, які быў прамым увасабленнем таго культурна-грамадскага жыцця, што адгаманіла калісь на заходнебеларускіх абшарах.

Улучыўшы момант, калі ўдзельнікі фальклорнай нарады на заканчэнне сфатаграфаваліся ля акадэмічных калон і Рыгор Раманавіч на хвіліну аказаўся не заняты якім-небудзь паважным суразмоўнікам, я падышоў да яго. Тэма майго будучага даследавання яму спадабалася. Гэта можна было адразу прыкмеціць па тым, як добра ён усміхнуўся ў свае адметныя вусы. Размаўляючы, мы адышлі да краю параднай пляцоўкі, за цэментнай броўкай якой ужо пырснулі зялёныя стрэлы першай травы. Гутарка неўпрыкмет перайшла на аднаго з самых каларытных прадстаўнікоў заходнебеларускай інтэлігенцыі, палітычнага і асветнага дзеяча Браніслава Тарашкевіча.

Шырма прыгадаў яго апошняе, поўнае драматычных прадчуванняў і гістарычнага аптымізму выступленне на сустрэчы новага, 1927 года ў памяшканні Галоўнай управы Таварыства беларускай школы на вуліцы Св. Ганны ў Вільні — якраз у пярэдадзень рэпрэсій, абрынутых урадам Пілсудскага — Мяйштовіча на вызваленчы рух.

Рыгор Раманавіч сумна памаўчаў хвіліну, гледзячы кудысь удалеч, паверх машыннай і людской мітусні на праспекце, сказаў пра Тарашкевіча: «Каб не дачасная, гвалтоўная смерць, ось быў бы сягоння вучоны, палітык… Прэзідэнт Акадэміі», —дадаў, усміхнуўшыся аднымі вачыма.

Праз некалькі гадоў я ўжо мог прыйсці да Рыгора Раманавіча не з пустымі рукамі. Ён ласкава згадзіўся прачытаць мой аб'ёмісты рукапіс, даў спагадны водгук на работу, першы блаславіў на абарону. Атрымаўшы ў дадатак яшчэ неблагую ацэнку яе былым дзеячам Кампартыі Заходняй Беларусі, членам бюро ЦК, а на той час навуковым супра цоўнікам Гістпарта Мікалаем Сямёнавічам Арэхвам, я пачуў сябе двойчы блаславёным на тое, каб выступіць з ёю перад аўтарытэтнай вучонай аўдыторыяй.

За час навуковага пошуку шчасліва пазнаў у канкрэтным чалавечым праяўленні той духоўны ўздым, які перажывала ў 20-30-я гады Заходняя Беларусь, ідучы шляхам вызваленчага руху. Постаць аднаго з творцаў культурна-грамадскага жыцця таго часу Р. Р. Шырмы набыла выразныя абрысы, яшчэ большую значнасць.

Уразіла шматграннасць дзейнасці. Застаючыся ў другой лініі акопаў вызваленчай барацьбы (так азначаў культурны фронт адзін з лідэраў рэвалюцыйнага руху Заходняй Беларусі), Шырма праявіў надзвычайную мэтанакіраванасць, шырыню поглядаў, таленавітасць, стойкасць сапраўднага барацьбіта. Перш-наперш рознабаковасць. Яе ў пэўнай меры патрабавалі час, умовы. Найяскравей дзейнасць Рыгора Шырмы ў заходнебеларускім жыцці выяўлялася ў дзвюх сферах: культурна-асветнай і мастацкай. У самых глухіх заходнебеларускіх вёсках і мястэчках ведалі Шырму як аднаго з найбольш выпрабаваных, папулярных кіраўнікоў Таварыства беларускай школы, асветна-грамадскага дзеяча шырокага плана.

З імем Шырмы было звязана наданне беларускай песні высокай выканаўчай культуры і шырокага грамадскага рэзанансу. Шчасліва спалучыўшы ў сабе руплівага збіральніка беларускага песеннага фальклору, яго публікатара і высокаталенавітага інтэрпрэтатара-дырыжора, Шырма па-сапраўднаму здолеў паставіць песню на службу вызваленчаму руху. Ён зрабіў харавую культуру школай эстэтычнага і патрыятычнага выхавання. Зрабіўшы аранжыроўку беларускага меласу сіламі выдатных кампазітараў, падняўшы яго, пусціўшы праз хор, публікацыі ў друку шырока ў народ, Шырма паважна ўзбагачаў беларускае музычнае мастацтва, дзяліўся здабыткамі нацыянальнага генія з суседзямі. Тым самым ва ўмовах сацыяльнага і нацыянальнага прыгнёту ў санацыйнай Польшчы сцвярджаў свой народ, яго права на развіццё ўласнай культуры, на ўклад у агульначалавечую духоўную скарбніцу. Гэта ў агульным два асноўныя напрамкі, два віды дзейнасці Шырмы ў давераснёўскай Заходняй Беларусі. А былі яшчэ. Быў Шырма-публіцыст, які валодаў вострым і смелым пяром. Варта пагартаць часопісы «Летапіс ТБШ», «Беларускі летапіс», народнафронтаускую газету «Наша воля», каб пераканацца, як пільна аддана, умела стаяў ён на варце народных інтарэсаў у 30-я гады, калі вызвален-чы рух панёс велізарныя страты, а хмары рэакцыі густа засцілі палітычны небасхіл даваеннай Польшчы. Шырма-публіцыст нёс у той час, што было асабліва важна, вялікі запас гістарычнага аптымізму, які чэрпаў у народных масах, у іх неадольным імкненні да волі, да святла, да новай, годнай чалавека будучыні.

Давераснёўская публіцыстычная дзеннасць Шырмы — цікавая старонка не толькі ў яго асабістай творчасці, але ва ўсёй заходнебеларускай публіцыстычнай спадчыне, багатай і разнастайнай. Цесна звязаная з грамадска-асветнай дзейнасцю Шырмы як аднаго з лідэраў ТБШ, яна можа стаць прадметам асобнага даследавання.

Быў яшчэ і такі аспект у працы Шырмы, выяўлены ў давераснёўскую пару, як яго своеасаблівы ўдзел у літаратурным жыцці. Гэты чалавек услед за класікам, крыху змяніўшы яго словы, мог сказаць: «Музыка і літаратура — страсць мая». Літаратура, асабліва паэзія, была пасля музыкі другой любоўю Рыгора Раманавіча. Ён яе выкладаў у школе і мог «заразіць» літаратурным словам іншых (прыклад таму — успаміны Г. Траяпольскага). Адбіраў вершы беларускіх паэтаў і пасылаў кампазітарам двух кантынентаў, каб нарадзіліся новыя песні. Ужо апошнія гады жыцця жыў ідэяй кнігі пра паэзію, што стала песняй.

Ва ўмовах Заходняй Беларусі сваім хорам, у рэпертуары якога былі і песні на словы Танка, Васілька, Машары, суправаджаў літаратурныя вечары. Тым самым падтрымліваў публічныя выступленні паэтаў, надаваў беларускаму мастацкаму слову яшчэ большую прадстаўнічасць, што ў тагачасных абставінах мела не апошняе значэнне. Галоўнае ж (і ў гэтым была вельмі сур'ёзная заслуга Шырмы перад заходнебеларускай літаратурай) — ён дзейсна дапамагаў маладым аўтарам знайсці дарогу да чытача. Выдаць першы зборнік заходнебеларускаму літаратару, сялянскаму сыну або самому ратаю, які ледзь зводзіў канцы з канцамі, як Міхась Васілёк, без матэрыяльнай падтрымкі было проста немагчыма. Заплаціць за паперу і друк, кошт якіх мог раўняцца без мала вартасці ўсёй бядняцка-сялянскай гаспадаркі, нельга было і думаць.

«Мецэнат», якім быў Шырма, не меў ні нерухомай маёмасці, ні хоць бы сталага прыстойнага акладу. Але меў сэрца, поўнае агню, любові да занядбанай роднай зямлі, да тых, хто дзеля жыцця, дзеля будучыні яе сыноў снаваў думы, узносіў сваё мужнае свабоднае слова. І знаходзіў, здаоываў гэтыя неабходныя колькі соцень злотых, каб выдаць «Шум баравы» Міхася Васілька. Адклаў выданне свайго збору народных песень, каб выдаць «На этапах» Максіма Танка, ды яшчэ забяспечыць зборнік рэвалюцыйнай паэзіі гарачай і празарлівай сваёй прадмовай.

Быў яшчэ творчы кантакт з маладымі паэтамі, духоўны ўплыў на іх больш сталага, загартаванага байца. Найбольш з Максімам Танкам (гэта відаць з «Лісткоў календара» паэта) і з Сяргеем Крыўцом. Гэты аспект дзейнасці Рыгора Раманавіча Шырмы таксама чакае свайго даследчыка. Тьш больш што ён меў працяг у пазнейшы час і тут толькі пазначаны.

Лучыла ў сабе гэтыя грані, розныя праявы натуры адна яркая, непаўторная чалавечая асоба, адораная ад прыроды, цэльны характар, загартаваны ў гарніле барацьбы. Менавіта ў асобе, індывідуальнасці выток і аснова творчых здабыткаў, плёну ўсяго жыцця. Таму перад тым як агледаць хоць бы адну з дзялянак працы Р. Р. Шырмы, важна пры-гледзецца да яго жывых рыс, да эпохі, што фарміравала яго светапогляд, перакананні, грамадскі тэмперамент.

Больш-менш поўнай біяграфіі Р. Р. Шырмы, як бы гэта належала, у нас няма. Але ў паасобных артыкулах, асабліва юбілейных, інтэрв'ю ёсць нямала штрыхоў да яе. Некаторыя факты ўдалося пачуць з вуснаў самога народнага артыста. Узновім жа іх у паслядоўнасці і магчымай цэласнасці. Натуральна, нельга абысціся і без паўтарэння агульнавядомага. Нарадзіўся Р. Р. Шырма 8(21) студзеня 1892 года ў в. Шакуны на Пружаншчыне, непадалёк ад Белавежскай пушчы. Сям'я была працавітая. Але зямлі было мала, і жылі беднавата, як асноўная маса сялян да рэвалюцыі. Дзед Васіль сталяраваў: рабіў калёсы, вазкі, начоўкі. З-за гэтага сям'ю, «усіх нас, — згадваў Р. Р. Шырма, — звалі Майстровічамі».

І дзед і бацька любілі спяваць. Дзед — прыехаўшы з рынку, дзе прадаваў свае вырабы. Бацька пры рознай гаспадарчай рабоце. Бывае, жыта вее ў клуні і спявае. Рыгор рана навучыўся чытаць па буквары, прывезеным бацькам з Ужанскага кірмашу. Крыху пачакаўшы, дабраўся да кніг, што былі ў хаце. Яны заставаліся ад дзядзькі, бацькавага брата, які калісь вучыўся ў горадзе. Былі гэта гістарычныя раманы «Царевна Софья», «Княжна Тараканова», казкі, сабраныя Аксакавым. Чытаў іх, спаўняючы пастушковы абавязкі. Увосень 1905 года хлопцы-землякі, якія ўжо месяц правучыліся ў Пружанах, паведамілі, што ёсць адно вакантнае месца ў гарадскім вучылішчы. Бацька заплаціў папу рубель за метрыку — і па ўсіх грашах, што былі ў хаце. На сямейным савеце рашалі, што рабіць. Бабуля Наталёха, «драпежная да работы» (жала ўночы, па месяцы, каб не абсыпалася зерне), раіла бацьку не пасылаць хлапца ў навуку: «Сам хворы. Хто на гаспадарцы будзе?» Той, чый лёс вырашаўся, поўны крыўды ў сэрцы, выбег і схаваўся ў малінніку. Маці (звалі яе Тадора) прыйшла шукаць.

— Лепей не жыць, чым такое жыцце, — кінуў сын крыўду-папрок маці. Гэта яе ўразіла і паддало духу. Яна энергічна вярнулася на сямейную раду з сынам за руку.

— Якая там гаспадарка? Сабака хвастом накрые такую гаспадарку. Каб яшчэ з-за яе дзіця ў свет не пускаць. Людзі вунь грошы плацяць, каб толькі вучыцца…

Пайшла, пазычыла ў суседа залатоўку (15 капеек).

— На, сынку. Купіш чарніла, паперы здаць экзамены.

Заціснуў у кулак грошы і пайшоў у мястэчка, праз выган, Вялікае сяло, — кіламетраў дванаццаць з лішкам.

Уступныя экзамены здаў і скончыў год з пахвальнай граматай. На пражыццё крыху прывозіў бацька, а што зарабляў урокамі сам. Першы год плацілі па 50 капеек у месяц за ўрокі. У старэйшых класах зарабляў ужо куды болей: па 8 рублеў давалі. Аднак голаду нямала прыйшлося зазнаць за час вучобы ў Пружанскім вучылшгчы. Адзін час нават былі выключылі — не мог заплаціць за паўгода навучання 4 рублі. Выручыў інспектар. Параіў звярнуцца ў пеўчае таварыства. Кіраўнік яго даў грошы, і вучня аднавілі ў правах.

Што дало для душы Пружанскае чатырохкласнае гарадское вучылішча? Пазнаёміла з рускай класічнай літаратурай. І гэта заклала добрыя духоўныя асновы, паводле слоў Рамана Раманавіча.

Але вось у 1910 годзе вучоба ў Пружанах была скончана і паўстала пытанне, дзе вучыцца далей. Сялянскаму хлопцу, які не мог спадзявацца на бацькаву падмогу, трэба было думаць пра тое, каб хутчэй выбіцца на свій хлеб. Паступалі хлопцы ў юнкерскае вучылішча ў Вільні. Падаўся разам з імі, але «такім холадам дыхнула», казармай, што адразу адсекся, павярнуў назад. Прыезд у Вільню ўсё ж быў небескарысны. Там даведаўся пра двухгадовыя педагагічныя курсы пры Свянцянскім чатырохкласным гарадскім вучылішчы. Паступіў і правучыўся на іх з 1910-га па 1912 год. За час вучобы на курсах было такое здарэнне. З выпадку забойства царскага міністра Сталыпіна курсантаў вадзілі ў сабор на паніхіду. Пад час паніхіды адзін курсант-кобрынец дэманстратыўна выйшаў з сабора. Адміністрацыя (інспектарам курсаў быў Розен) адразу выключыла хлопца. Курсанты выбралі дэпутацыю і накіравалі яе з патрабаваннем аднавіць выключанага. Курсанту Шырму за настойлівасць пры хадайніцтве за апальнага калегу на выпускных экзаменах выкладчык гісторыі зрэзаў ацэнку, пагражаў большым.

Педагагічныя курсы ў Свянцянах (цяпер Швянчоніс Літоўскай рэспублікі) давалі права вучыць у двухкласным сельскім вучылішчы. Самастойную працу Р. Р. Шырма пачаў, маючы дваццаць год, у 1912 годзе ў вёсцы Ганута, лясным, даволі глухім завілейскім кутку. Пасля двухгадовага побыту ў Гануце малады настаўнік быў накіраваны ў аднакласную школу ў Лідскім павеце. Думкі аб далейшай вучобе, аднак, не пакідаў і неўзабаве паступіў у Сядлецкі настаўніцкі інстытут. У пачатку першай сусветнай вайны Сядлецкі інстытут эвакуіравалі, разам з ім Шырма апынуўся ў Яраслаўлі. Прабыванне ў гэтым горадзе стала важным момантам у жыцці фалькларыста. Тут упершыню ён увачавідкі сутыкнуўся з неаглядным народным горам, бязмерна павялічаным імперыялістычнай вайной. Самой крывавай бойні, што тачылася на галіцыйскіх палях, у мазурскіх балотах, на гонях Заходняй Беларусі, у якой бессэнсоўна гінулі сотні і тысячы тысяч ратаяў, сейбітаў і рабочага люду ад станка, Шырма не бачыў. Але спусташальная, пагібельная хваля вайны кацілася і ў глыбіню Расіі. Пакінуўшы разбураныя сялібы, туды рушылі, часам не без построху перад казацкай нагайкай, жыхары заходніх губерняў. Рушылі па-даўнейшаму, на сялянскіх скрыпучых вазах з небагатым скарбам-набыткам. Голад і хваробы шчодра выпалі на лес гэтых абяздоленых, магілы дзяцей і старых густа значылі бежанскі шлях.

Нельга сказаць, што нічога не рабілася, каб памагчы гэтым няшчасным. Камітэты дапамогі пацярпеўшым ад вайны або, як прасцей іх называлі, бежанскія камітэты, рабілі нямала, каб аблегчыць крыху меру пакут гэтых людзей, выгнаных вайною ў свет. Шчыра і самааддана працавала ў камітэтах прагрэсіўная інтэлігенцыя: стварала перавалачныя пункты, арганізоўвала начлег, сталоўкі, пасільную медыцынскую дапамогу… Але грошы на ўсё гэта казна адпускала скупа. Іх не хапала, каб прыйсці на дапамогу ўсім, хто меў у ёй патрэбу.

Хааля бежанства дакацілася і да няблізкага Яраслаўля. У горадзе можна было сустрэць людзей у палескіх світках з маленькімі трунамі пад пахай. Студэнты таксама не маглі застацца абыякавымі да лёсу абяздоленых вай-

ной. Р.Р.Шырма ўспамінаў, як яны арганізавалі бежанскую камісію. Першнаперш аглядзелі, абследавалі часовы прыпынак, умовы жыцця выгнанцаў-уцекачоу. Абышлі трушчобы, закрыты піўзавод, дзе памясцілі бежанцаў. На станцыі Усполле, ля Яраслаўля, бежанцы жылі ў няпаленых вагонах, паўз якія скрозь віднеліся на снезе босенькія слядкі. Арганізаваныя студэнты адкрылі два прытулкі для бежанскіх дзяцей: адзін для хлопчыкаў, другі для дзяўчатак.

Дзеці ў іх займаліся ручной працай, вучыліся. Студэнт Сядлецкага настаўніцкага інстытута Рыгор Шырма стаў выхавальнікам у прытулку. Пасля лекцый у інстытуце ды яшчэ прыватных урокаў, без якіх нельга было пражыць, вечарам займаўся з прытулкавымі дзецьмі. Арганізаваў хор хлопчыкаў, які знайшоў прызнанне ў гараджан. Быў створаны і хор студэнтаў. І тут, камплектуючы яго рэпертуар, Шырма востра адчуў, што няма належным чынам апрацаванай беларускай песні, якая магла б годна прагучаць поруч з песнямі іншых народаў. Аўдыторыя ж тым часам складалася ў большасці з бежанцаў ды эвакуіраваных, стомленых сваім нясталым бытам, засумавалых па радзіме, па роднай песні.

У той час у эвакуацыі ў Яраслаўлі знаходзіўся і Мінскі настаўніцкі інстытут. Сярод яго выкладчыкаў і студэнтаў Шырма найбліжэй пазнаёміўся з маладым педагогам, выкладчыкам гісторыі У. Ігнатоўскім. Яны абодва паходзілі з Брэстчыны. Але лучыла іх не зямляцтва, а пасталелая думка аб свеце і новае, світальнае, як сказаў бы паэт, пачуццё Радзімы. А тым часам бессэнсоўная вайна працягвалася, забіраючы мільёны чалавечых ахвяр. Каб папоўніць моцна парадзелыя за гады вайны шэрагі камандзіраў, царскі ўрад вымушаны быў парушыць свой сацыяльна-саслоўны прынцып у камплектаванні афіцэрскага корпуса і пайсці на тэрміновую падрыхтоўку малодшых афіцэраў — выхадцаў з народа. Учарашнія семінарысты, студэнты, настаўнікі мабілізоўваліся і паспешліва накіроўваліся ў ваенныя вучылішчы, адпаведныя курсы, каб у хуткім часе маглі павесці ў бой салдат. Дзесь на пачатку 1916 года мабілізаваны ў царскую армію быў і студэнт Сядлецкага інстытута Шырма, неузабаве накіраваны ў Чугуеўскае вучылішча на Харкаўшчыне. А праз некалькі месяцаў, ужо прапаршчыкам, пасланы ў Туркестан на ахову чыгункі. Служыў непадалёк ад Ташкента, у Пяроўску. Там і засталі яго Лютаўская а пазней і Кастрычюцкая рэвалюцыі. У Чырвонай Арміі працаваў у культасветным аддзеле.

Звольнены з арміі, з 1919 года быў выкладчыкам літаратуры ў Новагольскай школе 2-й ступені Хапёрскага павета на Варонежчыне. У Новагольскім сяле былі ў эвакуацыі бацькі. Тут Р.Шырма і заснаваў сваю сям'ю, ажаніўшыся з настаўніцай матэматыкі Клаўдзіяй Іванаўнай Раеўскай. Настаўнік літаратуры загараўся сваімі прадметамі і мог запаліць любоўю да яго вучняў. Але ўсё ж час ад часу непакоіла думка аб пакінутым доме, аб роднай зямлі, з якой за гады адлучкі стаў пачуваць усё большую сувязь.

Пасля ўсталявання польска-савецкай граніцы (Рыжскі мір у сакавіку 1921 года замацоўваў яе дзяржаўным актам) былыя выгнанцы Заходняй Беларусі дзесяткамі і сотнямі тысяч пацягнуліся да родных гняздоўяў.

Сабраліся на бацькаўшчыну і Шырмы. Перад выездам Рыгора Раманавіча знайшло ў Новагольскім пісьмо за подпісам наркома асветы Савецкай Беларусі Усевалада Ігнатоўскага з запрашэннем прыехаць на працу ў Мінск.

Праязджаючы праз Мінск у чэрвені 1922 года, Шырма зайшоў у Інстытут беларускай культуры на Рэвалюцыйную, 21. Старшыня Інбелкульту Сцяпан Некрашэвіч пераконваў застацца на працы ў гэтым толькі што заснаваным навуковым цэнтры, які пазней адыграў значную ролю ў станаўленні беларускай савецкай навукі. Запрашэнне было спакуслівае, абяцала добрую перспектыву на будучыню, але давялося ўступіць гарачай просьбе маці.

— Дома хоць ягада якая паспела, грыб вырасце. Памерці дома хачу… Завязі нас дахаты, тады сабе вяртайся, — сказала яна сыну.

Шлях рэпатрыянтаў ляжаў праз Баранавічы. Дробны чыноўнік зацікаўлена дапытваўся:

— Czy pan mowi po polsku?

Кагосьці з былых бежанцаў з-за пытання, якое некаму не спадабалася, ужо загадвалі: «Do aresztu!» «Oto Polska kochana»…— нехта казаў не то з замілаваннем, не то з горкай усмешкай. Першае ўражанне ад спаткання з радзімай было смутнае, нецікавае. Непасрэднае ж знаёмства з новай рэчаіснасцю на роднай зямлі, з тымі парадкам, што усталявала тут, абапершыся на штыкі легіянераў Пілсудскага, польская буржуазія і памешчыкі, магло кінуць у роспач. Знайсці работу, адпаведную адукацыі, не ўдалося. Інспектар куратарыума не хаваўся з матывамі адмовы. Нацыянальнае паходжанне і веравызнанне сталі асноўным крытэрыем грамадзяніна ў тагачаснай Польшчы, шавінізм быў узведзены ў вышэйшы дзяржаўны прынцып. Асабліва востра гэта давала сябе адчуць на заходнебеларускіх і заходнеўкраінскіх землях. Шырму напачатку нічога не заставалася, як пайсці на фізічную працу. Не лішне далёка ад дома, у Белавежскай пушчы, у той час замежныя фірмы, якія набылі ў польскіх улад канцэсію на распрацоўку і вываз лесу, наймалі на работу. Шырма пайшоў лесарубам. Быў заняты ад рана да вечара (нямала часу адбірала дарога: туды і назад па 12 км штодня). Заробку хапала на пражыццё, а пра большае і марыць у такіх умовах не даводзілася. Аднак доўга працаваць не давялося. Адміністрацыя разнюхала, што лесаруб — настаўнік, да таго ж, відаць, уведала, што прыехаў з Савецкай Расіі, — і звольнілі.

На той час у Пружанах сабралася грамадка мясцовай інтэлігенцыі, сярод якой было некалькі чалавек такіх жа беспрацоўных. Шырма падаў думку, і ў 1924 годзе быў створаны хор. Паволі шырылася вядомасць беларускага хору з Пружан. Яго кіраўнік і дырыжор Шырма ўмеў надаць і змястоўны характар рэпертуару, і належнае гучанне выкананым творам. У стварэнні пружанскага хору выразна выявілася свядомае імкненне Р. Шырмы да грамадзянскага служэння. Будучы знакаміты беларускі дырыжор і фалькларыст падымаўся да ўсведамлення таго, што песня можа яднаць людзей, запальваць прагай лепшага жыцця. Можа быць таксама і зброяй у барацьбе.

Глыбокае перакананне ў гэтым прыйшло крыху пазней, калі з’явілася шырэйшае поле дзейнасці, — ужо ў Вільні. Аднак пачатак, зроблены на

радзіме, у Пружанах, калі яшчэ не сведчыў аб дарозе, выбранай паводле прызвання, то, прынамсі, прадказваў яе. Патрэбен быў выхад на большы прастор, падключэнне да вялікай грамадскай справы, каб асоба, талент раскрыліся шырока. І гэта адбылося. Неўзабаве Шырма прыйшоў у вызваленчы рух. Спачатку як мастак. Але адразу — як чалавек, што ўсвядоміў высокія грамадскія ідэалы. Была ў прыходзе Шырмы да вызваленчага руху працоўных Заходняй Беларусі аб'ектыўная заканамернасць яго духоўнага развіцця. Меў гэты прыход і сваю канкрэтную гісторыю. Яна таксама, здаецца, па-свойму цікавая.

Яшчэ да заснавання ў 1925 годзе Беларускай сялянска-работніцкай грамады, а таксама ў час яе бурнага росту, калі вызваленчы рух нарастаў, як шторм, лідэр гэтай арганізацыі працоўных Заходняй Беларусі Браніслаў Та рашкевіч многа ездзіў па гарадах і мястэчках, выступаў на пасольскіх мітынгах. Прыехаў ен аднойчы і ў Пружаны. Мітынг, або веча, як тады яго называлі на даўні славянскі лад, пачынаўся бурна. Асаднікі (вайсковыя каланісты), пераапранутая паліцыя імкнулася перашкодзіць сустрэчы папулярнага грамадска-палітычнага дзеяча з масамі. Рабочыя, грамадаўцы і камуністы-падпольшчыкі выстаўлялі звычайна сваю самаабарону. Прыкрывалі прамоўцу, стрымлівалі наскок налётчыкаў. На гэты раз яны, мажа, недаацанілі сваіх праціўнікаў, і мітынг быў амаль што сарваны.

Шырма ўспамінаў, як Тарашкевіч прыйшоў да яго на кватэру, узбуджаны, але не прыгнечаны няўдачай. Загаварыў пра тое, што ў цэнтры не хапае патрэбных людзей. Распытаў пра хор, працу і запрасіў пераязджаць у Вільню. Запрошаны выгад там не чакаў, але быў рады. Да Вільні, як цэнтра вызваленчага руху, культуры, даўно ўжо прыслухоўваўся. Адтуль ішло жывое слова, а з ім святло надзеі на іншую, лепшую будучыню. У 1926 годзе Шырма перабраўся-такі ў гэты гістарычны горад над Віліяй. Напачатку будучы культурна-грамадскі дзеяч, дырыжор, публіцыст, педагог, выдавец заходнебеларускай рэвалюцыйнай паэзіі і народных песень прытуліўся ў Базыльянскіх мурах. На невялікім кавалку зямлі, заціснутым з усіх бакоў старадаўнімі мурамі, у 20-я гады засяродзілася некалькі бела-рускіх культурна-грамадскіх установ. Тут размясцілася адкрытая яшчэ ў часы ЛітБела Віленская беларуская гімназія, што пазней стала сапраўднай кузняй кадраў вызваленчага руху» Знайшлі прыпынак Беларускі музей імя Івана Луцкевіча, навуковае таварыства, Беларуская драматычная майстроўня. Тут жа дзе-нідзе прыткнуліся да часу некаторыя настаўнікі гімназіі. Шырма, якому ў гімназіі Даручылі выкладаць спевы і адначасова быць выхавальнікам у інтэрнаце, заняў з сям'ёю два невялікія пакойчыкі Ў самой уваходнай браме — такая яна шырокая. Вокны кватэры глядзелі проста на гімназічны двор, старыя клёны…

Шырма адразу апынуўся ў самым віры вызваленчага руху. Кампартыя Заходняй Беларусі і БСРГ, пачынаючы з лета 1925 года па восень 1926-га, крыху спарэй як за год ахапіла сваім уплывам шырокія масы, асабліва сялянства. Да пачатку 1927 года ў радах Беларускай сялянска-работніцкай грамады было ўжо да 100 тысяч членаў.

Асабліва вялікі, масавы наплыў заходнебеларускіх працоўных у сваю легальную рэвалюцыйна-дэмакратычную арганізацыю быў летам і ўвосень 1926 года. Шырма працаваў тады ў Цэнтральным сакратарыяце БСРГ на Віленскай, 12. Гэты рабочы орган БСРГ быў к таму часу грунтоўна пашыраны, і ўсё ж людзей не хапала. Яго асабоваму складу на чале з Максімам Бурсевічам было цяжка спраіцца з усёй працай, звязанай з бурным ростам арганізацыі. Шырма з добрай усмешкай успамінаў сваю занятасць у Цэнтральным сакратарыяце, тое, як ледзь паспявалі выпісваць членскія білеты і адпраўляць, рассылаць іх у павятовыя сакратарыяты. У гэтым аператыўным штабе арганізацыі добра чуўся той узнёслы рэвалюцыйны настрой, які зыходзіў, біў хваляй з палёў, гарадоў і мястэчак Заходняй Беларусі. Перажыванні, зведаныя ў гэты час, кладіся на душу, крышталізавалі перакананні. Абуджаны да свядомага грамадскага, палітычнага жыцця народ сведчыў, што ён — рашаючая сіла. Аб'яднаны высокай ідэяй працоўны люд можа здабыць і здабудзе вартую людской адзінкі, цэлых народаў і ўсяго чалавецтва будучыню. Але каб тут, на заходнебеларускай зямлі, закрасавала свабода, людскае жыццё, каб наблізіць іх прыход, трэба было яшчэ шмат пакласці працы, аддаць сіл змаганню. Час, эпоха патрабавалі людзей, адданых ідэі грамадскага дабра, свабоды працоўных. Шырма ў Заходняй Беларусі быў адным з многіх, хто ішоў насустрач патрабаванням свайго часу. Настаўнік і дырыжор, ён выбраў (гэта падказвала, гэтага патрабавала само жыццё) адразу дзве працоўныя дзялянкі на заходнебеларускай грамадскай ніве: асветную і мастацкую.

Супрацоўнік Цэнтральнага сакратарыята БСРГ Шырма з першых месяцаў заняткаў у гімназіі стварае вялікі хор, далучыўшы да сваіх новых выхаванцаў і хлопцаў з суседняй семінарыі, інтэрнат якой месціўся ў базыльянах. І адразу ж з усёй вастрынёй, грамадзянскай адказнасцю перад ім стала задача стварыць арыгінальны беларускі рэпертуар. У аснову яго — у маладога дырыжора ўжо не было наконт гэтага сумнення — павінен быў легчы народны мелас, тое неагляднае духоўнае (музычнае) багацце, якое стварыў сам народ і пранёс праз усю нялёгкую сваю гісторыю.

Але адно — залатыя россыпы творчага духу, рассеяныя ў нетрах народа, і зусім іншая рэч — выяўленыя, сабраныя, данесеныя да шырокай грамадскасці, свету, уключаныя ў духоўны ўжытак сучаснікаў. Публікацыі беларускіх песень, зробленыя Я. Чачотам, П. Шэйнам, М. Доўнар-Запольскім, Е.Раманавым і іншымі фальклярыстамі і этнографамі насілі ў сваёй аснове філалагічна-этнаграфічны характар. На дзесяткі тысяч песенных тэкстаў, рупліва сабраных і надрукаваных вучонымі да рэвалюцыі, былі запісаны і апублікаваны лічаныя мелодыі. Крыху ў М. Янчука, некалькі тэкстаў у Шэйна, трохі ў Раманава і Л. Рагоўскага Не паспеў належна рушыць наперад справу збору і выдання беларускіх мелодый сваёй працай нават такі руплівы энтузіяст беларускай песні, як Антон Грыневіч, хоць ён, можа, больш чым хто зрабіў да Шырмы ў гэтым напрамку!

Даволі паспяхова, асабліва ў першыя гады пасля рэвалюцыі, папрацаваў на ніве беларускай музычнай культуры ў Мінску Уладзімір Тэраўскі. Ён

услед за Людамірам Рагоўскім засноўваў беларускую харавую культуру і прыклаў руку да мастацкай апрацоўкі народнай песні. Але яго аранжыроўкі, як і аранжыроўкі Зінаіды Радчанкі, здзейсненыя крыху раней, не зусім адпавядалі рытміка-меладычнай прыродзе беларускай песні і таму не маглі поўна выявіць яе ўнутранае багацце і красу. Пры гарманізацыі беларускіх мелодый гэтыя музыканты пазычалі прыёмы апрацоўкі, якія былі выпрацаваны на іншым этнамузычным матэрыяле. Іх гарманізацыям беларускіх песень не хапала арганічнасці, умення раскрыць душу песні, тонка развіць пазначаныя ў ёй асноўныя меладычныя лініі. Для гэтага неабходна было добра ўслухацца ў музычную народную стыхію. Калі не цалкам прасякнуцца яе духам, то, прынамсі, улавіць яе заканамернасці, тэндэнцыі. Трэба было валодаць добрым музычным чуццём, творчым пачаткам, што падуладна толькі таленту і таленту значнаму, немалому. Адным словам, калі сур'ёзна думаць пра беларускую музыку, а Шырма ўжо адчуў у сабе ўнутраную патрэбу думаць пра яе будучыню, то трэба было вырашаць некалькі задач адразу. Запісваць, збіраць народны мелас, даць яму належную мастацкую апрацоўку і адначасова прапагандаваць яго магчымасці хору і праз друк. І перш-наперш выйсці на сцэну з такой беларускай песняй, так пададзенай, каб яна адразу прамаўляла да людскіх сэрцаў, была ўзорам творчых здабыткаў народа, гаварыла аб яго патэнцыяльнай духоўнасці. Задача ўскладнялася тым, што Заходняя Беларусь была адрэзана ад Мінска дзяржаўнай мяжой. Творчыя кантакты праз яе ўскладняліся, а ў 30-я гады сталі немагчымыя.

Такім чынам, пераняць ужо зробленае ў галіне музыкі Савецкай Беларусі было няпроста, часам зусім немагчыма. Але ўсё ў жыцці дыялектычна. Тое, што Шырму ў гэтых умовах даводзілася спадзявацца больш на сябе, разлічваць на тыя музычныя сілы, якія былі ў Вільні, поруч, прымушала да неаслабнай актыўнасці, пошуку.

І Шырма ідзе па шляху адначасовага вырашэння трох задач: збірае песенныя мелодыі, арганізуе высокамастацкую іх апрацоўку і выходзіць на сцэну з хорам, каб паказаць, публічна сцвердзіць вялікую ідэйна-эстэтычную вартасць беларускай песні. У артыкуле «Мастацкая песня ў Заходняй Беларусі» ён гаварыў пра час выбару, пачатак працы хору: «Аставаўся адзіны шлях — звярнуцца да народных крыніцаў… Але да гэтага народнага меласу трэба было даваць належную мастацкую аправу. І вось гэтую аправу, гэтую распрацоўку ўзяўся даць К. Галкоўскі. Тагачаснае кіраўніцтва гімназіі шырока ішло на спатканне гэтым працам. Інспектар, а пазней дырэктар той жа гімназіі, выдатны беларускі педагог С. Паўловіч укладаў душу ў культываванне народнай песні. І за гэты час нашая песня вырасла з рамак прымітыву да сапраўднага мастацкага шэдэўра. Першыя гарманізацыі К. Галкоўскага для невялікага мяшанага хору адразу ўнеслі свежасць, высокі артыстызм»[1].

Першы, на каго абапёрся Шырма ў сваім імкненні паказаць народную беларускую песню са сцэны ва ўсім яе багацці і красе, быў віленскі кампазітар і педагог, вучань Рымскага-Корсакава і Глазунова Канстанцін

1 Шырма Р. Песня — душа народа. Мн., 1976. С. 110

Галкоўскі. Хоць радаслоўную сваю Галкоўскі вёў з Беларусі (бацька паходзіў з Магілёўшчыны, маці была з Міншчыны, з роду Наркевічаў-Ёдкаў), з народна-песеннай беларускай стыхіяй кампазітар не сутыкаўся. Праўда, яна аднойчы крыху падала свой голас побач. Гэта было ў 1910—1911 гадах, калі сябра Галкоўскага, супрацоўнік па Віленскім сімфанічным аркестры Людамір Рагоўскі, рыхтаваў першы новы «Беларускі спеўнік». Але на той час Галкоўскі ў сваіх творчых пошуках быў далёкі ад яе. Прыхінуў да беларускай песні яго ўжо ў 20-я гады Шырма са сваім уменнем адчуваць харaство і захапляць ім іншых. Былі для гэтага цяпер шырэйшыя, спагаднейшыя грамадскія ўмовы: беларускае слова заваёўвала ўсё большае грамадзянства насуперак каланізацыйнай палітыцы польскага ўрада.

Матэрыял для першых сваіх гарманізацый Галкоускі браў у асноўным са зборнікаў Грыневіча, а таксама з апублікаваных яшчэ першых запісаў беларускага меласу, зробленых Шырмам. Свае аранжыроўкі Галкоўскі рабіў з улікам неаднолькавых магчымасцей калектываў. Кампазітар зрабіў 22 апрацоўкі для невялікага мяшанага хору, 17 — для вялікага, 4 — для жаночых народных хораў, 2 — для мужчынскага, 22 народныя песні для сола з акампанементам раяля. Сярод іх «Ды хто, ды хто па цёмным лесе гукае», якую Шырма называў сімфоніяй у мініяцюры, «Ці свет, ці світае», «А ў гаспадара» і інш. Ад апрацовак народных песень, як і спадзяваўся яго натхняльнік, Галкоўскі перайшоў да арыгінальнай беларускай творчасці на грунце народнай музыкі. Ён напісаў дзве сюіты — «Дуда» і «Каханне», песні і рамансы на словы Я. Купалы, Я. Коласа, Ясакара, К. Буйлы, А. Гурло, М. Танка і іншых, прыступіў да напісання оперы «Сымон-музыка».

Маючы ў рэпертуары першыя высокамастацкія аранжыроўкі Галкоўскага, у дадатак некалькі песень, гарманізаваных здольным арганізатарам харавога спеву віленчанінам Т. Уладзімірскім ды яшчэ атрымаўшы з Мінска, здаецца, прыватным шляхам, пару апрацовак кампазітара М. Анцава, Шырма са сваім хорам рашаецца выйсці на шырэйшую арэну. У маі 1928 года разам з кампазітарам Галкоўскім яны арганізоўваюць канцэрт славянскай песні з лекцыяй аб песеннай культуры славян. На вечары хорам у 70 чалавек было выканана 15 новых беларускіх песень, акрамя таго, многа песень рускіх, польскіх, украінскіх. Рэзананс ад канцэрта быў рэдкасны. Газета «Зара працы» ад 23 чэрвеня 1928 года змясціла заметку аднаго са слухачоў. «Пасля гэтае вечарыны, — пісаў ён, — чуўся, быццам, як кажуць, на свет нарадзіўся. Пачуў у сабе прыліў сілы, энергіі і веры ў тое, што хутка «загляне сонца і ў наша ваконца». Высока ацаніў выступленне хору Шырмы рэцэнзент газеты «Кур'ер віленьскі» ад 28 чэрвеня 1928 года. «Вечар славянскай песні, — пісаў ён, — ёсць адною з найлепшых праяў беларускага артыстычнага жыцця ў Вільні. Такія імпрэзы трэба прывітаць як найпрыхільней, жадаючы беларускаму фамадзянству ў яго артыстычнай працы добрага і памыснага развіцця»[1]. Пазней Шырма сціпла падагуліць свае ўражанні, грамадскую думку аб канцэрце словамі: «Аб нашай песні загаварыла не толькі

[1] Беларускі летапіс. 1939. № 1. С. 12.

беларуская прэса. Грамадзянства мела магчымасць пераканацца, што і наш народ мае вялікія скарбы, якія можна слухаць не толькі дзеля патрыятычнага сантыменту».

1928 год быў годам актыўнай фальклорна-збіральнціка й язейнасці Шырмы. У самых розных кутках Заходняй Беларусі ад мястэчка Гарадка на Беласточчыне да вёскі Гаішча ў Радашковіцкім павеце, ад Пружаншчыны, вескі Шакуны, дзе ён знайшоў у асобе Захвеі Хвораст сапраўдны самародны талент, ад сяла Вострава на Слонімшчыне да вёсак Дзісеншчыны пралеглі яго фальклорныя сцежкі. У 1927—1928 гадах папахадзіў Шырма шмат па зямлі беларускай. І вёў яго па гэтых дарогах не толькі пошук песні хоць ёй аддаваў ён душу, глыбока ўсведамляў яе патрыятычна-выхаваўчую ролю, а яшчэ шырэйшы грамадскі клопат.

Справа ў тым, што з 1927 года Шырма быу выбраны у кіраўніцтва такой папулярнай і масавай культурна-грамадска-асветнай арганізацыі Заходняй Беларусі, як Таварыства беларускай школы. ТБШ узнікла ў 1921 годзе ў час так званай Сярэдняй Літвы і напачатку пашырала сваю дзейнасць толькі на этнаграфічную Віленшчыну. У 1926 годзе ў сувязі з уздымам вызваленчага руху ТБШ дабілася ад улад права распасцерці сваю дзейнасць на ўсю Заходнюю Беларусь. Маючы на мэце перш за ўсё пашырэнне сярод працоўных асветы на роднай мове, барацьбу за беларускую школу, што ва ўмовах заняволенай Заходняй Беларусі мела асаблівы сэнс, ТБШ, ахапіўшы край сеткай гурткоў і злучыўшы ў сваіх радах 16, а пазней 30 тысяч членаў, стала паважным фактарам не толькі ў культурна-асветным, але і ў палітычным жыцці Заходняй Беларусі. Адсюль вызначэнне ТБШ як другой лініі акопаў, дадзенае гэтай арганізацыі прызнаным лідэрам левага крыла нацыянальна-вызваленчага руху, выдатным палітычна-грамадскім і асветным дзеячам, вучоным, літаратарам Браніславам Тарашкевічам.

Дзейнасць Шырмы як сакратара Галоўнай управы ТБШ — значны этап у яго жыцці, асобная старонка біяграфіі, якая заслугоўвае свайго даследчыка. Пакідаем яе за рамкамі гэтага эцюда. Нагадаем толькі факт, што, стаўшы сакратаром Галоўнай управы ТБШ, Шырма штомесяц і часцей едзе то на павятовыя з'езды Таварыства, то на інструктаж у павятовыя ўправы і нізавыя яго арганізацыі. Гэта давала магчымасць акумуліраваць у сабе тыя настроі і імкненні, якімі жылі рэвалюцыянізаваныя масы, давала зарад сацыяльнага аптымізму, стымул для творчасці. Паездкі па арганізацыйных справах ТБШ Шырма імкнуўся па магчымасці выкарыстаць і для збіральніцкай фалькларыстычнай працы. Такім чынам, яго дзейнасць як фалькларыста, харавога дырыжора, прапагандыста народнай песні ад самага пачатку цесна спалучалася з яго грамадскай, культурна-асветнай дзейнасцю. Гэта было спецыфічнае, але вельмі арганічнае спалучэнне, характэрнае як для эпохі, так і для Шырмы — чалавека, працаўніка.

У рамках павятовых і нізавых арганізацый ТБШ, як адна з праяў іх руплівасці, пачала імкліва развівацца мастацкая самадзейнасць. Вялікую актыўнасць праяўлялі драматычныя секцыі пры гуртках. Там, дзе мясцовы актыў быў мацнейшы ды знаходзіўся чалавек з музычнай адукацы-

яй, узнікалі хоры. Для іх Шырма парупіўся хутчэй даць мастацкі апрацаваную і разлічаную на розныя магчымасці вясковых калектываў песню. У 1929 годзе ён выдае першы выпуск «Беларускіх народных песень». Зборнік Шырмы ўключаў трыццаць чатыры народныя творы, гарманізаваныя пераважна К. Галкоўскім, а таксама кампазітарамі А. Грачанінавым, М. Анцавым і Т. Уладзімірскім. У кароткай прадмове ўкладальнік даў агульнае азначэнне беларускай песні, выявіў паасобна яе рысы. З патрыятычных і рэвалюцыйна-дэмакратычных пазіцый ацаніў значэнне песні, яе ролю ў духоўным жыцці народа, яго барацьбе за сваю свабоду, культуру. У выказваннях Шырмы, хоць і стрыманых з прычыны цэнзуры, выразна праглядаюць ідэйна-эстэтычныя погляды ўдзельніка вызваленчага руху, фалькларыста-барацьбіта за лепшае заўтра.

«Стыхійны ўздым беларускіх масаў, — пісаў Шырма, — да самастойнага культурна-нацыянальнага жыцця ставіць на чарзе дня побач з іншымі пытаннямі і справу руплівасці да роднага генія.

Народ адчувае ў сабе вялікую моц, ён шукае прастору сваім «песням і сілам». І для таго каб даць выхад гэтай сіле, каб у братніх сэрцах сярод цемры і бяспуцця загарэліся новыя агні, каб паліліся крыніцаю новыя бадзёрыя думы, па нашаму разуменню, неабходна даць народу родную, па-мастацку апрацаваную песню. Бо песня злучае народ, яна ўсведамляе яго і дае сілы змагацца за лепшае заўтра…»

У заключнай частцы прадмовы выдавец беларускіх народных песень адзначаў, што «побач з творамі надта лёгкага і простага харавога ўкладу, разлічанага на невялічкія правінцыяльныя хоры, у зборніку змешчаны і такія песні, якія могуць упрыгожыць канцэртны выступ сапраўднае капэлы».

Услед за першым выпускам «Беларускіх народных песень» у тым жа 1929 годзе Шырма публікуе свае першыя запісы твораў народнай паэзіі ў «Беларускім календары». Кнігі-календары яшчэ з часоў «Нашай нівы» заваявалі шырокае прызнанне ў народзе. Працаўнікі вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі, пераняўшы даўнейшую традыцыю выдання народных календароў, зрабілі іх не толькі праваднікамі ведаў у шырокія масы, але і сродкам грамадска-асветным. Беларускія календары ТБШ і іншых аб’яднанняў. 20-х гадоў мелі ў сабе раздзелы: традыцыйны літаратурны, гаспадарчы і юрыдычны, акрамя таго, гістарычны, культурна-грамадскі, школьны, кааперацыйны, культурна-асветнай працы гурткоў ТБШ, мастацкі… Усе яны, за малым выключэннем, былі грунтоўна насычаны разнастайнай інфармацыяй і давалі, пра гэта можна сказаць без перабольшання, шырокае ўяўленне аб духоўным жыцці Заходняй Беларусі.

У «Беларускім календары на 1929 год», адным з самых цікавых каляндарных выданняў свайго часу, Шырма выступіў адразу з дзвюма публікацыямі. Адна з іх адкрывала літаратурны аддзел календара. Гэта было шэсць тэкстаў, пераважна песень гадавога крута. Запісаны яны былі летам 1928 года ў Шакунах. Надрукаваную ў «Календары…» нізку песень, мабыць, і можна лічыць першай публікацыяй будучага выдатнага фалькларыста. Яна сведчыла аб строгім, патрабавальным адборы, арыентацыі збіральніка на высокапаз-

тычныя творы. Тэкставая публікацыя песень была «падмацавана» невялікім артыкулам «Народная песня». Мэта артыкула — кінуць заклік да тых, каму дорага справа народа, яго душа, паклапаціцца аб збіранні народных песень, «а самае галоўнае — мелодыяў…». Заклік у канцы гэтай своеасаблівай мініяцюры прагучаў адкрытым тэкстам. Сама ж яна — узрушаны маналог пра беларускую песню, яе непераходную духоўную вартасць. Услед за Раманавым, і ў гэтым відна добрая пераемнасць прагрэсіўных фалькларыстычных поглядаў мінулага, прагучала думка, што, «нягледзячы на свой трагічны лёс, народ беларускі не страціў свайго нацыянальнага аблічча». Сведчаннем таму — беларуская песня «з боку мелодыі, рытмікі і настрояў, якія ў ёй адбіваюцца, зусім самабытная».

У рамантычным, прыўзнятым стылі гаварыў Шырма аб тагачасным стане беларускай народнай песні, аб неабходнасці парупіцца хутчэй сабраць яе, зберагчы для будучых пакаленняў. І ў словах фалькларыста — горыч гістарычных выпрабаванняў, што выпалі на долю народа, асабіста зведаны боль за яго пакуты ў мінулай вайне. «Народ быў выкінуты вайною з родных межаў… Частка старых «баянаў» нашых злажыла косці свае на чужыне, а рэшта вымірае, вярнуўшыся на бацькаўшчыну».

І ўжо ў самым канцы — гарачы заклік: «Грамадзяне! Не дайце загінуць народнай песні, зберажыце гэты праўдзівы скарб душы народнай: ён чакае таго шчаслівага, хто мае знайсці яго, як папараць-кветку ў купальскую ноч». Скажам наперад, тым шчаслівым аказаўся перад усім сам Шырма.

У тым жа календары 1929 года ўслед за артыкулам-зваротам ён змяшчае нотны запіс песні Галкоўскага на словы Янкі Купалы, якая ва ўмовах Заходняй Беларусі набывала актуальнае гучанне і, пэўна ж, не без рэдактарскай парады выдаўца атрымала назву «Гімн свабодзе».

За свабоду сваю
Ўсёй душой пастаю,
І ў агонь, і ў ваду
Я за ёю пайду…

І гэтая арыгінальная песня, як шэраг іншых твораў Галкоўскага, аказалася плёнам музычнага супрацоўніцтва кампазітара з Шырмам. Супрацоўніцтва гэта працягвалася доўга і не абарвалася пасля таго, калі Шырму ўдалося завязаць новыя творчыя кантакты дзеля ўзбагачэння беларускай музычнай культуры, дзеля яе будучыні. У 30-я гады, апрача актыўнай дырыжорска-харавой, выканаўчай дзейнасці, а таксама публіцыстычнай, перш за ўсё ў выданнях Таварыства беларускай школы, Шырма нястом-на клапоціцца аб тым, каб прыцягнуць да працы над беларускай песняй усё новых і новых таленавітых людзей. Ён не толькі чакае беларускіх Шапэнаў, Чайкоўскіх, Грыгаў, а рыхтуе глебу, на якой бы яны ўзраслі.

Плённым для беларускай музыкі было супрацоўніцтва Шырмы з сусветнай вядомасці рускім кампазітарам Аляксандрам Грачанінавым. Грачанінаў зацікавіўся беларускай музыкай яшчэ да рэвалюцыі не без

уплыву вядомага беларускага этнографа і гісторыка літаратуры М. Янчука. Кампазітар працаваў у Музычна-этнаграфічнай камісіі пры Маскоўскім універсітэце, якую ўзначальваў прафесар Янчук. Некалькі народных песень, гарманізаваных Грачанінавым, было выдадзена ў Савецкай Беларусі. У кнізе «Моя музыкальная жнзнь», выдадзенай у Парыжы, Грачанінаў зазначыў, што ведае песні многіх народаў Савецкага Саюза, але найбліжэй прыйшліся да сэрца яму беларускія. Шырма наладзіў перапіску з Грачанінавым, калі той жыў у Парыжы, стаў пасылаць яму свае запісы народнага меласу, зробленыя ў самых розных кутках Заходняй Беларусі. Грачанінаў дзейсна адгукнуўся на просьбу дырыжора і фалькларыста з Вільні. «Прастата, яснасць, прыгожая гучнасць без непатрэбных, чужых народу бравурных эфектаў, строга захаваны народны каларыт, дужа цікавы і неаднастайны спосаб гарманізацыі, — вось асаблівасці апрацовак Грачанінава, якія так выгадна адрозніваюцца ад іншых», — пісаў у 1938 годзе Шырма. Часопісы «Летапіс ТБШ», пазней «Беларускі летапіс» пастаянна друкавалі побач з нотнымі запісамі апрацовак Галкоўскага і іншых кампазітараў, аранжыроўкі Грачанінава. Сярод іх, як песні, што вылучаліся асаблівай пранікнёнасцю, Шырма называе «Перапёлку», «Перад Пятром», «Раёк», «Чаму селязень смуцен-невясёл», «Зялён гай», «Ой, гыля, гыля, гусі вадою» (для мешанага хору), сольныя «Зазвінела пчолачка», «Вяснянка», «Купалінка», «Калыханка», «Зязюля».

Беларускія народныя мелодыі неаднойчы натхнялі знакамітага кампазітара і ў яго арыгінальнай творчасці. Ім была напісана «Беларуская рапсодыя» для сімфанічнага аркестра (пашукаць бы яе нашым сучасным музыкантам-выканаўцам сярод багатай і раскіданай па свеце спадчыны Грачанінава), а таксама сола для скрыпкі з раялем «Дар Белай Русі» і інш.

У 30-я гады набірае яшчэ большую інтэнсіўнасць харавая праца Шырмы. Акрамя таго, што ён абапіраецца цяпер на ўсё багацейшы і разнастайнейшы песенны матэрыял, мае ў рэпертуары высокамастацкія апрацоўкі К. Галкоўскага, А. Грачанінава, а пазней А. Кошыца, М. Гайваронскага і іншых, пашыраецца і сама база калектыву, рэзерв удзельнікаў. Шырма цяпер ужо арганізоўвае хор у Віленскім універсітэце, пры Беларускім студэнцкім саюзе, які існаваў у яго сценах. Іншы раз яго так і называлі — хор Беларускага студэнцкага саюза, або хор Шырмы. Ядро харыстаў складалі цяпер студэнты універсітэта, але толькі імі склад хору не абмяжоўваўся. Пры Студэнцкім саюзе было заснавана Таварыства прыяцеляў беларусазнаўства, або беларусаведы, як тады яно называлася. У Таварыстве і пачала канцэнтравацца таксама і фальклорна-збіральніцкая, фальклорна-даследчая праца. Часопіс «Нёман» у красавіцкім нумары за 1932 год інфармаваў грамадскасць, што запісана ўжо 1600 песень, з якіх 1000 — Шырмам і 600 сябрамі Таварыства прыяцеляў беларусаведы. Аўтар публікацыі з горкай іроніяй канстатаваў, што ва універсітэцкім горадзе, дзе ў дадатак ёсць Інстытут даследавання Усходняй Еўропы, ніхто не збіраецца друкаваць такі каштоўны, з пункту гледжання народазнаўства і культуры, матэрыял.

Праўда, знаходзіўся адзін з прэтэндэнтаў на гэта беларускае народнае багацце. Гэта быў віленскі ваявода Кіртыкліс. Ен афіцыйна выклікаў бе-

ларускага фальклaрыста да сябе і прапанаваў яму прадаць рукапісы… каб пакласці іх пад сукно, не дапусціць да шырокага грамадскага ўжытку. Пан ваявода атрымаў ад беларускага культурна-грамадскага працаўніка годны адказ.

Не маючы сродкаў у тых заходнебеларускіх умовах выдаць у поўным аб'ёме сабраныя песні, Шырма быў пэўны: надыдзе лепшы час і ён здолее вярнуць народу яго песеннае багацце, дагледжанае і ўпарадкаванае. Удзельнік вызваленчага руху меў усе падставы для гістарычнага аптымізму. Таму спакойна, настойліва, натхнёна рабіў сваю справу. Насуперак самым неспрыяльным, падчас проста фатальным абставінам. Буржуазныя ўлады даволі добра разумелі значэнне працы Шырмы для рэалізацыі вызваленчых ідэалаў, бачылі, што яно (гэта значэнне) выходзіць далёка за рамкі культурна-асветныя. Не заставалася для іх сакрэтам яго паслядоўна рэвалюцыйна-дэмакратычная, пракамуністычная, паводле іхняй тэрміналогіі, пазіцыя. І дэфензіва імкнулася ўвесь час калі не спыніць, то, прынамсі, абмежаваць яго працу, звесці да мінімуму яе вынікі. Былі спробы рэпрэсіўным шляхам прымусіць Шырму сысці з грамадскай арэны. Дэфензіва двойчы арыштоўвае яго, кідае ў Лукішскі астрог, які называлі ў 20-я гады заходнебеларускай Бастыліяй. Першы раз Шырму арыштоўваюць у кастрычніку 1930 года. Тут, у Лукішскіх мурах, ён пачынае пісаць п'есу аб жыцці і змаганні працоўных Заходняй Беларусі пад назваю «Зорным шляхам». На палях рукапісу трапляюцца ноты, радкі народных песень — песня была з Шырмам і ў астрожнай камеры. Фактычнымі матывамі арышту была дзейнасць Шырмы як сакратара ТБШ, якому закідвалася абвінавачанне ў камунізме.

Першы раз следству, аднак, не ўдалося сабраць фактаў, з якімі б, хоць з нацяжкай, можна было выйсці на адкрыты суд. На другі раз, гэта было ў 1933 годзе, дэфензіва лепш пастаралася і ўлады здолелі арганізаваць судовы працэс над дзеячамі ТБШ, сярод якіх на лаве падсудных адным з першых аказаўся Шырма. Судзілі не толькі кіраўнікоў але і правіяцыяльны актыў беларускай культурна-асветнай арганізацыі. На лаве падсудных віднеліся і сялянскія світкі, і сціплая апратка сельскага інтэлігента.

Падсудныя Шырма, Фелікс Стацкевіч каменя на камені не пакінулі ад абвінаваўчай прамовы пракурора і паказалі на сапраўдную мэту буржуазных улад — імкненне спыніць цягу працоўных Заходняй Беларусі да развіцця сваёй культуры, яго барацьбу за школу на матчынай мове. Адвакат Казімір Петрусевіч, вядомы сваімі дэмакратычнымі, прагрэсіўнымі перакананнямі, пацісnуў Шырму руку. Яго задача бараніць тэбэшоўцаў была фактычна вырашана самімі абвінавачанымі. Яму заставалася толькі юрыдычна ўдакладніць некаторыя моманты, паставіць адпаведныя акцэнты спецыяліста.

Двойчы адарваны ад працы астрогам, Шырма кожны раз вяртаецца да яе з ранейшым запалам, настойлівасцю. І зноў выязджае ў розныя паветы Заходняй Беларусі, чытае лекцыі, запісвае песні, рупіцца з хорамі. Не толькі збірае фальклор, але і даследуе яго. «24 студзеня сёлета, — інфармаваў чытачоў у 3-й кніжцы за 1932 год «Нёман», — Рыгор Шырма прачытаў у Т-ве прыяцеляў беларусаведы рэферат на тэму: «Галоўныя рысы мелодыяў

беларускіх народных песень». Лектар у сваім рэфераце расказаў аб сабраных ім песнях, дзелячыся са слухачамі ўражаннямі, перажытымі ў часе іх запісвання,ды даў спробу характарыстыкі мелодыяў запісаных ім цыклаў беларускіх народных песняў. Характарызуючы мелодыі… лектар адначасна дэманстраваў іх пяяннем і граннем на скрыпцы. Слухачы з захапленнем, затаіўшы дух, выслухалі цікавы рэферат». «Праца Шырмава — гэта кладзенне падрубаў пад навуку аб беларускай народнай паэзіі, музыцы, псіхалогіі беларускага народу і яго этнаграфіі», — рабіў вывад аўтар заметкі. Крыху пазней у часопісе «Калосьсе» Шырма выступае са спецыяльным артыкулам, прысвечаным песням[1]. Але, мусіць, найболей часу, душы Шырма аддаваў харавой песні. Ён нястомна клапаціўся аб ёй з думкай пра тое,

Каб пры песенным звоне народ акрылеў,
Зарухаўся шчасцем, свабодай.

Інфармацыі аб выступленні хору Рыгора Шырмы, артыкулы-водгукі на канцэрты ў тагачасным друку красамоўна сведчаць, што быў ён сталым і важным фактарам культурна-грамадскагв жыцця Заходняй Беларусі. Ніводнае значнейшае публічнае выступленне, гадавіна, юбілей, а адзначаліса яны, як, напрыклад, 50-годдзе Янкі Купалы, Якуба Коласа, 10-я ўгодкі смерці Максіма Багдановіча, Дні беларускай культуры і інш. на ўзроўні нацыянальных свят, не адбывалася без удзелу хору Шырмы, без песні. Выступленне беларускага хору надавала вечару, урачыстасці адпаведны эмацыянальны тон, выразна паглыбляла сваім зместам і майстэрскім выкананнем грамадзянскае гучанне, ідэйны рэзананс самога мерапрыемства.

Выступленнямі з нейкай канкрэтнай нагоды — гістарычнай, культурнай даты, хоць яны і займалі немалое месца, канцэртна-выканаўчая дзейнасць хору Шырмы не абмяжоўвалася. Прыроджанаму дырыжору, музыкумастаку Шырму заўсёды рупіла працаваць з песняй, пеставаць яе, адчуваць радасць светлага яе ўзлёту. І ён нястомна і натхнёна рыхтаваў усё новыя і новыя праграмы. Колькі іх было ў яго доўгім музычным жыцці!..

Заходняя Беларусь у той час не мела, на жаль, прафесійнага музыкальнага крытыка. Суровая рэчаіснасць, сацыяльны і нацыянальны прыгнёт не дазвалялі на такую «раскошу». Пераважная большасць водгукаў на выступленне хору Рыгора Шырмы 20—30-х гадоў — гэта шчырыя, часам вельмі пранікнёныя, пры ўсёй скупасці слоў, допісы, інфармацыі аматараў. Што яны насілі аб'ектыўны характар, могуць хіба што пацвердзіць і паасобныя публікацыі ў тагачаснай віленскай польскай, рускай, яўрэйскай прэсе. Пра гэтыя цікавыя сведчанні, аднак, можна прыгадаць крыху пазней.

Сярод аматараў-энтузіястаў, тых, хто пісаў пра хор Шырмы ў даваенную пару не толькі па адзіным закліку сэрца, а і з большым на гэта правам — веданнем музычнай культуры, быў Вячаслаў Багдановіч. Багдановіч апублікаваў у «Родных гонях» некалькі народных песень, сам спрабаваў пісаць вакаль-

[1] Калосьсе, 1936. № 2.

ныя творы. Прынамсі, раманс яго «Кветкі асеннія» выконвала ў беларускіх канцэртах спявачка Л.Сасноўская. У «Нёмане» за май — чэрвень 1932 года В.Багдановіч пісаў: «Сёлета ў чэрвені хор Беларускага студэнцкага саюза пад кіраўніцтвам вядомага рэгента беларускіх хораў, грам. Р. Шырмы даў два канцэрты беларускае песні — адзін 4.VI. у зале гандлёва-прамысловага клубу, другі 15.VI. у Бернардынскім садзе. Пяялі харавыя песні, гарманізаваныя Аладавым, Анцавым, Галкоўскім, Грачаніным, Леантовічам і інш…

Хор у пастаноўцы і пад кіраўніцтвам Шырмы праявіў сябе вельмі добра. Ведаючы нашы ўмовы, трудна было спадзявацца ад хору такое ўдачы. Стройнасць, дружнасць, гібкасць, нюансіроўка і ўсе музычныя эфекты былі выпаўнены не толькі з мастацкай тэхнікай, але і з глыбокім пачуццём…» Я свядома прывёў гэту, можа, задоўгую выпіску, каб крыху пашырыць уяўленне аб геаграфіі выступленняў хору Шырмы ў той жа Вільні, а галоўнае — паказаць, што ўжо тады, няхай сабе ў недасканалай форме, давалася высокая ацэнка майстэрства калектыву, якая прагучыць у савецкай музычнай крытыцы другой паловы 50-х гадоў.

У пятай кніжцы «Нёмана» за снежань 1932 года В. Багдановіч, коратка пішучы аб гісторыі працы над беларускай песняй, зноў гаворыць пра Шырму. Аўтар прыгадвае «Вечар славянскай песні», называе яго «вялікім здарэннем у беларускім музычным свеце», гаворыць пра тое, што «ў многіх тады расчыніліся вочы на беларускую музыку». Агульная ж ацэнка працы Шырмы гучыць у Багдановіча так: «З спаўняльнікаў і практычных рабачаёў над пашырэннем беларускай музыкі, безумоўна, на першае месца мы павінны паставіць гр. Шырму. Гэта нястомны працаўнік, які, здаецца, увесь аддаўся працы над роднай песняй, шмат пасунуў наперад справу зацікаўлення ў нас беларускай музыкай».

Невялікія памерам, сціплыя паводле сваіх мастацтвазнаўчых вартасцей рэцэнзіі Вячаслава Багдановіча ўсё ж давалі ўяўленне (а праз гады каштоўнасць іх сведчання ўзрастае) аб атмасферы, у якой развівалася канцэртная дзейнасць Шырмы, раскрываюць змест і характар выступленняў хору, выразна акрэсліваюць высокі артыстычны аўтарытэт яго кіраўніка. Вось яшчэ пару замалёвак, штрыхоў з заметкі-рэцэнзіі ў часопісе «Калосьсе» «Беларускі канцэрт 4.III.1938 хору Шырмы…»: «Няма, напэўна, у Вільні нікога, — пісаў яе аўтар, — хто любіў бы музыку і нічога не чуў аб беларускім хоры Рыгора Шырмы; няма нікога, хто раз паслухаўшы гэты хор, не захацеў бы яшчэ і яшчэ слухаць. Што ж дзіўнага, што не трэба было вялікай рэкламы, афішаў ці абвестак, каб уся музыкальная Вільня даведалася, што ў нядзелю 4-га сакавіка хор Шырмы і маладая спявачка Яўгенія Чарняўская пяюць у універсітэцкай зале Снядэцкіх».

Рэцэнзент апісвае і кантынгент слухачоў, падкрэсліў яго інтэрнацыянальны характар, і называе навінкі рэпертуару, гаворыць аб энтузіязме, з якім выкананыя творы былі сустрэты слухачамі. Акцэнт жа робіць на тым, што «хор Шырмы ўсцяж працуе, дасканаліцца». І, вядома , перадае ўражанне ад выканання: «Пачаў пяяць хор. Перад слухачамі адкрывалася ўся магутная глыбіня незямная прыгажосць, замкнутая ў простай… мелодыі белару-

скай песні. Шырма паглыбіў, зразумеў вартасць гэтай песні і не памагае, а змушае кожнага адчуць яе хараство». І яшчэ ўжо у заключэнне, пасля разваг аб сапраўдным мастацтве і падробках пад яго, дадае: «Хор яго заўсёды стаіць на мастацкай вышыні».

Непасрэдны сведка нястомнай працы Р. Шырмы даваеннай пары С. Паўловіч адзначаў: «Вялікае зацікаўленне беларускай песняю Шырма выклікаў і ў Вільні і па-за Вільняю, сярод людзей рознай культуры і розных нацыянальнасцей. Не злічыць, колькі ён завязаў сваёю працаю знаёмства з людзьмі песні і музыкі. Кожны чагосьці просіць з ягонага багацця, кожны чакае якойсьці рады ці помачы, кожнаму ён патрэбен, — Рыгор Раманавіч дарагі госць на канцэртах і расійскіх, і ўкраінскіх, і яўрэйскіх, і польскіх. Дзякуючы яму ўсюды можна пачуць арыгінальную або ў перакладзе беларускую песню»[1].

Прапагандуючы беларускую песню з эстрады, Шырма ўвесь час думаў аб шырэйшым выхадзе з ёю ў свет. Адным са спосабаў гэтага выхаду было выданне песень асобнымі зборнікамі. У такім выглядзе яны маглі патрапіць да масавага слухача і не толькі ў межах Заходняй Беларусі, Польшчы.

На шляху друкаванай формы распаўсюджання мастацкі апрацаванай песні ў той час стаялі перш за ўсё цяжкасці матэрыяльнага парадку. Для выдання патрэбны былі сродкі, якіх не было адкуль узяць. Ахвяраваныя хворым беларускім настаўнікам Васілём Труцькам 700 злотых на выданне песень пайшлі на друк пільна патрэбнай, надзённай кнігі паэзіі М. Танка «На этапах». У сувязі з канфіскацыяй кнігі грошы, патрачаныя на яе выданне, не вярнуліся.

Усё ж у 1938 годзе Шырму ўдалося надрукаваць асобным выданнем 15 песень з рэпертуару хору аранжыроўкі А. Славянскага, Л. Рагоўскага, К.Галкоўскага, А.Грачанінава і іншых. Зборнік называўся «Наша песня» і меў пазначэнне «Сшытак 1». Выдавец меркаваў мабыць, у далейшым, па меры назапашвання новых аранжыровак, выдаваць іх па магчымасці асобнымі сшыткамі, задумаў выданне як серыю. Хораша выдадзены першы выпуск (вокладку да кнігі зрабіў вядомы заходнебеларускі мастак М. Сеўрук) уключаў такія шэдэўры беларускай песеннай культуры, як «Ці не дудка мая», «Раса жыта расіла», «Ці ў полі не калінка расла», «Зялён гай» і інш.

А тым часам, асабліва ў другой палавіне 30-х гадоў, палітычнае жыццё буржуазнай Польшчы, найбольш на яе нацыянальных ускраінах, моцна пасуровела. Былі на гэта знешнія і ўнутраныя прычыны. Вельмі адмоўна адбіўся на ўнутраным стане грамадскага жыцця ў Еўропе прыход Гітлера да ўлады і фашызацыя Германіі. Гэта ажывіла, надало духу разнамасным правым у многіх краінах. Польшча не была выключэннем.

Узор таталітарных рэжымаў меў вялікую спакусу і для польскай буржуазіі і памешчыкаў, вага якіх у палітычным жыцці даваеннай Польшчы была вялікая. Цвёрдая ўлада, жалезны кулак, які моцна і надзейна трымаў бы ў поўным паслушэнстве працоўных, дэмакратычную інтэлігенцыю

[1] Беларускі летапіс. 1939. № 1. С.12.

і забяспечыў бы спакой пануючаму класу, — аб гэтым марылі, да гэтага імкнуліся прадстаўнікі самых розных яго палітычных праслоек, а перш за ўсё ваяўнічай ваеншчыны, землеўласнікаў, капіталу, клеру.

У гэтых умовах Шырма прычыніўся да яшчэ аднаго важнага акту грамадска-палітычнага жыцця Заходняй Беларусі. Ён стаў адным з арганізатараў і выдаўцоў газеты народнага фронту «Наша воля». Часам газета рабілася дома, на кватэры Шырмы па вуліцы Св. Ганны. У шуфлядзе стала для паліцэйскага вока ляжаў спіс падпісчыкаў і грошы, якімі праз сувязного П. Малько дапамагала ЦК КПЗБ. Шырма друкаваўся ў «Нашай волі» пад псеўданімам В. Майстровіч.

Нельга сказаць пачаўся (пачаўся ён адразу), а відавочна ўзмацніўся ў сярэдзіне 30-х наступ санацыйнага рэжыму на ўсе праявы апазіцыі. Яшчэ з большай жорсткасцю і паслядоўнасцю стаў праследавацца камуністычны і звязаны з ім нацыянальна-вызваленчы рух. Усё менш заставалася і без таго ўрэзаных у Польшчы скупых буржуазных свабод. У сваім наступе на правы працоўных адміністрацыя не абмінула і арганізацый беларускай і ўкраінскай культуры, бачачы ў іх асяродкі супраціўлення сваёй імперыялістычная палітыцы.

Паступовае наступленне на такі важны ўчастак культурна-асветнага фронту, як ТБШ, завяршылася ў 1937 годзе поўнай яго забаронай. Забаронены быў і Беларускі інстытут гаспадаркі і культуры, што стаяў у асветнай і культурнай працы на іншай палітычнай платформе і якому было цяжэй закінуць абвінавачанне ў камунізме, паколькі ён знаходзіўся пад уплывам беларускай хадэцыі. У сваім зацятым праследаванні ўсяго, што хоць бы крыху пярэчыла каланіяльніцкай палітыцы ўлад, адміністрацыя ў 1937 годзе дайшла да забароны буквара «Zasieŭki» вядомага заходнебеларускага педагога С.Паўловіча, да канфіскацыі выдадзенага яшчэ ў 1929 годзе паэтычнага зборніка М. Васілька «Шум баравы» і кнігі вершаў Міхася Машары «3-пад стрэх саламяных» і г. д. Бясконцыя праследаванні, рэпрэсіі разбуралі здзейсненае, здабытае працай дзесяткаў тысяч удзельнікаў вызваленчага руху, тых жа членаў ТБШ, прадстаўнікоў асветы, культуры.

Ствралася цяжкая асмасфера няпэўнасці, разладу, разброду. У лісце, напісаным 19 чэрвеня 1936 года, незадоўга да ўрадавай забароны ТБШ, Шырма пісаў з болем і абурэннем: «Трэба адзначыць, што не толькі паглыбляецца расцерушэнне сілаў, а нават адбываецца нейкі працэс знячулення да маральнай подласці. Да таго прытупілася чуйнасць грамадзянскай этыкі, што нават публічныя даносы ў прэсе не выклікаюць заслужанага абурэння»[1]. У заключэнне дзеліцца цяжкім уражаннем ад нядаўняга сходу Цэнтральнага гуртка ТБШ, «на якім стары Стэцкевіч выглядаў юнаком і паступоўцам у параўнанні з прадстаўніком і рэпрэзентантам моладзі. 3 намі да гэтага часу мог гутарыць так толькі польскі ўжэнднік [чыноўнік.— *А. Л.*]». Інтэлігенцыя, якая заставалася і ў новых умовах адданая ідэалам народнага вызвалення, шукала новых метадаў барацьбы, адпаведных змененым абставінам. Ста-

[1] ФБАН Літвы, ф. 21, спр. 588.

ралася выкарыстаць усе магчымасці, каб і далей трымаць культурны фронт, несці ў масы асвету і палітычную свядомасць.

Яшчэ большы акцэнт быў пакладзены на пазашкольнае, хатняе выхаванне. Для гэтага былі арганізаваны спецыяльныя курсы, выпушчаны адпаведныя падручнікі. Перыядычны друк, які яшчэ заставаўся незадушаны цэнзурай, праз слецыяльныя артыкулы, праграмы прапагандаваў ідэю хатняга навучання, самаадукацыі з думкай, што «вучэнне паможа змагацца з нядоляй, няволяй» (Я. Купала).

Як адна з форм публічнай прапаганды здабыткаў беларускай дэмакратычнай культуры, у тым ліку і азнаямлення з ёю суседзяў, а перад усім для ўмацавання веры ў творчыя сілы свайго народа, а тым самым і ў яго лепшую будучыню, заходнебеларуская інтэлігенцыя стала практыкаваць «Вечары беларускай паэзіі і песні», а крыху пазней Дні беларускай культуры. У іх удзельнічалі лепшыя літаратурныя сілы Заходняй Беларусі на чале з Максімам Танкам і мастацкія — на чале з Шырмам і оперным спеваком М. Забэйдам-Суміцкім. Дарэчы, апошні быў таксама знойдзены, адкрыты Шырмам і, галоўнае, як талент, вернуты да матчынай песні. Ролю Шырмы ў творчых вечарах, днях культуры, якія мелі шырокі грамадскі рэзананс, нельга пераацаніць. Яна агромністая.

«З беларускіх народных крыніц, у вялікай меры з народнай песні, творыцца сучасная беларуская культура, — гаварылася 13 снежня 1936 года пры адкрыцці першага Дня беларускай культуры.— Вось жа і не дзіва, што гэты дзень святкуем той жа народнай песняй»[1].

Канцэрт, распачаты хорам Шырмы, адкрываўся кантатаю Галкоўскага на словы Максіма Танка. Далей стройна прагучаў вянок народных песень «Зялён гай» (апр. Грачанінава), «А ў полі вярба» (апр. Свешнікава), «Па саду хаджу» (апр. Галкоўскага), «Кукавала зязюлька» (апр. Грачанінава), песня Галкоўскага «Вясна» на словы М. Васілька, песня Анцава «Усе разам» на Купалавы словы… У выкананні саліста прагучалі песні беларускіх савецкіх кампазітараў Аладава, Чуркіна, песня Галкоўскага «Ці грэх цябе любіць»…

Дзень беларускай культуры знайшоў добры водгалас у дэмакратычнай польскай, яўрэйскай, рускай, літоўекай прэсе Вільні. Так, яўрэйская газета «Вільнэр тог» ад 16 снежня 1936 года пісала: «Калі афіцыйная частка [маецца на ўвазе выступленні грамадскіх і культурных дзеячаў.— *А. Л.]*, як відаць, з даволі важных прычын адбывалася як бы напалавіну адкрытым ротам, то канцэртны аддзел быў дадзены ўсім сэрцам: чаго недагаварылі, тое дапяялі. Беларускія народныя песні расказалі аб беларускім народзе, аб яго душы, цярпеннях, радасцях больш, як гэта маглі б сказаць найдаўжэйшыя прамовы.

Хор Шырмы прыемна слухаць. Чатыры дзесяткі хлопцаў і дзяўчат, кіраваныя ўмелай і чулай рукой дырыгента, вельмі добра спеты. Іх ціхае *pianissimo* разыходзіцца, як бальзам, па ўсім целе. Чуецца таксама дасканаласць і густ у выбары праграмы…»[2].

1 Беларускі летапіс. 1937. № 2-3. С. 37—38.

2 Тамсама, С. 41-42.

Газеты былі аднагалосныя ў ацэнцы майстэрства беларускага хору. «Русское слово» ад 18 снежня 1936 года пісала: «Хору Шырмы ўдалося паказаць свае артыстычныя дасягненні і незвычайнае багацце беларускай народнай музычнай творчасці. Гэты хор без сумнення адзін з лепшых (калі не найлепшы) з віленскіх хораў. Цяжка сказаць, што больш захапляе слухача, цудоўныя галасы харыстаў ці здзгўляючая дасканаласць апрацоўкі, незвычайная пранікнёная глыбіня трактоўкі выкананых твораў. Нельга сказаць, якая з песень найбольш спадабалася слухачам; кожная ў выкананні хору была маленькім шэдэўрам»[1].

Свой пятнаццацігадовы юбілей працы з беларускай песняй вясною 1939 года Шырма адзначыў вялікім канцэртам. Хор выканаў, як сведчыць аўтар артыкула «Юбілей Р.Шырмы» С.Паўловіч, каля дваццаці пяці беларускіх песень. Выкананне іх было, паводле таго ж сведчання, «як заўсёды…высокамастацкае».

«З эстрады лілася сапраўдная беларуская песня — прадукт багатай творчасці беларускага народу, выражэнне ягонай душы, мнагаграннага жыцця і гістарычнай мінуўшчыны. Новым на канцэрце было самастойнае выступленне жаночага хору, якое зрабіла на ўсіх вельмі мілае… уражанне», — не хаваў захаплення стрыманы Паўловіч[2].

У гэтым жа нумары «Беларускага летапісу», дзе на апошняй старонцы, відаць, у апошнюю часіну набору часопіса дабраны «задыханы» артыкул-інфармацыя «Вайна пачалася», Шырма выступаў з дзвюма публікацыямі. Адна спакойная, адпаведна тэме — гісторыі працы над беларускай песняй,і другая — узрушаная, тонам запальчыва-публіцыстычная — артыкул «Песня». Песня і яе значэнне ў духоўным жыцці адзінкі, грамадства, чалавецтва. І канкрэтна — пра беларускую песню. Пра сутнасць яе і тое, якой яна павінна быць сягоння, у «трывожны час». «Мэта песні будзіць і ўзбагачаць духовае жыццё чалавека, падымаць яго настрой і гэтым самым павялічваць у ім маральныя і фізічныя сілы, павялічваць трываласць у жыццёвай барацьбе. Значэнне і сіла яе вялікая і незаменная. І таму не дзіва, што не адна Бастылія ў гісторыі чалавецтва пала пад звон Рэвалюцыйнай песні»[3], — пісаў Шырма.

Гаворыць пра надзённае, набалелае, пра тое, чаму намагаюцца адабраць ад народа яго песні, падсунуць яму такія, што ўсыпляюць дух, высокія парывы, вучаць «пакорна зносіць путы». Усе гэтыя горкія пазнаню Шырма як чалавек, які ўстаў на варту скарбаў народнага духу, вынес з заходнебеларускай рэчаіснасці даваеннай Полыпчы. Ен гаворыць пра гэта крыху абагульнена з прычыны цэнзуры, але прама і недвухсэнсоўна.

Больш завуаліравана гаварыў ён пра песні, народжаныя вызваленчай барацьбой: «Балючыя, пільныя справы сённяшніх дзён твораць і свае адпаведныя песні. Многа іх у нас паўстала пасля вайны. Многія з іх, — шырэй нязнаныя, — блудзяць толькі па вясковых хатах і дасюль. У іх адбіваецца

1 Беларускі летапіс. 1937. № 2-3. С. 42.

2 Тамсама. 1939. № 1. С. 11.

3 Беларускі летапіс . 1939. № 1. С. 2.

ўжо гісторыя дзён найбліжэйшых, справы, якімі жывуць шырокія масы сёння»[1]. Чытачу не былі сакрэтам песні, пра якія гаварыў Шырма. Гэта былі песні, народжаныя рэвалюцыйным змаганнем у Заходняй Беларусі, такія, як «Шалейце, вы, каты!», «Стары год пражыўшы», «Чырвоная зорка», «Браты мае, ужо час настаў», «Нас душаць зладзеі-акупанты» і іншыя. Шырма натаваў іх непасрэдна ад удзельнікаў рэвалюцыйнага руху.

Падкрэсліўшы значэнне старой песеннай спадчыны, Шырма ў сваім артыкуле робіць акцэнт на тым, што трэба тварыць песні новыя, адпаведныя часу, задачам дня. Менавіта ў вернасці нацыянальным культурным традыцыям і ў спалучэнні іх з тым новым, што нараджалася ў сучасным жыцці, барацьбе бачыць Шырма адзіна правільны шлях беларускай музыкі, заруку яе будучыні.

Глыбокім уласным перакананнем, верай у духоўную нязломнасць, відушчасць народа дыхаюць Шырмавы словы, якія, дарэчы, ён, прызнаны ў Заходняй Беларусі культурна-грамадскі дзеяч, меў права сказаць, гаварыў не толькі ад свайго імя: «Як народ творчы жывучы, не пакінем сваіх старых песняў, песняў прадзедаў; але таксама не астанёмся, не можам астаццаі без песень, новых, якіх патрабуе сённяшні трывожлы час. Астацца ў сягонняшнія дні без гэтага магутнага духовага аружжа мы ні ў якім выпадку не можам» .

Тым часам у Еўропе ўжо моцна разгараўся падпалены фашысцкімі Германіяй і Італіяй пажар другой сусветнай ванны. Напад гітлераўцаў на Польшчу быў падрыхтоўкай да рыўка на Усход. Вайна, якая стаяла на парозе, на першым часе для народаў Заходняй Веларусі і Заходняй Украіны не была адчувальна трагічнай. Узятыя пад абарону Савецкім Саюзам, яны аказаліся на нейкі час выратаваныя і ад сацыяльнага і нацыянальнага ўціску польскай буржуазіі і памешчыкаў, і ад фашысцкай няволі.

17 верасня здзейсніўся гістарычны акт уз'яднання беларускага і ўкраінскага народаў у адной сацыялістычнай дзяржаве. Працоўныя Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны перажывалі радасныя дні вызвалення, аб якіх марылІ, за якія ахвярна змагаліся іх лепшыя сыны. Былыя падпольшчыкі, нястомныя змагары з рэжымам пілсудчыкаў цяпер разам з пасланцамі краіны сацыялізму ўдзельнічалі ў наладжванні новага, савецкага жыцця ў заходніх абласцях. Шырокае поле дзейнасці, цяпер ужо ў межах усёй Беларусі, Саюза, чакала і былых працаўнікоў заходнебеларускага мастацтва і культурна-асветнага фронту: пісьменнікаў, мастакоў, артыстаў, настаўнікаў, якія ўліліся ў сям'ю савецкай інтэлігенцыі.

У сувязі з перадачай у кастрычніку 1939 года Вільні буржуазнай Літве своеасаблівым цэнтрам Заходняй Беларусі савецкага часу становіцца Беласток. Тут адбываецца 30 кастрычніка гістарычны Народны сход, які прымае пастанову аб далучэнні Заходняй Беларусі да Савецкага Саюза. К гэтаму часу Шырма перабіраецца ў Беласток на сталае жыхарства. Яго на кватэры наведвае Янка Купала.

---

[1] Беларускі летапіс, 1939. № 1. С. 3.

Урад рэспублікі 1 лістапада 1939 года даручае Шырму арганізаваць Беларускі ансамбль песні і танца, 15 студзеня 1940 года Беларускі ансамбль пад мастацкім кіраўніцтвам Шырмы пачаў сваю працу. Упершыню харавая дырыжорская дзейнасць Шырмы станавілася на дзяржаўную аснову.

Якую выбраць жанравую форму для новага калектыву, у яго кіраўніка не было сумненняў. Практыка мінулых гадоў і роздум над ёй падказвалі вышэйшую форму харавога мастацтва, самую складаную — акадэмічную, акапэльную. Горача перакананы ў яе магчымасцях, Шырма адстаяў від свайго хору як акапэльнага. Наколькі правільны быў зыходны крок, пацвердзілі наступныя дзесяцігоддзі, калі Акадэмічная капэла БССР склала цэлы перыяд у музычным жыцці рэспублікі, а імя яе заснавальніка і кіраўніка, народнага артыста СССР Р. Шырмы побач з імёнамі Свешнікава і Эрнесакса склала адно з самых яркіх сузор'яў савецкай харавой культуры.

Калі глянуць на эскіз летапісу Беларускай акадэмічнай харавой капэлы імя Р. Р. Шырмы, на жаль, гісторыі яе, як бы гэта належала — усё ж залатая старонка ў беларускай музыцы, — мы яшчэ не маем, то кідаецца ў вочы досыць імклівая лінія ўзыходжання калектыву і яго стваральніка, шматгадовага кіраўніка да вяршыняў мастацкай культуры, грамадскага прызнання. Сапраўды, толькі ў 1952 годзе капэла, на той час яшчэ дзяржаўны хор БССР, перабіраецца з Гродна ў сталічны Мінск, а ўжо ў 1955-м на Дэкадзе беларускага мастацтва і літаратуры ў Маскве шырмаўцы зведваюць сапраўдны трыумф. Аднагалосна высокія водгукі ў друку, прысваенне дырыжору і кіраўніку хору звання народнага артыста СССР, перайменаванне назвы калектыву. Пасля выступлення на конкурсе харавых калектываў у 1957 годзе — дыплом першай ступені і наданне капэле звання акадэмічнай. Імя Р. Шырмы называецца сярод карыфеяў айчыннага акапэльнага харавога спеву А. Свешнікава, А. Эрнесакса. Крытыка ацаніла харство і выразнасць выканаўчай манеры Беларускай харавой капэлы, крышталёвую чысціню яе інтанацыі. На першы погляд магло здацца, што ўсё адбылося проста: прыйшоў чалавек з талентам, агністай душой, добры знаўца народных асноў культуры, яе чыстых крыніц, а рэшта, як кажуць, справа тэхнікі. Прамы шлях да вяршыняў майстэрства, славы. І толькі сам пасівелы маэстра ды найбліжэйшыя людзі ведалі, як цяжка давялося яму тарыць шлях да прызнання беларускай песні, беларускай музыкі, беларускага слова. Не толькі там, у Заходняй Беларусі, дзе польская воля, улада рабілі ўсё, каб затаймаваць беларускі дух, ператварыць тры мільёны заходніх беларусаў у правапаслухмяных грамадзян чужой ім дзяржавы, зацікаўленай адно ў дэнацыяналізацыі. Але і пасля Верасня, радаснага, бурнага на першым часе, не пачулася заходнебеларуская інтэлігенцыя свабоднай на сваёй зямлі, як спадзявалася. Былыя падпольшчыкі, капэзэбоўцы ды і грамадаўцы, што, здавалася, сваёй барацьбой, ахвярнасцю заслужылі на павагу новай улады, нечакана аказаліся ў нялітасці. З іх выбіралі асобных, вылучалі па нейкіх незразумелых прыкметах. Некаторым не па сваёй волі давялося адправіцца ў Казахстан, іншыя аддаленыя мясціны Былі пытанні і ў Шырмы да таварышаў-вызваліцеляў. «Што тут беларускае ў гэтай прышлай Беларусі?» — недаўменна думаў услых стары беларускі культурнік і барацьбіт. Гэта яго неўразуменне,

аказваецца, будзе зафіксавана ў адным з падраздзяленняў новай улады, новай сістэмы. Гэтае пытанне-недаўменне верне яму на Лубянцы ў ізалятары следчы Раманенка зімой 1941—1942 гадоў. У 1940 годзе яму дазволіт ў Беластоку стварыць Беларускі ансамбль песні і танца. Ен сабраў сваіх былых харыстаў з Вільні, Беластока, набраў моладзі, і ў сакавіку яны накіраваліся ў першыя гастролі па заходніх абласцях Беларусі. У маі трымалі творчую справаздачу перад мінскімі слухачамі. А праз год ансамбль выехаў у Маскву. Канцэрты прайшлі з поспехам, выступілі і па Усесаюзным радыё, сустрэліся з хорам імя Пятніцкага, з ансамблем А. Аляксандрава. Гастролі па Расіі перапыніла вайна. Вярнуліся ў Маскву, дзе вырашаўся далейшы лёс калектыву.

29 чэрвеня 1941 года Беларускі ансамбль песні і танца праходзіў спецыяльны прагляд, у выніку чаго быў пакінуты у поўным складзе і праз месяц эвакуіраваўся ў Краснаярск. Папрацаваць у Сібіры з ансамблем Р. Шырму не давялося. Дзесь у кастрычніку ён быў нечакана арыштаваны і вывезены ў Маскву. Чаму ў Маскву? Ці таму, што там быў цэнтр беларускага НКУС, ці дырыжору надавалі асаблівае значэнне, — сказаць цяжка.

На Лубянцы, успамінаў Рыгор Раманавіч ужо ў 70-я гады ў гутарцы з пісьменнікамі, навукоўцамі, у камерах была жудасная цесната. Даймалі не так допыты, яны не вызначаліся жорсткасцю, як мучыў голад. Маладзейшыя, Шырма згадваў ленінградскага інжынера, іншых сакамернікаў, не вытрымлівалі, паміралі. «Толькі сялянская, паляшуцкая косць магла вытрымаць той свядомы галодны мор», — бліскаў патрыярх беларускай песні іскрамі шэра-блакітных вачэй з-пад навіслых броваў. Згадваў турэмны сон. Снілася: з бацькам на пожні ўкладаюць снапы на воз. Ажно гэта не снапы, а вялізныя булкі-халы, што можна было купіць у мястэчку, у Пружанах. Не сон — галодныя галюцынацыі…

На допыты выклікалі заўсёды ўноч. Абвінавачанне стандартнае, адно — нацдэм. А канкрэтныя факты? У ансамблі перавагу аддаваў беларускай песні. «Якая гэта Беларусь, што ў ёй беларускае?», — казаў пасля вызвалення, прыходу Чырвонай Арміі?» Можа, і казаў нешта. Ці думаў, што побач з табой шэльма, які перадасць некуды сказанае? Ды ці гэта крамола?

Следчы Раманенка паволі перабіраў паперы на стале, корпаўся з пагонам, цягнуў час. Служба, што зробіш. Аднойчы ён аглушыў свайго непаслухмянага падследчага жорсткай навіной: Купала выкінуўся ў гасцініцы «Масква» з лесвіцы… «Выкінуўся? Выкінулі?..» У камеры, узяўшыся за галаву, хадзіў, душачы ў сабе немы крык: «Купала!.. » Успомнілася: пра спробу Янкі Купалы накласці рукі на сябе пачуў таксама ў турме. Толькі гэта было ў 1930 годзе, і сядзеў ён тады ў палякаў на Лукішках. Першы раз пачуў пра паэтава самагубства на прагулцы ў турэмным двары. Палітвязні былі збянтэжаны трагедыяй, што адбывалася ў Савецкай Беларусі, у якую яны тады моцна верылі: бачылі апору, Дом беларускай дзяржаўнасці. Тады Шырму ўразіла рэпліка аднаго капэзэбоўца, селяніна з-пад Слоніма па прозвішчы Мазоль. «Ну што значыць для пралетарскай справы смерць аднаго паэта»… Цяпер гэта заключэнне, што як стрэмка сядзела недзе глыбока ў свядомасці, заныла, дадало болю па нязмернай страце.

Вінаватасці тагачаснаму савецкаму правасуддзю зусім не патрабавалася, каб ахвяру асудзіць. Быў чалавек, і гэтага дастаткова. Адпаведны артыкул заўсёды можна было знайсці. Не магла ж машына, запушчаная ў гады тэрору, проста спыніцца, мусіла працаваць. Р. Шырму з Лубянкі саслалі ў нейкую гулагаўскую дзірку ў паўночным Казахстане. А беларускі ансамбль песні і танца тым часам вандраваў па Сібіры. Кіраваў і дырыжыраваў ім цяпер кампазітар С.Палонскі, аўтар песні «Вечарынка ў калгасе». Ансамблю далі два невялікія таварныя вагоны, і ён аб'язджаў Чыту, Іркуцк, Тайшэт… Летам 1942 года трапіў у Ташкент. На канцэрт шырмаўцаў прыйшоў Якуб Колас. Да яго і ўвалілася аднаго дня група харыстаў, каб расказаць пра сваю бяду, пра долю свайго любага кіраўніка. Дапамог народны паэт. Выйшаў на тагачаснага Першага, на Панамарэнку, і пасля года з лішнім турмы і высылкі Р. Шырма вярнуўся да сваёй сям'і, да хору. Але, мабыць, недзе ў пэўным ведамстве памяталі, шкадавалі, што «вырабіўся наццэм», вырвалі з іх рук ахвяру. Па мажлівасці «апякалі» і далей. То кіраўніком падсунуць свайго чалавечка, як у Гродна было. Той умудрыўся рухавічок, належны хору, проста «загнаць» дзесь, а без яго на гастролях у сельскіх раёнах было як без рук. А то маглі «арганізаваць» свайго журналіста. У некаторых з пісак яшчэ на памяці былі кампаніі барацьбы з «ворагамі народа», касмапалітамі і іншыя акцыі. П.Багаценкаў, які выступаў у «Советской Белоруссии» з допісам з простай, як сякера, назвай «Аб рэпертуары Беларускага Дзяржаўнага хору», быў пэўны, што з фактамі лічыцца не трэба. Галоўнае — стварыць адпаведную карціну, пакласці патрэбны акцэнт. Абвінавачанні-прэтэнзіі да кіраўніка Беларускага хору выстройваў так, каб набіраўся крымінал. Па прынцыпе: кожная тырада — пункт абвінаваўчага заключэння. «Г.Ширма игнорирует показ новой зажиточной колхозной жизни». У рэпертуары хору «нет песен о советском патриотизме, о любви белорусского народа к Советской Родине, о кровной вековой связи русского народа и белорусского народа». Захоўваю аўтарскую мову. У напісаным вельмі добра відаць ментальнасць і характар мыслення ахоўніка ідэйнай незаганнасці таталітарнай сістэмы, чалавечая подласць, якую яна не магла не пладзіць. Распаясаны абвінаваўца не мог стрымацца, каб не дагаварыцца да прамога ідыятызму. Ён заявіў, што беларуская народная песня ўносіць у канцэрты хору «идеологические извращения, аполитичность и безидейность».

Р. Шырма не быў бы тым, кім ён быў, каб сцярпеў такое шарлатанства пад выглядам крытыкі. У дакладной запісцы на імя М. Патолічава і Ц. Гарбунова, тагачасных Першага і Трэцяга, ён пісаў: «На жаль, у артыкуле «Аб рэпертуары хора» зусім не ўскрыты прычыны, чаму не толькі ў рэпертуары хору, а наогул у музычнай літаратуры ў нас так мала беларускіх «мастацка паўнацэнных твораў», чаму да гэтага часу не створана беларуская песенная савецкая класіка і амаль няма хароў на словы нашых беларускіх паэтаў; чаму недастатковая колькасць мастацкіх апрацовак народных і асабліва сучасных песень… Не назваў мне ніхто, у тым ліку і «Советская Белоруссия», ні адну з такіх існуючых паўнацэнных песень, якую я не ўключыў у рэпертуар хора». Абражаны злосным невукам, пранікнёна гаварыў Шырма пра белару-

скую народную песню, спасылаўся на факты выкарыстання яе ў творчасці класікаў і высокага водгуку аб ёй сусветнавядомых кампазітараў. З годнасцю цвердзіў: «Хор мае на сваім рахунку звыш двух тысяч канцэртаў, нас праслухала каля двух мільёнаў слухачоў, але ні адзін савецкі чалавек ні разу не звярнуў нашу ўвагу на тое, што беларуская народная песня ў нашы канцэрты ўносіць «ідэалагічныя скажэнні, апалітычнасць і безыдэйнасць».

«Калі паверыць допісу Багаценкава, — абагульняў прэтэнзіі «апанента» Шырма, — то выходзіць, што беларускі народ не здольны быў ствараць у сваёй песнятворчасці мастацкія каштоўнасці!». Акуратна, доказна аспрэчвае ўладар беларускай песні ўсе прытычкі падручнага таталітарнага рэжыму і ў канцы ізноў ідзе ў наступ: «Пасля вызвалення Беларусі ад нямецкіх захопнікаў тав. Панамарэнка П. К. прапанаваў мне: узятае ў народа — вярнуць народу, г. зн. закончыць, прывесці ў сістэму сваю працу і здаць у Беларускае дзяржаўнае выдавецтва. У 1945 мной здадзены ў друк…» — і называе чатыры кнігі. «Далейшую падрыхтоўку да друку наступных двух тамоў, — працягваў Шырма, — я перапыніў, таму што няма ўпэўненасці, што яны калі-небудзь пабачаць свет. У чым прычына такой няўвагі да беларускай народнай творчасці з боку Белдзяржвыдата, мне меркаваць цяжка…»

Недарма Шырма прайшоў польскія і не толькі польскія турмы, недарма схадзіў ледзь не ўсю Беларусь пехатой, слухаючы свой народ, збіраючы яго духоўныя скарбы. Суровае жыццё не зламала беларускага асілка духу. Выпрабаванні толькі загартавалі яго моцны, цэльны ад прыроды характар. У ім бачылі, не маглі не бачыць асобы нават тыя, хто падпіраў, трымаў цяжкі звод таталітарнай дзяржавы. Шырму шанаваў П.К.Панамарэнка, дазваляў сабе пры ім, яму гаварыць рэчы, якія на той час не гаварыліся. Можа, хацеў засведчыць інтэлігентнаму чалавеку, што вольны ад міфалогіі сістэмы, у якой функцыяніраваў? Бо іначай як разумець такое, калі на заўвагу Шырмы, што ў бібліятэцы Сакратара чамусь так многа кніжак пра Беларусь і сярод іх, о дзіва, сапраўдныя рарытэты, адказваў нечакана: «Я генерал-губернатар краю і мушу ведаць пра яго ўсё». Да абескуражвання дакладна і проста выславіўся. Дзеля чаго? Хацеў скараціць дыстанцыю між сабой, высока-пасадным дзяржаўцам, і Мастаком? Зрэшты, па-чалавечы, можа, меў права так гаварыць з чалавекам, якога выратаваў для мастацтва, для народа, што быў аддадзены яму ў вотчыну.

Не абышоў увагай беларускага культурніка і новы пасля Панамарэнкі Першы — М.С.Патолічаў. Здаецца, якраз ён даў загад перавесці галоўны рэспубліканскі хор з правінцыі ў Мінск. А першае іх знаёмства было не без кур’ёзу. Пачуў пра гэтае ад Алены Шырмянкі незадоўга да яе нечаканай смерці вясною 1992 года. Сцэна жанравая, і, можа, не варта было б яе ўспамінаць, узнаўляць, каб не азвалася ў ёй выразна, ужо ў фарсавай форме, рэха, цяжкага, перажытага . Знаёмячыся з даручанай яму «вотчынай», новы Першы заехаў у Гродна і там у абкоме, дзе спыніўся, пачуў пра Шырму. Зрэшты, мог пачуць і раней, а цяпер захацеў скарыстаць выпадак, каб пазнаёміцца з чалавекам, які ў вачах любога чыноўніка не быў проста хормайстрам. Патолічаў прыслаў на кватэру Шырмаў свайго ахоўніка з на-

казам прывесці дырыжора ў яго часовую рэзідэнцыю. Клаўдзія Іванаўна, убачыўшы на сваім парозе чалавека ў форме энкэвэдэ, спалохалася за мужа і загаласіла на ўвесь дом. Успалашыліся суседзі, зніякавеў чэкіст, чалавек, пэўна ж, не з палахлівага дзесятка…

А ўвогуле перавод у Мінск ды наступіўшая неўзабаве дэсталінізацыя добра паспрыялі Беларускаму хору і яго творцу на мастацкім шляху. Мінскі перыяд жыцця і творчасці Р.Р.Шырмы стаў этапам у культурна-духоўным жыцці рэспублікі. Не сказаць каб і тут не было для валадара беларускай песні загародак, нападаў з-за вугла, дробных укусаў… Але час разумнеў, святлеў, і ісці было лягчэй. Не ўсе чыноўнікі ў тым жа міністэрстве культуры служылі абавязкова ў двух ведамствах. Не ўсе павінны былі ненавідзець справу, якой ён служыў. Калі адны не без яхідства і зламыснасці пры нагодзе нагаворвалі, падтыкалі: «Тянет архаику в репертуар капеллы», то іншыя разумелі: яго любоў — песня народная — нешта высокае і непрамінальнае. Неглухія адчувалі, што пад іх рукой ходзіць не проста музыка, дырыжор, фалькларыст, а чалавек унікальны, Мастак літасцю Божай.

А яму было ў Мінску лягчэй, багацей на людзей, з якімі можна было пагаварыць пра кроўнае, набалелае, проста пажаліцца… Не шмат было такіх у асяроддзі музыкантаў. Хвалі перадваеннага тэрору, вайны вымылі, знеслі ў бездань невядомасці многіх, хто тварыў беларускую музычную культуру ў 20-я гады. Што граху таіць, многія з тых, што засталіся, ацалелі, прыйшлі пазней, уяўлялі замкнутых у сабе людзей, не здольныя падняць вачэй на далягляды беларускай музыкі, культуры. Ды наогул яна, культура гэта, развівалася ў спецыфічнай атмасферы казённых установак і рэгламентацый. Агульная палітычная дактрына не пакідала месца ёй у будучыні. Гэта былі адмысловыя ўмовы грамадскага анабіёзу, паралічу, і трэба было мець немалы палітычны досвед, — неадольнае пачуццё сацыяльнага аптымізму, каб ісці да вяршыняў не азіраючыся. У Р.Шырмы была перавага перад некаторымі інтэлігентамі-творцамі. Ён валодаў вялікім грамадска-палітычным вопытам, мог зазірнуць далей слупоў, якімі сістэма абазначыла напрамак жыцця. І яму да таго ж была даступна вялізная духоўная крыніца — несмяротнае народнае мастацтва і спадчына кампазітараў-класікаў. Побач з народнай песняй, збіранню і мастацкай выправе ў свет якой Шырма прысвяціў сваё жыццё, у працу хору ён стала ўключаў еўрапейскую і рускую класіку. Сваю духоўную моц і хараство ў выкананні капэлы Шырмы раскрывалі пярліны музычнай культуры, як «Гімн працы» Гендэля, «Летуценні» Шумана, «Слаўся» Глінкі, «Полька» Рахманінава, творы Танеева, «Зімовая дарога» Шабаліна.

Разам з сімфанічным аркестрам Беларуская дзяржаўная акадэмічная капэла пад кіраўніцтвам Шырмы падымала манументальныя музычныя пласты — «Дзевятую сімфонію» Бетховена, «Рэквіем» Моцарта, «Вясну» Рахманінава, араторыі «Аляксандр Неўскі» Пракоф'ева, «Патэтычную» Свірыдава, «Па слядах Руставелі» Тактакішвілі… Для Р.Р.Шырмы як мастака, чалавека былі яны крыніцаю духу, формай сцвярджэння жыцця ў яго імгненнях і вечнасці. Глянем жа збоку і вачыма спецыяліста на незабыўнага

чараўніка харавога спеву, разам прыпомнім, як ён выходзіў да нас, каб падарыць жыццядайныя хвіліны хараства, далучыць да найвялікшага таінства Музыкі. «Рыгор Раманавіч, — пісаў прафесар Маскоўскай кансерваторыі В.Ф.Балашоў, — выходзіў на эстраду, як на сялянскую працу — дзелавіта, проста, без ніякай позы. Трывала, надзейна, разгарнуўшы плечы, станавіўся перад хорам, нячутна падаваў тон, узмахваў упэўненай рукой, і дружна, быццам сама сабой, узнікала песня, харавая гармонія сапраўднага хараства.

Хор у яго гучаў так, быццам гэта былі інструменты старадаўніх італьянскіх майстроў. Прыродныя тэмбры галасоў ад цеплыні чалавечых пачуццяў нібы плавіліся, утва-раючы нешта адзінае па музычнаму тону, па характару самой харавой гармоніі. Ці гэта была беларуская, чыста нацыянальная пявучасць, ці высокага класа школа харавых спеваў — сказаць цяжка.

Відавочна, гэта быў шчаслівы «шлюб» прыроднага пеўчага таленту спевакоў і таінства ўмелага майстра. Ніякай артыстычнасцю і так званай тэхнікай ён не вызначаўся і, відаць, не імкнуўся да гэтага, ва ўсякім выпадку вонкавых эфектаў. Але якая здзіўляючая была зладжанасць ансамбля, гнуткасць дынамікі, не гаворачы пра чысціню ладу — ён быў бездакорны. Усё дыхала свабодай, нараджала радасць музычнага свята»[1].

Рыгор Раманавіч Шырма, дарагі дзядзька Рыгор, Маэстра, адыходзіў ад нас вясною 1978 года. Ён паміраў, як стары гаспадар-земляроб: з адным трывожным клопатам — ці патрапяць дагледзець, як трэба, сыны ўсё жыццё дбайна ўрабляную ніву. Ці не растрасуць, пусцяць па свеце здабытае, назапашванае ахвярнай працай дабро? Пытліва ўглядаўся ў заўтра. Не шкадаваў, што не паспеў напісаць мемуары: не збіраўся ў іх яшчэ раз сцвердзіць сябе, свой час у нечым апраўдацца. Знясілены нялёгкім шляхам, падбіты нягодамі мудрэц, гусляр-чараўнік шкадаваў, што засталася няэдзейсненай яшчэ адна праца — паэзія, як крыніца музыкі, мастацкі апрацаваная песня. Адыходзіў у іншы свет чалавек, які без мала 70 гадоў служыў беларускай песні, стаяў на варце нашай духоўнасці. Не дай Бог нам забыць ягоны подзвіг, яго ўрокі і запаветы.

*1980; 1993*

[1] Балашоў В.Ф. Вялікі талент душы // Песня на ўсё жыццё. Мн., 1983. С. 179—180.

# Песенны скарб братоў Логінаў

Браты Андрэй і Восіп Логіны належаць да тых фалькларыстаў, рупліўцаў народнай мудрасці, чые галасы, імёны не дайшлі да шырэйшай грамадскасці. Іншыя, шчаслівейшыя збіральнікі запісалі часам не так ужо і многа народных твораў. Аднак хоць жменьку іх праз нешматлікія да рэвалюцыі перыядычныя навуковыя выданні здолелі пусціць у грамадскі ўжытак і тым самым зусім не забыты. Прынам-сі, імёны іх можна сустрэць між слоў вялікай кнігі, імя якой, усё роўна напісана ці не напісана яна, — «Гісторыя нацыянальнай культуры». Браты ж Логіны пакінулі нашчадкам цэлы скарб. Адных песень яны запісалі на добрыя два тамы, і, на шчасце, багацце гэта, умелай рукой сабранае семдзесят гадоў таму назад, зберaглося. Андрэй і Восіп Логіны не былі прафесійнымі фалькларыстамі. Усё жыццё скіроўвала іх далекавата ад народна-паэтычнай культуры, занятку ёю. Толькі ў маладыя гады старэйшы з братоў Восіп шчыра захапіўся збіраннем памятак народнай творчасці ды падахвоціў да пачэснай працы гэтай свайго малодшага, Андрэя, і два хлопцы ў роднай вёсцы Моладава, што прытулілася край даліны паміж узгоркаў Навагрудскай зямлі, адкрылі сапраўдны запаветны куток народнай паэзіі. Запісы Логінаў уключаюць каля 800 песень, абрадаў, гульняў. Сярод іх многа сапраўдных узораў народна-паэтычнай традыцыі. Разам узятыя «Мо ладаўскія песні» братоў Логінаў складаюць цэлую паэму народнага жыцця, народнага лёсу. Цяжка пераацаніць іх навуковае і агульна-культурнае значэнне. Вялікая душэўная радасць — услухацца ў срэбны звон гэтай паднавагрудскай крыніцы. Па-свойму цікавае і жыццё саміх збіральнікаў: за пражытым імі, іх бацькамі, дзядамі паўстае жыццёвы лёс некаль-іх пакаленняў з іх неадольным імкненнем да лепшай, вартай чалавека будучыні.

Але спачатку крыху пра саму знаходку, пра тое, з чаго пачаліся «Моладаўскія песні» для аўтара гэтага нарыса. Першай часткай сваёй натрапіліся яны мне вяспой 1975 года ў Ленінградзе. Да таго ў ленінградскія архівы ўдавалася заглянуць толькі наскокам пры нагодзе якой-небудзь фалькларыстычнай канферэнцыі, нечага юбілею. Цяпер жа ехаў дзеля аднаго — няспешна папрацаваць, разведаць, паглядзець, што ёсць у ленінградскіх архіўных сховішчах з беларускай фальклорнай спадчыны. З навуковай літаратуры, архіўных даведнікаў вядома, што там яе нямала: матэрыялы па народазнаўству, у тым ліку беларускаму, назапашваліся рознымі дзяржаўнымі

навуковымі ўстановамі пачынаючы з першай паловы XIX ст. Акрамя таго, у Пецярбургу працавалі многія выдатныя філолагі, звязаныя навуковымі інтарэсамі з Беларуссю. Нашы літаратуразнаўцы, гісторыкі літаратуры, лінгвісты запоўнілі не адну белую старонку ў сваіх навуках, абапіраючыся на звесткі, знойдзеныя ў архівах Ленінграда. Сёе-тое паспелі і фальклары-сты. Але яшчэ вельмі шмат чаго не агледжана. У першы сталы свой заезд я пачаў з Пушкінскага дома, з архіва Інстытута рускай літаратуры.

…Звычайна, калі рукапісы з прынесеных папак бывалі прагледжаны, зроблены выпіскі, а чарговыя заказы яшчэ по былі гатовы, справы рыхтаваліся, каб не марнаваць часу, бег у архіў Акадэміі навук. Балазе ён тут зусім блізка. Варта толькі выскачыць на Неўскую набяражную, абаг-нуць Інстытут заалогіі, у падпорку яго падняцца на другі паверх невысокай старой будыніны. У чытальнай зале архіва — невялікім пакоі, застаўленым шафамі, скрынкамі з картатэкай, густа заселеным супрацоўнікамі не лішне месца прыезнаму люду. Тым больш цэніш сваю лапінку месца за сталом. Заглядаю ў фонды І. Сразнеўскага, У. Ламанскага… Усюды трапляецца нешта цікавае, карыснае нашаму брату-даследчыку. Калі строга не тры-мацца сваёй дзялянкі, то можна патануць у гэтым моры звестак, фактаў, твораў і няшмат паспець зрабіць. Абмяжоўваю сябе фальклорам. Яго шмат у допісах карэспандэнтаў Шэйна. Ёсць апублікаваны фалькларыстам, але шмат і недрукаванага. Работы тут не на адзін заезд. Хоць мала застаецца камандзіровачнага часу, не магу не заглянуць у фонд акадэміка Шахмата-ва. Ёсць вялікі сшытак фальклорных запісаў вучонага, зроблены ім самім у Беларусі: творы розных жанраў, лінгвістычныя нататкі. Але запісанае на хаду, у дарожных умовах, дробным почыркам не вельмі даецца чытаць… А вось сярод папер Шахматава — цэлы зборнік «Беларускія народныя песні вёскі Моладава, Райчанскай воласці, Навагрудскага павета Мен-скай губерні». Сабраў 0. К. Логін, вучань Менскай гімназіі. І далей адрас збіральніка: Менск, Аляксандраўская, 25, рэдакцыя «Лучынкі». Нехта ўжо глядзеў справу № 14, здаецца, рабіў фотакопію. Зараз капіраваць можна толькі выбарачна. Закажаш плёнку, а потым чакай яшчэ невядома колькі. А тут такія песні, што не адарвацца. Самыя арыгінальныя адразу перано-шу сабе ў блакнот. Вясельныя, якія ні ёсць яны паэтычныя, маляўнічыя словам, пакуль што абмінаю. Спяшаюся выпісаць перш-наперш калян-дарныя, бо іх у першую чаргу мне трэба ўставіць у адпаведныя тэмы акадэмічнага выдання беларускай народнай творчасці, што рыхтуе да вы-хаду ў свет акадэмічны Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фалькло-ру Беларусі. Гадавы круг песень у Логінаў пачынаюць калядныя. Мяркую-чы па іх, моладаўцы, асабліва моладзь, некалі вельмі весела, настраёва пра-водзілі калядныя вечары, адзначалі гэта старадаўняе земляробскае свята. Ігрышчы былі з гульнямі, скокамі, карагодамі. Хоць ім і не дараўняцца да карагодаў-танцаў, якія распачыналіся вясной, на вольным паветры. Тут яны былі абмежаваны ў прасторы, ладзіліся ў большай хаце, часцей у кар-чме. Але колькі весялосці, досціпу, гумару было ў словах песень. Гэта не велічальныя калядкі, дзе паважны сталы лад і склад, строгая абрадавая рэ-

гламентацыя, зычэнні як наканаванні. Песні калядных ігрышчаў звонкія, гаманкія і рухавыя, як вясновы ручай. Але і ў іх не адна весялосць, выдумка, кіпенне смеху. І праз іх відаць сам характар святкавання, яго бытавая, абрадавая аснова. Чуецца павага да старога свята, да векавечнай традыцыі. Няхай сабе гэта перадаецца ў жартоўнай форме.

Да я каляду да на кут павяду,
Ой, рана, рана да на кут павяду!
Да мне каляда да гулянне дала.
Да я калядзе кісялю навару,
Што мне каляда да гулянне дала,
Да я калядзе да куцці натаўку,
Што мне каляда да гулянне дала.
Да я калядзе пірагоў напяку,
Што мне каляда да гулянне дала,
Да я калядзе каўбасу спяку,
Што мне каляда да гулянне дала,
Да я каляду да з кута павяду,
Што мне каляда да гулянне ўняла,
Ой, рана, рана да гулянне ўняла.

Але на тое і жартоўная песня, гульня, каб у іх былі і артыстызм і выдумка. І вось дзеля пацехі, весялосці калядная песня вядзе дыялог ваўка і казы. Яго, напэўна, спявалі падтанцоўваючы.

А ў канцы сяла да стаіць вярба.
Каляда да ты калядзіца!
Да на той вярбе да дзіка каза,
Прыйшоў да яе да сівы ваўчок.
Да злезь, каза, да патанцуйма,
Да патанцуйма, да пажартуйма!
Да не палезу, бо цябе баюся:
Калі ў цябе, воўча, вялікія вочы.
Я ў караля быў, усю ноч свяціў,
Усю ноч свяціў, вочы павялічыў.
У канцы сяла да стаіць вярба.

— Калі у цябе, воўча, вялікія лапы
— Я ў караля быў, на вяселі быў,
Каравай пляскаў, лапы распляскаў.

— Калі ў цябе, воўча, галава вяліка.
— Я ў караля быў, усё судэ судзіў,
Усё судэ судзіў, галаву паклапаціў.

— Калі ў цябе, воўча, хвост вялікі.
— Я ў караля быў, пакої замятаў,
Пакоі замятаў, хвост размахаў,
Каляда да ты калядзіца!

Але часцей у моладаўскіх калядных чуўся жарт, насмешка з дзяўчат суседніх вёсак, якіх каляда расчэсвае нібыта конскім капытом, а заплятае лазовым лыкам, лёгкае пасміханне з сваіх хлопцаў. Толькі адна з дваццаці з лішкам запісаных у Моладаве была абходная, спяваная пад вокнамі ці ў хаце гаспадару. І тая мела жартоўны змест, супрацьпастаўляла вясковых гаспадароў аднаго аднаму. Ды, зрэшты, і яна магла спявацца на гульбішчы, дзе непасрэдна не былі гаспадары, але затое, пэўна, прысутнічалі іх дарослыя дзеці.

Пайшла каляда калядуючы,
Каляда да ты калядзіца!
А за ёю хлопцы жабруючы.
Зайшла каляда да пана Якіма,
— Чым у пана Якіма вароты завешаны?
— То стужкамі, то паскамі,
Званке звоняць, сватэ едуць.
Аддай дачку хоць ядыначку!
Пайшла каляда калядуючы.
Каляда да ты калядзіца!
За ёй хлопцы жабруючы.
Зайшла каляда да пана Уласа.
Чым у пана Уласа вароты завешаны?
Валкамі, валкамі, усё качалкамі,
Лапцямі, лапцямі, усё анучамі.
Пайшла каляда калядуючы,
Каляда да ты калядзіца!
За ёй хлопцы жабруючы,
Зайшла каляда ў Янкавы вароты,
А ў пана Янка да куццю таўкуць,
Куццю таўкуць, кісель вараць,
Кісель вараць, дзеці плачуць,
Дзеці плачуць, кіе скачуць.

Адметныя, самабытныя моладаўскія калядкі, усе дваццаць чатыры, занатаваныя Логінамі. Мала якая з іх паўтараецца ў агульнанацыянальным рэпертуары. І гэтым асабліва цікавыя. Раней, відаць, яны былі вядомы ў шырэйшым рэгіёне, але, не сабраныя ў час, адышлі назаўсёды разам са старэйшым пакаленнем, сваім носьбітам.

У першай частцы рукапіснага зборніка «Моладаўскіх песень» за каляднымі ішлі адразу летнія. Укладальнік падаваў іх, як збіраліся. Жніўных бралася пад

капу, і вызначаліся яны паўнатою тэкстаў, цікавымі варыянтамі, а дзе-якая і навізной сюжэта, паэтычнага вобраза, адметнай трактоўкай ужо вядомага ў нацыянальным рэпертуары. Згадалася кароткая заўвага збіральніка: «За кароткі час (з жніўня мінулага года, а пісалася гэта ў маі 1914) у мяне набралася з адной толькі нашай вёскі больш 700 песень. Добрая трэць іх запісана ад адной асобы». У каляндарных песнях, асабліва жніўных, выразна чуўся вобразны лад, стыль адной спявачкі. Пазней нечакана для сябе мне ўдасца даведацца яе імя. Звалі яе Марыля Арцюх. Гэта была не проста спявачка, а адна з тых, чыім паэтычным дарам не толькі трымалася, а і развівалася мастацкая традыцыя народа.

Том жніўных песень з музыказнаўцам Віктарам Ялатавым мы нядаўна пусцілі ў свет. Жніўныя з самых розных мясцін, практычна з ‘ўсяго беларускага этнічнага абшару, у мяне былі на слыху. Няцяжка было адчуць, што мо-ладаўскае «лета», моладаўскае «жніво» мелі свой водар, сваё слоўна-вобразнае характво пры пэўнай залежнасці ад агульнабеларускага песеннага фонду. Нельга было не пашкадаваць, што жніўны том, які ўжо нельга паўтарыць, без моладаўскіх песень пайшоў да людзей бяднейшы. Бяднейшы без такіх энергічных, вобразных радкоў, як гэтыя:

Да павень, ветру, ў полі,
Да паруш калаколы,
Няхай нашы званы звоняць,
Няхай нашы панэ чуюць.
Нам палудзень гатуюць…

Песня спявалася некалі на ніве пана-прыгонніка, а па тону яе гучання не скажаш, што належала яна людзям забітым няволяй, цяжкай працай, Чуецца ў ёй сіла, воля, годнасць чалавечая. Увогуле моладаўскія жніўныя песні ўзбагачалі сацыяльнае гучанне жанру. Да вядомых класічных жніўных, дзе яскрава выяўлялася сацыяльная народная свядомасць, яны дадавалі новыя штрыхі, новыя тэмы. Часта рабілася гэта ў энергічным працоўным рытме.

Пражані, божа, хмарку
Да на Русь, на татарку,
Да дзе панэ рылатыя,
А мужыке багатыя,
Пякуць хлябэ рагатыя,
Ядуць хлеба па бахану,
А п’юць вады па барылу…

Часта ў песнях чулася насмешка, што ішла ад усведамлення сваёй чалавечай працоўнай годнасці. І насмешка гэта ўбіралася ў форму тонкага досціпу, зусім бяскрыўднага на першы погляд.

Да раўнуйце постаці,
Бо ўжо пара дадому йсці —
На постаці раса пала,
На коласе і другая,
На постаці ледавая,
На коласе медавая,
На постаці валэ з'ядуць,
На коласе панэ сап'юць.
Валэ з'ядуць рагатыя,
Панэ сап'юць багатыя.
Валэ з'ядуць — гарапь будуць,
Панэ сап'юць — гуляць будуць…

Міжволі бачыцца за гэтымі словамі, вобразамі, тонам паэтычнай размовы вясёлая, дужая грамада жней, свядомая не толькі сваёй працоўнай сілы, але і духоўнай моцы, годнасці. У жніўных песнях часу прыгону часта гучаць асуджэнне, праклёны не толькі самому пану, але і яго прыслужнікам, асабліва прыганятым, дзесятнікам. І моладаўскія песні тут не складаюць выключэння.

Цёмна ў полі, цёмна,
Бадай, таму ў вачах цёмна,
Хто нас рана выганяе,
Позненечка пратрымае…

Але вось нечаканы паварот у ацэнцы цівуна відаць, прадыктаваны нейкай канкрэтнай асобай, не пазбаўленай чалавечнасці, спагады, бо чалавечнасць адклікаецца на чалавечнасць, людскасць. Моладаўская жніўная «Закурэўся кураўко» сведчыць аб неадназначнасці сацыяльнай ацэнкі, псіхалагізме абрадавай песні, тонкага строю душы ў народнага паэта.

Закурэўся кураўко,
Зажурыўся ціунко:
— У мяне ў полі дабра многа,
А ў гумне ні коласа.

Дабра многа, відаць, панскага, на панскім полі. Наўрад народ хай сабе і вуснамі цівуна забедаваў бы над тым, што пустуе панскае гумно. Сацыяльна, псіхалагічна гэта было б неапраўдана. Дзе б узялася такая пранікнёнасць інтанацыі, каб гутарка ішла аб благім, непрымальным чалавеку, заўзятым прыслужніку эксплуататарам-крыўдзіцелям. І яшчэ цікава, як пашыраны ў беларускай жніўнай паэзіі зыходны вобраз, радок «закурэўся ціхі дробны дожджык» у моладаўскай песні скандэнсаваны ў адным слове «кураўко» — «закурэўся кураўко». Паэтычна, запамінальна.

Добра сустрэць рысы адметнасці мясцовага стылю, або стылю канкрэтнай спявачкі, у знаёмым сюжэце. Так, часта звярталася колішняя жняя

да сведкі сваёй нялёгкай працы — сонейка. У песнях гэты зварот жней паўтараецца на розныя лады. Сэнс яго адзін. Хутчэй заходзь. Схавайся за лес, за горы. Будзь спагаднае. Дан адпачыць стомленым за доўті летні дзень рукам, вачам, спіне.

Іншы вобраз, вобраз нязменна цяжкай працы на жніве, моцна стомленых на ніве людзей малюе песня «Да заляж, сонца, заляж». Зноў жа з сваім мясцовым, адметным «заляж» замест «зайдзі», «закаціся».

Ды заляж, сонца, заляж,
Наглядзелася на нас.
Сярпэ жалі — нажаліся,
Ручкі бралі — набраліся,
Насвяціліся вочкі
Аж да цёмнае ночкі.

У той год у Ленінградзе мне добра працавалася. Песенны матэрыял у акадэмічным архіве сам ішоў у рукі, быў невычэрпны. Нязнаныя раней паэтычныя песенныя радкі радасцю адгукаліся ў сэрцы. Пасля архіва, які зачыняецца ранавата, а пятай, ішоў на пару гадзін у акадэмічную бібліятэку. Яна таксама была побач, тут жа на пачатку Васільеўскага вострава. У ёй можна знайсці амаль усё з дарэвалюцыйнай перыёдыкі, што ў нас у Менску прадстаўлена ўрывачна, няпоўна. Пералістаў календары

Слупскага, Доўнар-Запольскага, «Минский листок». Там скрозь нямала беларускага фальклорнага матэрыялу, часам цікава прабіваецца на свет грамадская думка Беларусі 80—90-х гадоў мінулага стагоддзя. Нечакана ўзрадавалі старыя беларускія падручнікі, якія надзіва многа ўвабралі ў сябе народнай мудрасці — паданняў, казак, песень, загадак, прыказак, — проста рунеюць імі. Цяжка было ўтрымацца, каб не пагартаць першы беларускі савецкі часопіс «Вольны сцяг». У Менску на той час не было поўнага яго камплекту. Проста ашаламіла апублікаваная на яго старонках драма Леапольда Родзевіча «Пакрыўджаныя». Глыбокай непасрэднасцю пачуцця, проста нейкай язычніцкай сілай павеяла ад твора. Усё гэта неяк вастрэй дало адчуць, канкрэтней думаць пра тых, хто на золку стагоддзя, у гады рэвалюцыі тут, у сталіцы царскай імперыі пачаў рупіцца аб духоўным развіцці нашага народа, марыў аб высокім светлым гмаху яго культуры. Аднаго вечара, выскачыўшы з бібліятэкі, трамваем пад’ехаў у глыбіню Васільеўскага вострава, на 4-ю лінію. У падворку высокага старога цаглянага дома пад № 45 стараўся ўгадаць, дзе на якім паверсе была калісь кватэра 16 — сядзіба выдавецкай суполкі беларусаў-пецярбуржцаў. Жыў тут прафесар Б. І. Эпімах-Шыпіла. Дах гасціннай кватэры вучонага прытуліў у 10-я гады не аднаго маладога земляка з Беларусі, які шукаў у сталіцы ведаў, навукі, працы — духоўнага ці звычайнага, надзённага хлеба. Не трэба было быць экзальтаваным, неяк асабліва настроеным, каб цяпер тут у вечаровым вясновым сутонні ўбачыць цені-постаці маладога Купалы, Ігната Буйніцкага, Браніслава Тарашкевіча, Жылуновіча-Гартнага, Антона Грыневіча, Язэпа

Драздовіча, іншых вядомых і невядомых нам людзей, што прычыніліся да ўзбагачэння духоўнай скарбніцы нашага народа, пакінулі след у яго жыцці ці нават сталі яго гордасцю. Усе яны бывалі тут, разам снавалі залатыя сны аб будучыні.

Ленінград літаратурны, мастацкі, гістарычны быў для мяне ўжо зболыпага знаёмы з ранейшых паездак. Удалося пабываць і ў некаторых славутых падленінградскіх мясцінах. Цяпер выхадныя меркаваў ахвяраваць дзеля наведання Пушкіна, Паўлаўска. Вандроўка ў Рэпіна адкладвалася на далей, бо ў адной камандзі-роўцы толькі адны субота і нядзеля. У Пушкіна трапіў у ясны, сонечны дзень. На дарожках велічнага старога парку, на лугавінах пад засенню векавечных паркавых дрэў, толькі што ўкрытых маладой празрыстай лістотай — скрозь людзі, цэлы турыстычны патоп. Адноўлены Кацярынінскі палац у іх аблозе. Кіруюся туды, дзе вальней і, галоўнае, куды кліча сэрца. Нядаўна рэстаўраваны Царскасельскі ліцэй. Дзяўчаткі-экскурсаводы, відаць, зусім нядаўна пасля філфака. І ў гэтых адноўленых пакоях, дзе гаманіла, сваволыначала «юнае пушкінскае племя», дзе ўсё таксама новае, не страціла першароднага сэнсу, пранікнёна, з сардэчным запалам расказваюць пра жыццё, вучобу ліцэістаў. Са змешаным пачуццём рэальнага і неверагоднага аглядаем крайні ззаду ад акна, здаецца, адзінаццаты па ліку, стол-парту, за якім сядзеў Саша Пушкін, пакой-камеру, дзе стаяць сціплыя ложкі юнага паэта і яго ліцэйскага таварыша Пушчына… Пасля такога агляду крыху хочацца пабыць сам-насам. Неяк перажыць і асэнсаваць убачана, паслухаць, што ціха звініць, перамяжаючыся смуткам і радасцю, у тваёй душы.

Моцна не шкадаваў, не трапіў у велічны увесь нават знадворку ў пазалоце ды ультрамарыне, што пераклікаюцца з сонцам, блакітам неба, Кацярынінскі палац. Бачыў казачныя раскошу і багацце Пецяргофа, Араніенбаўма, Варанцоўскага палаца ў Алупцы.

З часам з глыбіні свядомасці стала ўздымацца непрыняцце нечага істотнага ў гэтым цудзе багацця і харства. Можа, сацыяльная, гнеўная лірыка Купалы і Шаўчэнкі, якая арганічна лягла на дупгу ў юначыя гады, не давала захінуць раскошнаму харству цуда-палацаў дэспатызму колішніх уладароў яго. Можа, песні беларускіх жней, што цяпер заўсёды са мной, схілялі да сацыяльнай ацэнкі, змяншалі захапленне. Ва ўсякім разе пасля чарговай вандроўкі да царскіх рэзідэнцый як помнікаў гісторыі (няёмка нават прызнацца), у архіў я вяртаўся з думкай, што ўсё ж большая радасць, узрушэнне чакаюць мяне тут. У народнай творчасці, класічных яе ўзорах, знаходжу і веліч духу, і пранікнёную любоў да чалавека, і высокае мастацтва слова. У новы прыезд у Ленінград працу ў акадэмічным архіве спалучаў з пошукамі ў Геаграфічным таварыстве СССР на Грыўцова, 10, што за плошчаю Дзекабрыстаў. З раніцы ў адным месцы, як хапала заказаных матэрыялаў, па абедзе — у другім. У архіве Геаграфічнага таварыства таксама багаты збор беларускай народнай паэзіі, параскіданай па розных этнаграфічных апісаннях, адказах на анкеты, якія актыўна рассылаліся колішнім РГТ, пачынаючы, з часу яго заснавання ў 1847 годзе. Перапісваць

лепшыя ўзоры іх — таксама радасць. Сабраныя ў час свайго арганічнага жыцця ў народзе, паўсюднага бытавання, творы гэтыя поўныя пачуцця, паэзіі, падкупляюць непаўторнасцю слоў, зваротаў, вобразаў. Работа ішла спорна. Выпісана многа новых, арыгінальных песень. Але найбольшай знаходкай для мяне ўсё яшчэ заставаліся «Моладаўскія песні» братоў Логінаў. Цяпер я перачытваў іх не выбарачна, як першы раз, а па парадку, так, як былі размешчаны збіральнікамі. А тут на першых ста старонках гаманіла, спявала моладаўскае беларускае вяселле. Малады фалькларыст добра разумеў, якая гэта скарбніца духоўнага жыцця народа — вясельная паэзія, і імкнуўся сабраць як найпаўней дыяментныя россыпы яе. Рабіў агаворку, што пададзены запіс абраду ды і песень яшчэ не поўны, хоць тэкстаў набіралася пад дзвесце нумароў. Перапісаць усё з натаванага Логінамі на вяселлі я не мог ды і не збіраўся. Выбіраў перш-наперш самае новае, нечаканае для сябе, пазначанае магіяй мастацтва.

Колам, колам сонейка ходзіць,  
Малады Мікалайка за стол заходзіць,  
За стол заходзіць лісты пісаці,  
Лісты пісаці, да цешчы слаці,  
Каб было ў цешчы ўсё напагатове.  
Каб былі брамы ды паадчыняны,  
Дубовыя столікі да пазасціланы,  
Мядовыя кубачкі да паналіваны.

Драматычны момант, звычайна моцна, з акцэнтам выражаны ў сірочых вясельных, тут быў неяк крыху прыглушаны, мажа, ад больш стрыманай манеры яго падачы. Адначасна нёс нейкія новыя нюансы ў перажыванні, быў цікавы паэтычным абагульненнем у заключных радках і нечакана ўведзеным у мастацкую тканіну вобразам «інейко».

Пайшло інейко да па затынейку,  
Зямлю-зямліцу пакрываючы,  
Высокае тынейко даставаючы,  
Пайшла Манечка да па застолейку,  
Зямлю-зямліцу аступаючы,  
Роднага войчаньку спамінаючы:  
— Зямля-зямліца, дай ты сырэнькая,  
Узяла майго войчанька маладзенькага,  
Да не дала мяне падгадаваці,  
З добрымі людзьмі да параўнаваці.

Паднавагрудская вясельная пераклікалася часам вобразамі, сюжэтамі з вясельнымі песнямі іншых мясцін беларускай зямлі. Але шмат было ў ёй адметнага, свайго, абумоўленага мясцовай традыцыяй, моўным каларытам: вымаўленнем імён, асобных слоў з канчаткам «о», паслядоўным захаваннем

старой формы парнага ліку. Нават пры традыцыйных вобразах гэта надавала песенным радкам адметнасць, а пры нейкіх новых паэтычных паваротах — свежасць гучання.

Вой лець, саколе, да не залятайся
Да цераз тры полі да цераз чатыры.
Да едзь, Мікалайко, да цераз тры сяле,
Да цераз тры сяле, да цераз чатыры,
Прыпыніся, Мікалайко, у пятым сяле,
У пятым сяле, у цесця на дварэ.
Што ты, Мікалайко, у цесця лепей любіш?
Ці любіш падвор'е, што яно навенько,
Ці любіш застолле, што яно кругленько,
Ці любіш цесцятко, што він<br>ом вітае,
Ці любіш дзеваньку — хораша гуляе?
— Люблю падвор'е, што яно навенько,
Люблю застолле, што яно крутленько,
Люблю цесцятко, што віном вітае,
А дзеваньку лепей: хораша гуляе.

Беларускае вяселле мела калісь багаты абрад. У ім знайшлі выражэнне розныя народныя ўяўленні аб жыцці чалавека, сямейных адносінах у прыватнасці. Абрад быў той канвой, на якой адбывалася вяселле, яго сцэнарыем. П. В. Шэйн сведчыць, што пасля адмены прыгоннага права на Віцебшчыне вяселле спраўлялі, гулялі на працягу двух тыдняў. Гэта вялікая радасць адчуць сябе незалежным ад панскай ласкі і няласкі ў гэтым інтымнейш для кожнага чалавека перажыванні, свяце. Пазней жыццё само рэгламентавала гэту важную падзею ў лёсе кожнага чалавека. Вяселле стала спраўляцца за два-тры дні. Але і тады, калі яно расцягвалася на тыдзень і болей, усё «забяспечвалася» абрадавым рытуалам, багатым песенным суправаджэннем. Невыпадкова беларускае вяселле першыя даследчыкі яго называлі операй.

Аорады моладаўскага вяселля развіваліся ў рэчышчы агульнанацыянальных традыдый. У іх вялікае значэнне прыдавалася хлебу. Абрадавым дзеянням, звязаным з ім. Маладая сыпле жытняе зерне, адпраўляючыся да шлюбу, пераступіўшы парог свёкравага дома. Цікава, што ўсе абрады, пачынаючы ад самых старажытных, сямейныя і каляндарныя, мелі песеннае ўвасабленне, вобразна-паэтычную інтэрпрэтацыю. Такім чынам, сам абрад складаў частку паэзіі таго ці іншага жанру.

Выкананне традыцыі, асвечанай стагоддзямі, у сістэме народных поглядаў было падставай, крытэрыем маральнай ацэнкі чалавека. Часта абрадавая песня — яшчэ цікавы ўзор таго, як дасягалася паэтызацыя простага абрадавага дзеяння, рытуалу. У вясельнай песні, якой на Навагрудчыне сустракалі маладую ў свёкравай хаце, ёсць маральна-ацэначны момант нявесты і відаць працэс ператварэння бытавога, рытуальнага ў факт паэзіі, мастацтва.

Знаці, знаці гаспадынька ў хаце,
Да ў хатку ўвайшла — работку знайшла:
Насеяла жыта па ўсіх куточках.
— Каб маё жыта тут разраслося,
Каб маё жыццё тут павялося.

Падкупляюць моладаўскія песні, зрэшты, як і ўся народная паэзія ў лепшых яе формах, пранікнёна-зычлівым поглядам на чалавека, нязмушаным гуманізмам, што арганічна вырастае з глыбіняў народнага светапогляду. Вось абразок з заключнага этапу вяселля:

Мікалайкаў войчанька па садочку пахаджае,
Па садочку пахаджае, зязюльку сухваляе:
— Зязюлько, зязюлько, каб ты здарова кавала.
Прыкукавала мне да нявехначку,
К дому дамоўніцу, а к полю работніцу,
К суседзям прыветніцу.

Абрадавая песня не забывае сваёй асноўнай функцыі — нязмушана павучаць, стаяць на варце маральных запаветаў продкаў, перадаваць іх этычныя нормы пашчадкам. Каб вечна красавала жыццё, яго плынь кіравалася правільным, пазначаным вопытам, справядлівасцю, маральнасцю папрамкам.

Слова «нявехна», нейкае старажытнае, дзіўнае па сваім гучанні, па асацыяцыі кліча згадкі Багдановічавых радкоў пра даўнюю Беларусь: «Як нявехна ў няроўнай сям'і, ты багацце сабе не прыдбала, залатыя кляйноты сваі пышным сёстрам сваім даравала». Нявехна-радзіма і ў Купалы ў паэме «Безназоўнае».

Але зноў вяртаешся да моладаўскіх песень. Раптам сярод вясельных, у іх — карагод. Невялікі, у шэсць радкоў. Але які яскравы зрокавы вобраз, як чуецца танковы рытм, а апошнія радкі так спрытна, умела замкнуты звонкай, запамінальнай, на ўсю глыбіню канцовых слоў, рыфмай:

Чый там карагод ходзіць,
Семсот да людзей водзіць?
Мікалайкаў карагод ходзіць,
Семсот да людзей водзіць.
На Мікалайкавым карагодзе
Пілі, елі — покуль годзе.

Хто быў гэты Мікалайка? Сын моладаўскай спявачкі Міхальчыхі? Успамін яе маладосці? Часта ён мільгае ў песнях. Міжволі чуеш яго голас, бачыш удалога хлопца, можа, завадатара вясковай моладзі, добрага знаўцу народных традыцый, танцора, спевака. А хто ж такія браты Логіны, што пакінулі нам свет моладаўскіх песень, які іх лёс? Куды вывелі іх жыццёвыя сцежкі?

Можа, яшчэ дзе-небудзь засталіся іх фальклорныя запісы? Прайшло шмат часу. Першыя рукапісы Логінаў трапілі да акадэміка Шахматава на пачатку стагоддзя. Калі пгукаць слядоў невядомых фалькларыстаў, то хіба толькі пачаўшы з іх родных мясцін. 3 самога Моладава.

Летам 1978 года фальклорная экспедыцыя нашага інстытута якраз планавалася на Навагрудчыну. Там яшчэ акадэмічныя фалькларысты не былі. Трэба было сабраць новы матэрыял для шматтомніка, прайсціся сцежкамі ранейшых збіральнікаў Яна Чачота, Яна Кліха, Міхала Федароўскага. Была спакуса пабываць у мясцінах маладосці Адама Міцкевіча, заглянуць у Сіняўскую Слабаду над Нёманам, родную вёсуц цудоўнага літаратуразнаўца і пісьменніка Уладзіміра Калесніка, які не толькі мне быў хросным бацькам пры пасвячэнні ў фалькларыстыку. Але мусіў адмовіцца ад такой шырокай «праграмы». Адкласці здзяйсненне задумкі да вальнейшых часоў. Цяпер жа трэба было ехаць у Моладава. Каб не спазніцца. Радзіма Логінаў недалёка ад Навагрудка. Усяго дзесяць кіламетраў на ўсход ад яго. Але, каб трапіць туды, давялося ехаць доўга, у аб’езд. Прамой праезнай дарогі да Моладава не было. Нырaлі мы з Васілём Скіданам ды вадзіцелем нашага «пазіка» з узгорка ў даліну ды зноўна ўзгорак, аж пакуль за невялікім лесам не адкрыўся від на вёску, што ляжала ля падножжа ўзгоркаў, спускалася асобнымі хатамі сваімі да лугавіны на поўдні. Настаўніца мясцовай чатырохгодкі сказала, што прозвішча Логін звялося ў іх вёсцы. Застаўся толькі пляменнік іх роду, Канстанцін Арцюх. Настаўніцы ўдалося хутка ўладкаваць мяне на пару дзён тут у ціхай старой жанчыны, якая жыла на старасці пры малодшай дачцэ, кабеціне руплівай, адзінокай. За старой хатай ледзь не адразу пачынаўся дубняк. Над забрукаваным падворкам распасцерла шырокія бронзавыя галіны старая сасна. Скінуўшы дарожны пляцак, без магнітафона адразу адправіўся паглядзець вёску, спытаць, ці ёсць хто з жанчын-песельніц. Хутка аказаўся ў акружэнні дзяцей. Яны ахвотна сталі маімі зычлівымі праваднікамі. Кінулася ў вочы, што малога гаманлівага народу гэтага на моладаўскай вуліцы нечакана шмат для сягонняшнян вёскі. Праўда, было ў разгары лета і гарадскія бацькі маглі падкінуць бабкам і дзядам сваіх дзяцей на вясковую летнюю раскошу, як гэта ўсюды цяпер робіцца. Але прыслухаўшыся, упэўніўся, што дзятва не гасцявая, бо гаварыла па-беларуску, са сваім навагрудскім «о» на канцы слоў: «дзядзько», «татко», «Сяргейко». Пазней даведаўся, што толькі нейкіх пяць год таму назад моладаўцы пачалі пакрысе выязджаць на заработкі, з’язджаць у свет. А то нават тыя,хто вучыўся, патраплялі вяртацца ў родныя ваколіцы.

Вечарам мы сядзелі ў хаце апошняга ў Моладаве адростка роду Логінаў, незнаёмыя узаемна ўзрадаваныя нечаканай сустрэчай. Андрэй Канстанцінавіч Логін, нетаропкі высокі мужчына гадоў пяцідзесяці, не хаваў здзіўлення, нават расчуленасці ад таго, што незнаёмы чалавек з Менска, з Акадэміі навук шукае звестак пра яго дзядзькоў, пачціва гаворыць пра іх, сабраныя імі і захаваныя аж у Ленінградзе моладаўскія песні. Хутка ўся сям’я была ўцягнута ў развагі, меркаванні, успаміны. Жонка гаспадара Ніна, жвавая

зграбная кабета, трапяткая, дзіўна прыгожая дачка (такой бы на экран, на сцэну), якой карцела даведацца штосьці пра тых далёкіх незнаёмых яе родзічаў, што згубіліся дзесь у свеце, цікавыя людзям праз сабраныя імі песні. Баба Антоля была дзеўчынёхай, як з'ехалі старэйшыя Логіны некуды ў Расію. А песні, хоць і цяжкавата ў яе 90 год, успомніла. Некалькі жніўных пра пожню і сонейка. Недзе з дна памяці, з часоў далёкай маладосці ўзышлі. Дзесь у сярэдзіне размовы Андрэй Канстанцінавіч папрасіў жонку пашукаць старыя здымкі, беражоныя маці. На тоўстай паперы з адбіткам медалёў на адвароце (умелі фатографы даўнейшай пары надаць форсу сваёй фірме: спецыяльнасць жа была своеасаблівая, напачатку ў нечым нават таямнічая) здымкі цікавыя ўжо самі па сабе, як сведкі гісторыі, дакументы даўняга часу. На адным хударлявы гімназіст у форменцы. На адвароце подпіс, ужо знаёмы мне імклівым почыркам, «Осип Логин». Далей, на наступнай, малады чалавек: лёгкі паварот галавы, тоўставатыя губы. Увесь сабраны і нейкі адкрыты ўсяму. Адкрыты позіркам, паставай. Фотаздымак паясны. Сарочка схоплівае малады, вузкаплечы, лёгкі стан. У выразе вачэй, лініях ілба застылі сур'ёзнасць, можа, затоены боль. Так выглядаў ён у маладосці, Юзік Логін, фалькларыст-пачатковец, малады руплівец роднай культуры, палоннік народнай песні, яе захавальнік.

З Моладава я ад'язджаў, маючы, як высветлілася, сапраўдны ключ для далейшага пошуку. У мяне быў цяпер чарнігаўскі адрас малодшага брата Логіна, Андрэя Калістратавіча. Памочнік галоўнага збіральніка моладаўскіх песень стаяў на парозе дзевятага дзесятка свайго жыцця. Трэба было спяшацца пачуць з яго вуснаў гісторыю збірання песень у Моладаве і ўсё, што з ёй звязана, даведацца пра лёс старэйшага Логіна. Яшчэ карцела думка, ці не захаваліся іншыя часткі песеннага зборніка. Ленінградскі рукапіс абяцаў яго працяг. І ён такі быў і захаваўся, дзесяткі гадоў праляжаўшы на гарышчы аднаго з дамоў кіеўскага Кра-шчаціка, дзе ў 20-я гады жылі браты Логіны.

З Моладава я напісаў у Чарнігаў, а сам застаўся яшчэ на два дні, каб паглядзець, што з песень, запісаных Логінамі, засталося на іх радзіме. А раптам і мне трапіцца Міхальчыха, няхай не такая багатая на песні. Можа, дачка ці ўнучка той Міхальчыхі пераняла шчодрую песенную душу сваёй маці, бабулі? Пазней даведаўся, што Міхальчыха такі перадала свой песенны талент. Толькі не дачцэ і не ўнучцы, а сыну Гальяшу. Размінуўся я з ім на нейкі год.

— Ото ўжо песельнік быў, завадатар валачобнікаў, — казалі пра земляка моладаўцы.— Каб крышку раней вы прыехалі. Толькі летась згарнуў рукі.

Ніхто не казаў, бо не ведаў, што гэта быў сын той славутай Міхальчыхі. Прамому нашчадку яе, калі памёр, было за восемдзесят. Самую ж спявачку тут ужо ці хто памятаў. Хіба самыя старэйшыя людзі. Але цяпер мне хадзіла не пра тое. Клапаціла, як знайсці добрага спевака, спявачку, параўнаць логінаўскія запісы з сучаснымі. Які фалькларыст у дарозе не спадзяецца натрапіць на нешта новае, яшчэ не адкрытае? На другі дзень побыту ў Мо-

ладаве я адчуў, што людзі не глядзяць ужо на мяне як на дзівака, які невядома адкуль і чаго прыехаў. Мужчыны пачалі распытваць у мяне хто пра што. Некаму хацелася даведацца, як удакладніць працоўны стаж. Нехта пытаўся, у якой установе, архіве атрымаць даведку аб тым што некалькі месяцаў ваяваў пад Сталінградам, а гэта неяк выпала з біяграфіі, афіцыйна зацверджанай. Хтось паказаў паўз старой ліпы месца, дзе некалі стаяла хата Логінаў.

Вечарам паклікала мая маўклівая гаспадыня, сказала, што прыйшла Надзея Гальяшова. Яна прыпомніла песні, можа праспяваць. У першы дзень, даведаўшыся, што насустрач мне ідзе па вуліцы дачка самага славутага ў Моладаве спевака, перапыніў яе, спытаўся пра бацьку і пра тое, ці не ведае песень. Сцуралася: «Дзе іх успомніш, не да песень». Ды другога чакаць і не выпадала. Незнаёмы чалавек зваліўся як снег на галаву са сваімі нечаканымі роспытамі. А зараз прыйшла.

— Калі трэба людзям, цікава нечым, дык чаму не праспяваць. Праўда ж, песні забываюцца. Колькі іх было ў бабы Марылі ды і бацькі. Апошнім часам ужо не давяраў сваёй памяці. Бывала, успомніць нейкую і запіша для сябе.

— То, можа, дзе пад бэлькай ці на гарышчы захаваліся тыя сшыткі? — пытаю.

— А не, змарнаваліся, — адказвае пажылая стомленая кабета.

Ідзём у Гальяшову хату, прасторную, халодную. Гаспадыня чакае дачкі з Магілёва. Пасля смерці бацькі жыве адна. Адзнака самотнасці ляжыць на ўсім. Стыне колішняе песеннае гняздо. Колькі цяпер у вёсцы гэтых адзінокіх людзей. Як свята, чакаюць прыезду на кароткі час дзяцей, унукаў.

— Дзеці, як сонца, — сказала мне Алена Жукоўская ў вёсцы Сівіца, калі спытаў пра сыноў, што жывуць у горадзе. Да канца і не зразумеў, ці паказваюцца рэдка, ці значаць так многа ў жыцці. Відаць, тое і другое. Дзеці, як сонца…

Нялёгка пакідаць парог хаты такіх адзінокіх людзей. Ёсць у іх хлеб і да хлеба. Ні на кога не наракаюць. Хіба толькі на адзіноту. Надзея Гальяшова не наракала ні на што.

— Пакуль я на сваіх нагах, нястрашна. Горай, як захварэеш. Але і тады людзі не пакінуць….

Першая песня, якую нягучна праспявала жанчына, была жартоўная. Уявіў, як гучала яна ў бяседзе, пры зычным застоллі. Далей адна за адной былі прапеты валачобныя песні, тры з тых, з якімі бацька хадзіў на чале гурта кукольнікаў (так завуць тут валачобнікаў) пад вокны моладаўцаў, будзячы моцнымі мужчынскімі галасамі маладое вясновае рэха. Пазней, калі былі знойдзены новыя сшыткі Логінаў з запісамі моладаўскіх песень, я зверыў гэтыя тэксты. Параўнанне было не на карысць таго, што натавалася, пісалася на магнітафонную стужку зараз. Не сказаць, каб з песні зусім «выветрылася» першародная яе краса. Сюжэты спявачка ўзнаўляла дакладна. Нават даўні прыгавор у канцы песні заставаўся перададзены ледзь не слова ў слова.

Ото ж табе, пані гаспадыня,
Песня спета проціў лета,
Проціў лета радлівага,
Проціў году шчаслівага,
Проціў Юр’я ўсім на здароўе!

Але было крыху нешта апушчана. Адзін радок, часам нават не радок, а каларытны эпітэт. Напрыклад, «руннае» поле, якое гаспадар на сходзе снегу едзе на кані аглядаць, стала проста «роўным» полем, і ўжо адчуваецца няхай сабе невялікая страта ў вобразе, шырэй — у паэтычным бачанні, успрыманні веснавой нівы.

Запісваў песні ў некалькіх моладаўскіх жанок.

Адна з моладаўскіх жанчын мне падала надзею на старадаўнюю абрадавую песню. Гэта Наста Ваўчок. Яе неяк не адразу назвалі сярод вясковых пявунняў. Пасля падумалася: «Можа, з-за старасці, акінутасці?» Жыла Ваўчок пад капец вёскі, у сціплай у параўнанні з суседзямі хаце. Застаў яе старэнькую, шчуплую, а касою ля кустоў аа хатай. Каб не пакооы свежаскошанай травы, то цяжкавата і паверыць, што гэта кволая з выгляду кабеціна толькі што ўвіхалася каля такой не па гадах працы. Я папрасў у бабулі касы. Яна была добра асаджана, даволі лёгка шастала па званцы мякка клала зялёны хвошч, рудаватую траву-рабінку Жанчына сказала, што ёй надта цяжка расстацца з кароукай. Такая яна патульная, ласкавая і добрая на малако. Сын у яе ёсць. Жыве у весцы асобна. Кліча да сябе, але ёй адной добра, не хочацца пакідаць стары кут. Сын моцна заняты на рабоце (гэта ён накляпаў касу) і старэнькая сама дае рады, каб яе падласая празімавала з сенам.

Я прайшоў некалькі пакосаў і тым засведчыў перад бабуляй, што перад ёй не чужы зямлі чалавек, а сялянскі сын. Расказаў, чаму, дзеля чаго збіраю песні. Гэта трэба было зрабіць — як папрасіць прабачэння ў жанчыны, занятай не па гадах цяжкай працай. Няхай зразумее, што песні мне трэба не дзеля забавы. Клопат мой — сур’ёзны людскі, грамадскі клопат. Назаўтра, як дамовіліся, Наста Ваўчок у вальнейшы надвячоркавы час прыйшла да суседкі, каб прадыктаваць, праспяваць мне нешта на магнітафон.

Прыйшла прыадзетая, у святочным памаранчавага колеру сачыку, павязаўшы светлую, з далікатнымі ўзорамі хусцінку.

Кожны фальклярыст ведае, як старэйшыя жанкі пры спеве паравых (каляндарных) песень стараюцца пільнавацца асвечанага традыцыяй часу іх выканання. У даўнейшыя часы пары прымеркавання свята трымаліся. Цяпер, вядома, правіла гэта парушана. Але ўсё ж, беручы пад увагу, што праз пару дзен павінен быў наступіць час летняга сонцастаяння, я папрасіў жанчын пачаць з купальскіх песень

— Во якраз пара іх падходзіць, — сказала Настуля Ваучок і прасіла Надзю Новік памагчы ёй звесці песню.— Нядужая я, — апраўдваючыся, кіўнула ў мой бок.

Першая песня «Хадзіла дзевачка па полі да віла вяночак з куколя» ішла з перапынкамі. Не сказаць — спявачка забывалася словы. Крыху бянтэжы-

лася, зацягвала паўзы. Песні яе суседкі не зналі і толькі нясмела падцягвалі. І ў другой пачатай, таксама купальскай, тома была вясельная, але гучала яна вельмі свежа, і мне падумалася: дарэчы будзе ўключыць яе ў том узораў купальскай паэзіі. Веяла ад песні простай і шчырай паэтычнасцю. Была ў ёй натуральная ўмоўнасць, непадробнасць пачуцця.

Зялёная рута, жоўты цвет.
Пытаецца сын у маці, ці ўжо свет.
— Да ўжо, мой дзіцятка, даўно свет,
Да тваёй сястрыцы дома нет.
Да сядай, сыночак, на каня,
Да бяры ножанькі ў страмёна,
Да ляці, сыночак, гаёчкам,
Ці не ўгоніш сястрыцы з званочкам.
— Ляцеў я, мамо, сколькі міль,
Варанога коніка я ўтаміў,
Варанога коніка я ўтаміў, —
Да сваёй сястрыцы не ўганіў,
Чуў я галасочак, як яе,
Плача яна ў свёкраўка на дварэ
У новую камору ідучы,
Белую пасцельку сцелячы.

Некалі, пачаўшы збіраць і крыху вывучаць каляндарную паэзію, не мог зразумець даволі простую, як пазней высветлілася, ісціну — чаму ў яе так часта ўрываюцца вясельныя матывы. У самыя розныя цыклы — веснавы, летні, зімовы. Не кажучы ўжо пра асенні, дзе перадвясельная тэматыка складае ці не асноўны змест. Аднойчы пры чарговым запісе каляндарных песень прыйшла простая адгадка. Вяселлі ж некалі рэгламентаваліся патрэбамі, умовамі жыцця земляроба і ішлі прызначанай чаргой. Най-часцей выбіраўся нейкі вальнейшы час у цягу розных земляробчых работ. Зімой — пасля каляд. Позняй вясной, калі канчалася сяўба і яшчэ не наступіла гарачая пара летніх работ. А найболей увосень, калі ўраджай, гэты найважнейшы клопат селяніна, быў сабраны, азімыя засеяны, у хаце наступаў пэўны дастатак, а новыя палявыя работы былі далёка. Такім чынам, у хожны каляндарны перыяд акрамя асноўнага клопату, звязанага з нівай, узнікаў і іншы, сямейны. Трэба было, як у народзе кажуць, спарадкаваць дзяцей — аддаць замуж дачок, ажаніць сыноў. Вяселлі, якія спраўляліся зімой, вясною і ўвосень, мелі сваё ўласнае абрадавае і песеннае суправаджэнне. Гэта былі ўласна вясельныя абрады, рытуалы, песні. Але вяселле сярод зімы ці вясной, часта бывалі яны і па сёмусе, у пярэдадзень купалля, жніва, уносіла ў каляндарны пласт свае матывы. Пры вясельнай тэматыцы песні гэтыя розніліся ад вясельна-абрадавых тым, што атрыбуты абрада, абрадавы рытуал у іх адсутнічаў або толькі ўпаміналіся. Творы гэтыя не былі вясельныя і ў сціслым сэнсе. Так іменна хочацца тлумачыць прычыну таго, што паэзія кож-

нага каляндарнага перыяду ўключае ў свой фонд песні вясельнай тэматыкі. Зрэшты, каляндарная і сямейна-абрадавая паэзія звязаны здаўна і пэўнымі ўнутранымі сувязямі. Але гэта асобная гаворка. Цяпер час вярнуцца ў Моладава, дзе спявала на магнітафон свае песні Настася Ваўчок. Ад купальскіх мы перайшлі да жніўных, захоўваючы натуральную паслядоўнасць выканання песень гадавога круга. І тут пасля двух-трох жніўных, дажынкавых можна было сарыентавацца, што бабуліны песні амаль даслоўна паўтаралі запісанае Логінамі «лета». Вельмі ўжо былі запамінальныя радкі з жніўнай «Цёмна, цёмна з поля йдучы».

…А хто мае ключы знайдзе,
То пярэйма яму будзе —
Чаша з мёдам залатая
І дзевачка маладая.

Гэтыя словы і навялі на думку аб тоеснасці тэкстаў, што тут жа, маючы пад рукой копію ленінградскага зборніка Логінаў, я змог праверыць. А гэты факт сам падказваў: Наста Ваўчок магла помніць Логінаў: пры запісе песень звычайна збіраўся цэлы гурт спявачак. Бабуля такі памятала, як збіраліся ў новай хаце Логінаў, то ў Міхальчыхі. Яна, праўда, тады мела нейкіх пятнаццаць гадоў і слухала, цікавала за жанкамі і дзяўчатамі, што пелі песні, здалёку, ад парога. Успомніла, што Міхальчысе аднойчы Логін прывёз з Менска вялікую цёплую хустку як гасцінец за песні. Другім жа жанкам і дзяўчатам падараваў па простай хусцінцы… Значыць, свае песні Настуля Ваўчок магла пераняць непасрэдна ад каронных моладаўскіх пявулляў, якія наспявалі Логінам вялікую кайстру словазвоннай паэзіі. Наста Ваўчок не магла сыпнуць песнямі, як зернем з сяўні. Давалі сябе знаць гады. Песні ўспаміналіся не адразу, паволі. Спявачка скора стамлялася. Але, мяркуючы па тым, што яна праспявала, можна было пераканацца: песні ведала, і не абы-якія песні. Каб быў час, наведвацца б да спявачкі штодня на гадзінку тыдзень-два — то можна было б запісаць ад яе нямала цікавых і на сённяшні дзень унікальных радкоў. Але ў скупа адмераны экспедыцыяй час даводзіцца спяшацца, трэба неяк крыху абслухаць ваколіцу, у якую ты трапіў, паспець як мага болей зрабіць.

Вяртаючыся ў перадапошні свой моладаўскі дзень з суседняй вёскі Руднікі, дзе мне зусім не пашанцавала (добры кукольнік Жукоўскі памёр, забраўшы з сабой валачобныя песні, а лепшая спявачка адвезла ў бальніцу хворую маці, і ёй было не да майго фальклорнага клопату), пачуў ля стайні ад мужчыны, што ў вёсцы Мацёшыцы жыве Уладак Альшэўскі. Конюх сам аклікнуў мяне. Чуў, што чалавек збірае песні, чаму не параіць, не падказаць? Калі я пажаліўся калгасніку, што вось, маўляў, не пашанцавала: не заспеў у жывых ні Гальяша, ні Жукоўскага з Руднікаў, ён суцешыў мяне.

— Во ўжо хто Вам наспявае валачобных… Можа, і Гальяш з Жукоўскім столькі іх не помнілі…

Назаўтра зранку шыбую ў Мацёшыцы. Спачатку праз невялікі лес, потым жытняе поле, затым разлеглую пашу. Трошкі імгліць дробны ціхі дождж ык. Лічу яго, згадаўшы народнае павер'е, за добры знак: можа, сягоння пашанцуе на песні. Пастухі паказаді здалёк хату наводшыбе ад вёскі. Кіруюся туды. Насустрач мне цяжкавата падымаецца з ложка стары худзенькі чалавек. Дапытліва ўглядаецца ў вочы, уважліва слухае, што кажу яму аб прычыне свайго візіту, пытаецца, ці шмат ужо выдала Акадэмія тамоў песень і ці няма ў мяне часам хоць аднаго тома з сабою. Па прасторнай, па-даўнейшаму не падзеленай перагародкамі хаце тым часам мітусіцца, снуе маладая чарнявая кабеціна, штось на хаду прыбірае, парадкуе.

Гаспадар запрашае да стала, вельмі ўвішна згарнуўшы папярэдне газеты на лаву.

— Усякіх песень пелася некалі. Усіх не ўпомню, а велікоднымі магу падзяліцца, — адразу абнадзейвае мяне Альшэўскі.— Кажаце, трэба з голасам, пець трэба? То можна і праспяваць. А якую вам — рускую, польскую ці беларускую? — пытае досыць нечакана.

Мне ўсе прыдадуцца, — кажу спеваку, каб не збянтэжыць яго адборам, хоць здагадваюся, што і рускія, і польскія — гэта прыўнесеныя ў народны рэпертуар царквой і касцёлам «Вялік святы» і «Васолы». Экспедыцыя заканчваецца, магнітафоннай стужкі яшчэ спора застаецца. Можна не шкадаваць. Стары не без задавальнення слухае свой голас, некалі, відаць, звонкі, пранікнёны, калі я правяраю, як запісалася першая песня. Усміхаючыся, аглядаецца на хату, дзе на тапчане стаілася, слухае нас жанчына. У Альшэўскім чуецца бывалы валачобнік, пачынальнік, як называлі ў народзе запявалу, завадатара валачобнай ватагі. Ён ведае парадак песням. Пачынае пачціва, са звароту да гаспадара, пытаецца, «ці можна дом звесяліць». Пасля песні, ахвяраванай (так казаў спявак) гаспадару, запяваў адрасаваную гаспадыні. Затым ішлі прысвечаныя дарослым дзецям — хлопцу, дзяўчыне, нясталай дзеўцы або падлетку. Усе валачобныя ў Альшэўскага, каму б яны ні прызначаліся, заканчваліся разгорнутым пажаданнем. У песні, звернутай да гаспадара, як і ў большасці падобных валачобных, гаварылася пра асноўны клопат земляроба — ніву, маляваўся словам, прадказваўся небывалы ўраджай на ёй. А ў самім пажаданні-зычэнні чуўся водгук даўняга язычніцкага заклінання. Магічным словам, імператыўнай загаднай формай старажытны земляроб імкнуўся паўплываць на прыроду, прымусіць яе спрыяць чалавеку. Валачобная гаспадыні ў Альшэўскага была асабліва ўважлівая да клопатаў жанчынысялянкі. Яна зычыла-прадракала ёй вялікі ўраджай гародніны, ільну, падхвальвала матчыну ўцеху і надзею — дзяцей. Песня абяцала дзяўчыне незвычайнага жаніха, наказвала, быццам ён вось ужо едзе з нейкіх нетутэйшых далёкіх краёў. У валачобных дзяўчыне і гаспадыні было шмат паланізмаў, чулася імкненне патрапіць нейкім вытанчаным, ці, прынамсі, уяўна вытанчаным густам. Я ведаў, што да валачобнай традыцыі недзе ў XVII—XVIII стст. прычыніліся шкаляры, жакі, вучні шматлікіх у сярэдня-

вечнай Беларусі езуіцкіх, піярскіх, дамініканскіх і базыльянскіх школ. Ад Альшэўскага пачуў яшчэ адну прычыну дамешкі невялікай долі сюжэтаў апакрыфічнага зместу, польскіх ці беларуска-польскіх тэкстаў у рэпертуар валачобнікаў. Альшэўскі з практыкі ў сваёй ваколіцы расказаў, што спевакі не хацелі мінаць у час валачобнага абходу двароў прыпалячанай шляхты, што сядзела тут па засценках: ганарыстасць прымушала яе, звычайна скнарлівую, не скупіцца на пачастунак валачобнікам за праспяваную песню. Таму валачобнікі імкнуліся іншы раз дагадзіць і панскім словам. Паколькі тэксты былі ўсё ж беларускія, старажытныя асновай, то нешта змяніць, каб патрапіць адрасату, лягчэй было ў самім віншаванні, пры выказванні пажаданняў.

На той час побыту ў Моладаве ў мяне яшчэ не было кіеўскіх сшыткаў, усіх запісаў Логінаў, каб параўнаць сабранае цяпер з тым, што бытавала тут раней. Не было і пятнаццаці валачобных, сярод якіх дзесятак мог аздобіць любы паэтычны зборнік, любую хрэстаматыю. Убачыць усю фальклорную калекцыю Логінаў удалося праз паўгода. За яе яшчэ давялоося пахвалявацца.

Ліст ад малодшага Логіна з Чарнігава прыйшоў хутка, толькі я паспеў вярнуцца ў Менск. Андрэй Калістратавіч коратка паведамляў пра сябе, паўней расказваў пра свайго старэйшага брата Восіпа і пісаў, што адшуканыя рукапісы моладаўскіх песень ён адаслаў у 1963 годзе ў Менск Інстытуту мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору, прафесару Гутараву. Нават атрымаў падзяку за подпісам акадэміка Глебкі. Абяцалі, што песні будуць выдадзены. Тым часам прайшло столькі гадоў, Інстытут маўчыць, лёс рукапісаў невядомы. У тоне ліста чулася ўзрушанасць і нехаванае бедаванне, што ўжо, мабыць, не давядзецца пабачыць родных песень у друку. Я пастараўся зацапіць агеньчык надзеі ў свайго новага карэспандэнта, а сам паспяшаўся ў архіў Інстытута. Там запісаў Логінаў не аказалася. Дачка І. В. Гутарава паабяцала мне пашукаць моладаўскіх песень у бацькавых паперах. Баяўся, што прайшло шмат часу, больш за дзесяць год, з дня смерці вучонага і ўсё ж спадзяваўся. Адказ быў нечакана сумны.

— Не знайшліся. Пераезды, рамонт у кватэры. Сам разумееш.

У горкай праўдзе гэтай мусіў прызнацца ў лісце Андрэю Логіну. Не ўлічыў, што для пажылога чалавека гэта будзе занадта моцны ўдар. У адказ атрымаў ліст, поўны горычы, крыўды, болю. І наракання на сябе. Самапапрок. Як жа неабачліва адразу адправіў арыгінал, зрабіўшы сабе толькі рэестр загалоўкаў твораў. Чуваць было, што чалавек узрушаны да глыбіні душы, закранута нешта кроўнае, вельмі дарагое для яго. «Што ж рабіць?» — роспачна пытаўся стары збіральнік. Што было рабіць? Напачатку зачапіцца за спіс песень, якія былі ў рукапісе. Можа, нешта ўдасца мне або пляменніку Андрэя Калістратавіча ў Моладаве аднавіць са старых запісаў? Гэтым толькі і мог крыху супакоіць Логіна, для якога моладаўскія песні былі цяпер і светла-балючым успамінам. маладосці, і памяццю брата, і згадкай пра родны кут, дзе на пагорку пад старымі ялінамі — прах пакутнай маці. Неўзабаве я атрымаў з Чарнігава спіс назваў больш пяцісот пе-

сень. Назвы разгорнутыя, па першых радках, а дзе і па два. Трапляліся радкі, што адразу напаміналі, гаварылі пра песню нечым знаёмую. Але былі такія, што інтрыгавалі нечаканым зачынам твора. «На вясну пакрасло…» пачыналася адна з веснянак. Гэта «пакрасло» ад слова «красна» ды ў форме дзеяслова было вельмі смелым наватворам ці забытым старажытным, але ўсё роўна моцным сваім фанетычным радам, зашыфраванай у гуках энергіяй. «На вясну пакрасло, а зіму панясло» — гэта выгук радасці на ўсе грудзі. Выгук чалавека, для якога вясна — цэлы свет новых надзей, абнаўленне жыцця да асноў, святляны край.

Суцяшала, што пляменнік Андрэя Калістратавіча ў Моладаве з добрым разуменнем паставіўся да сітуацыі, абяцаў дапамагчы з запісам, і я памаленьку пачаў рыхтаваць яго як свайго памочніка-карэспандэнта. Хоць канкрэтней на месцы разведае, назаве першыя радкі страчаных песень Насце. Ваўчок, мо яна ўспомніць і хоць частку моладаўскага фальклору ўдасца аднавіць. На шчасце, лёс да фальклорных запісаў братоў Логінаў аказаўся ласкавейшы, чым гэта здалося на першым часе. Праз некалькі месяцаў Лора Іванаўна з характэрнай сваёй усмешкай аднойчы сказала:

— Ведаеш, а я нашла песні вёскі Моладава. Хочаш — заўтра прынясу.

Сумнявацца не прыходзілася: два агульныя сшыткі, дарučаныя зараз мне, былі працягам ленінградскага фальклорнага зборніка, складалі з ім адно цэлае. На тытульным лісце стаяла: «Беларускія народныя песні. Вяселё. Запісаў Логін Андрэй Калістратавіч у 1913—1914 гг. у вёс. Моладава, Навагрудскага павета, Менскай губ.». Адкрываўся першы сшытак заўвагай: «№№ 1—160 і кароткае апісанне вяселля пасланы ў Аддзел рус. мовы і славеснасці Акадэміі навук у маі 1914 г.». Розніца паміж рукапісамі заключалася перш-наперш у тым, што другі сшытак, хоць і пачынаўся з вясельных песень, уключаў у асноўным іншыя жанры. А па-другое, калі ў першым пераважалі запісы старэйшага Логіна, Язэпа, малодшы брат выступаў толькі яго памочнікам, то другі фактычна быў плёнам старання якраз малодшага, Андрэя, які да 1915 г. стала жыў у вёсцы. Трэба сказаць, што Апдрэн, якому на гэты час было шаснаццаць год, добра засвоіў правілы запісу фальклору. Добра перададзена мова твораў, натаваліся яны паводле парадку абраду, ля паасобных стаялі заўвагі аб часе выканання песень, моманту іх прымеркавання. Я ўжо не кажу пра тое, што строга ўлічвалася спецыфіка песенных жанраў і груп. Старэйшы брат перапісваў песні ў прадаўгаватыя, пераплеценыя кандуіты і, натуральна, сам парадкаваў матэрыял паводле жанраў, але гэтага нельга было так дасканала зрабіць, каб яго малодшы памочнік натаваў песні без ведання правіл запісу. Старэйшаму ж з братоў-фалькларыстаў было на той час семнаццаць-васемнаццаць год. Хлопцы праявілі сапраўдную сур’ёзнасць, сталасць у няпростай рабоце. 3 гісторыі фалькларыстыкі вядомы выпадкі далучэння да збіральніцкай працы гімназістаў і семінарыстаў. Так, для зборніка Гільтэбрандта, аднаго з болып-менш ранніх збораў беларускай народна-паэтычнай творчасці, песні, прыказкі, загадкі запісвалі студэнты Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі. П. В. Шэйну ў 70—80-я гады мінулага ста-

годдзя ў зборы фальклору дапамаглі ўсе, хто мог і не мог запісваць: так умеў паставіць гэту сур'ёзную справу этнограф. Але ў пачатку нашага стагоддзя ў Менскай гімназіі, акрамя Восіпа Логіна, ніхто народных песень не збіраў, не было выкладчыкаў, якія самі займаліся б этнаграфіяй і маглі справай народазнаўства зацікавіць сваіх выхаванцаў. Ды ўсё мае сваю прычыну. Быў нейкі канкрэтны штуршок, што прымусіў юнака Логіна пачаць запісваць песні сваёй вёскі. Крыху святла пралівае на гэта адрас, які даў Восіп Логін, адсыяючы свае запісы ў 1914 годзе ў Акадэмію навук на імя акадэміка Шахматава. Зваротны адрас карэспандэнта вучонага пазначаны так: «Менск, Аляксандраўская, 25, рэдакцыя «Лучынкі». Але пра гэта пазней, у сваім месцы. Цяпер жа вось у руках два тоўстыя сшыткі — дзве наступныя часткі зборніка моладаўскага фальклору. Перапісаў іх начыста Восіп Логін у Кіеве, у 1920 годзе. Чым жа дапаўняюць яны ленінградскі сшытак, чым узбагачаюць наша ўяўленне аб паэзіі зямлі Навагрудскай, аб беларускай народнай песні? Людзям, што працавалі ў архівах, трымалі ў руках старыя пажоўклыя лісты, якія раптам адкрывалі для іх невядомыя факты, імёны, творы, знаёма тое асаблівае пачуццё, што перажываеш пры гэтым. Асцярожна адгортваў я першую пажоўклую старонку кандуіта ў шэрай цвёрдай вокладцы. Нехта некалі старанна пераплёў лісты, абклеіў спінку і рагі вокладкі цёмна-белай ціснутай цыратай, — дзеля трываласці. Час пакінуў на рукапісе свае сляды. Вокладка па краях крыху парвалася, яе пратачыла моль. На тытуле на глыбіню некалькіх старонак значыцца молевы след — даўгаваты раўчук. Аднак ён прыходзіцца ў асноўным на поле рукапісу і чытанню тэксту не перашкаджае. Нейкіх з дваццаць вясельных песень, прамы працяг гэтага жанру першага, ленінградскага сшытка прабягаю хутка. Хоць бачу і тут рэчы новыя, небанальныя, спяшаюся дабрацца да каляндарнай паэзіі. Пасля 178-га нумара (укладальнікі зборніка захавалі агульную нумарацыю тэкстаў у трох сшытках) — новы раздзел «Вясна».

На вясну пакрасло,
А зіму панясло,
Гэй, да зіму панясло! —

рэхам між узгоркаў Навагрудчыны, здаецца, азываецца песня моладаўскіх дзяўчат. Пасля трох-пяці вяснянак, сярод якіх каронная «На вясну пакрасло» ды яшчэ пару знаёмых сюжэтамі, хоць і вельмі поўных, цікавых як адменнікі вядомых «Сё вясна, та вясна», «Вол бушуе, вясну чуе», песні-балады. Ды цэлы неруш іх, розных — і памяркоўных зместам, што павучаюць лёгка, без постраху, і драматычных, суровых. Галоўнае ж — сюжэты не агульнавядомыя і ў іх шырокая эпічная плынь паэтычнага слова. Месца дзеяння — здаўна ўпадабанае беларускай баладнай творчасцю — Слуцк. А рэшта ўсё тое, чаго сягоння ўжо не запішаш.

— Ой, у Слуцку на рыначку
Да хваліўся брат сястрою,
Да хваліўся брат сястрою,
Да хваліўся родненькаю.
— Ніхто ў мае сястры не быў,
— Ніхто яе не адведаў.
Да дзе ўзяўся ксенжарове.
— Не хваліся, брат, сястрою,
Не хваліся, брат, сястрою,
Не хваліся родненькаю.
Да я ў твае сястры быў,
Да я тваю сястру ведаў,
Да я тваю сястру ведаў,
Тры абеды паабедаў,
Тры палудні спалуднаваў,
Тры палудні спалуднаваў,
Тры ночанькі паначаваў.
— Выйдзі, сястра, на ганачак,
Вазьмі сабе пярсцёначак.
Выйшла сястра на ганачак,
Выняў брат востранькі меч,
Выняў брат востранькі меч,
Зняў сястры галоўку з плеч.

За драматызмам другой балады з туманнай гістарычнай воддалі праступае нейкі цьмяны водгалас даўніх вайсковых падзей, можа, трагедыі з-за непаразумення паміж роднымі. Але драматызм моманту неяк здымаецца самой фор-май пераказу, асаблівасцю паэтычнага дыялогу паміж сынам і маці, якая не пазнала ў багатым ваяводзе роднага дзіцяці.

А ў полі карчомунька,
У той карчомцы шынкарачка,
Тудэй ехаў ваявода,
Ваявода пан багаты
Да заехаў да шынкаркі:
Шынкарачка маладая,
Маладая, матко мая,
Пусці ночку начаваці.
Да не пушчу, ваяводзін,
Да не пушчу, пан багаты:
Няма стайні для коніка,
Няма псярні для хорціка,
Сакальніцы для сакола,
А святліцы для самога.

— Я сам лягу сярод двара,
Конік стане ў галовушках,
Хорцік ляжа ў ножаньках,
Сокал падзе пры сэрданьку.
Шынкарачка маладая,
Будзі мяне ранюсенька,
Каб кур не пеў, сакол не свістаў,
А хорцічак не брахаў.
Куры пелі, перапелі,
Сокал свістаў, перасвістаў,
Хорцік брахаў, перабрахаў,
Зарзаў конік вараненькі,
— Уставай, панок маладзенькі:
Цёмна войска наступае,
Нас пасячэ, парубае.
Кулі сыплюць, як боб сеюць,
Войска едзе, як мак цвіце.
— Не здраднічка родна старана,
А здраднічка матка свая:
Парадзіла і зрасціла,
К сабе на ноч не пусціла.
— Было, сынку, не дваровацъ,
Было, сынку, праўду мовіць,
Я б старшаму дагадзіла б,
Цябе ў госці запрасіла б
І раненька пабудзіла б.

А за вяснянкамі ды баладамі, прымеркаванымі да вясенняй пары, быў раздзел, абазначаны ад-ным старадаўнім словам «вялікдзень», ішлі велікодныя і валачобныя песні. Велікодных тры, на рэлігійныя сюжэты. Наогул велікодных песень няшмат, і яны не вызначаюць характар велікоднай творчасці. Уся чароўнасць, прывабнасць і каштоўнасць яе — у валачобнай паэзіі. Менавіта ў валачобных песнях беларускае слова дасягае асаблівай паўнагучнасці. Яно пераліваецца ўсімі гранямі свайго хараства, нясе глыбокі гуманістычны сэнс. Асабліва пышна красавала валачобная песнятворчасць на Падзвінні. Можа, таму, што племя крывічоў, якое стаяла ля калыскі нашай старажытнай культуры, валодала высокім узроўнем земляробства. Валачобныя ж песні паводле духу і зместу, зыходнага свайго прызначэння — творчасць земляробаў. Земляробчая практыка, духоўны свет земляроба знайшлі ў ёй сваё высокамастацкае ўвасабленне. У лепшых сваіх узорах з Падзвіння, а раней і Магілёўшчыны, валачобныя песні — цэлыя паэмы. Жыццё селяніна-земляроба, сфера прыкладання яго фізічных і духоўных сіл — ніва — паэтызуюцца ў іх а эпічным размахам, глыбокай душэўнай шчодрасцю. Гэта сапраўдны мастацкі помнік сотням пакаленняў ратаяў і сейбітаў, чыёй вялікай мазольнай працай харашэла і дабрэла да чалавека зямля, дапамагала ўздымацца на ўсё вышэйшую ступень духоўнага развіцця ўсяму народу.

Традыцыі валачобніцтва, валачобных песень Навагрудчыны, відаць, сціплейшыя, чым даўняй Полацкай зямлі, Падзвіння. І трохі іншыя ў паэтычным змесце саміх песень. Хоць, па праўдзе кажучы, гаварыць пра тое, што было з тым ці іншым відам фальклору, як лакалізаваліся паасобныя яго жанры ў межах усяго этнасу, цяжка. Запісы ж твораў, а значыць, і рэальныя нашы звесткі аб іх сягаюць не глыбей, не далей пачатку XIX ст. Пакладаемся на веданне заканамернасцей развіцця народнай мастацкай традыцыі, яе ўстойлівасць, трываласць, і тое, што зафіксавана збіральнікамі фальклору ў мінулым стагоддзі, смела пераносім у глыбіню вякоў. Але да якой гістарычнай мяжы гэты перанос аб'ектыўна апраўданы? Як улічыць тыя няўхільныя змены, што ўсё ж уносіў, не мог не ўносіць час у няхай сабе запаволеную, у старым рэчышчы доўга трыманую, але жывую і тым самым зменлівую плынь, якой ёсць творчасць?

Валачобная традыцыя Навагрудчыны мела свае асаблівасці. У пэўнай меры яны адлюстраваліся і ў моладаўскіх песнях. Тут неяк адышоў на задні план сюжэт, у якім паэтызаваўся стары земляробчы каляндар з усімі даўнейшымі святамі. Матыў пладароднай нівы, ураджаю захоўваўся, але ён як бы губляўся сярод іншых. Асабліва шырока распрацоўваліся сюжэты песень, якія прызначаліся для хлопца, дзяўчыны. Вядома, гэты момант суб'ектыўны (залежыць ад канкрэтнага выпадку, асобы, якой пелі, густу спевака), але ў валачобных песнях з Моладава нават асноўны гаспадарчы клопат селяніна-гаспадара перададзены сыну-панічу. Каб падвысіць годнасць сялянскага хлопца, прызначэнне ж абраду было віншавальна-ўзвелічальнае, валачобнікі мянуюць яго панічом.

А ў нядзелю да параненько
Да віно, віно зеляно!
Ходзіць паніч да па ганачку,
Ходзіць, ходзіць да паходжвае,
Сваю чаляданьку да выклікае:
Да ўстань, да ўстань, новая чаляданько,
Да мы пойдзем да новае стаенькі,
Да мы возьмем каня варанога,
Каня варанога, сядло залатое,
Да паеду на руннае ноле
Да свае ніўкі аглядаці.
Як выехаў вароцечкі,
Сустракае Юр'я самога.
Да куды едзеш, слічны панічу?
Да я еду на руннае поле
Свае ніўкі аглядаці.
Да вярніся, слічны панічу,
Да твая ніва от урадліва:
Да на карэнне каранiстая,
З сярэдзінкі да сцяблістая,
Да з каласочка каласістая…

У гэтым сюжэце, не вельмі новым сярод масы валачобных песень сваім матывам, свежа гучаў уступ: ён адразу падвышаў хлапечую годнасць, быў яскравы паводле малюнка. І яшчэ нёс радасна-нечаканы вобраз «руннае поле». У фальклоры звычайна «роўнае», «шырокае» поле, а тут «руннае» — нова, вобразна, запамінальна. Руннае поле — атрыбут беларускага познеасенняга краявіду ды і ранневеснавога, калі яшчэ не заільсніліся светлай зелянінай усходы ярыны.

Сярод валачобных, запісаных Логінамі ў Моладаве, на першы план самі сабой высунуліся песні, прысвечаныя дзяўчыне. Іх ажно сем. Не забыта і дзяўчына-падлетак. Прычынай таму быў, відаць, факт, што маладыя збіральнікі фальклору запісвалі песні ад жанчын. Бясспрэчна, у беларускай вусна-паэтычнай творчасці жанчыне належыць галоўная роля. Яна асноўная носьбітка і перахоўніца гэтай найвялікшай з традыцый. Але ў валачобніцтве першая скрыпка ўсё ж за мужчынам. Выяўляць валачобны рэпертуар, абмінаючы мужчын, — значыць загадзя асуджаць сябо на тое, што цалкам, ва ўсім аб’ёме яго не пазнаеш, не выдабудзеш.

Логіны запісалі шмат і арыентуючыся пераважна на жанчын. Іх валачобныя дзяўчыне паэтызуюць яе светлы розум, высокаразвітае пачуццё чалавечай годнасці, душэўную далікатнасць, працавітасць. Пашыраныя матывы інтэрпрэтуюць арыгінальна, на свой манер. Хоць бы сабе гэты, старадаўні, разлічаны на выпрабаванне кемлівасці, розуму.

От за гумном, гумном за новенькім
Там паненка ячмень жала,
Ячмень жала, снапкоў не вязала,
Тудэю ехала тры панічы.
Адзін ехаў ды паехаў,
Другі ехаў — даў «дзень добры»,
Трэці ехаў — да намажы, божа.
— Памажы божа, слічна паненка,
Да загану табе сем загадак;
Калі адгадаеш, то мая будзеш,
А не адгадаеш, то мая не будзеш:
Да што бяжыць без повада,
Да што гарыць без полумя,
Да што расце без кораня,
Да што цвіце, цвету не ўказуе,
Да што раба да не пішучы,
Да што чорна да не чэрнячы,
Да што бела да не белячы?
— Я й адгану, я й твая не буду.
Золата гарыць да без полумя,
Вада бяжыць да без новада,
Камень расце без кораня,

Папараць цвіце, цвету не ўказуе,
Дзяцел рабы да не пішучы,
Чоран воран да не чэрнячы,
Лебедзь белы да не белячы.

Класічны фальклорны матыў «падчас прання бялізны на сінім моры дзяўчына губляе персцень» моладаўскія спявачкі перадаюць не ў звычным ключы: сустрэча з хлопцамі-рыбакоўцамі і просьба да іх вылавіць невадам «персцень залаценькі», а ў іншым плане. Тут сюжэт развіваецца па лініі супрацьпастаўлення адносін да дзяўчыны бацькі і брата, з аднаго боку, каханага — з другога. Пры гэтым дасягаецца большая лірызацыя вобраза. Трэба думаць, такая распрацоўка сюжэта пазнейшая па часе.

Ой, на моры, моры да на сіненькім,
Да віно ж, віно зеляно!
Да на камені да на беленькім
Там паненка бель бяліла,
Бель бяліла, ручкі мыла,
Ручкі мыла, персня забыла.
Да прасіла свайго войчанька:
Мой войчанька, мой родненькі,
Да паедзь, паедзь па мой персцень,
Да па мой персцень да па залаценькі.
Калі ж мой конь да не кованы,
Да пе кованы да не поены.
Да на белы камень да не наступе,
Залатога персня да не дастане;
Войчанька едзе, персня не вязе,
Персня не вязе, праўды не кажа.

І далей ідзе аналагічны зварот дзяўчыны да брата з просьбай паехаць па яе персцень і такі ж самы, як і ў бацькі, адказ. І толькі любы сардэчна ставіцца да просьбы сваёй каханай.

…Да мае коні да падкованы,
Да падкованы, да напоены,
Да на белы камень да пaступяць,
Да залаты персцень да дастануць;
Міленькі едзе, персцень вязе,
Персцень вязе, усю праўданьку кажа.

Звяртае на сябе ўвагу, як умела карыстаецца народная песня каляровай палітрай. Сіняе мора і белая бель, залаты персцень і белы камень на фоне марской сіні, — прыгожая гама, арганічная прыродзе.

Маючы ў руках і валачобныя, запісаныя Логінамі, выразней убачыў змены ў мясцовай традыцыі за нейкія 60—70 апошніх год. А па-другое, тэкст праспяванай Алыпэўскім песні, прысвечанай хлопцу, канкрэтна падказваў канцоўку гэтай жа песні, з нейкай прычыны недабранай Логінамі. Праўда, у варыянце песні Альшэўскага той прыгожай, строгай стройнасці, слоўнай дакладнасці, як у запісанай тут у 1913—1914 гг., не было. Было завяршанне песні, у якой ужо не паніч (знізілася абумоўлепае абрадавай устаноўкай узвелічэнне), а проста хлопец між усіх коней шкадуе аднаго, таго, што «грывай неба падпірае».

Не памятаў састарэлы валачобнік Альшэўскі і песень, адрасаваных арандатару. Зрэдку, некалькі лічаных тэкстаў іх можва знайсці ў выданнях найстарэйшых нашых этнографаў. У Логінаў жа занатаваны добры ўзор такіх твораў. Інфарматаркі маладых збіральнікаў сваім векам, спадчыннай памяццю бацькоў, дзядоў былі бліжэй да эпохі феадалаў, арандатараў паслугамі якіх часта карысталася, асабліва на схілку свайго часу, закаце прыгонніцтва, панства. Песня Логінаў віншавала і ўсцяшала малога арандатара, які апрацоўваў зямлю, вёў гаспадарку пейкага нязначнага панка, шляхціца — з’ява пашыраная, нават характэрная для старой Беларусі. Цікава, што валачобная песня, паводле функцыянальнай прыроды, схільная да пераболынвання, гіпербалы, з часам траціла гэту ранейшую атрыбуцыйную ўласцівасць. У ёй усё выразней выяўлялася тэндэнцыя да рэалістычнага адлюстравання. Уласна, песня, адрасаваная арандатару, магла быць звернута да гаспадыні ці гаспадара. У іншых мясцовасцях яна, відаць, так і адрасавалася. Паколькі ў такой паўнаце, завершанасці, як у запісе Логінаў, твор, мабыць, не сустракаўся, таму пе зашкодзіць паказаць яго тэкст цалкам.

Ці ведаеш, пане арандару,
Да зеляно віно, зеляно!
Што ў тваім хляве пачынілася?
Да дзевяць авец акацілася,
Да ўсе дзевяць па баранчыку.
Да ці ведаеш, пане арандару,
Што ў тваім хляве пачынілася?
Да дзевяць кароў ацялілася,
Да ўсе дзевяць па бычочку.
Да ці ведаеш ты, пане арандару,
Што ў цябе на стайні пачынілася?
Да дзевяць кабыл ажарабілася,
Да ўсе дзевяць да па коніку.

Паважнасць зместу і тону валачобных песень, звернутых да гаспадара, гаспадыні дый да іх дарослых дзяцей, змянялася ў тых выпадках, калі твор прысвячаўся падлетку. Тут валачобная дазваляла сабе зычлівую спагадную ўсмешку, паджартоўвала. Пры гэтым песні захоувалі строгую стылістыку валачобнай паэзіі, стройную будову твора.

Да у кольнічку ў вагародчыку
Тудэю ішло да дзевак танок,
Да ўсе ж яны весялюсенькі,
Адна паненка хмурнюсенька,
Красна паненка на імя Ганначка,
Загневалася на вайца, на матку,
Што сукенку шылі, пакараці лі.
Ядвабным шнурам да не аблажылі.
Дзіця ж наша да міленькае,
Не гневайся, маладзенькае,
Мусімо краўцоў да папрасіці
Да сукенку надтачыці,
Ядвабным шнурком аблажыці.
Да зеляно віно, зеляно!

Канцоўкі ў валачобных песнях мелі ў асноўным вузка практычнае прызначэнне. У іх у дасціпнай форме валачобнікі намякалі гаспадару, гаспадыні аб узнагародзе за песню, за сваё спявацкае старанне. Ў асобных выпадках канцоўкі твораў набывалі расшыраны сэнс. У іх была і гумарыстычная аўтахарактарыстыка валачобнікаў і пытанне да гаспадара, ці ўслых яму іх «песенька старасвецкая». Часам, як гэта можна ўбачыць у зборніку Логінаў, і расказана аб падзеле валачобнага, ідзе гаворка пра тое, што, так сказаць, наступае па святочным абрадзе. У тым выпадку, калі ў адным доме валачобнікі спявалі некалькі песень па чарзе — гаспадару, гаспадыні, дзецям, у канцы яны выконвалі заключную частку. У запісе Логінаў яна вызначаецца паўнатой, новымі для збіральнікаў валачобнай паэзіі нюансамі. Сярод іх вылучаўся дыдактычны момант.

Во цяпер жа, слічны панічу,
Вайцу й матцы да пакарыся,
З намі, малайцамі, расплаціся.
Да няхай войцец нам заплаціць,
Хоць нямнога — паўзалатога,
Паўзалатога на гарэлачку
Да капу яек на талерачку,
Капу не капу, паўкапы мала,
Паўкапы мала, каб усім стала,
Каўбаскаю акружыці,
Белым сырам да завяршыці,
Яшчэ на вяршочак хоць піражочак.
Да выйдземо да на вулачку,
Рассцелемо да кітаечку.
Раскоцімо да на яечку,
Рассунемо да па соляжочку,
Раскроімо да па піражочку.

Вудвом бога да абдзяляці,
Слічнага паніча спамінаці.
Да няхай войцец пам заплаціць
Чырвон злоты — нам на боты.

Пасля велікодных, валачобных песень у зборніку Логінаў ідуць купальскія.

Ні юраўскіх, ні троіцкіх, ні русалыіых песень, што складаюць самастойныя звёны ў гадавым крузе беларускай каляндарнай паэзіі, не аказалася. І, пэўна, невыпадкова. Прычына, відаць, не ў тым, што яны к пачатку XX ст. тут, у Навагрудчыне, вычарпалі сваю традыцыю, заняпалі. Хутчэй за ўсё, асабліва позневеснавыя песні не мелі тут генетычнага карэння, ніколі не бытавалі. Розныя фальклорныя жанры неаднолькава пашыраны ў межах аднаго этнасу. Адны, як, напрыклад, жыіўныя, купальскія, вясельныя, хрэсьбінныя песні ахопліваюць практычна ўсю этнічна беларускую тэрыторыю. Іншыя лакалізаваліся ў асобных рэгіёнах. Відаць, там, дзе яны ўзнікалі ў старажытнасці і атрымалі найболыпае развіццё. Праблема этнагенезу, паходжання асобных жанраў, вядзе фальк-ларыстаў у вельмі глыбокую часавую далячынь. Пытанні гэтыя нельга вырашыць без ведання культуры старажытных плямён. Нельга ж лічыць выпадковым, напрыклад, той факт, што вяснянкі, песні, якімі гукалі, клікалі вясну, да сённяшняга часу ў жывым бытаванні захаваліся ў асноўным у Пасожжы. Наогул ранневес-навы каляндарны комплекс ва ўсёй яго яскра-васці і непаўторнасці зафіксаваны этнаграфіч-най навукай, пачынаючы з 70-х гадоў XIX ст. менавіта ў гэтым рэгіёне — зямлі колішніх радзімічаў. Тая самая каляндарная паэзія, феномен усёй беларускай народна-паэтычнай культуры, у землях даўнейшых дрыгавічоў мае сваю адметнасць, своеасаблівасць у жанравай і нават у вобразнай сістэме. Вядома, было нямала прычын, якія спрыялі або не спрыялі развіццю і распаўсюджанню асобных жанраў, пластоў культуры. Не малое значэнне мела тое, як складаліся эканамічныя і культурныя кантакты паміж паасобнымі рэгіёнамі аднаго этнасу на розных этапах яго гістарычнага развіцця, наогул як складаўся лёс цэлага народа на шляхах гісторыі.

Але вернемся непасрэдна да асноўнай тэмы Гаворкі — да моладаўскіх песень і іх збіральнікаў.

Песні пазаабрадавыя Язэп Логін не класіфікаваў па жанрах і групах падрабязна. Падаў творы пад агульнай назвай «бытавыя»,вылучыўшы толькі жартоўныя ў народным іх найменні — «брындзюшкі» і дзіцячыя. Усяго каля трохсот нумароў песень разам з варыянтамі. Частку з іх, твораў трыццаць, праўда, нельга ўзнавіць з-за пашкоджанасці другога сшытка рукапісу. Але і тых, што захаваліся, дастаткова, каб скласці з іх асобны том. Дзесь у сярэдзіне мінулага стагоддзя збіраў на Навагрудчыне песенную творчасць выкладчык мясцовай гімназіі М. Дзмітрыеў. У выдадзенай ім у 1869 годзе кнізе «Збор песень, казак, абрадаў і звычаяў…» нямала пазаабрадавых. Але параўнанне іх з песнямі, запісанымі Логінамі, не на карысць папярэдніка. Логінаўскі збор пераўзыходзіць выдадзенае Дзмітрыевым і колькасна і якас-

на. А прычыны, відаць, у тым, што Логінам пашанцавала на таленавітых спявачак і запісвалі маладыя фалькларысты стацыянарна, мэтанакіравана. Пры перапісванні на чыставік у зборнік бытавых, а рабілася гэта ў Кіеве, Язэп Логін напачатку падаў першыя радкі страчаных за час вандроўкі рукапісаў песень з Моладава ў Менск, а затым у Пецярбург, Маскву і, нарэшце, у Кіеў. Услед за фальклярыстам хочацца назваць іх: можа, каму-небудзь некалі ўдасца натрапіць, запісаць гэтыя творы: «У чыстым полі пад ялінкаю», «Ой, поле, поле ты шырокае», «Пры дарожцы куст стаіць», «Матко мая старэнька, ці ты мяне верна любіш?», «А чыя жана жальчэй плакала», «Ой на гары жыта, пад гарою жыта», «Во чыё там жыта па каліну збіта?», «Ах вы горы, горункі». Першыя, ужо мяркуючы па зачыне, маюць баладны, эпічпы пачатак. Баладамі «заселены» першыя старонкі бытавых песень рукапіснага збору Логінаў. Вузкаму спецыялісту, даследчыку баладнага жанру, тут можна знайсці нямала цікавага. За баладамі ўкладальнік змясціў жаўнерскія, рэкруцкія, салдацкія. Меў для гэтага знешні повад: у баладах герой нярэдка памірае, гіне ў войску, на вайне. Акрамя таго, з мора бытавых Я. Логін вылучаў баладныя і вайсковыя песні як творы з больш грамадска значным зместам. Любоўную, сямейна-бытавую лірыку ставіў у далейшы рад. Пэўная логіка ў гэтым была. А калі глядзець на ўсю бытавую паэзію з пункту гледжання яе паходжання, то вылучэнне баладнага матэрыялу на першае месца апраўдана і гістарычна. Паводле часу ўзнікнення ў аснове сваёй баладны жанр больш ранні прынамсі за любоўную лірыку.

Ой долам, долам дай далінаю
Салдаты ідуць, рэкруты вядуць,
Рэкруты вядуць, песенькі пяюць…

Гэта, так сказаць, уступны абразок да рэкруцкіх песень, у якім абмаляваны агульны фон брання, вярбоўкі рэкрутаў. Асобныя песні перадаюць унутраныя абставіны рэкруцкага прыёму, перажыванні маладога хлопца, якога распранаюць, мераюць, брыюць галаву. Вельмі яскрава дапаўняюць перажыванне сына словы, перажыванні яго маці, што знаходзіцца тут жа, у прыёме.

Ты мой сынку прыкрасны,
Ты ўрадзіўся нішчасны,
Ты нішчасны ўрадзіўся,
Гасудару згадзіўся,
Ты ў горы гадаваўся,
Гасудару спадабаўся.
Гэй, гасудару спадабаўся.

Салдацкія песні, запісаныя ў Моладаве, добра сведчаць, што народнае творчае ўяўленне, памяць чуйна рэагавалі на бліжэйшыя і далейшыя гістарычныя падзеі, імкнуліся замацаваць іх у мастацкім слове.

Поле чыстае турэцкае,
Мы цябе, поле, наскрозь прайдзём...—

гэта з песні аб руска-турэцкай вайне на Балканах, аб часах вызвалення Балгарыі з няволі Асманскай імперыі.

Побач з тэкстамі многіх песень у рукапісе пазначана «маці спявала», «пела матка». Найчасцей песні гэтыя пра жаночую долю, пра нялёгкае замужжа, журботны ўспамін пра бацькоўскі дом, радню.

Ай пайду я ў руно поле
Пашукаю свае долі.
— Акажыся, мая доля,
Хоць на той бок сіня мора, —

спявала Хрысціна Логін. Спявала для сябе, калі сэрца агортвала горкасць і роздум, спявала сынам, якія хацелі некаму пераказаць праз паперу яе перажыванні, яе песні.

Вуснамі Хрысціны Логін спявала яе гора, гора тысяч тысячаў мацярок, жыццё якіх было суцэльным змаганнем за тое, каб выжыць, выдужаць з дзецьмі, з вялікай сям'ёй у беднасці, жорсткасці, беспрасвецці. Маладзюткай яна выйшла замуж за Калістрата Логіна. Ён толькі што вярнуўся тады з руска-турэцкай вайны. Малодшы брат яго Амелька, граматны, хітраваты, патрапіў здаць у рэкруты замест сябе старэйшага. Спадзяваўся, можа, не вернецца, і тады не давядзецца дзяліць на дваіх спадчыну па бацьку — кавалка зямлі. Ажно Калістрат вярнуўся, хоць і з падупалым здароўем: даліся ў знакі крывавыя баі ў заснежаных гарах, суровы лёс царскага салдата. На сваю долю спадчыннага бацькавага грунту агораў хаціну. Праўда, без коміна, курную, без сяней, на земляной падлозе. Але ў той час яшчэ шмат хто жыў так. Дым з печы ішоў у люк у столі. Але калі надвор'е было ціхае, паветра волкае, то выходзіў ён блага. І каб не дакучаў, не лез у вочы, адчынялі на запятак дзверы. Калі гэта было зімой, сівая хмара марозу сунулася ў хату ад парога. Дзеці хаваліся ў запечак, лезлі пад рызманы на палок. Ды пакуль жыў бацька, трываць было можна. Зямлі той, як бараной праехаць (здрабнелі надзелы з часу рэформы 1861 года). Свайго хлеба хапала толькі да каляд, бульбы да вялікадня. Але бацьку трапляліся сякія-такія заробкі, у хлеб дамешвалі мякіны, неяк давалі рады. Ажно вясной 1903 года ў хату Логінау прыйшло гора — памёр бацька. Маці засталася адна, з семярыма дзецьмі. Самай старэйшай з іх дачцэ Марылі было семнаццаць год. Будучым фалькларыстам Юзіку — восем і малодшаму Андрэю — пяць. Каб пахаваць мужа Калістраціха прадала кабылку за 17 рублёў, калёсы, барану аддала аднавяскоўцам за тое, што ўзаралі поле ды памаглі засеяць. Парожнія былі хлеў і гумно. Кот і той сышоў з дому на ўсё лета. З нецярплівасцю чакалі, калі пакажацца першая крапіва, шчаўе, пупышкі на ліпе. Хлопчыкі Юзік з Андрэем бегалі на панскае поле, збіралі выараныя ўвосень, перазімаваныя бульбіны. У мяшочках падсохлай лупіны заставаўся крухмал. Маці пякла з

гэтых недагнілкаў «апалькі». Тлушчу не было, і скавараду даводзілася змазваць грамнічнай свечкай.

Наўчанне, а разам і пазнанне народна-паэтычнай культуры, для будучага фальклардыста Язэпа Логіна пачыналася сурова. У тую сумную, горкую вясну, калі не стала бацькі, маці, застаўшыся без гаспадара, як мага пачала ратавацца ад бяды, ад непазбежнага голаду.

Двух старэйшых сыноў Аляксандра і Уладака аддала ў пастухі ў суседнюю вёску. Адзінаццацігадовага Уладака без аплаты: толькі б кармілі, давалі сякую-такую апратку, а зімой пускалі вучыцца грамаце.

Васьмігадоваму Юзіку таксама нечакана знайшлася «служба». Ішлі аднойчы праз Моладава сляпыя жабракі. Круцячы корбу леры, заспявалі свае жаласныя песні і падваконню Логінаў.

Як зазвоняць усе звоны
А смертнай гадзіне,
Пакланюся ўсяму свету,
Усёй сваёй радзіме…

Аўдавелая гаспадыня прызналася, што няма чым дарыць, аддзякаваць за спеў ды малітву, сама з дзецьмі галадае. Тады старцы папрасілі даць ім у павадыры большага хлопчыка. Галодны не будзе, дароных кавалкаў хопіць казалі дзяды. Няшчасня маці згадзілася. Наймалодшаму Андрэйку свет заслалі слёзы, калі ён убачыў, як знікала за паваротам дарогі шчупленькая фігурка яго брата паміж высокімі худымі постацямі старцоў, абчапаных торбамі. Цэлае лета і восень Юзік Логін быў павадыром, вадзіў за рукі сляпых старцоў. Увесь павет абышлі за некалькі месяцаў. Перабывалі на кірмашах і фэстах, усіх вёсках і мястэчках. Начавалі дзе давядзецца. Адзенне іх не мела змены… Жыццёвая школа была празбыць суровая для малога хлапчаняці. Увосень, калі пайшлі халодныя дажджы, стала нясцерпна блага без абутку, цяплейшага адзення. На рынку ў Навагрудку малы павадыр убачыў моладаўца, папрасіўся, каб дазволіў ісці за яго возам: сам не быў пэўны, што патрапіць у родную вёску. У адна-вяскоўца сціснулася сэрца ад жалю, пасадзіў на воз, прывёз да хаты. У беднай хаціне Логінаў у той дзень было шмат радасці. Старэйшая сястра Марыля адразу папрасіла маці больш нікуды не аддаваць Юзіка. Сама яна ўжо рабілася надзейнай апорай сям'і, добрай матчынай памочніцай. Усё лета хадзіла на падзёншчыну да пана: палола, зграбала сена, жала жыта, выбірала лён. Зарабляла па дваццаць капеек дзённа. Хапала на соль, мыла, можна было крыху прыкупіць хлеба. З восені ж Марыля ўзялася за лён, прадзіва, і ўдзвюх з маці за зіму патраплялі наткаць палатна на ніжняе і верхняе адзенне для ўсёй сям'і. Маючы дзесяць год, зімой 1906—1907 гг. Юзік Логін пачаў вучыцца грамаце. Школы тады ў Моладаве ды і ў бліжэйшым наваколлі не было. Вучыліся па хатах, то ў адной, то ў другой. Настаўнікам (дарэктарам) быў мясцовы хлопец, які скончыў трохкласнае народнае вучылішча. Працу яго аплочвала земства, па 20 рублёў за зіму. А кармілі па чарзе бацькі, што пасылалі сваіх дзяцей у школку.

Вывучалі рускую мову і арыфметыку. Юзік у ведах хутка дагнаў свайго настаўніка, і маці рашылася аддаць яго ў народнае вучылішча ў Навагрудак. Вучыць далей у маці не было за што, але выручылі настаўнікі, якіх уразіла здольнасць хлопца да вучобы. «Мы не дазволім аддаць вашага сына ў пастухі», — сказалі яны маці. Паставілі спектакль з удзелам Юзіка, на сабраныя грошы купілі хлопцу форму, кнігі і ён здолеў у 1911 годзе паступіць у Навагрудскае гарадское вучылішча, адразу ў трэці клас. А праз два гады — у чацвёрты клас Менскай губернскай гімназіі. Нехта з настаўнікаў уладкаваў маладога хлопца рэпетытарам у сям'ю земскага начальніка. Навука Юзіку Логіну давалася лёгка. За год ён, здаралася, праходзіў два класы. Шмат чытаў. Рускую класіку і замежную літаратуру. У гімназіі пачаў вывучаць родную мову. Па «Нашай ніве», кнігах Янкі Купалы, Якуба Коласа. Аднойчы хтось з гімназістаў прынёс у клас невялікі тоненькі з выгляду сшытак часопіса для моладзі «Лучынка», які толькі што пачаў выходзіць у Менску. Ён і прывёў будучага беларускага фалькларыста на Аляксандраўскую, 25, у рэдакцыю. А адтуль ужо праз выдаўцоў часопіса Аляксандра Уласава і Цётку нітачка знаёмства працягнулася ў Петраград, да акадэміка Шахматава. Першыя свае фальклорныя запісы Восіп Логін выслаў у Акадэмію навук у маі 1914 года з Менска. А ў 1915 годзе сам ужо быў у сталіцы. У сувязі з набліжэннем немцаў Менская гімназія эвакуіравалася ў Петраград і ўлілася ў гімназію імя Пятра Першага. У 1916 годзе Логін заканчвае гімназію з залатым медалём і паступае ў Пятроўска-Разумоўскую сельскагаспадарчую акадэмію ў Маскве. Сын гаротнай вёскі, ён марыў прыйсці на дапамогу земляробу. І яшчэ летуцеў аб працы на ніве народнай культуры. К гэтаму часу паспеў добра азнаёміцца з новай беларускай літаратурай, мову ж вывучаў, цікавячыся аж яе гістарычнымі вытокамі, ад часоў Вялікага княства Літоўскага. Грымнула рэвалюцыя. Яна крута павярнула лёс мільёнаў, адкрыла перад імі новую перспектыву. Многа змяніла рэвалюцыя ў асабістым лёсе хлопца з Навагрудчыны. У 1918 годзе, адгукаючыся на заклік У.І.Леніна, звернуты да моладзі, — замяніць ва ўстановах царскіх чыноўнікаў (яны сабатавалі распараджэнні Савецкай улады), Восіп Логін ідзе працаваць у «Народны банк». Праз два гады пераязджае ў Кіеў, дзе стаў нарыхтоўшчыкам тэхнічнага сельскагаспадарчага насення ў «Днепрасаюзе». Многа ездзіць па вёсках і сёлах Украіны. У галодным на той час Кіеве спрабуе спарадкаваць збор моладаўскіх песень. Яны заставаліся ў чарнавіках, дастаўленых яму малодшым братам Андрэем. Андрэй аказаўся сапраўдным памочнікам у гэтай задуме, якую горача падтрымалі і беларускія літаратары, і сусветнай вядомасці вучоныя. Пасля заканчэння Навагрудскага народнага вучылішча Андрэй заставаўся ў вёсцы. Змалку дапамагаў маці і сястры. Пасвіў вясковы статак авечак, затым кароў. Давалі з сабой торбу, крыху плацілі грашмі, іншы пасабляў абрабіць шматок поля, узараць агарод. Хтось часам прывозіў дроў. Хоць найчасцей самі раздабывалі іх у лесе, носячы вязанкамі на плячах. Праінструктаваны братам-гімназістам, Андрэй Логін запісваў зімнімі вечарамі моладаўскія песні. Дома, у маці — яна часта спявала пад гудзенне верацяна, на вячорках — ад дзяўчат і жанок, куды збіраліся яны з прасніцамі. Найбольш пе-

сень у Андрэевых сшытках сабралася ад Марылі Арцюх (Міхальчыхі), ад Хрысціны Логін (маці), ад Зосі Лаўруковай з Логінаў, ад Алены Арцюх (дачка Міхальчыхі), Марусі Людвікавай з Арцюхоў, Стэфы Амелькавай Логінаў, Ганулі Лявонавай, Мартосі Максімавай з Арцюхоў, Марылі (сястры) ды іншых моладаўскіх жанок і дзяўчат. А аднойчы за прадзівам маці расказала сямейнае паданне. Па праўдзе кажучы, не паданне, а быль. Толькі гучыць яна як паданне.

Дзеялася гэта даўно, на пачатку мінулага стагоддзя. Моладаўцы як прыгонныя належалі дробнаму панку Ружы. Большасць моладаўцаў (так і цяпер) па прозвішчу былі Аршохі. Старыя людзі пераказвалі, быццам бы продкі іх паходзілі з Валыні. Нібыта ў XVIII стагоддзі тутэйшы пан вымяняў на гончых псоў тры прыгонныя сям'і з Украіны. Яны далі пачатак вёсцы. Моладаўцы, як іх бацькі, дзяды-прадзеды неслі ярмо паншчыны. Адны ціха, з пакорай, іншыя — праклінаючы заведзеныя прыгоннікамі парадкі, несправядлівы свет, дзе панавалі зло, здзек, няволя. Знайшоўся сярод моладаўцаў адзін дзяцюк, які не здолеў, не пажадаў пакарыцца несправядлівасці, асвечанай законам прыгоннай пары. Звалі хлопца Кастусь Арцюх. Насуперак волі пана Ружы Кастусь ажаніўся з любай дзяўчынай Гануляй. Гэта страшэнна абурыла прыгонніка, і ён загадаў зараз жа здаць неслуха ў маскалі. Закаванага ў калодкі (баяліся, што ўцячэ) Кастуся прывезлі ў павятовае вайсковае «присутствие», а адтуль адправілі некуды за свет.

У той час царскі салдат быў нявольнік з нявольнікаў. Мала таго, што служба цягнулася да дваццаці — дваццаці пяці год. У гэты час рэкрутаваны заставаўся абсалютна бяспраўным чалавекам, выключаўся з больш-менш людскага жыцця, быў забыты нават роднымі. Муштра, здзек, калецтва, смерць, у лепшым выпадку няпэўная старасць чакалі яго. Яшчэ не было ні чыгункі, ні пошты, што маглі б даставіць пісьмо, нейкую вестку ў родную старану. Чалавек, забраны ў салдаты, знікаў як камень у вадзе — без ніякага следу.

Доўга нічога не чулі ў Моладаве і пра Кастуся. Дзе ён, што з ім сталася? Нялёгка жылося Ганулі ў чужой сям'і. У ёй тым часам падрасталі дый выраслі ўжо дзевяровы ды ятроўчыны дзеці. Ганулiна маладосць сплыла, як ліст з вадою, у думках пра Кастуся, у працы ды тузе. Гады ішлі, а ад гвалтам адабранага мужа яе не было ні вясцінкі. Суседкі казалі, спачуваючы маладзіцы, што, пэўна, недзе згінуў яе Кастусь. Так пачала думаць і сама Гануля. Не ведала, што ёй рабіць далей. Ажно людзі сталі раіць, каб схадзіла ў Навагрудак да святара ў сабор спыталася, як ёй быць. Святочным днём, увязаўшы сёе-тое ў вузельчык, Гануля пайшла да бацюшкі. Той выслухаў нябогу, сказаў заказаць паніхіду «па ўбіеннаму рабу божаму Канстанціну», калі хто бярэ, выходзіць замуж.

Што ж тут парадзіш? Гануля так і зрабіла. Толькі за каго цяпер яна магла выйсці? Хіба за ўдаўца? Ішла пакорная лёсу даглядаць чужых дзяцей і сама таго не ведала, што ў глыбіні душы яшчэ не ачах агонь яе першага, нешчаслівага кахання. У той жа год, як Гануля выйшла замуж за мнагадзетнага ўдаўца, у яе нарадзілася дачка. Назвалі яе Зоськай. Аднойчы

вечарам, ідучы заснежанай вуліцай з заснулай на руках дачушкай, Ганулю раптам убачыла Кастуся. Радасць і страх скавалі яе сэрца. Яе каханы пяпарэдзіў, што ён тут крадком. Ад слова зразумеў усё. Сказаў, што прыйшоў па яе, адзіную, незабытую. Ідучы сюды праз Валынь, нагледзеў там вольныя землі. Тут пан ім не дасць жыцця, а там яны здолеюць быць шчаслівымі. У беднай жанчыны разрывалася сэрца: «А як жа быць з яе Зоськай?» Яна ж не вытрымае доўгай зімовай дарогі (на Валынь яны мусілі прабірацца пехатой). Нельга пакінуць дзяўчынкі і ўдаўцу: у яго і без таго хапала галодных ратоў. Хіба бяздзетным? — падказаў Кастусь. Так і зрабілі. Захінутую ў хустку-пянькоўку дзяўчынку паклалі на гурбу пад акно бяздзетным людзям. Ноч была відная. У хаце, было відаць, гарэў светач, яшчэ не спалі.

Двое няшчасных закаханых, Ганулю з жахам у сэрцы, пакідалі сяло навекі. На дзіцячы плач на ганак выскачыла жанчына. Удваіх з мужам яны прынеслі знойдзенае дзіця ў хату. Уражаныя, вачыма пыталіся адно аднаго: «Што гэта: літасць лёсу, цуд?» Калі даведаліся, што з вёскі прапала Ганулю, здагадаліся, але радасць не пакінула іх. Дзяўчынку назвалі снягурачкай: знайшлі ж у снезе.

Вырасшы, Зося-снягурачка выйшла замуж за Рамана Логіна. Яна і была бабуляй братоў-фальклларыстаў Логінаў.

У цэлым сям'я Логінаў ужо ў трэцім пакаленні па Зосі-снягурачцы была дружная. Як з гадамі лёс ні разводзіў Логінавых на розных дарогах, браты патраплялі памагаць адзін аднаму і не толькі ў справах бытавых, простых, але ў нейкіх вышэйшых, духоўнага парадку. Быў здаровы корань роду. Сумленнасць, працавітасць, духоўнасць вызначалі яго сутнасць трываласць. Усе, хто заставаўся жывы з гэтай сям'і, прайшлі выпрабаванне часам, пакінулі нейкі след, права на ўдзячны ўспамін людзей. А давялося ўсім ім нялёгка, старэйшым і маладзейшым. Асабліва ў дарэвалюцыйную пару. К таму часу, калі браты Восіп і Андрэй пачалі збіраць творы народнай паэзіі, Логіны ўжо паспелі выбрацца з нядолі, у якую была кінула іх заўчасная смерць бацькі. Падрос старэйшы сын Аляксандр. Ён здолеў выўчыцца на шаўца. Ад прыроды меў нахіл да рознай гаспадарчай работы. Няблага сталяраваў. На зробленыя шавецтвам грошы купіў дрэва на хату, сам заснаваў і з дапамогай талакі вывеў аж пад вянец зруб. Гаспода выйшла пpасторная, светлая, — адна з лепшых на той час у вёсцы. Шавецтва памагло набыць каня, завесці, хоць і на бедным надзеле, сякую-такую гаспадарку. Сям'я ажыла. Галоднае мінулае было ззаду. Яно, праўда, прыходзіла часам на памяць як жорсткі ўспамін. Сярод суровых згадак яго была першая сірочая вясна, без бацькі, без хлеба, смерць дзвюх самых малодшых сястрычак, якія не вытрывалі голаду, недаядання, памерлі ў год па бацькавым скананні. Але жыццё ішло, прывіды мінулага знікалі. Ды не паспелі Логіны парадзелай сваёй сям'ёй акрыяць, пачалася першая сусветная вайна. Яна несла смерць, разбурэнне і яшчэ большае зґаленне народа. Шукаючы заробку дзеля кавалка хлеба, моладзь, каго не забралі ў салдаты, пакідала свой край. Было не да песень і Андрэю Логіну. Фронт паціху пасоўваўся на ўсход і хлопец завербаваўся ў падрадчыка на будаўніцтва Мурманскай чыгункі. Заадно спадзяваўся

быць бліжэй да старэйшага брата, які цяпер вучыўся у Петраградзе. Разам з Андрэем ехаў і брат Уладзімір. Працавалі непадалёк Ладагі. Пакуль не скончылі будаваць чыгунку — землякопамі. Па заканчэнні будаўніцтва — стрэлачнікамі. Пазней Андрэй засвоіў марзянку і стаў тэлеграфістам. Увосень 1915 года, калі немцы наблізіліся да Навагрудчыны, уся сям'я Логінаў, маці, брат Аляксандр, сястра, прыехалі на станцыю Паша. Гэта на мяжы з Карэліяй. Яшчэ ў красавіку 1917 года Андрэй Логін быў выбраны дэпутатам мясцовага Савета, пазней раённага, а затым дарожнага прафсаюзнага камітэта. У 1919 годзе добраахвотнікам пайшоў у Чырвоную Армію, ваяваў на Паўднёва-ўсходнім фронце. Брат Аляксандр быў вызвалены ад вайсковай службы па стану здароўя. У 1918 годзе, яшчэ да ўварвання ў Беларусь палякаў, сям'я Логінаў вярнулася на Навагрудчыну. Найболей сумавала па родным доме маці, дый голад пачаў даймаць бежанцаў. Спадзяваліся ратунку ля родных берагоў. У Моладаве чакаў родны дом, ацалелы ў полымі вайны. Але чакалі і новыя нягоды. Брат Аляксандр, які бачыў у Расіі рэвалюцыю, новы лад жыцця, прынесены ёй, з сумам у душы глядзеў на ўсталяванне ў Заходняй Беларусі польскіх буржуазных парадкаў. Там, на Усходзе, рэвалюцыя аддала селяніну зямлю, выгнала крывасмока-фабрыканта, непазнавальна змяніла ўсё. Тут жа адвечны працаўнік зямлі, які паліваў яе крывавым потам, каб мелі хлеб усе, гібеў, як і да рэ-валюцыі, на сваім марным надзеле. Угару ішлі паны і падпанкі. Лепшыя кавалкі зямлі разда-валіся асаднікам, былым легіянерам Пілсудскага, з якіх улада наважылася стварыць на беларускіх землях праслойку польскага казацтва, апору сваёй дзяржаўнасці тут. Аляксандру Логіну пачалі трапляць у рукі час ад часу газеты з Вільні. Адны, такіх было мала, амаль нічога не пісалі супраць паноў, нібы шукалі з імі згоды. Іншыя ж паказвалі на свет, вытыкалі ў вочы гаспадарам становішча розныя крыўды, што чыніліся панскай адміністрацыяй працоўнаму беларусу. Справядлівыя і гнеўныя старонкі такіх выданняў будзілі ў народзе дух супраціўлення новаму рэжыму, рыхлілі глебу пад усход новых дзён. Асвета народа стаяла на парадку дзён. Асвечаных прасцей усведамляць палітычна. Асвечанаму прасцей шукаць дарогі да праўды. Аляксандр Логін хоць і не быў жанаты, сваіх дзетак не меў, не мог глядзець як моладаўская дзятва марнее без школы. Падаўся ў Навагрудак у павятовы куратарыум сабраўшы подпісы бацькоў, з заяўкай на беларускую школу. Там сказалі, што беларускага настаўніка не дадуць, а польскага, калі сяляне самі пабудуюць будынак пад школу, — прышлюць. Вясковая грамада будаваць школу адмовілася: дзе было згалеламу дарэшты селяніну ўзяць грошы на дрэва, цэны на якое паднялі замежныя купцы, рынуўшыся ў Польшчу, асабліва на крэсы яе, у Заходнюю Беларусь, па таннейшую драўніну. Тады Аляксандр рашыўся прасіць дапамогі ў братоў, што жылі ў Саветах. Тыя ўтрох пасля сканчэння грамадзянскай вайны сабраліся ў Кіеве: Восіп, Уладзімір і Андрэй. Уладзімір працаваў рабочым, Андрэй бегаў на падрыхтоўчыя курсы, збіраўся далей вучыцца. Восіп займаўся з ім матэматыкай. Сам марыў экстэрнам здаць экзамены за сельскагаспадарчы інстытут. Але час быў суровы. Вялізная краіна ляжала ў руінах. Даваліся ў знакі голад і холад. Ан-

дрэй не вытрымаў, падаўся на вёску аж на Чарнігаўшчыну. Уладкаваўся на завод, які па ўцёках яго гаспадара, пана Крымскага, стаў народнай уласнасцю. Праз нейкі час стараннага, акуратнага ў рабоце Логіна-малодшага выбіраюць галоўным бухгалтарам завода. Завод у Чамярах, на Украіне, і стаў жыццёвым лёсам Андрэя Калістратавіча Логіна, збіральніка, знаўцы, шчырага аматара беларускай народнай песні.

Калі прыйшоў ліст ад самага старэйшага брата з просьбай дапамагчы моладаўскім дзеткам прабіцца да асветы, жыў яшчэ і Восіп. Удвух яны сабралі, колькі маглі, чырвонцаў і наслалі на радзіму. Дыпламатычныя адносіны Польшчы з СССР тады яшчэ не былі канчаткова ўсталяваны, і пасрэднікам у такіх прыватных, скажам, эканамічных аносінах выступаў Англійскі банк. Аляксандр Логін атрымаў у валюце суму, якой хапіла на тое, каб купіць будаўнічае дрэва і паставіць школу. Для ўлюбёнкі сваёй (чалавек такі па-сапраўднаму захапіўся думкай аб школцы ў Моладаве) ён выдзеліў месца на сціплым уласным пляцы. Сам закладаў падмуроўку, заснаваў зруб. Будавалі талакой. Перад ва ўсіх работах вёў Аляксандр. Калі школа адчынілася, застаўся ў ёй сторажам.

А грошы, прысланыя братамі з Савецкай Расіі, старэйшаму Логіну польскія ўлады прыпомнілі. Праз гады, нечакана і жорстка.

Аднойчы ў школьную старожку нечакана заявіліся агенты дэфензівы. Яны ператрэслі сяннік гаспадара, шуфляды ў стале, аглядалі падлогу, ашчупвалі шпалеры… І хоць ніякай матэрыяльнай кампраметацыі не знайшлі, загадалі Аляксандру збірацца.

У камендатуры ў Навагрудку білі, вымагалі назваць прозвішчы падпольшчыкаў, з якімі разам вёў антыдзяржаўную агітацыю. Крычалі, што адкажа за грошы, што атрымаў на бальшавіцкую прапаганду з Саветаў. Аляксандр траціў прытомнасць. Яго адлівалі вадой і зноў білі. На допыце зразумеў, што яго ўдаў нехта з вясковых канфідэнтаў. Дэфензіва пасуламі і грозьбай завербавала сабе нямала тайных агентаў, даносчыкаў. Рэкрутавала іх з чыноўнікаў, асаднікаў, настаўнікаў. Мела і сярод вясковых людзей. У 30-я гады, калі сёй-той з памешчыкаў, не будучы пэўным у доўгім тут панаванні буржуазных парадкаў, пачаў прадаваць зямлю, малазямельныя сяляне, высільваючыся з апошняга, стараліся прыдбаць які-небудзь кавалак грунту. Цэны на зямлю былі вельмі высокія, і той, хто захацеў прыкупіць нейкі шнур, на доўгі час асуджаў усю сям'ю на непамерныя цяжкасці, самаабмежаванні. Сядзелі аб посніцы, абы не памерці з голаду. Прадавалася ледзь падгадаваная і патрэбная ў гаспадарцы жывёліна, кожны кавалак масла, яйка, якое было палатно.

Аляксандр Логін шчыра і проста тлумачыў людаям: «Не рвіце дарэмна жыл, не аддавайце мазольна зароблены злот дармаедам, прыгнятальнікам. Недалёка той час, калі зямля будзе належаць працоўным. Як на Усходзе…» Нехта данёс, і цяпер палітычная паліцыя прагнула «зламаць» сваю чарговую ахвяру. Даносы канфідэнтаў даносамі, але трэба было рэчава даказаць віну арыштаванага. Таму націскалі на адзіны «довуд» (доказ, сведчанне) — на грошы, прысланыя Логіну з-за мяжы. Ажно гэты «аргумент» у руках

дэфензівы, на шчасце, не спрацаваў. Начальнік пошты аказаўся сумленным чалавекам. Ён знайшоў у архіве копію дакумента, згодна з якім Аляксандру Логіну выплацілі грошы, прысланыя з СССР. На ім быў штэмпель Лонданскага банка. Элементарная логіка гаварыла: Лондан не можа прысылаць грошы на бальшавіцкую агітацыю. І майстрам правакацыі з Навагрудскай дэфензівы давялося адступіць. Аляксандру Логіну гэта «недаразуменне» паліцэйскіх з дэфензівы каштавала здароўя. Пасля допытаў ён доўга лячыўся. Каб не знаёмы аптэкар-яўрэй, адправіўся б на той свет. Ачуняў, але на ўсё жыццё застаўся прыпадачным.

Тое, пра што гаварыў Аляксандр Логін сялянам, хутка здарылася. З устанаўленнем у Заходняй Беларусі Савецкай улады ў верасні 1939 года ён сам як дэпутат, абраны ў сельсавет, прычыніўся да падзелу панскай зямлі і надзялення ёю землякоў-земляробаў. Як мог справе вызвалення роднай зямлі, радзіме паслужыў Аляксандр Логін і ў вайну. У першыя ж дні яе пехатой выправіўся на Усход. Але пад Менскам трапіў у акружэнне. У лесе камандзір часці, з якім пазнаёміўся, параіў вяртацца дахаты і чакаць весткі ад яго. Паказвацца адкрыта дома былому савецкаму актывісту было рызыкоўна, і Аляксандр схінуўся на час у сваякоў на хутары. Сябры з Навагрудка паведамілі, што ёсць ён у спісках, складзеных па былых савецкіх работнікаў. У той час, калі вайсковае жандарскае кіраўніцтва замянялася на каменданта, сябры ва ўправе спіскі гатыя знішчылі. Праз нейкі час ноччу пастукаўся ў акно насланец ад камандзіра колішняй чырвонаармейскай часці. Партызанам патрэбна была дапамога яго як шаўца. З таго часу на лясных хутарах, тоячыся ад староннята вока, Логін-старшы шыў партызанам кажухі, ватоўкі, халаты, бялізну. Памагалі яму ў рабоце дзве дзяўчынысвятніхі. Праца была складаная, рызыкоўная, але рабіў яе Аляксандр рупліва і акуратна. Успамінаў майстра-шаўца з Мошавіч, у якога вучыўся свайму рамяству. Тады быў таксама неспакойны час, рэвалюцыя 1905—1907 гадоў. Майстэрню, пакоі гаспадара некалькі разоў абшуквалі, трэслі царскія жандары. Мелі звесткі, што майстар-шавец звязаны з рэвалюцыянерамі, шукалі крамолы. Але вучні паспявалі схаваць лістоўкі і брашуры свай-го гаспадара і тым заўсёды выручалі яго. У той майстэрні, са слоў майстра-шаўца, з літарату-ры, якую ён даваў пачытаць сваім вучням, і запала ў юнае сэрца Логіна-старэйшага іскра. Яна і распаліла ў душы надзею, веру ў свабоду, у надыход людскага, годнага чалавека жыцця. Для ўсіх.

Па вайне не давялося ўжо Логінам сабрацца за сямейным сталом разам. Калі праз сорак з лішнім год Андрэй Калістратавіч наведаўся ў роднае сяло, яшчэ застаў жывымі брата Аляксандра і сястру Марылю. Час, перажытае ўсіх моцна змянілі. Асабліва, здалося Андрэю Калістратавічу, пастарэла старэйшая сястра, колішняя ткалля і пявуння. Не было ўжо руплівай працавітай пакутніцы маці. Яна памерла перад самай вайной, аглушаная, скантужаная маланкай. Не было і колішняй гордасці іхнай сям'і Восіпа, які здзіўляў усіх здольнасцю да вучобы, навукі, падаваў столькі надзей.

Андрэй Калістратавіч радасна пазнаваў старэйшых аднавяскоўцаў, родныя долы. Краявід як бы і не змяніўся. Паўставалі перад вачыма змалку зна-

ёмыя абрысы ўзгоркаў, далін, сініх лясоў на даляглядзе. Тое самае было роднае поле. Толькі зніклі межы, высокія, парослыя травой, роанымі кветкамі, пахучым чабаром. Крыху паменела лясоў, і святлей, песялоіі гля-дзелі на свет вяоковыя хаты.

На сцежках дзяцінотва шмат успаміналася радаснага і адначасна сумнага. Як удвух з Юзікам аднойчы каля яра адбіваліся ад ваўкоў, што напалі на авечы статак. Як, халодзячы ногі ў расе, раніцамі беглі ў дубняк шукаць баравікоў. Апавяданні Восіпа ў час яго канікул аб далёкіх краінах, іх нязнаных насельніках.

Зноў прыпаміналася апошняе развітанне з братам у 1930 годзе на Чарнігаўшчыне. Восіп нечакана прыехаў да свайго малодшага схуднелы, белатвары. Дактары гаварылі нешта няпэўнае. Здаецца, знайшлі ў яго захворванне залоз унутранай сакрэцыі. Нядоўга затрымаўся ў братавай сям’і. Сказаў, што кіруецца ў Менск. Гаварыў пра Беларускі універсітэт, пра сваю незавершаную адукацыю. Яшчэ не гасла ў ім іскра надзеі, што малады арганізм зможа невядомую немач, якая падкрадвалася да яго. Яшчэ жыла ў Восіпа прыбітая пылам пражытых гадоў даўняя мара — папрацаваць на ніве беларускай славеснасці.

Ці дайшоў Восіп Логін да родных парогаў, а калі дайшоў, то як сустрэў яго горад ягонай маладосці, — цяжка сказаць. Ніякай весткі аб сабе Андрэю ён болей не падаў. Засталося ў памяці толькі: рослая, яшчэ дужая постаць ад-даляецца і ўсё меншай робіцца на шляху.

Засталося адно памяткай таго, што лучыла іх — моладаўскія песні. І тыя заблуканыя ў свеце, часткай у Ленінградзе, часткай у Кіеве. І не ведаў малодшы Логін, што дбайна сабраныя і зберажоныя імі творы — добры дасевак на ніве беларускай фалькларыстыкі, якая апошнія гады хораша зарунела і недалёка той час — закаласіцца, парадуе плёнам!

Фальклорныя зборы братоў Логінаў лішні раз вяртаюць беларускіх знаўцаў народнай культуры да адной даўно наспелай праблемы. У архіўных сховішчах Ленінграда, Масквы, Вільні, Варшавы, Львова, Кіева дый іншых гарадоў ёсць прытулена нямала беларускіх фальклорных матэрыялаў. Частка з іх шчасліва трапіла ў ровныя выданні беларускай народна-паэтычнай спадчыны, у тым ліку ў фундаментальнае акадэмічнае выданне яе, здзейсненае ў апошнія гады. І тым не менш вялікія прыватныя калекцыі беларускіх народных песень, казак, прымавак, мудраслоўяў, паданняў яшчэ не сталі здабыткам шырокай культурнай грамадскасці. Не апублікаваны зборы беларускага фальклору піянера славянскага народазнаўства Даленгі-Хадакоўскага. Няшмат надрукавана і з беларускага архіву Кірэеўскага. Я.Чачот публікаваў беларускія песні пераважна ў перакладзе на польскую мову. Толькі ў апошніх выпусках сваіх «Вясковых песенек» змясціў аўтэнтычныя творы. Сягоння знойдзены рукапісы яго «Вясковых песенек з-пад Нёмана і Дзвіны», і гэты арыгінальны і багаты матэрыял можа прыйсці да чытача ў сваёй прыроднай апратцы. Чакае выдання сабраная і падрыхтаваная да выдання фальклорная скарбніца, пакінутая нам педагогам і фальклярыстам С. П. Сахаравым.

Знойдзена рукапісная спадчына А. Грыневіча, якая цудам уцалела па смерці фалькларыста. Яна таксама можа скласці асобныфгом. Фальклорныя зборы мастака Драздовіча і архітэктара Дубейкаўскага маглі б стаць важкім укладам у здабыткі беларускай фалькларыстыкі, культуры. І вось гэты песенны скарб Наднямоння, Навагрудчыны, адшуканы і перададзены нашчадкам братамі Логінамі. Хутчэй спарадкаваць і выдаць — ці не надзённая задача усіх, хто думае, руліцца аб духоўным узвышэнні чалавека, аб заўтрашнім дні культуры?

*1983*

## Пявуння з мястэчка Сінкевічы

Стаіць яна, вялікая палеская жанчына сярод гароду, скрозь укрытага кустамі бульбы, молада зялёнай на шэрым улонні поля. На нашы словы аб тым, што прыйшлі пачуць яе песні, уважлівыя цёмныя вочы асвяціліся скупой радасцю. Абтрэсла рукі ад зямлі, прапусціла наперад у цеснаватыя сені, хату, дзе па-даўнейшаму на куце сышліся дзве лавы, а невялікія вокны засціў густа пакрыты суквеццямі мушкат.

Змахнула хвартухом зэдлік і непадалёк села сама. І неяк адразу зрабілася зразумела, што не трэба лішне тлумачыць, расказваць, дзеля чаго, нашто. Не трэба было просьбаў, лішніх пытанняў. Песні нібы самі паліліся адна за адной. І голас быў грудны, і яшчэ зусім не старэчы, хоць маладосць яе прамінула даўно: восемдзесят вёснаў спаткала і праводзіла Аўдоцця Клеўжыц на зямлі, у гэтым ціхім палескім кутку — не то вёсцы, не то мястэчку, некалі адгароджаным пяскамі, лясамі ад шырэйшага свету. І казалі песні пра жыццё, можа, не пра тое, якім яно было, а якім адбілася ў сэрцы, што праспявала яго.

Эпічна, трохі велічна, як і павінна быць у баладзе, гучаў зачын.

Усе палі засеяны
І жыта урунілася.

І распавядала песня, даўняя, як свет, пра гісторыю даўнюю, пра жаночы лёс і складанасць людскіх узаемін. А потым песня станавілася шчадроўкай, бадзёрай і звонкай, як навагодні мароз, як сіні заснежаны вечар пад вокнамі колішніх сялянскіх хат.

Ходзіць паходзіць месяц па небе
Шчодры вечар, добры вечар!
Заву пазаву зоры з сабою:
Ходзіма, зоры, калядаваці…

І снавала песня абразок за абразком і расхінала сцены гаспадаровай хаты, каб паказаць, што там дзеецца ўрачыстым святочным вечарам.

Сам гаспадар за сталом сядзіць,
За сталом сядзіць, тры кубкі дзяржыць:
У адным кубку п’янка гарэлка,
У другім у кубку віно зялёна,
У трэцім кубку мядок салодак.
П’янка гарэлка для пана гаспадара,
Віно зялёна для яго жоны,
Мядок салодак для яго дзетак.

І папярэджвала песня-вяшчуння аб набліжэнні сімвалічных калядных госцікаў-сяброў — памагатых земляроба-аратага.

Насцілайце сталы, накладайце хлябы
Да прыйдуць к нам да тры госцікі:
Адзін госцічак — свецел месячык,
Другі госцічак — ясна сонейка,
Трэці госцічак — дробен дожджычак…

Па хаце спявачкі пачаў сцяліцца паўзмрок. Ён паволі гусцеў, рабіўся бэзавы за акном. А песні ўсплывалі ў памяці лёгка, то журачыся, то скупа свецячыся ўсмешкай, радасцю.

Неяк гаворка аб летніх песнях перайшла на русалак. Вочы спявачкі загарэліся ўзрушанай упэуненасцю, калі яна пачала расказваць, як аднойчы, у часы яе маладосці, яны запрудзілі крыніцу і потым па сходзе вады на пяску ля яе вытокау было відаць безліч басаногіх маленькіх слядоў.

І неяк не заставалася месца цвярозаму скептыцызму, які толькі што прасіўся на вусны, а прыгадалася збянтэжанасць і крыўда Уладзіміра Лугаўскога, калі малады, добра падкаваны літаратар перапыніў яго расказ аб сустрэчы з русалкай разумным папрокам: «И Вы в самом деле верите этой чепухе?» Ёсць штосьці агульнае, што лучыла летуценні, мары народнай спявачкі з далёкай палескай вёскі і сусветна вядомага паэта, якаясь повязь-лучво ўсіх рамантыкаў.

…Назаўтра раніцай мы з аспіранткай Ліяй Салавей ізноў пераступілі парог хаты Аўдоцці Клеўжыц. У печы весела палалі дровы, водсвет полымя скакаў на шыбах. Спявачка сустрэла нас у святочным уборы. І не толькі па вышытым яе хвартуху, густоўным гарсэце можна было бачыць, зразумець, што прыходу нашага яна чакала. Відаць, усё, што ў яе ўяўленні было звязана з песняй, патрабавала неабыдзённага. Бо хіба сама песня, спяванне, слуханне яе не ёсць свята душы, прасвятленне, сама ўрачыстасць? Ізноў удумліва слухала яна сваю і крыху ўжо не сваю песню з магнітафоннай стужкі. І толькі ўключалі на запіс, спявачка ізноў без адзінай запінкі, нідзе не бунтуючыся, засяроджана і строга вяла сваю наступную песню. І пэўна ж бачыла цяпер зрокам, скіраваным у сябе, праз далеч гадоў, мо ў сваёй маладосці тую Іванкаву маці з вясельнай песні, што поўна гордасці, матчынай пяшчоты пыталася ў суседзяў пра сына:

А любыя суседзі, глядзеце,
Ў каго мой сыночак удаўся,
Што па пояс у золацечка ўбраўся.
Сам жа ён убраўся, каня не —
Поўна грывачка зелейка,
Поўны капыцечкі крамення.
— Не журыся, мамачка, аба мне,
Есць у мяне кавалі на дварэ,
Падкую коніка я ў сядле…

Так шчыра журыцца і расказваць можна толькі той песняй, што ідзе з самога сэрца. А вось песня кідае ноту трывогі.

Ой вялікі збор,
Да не ўвесь род…

А песнявае вяселле тым часам пад'язджала да хаты маладой. І голас спявачкі паказваў маршалкам і ўсёй дружыне маладога:

Маладыя маршалачкі,
Набівайце стрэлачкі,
Да прабівайце сценачкі,
Да пабачым, дзевачкі,
Ці хараша яна нараджона
На пасадзе да пасаджона.
Нараджона, як панянятка,
Пасаджона, як князянятка.

І пакуль ішло вясёлае і горкае застолле ў маладой, Іванкава маці чакала і выглядала звароту сына з нявехнай.

Ой Іванкава мамачка
За вароцейкі ходзіць
Ды на зорачкі глядзіць:
Ох вы зоры, да мае зоры,
Прасвяціце ж вы ў полі,
Да там маіх дзетачак двое.

Нам пара ўжо было збірацца ў дарогу і пакідаць Сінкевічы, што над Ланню-ракой, пад Лунінцам, гэту ціхую, паэтычную мясціну з помнікам палеглым байцам, шэра-замшэлай, застылай у вяках, казкай-харомінай, брамай-званіцай пры ёй адразу за гародам Аўдоцці Клеўжыц. А песні яшчэ ўсё сналіся і сналіся. І не цесна было ім у Аўдоццінай хаце, дзе яны здаўна прыжыліся. І шкада было нам, не вычарпаўшы ўсіх іх, развітвацца. Дый вычарпаць іх было не проста. Хіба можна вычарпаць крыніцу? А на

адвітанне, калі мы задалі крыху традыцыйнае для фалькларыста пытанне, ад каго бабуля пераняла свае песні, пачулі штось нечаканае. Пявуння ўспомніла, як прыйшлі да яе гэтыя песні: пры працы і ў святочныя дні, калі дзяўчынкай адпраўлялася са сваімі дзвюма бабулямі збіраць зёлкі, кветкі. «Запамінай нашы песні, — казалі яны, —калі ты іх навучышся і будзеш спяваць, нам будзе лягчэй у зямлі ляжаць». І тут спявачка сказала такое, ад чаго мы адразу крыху разгубіліся: «Вось, дзеткі, вы чулі мае песні і з сабой іх бярэце. Калі там дзесь будзеце іх спяваць і другім людзям перакажаце, каб наўчыліся, мне не будзе цяжкай зямля. Жывеце ў здароўі і радасці. А песні нашы праўдзівыя, бо з жыцця ўзяты».

*1970*

# Даўнія песні Наддзвіння

Таму, хто гадоў дзесяць запар штолета выбіраўся ў фальклорнае падарожжа па песню ( ды ці толькі фалькларысту-збіральніку), як убярэцца ў сілу вясна, а за ёй малады чэрвень зашапоча ў скверы цёмна-зялёнымі лістамі закучаравіцца сакавітай травой уздоўж тратуараў аднойчы раптам прыгадаецца шыза-дымны разліў жытоў, прамытая дажджамі палявая дарога, аднекуль пачуецца ціхая песня ў надвячоркавай стоме сяла. І тады востра завінецца дыхнуць адкрытай далеччу бальшакоў, акунуцца ў размераны ад усходу да заходу сонца рытм вясковага жыцця і зноў пачуць песню працы і роздуму, шчырую песню мацярок, вынесеную народам Бог ведае з якіх глыбіняў часу.

Таго году акадэмічныя фалькларысты кіраваліся ў Наддзвінне. Выбіраліся цераз Лагойск, Плешчаніцы… Па дарозе звярнулі да Хатыні, каб прычасціцца высокаму смутку і гневу яе.

…Недзе зусім блізка, убаку, заставаўся няўбачаны, зваблівы ўжо самім сваім старажытна-славянскім найменнем Лепель. Як да першага прывалу, імкнуў наш фалькларыстычны табар да Ушач, і надвячоркам, наталіўшы за дзень вочы і сэрца палявымі, азёрнымі ды баравымі краявідамі, мы дабраліся да іх.

Ледзь не адразу кінуліся ў райкнігарню, зір нуць на хату маці Рыгора Барадуліна дзесь на адной з гэтых зялёных вуліц, нарэшце да возера, якое танула ўжо ў ліловым паўзмроку вячэрняй цішыні і, здавалася, таіла яшчэ ў сваім цёмным улонні водбліскі нядаўна згаслага сонца. Хто маладзейшы, паспелі пабываць у клубе, што, здалёку можна было пачуць, ройна, шчасліва гуў маладымі галасамі, над якімі плыла найсучаснейшая эстрадная мелодыя. Абрывак санлівага буслінага клёкату быў нам як «дабранач» на першы дарожны сон. А назаўтра ізноў у дарогу, і не то дзеля арыентацыі ў фальклорным Наддзвінні, пробы ці проста дзеля ўспамінаў аднаго з удзельнікаў экспедыцыі, былога сельскага настаўніка, зачапіліся за невялічкую вёсачку між двух азёр. У Белай — так звалася вёска, хоць і была яна гасцінная, а як для людзей, што засядзеліся за сталамі, і па-свойму экзатычная: з начной лоўляй ракаў, дымнай юшкай над возерам, — песенніц знайшлі незашмат. Праўда, наспявалі аднаму нашаму таварышу кораб вясельных. Толькі разгарнуў ён блакнот, як у вочы кінуліся словы:

Адчыні, матулька, ваконца —
Вядзем табе нявестку, як сонца,
Адчыні, матулька, новы тын —
Вядзем табе нявестку, як твой сын…

Аднак усім нам у адной невялікай вёсачцы не было чаго рабіць. Ходзячы па хатах, усё натыкаліся на сваіх жа калег, расчаравана ўсміхаліся адзін аднаму. І, бачачы наш марны клопат усё ж нешта пачуць, запісаць, гаспадыня, у якой удвух мы запыніліся, параіла падскочыць у суседнюю вёску. «Гэта тут, за ўзгоркам, — казала яна нам зычліва.— Муж прыйдзе на абед, падвязе вас». Неўзабаве лёгка і весела, падскокваючы ў кузаве, мы імчалі ў грузавіку цераз палі ў Занавінне. Павел Каруза, чалавек бывалы, добры знаўца беларускай народнай песні, падставіўшы сустрэчнаму ветру сваё так і не збеларушанае за пару стагоддзяў, як тут аселі яго продкі, італьянскае аблічча, тлумачыў: «Занавінне, відаць, ад слова «навіна» — поле, дзялянка, аблога, якія пачалі распрацоўваць…»

Тым часам срабрыста бліснула сянажная вежа, выглянула калгасная ферма, потым сама вёска, і наводдаль — сіне-асмужаны лес. Занавінне… Хацелася верыць, што ў вёсцы з такой паэтычнай назвай, якая гучала, як сама музыка, будзе шмат песень, будуць добрыя песні.

Тэклю Антановіч засталі на падвор'і. На лавачцы пад сеньмі яна сядзела з суседкай, і каля яе ног стаяў тазік з залацістымі акунямі. Лёгка адгукнулася на нашу просьбу праспяваць песні. Паклікала ў хату. Я папрасіў пачаць з тых што спадарожнічалі працоўнаму году, паравымі, як іх дзенідзе завуць. Сонца кацілася к зеніту. Даспявалі травы. Лугі з дня на дзень павінны былі гукнуць да сябе людзей. І мы пачулі замроеную, як бы прынесеную здалёку мелодыю і словы — «Ішла Купалка па вуліцы». Спявачка сядзела спакойна: нібы і далей вяла нетаропкую бяседу з суседкай. Адарвала позірк ад магнітафона і, спяваючы, глядзела кудысь удаль, праз акно на поплаў. Песня ішла праз пакосы, потым ляцела над свежазрэзаным аржоннем, далёкім водгаласам расплывалася на восеньскім узлеску і раставала ў небе разам з жураўліным клінам. Даверліва пыталася, расказвала. Лёгка пасміхалася з хлопца, што не жэніцца, чакае, пакуль хмель на тычыну наўецца і ячмень даспее, гаварыла пра крыху невыразны клопат з вінаградам. Сімвалічны сэнс гэтага клопату прыцьмеў, пакуль песня прывандравала аж з агульнай бацькаўшчыны славян. Голасам дзяўчыны песня жалілася, папракала сонца за тое, што яно так рана ўсходзіць і позна заходзіць на шве, прасіла спагады і рады, дзе падзеці дзеўчыне, якую абмінулі сваты, «ялковыя ручнікі і кружковыя абрусы», ці імі «дубы абвіваці, ці імі горы накрываці».

Песня падкупляла шчырым, даверлівым тонам размовы з прыродай, чалавекам. Проста душэўна гучалі яе словы:

— А ты зімачка, а ты халодная,
Чаго так рана настала?
— А я ні рана, аяні позна —
Як мая пара прыйшла:
Лісток падзе, травіцу кладзе
Вось мая й пара прыйшла.
— А ты, Ганулька маладзенькая,
Чаго так рана замуж пайшла?
— А я ні рана, а я ні позна —
Як мая пара прыйшла:
Татулька аддаець, сужанька бярэць —
Вось мая й пара прыйшла.

Жывей, весялей успляснулася мелодыя ў вуснах спявачкі. Паравыя змяніў напеў вясельнай песні, энергічны, парывісты рытм:

Узвіўся рой за гарой —
Ляцець хочыць…

І другая была аб выправе хлопца па сваю абранніцу, маладую. З перадачай урачыстасці моманту, адказнасці яго, з сімваламі даўняй народнай веры ў шчаслівую сустрэчу добрага чалавека, шчаслівае і нешчаслівае дрэва:

Зайгралі гармоні каля коні,
Паселі малойцы ўсе на коні,
Адзін жа Пецечка не садзіцца,
Знаць, яго мамачка навучаець,
У даўгую дарогу выпраўляець.
— Едзь, паедзь, Пецечка, жаніціся,
Не стаўляй коніка пад калінаю,
А стаўляй коніка пад яварам.
А з камля каліны рэкі ідуць,
А зверху каліну птушкі клююць.
Явар — дзераўца шчаслівае,
А з камля явара мяды цякуць.
А зверху явара салаўі пяюць.

І так песня за песняй — свет простых жыццёвых перажыванняў, думак, падсвечаны святлом дабрыні, спагаднасці, чалавечнасці. Ні ў голасе спявачкі, ні ў яе паставе за ўвесь той час, калі яна спявала нам, не чулася ўзрушэння, змены настрою. Сядзела спакойная, нічога не дадаючы да слоў песні, увесь час нібы заслуханая ў нейкі далёкі-далёкі край сваёй маладосці, свет сваёй душы. Толькі ў капцы, калі мы, дзякуючы за песні, увагу, развіталіся, няўзнак спытала ціхім голасам: «А хто гэта вас да мяне прыслаў?» І, пачуўшы прозвішча нашай дарадчыцы, падумала ўголас: «Па-

саромелася спяваць», — і потым нам: «Яна ўсе мае песні змалку ведае. Дачка мая, замуж туды выйшаўшы».

…Назаўтра мы ўсёй экспедыцыяй былі ўжо ў Верхнядзвінску, адкуль і пачынаўся заплаваны маршрут. Як звычайна, заглянулі ў райком, рэдакцыю раённай газеты параіцца, дзе найбольш спеўныя калгасы, вёскі. Праўда, іншыя нашы фалькларысты наважыліся ў канкрэтныя мясціны яшчэ з дому, з Мінск. Лія Салавей была ўся ў прадчуванні хуткай сустрэчы з Кахановічамі, звязанымі з крыху загадкавым у нашай фалькларыстыцы імем Ігната Храпавіцкага. Загадкавага тым, што гэты чалавек ў 40-я гады мінулага стагоддзя, калі ў краі ўсё спала, закалыханае злавеснай рукой Мікалая Палкіна, у дваццаць з лішнім гадоў напісаў выдатнае даследаванне, у якім глыбока і пранікнёна, вачыма патрыёта глянуў на паэзію беларускага народа, шчыра падзівіўся з народнага генія, абяцаючы справай паслужыць, каб памножыць яго духоўныя набыткі, і потым нідзе, здаецца, не адазваўся ні словам у друку, хоць пражыў доўгае жыццё, не зазнаўшы турмаў, ссылак, выгнання, як было з многімі. Між іншым, па аўтарытэтным сведчанні Рамуальда Падбярэскага, Храпавіцкі меў у сябе ў Кахановічах вялікую калекцыю запісаных беларускіх народных песень.

Сякія-такія прыкідкі тут, на Дзісеншчыне, былі і ў іншых нашых таварышаў. Напрыклад, было цікава зазірнуць і ў Зябкі, паглядзець, як жывы там песні, цудоўныя ўзоры якіх апублікаваў сто дваццаць гадоў таму назад у самавітым па тым часе выданні «Известия императорской Академии наук» Станіслаў Мікуцкі. А наогул усе, кожны па-свойму, чакалі звычайнага ўжо і разам з тым незвычайнага заўсёды спаткання з песняй. Раскідаліся групамі па ўсім раёне, каб як найпаўней ахапіць яго песеннае багацце.

З Васілём Скіданам ды Сымонам Барысом, якія ахвотна згадзіліся паехаць у больш дальняе месца, мы апынуліся ў лясной вёсцы Дзёрнавічы. Адзін канец вуліцы свабодна раскінутых дзёрнавіцкіх хат кранаўся шырокай, але плыткай тут Дрысы, другі заканчваўся будынкамі саўгаснага праўлення. Яны ўтульна прымасціліся пад пышнакроннымі старадрэвінамі, за якімі далей сцяной стаяў лес. Гаспадыня наша, Надзея Такальчык, хоць ужо і размяняла восьмы дзесятак, — жывая, увішная ў рабоце. Чужыя людзі ў хаце для яе не навіна. Жартам пакрыквае на свайго нетаропкага мужа. А ён тым часам у хаце і не заседжваецца. Павольна тупае на падворку: то чэша шуло пад прыбудоўку да хлява, то падвязвае ўжо ладныя цяглыя сцябліны памідораў, пасаджаных пад самай сцяной, на месцы прынятай прызбы. З размоў з ім даведваюся, што адваяваў дзве вайны, быў за старшыню арганізаванага тут самага першага калгаса… Пад’ехала дачка з Віцебска, дзе працуе на фабрыцы, на выхадны, толькі каб пераняць перад матчынымі рукамі што цяжэйшае з работы. «Геолагі, трактарысты, настаўнікі — хто толькі ў мяне не стаяў, але каб песні збіралі, такіх яшчэ не было, — кажа гаспадыня дачцэ.— Можа, ты ім спяеш? Але твае песні яны і самі ведаюць. Ім трэба такіх, што яшчэ не спяваюць у радыё». Перапыніўшы свой хатні клопат, цяпер павялічаны (цэлая сям’я, як раней, не тое што двое са старым), наша гаспадыня прыкідвае, хто тут, у Дзёрнавічах, яшчэ вартая людской увагі пявуння.

Калі прыйшла суседка Ефрасіння Мядзель, то не вытрывала. Спачатку падказала той забытае слова песні, а потым і сама падхапіла:

На гары лён — белы кужаль,
Не з кім стаці лён ірваці…

А потым рэзка перапыніла песню і з маладым запалам у вачах перайначыла яе пачатак:

На гары лён. Прападзі ён!
Не з кім стаці лён ірваці.
І толькі калі дагучаў апошні куплет:
На гары лён — белы кужаль,
Не з кім стаці лянок браці.
Мілы кажыць: «Я з табою, з маладою».—
«Мне з табою ані рванне — мілаванне», —

усміхнулася добра: «Маўляў, гэта па-мойму спетая песня». Праз нейкі час, пакліканая, відаць, гаспадынінай дачкой, падышла яшчэ адна суседка. Песні, што яна тут чула, не ўзрушылі, не закранулі: толькі адну, купальскую, яна трохі падцягнула. І зноў стаяла сцішаная задуменная. «У нас іначай пяюць», — адказала на маё пытанне. Паабяцала прыйсці пазней, пераняўшы кароўку з поля. І прыйшла, як сказала. І праўда, песні яе ўжо на слых адразу розніліся ад тутэйшых. Калі тут, у Падзвінні, у кожнай жанчыны былі на слыху песні паравыя, каляндарныя, то Тацяна Новікава выказвала сябе ў песнях лірычных, дзе перажыванні перадаюцца больш непасрэдна, чым у каляндарна-абрадавых. У песнях яе было менш умоўнасці, голас сэрца чуўся выразна, на ўсю моц перажывання. Потым яшчэ спявачка, і гэта можна было сказаць пэўна, мела цягу болып да песень з драматычным сюжэтам, дзе пачуццё чалавека выпрабоўваецца сурова. Разам з тым ва ўсіх яе песнях быў мяккі лірычны пачатак, які настройваў на задумлівы, крыху шчымлівы сардэчны тон:

Выйду за вароты —
Лугі ды балоты,
Выйду за новыя —
Лугі зялёныя,
Вадзіца лілее,
Маё сэрца млее…

Запомнілася больш, аднак, лірычная з гумарыстычным адценнем:

Не гукайце, не гукайце, галубы, на хаце,
Не будзіце, не будзіце мілога ў кравацці.
Я ж малада, я ж малада, сама пару знаю.
А як будзе, а як будзе соненка ўсхадзіці,

Тады буду, тады буду мілога будзіці.
— А ўстань, мілы, устань, мілы, мой ты галубочку,
А вунь табе, а вунь табе вадзіца ў кубочку.
Устань мілы, устань, мілы, мой ты саколіку,
Авунь табе, а вунь табе ручнік на колiку.
Устань мілы, устань, мілы, маё заляцанне,
А вунь табе, а вунь табе на стале сняданне,
На стале сняданне…

Тацяна Новікава нарадзілася і досыць доўга жыла на Слаўгарадчыне. А сюды забраў яе пасля таго, як скончыў Горацкую сельскагаспадарчую акадэмію. Спачатку рабіў тут аграномам, а цяпер дырэктарам саўгаса. Праз дзень мы спаткалі яго на вуліцы. З газіка выйшаў і павітаўся з намі сярэдніх гадоў мужчына. Спакойпы ў рухах, просты, Спытаўся, як ідзе ў нас работа, ці здаволены мясцінай. Было прыемна, што чалавек, для якога цяпер найвышэйшы клопат і абавязак плён на полі, дзяржаўны і людскі дабрабыт, імкнецца пазнаць і нашы турботы і радасці, даверліва, уніклiва прычасціцца староннямy жыццю. Пра тое, што і як, дзеля чаго запісваем народную творчасць, відаць, ужо ведаў ад маці.

Пакуль мае спадарожнікі збіралі дзёрнавіцкія песні, я вырашыў падацца ў суседнюю вёску. Часам наш брат, фалькларыст, не раскашуе. На абследаванне ўсёй ваколіцы — толькі скупыя тры дні. Надумаў, не марудзячы — магнітафон за плечы, і гайда. Дарога, толькі мінуў дзёрнавіцкія прысады, павяла збажыной. Жыты ўжо адкрасавалі, і не чутно было таго ледзь улоўнага, найтанчэйшага паху, у якім дзіўна перамешаны водар хлеба і блакіту. Колас наліваў зерне зямной дужасцю і сонечнай смугой. На абымшэлы прыдарожны валун ападалі апошнія шыпшынавыя пялёсткі. Няўзнак трапяткой жаўруковай песняй зварухнулася ў душы знаёмая мелодыя—«Спадчына». І пранікнёны голас Кашапарава з братчыны «Песняроў» ужо не пакідаў унутранага слыху. То адплываў у асмужаную далеч, то, як хвалі ветрыку па калоссі, вяртаўся зноў, напаўняючы ўмомант усю істоту шчымлівай радасцю, ціхай урачыстасцю.

Яшчэ кіламетры паўтара-два баравінаю — і праз густаваты ўзлесак паказаліся хаты. Вёска, выцягнутая ў адну вуліцу, займала край ладнай прагаліны. За хатамі ішлі палі, і ў канцы іх, таксама край лесу, які зялёнай граніцай з усіх бакоў замыкаў прастор, віднелася пару сядзіо. Дома ў Казловых нікога не было. Але, убачыўшы, што на падвор'і нерашуча топчацца незнаёмы чалавек, сцежкаю праз гарод ад суседзяў прыйшла гаспадыня, жанчына гадоў за шэсцьдзесят. Сустрэла незнаёмца з насцярогай. І спачатку была счуралася, што ведае песні: маўляў, не ў галаве яны. Потым, пачуўшы знаёмыя прозвішчы дзёрнавіцкіх спявачак, пачуўшы назвы некаторых песень, нешта падумала, сказала пачакаць. А праз некалькі мінут прыйшла яшчэ з адной жанчынай. Мне растлумачыла: «Клікнула жанок — разам лягчэй успомніць…»

Пакуль ладзіліся спяваць: пявунні думалі з чаго пачаць, а я правяраў магнітафон на запіс — рыпнулі дзверы і парог ціха пераступіла бабуля. Падумалася, што проста ўзяла цікаўнасць чалавека. Ажно не. Бабуля прыйшла ў песенную талаку, памагаць жанкам. Перад павяла гаспадыня, Надзея Казлова. Праўда, нямала песень і забылася. Яны ўжо не на слыху ў кабеты, ды і песні па характары сваім не на штодзень. Але адразу адчулася: жыве песня дзесь у глыбіні чалавечага сэрца, можа, пад цяжкімі напластаваннямі перажытага (гэты край люта руйнавала вайна), жыве і час ад часу прабіваецца, струменіць ціхай крынічкай. І цяпер яна светла адазвалася ў душы. І песні абудзіліся і ціха, хораша запоўнілі сабой перадхату. Песні розныя. Былі і такія, якія чуў ужо на Ушаччыне, купальскія, жніўныя, сірочыя, вясельныя. Але ўсе добра захаваныя, паўнагучныя радком і словам. Як бы залацісты, сонцам выпешчаны колас, з якога не ўпала яшчэ ні аднаго зернетка. І ў вядомай песні прыроджаная спявачка пакідае след сваёй душы. Так то там, то сям асобным словам, вобразам успыхвала іскрынка самабытнасці ў песнях «Зазвінела пчолачка, па бары лятаючы», «Пайду я дарогаю», «З сіняга мора ветры веюць», «А пад гаем зеляненькім…». Калі дайшло да калявых, бяседных песень Надзею Казлову дружна падтрымалі і крыху старэйшая Ліза Казлова, і бабуля Прося Мядзведзева.

Не дарага піва п’янае,
А дарага пасядзенейка
Да шчырае пагуканейка…

Пры сяброўскім пасядзенейку ды шчырым пагуканейку шырока адкрываецца чалавечае сэрца, усё, што ў ім набаліць. Тут і пажаліцца не грэх, і падзяліцца клопатам. З людзьмі лягчэй змагаць і скруху душэўную, і радасць з імі паўнейшая.

Піў бы я мёд і віно —
Цяжкое пахмелле маё…—

жаліцца мужчына ў бяседзе на тое, што перашкаджае яму хораша жыць з жонкаю. І, перамогшы ў сабе недавер, выкліканы нагаворамі благіх суседзяў, шчыра прызнаецца, азораны раптоўным перакананнем:

…Жонка — акраса мая,
Дзеткі — ўцеха мая:
Жонка пакрасіць у піру,
Дзеткі пацешуць у даму.

Пакуль Надзея Казлова, спеўшы ўжо добры дзесятак песень, успамінала, якую б яшчэ завесці з такіх, што няма ў маёй (яна кіўнула на магнітафон) скрынцы, я папрасіў бабулю Мядзведзеву праспяваць сваю якую-небудзь песню. Глянула з добрым даверам Прося Мядзведзева і голасам старэчым,

слабым, перапыняючыся, дзе каб перавесці дух, а дзе, каб і ўспомніць далей словы, праспявала-пераказала веснавую. Калі праслухоўвалі песню з магнітафоннай стужкі, голас проста шапацеў:

Ой, пайду я лугам, лугам,
Ой, пайду я зяляненькім,
Нашчыплю я красак жоўтых,
Саўю вянок на галоўку.
А на вуліцы бел карагод,
А ў карагодзе мой міленькі…

Не тое што песня нейкая вельмі арыгінальная, але адзін вобраз, вобраз белага карагода, уражваў. Міжволі бачыўся той бел карагод з рослых, прыгожых хлопцаў, гожых дзяўчат, маладых, шчаслівы вяснова-купальскі карагод. Белы карагод — такога вобраза я яшчэ не сустракаў на нетаптаных сцежках фалькларыста. Лішні раз зноў упэўніўся ў тым, што ад старэйшых жанчын няхай не шмат, але пачуеш часам нешта больш самабытнае, нейкі новы сюжэт, чаго памяць маладзейшых не пераняла, як менш для сябе прыдатнае, нябачанае ў жыцці.

І ўжо не ў памяць, хто з жанчын успомніў, можа, і Мядзведзева, але праспявалі ўсе разам «Па лугу дзеўкі хадзілі», песню свежую і зноў жа не сустраканую ні ў нашых класікаў-збіральнікаў, ні ў сучасных запісах. Была ў ёй добрая ўмоўнасць, як тыя кляновыя масты, якія нібыта па лугу дзеўкі масцілі і па якіх мчаўся на конях дваранін, забыўшыся дзяўчатам шапку зняць… Было неназойлівае павучанне, і добра відаць былі чалавечая годнасць, натуральнае ўсведамленне яе простым чалавекам.

На адыход Надзея Казлова кінула яшчэ некалькі песень. Была сярод іх адна задуменная, як плынь надвячоркавай летняй рэчкі, са шчымлівай нотай, што запаміналася сама сабой:

Чырвоная ружа, чырвона, прыгожа,
Не стой пры дарозе, не стой пры шырокай,
Не клонься за мною, за мной, сіратою:
У мяне чужы татка, няродная мамка,
Позна спацькі кладуць, рана пабуджаюць…

І радзінна-хрэсьбінная, у якой жанчына, відаць, парадзіха, і прытым сірата, сабраўшы гасцей і абышоўшы іх пазаплечайку (так нечакана, свежа, зрокава было мне гэта «пазаплечайку»), выглядае,

А ці ўсе госці ў ведамосцю,
і адказвае сабе:
Ой, усе госці ў ведамосцю,
Толькі нетуці майго татулькі.

І яшчэ ўжо заспяшаўшыся, спявачка запела дажынкавую пра «каралёву жану», што хадзіла па чыстым полі і вадзіла варанога каня, просячы неба, каб караля на вайне забіла. Яна, «малада», пайшла б тады замуж за другога, за прыгожага,

што ўмеіць і чытаць, і пісаць,
І ў гуселькі граць.

Неяк праглядваючы рукапісі зборніка, складзенага вядомым беларускім этнографам і фальклярыстам Сяргеем Сахаравым, заўважыў, што блізкі варыянт гэтай песні вучоны так і не рашыўся ўключыць у сваю кнігу. Відаць, песня бянтэжыла Сахарава сваім крыху нечаканым зместам, не ўласцівай традыцыйнай народнай этыцы пазіцыяй. А варта пашукаць тлумачэння гэтаму.

Развітваешся, адыходзіш заўсёды пры такім кароткім налёце на песеннае сяло з мяшаным пачуццём. З аднаго боку, рады, часам нават акрылёны, што ўзяў добры збор песень, а з другога — не пакідае пачуццё шкадавання, бо цвёрда ведаеш: шмат песень жанчыны адразу не ўспомнілі, не маглі ўсё згадаць. І потым будуць казаць самі сабе: «От жа не прыйшло на памяць, не ўздумала, як трэба было, такую важную песню».

Яшчэ ў Дзёрнавічах нам казалі, ды і ў Даражылаве пачулі тое самае: «Хораша пяюць залясянкі». Назаўтра з раніцы разам з Васілём Скіданам, які падахвоціўся ісці за кампанію, выбраліся ў Залессе. Гэта крыху далей, чым у Даражылава. За споруюгадзіну ўсё ж дабраліся. Залескія хаты вольна раскінуліся на крыху прыўзнятай мясцовасці. Ад першых сустрэчных жанчын даведаліся, што найлепшыя пявунні ў Залессі Ганна Гудава, Матрона Аўласёнак і Ганна Вашчова. Знайшлі спачатку Вашчову. Засталі ў градах. На нашу просьбу адклікнулася жыва, замітусілася, усаджваючы на зэдлі нечаканых наведнікаў. Спыталася, ці не здарожыліся, ці не галодныя. Стала ўспамінаць песні, разам і сваю маладосць, што прайшла кіламетраў за пятнаццаць адгэтуль, у цяперашняй Расоншчыне. З трапяткой радасцю прыгадвала, як хадзілі ў «жытнюю змену». Рвалі краскі, травы і да дня спявалі. Кулём каціліся з гары, на якой гарэў купальскі агонь, углядаліся, як іграе сонца, усходзячы.

Наперад успаміналіся жартоўпыя:
Вячэрняя зара ясна,
А ў суседа жана красна.
Давай, сусед, мяняць будзем:
А я табе каня з сядлом,
Аддай жа мне жану з сярпом…

Потым даўняе жніво і «раёк» — першую песню пры заканчэнні яго. Завёўшы працяжную мелодыю, успомніла маці: «Мама пявуння была». Хапатліва зноў успамінала, або, як сама казала, збірала іншую, чарговую

песню. Пачала «Чырвоная ружа ля тыну стаяла», страсянула чарнявай галавой: «Плакаць хочацца. Нехта заплача ад гэтай песні». Сказала, што ў маладыя гады згуляла з дзесяць вяселляў. Бывала, спявалі ўсю дарогу — ці да маладой ехалі, ці з ёй.

І забрала, высока, шчыручым голасам:
З сіняга мора ветры веюць,
З сіняга мора ветры веюць,
З чыстага поля сваты едуць,
З чыстага поля сваты едуць.
Выйдзі, Верачка, перайме сватоў,
Выйдзі, Верачка, перайме сватоў:
Варанёных конікаў за абротаньку,
Варанёных конікаў за абротаньку,
Маладога Колечку за ручаньку…

І, не перавёўшы дых, яшчэ вясельную, якую спявалі, адорваючы маладую. Зноў паўтараючы кожны радок:

Казалі, ў Дунаі вады многа,
А як прыйшлі браць, нет нічога.
Дзе ж тая вадзіца падзелася?
Па крутых беражках разлівалася…

І ўжо выразна, нібы ад імя самой нявесты, голасам жанчын-вясельніц, жаласлівым папрокам на ад’езд бацькоўскаму дому.

Нешчаслівая гадзіна,
Няжаласлівая радзіна.
Проці ночанькі выпраўляюць
І дарожанькі не ўкажуць.
Адзін брацетка жаласліў быў,
Ён вароцеткі адчыніў
І дарожаньку ўказаў…

На просьбу праспяваць юраўскія, траецкія песні Ганна Вашчова, крыху падумаўшы сказала: «У нашым баку іх не пяюць». Вельмі жыва ўспомніла колішнія талокі, асабліва веснавыя, але песню талочную так і «не сабрала», пры гэтым шчыра перажываючы, што не можа нам зрабіць такую ласку. І ўжо ў каторы раз шкадавала ўголас: «А мае ж вы людцы, а мае ж вы мальцы. Баюся: пойдзеце, а я тады добрую песню ўспомню…» У Ганны Вашчовай, як і шмат у каго тут, у гэтым лясным гожым краі, нямала песень разам з маладосцю, а ў яе і з мужам, забрала вайна. Пранікнёны, шчыры голас спявачкі адразу задрыжаў — толькі крануліся ўспаміны тых, ужо далёкіх гадоў. Яна не заплакала, калі ўспаміналі лютае кальцо блакады, што пад

раз'юшаны сабачы брэх і гергатанне гітлераўскай салдатні змыкалася над жыццём, над галовамі жанок з дзецьмі і старымі. Толькі задумалася на нейкую хвіліну, расказаўшы пра выкапаныя лёхі пад зямлёй, пад старымі ялінамі, якія зберaглі ад вока нелюдзяў нямала жыццяў. Пасля згадкі пра вайну да песень ужо не вярталіся. Злавесны прывід пражытага, як цень, заступіў і светлую крыніцу маладосці Ганны Вашчовай, і песню.

З той жа шчырасцю, руплівасцю, з якой дзялілася з намі песняй, спявачка завінулася ля стала. Не пажадала так адпусціць падарожнікаў, што нечакана зварухнулі ўсё пражытае і песню ў яе душы.

За абедам гутарка, натуральна, скіравалася на сённяшні дзень, на яго радасці і клопаты. Ганна Вашчова шчаслівая сваім удзелам у агульнай працы, турботах сваіх аднавяскоўцаў, свайго калгаса, хоць ёй можна пайсці ўжо на заслужаны адпачынак. Шчыра, душэўна падзівілася і, здаецца, парадавалася нашай працы, намеру сабраць і выдаць у дзесятках кніжак тое, што народ выношваў у сэрцы, складаў, выказваў у паэтычным песенным слове на працягу стагоддзяў.

Пры канцы размовы, не то запрашаючы разважыць, не то жалячыся, сказала, што сын з'ехаў на Далёкі Усход. Хоча зарабіць сабе на легкавушку. А тым часам, хоць яна і српаўляецца, аднак дома калі-нікалі не абысцмся без мужчынскіх рук. Пры гэтым расчыніла дзверы ў чыстую палавіну хаты, хораша прыбраную, але з уздзертымі дзвюма дошкамі ў падлозе. Тоўстыя, я такіх яшчэ не бачыў, і шырачэзныя масніцы спадыспаду чарнелі гніллю. Яшчэ падумалася тады, што такі фундаментальны матэрыял можна сабе дазволіць палажыць на падлогу, будуючыся толькі ў лясной старане. Зносу б яму не было, каб не грыб. На нашу спагаду Ганна Вашчова адказала: «Людзі памогуць».У чалавечую дабрату, якой свяцілася яна сама, спявачка глыбока верыла. Тым часам нам трэба было спяшацца. Але да таго, як вярнуцца ў Дзёрнавічы на начлег і на гарачую сопкую бульбу з кіслым малаком, карцела пачуць песні яшчэ дзвюх залясянак. На шчасце, яны аказаліся суседкамі, і хутка, уладкаваўшыся на верандзе ў Ганны Гудавай, мы пачалі запіс. Самыя першыя песні Гудавай і Аўласёнак:

Ой, чуць, маці, чуць.
Дзе малойцы п'юць,
Вясёлая тая вуліца,
Дзе яны ідуць… —

і даўняя наша знаёмая, такая простая і кранальна-велічная ў сваёй чалавечай спагаднасці і прастаце «Перапёлка, шызая галоўка», нагадалі колішняга энтузіяста беларускай народнай музыкі Антона Грыневіча. Гэтыя песні міжволі асацыіраваліся са зместам яго песенных зборнікаў, выдадзеных у Пецярбургу на пачатку 10-х гадоў нашага стагоддзя. Зрэшты, няма нічога дзіўнага: Іваноўшчына, Палюдавічы — родныя мясціны гэтага нястомнага вандроўніка за песняй, яе адданага прапагандыста-публікатара — былі адсюль не так ужо і далёка.

Тым часам Ганна Мікалаеўна і Матрона Пя роўна перайшлі да песень кірмашовых (так тут завуць бяседныя, мабыць, з увагі на іх сувязь з даўнейшымі кірмашамі, як пашыранай калісьці формай выезду ў свет, вылюддзя). Не чакаючы чаргі, у памяці прыгадалася некалькі прыпевак. І між іх адна, можа, не такая і новая і не вельмі дасціпная формай, але, здаецца, з тых, што добра выказвае настрой, думкі і састарэлых працаўнікоў сённяшняга сяла:

На гарэ стаіць бяроза,
Салодкі сок сочыцца,
Жыццё добрае настала,
Паміраць не хочацца.

А далей прыпаміналіся найболып песні вясельныя: як прыедуць да маладога, як пераймаюць сватоў, садзяць за стол маладых, адорваюць. З песень Ганны Гудавай і Матроны Аўласёнак, як з песень іншых іх зямлячак, можна было адчуць: у гэтай старане трывала жыве вясельная песенная традыцыя. І міжвольна ўяўляліся на неспакойнай залескай вуліцы, дзе ўвесь час, пакуль мы запісвалі спявачак, снавалі машыны, розная гаспадарчая тэхніка, шум і песні паязджан-вясельнікаў. Жыве ў вясельных песнях настрой добрай, стрыманай урачыстасці і стоенай трывогі, так адпаведных вялікім пера-менам у чалавечым жыцці, лёсе:

У нядзельку ранюсенька з-пад зары
Заслала малада Клаўдзюша ўсе сталы,
А сама села за столікам ціхенька
Да падазвала родну мамку блізенька:
— Да падыдзі, мая мамка, блізенька,
Да пакланюся табе, мамка, нізенька…

Падышла маладая жанчына, нехта з радні спявачак, і цяпер вясельныя песні адрасаваліся ёй, Клаўдзюшы. У адказ яна спачатку запратэставала, але ніхто не браў яе слоў пад увагу, і ўмоўная «маладая» толькі безабаронна ўсміхалася. А пявунні вялі далей свой вясельны сказ:

Хадзіў вінаград па загор’ейку,
Стукая, грукая па карэнейку,
Як пайшла Клаўдзюша каля століка,
Дробныя слёзкі раняючы,
Буйную галоўку скланяючы…

Клаўдзюша, пэўна ж, на сваім вяселлі не адбывала асвечанай векавечнай традыцыяй цырымоніі. Але ўявіць гэты крыху цырымонны і ўрачысты абрад, звычай, абмаляваны жанчынамі ў песні, навеяны гучаннем песень, было лёгка і прыемна. Урэшце, песня ішла ад жыцця хоць і не цяперашняга, старога. Усё ж было ў ёй нямала ад трапяткога чалавечага сэрца, сардэч-

нага цяпла. Жыў ў ёй добры клопат за лёс буду чыню чалавека. І словы, вобразы яе былі падсвечаны, авеяны спакойным святлом паэзіі.

З водгаласам спеваў залясянак у душы мы вярталіся ў Дзёрнавічы. Заставалася апошняя ноч нашага знаходжання над Дрысай. Назаўтра мы ўсе павінны былі сабрацца ў Верхнядзвінску, каб рушыць далей. Тым часам апошняя ноч на гэтай зямлі рыхтавала нам добрую неспадзяванку. Не ведаю, як мае калегі, а я дык першы раз у жыцці ўбачыў купальскае вогнішча і аж да світання запісваў песні ад дзяўчат і жанок, удзельнікаў купальскага гуляння. Але дзеля гэтага трэба было ахвяраваць Зябкамі, намерам прайсці даўнімі фальклорнымі сцежкамі Мікуцкага. Праўда, можа, страта была і не такая ўжо вялікая. Адзін з нашых таварышаў, Васіль Скідан, усё ж такі заскочыў у Зябкі і запісаў там з паўкапы добрых песень. Яму ўжо спявалі, мабыць, праўнучкі тых пявунняў, са слоў якіх зрабіў сваю акадэмічную публікацыю ў сярэдзіне XIX стагоддзя Станіслаў Мікуцкі. Сучасныя запісы збольшага пацвярджалі ўжо не раз правераную намі ісціну, што творы традыцыйнага фальклору, асабліва каляндарныя, вясельныя, праз дзесяцігоддзі і стагоддзі застаюцца амаль нязменнымі. Новыя штрыхі час упісвае у іх з цяжкасцю: такая трывалая ў гэтых творах звычаёвая аснова, так эканомна яны адліты ў слове.

Для таго ж, каб убачыць купалле, не прапусціць такую рэдкую ўжо для нас магчымасць мне давялося насупраць ночы сабрацца ў Боркавіта. Толькі там, казалі ў Дзёрнавічах, можна ўбачыць сапраўдны купальскі агонь, пачуць многа песень На шчасце, яшчэ быў апошні рэйс маршрутнага аўтобуса, і мне неяк выпадкам у такую пару ўдалося застаць у пасялковым савеце ў Боркавічах сакратарку, каб лягчэй сарыентавацца ў новым месцы і недзе прыхінуць на-нач галаву. Сакратарка завяла мяне да сваёй сваячкі Аляксандры Крывой, па мужу Гайдаліч, гасціннай гаспадыні і добрай песенніцы. Усё ў гэты дзень — драбніца да драбніцы — складалася добра. Зноў жа на маё шчасце, у гаспадара, спакойнага і паважнага чыгуначніка, знайшоўся матацыкл з каляскай. Адчуваючы, што мне хочацца ўбачыць сапраўднае купалле, ён прапанаваў праехаць з ім і паглядзець, як спраўляюць яго ў некалькіх месцах адразу. Спакуса была немалая, і хутка, прыхапіўшы магнітафон, мы імчалі, падскокваючы на калдобінах, на ўскраіну Боркавіч, у пасёлак Дубы. Там ужо ўсё было нарыхтавана для купальскай урачыстасці. Але чакалі пры хатах, не ішлі, каб у нейкі момант, калі ўсе збяруцца і добра сцямнее, рушыць разам.

У гэты час я паспрабаваў запісаць некалькі песень ад Еўдакіі Разумнік, спявачкі, якую пераконана параілі адразу некалькі чалавек. Што Еўдакія Разумнік пявуння не абы-якая, можна было адчуць з першых праспяваных ёю песень. Так лёгка, арганічна, задушэўна паплылі яны з вуснаў гэтай жанчыны, такім хараством, жыццёвым прасторам павеяла ад іх… Але ўжо нехта гукаў пад акном: «Пайшлі запальваць касцёр. Зараз запаляць…» І мы далучыліся да грамады дзяўчат, жанок і падлеткаў, што накіроўвалася на выган. А там ракетай, нацэленай у цёмна-сіняе неба, стаяў дрывяны стос. Метровыя ці двухметровыя кругляшы і плашкі былі складзены калодзежным зрубам і з бакоў абстаўлены доўгімі жэрдкамі, што і рабіла здалёку ўвесь стос знешне

падобным на ракету. Гэтае падабенства ўзмацнілася, калі раптам выкінуўся ў вячэрняе неба высокі слуп агню. Жанчыны і дзяўчаты неяк неўпрыкмет сталі паўкругам вакол будучага вогнішча, і іх песня зладжана і энергічна ўзляцела разам з першымі языкамі полымя, што імкліва рванулiся ўгару.

Я адразу не спахапіўся і запісваць. Было трохі нечакана: гэтая грамада людзей сярод начной прыроды, усплёск полымя і ўзлёт замроенай песні. За першымі, як мне здалося, найбольш вядомымі купальскімі песнямі пачалі гучаць і іншыя, яшчэ не чутыя раней. Я хапатліва пачаў занатоўваць іх у блакнот, бо батарэі ўжо амаль зусім селі і на магнітафон можна было запісваць толькі з электрасеткі. Спачатку змест песень мне падаўся зусім незнаёмы, а потым у тэксце сталі выступаць рысы, ужо бачаныя, чутыя. Але як непазнавальна яны былі зменены расквечаны:

Як на моры, люлі рана, сонца йграла,
Там дзяўчына ваду брала, люлі рана,
Увалілася яна ў мора, люлі рана, яна ў мора,
У вяліканькае гора, люлі рана.
Стаіць явар ў беражочку, люлі рана, ў беражочку,
Крычыць яна ратуначку, люлі рана, ратуначку.
Завець свайго татулечку, люлі рана, татулечку:
— Татулечка мой родненькі, люлі рана, мой родненькі,
А вылей жа ваду з мора, люлі рана, ваду з мора,
А дастань жа мяне з гора, люлі рана, мяне з гора…

І далей песенны дыялог, які, як і ўся песня, мае іншасказальны, сімвалічны сэнс. Гутарка ідзе пра няўдалае замужжа. І другая песня:

Бела бяроза бяленька,
Не выспалася паненка,
Не выспалася паненка.
Якая паненка?
Зосечка.
Яна па саду хадзіла,
Яна па саду хадзіла,
Зёлкі-краскі збірала,
Зёлкі-краскі збірала,
Сабе вяночак звівала…

Адразу цяжка было ўсачыць, хто запяваў, вёў перад у гэтых песнях над полымем, што то выхоплівала аблічча з цемені, то засланяла іх зыркасцю сваёй. Пазней прыгледзеўся, што песню пачыналі дзве-тры старэйшыя жанчыны гадоў пяцідзесяці. Наогул жа ў песенным паўколе былі і маладыя, гадоў дваццаці — дваццаці трох, і трыццацігадовыя маладзіцы.

Разам з затуханнем кастра песні пачалі нікнуць, і, падзякаваўшы спявачкам за цікавыя песні і растлумачыўшы, што нам трэба спяшацца мы памчалі на яшчэ

адно полымя, якое раптам запалала ўдалечыні. Імчалі недзе далей за выган па грэблі, па закідапай рэшткамі драўніны дзялянцы. Другі купальскі касцёр гарэў на самым беразе Дрысы, на высакаватым беразе, у суседстве дубоў, якія пры падсветцы вогнішча выглядалі яшчэ больп велічнымі, задуменнымі. Аднак, пакуль мы дабіраліся нацянькі па бездарожжы, самы ўрачысты момант на беразе Дрысы прайшоў ужо. Апошняя песня адазвалася, і далёка-далёка над вадой ляцеў, каціўся яе водгалас. Каб гулянне набыло размах, відаць, не хапала хлопцаў, а ў тых, што і былі, — ініцыятывы, умельства, запалу. Засталося, і гэта было лёгка, уявіць, як плывуць тут у водсвеце агню вянкі па цёмнай вадзе, як добра тут, ля падножжа дубоў, над рачным прасторам, спаткаць усход сонца, убачыць, як сыпне яно на гэты зялёны росна-свежы абшар золата-жар першых промняў. Нібы ў сваё апраўданне, раілі нам хутчэй падскочыць яшчэ на адзін канец Боркавіч, дзе «ой як хораша гуляюць і спяваюць». Але мой маўклівы і цярплівы спадарожнік сказаў, што нам час вяртацца дамоў, бо мы прапусцім у сябе, на Валынецкай вуліцы, нешта вартае, ды напомніў, што нас там чакаюць.

Дома, а дом Гайдаліча сапраўдная святліца і стаіць пры скрыжаванні вуліц, было гаманліва, светла. Не на падворак, а на вуліцу былі вынесены сталы. Над імі, выцягнуўшы доўгія шыі, зырка свяцілі вялікія электралямпы. Жанчыны мітусіліся ля сталоў, на якіх, зрэшты, усё было падрыхтавана для вясёлага застолля. Нас падхапілі пад рукі і прама з матацыкла павялі за стол. Умомант усе ўселіся, і па крузе бойка захадзілі чаркі. Застолле адразу зрабілася таварыскае, шчырае. Спачатку мяне трымалі пры сабе мужчыны, яшчэ маладыя і старэйшыя. Былі сярод іх бывалыя, што прайшлі з баямі паў-свету і зведалі раны, горыч страт і невымерную радасць перамогі, здабытай у цяжкай і вялікай ванне. Было ім што ўспомніць і расказаць… Сярод размовы пехта прыгадаў, што не так даўно тут праязджалі пісьменнікі. Усё распытвалі пра перажытае ў вайну. Запісвалі тых, хто цудам ацалеў, уцёк з-пад расстрэлу, выжыў, растраляны, хто быў сведкам вялікай народнай трагедыі і мужнасці…

Але грымнулі песні за сталом, і мне трэба было бліжэй падсесці да жанчын. Спявалі пакуль што толькі яны. Не цяжка было заўважыць, што сярод спявачак жывасцю, нават задорнасцю вылучалася пажылая жанчына. Яна першая запявала, першая падхоплівала песню, кінутую некім іншым. Звалі яе Ефрасіння, імем, моцна пашыраным у гэтым краі, можа, яшчэ з часоў полацкай Прадславы. Прозвішча было нетутэйшае, як у героя гістарычнай пазмы Кандратовіча-Сыракомлі «Магер». Зрэшты, западозрыць Ефрасінню Магер у тым, што яна ў нейкім дзесятым, сотым калене сваіх продкаў паходзіла аднекуль здалёку, было цяжкавата: так арганічна ўвабрала яна ў сябе песеннае слова наддзвінскай зямлі, так хораша гучала яно ў яе вуснах:

А ты, вуліца мяцёная,
А чым, вуліца, украшоная:
Ці дудамі, ці музыкамі,
Ці мальцамі без'языкімі?
— Ні дудамі, ні музыкамі,
Ні мальцамі без'языкімі…

Песня падымала спявачку. Яна ўставала за сталом, часам прытоптвала, пляскала ў далоні. Песня яе іскрылася смехам. Часам праз смех праглядала і лёгкая туга. Але верх брала вясёлае жыццялюбства:

Як дамоў, дамоў —
Галава далоў,
А ў мяне дома
Работы многа:
Тры дзяжы хлеба
Рашчынёныя,
На замес мукі —
Ані жменечкі,
А трое красён
Аснаваныя,
А на ўток няма
Ані цэвачкі.
Я пайду, пайду
Па суседачках,
Папрашу мукі
Хоць па лыжачке,
Папрашу на ўток
Хоць па цэвачке.

Пераважалі песні бяседныя, банкетныя, як мне тут іх назвалі жанчыны. Вельмі часта прапявалася да мужчын. І за скаргай на мужа, жыццё часта стаяла нейкая жыццёвая сентэнцыя:

Як у чысценькім полі
Да два брацеткі аруць.
Два брацеткі аруць,
Сабе песенькі пяюць.
Трэці брацетка не арэць,
Ен і песень не пяець.
Чаго, братка, не арэш,
Чаго песень не пяеш:
Ці кабыла лянiва,
А ці жонка сварліва?
Ой, кабыла не лянiва,
Ды і сошанька не крыва.
Ой, звяла мяне с ума
Ды нялюбая жана.
— Ой, не я цябе звяла,
Звяла цябе карчомачка,
Звяла цябе карчомачка,
Залатая чарачка.

Вясёлай, насмешлівай песні тут аддавалася перавага. Яна ішла першай, выклікала ўсмешку, рэплікі — абавязкова нейкі душэўны рух:

А ў саду, ў саду
Сава кугічыць,
Сава кугічыць,
Муж жану клічыць:
Ой, жана, жана,
Ідзі дадому,
Не паказвай ліца
Ты анікому,
Тваё лічэнька
Бела, румяна,
Бела, румяна —
Мальцам спадмана.
А ты, мужычак,
Калі не верыш,
Купі званочак
Пад падалочак…

Вясёламу, жартоўнаму тону песень уторылі і прыпеўкі, што сыпнуліся як з рукава:

Я й на коні не канюх.
Й да авечак не пастух
І на вутак не стралец,
А для дзевак маладзец.
А за песні, за прыпеўкі
Палюбілі мяне дзеўкі,
А за храбрасць за маю
Адарвалі галаву.

Наспех занатоўваючы словы гумарыстычных песень і прыпевак, я ўсё ж чакаў, пакуль надыдзе чарга і песень, адпаведных дню, купальскіх Жанчыны ўспомнілі іх не адразу. Калі трохі вычарпаўся запас вясёлых і задумных банкетных пачулася і мройлівая (інакш яе не назавеш) пранікнёная мелодыя іваньскіх, як празвалі іх тут здаўна:

Хадзіў чыжык па вуліцы,
Раным-рана па вуліцы,
Клікаў дзевак на купалле,
Раным-рана на купалле…

Мелодыя, і гэта чулася ў кожным яе адценні, ішла з самой адхлані вякоў. І жылі ў ёй і душэўная глыбіня, і дзіўна праяснёная туга па нечым далёкім. Трапятала ў ёй неспакойнае жаночае сэрца:

Пойдзем, сястрыцы, з гары на даліну,
Люлі рана, з гары на даліну,
Набяром, сястрыцы, у кішэні гароху,
Люлі рана, у кішэні гароху.
Пасеем, сястрыцы, у таткі пад аконцам.
Люлі рана, у таткі пад аконцам.
Гарошак не ўзойдзець — мне ў таткі не жыш.
Люлі рана, мне ў таткі не жыці…

Ад песні да песні ішло купалле, одум сваступаў месца жвавасці, чуўся рух, імклівая па-спешлівасць гульнёвага рытму.

Далей паплылі песні жніўныя. Як само пражытае жыццё, у кругазвароце дзён, працы ўспомніліся талочныя і восеньскш РВД»™^.[1] неадымнае, то журботна-задумлівае, то вясёла-насмешлівае, вяселле: песнт-думы і ведзі і песні-жартаўніцы, весялухі. Працяжная і журботная, напоеная жалем стагодздзяў жніўная мелодыя клікала вобразы светлыя, шчодра надзеленыя жаноцкасцю, дзявочай пяшчотай, душэўным хараством, вобразы руплівых і нястомных у працы мацярок, дзяўчат. І недзе сярод іншых спявачкі кінулі песню, якая ўжо настойліва ішла за намі цераз усё Падзвінне. Гучала яна колісь найчасцей на журавінным балоце, пры лесе, дзе перадасенняе сонца спяліла апошнія ягады:

А ў цёмным лесе, рана-рана,
Мядзведзь рыкаіць,
Рана-рана, мядзведзь рыкаіць —
Дзевак пужаіць.
Рыкай не рыкай,
Рыкай не рыкай, рана-рана,
Пужай не пужай,
Пужай не пужай, рана-рана, —
Мы не баімся.
Толькі баімся, толькі баімся,
Рана-рана, асенняй ночкі:
Асенняя ночка, асенняя ночка,
Рана-рана, папуга наша,
Яна разлучыць, яна разлучыць,
Рань-рана, ай з таткам, з мамкай…

Пачало ўжо днець, а песеннае застолле ў Боркавічах і не думала ўгаманіцца. Ефрасіння Магер прыгадала, што вось так у яе дзявочыя гады спявалі ноч навылёт: але тады пялі навыперадкі адны перад другімі. Распірала грудзі

ад песень, ад непатольнага жадання спяваць. Тады стаяла чырвонаармейская часць тут, гэта ў пачатку 20-х, і чырвонаармейцы дзівіліся нястомнасці епявачак, а некаторыя самі добра памагалі. Дапамагалі і цяпер усім застоллем, дружна падхоплівалі, калі песню ведалі ўсе. Але пявунні часцей пачыналі даўнейшую, народную, і мужчынская палавіна змаўкала. Прыгадалася вясковая спявачка з-пад Нарачы Наста Савук, якая гаварыла пра свой край: «У нас вады — хоць заліся і камення — хоць забіся», яе словы: «Бывала, збяромся, запяём — дык песня неба прабіваіць». Можа, і не было ў песнях боркавіцкіх жанчын таго маладога размаху і сілы, што, здаецца, песня абдымае сабой свет, неба прабівае, сягаючы ў вышыню. Але была ў іх глыбокая шчырасць, у якой моц песні, яе задушэўнасць і хараство.

Гучалі спевы на Валынецкай, аж пакуль трэба было жанчынам выганяць у поле скаціну, упраўляцца пры доме. А праз некалькі гадзін у Гайдалічаў ізноў сабраліся Ефрасіння Магер, Марыля Мятлюк, Любоў Палонская, каб учатырох, разам з гаспадыняй дома Аляксандрай Аляксандраўнай наспяваць на магнітафон рэшту сваіх песень. І спявалі яшчэ добрыя гадзіны тры, то гуртам, то паасобку, аж пакуль не засігналіў пад акном акадэмічны аўтобус. Трэба было хуценька збірацца, развітвацца з песеннымі Боркавічамі. Збор нашай фальклатыстычнай дружыны ў Верхнядзвінску крыху запазніўся. Нарэшце, сабраныя аўтобусам з усіх куткоў гэтай зямлі, кожны са сваімі ўражаннямі, добрым узяткам песень, рады сустрэчы, сядзелі мы на пароме і паволі паплылі да другога берага Дзвіны, прасторнай і велічнай тут у адвечнай плыні сваёй, імкненні да мора. Нехта прыгадаў, як, перапраўляючыся цераз Дзвіну, аднойчы надвячоркам быў ашаломлены: такі неадольны вясновы салаўіны пошчак нёсся, грымеў з яе ўзбярэжных лазнякоў.

А каму прымроілася над дзвінскай вадой далёкае. Тыя, што з мужным Вячкам баранілі фарпосты Полацкай зямлі ў Прыбалтыцы, і тыя, што плылі аж у Гоцкі бераг пад ветразямі гэтай зямлі і там з сумам і радасцю ўспаміналі яе блакітнавокія азёры, яе купальскія кастры. Можа, і ў сне трывожыў іх пах чабару і пошум наддзвінскіх лясоў. І яны тады з яшчэ большай зацятасцю адбіваліся ад крыжакоў. Тыя ж, што завезлі даніну гэтай зямлі: белы лён, пляйстры залацістага мёду, сонечнае жыта, жывіцу яе бароў, — збывалі танней свой тавар ным, сквапным гоцкім гасцям, каб хутчэй пачуць над вячэрняй Дзвіной салаўіны пошчак, паслухаць, як плыве чыстай слязою над ёй родная песня. Бо па ёй, як і па родным доме ў лясной старане, сумавала душа.

Экспедыцыя наша, паволі псоўваючыся ўніз па Дзвіне, удавалася ў межы Мёрскага раена. Самі Мёры, прыгожа размешчаныя пад возерам, акаймаваным задумлівымі вербамі, добра дагледжаны акуратны гарадок, былі нам кароткім прыпынішчам. Пераначаваўшы ў школе (гасцініцу запаланілі сельскія спартсмены), мы рана выбраліся па маршруту. Трэба было шырока раскідаць групы, каб як мага паўней ахапіць рэгіён і не лішне паўтарацца ў запісах. Першую групу кінулі блізка, у Антаполлі: не шкодзіла праверыць, суаднесці сучасныя запісы з тымі, якія зрабіў тут у 90-я гады чэшскі славіст

і, мяркуючы па публікацыях яго, неблагі знаўца нашай культуры, шчыры прыхільнік яе Адольф Чэрны.

Другую групу пакінулі значна далей, у азёрна-лясным закутку пад Язнам. Тыя ж, што яшчэ заставаліся неразмешчанымі, на чале з Міхаілам Грынблатам скалясілі паўраёна і нарэшце дабраліся да ваколіц Старога і Новага Пагостаў. У Старым Пагосце, што выцягнуўся ўздоўж тракту, зайшлі ў крайнюю хату. Дом Пучынскіх, сапраўдная харомiна, стаіць воддаль дарогі, на пагорку. Пры ім ужо добра разросся сад. Пучынскія даўно выгадавалі дзяцей, паставілі іх на ногі і цяпер жывуць адны. «Чаму не пусціць на пару дзён людзей, у нас цэлае лета жывуць людзі, але цяпер, можа, нязручна, — казала пажылая гаспадыня.— Узяліся трохі паправіць падлогу». З чыстай палавіны хаты густа пахла свежай фарбай. Расчараваныя няўдачай, нехаця мы падаліся назад, да аўтобуса. У вушах яшчэ гучала добрая ў сваёй натуральнасці і непадробнасці народная гаворка гаспадыні. І калі з падворка адкрыўся від на возера, на хаты пагашчан, што туліліся да яго, я сказаў сабе: «Нікуды адсюль не пайду». Узяў рукзак, магнітафон і развітаўся з сябрамі. А яны заспяшаліся далей. З ганка Пучынскіх было відаць, як наш аўтобус, пахістваючыся ад хуткай язды, мінаў калгасны сад за вёскай.

Пучынскія лёгка знайшлі мне куток у сваім вялізным доме. А неўзабаве ўдвух з гаспадаром мы пайшлі парадкаваць лазню. Яна ўжо была выпалена, і трэба было толькі выграбці жар ды прынесці некалькі вёдзер халоднай вады. Пакуль тупалі каля лазні, потым хвасталіся бярозавым маем і нетаропка плюскалі вадой, я даведаўся, што Пучынскі «пры панах» усмак зазнаў горкага парабкоўскага хлеба, з маладых гадоў прыслухоўваўся да слова праўды, якое з глыбо кага падполля гаварыла працоўным Заходняй Беларусі кампартыя несла Рабоча-сялянская беларуская грамада. У час вячэры ў прасторнай кухні са старым, на добрую сям'ю сталом пры акне, з вялікай белай печчу і драўляным ложкам з боку ля сцяны гутарка плыла паволі. Пе-ражытае, успаміны мяшаліся з сённяшнім. Нясмела кідалася думка ў будучыню. Жыццёвы захад гэтых людзей, за плячыма якіх цяжкае працавітае жыццё, а сёння найболыны клопат, каб на свеце быў спакой, азарае добрая чалавечая, бацькоўская радасць. Яны чакаюць у адпачынак на лета сына-афіцэра з нявесткай і ўнукам. Другі сын жыве ў Пагосце, мае свой дом. Добры работнік у калгасе. Не пакідае бацькоў. Лёгкі на ўспамін, хутка ён паказаўся на парозе, дужы, чырванашчокі здаравяк. Прыйшоў у лазню, пацікавіўся, ці трэба яшчэ абганяць бацькам бульбу на сотках…

Назаўтра з раніцы, закінуўшы за плечы магнітафон, я пачаў абходзіць Стары Пагост. Далёкія продкі сённяшніх пагашчан, а што гэта былі менавіта далёкія, можна меркаваць, мабыць, і па назве, якая ўзыходзіць да агульнаславянскіх вытокаў, выбіралі месца пад сялібы пры бітым шляху ды пры вадзе. Адзін рад пагашчанскіх хат, асабліва сваёй гаспадарчай забудован, лазнямі, прылягае да самага берага азярыны, невысокага, чароцістага. Сярод іх відаць шмат новых, добра дагледжаных. Хлявы ж, прыбудоўкі,

лазні — шэрыя, пасівелыя ад часу. Забудавана густа: відаць, некалі былі скупыя надзелы. Прыпыніўся ля старых кабет, пры якіх гулялі дзеці. З краю на лаўцы сядзела мажная жанчына і пільна ўглядалася ў незнаёмага. Калі назааў прозвішча Любові Бортнік, яна ўзрушана ўстала і, як мне здалося, з трывогай глянула на мяне. Жанчыну бянтэжыла, што яе пытаў незнаёмы, нетутэйшага выгляду чалавек. Але не збянтэжыла, што ён пытаўся, чаго яшчэ, прыйшоўшы за блізкі свет, не пытаўся ніхто: пра песні. Прасіў праспяваць песні, якія яна спявае сабе дома пры рабоце і ў гасціне, спявала ў маладосці і ў сталым веку пры любой нагодзе і помпіць сёння. Прасіў падзяліцца імі. Прыехаў аж з Мінска. Можа, і не ўсё было зразумела так адразу: як снег на галаву гэты збіральнік, але пець згадзілася. Раз людзі сказалі, што яна тут была пяюлліца на ўсю акругу, то нешта ж успомніць. Толькі б голас не падвёў, да душы.

Так гуртам і пайшлі ў хату да жанчыны, на падворку якой была прыпынілася Бортнік. «Да самой Бортнічыхі яшчэ далекавата», — казалі жанкі, не хочучы, відаць, прапусціць выпадку паслухаць песні і паглядзець, як гэта яны будуць пісацца на той магнітафон. Людзей набралася ладна, і я баяўся, што будзе цяжкавата запісваць. Ажно толькі праспявалася першая песня і ўжо з магнітафоннай стужкі, як усе прыціхлі, далей слухаліся і каманды, і самі песні лавілі ўважліва, нібы чулі іх першы раз. А песні ішлі па тых кругах, па якіх некалі ішлі жыццё і праца селяніна, усёй яго радзіны.

Пятрова ночка невялічка —
Спала Аленка, не выспалася:
Сучыла шнуркі шаўковыя,
Мыла кашулькі бялёвыя…

Песня шукала спагады ў людзей, пытала яе для маладзіцы, якой загадана бель «на моры бяліць, а на лесе сушыць, па небе качаць».

«Ці я вутачка на моры бяліць?
Ці я пташачка на лесе сушыць?
Ці я зорачка на небе качаць?» —

заклікала ўсіх у сведкі маладзіца-пявуння. І заводзіла задуменна-маркотна «Пара, пара дамоў ісці» ды тую, «што гаспадара падвелічалі»:

Хадзіў раёк па ўсім полі,
Цяпер ідзе дарогаю.
Дарогаю шырокаю.

І клікаў хлебароб да сябе спеўную жніўную талаку, як вяшчунню дабра, таго, што залатая бажына загосціць і на яго таку:

Хадзі, раёк, у мой дворык:
Мае сталы цісовыя,
Мае хлябы сітнёвыя,
Мае мяды салодкія,
Мае кубкі залатыя,
Будзем кубкі наліваці,
Будзем мяды выпіваці.

Паэзія ператварала мару земляроба ў залаты сон. Што ж, добра было хоць на нейкі час вырвацца думкай ад суровай рэчаіснасці, хоць у мары ўбачыць сябе ў дастатку, шчаслівым.

Спявачка яснела душой. Песні яе хораша адспеўвала назад «машына гэта», магнітафон. Усе слухалі песні ўважліва, пачціва. І гэты зайшлы чалавек, відаць было, радаваўся песням, па хаду лавіў іх, пераймаў словы. «Ведаеш, сынок, не знаю, як цябе ўзвышаюць, назаву па свайму веку… Жылі ў горы, а песні любілі. Даўней, ці вяселле, ці хрысціны, пачынай — гукаюць. Як толькі чарку вып’ю, мяне падымае. Не люблю, калі сядзяць, як грыбоў аб’еўшыся», — казала спявачка.

Як пушчу я чарачку раду па раду…
А хто гэту чарачку поўна наліець,
Ён з сваёю жаною суветна жывець…

«Як першую чарку на радзінах п’юць, спявалі», — кіўнула пявуння на магнітафон, адкуль гучала толькі што прапетая ёю песня. А мне за нечаканасць было гэта «суветна», такое ёмістае і паэтычнае, якім толькі можа быць народнае слова. Спытала, ці можна падскакухі-прыпеўкі, і, махнуўшы рукой (няхай знаюць, што бабка чорт), заспявала:

Пайду я па гародзе,
Па дзявоцкім карагодзе,
Хустачкай махаючы,
Мілага шукаючы…

Потым, уздыхнуўшы, паскардаілася: «Прыстала я. Ох, каб вярнуць маладыя гады і песні — усё б, здаецца, аддала». Сабраўшыся з духам, вярнулася да вяселля:

Паедзем, мой братка, гуляя,
Будзіць нам гэта ночачка відная,
Будзіць нам ясен месяц свяціці,
Будзіць нам заранaчка служыці…

Песня-размова на ад’езд маладога па маладую. Другая напамінала, гаварыла маладой пра маці, паддавала жалю дзяўчыне пры ад’ездзе яе з роднага дому:

Падумай сабе, ці не жаль табе, Марылька,
Пры кім жа ты сваю
родную мамку кідаеш:
Хто яе, старэнькую, дагледзіць?

«Трэба ўласць узяць над чалавекам, каб пець так каму», — лёгка, смяшліва ляпае мяне па плячы Любоў Бортнік. «Прыстала я, — паўтарае.— Не паспяю за новымі песнямі. Іншы раз у радзіве як завядуць, стараюся злавіць, запомніць. Каторую запомню, а каторая не даецца, вельмі ж мудрая». Углядаюся ў аблічча спявачкі. Не, ніяк не дасі ёй, равесніцы Максіма Багдановіча, усіх яе васьмідзесяці. Час не пераараў твару маршчынамі, не здушыў яе голасу, груднога, моцнага яшчэ. Ва ўсёй постаці, у вачах, у тым, як спявае, — шмат жыццёвай сілы, зямной трываласці працавітага чалавека, улюбёнага ў жыццё, людзей, песню.

Надвячоркам вяртаўся дахаты. Возера, мякка падсвечанае сонцам на захадзе, ціха драмала. Змаўкаў далёка працоўны гул вялікага летняга дня.

Дома дастаў з рукзака блакноты з запісамі песень, што занатаваў ад самага пачатку экспедыцыі, і пайшоў на бліжэйшы ўзгорак, каб паглядзець, як будзе садзіцца сонца, а заадно і пагартаць старонкі запісапага, яшчэ раз услухацца ў чутыя за два з лішнім тыдні песенныя галасы. Брыў па канюшынішчы, якое падымалася на ўзгор'е. Нядаўна скошаная і звезеная канюшына напамінала аб сабе кволым зямным далікатным пахам. Сонца, стомленае доўгім летнім днем, яшчэ трывала над гарызонтам. Чамусьці думалася пра жніўныя песні. Пра тое, што вось паволі, але адыходзіць разам са старэйшым пакаленнем працаўнікоў зямлі спрадвечная сялянская культура, якая суправаджала колісь кожны кроку побыце, у будні і святы ад сяўбы да жніва. Паэзія, спароджаная працай і прасякнутая паэзіяй працы.

Думалася пра тое, ці не залішне лёгка мы глядзім на зробленае ў гэтай галіне: сабранае і апублікаванае. Былі Раманаў, Шэйн, Федароўскі, ёсць Шырма, Цітовіч, дзесятак-другі іншых этнографаў, фалькларыстаў, чыім стараннем сёння маем тамы народных дум і мар, пералітых у светлыя і задумныя вобразы песень. Але ж так шмат яшчэ не зроблена. Выязджаючы раз у год на два-тры тыдні ў фальклорныя экспедыцыі грамадкай у восем-дзесяць чалавек, ці шмат паспеем сабраць, захаваць для наступных пакаленняў? Ці не чэрпаем мы лыжкай мора? Гэта ж, каб па-сапраўднаму мець поўнае ўяўленне аб адным сюжэце, трэба запісаць яго пяцьдзесят — семдзесят разоў, і прытым у самых розных кутках Беларусі. Кожная мясцовая традыцыя, кожны сапраўдны талент можа дадаць, дадае штосьці сваё, няхай гэта часам толькі дэталь, штрых, нейкі стылёвы паварот, але сабраныя ўсе разам дзесяткі варыянтаў, адменікаў даюць самы поўны, самы цэласны, а значыць, і самы дасканалы ў мастацкіх адносінах вобраз, малюнак жыцця, чалавечага перажывання.

І яшчэ думалася пра тое, што, бываючы ў розных рэгіёнах рэспублікі, звычайна не забываемся запісаць песні на радзіме нашых паэтаў, мастакоў.

Успомніліся Кушляны і Багушэвічава зямлячка — пяюння Станіслава Абцэвіч, Антон Янкоўскі з ваколіц мястэчка Лаварышкі, ад якога давялося пісаць любімыя народпыя песні Браніслава Тарашкевіча, прыгадалася Малая Багацькаўка на Мсціслаўшчыне і грудны голас дзевяностагадовай Надзеі Нажынскан, суседкі песш ў Вязынцы і Бяларучах, ці пацікавіўся, што спявалі і спяваюць у Нізку, Вялікай Усе на Уздзешкчыне, Пуцілкавічах на Ушаччыне, Пількаўшчыне ў Наднараччы, Самацэвічах над Бесяддзю, на тых сцежках, дзе хадзіла юнацтва бессмяротнага Купалы, Труса, Глебкі, Крапівы, Танка, Куляшова? А такіх пунктаў на карце нашай літаратуры — дай божа. Хто і калі пройдзе імі, каб папоўніць нашу народнапаэтычную скарбніцу ды штось глыбей спасцігнуць у слове нашых славутых баянаў, адкуль бы яны ні нрыйшлі, адкуль ні ідуць — з Магілёўшчыны, Віцебшчыны, Меншчыны, Гродзеншчыны, Палесся на нямоўчнае веча беларускай паэзіі.

Назаўтра я наведаўся яшчэ ў суседняе Забор’е. Пагашчане казалі (адвечная ісціна: няма прарока ў сваёй айчыне), што там спяваюць лепей, «надта ж прыгожа». Забор’е, можа, і ляжала некалі за борам. А цяпер толькі выйшаў на пашу, што за Пагостам, і яно, атуленае дымкай-сінечай, — як на далоні. Пайшоў цераз пашу, цераз жытняе поле нацянькі. Сонца добра прыпякала, і на ўсім ляжала адзнака мляўкасці. Нават жаваранкі прыціхлі. Падышоўшы ўжо зусім блізка да вёскі, пачуў кволы п’янкі пах лубіну: за папарам рассцілаўся светла-мядовы кілім. Лагчына паступова пераходзіла ва ўзвышэнне, на якім, залітыячюнцам, задрамалі хаты, сядзібы. Гэты просты краявід раптам адгукнуўся ў сэрцы ўспамінамі маленства, яшчэ нечым невыказна дарагім. Па душы трывожна шуганула знаёмая мелодыя Ігара Лучанка, і ў каторы раз праяснеў сэнс паэтавых слоў:

Завецца спадчына мая
ўсяго старонкай роднаю.

Не сказаць, каб мне ў Забор’і моцна пашанцавала на песню. Хоць добрых песень наспявалі і маладзейшая Часлава Трубіла, даярка калгасная, і старэйшая Ядвіга Шэўчук. З веснавой калыснай песняй Чаславы Трубілы на вуснах:

У майго татулькі сад над ракою,
Сад над ракою,
Двор на даліне…—

я і вяртаўся назад. Усю дарогу да Пагоста не пакідаў яе свабодны, раскалыханы матыў, які сам сабою западаў у сэрца. Але было яшчэ адно ў Забор’і, што ўразіла больш, чым песні. Калі пытаўся на вуліцы хто з жанчын ведае песні, назвалі прозвішча Даргель і паказалі хату дзе жыве. На мон стук у незамкнёныя дзверы ніхто не адазваўся. Маўчанне адказала і на мой знарокава звонкі «Добры дзень». Праз мінуту толькі нехта сонна-хворым голасам спытаў: «Хто там?» — і папрасіў прайсці далей. На ложку ляжала па-

жылая жанчына. Пажалілася на боль галавы. Спытала, хто ж мяне паслаў да яе па песні, і з жалем сказала, што ўжо прызабыла іх. Даведаўшыся, што я з Мінска, з Акадэміі навук, нечакана запыталася: «Як там другі том Беларускай энцыклапедыі? Скора выйдзе?» Я падумаў, можа, Даргель была настаўніцай. Ажно не.

Думаў пра гэтае простае здарэнне, не хочучы ўзводзіць яго ў ранг высокіх абагульненняў: прыемнае яно і само па сабе, — думаў па дарозе ў Новы Пагост, куды выбраўся, каб і там сабраць нейкую песенную даніну. Заадно карцела даведацца пра факт, не вельмі значны, але заўсёды цікавы і немалаважны для спецыяліста. Справа ў тым, што, будучы ў Ленінградзе, у архіве Геаграфічнага таварыства, я наткнуўся на запісы, зробленыя ў мястэчку Новы Пагост і яго ваколіцах амаль сто трыццаць гадоў таму назад. Рукапіс Аляксандра Любінскага невялічкі: усяго шэсць песень, але кожная — праменьчык, узор сапраўднай народнай лірыкі. як узрадавала мяне колісь у велічнай цішы апартаментаў былога Рускага геаграфічнага таварыства зберажонае невядомым чалавекам чыстае зерне роднай паэзіі, заспяшаўся ў Новы Пагост. Выйшаў на тракт, прагаласаваў матацыклісту, і праз дваццаць мінут замльгалі зялёныя вуліцы цэнтра мясцовага саўгаса. Дзяўчаты і жанчыны, медсёстры, што зграбалі сена на поплаве ля бальніцы, сказалі «Калі хто ў нас тут спяе вам даўнейшыя песні, дык хіба Антаніна Цітовіч». Адна з маладых жанчын з марлевай павязкай на галаве замест касынкі гукнула сваю малодшую сястру, бела-малінавую Алінку, і загадала ёй паказаць, дзе жыве спявачка. Па дарозе мы зайшлі ў дом маёй праважатай, чысты, акуратны, багата абстаўлены, каб сказаць яе маме, што ідзём да Цітовічыхі запісваць песні.

За ручайком быў дом сына Антолі Цітовіч. Мы прымасціліся спачатку на ганку, які залаціўся, як і ўвесь дом, свежай сасной. Бабуля палажыла спрацаваныя за доўгі век рукі на кіёчак і завяла голасам ціхім, растрачаным за свае восемдзесят сем вёсен і зім:

Я не буду свайго мужа гудзіць:
Ён мяне раненька не будзіць.
Пойдзіць на ток адзін малаціць,
Прыйдзіць змалаціўшы —
У мяне абед не зварыўшы…
— Спі, мая жана, спі, не лякайся:
Ты сёння цэлу ночку не спала,
Мало дзіця калыхала…

Ціха-ціха вядзе голасам старая пявуння. Падыме вочы, усміхнецца аднымі імі. У вачах лагода, дабрыня.

У Новым Пагосце сустрэў я і сваіх. Аказваецца, пасля таго як мы развіталіся, яны пакружылі ў наваколлі, вярнуліся і аселі тут. Выскоквалі пару разоў аўтобусам (ён быў пры іх) у суседнія вёскі. Настрой добры. Песень набралі многа, як ніколі. А Міхаіл Якаўлевіч Грынблат запісаў валачобную

з прыпевам «Хай так будзе», якая малюнкамі сялянскай працы ў полі зусім напамінае тую, што ўжо сто трыццаць год ляжыць у архіве ў Ленінградзе. А пяці ярынных, тых, што запісаў калісь невядомы Аляксандр Любінскі, не знайшлося. Ці не натрапілі, ці, можа, іх назаўсёды забралі з сабой мінулыя пакаленні спявачак, адыходзячы ад нас навекі, — цяжка сказаць.

Быў час збірацца дамоў. Багатае было ў нас лета. Добры песенны ўжон. Дзякуй табе, наддзвінская зямля. Шчодрая ты на добрых людзей, на песні. Мы адгарнулі толькі адну старонку тваю — даўнія песні Наддзвіння.

*1976*

# Ганна Рубацкая: журавы над зарунелымі пагоркамі

Прамінулі апошнія гарадскія ўскраіны, дзе яшчэ не паспелі прыцьмець фарбы на шчытах і транспарантах у гонар ліпеньскіх урачыстасцей сталіцы, калі Мінску надавалася званне горада-героя. Аўтобус лёгка выбег на палявы разлог.

Скупаватае сонца падсвяціла апусцелыя пожні, палосы цёмнай раллі, свежа зазелянелай руні, а праз нейкі час залацісцей і весялей бліснула, заіскрылася на бярозавым узлеску. Але толькі скончыўся лес, гайкі і баравіны, як зноў і зноў, то ўздымаючыся на ўзгоркі, то спускаючыся ў лагчыны зялёнай лавінай, ішоў шырокі разліў зарунелых палёў. І неяк самі сабой усплылі ў памяці словы народнай песні, год пяць таму назад пачутай на Палессі ад старой песельніцы Аўдоцці Клеўжыц:

…ўсе палі засеяны
І жыты ўруніліся.

Уруніліся, уруніліся, уруні…— паўтарала памяць, і раптам падумалася, што гучаннем сваім словы гэтыя, гукі, што іх высноўваюць, нечым напамінаюць развітальнае курлыканне журавоў.

Тым часам паказаўся і Валожын. Дзіўна размешчаны гэты гарадок. Можа, ні адно беларускае мястэчка, ні адзін горад не паложаны так нязвычна. З усіх бакоў акружылі яго узгоркі: толькі пакатыя спіны іх віднеюцца ды далей лініі іхніх абрысаў, што пераходзяць адна ў адну, зблiжаюцца, перасякаюцца, разбягаючыся зноў. А сам гарадок усёй сваёй, напэўна, старажытнай часткай споўз у лог, даліну. Здаецца, старажытнай, бо якраз той, што легла ўздоўж Валожынкі, рэчкі цяпер невялічкай, але калісь, відаць, не малой, мяркуючы па яе шырокім ложы-рэчышчы.

З прасторнай цэнтральнай плошчы ды з усіх вуліц на захад ад яе ў прасветах паміж дамоў відаць палявое атачэнне горада са стужкамі сцежак і дарог на пакатых схілах узгоркаў. Здаецца, так і хлынуць адтуль песні жаваранкаў…

Сучасны горад смялей памкнуўся ўгару, на ўзгоркі, адкуль шырэй расхінаецца далягляд. І ўсё ж значная частка горада застаецца доле, сваімі гародчыкамі, вокнамі дамоў даверліва выглядаючы на

галоўную вуліцу, праз якую з даўніх часоў праходзіў шлях з Вільні ў Мінск і якая была часцінкай гэтага, некалі вельмі доўгага і нялёгкага шляху. Валожын і ўзнік калісь як перавалачны пункт на гэтым старажытным гасцінцы. З часам тут асела шмат рамеснага і гандлёвага люду… Але пачатак горада, даўнія часы яго — за стагоддзямі. Сённяшні Валожын скінуў векавую местачковую дрымоту, год ад году маладзее, разбудоўваецца, хораша зелянее сваімі маладымі і старымі прысадамі.

Да сустрэчы з Ганнай Рубацкай, што жыве тут, рыхтаваўся нецярпліва. Асабліва з таго часу, як пачуў з магнітафоннай стужкі яе голас, шчыры, пранікнёны, мацярынскі. І цяпер проста з дарогі, адно забег у гасцініцу запэўніць начлег, адправіўся шукаць спявачку.

Там, дзе вуліца бярэцца пад гару, каб зараз жа выбегчы за горад прасторным шасэ-гасцінцам на Мінск, у глыбіні падворка, за рослымі яблынямі схавалася хата Рубацкіх. На цеснаватым падворку, зарослым з бакоў маліннікам і засыпаным цяпер нажоўклым лісцем, было ціха. У задуме стаялі старыя вязы. Дзверы былі замкнёны. Я штурхнуў лёгкія весніцы і прайшоў на гарод. Там наворвалі бульбу. Дзесь з канца доўгіх баразнаў паднялася яна і пайшла мне насустрач. Ад супрацоўнікаў Інстытута Кастуся Цвіркі і Анатоля Фядосіка якія месяцы тры таму, у часе летняй экспедыцыі, запісвалі песні Ганны Рубацкай, я крыху ведаў пра яе. Трохі чуўў пра спявунню і ад яе землякоў, калі збіраў фальклор у ваколіцах Налібоцкай пушчы, пад Румам. Запісаў нават ад іх некалькі гумарыстычных вершаў складзеных Ганнай Рубацкай. І цяпер у жанчыне што, устаўшы з зямлі, нетаропка ішла насустрач, пазнаваў яе. Нестарая як на равесніцу стагоддзя. З адкрытым ясным абліччам, якое хораша ажывіла ўсмешка, калі сказаў, што прыехаў забраць апошнія, яшчэ не адданыя ёю песні. Запрасіла ў хату. Селі пры акне. Адкінула хустку на плечы, спыталася, дзе спыніўся. Пагаварылі збольшага, дзеля знаёмства. Ганна Міхайлаўна пагадзілася з тым, што лепш прыйду вечарам у зручнейшы час.

Пакружыў па горадзе. Зайшоў у Дом культуры, дзе дзяўчаты жылі клопатам пра суботнік, пра паездку на копку бульбы.

Паміж слоў дзесь сказаў, чаго прыехаў, «0, Рубацкая ў нас актывістка! Спявае народныя песні, свае вершы чытае з эстрады», — жыва адазвалася маладзенькая загадчыца клуба.

Зноў блукаў па гарадку, па самых далекіх і глухіх яго вулачках, узбіраўся на пагоркі за аколіцай, каб пільней угледзецца ў аблічча гэтай зямлі, нацешыць вочы яе краявідамі. З галавы ўсё не ішла думка, як расхінуць свет песень Рубацкай, увайсці ў яго і выказаць такім, які ён ёсць, проста, натуральна.

Увечары мы пачалі з перажытага. Ганна Міхайлаўна вярнулася памяццю спарэй, як на паўвека назад, у свае маладыя гады, у вёску Жураўцы. Ціхім ручайком з лясной, чамусьці заснежанай стараны гучаў яе голас, расказ.

— У дзяцінстве жывеш радасцю чакання. Чакалі дзядулю з рынку. Ён вазіў у Смаргоні прадаваць сані, бочкі, барылкі і назад варочаўся заінелы, чырванашчокі, з вязанкай баранак, а часам з абноўкай унучцы: бліскучымі боцікамі, крамнай сукеначкай. Чакалі брата, які вучыўся ў Маладзечне ў настауніцкай семінарыі і прыязджаў на святы нейкі новы, цікавы, незвычайны. Да трывожнага радасна было чакаць набліжэння свят, калі ўсё жыццё раптам абнаўлялася. Бацька знікаў тады на дасвецці і прыносіў з рэчкі, з бучоў, санлівых ліцькоў і трапятлівых срабрыста-зеленаватых шчупакоў. Маці завіхалася ля печы, у якой весела шугала полымя. З надыходам вечара садзіліся за ўрачыстую вячэру. Спаважна браліся за стравы старэйшыя. Бацька з дзедам гаварылі пра зорнае неба і яшчэ нейкія добрыя знакі на ўраджай. А потым у ціхае сіняе сутонне ночы ўрывалася песня калядоўшчыкаў.

Яшчэ болей жадна была моладзь веснавым святам. Чакалі іх, як самой вясны, нецярпліва прадчуваючы чагось вялікага, як свет, незвычайнага. Рыхтаваліся загадзя. Потым на самым вялікім гумнішчы хлопцы ўкопвалі слупы, з пянькі вілі моцныя доўгія вяроўкі — рабілі калыску-арэлі. Майстравалі лаўкі, каб было дзе пасядзець. З песнямі

Шуміць, гудзе — вясна ідзе,
Шчасце, радасць людзям нясе…

гойдаліся высока: аж кулялася ў вачах рухомае блакітнае красавіцкае неба.

Увечары, толькі запальваліся першыя зоркі, пачыналі хадзіць валачобнікі:

Ой, барамі сасновымі,
Віно да віно зялёнае,
Ой, палямі жытнёвымі,
Віно да віно зялёнае.
Ідуць, гудуць валачэўнікі,
Гукаючы, спяваючы,
Слаўнага двара шукаючы,
Паню гаспадыньку вітаючы… —

аб’яўляліся адны. І нібы неслі з сабою рэха тых бароў, пошум тых житоў, адкуль прыйшлі, з краіны лета, будучыні. Пачыналі спачатку адараць песняй гаспадара, усяляк падвышаючы яго:

Добры вечар, пане гаспадару,
Да віно ж, віно зеляно.
А ці дома, пане гаспадару?
Да віно ж, віно зеляно.

Хоць і дома — не акажацца,
Да віно ж маё зеляно,
У новай каморы прыбіраецца,
Да віно ж маё зеляно;
Абувае боты шаўровыя,
Надзявае шубу сабалёвую,
Кладзе шапку бабровую,
Папяразвае пояс ясен месяц,
Вядзе каня варанога,
Кладзе сядло залатое,
Едзе ў поле жыта аглядаці,
Жыта аглядаці,
Ці будзе што жаці.
Спатыкае Юр’ю ў варотах:
— Куды едзеш, пане гаспадару?
— Еду ў поле жыта аглядаці.
— Хоць едзь, хоць не едзь, хоць вярніся:
Тваё жыта абгляджона,
Аб’язджона і агляджона,
Тваё жыта пара жаці…

Наступны гурт валачобнікаў нёс гаспадару сваю песню. І яна была пра жыта — гэты асноўны клопат земляроба, яго надзею, апору і гордасць. А як высвечвала новая песня гэту прастору працы і мары даўнейшага селяніна:

У нядзельку ранюсенька,
Да віно ж, віно зялёнае,
Узышпло сонца яснюсенька,
Да віно ж, віно зялёнае,
Асвяціла лясы, бары,
Да віно ж, віно зялёнае,
Лясы, бары, роўнае поле,
Да віно ж, віно зялёнае,
Роўнае поле, жыта ядраное,
Да віно ж, віно зялёнае,
У коласе, як у волаце,
Віно ж, віно зялёнае,
У корані, як у чыстым срэбры,
Віно ж, віно зялёнае,
Пане гаспадару, выпраў жану,
Выпраў жану жыта жаці
І з сярпочкам залаценькім,
І з сыночкам маладзенькім…

Услухоўваючыся сягоння ў гэтыя песні, міжволі думаеш: «А што адчуваў і як адчуваў сябе той далёкі селянін, твой прашчур, слухаючы іх? Шырэў яго дух? Узносіўся сэрцам, думкай ён над невясёлай будзёншчынай свайго жыцця? Мог уявіць сябе на момант прыгожым, убраным як баярын, а плён працы сваёй, жытняе поле — у найвялікшай красе? Зраўняцца ў думках з тымі, хто стаяў над ім, і ўзнесціся над імі, сваімі панамі, валадарамі? Узнесціся, каб сцвердзіць сваё чалавечае працоўнае права, права ствральніка хлеба, дабра, жыцця?»

Ганна Міхайлаўна слухае крыху змененую магнітафонам сваю песню, шырэй адкінула на плечы хустку, схіліла задуменна галаву. На маю просьбу вяртаецца да ўспамінаў, звязвае перарваную ніць расказа. Яшчэ не забыцца часу сенакосу, купальскіх вянкоў, дажынкавай пары, калі вечарам, пасля тамлівай працы за сярпом, збіраліся хлопцы і дзяўчаты на ўзмежку каля вёскі і да глыбокай ночы спявалі «жніво». І зноў пра сваё. Калі ж не было чаго чакаць ці даводзілася чакаць вельмі доўга, дзеўчынёхай, бывала, выбягала да слупоў з правадамі і, прыклаўшы вуха да каторага, слухала, як яны гудуць. Здаецца, чула далёкі-далёкі свет, дзе шмат усяго цікавага, таемнага. І не толькі слухала нашаптанае гэтымі слупамі-самагудамі з нацягнутымі на іх струнамі-правадамі. Аднойчы сама адправідася ў той далёкі свет, куды яны клікалі, шырока ступаючы адзін за адным. Тады ўжо ішла германска-руская вайна. Брат Андрэй пасля семінарыі аказаўся ў Пецярбургу ў школе прапаршчыкаў. У пачатку 1916 года скончыў школу і быў пасланы ў Пецяргоф. Вучыў салдат. Паехала да яго і да сяброўкі, якая выйшла туды замуж. Божа, што за горад! Ну, тады маладая быда. А і цяпер, на схілку гадоў пабывала ў ім. Што за хараство! Не тоўпіцца ў вочы. Прайду колькі вуліцай, пасяджу, сцішуся, зажмуруся, каб перад вачыма зноў прабегла ўбачанае, і далей іду, углядаюся… Ганна Міхайлаўна на момант задумалася, і мне светла прыгадалася, як за час кароткіх пабывак у гэтым горадзе не пакідае настрой ціхай святочнасці, спакойнай урачыстасці. «Калі паслужыць здароўе і збяру лішнюю капейчыну, паеду яшчэ», — кажа спявачка пасля маўчання.

— Першы раз, у тую вайну, прабыла там паўгода. Брат нават быў прыстроіў мяне на ваенны завод. Начынялі гільзы ад снарадаў карцеччу… Але як толькі фронт пасунуўся пад Валожын, маці занепакоілася, стала патрабаваць дахаты. З таго часу і засталася ў вёсцы. Жылі у Жураўцах, а замуж вышаўшы — у Яцкаве. Аж да 1943 года, калі аднаго дня нямецкія карнікі пусцілі з дымам нашы хаты і ўвесь набытак.

— Ды, мусіць, чулі самі, раз былі ў Белакорцы, Яцкаве, як нам тут далася ў знакі вайна.

Сапраўды чуў многа страшнага. І тут і ў іншых мясцінах, дзе толькі давялося прайсці ўслед за песняю. Цяжкая, трывожная памяць апошняй вайны ўсё яшчэ неадступна ідзе за на-мі па роднай зямлі…

Ганна Міхайлаўна схіліла галаву, думаючы нешта сваё, і мне здалося, што будзе дарэчы цяпер спытаць, як напісалася яе песня пра маладога байца, якую музыкай акрыліў самадзейны кампазітар з Маладзечна. Гісторыя аказалася простай, як і немудрагелістыя словы песні. Яны расказваюць

пра магілу ў полі, у якой пад чырвонаю зоркаю спіць вечным сном скошаны варожай куляй юнак. Снуюцца неспакойныя думы маці байца, чакае сына з вайны набалелае матчына сэрца. Сюжэт не новы, словы звычайныя, але не бракуе ім шчырасці, душэўнага цяпла. Той шчырасці, непасрэднасці пачуццця, што і ў песнях народных, якія ідуць з Ганнай Міхайлаўнай праз усё жыццё. Ідуць з маладых, нават падлеткавых гадоў. Калі на другі дзень, дабіраючы ўжо да сотні песень Ганны Міхайлаўны, пацікавіўся, ад каго пераняла спявачка іх, убачыў, як раптам сышоў з аблічча яе одум і на ім шэрыя вочы зноў зажылі даўнімі перажываннямі.

— А ведаеце, на начлезе. Спявалі іх там як нідзе. І пары гэтай чакалі — не маглі дачакацца. Ранняй вясной, толькі пырсне першая трава і апранецца лістом лес, вядзём наначлег коней. Бывала, пачне вечарэць, ужо праслухоўваешся, ці едуць начлежнікі.

Вуздзечка пад рукою, і кулём бяжыш да хлява. Добра было тым, у каго няшмат ахвотнікаў ехаць на начлег.А дзе два-тры — ледзь не біліся за вуздзечку: конь жа адзін. На месца начлегу ехалі доўга лесам і ўсю дарогу спявалі. Спявалі і танцавалі і пры начлежным агні, аж пакуль не пачынала займацца світанне. Тады на якую гадзіну заплюшчвалі вочы. Часам пры агні чыталі вершы.

Вечаровым лясным рэхам адгукаюцца песні Ганны Міхайлаўны. Розныя яны. Услухаешся — бачыш карагод моладзі:

Сонейка! Да ў нашым сяле тры вуліцы,
Сонейка!
Соненка! У адной вуліцы ружа лялее,
Сонейка!
Сонейка! У друтой вуліцы рамон бялее,
Сонейка!
Сонейка! У трэцяй вуліцы крапіва млее,
Сонейка!

Мелодыя павольная. Голас спявачкі задумлівы. З лёгкай скаргай дзесь у глыбіні самога тону песні, яе душы. Хоць у словах малюнкавасць, акварэльная празрыстасць:

Сонейка! Ружа лялее — то дзевачкі.
Сонейка!
Сонейка! Рамон бялее — то малойчыкі.
Сонейка!
Сонейка! Крапіва млее — то малодачкі.
Сонейка!

І тонам жальбы ўсмешка хлопца, пажылога дзецюка, які адказвае дзяўчатам на насмешлівае і ненасмешлівае пытанне:

Чаму, Яначка стар, не жэнішся,
Прыйдзе зімачка — дзе ты дзенешся?

Словы смяюцца, словы з прышчурам разумных і добрых вачэй, а голас песні светла-журботны:

Як мне жаніцца — ячмень на ніўцы,
Ячмень на ніўцы, хмель на тычынцы.
Восені прыжду — ячменю нажну,
Хмелю нашчыплю — піва навару,
Піва навару — дзевак напаю,
Прыгажэйшую за сябе вазьму.

Пе сні для спявачкі — усе роўныя і дарагія, як для маці дзеці. Ганна Міхайлаўна не вылучае іх. Проста схіліць на момант галаву, спытае: «Можа, гэту? Увесну, палотны белячы, яе спявалі», і паплыла мелодыя крыху меланхалічная з одумам «восень». Восеньскія (яны свае тут на Валожыншчыне) — усе ў прадчуванні змены дзявочага лёсу, неспакойным чаканні новага. Узрушанае чалавечае сэрца чуйна лавіла перамены ў прыродзе, бо яны, гэтыя перамены, былі нечым суладныя яму:

Чаго, лосейка, чаго, сівенькі,
Ты к сялу прыбягаеш?
Ці ты, лосейку, ці ты, сівенькі,
Цяжкую зіму чуеш?
— Ой, хоць цяжкую, хоць не цяжкую, —
Не будзе, як лецечка.
Я ўлетку хаджу — травіцу скубу,
А зімой — ні былінкі.
Чаго, дзевачка, чаго, малада,
Ты к сталу прылягаеш?..

Пад той жа працяжны, задуменны восеньскі матыў наракае дзяўчына на бацькоў, што так лёгка з ёю расстаюцца. І выказана ў гэтым нараканні, лёгкім, больш падобным на папрок, усё жыццё дзявочае:

Ой, у садочку, у халадочку
Салавейка шчабеча,
А ў новым ганачку
У залатым крэслечку
Дзевачка касу чэша.
Ой, чэша, чэша, перабірае
І з мамачкай размаўляе.

— Мамачка мая, родная мая,
Чым я стала няміла,
Ці я ў цябе, мая мамачка,
Верненька не рабіла:
Тонка не прала, звонка
І беленька не бяліла?
Ці табе мілей, мая мамачка,
Зятняя гарэлачка?..

Дзесь шапоча-гаворыць бяроза з лістом аб хуткім расставанні, пытае клён у ветра, куды ён коціць яго лісце, , шумяць прыдарожныя кусты. Дзесь згубілася, растала жураўліная песня. Грахоча масток над празрыстай па-асенняму рачулкай. Па ім імчаць, пазвоньваючы шаргунамі, імклівыя коні вясельнікаў. І гэта ўсё не за трыдзевяць зямель, не за далеччу гадоў, а тут, побач з табой: у зрокавай памяці спявачкі, словах яе песні, а значыць, і ў нас перад вачыма.

Вяселле з песень, даўняе беларускае вяселле — у ім усё, як і ў жыцці: і радасць, і слёзы, і трывога, і надзея, парада-засцярога і жарт, смех і пацеха, весялосць і задума.

Людскасць, дабрыня, хараство ў чалавеку. Якой толькі не нясе ім хвалы, як не паэтызуе іх песня народная. І, ужо прытомленая пераказам сваіх песень, Рубацкая ажыўляецца, вочы свецяцца ціхай усмешкай, і словы і голас уражваюць арганічнасцю, глыбокай натуральнасцю:

Не гніся, не гніся, калінавы мосцік,
Там едзе Міхаська да цешчы ў госці.
Як праз поле едзе — ажно поле ззяе,
А як лесам едзе — лес палягае,
А праз вёску едзе — людзі дзівуюць:
— Ото ж таму добра, чый сынок едзе,
Яшчэ таму лепей, чыім зяцем будзе.

Іншая вясельная зусім пазбаўлена рамантычнай узнёсласці ў сваім змесце: проста цешчу турбуе, які будзе яе зяць. Але і тут песня ўмее стварыць атмасферу незвычайнасці. На тое дадзена паэту, ці гэта індывідуум, ці цэлы народ, магія слова.

Ой, цешча зяця даўно жадала,
Па ўсіх дарогах старожы стаўляла,
А дзе зяць ехаў — там сама стала,
І цешча ў зяця праўды пытала:
Ці будзеш, зяцёк, гарэлачку піці?..

Маладая ў песнях Ганны Рубацкай падобна да тысячаў маладых з іншых вясельных. Але нячаста сустрэнеш такую, што хоча ў задуме пасядзець,

глянуць неяк збоку на сябе і сваё вяселле. Ды ўсё вяселле падае песня гэта з ней-кім шырокім ахопам, ствараючы некалькімі мазкамі выразную фрэску, мастацкае абагульненне, у якім, аднак, ёсць месца і для псіхалагічнай дэталі.

Маладая Волечка, прасі свайго татачкі:
Татачка мой родненькі, да збірай пляменейка,
Да збірай пляменейка — зачынай вяселейка,
Вялі музыкам зайграці, пускай дружыну гуляці.
Дружына гуляць хоча, дзевачкі спяваць будуць
А я ціханька пасяджу і на дружыну пагляджу.

І неабавязкова песня Рубацкай будзе прарочыць маладой дзяўчыне «чужую староначку невяселую, чужую сямеечку неспагадную». Яна супакойвае і дае надзею на лепшае, кліча ў новы свет, абяцае радасць пазнання новага жыцця.

Паедзем, Наталька, у чужыя людзі,
А ў чужых людзях лепей табе будзе,
Будуць сцежачкі невядомыя,
Будуць суседкі пезнаёмыя…

Ганна Міхайлаўна спявае без націску, роўна, напаўголаса, але выразна і як бы сама сабе напамінаючы аб нечым далёкім. Калі ж слова лягло трохі не так ці голас, здалося ёй, прагучаў глухавата, тут жа хапатліва папраўляецца ды зноў вяртаецца да спакойнай замроенасці. Неўпрыкмет далучае да перажыванняў, выказаных у песні. Нечым па-чалавечы блізкімі робяцца дзяўчына і яе маці з песні:

Ой, стаяла сасоначка на заходзе сонца,
Ой, плакала дзяўчыначка, гледзячы ў аконца.
Чаму тады, матуленька, мяне не будзіла,
Калі мая кумпаначка замуж выхадзіла?
Да я затым, дачушачка, цябе не будзіла,
Твой міленькі ўпярод ехаў, каб ты не нудзіла…

І тая маладая жанчына, што праз стагоддзі і сёння пытаецца ў людзей, у нас, у кожнага:

Ой, паехаў мой міленькі на вайну,
Ой, пакінуў мяне маладзеньку адну.
З кім я буду цёмну ночку начаваць.
З кім я буду цёпла лецечка чакаць.
З кім я пайду ў роўна поле жыта жаць…

Простая даверлівасць чалавечага сэрца, даверлівасць слова, інтанацыі. Як нямала яны значаць у жыцці, мастацтве. І сярод вобразаў, слоў, песень Рубацкай знаёмае з дзяцінства шчымліва адзываецца ў сэрцы, кліча згадкі

Ой ляцелі гусі ды з-пад Беларусі,
Селі яны, палі на ціхім Дунаі…

І, мабыць, запомніліся яны табе ў тваім трэцім класе не таму, што кранулі, маглі крануць дзіцячае сэрца расказам пра двух чалавек, што горача кахалі адзін аднаго, а потым чамусь «рассталіся, як цёмная хмара». Засталося ў памяці, як настаўнік Туцкі браў скрыпку і пад смычком яго струны спявалі празрыстае «…на ціхім Дунаі». А пазней ты вычытаў у пісьменніка, як юнаком, яшчэ ў 80-я гады мінулага стагоддзя, трапіўшы за ўдзел у рэвалюцыйных хваляваннях у знакамітую турму «Бутыркі», ён з землякамі-студэнтамі праз гэту песню перажыў радасць пазнання радзімы, пачуў гукі яе. Гэта Ядвігін Ш. расказаў у кнізе «Успаміны», што ўбачыла свет дзесьці ў год яго смерці.

Чую з вуснаў Ганны Міхайлаўны:
Ці ў лузе, ці ў лузе не калінка расла,
Ці ў лузе, ці ў лузе не чырвоная была,
Яе ўзялі паламалі, у пучочкі павязалі —
Мусіць, трэба было, мусіць, трэба было.
Ці я ў мамкі, ці я ў мамкі не дачушка была,
Ці я ў мамкі, ці я ў мамкі не прыгожаю расла, —
Мяне ўзялі замуж далі, —
Свет навекі завязалі:
Мусіць, трэба было,
Мусіць, трэба было.

Словы — чутыя даўно. Дзесь у школьныя гады. Нават, здаецца, нясладна падцягваў іх у вучнёўскім хоры. Але няпросты жыццёвы сэнс іх адчуў пазней, калі пасталелымі вачыма ўчытваўся ў Янку Купалу, спасцігнуў яго верш на той жа народны матыў, а са слоў жонкі паэта даведаўся, што была гэта песня ў яго самая любімая з народных. І яшчэ неяк раз уразіла гэта песня, пачутая па радыё. Уразіла тым, што словы былі амаль тыя самыя, толькі іншая танальнасць. Але спявала, білася ў ёй іншае сэрца. Так пачуў яе, узняў адпаведна вышыні сваёй душы вялікі Чайкоўскі.

Час і развітацца. Сто песень Рубацкай у мяне на магнітафонных стужках, цэлы рой, паўтома, а нават і том паэзіі. На адходзе даведваюся, што ўнучка Ганны Міхайлаўны скончыла музычнае вучылішча і цяпер сама працуе выкладчыцай у Маладзечне. Відаць, нездарма ў яе маленстве гучалі простыя, даверлівыя сваімі словамі і інтанацыяй бабуліны песні. Значыць, лінія духоўнасці у сям'і Рубацкіх не перапыняецца. І хто ведае, можа, яна ўзрастае, абавязкова ўзрасце. Бо на гэта працуе і час. Наш час, руплівы дойлід чалавека.

Адвітаўшыся з Рубацкімі, праз мінуту трапляю на пятачок-пляцоўку аўтобуснай станцыі дзе многа моладзі, школьнікаў. Пакуль аўтобус наш адправіцца на станцыю Валожын, адкуль мне трэба папасці ў песенную вёску Лістапады разгортваю куплены тут том у блакітна-белым суперы «Беларускіх народных песень» Шырмы. Гэта не самі запісы старэйшыны нашай музычнай культуры, а мастацкія апрацоўкі беларускай песні.

Сабраныя народныя творы былі толькі зернем. Але зернем, што трапіла ў натхнёныя шчырыя рукі. Сагрэтыя вялікім і чулым сэрцам, песні развінулі крылы, каб ляцець у свет. Плён гэтай зямлі стаў яе голасам. Ад усведамлення такога і ад таго, што ўсё ж адбылася сустрэча з песняй ды ад ціхай гаманы суседзяў у аўтобусе было светла і радасна. У сіняй далечы, куды імкнула дарога, над зялёнай рунню абазначыліся, спелі галасы песень.

**Пастскрыптум.**

Знаёмства наша з Ганнай Міхайлаўнай на адной сустрэчы не перапынілася. З гадамі яно перайшло ў прыязныя шчырыя адносіны, узаемную патрэбу перакінуцца словамі хоць праз лісты, падзяліцца перажытым спытаць пра нешта аднаму з нас невядомае. Найчасцей пытаўся я: нешта рупіла даведацца пра даўнейшыя земляробчыя звычаі, святы, падзеі, сведкай якіх Ганне Рубацкай давялося быць на вяку. Адказы радавалі. Жывой натуральнай народнай мовай лісты з Валожына расказвалі пра талаку, каляды, вялікдзень, як яны святкаваліся на пачатку стагоддзя. Пры гэым у лістах траплялiся і не згаданыя адразу Ганнан Міхайлаўнай песні, сярод якіх паблісквалі сапраўдныя залацінкі паэзіі…

Неяк аднойчы, перажыўшы гора, страту старэйшай дачкі, жанчыны яшчэ не старой і вельмі руплівай, гаспадарлівай (а гэта мы самі добра ўведалі, жывучы з Кастусём Цвіркам у яе на кватэры падчас экспедыцыі), Ганна Міхайлаўна з тужлівай думкай «зажылася, маўляў», пераслала мне свае запіскі. Раней яшчэ раз сама была пры смерці. Знайшлі на падвор'і непрытомнай і ледзь адратавалі. Пабываўшы «на тым свеце» і шчасліва вярнуўшыся да жыцця, адчула вострую патрэбу даверыць перажытае, паперы. Ёсць, праўда, малодшая дачка, унукі, але каму гэта будзе трэба, цікава — нават не думалася. Столькі пражыта, перадумана і каб ніякага следу не засталося? — нешта ўнутры пратэставала супроць такога. Узяла збольшага запісала. І вось зялёны тоўсты сшытак — у мяне. Перачытаў — і стала ніякавата. Свой эцюд, прысвечаны Ганне Рубацкай, надрукаваны ў часопісе, некалі пісаў пад першым уражаннем знаёмства са спявачкай і яе песнямі. Пісаў акварэльнымі фарбамі, гледзячы на жыццё Рубацкай праз прызму яе маладосці ды і сваёй яшчэ нясталасці.

Партрэт выйшаў рамантычны, але ж не цяперашняй спявачкі, а хутчэй Рубацкай даўнейшай, маладой. Шмат чаго з жыцця жанчыны засталося па-за рамкамі партрэта. Рысы аблічча ў нечым, мабыць, недакладныя. А тым часам у ім шмат тыповага для цэлага пакалення таленавітых сялянскіх жанчын, голас душы якіх захлынаўся ў цяжкім быце, не мог прабіцца шырэй да свету, хоць нёс яму сваю даніну захаплення, характва, дабрыні. У кож-

ным пака-ленні адзін чалавечы лёс у нечым паўтарае лёс многіх, але мае нямала і свайго, адметнага, непаўторнага. У цэлым аповесць жыцця Ганны Рубацкай чытаецца, успрымаецца ў той танальнасці, якая пераважала ў даўнейшай беларускай песні — у натуральным міноры. Але ў ёй, як і ў песні, адчуваецца характар, шмат душы, парыву да святла, да жыцця лепшага. Каб партрэт спявачкі на фоне песень не страціў добрага рэалістычнага зместу, дарэчы дадаць некалькі штрыхоў яе жыцця. Можа, выразней праглянуць рысы індывідуальнага твару народнай пявунні, яе часу.

Жыццё рана адразу дало адчуць Ганне сваю суровасць, калі тая была яшчэ дзеучынёхай. Спачатку спагадна ўсміхнуўся ёй нейкі заблуканы прамень. Пятнастоўкай трапіла ў Петраград. Хоць нялёгкая пры рабоце на ваенным заводзе, агульнай неўладкаванасці, але самастойнасць. Горад — цуд над велічнай ракой. Які, здавалася, неабдымны свет пасля лясной вясковай глухамані. Але вось брат загадаў кунешна паехаць дамоў. Надта не хацелася, але прывыкла слухацца старэйшых. Тут, у далёкім горадзе, брат, ужо дарослы, самастойны, асабліва пасля заканчэння школы прапаршчыкаў, быў для яе не толькі братам. Калі год назад паехала, выбіраючыся з дому, ведала, што дзесь там, на захад сонца, ідзе вайна, цяпер гарматны гром чула на свае вушы: фронт шчыльна прысунуўся да валожынскай ваколіцы, роднай вёскі. Бацькаву хату заняў генерал з цэлай чарадой ад'ютантаў, ардынарцаў. Маці з бацькам туліліся ў запеччы, на кухні. Ганне, як крыху падвучанай (недарма ж бегала ў вясковую школу і нават два гады вучылася ў вучылішчы ў мястэчку) даручылі кіраваць брыгадай дзяўчат на земляных работах пры фронце. Дзяўблі, ламалі, грызлі лапатамі яшчэ неадталы напрадвесні дол, капалі акопы, рыхтавалі месца пад бліндажы. Ганне было крыху лягчэй. Не кожны дзень трэба было ўгрызацца рыдлёўкай у стылы грунт: палучала і раздавала дзяўчатам хлеб, грошы. Горш стала, як захварэла, а потым зусім злегла у пасцель маці. Фронт той неўзабаве па рэвалюцыі рассыпаўся. Прыйшлі і адышлі немцы. На людзей наваліўся страшэнны голад. Пару гадоў тут не аралі і не сеялі: раўлі гарматы, снарады нявечылі зямлю, над галовамі вісеў прывід гвалтоўнай смерці. Дабро нішчылася, пайшла на звод жывёла. Ваенныя пажары цяпер змянілі голад, трывога. Бясконцай чарадой ішлі пагарэльцы, жабракі. За дзень абарочвалася ў хаце чалавек пяцьдзесят няшчасных. А чым можна было з імі падзяліцца? Апошняй бульбінай? Галеча, кінутая салдатамі абы-дзе зброя распладзілі ліхіх людзей. Выразалі, выбівалі цэлыя сем'і, найболей тых, хто жыў наднаселлю, на хутарах пры лесе. Потым як на галаву зваліліся польскія войскі. Як і немцы, яны перш-наперш прызначалі старасту, пристаўлялі рулю да грудзей, калі быў не дужа паслухмяны, някемлівы, і прымушалі весці паказваць, дзе ў каго што ёсць схавана. На гэты час абодва Ганніны браты, старэйшы Андрэй і малодшы Рыгор, былі дома. Адразу не знайшлі сабе іншага прыпынішча, месца ў змененым свеце. Андрэй вярнуўся з Пецярбурга дахаты ў афіцэрскай форме, без пагонаў. Меў пры сабе рэвальвер. Палякі, нягледзячы на тое, што праваслаўны, беларус, сталі клікаць яго ў сваё войска. Андрэю нічога не заставалася, як падацца ў лес. У лесе скора аказаліся без мала ўсе маладзейшыя мужчыны.

Жонкі, маткі насілі ім туды есці. Аднойчы польскі вартавы запыніў пад лесам кабету з Жураўцаў, стаў дапытваць, каму яна нясе абед, потым пачаў яе біць. На крык жанчыны аб ратунку з лесу падаспеў Андрэй і ва ўпор застрэліў жаўнера. Другі, што стаяў побач на варце, хуценька ўцёк і прывёў у Жураўцы атрад легіянераў. Тыя ўчынілі допыт вяскоўцам. Андрэя Сухадольца ніхто не выдаў, ды заставацца ў родных ваколіцах было рызыкоўна: сам наразішся на небяспеку і на родных бяду навядзеш. Але вось на нейкі час палякаў прагналі. Прыйшла Чырвоная Армія. Толькі ненадоўга. Неўзабаве зноў наляцелі легіёны. Цяпер ужо настала. У Жураўцах размясціўся нейкі іх важны «аддзел». Першай брыгады, ці што. Адным словам самы-самы, як казалі, давалі зразумець усім сваім выглядам, «гонарам» яго афіцэры і жаўнеры. Гаспадарам зноў давялося пацясніцца ў запечак: светлую палавіну хаты Сухадольцаў заняў паручнік польскага войска з дзеншчыкам.

Пакуль канчаткова ўсталявалася граніца, Ганусіны браты падаліся ў Расію. Неўзабаве вясной памерла маці, і дзяўчына засталася пры бацьку і дзеду адна. Пакуль жыла маці, хоць і прыкаваная да ложка, усё ж нешта падкажа пакіруе. Цяпер асноўны цяжар гаспадаркі клаўся на яе дзявочыя плечы. Даводзілася рабіць і мужчынскае і жаночае. Слабы на грудзі з маленства (рос сіратою) бацька часта недамагаў. А трэба было паспець упору ўкінуць зерне ў раллю, пасадзіць бульбу, каб увосень мець што сабраць з нівы. Дзяўчыне даводзілася і ткаць, і мыць, і сеяць, і баранаваць у адначассі. Мела ўжо дваццаць гадоў, убралася ў сілу, спраўлялася. І ўраджаю той год прычакалі не найгоршага. Ажно не паспела адлегцы сэрца ад гора, страты маці, як другая бяда звалілася на галаву. Аднае ночы пажар выкаціў паўвёскі, васемнаццаць хат. У гумне згарэла неабмалочаная збажына — надзея на ўвесь год. Сатлела ў стопцы бульба. На шчасце, праўда, ацалеў свіран, дзе ў арудзе было трохі ячменю. З ім неяк перазімавалі. Добра, сёе-тое ўдалося адратаваць з хлява. Памясціла ў людзей карову: перахавалі за малако, і каня ўдалося датрымаць па людзях да вясны. Без яго зусім бы прапалі. Зімою ўдваіх з бацькам, тонучы ў гурбах, надрываючыся над камляватымі соснамі (адхварэла потым, ледзь адлячыла суседка), нарыхтавалі лесу на гумно. Памаленьку вытралявалі яго, балазе быў конь, на сваё пажарышча. За лета з людской помаччу агоралі зруб. Намалаціўшы саломы новага ўраджаю, прыкрылі яго і ў самае перадзім’е гумно закончылі: было дзе прытуліцца з дабром, сабраным з нівы. Вясною, толькі збольшага ўправіліся з работамі ў полі, як сталі ехаць сваты. Усталяваўся, ці надоўга, спакой, і людзі спяшаліся вярнуцца у адвечнае рэчышгча жыцця.

— Я пакуль не думала аб замужы, — успамінае Ганна Міхайлаўна далёкія часы маладосці. — Недзе заблукаў, яшчэ не вярнууся з вайны хлопец, з якім употайкі сустракаліся. Потым не магла і падумаць, як кіну адных нямоглага бацьку з старэнькім дзядулем, ды яшчэ кутнікамі ў чужой хаце. Мужчыны ж разважалі па-свойму. Мусіць, баяліся, каб не засталася ў дзеўкахвекавухах. Для парады паклікалі бабулю з суседняй вёскі. З усіх сватоў, што адведвалі хату Сухадольцаў, выбралі адных, з Яцкава. Самі неяк з’ездзілі туды, кіламетраў за пятнаццаць, распыталі пра жаніха, яго бацькоў і сказалі

Ганне: «Ідзі, на нас не глядзі. Неяк дадзём сабе рады. А там, можа, хто з сыноў вернецца», — не траціў надзеі бацька. Далася ўгаварыць сябе. Трэба рыхтавацца да вяселля, а тут нідзе нічога ні купіць, ні дастаць. Удалося расстарацца крыху солі. Была яна тады даражэйшая за золата. Людзі хадзілі на пошукі солі некуды далёка, за свет. Часам гінулі ў той дарозе. За пару жменяў солі Ганне пашанцавала дастаць кавалак белай матэрыі. Пашыла сабе сукенку. Стрыечная сястра пазычыла туфель, каб было ў чым з'ездзіць да шлюбу, а суседка дала вэлюм на галаву. У дарозе ў царкву ўзяў одум: як гэта я выходжу замуж за нялюбага чалавека, якога толькі два разы бачыла, ні аб чым пагаварыць не паспела? Разжалілася. Усю дарогу плакала.

Пад расказ-успамін Ганны Міхайлаўны пра тыя зборы ў беднасці, галечы замуж прыгадаліся яе вясельныя песні. Песцілі ў думках яны маладую, любаваліся ёю якраз перад адпраўкай да шлюбу.

Наша Ганулька прыгожа ўбрана,
Яе адзенне ў Вільні купляна.
З'ездзіў хіленькі — купіў сукенкі,
З'ездзіў сваточак — купіў вяночак,
Ездзілі залвічкі па чаравічкі,
Ганначку ўбралі — з сабой забралі.

У песнях былі і дзівосныя ўборы маладой, і залатыя кубкі на стале, і заморскія птушкі, якія нібыта ацерушылі крышталёвую расу кветачкі, што на шапцы ў маладога. У сапраўднасці ж было зусім іначай. Праўда, была раса, што падала па русую касіцу — Ганульчыны слёзы.

Ой у полі ў полі ўсе красачкі цвіцелі, —
Па застоллі сватоўе сядзелі.
На тым на сім так шапачкі харошы —
Па Рыгорку прыгажэйшая ад усіх!
На шапачцы ружовая кветачка,
На кветачцы цудоўная расіца.
Прыляцелі заморскія птушачкі,
Ацерушылі крыштальную расіну
Да Ганульцы на русую касіцу.

Ды не адна маладая, асабліва ў старой даунейшай беларускай вёсцы, не выплакала за раз сваіх слёз. Шмат іх было яшчэ наперадзе і ў Ганны Рубацкай. Журлівая свякроў, муж які не мог запярэчыць ні ў чым маці, суцешыць прыгалубіць маладую жонку. Работа безупыну і ў будні і ў свята. Хапала яе і ў бацькавай хаце: трэба было напрасці, наткаць на сям'ю, накарміць. Дзень адпрацаваць і ў полі і ў хаце, а ноччу весці кабылу на начлег ды не спаць, пільнаваць, каб хаця ваўкі не ўкралі жарабя. Днём зноў стаць да цяжкой працы. Але там, у бацькавым доме, здавалася, усё ішло спарней, лацвей, увішней. Работу паробіш і, асабліва святочным днём, уварвеш якую гадзіну

пачытаць. Было там што чытаць. Былі братавы кнігі з часу яго вучобы ў Маладзечанскай семінарыі. Цягнула ўсё вучыць за старэйшым, нават нейкіх пяцьсот французскіх слоў ужо ведала, разбірала, спасцігала французскую грамату па яго семінарскім падручніку. Потым генерал, што стаяў у бацькавай хаце, некуды ўцякаючы ў час рэвалюцыі, пакінуў ладна кніг. Сярод іх нямала рускай класікі. Пажар дваццатага года змёў зараз з усім дабром, хатай і гэта багацце. Пры Польшчы дастаць рускіх кніг не было дзе. Сумавала па чытанні. Праўда, з часам навучылася чытаць і па-польску. Прачытала і Ажэшка, і Рэйманта, і Канапніцкую. А вось па-свойму, па-беларуску, пачала чытаць і пісаць ужо ў савецкі час. Як пайшлі ў школку унукі, заглядала разам з імі ў падручнікі. Вершы беларускія пачытала, і самой захацелася нешта напісаць. Але гэта ўжо, калі паўвеку было пражыта, а жыццё змянілася на лепшае, шырэйшае сваімі даляглядамі.

У 20-я ж гады тут, на Валожыншчыне, пад уладай буржуазнай Польшчы, яно крыху перайначылася. Гусцей, чым пры цары, сталі паліцэйскія ўчасткі, якія зваліся цяпер пастарункі. З'явіліся асаднікі, былыя вайскоўцы, легіянеры, якім маршалак Пілсудскі, урад Рэчы Паспалітай хацелі аддзякаваць за ўдзел у паходах на захад і ўсход дзеля адваявання каханай Ойчызне як найшырэйшых межаў-граніцаў. Прыслалі настаўнікаў пераважна з Галіччыны ды рознага чыноўнага люду. Гэта былі тыя «навіны», што прынеслі з сабою новыя гаспадары краю. У цэлым жа вясковае жаночае жыццё ішло адвечным сваім цягам: у кругазвароце хатняй ды палявой гаспадарчай працы, у клопатах-згрызотах ды ціхай надзеі аб прыходзе нечага лепшага ў будучыні. Можа, нейкіх перамен.

Усяго было ў першыя гады замужжа Ганны Рубацкай. Болей благога. Баялася сама ўзяць есці. Скароміну, малочнае свякроў трымала пад замком. Хварэла маленькая дачка. Плакала дзіця, плакала над ім ад жалю бязрадная маладая маці. Аж пакуль суседка не падказала просты народны сродак. Няўрымслівая ў сваёй бурклівасці, чаплялася са сваркамі свякроў. Не меў спагады муж. Аднойчы, калі падняў на яе руку (дачка была звалілася з лавы на падлогу), сабралася ўпрочкі. У нядзелю вярнулася ў бацькаву хату, але муж перапрасіў, угаварыў бацьку не забіраць дачку. Мінула гадоў семвосем замужжа, і для Ганны Рубацкай, здавалася, гатовы былі надысці лепшыя, прасветленыя дні. Паднялася вышэй стала дачка. Зрабілася поўненькая, зграбненькая. Прыцішэла грызлівая свякроў. Муж распачаў перабудоўваць заняпалую за вайну ды пасля раздзелу з братам гаспадарку. Перасыпаў хлеў, гумно. Нарыхтавалі дрэва на новую хату: жылі пры лесе, і сядзець у цесначе ўжо не было змогі.

Гаспадар замахнуўся на сапраўдную святліцу — каб была лепшая ў вёсцы. Дом ставілі прасторны, на дванаццаць акон. Згоджаныя на работу цеслі былі дасканалыя майстры. Сцены выводзілі гладкія, без пазоў, як з дошак. Стаялі высокія, залацістыя, на гладкі вугал. Хоць рубілі зруб увасьмярых, працавалі доўга, старанна. Потым іх замянілі чатыры страхары: пакрылі дом гонтай. Потым на змену ім прыйшлі печнікі. Акрамя варыўнай печы вымуравалі грубку і кафельную пліту. Круглы год сталяравалі тры сталя-

ры. Работнікі былі з Валожына і далейшых вёсак, Столькі мужчын трэба было накарміць, нарыхтаваць пасцель нанач. Акрамя таго, трэба было паспець у полі за сярпом ды дзяцей дагледзець: меншай дачцэ ішоў другі год, корпалася ў стружках каля хаты. А асноўнае — трэба было заплаціць майстрам: і цеслям, і страхарам, і печнікам. Рубацкія не вытрымалі б тых вялікіх расходаў, каб перад тым некалькі год не душыліся аб адным малаку, гадуючы жывёлу на продаж: іначай з чаго можна было ўзяць тыя злотыя, каб заплаціць людзям. Зямлі няшмат. Збажыны збіралі як пражыць. А каб і лішак яе — то не вельмі заробіш: жыта было недарагое, а ярына і таго танней. Затое ўсё прамысловае, самая дробязь — у добрай цане, не дакупіцца. Глядзела маладая гаспадыня на свой дом, беручы ваду ў студні, — адна любата. А ў сэрцы не радасць, а халадок трывогі і нейкі ўнутраны голас: «Ці ты будзеш у ім жыць? Не...» Прадчуванне бяды было недарэмна. Толькі зрабілі ўваходзіны, кватаранты адразу знайшліся. Само мясцовае начальства зацікавілася харомам Рубацкага. Паўдома адразу нанялі пад канцылярыю. А гэта — пэўны злот на даўгі ды расходы. Ганна купіла сабе нажную швейную машыну, матэрыялу ды за зіму пашыла сеё-тое дзецям, сабе, мужу. Закалолі каляду ды ўжо не на продаж, як раней, а да свайго стала пайшла свежаніна, кілбасы і пару кумпякоў — к надналеццю. Толькі ўжыць па-людску нічога не ўдалося. Як гром з яснага неба на галовы Рубацкіх звалілася бяда — пажар. Вясна 1929 года выдалася пагодлівая, сухая. Ніводнага дажджу. Ярына абышла, але ў рост не кранулася. Дзе ж: зямля як попел. Саламяныя стрэхі сталі нібы порах. Досіць было невядома кім, адкуль занесенай іскры, каб будынкі на вачах ператварыліся ў суцэльнае полымя. Рубацкія, як былі на час бяды пры рабоце, у горшым адзенні, у тым і засталіся. Адно паспела Ганна выхапіць з агню галоўку новай сваёй машынкі. Муж і зусім нічога. Засталіся як стой. А ні ў што змяніцца, ні ў рот чаго ўкінуць. Рабі што хочаш. Спачатку разгубіліся. Ці зноў пачынаць ад падмуроўкі? Аддасі ўсю страхоўку, а дзе гарантыя, што падобнае не здарыцца? За свае дваццаць дзевяць Ганна ўжо двойчы плакала на папялішчы роднай хаткі. Можа, лепей укласці гэты мазольны грош у зямлю? Яна не згарыць і не ўтоне. Пасееш — і заўсёды, калі болей, калі меней, але нешта сажнеш, змалоціш. Так і рашылі. Да страхоўкі крыху грошай прыпазычылі ў людзей і ўнеслі першую рату платы за кавалак падлеснага поля. Не ведалі яшчэ, у які клопат, бяду траплялі з ёю на будучыню. Зямля пры паляках была дарагая. Не кажучы ўжо, колькі працы ў яе трэба было ўкласці, каб мець нейкі пажытак, карысць. Тым часам перад вайной Рубацкія патрохі пачалі станавіцца на ногі. Хоць змагліся ад выплаты за зямлю і радзіла яна слабавата, але хлеба хапала. Дачку старэйшую аддалі замуж як людзі: і вяселле справілі, і з пасагам выправілі. У вёску Белакорац, што недалёка ад руму, была тая выйшаўшы замуж за неблагога чалавека. Пераждыць з таго часу давялося шмат чаго, і добрага і кепскага. Вайна спачатку загрымела здалёку. Навісла трывогай: што будзе? Няпэўнасць трывала, аднак, нядоўга. Нечакана змянілася на радасць. Жыццё перайначвалася на лепшае. У Заходнюю Беларусь уступіла Чырвоная Армія. Стрымгалоў уцякала абрыдлая польска-панская адміністрацыя з яе

незлічонымі падаткамі, штрафамі, пагардай да ўсяго мясцовага, беларускага — таймаваннем народнага духу, свабодалюбівых памкненняў працоўных людзей. Калі спяшаліся да бальшака, ажыўленага рухам савецкіх танкаў, коннікаў і спешаных байцоў, у Ганны, ды ці ў яе адной яе, жыла патайная надзея ўбачыць сярод вызваліцеляў і родных, сваіх братоў. Ведала, што такое толькі ў казцы бывае: ці ж якраз ім быць, ісці ў гэтым паходзе, а спадзява$_{д}$ася. Непакоіла думка, што даўно не было ад іх ніякіх вестак. Старэйшы, Андрэй, дык той, праўда, далёка дзесь, у самую глыбіню Расіі забраўся. Разы два толькі абазваўся лістамітяшчэ калі жыў бацька. Пісаў, што жаніўся і меў уцеху з сям'і, хваліўся работай, што была па душы. Малодшы Рыгор даваў пра сябе знаць досіць часта. Скончыў беларусазнаўчыя курсы ў Мінску. Вярнуўся да сваёй даваеннай прафесіі — настаўнічаў. І недалёка ад родных мясцін. Пісаў, што ў сонечныя дні бачыць праз граніцу абрысы свайго лесу на даляглядзе. Турбаваўся за блізкіх, што засталіся пад Польшчай. Відаць, ведаў, як тут цяжка жылося, спагадаў, спрабаваў памагчы. Перапіска Ганны з ім абарвалася гады за два да вайны…

Не ўсё яшчэ ў новым жыцці тутэйшыя людзі паспелі глыбей асэнсаваць, як жорсткая віхура новай вайны ўраз разбурыла яго. Немцы пачалі ад расстрэлаў.

Творцы «новага парадку» за самы дзейсны сродак усталявання яго лічылі пятлю, свінец. Ва ўсёй Еўропе і асабліва тут, на ўсходзе, у тым ліку Беларусі. Пачалі з палявання на людзей. Вышуквалі камуністаў і камсамольцаў. Тут, у Заходняй Беларусі, гэта былі перш за ўсё былыя байцы падполля, што прайшлі суровую школу барацьбы з рэжымам санацыі, прайшлі допыты, астрогі, зведалі паняверку і засталіся адданыя высокім ідэалам чалавечага брацтва, сацыяльнай свабоды. Палявая жандармерыя, службы СД і гестапа вышуквалі іх, карыстаючыся даносамі колішніх праціўнікаў і проста падонкаў, каб тут жа, на месцы, за роднай ваколіцай, расстраляць. Турмы, вывазы — і гэта было ў арсенале гітлераўскіх ідэолагаў і практыкаў перабудовы свету, але не асноўнае ў іх метадзе, стылі дзеяння.

Расстраляць, ператварыць чалавека у рабочую жывёлу на заводах смерці вайны — вось метад маньякаў, што па жорсткай іроніі гісторыі ўявілі сябе будаўнічымі «новай Еўропы». Гэткім спосабам гаспадарылі ў свеце. Так тры гады распараджаліся і на Валожыншчыне. Каго не расстралялі, стараліся запрэгчы ў сваю д'ябальскую машыну, каб забяспечыць яе бесперабойны ход. З земляроба ж праглі выціснуць для ненажэрнага вермахта, спустошанага, нягледзячы на тое, што захапілі паў-Еўропы, фатэрлянду ўвесь плён яго мазольнай працы. Хлеб, масла, сала, малако давай і давай. Канца не было паборам. Застагнаў Рубацкі, праклінаючы нарыхтоўкі і зямлю, за якой некалі, пры Польшчы, пагнаўся, спадзеючыся выбрацца з бядоты. Цяпер рабіць даводзілася на адны падаткі. А тут і сілы нялішак. На сыноў не пашанцавала. Дочкі не паспелі ўзняцца, пайшлі замуж. Трохі памог быў селяніну выдужваць акружэнец Кузняцоў Грыша. Былы танкіст адступаў аж ад Брэста, падбіўся, пакуль трапіў у лясную вёску на Валожыншчыне, выбіўся з сіл. У хатнім цяпле Рубацкіх апрытомнеў. Надзея апярэдзіць фронт, прабрац-

ца да сваіх увосень 1941 года была невялікая. Затрымаўся, пакуль з'явіліся партызаны, і з імі мог зноў узяць зброю, змагацца з ворагам.

Ганна Міхайлаўна ўспамінае, як неспакойна было ноччу і днём. Пякла партызанам хлеб, шыла на змену бялізну. Трэба было асцерагацца: днём наляталі немцы і віжавалі між людзей, хто памагае партызанам. Хто-небудзь данясе, даведаюцца — літасці не спадзявайся. Гаспадарка нішчылася. Але куды дзенешся? Людзі трымаліся за сваю хату, зямлю. Да часу. У 1943 годзе па пушчанскай старане Валожыншчыны прайшлі карнікі, пакідаючы скрозь крывава-жудасны след. Трэці раз на жыцці Ганны Рубацкай гарэла яе хата. І ўсё ж Рубацкім на гэты раз пашчасціла, у параўнанні з іншымі. Ім удалося зберагчы самае галоўнае — жыццё. Прадчуваючы бяду, яны былі падаліся да родных. Перад гэтым засталіся адны, толькі ўдваіх. Другая, малодшая дачка, выйшла замуж. Які там выхад у тым ліхалецці: сабрала ў вузельчык увесь свой пасаг і пайшла за ўпадабаным хлопцам. Хата, хлеў, гумно Рубацкіх, як і ўсіх яцкаўцаў, былі спустошаны акупантамі. Як бы і не заставалася за што трымацца. Хіба за адно абжытае месца. Хто з вяскоўцаў не ўцёк глыбей у пушчу, не схінуўся дзе, таму не ўдалося ў Яцкаве прычакаць дня вызвалення. Тыя, хто пасылаў карнікаў, самі яны што такое чалавечнасць, літасць, праўда — не ведалі.

Па вайне Рубацкія асталяваліся ў Валожыне: перадумалі вяртацца на спаленае дварышча. На новым месцы аказалася не проста. Муж да мястэчковага жыцця быў нязвычны. Тут усё з рубля, усё недзе дастань. Хлеба ў магазін прывязуць — расхопяць, не агледзішся. Дачка вярнулася дамоў з двума ўнукамі: не ўдалося замужжа. Недастача кругом. Трэба было неяк выкіроўвацца. Ганна кідалася як магла. Самі нанач укладаліся на падлозе: кватарантаў пусцілі. Гатавала яду на ўсіх. Муж на здароўе моцна занямпаў. Працавала адна дачка. Ганна спачатку ўпраўлялася пры доме з унукамі. Крышачку падняліся дзеці, пайшлі ў школу, бабуля стала нарыхтоўшчыцай сыравіны для Красненскага завода. Як бы і зручна было. Арганізавала прыёмны пункт на сваім падвор'і: і з работай увінешся, і дзяцей дагледзіш, і каля печы паспееш управіцца. Чатыры месяцы ў годзе, нарыхтоўчы сезон, працавала дзень і ноч, круцілася, кідалася да змогі. Прымала ад людзей прадукцыю: садавіну, ягады, грузіла скрынкі на машыну. Падворак быў завалены садавінай, лясным набыткам. Асабліва шмат падвозілі і неслі ў суботы і нядзелі. Спаць укладвалася пад ранак: трэба было вартаваць нарыхтаванае заводу дабро. Так адзінаццаць гадоў з лета ў лета, аж пакуль аднаго дня не заспелі на дварэ непрытомную. Даляталася да прабадной язвы. Дзякаваць дактарам — вярнулі да жыцця праз два месяцы, паставілі на ногі.

Папраўлялася марудна. Былі ўжо не тыя гады У маладосці, здаралася даб'ешся да абуха за работай, надыдзе вальнейшая пара — і зноў дужая лёткая. А тут не тое. Далі інваліднасць другой групы. А пенсіі — не: сезонная работа — не набралася стажу. Памагала сабе шытвом. Вязала карункі. З'явіўся і сякі-такі ганарарны рубель. І раней, як бы занята ні была, урывала хвіліну, каб пачытаць. Праўда, з маладосці, калі хацелася што-небудзь расказаць — карцела гаварыць у рыфму, складна. Натрапіла на вершы Максіма Танка.

«Цяпер ведаю, як трэба пісаць», — сказала сама сабе. Надрукавалі некалькі вершаў Ганны Рубацкай у раённай газеце, запрасілі ў літаратурны гурток, школу рабкораў. Старая сярод моладзі, але прымалі добра, зычліва, з увагай, як і слухаючы, калі выступала. Пры раённай газеце настаўлялі больш на тэмы надзённыя. Пісала пра ўсё. Свет адкрываўся шырэй і шырэй. Асабліва калі наважылася паглядзець яго зблізку — сабралася і паехала адно лета ў Сочы, другое — у Ялту, потым на Нарач, у Прыбалтыку. Колькі кругом хараства, цікавага… Не паспееш агледзець за адно жыццё, калі яно нават не кароткае. Значыцца восемдзесят пятым летам, як у беларускай сялянкі, народнай пявунні і паэтэсы Ганны Міхайлаўны Рубацкай.

*1974, 1985*

# Антон Янкоўскі: Памяць падвіленскай зямлі

У кватэры журналіста, у старым мураваным доме, шмат што настройвала на разважлівы лад. Сама сабой будзілася думка пра тых, хто на працягу гадоў мо двухсот меў тут прытулак і хлеб, схіляўся над працай. Здавалася, рэха ўспамінаў прытаілася дзесь побач, толькі ўмей гукнуць яго і слухаць. Час застыў ва ўзорах-маршчынах высокай кафлянай печкі. Нешта сваё, памятнае толькі ім, маглі расказаць тонавыя гравюры на сцяне з выявамі старога гарадскога пейзажу. Два маладыя ўсмешлівыя хлопцы шчыра глядзелі з даўнейшай фатаграфіі-партрэта. У адным з іх можна было пазнаць цяперашняга гаспада-ра кватэры, якім ён быў у маладосці, у яго таварышу — вядомага заходнебеларускага паэта-рэвалюцыянера.

Абяцанне ўспамінаў зыходзіла ад самога ўладальніка гэтага прасторнага, хоць і не лішне ўтульнага кутка, ад яго хударлявага буйнога твару, прыгнутай гадамі, але яшчэ трывалай постаці, няспешнай гаворкі…

Ён пацікавіўся Менскімі Інавінамі, спытаў пра двух-трох асабіста знаёмых яму з даваеннага часу літаратараў. Даведаўшыся, што я хачу папрацаваць у акадэмічнай бібліятэцы, скупавата ўсміхнуўся ў невялікія, палоскай вусы, якія надавалі яго твару адценне скептычнасці, сказаў з роздумам: «Некалі яна звалася бібліятэкай Урублеўскіх… » І, рэзкавата павярнуўшыся, кінуў у мой бок: «Пра Тадэвуша Урублеўскага нябось чулі?»

— Адваката, які бараніў на судзе лейтэнанта Шміта? — падхапіў я на хаду, удакладняючы пытанне.

— Не толькі Шміта, але і беларускіх паўстанцаў у 1923 годзе, калі пілсудчыкі, толькі загарнуўшы пад сваю руку тутэйшыя землі, сарганізавалі працэс 45-ці ў Беластоку, — сказаў ужо пажылы інтэлігент і паглыбіўся адразу ў нейкія свае далёкія думкі. Потым, вяртаючыся ў думках аднекуль, як бы сам з сабою гаварыў далей: — Шляхетны быў чалавек, інтэлігентны, высакародны, як вы скажаце цяпер. Выступаў там, дзе патрэбны былі не толькі прафесійнае юрыдычнае майстэрства, але і мужнасць, адкрытая грамадзянская пазіцыя. За праўду стаяў пляменнік былога паўстанца і генерала Парыжскай камуны.

Сапраўды, падумалася, памяць абавязвае. Пэўна ж, памятаў віленскі адвакат Урублеўскі і тое, што блізкі сваяк яго не пабаяўся ўзняць зброю супраць цара, а калі час паклікаў, то патрапіў адважна, годна пастаяць за свабоду, сацыялістычную рэвалюцыю на парыжскіх барыкадах. Памятаў і сам імкнуўся быць, быў годны дзядзькавай памяці.

— Мне даводзілася быць у Тадэвуша Урублеўскага, — кінуўшы мімаіходзь позірк на фота на сцяне, ціха азваўся стары журналіст.— Праўда, хлопцам яшчэ, студэнтам. Насіў яму беларускія газеты, часопісы ыа пачатку 20-х. Мы хацелі, каб светлы гэты чалавек — а Урублеўскага шанавалі ўсе тут, у Вільні, не толькі як славутага адваката, але і як грамадскага дзеяча, — ведаў і пра нашу беларускую нядолю, нашы дамаганні. З ім лічыліся. Мусілі лічыцца і тыя, хто тады распараджаўся тут. Хоць ведалі — не падзяляў ён поглядаў людзей, што запанавалі ў адроджанай пасля развалу царызму Польшчы. Чужыя яму зусім былі і іхнія палітычныя амбіцыі, і тоіі лад, стыль жыцця, што япы ўсталёўвалі заадно і тут, на Вілепшчыне.

Размоўца мой цяжкавата, рэзка ўстаў, прайшоўся па пакоі, на хвіліну спыніўся пры акне з якога прама за яго спінай віднелася шырокая плынь ракі, а ўдалечыні над ёй Гедымінава вежа.

— Такі ўскалыхнуўся быў свет, — яснеючы самотнымі вачыма, вяртаўся мой субяседнік у сваю маладосць, у рэвалюцыйныя гады.— Хоць і наткнуўся тут, у Заходняй Беларусі, народ на мур, што ўзвялі на яго шляху да волі паны, але дарма. Парыў да свабоды быў неўтаймоўны.

З расказаў удзельнікаў рэвалюцыйнага руху Ў былой Заходняй Беларусі, а яшчэ больш з тагачаснага друку, рознааблічнага і непасрэднага ў выяве грамадскіх настрояў, я ўжо крыху ведаў пра 20-я гады. Пра тое, як пазнавалі сваё права і моц прыгнечаныя, як будзіліся да свядомага грамадскага жыцця, браліся за агульнакарысную працу. Гэта быў сапраўдны творчы парыў, узлёт. Масы прагна пацягнуліся да пазнання свету і сябе.

Браліся за ўсё адразу. Ядналіся ў арганізацыі. Засноўвалі рэдакцыі ўсё новых і новых перыядычных выданняў, закладвалі кааператыўныя кніжныя выдавецтвы, асветныя, наву-ковыя таварыствы. Заглыбляліся ў вытокі. У вытокі гісторыі, культуры. Кінуліся рупліва збіраць здабыткі народнага духу, народнай лаэзіі.

Усе дзялянкі народнага жыцця раптам ажылі, як свет вясной. Радасна зарунелі ўсходамі. Паўставала да жыцця мастацкая літаратура, паэзія змагання. І за ўсім гэтым духоўным выбухам, за ўсім увасобленым у слове, дзеі, змаганні стаялі канкрэтныя людзі, кожны са сваім лёсам, сваім укладам у агульную справу. Адны з іх зоркай заззялі на духоўным гарызонце Заходняй Беларусі, другія мільганулі znічкай, гарэння іншых ніхто не паспеў і заўважыць: розная доля выпала ім.

Цяпер перада мной сядзеў чалавек, які не быў у самым віры заходнебеларускага жыцця, але і не стаяў ад яго ўбаку. Крыху пісаў сам, больш друкаваў іншых. Перад самай вайной, як гітлераўцы напалі на Польшчу, трапіў у канцэнтрацыйньт лагер у Картуз-Бярозе. У 60-я гады працаваў па старой памяці, як колішні музейны работнік, у карціннай галерэі. У вольны час, а яго, здаецца, было даволі, Іван Шутовіч падрыхтаваў некалькі публікацый для «Полымя». Яны, аднак, заходнебеларускай тэматыкі не краналі. Я якраз збіраў матэрыял пра народную творчасць, культурнае жыццё Заходняй Беларусі і, як у дзесятках іншых выпадкаў пры сустрэчы з удзельнікамі вызваленчага руху, спадзяваўся пачуць для сябе што-небудзь новае: асобны мясцовы

эпізод з падпольнай барацьбы, куплет папаўзабытай песні, нейкі інтымны ўспамін, праз які па-свойму праглядае час. Адным словам, драбносткі, якіх, аднак, не вычытаеш у старым друку, не знойдзеш у архівах. Разам з тым яны дапамагаюць падсвяціць і нешта большае, выразней, рэальней адчуць атмасферу эпохі. Тут жа быў інтэлігент, чалавек, які меў непасрэднае дачыненне да заходнебеларускага друку, людзей, што прайшлі праз яго.

Хоць стары журналіст аказаўся скупаватым на слова, усё ж выпытаць удалося крыху пра братоў Ігната і Арсеня Канчэўскіх, з якіх старэйшы быў рамантычным паэтам і аўтарам цікавага філасофскага эцюда «Адвечным шляхам», а малодшы, Арсень, адным з актыўных дзеячаў Беларускай рэвалюцыйнай арганізацыіі, а затым Кампартыі Заходняй Беларусі. Сякія-такія звесткі ўдалося пачуць пра самабытнага мастака Язэпа Горыда і пра Ніну Сасноўскую, яго сааўтарку партрэта Купалы, вельмі папулярнага ў Заходняй Беларусі. Крыху пра Вячаслава Багдановіча як прапагандыста фальклору і аўтара асобных песень, рамансаў…

Не так і мала імён успомнена. Мільганула ў гэтай размове і адно зусім не чутае… Антон Янкоўскі.

Пра старога Янкоўскага не чулі? — перапытаў мой субяседнік. — Фальклор ён збіраў з даўнейшых часоў, і ўвогуле ён чалавек цікавы. Як фалькларысту, вам варта з ім пазнацца.

Я ўжо збольшага паанаёміўся з віленскімі архівамі і бачыў там фальклорныя калекцыі, брульёны з песнямі мастака Язэпа Драздовіча, збор прыказак архітэктара Лявона Дубейкаўскага. песні з Палесся педагога і даследчыка «Слова аб палку Ігаравым» Мікалая Анцукевіча, ведаў, што дзесь былі песенныя зборы грамадскага дзеяча Вячаслава Багдановіча, запісы песень і прыказак паэта Алеся Салагуба… Матэрыялаў жа Янкоўскага не сустракаў. На пытанне, хто ён такі, пачуў адказ:

— Земляроб з дзеда-прадзеда. Але такі, што заўсёды глядзеў і бачыў нашмат далей свайго падворышча. А жыве на вёсцы, у Адамчуках, недалёка ад мястэчка Лаварышкі. Вёрст нейкіх дваццаць пяць ад горада, не болей. Па дарозе на Полацк.

Прайшло шмат гадоў, перш чым давялося трапіць у ваколіцы Лаварышак.

Летам 1970 года на запрашэнне літоўскіх фальклярыстаў супрацоўнікі Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР выправіліся ў экспедыцыю па этнаграфічным сумежжы. Нашы літоўскія калегі цікавіліся этнакультурнымі працэсамі ў вёсцы Гервяты на Астравеччыне. Мы ж адпаведна хацелі паглядзець, як далёка за межы рэспублікі зайшла беларуская песня. Да таго ж цікава было ў навуковым плане параўнаць фальклорныя запісы, зробленыя на Віленшчыне ў другой палавіне мінулага стагоддзя акадэмікам Карскім, географам, фальклярыстам, этнографам і літаратуразнаўцам Адамам Кіркорам ды аўтарам кнігі «Вілія і яе берагі» К. Тышкевічам, з тым, што бытуе сёння.

Добра было б зазірнуць у гістарычныя Трокі з іх адноўленымі замкамі, і прычына была на гэта: у Навасёлках Затроцкіх гадоў дзевяноста таму на-

зад запісваў песні Карскі. Але часу было, як заўсёды, у абрэз, і давялося скіравацца на поўнач, у бок Пабрадзе, Ігналіны, дзе можна было хутчэй чакаць сустрэчы з беларускай песняй.

Зямля гэтая цікавая этнакультурнымі з'явамі, назвамі рэк, пасяленняў, мясцін. Тут, перамяжоўваючыся, суіснуюць розныя народныя традыцыі. Літоўскія назвы у народзе маюць беларускія адпаведнікі. Так цяперашні літоўскі гарадок Швянчоніс па-беларуску завуць Свянцяны, Пабрадзе — Падброддзем, Кену — Кавальчукамі. Вядомая літоўская фалькларыстка Ванда Місявічэне сведчыць, што на ўсходзе Літвы, напрыклад, у Шальчынінкайскім раёне, сустракаюцца творы, якія па-літоўску даслоўна паўтараюць беларускія класічныя жніўныя і восеньскія песні: «Ах ты сонца, сонейка», «Ужо вечар вечарэе», «А ў цёмным лесе мядзведзь рыкае» і інш. З'яву такую няпроста растлумачыць. Адразу можна сказаць пэўна толькі адно: жылі людзі ў гэтым краі здаўна як добрыя суседзі, пазычалі адзін у аднаго, дзяліліся адзін з адным і словам, і песняй, і хлебам.

У суседнім з Віленскім Швянчонскім раёне нам як ніколі траплялася многа вершаваных беларускіх апавяданняў гумарыстычнага характару. Відаць, тут некалі развілася багатая, устойлівая традыцыя вершаваных гутарак, жанру ў нас мала даследаванага, каб не сказаць, зусім абыдзенага тэарэтыкамі. У вёсцы Магуны нават называлі прозвішча гутарніка Касарэўскага. Але ў жывых яго мы ўжо не заспелі. Песень на нашым паспешлівым шляху асабліва не траплялася, і мы хутка павярнулі назад пад Вільню, каб невялічкай групай (астатнія паехалі на Ашмяншчыну) падацца на паўночны ўсход ад горада. Хацелася кінуць вокам на той куток, дзе нарадзіўся і адкуль пайшоў у свет таленавіты філолаг, выдатны палітычны і грамадскі дзеяч Беларусі Браніслаў Тарашкевіч. Цікава было пачуць гаворку, якая ў пэўнай меры лягла ў аснову яго «Беларускай граматыкі», першай кнігі, што навукова сфармулявала заканамернасці нашай мовы, выявіла яе нацыянальную прыроду, дала правапіс. Вядома, карцела пачуць і песні родных ваколіц гэтага славутага чалавека, бо што, калі не яна, родная зямля, і ўсё, што складае яе душу, ды эпоха, можа лепш растлумачыць феномен творчай асобы, самабытнай чалавечай індывідуальнасці.

Як трапіць дакладна ў Мацюлішкі і Чарнулішкі, засценак і вёску, дзе нарадзіўся і правёў дзіцячыя гады Браніслаў Тарашкевіч, мы не ведалі. Паводле старой даведкі, мясціны гэтыя належалі калісь да Міцкунскай воласці. Таму цяпер кіраваліся ў Міцкуны, мяркуючы, што там, напэўна, сельсавет. Міцкуны, размешчаныя абапал даволі спакойнай шашы, сустрэлі нас водбліскам надвячоркавага сонца ў шыбах дамоў.

Старшыня сельсавета, высокі, малады, ветлівы хлопец з прозвішчам Стэфановіч, умомант арганізаваў нам часовы прытулак у школе і забяспечыў мінімумам дарожных выгод. Абмыўшы пры студні на школьным падворку дарожны пыл, мы ўтрох з навукоўцам Іванам Цішчанкам ды аспірантам Сымонам Барысам пайшлі глянуць на вёску, пазнаёміцца з людзьмі. Пачалі з прысёлка. Першая спявачка, да якой трапілі ў двор, Мальвіна Пешка. Яна заводзіла вельмі прачулую вясельную сірочую песню «А хто, а хто ў цёмным

лесе гукае», але далей губляла куплет за куплетам, успамінала праз слова. Так да канца ніводнай не магла даспяваць. Відаць, не кожны можа данесці да старасці песні сваёй маладосці. Іншы раз пачуеш нараканне на нялёгка пражытыя гады: раннюю страту мужа, сына…

— Мужа на вайне забілі. Пакуль адна дзяцей падгадавала, пакуль падняліся на ногі, не да песень было, — многа разоў чулі мы за доўгія гады фальклорных вандровак па роднай зямлі…

Воддаль ад старога гасцінца, які тут забірае крыху ўгору і дзе месцяцца самі Міцкуны, у лагу пралягла невялікая вуліца. Двары размешчаны на ёй свабадней: відаць, будаваліся людзі тут па вайне, калі зямлі тутэйшаму селяніну-земляробу стала не скупа, як даўней. На новай міцкунскай вуліцы нам параілі зайсці да Веранікі Шастак. Сказалі, што яна некалі хораша спявала, шмат ведала посвпь. І сапраўды, у мяккім, душэўным голасе Веранікі Шастак, у спеўнай яе мове ледзь не з першых слоў можна было ўгадаць прыроджаную пявунню.

Ой шмат песень забылася, — сказала яна з выразным шкадаваннем. Прыжмурылася, успамінаючы:— Можа, гэту?

Чаго, зязюля, чаго, сівая,
Ты ў наш сад прылятаеш:
Ці ты, зязюля, ці ты, сівая,
Зімную зімку чуеш?..
Чаго, Ядзюня, чаго, малада,
Ты к сталу прылягаеш?..

Гэта была песня асенняй пары, варыянт вядомай «Чаго, лосю?..».

Чаго, лосю, чаго, сівенькі,
Ты к сялу прылягаеш?
Ці ты, лосю, ці ты, сівенькі,
Цяжкую зіму чуеш?..

Гаварыла яна пра расстанне дзяўчыны з родным домам, выказвала яе перажыванні з уласціваю старадаўняй песні повяззю з вобразамі прыроды, глыбінёй пачуцця. Следам за асенне-вясельнай, роздумнай, зажурана-нашай у нейкай лёгкай танцавальнай мелодыі загучала вясельная польская:

Юж конікі заложонэ,
Под ганэчэк поставёнэ,
Сёндай, дзеўчына, сёндай, кохане,
Ніц не поможэ твое плакане…

Голас спявачкі, мяккі, душэўны, паўнагучны, шчодры ад прыроды на выяўленне гармоніі, пяшчоты, хараства, запоўніў падсвечаны вечаровым сонцам пакой, светла-шчымліва крануў сэрца:

Павей, ветрык, павей
З высокага гаю.
Павяртайся, мілы,
З далёкага краю.
— А як я павею,
Калі гай высокі,
Як я павярнуся,
Калі край далёкі.

Праспявала Вераніка Шастак «Як паехаў Салявон у роўна поле араць», «Як паехаў мой міленькі да млына, да млына», падаўшы гумару гэтых песень тую ж летуценную афарбоўку, замроенасць, што так уражліва выяўлялася ў яе лірычных песнях.

Завяла дажынкавую, простую тэкстам, але наіўна пранікнёную мелодыяй. Здалося, голас спявачкі ў ёй дасягнуў сваёй гранічнай душэўнасці. І танальнасць песні была нечаканая — штось на мяжы мінору і мажору. Дакладней, старадаўні мінор, праяснёны да празрыстасці. Як промень, што прабіўся праз халодную сінечу хмар.

Вераніка Шастак спявала яшчэ доўга. Чаргаваліся песні вясельныя, жартоўныя, лірычныя. Мільгнуў прачулы польскі раманс, як мне здалося, удала перакладзены са старадаўняга рускага. На завяршэнне спявачка кінула вясёлую беларускую прыпеўку «Не стаі пад акном, не дратуй мне мяты» і папрасіла ўнучку-дзесяцікласніцу гукнуць на падмогу суседку. Неўзабаве, цяжкавата ступаючы, зайшла немаладая жанчына. Яна адхінула хустку з вушэй, на хаду прыслухоўваючыся да песні, якую паўтараў магнітафон.

— Твая песня, — добра ўсміхнулася яна Вераніцы Шастак і абвяла ўсіх пасвятлелым позіркам.

На просьбу ўспомніць што-небудзь з колішніх сваіх любімых песень Ганна Шаблоўская (так пазвалася старая спявачка) адказала:

— А ўжо ж. Калі выбралася, то мушу спець. Хоць адну якую. Ці спадабаецца толькі? Надта ж голас ужо не слухаецца. А можа, хто з нашых кабет вам пяяў ужо гэту?

Песню «Развівайся, сыры дубе» мы не чулі пі ад зямлячак Шаблоўскай, міцкунскіх жанчын, ні ад каго ва ўсіх раёнах Беларусі, дзе даводзілася бываць да гэтага. Песня-равесніца старых часоў, рэкрутчыны. Вядомая фалькларыстам у запісах XIX стагоддзя, сягоння, здавалася, вачыста адышла ў нябыт, як і жыццё, прычыны, што колісь яе спарадзілі. Ажно на этнічных узмежках ацалела, і, пэўна ж, невыпадкова: відаць, некалі шырока бытавала тут. Цяпер слухалі мы яе як гістарычную памятку. Варыянт быў моцна лірызаваны:

Развівайся, сыры дубе,
Зараз мароз будзе,
Убірайся, сын, у панцыр,
Зараз паход будзе.

Я марозу не баюся,
Зараз разаўюся,
Я паходу не баюся,
Зараз прыбяруся.

Матка ў ято запытала:
— Калі будзеш госцем?
— Як у сенях на памосце
Травіца выросце…

…Калі мы дзякавалі жанкам за песні, развіталіся ды думалі, дзе, ад каго яшчэ ў Міцкунах можна запісаць песні, паданні, цікавыя згадкі, гутарку падтрымаў зяць Шастачыхі, мужчына гадоў трыццаці шасці, Сымон Анцэвіч.

— Тут у нашай ваколіцы ні ад кога столькі не пачуеце, як ад Янкоўскага з Адамчукоў. Гэ-ты чалавек увесь час з людзьмі жыве. Не дзеля таго, каб на віду быць. Такая ўжо натура. Увесь час пра нешта клапоціцца, у газетах тутэйшых друкуецца. І ці не запісвае сам песні, байкі, прымаўкі… Нешта такое казалі.

Даведаўшыся ад Анцэвіча, што Адамчукі за якіх кіламетраў пяць ад Лаварышак і ад Чарнулішак, я ўзрадавана падумаў: «Значыць, за доўгі летні дзень паспею пабываць і там, і тамк Назаўтра маршрутным аўтобусам выбраўся ў дарогу. Ледзь не першае, што трапілася на вочы ў мястэчку, была школа. Мяркуючы па шыльдзе — польская.

У настаўніцкай застаў трох мужчын. Час быў канікулярны, настаўнікі, відаць, былі не пільна заняты і, мне здалося, рады чужому чалавеку, які да таго ж цікавіцца іх кутком, пытаецца пра землякоў. Гутарка лёгка завязалася і адразу набрала нязмушаны тон.

Мае размоўцы не эважалі, калі, не паспеўшы падабраць адпаведнага польскага слова, я ўжываў рускае або беларускае. Тут прывыклі да суседства моў, нават мешаніны іх, асабліва маладзейшыя. Пра Тарашкевіча ведалі няшмат. Чулі, што ў Менску выдадзена кніжка. На пытанне пра Антона Янкоўскага адгукнуліся жывей непасрэдна:

— О, наш краязнаўца! — і ў галасах выразна чулася гордасць.

Распытаўшыся пра дарогу на Чарнулішкі і Адамчукі, я заспяшаўся. Сонца бралася пад полудзень, ахутала далеч у сіняватую смугу, надало ўсяму мяккія абрысы. Злева ўдалечыні задрамаў цяглы лес — бясконцае, аж да небасхілу, мора. Справа шырока, вольна разгарнуліся палі: неаглядная зяляніна палеткаў, ласкава абнятых сонцам, закалыханых жаўруковымі песнямі.

Дарога праз нейкі час спускалася ў лагчыну, пераходзіла ў лугавую сцежку, зноў падымалася ўгору, каб шырэй расхінуць далягляд.

Збоку, проста сярод густой, дружнай ярыны, заставаўся стары, апалены маланкай дуб, што зеляне ў аднымі ніжнімі галінамі. Вялікія чорныя падпаліны на камлі яго нібы гаварылі пра волатаўскую моц, трываласць ве-

кавога дрэва. Край дарогі пры жыце цэлая сям'я валуноў, маўклівых сведкаў руплівасці земляроба, сніла свае скандынаўскія сагі.

Я не агледзеўся, як апынуўся на ўскрайку невялікай вёскі, дзе двое пажылых мужчын прыглядалі за статкам.

Калі пацікавіўся, ці ўжо Чарнулішкі і ці жыве тут хто з Тарашкевічаў, адзін з мужчын сказаў: «Я буду Тарашкевіч, Іван Тарашкевіч». Тады я расказаў, якой радні, чыіх слядоў шукаю, і ўбачыў на твары мужчыны няпэўнасць, заклапочанасць.

— Чакай, чакай, — перапыніў маўчанне таварыш Івана Тарашкевіча.— Я ведаю, пра каго чалавек пытаецца. Пра старога Адама Тарашкевіча ды пра яго сына, што Бронюсем звалі. Таго, што пры паляках яшчэ за народ просты ішоў… Іхняе хаты ў Чарнулішках не засталося. Тут недалёка з паўкіламетра якога, жыве пляменніца таго Тарашкевіча, пра якога вы кажаце, Марыя Багдановіч. А болей нікога і не засталося.

Лёгка гайдалася яшчэ неналітае жытняе калоссе, адыходзілі ўслед за статкам пастухі, і нявесела падумалася аб хуткаплыннасці жыцця.

Одум гэты мінуў, як толькі падышоў я да сядзібы старэйшага брата Браніслава Тарашкевіча Юзафа, ступіў на яе шырокі падворак. Вялікі драўляны дом узвышаўся над зялёным долам і міжволі здаўся мне старым парусным караблём.

Першае гэтае нечаканае ўражанне не пакінула мяне і тады, калі пераступіў парог. Вельмі высокая столь з выступам парудзелых ад часу нефарбаваных бэлек, драўлянае абсталяванне, што проста патанала ў глыбіні памяшкання і яшчэ болын падкрэслівала яго прасторнасць, былі нязвычныя.

Сярэдніх год цёмна-русая жанчына, пачуўшы імя свайго дзядзькі, як захлынулася свежым ветрам. Праяснела абліччам, загаварыла ўзрушана. Яна, аказваецца, ведала, сабрала ўсё, што магла сабраць пра свайго знакамітага родзіча, і была жадна кожнаму новаму слову пра яго.

У жыцці яна бачыла яго толькі раз, будучы яшчэ дзяўчынкай, а здавалася часам, што гадавалася, расла пры ім. Калі вучыла родную мову, правапіс даўно, яшчэ да вайны, па ягонай граматыцы, бачыла сваё прозвішча на вокладцы — усё як бы чула дзядзькаў голас: у сказах, вершыкахпрактыкаваннях, надрукаваных у кнізе.

Рослы. па-вайсковаму падцягнуты, жвавы, забег, адхінуўшыся на мінуту ад нейкай пільнай справы ў калгасе, муж Марыі Восіпаўны Зыгмунт Багдановіч. Уважліва, стоена слухаў размову, стоячы побач з жонкай, і радасна было бачыць, як штосьці харошае, надзейнае лучыць гэтых людзей. У Багдановічаў захаваўся ліст Браніслава Тарашкевіча, прысланы родным у снежні 1931 года з гродзенскай турмы. Буржуазная ўлада рыхтавала тады над лідэрам рэвалюцыйна-вызваленчага руху Заходняй Беларусі чарговую, шостую па ліку, судовую расправу. 3 ліста відаць, што Тарашкевіч толькі што даведаўся пра смерць бацькі. Думаў пра тое, што яго арышты і суды, звязаныя з гэтым перажываннем прыспешылі бацькаву смерць. Суцяшаў родных тым, што бацька пакінуў па сабе добрую па-

мяць, «жыў справядліва, працавіта». Прасіў родных слухацца і шанаваць маці, каб яна «свае апошнія гады дажыла без згрызотаў». Вельмі хацеў пабачыцца з маці і прасіў, як толькі яго прывязуць з турмы ў Вільню на суд, зрабіць так, каб і яна ў гэты час туды трапіла. Пра сябе скупа. Дзве-тры фразы. «Цяжка, але трэба ўсё перанесці. Не сумуйце па мне, бо я аб сабе не плачу». Калі я з удзячнасцю да Марыі Восіпаўны перапісваў ліст (не часта такая сямейная рэліквія праз доўгія гады захаваецца ў сялянскай хаце), прыгадалася, мільганула расказанае Р. Р. Шырмам. Успаміналі выкладчыкі Віленскай беларускай гімназіі, у прыватнасці Сяргей Паўловіч: Тарашкевіч у 1921/1922 навучальным годзе быў дырэктарам гімназіі і выкладаў родную мову ў ёй.

Аднойчы ў час вялікага перапынку, калі гімназісты і выкладчыкі, радыя веснавому сонцу, лагодзе, высыпалі на цеснаваты свой падворак, у канцы яго раптам паказалася невысокая, шчуплая сялянка, босая, у завязанай пад бараду хустцы. Аказваецца, гэта была Тарашкевічава маці. Яна разам з жанкамі лаварышскіх ваколіц пехатой прыйшла ў горад за дваццаць пяць вёрст на нейкае свята. Здарожылася, падбілася. Браніслаў Адамавіч кінуўся подбегам да старэнькай, расцалаваў яе, падняў знядужаную на рукі і панёс на кватэру, што была тут жа, пры гімназіі, у Базыльянскіх мурах. Педагогі і вучні глядзелі на свайго калегу і дырэктара з замяшаннем, павагай, здзіўленнем, гордасцю — хто як.

Можна было ў доме родных, блізкіх Тарашкевіча даведацца болып пра пражытае, пражытае тут: нечым жа, хоць малым, адгукалася яно і ў жыцці, змаганні чалавека, які ад гэтых берагоў паўвека таму назад пайшоў у шырокі свет. Але трэба было спяшацца. Я папрасіў правесці мяне на места колішняй сядзібы бацькі Тарашкевіча. Пахадзілі па парослай травой, кустамі здзічэлага бэзу, шыпшыны дзялянцы. На ёй яшчэ добра былі відаць падмуроўка з-пад хаты, месца, лазні, склепа. Па вайне тут яшчэ пэўны час жыла сястра Тарашкевіча Тэкля з мужам Геранімам Янкоўскім. А як не стала іх, то даўняе гняздо Тарашкевіча памалу раскідалася. Праўда, хата, дзе ўбачыў свет славуты асветнік, не змарнавалася. На пачатку 50-х, калі яшчэ не дайшло да тыпавых школ на вёсцы, яе перавезлі ў Пятрулішкі пад чатырохгодку. На адвітанне з гасціннай пляменніцай Тарашкевіча я яшчэ спытаўся пра Антона Янкоўскага і лішні раз упэўніўся, што з ім трэба сустрэцца.

Янкоўскага ў Адамчуках застаў пры хаце. Пакуль казаў, хто я, чаго прыйшоў, чалавек сярэдняга росту, гадоў за шэсцьдзесят пяць, спакойна ўглядаўся ў мяне. Валасоў яго яшчэ не кранула сівізна. Яны толькі высока адступілі, адкрываючы пакаты, да палавіны загарэлы лоб. Выслухаў мяне і ціха прапанаваў: «То, калі ласка, пойдзем у хату». Крыху пагаварылі, прысеўшы за сталом, пры акне. Я распытаў пра фатаграфіі на сцяне. Самавітага выгляду мужчына на адной з іх аказаўся вядомым рэвалюцыйным дзеячам Вільні, Савецкай Літвы, Раманам Пілярам. Быў родам з гэтых мясцін і прыходзіўся стрыечным братам Феліксу Дзяржынскаму. З кароткай размовы я пераканаўся, што Антон Янкоўскі добра сарыентаваны ў гісторыі свайго

краю. Аднак у гэтую тэму ён не стаў паглыбляцца. Пацікавіўся нашай фалькларыстычнай працай і канкрэтна тым, што сабралі ў Падвіленскім краі (так называў ён тутэйшыя мясціны). Увесь час з аблічча яго не сыходзіла паважная ўдумлівасць. Спытаўся пра магнітафон: ці спраўна працуе ў дарозе, які лепш падыходзіць да запісу песень.

— Калі не застаняцеся нанач, мусіце ехаць у Міцкуны, то не будзем марнаваць часу. Пойдзем, нешта запішам, — прапанаваў гаспадар.

Адамчукі дзе крыху цясней, а дзе і зусім вольна раскінуліся нездалёк лесу. Бокам закранаючы вёску, плыве густа зацененая альшэўнікам, вярбой, лазою Віленка. Перайшлі масток цераз рэчку, завярнулі ў двор. Дзесь у канцы яго, за агародам, высіўся стары дуб.

— Зося, прыйшлі да цябе песень паўчыцца, — сказаў Янкоўскі, даўшы «Дзень добры ў хату».Чалавек з Менска прыехаў, запісвае нашы, беларускія песні.

Выцершы рукі аб фартух, змахнуўшы ім зэдаль пры стале на покуці, гаспадыня, паўнаватая жанчына, з дабрадушным, спакойным выразам твару, запрасіла сесці.

— Аж з Менску? — спытала прыемным грудным голасам. Прысела з краю стала насупраць нас. На момант задумалася.

Мелодыя пачатай песні «Быстрая рэчунька» была працяжна-задумная, пад пераліў рачных бруй. І адразу было чуваць, што голас у спявачкі адкрыты, у меру моцны, прыемны на слых. Другая песня ў жывым, танцавальным рытме была знаёмая са школьных гадоў. Яна гаварыла пра маладую і ўдалую Чачотачку, што «спарадзіла семера дачок», а «спарадзіўшы і ўзрасціўшы, замуж аддала». Цяпер, слухаючы песню з вуснаў Зосі Стэфановіч, упершыню адчуў, як хараша і вельмі цёпла, зычліва замест прыпеву першы куплет завяршаюць словы:

Багдай тая Чачотачка
Шчасліва жыла,
Шчасліва жыла.

Ужо з першай песні, мне адразу і не кінулася ў вочы, да голасу спявачкі спакваля пачаў далучаць свой голас мой спадарожнік. Разам праспявалі «Рада, рада шэра перапёлка», і ўжо здалося нечаканым, што мужчына можа выцягнуць такую працяжную, са спецыфічнай мадуляцыяй голасу мелодыю жаночай, жніўнай песні.

Услед Зося Антонаўна заспявала штосьці для мяне зусім новае, ні разу не чутае, на матыў дажынкавай песні. Мелодыя лілася паволі, плыша як туман над рэчкай у жніўную пару. А змест песні быў зусім не звязаны са жнівом. Песня спагадна гаварыла пра хлопца, які паехаў «пашукаць багатага цесця, ласкавай паненкі». Спявалі яе калісь, відаць, у застоллі, на дажынках, гэтым сапраўдным святе земляроба.

Думка выказана паэтычна, рытміка велічная, грацыёзная:

Пахіліўся зялёны дубочак
З гары ды ў далочак,
Пахіліўся.
Пакланіўся малады малойчык
Да роднай матулі,
Пакланіўся.
Паехаў ён долам, даліною,
Чужою стараною,
Паехаў ён
Дый пашукаць багатага цесця,
Ласкавай паненкі,
Пашукаць ён.
Праездзіў ён жалезныя колы,
Вараныя коні,
Праездзіў ён,
Не знайшоў ён багатага цесця,
Ласкавай паненкі,
Не знайшоў ён.

Я моцна ўзрадаваўся песні, як знаходцы. Дома радасці маёй убавілася: усё ж сюжэт гэты гадоў дзевяноста — сто таму назад быў зафіксаваны навукай. Тышкевіч запісаў яе каля мястэчка Дукшты, а Карскі — у Навасёлках Затроцкіх. А цяпер натрапілася яна вось тут, ля Лаварышак. Выходзіць, песня мела лакальнае бытаванне. Але ўдакладненне тэксту песні па старых друкаваных крыніцах і роздум аб тым, што часам дзесь далёка па-за этнакультурным цэнтрам, на перыферыі, можна сустрэць захаванымі нейкі арыгінальны народны звычай, песню, казку, прымаўку, прыйшлі пазней. Цяпер жа былі Адамчукі, была добрая спявачка Зося Стэфановіч, якая паважныя абрадавыя песні раптам перапыніла вясёлай прыпеўкай:

Каб ксёндз жонку меў бы,
Не піў бы, не еў бы,
І не еў бы, і не спаў бы —
Толькі жонку цалаваў бы.

Антоп Янкоўокі тут жа пракаментаваў прыпеўку і дадаў, што яе любіў спяваць Бронюсь Тарашкевіч. «Наш Бронюсь», — пазней не раз чуў я з вуснаў Янкоўскага, чытаў у яго лістах. І было ў гатым словазлучэнні, у інтанацыі, з якой яно вымаўлялася, калі пачуў першы раз, простае і шчырае пачуццё павагі і гордасці. Праглядае ў гэтым яшчэ і чалавечая, грамадзянская блізкасць Тарашкевіча як вучонага, філолага і палітычнага дзеяча да народа.

Тым часам Антон Янкоўскі папрасіў дазволу спець матчыну, як ён сказаў, песню. І сваім глухаватым, немаладым, але даволі пэўным голасам завёў:

Ой, пад борам-лесам
Там мядзведзь рыкае
Цёмна-позна,
Там мядзведзь рыкае…

Песня была каляндарная, і словамі, і мелодыяй, замроенай, нават нейкай дрымотнай, добра перадавала асеннюю пару. Адчуванне стылага асенняга вечара з водгаласам мядзведжага рыкання Янкоўскі даносіў дакладна, праўдзіва: нібы толькі што прыцьмеў за акном залаціста-зялёны дзень, і мы ўгледзелі той асенні ўзлесак, пачулі трывожнае рыканне колішняга гаспадара пушчаў. А песня не на-стройвала на элегічны лад. Толькі пачатак яе быў журботны. Сама ж песня маляўнічым словам стварала вобраз маладой жанчыны, поўны жыццёвага аптымізму, характар жывы, насмешлівы.

Светла і вельмі пранікнёна загучалі галасы Зосі Стэфановіч і Янкоўскага ў песні пра сустрэчу жаўнера з дзяўчынай:

Яшчэ куры не пелі,
А на дварэ дзень белы.
— Выйдзі, выйдзі, малада дзеўчына,
Пагаворым з табою.
Пагаворым гадзіну,
Пагаворым другую,
Пакуль матуля вячэру згатуе,
Белу пасцель пасцеле.

У напеве, а затым усё выразней і ў словах чуўся легкі дакор жаўнера дзяўчыне за тое, што не спяшаецца тая выйсці на спатканне. Каханку ж доўжыцца час, «на марозе стоячы».

Было праспявана яшчэ некалькі песень: жартоўных, насмешлівых і лірычных. На шчасце, першае знаёмства не засталося бясследным. Яно стала прарастаць у шчырую чалавечую прыязнасць, і мацавала гэтае добрае пачуццё ўзаемная любоў да народнай песні. Відаць, прыездам, непасрэдна запісам песень у Адамчуках мне незнарок удалося закрануць у сэрцы Антона Янкоўскага запаветнае, абудзіць у мясцовым калгасным актывісту, гісторыку родных мясцін яшчэ і колішняга фальклярыста.

Праз пару тыдняў па звароце ў Менск я атрымаў ад Янкоўскага тэкст песні. Была гэта песня яравога, асенняга жніва.

Пайду я, млода, дадому,
Ой, цёмна-позыа дадому,
Пушчу галасок у дуброву,
Ой, цёмна-позна ў дуброву.
Хто ж галасок мой пачуе,
Ой, цёмна-позна пачуе?

Чула-пачула матуля,
Ой, цёмна-позна матуля.
— А хто ж там так позна з поля ідзець,
Ой, цёмна-позна з поля йдзець?
Там маё дзіцятка з поля йдзець,
Ой, цёмна-позна з поля йдзець,
Шырокі постаці ганяла,
Ой, цёмна-позна ганяла,
Гусценька копкі стаўляла,
Ой, цёмна-позна стаўляла.

Не сказаць, каб песня была зусім новая, не чутая. Сярод жніўных траплялася падобная. Але не блізкая. Нейкая вельмі ўжо асабістая была песня Янкоўскага. Можа, дзякуючы прыпеву, што так удала паглыбляе сэнс кожнага радка.

Праз год з лішнім пасля экспедыцыі (за гэты час мы зрэдку перапісваліся) на адрас Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору прыйшла бандэроль ад Янкоўскага, у якой была магнітафонная стужка з запісам трыццаці народных песень: беларускіх, польскіх, рускіх. «Усё тое, што, — як пісаў збіральнік, — спявалася некалі, кружыла ў лаварышскай ваколіцы».

Цяпер я здагадаўся, што калі Янкоўскі пры першай сустрэчы распытваў аб сучаснай методыцы фальклорных запісаў, то паднаўляў забытае у сваёй памяці ды браў на заметку, што новае з'явілася ў гэтай справе за апошні час.

З той першай магнітафоннай стужкі і праз гады чуецца мне густаваты, працяжны голас Янкоўскага. Асабліва з песні пра чумака, пра яго раптоўную смерць у дарозе. Уся яна, гэтая песня-дума, — увасабленне эпічнай паважнасці. Уся прасякнута шчырай спагадай да чалавека і болем за яго. Вобраз чумака паўстае з яе ўзбуйнена, важка. І дасягаецца гэта дзякуючы слоўным вобразам і голасу спевака, які перадае гудзенне пахавальнага звону, павольны рух людскога натоўпу ўслед за труной чумака.

За першымі магнітафоннымі запісамі карэспандэнта з Адамчукоў прыходзілі наступныя. Адзін час быў ладны перапынак. Антон Рафалавіч доўга хварэў, выбіўся са звычнага душэўнага настрою. Але потым услед за лістом, у якім радасна прызнаваўся, што знайшоў на гарышчы ў мякіне «свае старыя шпаргалы» (так Янкоўскі назваў чарнавікі даваенных фальклорных запісаў), на адрас ІМЭФ АН БССР прыйшло яшчэ тры магнітафонныя стужкі з запісам песень, твораў малых фальклорных жанраў, апісаннем земляробчых звычаяў, абрадаў. Натуральна, яны былі не столькі перапісаны з чарнавікоў, колькі запісаны нанава. Але, вядома, было лягчэй апытаць па гатовым матэрыяле, запісаць цяпер ужо з голасам. Гэта прыспарала працу. У дасланых запісах усё было зроблена кваліфікавана: з падрабязным пашпартам твораў, кароткай іх характарыстыкай і звесткамі пра спявачак і спевакоў. Янкоўскі расказваў пра духоўнае жыццё ўсёй сваей ваколіцы, і ў гэтым апавяданні праглядвалі жывыя аблічча яго землякоў, іх лёс, біяграфія самой зямлі, на якой яны нарадзіліся, працуюць, будуюць новае жыццё.

Сярод лёсаў землякоў Антона Янкоўскага, так ці інакш павязаных з песняй, фальклорнай традыцыяй, найцікавей, мабыць, чытаецца жыццё яго самога.

Свядомае жыццё для Антона Янкоўскага пачалося даволі рана, гадоў у шаснаццаць-семнаццаць.

Позняй восенню 1918 года з Віленшчыны адступілі кайзераўскія войскі. Зніклі, расталі, як балотны туман распагоджанай раніцай. А гаспадарылі яны тут доўга, больш за тры гады. Як гаспадарылі, пра гэта можа сказаць, відаць, і такі просты ў сваёй жорсткасці факт. Калі на франтах імперыялістычнай вайны з невялікай падвіленскай вёскі было забіта тры чалавекі, то ад голаду, спароджаных ім хвароб і вывазу на работу ў Германію загінула пяцьдзесят адамчукоўцаў. Гэта факт, які дае агуль-нае ўяўленне. А вось абразок са слоў Янкоўскага, які можа канкрэтызаваць яго. Жыла да 1976 года ў суседняй вёсцы Няверышкі былая настаўніца Ганна Голуб. З маладых гадоў, з часу навучання ў Пецярбургу (дарэчы, вучылася яна разам з Браніславам Тарашкевічам), Галубянка марыла вучыць вясковых дзетак. Не сядзела склаўшы рукі і ў 1915—1917 гадах.

Употай ад нямецкіх вайсковых улад арганізавала школу. Навучала дзяцей і па-беларуску, па лемантары Цёткі. У час заняткаў выстаўляла варту: па чарзе вучні прыглядалі, каб не наскочыў знянацку хто-небудзь з нямецкай адміністрацыі. Часам, каб схавацца надзейней, яна выводзіла сваіх выхаванцаў на Доўгую паляну. У лесе напаўгалодныя дзеці маглі прыхапіць і якую-небудзь ягаду, на полі падабраць каласок. Аднойчы настаўніца не даклікалася сваіх дзвюх вучаніц Флоркі і Марысі Нарушкевіч. Іх знайшлі пад жытняй копкай: навек заснулі ў полі згаладалыя дзеці. Акупанты рабавалі метадычна. Паступова і без таго небагатае жыхарства было даведзена да поўнай галечы. Адамчукоўцаў крыху выручала Віленка. У ёй заўсёды можна было злавіць рыбы. Улетку крыху падкормліваў лес. З ягад і грыбоў — не лішне вялікі наедак, але калі нічога няма, то і яны нешта заступяць. Усё роўна было цяжка — як датрываць.

І вось— немцаў нарэшце прагналі. У Адамчукі ўступіў невялікі атрад чырвонаармейцаў. Ехалі байцы на сялянскіх падводах. З імі разам было некалькі адамчуцкіх: Дамінік Міхалоўскі Людвік і Францішак Стэфановічы. Як зараз бачыць Антон Янкоўскі камандзіра чырвонаармейцаў, чалавека сталага веку. Ён сабраў сялян у хаце Янкоўскіх (набралася поўна, усе не месціліся), расказаў пра тое, што цара ў Расіі ўжо даўно няма, што ўладу ўзялі ў рукі прадстаўнікі«працоўнага народа — бальшавікі — і на чале іх стаіць Ленін. Вельмі спадабалася адамчукоўцам, што бальшавікі аддаюць зямлю тым, хто на ёй працуе, сялянам. Распытвалі, што і як рабіць, каб здзейсніць гэты загад новай улады.

— Вы павінны арганізавацца, узяць уладу ў свае рукі, выбраць кіраўнікоў. Пачаць з арганізацыі камітэта беднаты…

«Тут жа пры сасновай лучыне, — успамінае Янкоўскі, — і быў створаны Адамчуцкі камбед. За старшыню яго абралі майго дзядзьку Францішка Янкоўскага, мяне ж як вясковага грамацея (да вайны ўдалося скончыць Лаварышскае народнае вучылішча) — за сакратара».

Юны сакратар пісаў землякам пропускі: у Падвіленскім краі быў голад, і людзі кіраваліся па кавалак хлеба ў менш здратаваныя вайною куткі. Раздаваў усім агітацыйную літаратуру, якая адкрывала вочы працоўнаму чалавеку на свет.

Асабліва запомнілася Янкоўскаму востра напісаная брашура «Павукі і мухі». Начытаўшыся палітычнай літаратуры, малады Янкоўскі сам шчыра ўзяўся за прапаганду новага ладу. Асабліва агітаваў, каб забраць зямлю у буйных уласнікаў: лаварышскага ксяндза, пана маёнтка Язова Котвіча, графа Тышкевіча і іншых — ды падзяліць яе паміж бядненшым сялянствам. «Настрой быў баявы. Наша брала верх. Але паны і ксяндзы таксама не спалі. У іх руках было багацце, амбона, спавядальніца».

«А ў красавіку паявіліся польскія легіёны, — расказвае Янкоўскі. — Бяда з імі прыйшла і да нас, асабліва да камбедаўцаў. Найбольш стараўся цяпер бед на нашы галовы лаварышскі ксёндз Канстанты Груздзіс. Ён не мог перажыць, што яго збунтаваныя авечкі-парафіяне маніліся забраць разлеглыя касцельныя землі, яго ўласнасць». Паводле ксяндзовага даносу дэфензіва 24 мая 1920 года арыштавала амаль усіх камбедаўцаў на чале са старшынёй. Прыхапілі і сакратаровага бацьку Рафала Янкоўскага. Сам Антук тады не папаўся ў жандарскія лапы, схінуўся на час. Але допытаў і катаванняў, як і старэйшыя яго таварышы па камбедзе, не мінуў. Быў арыштаваньш пазней. Летам жа 1920 года Чырвоная Армія ізноў займала Лаварышкі, Вільню. У Адамчуках хлебам і соллю сустракалі конніцу Гая. Стары Франук Янкоўскі хацеў сказаць прамову, ды заліўся слязьмі радасці, моўчкі перадаў хлеб камандарму.

Чырвонаармейцы паілі коней у Віленцы. Сам Гай спыніўся ў хаце бацькоў Антона Янкоўскага. Але свет віраваў у той час. Падзеі хутка мяняліся.

Вяртанне легіёнаў Пілсудскага, захоп Віленшчыны генералам Жалігоўскім прынеслі Антону Янкоўскаму новыя жыццёвыя выпрабаванні. Спачатку як бы і абышлося. Янкоўскі быў нават падаўся на беларускія настаўніцкія курсы ў Вільню. У той час, яшчэ да афіцыйнага далучэння Віленшчыны да Польшчы, у Заходняй Беларусі намаганнем народнай інтэлігенцыі адкрываліся беларускія школы. Урад так званай Сярэдняй Літвы, сам генерал Жалігоўскі глядзелі на гэта паблажліва, талерантна, як тады казалі. Аднак стаць настаўнікам Янкоўскаму не давялося. Адно, што школы хутка былі гвалтоўна закрыты акупацыйнай адміністрацыяй. Па-другое, адразу пасля курсаў ён быў арыштаваны як былы камбедавец. Здарылася гэта ў познюю восень. Ішоў мокры снег. Па Янкоўскага прыехала трое конных жандараў. Абшарылі хату. Усю літаратуру, беларускія кніжкі, рускія дарэвалюцыйныя выданні (жандары былі познаньшчыкі і па-руску чытаць не ўмелі), складалі ў мяшок. Арыштаванага звязалі вяроўкай пад пахі, на плечы далі мяшок з канфіскаванай літаратурай і, падганяючы па-гайкамі, павалаклі ў Лаварышкі. Цемень хлюпота, невядомасць.

У Лаварышках моцна збілі нагайкамі і кулакамі па твары і заперлі нанач у дрывотніку Валэйшы. Потым перадалі ў пастарунак у Міцкуны. А адтуль пехатой у Вільню. Там на вуліцы Пясчанай мясцілася дэфензіва. Узначальваў

яе ротмістр Кіртыкліс, які пазней стаў віленскім ваяводам. У падвалах на Пясчанай у цемры, сырасці, смуродзе пакутавала шмат рознага люду. Сюды, як у цэнтралку, зганялі ўсіх арыштаваных. Тут, у канцылярыі, якая мясцілася на другім паверсе, вяліся допыты, катаванні. Ціснулі пальцы дзвярыма, білі кулакамі па галаве, пад ногці заганялі шпількі (імі змацоўвалі ў той час канцылярскія паперы) — адным словам, Кіртыкліс і яго падручныя праходзілі адмысловую «школу» кіраўніцтва «ўсходнімі крэсамі».

На следстве Янкоўскаму паказалі данос лаварышскага пробашча К. Груздзіса. У ім пісалася, што Антон Янкоўскі, сын Рафала — камуніст, арганізаваў камбед, быў яго сакрата-ром, стараўся забраць ад абшарнікаў і ксяндзоў зямлю. На споведзі маці Янкоўскага гэты ж ксёндз сказаў: «Сына свэго Антонего венцэй не зобачыш…» «Гэтае здарэнне, — піша ў сваім кароткім жыццяпісе Янкоўскі, — адкрыла мне вочы на клер…»

Пасля пакутлівых тыдняў на Пясчанай Янкоўскага адправілі на Лукішкі. Сядзеў у адзіночцы. У час шпацыру пазнаёміўся з некалькі-мі вядомымі беларусамі, таксама абвінавачанымі ў камунізме, сярод іх з Я. Гаўрылікам, пазней выдатным дзеячам «Змагання». Дзякуючы захадам Б. Тарашкевіча (ён рабіу іх і праз Урублеўскага) маладога камбедаўца удалося выбавіць. Яго выпусцілі пад нагляд паліцыі з абавязацельствам штотыдзень адзначацца ў пастарунку. Дэфензіва шырока практыкавала такую форму нагляду. Папершае, упэўнівалася, што паднаглядны не збег. Па-другое, і ў гэтым быў просты псіхалагічны разлік: трымала сваю ахвяру пад пагрозай. З'яўляючыся ў пастарунак, каб адзначыцца, паднаглядны мог кожны раз навочна пераканацца, што яго чакае пры ўстанаўленні новых фактаў яго «антыпаньстcovай» дзейнасці. У дадатак за выпушчаным з астрога палітвязнем на месцы жыхарства, работы яго сачылі канфідэнты — завербаваныя дэфензівай сярод насельніцтва даносчыкі.

Па звароце з турмы Янкоўскі падумваў пра тое, каб яшчэ крыху падвучыцца, агораць нейкую спецыяльнасць. Але, як на старэйшага сына ў сям'і, на яго плечы ўжо клалася гаспадарка: трэба было падмяніць падбітага жыццём, нягодамі бацьку, трэба было дбаць пра малодшых братоў і сясцёр. А было іх шасцёра. Хоць і ўцягнуўся ў гаспадарку, праз год-два ўсё ж думку пра вучобу не кінуў. У святы, а ў буднія дні на начлезе, везучы ў Вільню дровы на продаж, дзе толькі можна было трохі ўрваць вольнага часу, пачаў штудзіраваць падручнікі. З мовай, літаратурай, гісторыяй, геаграфіяй было проста, а вось з алгебрай ды геаметрыяй разабрацца без настаўніка цяжэй. Патроху ўсё ж даваў рады. І, маючы ўжо дваццаць шэсць гадоў, здаў экстэрнам экзамены за сямігодку. Вучыцца далей не мог з прычыны ўзросту і платы за вучобу, грошай на якую не было з чаго ўзяць. Выпадкова ўвосень 1927 года паступіў у школу агародніцтва. Днём працаваў, вечарам вучыўся, скончыў яе ўжо моцна хворы на лёгкія, але паволі акрыяў.

У 1926 годзе быў ізноў прыхінуўся да грамадскай справы. Настаў час уздыму вызваленчага руху. У Адамчуках узнік гурток Беларускай сялянска-работніцкай грамады. У сялянскім сэрцы ізноў зварухнулася надзея, што, можа, удасца ад паноў адабраць зямлі… Але ў студзені 1927 года грамадаўскі

гурток закрылі, паліцыя забрала паперы ячэйкі і кніг з дзвеоце грамадскай бібліятэкі, якая была ўкамплектавана ў асноўным з дапамогай Браніслава Тарашкевіча.

Янкоўскага гэтым разам не арыштоўвалі. Рух стаў масавы, і бралі толькі кіраўнікоў, павятовы актыў. На ўсіх не хапіла б астрогаў, хоць буржуазная Польшча ўспадкавала шмат іх і ад Аўстрыі, і ад Прусіі, і ад царскай Расіі.

Фальклор Антон Янкоўскі пачаў запісваць з 1930 года, калі пасля заканчэння школы працаваў павятовым інструктарам агародніцтва. Што падштурхнула збіраць народныя песні, прыпеўкі, казкі, загадкі, варожкі, замовы, народныя прыкметы? Прычына была, мабыць, не адна. Па-першае, аказаўся ў спрыяльных для збіральніцкай працы ўмовах: увесь час быў на людзях, сярод людзей, і фальклор сам ішоў у рукі. Але былі прычыны і глыбейшага, унутранага характару. Хлопец змалку цягнуўся да друкаванага слова. Яно адкрывала свет, вучыла дабру, парывала да лепшага жыцця. Дзед Антося Янкоўскага Ксавэры быў не лішне гаспадарлівы: меў добры кавалак зямлі, але жыў бедна. Быў, як на той час, граматным чалавекам. З усёй ваколіцы прыносілі яму чытаць пісьмы і прасілі іх адпісваць. Замаўляў ад шалу, гадзіны, парушэння… Хоць за простую мову папракаў жонку, гаварыў толькі па-польску, на хрэсьбінах ці дзе ў бяседзе любіў дэкламаваць «Гапона» Дуніна-Марцінкевіча. Бацька, Рафал, у школе зусім не вучыўся і ледзь умеў чытаць, але доўга-доўга хаваў у патайной шуфлядзе шафы лістоўкі з вершам Алаізы Пашкевіч «Хрэст на свабоду», ведаў яго на памяць. Праўда, не знаў толькі, што атрымаў верш-пракламацыю з рук самой паэтэсы-рэвалюцыянеркі. Вось як гэта было.

Летам 1906 года ў Міцкунах адбываліся выбары валаснога старшыні. Сабралася шмат народу, блізу тысячы. Былі земскі начальнік, прыстаў,ураднікі, стражнікі. Сход праходзіў пад адкрытым небам. За сталом сядзела начальства. Раптам з боку Піляраўскага лесу паказалася брычка і ў ёй трое ўзброеных людзей. Сярод іх адна шчуплая маладая жанчына. Яны, як віхор падляцелі да сходу, падышлі да стала і загадалі начальству не рухацца. На стол паклалі бомбу і пагразілі: калі хто-небудзь уздумае перашкодзіць гаварыць, то ўзарвуць яе. Прамаўлялі па чарзе ўсе трое. Сярод іх выдзялялася жанчына. Яна гаварыла па-просту, па-беларуску. Горача, гнеўна казала пра цара, усю царскую ўладу. Пра тое, што яна трымаецца на крыві, нядолі народнай… Стары Янкоўскі на сходзе аказаўся побач з жанчынай, якая так праўдзіва, складна гаварыла пра цяжкую долю працоўнага чалавека, пра тое, хто вінаваты ў гэтым. Калі, скончыўшы гаварыць, яна паспешліва пачала раздаваць лістоўкі, Рафал Янкоўскі схаваў іх за пазуху цэлую жменю. На тонкай паперы быў надрукаваны верш «Хрэст на свабоду». Антон Янкоўскі навучыўся яго ад бацькі яшчэ будучы хлапчуком. Верш, яшчэ тады, калі хадзілі, выступалі, як называлі іх, «сацыялісты», шырока разышоўся па ўсёй лаварышскай ваколіцы. Яго чыталі на сходах, моладзь дэкламавала на вечарынках. Пазней ад Я. Барткевіча, які служыў санітарам у псіхіятрычнай бальніцы ў Нова-Вілейцы, Антон Янкоўскі даведаўся, што на тым небывалым сходзе-мітынгу ў Міцкунах выступала паэтэса-рэвалюцыянерка Цёт-

ка. Потым падлеткам Антон Янкоўскі сам мімаходзь аднойчы бачыў паэтэсу, якая некалі, год дзесяць перад тым, мужным, трапяткім словам уразіла яго бацьку. Ён сустрэў яе на вуліцы Завальнай, 7 у Вільні, дзе да рэвалюцыі мясцілася беларуская кнігарня. Прывозячы ў горад вязанкі дроў, Янкоўскі звычайна забягаў у кнігарню, каб узяць у вёску газету «Гоман».

Не прайшло бясследным для Янкоўскага і знаёмства з выкладчыкам беларускіх настаўніцкіх курсаў пісьменнікам Максімам Гарэцкім. Гарэцкі даваў курсантам заданне напісаць што-небудзь з грамадскага жыцця родных ваколіц у газету, якую ў той час выдаваў. Допіс Янкоўскага пра міцкунскага старасту і яго непрыязныя, пагардлівыя адносіны да сялян Гарэцкі змясціў у «Беларускіх ведамасцях» і хваліў на занятках перад усімі курсантамі. Характэрна, што ў рэдагаванай ім газеце (пазней выданне было закрыта, а рэдактар пасаджаны ў лукішскую турму) пісьменнік часта друкаваў побач з творамі маладых заходнебеларускіх літаратараў народныя песні. Спецыяльна не вылучаў асобна. Гэтым самым падкрэсліваў, што цэніць народную літаратуру нароўні з прафесійнай.

Так што цікавасць да друкаванага слова даўно жыла, была абуджана ўАнтону Янкоўскім. Каб зрабіць крок да збору народнай песні, ён быў падрыхтаваны духоўна. І не апошнюю ролю ў гэтым адыграла маці, Паўліна Янкоўская з Шастакоў. Пражыла яна 93 гады і была, як кажа Антон Рафалавіч, «сапраўднай капальняй беларускіх народных песень, прыказак, загадак, варожак». Большасць тых песень, што памятае, спявае сам, запісаў Антон Янкоўскі, пераняты ім ад маці.

Напачатку песні сваіх ваколіц і Падвіленскага краю Янкоўскі збіраў нядоўга. Пачалася вайна. І для яго асабіста — з верасня 1939 года. Давялося апрануць шынель польскага салдата. Праўда, хутка, без малога праз месяц, удалося вярнуцца. Пехатой прайшоў з паў-Польшчы праз агні пажарышчаў. Бачыў кроў і слёзы абяздоленых вайной.

На шчасце, абмінулі нямецкія бомбы, кулі, палон. Ды не доўга давялося пацешыцца мірным, новым жыццём. Летам 1941-га ў Адамчуках праз дваццаць з лішнім год — зноў немцы. На гэты раз яшчэ больш самаўпэўненыя злыя — гітлераўцы. У першыя ж дні вайны Янкоўскіх, як і шмат каго, напаткала гора. Прыхвасні новага парадку высачылі і забілі стрыечнага брата Антона Янкоўскага Янака, які да вайны працаваў у Варшаве, быў камуністам-падпольшчыкам, вёў агітацыю сярод рабочых. Фашысты расстралялі таксама мясцовых савецкіх актывістаў Андрэя Янцэвіча і Казіка Шчарбетку. Аптопу Япкоўскаму, як актыўнаму карэспандэнту савецкіх перыядычных выданняў, давялося хавацца. Прыціхлі, прытаіліся Адамчукі ў чаканні невядомага. Але дзесьці ў канцы сорак другога — пачатку сорак трэцяга часцей стала начамі грымець па чыгунцы. Антон Янкоўскі і сам разы два праводзіў туды бліжэйшымі сцежкамі партызанаў.

Няпроста было і ў канцы 40-х, калі заходнебеларуская і літоўская вёскі крута сталі адыходзіць ад свайго спрадвечнага ўкладу. Хоць жылі да калгаса бедна. У ранейшыя гады вясною не раз не хапала хлеба і корму жывёле, але новае адразу напачатку насцярожвала. «Як жа: аддай свайго каня,

калёсы-атосы. Ну разам, талакой рабіць спраўней, ну тэхніка паможа. Але ж як яно там будзе?» — развaжаў селянін.

Антон Янкоўскі быў сярод першых, хто засноўваў калгас у Адамчуках. Стаў яго аграномам. Было няпроста. Прытоеныя ворагі калгаснага ладу цікавалі з-за вугла. Яны забілі першага старшыню адамчуцкага калгаса Пятра Стэфановіча, спалілі першы калектыўны ўраджай… Цяпер, пішучы гісторыю калгаса «Шлях да камунізму», Антон Янкоўскі расказвае яе не як спакойны даследчык, хранікёр падзей, а як непасрэдны іх удзельнік. А ўвогуле неспакой, добры неспакой — у натуры Антона Янкоўскага. Яму абыходзіць усё. Яго газетныя карэспандэнцыі ў органе ЦК Кампартыі Літвы «Czerwony sztandar» і ў раённай «Дружбе» прасякнуты сапраўдным грамадзянскім клопатам, маладым, я сказаў бы, неспакоем за ўсё, што робіцца наўкола.

Як старшыню пастаяннай камісіі земляробства і аховы прыроды Лаварышскага сельсавета, яго непакоіць усё: і тое, каб не запускаліся равы на меліяраваных сенажацях, і каб добрыя агародныя землі не ішлі, як гэта здарылася ў калгасе, на будову стоку, калі побач ёсць кар‘еры, і каб надвільнянскі луг не зарастаў кустамі і купінамі, і каб той, хто адказны, рамантаваў дарогу да вёскі Язова… Дробязі, але з іх складаецца мясцовае жыццё. Асаблівы клопат Янкоўскага як ганаровага дэпутата сельсавета складае гістарычна-рэвалюцыйнае мінулае лаварышскіх ваколіц, помнікі духоўнай і матэрыяльнай культуры краю.

Ён арганізуе грамадскую думку раёна, каб захаваць у вёсцы Каменцы дуб Даяржынскага, ля якога ў гімназійныя гады, прыязджаючы ў двор да дзядзькі Ігнацыя Піляра, бавіў час з вясковымі падлеткамі будучы «жалезны фелікс». Клапоціцца пра тое, каб не былі разбураны пры новым будаўніцтве ў Лаварышках могілкі паўстанцаў 1863 года на старых, заснаваных яшчэ ў 1644 годзе кладах… Хадайнічае перад Інстытутам марксізму-ленінізму пры ЦК КПЛ аб адкрыцці ў Вільні на доме па вуліцы Людаса Гіры (б. Віленскай, 12), дзе ў 20-я гады жыў Браніслаў Тарашкевіч, мемарыяльнай дошкі ў гонар гэтага мужнага барацьбіта-інтэрнацыяналіста і таленавітага беларускага вучонага, пісьменніка.

Рупіцца пра помнікі матэрыяльнай культуры і быту ў раёне. Разам са старшынёй калгаса «Перамога» Уладзіславам Рынкуном засноў-ваюць музей сялянскага быту, дзе Янкоўскі збірае прылады працы, начынне, рэчы, дарагія сэрцу з маленства, а сягоння рэліквіі, памяткі. За справу, як заўсёды, узяўся шчыра, з мала-дым запалам. У лісце ад 14 мая 1978 года пісаў мне: «Дзісь сёмуха. Маю крыху часу. Выйшаў павалачыцца па старых суседзях, каб штось цікавага запісаць, пашукаць што-небудзь для нашага музея з часоўД драўляна-саламянай культуры. Ужо даўно «паляваў», каб знайсці дзе арыгінальны, праўдзівы лапаць, і такі ўдалося. Я яго чуць не пацалаваў. Не смейся, браток, з мяне. Дзісь знайсці драўляную саху, лапаць — трудная справа». І, даўшы выхад сваёй радасці; шчаслівы, прытачыў у канцы словы Янкі Купалы:

Не пагарджайце лапцей ліповых,
Не высмявайце лапцей лазовых.
Лапаць той будзе ў цэркве вісеці,
Народ аб ім будзе песенькі пеці.

Улюбёны ў жыццё, у родную зямлю Антон Янкоўскі. І яна, родная зямля, прамаўляе да яго назвамі-імёнамі сваіх гор і долаў, сядзіб і населішчаў. Найменні вёсак, урочышчаў, лясоў, дарог, курганоў раскрываюць, расказваюць яму свае таямніцы. Ён рупліва збірае, натуе іх, высвятляе паходжанне, гісторыю. Не толькі дзеля ўласнага замілавання, а каб падзяліцца з людзьмі. У сааўтарстве з беларускім мовазнаўцам Вячаславам Вярэнічам Янкоўскі апублікаваў два сур'ёзныя лінгвістычныя артыкулы: «Мікратапанімія вёскі Адамчукі» ў кнізе «Пытанні беларускай тапанімікі» (1970) і «Былыя татарскія вёскі Кена і Касіна» — у «Беларускай анамастыцы» (1977). Падрыхтавана і хутка выйдзе ў серыі анамастычных выданняў Інстытута мовазнаўства АН БССР праца «Да мікратапанімікі Віленшчыны». Разгорнуты гісторыка-краязнаўчы нарыс (цэлая манаграфія на польскай мове), прысвечаны краязнаўству Міцкунскай гміны. Ёсць у дзядзькі Антона Янкоўскага яшчэ адзін сардэчны клопат, можна сказаць, запаветная думка. Хоча ўбачыць ён пры жыцці надрукаваным асобнай кніжкай фальклор родных ваколіц, фальклор радзімы Браніслава Тарашкевіча.

Песні, легенды, паданні, найменні паселішчаў, рэчак, азёр —жывая памяць зямлі, памяць пакаленняў. Зберагчы і перадаць нашчадкам усё лепшае, чым мы жывы сягоння, што пераняли ў спадчыну ад папярэднікаў, — ці ж не высакародны абавязак чалавека на зямлі? Добра разумее гэта Антон Рафалавіч Янкоўскі, просты працаўнік, чалавек адкрытай душы, мудры ламяццю сэрца, сваім дачыненнем да свету».

*1981*

# Уладзімір Караткевіч: Годна, з любасцю, думна

Не быў блізкім сябрам Уладзіміра Караткевіча. Хоць узаемаразумення і прыязні не бракавала на гэта… Не часта даводзілася бачыць пісьменніка, рэдка — даўжэй гаварыць з ім. Але, мусіць, як і ў кожнага, хто трохі ведаў Валодзю Караткевіча ў жыцці, заўсёды чакаў яго новых публікацый, кніг, захаваўся ў сэрцы ўзнёслы і ўжо авеяны смуткам вобраз Паэта.

Гэты чалавек абуджаў у нас нешта большае, чым проста ўдзячнасць за тое, што ён рабіў, сёння ўжо кажам, здзейсніў у нашай літаратуры, культуры. Прызнаемся ж у тым, да чаго рэдка і звычайна па часе прызнаёмся ўслых: мы любілі яго. Любілі, цанілі, шанавалі за арыгінальны і такі незаменны ў беларускіх умовах талент, за адкрытую, шчодрую і зычлівую натуру. Неяк адметна высакародна ён існаваў, жыў у нашым духоўным свеце. Карыслівасць, прыстасаванства, павышаная любоў да ўласнай персоны, — ці мала якая марнасць часам падсцерагае брата-літаратара, прадстаўніка іншай сферы мастацкай інтэлігенцыі. Асабліва ў перыяд спакойнага развіцця грамадства. Асабліва людзей не вельмі абцяжараных талентамі. Але не слабыя былі маральныя карані Уладзіміра Караткевіча, яго адоранасць, адукаванасць, каб нечаму такому мог паддацца. Занадта вялікі запас душэўнага агню, любасці да ўсяго духоўна прыгожага, праўдзівага, сумленнага насіў у сваім сэрцы, каб выбіраць лягчэйшую дарогу. Пісьменніку шмат у чым пашанцавала. Час прыходу Уладзіміра Караткевіча ў літаратуру (сярэдзіна 50-х гадоў, XX з'езда партыі) — спрыяльны час. Аднойчы ў гутарцы ён канкрэтна сказаў, што, каб не вядомыя грамадскія падзеі тых часоў, пэўна, не быў бы літаратарам.

Рамантык у самым высокім, класічным, сказаў бы, значэнні гэтага слова, паэт быў сапраўдным рэалістам.

Духоўную ніву народа аглядаў шырока, не ад уласнага парога. Бачыў яе кардынальныя праблемы і сваё месца ў жыцці, свой пісьменніцкі клопат у ім акрэсліў ёміста, адпаведна неспакойнаму і глыбокаму таленту. А талентам — мы, нялічаныя чытачы яго аповесцей, раманаў, п'ес, эсэ, лірыкі, сведкі, — быў няскупа надзелены ад прыроды. Адметнага ў сваёй чалавечай і творчай індывідуальнасці меў наогул нямала, як няшмат хто ведаў беларускую зямлю, думна ўглядаўся ў яе аблічча. Многа мог расказаць і расказаў пра мінулае роднай зямлі, яе працавітых людзей, духоўныя набыткі народа, не растрачаныя на скразняках гісторыі. З любоўю і годнасцю распавядаў (яго

ўлюбёнае слова) пра зямлю пад белымі крыламі (ягоны вобраз Беларусі). Таленавіта і паважна, без мітусні, сведчыў пра яе словам мастака і адданага сына. Меў вялікі дар уяўлення, жывую глыбокую памяць. Набыткі эстэтычнай думкі чалавецтва, яго гуманістычную спадчыну засвоіў і выкарыстаў у сваёй літаратурнай практыцы выдатна. Трывала абапіраўся на духоўныя вытокі перш-наперш роднай зямлі. Мала хто, а папраўдзе, хто яшчэ так па-мастакоўску відушча, плённа ўглядаўся ў гісторыю беларускага народа і так жыва, маштабна, у пластычных вобразах умеў узнавіць яе на старонках кніг? Хоць адышоў з жыцця маладым, сваім пісьменніцкім лёсам, творчасцю запавеў не адзін урок. І першы з іх — свядомая любоў да роднай зямлі, народа — аснова асноў. Яна дае сэнс жыццю чалавека, узнімае яго духоўна, маральна. Для мастака ж слоВа, пэндзля, разца яна — антэева крыніца сілы. Думка не новая, не раз пацверджаная і кожны раз нанова адкрываная ў сусветнай літаратуры, музыцы, жывапісе. Адкрытым тэкстам выказана яна ў рускай культуры І. С. Тургеневым вуснамі аднаго з яго раманных герояў: «Россия без каждого из нас обойтись не может. Нам без России нельзя. Горе тому, кто думает без нее обойтись. Двойное горе тому, кто без нее обходится».

Нельга. Без Беларусі нельга, — сцвярджае Уладзімір Караткевіч усёй чалавечай сутнасцю сваіх Алеся Загорскага, Кастуся Каліноўскага з рамана «Каласы пад сярпом тваім». Не абысціся, не пражыць, — сведчаць героі яго апавяданняў «Сіняя-сіняя…», «Калядная рапсодыя», аповесцяў «Ладдзя роспачы», «Чазенія», п’ес «Кастусь Каліноўскі», «Калыска чатырох чараўніц», «Маці ўрагану», кнігі-эсэ «Зямля пад белымі крыламі» (дарэчы, своеасаблівы эталон для мастака, трэба ведаць сваю зямлю, адзначаны яшчэ Варленам Бечыкам) і многіх іншых і, у першую чаргу, лірыкі паэта, яшчэ да канца не ацэненай.

Узвышальная любоў Караткевіча мастацкі пераканаўчая не толькі таму, што перад намі прыроджаны талент, творца Божай літасцю. Гэта простая ісціна набыла ў нашага гасьменніка сэнс асоба прынцыповага мастацкага сцвярджэння яшчэ і таму, што ён сам не так проста ішоў да яе спасціжэння. Кажучы фігуральна, у Валодзі Караткевіча было сваё вяртанне да Беларусі. Успомнім яго з гадоў юнацтва, часу выбару. Пасля вяртання з эвакуацыі, дзесь з Урала, заканчэння сярэдняй школы ў роднай Оршы будучы паэт едзе ў Кіеўскі універсітэт. Не ў бліжэйшы свой, беларускі, мінскі, а менавіта ў Кіеўскі. Усе мы, каму хоць трохі запала ў душу цяпло роднага слова, хто ўпотайкі спрабаваў пяро, плоймай валілі ды і цяпер ідзём у БДУ. А ён за нейкай зманлівай юначай марай роднай ракой сваёй Дняпром памкнуў у Кіеў. Каб дажыў да веку, калі пішуцца мемуары, можа б, шырэй узнавіў духоўную атмасферу шаўчэнкаўскага універсітэта таго часу. У аўтабіяграфіі?.. Яна была рана напісана (з нагоды падрыхтоўкі аўтабіяграфічнай пісьменніцкай кніжкі «Пра час і пра сябе») ды і кароткая, каб абняць шырэй пражытае і перажытае.

Ведаю са слоў самога паэта, што далучэнню да сур’ёзных ведаў па літаратуры, філалогіі, культуры ён быў абавязаны некалькім украінскім

вучоным-літаратуразнаўцам і лінгвістам. Асабліва цёпла ўспамінаў акадэміка Бялецкага, прысвяціў яму верш у першай сваёй паэтычнай кніжцы. Відаць, любоў імянітага настаўніка студэнцкай моладзі і вучня была ўзаемная. Бываў Валодзя ў Кіеве шчыра прыняты і ў сям'і славутага спевака Барыса Раманавіча Гмыры, які, паводле слоў нашага паэта, род свой выводзіў з Магілёўшчыны. Пазней хораша ўспамінаў Валодзя і іншых прадстаўнікоў украінскай навукі, літаратуры. Па ўсім відаць, танклявага высокага цёмнарусага хлопца з Беларусі, рамантыка з галубінай душой, прагнага да ведаў, мастацтва, свету, любілі ў старажытным горадзе над Дняпром, і ён на ўсё жыццё захаваў да яго, Украіны, яе сыноў глыбокае прызнанне і любоў. Вывучыў мову братняга народа. У творах сваіх, здаецца, свядома «грашыў» украінізмамі. Не мінуў Валодзевай свядомасці ў час вучобы ў Кіеве і шаўчэнкаўскі зварот-запавет «Вчитесь, дити моі, і чуже пізнувайтэ і свого не чурайтеся», думка сапраўды інтэрнацыянальная і гуманістычная па сутнасці. Праходзілася ім побач з рускай класічнай літаратурай і школа літаратуры ўкраінскай, з Шаўчэнкам на чале, для якой тэма бацькаўшчыны, народа — кіеўскія універсітэты для будучага беларускага паэта. Кіеў, Украіна звярнулі позірк паэта ў родную старану. Якраз адтуль ён убачыў яе рэльефна, духоўным позіркам. Там свядомая любоў да зямлі бацькоў упершыню тарганула сэрца яе будучага песняра. Штудзіруючы айчынную гісторыю (а тут навочна аваладанню ёю дапамагалі і старадаўні Крашчацік, і гожая Сафія, і выліты з бронзы Уладзімір Хрысціцель, які нібы спаконвечна ўглядаўся ўдалячынь над Дняпром), наш паэт з адлегласці месца і часу выразна ўбачыў і свой паўночны край, у хараstве бароў ды жытніх палёў, азярын, гасцінцаў у старых бярозавых прысадах. Аб тым, што Беларусь здалёку здалася яму асабліва прыгожай і прывабнай, прызнаецца сам Караткевіч у аўтабіяграфічным накідзе. Даслоўна паэт пісаў: «І яшчэ за адну рэч я ўдзячан тым гадам. Здалёку я асабліва палюбіў Беларусь і яе людзей. Яна ўяўлялася тады мне не па-зямному прыўкраснай…» Павяртала малодога Уладзіміра Караткевіча да Беларусі і прабуджэнне мастака ў яго душы. Была ў гэтым вяртанні арганічная патрэба таленту абаперціся на сваю прыроджаную глебу! У поўным сэнсе стыхійная скіраванасць каранёў у плодны грунт роднай зямлі. Валодзя Караткевіч вяртаўся з Украіны паэтам і паэтам беларускім усімі памкненнямі сваёй душы, творчай натуры. У гэтым ён несвядома паўтарыў шлях свайго земляка паэта Францішка Багушэвіча… Паўтарыў у іншых сацыяльных і палітычных умовах. Яго папярэднік трапіў на Украіну паўстанцам, ратуючыся ад мураўёўскай пятлі ці сібірскай ссылкі. Вярнуўся ж на Беларусь паэтам-дэмакратам, песняром беларускай мужыцкай нядолі, будзіцелем сваёй зямлі.

Уладзімір Караткевіч быў добрым вучнем. Ён разумна, у поўным аб'ёме скарыстаў свае ўкраінскія універсітэты. А з добрых навучэнцаў выходзяць добрыя настаўнікі.

Я пазнаёміўся з Валодзем Караткевічам, калі ён, пасля хадайніцтва Петруся Броўкі і Максіма Танка перад П. Тычынам і Міністэрствам асветы УССР, настаўнічаў ужо не на Кіеўшчыне, а ў роднай Оршы. Выкладаў, адпа-

ведна атрыманым кваліфікацыі, дыплому, рускую мову і літаратуру. Вясною 1958 года паэт прыехаў у Белдзяржвыдавецтва (месцілася тады ў старым Доме друку), дзе выходзіла яго першая кніжка. Рэдактарам яе быў прызначаны Антон Бялевіч. Мне, як маладому, толькі што з-за студэнцкага стала, выдавецкаму работніку, рэдагаваць першую кніжку маладога паэта, натуральна, не давяралI. I ў гэтым была свая рацыя, можа, нават мудрасць выдавецкай адміністрацыі. У ходзе падрыхтоўкі Валодзевага паэтычнага зборніка «Матчына душа» заставаўся я на правах арганізатара выдання, нечым накшталт выдавецкага апекуна яго. Зрэшты, статут такога шэфа-рэдактара быў на паперы не замацаваны, і я часам дазваляў сабе нешта большае, чым тое, што мела на ўвазе ў такіх выпадках выдавецкае кіраўніцтва. Упершыню паэта ўбачыў у кабінеце галоўнага рэдактара Івана Дарафеевіча Казекі. Пачцівы мой шэф сядзеў за сталом побач з маладым вялікавокім хлопцам, разам праходзіліся па вершах, здымалі пытанні. У вершы, прысвечаным А. І. Бялецкаму, у чатырохрадкоўі:

На паўстанках, засыпаных лісцем бярозавым,
Дзе з пагардай цягнік двойчы ў дзень праляціць,
Ў простай хаце, пускаючы горкія слёзы,
У калысцы будучы Дантэ ляжыць…—

замянілі Дантэ на Коласа: паэта высокага італьянскага Адраджэння — імем менш вядомым у свеце, але належным таксама волату слова. Да таго ж сваім, блізкім. Малады паэт з разуменнемаднёсся да нашай праўкі. Што ж да другой з іх, то цяпер чую яго ўнутраны голас, не паданы, аднак, вонкі: «Хлопцы, якая ж мы правінцыя…» Справа ў тым, што ўзніклі сумненні, ці дастаткова правільна ўразумее чытач верш «Паўлюк Багрым». Цяпер шмат хто звяртаецца да гэтай таленавітай трагічнай постаці нашага мінулага. I літаратары, і мастакі. У 50-я гады верш Караткевіча быў, бадай, першым удалым захадам, каб стварыць мастацкі вобраз беларускага таленту, задушанага жорсткімі ўмовамі манархічнай дэспатыі. Верш быў створаны на вялікім напале пачуцця, сягаў шырокіх сацыяльных абагульненняў.

Кампазіцыйна ў аснове твора ляжаў маналог старога паэта-бунтара, чыё жыццё прайшло ў салдатчыне, у няволі. Яго вачыма глядзіць малады пазт і на спакутаваную, аб-рабаваную прыгоннікамі Беларусь. Вобраз прыгнечанай царызмам Радзімы Багрыма быў настолькі яскравы, свежа ўбачаны і тварыў такі актыўны фон трагічна завершанага жыцця «невядомага генія беларускага песняра», што не было сумнення — твор выдатны.

Але на той час яшчэ так навукова слаба была распрацавана наша гісторыя, так цьмяна ўяўлялі мы лёс творцаў літаратуры XIX стагоддзя, што зыркія сполахі фарб на паэтычна-мастацкім Караткевічавым палатне маглі не толькі ўразіць, а дзе каго і збянтэжыць. За радактарскім разборам я прапанаваў зрабіць разгорнутую ўрэзку і зноску, даведку да верша. Пагадзіліся, што для шырокага чытача так будзе даходлівей. Развіталіся, здалося, з нейкім унутраным узаемаразуменнем. Толькі на парозе рэдактарска-

га кабінета я угледзеў, які танклявы, высокі постаццю зграбны наш госць з Оршы. Заімпанавала яго вытрыманасць, шляхетнасць. З першай сустрэчы ніяк нельга было здагадацца, які гэта рагатун, жартаўнік, душа нараспашку. Праз нейкі час я паслаў паэту набраныя аркушы яго будучай кнігі. З пытаннямі на палях. Неўзабаве атрымаў адказ на двух вялікіх аркушах, з малюнкамі-тлумачэннямі. У канцы ліста аўтар выказваў уражанне, што, маўляў, вось працягнулася нейкая нітачка ўзаемапаразумення, і гэта добра. Канешна ж, паэт падкупляў сваім паэтычным светам, у многім нязвыклым, новым і вельмі шчырым. У вершах яго жыло, сваволіла, захаплялася і захапляла яго аршанскае юнацтва. У нейкім рамантычна-чалавечым асвятленні ўставалі вобра-зы нядаўняй вайны ў яго прыдняпроўскай старане і відавочна ўзвышалася драматычна-трагічная даўняя Беларусь. У першым зборніку паэта пазначылася ўжо і тэма няпроста-га, можа, нешчаслівага кахання. Там ужо акрэслена набірала дамінантнае гучанне тэма Бацькаўшчыны-Беларусі як роднага ўлоння, калыскі дум. У кнізе моцна чуўся мінор. Гарманічны свет маладога паэта ўзрываўся драматычнымі акордамі, танамі. З гадамі адчуванне драматызму жыцця ў паэзіі Уладзіміра Караткевіча, відаць, не памылюся, калі скажу, узмацнілася.

З часу выхаду першай кніжкі паэта захаваліся ў маім архіве, звандраваным па інтэрнатах, халасцяцкіх кутках, яго паштоўка, надасланая з Оршы 19 мая 1958 года. Мімаходзь жаліўся на занятасць, звязаную з канцом навучальнага года ў школе, на кантрольныя, на тое, што ўжо два тыдні карпее без зруху над адным апавяданнем. Дзякаваў за ўлічаныя яго заўвагі. Што гэта былі за заўвагі, шчыра кажучы, не памятаю: далекавата ў рацэ жыцця адплыла тая вясна 1958 года. Помніцца толькі адно, што, карыстаючыся правам выдавецкага рэдактара, я вярнуў у карэктуру тры вершы, якія Антон Пятровіч Бялевіч палічыў неабавязковыя ў кнізе. Гэта была паэтычная мініяцюра «Лісце», пейзажна-філасофская замалёўка «У векавечнай бацькаўшчыне клёны…» і яшчэ штосьці трэцяе…

Вы ўставілі? — прама гледзячы ў вочы, спытаўся ў мяне Антон Пятровіч, калі кніжачка вершаў прытушана блакітна-зялёнага колеру (так успрыняў танальнасць і каларыт паэзіі Караткевіча мастак І. Немагай) ляжала на стале ў рэдакцыі мастацкай літаратуры. У тоне пытання старэйшага паэта не пачулася мне вялікага дакору. Спытаў, здалося, проста дзеля ўдакладнення факта. Папраўдзе, не было падстаў думаць, што выдавецкі маладзён падвёў сталага, спрактыкаванага рэдактара. Тыя вершы моцна на вартасць паэтычнага зборніка не ўплывалі. Тым часам хочацца думаць, што кожны, хто любіць лірыку Уладзіміра Караткевіча, не без прыемнасці знойдзе іх у першай кнізе паэта, якой ён невыпадкова ж даў назву «Матчына душа». Ці гэта не знак таго, што паэт ад пачатку ішоў да самых вытокаў жыцця, да існага?

Прытачу тут яшчэ пару слоў з успомненай Валодзевай паштоўкі. Можа, яны будуць нялішнія будучаму біёграфу пісьменніка, які захоча напісаць манаграфію, стварыць літаратурны партрэт яго на ўвесь рост. А то калі яшчэ эпісталярная спадчына Караткевіча будзе сабрана і трапіць да чытача? Не лішне шанцуе нам з ёй. Лісты класікаў і то агледжаны толькі збольшага.

Пасля Кіева з яго змястоўным духоўным жыццём Орша, як ні любіў наш паэт гарадок свайго дзяцінства, была, вядома, месцам сціплых культурных магчымасцяў. Зразумела, былі кнігі, якія так шмат давалі патолі яго душы, узгадоўвалі яе. Былі сябры юнацтва. Некаторых з іх паэт пазней з годнасцю прадстаўляў мінскім сваім знаёмым, іншым, як Яўгену Пушкіну, напрыклад, памагаў шукаць дарогу ў краснае пісьменства. Але аршанскія духоўныя кантакты паэта не маглі раўнавацца з кіеўскімі. І сум па шырэйшым свеце, па магчымасці наталіць душу ў размовах пра, можа, найважнейшае ў яго жыцці; прарываецца ў словах Валодзі з часоў працы паэта на ніве школьнай асветы. Ён суцяшае сябе тым, што скора скончацца заняткі ў школе і можна будзе вырвацца ў Мінск. «Хочацца як-небудзь добранька паразмаўляць… пра музыку, вершы, мастацтва і іншыя важлівыя справы». Заканчвалася ж паштоўка крыху нечакана. «Калі я памру, — пісаў тады яшчэ 27-гадовы Уладзімір Караткевіч, — папрашу, каб на маёй магіле выбілі: «Я аўтар кашмарных паэм і санетаў. Мне людзі заплацяць бяссмерцем за гэта». Наконт кашмарнасці паэм і санетаў, зразумела, перабольшваў, але аб бессмяротнасці гаварыў недарма. Жарт жартам, аднак сілы ў душы, відаць, чуў немалыя. У Оршы (а як бы цікава хоць на часінку краем вока зазірнуць у той яго клас, на тыя яго ўрокі рускай літаратуры і мовы) паэт доўга не заседзеўся. Скора патрапіў на шырокія прасторы жыцця, з галавой акунуўся ў творчае асяроддзе. Спачатку паехаў на літаратурныя, а затым на Вышэйшыя сцэнарныя курсы ў Маскве. Гэта пэўныя чатыры гады ў сталіцы, у маладым творчым асяродку у Маскве, з яе музеямі, тэатрамі, музычнымі заламі. Ды якія гады: канец 50-х — пачатак 60-х. Вецер глыбокіх грамадскіх перамен у краіне. Гуманная скіраванасць жыцця. Літаратура, мастацтва набіраюць натуральнага голасу.

Узняты праўдай часу новыя далечы рускай савецкай паэзіі адкрывае Аляксандр Твардоўскі. Салдаты вялікай вайны Ю. Бондараў, Г. Бакланаў нясуць новае гістарычнае і эстэтычнае сведчанне пра яе, чалавека ў ёй. З пачуццём сталай адказнасці перад народам, Радзімай загаварыла маладое пакаленне рускіх паэтаў і празаікаў — Я. Еўтушэнка, А. Вазнясенскі, В. Шукшын, Ю. Казакоў… Дзесьці ў глыбінцы праўдзівы эпічны сказ пра сённяшнюю і вечную зямлю рускую, яе народ складаюць Ф. Абрамаў, В. Астаф’еў, В. Бялоў.

Беларуская літаратура зведала нешта падобнае на адраджэнне. У яе вярнулася адразу многа таленавітых людзей, калі не жывой чалавечай існасцю, то творамі, як Максім Гарэцкі. Па сутнасці, сталі засвойвацца ўрокі класікаў, здабыткі сусветнай эстэтычнай думкі. Узгадаваныя жывымі сокамі, пад жыватворным павевам грамадскіх перамен абазначылася цэлая плеяда самавітых талентаў — Васіль Быкаў, Іван Пташнікаў, Вячаслаў Адамчык, Іван Чыгрынаў, Янка Сіпакоў, Барыс Сачанка, Міхась Стральцоў, Ніл Гілевіч, Рыгор Барадулін, Васіль Зуёнак, Генадзь Бураўкін.

Вершы Уладзіміра Караткевіча часу яго навучання ў Маскве «Трызненне мужыцкага Брэйгеля», «Прарок Геранім Босх», «Архангельскае», «Дзіва на Нерлі» (яны ўвайшлі ў другую кнігу паэта «Вячэрнія ветразі») сведчылі аб

актыўным засваенні ім гісторыі рускагаЦі сусветнага мастацтва, сацыяльна-філасофскім прачытанні яго пазначаных драматызмам старонак. Душа пісьменніка акумуліравала шмат чаго з адкрытых размоў, спрэчак, дзе на шалі разваг запальчыва ўскладалася мінуўшчына і сучаснасць, дзе тэмамі былі вечныя маральныя і эстэтычныя вартасці, пераацэньваліся каштоўнасці. Пэўны адбітак перажыванняў нашага пісьменніка таго часу, работу яго ўнутранай думкі можна ўбачыць, расчытаць не толькі ў лірыцы.

Яны добра відаць і ў рамане «Леаніды не вернуцца да Зямлі», які прыйшоў да чытача праз нейкіх дваццаць год пасля напісання. Прыйшоў пад зменераць назвай «Нельга забыць».

Часцей бачыць паэта даводзілася ў другой палавіне 60-х, калі ён настала перабраўся ў Мінск. Бываў шмат дзе. Не мінаў і наш аспіранцкі інтэрнат на вуліцы Акадэмічнай, балазе недалёка жыў. Варта было толькі пераскочыць праспект ды скверык-лясок між ім і вуліцай Кузьмы Чорнага, каб трапіць на пачатку Чарнышэўскага ў наскорую руку збудаваны выдавецкі дом, дзе ў той час сялілася нямала пісьменнікаў. Неяк завёў мяне на Чарнышэўскага, 7 аднаго разу Генадзь Кісялёў. Валодзя з маці Надзеяй Васільеўнай займаў тут невялікія два пакоі ў левым рагу дома. Бібліятэку яго я чамусь не паспеў тады разгледзець. Запомнілася некалькі напаўэкзатычных прадметаў. На балконе своеасаблівай формы дрэвіна, нейкія акамянеласці, гіганцкі грыб. На фоне спаважнай з выгляду і манерамі маці, якая выяўляла сабой тып дваранкі (гэтае апошняе ўражанне падмацоўвалася яе бездакорнай рускай мовай), паэт выглядаў крыху мітуслівым. Нешта па-хлапчукоўску скапрызіў маці. Мяне гэта збянтэжыла, і, улучыўшы зруч-ны момант, я выказаў Кісялёву незадавальненне. Мой жа вучоны калега, з яго акадэмічным спакоем, сур'ёзнасцю, уменнем усё тлумачыць ды паблажлівай прабачальнасцю да сябра-паэта, заўважыў: «Нічога не зробіш, мастак — дзіця»… Запомніўся з таго адзінага візіту на кватэру да пісьменніка яшчэ вялізны фатаграфічны партрэт Кастуся Каліноўскага на ўвесь рост. Вялікі рэвалюцыйны дэмакрат наш стаяў на покуці ў сціплым паэтавым пакоі. Валодзя ў той час працаваў над раманам «Каласы пад сярпом тваім», і вобраз гэтага мужнага, таленавітага суайчынніка валодаў яго сэрцам і ўяўленнем. З толькі што напісанымі першымі раздзеламі шырока задуманай эпапеі пра паўстанне ен аднойчы пазнаёміў нас, прыйшоўшы на наш аспіранцкі бівак.

Спаважнелі твары. Задумліва слухалі хлопцы пісьмен-ніцкі сказ пра жыццё і дзеі продкаў, будучых творцаў і герояў паўстання. Абмяняліся думкамі. Выказалі аўтару стрыманую мужчынскую пахвалу. Валодзя адклаў стос аркушаў, спісаных дробным уборыстым почыркам, захад;му па пакоІ.

— Што вы, хлопцы?.. Вам дзякуй. Важна ведаць, што гэта некаму трэба, што ты не фальшывіш.

Праз год раман пабачыў свет. У Інстытуце літаратуры было наладжана яго абмеркаванне. З выступленняў навукоўцаў запомнілася слова Язэпа Францавіча Сушынскага вучонага, старога беларускага культурнага дзеяча, вядомага яшчэ па пецярбургскай кніжнай суполцы «Загляне сонца і ў

наша ваконца». Каржакаваты, трывалы на свае восемдзесят колішні сябар Янкі Купалы гаварыў з запалам, глыбокай перакананасцю. Казаў, што малады пісьменнік напісаў рэч прынцыповую. Гаварыў пра тое, што без ведання гісторыі, без асэнсавання яе народ не можа мець паўнацэннага духоўнага жыцця. Заслугу Караткевіча бачыў ва ўменні ахапіць жыццё маштабна, праз вобразы прадстаўнікоў розных слаёў грамадства, паказаць цэлы народ. Паўліна Мядзёлка ў канцы свайго выступлення, узрушаная раманам, назвала маладога пісьменніка сынам і, удзячная, схіліла перад ім калісь прыгожую галаву першай сцэнічнай Купалавай Паўлінкі.

Пісьменніка клікалі да сябе выступаць студэнты. Папулярнасць яго расла. Да беларускай літаратуры далучаў ён усё шырэйшую чытацкую аўдыторыю. Памятаю, на вечары ў тэатральна-мастацкім інстытуце, у тым, што чытаў Валодзя і як чытаў, пачуўся мне нейкі напружаны ўнутраны драматызм. Яго хораша прымалі І маладая аўдыторыя, і першыя рады, запоўненыя людзьмі пажылымі. Было сярод іх некалькі вядомых старых інтэлігентаў; пачынальнікаў, якія рупіліся аб культурна-грамадскай працы яшчэ на зары нашага стагоддзя. Лёс адмераў некаторым з іх поўнай мерай усяго, добрага і благога, але не паспеў састарыць душы. Пэўна ж, імпанавала ім высокае гарэнне паэта, тая глыбокая і трапяткая чалавечнасць, якой дыхала яго верша-ванае слова. Разам з Валодзем, у пары з ім, выступаў добры, як на сёння — выдатны наш паэт, яго сябра. Але сапернічаць з Караткевічам у той аўдыторыі было яму цяжка.

І ўсё ж вершы паэта, нягледзячы на тое, што у іх пераважаў сацыяльны, грамадзянскі змест, у камерных умовах успрымаліся лепш. Калі яны чыталіся ў вузейшым коле, выклікалі глыбейшае суперажыванне, хоць, мабыць, гэта вельмі суб’ектыўна. Хораша помніцца адно такое Валодзева чытанне не на людзях, у невялікай грамадзе. Вершы былі напісаны ў Крыме, дзе паэт разам з кінематаграфістамі правёў вясну 1967 года. Фільм ставіўся паводле сцэнарыя, зробленага на аснове рамана «Хрыстос прызямліўся ў Гародні». Некаторыя сцэны, звязаныя з сюжэтнай лініяй крымчакоў, рэжысёр Бычкоў здымаў у Ялце. Валодзя цёпла ўспомніў пару эпізодаў з работы на кіназдымачнай пляцоўцы, паказаў фотаздымкі сцэн, дзе сярод акцёраў можна было пазнаць і самога аўтара рамана, загрыміраванага пад аднаго з эпізадычных герояў фільма. Праўда, не прызнаўся, што ён у сваім фільме і спявае. Праз шмат гадоў, ужо калі Валодзя адышоў назаўсёды, з экрана ў Доме літаратара ўдалося пачуць яго голас, песню, што прагучалі ў тым фільме. У карціне, дарэчы, раз ужо прыйшлося да слова, было шмат разумна-гарэзнага. Яно ішло ад натуры аўтара. Пісьменнік, стваральнікі фільма — а здымаліся ў ім у ролі Юрася Братчыка Дураў, у ролі езуіта Баніоніс, — дасціпна смяяліся з пыхі, абмежаванасці, сацыяльнай хцівасці паноў становішча сярэдневяковай Беларусі. У тво-ры хораша, думна выяўляліся здаровыя народныя асновы жыцця. Фільм быў бясспрэчнай творчай удачай калектыву, і зусім па незразумелых, на здаровы густ, прычынах не дайшоў да гледача.

Але мы адышлі далёка ўбок. Гаворка не пра фільм. Добра, што былі тыя здымкі, тая ранняя крымская вясна ў Валодзевым жыцці. Яна пры-

несла, сказаў бы, каб не засцерагаўся гучных слоў, падаравала нам каля сарака вершаў паэта. У час згаданай сустрэчы з маладымі навукоўцамі ў інтэрнаце ён чытаў «Кара-Ханум», «Таўры», «Песню Мехмета», «Фантан слёз». Завяршыгў чытанне вер-шам «На роднай магіле», напісаным пад уражаннем ад наведання месца вечнага спачыну Максіма Багдановіча. Чытаў Валодзя крыху глухаватым барытонам, без эмацыянальнага акцэнту, але з той глыбокай унутранай адухоў-ленасцю, з якой нараджаліся гэтыя, ды і ўсе іншыя, лепшыя яго творы. Драматычную гісторыю Крыма, яго прыроду Валодзя ў сваёй лірыцы, дакладней, у ліра-эпіцы, бачыў узбуйнена, вобразы паўставалі то нібы ў святле ранішняй зары, то як бы ў навальнічных водсветах маланкі. У вершы «Фантан слёз» пачулася мне дастойнае супернічанне з вялікімі папярэднікамі, чыё ўяўленне ўзрушала гэта красамоўная рэалія ханскай дэспатыі, трагедыі дзяўчат-паланянак. Крымскі цыкл пад агульнаю назваю «Таўрыда» ўвайшоў у трэці прыжыццёвы зборнік паэта «Мая Іліяда». Кніжка гэта мо наймацней засведчыла, які высокі зорны спеў нёс роднай зямлі, аддаў у дар людзям Уладзімір Караткевіч.

Быў адэІн эпізод за час майго энаёмства э паэтам, як з адлегласці часу, дык і пацешны. Недзе напрадвесні 1968 года з тайнай надзеяй памагчы Валодзю асталявацца ў жыцці, прыдумаўшы нейкі бяскрыўдны знешні повад, павёз яго ў Вільню да аднаго старога беларускага педагога і журналіста бацькі дзвюх незамужніх дачок. Старэйшая вучылася ў аспірантуры, рыхтавалася стаць хімікам, а малодшая паспяхова заканчвала кансерваторыю і ўжо спрабавала выступаць з пуолічнымі канцэртамі як піяністка. Абедзве светлыя, прывабныя, сцшлыя, і мне здавалася, што хоць каторая з іх здолее запаланіць сэрца паэта-нядбальца. Упарадкуецца яго быт, а там, глядзіш, і колькі лішніх залатых старонак ягоных кніг дастанецца людзям на радасць. Дзякуючы Валодзевай «абшчыцельнасці», пры заўсёдным дэфіцыце нумароў у гасцініцы, мы лёгка ўладкаваліся ў «Нерынзе».

Я зрабіў паэту шырэйшую праграму знаёмстваў у горадзе, дзе яго ведалі па творах і цяпер шчыра прывячалі. Не ўпускаў, аднак, галоўнага. Візіт на кватэруда «нявест» адбыўся як бы незнарок. Праз некалькі мінут усе псіхалагічныя бар'еры палі: нібыта ўсе мы былі даўно знаёмыя і сабраліся пасля нядаўняга развітання. Валодзя сыпаў досціпамі, анекдотамі. Дзяўчаты не маглі датрымаць належнай паважнасці і неўзабаве літаральна лезлі пад стол ад смеху. Нарэшце, мабыць, усе мы, у тым ліку і сват, забыліся, дзеля чаго сабраліся. Праз нейкі час мой «жаніх» раптам заспяшаўся, неяк хапатліва пачаў збірацца. Наспех пацалаваў рукі маці, дзяўчатам, здаецца, абняўся з гаспадаром, і мы ўмомант шуснулі за дзверы.

— Ведаеш, мне трэба такая жонка, — ён, вядома, здагадаўся, чаго я завёў яго ў гэты дом, — такая жонка, каб мела добры запас цярплівасці. Напрыклад, будзем ісці з ёю вуліцаю і мне раптам так захочацца, разумееш, так неадольна зажадаецца ўзлезці на дрэва або на дах дома, то каб здолела чакаць, пакуль я адтуль злезу. А потым, як ні ў чым не бывала, спакойна пайсці далей.

— Доўга ж, браце, давядзецца табе выбіраць, — толькі і засталося мне рэзюміраваць.

Наіўнае спадзяванне на паспяховае сватанне паэта яуна не ўдалося. Няпростая гэта рэч — стаць удачлівым сватам мастаку. А Валодзя неўзабаве ажаніўся. Знайшоў-такі жанчыну з запасам цярплівасці. Кажуць, Валя яго надзейна адцясніла ад мужа шмат каго з паэтавага акружэння, якое з-за яго шырокай натуры, адкрытага характару бывала надта вялікім. Нямала неабавязковых, калялітаратурных людзей снавала ля паэта. Ды, відаць, і з братоў-літаратараў той-сёй злоўжываў гасціннасцю ды часам пісьменніка, якога трэба было берагчы для ўсіх. Можа, хто і пакаяўся над дачаснай Валодзевай магілай, што без патрэбы адрываў яго ад стала, выбіваў з рабочай формы. Ды ці яны чаго-небудзь варты, нашы запозненыя прызнанні?

З пачатку 70-х гадоў Валодзя Караткевіч досыць часта бываў у Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР. У сектары збору помнікаў гісторыі і культуры Беларусі тады стала працаваць яго жонка, і паэт не прапускаў, здаецца, ніводнай экспедыцыі, ладжанай навукоўцамі. Разам даследаваў помнікі старога дойлідства, адшукваў на гарышчах, у закамарах культавых пабудоў старадаўнія абразы, корпаўся ў кніжных крыніцах, каб знайсці звесткі пра тую ці іншую памятку даўніны. Паэт удзельнічаў у няпростай рабоце над рэстаўрацыяй духоўнай гісторыі свайго народа. Пошук, збор, пазнанне, невядомыя мясціны і людзі — гэта была яго стыхія. Ён жыў ёю і дыхаў на поўныя грудзі. Калі быў падрыхтаваны ў рукапісе том помнікаў гісторыі і культуры Брэстчыны, Валодзя напісаў да яго прадмову. Праўда, яе пазней змянілі і замянілі: паэт упарціўся ў пытаннях тэрміналогіі ці азначэння, нешта накшталт таго, у якіх выпадках пісаць «уз'яднанне», а ў якіх «далучэнне». Справа даўняя, аб падзеях-здарэннях XVIII стагоддзя. Магчыма, Валодзя выкарыстаў тую прадмову ў эсэ «Зямля пад белымі крыламі», а можа, і не. Тады яна заслугоўвае ўвагі будучых выдаўцоў поўнага Збору твораў пісьменніка, бо У. Караткевіч быў з тых літаратараў, што і ў меншым могуць, умеюць быць значнымі.

Экспедыцыйныя вандроўкі па рэспубліцы ў таварystве навуковых работнікаў, акрамя таго, што ўзбагачалі пісьменніка ўражаннямі, ведамі, давалі яму, як аўтару гістарычнай тэматыкі, цікавы фактычны матэрыял. Хіба не ў тых падарожжах аднойчы прымроіўся яму і «завязаўся» ў свядомасці апошні яго раман-дэтэктыў «Чорны замак Альшанскі»?

У адной з яго, спланаваных сябрамі, пісьменніцкіх паездак на Палессі мне давялося выпадкова спаткацца. Збіраў Валодзя тады, як зразумеў я пазней, матэрыял для эсэ «Званы ў прадоннях азёр». І быў з ім у той вандроўцы Валянцін Ждановіч і яшчэ нехта, хай даруе, не памятаю. А мы, група акадэмічных фалькларыстаў, запісвалі песні не скажаш благаслаўлёнай, але запаветнай і роднай гэтай зямлі. Валодзю з яго сябрамі сустрэлі ў Давыд-Гарадку. Паэт адразу зацікавіўся, а як і што мы запісваем. Выказаў пажаданне, каб узялі яго з сабою на запіс. Паехалі разам на пашу, дзе, як і спадзяваліся, засталі грамадку звонкагалосых даярак, дзяўчат і жанок. Яны пасля сабраліся ў кружок ля магнітафона, напаілі нас свежым малаком ды сыпнулі трохі песень. Але неўзабаве стала пагрукваць, наплылі хмары, і мы ўсёй грамадой

заспяшаліся у веску. Ляцелі ў грузавіку над пяшчанымі дарогамі зялёнымі палеткамі. Валодзя на хаду падхопліваў звонка-працяжныя тутэйшыя песні, жартаваў, смяяўся, — быццам быў у гэтым гурце даўно, усе ведалі яго і ён ведаў гэтых абветраных, загарэлых белазубых пяюх і працаўніц.

На развітанне паэт папрасіў у мяне даць яму адну з запісаных тут песень, не выбіраючы, якая зверху ляжыць. Я ўключыў магнітафон, і Валодзя хуценька перапісаў у блакнот першую песню, што прагучала са стужкі. Гэта была жніўная жартоўная песня. Даволі дасціпная, але не лішне паваблівая, асабліва для чалавека, незнаёмага з народна-песенкай творчасцю. Пазней я пашкадаваў, што не выбраў нешта больш самавітае, эстэтычна значнае, пераканаўчае. Не ведаў, дзеля чаго паэту раптам спатрэбілася гэтая песня. Не прыдаў значэння ёй, убачыўшы ў эсэ, надрукаваным у «Маладосці». Толькі пазней, у вельмі нечаканых абставінах зразумеў, што зрабіў паэту няўдалую паслугу. Ды, здаецца, не было ў тым ні маёй, ні тым больш яго віны. Проста некаму нешта не спадабалася ў эсэ, а нейкі незычлівец, схаваўшыся пад псеўданімам, публічна папракаў пісьменніка за тое, што песні-аднадзёнцы, шлягеру (яна такі навязліва гучала з усіх правінцыйных рэпрадуктараў, і Караткевіч яе «в сердцах» злаяў) у эсэ супрацьпастаўляецца «замшэлая» народная песня. Прэтэнзія была мізэрная. Аўтар маленькай заметкі неяк муляўся, нібы гаварыў з чужога голасу. Ды было гэта, зрэшты, нішто ў параўнанні з прэтэнзіямі крытыка Якава Герцовіча да рамана «Каласы пад сярпом тваім». Тым не менш. Успомнім, раз ужо пра гэта загаварылі, што «Каласы…» выйшлі ў Маскве, а згаданае палескае эсэ, што наклікала незадавальненне недзе не-кага, апублікавана ў добрым перакладзе У. Кудзшава у часопісе «Нёман». Слова, якое не мае на сабе маральнам сказы, шчыра вылунала з сэрца пісьменніка, раней ці пазней дойдзе да таго, каму адрасавана, да чытача, якога абразіць можна толькі няпраўдай, паўпраўдай ды безгустоўшчынай.

З той палескай сустрэчы запомніўся Валодзя на беразе рэчкі, дзе ён тупаў пасля купання басанож. Запомнілася яго падумка: «От, каб са мной заўсёды быў нехта, хто мяне так то пытаннем, то фактам…» — і ён паказаў выразным жэстам вялікага пальца пад рабро. Пазней падумалася, можа, таму ён быў такі прагны на людзей, так цікавы яму быў кожны чалавек, калі ён такі быў чалавекам, а не проста небакапціцелем ці падонкам.

З гадамі сустрэчы з паэтам здараліся ўсё радзей. Былі неяк разам у групе літаратараў на адкрыцці мемарыяльнага знака ў гонар Ядвігіна Ш. у Радашковічах, дзе гэты выдатны наш навеліст працаваў правізарам у аптэцы. Пры новым гожым будынку аптэкі ў час сціплай урачыстасці Валодзя не прамаўляў. Ціха сядзеў, калі выступалі пісьменнікі ў школе. Стомлены, задуменны заставаўся і на імправізаваным банкеце, дзе рэй вёў інтэлігентны, клапатлівы, пачцівы сакратар Маладзечанскага райкома партыі Вячаслаў Антонавіч Ляшковіч. Праўда, трохі загарэліся цікавасцю вочы паэта пры сустрэчы, тут жа пры аптэцы, дзе толькі «асвяцілі» мемарыяльны знак, з жонкаю выдатнага вучонага, палітычнага дзеяча, асветніка Браніслава Тарашкевіча, Верай Андрэеўнай. Па-шляхетнаму пакланіўся, пацалаваў

руку старой, няпешчанай лёсам жанчыне, са слядамі хараства і не страчанай душэўнай прывабнасцю, нешта пытаўся.

Нейкім вінаватым, здалося мне (усё ж нязвычна неяк), сядзеў на сваім юбілейным вечары ў лістападзе 1980 года ў Доме літаратара. Хаваў рукі між калень, паварочваўся, пабліскваючы прышпіленым да лацкана пінжака толькі што атрыманым новенькім ордэнам. Камусь з сяброў прызнаўся, што напярэдадні пазваніў Старшыня Савета Міністраў рэспублікі Ц. Я. Кісялёў і гадзінку гаварыў з пісьменнікам. Пра што? Ніхто не адкажа. Жонкі Валі ўжо няма. Валодзя, прынамсі, у апошнія гады, напэўна, не вёў дзённіка. На сваім першым і апошнім прыжыццёвым юбілеі ў адказ на словы прывітання, выступленні гаварыў коратка. Не праграмна. Здаецца, нават не паспеў усім падзякаваць. Ды за маладогам юбіляра красамоўна прамовілі творы пісьменніка, народжаныя сілай яго мастакоўскага дару, вобразы яго літаратурных герояў. Артысты з Віцебска паказалі фрагменты са спектакляў, пастаўленых у іх тэатры паводле дзвюх п'ес Уладзіміра Караткевіча «Званы Віцебска» і «Кастусь Каліноўскі». На сцэне ажылі драматычныя старонкі беларускай гісторыI, праяўленыя праз сутыкненне характараў» ідэй. Гістарычная спрэчка паміж езуітамі і беларускім народам, паўстанцамі — рэвалюцыйнымі дэмакратамі царскім самаўладствам працдгаалася на вачах гледачоў. Пісьменнік вырашаў яе па-мастакоўску яскрава, па-філасофску глыбока. Дасканала сцвярджаў маральную правату перавагу прадстаўнікоў народа над крывадушшам, каварсвам, сацыяльнай хцівасцю абаронцаў абскуратызму, цемры, няволі. Словы Кастуся Каліноўскага, сказаныя ў адказ Мураўеву-вешальніку: «Кожны раз чалавецтва бліжэй да шчасця… на вышыню нашых магіл. 3 крывёю, са зрывамі на дно прорвы, яно паўзе да праўды», — суровая, але гуманістычная ў аснове канцэпцыя пісьменніка, яго погляд на айчынную і сусветную гісторыю.

У 1981 годзе часопіс «Маладосць» апублікаваў аповесць Караткевіча «Зброя», якая зноў уразіла, проста ашаламіла нястрымнай мастацкай фантазіяй, непараўнальным веданнем гістарычнага быту. Я не паспеў купіць часопіснай кніжкі з надрукаванай аповесцю — як звычайна пры публікацыі Валодзевых твораў выданне ўмомант знікала з кіёскаў. Пра сваю незадачу з часопісам пажаліўся Валі Караткевіч — працавалі ж на адным паверсе і без мала кожны дзень сустракаліся ў калідоры. Назаўтра яна прынесла часопіс з кароткім аўтографам: «Дарагому Арсеню Лісу, каб зрэдку ўспамінаў мяне». Пад подпісам дата — 14 снежня 1981 года. Чытаю я ў гэтых скупых словах не толькі пажаданне, а папрок. Пачулася мне ў іх нешта большае — трывога. Цяжкавата маўчаў ён на фотаздымку. Міжволі ўспомніўся Валодзя ранейшы, малады, няўрымслівы, зычны. Як буялі ў ім досціп, гумар, разумная гарэзлівасць. Ва ўсім — у творах, вусных выказваннях, у аўтографах. Асабліва ў часы наведвання паэтам сціплых апартаментаў маладых навукоўцаў на вуліцы Акадэмічнай. Звычкі навуковай брацii, халасцяцкі быт, якi, можа, адны кнігі толькі крыху і аздаблялі, абыгрываліся ім імгненна, артыстычна і заўсёды зычліва, ніколі не абразліва. Душу бо меў далікатную, шляхетную, чуйную.

Аповесць «Зброя», пры ўсёй самастойнасці свайго сюжэта, не была асобным, закончаным творам. Яна складала частку шырока задуманага і напалову здзейсненага палатна, якім бачыўся пісьменніку раман пра паўстанне 1863— 1864 гадоў. У канцы 60-х, пасля выхаду дзвюх асобных кніг рамана, аўтар пакінуў свайго героя яшчэ на парозе паўстання. Кастусь Каліноўскі ў другой кнізе заставаўся яшчэ вучнем Свіслацкай гімназіі. Больш дванаццаці год чакалі прыхільнікі таленту Уладзіміра Караткевіча працягу эпасу паўстання. Пыталі пры выпадку. Хто быў бліжэй, ведалі, што Валя, Валянціна Браніславаўна, сама гісторык па адукацыі, ушчувае мужа за незавершаныя «Каласы…», стараецца, каб ён хутчэй скончыў твор. З публікацыяй «Зброі» з'явілася надзея, што раман будзе завершаны. Аднак самай буйной сваёй творчай задумы Валодзю не наканавана было давесці да канца.

Я не быў на пахаванні. Жорсткую вестку пра смерць Валодзі пачуў, будучы ў далёкім, хоць і не чужым горадзе. Гаспадару кватэры, да якога забег на хвіліну, пазванілі па міжгорадзе. У першы момант я не звяртаў увагі, пра што гаварылі. Але раптам нешта насцярожыла. У старога інтэлігента на твары выразна расплыўся цень трывогі. «Вось дык страта», — сцішана прагаварыў ён у трубку, косячыся ў мой бок. Мяне апякла здагадка, што звоняць з Менску, што не стала некага вельмі значнага ў нашай культуры, можа, жыцці. Паколькі гаспадар сам быў літаратар, ведаў і цаніў беларускае мастацкае слова, сумнявацца не даводзілася.

— Караткевіч? — пасля імгненнага вагання спытаў я.

Кіўком галавы ён пацвердзіў. Нейкая хваля жахнула па сэрцы. Ведаў, што Валодзя быў абцяжараны многімі хваробамі. Але ж казалі, выбраўся з мастакамі на Палессе. А тут раптам няма. Мне ўбачыліся Валодзевы вочы, вялікія, крыху асіметрычныя, поўныя нявыказанага болю, слёз. Успомніліся яго словы: «Цяжка! Цяжка!» І важкае пакручванне галавой. Усплыў у памяці абразок з даўніх часоў. З нейкай зборкі, дзе было прыстойнае, пасля абароны ды-сертацыі, застолле, мнагавата людзей, і няўважна, шумнавата гаварылі. Яго прамоўленае да мяне праз стол «Цяжка!» цяпер азвалася ў душы як стогн. Успомнілася з яго аўтабіяграфіі: «Трэба працаваць не для сябе, а для маёй роднай краіны, для Беларусі, якой, калі дазволіць лёс, я паслужу, колькі будзе дадзена дзён, — многа або мала, але да канца». Такі паслужыў. Да канца.

Свядома не іду да гэтага часу да курганка паэта. Хоць не-не ды ўспомняцца горка-засмучаныя летнія дні 1984-га, помню паэта жывым. Не хачу ўяўляць яго ў чаўне, у якім адплыў у вечнасць. Мы рэалісты, матэрыялісты па выхаванні, разуменні жыцця. Але часам здаецца, не памёр Валодзя. Проста пайшоў кудысьці за небакрай, у сваё роднае Прыдняпроўе, згубіўся там, у зялёна-блакітных даляглядах. А пакінутае тут пяро падыме новы мастак ягонага складу думак, яго высокіх ідэалаў. Ён, здаецца, ужо сярод нас. Яму будзв лягчэй на шляху, пратораным папяраднікамі.

Леташняй восенню з групай кінадакументалістаў мне ўдалося пабываць у Мсціславе, Малой Багацькаўцы, Горках. Трэба было папярэдне прыкінуць, якія натурныя здымкі можна зрабіць у гэтых мясцінах, звязаных з жыццём

братоў Гарэцкіх. — пісьменніка і вучонага-геолага. Стаяў ясны сонечны дзень, што бываюць усярэдзіне верасня. Далячынь яшчэ не паспела зажурыцца на асенні лад, хоць прыкмет прамінулага лета было даволі. Мінаючы Магілёў, усе, чые вочы прызвычаіліся да Свіслачы, міжволі залюбаваліся Дняпром, яго спакойна-велічнай плынню, сярод берагоў у садах, зеляніне. У Задняпроўі меншыя рэчкі Проня, Бася, асабліва гэта першая, шырока расцякліся ручаінамі па лугавінах. Налліліся блакітам, што цёпла, гарманічна лучыўся са светла-зялёным колерам лугавой травы.

Ехалі доўга. Хацелася хутчэй убачыць Мсціслаўшчыну. Вочы шукалі нечага адметнага ў краявідзе. Хоць бы сабе тых імшарын, аборак патутэйшаму, якія з лёгкай рукі акадэміка Гарэцкага ўвайшлі ў тэрміналогію навукі пра Зямлю. Яны такі нарэшце паказаліся — астраўкі лесу, а часцей — кустоўя, далёка бачныя сярод поля. Палеткі то кучаравіліся цёмна-зялёным канюшынішчам, то жаўцелі парудзелым ільнянішчам, са снапкамі павязанага і пастаўленага ў кучкі лёну. То на гарызонце, то побач з дарогай сталі трапляцца невысокія пагоркі, абрысы якіх найвыразней праступалі там, дзе ўжо цямнела свежаўзараная ралля. Сям-там на ўзвышэнні можна было заўважыць руіны нейкіх старых збудаванняў, а то і ацалелыя гмахі, знешнім сваім выглядам, архітэктурнымі рысамі праступіўшымі з далі стагоддзяў. Здалёку здавалася, што гэта ўжо фарпост старажытнага горада.

Тым часам Мсціслаў не спяшаўся паказвацца на даляглядзе, а калі нарэшце мы ўбачылі яго абрысы, затым наблізіліся, то нічым знешнім не ўражваў. Падобны на дзесяткі і сотні раённых гарадоў, хоць і быў некалі і сталіцай удзельнага княства, і ваяводскім цэнтрам. Зрэшты, было гэта толькі першае ўражанне. Позна вечарам сустрэліся з першым сакратаром райкома партыі Пятром Міхайлавічам Катушкіным, без шчырага спрыяння якога нам было б тут цяжэй разгарнуцца. Дзяжурны райкомаўскі работнік паведаміў, што сакратар вярнуўся з калгаса і чакае кінагрупу ў сябе ў кабінеце. Насустрач нам падняўся гадоў сарака пяці высакаваты мужчына з адкрытым прыгожым тварам. Выявіў жывую цікаўнасць да нашай работы. Пашкадаваў, што яшчэ не закончаны дом-музей на радзіме Максіма Гарэцкага. Высветлілася, што сам ён зямляк пісьменніка — родам з суседняй вёскі. Скончыў Горацкую акадэмію. Старшынстваваў у калгасах, а зараз, каторы ўжо год, узначальвае райком. Праблем хапае. Але, як прыгледзеліся мы назаўтра, і ў горадзе, і на раёне мсціслаўцы даюць ім рады, работа ідзе спорна. І настрой у партыйнага кіраўніка раёна па-дзелавому добры. Паклікаў свайго памочніка. Прагаварылі дапазна на розныя тэмы. Мысляць рэалістычна, адкрыта, без аглядкі. Радасна. Высветлілася, між іншым, чакаюць — неўзабаве павінна выйсці кніга пра Мсціслаўшчыну і яе людзей. Пісаў Валодзя Караткевіч. Напісаў, як і ўсё што выходзіла з-пад яго пяра, з сэрцам. Асабліва адвёў душу ў жывым пераказе мінулага Мсціслава і Мсціслаўшчыны, узнясенні хвалы таленавітым мсціслаўскім майстрам-рамеснікам, што здзіўлялі сваім цудам-майстэрствам аздобленых імі маскоўскіх святліц і храмаў.

У голасе сакратара, які расказваў нам пра кнігу аб родным горадзе, пачулася несхаваная прыкрасць. Аказалася, што на завяршальнай стадыі

выдання, ужо ў другой карэктуры, яе прытрымалі акадэмічныя гісторыкі. Крыху падправілі саму пані-гісторыю — апусцілі мясціну, дзе га-варылася пра тое, чаму мсціслаўцы з XVII стагоддзя вынеслі мянушку «недасекі». Папраўдзе, пісьменніку-гісторыку і самому даводзілася часам сёе-тое ўдакладняць у імянітых даследчыкаў. Па праве знаўцы прадмета, па праве таленту, імем свайго народа. У аповесці «Ладдзя Роспачы» Караткевіч робіць гэта ў дачыненні Івана Грознага. І робіць гістарычна і па-мастацку пераканаўча. Хоць, праўда, у цэнтры ўвагі пісьменніка ў творы не гэты дэспатычны самаўладца, а просты беларускі шляхціц, мужны, бедны, сумленны, чалавечны. Увогуле героі аповесцей і раманаў Караткевіча, як правіла, не афіцыйныя асобы, хоць трапляюцца і гэтыя, ды яшчэ як выпісаныя, напрыклад, царскі міністр унутраных спраў Валуеў ці сумна-славуты Мураўёў. Героі твораў беларускага пісьменніка-гісторыка — людзі часцей з народа, з розных яго пластоў. Мастак умеў іх надзяліць яркімі, адметнымі характарамі, узвышаным вобразам думак. Умеў высветліць, ненавязліва падкрэсліць іх чалавечую значнасць,

З успамінаў П. М. Катушкіна і яго сябра-памочніка пра побыт Караткевіча ў Мсціслаўі, яго працу над кнігай чулася, што ўсе яны, пісьменнік і яго мсціслаўскія знаёмцы, шчыра праніkліся ўзаемнай павагай, даверам. Тут згадвалі яго расказы-бывальшчыну, небанальныя анекдоты, спагадна ўспаміналі.

Назаўтра раніцай, агледзеўшы горад, старадаўняе замчышча з глыбознымі ярамі, архітэктурныя помнікі, дзе ўжо краталася няўрымслівае маладое племя археолагаў і мастакоў-рэстаўратараў, мы пакіраваліся на Багацькаўку Гарэцкіх. Па выездзе з Мсціслава я азірнуўся на горад. Выгляд яго сказаў мне болей, чым учора надвячоркам. Ды, відаць, не так ужо многа. Па звароце з паездкі нядоўга давялося чакаць першую пасмяротную кніжку Валодзі. Са змешаным пачуццём разгарнуў яе зялёную вокладку, прабег некалькі старонак і па звычцы зазірнуў у канец. «Эсэ пра гісторыю і людзей адной зямлі» (такі падзагаловак выдання) завяршаецца светлым эскізам вобраза горада, які пісьменніку на адвітанне пашчасціла ўбачыць у святле рассеянай навальніцы, «пад дыяментавай вясёлкай».

Прыгнечаны нездароўем, ударамі лёсу (недзе ў час работы над кнігай пра Мсціслаў памерла сяброўка жыцця пісьменніка, жонка і дарадца), ён захаваў нязменна светлы погляд на свет. Вялікі рамантык, незнішчальны жыццялюб. Аднойчы ён найшоў ад нас навекі. А пасланцы яго сэрца, узвышанага розуму — кнігі — ідуць, ідуць і будуць ісці да людзей. У іх вялікі запас высакароднай любові, мудрасцд, чалавечнасці. Трывалы запас, на вякі.

*1986*

## Наканавасць несвабоды

Дзядзька Васіль — адзін са старэйшых маміных братоў. Вадаварот палітычных падзей і змен 1917 года падхапіў іх, закружыў, параскідаў па свеце. Даведацца нешта пра кожнага з траіх старэйшых дзядзькоў мог я спачатку адно з успамінаў маці. Час ад часу ў думках сваіх вярталася яна да пражытага ў бацькавым, а для мяне ў дзедавым доме ў Яневічах.

На сталы розум уразумеў, што з гадамі, у сталым веку, яе ўсё больш непакоіў лёс трох старэйшыхбратоў і сястры Марысі, якая аднаго дня на сходзе 1920-х гг. нелегальна пайшла праз польска-савецкую граніцу на Усход…

Папраўдзе кажучы, Якуба, Івана і Васіля маці ведала няшмат: надта рана і неяк няўзнак пакінулі яны родны дом. Запомнілася: перад тым, як пайсці ў шырокі свет, браты часам горача спрачаліся. Не было ў Юстынавых сыноў адной думкі наконт таго, якім павінен быць грамадскі лад, калі будзе зрынуты царскі трон.

Яшчэ памятала, як хлапцы падраслі, бацька, мой дзед Юстын, будзіў іх на дасвецці, і пакуль ісці ў школу, яны паспявалі адбіць на таку ў гумне ў тры цапы пасад-другі жыта. Баба Агата тым часам рыхтавала сняданне, клала ў вучнёўскія торбачкі камы — бульбу, заскварану салам з цыбуляй.

Бабы Агаты я не застаў пры жыцці. Толькі з гадамі даведаўся ад маці, што ўсе свае даўнейшыя песні гадавога круга яна пераняла ад бабы Агаты. Бабуля спявала іх нават у свой апошні зямны год, калі з-за хваробы ўжо не магла падняцца з ложка. Папярэдне пыталася, праўда, што ёй рабіць: маліцца, плакаць або спяваць, і атрымлівала згоду на спяванне. Дзед жа Юстын і сягоння праз паўвека стаіць, як жывы, у мяне перад вачыма: высакаваты, хударлявы, з нямоцным, але з чыста звонкім нават у глыбокай старасці голасам.

З дзедам Юстыным, Яневічамі звязаны ў маёй дзіцячай душы, на цяперашні розум, уяўленні пра нейкі іншы, адметны ад роднай хаты свет. А пачынаўся ён, той і блізкі і далёкі, калісь загадкавысвет ад высокай крытай гонтай брамы ў вузкай Яневіцкай вуліцы. З-за той узнёслай шчытовай брамы дзедаў двор здаваўся мне крэпасцю. Хоць, папраўдзе, гэта быў звычайны сялянскі старабеларускі двор, з брукаваным падворышчам і хатай на два канцы. У меншай яе палавіне, асобна ад сям'і, жыў дзед Юстын, з верстаком пры акне ды розным сталярскім інструментам. Маці ўспамінала (я ўжо не застаў той рэліквіі): на сцяне пры вушаку ў большай палавіне хаты вісеў бізун. Не помнілася роднай, каб бацька калі-небудзь браў яго ў рукі:

прадмет пакарання значыўся на відным месцы дзеля построху — у сям'і расло ажно дзесяць дзяцей, пяць хлапцоў і пяць дзяўчат.

Маці мая была сярод Юстынавых дачок перадапошняй, толькі некаторыя эпізоды з жыцця старэйшых братоў прайшлі ў яе на вачах. Адзін звязаны з лёсавызначальным выпадкам у жыцці маладзейшана з братоў, Васіля.

Было гэта летам 1920 г. Маці тады толькі бралася пад дзеўчынёху. Апошні год ажно пра чатырох сыноў Юстынава сям'я не мела ніякіх звестак. Як пайшлі на тую вялікую сусветную вайну Якуб, Іван, Грышка, а Васіль з маладзечанскай семінарыі з'ехаў у эвакуацыю ў Расею, так і не азваліся. І вось аднаго дня, калі ў Смаргонска-Ашмянскія ваколіцы ўжо заступілі палякі, надвячоркам Васіль паказаўся на парозе.

У паношаным шэрым шынялі, зарослы, здарожаны… Ён аб нечым перагаварыў з бацькам на яго палавіне і хутка сабраўся ў лазню — якраз была субота. Не прайшло і паўгадзіны, лічы ўслед за ім, у хату, ціха пастукаўшы, уваліліся тры незнаёмцы. Можна толькі здагадвацца, што адказаў дзед Юстын ім пра сына. Адно хутка паставіў на стол перад прышлымі мядніцу з пляйстрамі мёду ў вашчыне. Малодшай, якая аказалася пад рукой, загадаў прынесці з сяней сыру. Пераняў яе з сырам пры дзвярах, ціха шапнуўшы: «Скажы Васілю, па яго прыйшлі…» Бегма кінулася да лазні, што была непадалёк, у надрэччы. Прыбегшы, збянтэжылася: мыліся ж мужчыны. Раздумваць аднак не было калі. Не помніла, як падступілася да глухаватага, закуранага акенца ў сцяне, гукнула ў самую шыбіну: «Васіль, Васіль!..» Брат кумельгом выскачыў у прылазнік, умомант апрануўся і кустамі падаўся ў бок Заскавіч, на Маладэчна…

Неўзабаве ажно на дваццаць гадоў усталявалася польска-савецкая граніца, і Юстынавы нічога не ведалі пра трох старэйшых сыноў. Азвалася была пару разоў лістамі з Менску старэйшая дачка, якая сышла за мяжу за сваім каханым Алесем Салагубам, ды і тая хутка змоўкла. Даходзілі адно розныя чуткі-здагадкі пра ўцёкшую адсюль, з Заходняй Беларусі, моладзь. Праўду кажучы, яны не суцяшалі…

Адгрымела і Другая сусветная вайна. У веку старэйшым за дзевяноста адышоў на вечны спакой стары сталяр і пчаляр дзед Юстын. Так і пайшоў з жыцця, не дазнаўшыся нічога пра сваіх першынцаў-сыноў ды яшчэ і чацвёртага, самага малодшага, Сцяпана, мабілізаванага на польска-савецкую вайну ў верасні 1939 г. Той таксама не азываўся, хоць дзе-хто з шырокай Залескай ваколіцы, мабілізаваных на тую кароткую вайну, паспелі вярнуцца, хто з савецкага, а хто з нямецкага палону.

Ажно летам 1976 г., спарэй чым праз паўвека з таго часу, як Васілю ўдалося ўцячы літаральна з-пад носу ў польскай палявой жандармерыі, ён аб'явіўся ў Яневічах.

Бачу, як набліжаецца да нашай Залескай бацькавай хаты па падвор'і. Крыху вышэй сярэдняга росту, зрэшты ўжо крыху прыціснуты цяжарам год. Паблісквае голенай галавой. Вядзе вачмі па сустракаючых і спыняе позірк на маёй маці. Ці пазнае ў амаль сямідзесяцігадовай жанчыне сястру, тую, якую апошняй з роду бачыў яшчэ дзяўчынкай пры лазні?

Побач з дзядзькам ступае прыкметна маладзейшая за яго жанчына, трывалага сялянскага целаскладу, смуглявая. Прадстаўляецца родзічам як жонка, Серафіма.

Пра нейкія рэаліі з адысеі дзядзькі Васіля мне ўдалося пачуць ад яго самога. Часткова, на жаль, ужо па ягоным ад'ездзе ды сыходзе з жыцця — даведацца са старонак мясцовых газет у Смургонях і Ашмяне. У архіўных аналах, што да грамадска-палітычнага жыцця колішняй Ашмяншчыны, часу пераломных 1910-1920-х гг., матэрыялах, апублікаваных краязнаўцам Аляксандрам Каранеўскім, на дзіва часта згадваюцца імёны Якава і Васіля Дудкаў.

Вось коратка з пачутага ад былога ваеннага разведчыка. Скажу наперад, нічога дэтэктыўнага. Проста аповед пра лёс чалавека, блізкага сваяка, дзядзькі Васіля. Пачну з невялічкай, так бы мовіць, экспазіцыі, дарэчы, абсалютна дакументаванай.

Смаргонскі рэгіён толькі пачаў ачуньваць ад грому-тлуму франтоў Першай сусветнай вайны, якая тут моцна далася ў знакі людзям і самой зямлі. Апошнія месяцы кайзераўскай акупацыі ён, можна сказаць, поўніўся падпольнымі групамі. Асобныя з іх арганізаваліся ў партызанскія дружыны. Па камандзе зверху яны ў адзін час аб'ядналіся ў адзіную падпольную структуру пад назовам «Ашмянскі падраён», і ўзначаліў яе Дудка Якаў, пахатняму Якуб

Якуб-Яшка-Якаў яшчэ ў 1916 годзе служыў на фронце ў сапёрах пад літоўскім мястэчкам Араны, уступіў у РСДРП і падзяляў погляды скрайніх у яе шэрагах.

Не паспела растаць кайзераўская армада ды сысці шэрым туманом з тутэйшых земляў, як у 1919 г. быў створаны Ашмянскі рэўком, а ў лютым адбыўся першы з'езд саветаў. У выбраным ім укоме Якаў узначаліў асобы аддзел, так сказаць, мясцовае ЧК. У старога Дудкі не было паважнай адукацыі, скончыў адно царкоўна-прыхадскую школу ў Міхнічах. Ведаючы сваю асветніцкую слабінку, ён неадкладна, пісьмом, выклікаў са Смаленскага малодшага брата. Васіль, па сутнасці яшчэ гімназіст, трапіўшы на першую канферэнцыю ашмянскіх бальшавікоў, як граматнейшы сярод грамады быў абраны сакратаром павятовага камітэта.

Іх сястра, мая маці, пазней каментавала факт удзелу старэйшых братоў у канструяванні ашмянскага саўдэпу проста: «Калі б Якуб не ўцягнуў Васіля ў палітыку, дык абодва былі б цяпер жывыя…» Гаварылася яшчэ да таго, як Васіль пасля больш чым паўвекавога небыцця аб'явіўся ў Яневічах.

І яшчэ адна згадка, звязаная з дзядзькамі. Было да таго, як прыехаў з жонкаю Васіль.

Неяк раз маці, якая хадзіла нечага на станцыю ў Залессе, вярнулася, загадкава ўсміхаючыся. Было відаць, што нешта карцела ёй расказаць. Аказваецца, вяртаючыся дамоў, выпадкам разгаварылася з Міхасём Дудкам, які пабудаваўся ў пачатку Косага рова як ісці у наша Вётхава са станцыі. Помніцца высакаваты, чорны, як грак, строгі такі той Міхась. Маці сказала нешта яму і пажалілася на нейкія недарэчнасці. Хапала іх у нашым агульным жыцці па вайне і пазней.

Фальш жа ў асобным чалавеку і грамадскую маці прыродным розумам простага чалавека адчувала дасканала.сразы два, праўда, не больш, чуў ад яе пра некага канкрэтнага — «фальшывы чалавек», часцей, у іншых абставінах — «пусты чалавек». Дык вось, той раз Міхась Дудка на яе нараканні адказаў нечакана: «Чаго ж ты наракаеш? Твае ж браты надта прагнулі гэтага парадку, памагалі ўсталяваць яго тут. Ты, мусіць, не памятаеш: была яшчэ замалая. А дзе яны цяпер, — казаў з націскам. — І след іхні прастыў…»

«Прыкусіла язык, казала маці, маўчу. А што скажаш, — гаварыла, паціскаючы плячыма. — Што скажаш?»

Наколькі помню, Міхася Дудку ў фальшы, мане маці ніколі не абвінaчвала. Не было прычыны.

Пасля таго, як дзядзька Васіль адгасцяваў на сваё малой радзіме на Смаргоншчыне, аднаго дня мы ідзем з ім у Дзяржаўны камітэт бяспекі на праспекце ў Менску. Было ў яго адно пытанне…

На плошчы Свабоды дзядзька ківае мне на дом з мемарыяльнай дошкай, дарэчы, на рэдкасць сціплай у параўнанні з размешчаным побач барэльефам Мураўёва-апостала.

«У гэтым будынку са студзеня 1919 г. размяшчаўся Часовы Рабоча-сялянскі ўрад БССР…» — значыцца на сцяне дома, дзе члены Ашмянскага укома пасля іх хапатлівых з-за наступу палякаў пярэбараў у Менск былі прыняты Уіншліхтам, Кнорыным, Чарвяковым. Камітэтчыкаў-ашмянчукоў накіравалі куды каторага. Васіль Дудко атрымаў накіраванне ў семнаццатую запасную дывізію Чырвонай арміі камандаваў ёй Мардвінаў, камісарам быў Шлей. Дывізія абараняла подступы да Менска.

Ваявалася Васілю спачатку нядоўга ды не вельмі шчасліва. Пад Радашковічамі рота, у якой ён служыў, трапіла ў акружэнне. Легіянеры закідалі чырвонаармейцаў, узброеных сціпла, гранатамі. Васіль, аглушаны выбухамі, трохі кантужаны ў ліку 19 байцоў трапіў у палон і апынуўся ў лагеры інтэрнаваным пад Беластокам. Праз два месяцы палону ўдалося ўцячы і дабрацца ў Яневічы, унікшы пасткі, пастаўленай палявой жандармерыяй. З дапамогай чыгуначніка Міткі Дудко (была зямляцкая і сацыялдэмакратычная салідарнасць) дабраўся да сваіх.

Толькі быў давезены на Калыму, трапіў на лагпункт № «N», як выклікалі да начальніка турмы. Размова адбылася нечаканая, лапідарная зместам і формай. Рослы, падцягнуты, гадоў трыццаці пяці, мужчына, углядаючыся проста ў вочы, рэзка спытаў:

За што?

Карцела сказаць «Нізашто!», але сказалася простае, абачлівае:

Вы ж, відаць, чыталі маё «дасье».

Ерунда! — начальнік сакануў далоняй паветра. — Лічыць умееш?

Вязень з нязвыклым найменнем «зэк» міжволі пацмснуў плячыма.

Некалі вучыўся…

Пытанне было рытарычным, адразу ж пачуў распараджэнне чалавека яўна тут усяўладнага.

Будзеш загадваць турэмным ларком. Думаю, справішся.

Гэта было ўратаванне. Падстрахоўвала ад перспектывы за дзесяць год ператварыцца ў лагерны пыл, знікнуць у вечнай мерзлаце Поўначы.

Хоць зор з турэмна-ларочнага закутку нешырокі, Васілю Усцінавічу ачылася з яго нямала. Ранішні вывад брыгад на прыіскі: вокрыкі канваіраў, сабачы брэх, шэрая плынь шарэнгаў ды вячэрняе вяртане-прывод, з пераклічкай, матам, лаянкай станавіліся яго штодзённасцю. Па нешматлікіх кліентах у ларку, па тым, як часта можна было заўважыць зусім незнаёмыя аблічча, меркаваў аб прыбыцці ўсё новых партый асуджаных. Што думалі там, «наверсе», у Крамлі? Смерць Кірава, якога асабіста калісь пазнаў у Баку, ашаламіла, выклікала одум яшчэ там, на волі. Цяпер у мінуты зацішша ў ларку, ноччу на нарах памяць вяртала многае з пражытага-перажытага. Тут аналітыка былога разведчыка прама выводзіла на генсека, яго найбліжэйшае атачэнне. Успыхвалі ў памяці ўражлівыя, важкія словы, сказаныя ў 1929 г. сакратаром Растоўскага абкама падчас публічнай дыскусіі ў партыі:»Цела партыі ўсыплёна хлараформам, пакладзена на аперацыйны стол, м каля яго арудуе мяснік Сталін…» Але з кім было дзяліцца згадкамі, дагадкамі, не з начальнікам жа лагера, які досыць спраўна заглядаў у канцы дня ў ларок, загадваў свае нязменныя сто грамаў наркамаўкі. Быў самотны. Аднойчы сам-насам распавёў уласную гісторыю. У турэмшчыкі трапіў праз асабістую жыццёвую драму. Быў кадравым вайскоўцам. Раз, вярнуўшыся з камандыроўкі, а яны здараліся нярэдка, заспеў жонку ў чэпкіх бдымках любоўніка. Паклаў маркатліўца на месцы з табельнай зброі. Жонку пакінуў у спакоі… узяўшы з сабою адно чамадан, сышоў у казарму. На судзе ўлічылі бездакорную баявую службу, афіцэрскі ранг і адправілі замест камеры ў начальнікі лагера. Быў канец 1938 г., ГУЛАГ абжываў усё большыя абшары вялікай краіны. Процьма турмаў, новых лагпунктаў, лагераў адэкватна патрабавала новых наглядчыкаў. Падчас такіх турэмна-ларковых размоў чарка налівалася і Усцінавічу. Начальніку цікава было паслухаць бывалага чалавека, разведчыка. Напрыклад, як цяперашні яго зэк, будучы сакратаром савецкага аташэ ў Тэгеране, рызыкуючы жыццём, цераз малады наіў усё ж патрапіў атрымаць неабходныя звесткі цераз маладога афіцэра-іранца аб узбраенні эсмінцаў дзяржавы-суседкі…

Пра доўгую гасціну дзядзькі Васіля ў Яневічах, Гродне, Смургонях я ведаў з пераказаў, пераважна са слоў стрыечных сясцёр Тамары і Мані, брацельніка Генадзя — завуча адной са смургонскіх школ.

Нельга сказаць, што дзядзькава гасцяванне ў пляменнікаў ды пляменніц, братоў і сясцёр прайшло неараганізавана. Перш-наперш з Кіргізіі, з гарадка Кок-Янгак, тэлеграмай быў выкліканы самы малодшы Юстынаў сын, заблуканы аж у перадгор'і Ферганскага хрыбта, за Джалал-Абадам. Сцяпана Дудку закінуў туды лёс палоннага. Ён, як і дзесяткі тысяч заходнебеларускіх

ды заходнеўкраінскіх хлопцаў, апранутых у мундзіры польскіх жаўнераў, працаваў над пракладаннем стратэгічных дарог у цяпер ужо савецка-нямецкім прыгранiччы. Напачатку вайны, ужо пад пастрэльванне ўкраінскага партызанскаага падполля, лагер ваеннапалонных польскіх жаўнераў з-пад Роўна эвакуіравалі. У Сцяпана была мажлівасць выбрацца з дроту. Мог запісацца ў польскае войска, якое ў 1942 г. у СССР фарміравалі палякі-патрыёты на чале з генералам Сікорскім і Вандай Ваілеўскай. Статус грамадзяніна даверасьнёвай Польшчы дазваляў яму на гэта. Шмат хто з землякоў, асабліва каталікоў ды нямала і праваслаўных беларусаў, скарысталіся з той аказіі і па вайне апынуліся хто ў Англіі, а хто ў Польшчы. Запісацца «паляком» Сцяпану Дудку, беларусу, праваслаўнаму — значыла ісці супраць натуры. Не таму, што трывала чуўся ў сваёй беларускасці. Трымаўся яе больш стыхійна. Праўда, відаць, газеты з Вільні, беларускія, выпісваныя ў свой час яго старэйшым братам Грышкам, сакратаром гуртка Грамады ў Яневічах, былі прачытаны ім недарма, крыху зарыентавалі ў сабе і свеце.

А цяпер Сцяпан Дудка паклаўся на волю лёсу. Пад канец страшнай вайны, аб якой чуў здалёку, выбавіўся з няволі. Выручала ў жыцці бацькава навука сталяравання. Да яго меў нахіл ад прыроды. Пры патрэбе ахвотна дапамагаў бацьку і назіркам засвоіў рамяство, што стала для яго не толькі спосабам здабыць надзённы хлеб, а і душэўнай патоляй. Праз уменне сталяраваць патрапіў выбрацца і з лагеру. Спачатку майстраваў мэблю і рознае начынне начальнікам лагера, затым сталі адпускаць і далей, за лагерныя вароты. Заробкам Сцяпан шчыра дзяліўся з усімі, з кім было трэба. Апынуўшыся на волі ўжо прытомлены жыццёвай дарогай, не спрабаваў пачынаць жыццё нанава, з чыстага ліста, не памкнуўся на Бацькаўшчыну.

У Кок-Янгаку, кіргізскай глухамані, прыстаў наўпрымы да прымужняй удавы Ядвігі, зямлячкі з Вілейшчыны, вывезенай у 1940 г. саветамі. У Яневічах яго так і не дачакалася Волечка Піліпкова, якая горача кахала звонкагалосага пеюна і танцора свайго Сцёпачку. Дажывала Волечка свой дзявочы-жаночы век пры старэйшай — незамужняй сястры. І аднойчы, здаецца, ужо пасля другой пабыўкі Сцяпана ў Яневічах, моцна ўзяўшы ў галаву перажытае, сышла крадком з дому. Знайшлі яе, бедную, толькі праз пару дзён ;аж пад Сівіцай, нежывою.

Браты Васіль і Сцяпан, цяпер сустрэўшыся на бацькаўшчыне, маглі нагаварыцца за ўсё жыццё. Старэйшаму было добра за семдзесят, малодшы таксама ўжо разменяў капу гадоў. Было чым падзяліцца з пражытага.

Малодшы не ў ва ўсім спагадаў старэйшаму, калі той стаў наракаць на зламанае жыццё.

— А ты сам, працуючы ў контрразведцы, хіба не расстрэльваў? Скажаш, пры неабходнасці, нягодніка…Ведаю я пра так званую рэвалюцыйную законнасць… А хто табе даў пэўную мерку чалавечай праўдзівасці?

Потым пляменніцы Мані са слязьмі на вачах казаў пра Васіля: «Ведаеш, а ён расстрэльваў.» Мані, педагогу-філолагу, якая трыццаць з лішкам гадоў была Марыяй Грыгор’еўнай, дзядзька Васіль сказаў, што некалі марыў

паступіць у Віленскі настаўніцкі інстытут і сеяць разумнае, добрае, вечнае. І яшчэ, падумаўшы, дадаў: «Не кожнаму ўдаецца выбіраць самому. Нярэдка за чалавека выбірае час».

На закаце дня, павячэраўшы з чаркай; браты хадзілі над населлем, абняўшыся; часам у такой паставе спявалі. На той час у Яневічах пры платах, уздоўж вуліцы грамаздзіліся цэлыя горы карчэўя. У ваколіцы некалькі год таму, як прайшла глабальная меліярацыя. Дзе былі амшарыны, кусты, грудкі лесу, стаялі дубы, урочышчы, званыя Камарышкамі, Ягавінай, Глінішчам, цяпер рассцілалася чыстая роўная прастора. «Галандскі пейзаж», — казаў Васіль пра зменянае роднае наваколле, не то ўхваляючы, не то іранізуючы. «Шкада дубоў, — звяртаўся да малодшага, — некалі на начлезе здаваліся, мроіліся яны мне магутнымі вежамі».

Пра тое, як праводзілася тут меліярацыя, і хто да яе найбольш прычыніўся, дзядзьку расказаў пляменнік Жэня. Ён сам да таго, як паступіць у медінстытут, ажыццявіць сваю мару лекара, адзін час быў старшынёй калгас «Усход» на Ашмяншчыне. А тут старшынстваваў Сяргей Грышын, зволены хрушчоўскім часам з МУС. У былым, родам з Браншчыны, чэкісце прачнулася сялянская жылка, і ён шчыра ўлёг у калгасны воз. Разбіраўся ў тэхніцы, і калі надаралася паломка, скідаў пінжак, здымаў гальштук, закасваў рукавы… «Пана начальніка з сябе не корчыў» , — успаміналі сяляне. За сталом пры чарцы ў калгасным калектыве чуўся сваім, і блізкае атачэнне яго шчыра, не з-пад палкі паважала. Харчовую палітыку партыі лічыў сваёй уласнай. На рабоце, як кажуць, гарэў. Бог тым часам не вельмі шчодра яму адмерыў. Паміраў нестарым. Сябру прызнаўся, што ўзяў, знаць, на душу грэх, калі ў пачатку вайны ў Гомелі уладай, дадзенай яму на той час як чэкісту, расстраляў начальніка станцыі. Здалося тады яму, маладому, са зброяй у руках і дачкой Дзінай у рэчыўным мяшку за плячыма, што той не пануе над панікай пры адпраўцы эшалонаў з эвакуяванымі людзьмі і дабром. Пэўна, і сам бы на яго месцы ў тых абставінах не справіўся… але тады малады, гарачы, амбітны ў разуменні свайго рызначэння крута вырашаў лёс чалавека на сваім шляху. Цяпер прыйшла пара самадакоры, вініўся перад мінулым.

Раз у Яневічах, калі Серафіма была некуды пайшоўшы, дзве малодшыя Васілёвы сястры Алена і Надзя, адной было ўжо пад семдзесят, а другой — за семдзесят, атакавалі старэйшага брата. Чаму не вярнуўся да першай жонкі і сына, вышаўшы з лагера? Аргументу аб публічным вырачэнні ад мужа, нібыта ворага народа, не верылі. Проста не прызнавалі, казалі аб езуіцкім характары тых адрачэнняў. Паняцце маральнага імператыву сумленнасці моцна трывала ў свядомасці старэйшіага пакалення. Не ведаю, як яшчэ там адпіраўся дзядзька Васіль ад рашучых у сваім наступе сясцёр. Расказаў, што Серафіма, яго цяперашняя жонка — мказачка, паходзіла з Надамур'я, з той самай станіцы, адкуль быў родам і атаман Сямёнаў, знаны ў грамадзянскую вайну як праціўнік бальшавікоў, белагвардзейскі генерал.

Серафіма рана аўдавела, яе першы муж энкавэдзіст таксама трапіў пад кола махавіка вялікага тэрору 1930-х гг. Дваццаць тысяч функцыяне-

ра ў спецведамства краіны Саветаў падзялілі лёс яго ахвяр. І факт гэты — ці не яшчэ адно лішняе сведчанне пра маштаб тэрору, яго гістарычную унікальнасць. Уласна, унікальнасць, вядома, адносная. Неўзабаве знайшліся пераймальнікі, спадкаемцы д'ябальскага вопыту. Рэалізоўвалі яго з рознай ступенню цынізму і жорсткасці ў гітлераўскай Германіі, маодзэдунаўскім Кітаі. Рэкорд жа знішчэння таталітарнай сістэмай уласнага народа ў Камбоджы здзейсніў выпускнік Сарбонскага універсітэта (пасля яго эксперыменгу не стала траціны кхмераў) ПолПот.

У апошнія чатыры дні перад тым, як назаўсёды з'ехаць на Калыму, дзядзька Васіль з цёткай Серафімай спыніўся ў нас з Марынай у Менску. Яшчэ ў Залессі ў прысутнасці маці я разы два чуў ад дзядзькі Васіля аброненае ў паўзе паміж гаворкі пушкінскае:

И хоть бесчувственному телу
Равно повсюду истлевать;
Но ближе к милому пределу
Мне всё ж хотелось почивать.

Была ў яго думка, здаецца, не падзяляная спадарожніцай жыцця, дажыць апошнія гады там, дзе нарадзіўся, у Беларусі. Дзеля гэтага і вырашыў наведаць Камітэт дзяржбяспекі. Спадзяваўся на рэнаме былога ваеннага разведчыка. Я давёў дзядзьку да самавітага будынка на праспекце, а сам застаўся чакаць у цэнтральнай кнігарні, побач.

Успомніўся, не мог не ўспомніць, даўні-нядаўні выклік у гэту ўстанову. Не столькі само сумоўе-допыт, як пытанне, зададзенае там яшчэ аднаму выкліканаму з акадэмічных супрацоўнікаў: «Почему Лис поднимает этих мертвецов?» У мяне к таму часу былі апублікаваны дзве невялікія манаграфіі, прысвечаныя жыццю і творчасці рэабілітаваных вучоных Б.Тарашкевічу і М.Шчакаціхіну…

Візіт дзядзькі Васіля ў высокую усганову не здоўжыўся. Не прайшло і паўгадзіны, як ён выйшаў, сумна мне ўсміхнуўшыся. Былому афіцэру контрразведкі недвухсэнсоўна далі зразумець, што кватэра ў Менску яму «не паложана». Параілі звярнуцца ў адпаведныя дзяржструктуры Ашмян або Сімферопаля, дзе было апошняе месца службы. Дакучаць пытаннямі ў такі момант не выпадала. І ўсё ж я не ўтрымаўся, карцела ведаць, ці пыталіся пра савецкую разведчыцкую службу, ці адно абмежаваліся знаёмствам з дакументамі. Усміхнуўся ў адказ рэшткамі карызны самотных вачэй, сказаў толькі: «Адыграная карта…»

Можа не столькі па маладосці, колькі з-за жыццевай недасведчанасці я тады так і не зразумеў, ці выйшаў дзядзька Васіль з-пад улады сістэмы, ці асэнсаваў яе схаваную сутнасць. Меў жа жорсткі жыццёвы досвед, па сутнасці, у няпоўных сорак год зламанае жыццё.

Па некаторых рэпліках можна было здагадацца аб яго крытычным стаўленні да бальшавіцкіх метадаў кіравання грамадствам. Адчувалася нявы-

казанае аднак уголас разуменне, што за іх палітычныя і сацыяльныя праекты народ заплаціў нязмерна дарагую цану. Зрэшты, прайшоўшы ГУЛАГаўскія «універсітэты», былы ваенны разведчык сэрца на далоні не насіў. Адчувалася ў ім, ужо пажылым чалавеку, стомленасць жыццём, прыманне прадвызначанага не столькі лёсам, колькі абставінамі. Нечага шкадаваў, з нечым змірыўся.

Назаўтра, пакінуўшы Марыну з маленькім Яраславам дома, я выбраўся з гасцямі ў аэрапорт. Мы небавам дабраліся да яго: стары менскі аэрадром размяшчаўся тады яшчэ пры горадзе. Да адлёту самалёта меўся лішак часу, і дзядзька Васіль прапанаваў прысесці на хвілінку ў буфеце. Гаварылі няшмат. У скупой усмешцы, што час ад часу ажыўляла аблічча пажылога чалавека, таяў і не раставаў да канца сталы сум.

Мы выйшлі на пасадачную пляцоўку, за нейкіх трыццаць хвілін. Цёця Серафіма прыспешвала падняцца ў самалёт, а дзядзька Васіль марудзіў. Я адышоў пе рад адлётам на належную аддегласць ад узлётнай паласы, а ён ужо адзін,захінуўшыся ў плашч, стаяў і ўглядаўся ў мяне, нібыта я быў нечым большым для яго, чым проста пляменнік. Апошнім бачымым знакам яго роду? Часцінкай яго зямлі, пакіданай цяпер назаўсёды? Зменшаная адлегласцю адзінокая постаць дзядзькі Васіля ля трапа самалёта здалася мне раптам вартай жалю. І жаль гэты неяк мяшаўся з сумам чагось яшчэ неўсвядомленага ў жыцці, але дарагога і стратнага.